Выдаецца пры фінансавай дапамозе
Беларускай фундацыі Крачэўскага

УВАГА: Гэты том працягвае сэрыйнае выданьне ЗАПІСЫ, запачаткаванае ў 1952 г. Першыя 6 тамоў у 1952—1954 гг. выйшлі ў Нью-Ёрку; 5 наступных — у 1962—1970 гг. друкаваліся ў Мюнхене. З 12-га (1974) да 24-га (1999) тому ЗАПІСЫ друкаваліся ў Нью-Ёрку. Ад 2002 г. ЗАПІСЫ — сумесны нью-ёрска-менскі праект.

ISBN 978-0-9722020-8-4

ADDRESS
Belarusan Institute of Arts and Sciences
166—34 Gothic Drive, Jamaica, NY. 11432, U.S.A
zapisybinim@gmail.com

# ЗЬМЕСТ

## *Выданьне*



## *Інтэрвію*



## *Установа*



## Архівы



## Эпісталярыі

**Публікацыі**



**Водгукі**

**Угодкі**

***Да 110-годзьдзя Антона Адамовіча***



**In memoriam**



**Будучыя кнігі**



**Вакол кнігі**



**Кніжная паліца**

**Хроніка**



**Кніга ў “Запісах”**



На ўклейцы:
Ірына Варабей: “Spirit of Belarus”

*Тэма нумару: “О, Канада!”*

# ГІМН КАНАДЫ

*Афіцыйная ангельская вэрсія*

O Canada! Our home and native land!
True patriot love in all of us command.

With glowing hearts we see thee rise,
The True North strong and free!

From far and wide,
O Canada, we stand on guard for thee.

God keep our land glorious and free!
O Canada, we stand on guard for thee.

O Canada, we stand on guard for thee.

*Афіцыйная францускася вэрсія*

O Canada, terre de nos aieux,
Ton front est ceint de fleurons glorieux.

Car ton bras sait porter l’épée,
Il sait porter la croix.

Ton histoire est une épopée
Des plus brillants exploits.

Et ta valeur, de foi trempée,
Protégera nos foyers et nos droits.

Protégera nos foyers et nos droits.

*Беларускі пераклад Юрася Шамецькі*

О, Канада! Наш вольны родны край!
Гонар і моц яднае нас усіх.

Свабоды дух спрыяеш мець,
Ты — Поўначы сьвятло!

На ўсё жыцьцё,
О, Канада, лёс зьвязаны з табой.

Бог дбай наш край, мір і спакой!
О, Канада! Мы назаўжды з табой.

О, Канада! Мы назаўжды з табой.

*Тэма нумару: “О, Канада!”*

**Івонка Сурвілла**
*Hull*

# ШТО МЫ ЗРАБІЛІ Ў КАНАДЗЕ

У 2018 годзе беларуская грамада ў Канадзе адзначала 70-я ўгодкі Згуртаваньня беларусаў Канады. Я была найстарэйшай сяброўкай Згуртаваньня на сьвяткаваньні й скарыстала з нагоды, каб прыпомніць новай хвалі нашай эміграцыі пра старэйшых, якіх нашая сям’я яшчэ пасьпела пазнаць, прыехаўшы ў Канаду ў 1969 г. Усе былі моцнымі патрыётамі зь дзьвюма мэтамі ў жыцьці: унутры захаваць нашыя мову й каштоўнасьці, *“каб не памерці”*, а навонкі даказаць сьвету, што Беларусь жыве, нягледзячы на неймаверныя высілкі Масквы, каб сьцерці яе з мапы сьвету.

Гэта было важна для ўсіх нас, і за першыя 50 гадоў існаваньня дыяспары было шмат зроблена. Новая хваля эміграцыі зь Беларусі знайшла ў Канадзе прытулак — Беларускі рэлігійна-грамадзкі цэнтар і яшчэ ладную колькасьць старэйшых, якія з радасьцю перадалі свае дасягненьні й абавязкі новапрыбылай моладзі. Як я казала на сьвяткаваньні 70-годзьдзя, мелі мы шмат шчасьця, бо новыя эмігранты хутка ўключыліся ў беларускае жыцьцё й дасюль Канада ёсьць адным з найбольш актыўных беларускіх асяродкаў у сьвеце.

Пра колькасьць зробленага ранейшай хваляй эміграцыі, аднак, ня ўсе новапрыбылыя ведаюць. І таму хачу выкарыстаць гэтую нагоду, каб пералічыць прынамсі тое, што памятаецца.

Безумоўна, не было такога году, каб усе плыні эмігрантаў не сьвяткавалі — звычайна вельмі ўрачыста — 25 Сакавіка й Слуцкі збройны чын. Адзначаліся ўсе вялікія даты нашай гісторыі: тысячагодзьдзе дзяржаўнасьці, пяць стагодзьдзяў Скарыны, угодкі ўсіх нашых вялікіх пісьменьнікаў. Арганізоўваліся Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, выдаваліся й распаўсюджваліся беларускія кнігі, існаваў беларускі танцавальны гурток, кожную нядзелю адпраўляліся беларускія багаслужбы ў абедзьвюх таронтаўскіх беларускіх цэрквах, адбываліся выставы беларускіх мастакоў. Але пра гэта пераважна ўсе ведаюць.

Менш ведаюць і тут, і на Бацькаўшчыне пра тое, што было зроблена нашай невялікай грамадой, каб пазнаёміць зь Беларусьсю іншых канадыйцаў і рэшту сьвету. Гэтым і хацела б падзяліцца з чытачамі сёлетняга нумару “Запісаў”, прысьвечанага Беларускай Канадзе. Пералічваю падзеі з памяці безь ніякага парадку — ні храналягічнага, ні іншага (сьпіс не вычарпальны).

Дзьве вялікія навуковыя канфэрэнцыі (Квінс-унівэрсытэт у 1971 г. і Атаўскі ўнівэрсытэт у 1975 г.), прысьвечаныя беларускай тэматыцы. Выстаўка беларускага народнага мастацтва, арганізаваная супольна з Музэем чалавека ў Атаўскім унівэрсытэце (1975). Урачысты вечар Натальлі Арсеньневай у Атаўскім унівэрсытэце (1975). Выстаўка беларускага народнага мастацтва ў Гарадзкой бібліятэцы (*Public Library*) Атавы (1977). Беларускі бел-чырвона-белы сьцяг на гарадзкой упраproperly ве 25 сакавіка ў Таронта. Удзел у Таронтаўскім фэстывалі *CARAVAN* у 1970-я гг., калі праз наш павільён *"Miensk"* праходзілі каля пяці тысячаў наведнікаў. Удзел у Атаўскім фэстывалі Бацькаўшчынаў (*Homelands*) — дзесяць разоў у 1980-я гг. Збор беларускіх экспанатаў для атаўскага Музэю чалавека. Арганізацыя выстаўкі "Аўтапартрэт" атаўскіх этнічных групаў у Музэі чалавека. Абарона канадыйскім прадстаўніцтвам беларускай мовы ў *ISO* ў 1980-я гг. Удзел на высокім узроўні ў 1980-я гг. у Канадыйскай этнакультурнай радзе, якая ўключала ўсе канадыйскія этнічныя групы — сем мільёнаў сябраў. Удзел на найвышэйшым узроўні (старшынства) у Моладзевай арганізацыі Канадыйскай этнакультурнай рады. Удзел у Шматкультурнай радзе міністра шматкультур'я Канады (1979). Прысутнасьць беларускай мовы на мапе моваў сьвету, выдадзенай накладам 400000 экзэмпляраў Камісіяй дзяржаўных моваў Канады. Удзел у Днях Чорнай стужкі (угодках пакту Молатава — Рыбэнтропа). Удзел у арганізацыі і ў Галоўнай управе Шматкультурнай канфэрэнцыі жанчын Атавы. Удзел у канфэрэнцыі краінаў савецкага блёку ў парлямэнце Канады (1993). Прадстаўніцтва на шматлікіх чужых сьвяткаваньнях. Стварэньне й пятнаццацігадовае існаваньне Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі, дзякуючы якому ўся Канада пазнаёмілася зь Беларусьсю. Было створана 42 аддзелы ад акіяну да акіяну. Канаду адведалі тысячы беларускіх дзетак. Сотні інтэрвію, дадзеных канадыйскім СМІ пра Беларусь і Чарнобыль. Сарганізаваныя дзясяткі спатканьняў у Атаве Генадзю Грушавому і крыху пазьней Зянону Пазьняку на чале дэлегацыі БНФ (1991). Перавоз Канадай у Беларусь двух самалётаў лекаў (1992). Усталяваньне Беларускага крыжа ў Мідлэндзе (Антарыё). Штогадовы ўдзел у Канадыйскай асацыяцыі славістаў, дзе былі прачытаны сотні дакладаў пра Беларусь у ангельскай мове. Пратэсты Канадыйскай асацыяцыі парлямэнтарыяў супраць зьбіцьця беларускіх дэпутатаў падчас галадоўкі ў Вярхоўным Савеце Беларусі ў 1995 г. Пышнае сьвяткаваньне 25 Сакавіка перад ратушай Таронта ў 2006 г. у прысутнасьці шматлікіх палітыкаў і гасьцей. Пратэст канадыйскага міністра замежных справаў падчас падзеяў у Беларусі пасьля выбараў у сьнежні 2010 г. Канцэрты "Яваровых людзей". На канферэнцыі Канадыйскай асацыяцыі славістаў у Карлтонскім унівэрсытэце ў Атаве ў 2009 г. адбываліся адначасова й мастацкая выстава, і канцэрт "Яваровых людзей" і дуэту "Кантабіле".

Удзел, здаецца, два гады таму беларусаў у Таронтаўскім этнічным фэстывалі, дзе нашая група ішла пад белымі крыламі бусла.

Кожная з гэтых падзеяў вымагала тыдняў, а часам і месяцаў працы. Але кожная пасьпяховая акцыя прыносіла таксама вялікае задавальненьне. Жаданьне, каб Беларусь заняла пачэснае месца ў сям’і вольных народаў сьвету, апраўдвала ўсе высілкі.

*Тэма нумару: “О, Канада!”*
*Архівалії й публікацыі*

**Натальля Гардзіенка**
*Менск*

# ДА ГІСТОРЫІ ПЕРШАГА ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЧНАГА АРТЫКУЛУ ПРА БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЗЕ

У сьнежні 1954 г. беларускі дзеяч у Вініпэгу Мікола Сільвановіч (Вярба) атрымаў ліст з Атавы ад галоўнага рэдактара “Канадыйскай энцыкляпэдыі” (*Encyclopedia of Canada*) Джона Робінса (*John E. Robbins*) з просьбай напісаць артыкул на 700—800 словаў пра беларусаў у Канадзе. Зьвярнуцца менавіта да Сільвановіча параіў прафэсар Унівэрсытэту Манітобы Руднічы (*Rudnichyj*), які ў той час працаваў над аналягічным артыкулам пра ўкраінцаў у Канадзе. У сваім лісьце Джон Робінс пісаў: *“Мы, безумоўна, разумеем, што перапісы не фіксуюць беларусаў асобна і што крыніцы інфармацыі, магчыма, абмежаваныя. Аднак Вы валодаеце зь першых рук зьвесткамі пра беларусаў у Вініпэгу, а можа, маеце кантакты й з іншымі цэнтрамі. Таму мы хацелі б атрымаць кароткае тлумачэньне, хто такія беларусы, калі яны прыбылі ў Канаду, дзе пасяліліся, наколькі захавалі сваю ідэнтычнасьць як група і г. д.”*[1].

Мікола Сільвановіч адразу пагадзіўся на прапанову й неадкладна пачаў зьбіраць матэрыялы. Ён распрацаваў адмысловы апытальнік для суродзічаў, які даслаў беларускім дзеячам Кастусю Акулу, Алесю Грыцуку й Міхасю Мацукевічу[2]:

*“Высокапаважаныя спадары! Вельмі прашу прабачэньня, што турбую Вас сваім лістом. Я добра ведаю, як цяжка пасьля фізычнае працы пісаць такія лісты, адылі справа, у якой я да Вас зьвяртаюся ў гэтым лісьце, на маю думку, ёсьць усеагульнай беларускай справай усей нацыянальна думаючай беларускай эміграцыі ў Канадзе.*

---

[1] Ліст захоўваецца ў фондзе Міколы Сільвановіча ў Нацыянальным архіве Канады: Library and Archives Canada. Mikola Silvanovich fonds — MG31-H90. Vol. 3. F. 48. Пераклад з ангельскай Н. Гардзіенкі.

[2] Магчыма, Мікола Сільвановіч дасылаў аналягічныя апытальнікі й іншым, але адказ захаваўся ў архіве толькі гэты.

*І з гэтае прычыны будзьце ласкавыя прысьвяціць ёй некулькі хвілін вольнага часу.*

*Пасьля маіх выступленьняў з дакладамі пра нашу літаратуру ў УВАН*[3] *і на канфэрэнцыі славістаў Канады, я на днях быў запрошаны на супрацоўніка "ENCYCLOPEDIA of CANADA" (Ottawa) па галіне беларусікі, і ў зьвязку з гэтым да Вас зьвяртаюся з наступнай прозьбай!"*.

Далей ішлі пытаньні наконт таго, калі першыя беларусы прыбылі ў Канаду й хто гэта быў, чаму першыя беларусы ў Канадзе не стварылі сваіх арганізацыяў і калі гэтыя арганізацыі зьявіліся й г. д. Пералік займаў амаль тры старонкі. І згаданыя адрасаты супольна на іх адказалі.

У выніку цягам двух месяцаў пасьля першага ліста з "Энцыкляпэдыі" (тэрмін падачы матэрыялу быў вызначаны ў самым першым лісьце) Мікола Сільвановіч даслаў у рэдакцыю тэкст пад назовам *"People of Byelorussian Origin in Canada"*. У 1957 г. артыкул быў апублікаваны ў другім томе "Канадыйскай энцыкляпэдыі"[4]. У ім быў пададзены кароткі экскурс у беларускую гісторыю ад часоў крывічоў-дрыгавічоў-радзімічаў праз Вялікае Княства Літоўскае й Рэч Паспалітую да паняволеньня Расейскай імпэрыяй і вызваленьня ў 1918 г., згадвалася пра БНР і БССР. Падаваліся таксама кароткія зьвесткі пра зьяўленьне беларусаў у Канадзе й іх арганізацыі.

Гэты тэкст стаў першым абагульненьнем зьвестак пра беларусаў у Канадзе. Зразумела, што пазьней зьявілася значна болей інфармацыі, у тым ліку й пра першых пасяленцаў. Аднак той тэкст Міколы Сільвановіча быў першым. Менавіта зь яго пачалася прысутнасьць нашых суродзічаў як нацыянальнай групы ў канадыйскіх даведачна-энцыкляпэдычных выданьнях. Дзякуючы яму беларусы сталі афіцыйна бачныя канадыйцам.

Што праўда, тэкст, паводле згадкі Лявона Юрэвіча, *"прынёс багата непрыемнасьцяў аўтару і ці не канчаткова адштурхнуў яго ад беларускіх справаў"*[5]. У лісьце да Юркі Віцьбіча ў 1971 г. Сяргей Хмара пісаў:

*"Вярба мне ня піша. Калі пытаўся ў нашых адтуль, дык яны адказалі, што ён нідзе не бярэ ўдзелу, ізаляваўся, а некаторыя прыпушчаюць, што нават запіўся. Больш праўдападобная вестка пра тое, што страху нагнала яму завяртанка, зьмясьціўшы артыкул аб ім і ягонай дзейнасьці ў краі.*

*На мяне ён крывы за крытыку ягонага выбрыку, калі не паразумеўшыся зь нікім, падаў у Канадыйскую энцыкляпэдыю выдуманую*

[3] **УВАН** — Украінская вольная акадэмія навук.

[4] The Encyclopedia Canadiana. Vol. 2. Toronto: Groiler, 1957. P. 151.

[5] Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1997. С. 316.

*ім самім лічбу 12 тысяч беларусаў у Канадзе, тады як нас тут каля 50 тысяч. І тады-ж як ён урэзаў такое глупства, навукоўцы-дасьледчыкі ў Атаве пісалі, што беларусаў прыкладна 35 тысяч, а дзякуючы стараньням нашага Інстытуту Кастуся Каліноўскага, прэмьер Антарыё сьцьвердзіў, што нас толькі ў Антарыйскай правінцыі 30 тысяч. Тую шкоду, што прычыніў Вярба нам, адчуваем мы яшчэ часта і цяпер! Калі я затаўраваў гэты факт, дык ён абразіўся...”*[6].

Як гэта часта бывае, добрыя намеры аўтара не былі належна ацэненыя. Усё значэньне цэлага тэксту (першага на тэму беларускай прысутнасьці ў Канадзе) было зьведзена да няправільна пададзенай колькасьці беларусаў, якая на той момант нікім і не была яшчэ дасьледваная й агучаная. Развагі пра колькасьць пачаліся ўжо пасьля публікацыі Міколы Сільвановіча ў “Канадыйскай энцыкляпэдыі”[7]. Першы паважны артыкул на гэтую тэму, які належаў прафесару Кае (V. J. Kaye), зь лікам у 30 тысяч беларусаў у Канадзе пабачыў сьвет толькі ў 1960 г.[8].

Быў і яшчэ адзін прыкры момант. У невялікай зацемцы адносна артыкулу Міколы Сільвановіча ў газэце “Бацькаўшчына” зазначалася:

*“...нягледзячы на неблагі зьмест аўтар падыходзіў да некаторых зьявішч тэндэнцыйна, не падаючы факту існаваньня парафіі БАПЦ у Таронта й іншага. Гэта абавязкова трэба было-б адпаведна скарэктаваць у бліжэйшай будучыні й не дапушчаць падобнага, калі мова йдзе аб беларускіх справах наагул, каб мець поўны вобраз тых падзеяў, што цяпер адбываюцца, ня толькі нам, але й чужынцам”*[9].

Цікава, што захаваны ў архіве Міколы Сільвановіча англамоўны тэкст, дасланы ім у “Энцыкляпэдыю”, меў выразна больш зьвестак пра беларусаў у Канадзе (у тым ліку й пра прыход БАПЦ у Таронта), чым апублікаваны артыкул. Відавочна, рэдактары скарацілі яго дзеля сваіх мэтаў, а вінаваты ўрэшце застаўся аўтар. Знаёмая сытуацыя, на жаль, ня толькі для Канады.

Акрамя таго, у архіве Міколы Сільвановіча захаваўся першапачатковы беларускамоўны накід, які пазьней быў значна перапраца-

---

6 Цыт. паводле: Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. С. 316—317.

7 Прыкладам, развагі прафэсара В. Дж. Кае пра колькасьць беларусаў у Канадзе ўпершыню былі выкладзеныя ў ліставаньні з прафесарам Жук-Грышкевічам у 1959 г. (тады прафесар Кае рыхтаваў сваю працу, прысьвечаную канадыйскім беларусам). Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Торонто, 1993. С. 231—232.

8 Kaye, V. J. Canadians of Byelorussian Origin // Revue de l`Université d’Ottawa. July-September 1960. P. 308.

9 А. -віч. “Энцыкляпэдыя Канадыяна” пра Беларусь // Бацькаўшчына. № 38—39 (573—574). 24 верасьня 1961. С. 8.

ваны ў англамоўным варыянце. Менавіта той першы беларускі тэкст і прапаноўваецца увазе чытачоў далей. Ён выглядае як адказы на згаданы апытальнік і ўтрымлівае значна больш інфармацыі пра канкрэтныя беларускія арганізацыі й асобаў у Канадзе, чым канчатковы варыянт. Тэкст адлюстроўвае тое, як пачыналі зьбірацца зьвесткі пра беларускую прысутнасьць у Канадзе, а таксама ў некаторай ступені рэабілітуе аўтара ў зьвязку з абвінавачаньнем у замоўчваньні пэўных фактаў.

*Тэма нумару: “О, Канада!”*
*Архівалії й публікацыі*

***Мікола Сільвановіч***

# БЕЛАРУСЫ Ў КАНАДЗЕ[1]

Першыя беларусы прыбылі ў Канаду ў пачатку дваццатага стагодзьдзя (1905), але як грамадзяне Расейскай царскай імпэрыі, у якой Беларусь афіцыяльна называлася *Северо-Западным Краем*; і як выключна эканамічныя эмігранты, не задэкляравалі сябе як беларусы. Праклямацыя Незалежнай Нацыянальнай Беларускай Рэспублікі, якая адбылася 25.3.1918 году, на руінах Расейскай царскай імпэрыі, не дала пажаданых вынікаў. Беларускія нацыянальныя сілы не змаглі абараніць праклямаванай рэспублікі, і Беларусь 21.3.1921 году Рыжскім Трактатам была падзеленая паміж Расеяй і Польшчай. З Усходняй часткі Беларусі была створаная (праклямаваная 1.1.1919) Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, зь якой, як ведама, эміграцыя была забароненая. З Заходняй часткі Беларусі, якая была пад Польшчай, эміграцыя была дазволеная, і вельмі шмат Беларусоў зь яе эміґравала ў Канаду, але яны як грамадзяне Польшчы, ня маючыя ў сваіх шэрагах дастатковай колькасьці інтэлігэнцыі, якая-б дапамагла ім стварыць сваю этнічную групу ў Канадзе, былі залічаныя палякамі[2].

Толькі пасьля Другой сусьветнай вайны, калі Беларусь на Сан-Францыскай Канфэрэнцыі Злучаных Нацыяў была прызнаная як *Independent Nation* і калі ў Канаду прыбыло шмат беларускай інтэлігэнцыі, было заарганізаванае беларускае нацыянальнае жыцьцё.

28.11.1948 году ў Торонто была паўзятая ініцыятыва заарганізаваньня *“Byelorussian Alliance in Canada”*, а 28.5.1949 году ў Торонто адбыўся Першы Усеканадыйскі Зьезд Беларускай Эміграцыі, які апрабаваў Статут арганізацыі і выбраў яе Кіраўніцтва.

---

[1] У арыгінале нават беларускамоўны тэкст мае англамоўны назоў *“People of Byelorussian Origin in Canada”*. Арыгінал захоўваецца ў Нацыянальным архіве Канады: Library and Archives Canada. Mikola Silvanovich fonds — MG31-H90. Vol. 3. F. 48. Пры публікацыі захоўваецца правапіс арыгіналу.

[2] Значная частка тых беларусаў наогул сталі лічыць сябе рускімі, уваходзячы ў пракамуністычныя рускія прагрэсіўныя клюбы ў Канадзе, пра што М. Сільвановіч ускосна згадвае пазьней.

Піянэрамі беларускага нацыянальнага руху ў Канадзе былі Канстанцін Акула[3] і Язэп Пітушка[4], абодва з Торонто. У гэтым часе былі яшчэ заарганізаваныя і другія беларускія арганізацыі, як *“Byelorussian National Committee in Winnipeg”* (26.2.1950), і *“Byelorussian National Association in Canada”* (Toronto, 25.3.1952).

Заарганізаваныя ў свае нацыянальныя арганізацыі, беларусы ў Канадзе пачалі неадкладна ад свайго імя ўносіць даніну і ў усёканадыйскае жыцьцё. 25.5.1951 г. была нададзеная праз *CBC*[5] першая сэрыя беларускіх песень у выкананьні таленавітага *countertenora* Міхаіла Радчанка[6] зь Вініпэгу. 21.10.1951[7] г. быў заарганізаваны першы ў Канадзе Лектарат Беларусаведы пры Торонцкім Унівэрсытэце пад кіраўніцтвам праф. доктара Жук-Грышкевіча[8]. У Мантрэалі заарганізаваўся Беларускі Тэатральны Гурток, які зачаў ставіць першыя ў Канадзе беларускія п’есы і выступаць з добрым беларускім хорам. Беларусы як народ вельмі рэлігіёзны не прапусьцілі самацёкам і рэлігійнага жыцьця ў Канадзе. 25.3.1952 году быў заарганізаваны і інкарпараваны першы беларускі прыход у Канадзе: *“St. Euphrasinia of Polock, Byelorussian Orthodox Church”* у Торонто, які падлягаець Усяленскаму Царградзкаму Патрыярху. 24.10.1954 году быў заарганізаваны другі беларускі праваслаўны прыход у Торонто, які падлягаець *Byelorussian Authocephalic Orthodox Church*, на чале якой стаіць Васіль[9], *Archbishop of Vilna (Brooklyn,*

---

[3] **Кастусь Акула** (да эмігр. **Аляксандар Качан**, 1925—2008), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Ініцыятар стварэньня Згуртаваньня беларусаў Канады. У 1948—1954 гг. рэдагаваў газэту “Беларускі Эмігрант”.

[4] **Язэп Пітушка** (1912—1984), грамадзкі дзеяч. Браў удзел у стварэньні Згуртаваньня беларусаў Канады, затым разам з прыхільнікамі Сяргея Хмары стварыў Беларускае нацыянальнае аб’еднаньне.

[5] ***CBC — Canadian Broadcasting Corporation*** — канадыйская грамадская тэлерадыёкампанія. Тут маюцца на ўвазе радыёперадачы з трансьляваньнем беларускіх песень.

[6] **Міхась Радчанка** (1934—?), сьпявак, контратэнар. Ад пачатку 1950-х гг. жыў у Вініпэгу.

[7] Паводле іншых зьвестак, лектарат беларусаведы ў Тарантаўскім унівэрсытэце быў адкрыты 15 кастрычніка 1951 г. Гл.: Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта-Жук-Грышкевіча. С. 133.

[8] **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (1903—1989), грамадзкі дзеяч, пэдагог. У Канаду прыбыў у студзені 1950 г. У 1952 г. ён абараніў доктарскую дысэртацыю “Лірыка Янкі Купалы” ў Атаўскім унівэрсытэце, аднак у 1954 г. зьехаў у Мюнхен, дзе да 1956 г. кіраваў беларускай рэдакцыяй Радыё “Вызваленьне”. Пазьней зноў вярнуўся ў Канаду.

[9] Маецца на ўвазе **Васіль** (сьвецк. **Уладзімер Тамашчык**, 1900—1970), першаярарх БАПЦ у 1949—1970 гг. Жыў у Нью-Ёрку. Узначальваў епіскапат БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы.

*USA) Secretary of the Holly Synod Byelorussian Orthodox Authocephalic Church*. У абодвах прыходах, заснаваных у Канадзе, набажэнствы адпраўляюцца на *Old Slavonic* мове з упатрабленьнем мовы беларускай толькі ў казаньнях. Усе царкоўныя сьвяты беларусы сьвяткуюць па Юліянскаму Календару.

Беларуская мова прынадляжыць да Інда-Эўрапэйскіх моваў, на якой гавораць на Беларусі і за межамі каля 15.000.000. Першы раз у Канадзе была ўжытая 28.4.1931 году расейскай камуністычнай газэтай у Віпіпэгу "Канадыйскі Гудок", які з мэтай уцягненьня беларусоў у камуністычную арганізацыю ў сваіх першых нумарох спэцыяльна друкаваў на беларускай мове *"Byelorussian Corner"*[10]. Калі-ж Беларусы былі прываблены родным словам, *"Corner"* быў закрыты, і ўся беларуская група, якую сабраў гэты корнер, была названая рускімі! І з гэтае прычыны Беларусы (адныя толькі з Усходня-Эўрапэйскіх этнічных груп у Канадзе), ня маюць сваей Беларускай Прагрэсыўнай (Камуністычнай) Арганізацыі.

Першая Беларуская газэта: "Беларускі Эмігрант" (*Whiteruthennian Emigrant*, пазьней *Belorussian Emigrant*) пачала выходзіць у Ошаве, Онтаріо як месячнік у 1948 годзе і выходзіць да сёньня ў Торонто. Другой Беларускай газэтай быў "Беларускі Голас" (*Byelorussian Voice*), які пачаў выходзіць у Торонто 25.3.1952 г. Быў таксама выдаваны на мімографе месячнік "Прамень" у Мантрэалі.

Беларусы, якія папаўшыся пад расейскую акупацыю, прасьледаваліся і цяпер прасьледуюцца на Бацькаўшчыне за свае традыцыі, звычаі і абычаі, выэміграваўшы ў Канаду, у адну з найбольш вольных краін сьвету (як шмат хто зь іх лічыць), з падвойнай энэргіяй практыкуюць свае багатыя традыцыі, звычаі і абычаі. За што маюць пашану з боку сваіх суседзяў. За наглядны факт можа паслужыць тое, што Прагрэсыўная Кансэрватыўная Партыя ў дадатковых выбарах у Торонто ў 1954 г. першы раз у гісторыі Канады ўпатрабіла беларускую мову ў выбарах.

Ня маючы статыстычных даных (*Canadian Federal Emigration Department* не паказваець асобнай беларускай этнічнай групы ў Канадзе), вельмі цяжка сказаць, сколькі ёсьць на сяньня ў Канадзе людзей беларускага паходжаньня, а так-жа дзе яны разселяныя; але ня будзець вялікай памылкі, калі мы яе апрадзелім між 10.000—15.000 асоб. Разселяныя ў большасьці ў правінцыі *Ontario (Toronto), Quebeck (Montreal)* і *Manitoba (Winnipeg)*.

---

[10] Маецца на ўвазе **"Беларускі куток"**, які зьмяшчаўся ў № 1, 2, 4 за 1931 г. газэты "Канадский гудок", якая пазначалася як "орган русских рабочих" і выдавалася ў Таронта.

Па свайму сацыяльнаму паходжаньню Беларусы ў большасьці як эмігранты выключна аграрнай краіны — Беларусі — фармеры. Аднак з тых прычын, што яны ніколі не эмігравалі ў Канаду пры дапамозе свайго ўраду, яны не прывязьлі з сабой сюды грошы, за якія-б можна набыць фарму, і таму яны найбольш працуюць па фабрыках, у лесе і на канструкцыях[11] як работнікі. Праўда, апошнім часам прыбыло ў Канаду некулькі дактароў мэдыцыны, інжынэраў, дантыстаў, аўтараў, журналістаў і г. д., а так-жа ў гэтым фаху некулькі асоб канчаець канадыйскія ўнівэрсытэты.

Свой Нацыянальны Дзень беларусы абыходзяць 25.3. Іх нацыянальны сьцяг бел-чырвона-белы.

Мікола Сільвановіч
Сябра Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью Ёрку, *USA*
Сябра *Canadian Association of Slavists*
Супрацоўнік наступных беларускіх часапісаў:
"Бацькаўшчына" (*Germany*), "Беларус" (*USA*),
*"Byelorussian Tribun" (USA),*
*"Byelorussian Word" (Germany) and other.*

*Падрыхтоўка да друку Натальлі Гардзіенкі*
*й Лявона Юрэвіча*

[11] Ад анг. ***construction*** — будоўля.

*Тэма нумару:* ***“О, Канада!”***
*Архівалії й публікацыі*

***Баляслаў Лісчонак***

# АПОВЕДЫ ПРА БЕЛАРУСАЎ У АШАВЕ

*Беларускі асяродак у мястэчку Ашава ў правінцыі Антарыё даволі актыўна дзейнічаў у 1950—1970-я гг. Тут была створаная арганізацыя самапомачы, танцавальны гурток, аркестар, які часта выяжджаў у іншыя беларускія цэнтры ня толькі Канады, але й ЗША, а таксама пакінуў па сабе запісанымі колькі кружэлак зь беларускімі песьнямі й танцамі. Ашаўскія беларусы трымалі сувязі з суродзічамі ў Таронта, Манрэалі, Чыкага, Кліўлэндзе. Аднак сёньня амаль не засталося тых, хто памятае пра той дзейны асяродак.*

*Пры канцы 1970-х гг. на просьбу гісторыка Янкі Садоўскага беларус з Ашавы Баляслаў Лісчонак (часта фігуруе ў друку як Лішчонак) напісаў два невялікія ўспаміны пра сам асяродак і пра заснаваны ў ім аркестар. У сваёй кнізе навуковец скарыстаў частку пададзенай інфармацыі, аднак згаданыя аповеды, захаваныя ў фондзе Янкі Садоўскага ў Нацыянальным архіве Канады[1], маюць каштоўнасьць і самі па сабе як успаміны непасрэднага ўдзельніка й арганізатара беларускага жыцьця ў Ашаве.*

## Аб беларусах у Ашаве[2]

Беларусы ў Ашаве, як на маю думку, пасяліліся ўжо досыць даўно. Ізь сьціплых даведак з размоваў пазьнейшага пасяленьня, нібыла, у 1908—1909 г. У той час Ашава была невялікім мястэчкам, якое належала да таўншып[3] *Withby*. Трохі пазьней, а яшчэ больш дзесьці каля 1928 г., беларускага элементу колькасна была досыць значная група. Пэўне-ж досыць ладная колькасьць іх належалі да прагрэсіўных[4], а каталіцкага вызнаньня залічвалі сябе да палякаў. З прычыны

[1] John Sadouski fonds — MG31-D124.

[2] Пры публікацыі тэкстаў захоўваецца аўтарскі правапіс.

[3] ***Township*** (анг.) — тут: гарадзкое кіраваньне.

[4] Маюцца на ўвазе пракамуністычныя “прагрэсіўныя” працоўныя клюбы, якія ствараліся ў Канадзе ў 1920-я гг. і дзе дамінавала савецкая і расейская ідэнтычнасьць. Сярод удзельнікаў такіх клюбаў была вялікая колькасьць беларусаў.

паяўленьня аўтамабільнай індустрыі ў гэтым мястэчку прыплыў беларусаў усьцяж павышаўся, а асабліва пасьля Другой сьветавой вайны. Першымі піянэрамі, якія актыўна ўключыліся ў разбудову Ашавы, былі дабразнаныя наступныя беларусы, якія пераехалі ў Ашаву з Альбэрты дзесь у 1928 г., як Курыла Глікаў (з Магілёва) і Гарбарэнка Зьмітра, жонка якога Марыя зь Менска. На той цяжкі час Курыла Глікаў меў восем малалетніх дзяцей ды ў кішэні толькі 30 даляраў. Сытуацыя была цяжкая. Перабіраць работамі было немажлівым, якая работа пападалася, патрэбна было за яе брацца. Вось гэтыя два беларусы, каб зарабіць штось на ўтрыманьне сваіх сем'яў, нанімаюцца на працу на будову. Зь цягам часу Курыла Глікаў становіцца будаўляным кантрактарам сам. Ён-жа бярэ ўдзел у пабудове фабрыкі "Скінарс" (*Skiner `s*)[5], дзе вырабляліся і выраблюяцца часткі для аўтамабільнай фабрыкі *G.M.C.*[6], фабрыкі *Pedler `s*[7] і іншых. Будуе будынкі апартамэнтаў.

Потым закладае свой харчовы магазын (*grossery store*). Таксама будучы пабожным чалавекам не забыўся і пра духовае жыцьцё сваіх землякоў. І вось Курыла Глікаў становіцца галоўным фундатарам Пяцідзясятніцкай царквы ў Ашаве.

Калі-ж пасьля Другой сьветавой вайны адчынілася мажлівасьць эміграцыі да Канады, Ашава ладнай колькасьцю папаўняецца новымі беларускімі эмігрантамі, а асабліва дзякуючы таму, што Ашава становіцца індустрыяльным горадам пераважна аўтамабільнай вытворчасьці. А так, як беларусы — народ працавіты, то не чакалі на вэльфер[8] і анімплёймент бэнефіт[9], а ўзяліся шчыра за працу, і цяпер амаль што кожная беларуская сям'я стала заможнай. Дзесь па якім часе настала патрэба арганізацыйнага жыцьця беларусаў Ашавы. Паўстае ініцыятыўная група і ўтварае арганізацыйны камітэт. Па закліку ініцыятыўнага камітэту зьбіраецца сход беларусаў Ашавы і ваколіцы, на якім паўстае арганізацыя "Беларуская самапомач Ашавы" (БСА).

---

[5] Маецца на ўвазе ***Skinner Company Limited*** — прадпрыемства, першапачаткова скіраванае на выраб сельскагаспадарчых прыладаў, якое з часам ператварылася ў фабрыку ў Ашаве па вытворчасьці частак для аўтамабіляў.

[6] ***G.M.C. — General Motors Corporation*** — найбуйнейшая амэрыканская аўтамабільная карпарацыя. Тут, магчыма, маецца на ўвазе канадыйскае аддзяленьне карпарацыі — *General Motors of Canada*.

[7] Маецца на ўвазе ***Pedlar People Limited*** — прадпрыемства па вырабе ліставога металу, закладзенае ў Ашаве ў выглядзе невялікай майстэрні ў 1861 г. і ператворанае ў вялікую металаапрацоўчую фабрыку ў XX ст.

[8] ***Welfare*** (анг.) — форма сацыяльнай дапамогі дзяржавы малазабясьпечаным сем'ям.

[9] ***Unemployment benefit*** (анг.) — фінансавая дапамога па беспрацоўі.

БСА мела сваім заданьнем несьці сябрам арганізацыі дапамогу, як матар'яльную, маральную і культурную. Заданьнем арганізацыі было і тое, каб браць актыўны ўдзел падчас нацыянальных беларускіх сьвятаў. БСА таксама брала актыўны ўдзел у сьвяткаваньнях і канадыйскіх сьвятаў, а асабліва Дамініон Дэй[10].

Наладжваліся пікнікі на фарме Хадкевіча. Таксама часта ладзіліся беларускія вечарыны. Часам ладзіліся рэлігійныя багаслужбы і г. д. Мелі танцавальны гурток, а таксама хоць малы харавы гурток зь дзяцей. Маем пад маім кіраўніцтвам невялікую аркестру *"Melody"*. БСА паўстала 15/IV-61 г.

Першая ўправа БСА:
Старшыня — Мікола Хомчык,
Сакратар — Рыгор Воўна[11],
Скарбнік — Мікола Багдан[12].

Цяперашняя ўправа:
Старшыня — Аркадзь Харавец[13],
Сакратар — Янка Курыкша,
Скарбнік — Адам Тарасэвіч.

Што тычыцца колькасьці беларусаў у Ашаве, то па маім няпэўным падліку — штосьць па-над 600 чалавек, а можа і па-над 1000. Хто іх тут дакладна мог палічыць? Шмат беларусаў, а асабліва каталікоў, прыліпла да палякаў, да ўкраінцаў, а дзесь хто сядзіць ціхонька і не аказваецца, каб не трывожылі часам якімісь грашовымі ахвярамі.

[...]

14/III-77

---

[10] ***Dominion Day*** (анг.) — ранейшая (да 1982 г.) назва нацыянальнага канадыйскага сьвята, што адзначаецца 1 ліпеня. Цяпер — Дзень Канады (*Canada Day*).

[11] **Рыгор Воўна** (14.01.1920—?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад лістапада 1947 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, адным са стваральнікаў другога Лёнданскага аддзелу арганізацыі, дзе выконваў функцыі сакратара. У 1950-я гг. выехаў у Канаду.

[12] **Мікалай Багдан** (30.11.1923, в. Баравая —?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад траўня 1947 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1950-я гг. выехаў у Канаду.

[13] **Аркадзь Харавец** (20.02.1929, в. Хваросна, цяпер Пінскі р-н Берасьцейскай вобл. — 10.04.1996, Канада), грамадзкі дзеяч. У 1949 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Квэбэку, Таронта, Ашаве. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады.

*Oshawa 15/VII-77*

## Беларуская аркестра — *“Melody”* ў Ашаве

Закладчыкам беларускай аркестры ў Ашаве зьяўляюся я сам — Болеслаў Лісчонак. Закладалася даная аркестра пад вясну 1957 г. Перад закладам уласнай беларускай аркестры была заўсёды праблема беларускай музыкі, а асабліва падчас нашых нацыянальных сьвятаў ці якіх іншых імпрэзаў, у якіх браў удзел беларускі танцавальны гурток зь беларускімі народнымі танцамі. Заўсёды прыхадзілася кланяцца і прасіць чужынцаў, каб дапамаглі нам у гэтай справе музыкай. Музыканты-чужынцы ня ўмелі йграць нашых народных танцаў, ноты якіх ня так лёгка было дастаць, аж пакуль арганізацыя беларускай моладзі ў Кліўлянд выдала пару зборнікаў беларускіх песень і народных танцаў апрацоўкі кампазытара М. Куліковіча[14]. Мне самому прыходзілася дзе якіх чужых музыкантаў вучыць іграць са слуху беларускія народныя танцы, якія я ведаў амаль усе на памяць. Але праблема беларускай музыкі была яшчэ тая самая, бо чужыя музыканты належалі да сваіх нацыянальных аркестраў і, хоць ужо ўмелі йграць дзе якія беларускія народныя танцы, не заўсёды маглі прыйсьці нам на дапамогу, бо ў той-жа самы час былі часам занятыя для сваёй нацыянальнай ці іншай справы.

Дык вось-жа, каб выйсьці з таго цяжкага становішча ў патрэбе беларускай народнай музыкі, я вырашыў і ўзяў на сябе нялёгкі абавязак стварыць, хоць і маленькую, сваю беларускую аркестру, якая і была заложана, як пададзена вышэй. У сваім першым пачатку яна складалася з трох музыкантаў: мяне і яшчэ двух шчырых і адданых беларускай справе беларусаў. Інструментальны склад аркестры быў наступны:

1. Болеслаў Лісчонак — струнные інструменты, бо я лёгка апарую мандалінай, банджо, балалайкай, а таксама разумею апараваць і скрыпкай.
2. Пётра Бобрык — акардыён.
3. Юрка Харэвіч — бубен.

Што належа П. Бобрыка, хоць ён і ня мог чытаць музыкі, мае надзвычайны прыродны музыкальны талент, тонка пачуцьцёвую душу, бо як іграў, то йграў ад душы, а таксама мае вельмі добры слух. У скорым часе ён пакінуў нашу аркестру ў сувязі зь сямейнымі абставінамі. З таго часу акардыяністы час ад часу мяняліся. Вялікія цяжкасьці былі знайсьці адпаведнага акардыяніста, які-б адносіўся аддана да гэтай справы

[14] **Мікола Куліковіч-Шчаглоў** (1893—1969), кампазытар, музыка, музыказнаўца, грамадзка-культурны дзеяч. Ад 1950 г. жыў у ЗША. Сябра БІНіМу. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, дзе кіраваў хорам. Пазьней перабраўся ў Кліўлэнд, а ад 1959 г. жыў у Чыкага й кіраваў хорам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста Збаўцы.

ды хоць трохі знаў-бы тэорыю музыкі. Абставіны зьмяніліся тады, калі падрастаючае пакаленьне паканчала музыкальныя школы. Ужо можна было знайсьці музыкантаў, якія зналі мажліва тэорыю музыкі, а разам з гэтым і палегчылася праца ў аркестры.

У даны мамэнт склад аркестры наступны:

1. Б. Лісчонак — электрычная мандаліна і скрыпка.
2. П. Шчуроўскі — акардыён.
3. Я. Пятрышын — акардыён.
4. Р. Пятрышын — электрычная гітара.
5. Б. Навак — саксафон і клярнэт.
6. Я. Курый — бубен і бас.

Праз доўгі час мая аркестра брала ўдзел падчас сьвяткаваньняў беларускіх нацыянальных сьвятаў і розных імпрэзаў. Мелі адзін выступ на тэлевізіі разам з танцавальным беларускім гуртком пад кіраўніцтвам Б. Кіркі[15] на праграме "Піка помка" на канале № 2 у Бафало. Бралі ўдзел з тым-жа самым танцавальным гуртком на эксыбішан[16] у Торонто і каля новай гарадзкой тaронтаўскай ратушы падчас яе адкрыцьця. Два разы йгралі вечарыну для беларусаў у Кліўлянд. Шмат разоў брала аркестра ўдзел у ашаўскіх народных фэстывалях у дзень незалежнасьці Канады. Ігралі на беларускіх вечарынах як у Ашаве, так і ў Торонто. Ігралі на вясельлях, хрысьцінах, беларускіх ды іншых пікніках. Бралі ўдзел у канцэрце ў Чыкага ў памяць кампазытара Куліковіча. Апошнім часам ігралі ў беларускім павіліёне на *St. Clarens ave.* у Таронто падчас *Metro International Caravan*[17]. Найграна аркестрай тры патэфонных пліток зь беларускімі песьнямі і народнымі танцамі.

Адносна мяне самога, то я нарадзіўся 10/VIII-1919 г. у вёсцы Недаль быўшага Бягомльскага павету на Меншчыне. Яшчэ будучы ў народнай сямігадовай школе, я ўжо браў актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасьці. Скончыўшы сямігадовую школу, вучыўся ў Стара-Барысаўскім зоотэхнікуме. Будучы студэнтам зоотэхнікума, браў вельмі актыўны ўдзел у беларускай мастацкай самадзейнасьці, як у харавым, драматычным і музыкальным гуртках, а найбольш у двух апошніх. Там-жа навучыўся чытаць музыку ды неабходныя мамэнты яе тэорыі (разьдзел гарманізацыі).

---

[15] **Барыс Кірка** (1928, в. Валокі, цяпер Хойніцкі р-н Гомельскай вобл. — 2016, Канада), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Канадзе. Цягам дзесяці гадоў быў старшынём царкоўнай парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

[16] ***Exhibition*** (анг.) — выстава.

[17] ***Metro International Caravan*** — вялікі шматкультурны фэстываль у Таронта.

Па заканчэньню зоотэхнікума вучыўся ў Рагачоўскім настаўніцкім інстытуце. Там-жа застала мяне і Другая сьветавая вайна, я быў ужо на апошнім курсе і заканчвалі здаваць эгзаміны. З мастацкай самадзейнасьцю не разставаўся і там.

Але вярнуся да зоотэхнікума зноў. Перад заканчэньнем зоотэхнікума даручана было мне кіраваць драматычным гуртком, а ў скорым часе і музыкальным.

У часе Другой сьветавой вайны я кіраваў самадзейным беларускім тэатрам на бацькаўшчыне. Перад заканчэньнем вайны апынуўся ў Нямеччыне. Па заканчэньню вайны пражываў у беларусім лягеру ў Варбэрг[18] і быў кіраўніком беларускай народнай школы. Працуючы ў школе, адначасна займаўся і мастацкай самадзейнасьцю. З гэтага часу абзавёўшыся музыкальнай літаратурай, пачаў папаўняць тэорэтычныя веды ў галіне музыкі. Меў размовы на тэму музыкі з музыкантамі-прафэсыяналамі, якія мне таксама шмат у чым дапамагалі. Сьпецыяльнай музыкальнай сьветы я ня маю, а апаноўваў яе толькі самаадукацыяй.

У 1948 г. выехаў у Англію, дзе таксама прабаваў займацца самадзейнасьцю. У 1951 г. выехаў у Канаду. Першых чатыры гады пражыў у Монтрэале, а ў 1955 г. пераехаў у Ашаву, дзе вельмі актыўна разгарнуў беларускую мастацкую самадзейнасьць сярод сваіх суродзічаў беларусаў. Наладжвалі пастаноўкі п’есаў беларускіх драматургаў. Давалі некаторыя сьпеўныя выступленьні беларусіх песень, пераважна дуэты. Быў заложаны мною харавы гурток з малых дзяцей, які выступаў на нацыянальных сьвятах ды падчас каляднай ялінкі.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі*

[18] **Варбэрг** (ням. *Warberg*) — мястэчка ў Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія. Побач зь вёскай у замку быў створаны беларускі *DP*-лягер, дзе дзейнічалі школа, скаўцкі зьвяз. Лягер быў ліквідаваны ў 1947 г.

***Тэма нумару: О, Канада!***

*Архівалії й публікацыі*

# ЛІСТАВАНЬНЕ МІКОЛЫ СІЛЬВАНОВІЧА З АЛЕСЕМ ГРЫЦУКОМ

*Станаўленьне беларускіх асяродкаў у Канадзе пасьля Другой сусьветнай вайны адбывалася ў даволі складаных умовах. Новыя эмігранты не маглі абаперціся на суродзічаў зь міжваеннай эміграцыі, зь якімі мелі ідэалягічныя разьбежнасьці. Адначасова трэба было адваёўваць права на сваё асобнае месца ў прадстаўнікоў нацыянальных групаў суседзяў: палякаў, расейцаў, украінцаў. І пры гэтым беларусаў было значна меней, як тых суседзяў. Раскіданыя па вялікай краіне ды яшчэ й падзеленыя часта па палітычных матывах суродзічы, занятыя наладжваньнем уласнага побыту ў новай краіне, тым ня менш, намагаліся стварыць і ўтрымаць агульныя беларускія структуры.*

*Заснаванае з Таронта Згуртаваньне беларусаў Канады імкнулася ўсталяваць трывалыя сувязі з рэгіёнамі, у тым ліку з далёкім Вініпэгам, дзе быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт. Пра тое, што ўяўлялі зь сябе на пачатку 1950-х гг. абедзьве арганізацыі, як складваліся адносіны іх тагачасных лідараў Алеся Грыцука й Міколы Сільвановіча, якія ініцыятывы яны спрабавалі рэалізаваць, якія праблемы мелі — пра ўсё гэта можна даведацца з прыведзенага ніжэй ліставаньня.*

*Гэтая карэспандэнцыя захавалася ў фондзе Міколы Сільвановіча ў Нацыянальным архіве Канады й дае выдатную магчымасьць зразумець, як складана наладжвалася беларускае жыцьцё на эміграцыі ў паваенны час, як шмат залежала ад канкрэтных асобаў, іх актыўнасьці, іх магчымасьцяў і жаданьня працаваць. Да таго ж лісты выдатна гавораць пра іх аўтараў, асаблівасьці іх характараў, памкненьні і дадаюць некаторыя дэталі да іх біяграфіяў.*

Вельміпаважаны Спадару[1].

Вам ужо, напэўна, абрыдла карэспандэнцыя з сябрамі Ўправы ЗБК у розных формах прыватных, поўпрыватных, урадавых і поўурадавых і г. д., але маю надзею, што мой ліст Вас ня вельмі змучыць. Маю да Вас невялічкую просьбу. Як Вам ведама, ЗБК хаця ўжо існуе 2 гады, яшчэ ня вырасла з пялёнак і далей барукаецца ў бурхлівым праліве перад выхадам у чыстае мора. Прычыны гэтаму розныя, і ня буду пра іх пі-

[1] Пры публікацыі захоўваецца правапіс аўтараў.


Аляксей Грыцук, 1970-я гг.

саць, бо, здаецца, і Вы больш-менш арыентуецеся ў іх, але аб гэтым пазьней. Адной з вялічэзных труднасьцяў у нашай працы зьяўляецца хранічны недахоп фінансаў. Каб паправіць гэты стан, ЗБК выпусьціла лятарэю, а мая просьба да Вас памагчы нам у разпрадаваньні білетаў. Пасылаю Вам 15 кніжачак па 12 білетаў кожная. Адзін білет каштуе 10 ц[энтаў], а цэлая кніжачка (12 біл[етаў]) адзін даляр. Карані проданых білетаў з адрасам уласьніка білету перашліце, калі ласка, назад да 1 кастрычніка. Калі хтось купіць цэлую кніжачку, то хопіць толькі на першым корані выпісаць прозьвішча і адрас, а на апошніх толькі прозьвішча. Магчымасьці выйгрышу ёсьць даволі вялікія, і выйгрышы таксама каштоўныя. За проданыя "ўсе" білеты і ня "ўсе" шчыра дзякую. Даход прызначаны на культурна-асьветныя патрэбы ЗБК. Вас можа зьдзівіць, што гэтай справай займаецца старшыня ЗБК, а не якісь іншы рэфэрэнт, напр[ыклад] фінансавы або арганізацыйны ці культ[урна]-асьв[етны], але гэта таму, што я асабіста гэту справу праводжу ў жыцьцё.

Вы, напэўна, спадзяваецеся пачуць пры гэтым высокапарныя словы аб аб'еднаньні ўсіх нас у адну грамаду, аб розных ідэалах вызвольных і партыйных і г. д., але калі так, то памыліцеся, бо я спадзяваюся (знаючы Вас з лістоў да А[леся] Салаўя[2] і сяброў ЗБК), што Вы гэта ўсё даўно ўжо ведаеце. Калі-ж хочаце ведаць маё становішча як старшыні ЗБК, то скажу коратка: я шукаю да супрацоўніцтва ўсіх людзей добрай волі бяз розьніцы, якому богу яны кланяюцца ці зусім ня кланяюцца. Я лічу, што ў нас ёсьць супольная плятформа да супрацоўніцтва, а розныя статуты ёсьць людзьмі створаныя і людзьмі зьмяняюцца і папраўляюцца.

Сягоньня маё становішча вельмі цяжкое, і калі я не сабяру да працы людзей, у якіх дабро беларускае справы і арганізацыі стане вышэй над асабістае партыйнае справы, то, каротка гаворачы, прыдзецца сказаць: *"да пабачаньня"*. Аднак трохмесячнае маё ўрадаваньне паказвае, што людзей такіх можна знайсьці. Ёсьць у нас многа чаго да гавораньня

[2] **Алесь Салавей** (сапр. **Альфрэд Радзюк**, на эмігр. **Альбэрт Кадняк**, 1922—1978), журналіст, грамадзка-культурны дзеяч. Быў знаёмы з Алесем Грыцуком па супольным жыцьці ў другой палове 1940-х гг. у Зальцбургу (Аўстрыя), яны разам выдавалі газэту "Зь беларускага жыцьця" й часопіс "Пагоня". У той час Алесь Салавей ліставаўся таксама зь Міколам Сільвановічам, які жыў у Нямеччыне (гэтыя лісты захаваліся ў архіве Міколы Сільвановіча).

і зьмены ў ЗБК, але адзін гэтага ня зробіць. Гэта залежыць ад большасьці сяброў, якія, закаціўшы рукавы, стануць да працы.

На гэтым канчаю мой ліст, а калі-б Вы хацелі, маючы якіясь сумлівы, шчыра памянацца са мною думкамі, быў-бы вельмі рады.

З пашанай А[лесь] Грыцук.

*Winnipeg, Man.*
12.1.1950 г.

Пав[ажаны] Сп. Грыцук!

Не хацелася-б Вам дадаваць клопату, якога як Старшыня ЗБК, я думаю, Вы маеце пад дастаткам, але некаторыя абставіны да гэтага змушаюць.

Менавіта: Сёлета маець быць перапіс насельніцтва ў Канадзе, і я думаю, што каб Беларусы сябе падалі Беларусамі, ЗБК павінна праз "Беларускага Эмігранта"[3] правесьці ўсебаковую разтлумачальную працу. Як падаваць нацыянальнасьць, месца народзінаў і г. д.

Трэба заўчасу падрыхтаваць думку нашага эмігранта, што хаця ён жыў і пад Польскай акупацыяй, але ён не паляк — а *Byelorusian* і нарадзіўся не ў Польшчы — а на Беларусі!

У Сакавіку месяцы маець выйсьці *"The Yer*[4] *Book of Canada"*, у якім бы ўжо трэба было-б бачыць адрэсу ЗБК і лік Беларусоў, пражываючых ў Канадзе.

А то бачыце, ЗБК існуець, а ўрадавых даных пра беларусоў не маецца ў канадыйскай статыстыцы.

Вам неадкладна на першым паседжаньні УЗБК трэба гэту справу прадыктаваць і па сіле магчымасьцяў палагодзіць.

Калі Вы гэта ўжо зрабілі, дык даруйце мне, што я зьвяртаюся непатрэбна, але ўважаю, што рада не пашкодзіць.

Жыве Беларусь!

*Winnipeg,*
26.1.1950

Высокапаважаны Спадару Грыцук!

12.1. г. г. я выслаў Вам ліст (ня ведаю, ці Вы яго атрымалі, бо я яшчо ад Вас на яго нічога ня меў), сяньня-ж пасылаю Вам другі. Магчыма, Вы загневаецеся, што я, ня ведамы Вам асабіста, пруся з сваімі лістамі, дык я ветліва прашу прабачыць.

Гэта ўсё заўдзячаць трэба таму, што Вы Старшыня ЗБК, і па гэтаму я пішу да Вас.

---

[3] **"Беларускі Эмігрант"** — газэта, якая выходзіла ў Таронта ў 1948—1954 гг. пад рэдакцыяй Кастуся Акулы.

[4] Так у арыгінале. Павінна быць ***"The Year Book of Canada"*** — агульнаканадыйскі штогадовы статыстычны даведнік, які публікаваўся ад 1867 г.

Апраўдайце гэты назоў! і адкажэце на некаторыя пытаньні. Менавіта я Вам ужо ў папярэднім лісьце напамінаў аб статыстыцы Беларусоў у Канадзе і сяньня яшчо раз хачу закрануць гэту справу! У ўкраінскай газэце "Новы Шлях"[5] як-бы на маё цьверджаньне за 17.1 г. г. была памешчаная малая спраўка: сколькі прыбыло і якіх эмігрантаў за апошнія гады ў Канаду. (Выразак залучаю Вам.) У ёй пра Беларусоў нічога няма!!!

Ці іх сапраўды няма???! Яны ёсьць! І ёсьць прыехаўшыя як Беларусы! А пагэтаму я прапаную Вам абгаварыць гэта ў Упраcredit і разаслаць з некаторымі парадамі адрас міністэрства, у якое павінен зьвярнуцца кажны Беларус прыехаўшы ў Канаду Беларусам з запытаньнем: куды яго прыдзялілі, ці да Пэрсаў, ці да Туркаў і чаму яго не падалі ў статыстыцы як Беларуса?

Я думаю, і маю на гэта некаторыя даныя, што тут работа Расейцаў! Ды і Украінцы з Палякамі ад гэтага не адстаюць!

Гэта іх мара, каб нас не было. Дык і ім-бы нейкі кус Палісься прыпаў-бы.

Дык не адкладаючы! абгаварыце гэту справу. Далей цягнуць нельга!

Мы пэўна пад рубрыкай Маскалёў. А іхная доля ў будучым канфлікце[6] — гэта доля Японцаў другое сусьветнае вайны, каторыя мусілі пакідаць Брытыйскую Калюмбію, як Немцы *"Zemi Odzyskane"*[7]!

Перачытваючы "Б[еларускі] Эм[ігрант]", я надоечы натрапіў на малую заметку, у якой гаварылася, што Вы чыталі рэфэрат пра "Сучасную Беларускую Літаратуру". З тае прычыны, што я 25-га лютага г. г. буду чытаць у Украінскай Вольнай Акадэміі[8] (філія Вініпэг) рэфэрат на гэтую самую тэму, я ветліва прасіў-бы Вас надаслаць мне Ваш рукапіс, зь якога я, магчыма, што скарыстаў-бы. Магчыма, не паўстала-б разьбежнасьць поглядаў, зь якіх, калі яны паўстануць (а я думаю, што будуць, калі я не пазнаёмлюся з Вашай працай), могуць пасьмяяцца чужынцы.

А, здаецца, прафэсары славістыкі будуць з Торонто.

Дык калі маеце магчымасьць, надашліце неадкладаючы! Ужо пра даклад прэса агаласіла!

---

[5] ***"Новий шлях"*** — украінская газэта, якая выходзіць у Канадзе ад 1930 г. У 1942—1974 гг. выдавалася ў Вініпэгу.

[6] На пачатку 1950-х гг. у асяродзьдзі эмігрантаў было распаўсюджана перакананьне пра немінучы хуткі пачатак трэцяй сусьветнай вайны, у якой Захад (найперш ЗША) будзе ваяваць з Савецкім Саюзам.

[7] ***"Zemie Odzyskane"*** — назва ўсходненямецкіх тэрыторый, якія пасьля Другой сусьветнай вайны паводле пастановы Патсдамскай канфэрэнцыі былі перададзеныя Польшчы.

[8] Маецца на ўвазе **Украінская вольная акадэмія навук** (*Українська вільна академія наук*) — украінская навуковая арганізацыя, заснаваная ўкраінскімі навукоўцамі ў эміграцыі ў 1945 г.

Было-б добра, каб Вы прыслалі, калі ў Вас ёсьць, “Каханы горад” Юстапчыка[9], “Лебедзь чорная” Крушыны[10], “Сіла гневу” Салаўя[11], “Мы” Хмары[12], “Выбраныя вершы” Арсеньневай[13] і некулькі нумароў 2-га і 3-га нумару часапісу “Сакавік”[14]. Я думаю зрыхтаваць столік (крамку) нашай сучаснай літаратуры. Кніжак больш за 7 экзэмпляроў не надсылайце.

Свайго часу я прасіў В[алера] Навіцкага[15], каб ён мне прыслаў брашур *“Byelorussia under Russia Occupation”*[16], і ён мне некулькі надаслаў. Аднак-жа яны ўсе разышліся, і я прасіў-бы Вас зрабіць інтэрвэнцыю ў Сп. Навіцкага, хай ён надашлець мне яшчэ з 30-ць. Ён нават абяцаў, але штось не прысылаець.

Вы пэўна чыталі ў 2-м (бо трэцяга я яшчэ не бачыў!) нумары *“Баявая Ўскалось”* артыкул “Чужая “помач”” — Язэп Яшчур, у якім аўтар крытыкуе працу Н. П. Вакар-а[17], зьмешчаную ў *“The American Slavic and East European Review”* за кастрычнік 1949 г.,[18] даказваючы, што той прапануе ўмест *Whiteruthenia* называць нашу Бацькаўшчыну — *Belorossia*. Магчыма, Вы з артыкулам сп. Вакара знаёмыя і лепш ведаеце, чым я, бо я яго яшчо не чытаў, я толькі ведаю крытыку Сп. Акулы ў “Б[еларускім] Э[мігранце]”, што Вакар прапануець

---

9 Маецца на ўвазе выданьне: Юстапчык, С. [Адамовіч, Антон]. Каханы горад: Завязка раману. [Остэргофен]: “Сакавік”, 1948. 81 с.

10 Маецца на ўвазе выданьне: Крушына, Рыгор. Лебедзь чорная: Вершы. [Рэгенсбург]: Беларускае выдавецтва “Пагоня”, 1947. 62 с.

11 Маецца на ўвазе выданьне: Салавей, Алесь. Сіла гневу. Лірыка (1937—1947). [Остэргофэн], 1948. 96 с.

12 Маецца на ўвазе выданьне: Хмара, Сяргей. Мы: Вязанка вершаў. Літаратурная сустань “Баявая Ўскалось”. [Нямеччына]: выданьне супалкі “Баявая Ўскалось”, 1949. 27 с.

13 Маецца на ўвазе выданьне: Арсеньнева, Натальля. Выбраныя вершы: Зборнік вершаў. Ватэнштэт, 1947. 31 с.

14 **“Сакавік”** — літаратурна-грамадзкі часопіс, які выдаваўся ў Остэргофэне ў 1947—1948 гг. пад рэдакцыяй Антона Адамовіча. Усяго выйшла 3 нумары.

15 **Валер Навіцкі** (1920—2001), грамадзкі дзеяч. Закончыў Слуцкі пэдтэхнікум, працаваў настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі старшы зьвязовы СБМ (Грэскі раён). Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Ад канца 1940-х гг. жыў у Канадзе, быў сябрам ЗБК.

16 Маецца на ўвазе выданьне: Byelorussia (Whiteruthenia) under Russian occupation. London: Association of Byelorussians in Great Britain, Ltd., 1949. 5 p.

17 **Нікалас Вакар** (анг. *Nicholas P. Vakar,* 1894—1970), амэрыканскі дасьледнік, аўтар працы *“Belorussia: The Making of a Nation”* (Harvard U. Press, 1956).

18 Тут маецца на ўвазе артыкул: Vakar, Nicholas P. The name “White Russia” // American Slavic and East European Review. V. 8. 1949. P. 201—213.

*Byelorussian* уместа *White Russia*, і да гэтага я яшчо хачу дадаць, што я бачыў у альманаху (гадавіку) *“Statesman”*[19] за 1950 г. малы артыкул пра нас, на канцы якога як бі[блі]яграфію падаецца кніжка Вакара “*Byelorussi*a — зарысы нацыі” 1950 г.[20]. Гэтае кнігі я таксама не чытаў. Не нашоў у бібліятэцы. Хоць шукаў! Затое-ж я сяньня нашоў нешта другое. Менавіта: у Лёндане вышла *Chambers Encyklopedy*[21]-я, у якой *Max Beloff*[22], *B. Lith., M. A., F.R. Hist. S. Reader in Comparative Study of Institutions, University of Oxford* за словам *Constitution* (Канстытуцыя) у 4-м томе *“de facto”* завець нас *Belorossia*! Слухаючы яго за словам *Frag* (сцяг) *Alfred Neubecker*[23], *Dr. Philolohii*, Гэральдыкі, Пісьменьнік і Мастак, падаець таксама *Belorossia*.

Уся гэтая “навука” для нас зьяўляецца вельмі небясьпечнай. А па гэтаму я прапаную Вам неадкладна зараз-жа пайсьці ў бібліятэку, адшукаць за 1950 г. вышэй памянутую Энц[ыкляпэдыю] і напісаць грунтоўны абаронны артыкул з грубым загалоўкам «Калі не могуць назваць *“Северо западным Краем”* — дык называюць *“Byelorussian”* — але толькі не Беларусы» ці штось у гэтым духу.

Хачу яшчэ сказаць, што *Dr. Neubecker* зьяўляецца аўтарам кнігі “Сьцягі ўсяго сьвету”[24], у якой пра наш бел-чырвона-белы нічога не зазначана. Я па майму звычаю буду пісаць прыватныя лісты да *Maxa Beloff* і *Neubeckera*. Першага хачу вылаяць, а другому хачу паказаць яго нявуцтва. Аднак мне не стае (каб гэтага апошняга паўчыць) кнігі

[19] Маецца на ўвазе выданьне: The Statesman`s Year Book. Statistical and Historical Annual of the States of the World for the Year. London, 1950. Тут на с. 1451—1453 пададзены тэкст *“Withe Russia (Byelorussian Soviet Socialist Republic)”*.

[20] У згаданым выданьні падаецца спасылка на: Vakar (N. P.). Byelorussia: the rise of a nation. Cambridge, Mass., 1950. Аднак такой кнігі не знойдзена ў бібліятэках. Праца Нікаласа Вакара *“Belorussia: The Making of a Nation”* пабачыла сьвет толькі ў 1956 г. У 1950 г., магчыма, быў нейкі праект выданьня, на што й спасылаўся аўтар тэксту пра Беларусь у *“The Statesman`s Year Book”*.

[21] Маецца на ўвазе ***“Chambers’s Encyclopaedia”*** — заснаванае ў 1859 г. братамі Вільямам і Робэртам Чэмбэрсамі адно з найважнейшых англамоўных энцыкляпэдычных выданьняў. У 1950 г. пабачылі сьвет 15 тамоў новага выданьня гэтай энцыкляпэдыі.

[22] **Макс Белаф** (анг. *Max Beloff,* 1913—1999), брытанскі гісторык і палітычны дзеяч, барон. Аўтар шэрагу прац па міжнародных дачыненьнях і паліталёгіі.

[23] Маецца на ўвазе **Отфрыд Нойбэкер** (ням. *Ottfried Neubecker,* 1908—1992), нямецкі геральдыст і вэксілёляг. Аўтар шматлікіх публікацыяў, прысьвечаных геральдыцы й сьцягам.

[24] Маецца на ўвазе выданьне: Neubecker, Ottfried. Die Länderwappen der ganzen Welt. [Berlin-Pankow, 1933]. 31 s.

Гэнэрал-маёра К[астуся] Езавітава[25] "Белорусы і Палякі"[26], у якой ёсьць фатаграфія гродзенскай аліянцкай камэндатуры, зь якой у 1918 г. з балькону павяваюць тры сьцягі: ангельскі, амэрыканскі і наш бел-чырвона-белы. Можа ў каго з Вас там яна ёсьць? Я перафатаграфаваў-бы і выслаў яму. Няхай-бы паглядзеў на мінулае!

Вы, можа, скажаце, чаму я сам не напісаў пра гэта нічога? Дык мне пісаў Сп. Акула, што нічога зьмешчанага ня будзець, што я напішу, і па гэтаму я толькі прапаную Вам.

Чакаю на адказ.

Жыве Беларусь!

*Кастрычніка 29-га дня 1950.*

Пав[ажаны] Сп. Грыцук!

Я сяньня пазнаёміўся з Вашым адказам на наш ліст, крыху хацеў-бы падзяліцца з Вамі сваімі асабістымі думкамі. Менавіта: высылаючы Вам свой заклік, мы ня мелі ніякага намеру яго друкаваць. Вы, пэўна, спытаецеся, чаму? Бачыце, надрукаваўшы такі заклік у газэце, ён-бы ня быў заклікам, а нагонкай. Вораг адразу сказаў-бы: наганяюць савецкім спосабам і г. д. Наш заклік быў спружынай, укрытай у канверце, якая мела крануць і, мне здаецца, кране ўсё наша грамадзтва перад новай небясьпекай. Я думаю, што гэта была саўсім не наша работа. Гэта павінна было выканаць САБЭ[27], Міністэрства Унутраных Спраў БНР ці гэта-ж Міністэрства БЦР ці якая-колечы з другіх вышэй сябе падымаючых і на большае месца пратэндуючых нашых арганізацыяў, і ня сяньня, а перад прыездам яго ў ЗША. Мы нават чакалі такога ўсеагульнага закліку і, не дачакаўшыся, мы самі падалі яго, калі пабачылі, што ўсе прэзыдэнты і міністры да гэтага не падрыхтавалі беларускай публічнай апініі. Вы, можа, спытаецеся: а чаму Вы раней гэтага не рабілі? Дык як я ўжо зазначыў, гэта не было нашай працай. Было-б вельмі непрыгожа нам, калі-б мы папярэдня гэта зрабілі, і наш заклік дзе-небудзь сустрэўся з заклікам высокапастаўленых, які мы думалі яны разашлюць. Сяньня-ж, калі мы пабачылі, што ў нас прэзыдэнты і міністры толькі для ўнутранай сваркі, мы паслалі гэты заклік і яшчо ўсім вышлім

[25] **Кастусь Езавітаў** (1893—1946), вайсковы й грамадзка-палітычны дзеяч.

[26] Маецца на ўвазе выданьне: Езовитов, Константин. Белорусы и поляки: документы и факты из истории оккупации Белоруссии поляками в 1918 и 1919 годах / пер. с белорусского К. Езовитова. Ковна: Изд[ательство] им. Ф. Скорины, 1919. 124 с.

[27] **САБЭ — Сусьветнае аб'еднаньне беларускай эміграцыі** — арганізацыя, створаная на 1-м Сусьветным зьезьдзе беларускай эміграцыі ў Парыжы ў сьнежні 1948 г. для каардынацыі дзейнасьці беларускіх асяродкаў у сьвеце. Стварэньне было ініцыятывай Міколы Абрамчыка.

менш больш такі ліст. Усе нашы выдавецтвы да гэтага дня павінны былі мець падрыхтаваныя грошы і пасьля прамовы неадкладна [надрукаваць] адумысловыя выданьні, прысьвечаныя барацьбе нашага народу супроць Палякаў у Зах[одняй] Беларусі. Хмары віснуць над савецкай турмой. Развал прадбачваецца, і апінія сьвету павінна быць добра падрыхтаваная адносна нашага пытаньня ў Заходняй Беларусі. Мы не маем лішніх сыноў, якія-б пралівалі кроў з Ляхамі.

Ваша прапанова адносна нашай прапановы выданьня кнігі, я думаю, ня можа быць зрэалізавана. Чаму? Мы тут ня маем адпаведных гістарычных дакумэнтаў. У нас ёсьць толькі 6-ць бібліятэк у месьце. Зь якіх у трох (большых) я ўжо пераглядзіў усе кнігі. У якіх знайшоў вельмі марны матэрыял адносна нас. Кніг з шырэйшым асьвятленьнем нашай вызвольнай працы я тут не знайшоў. Пры нагодзе мушу Вам сказаць, што ў аднэй кніг, а менавіта *"Poland Key to Europe"*[28], напісанай праз *Raymond Leslie Buell*[29], я сустрэў выдзертыя лісты, дзе гаварылася пра незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. Ад 66 бал[ёнкі] да 79-й было пустое месца. А кніга была новая. Сьляды бандыцтва выразныя. Так тут робяць ворагі. Я ўважаю, што гэтым выданьнем трэба было-б заняцца Беларусам Нью Ёрку. Там маса бібліятэк, не толькі ў ангельскай мове, але і ў славянскіх мовах. Там ёсьць гадавікі нашых газэт, польскіх, літоўскіх. Там ёсьць прамовы нашых паслоў у Польскім Сойме. Ёсьць пастановы беластоцкага зьезду, там ёсьць усё, што патрэбна да гісторыі нашага адраджэнскага руху. Кніга павінна браць пачаткі ад развалін расейскай турмы старога тыпу і канчацца падрыхтоўкай беларускай (рацыя стану) нашай дзяржаўнай думкай, да адбудовы дзяржавы на развалінах расейскай турмы новага тыпу. Нашы сучасныя пратэсты (гэта значыць, новай эміграцыі) павінны быць толькі эпілёгам. Мы стварылі, Вы зьнішчылі. Мы пратэставалі ў Сойме, у Жаневе, на зьезьдзе меншасьцяў у Лізе Народаў[30], у Беластоку[31], на другім Кангрэсе[32], мы пратэстуем сяньня.

---

[28] Buell, Raymond Leslie. Poland: key to Europe. New York, 1939. 372 p.

[29] **Рэйманд Лэсьлі Буэл** (анг. *Raymond Leslie Buell,* 1896—1946), пэдагог, дасьледнік міжнародных дачыненьняў. У 1933—1939 гг. быў прэзыдэнтам *Foreign Policy Association.*

[30] **Ліга нацый** — міжнародная арганізацыя, заснаваная ў выніку Вэрсальскай мірнай дамовы з мэтамі раззбраеньня, прадухіленьня ваенных дзеяньняў, гарантаваньня калектыўнай бясьпекі, урэгуляваньня спрэчак паміж краінамі шляхам дыпляматычных перамоваў, а таксама паляпшэньня якасьці жыцьця на планэце. Дзейнічала ў 1919—1946 гг.

[31] Магчыма, маецца на ўвазе **Народны сход Заходняй Беларусі**, які адбыўся 28—30 кастрычніка 1939 г. у Беластоку і на якім прынялі рашэньне Заходняй Беларусі ўвайсці ў склад БССР.

[32] **Другі Ўсебеларускі кангрэс** — зьезд прадстаўнікоў беларускага народу, які адбыўся 27 чэрвеня 1944 г., ва ўмовах нямецкай акупацыі Беларусі,



Мікола Сільвановіч

Да гэтага трэба гісторыя і статыстыка, якой тут нельга знайсьці, у Вініпэгу, ды і ў цэлай Канадзе. Гэта ёсьць толькі ў Злучаных Штатах Амэрыкі. І там гэта трэба выдаваць. Толькі там.

Заканчваючы гэта ўсё, я хацеў-бы Вас запытацца: ці не было-б магчымым, каб Вы выслалі мне сотню кніжак[33] М[іколы] Абрамчыка[34]. Я думаю пайсьці зь імі ад бібліятэкі да бібліятэкі, ад *"Book store"*[35] да рэдакцыі, і распрадаваць. Мне здаецца, што гэта не дрэнна пашло-б. Як там у Вас, ці Вы ўжо прадавалі іх у такі спосаб? Мне думаецца, што гэтак вельмі хутка можна іх распрадаць. Высылаючы сотню (калі Вы згодзіцеся), далучыце лёнданскую брашуру, бо без яе Беларусі тут не знаюць. Хоць гэта апошняя зьяўляецца з недарэчнасьцямі, як, напрыклад, *"Прызнаньне Беларускай Дзяржавы Польшчай"*, але як лепшай няма, то хай будзець хоць гэта. Пішыце!

Жыве Беларусь!

М[ікола] Сільвановіч.

PS. Пасьля ўсяго хачу падзяліцца заўвагамі адносна кніжкі Прэз[ыдэнта] БНР М[іколы] Абрамчыка *"I Accuse the Kremlin of Genocide of My Nation"*. 13325 ахвяр. Я думаю, што з такой лічбы можна было-б выбраць беларускія прозьвішчы, а не канглямэрат нейкіх польскіх, латышскіх, эстонскіх, казацкіх і іншых. Прачытаўшы такія прозьвішчы, як Станіслаў Эдуардовіч Гронскі (*G* у нашай мове няма, і яно павінна пераводзіцца як *H*, з *Halperyna* не рабіў *Galperyna*, а з *Hronskaha* зрабіў *Gronskaha*). Закрэўскі, Сігізмунд Сігізмундавіч і другія, я ня думаў, каб хто паверыў, што..!!! *"But in Soviet Byelorussia Polish national minority almost did not exist"*[36]. Да гэтага пераконваньня сьвету аб беларуско-

---

у Менску. Падчас яго была абвешчаная незалежнасьць краіны ад Расеі, а Беларуская Цэнтральная Рада называлася пераемніцай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

33 Маюцца на ўвазе брашура Міколы Абрамчыка *"I accuse the Kremlin of genocide of my Nation. Based on the secret documents of the Military Prosecutors and N.K.V.D. of the U.S.S.R."*, выдадзеная ў Таронта на сродкі Згуртаваньня беларусаў Канады ў 1950 г.

34 **Мікола Абрамчык** (1903—1970), палітык і грамадзкі дзеяч. Ад 1947 г. прэзыдэнт БНР. Жыў у Парыжы.

35 ***Bookstore*** (анг.) — кнігарня.

36 ***"But in Soviet Byelorussia Polish national minority almost did not exist"*** (анг.) — *"Але ў Савецкай Беларусі польскай нацыянальнай меншасьці амаль не існавала"*.

сьці Тадэўша Касьцюшкі[37], пра якога ведаюць як пра Паляка, шмат абніжаваець аўтарытэт і вартасьць дакумэнту.

Праўда, гэтым страляюцца два зайцы, трэба, каб напісалі Латышы, Палякі, Літоўцы, Жыды, Казакі і прочыя, што ў выданай кніжцы Прэзыдэнта экзыльнага Ураду БНР падаецца пра забойствы Латышоў, Палякаў і прочых. Рэкляма аўтару ды яшчо з словам Прэзыдэнт — вялікая. Беларускай Дзяржаве і Народу з гэтага нічога няма карысьці, а толькі шкода. Бо Беларусь не канглямерат, а маналіт, як мы добра ведаем. Чытаючы кніжку, чужынец падумаець, што ў нас сапраўды народны калхоз, як яго і прадстаўляюць Палякі і Маскалі. Добрая рэкляма толькі за рахунак ўсенароднага здабытку, за рахунак нацыі! Калі-б Вы мне надаслалі адрэс Сп. Прэз[ыдэнта], то я буду Вам удзячны.

Паважаны Сп. Сільвановіч!

Дзякую за ліста, высланага мне з нагоды майго адказу на Ваш заклік. Як я ужо пісаў, заклік Ваш я падаў да ведама абежнікам да ўсіх аддзелаў і прадстаўнікоў ЗБК. Ліст-жа Ваш я даў прачытаць сябрам Управы ЗБК. Каб паведаміць усю калёнію нашу ў Торонто, трэба было-б зьбіраць большую сходку сяброў ЗБК Торонто і там хіба яго прачытаць, але гэта ёсьць не маё ужо заданьне, а заданьне старшыні Аддзелу ЗБК Торонто, якім зьяўляецца сягодня сп. Чорны[38]. Са зьместам Вашага ліста я яго пазнаёміў. Ліста Вашага так з рук да рук пусьціць ня можна, бо Аддзел ЗБК Торонто налічвае сягодня больш 60 чалавек, і ліст чытаўся-б поўгода.

Што датычыць маіх асабістых поглядаў, то я з Вамі згодны. Згодны з патрэбамі бараніць цэласьці нашых межаў, згодны з поглядам на “міністраў” і г. д. Ня ведаю, аднак, чы Вы зьвярнулі ўвагу на тое, што Амэрыцы ці наагул Захадові ня трэба даказваць аб тым, што Зах[одняя] Беларусь не павінна належыць да Польшчы, бо яны гэта ведаюць ад 1918 г. Яны клічаць сапраўднай граніцай Польшчы на ўсходзе лінію Кэрзона[39], і такое іх становішча сягодня. Гэта ведама ад афіцыйных

---

[37] **Тадэвуш Касьцюшка** (1746—1817), ваенны інжынэр і грамадзкі дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік вызвольнага паўстаньня 1794 г., нацыянальны герой Беларусі, Польшчы й ЗША.

[38] **Язэп Чорны** (06.01.1924—04.03.2005, Таронта, Канада), грамадзкі дзеяч. Адукацыю настаўніка атрымаў у Беларусі. У 1949 г. прыбыў у Канаду. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады.

[39] **Лінія Кэрзана** (ад імя міністра замежных справаў Вялікабрытаніі ў 1919—1924 гг. Джорджа Кэрзана, 1859—1925) — умоўная лінія мяжы з Польшчай, прапанаваная кіраўніцтвам Антанты ў 1919 г. У 1945 г. на прапанову прэм’ер-міністра Вялікабрытаніі Ўінстана Чэрчыля лінія Кэрзана была ўзятая за аснову ўсходняй мяжы Польшчы зь невялікімі адхіленьнямі на карысьць Польшчы.

колаў Белага Дому і Оттавы. Колькі-б *Anders*[40] ня крычаў, з гэтага нічога ня выйдзе, бо яны яго ня слухаюць. Безумоўна, ягоная прамова ня можа быць нашай прэсай прамоўчаная, і мы даём яму належны адказ. Пра Вільню, аднак, як беларускі горад, а не літоўскі (палякаў выключаем) трэба пісаць ня толькі папулярныя артыкулы, але і навуковыя. Большую працу на гэтую тэму піша сягодня Папуцэвіч[41]. Яму ўдалося натрапіць на цікавыя дакумэнты. Аб гэтым было ўжо многа пісана. Я сам пісаў на гэту тэму кілька разоў у ўкраінскай прэсе і сьцягнуў на сябе абураньне і пратэсты літоўскіх колаў Канады.

Я думаў, што Вы хочаце гэтае ўсё сабраць у адну кніжку і, улучыўшы да гэтага найнавейшыя пратэсты, выдрукаваць у ангельскай мове. Як я зразумеў, Вы маеце на гэта грашовыя фонды. Мы, напрыклад, ня маем жадных фондаў, бо ўсё паядае газэта "Б[еларускі] Э[мігрант]".

Дзякую Вам за вестку аб кніжцы *"Poland key to Europe"*, я пастараюся знайсьці яе ў Торонто.

Сотню кніжак Абрамчыка Вы атрымаеце. Дзякую за ахвяраваную дапамогу ў распродажы яе. Дзякую таксама за купленую кніжачку лятарэі ЗБК. На вялікі жаль, Вы нічога ня выгралі. З Торонто ніхто нічога ня выйграў. Усё пайшло на правінцыю. Добра хоць, што ў беларускія рукі. Радыя — Мантрэаль, фота-апарат — Садбуры.

Адрас Абрамчыка: *25 rue aves Quavillins Paris*.

Пішэце штось да "БЭ", но і да мяне асабіста.

Жыве Беларусь!

А[лесь] Грыцук.

PS. Расстарайцеся тым "крэтынам" з "Н[овага] Шляху" выясьніць, якую яны шкодную работу робяць, друкуючы пра літоўскасьць Вільні. Іншыя ўкр[аінскія] газэты маюць больш розуму.

*Winnipeg,*
19.2.1951 г.

Высокапаважаны Сп. Грыцук!

Вы можа таму не паверыце, але найгоршай для мяне весткай, якую я атрымаў у Канадзе, была вестка, што Вы *"...выпусьцілі з увагі..."* легалізацыю ЗБК і значэньне сучаснай усеагульнай перапісі ў Канадзе — для беларускай эміграцыі, гэтага краю!

---

[40] **Уладыслаў Андэрс** (пол. *Władysław Anders,* 1892—1970), польскі вайсковы й палітычны дзеяч, у часе Другой сусьветнай вайны кіраўнік польскіх узброеных фармаваньняў, дзе было багата беларусаў. Пасьля вайны жыў у Лёндане, дзе ўдзельнічаў у польскім экзыльным урадзе.

[41] **Вацлаў Пануцэвіч** (сапр. **Папуцэвіч**, 1911—1991), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. Ад 1949 г. жыў у Чыкага, выдаваў шэраг рэлігійна-гістарычных часопісаў.

Я не разумею сяньня, і пэўна ніколі не змагу зразумець, як можа Старшыня на такія важныя здарэньні забывацца! (Выпусьціць з увагі гэта ёсьць недапушчальным праступкам, і ў свой час павінен быць пакараны праз беларускую эміграцыю ў Канадзе.)

Так, Высокапаважаны Спадару! Калі можа Вам здаецца, што большую карысьць маюць Беларусы ў Канадзе з Вашых сварак у Торонто, то прыміце да ведама: што ўсе так ня думаюць.

Думка Беларускага эмігранта сяньня поўнасьцю скіравана туды, дзе вырашаюць яго лёс, быць яму Беларусам ці чалавекам неакрэсьленай нацыянальнасьці. Гэта ёсьць у Оттаву, у Міністэрства Статыстыкі і Перапісі Насельніцтва. І Вы як старшыня ЗБК, арганізацыі, якая сказала: *"што прадстаўніком беларускага антыкамуністычнага грамадзтва ў Канадзе зьяўляецца толькі ЗБК…"*. (Рэз[алюцыя], адрэсаваная Прэмьер Міністру Фэдэральнага Ўраду ў Канадзе першым зьездам ЗБК "Б[еларускі] Э[мігрант]" Nr. 6/17/1949 г.) заяўляеце беларусу, *"што выпусьцілі з увагі"* такую важную рэч, якая адбываецца раз на дзесяць гадоў!

Як гэта можна? Як Вы ўяўляеце сябе як старшыню нацыі, якой нідзе *de jure* няма ў дзяржаве???

Вы мне нічога ня пішэце, але я думаю, што Вы нічога не падалі ў гэтым напрамку, хаця я Вам ліст паслаў 12.1.1951 г… Ліст, які напамінаў Вам заўчасу, што трэба рабіць. А трэба было неадкладна склікаць паседжаньня Камітэту, абгаварыць справу і выслаць матэрыял у Оттаву, каб нас як нацыю ўнесьлі ў перапісную лісту. Пра гэта ўкраінцы пісалі ў лістападзе. Украінцы, якія маюць шматтысячную этнічную групу… а мы?.. выпушчаем гэта з увагі і таўчомся ў цёмным завулку беларускага лакалізму. Мы павінны быць задаволеныя тым, што маем ЗБК, якога ніхто нідзе не прымае *de jure*. Бо як-жа прызнаць, дзе-ж этнічная беларуская група? Няма! І зноў на 10-ць гадоў ня будзе! І толькі вінавата ЗБК, якое пасягае на ўнівэрсалізм, а не выконвае элемэнтарных заданьняў. Цяжкая шапка Манамаха[42]. Але ўзяўшыся за гуж — цягні — і не кажы, што ня дуж. Так кажаць наша народная мудрасьць!

Вашы два наступныя пытаньні мы абгаварылі з Старшынёй БНК Сп. Галожынам[43] і поўнасьцю з Вамі згаджаемся. Толькі Вы, калі ласка,

---

[42] Маецца на ўвазе выраз *"Тяжела ты, шапка Мономаха"* з трагедыі Аляксандра Пушкіна "Барыс Гадуноў", які гаворыць пра цяжар адказнасьці ўладара за свой народ.

[43] **Герасім Галожын** (1896—?), грамадзкі дзеяч. Паходзіў са Слоніму. Пасьля Другой сусьветнай вайны быў лягеры *DP* у Міхельсдорфе (некаторы час камэндантам лягеру). На пачатку 1950-х гг. жыў у Вініпэгу й быў сябрам мясцовага Беларускага нацыянальнага камітэту. Пазьней выехаў у Брытанскую Калюмбію.

такі ліст прышліце не на маё імя, але на Ўправу БНК[44]. Мусеце ведаць, што ў нас рэпубліканскі строй, сход (веча) усё вырашае. А такі сход у нас будзець у сувязі з Сакавіковым Сьвятам 4.5. г. г., дзе і будзе зачытана прапанова, якая, я думаю, за малым адсоткам сабраўшчыхся, будзець поўнасьцю прынята!

Я думаю, што Вам трэба выслаць такія лісты і ў Мантрэаль, Садбур, Гамільтон і другія пункты, дзе жывуць Беларусы.

Гэта трэці зьезд павінен быць вялікім зьездам і поўнасьцю дэмакратычным. Я тут адважуся сказаць: рэарганізацыйным. ЗБК павінна быць пастаўлена на здаровыя фундамэнты ўсебеларускага аб'яднаньня! "Беларускі Эмігрант" павінен стаць усебеларускай газэтай. Выяўляючы на сваіх балёнках ідэалёгію беларускай незалежніцкай думкі. Ідэалёгію Беларуса й Дзяржаўнасьці, а не дзяржавы Астроўскага[45] ці Абрамчыка, якія няведама ці будуць лепшыя ад БССР. Зь іх не адзін не маець дзяржаўнай праграмы, не гаворачы аб канстытуцыі ці маніфэсьце.

Вашы заўвагі адносна рэдактара не павінны нас устрывожыць. Здаецца, там у Вас ёсьць людзі...

Дык склікайце сход, абгаварвайце і неадкла-дна пішэце на Ўправу Вашы прапазыцыі. Да 4.3. мы іх мусім мець.

Сяньня вяртаю Вам гэты ліст, які Вы мне прыслалі, з мэтаю, каб Вы маглі ведаць, пра што Вы нам пісалі.

У другім лісьце надашліце мне яго ўноў!

Дык чакаем!

Жыве Беларусь!

Спадару Сільвановіч!

Здаецца мне, што я Вас нічым не абразіў, і таму мне загадкай зьяўляецца Ваша нэрвознасьць у лісьце, дзе Вы ў найгрубшы спосаб мяне абражаеце. Не гавару ўжо аб тым, што Вы ня маеце права выступаць з такой крытыкай як ня сябра ЗБК, а сябра БНК, але й найэлемэнтарнейшая ветлівасьць не дапушчае такога тону ліста, як Ваш. Вы мне вярнулі майго ліста, як хлапчуку, каб не забыўся, што напісаў якуюсь дурніцу (*"каб Вы маглі ведаць, што Вы напісалі..."*). Думаю, што найлепшым адказам на Вашую заўвагу адносна перапісі быў-бы такі: *"Ня Вашае дзела, ЗБК ведае, што робіць"* — тагды Вы, напэўна, былі-б задаволеныя, а я не цярпеў-бы грубасьцяў. Наагул мяне зьдзіўляе тая нэрвознасьць усяе беларускае інтэлігенцыі, якая не дапушчае да свабоднае вымены думак. Усе думаюць, што хто больш лаецца і крытыкуе ў грубы спосаб, той "важнейшы". Наагул у Вашым лісьце самые не-

[44] **БНК** — Беларускі нацыянальны камітэт у Вініпэгу.

[45] **Радаслаў Астроўскі** (1887—1976), грамадзкі дзеяч, пэдагог, прэзыдэнт БЦР.

прыемныя сказы. Хоць-бы тое, што Вы вучыце, што старшыня павінен паведаміць свае аддзелы аб агульным зьезьдзе (sic!).

Дазвольце мне запрапанаваць Вам, каб у далейшым мы былі да сябе больш тактоўнымі і сябе больш шанавалі, тагды, напэўна, дойдзем да якогась ладу.

Мне Ваш ліст быў вельмі прыкры, бо я наагул не люблю як у прыватным, так і ў грамадзка-афіцыйным жыцьці ўсяго таго, што выходзіць за рамкі добрага тону.

Ліст, які Вы мне зьвярнулі, быў зоўсім прыватным лістом, і калі ён Вам "не спадабаўся", няхай ужо астаецца ў мяне. Прабачце мне за такі адказ, але ён іншым быць ня можа.

А ўсё-ж такі мы супрацоўнічаць можам!

З павażаньнем А[лесь] Грыцук.

*Winnipeg, 26.2.1951 г.*

Высокапаважаны Спадару Грыцук!

Я нецярпліва чакаў на Ваш ліст! У мяне ляжыць падрыхтаваная павестка дня нашага сходу, у якой, між іншым, ёсьць абзац: *"Зачытаньне ліста ЗБК"*, пра які я Вам пісаў у маім апошнім лісьце. Я думаў, што Вы сабе зможаце ўявіць мяне, як я чытаў Ваш ліст.

Я мог хутчэй спадзявацца, што дом заваліцца, у якім я прытуліўся ў чужыне — чым такога адказу!

Высокапаважаны Спадару! Ці Вы думаеце, што М[ікола] Сільвановіч у Вініпэгу зьяўляецца толькі патое, каб разпрадаў ці разпрапагаваў квіткі на лятарэю, газэту і ім падобную прапаганду. Каб унёс цагліну ў сяброўскі Выд[авецкі] Фонд "Беларускага Эмігранта"?

Калі так (а з ліста выходзіць што так!), то Вы, Высокапаважана Спадару, глыбака мыляецеся!!!

Я хачу не толькі выконаваць фізычна заабавязаньні эмігранта Беларуса ў Вінніпэгу, але я таксама хачу як сын вялікай беларускай эміграцыі сказаць кажнаму, у тым ліку і Вам, не акручваючы ў вату, пра тое, пра што, я думаю, неабходна ў даны мамэнт трэ гаварыць! Вы мяне не абразілі да сяньняшняга, і я Вас таксама! паміма таго, што Вы пішэце: *"...што Вы ў найгрубшы спосаб мяне абражаеце"*. Гэта няпраўда! Вы груба мыляецеся. Я, пішучы ліст, ніколі не зьбіраўся гэта рабіць і не спадзяваўся такой няўдзячнасьці з Вашага боку.

Вы пішаце: *"Не гаворачы ўжо аб тым, што Вы ня маеце права выступаць з такой крытыкай як ня сябра ЗБК..."*.

Высокапаважаны Спадару! Хто і калі забраў права ў вольнай канадзкай зямлі крытыкаваць сяброў беларускай эміграцыі? Скажэце, калі ласка?

Вы за кожным разам мне вытыкаеце, калі я што гавару пра справы ЗБК, што я не сябра ЗБК. А чаму ВЫ, калі ходзіць аб якія колечы

прапагандовыя ці матэрыяльныя справы, зьвяртаецеся да мяне і не пытаецеся ў мяне, ці я сябра ці не?

Вы мне як пахолку прысылаеце квіты лятарэі ці як роўнаму брату эмігранту? Скажыце, Высокапаважану Спадару?

Вы пішаце: *"...але й найэлемэнтарнейшая ветлівасьць не дапускае такога тону ліста, як Ваш..."*.

Я думаю, што гэта *"няветлівасьць"* мела дастатковую сьценку канвэрта, і яе ніхто не пабачыў. Гэта была не *"няветлівасьць"*, а праўда!

Вашу ветлівасьць можна было часта аглядаць на балонках "Б[еларускага] Э[міграната]" публічна, і я думаю, што Вам як спаўдзельніку ніхто ніколі не пісаў лістоў, што Вы яго абразілі.

Калі я вярнуў Ваш ліст, дык толькі з тае прычыны, каб Вы маглі яго паказаць на сходзе Ўправы ЗБК. Каб Вы мелі поўны зьмест спраў на руках, пра якія нам хадзіла. І каб мы мелі тое самае ў тым лісьце, які мы прасілі Вас выслаць не Сільвановічу, але Ўправе БНК.

Я ўважаў, што Вы копіі не маеце, і Вам бяз гэтага ліст цяжэй будзе вытлумачыцца перад сябрамі Ўправы і для пісаньня другога на УБНК. Я ніякага намеру ня меў Вас абражаць. Я ўжо дарослы і ў хлопчыкі не гуляю.

Што да Вашага сказу, што *"Не Ваша дзела, ЗБК ведае, што робіць"*, я дадам: што яно ведае — але беларускія эмігранты ня ведаюць.

Вы пішаце: *"Наагул мяне зьдзіўляе тая нэрвознасьць усяе беларускае інтэлігэнцыі, якая не дапушчае да свабоднае вымены думак"*.

Высокапаважаны Спадару! Вы думаеце, што мяне не зьдзіўляець? Я так сама дзіўлюся, што зайшло з Вамі, што Вы забараняеце мне выказаць свабодна сваю думку.

Вы тыкаеце пальцам, што я не сябра ЗБК, Вы хочаце замкнуць мне рот, калі я сказаў чыстую праўду толькі Вам у лісьце! А што Вы сказалі-б, калі я гэтак напісаў-бы публічна?

Замкнуць, праўда? Адважыся несябра запытацца ў Старшыні ЗБК пра стан легалізацыі ЗБК і даведаўшыся пра незадавальняючыя поступы, скрытыкаваў...

Калі я пісаў пра аддзелы ЗБК, дык толькі патое, каб у канцы канцоў зьехаліся ўсе на трэці Зьезд ЗБК і палажылі крэс такой дэарганізацыі беларускай эміграцыі ў Канадзе.

Да гэтага мяне пацягнуў яшчэ Ваш сказ з апошняга лісту *"выпушчэньне з увагі"* перапісу насельніцтва, што таксама маглі выпусьціць з увагі. Калі мой ліст быў Вам прыкры, у якім было сказана проста ад душы праўда, то які-ж быў Ваш мне, у якім Вы мне пішаце, што гэта паўнейшая абраза без ніякай элемэнтарна ветлівасьці.

Падумайце!

Я таксама папрашу Вас, Высокапаважаны Спадару, адрозьніваць вольнае слова крытыкі ад абразы, хоць-бы яно і не сябрам ЗБК пісана.

Бо ўступіўшы ў ЗБК, я думаю, і Вы ведаеце, пісаць ужо ня трэба. *“Па бітве кулакамі не махаюць”*. Стаўся сябрам і патакай...

Я думаю, што Вы зразумееце, што я Вам нічога дрэннага не зьбіраўся ўчыніць сваім лістам, калі гэта ўсё прачытаеце.

Так-жа ў наступным лісьце разам з урадавым паведамленьнем надашліцё зьвернуты з добрай думкай Вам ліст.

Мы супрацоўнічаць можам і мусім! Час не цярпіць адкладу. 4-га ў нас сход, і Ваша прапазыцыя на ім павінна быць абавязковай, калі Вы за з’еднаньне Беларусаў у Канадзе?

Жыве Беларусь!

М[ікола] Сільвановіч.

*1.III.1951*

Высокапаважаны Спадару!

Насуперак усяму мне было прыемна атрымаць ад Вас апошні ліст. Як бачу зь яго, Вам, як і мне, залежыць на тым, каб мы маглі ў Канадзе стварыць сільну арганізацыю і тым самым прыложыць цаголку на вялікі аўтар будовы нашай Бацькаўшчыны. Спосаб, у які быў напісаны Ваш перадапошні ліст, чамусь насунуў быў мне пэўныя сумнівы. Не стараючыся далей аналізаваць формы Вашага перадапошняга ліста, а прыймаючы яго як выяў думак беларуса адносна бягучых нашых спраў, пераходжу над ім да дзённага парадку. Із свайго боку прашу прабачыць за неразуменьне інтэнцый тых, якіх Вы хацелі падаць. Можаце быць пэўнымі, што ніхто Вас ня лічыць толькі за выканаўца даручань, а доказам таго ёсьць гэта, што я з Вамі ўжо даўно вяду асабістую перапіску, парушаючы найважнейшыя беларускія справы ў Канадзе. Перасылаю Вам ліста, адрасаванага Старшыні БНК, які прашу выкарыстаць на сходзе.

Жыве Беларусь!

А[лесь] Грыцук

[далучана]

Адручна
Старшыня ЗБК,
Торонто
29.II.1951

Сп. Старшыня БНК, Вінніпэг.

Унутраная беларуская сытуацыя на ўсіх кантынэнтах сьвету стаіць пад знакам змаганьня да стварэньня адзінага фронту барацьбы за нашыя беларускія мэты.

Злашчасны падзел беларускае эміграцыі на два ваюючыя рухі стаіць гэтаму на перашкодзе. У большасьці выпадкаў найбольшыя стараньні ня могуць гэтае перашкоды зламаць. Ня вельмі адхілюся ад праўды, калі скажу, што Канада пад гэтым поглядам стаіць можа найлепш. Як мне ведама, існуе тут тры арганізацыі, а то БНК у Вінніпэгу, Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў у Торонто і ЗБК з асядкам галоўнай

управы таксама ў Торонто, а з аддзеламі і прадстаўніцтвамі па ўсёй Канадзе (даслоўна — Квэбэк, Онтар'ё). Між гэтымі арганізацыямі, дзякуй Богу, няма варажнечы. Між ЗБК і Вэтэранамі існуе цеснае супрацоўніцтва. Між БНК і ЗБК існуе хаця не афіцыйнае, але супрацоўніцтва таксама. Пакідаючы на боку Вэтэранаў, ЗБК і БНК маюць зблізжаныя сабе мэты дзеяньня (вэтэраны маюць сваё заданьне).

Бяручы пад увагу невялікую разьбежнасьць ідэялягічную і надзвычайную павагу міжнароднай сытуацыі, лічу, што было-б надзвычайна карысным, каб Канада стварыла адзіную сільную і вялікую арганізацыю, якая-б рэпрэзэнтавала ўсю антыбальшавіцкую эміграцыю ў Канадзе. Для шчырасьці мушу сказаць, што ЗБК стаіць на груньце ідэялёгіі БНР (Статут прыняты II зьездам). Гэта ня значыць, што ЗБК поўнасьцю пагоджваецца з дзейнасьцю сягодняшняга Ураду БНР, і гэта відавочна з нашае прэсы, аднак крытыка дзейнасьці ўраду не азначае крытыкі ідэялёгіі. ЗБК лічыць, што зьмяніць форму нашае будучае дзяржавы можа толькі воля незалежнага Беларускага Народу, так як воля нашага народу яе ўстанавіла. Воля Беларускага Народу выяўлена I Усебеларускім Кангрэсам, дала нам канстытуцыю (тры ўстаўныя граматы), і нашым сьвятым абавязкам [ёсьць] шанаваць гэтую волю аж да дня, калі наступны голас вольнага Беларуса яго ня зьменіць.

Мы можам крытыкаваць сягодняшні ўрад БНР, можам шмат з чым не пагоджвацца, мала таго, можам жадаць яго зьмены, але ідэялёгію 25 Сакавіка мяняць ня можам.

Сягодня большасьць сяброў Галоўнай Управы ЗБК стаіць у апазыцыі да цяперашняга ўраду БНР, але не да ідэялёгіі, [не] да самай ідэі БНР. Гэта ёсьць мая думка, і так ёсьць сяньня.

Галоўным кіраўнічым органам ЗБК ёсьць Агульны Зьезд. За 2½ месяцы гэты зьезд адбудзецца. Воля Зьезду накрэсьліць напрамкі ідэялягічнай лініі ЗБК на наступны год. Маёй думкай ёсьць, каб гэты зьезд быў дзейсным выявам волі якнайбольшай часткі беларусаў Канады, таму, думаю, было-б вельмі карысным, каб Ваша шанаваная арганізацыя змагла выступіць як праўны сябра ЗБК і тым самым прычыніцца да ўстанаўленьня ідэялягічнай лініі ЗБК на будучыню.

У сувязі з ростам ЗБК насьпявае таксама патрэба зьмены яго структуры арганізацыйнай. Статут наш вымагае паправак, і такія папраўкі будуць зробленыя. Над праэктам Статуту ўжо пачынае працаваць спэцыяльная камісія, якая будзе прыймаць праэкты, надсыланыя ёй ад розных сяброў.

На заканчэньне хацеў-бы падаць маю асабістую думку адносна супрацоўніцтва людзей у арганізацыі. Мне здаецца, што ў арганізацыі можуць супрацоўнічаць між сабой людзі розных палітычных перакананьняў. Калі большасьць перамагае, тады меншасьць пераходзіць да апазыцыі і стараецца свае перакананьні прышчапіць іншым, каб на наступным зьезьдзе здабыць большасьць і ўзяць кіраўніцтва ў свае рукі,

гэта ёсьць нармальны бег у дэмакратычных арганізацыях. Калі-ж ідзе справа аб нас у Канадзе, то мы маем больш спраў, што нас лучаць, ніж дзеляць, таму нам лёгка супрацоўнічаць. Толькі адкінуць аднабокасьць і дапусьціць большую талеранцыю другое думкі. Адкіньма вузка-партыйнасьць і шануйма другія палітычныя перакананьні, а ўжо шлях да супрацоўніцтва гатовы.

Калі-б Вы пагадзіліся злучыцца з ЗБК на груньце ўзаемнай талеранцыі думак і грамадзкай дзейнасьці, беларуская эміграцыя ў Канадзе стварыла-б арганізацыю, што была-б узорам для іншых краін і даказала-б, што ўсё-ж такі супрацоўніцтва магчымае. У гэтым выпадку таксама перасылайце свае заўвагі адносна статуту. Калі атрымаю ад Вас адказ, падам Вам адрыс статутовае камісыі.

Спадзяваючыся на пазытыўнае палагоджаньне справы астаюся з пашанай да Вас А[лесь] Грыцук.

Жыве Беларусь!

Вельміпаважану Спадару!

Ужо выйшаў чарговы нумар "Бел[арускага] Эмігранта". У ім зьмешчаны і Ваш артыкул аб Рыскім трактаце[46]. Прыкра, што троху за позна прыйшла справаздача аб сьвяткаваньні 25-га сакавіка ў Вінніпэзе і ня можна было яе зьмясьціць у гэтым нумары, бо нумар ужо быў зломаны. Зьмесьцім яе ў наступным нумары. Як відна з залучнікаў да Вашае справаздачы, сьвяткаваньне адбылося ў Вас вельмі ўрачыста і моцна расшырыла нашую справу сярод чужынцаў. Слава Вам за гэта.

Статыстычнае бюра з Оттавы адказала, што *"ў меру магчымасьці"* будзе старацца ўзяць пад увагу і палагодзіць нашыя патрабаваньні адносна перапісі.

19-га і 20-га мая г. г. адбудзецца III зьезд дэлегатаў і сяброў ЗБК у Торонто. Шкада, што так сталася і ня ўсе беларусы будуць выступаць супольным фронтам у Канадзе, бо ня будзе прадстаўнікоў Вашае арганізацыі. А зьезд будзе разглядаць вельмі важныя пытаньні, як *"устанаўленьне ідэялягічных напрамкаў працы ЗБК"* (пункт 1 другога дня) і зьмена статуту ЗБК (пункт 2 таго-ж дня), дзе патрэбная якнайбольш усестароньняя дыскусыя.

ЗБК выдала дзьве каляровыя паштоўкі з нагоды 25 сакавіка. Выглядаюць яны надзвычайна прыгожа і могуць быць выкарыстаныя пры розных нагодах, а іх зьмест такі, што могуць быць завешаныя ў рамке ў доме кожнага беларуса. Праект мастака Міравовіча[47] з Нью Ёрку.

---

[46] Маецца на ўвазе **Рыская мірная дамова** 1921 г. паміж РСФСР і Польшчай, паводле якой Заходняя Беларусь і Заходняя Ўкраіна адыходзілі да Польскай дзяржавы.

[47] **Пётра Мірановіч** (1902—1990), мастак. Вучыўся й да эміграцыі працаваў у Латвіі. Ад 1950 г. жыў у Нью-Ёрку.

Як адбыўся сход беларусаў у Вінніпэзе, аб якім Вы пісалі?

Наступны нумар "Бел[арускага] Эм[ігранта]" выйдзе каля 10 мая. Прысылайце матар'ялы з жыцьця бел[арусаў] у Вінніпэзе і натуры агульнае магчыма да 1-га мая.

Жыве Беларусь.

З пашанай А[лесь] Грыцук.

PS. Паштоўкі можна замаўляць па цане 20 ц з перасылкай у сп. Пітушкі[48].

*Winnipeg, 10.4.1951 г.*

Высокапаважаны Спадару Грыцук!

Калі я Вам не адказаў на Ваш апошні ліст, то гэта тлумачыцца толькі тым, што я ня меў часу. Відаць, што і Вы так зразумелі маё маўчаньне, бо я ўчора атрымаў ад Вас ліст, за які дзякую, і, не адкладаючы, хачу даць Вам адказ.

Менавіта шчыра Вам дзякую за Ваша лістоўнае прызнаньне нам Славы за Сакавік. У гэтым выяўляецца Ваша безстароннасьць і зразуменьне, што мы добра зрабілі. Другія-б у дух прызналі-б, але не напісалі-б пра гэта. Вы-ж напісалі і заслугоўваеце на найлепшы ўзор безстароннасьці для другіх.

Мы просім, калі будзець магчымасьць, зьмясьціце ў наступным нумары "Б[еларускага] Эмігранта"! Здаецца, што найбольш з трафу лёсу мы й сёлета ня будзем у Вас на Зьезьдзе. Пра прычыны напішам.

Ліст Ваш быў зачытаны на сходзе, і некаторай часткай грамадзтва быў цёпла стрэнуты, але з прычын (толькі з тых), што мы шырэй рыхтаваліся да Сакавіку, ня мог быць зьдзейсьнены. Аднак-жа маральна ён нас падтрымаў вельмі шмат.

Я ўпэўнены, што каб Вы напісалі ў Оттаву раней, усё-б было добра. Цяпер ужо позна!

Гэты ліст я Вам думаў напісаць учора, але з тае прычын адлажыў на сяньня, што думаў, атрымаю "Б[еларускага] Э[мігранта]", але, відаць, што з няведамых мне прычын (магчыма, за залегласьці) я яго не атрымаў, і пагэтаму ветліва прашу Вас надашліце мне:

а. Адзін нумар "Б[еларускага] Э[мігранта]".

б. Адзін нумар (у Вас пэўна ёсьць) 1(4) "Беларускай Трыбуны"[49], якой я не атрымаў з ЗША, і дзьве паштоўкі.

Зрабіце гэта, як у нас кажуць, *"не ў службу, а ў дружбу"*, за што буду Вам удзячны.

---

[48] Маецца на ўвазе Язэп Пітушка.

[49] **"Беларуская Трыбуна"** — газэта, якая выдавалася з жніўня 1950 г. да лістапада 1953 г. спачатку Злучаным беларуска-амэрыканскім дапамаговым камітэтам, потым — Беларускім выдавецкім фондам у ЗША. Рэдактары — Мікола Шчорс, Язэп Ляшчынскі (Міхась Кавыль). Выйшла 17 нумароў.

Мне прыкра пісаць Вам у гэтай справе, але я думаю, што Вы ведаеце аб Сп. С[яргею] Хмару[50]. Вось, я яму выслаў 2-а месяцы таму назад для "рэцэнзыі" брашурку "Мы пратэстуем", зазначыўшы, што ён, пазнаёміўшыся зь ею, неадкладна павінен мне зараз-жа зьвярнуць, чаго ён не зрабіў па сяньняшні дзень. Хоць знаў, што брашура была прызначана да 21 сакавіка (Рыскі трактат).

Як гэты паступак ацаніць Сп. Хмары, я ня ведаю і прашу Вас напішыце мне пра гэта крыху. Гэта надта не прыгожая справа. Мы ўжо выдалі яе па-ангельску.

Таксама жалюся Вам, што тры лісты выслаў Сп. Навіцкаму, каб прыслаў на Сакавік брашур *"Byelorussia Under Russia Ocupation"*, і ён не прыслаў ні аднэй!

Мы Вам за гэта не плацім, але мы Вам ніколі не адкажымся паслаць таго, што мы будзем мець таксама бязплатна. Я прасіў-бы Вас ветліва, каб і Вы нам надаслалі выразкі з англамоўных газэт пра сьвяткаваньне Сакавіка праз ЗБК у Торонто, гэта дасьць нам большую практыку і цясьнейшыя суадносіны.

Канчаючы гэты ліст хачу пажадаць усяго найлепшага ў працы на дабро Бацькаўшчыны — Беларусі.

Жыве Беларусь!

З пашанай

PS. Мы заарганізавалі "Гурток Мастацкай Самадзейнасьці Беларускай Народнай Песьні і Танцу" пры нашым Камітэце, які ў мінулую нядзелю даў і яшчэ маець даць некулькі канцэртаў Беларускай Народнай Песьні і Танцу ў Славянскіх дамох г. Вінніпэгу, і калі добра пойдзе, то і ў правінцыі. Першы канцэрт быў вельмі ўдалы. У гэтым лісьце залучаю Вам рэклямную лістоўку ў украінскай мове. Пазнаёмцеся. Праграмку надашлём пазьней.

М[ікола] С[ільвановіч]

Высокапаважаны Спадару!

Дзякую Вам за ліста і за словы прызнаньня адносна маёй безстароннасьці. Да ўсіх выпадкаў жыцьця, да ўсіх яго праяваў стараюся ў меру магчымасьці падыходзіць бестаронна асабліва-ж у працы грамадзкай. Як старшыні ЗБК мне аж ніяк не можна быць староньнім, асабліва на эміграцыі ў час такой нашай палітычнай неталеранцыі.

Наступны нумар "Б[еларускага] Э[міграната]" выйдзе каля 10 мая. З фінансамі ўсё круха, але ўжо значна лепш. Падтрымоўвае нас на духу таксама ўсеагульнае прызнаньне "Беларускаму Эмігранту" з розных старон сьвету.

[50] **Сяргей Хмара** (сапр. **Сіняк**, на эмігр. **Марыян Зіняк**, 1905—1992), паэт, публіцыст, грамадзкі дзеяч, выдавец. Жыў у Канадзе.

У маёвым нумары будуць зьмешчаны вашыя справаздачы з Сакавіка і з аматарскага гуртка бел[арускай] песьні і танцу.

Матэрыялы, якія Вы пераслалі Хмары, ён перадаў мне. Аб Рызе я зьмясьціў у газэце (Вы ўжо газэту маеце). Зь іншымі матэрыяламі я ня ведаў, што рабіць, бо мне Хмара нічога не сказаў. "Мы пратэстуем" плян ёсьць добры, толькі трэба апрацаваць.

Прабачце, што не пераслаў яго Вам раней, але сп. Хмара нічога мне не гаварыў, а ад Вас я ня меў ліста.

28 і 29 мая адбудзецца III зьезд сяброў і дэлегатаў ЗБК. Я больш не хачу кандыдаваць на старшыню і цяпер ламаю сабе галаву, каго-б запрапанаваць на маё месца, каб не папсаваў таго, што зробленае. Аб новай Управе цяжка гаварыць, бо невядома, што пакажа Зьезд.

Перасылаю Вам па 10 паштовак, выданых ЗБК, можа сябры БНК купляць іх, каб выслаць на іх сьвяткавыя пажаданьні. Яны ёсьць такія прыгожыя, што напэўна будуць у рамках у хаце кожнага беларуса. Цана паштоўкі 20 ц. Калі-б было мала, напішэце, прышлем больш. На Канаду прызначана па 200 штук (усіх па 500).

Прабачце за пісьмо, але маю выкручану на рабоце руку і ледзь пішу.

З паважаньнем А[лесь] Грыцук.

*Вініпэг, 27.4.1951 г.*

Высокапаважаны Спадару Грыцук!

Шчыра Вам дзякую! Атрымаў ліст, паштоўкі, газэту "Беларуская Трыбуна" і высланую на рэцэнзыю Сп. С[яргея] Хмару брашуру "Мы пратэстуем".

Вельмі шкода што Вы нічога не паправілі ў ёй. Бо я нічога ў ёй не бачу, што можна было-б паправіць, і такую думаю, пераклаўшы на ангельскую мову, выдрукаваць.

Мяне вельмі патрывожыла вестка, што Вы ня хочэце кандыдаваць на Старшыню ЗБК.

Гэта ня добра! Вы павінны кандыдаваць, і Вас павінны выбраць. Бо каго-ж? Каго можна знайсьці больш талерантнага?

Кандыдуйце! Выбяруць... і працуйце!

За прададзеныя паштоўкі (7-м штук) высылаю сяньня грошы і гэтым тут прашу Вас, будзьце ласкавыя і ўплаціце іх тым, каму яны належаць. Бо я нават ня ведаю, хто іх у Вас зьбірае. За што колькі належыцца, глядзіце ў залучаны рахунак. Шлючы праз Вас ашчаджаю 8 цэнтаў.

Сяньня разам высылаю Вам адзін атрыкул "Бібліяграфія", які-б Вас вельмі прасіў зьмясьціць у гэтым нумары "Бел[арускага] Эмігр[анта]"[51]! Дык паглядзіце!

---

[51] Артыкул быў апублікаваны. Гл.: Вярба, Мікола. Бібліяграфія // Беларускі Эмігрант. № 3 (36). 19.05.1950. С. 3.

За зьмешчаны артыкул у папярэднім нумары шчыра дзякую. Ён быў якраз на часе.

У нас вялікія нашы пляны крыху разпаліся. Паехала “братства” на сэзонавыя працы. А Сп. Галожын недзе аж ў Вікторыю, *BC*[52] на *“gienek”* за кухара.

Я думаю, што Вы знойдзеце некалькі брашурак *“Belarus under Russian Ocupation”*, яны мне вельмі патрэбныя. Дык, калі ласка, паглядзіце.

Пішыце, чакаю.

Жыве Беларусь!

З пашанай М. Сільвановіч

Вельміпаважаны Спадару!

Прабачце, што доўга не пісаў. Апошнія падзеі ў ЗБК не далі мне на гэта часу. Коратка Вас аб гэтым паінфармую. Па-першае, перад Зьездам сп. Акула адмовіўся ад рэдагаваньня “Бел[арускага] Эмігр[анта]”. Дымісыя яго была прынята, і ён уступіў. Я мусіў сам рэдагаваць газэту. Калі атрымаеце нумар, скажаце, як выйшло. Апошні нумар мае недахопы ў большасьці з тэхнічнага боку (брак “ў”). Рэчавы матэрыял магчымы. Гэта быў той пачатак барацьбы за ідэялягічны напрамак ЗБК, аб якім я Вам пісаў, а фінал якога разыграўся 19-га-20-га мая на III зьезьдзе ЗБК. Такога драматычнага зьезду я яшчэ ня меў і перажыў многа. Я асабіста атрымаў поўную сатысфакцыю, бо кожная спроба крытыкі мяне зь места выклікала на салі буру негадаваньня. Апісваць усіх перажываньняў і падзей ня буду Вам, бо зойме многа часу, але скажу толькі, што існаваньне ЗБК наагул вісела на валаску. Адносна ідэялягічнага напрамку ЗБК была прынята наступная рэзалюцыя: *“ЗБК зьяўляецца арганізацыяй апартыйнай. З ідэялягічнага боку ЗБК прытрымліваецца ідэялягічных напрамкаў Беларускае Народнае Рэспублікі, указаных ёю Актам 25-а сакавіка 1918 года”*. Гэта рэзалюцыя была прынята ўжо пасьля неімаверных маіх высілкаў, бо перад тым была прынята рэзалюцыя чыста аднабочна, якая гаварыла, што ЗБК падтрымоўвае сягоньняшнюю Раду і Ўрад БНР і зьвязвала арганізацыю чыста з аднабочна думаючымі людзьмі. Першую рэзалюцыю трэба было паваліць і прыняць другую, якую я Вам падаў. Прыкрай справай, што сталася на зьезьдзе, ёсьць тая, што ЗБК адмовілася выдаваць “Бел[арускага] Эм[ігранта]”. У далейшым яго будзе выдаваць сп. Акула і Навіцкі. Прадчуваю, што найстарэйшая газэта на Амэрыканскім груньце зыйшоўшы на вузкапартыйную лінію, перастане выходзіць з недахопу сродкаў, і ЗБК будзе змушана выдаваць другую газэту.

Новая Ўправа ЗБК складаецца з людзей абсалютна новых. Я астаўся старшынём (Вы маю ахоту да гэтага ведаеце). Супроць сваёй думкі

[52] ***BC*** (анг.) — Брытанская Калюмбія.

пагадзіўся я яшчэ раз прыняць старшынства, каб ратаваць ад разьбіцьця арганізацыю. Рэзалюцыя тая, што прайшла як абавязваючая, паможа мне, бо яна, здаецца мне, пазваляе знайсьці месца ў ЗБК людзям розных палітычных перакананьняў. Сп-ва Навіцкі, Акула, Ганько[53], Мікуліч і Камароўскі[54], сябры папярэдняй Гал[оўнай] Управы, да новай не ўвайшлі. Із старых, акрамя мяне, увайшоў сп. Пітушка, рэшта новыя людзі.

Артыкул Ваш і карэспандэнцыя аб 25 сакавіка зьмешчаны. Далей адносна артыкулаў і наагул у справе “Бел[арускага] Эм[ігранта]” прашу не зварочывацца да мяне, бо я з “Бел[арускім] Эм[ігрантам]” німаю нічога супольнага. Калі будзе іначай, напішу. Сябры ЗБК будуць інфармаваныя аб жыцьці ЗБК асобным білютэням.

ЗБК, як доўга я вытрымаю быць старшынёю, будзе арганізацыяй апартыйнай — агульнабеларускай, роўна талерантнай да ўсіх бел[арускіх] палітычных угрупаваньняў. Калі штось Вас і Вашу арганізацыю цікавіць больш аб ЗБК, з прыемнасьцю паінфармую. Заклікаю Вас да супрацоўніцтва з ЗБК і працы для стварэньня аднэй вялікай арганізацыі для ўсёй Канады, тады будзе лягчэй нам працаваць для дабра эміграцыі ў Канадзе і ў першую чаргу для дабра нашай Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

А[лесь] Грыцук.

Вінніпэг, 26.8.1951

Высокапаважаны Спадару Грыцук!

Больш за два месяцы часу ўплыло, пакуль дабраўся Вам адпісаць ліст. Бязумоўна, Вам цяжка будзець паверыць у тое, што два месяцы на гэта трэба чакаць, але сапраўды так злажылася. Калі атрымаў Ваш ліст 27.5 г. г., у нас тагды была найбольшая гарачка з *YMCA*[55] фэстывалем. Пасьля насьпелі лісты Сп. Хмары, якія вымагалі неадкладнага адказу, і так усё адкладалася да 4-га мінулага месяца, калі за наш мастацкі

---

[53] **Мікола Ганько** (1924—1999), грамадзкі дзеяч. Ад 1948 г. жыў у Таронта (Канада), уваходзіў у кіраўніцтва Згуртаваньня беларусаў Канады, у тым ліку у 1960—1961, 1967—1968 гг., і ад 1989 г. цягам колькіх гадоў быў старшынём Галоўнай управы арганізацыі.

[54] **Васіль Камароўскі** (1914—1953), грамадзкі дзеяч, журналіст. У 1945 г. разам зь Сяргеем Хмарам ды інш. заснаваў Літаратурную сустань “Баявая Ўскалось”. Пісаў пад псэўданімам Васіль Вярбіна. Ад 1950 г. жыў у Таронта. Загінуў у аўтакатастрофе.

[55] ***Young Men’s Christian Association*** (*YMCA*) — заснаваная ў 1844 г. у Лёндане хрысьціянская арганізацыя моладзі (юнакоў). З часам выйшла за межы аднае краіны й стала міжнароднай арганізацыяй, што аб’ядноўвае больш за 45 мільёнаў сябраў. Мае на мэце выхаваньне здаровых духам, розумам і целам юнакоў. Арганізацыя вельмі актыўна працавала зь перамешчанымі асобамі і ўцекачамі пасьля Другой сусьветнай вайны.

ўдзел у фэстывалі Манітобскі Ўнівэрсытэт запрасіў нас на летнія курсы ангельскай мовы, куды я і паступіў. Што спрычыніла на шэсьць нядзель пакінуць усялякую перапіску і нават думку да некаторай меры пра наша беларускае жыцьцё.

І з гэтых прычын зацягаўся Вам і шмат другім мой адказ.

Апошні Ваш ліст мяне пацешыў у тым, што Вы асталіся Старшынёй ЗБК; гэта дае шырэйшыя магчымасьці супрацы з Вамі, калі яна будзе патрабавацца. Сумная вестка пра адмову выданьня газэты праз ЗБК (напраўленая ўжо сяньня) нас тут вельмі засмуціла.

ГАЗЭТА ВЫДАВАЦЦА АБАВЯЗКОВА!

Вы як Старшыня ЗБК бязумоўна спытаецеся: а сколькі-ж Вы з Вініпэгу дапамагалі ў гэтым абавязку?

Цяжка на гэта сяньня мне даць адказ, бо найбольш жадалася-б дапамагчы, але не скуль узяць.

Вы бязумоўна чыталі мой ліст да Сп. Хмары, у якім я апісваў усю трагэдыю нашых фінансаў, якая і цяпер не палепшылася і ні палепшыцца на будучыню. Актыўных у працы і ахвярах вельмі мала, а расходы вельмі вялікія.

Цяпер, пасьля вясеньняга сэзону і летняга перапынку, які быў скарыстаны на вучобу ангельскай мовы, у асеньнім сэзоне з 3.9 г. г. пачынаем праз дзяржаўную радыёстанцыю *CBC* раз у тыдзень надаваць нашы песьні ў выкананьні нашага тэнара М[іхася] Радчанкі. Спадзяёмся, што ў сувязі з гэтым будзем запрошаныя выступіць з нашымі танцамі і музыкай. Праўда, нам ужо будуць плаціць за гэта, але яшчэ не такія сумы, якія-б змаглі пакрыць нашы расходы ў сувязі з выступамі. Зьбіраем грошы на нацыянальную вопратку, якую па дагаворанасьці маюць выканаць нашы жанчыны ў Парыжы.

Гэтыя і безьліч другіх выдаткаў страшэнна сушаць нашы яшчэ не так высокія банковыя конты.

Але паміма ўсяго гэтага, адчуўшы ў хаце брак нашага “Беларускага Эміграната”, мы больш “шчодрыя” пасылаем на яго ў гэтым лісьце 10 (дзесяць) даляраў плюс адзін за разпраданых некулькі газэт з апошніх двух нумароў. Разам адзіннаццаць. Разквітуйцеся ў газэце, а агулам за ўсё. Ня гневайцеся, што так мала, але больш немагчыма наразе...

Газэт прысылайце нам толькі сем. Больш тут не разыходзіцца.

Пазнаёмце там, калі ласка, Вашу калёнію з залучанымі выразкамі пра наша жыцьцё і калі мага зьмясьціце ў наступным нумары газэты залучаную хроніку.

Праграму нашых выступленьняў праз *CBC* надашлём асобна. Чакайце!

Ветліва прашу Вас не бярыце мне за дрэннае і адпішыце мне крыху раней, як я Вам.

Жыве Беларусь!

З пашанай

PS. Можа-б Вы мне прыслалі выразку з часопісі *“University of Toronto Quarterly”, July 1951 — Watson Kirkonnell “New Canadian Letters”*, стар. 23—29. У якой гаворыцца пра выданую Вамі кніжку Сп. М[іколы] Абрамчыка. Яна мне вельмі-б была патрэбна пры разпрадажы кніжок, якія я маю яшчэ. Паглядзіце, Спадару!

Вельміпаважаны Спадару!

Прабачце, што адразу не адпісаў, але гэта з пераладаваньня работай. Добра, што і Вы не пісалі да мяне доўшы час, бо я ня быў у Торонто. У ліпені я выяжджаў на Оттаўскі ўнівэрсытэт для ўпарадкаваньня маёй асьветы. Раблю цяпер дактарат пры ўспомняным унівэрсытэце. Дзеля гэтага мусіў праслухаць паважную колькасьць выкладаў (каля 300 гадзін) і здаць 8 экзамінаў. Тэмай дысэртацыі ёсьць “Эстэтызм у паэзыі М[аксіма] Багдановіча”. У зьвязку з гэтым у мяне ёсьць да Вас просьба. Можа, у Вас ёсьць якія-небудзь матэрыялы аб Багдановічу як ягоныя творы, друкаваныя або не, лісты, артыкулы аб ім і г. д.? Калі-б так, ці не маглі-б мне іх пазычыць (або прадаць) на азначаны Вамі час? Вы ведаеце, як цяжка сягодня ў гэтых абставінах пісаць якуюсь навуковую працу, таму зразумееце, што кожны матэрыял на гэтую тэму ідзе для мяне на вагу золата.

З прычыны маёй адсутнасьці ў арганізацыі атрымаліся пэўныя недацягненьні, а сама важнае газэта ня выйшла 2 месяцы. Цяпер, аднак, усё папраўляецца памаленьку. Вельмі Вам дзякую за шчодрый дар для “Бел[арускага] Эм[іграньта]” у суме 11 даляраў.

Мы тут у Торонто вельмі гордыя з посьпехаў Вашых у Вінніпэгу. Гэта сапраўды вялікае асягненьне. Чагось падобнага мы зрабіць ня можам, хаця нас тут паважная колькасьць, але, на жаль, няма мастацкіх сіл. Вашыя матэрыялы зьмесьцім з прыемнасьцю.

Калі-б Вы маглі пераслаць мне асабіста камплект пласьцінак, награных гуртком, быў-бы вельмі ўдзячны. Напішэце, сколькі каштуе ўсё разам. Жадаю далейшых посьпехаў.

Жыве Беларусь!

Ваш А[лесь] Грыцук.

Перад высланьнем гэтага майго ліста Вам быў у мяне сп. Салановіч[56] і прачытаў Вашага ліста да яго і заметку, дзе Вы пісалі, што я маю атрымаць ад Вас вельмі важнага ліста, што ня можа загінуць, таму я устрымаўся з адказам Вам, каб адразу адказаць на ўсё. Сп. Сільвано-

[56] Магчыма, маецца на ўвазе **Ўладзімер Саланевіч (Салановіч)** (18.11.1923, в. Пагост—?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад ліпеня 1948 г. быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Пазьней выехаў у Канаду.

віч, я другога ліста не атрымаў да сягоньняшняга часу. Чы-ж ён дзейсна загінуў?! Напішэце, ці Вы яго выслалі і на які адрыс.

Адносна Вашага ліста сп. Салановічу мушу прызнацца, што Вы маеце вельмі шмат слушнага. Трэба, аднак, задумацца над прычынай гэтага, каб у будучыні не паўтарыць памылак. Па маёй думцы, прычына ляжыць у браку каардынацыйнай працы між нашымі ўсімі беларускімі асяродкамі, асабліва між Вініпэгам і Торонто. Гэта павінна зьнікнуць. Пагаварыце з Вашай управай і падайце праэкт наладжваньня гэтага. Я думку кідаю такую: а. мы ўсе маем якіясь перакананьні палітычныя. б. мы павінны ў чэсны спосаб пераконваць аб гэтай сваёй праўдзе іншых. в. мы павінны шанаваць іншыя перакананьні. г. мы ведаем, што ўсе беларусы-патрыёты маюць вельмі многа супольных спраў і дарог. д. мы шукаем тых дарог і тых супольных спраў і там супрацоўнічаем. е. нам такі трэба зрабіць адну арганізацыю на ўсю Канаду. У Торонто палітыка, на жаль, узяла верх, і мы ў кілька чалавек барукаемся з гэтым, наклікаючы на свае галовы наклёпы і вёдры памыяў. Вы ўжо напэўна дзе-што чулі. Мне асабіста дасталася найбольш, бо ад абодвох груп. Ня ведаю, як доўга вытрымаюць нэрвы. Газэты не пазваляюць выпусьціць, а хочуць аддаць бязграматным людзям. Я прапанаваў рэд-калегію: др. Скурат[57], праф. Грышкевіч[58] і я або Хмара. Хмара прапанаваў Пітушку (рэдактар) і, здаецца, Салановіча і Камароўскага. Хмара з Грышкевічам працаваць ня хоча. Як бачыце, ламігалоўка. Ня ведаю, як з гэтага вылязьці. На канец хачу запытацца як найбольш кампэтэнтнага ў тых справах, што Вы хочаце, каб ЗБК зрабіла ў справе аўдыцыі. Напішэце канкрэтна на мой адрыс. Я зраблю ўсё.

Бывайце здаровы. А[лесь] Гр[ыцук]

*Winnipeg, 25.10.1951 г.*

Паважаны Спадару Грыцук!

Ліст ваш арымаў. Дзякую. Я вельмі цешуся, што мы хутка будзем мець нашага вучонага ў Вашай шаноўнай асобе. Усяго Вам найлепшага на славу Бацькаўшчыне жадаю я і ўся наша калёнія ў Вініпэгу.

Прошаныя матэрыялы пра М[аксіма] Багдановіча надашлю ў гэтым тыдні. Думаю, што скарыстаеце. Аднак пры гэтым зраблю Вам выгавар: я Вас прасіў у лісьце ад 26.1.1951 г. надаслаць мне копію Вашага

57 **Яўхім Скурат** (1906—1992), грамадзкі дзеяч. Закончыў Віленскі ўнівэрсытэт, аддзел францускай філялёгіі (1939), у 1939 г. — аддзяленьне парыскай Сарбоны. Падчас нямецкай акупацыі займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Канадзе, дзе закончыў Тэхнічны інстытут электронікі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Канадзе.

58 Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

дакладу (лекцыі) "Пра сучасную Беларускую Літаратуру", якую Вы чыталі ў Торонто, і Вы яе мне не толькі што не надаслалі, але нават не адказалі на маю просьбу нічога!

Толькі хіба Ваша адсутнасьць і можа апраўдаць Вас у Вашай бязьдзейнасьці (карацей у бязьдзейнасьці ЗБК), бо нічым другім Вы не апраўдаецеся. Мы ні ад кога ад Вас не атрымалі ніякага ліста, нічога ня ведаем, але з маўчаньня вычуваем, што ў Вас дрэнна!

ГАЗЭТА МУСІЦЬ ВЫХОДЗІЦЬ!!! і ПАВІННА быць ува ўсіх урадах зарэгістраваная!!!

Хопіць беларускага "гэта", выходзьце на сьвет!

Пра пліткі даведаецеся з ліста ад Сп. Салановіча. Я яму ўжо апісаў долю плітак! Ён, здаецца, Ваш заступнік і павінен быў Вас пра гэта паінфармаваць.

Я задаволены, што Вы пазнаёміліся зь лістом, які мы напісалі Сп. Салановічу. Мы, здаецца, у ім выпісалі ўсю нашую горкую праўду нашага жыцьця ў Канадзе і наагул на замежжы. Мы Вас ветліва прасілі-б яшчэ яго Ўправай абгаварыць і надаслаць нам заўвагі: што мы несправядліва напісалі?!

З нашай Управай я німаю чаго гаварыць. Яе няма! Старшыня (Галожын) выяхаў. Заступнік (Сыкалюк) ніцікавіцца нічым. Скарбнік (Кунцэвіч) таксама. Адзінай асобай-рухавіком тут зьяўляюся я. Гэта значыць — сакратар *"de facto"*, пасыльны, *etc etc*.

З усіх нам дагэтуль адшуканых і ведамых 72-х Беларусоў на Манітобі з дзецьмі ў Вініпэгу маецца каля 50-ці асоб, зь якіх толькі 7-м купляюць газэту! Рэшта гэта... Гэтых 7-м (сямей) складаюць наш гурток, зь якім я паказваю цудаў. Але гэта толькі надзвычайным маім высілкам, дыплямацыі і самаахварнасьці. А каб не выглядала на самахвальбу, мушу сказаць: што і гэтых людзей, але толькі апошнім часам. Раней гэта ўсё спала. Хай Вам скажа Чорны.

Мы ўжо закончылі гэтагодні асеньні сэзон, даўшы гадзіну сьпеву па радыё ў трансканадыйскай перадачы 15-ць мінут у сторы Ітана на ранішніку 17.10 і выступу на *Manitoba Pool Elevator Convention*[59], 23.10, які вельмі добра ўдаўся і праграму якога залучаю Вам. Пазнаёмцеся.

З запрошаньня на Сымфанічны Баль не маглі скарыстаць і пасьля запрошаньня мелі адказ з тае прычыны, што не знайшлі нідзе нашага танцу на нотах, які-б змагла адыграць аркестра.

Вось такія мы прэтэндэнты на дзяржаўны народ, яшчо нідзе няма нашага танцу на аркестру! у XX-м стагодзьдзі... а каб ён быў, то наш удзел прынёс-бы нам сукцэс немалы. Гэта ёсьць: не нам, а нашаму народу.

---

[59] Магчыма, маецца на ўвазе штогадовы зьезд кампаніі па гандлі збожжам ***Manitoba Pool Elevators***, заснаванай у 1924 г.

Калі не здарыцца чаго міжнароднага (фэстывалю і г. д.), то зіму да вясны думаем сядзець за выняткам толькі магчыма выступу па радыё ў Каляды і найграньня пліта дзесь каля Новага Году.

Дапамогі ніякай наразе ад Вас не патрабуе, але просім парады (пляну), як Вы ўважалі-б за канечная ісьці далей?

Ваша ўся дапамога раней! пры якой-бы мы прасьпявалі сваіх больш песень, а Вы сабе ЗРАБІЛІ-Б ВЯЛІКУЮ ПРАПАГАНДУ Вас сяньня-б ужо ведала ўся Канада! Вы-б сябе абнародавалі-б між тутэйшымі кругамі высокіх "рыб", а не зрабіўшы гэтага Вы астаецеся далей нікому НЯВЕДАМЫМІ з канадыйцаў!!!

Вы памерылі час беларускай меркай. Зрабіў вясной, напішы да ці пра яго ў восень!

У Канадзе, я думаю, і Вы ўжо, здаецца, ведаеце, гэтага няма! Зрабіў раніцай, а ў вечара Цябе пахваляць альбо зганяць. І сягоньня падымаць тую справу, гэта ёсьць дзякаваць ці прасіць не дзякаваць ПОЗНА!

Быў час, якога мы ня мелі дагэтуль, і ня ведаю, ці будзем мець калі больш. Час, які казаў адыграць гістарычную ролю беларускай эміграцыі ў Канадзе. Зафіксаваць сябе з усіх бакоў як эміграцыю беларускага народу, і гэтага часу Вы не маглі скарыстаць!

Чакалі, пакуль прапяецца апошняя песьня, каб пасьля лаіць.

Эх Вы, палітыкі...

Што датычыцца Вашых заўвагаў адносна Вашага жыцьця і працы зьвязанай з выдавецтвам, хачу сказаць, што калі будзе *"Беларусь перад усім"* у Вашых торонтаўцаў, то Вы разьвяжыце крызіс. Калі-ж Вашыя асабістыя пагляды, то пра іх не варта пісаць, бо такому, хто цэніць сваё асабістае вышэй народнага, агульнабеларускага, ніякая праўда ці пісаніна не паможа.

Лісту я Вам не пасылаў. Хіба Вы выразна бачылі, што ў запісцы было напісана, а я вышлю ліст тагды, як буду мець Ваш дакладны адрэс, а як гэты адрэс паступіў толькі сяньня, то я і ліст Вам пасылаю толькі сяньня.

Жыве Беларусь!

М[ікола] Сільвановіч

*Вінніпэг, 25.10.1951 г.*

Паважаны Спадару Грыцук!

Калі нашы выступы не атрымалі апрабаты й падтрымкі ў Беларусоў, то яны зрабілі вялічэзны рух у нашых ворагаў Расейцаў, як чырвоных, так і белых, між якімі яшчэ раз даказваецца, што не маецца ніякай розьніцы.

Мы не маем даных, але трэба думаць (і пэўна мы не мыляемся), што пра наш выступ у Вінніпэгу было данесена ў Маскву, якая на два дні раней (гэта ёсьць першага верасьня) перад нашымі выступамі сьцягнула

ў Маскву нашых паэтаў і гаварыла да Беларусоў Канады, якіх, як нам ведама, выступаючых пад імям Беларусаў і хвалючых Маскву — няма ў Канадзе!

Мы думаем, што гэты "паэтычны" зварот быў да нас.

Калі-ж гэта не памагло, і мы выступілі, а камантатары хоць коратка ўсё-такі сказалі, што Беларусы жывуць у Канадзе, што яны маюць свае песьні, культуру і мову, а мы гэта паказалі, гэта заставіла іх шукаць другіх шляхоў.

У Вініпэг прыехаў у канцы верасьня з "Голасу Канады"[60] з Мантрэалю "дзядзька", зь якім мяне пазнаёмілі працаўнікі *CBC* на аўдыенцыі ў *Fort Garry Hotel* і які мне запрапанаваў узяць удзел у выступах "Голасу Канады" ў расейскай сэкцыі на расейскай мове і з расейскай *"точкі зренія" "неделімості"*... падцьвярдзіўшы апошнія нібы палітыкай Канады і *USA*.

Выслухаўшы ягоныя прапазыцыі, я сказаў, што палітыка мая і наша агульна беларуская гэта палітыка *"Life"*[61], у якім паказана наша Беларусь як не расейская краіна (*Life* 19.11 ці 12.1949 г.) і *"Time"*[62], у якім паказаны і цар, і камісар, а такжа *"bill"* Керстана[63]. Гэтыя наглядныя матэрыялы, якія я меў, яго зьбілі, ён стаў пісаць штось і менш прадзяляць мне ўвагі, сказаўшы, што ён не "шавініст", на што я сказаў, што каб ён ня быў шавініст, то сяньня-б з Канады надавалася-б хоць раз беларуская аўдыцыя, а то дзякуючы ягонаму шавінізму нашы браты ня могуць паслухаць аб тым, што мы жывём нават у Канадзе.

На астатак, калі я паказаў і расказаў пра матэрыялы, якія мы мелі-б супроць "бацькі"[64], ён мне запрапанаваў высокія ганарары за артыкулы, даў свой адрэс (я яму свайго не даваў), і мы пасьля паўгадзіннай гутаркі разышліся.

---

[60] ***"Voice of Canada"*** — ранейшая назва службы радыёвяшчаньня Канадыйскай тэлерадыёкампаніі (*CBC*). Цікава, што на пачатку 1950-х гг. міжнародная служба *CBC* стала вяшчаць у тым ліку й на Ўсходнюю Эўропу.

[61] ***"Life"*** — штотыднёвы амэрыканскі часопіс навінаў у 1936—1972 гг.

[62] ***"Time"*** — штотыднёвы амэрыканскі часопіс, які выдаецца ў Нью-Ёрку і зьяўляецца адным з самых папулярных часопісаў у ЗША.

[63] **Чарльз Керстан** (анг. *Charles Joseph Kersten*, 1902—1972), амэрыканскі палітык, кангрэсмэн-рэспубліканец. У 1951 г. ён унёс у Палату прадстаўнікоў Кангрэсу рэзалюцыю, якая прадугледжвала палітычную й матэрыяльную дапамогу для паняволеных СССР народаў у іх змаганьні за незалежнасьць. Потым узначальваў кангрэсавую Камісію па справах бальшавіцкага тэрору ў дачыненьні да "нерасейскіх" народаў.

[64] Маецца на ўвазе **Іосіф Сталін** (сапр. рус. *Иосиф Джугашвили*, 1878—1953), савецкі дзяржаўны й партыйны дзеяч, у 1922—1953 гг. Генэральны сакратар ЦК ВКП(б) (пазьней КПСС), у 1941—1953 гг. старшыня ўраду СССР (Савету народных камісараў, пазьней — Савету міністраў СССР).

Я яму не думаю пісаць артыкулаў, хоць платня высокая, але я думаю, што перадаць весткі на бацькаўшчыну, як жывуць там і як жывём мы тут, было-б ня дрэнна. Пры гэтым мы пазнаёміліся з дырэктарам. Магчыма-б было выступіць катораму небудзь з нас паэтаў, а тут ужо напэўна ў роднай мове. Можна-б было надаць нашы песьні, толькі гэта ўсё-б адбывалася з *"rusische section"*[65].

Гэта апошняя мяне надта трывожа, але магчыма нам-бы ўдалося такім спосабам атрымаць сваю сэкцыю?

Гэта вялікая справа. І Вы, калі ласка, не давайце ёй разгалосу, бо некаторыя могуць сказаць, каб ішлі да расейцаў, некаторыя стануць супроць і г. д., таму я раджу абавязкова абсудзіце яе ў кола палітыкаў разважных, дыпляматычна, бяз вялікіх надзей і адваротна.

Коратка сказаўшы, усё зьвесьці за і супроць і напішыце, калі ласка, мне: a. Чаму ня можа ісьці (з драбніцамі) альбо калі ісьці, то які мы процант сваёй мэты асягнем?; b. Ці чуеце Вы досыць сілы ў Канадзе (між Беларусамі), каб дамагацца і атрымаўшы абсадзіць сэкцыю?; c. Каго-б пры гутарках з дырэкцыяй можна было-б высоўваць у працаўнікі (Канадыйскія Грамадз[кія] Абавяз[кі]) (тры-чатыры асобы); d. Ці Вы рабілі якія колечы захады адносна гэтага?

З другога і трэцяга пытаньня выглядаець, як быццам я ўжо маю штось, але гэтыя пытаньні толькі патое, каб я мог пры сваіх сустрэчах з дырэкцыяй паказаць, што ў нас ёсьць такія і такія людзі, якія гэта змогуць правясьці, уключаючы ў гэта і мяне, і калі гэта дойдзе да сапраўднасьці, каб кандыдаты не адказаліся.

Вось гэты ліст я меў да вас выслаць раней, але ня ведаўшы Вашага адрасу, пасылаю Вам толькі сяньня.

НЕАДКЛАДНА абгаварвайце і давайце сваю думку, справа ня церпіць адкладу.

Жыве Беларусь!

Вельміпаважаны Спадару!

Па-першае, вельмі дзякую Вам за "Анталёгію Бел[арускай] Паэзіі", дзе-што выкарыстаю. Прашу таксама прабачыць за доўгую маўчанку, але справа, якую Вы парушылі, вымагала гэтага. Пераходжу цяпер да справы радыёперадачаў.

Пайсьці ў расейскую сэкцыю радыёперадачаў можна толькі на ўласны рызк. Ніякая нашая, ані грамадзкая, ані палітычая ўстанова ня дасьць маральнай апрабаты на гэта. Той, хто пойдзе туды супрацоўнічаць, страціць сваё імя беларуса-незалежніка й будзе прадметам найгастрэйшай крытыкі ўсёй нашай прэсы, бяз розьніцы паглядаў і ўсяго грамадзянства таксама бяз розьніцы паглядаў. Ня ведаю, ці хто знойдзецца, каб пайшоў на такую ахвяру. Гэта асабістыя прыкрасьці.

[65] ***Russische section*** (ням.) — расейская сэкцыя.

З палітычнага-ж боку гэта ў сягоньняшнім часе, калі мы пратэстуем супроць Керанскага[66] і ўсякай лучнасьці з Расеяй без папярэдняга прызнаньня незалежнасьці і роўнаправўнасьці Беларусі, ёсьць некарыснае, можа нават шкоднае, бо дасьць козыр у рукі расейцаў, што беларусы зьяўляюцца расейскім народам і падкапае акцыю супроць Керанскага. Гэта ёсьць думка 5-ці чалавек, якіх я лічу за найбольш разважных.

Мая асабістая думка троху розьніцца ад папярэдняй. Па-першае — няма ахвяры завялікай для Бацькаўшчыны, калі гэтая ахвяра прынясе карысьць. Па-другое, я згодны з тым, што такія перадачы прынясуць шкоду нашай незалежніцкай працы на эміграцыі. Аднак я бачу пэўныя карысьці ў гэтым (гэта мая асабістая думка). Паяўленьне такіх перадач дало-б нам аказыю выявіць сваё абураньне для Голасу Канады з гэтага поваду і можа памагла-б нам здабыць хутчэй сваю сэкцыю і, як Вы зазначылі, перадало-б весткі да краю аб нас, а захадняму сьвету аб Бацькаўшчыне. Па-мойму, на ўласнае рызыка і не пад сваім імянем ад бяды можна было-б папробаваць, але толькі пад той умовай, што перадачы вяліся-б на беларускай мове і ў духу незалежнасьці Беларусі, а як уступку можна было-б не чапаць гострых выпадкаў супроць Расеі, а фактычна расейскага народу. Лепш было-б, каб той, хто рызыкаваў пайсьці, выступаў не як беларус, а як расеец, гаворачы пра беларусаў і падаючы ў беларускай мове.

Калі-ж справа ідзе аб абсаду радыя, то мы знойдзем, але толькі з ново-прыбыўшых. Можа, удалося-б якась прапіхнуць іх туды цераз Оттаву.

Да такіх я залічаю Вас, сп. сп. Радчанкаў, сп. Чопчыца[67] з Мантрэалю і сябе, а калі-б мала было, то др. Скурат і эв[энтуальна] Галожын (я яго ня ведаю) або праф. Грышкевіч. Старых беларусаў незалежнікаў няма. Абсадзіць радыя ці то з мастацкага боку, ці тэхнічнага, ці арганізацыйнага мы можам сьмела.

Мы нядаўна толькі распачалі акцыю за надаваньне бел[арускіх] перадач у "Голас Канады". Акцыя гэта праводзіцца наступна: пішам (а часта фабрыкуем лісты) да "Голасу Канады". Зьбіраем подпісы на лісты і высылаем свае дамаганьні ад ЗБК і ўсіх іншых арганізацыяў. Гэта мы толькі распачалі. Калі-б Вы хацелі, то я ўпаважняю Вас гаварыць у дырэкцыі, зь якой Вы знаёмы, ад імя ЗБК (аддзелы Мантрэаль, Сад-

[66] **Аляксандар Керанскі** (1881—1970), расейскі палітычны й грамадскі дзеяч, старшыня Часовага ўраду Расеі ў 1917 г., адзін зь лідараў расейскай эміграцыі на Захадзе. Ад 1940 г. жыў збольшага ў Нью-Ёрку. У 1949 г. быў адным са стваральнікаў Лігі барацьбы за свабоду народаў СССР. На пачатку 1950-х гг. Рада БНР супрацьстаяла Керанскаму й ягонай арганізацыі ў працэсе стварэньня агульнага антыкамуністычнага фронту на эміграцыі.

[67] **Павал Чопчыц** (?—?), грамадзкі дзеяч. Жыў у Манрэалі. Займаўся арганізацыяй беларускага жыцьця ў гэтым горадзе.

буры, Форт-Вільям, Гамільтон, Торонто) у справе беларускіх перадач (самастойных), адным словам, можна гаварыць ад імяні ўсяго беларускага грамадзтва Канады і ад усіх арганізацыяў. Аб выніку інфармуйце, калі ласка, мяне, каб мы выступалі згодна і не спыняліся. Вядзіце такую самую акцыю ў БНК.

З пашанай А[лесь] Грыцук.

Жыве Беларусь!

Вельмі Паважаны Спадару!

Учора Вам выслаў аднаго ліста, а сягодня другога. Як бачыце, хачу адрабіць залегласьць. Гэтым разам коратка.

У палавіне лістапада (дакладнае даты яшчэ ня ведаю) мае адведаць Канаду Ўладыка Васіль[68] і старшыня Рады БНР інж. Абрамчык. З гэтае нагоды Торонто прыгатаўляе розныя ўрачыстасьці. Паміж іншым прэсавую канфэрэнцыю, банкет для прадстаўнікоў горада і канцэрт. Ёсьць прапанова запрасіць на канцэрт сп. Радчанку. Арганізацыйны камітэт, у склад якога ўходзяць прадстаўнікі розных палітычных і грамадзкіх установаў Торонто, зьвярнуць частку або мо нават і поўнасьцю ўсе кошты падарожжа сп. Радчанкі ў Торонто як білет, памешканьне і харчы. Я ня ведаю адрысу сп. Радчанкі, таму зварочваюся да Вас з просьбай перагаварыць зь ім і ўстанавіць, за якую цану ён мог-бы прыехаць і ці наагул мог-бы прыехаць. Я думаю, што калі-б прыехаў сп. Родчанка із сваім песенным рэпэртуарам, і сп. Чопчыц з Мантрэалю, канцэрт даў-бы даход, і нам бяз вялікіх цяжкасьцяў можна было-б усе расходы аснаўныя пакрыць. Памешканьне і харчы ён атрымае ў сяброў ЗБК, якія ахвотна яго прымуць.

Чакаю ад Вас хуткае інфармацыі і астаюся з пашанай А[лесь] Грыцук.

PS. Ліста, што Вы пісалі да сп. Хмары, я ня чытаў.

*Вініпэг, 7.11.1951*

Высокапаважаны Спадару Грыцук!

Выбачце мне, што толькі сяньня Вам адказваю на Ваш ліст ад 26.10 г. г. і то адмоўна.

Сп. М. Радчэнка ня зможа ніякім спосабам прыбыць у Торонто ў цяперашнім часе з прычыны школьных заняткаў. Ён цяпер вучыцца ў 9-м грэйдзе[69] прыватнай школы і маець дзесь каля Каляд або пазьней перайсьці ў 10-ты грэйд, каб гэтым нагнаць да свайго ўзросту (17-ць гадоў) зробленую з прычыны лягеру адсталасьць.

Каб гэта ўся навука адбывалася за кошт яго ўласны, мой альбо Ваш, то яшчэ можна было-б як колечы выкамбінаваць, але гэта ўсё

[68] Маецца на ўвазе ўладыка Васіль (Тамашчык), архіяпіскап БАПЦ.

[69] ***Grade*** (анг.) — кляса.

аплочваюць другія, якія не згаджаюцца ў цяперашнім часе на ягоны выязд. Дык яшчэ раз прашу выбачыце і не бярыце мне і яму ў дрэннае, але аставайцеся нашым прыяцелям, якім былі і дагэтуль.

Жыве Беларусь!

З пашанай, М[ікола] Сільвановіч

*Вінніпэг, 9.11.1951 г.*

Вельміпаважаны Спадару Грыцук!

Адказ атрымаў, дзякую. Рызыкаваць ня думаю, але шкадую, што ня было ахвотнікаў між Вамі зрабіць спробу. Гэта бязумоўна нам прынясло-б карысь. Усётакі *СВС* вясной перадало ў польскай мове нешта падобнае, і нікога за гэта ніхто не лаяў, хоць нехта з нашых пэўна там быў?

Тут-бы ўсё адбылося ў такі самы спосаб, па-расейску, толькі-б з дадаткам, як жывуць Беларусы ў вольнай Канадзе.

Цяпер адносна кандыдатур, то ад нас ані Радчанка, ані Галожын да гэтага не надаюцца. Першы яшчо вучань сяньня, а другі, мне думаецца, больш да гэтага не надаецца. Але пра гэта пазьней. Што датычыць з Вашага боку, то я не маю нічога сказаць. Я іх нікога ня ведаю. Адно гэтым людзям, калі-б да чаго дайшло, усім трэба будзе ехаць у Мантрэаль. Яны-б былі кіраўнікамі сэкцыі, зь якой-бы супрацоўнічалі ўсе Беларусы Захаду, у тым ліку і такія сілы, як М[іхась] Радчанка; мог-бы даваць свае выступы ў нашай сэкцыі, але ніколі не працаваць стала ў ёй. З Вашай думкі ў лісьце я бачу, што Вы зразумелі нешта іначай?

Ну, але ўжо пра гэта нявара пісаць. Гэты час ў сувязі з “Слуцкім Паўстаньнем”, які можна было выкарыстаць, мінае, і цяпер штось падобнае трэба рабіць на “Сакавік 1952 г.”, альбо калі пройдзе кампанія за нашу мову безрэзультатна, то і раней. Але на гэта я надшлю пляны.

Цяпер вельмі дзякую за разумны паступак з Вашага боку, гэта што я магу за Вашым ведамам гаварыць ад імя ўсе Беларускае Эміграцыі ў Канадзе, калі гдзе гэтага будзе вымагаць сытуацыя, аб чым для хуткага і кардынацыйнага дзеяньня неадкладна буду Вас інфармаваць.

Цяпер што да кампаніі перадач, то мне здаецца, што яна распачата ў самы добры час, гэта калі адпала найгрубейшая калода, якая завальвала нам дарогу, “украінскія перадачы”. Яны ўжо дабіліся, і за імі наша чарга!!!

Аднак гэта кампанія павінна быць найбольш дыпляматычна ўмела і скардынавана праведзена.

Менавіта: павінна напісаць першы мэмарыял ГУЗБК, грунтоўна ўсё абгаварыўшы, уматываваўшы і ўзмоцніўшы брашурамі аб Беларусі. Тагды ўсе аддзелы ЗБК і паасобныя Беларусы, як Вы, Праф. Жук-Грышкевіч, Паэт Хмара, Вярбіна[70], М[іхась] Радчанка, я і другія, які-б хацелі

[70] **Васіль Вярбіна** — псэўданім Васіля Камароўскага.

выступіць з сваёй апініяй перад Галоўнай Цэнтраляй *CBC*, а фактычна перад Сп. Ірынай Дзілворт[71], Кіраўнічкай Міжнароднай Службы *CBC*.

Адносна нас, то мы ў такой справе маглі-б (калі-б гэта было лепш) выслаць ліст як ад аддзелу ЗБК, ці, калі лепш, як ад Камітэту. Хоць гэты апошні тут нідзе не існуе і не мае сваіх бланак, ці ў канцы ад Гуртка? Мы згаджаемся на ўсё і просім парады альбо нават выгатаванага лісту!

ДЫК ХУТКА І НЕАДКЛАДНА ПАВЕДАМІЦЕ, ШТО МАЕМ ЗРАБІЦЬ, КАБ ГЭТА ЎСЁ ІШЛО ЯК ПА КАМАНДЗЕ.

Нашы навіны: Учыцялі адрадзілі М[іхасю] Радчанку насьпяваць пліткі ў гэтым годзе з тае прычыны, што ён яшчэ мае з прычыны юнацтва не сталы голас. Таксама адрадзілі прасьпяваць некулькі песень 24.11 на зьезьдзе настаўнікаў, куды ён быў запрошаны, матывуючыся школьнымі заняткамі. Затое *CBC* зрабіла кантракт на радыёдыцыю беларускіх Калядак у начы з 24-га на 25-ча г. г., якія будуць надаваныя ў нашай мове разам з другімі 11 мовамі ад мора да мора. Зьбіраемся мець уноў сукцэс! Адно толькі дзе ўзяць Калядкі? РАДЗІЦЕ І ПАМАЖЫЦЕ!

Мы, дзякуючы ўпорнасьці, змаглі атрымаць 53!!! беларускія песьні, сфатаграфаваныя з песеньніка “Беларускі Лернік” Тэраўскага[72], якія, агледзіўшы, прадуктар *CBC T-Taylor* паабяцаў расьпісаць на аркэстру і надаць беларускую сюіту. Гэта мае адбыцца недзе на пачатку другога месяца.

Гэта толькі ўсяго з навін у кароткай апрацоўцы.

Што чуваць у Вас з газэтай?

Жыве Беларусь!

З пашанай

Да Галоўнай Управы ЗБК
Таронта, Онт.

Высокапаважаны Спадару!

Недачакаўся ад Вас ніякай шырэйшай весткі аб прыезьдзе Старшыні БНР Сп. Інж[ынэра] М[іколы] Абрамчыка ў Канаду, таксама неатрымаўшы ніякай заявы адносна занятага Вамі становішча ў сувязі

[71] Мікола Сільвановіч памыляецца. Іра Дылварт — не жанчына, а мужчына. **Іра (Айра) Дылварт** (анг. *Ira Dilworth*, 1894—1962), журналіст, пэдагог, дзеяч радыёвяшчальнай індустрыі Канады. У 1936—1947 гг. быў рэгіянальным дырэктарам *CBC* у Брытанскай Калюмбіі, пазней — праграмны мэнэджар у Міжнароднай службе *CBC* у Манрэалі, а ў 1951 г. быў праграмным дырэктарам *CBC* у Таронта.

[72] Маецца на ўвазе выданьне: Тэраўскі, Уладзімір. Беларускі лірнік: Спеўнік на чатыры галасы. Берлін: Выд-не навук.-літ. аддз. нар. камісарыяту асветы БССР, 1922. 91 с.

з выступамі г. з. міністра замежных спраў К. В. Кісяля[73] ў Парыжы 6.12.1951 г. з прапазыцыяй прыняцьця Чырвонага Кітаю ў ААН і выбару гэтага апошняга ў Камітэт Бязьпекі пры падтрымцы Злучанага Каралеўства, мы гэтай дарогай ветліва Вас просім аб наступным:

а). Надаслаць нам (у ангельскай мове) рэзалюцыю занятага становішча ЗБК адносна вышэй пададзеных падзей.

б). А так-жа ўсе выразкі з газэт, з пабыту Сп. Старшыні БНР у Торонто. Мы тут маем вялікія магчымасьці змантаваць з гэтага артыкул і ў сувязі з гэтымі падзеямі зьмясьціць у тутэйшых англамоўных газэтах. Сяньня разам з гэтым лістом пасылаем Вам выразкі тутэйшых газэт з мэтай зазнаёміць Вас: што яны адносна гэтага пісалі.

Нам вельмі непадабалася *“Byelo (White) Russia”* і наша дэлегацыя ўчора хадзіла ў рэдакцыю газэт з пратэстам супроць такой абразы нашай нацыі. Усё гэта здаецца павінна паправіцца на нашу карысць!

ДЫК НЕАДКЛАДНА ВЫСЫЛАЙЦЕ ПРОШАНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ!!!
І ТОЛЬКІ ЛЯТНІЧАЙ ПОШТАЙ!

Жыве Беларусь!

З пашанай [Мікола Сільвановіч]

Вельміпаважаны Спадару!

Вельмі дзякую Вам за кніжку. Прашу прабачыць мне за тое, што “троху” ператрымаў вызначаны час. Ня гневайцеся!

Я цяпер адыйшоў ад грамадзкага жыцьця і аддаўся працы над сабой. Вучуся ў *Radio College*, но і пішу памаленьку сваю доктарскую дысэртацыю. Цяжка адначасова гэтыя рэчы рабіць. Дактарат мушу адлажыць яшчэ на год або і больш, каб закончыць *Radio College*. “Палітыку”-ж у нас ёсьць каму рабіць і безь мяне.

Што чуваць у Вас? Як ідзе грамадзкая праца?

Што Вы думаеце аб тым, каб зарганізаваць канадзкую беларускую моладзь?

З пашанай да Вас, А[лесь] Грыцук

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

[73] Маецца на ўвазе **Кузьма Кісялёў** (1903—1977), партыйны й дзяржаўны дзеяч БССР, у 1946—1966 гг. міністар замежных справаў БССР, кіраўнік дэлегацыі БССР на Сан-Францыскай канфэрэнцыі Аб’яднаных нацый.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ПАПЕРЫ КАСТУСЯ АКУЛЫ Ў АРХІВЕ СКАРЫНАЎКІ ЯК КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ ПРА БІЯГРАФІЮ Й ТВОРЧАСЬЦЬ ПІСЬМЕНЬНІКА, ЛІТАРАТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ НА ЭМІГРАЦЫІ Й ГІСТОРЫЮ КАНАДЫЙСКІХ БЕЛАРУСАЎ

Кастусь Акула зьяўляўся хіба цэнтральнаю асобаю ў беларускім жыцьці Таронта, а мо і ўсяе Канады, і да таго ну вельмі яскраваю постацьцю ў літаратуры беларускае эміграцыі. Усё гэта разам з актыўнасьцю ў ліставаньні, дзейнасьцю ў выданьні газэты “Беларус” робіць ягоны асабісты архіў надта ж вабным для дасьледнікаў самых розных аспэктаў гісторыі нашае эміграцыі.

Праўда, з самім архівам ня ўсё адназначна. Па сьмерці Кастуся Акулы архіў з дому быў нібыта перавезены ў Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе. Шматслоўна й шматабяцальна адчынены ў 2008 г. з ініцыятывы першага амбасадара Злучаных Штатаў у Беларусі Дэвіда Суорца, ён, як паведамляў “Беларус”, мусіць спрыяць беларусаведным дасьледаваньням і беларускім культурніцкім праектам у Амэрыцы, выдаваць кнігі ў гэтай галіне[1], ды, як сказала старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, *“яго мэтай таксама ёсьць збор беларускай калекцыі, выдавецкая і навуковая дзейнасьць”*[2]. На сайце цэнтру сапраўды ёсьць спасылка “Архівы”, дзе згадваецца пра перададзеныя паперы Кастуся Акулы, аднак ніякага больш-менш прыдатнага апісаньня іх да сёньня няма, а навіны на самім сайце не аднаўляюцца ад лета 2017 г. Такім чынам, даведацца, што маецца ў наяўнасьці і ў якім стане ў гэтым архіўным зборы, на жаль, немагчыма.

Таму нельга ня цешыцца, што частку архіву сам Кастусь Акула яшчэ пры жыцьці пераслаў у Скарынаўскую бібліятэку ў Лёндане, дзе дакумэнты ня толькі захоўваюцца, але й даволі плённа выкарыстоўваюцца.

---

[1] Беларус. № 542. Сакавік 2008.

[2] https://charter97.org/be/news/2008/3/20/4997.

Прыкладам, з параўнаўча нядаўняга: на падставе захаваных там папераў была адноўленая творчая гісторыя паўстаньня першага раману пісьменьніка й пазьнейшых рэфлексіяў беларускай грамады на “Змагарныя дарогі” і “Гараватку”[3].

Для гэтай публікацыі адабраныя раней не публікаваныя тэксты, што, як і пазначана ў загалоўку, даюць зь першых рук цікавейшыя зьвесткі пра працу над трылёгіяй “Гараватка”, пра ўзаемадачыненьні літаратараў Таронта й Нью Джэрзі, а таксама раскрываюць зусім новую, нязнаную іпастась Кастуся Акулы — летапісца беларускай прысутнасьці ў Канадзе.

Нягледзячы на перавыданьне ў 1994 г. у Менску раману “Змагарныя дарогі”, што атрымаў прэмію імя Францішка Багушэвіча ад Беларускага ПЭН-Цэнтру, пра творчасьць пісьменьніка, як і самую асобу, ягонае жыцьцёвае змаганьне — і мо ня столькі ў гады вайны, колькі ў паваенны ўжо час, у мірным Таронта, — пішацца пераважна патасным, але абыякавым штылем. Хочацца спадзявацца, што гэтая невялікая падборка лістоў пакажа не прыдуманага крытыкамі ўяўнага, а сапраўднага Кастуся Акулу. Чалавека, які марыў пісаць.

Карціць напісаць, што ні сямейныя абставіны, ні грамадзкія ўмовы яго не зламілі. Але ж зламілі. І каб жа тое праяўлялася вылучна ў ягоным любімым — на пэрыяд нашага знаёмства (сярэдзіна — канец 1990-х) — бурбоне. Сытуацыя ў сям’і, але хіба непараўнальна болей — у грамадзе адбіла ў Кастуся Акулы ахвоту нават сядаць да сваёй “машынапіскі”. А мо не ахвота зьнікла, а нарадзіўся пострах — у непатрэбнасьці для той самай грамады ці ва ўласнай няздольнасьці, што ўяўлялася яму празь незапатрабаванасьць дзесяцігодзьдзямі? Інакш як яшчэ патлумачыць у сьвятле ягоных-жа словаў да Віцьбіча (*“А колькі сяньня жыве яшчэ людзей, каторых звычайныя ўспаміны асталіся-б некалі скарбам у нашай мэмуарнай літаратуры”*) агрэсыўную глухату на мае шматлікія просьбы самому накідаць ці прынамсі нагаварыць хоць колькі старонак/касэтаў успамінаў!?

Таму гэтак важна й гэтак цудоўна, што існуе ліставаньне Кастуся Акулы зь Юркам Віцьбічам, Міхасём Кавылём ды іншымі — балючае, але гранічна шчырае. Гэта й творчая біяграфія, і летапіс сям’і, і хроніка грамадзкай дзейнасьці беларусаў у Канадзе, якая хіба ж прымусіць пераасэнсаваць зробленае ці, хутчэй, ня зробленае асобнымі лідарамі грамады.

Напісанае насамрэч застаецца — пры ўмове, што яно дбайна, а галоўнае, прафэсійна захоўваецца.

---

[3] Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставаньні. Мінск: Кнігазбор, 2012. С. 127—353.

## І. “Дражлівая птушка”

5.2.65.

Шаноўны Пісьменьнік Акула!

Дзякую за цікавую й каштоўную “Гараватку”! Болей за тыдзень я, пасьля працы, улятаў на крыльлях-балонках Вашай кнігі ў былую Заходнюю Беларусь, што пакутвала ў кіпцёх “дзярлівай птушкі”... Вы ня першы, хто пазнаёміў мяне з гаротай беларусаў Заходняй Беларусі. Яшчэ недзе каля 1930—1933 гадоў я чытаў кнігу Ванды Васілеўскай[4] “Вербы пры дарозе”[5]. Там, мне здаецца, хварбы згушчаны ды насьвятляецца ўсё з пазыцый камуністкі. У Вас — рэалізм, наш нацыянальна-вызвольны з прымешкай рамантыкі Дзед і дуб... Усе гэроі — тыповыя, за выняткам, хіба, папа... Падабаецца мне Ваш стыль: сур’ёзны, лірыка-эпічны, гумарыстычна-сатырычны. Апошні, сказаць, прыём, ці стылявая разнаякасьць, напамінае Максіма Гарэцкага “Віленскія камунары”. Але не падумайце, што я хачу ўпікнуць Вас у нейкім перайманьні. У Вас свой, прыроджаны талент, а гумар ідзе ад сялянскай радаслоўнай, калі не памыляюся. З Гарэцкім я толькі хачу Вас параўняць...

Калі зьбяруся з часам, чыркану пару слоў пра “Гараватку” ў “Беларускай Думцы”[6], якая плянуецца (нумар восьмы) недзе на восень. Цяжка ў нас з матар’ялам. Прасіў-бы Вас, не аглядаючыся на “прафэсароў” і “прэзыдэнтаў”, нешта даслаць. Асьмельваюся аб гэтым Вам пісаць з перакананьня, што пісьменьнік ці паэт, які на некага аглядаецца, некага баіцца — сам сябе мардуе, самога сябе жывога хавае. Пісьменьнік мусіць быць сам сабе — Бог...

Пішэце й далей у такім стылі, выводзьце на чыстую воду гэты зброд чалавечы — Сабакевічаў ды Шпунтаў — пячэцеся аб чысьціні й прыгажэсьці Дуні, распальвайце гнеў у сэрцы Янука супраць забойцаў, і белых, і чырвоных, зь якімі, мне здаецца, ён хутка сустрэнецца — пішэце праўду, і праўда пераможа. Шчасьці Вам Божа!

Жадаю ўсяго найлепшага ў працы й жыцьці!

З пашанай, М[іхась] Кавыль[7].

---

[4] **Ванда Васілеўская** (пол. *Wanda Wasilewska,* 1905—1964), польская і ўкраінская савецкая пісьменьніца, грамадзкая дзяячка, тройчы ляўрэатка Сталінскай прэміі.

[5] Магчыма, Міхась Кавыль мае на ўвазе выдадзеную ў 1941 г. кнігу Ванды Васілеўскай *“Вербы и мостовая”* (Москва — Ленинград).

[6] **“Беларуская Думка”** — грамадзка-палітычны й літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаецца ў ЗША (спачатку ў Нью-Ёрку, цяпер у Саўт-Рывэры) з 1960 г.

[7] **Міхась Кавыль** (сапр. **Язэп Лешчанка**, 1915—2017), паэт, грамадзкі дзеяч. У 1930-я гг. вучыўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме, быў

15 травеня 1965 г.[8]

Дарагі Спадар Акула,

Кніжыцу атрымаў і шчыра Вам за яе дзякую. Прачытаў яе неадкладна, але Вам не пісаў сваёй апініі, бо якраз вышла з друку кніжыца Паўлікоўскага[9] п-з "Вайна і сезон"[10], якую хацеў скафрантаваць з Вашай, бо я спадзяваўся чагось зь яе даведацца аб тым, што дзеілася ў Заходняй Беларусі ў польскай інтэрпрэтацыі.

Нажаль, нічога асаблівага аб жыцьці Беларусаў Паўлікоўскі ня піша, паказвае колькі пазытыўных ды нэгатыўных пэрсанажаў з пасярод польскай адміністрацыі ды магнатэрыі, але наагул для нас гэта вельмі важны дакумэнт для ілюстрацыі таго культуртрагэрства, якім палякі так хваляцца перад усім сьветам. Гэтая кніжка, як і папярэдняя гэтага-ж аўтара *"Dzecinstwa i mlodosc..."*[11], павінны быць у бібліятэках беларусаведаў.

Цяперачы што да "Гараваткі".

Тое, што Вы напісалі, ёсьць надзвычайна ўнятае і цікава напісанае. Цікавы стыль і падыход да праблемаў. Вы добра ставіце справу ў тым сэнсе, што польскі тэрор і зьдзек ня былі справакаваныя антыпольскімі выступленьнямі сялянства. Але гэта можа быць праўдзівым толькі для аколіц "літоўцаў", бо-ж апрача таго, што вы напісалі, былі ў Заходняй Беларусі беларускія школы, хоць пасьля і пазачыняныя, былі беларускія студэнты, якія свой нацыянальны прасьціж дзельна баранілі, былі беларускія газэты розных напрамкаў, былі арганізацыі, беларускія хаткі, ТБШ[12], была Картузская Бяроза[13] і Лукішкі[14] і ссылкі на

сябрам "Маладняка". У 1933—1935 гг. знаходзіўся ў зьняволеньні на Далёкім Усходзе. З 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, потым у Бэльгіі. У 1950 г. выехаў у ЗША, жыў у Саўт-Рывэры. Выдаў некалькі зборнікаў паэзіі. З 1983 г. быў рэдактарам часопіса "Беларуская Думка".

[8] Арыгінал ліста надрукаваны беларускай лацінкай.

[9] **Міхал Паўлікоўскі** (пол. *Michał Kryspin Pawlikowski*, 1893—1972), польскі эміграцыйны пісьменьнік.

[10] Pawlikowski, Michał K. Wojna i sezon. Paryż, 1965.

[11] Pawlikowski, Michał K. Dzieciństwo i młodość Tadeusza Irteńskiego: powieść. Londyn: B. Świderski, 1959.

[12] **Таварыства беларускай школы** — культурна-асьветная арганізацыя ў Заходняй Беларусі, заснаваная ў 1921 г. Мэтамі яе, паводле статуту, былі: *"пашыраць і памагаць асьвеце ў беларускім нацыянальным, людскім і хрысьціянскім духу"*.

[13] **Картуз-Бяроза** — канцэнтрацыйны лягер з строгім рэжымам, які дзеяў у 1934—1939 гг. і ў якім утрымліваліся палітычныя зьняволеныя.

[14] **Лукішкі** — галоўная турма ў Вільні, у якой у міжваенны час былі зьняволеныя шматлікія беларускія нацыянальныя дзеячы.



Міхась Кавыль

Захад больш актыўных беларусоў, але да таго былі асаднікі гультаі і абібокі; што дзяржаўную дапамогу прапівалі, а хутары іхнія не мяркуючы хутару Лазоўскага ня былі прыкладам добрай гаспадаркі, а прыкладам бядноты і няхлуйства. Адным словам, палякі ня несьлі сваёй культуры да нас, а несьлі басоту, што прыйшла сюды, каб пажывіцца.

На гэтым праўдзівым тле і супольным для ўсяей Заходняй Беларусі выходзіць трошкі бледна патрыятызм дзеда Якуба. Гэта выглядала-б на падцьверджаньне тэзы палякаў, што: *"На пачатку XX-га ст. нацыянальная сьведамасьць была роўная нулю"*. Паводле "Гараваткі", аж да 39-га году гэтая сьведамасьць раўнялася нулю, даказваньне чаго не ляжыць у нашым інтарэсе.

Што да мовы, дык я зрабіў-бы засьцярогу ў гэтым сэнсе, што ў ёй зашмат русіцызмаў, калі ходзіць аб звароты запазычаныя ізь сялянскай мовы, ды пасьля ёсьць наагул наляцеласьці навучнай мовы, якія ня былі нашаму сялянству ведамыя. На маю думку, сьледзячы цёк думкі якогась пэрсанажу трэба яго імітаваць даслоўна карыстаючыся паняцьцямі даступнымі і ведамымі вашаму гэрою, ад чаго Вы часта адбягаеце; на гэтым церпіць мастацкі бок твору. Але "Драпежная птушка" ёсьць пачаткам повесьці, і мне здаецца, што толькі агульным уступам да тых падзеяў, якія маюць разьвіцца пазьней. Загэтым недахопы можна было-б направіць у наступных томах, падаючы праявы беларускага імкненьня да самабытнага існаваньня ў хворме ўспамінаў некаторых пэрсанажаў, якіх Вы павінны-б былі ўвесьці дадаткова, бо аб гэтых што мы ведаем ведаем ужо усё.

Можна-б было нават не стыдацца, што шмат нашых ідэйных маладых людзей кіравала вочы на ўсход, так як цяпер шмат гэтых ідэальных людзей маніцца бачыць нейкі прагрэс ці рэалізацыю сваіх ідэалаў на ўсходзе, і тагды вам лепш, лягчэй бы было падкрэсьліць тое расчараваньне, якога дазналі гэтыя людзі, спаткаўшыся вока ў вока із бальшавізмам, што якраз пагражае і цяперашнім сымпатыкам на Захадзе. Мы маем інтэрэс і абавязак гаварыць сьвету аб даўнасьці змаганьня беларускага народу за сваю апрычонасьць і на гэта маем падставы тагды, як стан рэчаў, прадстаўлены ў Літоўцаў, быў бы мо добры для пары да Каліноўскага. Пасьля Каліноўскага справа змаганьня з царызмам і Масквою ўжо ня сыходзіла з парадку дня і ў такой ці іншай хворме яе наглядаем. Не прыціхла яна і пад польскай акупацыяй. Загэтым літоўцы могуць быць тут прыкладам вёскі вельмі й вельмі адсталай ў гэтым сэнсе. Спраставаньне ў гэтым сэнсе трэба зрабіць ў наступных кнігах.

Вам бязумоўна гэтая мая пісаніна выдасца крытыкай лішня суровай, але так яно ня ёсьць. Гэтая абмена думкамі, думаю, застанецца між намі і загэтым я пазволіў сабе быць з Вамі вельмі шчырым. У рэчаістасьці я думаю што “Драпежная птушка” ўжо шмат лепшая за “Змагарныя дарогі” пад кожным поглядам, і гэты прагрэс для мяне ёсьць вельмі пацяшаючы. Бачыце, я знаю цану грашам і ацэньваю вашую дэтэрмінацыю друкаваць і загэтым, каб не змарнаваць Вашых высілкаў, трэба друкаваць нешта добра абдуманае і пераэжытае. Мне ўсьцяж здаецца, што мы маем больш цяжкасьцяў з выданьнем кнігі, як яе напісаньнем, загэтым трэба больш над кнігаю працаваць і даць пад ацэну перад тым, пакуль выдаткавацца на яе друк.

Гэта пішу не дзеля таго, каб Вас ганіць, але дзеля таго, каб Вам падсказаць мэтад працы і намякнуць на нашыя патрэбы.

Хачу яшчэ зачапіць адну праблему. Цяперачы ў беларускай савецкай мастацкай прэсе пачынаюць друкавацца добрыя творы. Часамі ў іх ёсьць мацюгі пад адрасам нашым ці іншым, але гэта не мяняе іх вартасьці для гісторыі нашага краю. Я знайшоў у “Полымі” некалькі накідаў ці выняткаў з раманаў, і яны мяне зацікавілі глыбокім аналізам псыхалёгіі беларускіх простых мас. Там відаць тэндэнцыю выламацца з пад этыкету савецкага спосабу пісаньня. Ёсьць вельмі цікавыя дыскусыі на тэму мовы ў кірунку зусім для Масквы не пажаданым. Трэба не адставаць ад іх. Трэба ім падсказаць тое, чаго яны мо не дабачваюць. Трэба стварыць спаборніцтва ў фармуляваньні новых ідэяў, на фоне якіх іхнія выглядалі-б перастарэлымі і нецікавымі. Вось гэта заданьне нашага публіцыстычнага ды літэрацкага руху на Захадзе. Па аналёгіі з эканомікай, палітыкай, мастацтвам мы павінны тут крытыкаваць іх так, каб яны змушаныя былі сьледаваць за намі. Нехта добра сказаў, што хоць на эміграцыю нельга глядзець як на сілу, якая зможа вызваліць наш народ, тым ня менш эміграцыя — гэта тыя дрожджы, што спрычыняюцца да шыбкага падыходу вызвольных імкненьняў. Вось у гэтым кірунку трэба дзеіць. Паколькі беларускі народ не мае права крытыкі на бацькаўшчыне, гэта мы на эміграцыі павінны адыграць ролю апазыцыі. Пацешаючае ёсьць тое, што там у Менску прыслухоўваюцца таму, што мы тут кажам, і прыглядаюцца таму, што мы тут робім. Загэтым не трэба цьвердзіць “стрыжанае”, калі нам кажуць, што “голенае”, а трэба камэнтаваць усё лёгічна і рэчова. Факты даюць нам шмат перавагі і гэтакі род барацьбы для нас карысны.

Таксама ня трэба нам вельмі ўжо плакаць на дэзэрцыямі і “адыходам”. Розныя прычыны ёсьць адыходу і хоць ён у нас ёсьць, усёжтакі працэнтны лік нашага актыву выглядае ў нас шмат карысьней, чым у іншых нацыях. Праўда, тыя, што працуюць здаўна ды добра ўсе змучаныя ад гэтай працы, нэрвуюцца што іх праца не заўсёды дастаткова ацэньваецца сьведкамі, але гэта пагляд мо крыху залішне пэсыміс-

тычны. Як бы яно ні было, значэньне нашае на сьвеце расьце, і так як раз вылупішагася зь яйка кураняці назад у яго не ўсадзіць, так не спыніць нашага руху. Справа ў тым, ці дойдзе да вызваленьня нашага народу шляхам вайны, шляхам унутраной рэвалюцыі ці шляхам эвалюцыі. Думаю, што трэба адначасна ставіць стаўкі на ўсе тры магчымасьці, хоць мадэрная вайна ёсьць найменш для нашага народу пажаданай.

Але балёнка зьбліжаецца да канца. Прашу Вас не гневацца за шчырасьць. Я ня ведаю вашых намераў, загэтым магчыма шмат дзе ёсьць стуканьне ў адчыненыя дзьверы, тым ляпей.

Жадаю Вам плённай працы.

Шыманец[15].

*21.5.65*

Вельмі Паважаны Спадар Кавыль,

Атрымаў ад Вас “Беларускую Думку” № 7 і “Цяжкія Думы”[16]. Вялікае дзякуй. Асабліва цэнны падарунак — зборнік Вашых вершаў. Зь беларускіх паэтаў, апроч Купалы, Коласа й Багдановіча, найбольш цаню Кавыля й Клішэвіча[17]. Гавару без нацяжкі. Шкада, што Вам, прыкладна, як Крушыну[18], не пашанцавала выдаць свае творы пад прыгожай вокладкай, беззаганна з тэхнічнага боку. Яны мелі-б куды большы спрос, чым Крушынавы...

У № 7-м “Б[еларускай] Д[умкі]” з найбольшай цікавасьцю прачытаў я крытычны артыкул пра Ул[адзімера] Глыбіннага[19] “На берагох

---

15 **Уладзімер Шыманец** (1911—1977), грамадзкі дзеяч. Закончыў Віленскую тэхнічную школу (1932). Працаваў у Стоўбцах. З лета 1944 г. разам зь сям’ёй — на эміграцыі. Спачатку жыў у Капэнгагене, дзе арганізаваў Згуртаваньне беларусаў Даніі. У 1948 г. пераехаў у Францыю. Быў міністрам фінансаў БНР.

16 Маецца на ўвазе выданьне: Кавыль, Міхась. Цяжкія Думы: Санэты. Саўт Рывэр: выданьне Беларуска-Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту, 1961. 61 с.

17 **Уладзімер Клішэвіч** (1914—1978), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Жыў у ЗША. Выдаў зборнік вершаў “Далячынь” (1965) і паэму “Васіль Каліна” (1965). У Менску быў выдрукаваны зборнік “Сняцца сны мне залатыя” (1973).

18 **Рыгор Крушына** (сапр. **Рыгор Казак**, 1907—1979), паэт, празаік, крытык, грамадзкі дзеяч. Жыў у ЗША. Аўтар кніг: “Лебедзь чорная” (1947), “Выбраныя творы” (1957), “Хвіліна роздуму” (1968), “Вясна ўвосень” (1972), “Дарогі” (1974), “Сны і мары” (1975).

19 **Уладзімер Глыбінны** (сапр. **Уладзімер Сядура**, 1910—1995), пісьменьнік, літаратуразнаўца, культуроляг. Жыў у ЗША. Аўтар кніг: “На берагох пад сонцам” (1964), “На Сьвятой зямлі” (1972), “Паэта з Божае ласкі. Успамін і роздум пра паэта Язэпа Пушчу” (1979), “Пад лебядзіным знакам. Аповесьць пра Максіма Багдановіча” (1983), “Вялікія дарогі” (1997).

пад сонцам”[20]. А ў цэлым артыкуле самая важная думка наапошку: *“пісьменьніку трэба ўзыйсьці на галоўную магістраль вялікай літаратуры… а не сядзець з вудаўём у руках на чужых берагох”*.

Беларуская нацыянальная літаратура ня мае вялікай прозы. Безь яе-ж ня выгадуецца паўнацэнны й духоўна-трывалкі Беларус ці на выгнаньні, ці ўдома. А пісьменьнікі нашы на выгнаньні, дый паэты, хоць яны на пальцах рук лічаныя, ці то не адважацца на большыя творы, ці аднекваюцца ад вялікае працы рознымі рэальнымі і ўяўнымі прычынамі. Мне даўно здавалася, што стымулянтам да працы магла-б быць канфэрэнцыя нашых літаратараў. Няхай-бы яна й не закладала ніякіх арганізацыяў, няхай-бы людзі адно сабраліся ды пагаварылі. Думку гэтую стараюся пашырыць ужо гады тры ці чатыры. Рэзультат — ноль… Ці-ж мы ўжо так акарчанелі, папрывязвалі сябе да мясцоў працы й жыцьця, што не стае нам добрай волі й сьмеласьці, каб сустрэцца, думкамі абмяняцца? У мінулым годзе сп-р Ул[адзімер] Глыбінны выказаў думку на падтрыманьне маёй, што сёлета трэба сабрацца ў “Бэлэр-Менску”[21]. Ды на гэтым і скончылася.

Вашы заўвагі адносна “Дзярлівай птушкі” прачытаў зь вялікай цікавасьцю. Перш — маленькае адхіленьне. Я чакаю на грунтоўную рэцэнзію кнігі зь нецярплівасьцю. Мне рупіць працаваць над другой кнігай: “Як прыйшоў савет”. Не пачуўшы пра добрыя бакі й заганы першае кнігі, ці варта паганяць. Абяцаў д-р Ст[аніслаў] Станкевіч[22] разгледзіць “Гараватку” кн. I у чэрвеньскім нумары “Беларуса”[23].

Да гэтага часу пагалоўна ўсе ацэнкі былі дадатныя. Выказваліся-ж пераважна звычайныя чытачы, значыцца, ня крытыкі.

Буду старацца штось згрувасьціць для наступнага нумару Вашага часапісу. Цяжка мне сказаць, што гэта будзе. У жанрах апавяданьняў ці нарысаў дагэтуль не прабаваў сваіх сілаў. Трэба-ж лічыцца з абый-

---

[20] Маецца на ўвазе выданьне: Глыбінны [Сядура], Уладзімер = Hlybinny, Vladimir. На берагох пад сонцам: Апавяданьні і аповесьці = On the Shores beneath the Sun: Byelorussian stories. Нью Ёрк — Трой (Н.Ё.): выдавец Беларуска-Амэрыканскі Літаратурна-Навуковы Цэнтр = Publisher Byelorussian-American Scientific and Literary Center, 1964. 191 с.

[21] **Рэсорт “Белэр-Менск”** — беларускі адпачынкавы цэнтар у Глен-Спэй (110 км ад Нью-Ёрку), быў набыты й адчынены ў 1963 г.

[22] **Станіслаў Станкевіч** (1907—1980), грамадзка-палітычны дзеяч, навуковец, выдавец. У 1949—1962 гг. — рэдактар газэты “Бацькаўшчына” (Мюнхен), у 1962—1980 гг. — газэты “Беларус” (Нью-Ёрк).

[23] Выглядае, што адзіны тэкст, прысьвечаны “Гараватцы”, які зьявіўся на старонках газэты “Беларус”, належаў Масею Сяднёву. Гл.: Сяднёў, Масей. “Гараватка”Кастуся Акулы // Беларус. № 101—102. Жнівень — верасень 1965. С. 8.

май Вашага часопісу. Добра было-б, прыкладна, каб Вы пры нагодзе паведамілі мне, колькі месца магу мець да дыспазыцыі.

Поўнасьцю пагаджаюся з Вамі, што ў творчай працы нельга аглядацца, як кажэце, на "прафэсароў" ці "прэзыдэнтаў". Навучыўся я з горкага дасьветчаньня. Некалі плянаваў "Змагарныя дарогі" як мастацкую аповесьць, шкілетам яе мусіла-б быць у васноўным тая часьць, каторую сьв. п. Чабатарэвіч (Ласкутовіч) называе мастацкай часткай твору ў вадрозьненьне ад публіцыстычнай часткі. Нараілі мне людзі ўмясьціць туды й звычайныя ды нязвычайныя падзеі гэтага бурлівага пэрыяду, што адносіліся да беларускіх вайсковых адзінак і арганізацыяў падчас вайны. Галоўнай прычынай, якой я матываваўся, згадзіўшыся на такі крок, дык гэта тое, што ніхто ў беларускай літаратуры ці публіцыстыцы на эміграцыі да гэнага часу нічога грунтоўнага й пасьлядоўнага пра гэны час не напісаў, у той час, калі ў іншых народаў пэрыяд гэны знайшоў увасабленьне ў дзясятках ці сотнях рознага жанру й характару твораў. Ажно падчас працы цэлы час трэба было мне гадзіць касу з каменем. Якія б "Змагарныя дарогі" ні былі, ёсьць жа і нейкая карысьць зь іх. Да іх выхаду ў нас уважалася, хоць ніхто гэтага, здаецца, нідзе на ўвесь голас не сфармуляваў, што пэрыяд 1941—1944 гадоў, значыцца, час акупацыі немцамі Беларусі — у нашай літаратуры ёсьць табу, мае нейкае кляймо. Вядома, кляймо ж, прышытае нашымі ворагамі ў адносінах да нас, патрыётаў, ён мае, але табу для нас ён не павінен быць. Даўно і ўсебакова трэба было яго разгледзець, ды якраз ня так — шпурляючы адзін у другога каменьнямі, а як мага аб'ектыўна, фіксуючы самыя факты, характарызуючы людзей. У вадносінах да людзей, якія так ці інакш працавалі ці мітусіліся пры беларускіх вярхох падчас гэнага пэрыяду, справа цяжэйшая, бо й тыя, што пішуць самі, ня могуць разьмінуцца з суб'ектыўнасьцю. Адылі гэта не прычына, каб гэны бурлівы пэрыяд зусім абмінаць ды пакінуць усе ягоныя здабыткі й страты для чужых зладзеяў з мэмуарнае й мастацкае літаратуры ці звычайнае гісторыі. А яны ж, вядома, ужо па-свойму насоляць і стравяць. А мы, так во знак табу налажыўшы, адно сьцьвердзілі б, што мы не дарасьлі, каб на самых сябе й народ свой крытычна глянуць, узважыць, ацаніць, ды набок для тых, што пасьля нас прыйдуць, адлажыць.

Маючы якраз наўвеце ўсё гэта, я згадзіўся ў "Змагарныя дарогі" даць апісаньне падзеяў і людзей, каторыя не патрэбныя былі ў гэнай мастацкай частцы. Мастацкая й публіцыстычная часьці твору спрычыніліся да ягонай неарганічнасьці. Адно, здаецца, я асягнуў: пасьля выхаду кнігі сьмялей людзі гавораць пра гэны трагічны ў гісторыі Беларусі пэрыяд. Некаторыя навет пісаць (пераважна ў сувязі з маёй кнігай) асьмеліліся. Ды ўсё ж гэта адно крошкі. Ці то гультаяватасьць здольных і маючых час людзей, ці недахоп фінансаў на выданьне надалей замінаюць усебаковаму асьвятленьню гэнага пэрыяду.

Калі так астанецца й надалей, будучыні нашага народу, не гаворачы пра літаратуру, будзе зроблена непапраўная шкода.

Бачыце, як я расплыўся шырака. Мо таму, што надта баліць. Чую — крычаць на мяне, што зрабіў дрэнна. Праўда гэта ці не — ня так ужо важна. Важней тое, што чаму ж апрача мяне не асьмеліўся каторы аддаць час дый грошы, пастарацца зрабіць лепш, або прынамся па-свойму, так, як яму відаць было. Няўжо ж можна адно абмежавацца тыцканьнем пальца ў бок другога?

Хацеў-бы прасіць Вас, каб пры нагодзе — не абавязкова заўтра ці пасьлязаўтра — калі зможаце мець пару хвілін часу, падалі мне адрасы Сяднёва[24] й Клішэвіча. Хацеў-бы паслаць ім сваю кнігу. Прабачце, што прашу Вас гэта. Ня ведаю, як у Вас із часам. Адносна-ж звычайнай "нятворчай" карэспандэнцыі няма сакрэту — кажны творчы чалавек хоча скараціць яе да мінімум.

Цяперака дазвольце пажадаць Вам добрага здароўя й посьпехаў у працы.

Астаюся із пашанай к Вам, К[астусь] Акула.

*Таронта, 28.I.66.*

Вельмі Паважаны Сп-р Кавыль,

Праўду гаворачы, бліжэй пазнаёміў мяне з Вамі № 8 "Бел[арускай] Думкі", што пазаўчора атрымаў. Выбачаючыся, што спозьнена (ня ведаў Вашага веку) віншую Вас на пераходзе ў другую палову жыцьця[25]. Чаму палову? Бо жадаю Вам сто. Ды гэтае "сто", здаецца, такое заношанае, празаічнае, будзённае; кажны-ж пры такой нагодзе дый пры іншых кажнаму па сто жадае. Дык дай Божа Вам здароўя й памыснасьці ў працы!

Часопіс Ваш расьце. Апошні нумар куды цікавейшы за папярэднія. Добра, што й здымкі зьмяшчаеце. Дадатнай якасьцю ёсьць, што артыкулы на літаратурныя тэмы ды мастацкая проза, успаміны пераважаюць тут шэра-будзённы матар'ял.

Дзякую Вам за ўвагу да мяне[26]. Здаецца (не дзеля апраўданьня гэта, бо-ж прыказка кажа: што напісана пяром…) Вы зрабілі невялікі промах,

---

[24] **Масей Сяднёў** (1913—2001), паэт, празаік. Жыў у ЗША. Аўтар кніг "На край сьвятла" (1947), "Спадзяваньні" (1947, 1948), "У акіяне ночы" (1947), "Цень Янкі Купалы" (1947), "Ля ціхай брамы" (1955), "Патушаныя зоры" (1975), "Раман Карзюк" (1985), "І той дзень надышоў" (1987), "А часу больш, чым вечнасьць" (1989).

[25] 1 сьнежня 1965 г. Міхась Кавыль адзначыў сваё 50-годзьдзе. У часопісе "Беларуская Думка" № 8 (1965) быў зьмешчаны з гэтай нагоды вялікі артыкул Янкі Золака "Жыцьцёвы і творчы шлях Міхася Кавыля (да пяцідзесяцігодзьдзя з дня нарадзінаў)".

[26] Маецца на ўвазе артыкул: Кавыль, Міхась. "Дзярлівая птушка" К. Акулы // Беларуская Думка. № 8. 1965. С. 31—33.

квэстыянуючы захаваньне тэй Аксіньні на вечарыне ці Пракопавы кулакі ў адносінах польскай паліцыі. У нас такія выпадкі запраўды мелі месца. Ці ведама Вам, прыкладам, што польскі паліцыянт аж да вайны не паказваўся ў вёску накш, як толькі із стрэльбай? Гэта ня значыць, што ён у першага лепшага страляў. Пракопа давялі да мяжы роспачы. Як-жа ён мог рэагаваць?

Трэба не забывацца таксама, што ў палякаў з традыцыі, я сказаў-бы, закаранілася пашанота да жанчын. Гэта мо больш выяўлялася дэманстрацыйна навет пры людзёх, чымся вынікала з душы. Адылі.. навет басякаваты Вадзімскі не асьмеліўся-б кінуцца на Аксіньню пры людзёх. На яго вуснах бытавалі часта такія выражэньні, як *"цалую пані ручкі"*, *"пані ласкава"* ды інш., так шырока ўжываныя ўсімі палякамі. Справа ў тым, што паляк праз гэту дэманстрацыйнасьць нейкім чынам стараўся паказаць сваю шляхотную натуру, хоць мог быць *"модным шляхцюком"*[27]. Шкоты гавораць, што *"паляк мае манеры караля й каціную мараль"*. Гэта праўда. Як-жа Вадзімскі, гэтак зручна ўпікнуты Аксіньняй, мог зрадзіць гэтым панска-каралеўскім манерам, хоць са злосьці й дух яму заняло?

Памыляецеся, думаючы, што зрабіў я промах, калі сяляне літоўскія паліцыі Косьціка Сабакевіча ня выдалі. Па-першае, хто-ж гэта публічна мог асьмеліцца, каб і ведаў? Ведалі-ж людзі, што мяжа недалёка й што рушыцца некалі можыць. Па-другое, з двух ворагаў у гэны час на гаспадарскі стол узьлез носьбіт той *"дзярлівай птушкі"*. Па-трэцяе, сам Вадзімскі, са сваей зухаватай неспрактыкаванасьці — як той школьнік, што хоча ўслужыць настаўніку, падняць з падлогі алавік, ды схіляючыся разам зь ім, у лоб настаўніка стукне, сабе пашкодзіць — гэтак і Вадзімскі, нязручна выставіў сябе на пасьмешышча...

Ды даволі аб гэтым. Дарэчы, Мележ[28] у сваім рамане "Навальніца над полем" прыгадвае маладога паэту Алеся Маёвага[29], пасьля рэпрэсаванага[30]. Пэўне-ж гэта прыпадак; Вы і ён — гэта не адна асоба.

---

[27] Відавочна, алюзія на камэдыю "Модны шляхцюк" Каруся Каганца.

[28] **Іван Мележ** (1921—1976), празаік, драматург, публіцыст, народны пісьменьнік Беларусі.

[29] **Алесь Маёвы** — адзін з псэўданімаў Язэпа Лешчанкі (Міхася Кавыля).

[30] *«Дзяўчына раптам схамянулася, нібы штосьці згадаўшы, выпрасталася, хутка сунула руку пад картовы каптан. Рашуча выхапіла з-за пазухі нейкую пакамечаную і згорнутую паперу, падала Апейку. У той жа момант выхапіла паперу з Апейкавых рук, разгарнула, пашукала неспакойнымі, нецярплівымі вачыма; падала зноў Паказала, што трэба глядзець. Гэта была газета, мінская газета. Апейку зразу кінулася ў вочы вострае, калючае, чорнае: "Нацдэмаўскі падбрэхіч".*
*Першыя ж словы захапілі ўвагу так, што на час забыў і пра дзяўчыну, і пра маці, што яшчэ ківалася, горка божкала, страшачыся невядомасці.*

Прашу Вас, калі жадаеце, перашліце самі ці хто іншы няхай, на мой адрас 10 нумароў "Беларускай Думкі". Хоць грошы невялікія, але, калі ёсьць часапіс, дык няхай расьце й кола чытачоў.

Бывайце здаровы, з пашанай да Вас К[астусь] Акула.

---

*"У гэты сусветна адказны час... калі класавая барацьба бязмежна абвастраецца... класавы вораг выкарыстоўвае любыя метады, каб расстроіць шчыльныя шэрагі бальшавіцкай моладзі... каб адхіліць іх, а ў канчатковым выніку — адарваць іх ад генеральнай лініі бальшавіцкай партыі... Асаблівую ролю адыгрываюць у гэтым ланцуговыя сабакі, наёмныя служкі сусветнай буржуазіі і сусветнага нацыянал-фашызму, нацдэмакраты розных масцей і гатункаў. Гэтыя вылюдкі, злейшыя ворагі працоўнага чалавецтва, спадзяваліся на нашу палітычную слепату, спадзяваліся, што ім удасца непрыкметна пралезці ў нашы рады, тайна весці сваю брудную работу буржуазных паслугачоў. Але іх разлікі праваліліся: дзякуючы вострай бальшавіцкай пільнасці, вужачыя гнёзды гэтых замежных падкідкаў-нацдэмаў выкрыты, і па іх раз'юшаных руках ударана са ўсёй бальшавіцкай прынцыповасцю і смеласцю. Уся студэнцкая грамадскасць з энтузіязмам ухваліла гэтыя неабходныя меры. Аднак мы не можам закрываць вочы на такія агідныя факты, што сярод некаторай, няхай нязначнай, часткі моладзі ў мінскіх інстытутах знайшліся аслепленыя, страціўшыя класавае чуццё інтэлігенцікі, якія не толькі не далучыліся да суцэльнай масы студэнцтва, а фактычна сталі на бок выкрытых і асуджаных усёй масаю нацдэмаўскіх багоў. Адзін з такіх нацдэмаўскіх падбрэхічаў — так званы "паэт" Алесь Маёвы... — Апейка, хоць ужо здагадваўся, пра каго гаворка, запыніўся: — Алесь Маёвы... так званы "паэт" Алесь Маёвы... у сваім лакейскім асляпленні дакаціўся да таго, што нават выступіў на сходзе літфака... дзе спрабаваў узяць пад абарону... выкрытых багоў з бруднага нацдэмаўскага балота... Вось да чаго можа давесці страта класавага чуцця... і пагарда разбэшчанай "паэтычнай асобы" да імкнення і волі калектыву. Камсамольская ячэйка правільна зрабіла, што прынцыпова разабрала гэтую анархічную вылазку... і ўдарыла па руках наваяўленаму... нацдэмаўскаму падбрэхічу і адвакату... Камсамольская ячэйка ўніверсітэта з уздымам... выключыла... "паэта" Алеся Маёвага... з шэрагаў камсамола... як адшчапенца і — перараджэнца... Камсамольцы ўніверсітэта аднадушна рашылі таксама хадайнічаць... і аб выключэнні Маёвага з універсітэта... У ўніверсітэце не павінна быць месца... разлажыўшымся нацдэмаўскім падпявалам... і перараджэнцам!..»* (Цыт. паводле: Мележ, Іван. Подых навальніцы. Мінск: Мастацкая літаратура, 2003. https://knihi.com/Ivan_Mielez/Podych_navalnicy.html.)

## II. Фрагмэнты ліставаньня зь Юркам Віцьбічам, якое заўсёды шырэйшае, як толькі з адным Віцьбічам

Саўт Рывэр, 18.2.51.

Глыбокапаважаны Спадар Рэдактар[31]!

Хаця і з досыць значным спазьненьнем, хаця й коратка, але хочацца падзяліцца сваймі думкамі наконт № 10—11 (32—33) "Беларускага Эмігранта". Спазьненьне тлумачыцца вылучна тым, што ўвесь вольны час забірала праца над № 9 "Шыпшыны"[32], а памер гэтага ліста тым, што пачаў рэдагаваць № 10 яе. Той, каму даводзілася спачатку да канца рабіць той ці іншы часапіс, добра ведае, што гэта нялёгка.

З асаблівай прыемнасьцю хочацца адзначыць, што "Беларускі Эмігрант" робіцца, а магчыма ўжо стаўся агульнаэміграцыйнай газэтай. Маючы вялікае ліставаньне з беларусамі ў розных краінах, сьцьвярджаю гэтае як факт. Ні "Бацькаўшчына"[33], ні "Беларускае Слова"[34] ў Нямеччыне, ні "Беларус" і "Беларуская Трыбуна" ў ЗША ня ў стане былі стацца й ніколі ня стануцца такімі ў сувязі са сваёй партыйнай абмежаванасьцю. Яны не зьяўляюцца агульнаэміграцыйнымі і нават не імкнуцца да гэтага. На жаль, тыя, хто рэдагаваў або цяпер рэдагуе гэтыя газэты, сьвядома або выпадкова ня хоча зразумець, што ёсьць патрыёты і сярод бэцээраўцаў, і сярод бээнэраўцаў, як і ёсьць і здраднікі і сярод першых, і сярод другіх. Цалкам пахваляць адных і цалкам ганьбіць другіх — шкодная зьява ў жыцьці нашае эміграцыі. І вось "Беларускі Эмігрант", пачынаючы ад сваіх першых рататорных нумароў, узяў курс на тое, каб стацца агульнаэміграцыйным.

Асаблівае ўражаньне спакідае артыкул А[леся] Грыцука — *"Memento"*. Стварэньне адзінага беларускага фронта на чужыне зьяўляецца найлепшай марай усіх найлепшых беларусаў. Менавіта таму Згуртаваньне "Шыпшына" адмовілася ўдзельнічаць у бэцээраўскім зьезьдзе

---

[31] Кастусь Акула быў у той час рэдактарам "Беларускага Эмігранта".

[32] **"Шыпшына"** — літаратурна-мастацкі часопіс. Орган літаратурнага аб'еднаньня "Шыпшына". Выдаваўся ў Міхельсдорфе (Нямеччына) і Саўт-Рывэры (ЗША) у 1946—1950 гг. Рэдактар Юрка Віцьбіч.

[33] **"Бацькаўшчына"** — беларуская тыднёвая газэта, якая выдавалася ў Нямеччыне ад 31 кастрычніка 1947 г. Падтрымлівала Раду БНР. Рэдактарамі ў розныя часы былі Лявон Савёнак, Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч (найдаўжэйшы час, зь лета 1948 да 1961 г.), Алесь Марговіч, Уладзімер Цьвірка, Паўла Урбан. Апошні нумар (№ 637) пабачыў сьвет у сьнежні 1966 г.

[34] **"Беларускае Слова"** — газэта прыхільнікаў БЦР, якая выдавалася ў 1948—1958 гг. пасьлядоўна ў Нямеччыне й ЗША. Выйшла 39 нумароў. Рэдактарамі былі Аляксандар Русак, Юрка Віцьбіч, Юры Сабалеўскі.

ў ЗША, які абраў Кангрэсовы Камітэт у ЗША[35]. Адмовілася таму, што аднačасна такі Камітэт стварылі ў ЗША і бэнээраўцы. Нам, пісьменьнікам, хочацца, каб часапіс "Шыпшына" стаўся пажаданым госьцем у кажнай беларускай эміграцыйнай хаце незалежна ад пераконаньняў гаспадара гэтае хаты. Хопіць памыяў і грызьні! Да гэтае еднасьці заклікае і б[ылы] рэдактар "Беларускага Слова", "Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі"[36] і іншых бэцээраўскіх выданьняў, якога ў сувязі з гэтым некаторыя бэцээраўскія артадоксы абвесьцілі цяпер здраднікам і якому аднačасна "Пуга"[37] і контр "Пуга"[38] прысьвячаюць (пэўне ў сілу інэрцыі) адмысловыя карыкатуры. Беларус беларусу братам!

Шчыра зычу ўсяго добрага.

З пашанай да Вас Юрка Віцьбіч[39].

15.4.51.

Глыбокапаважаны Спадар Акула!

Вельмі ўдзячны за Ваш ліст. Прабачце, што з некаторым спазьненьнем адказваю на яго. Мне шмат аб чым хацелася напісаць Вам, а на такі вялікі ліст бракавала часу. Гэтак праходзіў дзень за днём, а можа тыдзень за тыднем, пакуль нарэшце не адсунуў усё ў бок, каб напісаць Вам.

Прыемна, што "Шыпшына" № 9 спадабалася суродзічам у Канадзе. Гэты нумар раззышоўся па ўсіх беларускіх асяродках і сустрэў добры

---

[35] **Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)** — грамадзкая арганізацыя, створаная ў 1951 г., якая мела на мэце каардынацыю розных беларускіх структураў у ЗША, аднак здолела аб'яднаць толькі мясцовых прыхільнікаў БЦР.

[36] **"Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі"** — часопіс, які выдаваўся Беларускім праваслаўным аб'еднаньнем пад рэдакцыяй Юркі Віцьбіча спачатку ў Рэгенсбургу, а пасьля ў Міхэльсдорфе ў 1946—1947 гг. Усяго выйшла 8 нумароў.

[37] **"Пуга"** (**"Puha"**) — гумарыстычны беларускі пэрыёдык, першы нумар якога пабачыў сьвет у лістападзе 1950 г. у Таронта (Канада). Ініцыятарам і выдаўцом выступаў Сяргей Хмара.

[38] На старонках першага нумару часопісу "Пуга" крытыкавалася дзейнасьць Рады БНР. У выніку ў сьнежні 1950 г. пабачыў сьвет ініцыяваны Кастусём Акулам і Валерам Навіцкім падробны другі нумар часопісу з сатырай, скіраванай супраць самой рэдакцыі. У беларускай канадыйскай грамадзе паўстаў канфлікт. Відавочна, менавіта гэты нумар Юрка Віцьбіч і называе *«контр "Пуга"»*.

[39] **Юрка Віцьбіч** (сапр. **Сэрафім Шчарбакоў**, на эмігр. **Юры Стукаліч**, 1905—1975), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадзкі дзеяч. Колішні сябра літаратурнага згуртаваньня "Ўзвышша". У 1946 г. у Нямеччыне стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб'еднаньне "Шыпшына", выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", "БІС", газэту "Беларускае слова". Ад 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і расейскім пэрыядычным друку, у тым ліку "Новым рускім слове".

водгук сярод самых шырокіх колаў нашае эміграцыі. Пэўне гэтае тлумачыцца тым, што калі некаторыя нашыя "палітыкі" прытрымліваюцца прынцыпу *"беларус беларусу воўк"*, дык мы, пісьменьнікі, кіруемся іншым, гаротным жыцьцём апрабаваным дэвізам *"беларус беларусу братам"*.

У склад нашага згуртаваньня ўваходзяць прадстаўнікі трох плыняў (бээнэраўцы, бэцээраўцы, "трэцяя сіла"), і тым ня менш паміж намі няма аніякіх спрэчак. Магчыма, у сувязі з гэтым мы імкнемся да таго, каб наш часапіс стаўся пажаданым госьцем у кажнай беларускай эміграцыйнай хаце, незалежна ад пераконаньняў гаспадара гэтае хаты. Астатнім часам нам давялося вытрымаць досыць моцны ціск з боку розных вялікіх і малых палітыкаў, якія з даўніх-давён прызвычаіліся глядзець на пісьменьнікаў і паэтаў як на сваіх асабістых трубадураў. Дасылаліся на адрас старшыні згуртаваньня з усіх бакоў розныя дэклярацыі, якія ён паводля катэгарычных прапановаў мусіў падпісваць. Меліся нават правакацыйныя спробы нацкаваць аднаго шыпшынаўца на другога і такім чынам разбурыць згуртаваньне. Пэўне, і таму "Шыпшына" не друкаваная, а ратэтарная. Хочацца думаць, што чытач разумее, чым тлумачыцца сьціплая форма нашага часапісу.

Дзякую за прапанову зьмясьціць на старонках "Беларускага Эміграната" абвестку да чытачоў. Дазвольце праз пэўны час скарыстаць з гэтае Вашае ветлівае прапановы. Такую абвестку заўсёды зьмясьціла-б "Беларуская Трыбуна", але паколькі тое асяродзьдзе, органам якога зьяўляецца "Беларуская Трыбуна", увесь час недарэчна імкнецца падпарадкаваць сабе "Шыпшыну", дык мы сьвядома пазьбягаем такое ласкі, хаця паасобныя шыпшынаўцы час ад часу і друкуюцца на старонках гэтае газэты. "Беларускі Эмігрант" паступова робіцца і ўжо стаўся сумленьнем беларускае эміграцыі. Вось менавіта таму нам, шыпшынаўцам, хочацца мець зь ім сталую лучнасьць. Ня ведаю, наколькі гэтае супадае з Вашымі рэдакцыйнымі плянамі, але нам хочацца бачыць у "Беларускім Эміграньце" і зацемку наконт "Шыпшыны".

Цяпер пачынаю рабіць № 10 "Шыпшыны". Спадзяюся, што ён будзе цікавейшым за № 9. Акрамя мастацкіх твораў у ім будуць успаміны Масея Сяднёва пра Цішку Гартнага[40], Юркі Віцьбіча пра Эдуарда Самуйлёнка[41] і г. д. Ідзе таксама артыкул Сяднёва "Зацемкі аб нашай літаратуры". Пачатак гэтага артыкулу друкаваўся ў "Беларускай Трыбуне"[42], але ў сувязі з тым, што ў аўтара паўсталі разьбежнасьці

[40] **Цішка Гартны** (сапр. **Зьміцер Жылуновіч**, 1887—1937), пісьменьнік, перакладчык, грамадзкі й дзяржаўны дзеяч.

[41] **Эдуард Самуйлёнак** (1907—1939), празаік. Працаваў у рэдакцыях газэтаў "Чырвоная Полаччына" (1930—1933), "Літаратура й мастацтва" (1934—1939).

[42] Маецца на ўвазе публікацыя: Сяднёў, Масей. Зацемкі аб літаратуры // Беларуская Трыбуна. 1951. № 2(5)—3(6).

з старшынём Беларускага Кангрэсовага Камітэту ў ЗША др. Шчорсам[43], ягонаму артыкулу дае прытулак “Шыпшына”. А прычынай гэтай разьбежнасьці зьяўляецца тое, што Масей Сяднёў адзначаў Дзень 25 Сакавіка разам з бэнээраўцамі, а не з бэцээраўцамі, дзе на асабістую думку др. Шчорса ён абавязкова меўся прысутнічаць. Між тым, паводля нашае шыпшынаўскае пастановы кажны сябра згуртаваньня меў поўнае права абраць тую сьвяточную Акадэмію, якую лічыў для сябе бліжэйшай.

Пераходжу цяпер да Вашае заўвагі наконт рэдактара “Пугі”[44]. Мне тым больш хочацца напісаць пра гэтае, бо да мяне дайшлі чуткі аб тым, што ў Канадзе маё імя прыгадваецца ў сувязі з “трэцяй сілай”. У свой час (22.10.50) я пісаў сп. Ліпчанскаму (гэтак быў падпісаны адрасаваны да мяне ліст) наступнае: *«Ад усе душы хочацца вітаць паўстаньне “трэцяе сілы”, якая навядзе ці актыўна прылучыцца да навядзеньня парадку ў беларускай эміграцыйнай хаце. Але мне думаецца, што гэтая ня так і проста, як на першы погляд здаецца. Раблю гэты выснаў на падставе вялікае колькасьці лістоў, якія атрымліваю адусюль, як Віцьбіч»*.

І запраўды гэтае *“ня так проста”*. Сёньня ўжо канчаткова высьвятлілася, што “трэццяя сіла” пабілася на дзьве сілы: 1. Сяргей Хмара. Канада. “Пуга”. Група “Патрыёт”[45] у Вялікай Брытаніі, або Часовы Камітэт Беларускага Сяброўства[46]. “Патрыёт” мае ўсё-ж пэўныя засьцярогі да дэкларацыі С. Хмары. 2. Юры Попка (Юрка Жывіца)[47] і Антон Даніло-

43 **Мікола Шчорс** (1913—1995), грамадзка-палітычны дзеяч. З 1949 г. жыў у ЗША, адзін з стваральнікаў Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, у 1951—1955 гг. ягоны старшыня.

44 Маецца на ўвазе Сяргей Хмара.

45 Тут маецца на ўвазе група, якая склалася вакол выданьня **“Patryjot”** — часопісу беларусаў у Ёркшыры. Выдаваўся ад красавіка 1949 г. да сакавіка 1953 г. у Брадфардзе, потым у Лідсе. Пабачылі свет 10 нумароў.

46 **Беларускі камітэт сяброўства** быў заснаваны ў Ёркшыры ў 1949 г. Яго Часовы камітэт складаўся з наступных асобаў: Янка Міхалюк (старшыня), Янка Сяўковіч (сакратар), Мікола Галоўка (скарбнік), Сяргей Шчэрба (культурна-асьветны рэфэрэнт), Аляксандар Койка й Гальляш Шклянік (сябры Нагляднай Рады). Асноўная ідэя камітэту было захаваньне нэйтральнага стаўленьня да прыхільнікаў Рады БНР і БЦР.

47 **Юры Жывіца** (сапр. **Юры Попка**, 1912—1990), літаратар, выдавец, грамадзкі дзеяч. Жыў у Ляймэне (Нямеччына). Аўтар кніг: “Сын” (1950), “Празь сьлёзы” (1951), “Песьня салаўя” (1955, 1963), “Аднагалосьсе” (1961), “Кошык” (1961), “Расказы” (вып. 1—3, 1961), “У санаторнай белі” (1961), “Журавель” (1962), “Па чужых кутках” (1962), “Сын” (1962), “Сьвеціць у тумане” (вып. 1—3, 1962), “Умелы падыход” (1962), “Зь вінтоўкай у руках” (1963), “Пушча шуміць” (1963), “Новая хата” (1964), “Носьбіт ідэі” (1964).

віч (Янка Золак)[48]. Згуртаваньне Беларускіх Патрыётаў[49]. Нямеччына. "Беларускі Патрыёт"[50]. Клуніцкі[51]. Аб'еднаньне Беларусаў у Аўстраліі[52]. "Новае Жыцьцё"[53].

Мне думаецца, што спачатку самой "трэццяй сіле" трэба, адкінуўшы ўбок амбіцыі, паяднацца паміж сабой, а потым ужо заклікаць да паяднаньня іншых. Потым мне думаецца, што нішто гэтак не дыскрэдытуе "трэццюю сілу" ў Канадзе, як ейны орган "Пуга". Між іншым, мушу зазначыць, што карыкатуры на мяне асабіста не дасягаюць мэты, бо я зьяўляюся ворагам карэйскага паходу Астроўскага[54] і ўвогуле на 99 % не падзяляю пазыцыю сучаснае БЦР. Мне здаецца, што і "Пуга", і "трэццяя сіла" ў Канадзе ўзьніклі вылучна на амбіцыйных дражжах. Характэрны ў гэтай галіне малюнак у апошнім нумары "Пугі", на якім плыве хмара, а зь яе высоўваецца галава Сяргея Хмары — бракуе толькі пяруноў і маланак. Наколькі я ведаю, "Пуга" робіць самае адмоўнае ўражаньне на беларусаў усіх плыняў. Хочацца думаць, што "Баявая Ўскалось"[55] (маю на ўвазе часопіс) ня пойдзе шляхам "Пугі". Мы, шыпшынаўцы, ставімся з найшчырай пашанай да "Баявое Ўскалосі" як да Літаратурнага Згуртаваньня.

---

[48] **Янка Золак** (сапр. **Антон Даніловіч**, 1912—2000), пісьменьнік, журналіст, выдавец, грамадзкі дзеяч. Жыў у Нью-Джэрзі. У 1960—1983 гг. галоўны рэдактар часопісу "Беларуская Думка".

[49] **Згуртаваньне беларускіх патрыётаў** — арганізацыя, якая дзейнічала ў Нямеччыне й ЗША ў 1950-я гг.

[50] **"Беларускі Патрыёт"** — часопіс, орган нацыянальна-патрыятычнай думкі, які выдаваўся ў Нямеччыне й ЗША ў 1950—1955 гг. пад рэдакцыяй Антона Даніловіча.

[51] **Уладзімер Клуніцкі** (1912—1974), грамадзкі дзеяч, выдавец. У 1948 г. прыехаў у Аўстралію, дзе адразу стаў адным з актыўных арганізатараў беларускага жыцьця.

[52] Маецца на ўвазе **Беларускае аб'еднаньне ў Новай Паўднёвай Валіі**, заснаванае 28 студзеня 1950 г. у Сыднэі на чале з Уладзімерам Клуніцкім. Намагалася быць "надпартыйнай" арганізацыяй, але ў кастрычніку 1950 г. раскалолася на асобныя арганізацыі прыхільнікаў Рады БНР і БЦР.

[53] **"Новае Жыцьцё"** — часопіс, які выдаваўся ў Сыднэі (пазьней у Мэльбурне, а потым зноў у Сыднэі) ад сакавіка 1950 г. да ліпеня 1959 г.

[54] Маецца на ўвазе абвешчаная Радаславам Астроўскім ініцыятыва па мабілізацыі беларусаў для ўдзелу ў ваенных дзеяньнях у Карэі на пачатку 1950-х гг.

[55] **"Баявая Ўскалось"** — часопіс, орган Літаратурнай сустані "Баявая Ўскалось". Выдаваўся ад 1949 г. у Ольдэнбургу (Нямеччына), потым ад 1954 г. — у Таронта. Выходзіў да 1981 г. пад рэдакцыяй Сяргея Хмары. Выйшлі 18 нумароў.

Дазвольце цяпер, як чытачу, што з вылучнай пашанай ставіцца да "Беларускага Эмігранта", выказацца па двох пытаньнях, што парушаліся на старонках газэты. Першае зь іх было закранута вельмі павярхоўна, а затое другое аж занадта падрабязна. Пад першым разумею "Асьветчаньне БЦР па царкоўных справах", пад другім — "Яны пратастуюць" — наконт *"далавых падпісаных"*. Пачну з першага.

Гэтае "Асьветчаньне", якое спазьнілася на некалькі год, сьветчыць цяпер у першую чаргу аб тым, што тыя, хто яго рэдагавалі й падпісалі (Шчорс[56], Касяк[57], Русак[58]) аніяк не надаюцца на тое, каб у прышлай незалежнай Беларусі займаць пасады міністраў вонкавых або ўнутраных справаў, а магчыма й нават пасады сталаначальнікаў у гэтых паважных установах. Гэтае "Асьветчаньне" зьяўляецца дакумэнтам поўнае палітычнае нясьпеласьці. Пачну зь ягонае вонкавае накіраванасьці, і пры гэтым адразу прыгадваецца Вітаўт[59]. Наш вялікі Вітаўт калі рушыў у паход на татараў, трымаў хаўрус з крыжакамі, калі ваяваў з маскалямі, забясьпечваў сабе тымчасовую згоду з палякамі. Ніколі ён не ваяваў адначасна з маскалямі, палякамі, крыжакамі і татарамі. Гэтае "Асьветчаньне" замест таго, каб быць накіраваным супраць расейскіх імпэрыялістаў і іхнае Зарубежнае Царквы, адначасна накіравана і супраць польскае і супраць украінскае эміграцыі. З боку ўнутранага яно накіравана супраць амаль усяе беларускае эміграцыі, як бэцээраўскае, гэтак і бэнээраўскае, а менавіта супраць: 1. Бэнээраўцаў, што вызнаюць Еп[іскапа] Васіля[60]; 2. ХАБР'а[61] (В. Брытанія), што вызнае Еп[іскапа] Саву[62]; 3. Група "Патрыёт" у Ёрку (В. Брытанія) — вызнае Еп[іскапа]

---

[56] Маецца на ўвазе Мікола Шчорс.

[57] **Іван Касяк** (1909—1989), грамадзкі дзеяч. Жыў у ЗША, быў прыхільнікам БЦР. У 1957—1989 гг. быў старшынём Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

[58] **Аляксандар Русак** (1907—1957), грамадзка-палітычны дзеяч. Прыхільнік БЦР. З 1948 г. старшыня Галоўнай управы Цэнтральнага прадстаўніцтва беларускай эміграцыі (якое мелася замяніць БЦР), удзельнік аднаўленчага Пленуму БЦР у траўні 1948 г., у першым урадзе БЦР — міністар замежных спраў і аддзелу фінансаў БЦР, з 1952 г. — кіраўнік Выканаўчага органу БЦР (аналяг ураду БНР). Адзін з ініцыятараў стварэньня Беларускага кангрэсавага камітэту.

[59] **Вітаўт** (1350—1430), вялікі князь літоўскі. Адзін з найбольш ведамых кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага.

[60] Маецца на ўвазе ўладыка Васіль (Тамашчык).

[61] **ХАБР — Хрысьціянскае аб'яднаньне беларускіх работнікаў** — арганізацыя прыхільнікаў БЦР у Вялікабрытаніі, якая ўтварылася ў 1948 г. пасьля выхаду часткі сябраў са Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.

[62] **Сава** (сьвецк. **Георгі Саветаў**, 1898—1951), рэлігійны дзеяч, праваслаўны ярарх. У 1925 г. рукапакладзены на ераманаха, быў настаяцелем Сьвята-

Васіля; 4. БЦР'аўскае плыні ў Аўстраліі — вызнае Еп[іскапа] Афанасія[63] (РЗЦ[64]); 5. БЦР'аўскае плыні ў Аргэнціне — вызнае РЗЦ; 6. Групы Праф. Сьцяпанава[65] ў ЗША — вызнае РЗЦ; 7. Згуртаваньня Беларускіх Патрыётаў, Нямеччына — вызнае Арх[іяпіскапа] Вэнэдыкта[66] і г. д.

Увогуле гэтае "Асьветчаньне" накіравана супраць усіх беларусаў, акрамя парафіянаў айца М[ікалая] Лапіцкага[67] (ёсьць такі надзвычай

Мікалаеўскага падвор'я ў Бары (Італія), служыў у Мюнхэне, Будапэшце. У красавіку 1929 г. у Варшаве ўзведзены мітрапалітам Дзянісам у сан архімандрыта. З 1933 г. епіскап Люблінскі, а ў 1937 г. ачоліў Гарадзенскую япархію. Пасьля пачатку Другой сусьветнай вайны — у польскім войску, выконваў функцыі япіскапа на чужыне. Памёр у 1951 г. у Лёндане.

63 **Апанас (Афанасій)** (сьвецк. **Антон Мартас**, 1904—1984), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар. У сакавіку 1942 г. у Менску высьвячаны на япіскапа Віцебскага й Полацкага. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. далучыўся да Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы, але не губляў кантактаў і зь беларускім рухам. У 1950—1955 гг. вікарны япіскап у Аўстраліі. Потым пераехаў у Аргентыну. Япіскап (пазьней архіяпіскап) Буэнас-Айрэскі й Аргентынска-Парагвайскі. У 1966 г. выдаў кнігу *"Белорусь в исторической государственной и церковной жизни"* (прадмова па-беларуску). У 1971 г. Сінод РПЦЗ забараніў чытаньне й распаўсюд кнігі, а аўтара адлучыў ад рэлігійнай дзейнасьці.

64 Маецца на ўвазе **Расейская праваслаўная царква за мяжой**, або **Руская зарубежная праваслаўная царква**, створаная ў 1921 г. прадстаўнікамі расейскай царкоўнай эміграцыі. Узначальвалася мітрапалітам з рэзыдэнцыяй у амэрыканскім горадзе Джорданвіль, афіцыйна не прызнавалася аўтакефальнымі праваслаўнымі цэрквамі. У траўні 2007 г. аб'ядналася з Рускай праваслаўнай царквой, але захавала самакіраваньне.

65 **Мікалай Сьцяпанаў** (1896—1972), лекар, грамадзкі дзеяч. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР (май 1948), на пленуме быў прызначаны міністрам культуры й асьветы, радны БЦР у ЗША. Працаваў у шпіталі на Лонг-Айлендзе, чытаў лекцыі па Старым Запавеце ў духоўнай сэмінарыі РПЦЗ у Джорданвілі. Быў сьвятаром царквы Сьв. Мікалая ў Спрынгфілдзе (Масачусэтс), арганізаваў праваслаўны прыход у Пасэйку (Нью-Джэрзі).

66 **Вэнэдыкт** (сьвецк. **Васіль Бабкоўскі**, 1876—1951), праваслаўны сьвятар, архіяпіскап БАПЦ. У 1937 г. прыняў манаства, рукапакладзены ў сан ерамаnаха, потым ігумена і архімандрыта, стаў настаяцелем Сьвята-Ўсьпенскага манастыра ў Жыровічах. Ад 1941 г. япіскап Брэсцкі, вікары Менскай епархіі. У 1942 г. далучыўся да БАПЦ, быў архіяпіскапам Гарадзенскім і Беластоцкім, экзархам Усходняй Прусіі. У 1944 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну і ўвайшоў у склад кліру Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. Ад 1946 г. — чалец Архіярэйскага сіноду РПЦЗ, ад 1950 г. архіяпіскап Бэрлінскі й Германскі.

67 **Мікалай Лапіцкі** (1907—1976), рэлігійна-грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар, пэдагог. Ад 1950 г. жыў у ЗША. Арганізаваў парафію сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры й быў яе настаяцелем у 1950—1976 гг. Рэдактар часопісу "Царкоўны Сьветач". У 1960—1970-я гг. узначальваў ЗБАДК, браў

гнуткі бацюшка) у Саўт Рывэры, падпарадкаваны Экзарху Канстантынопальскага Патрыярха. Карацей кажучы, царкоўнае пытаньне падменена парафіяльным. Можна яшчэ шмат чаго сказаць наконт паасобных пунктаў "Асьветчаньня", але хопіць і вышэй адзначанага. "Асьветчаньне" сьветчыць аб поўным банкруцтве БЦР у галіне царкоўнае палітыкі, яно-ж сьветчыць увогуле аб палітычным заняпадзе сучаснае эміграцыйнае БЦР.

Калі я пабачыў загаловак — "Яны пратэстуюць" — мне спачатку здалося, што ён прысьвечаны Вышынскаму[68], Грамыку[69] і іншым, аж гутарка ідзе аб *"далавах падпісаных"*. Слоў няма — мова пісьменьнікаў з атачэньня Янкі Станкевіча[70] значна розьніцца ад нашае літаратурнае мовы, а часам нагадвае проста зьдзек зь яе. Слоў няма таксама, што ніхто зь пісьменьнікаў паасобку або група іх ня мае права гвалтам накідваць якому-небудзь выданьню (а тым больш паважнаму) сваю мову і адначасна закідваць, што ігнараваньне ягонае або іхнае мовы зьяўляецца бяз малага нацыянальнай здрадай. Цалкам разумею абурэньне Рэдакцыі "Беларускага Эмігранта", але разам з тым мне здаецца, што ў гэтым абурэньні перабіраецца мерка. У мяне асабіста ёсьць пэўныя разьбежнасьці з Антонам Адамовічам[71], хаця ў мінулым мы разам належалі да славутага Згуртаваньня "Ўзвышша"[72], што налічвала 9 сябраў. Ёсьць у мяне таксама разьбежнасьці і з Натальляй Арсеньневай[73], якая

удзел у кангрэсах беларусаў Амэрыкі, уваходзіў у кіраўнічыя структуры БККА.

[68] **Андрэй Вышынскі** (1883—1954), савецкі дзяржаўны дзеяч. У 1933—1939 гг. намесьнік пракурора й пракурор СССР, быў дзяржаўным абвінаваўцам на фальсыфікаваных палітычных працэсах 1930-х гг. У 1949—1953 гг. міністар замежных справаў СССР.

[69] **Андрэй Грамыка** (1909—1989), савецкі дзяржаўны дзеяч, у 1946—1948 гг. прадстаўнік СССР у Радзе бяспекі ААН, і далей як першы намесьнік, а пазьней і міністар замежных справаў СССР стала ўдзельнічаў у працы ААН як кіраўнік савецкай дэлегацыі

[70] **Янка Станкевіч** (1891—1976), грамадзкі дзеяч, мовазнаўца, журналіст. Стваральнік Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Выдаваў часопіс "Веда". Аўтар шэрагу навуковых і навукова-папулярных працаў, дзясяткаў артыкулаў.

[71] **Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзкі дзеяч, навуковец, пісьменьнік. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Займаўся навуковымі дасьледаваньнямі, аўтар вялікай колькасьці літаратуразнаўчых прац. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу.

[72] **"Узвышша"** — літаратурнае аб'еднаньне, якое існавала ў БССР у 1926—1931 гг., выдавала аднайменны часопіс. На эміграцыі апынуліся два колішнія сябры гэтага згуртаваньня: Антон Адамовіч і Юрка Віцьбіч.

[73] **Натальля Арсеньнева** (у шлюбе **Кушаль**, 1903—1997), паэтка, грамадзкая дзяячка. Ад 1950 г. жыла ў ЗША. У 1952—1954 гг. рэдагавала газэту


Юрка Віцьбіч

адзін час займалася вылучна цкаваньнем "Шыпшыны", ужываючы для гэтае мэты ўсе сродкі. Аднак ніколі не назаву іх "арламі" беларускае літаратуры. І думаю таксама, што і Адамовіч, і Арсеньнева ў стакроць больш далі беларускаму вызвольнаму руху, чым Білемюк[74] (ведаю яго — нішто хлапец), які адыгрывае ролю экзэкутара ў дачыненьні да Адамовіча і Арсеньневай. Таму і ў чытача застаецца падвойнае ўражаньне ад артыкулу "Яны пратэстуюць". З аднаго боку, ён падзяляе абурэньне "Беларускага Эмігранта", але, з другога боку, яму хочацца выказаць сваё спачуваньне Адамовічу і Арсеньневай, якія ня гледзячы на тыя ці іншыя свае недахопы былі, ёсьць і будуць апрабаванымі змагарамі за Незалежнасьць нашае Беларусі.

Аднак мой ліст атрымаўся аж занадта вялікім. А між тым шмат аб чым яшчэ не напісаў. Шкадую Ваш час, дый і ў мяне зь ім кепска. Спадзяюся, што наша лучнасьць будзе сталай. Каб гэтае сталася, зусім не абавязкова, каб усе Вашыя думкі цалкам супадалі з маімі або наадварот. Дзеля-ж гэтага толькі патрэбна, каб яны супадалі ў самым галоўным і сьвятым, а менавіта — Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!

З пашанай да Вас Юрка Віцьбіч.

П. С. Дасылаю Вам, спадар Акула, копію майго ліста да Сп. Хмары, паколькі гэты ліст закранае нашыя балючыя грамадзкія пытаньні. Не сумняваюся ў тым, што Сп. Хмара не даведаецца аб гэтай копіі, бо гэта перашкодзіць маім асабістым спробам накіраваць у залежнасьці ад маіх магчымасьцяў "трэцюю сілу" (ня толькі ў Канадзе) на ўсебеларускі вызвольны шлях. Агульнавядомы унтэр Прышыбеяў[75] як тып нам, беларусам, не ўласьцівы.

Яшчэ раз усяго добрага.

Юр[ы] В[іцьбіч]

"Беларус", потым працавала ў нью-ёрскім офісе беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода". У 1967 г. пасьля сьмерці нявесткі, Натальлі Кулісовіч-Кушаль, разам з мужам пераехала да сына Ўладзімера ў Рочэстар (штат Нью-Ёрк).

74 Маецца на ўвазе **Міхась Белямук** (1924—2014), грамадзкі дзеяч. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Узначальваў Згуртаваньне беларускай моладзі ў Амэрыцы. Адзін з заснавальнікаў часопісу "Полацак". Аўтар кніг "Вытокі беларускіх пячаткаў" (Кліўлэнд, 1986), "Свайго лёсу не мінеш" (Вільня, 2006), "Нумізматыка. Сфагістыка. Успаміны" (Мінск, 2010).

75 Маецца на ўвазе герой аднайменнага апавяданьня Антона Чэхава.

Копія

Саўт Рывер.
22.10.50

Глыбокапаважаны Спадар Ліпчанскі[76]!

Вельмі ўдзячны за дасланы № 2 час[опісу] “Баявая Ўскалось”. Таксама ўдзячны за Ваш ветлівы ліст. Уважліва прачытаўшы і перачытаўшы яго, хочацца падрабязна адказаць на ўсе парушаныя Вамі ў ім пытаньні.

Перш за ўсё мушу Вас запэўніць, што Ваш ліст да мяне бязумоўна ня будзе скарыстаны *“ў партыйных лаянках”*. Ня будзе скарыстаны з тае простае прычыны, што я асабіста астатнім часам ня прымаю аніякага ўдзелу ў гэтых лаянках. Гэтая лаянка адбывалася дый цяпер адбываецца пад вельмі прымітыўным гаслам:

Бі яго — ён “крывіч”!

Ату яго — ён “зарубежнік”!

На думку “крывіцкіх” артадоксаў, усе зарубежнікі зьяўляюцца расейскімі дыверсантамі, на думку “зарубежніцкіх” артадоксаў, усе “крывічы” ёсьць польскія дыверсанты. На маю асабістую думку, якая астатнім часам канчаткова выкрысталізавалася, ёсьць добрыя патрыёты сярод “крывічоў” і “зарубежнікаў”, ёсьць таксама агідныя здраднікі і сярод “крывічоў”, і сярод “зарубежнікаў”. Мне думаецца, што беларуская палітычная эміграцыя знойдзе ў сабе сілы, каб аб’яднаць усё добрае, што ёсьць сярод “крывічоў” і “зарубежнікаў”, адкінуўшы ў бок усё благое, што ёсьць у двох плынях. Гэтае зьяўляецца найлепшай марай усіх найлепшых беларусоў на чужыне.

Аднак Вы крыху ўпрошчана глядзіце на разьбежнасьці, што існуюць паміж “крывічамі” і “зарубежнікамі”, калі думаеце, што тут ходзіць вылучна пра царкву. І тэрмін “крывіч”, і тэрмін “зарубежнік” зьяўляюцца надзвычай умоўнымі, і таму сам заўсёды ўжываю іх у двукосьсях. Як “крывічамі” можна па сутнасьці назваць толькі 2—3 асобаў (Ян[ка] Станкевіч, Адамовіч і інш.), што няўдала спрабавалі гвалтам перахрысьціць усіх беларусаў на эміграцыі, гэтак і “зарубежнікамі” можна назваць толькі 2—3 асобаў (Касяк, Сьцяпанаў і інш.), што і сёньня зьяўляюцца прыхільнікамі далучэньня былога Беларускага Епіскапату да Расейскае Зарубежнае Царквы. Існасьць “зарубежніцтва” зусім у іншым. Таму, напрыклад, калі суродзічы з “Патрыёту” або ХАБР’аўцы выракліся б[ылога] Беларускага Епіскапату[77], дык яны ўсё роўна засталіся “зарубежнікамі”. Калі, напрыклад, Калегія БЦР вынясла пастанову аб канчатковым разрыве з б[ылым] Беларускім Епіскапатам, што мае

[76] **Ліпчанскі** — псэўданім Сяргея Хмары.

[77] Маецца на ўвазе епіскапат БАПЦ, які ў 1946 г. далучыўся да Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой.

быць надрукаванай у наступным нумары “Беларускае Трыбуны”, дык усё роўна БЦР у сувязі з гэтым ня зьнікне, а застанецца штабам “зарубежніцтва”. Тут не ходзіць пра царкву.

Другая сусьветная вайна выклікала на Беларусі вялікі нацыянальны ўздым. Не падлягае аніякаму сумневу, што другі акупант праз пэўны час пачаў-бы польскімі або расейскімі ці непасрэдна нямецкімі рукамі зьнішчаць гэты ўздым. А тымчасам усё-ж беларускі нацыянальны актыў, усё недабітае й недасечанае першым акупантам пачало гуртавацца вакол БЦР, вакол СБМ, вакол БКЗ[78], вакол БКА, вакол Самапомачы і г. д. Надзвычай добра гэты час знайшоў адбітак у добрай паэме Міхася Кавыля “Міжагнёўе”. Мне вось у гэтую хвіліну прыгадваюцца забойства расейскага рэдактара Брандта[79] ў Віцебску — сабаку сабачая сьмерць, сьвятая кроў Маракова[80] й Саковіча[81] ў Лідзе, ганаровая варта СБМ на магілках Ігнатоўскага[82] і Чарвякова[83] ў Менску, звон званоў Сьвятой Сафіі ў Полацку, зацятыя крывавыя баі аддзелаў Беларускае Краёвае Абароны з расейскімі ўшкуйнікамі[84]

---

78 **Беларускае культурнае згуртаваньне** — культурніцкая арганізацыя, створаная з ініцыятывы Беларускай Цэнтральнай Рады ў студзені 1944 г. у Менску. Старшынём быў Аўген Калубовіч (Каханоўскі).

79 **Аляксандар Брандт** (?—1942), выкладчык рускай мовы й літаратуры, у часе акупацыі быў рэдактарам газэты “Новы Шлях”, а ягоны бацька Леў Брандт быў бургамістрам Віцебска.

80 Маецца на ўвазе **Валеры Маракоў** (1909—1937), паэт. Друкаваўся ад 1925 г. Быў сябрам літаб’яднаньня “Маладняк”. Рэпрэсаваны. Аўтар кніг “Пялёсткі” (1926), “На залатым пакосе” (1927), “Вяршыні жаданьняў” (1930), “Права на зброю” (1932). Расстраляны ў Менску 29 кастрычніка 1937 г. разам зь іншымі беларускімі літаратарамі.

81 **Юльлян Саковіч** (1906—1943), грамадзка-палітычны дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі — камэндант паліцыі Менскай акругі (1941), а затым горада Менску. У траўні 1943 г. высланы ў Ліду на пасаду кіраўніка БНС на Лідзкую акругу, дзе адкрыта зрабіў некалькі правакацыйных заяваў супраць польскай інтэлігенцыі. Застрэлены 13 чэрвеня 1943 г. у Васілішках (Лідзкая акруга) польскімі партызанамі.

82 **Усевалад Ігнатоўскі** (1881—1931), гісторык, грамадзка-палітычны дзеяч. Першы прэзыдэнт Інстытуту беларускай культуры. Дырэктар Інстытуту гісторыі, першы прэзыдэнт Беларускай акадэміі навук (ад 1928 г.). Ахвяра палітычных рэпрэсій. Скончыў жыцьцё самагубствам. Пахаваны на Вайсковых могілках.

83 **Аляксандар Чарвякоў** (1892—1937), дзяржаўны дзеяч БССР. У 1920—1937 гг. старшыня ЦВК БССР, адзін са старшыняў ЦВК СССР (1922—1937), у 1920—1924 гг. старшыня СНК БССР. Скончыў жыцьцё самагубствам ці быў застрэлены. Пахаваны на Вайсковых могілках у Менску.

84 **Ушкуйнікі** — у старажытныя часы наўгародзкія піраты, удзельнікі ўзброенай дружыны, створанай купцамі ці баярамі для абароны памежных

Камінскага[85], перанясеньне абразу Менскае Божае Маці з музэйнага дрывотніку ў Жоўтую царкву[86], кроў нашых паліцыянтаў і самаахоўцаў у няроўным змаганьні з сталінскімі бандамі, урачыстая паніхіда на могілках 1000 вялісkіх паўстанцаў, спроба аднаўленьня "Ўзвышша"[87] і шмат шмат чаго іншага. Выснавам усяго гэтага зьявіўся II Кангрэс, які складаўся з усяго лепшага, што мела тагачасная Беларусь. Вось у вызнаваньні гэтага ўздыму і ёсьць існасьць "зарубежніцтва". Які няўлюдак заўважыць, што за Гітлера, што за III Райх загінулі Сьвятое Памяці праф. Іваноўскі[88] і Казлоўшчык[89]? Які няўлюдак абразіць пагардлівым пляўком шматлікія магілкі нашых гэраічных братоў, што загінулі пад Маладэчнам і Барысавам, пад Наваградкам і Магілёвам? Пройдзе пэўны час і ў гісторыі нашае Маці-Беларусі знойдуць адпаведны добры адбітак і II Кангрэс, і Беларуская Цэнтральная Рада. Аднак знойдзе БЦР гэты адбітак без асобаў, бо сярод гэтых асобаў былі ня толькі высокі інтэлектуальны патрыёта Мік[ола] Шкілёнак[90], ня толькі

тэрыторыяў і набегаў. Тут выкарыстоўваецца ў дачыненьні да ўзброеных фармаваньняў пад камандаваньнем Браніслава Камінскага.

85 Маецца на ўвазе **Браніслаў Камінскі** (1899—1944), адзін з камандзіраў расейскіх фармаваньняў у складзе войскаў СС, брыгадэнфюрэр СС і генэралмаёр войскаў СС (1944). Расстраляны немцамі за марадзёрства.

86 Маецца на ўвазе сёньняшняя царква Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла ў Менску, якая ў XVIII ст. была ведамая пад назовамі Сьвята-Кацярынінская й Жоўтая царква.

87 Маецца на ўвазе спроба аднаўленьня часопісу "Ўзвышша", зробленая Беларускім культурным згуртаваньнем у Менску ў 1944 г. Аднак падрыхтаваны нумар часопісу не пасьпеў пабачыць сьвет.

88 **Вацлаў Іваноўскі** (1880—1943), палітычны й грамадзкі дзеяч, выдавец, доктар тэхнічных навук. Быў міністрам асьветы ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі, які ўзначальваў Антон Луцкевіч. У часе Другой сусьветнай вайны кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Вільні, ад 1942 г. — бургамістар Менску. Быў старшынём Беларускай рады даверу, Беларускай народнай самапомачы. Загінуў у выніку замаху невядомых.

89 **Уладыслаў Казлоўскі** (1896—1943), грамадзкі дзеяч, журналіст. Рэдагаваў і выдаваў часопіс "Новы Шлях" (1933—1937). Падчас нямецкай акупацыі рэдагаваў "Беларускую газэту", у рэдакцыі якой быў забіты савецкімі падпольшчыкамі. Адзін са стваральнікаў Беларускай народнай самапомачы.

90 **Мікола Шкялёнак** (1899—1946), гісторык, юрыст, грамадзка-палітычны дзеяч. Закончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1940 г. пасяліўся ў Бэрліне, супрацоўнічаў з газэтай "Раніца", потым быў яе рэдактарам. У 1942 г. накіраваны ў Менск на працу ў Генэральны камісарыят, у 1943 г. увайшоў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, быў яе першым віцэ-прэзыдэнтам. У 1946 г. арыштаваны ў Польшчы й прывезены ў Менск. Расстраляны.

крыштальнае душэўнае чысьціні беларус Паўла Сьвірыд[91], але і пэўны прайдзісьвет, імя якога не хачу тут нават прыгадваць, і здраднік, як Селях[92], і проста дурні, як Пётра Орса[93] і Сьцяпан Калядка[94].

Толькі ня трэба блытаць гістарычную БЦР з эміграцыйнай БЦР. Таксама як ня трэба блытаць гістарычную БНР з эміграцыйнай БНР. Сьв. памяці Крэчаўскі[95] і Захарка[96] ёсьць волаты беларускага нацыянальнага духу. Сьвятымі ёсьць для нас імёны Ластоўскага[97], Цьвікевіча[98], Езавітава, Лёсіка[99], братоў Луцкевічаў[100], Мамонькі[101],

91 **Павал Сьвірыд** (1886—1948), грамадзкі дзеяч, юрыст. У 1930-я гг. працаваў у Наваградку, падчас нямецкай акупацыі быў старшынём Наваградзкага акруговага суду, што аб'ядноўваў міравыя суды Баранавіцкай, Ганцавіцкай, Наваградзкай і Слонімскай акругаў. Сябра БЦР (1944). Зь лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Памёр у Равенсбургу (Заходняя Нямеччына)

92 Маецца на ўвазе **Вячаслаў Сэлях** (на эмігр. **Качанскі**, **Сэлях-Качанскі**, 1885—1976), опэрны сьпявак, тэатральны й грамадзкі дзеяч. Ад 1950 г. жыў у Саўт-Рывэры (ЗША).

93 **Пётра Орса** (1898—1990), грамадзкі дзеяч. Выпускнік Наваградзкай беларускай гімназіі, пасьля яе заканчэньня выехаў у Прагу, дзе атрымаў агранамічную вышэйшую адукацыю. Вярнуўшыся на бацькаўшчыну, працаваў у каапэратыўных арганізацыях. Падчас Другой сусьветнай вайны ўзначальваў аддзел сельскай гаспадаркі Беларускай Цэнтральнай Рады. Пасьля вайны эміграваў, жыў у Нямеччыне й ЗША.

94 **Сьцяпан Калядка** (?—?), грамадзкі дзеяч. Быў сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады, належаў да аддзелу пафэсійных саюзаў, удзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе.

95 **Пётра Крэчэўскі** (1879—1928), палітычны й грамадзка-культурны дзеяч. У 1919—1928 гг. прэзыдэнт Рады БНР. Жыў у Празе.

96 **Васіль Захарка** (1877—1943), грамадзка-палітычны дзеяч, у 1918—1919 і 1923—1925 гг. міністар фінансаў БНР, з 1928 да 1943 г. прэзыдэнт Рады БНР.

97 **Вацлаў Ластоўскі** (1883—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, пісьменьнік, мовазнаўца, літаратуразнаўца, этнограф. Рэпрэсаваны.

98 **Аляксандар Цьвікевіч** (1888—1937), грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст. Рэпрэсаваны.

99 **Язэп Лёсік** (1883—1940), грамадзкі дзеяч, мовазнаўца й публіцыст, акадэмік БАН. Рэпрэсаваны.

100 **Іван Луцкевіч** (1881—1919), грамадзкі й культурны дзеяч, адзін са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады й газэты “Наша Ніва”. **Антон Луцкевіч** (1884—1942), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч, адзін з пачынальнікаў беларускага незалежніцкага руху й адзін зь лідараў беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі ў 1921—1939 гг. Рэпрэсаваны.

101 **Язэп Мамонька** (1889—1937), палітычны дзеяч, публіцыст. У 1918—1924 гг. сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Уваходзіў

Смоліча[102], Бадуновай[103], Грыба[104] і іншых слаўных. Самая ідэя аднаўленьня БНР на эміграцыі ёсьць добрая ідэя. Таксама нічога нельга сказаць супраць асобы Спадара Інж[ынэра] М[іколы] Абрамчыка як Прэзыдэнта адноўленае БНР. Аднак чаму ў яго бліжэйшым атачэньні ёсьць прайдзісьветы, што нагадываюць Азэфа[105]? Чаму ён прыслухоўваецца часам да голасу "беларусаў" з УНРаўскім[106] стажам? БНР у сваім цяперашнім складзе ня ў стане, на жаль, аб'яднаць усю беларускую палітычную эміграцыю. Таксама эміграцыйная БЦР у сваёй значнай частцы ўяўляе з сябе проста суполку ўбогіх местачковых бургамайстраў. Яны — гэтыя "гаспадары" — не надаюцца на тое, каб кіраваць калгасам, а тым ня менш пнуцца ўсяляк у "дзяржаўныя мужы". Яны нават ня ў стане зразумець, што ў 1950 г. нельга гаварыць на міжнародным форуме ад імя БЦР. Яна адыйшла ў гэтым сэньсе ў мінулае. Толькі хочацца лішні раз зазначыць, што тыя нашыя барзапісцы, якія атаесамліваюць гістарычную БЦР з Кубэ[107] і Готбэргам[108], нічым не адрозьніваюцца ад тых барзапісцаў, якія называюць слаўную Беларускую Сялянска-Работніцкую Сацыялістычную Грамаду[109] вынаходкай Леніна.

---

у склад замежнага бюро ЦК БПС-Р. Ад канца 1922 г. у Чэхаславацкай Рэспубліцы навучаўся ва Ўкраінскай сельскагаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах. Пазьней вярнуўся ў БССР. Рэпрэсаваны.

[102] **Аркадзь Смоліч** (1891—1938), дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня, вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, картаграфіі, геаграфіі. Рэпрэсаваны.

[103] **Палута Бадунова** (1885—1938), грамадзка-палітычная дзяячка. У 1918—1925 гг. сябра БПС-Р. У 1923—1925 гг. жыла ў Празе. Вярнулася ў БССР. Рэпрэсаваная.

[104] **Тамаш Грыб** (1895—1938), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч. Лідар Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Ад пачатку 1920-х гг. жыў у Празе.

[105] **Еўна Азэф** (1869—1918), расейскі эсэр-правакатар, адзін з кіраўнікоў Расейскай партыі эсэраў і адначасова сакрэтны супрацоўнік Дэпартамэнту паліцыі.

[106] **УНР — Украінская Народная Рэспубліка** — украінская незалежная дзяржава ў 1917—1920 гг. Пасьля 1920 г. урад УНР знаходзіўся ў выгнаньні спачатку ў Польшчы, а ад 1939 г. — у Францыі.

[107] **Вільгельм Кубэ** (ням. *Wilhelm Kube*, 1887—1943), нямецкі палітычны дзеяч, у 1941—1943 гг. генэральны камісар Генэральнай акругі Беларусь рэйхскамісарыяту Остлянд.

[108] **Курт фон Готбэрг** (ням. *Curt von Gottberg*, 1896—1945), дзяржаўны й вайсковы дзеяч нацыскай Нямеччыны. Кіраўнік СС і паліцыі ў Беларусі (1942—1943). Пасьля забойства Вільгельма Кубэ стаў генэральным камісарам Беларусі (1943—1944).

[109] **Беларуская сялянска-работніцкая грамада** (БСРГ) — масавая левая партыя, якая дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў 1925—1927 гг.

Ад усяе душы хочацца вітаць паўстаньне "трэцьцяе сілы", якая навядзе ці актыўна прылучыцца да навядзеньня парадку ў беларускай эміграцыйнай хаце. Але мне думаецца, што гэтае ня так проста, як на першы пагляд здаецца. Раблю гэты выснаў на падставе вялікае колькасьці лістоў, якія атрымліваю адусюль як Віцьбіч. Ведаю таму, што робіцца ў Ёрку, у Лёндане, у Парыжы, у Вініпэгу, у Сіднэі, у Мэльбурну і г. д., ня кажучы ўжо пра ЗША. Ці ведаеце Вы, напрыклад, што зусім нядаўна ў Аўстраліі паўсталі вялікія разьбежнасьці паміж "зарубежнікамі" і "крывічамі", і "Новае Жыцьцё", здаецца, больш ня выйдзе[110]. Ці ведаеце Вы таксама, што ў Ёрку на трэці дзень пасьля цёплага прыёму Епіскапа Васіля быў пасланы ня менш цёплы ліст Прэзыдэнту БЦР Астроўскаму. Хачу гэтым сказаць, што "трэцьцяя сіла" не ўяўляе зь сябе чагосьці маналітнага, а значыцца моцнага, а значыцца і здатнага на тое, каб узьдзейнічаць на іншыя дзьве сілы. Каб стацца такой маналітнай, ёй бракуе зарганізаванасьці, пад якой разумею не паўстаньне чарговае інстытуцыі, а паўстаньне палітычнага часапісу. У гэтым часапісе мусіць адзначацца ўсё добрае, што ёсьць у першых двох сілах, і падрабязна асьвятляцца ўсё благое, што ёсьць у іх. Галоўна-ж мэта такога часапісу — змаганьне за зьдзейсьненьне Акту 25 Сакавіка, а гэта значыцца — прапагаваньне нашае нацыянальнае ідэі сярод іншых нацыянальнасьцяў, змаганьне з расейскім і польскім імпэрыялізмамі. Асабіста я, а таксама наколькі мне вядома і тая "трэцьцяя сіла", што паўстае ў ЗША, усяляк падтрымае такі часапіс.

Дазвольце перайсьці цяпер да літаратурных справаў. Шыпшынаўцы ад шчырага сэрца віталі нараджэньне ці, дакладней, аднаўленьне "Баявое Ўскалосі". Ейнае паўстаньне зьяўляецца заканамернай і натуральнай зьявай. Пэўная і досыць значная частка нашых пісьменьнікаў у сілу тых ці іншых прычынаў не магла дасылаць свае творы ў "Шыпшыну" або ў "Сакавік". Не магла не таму, што гэтыя два часапісы прызначаліся вылучна для "карыфэяў". У складзе "Шыпшыны", напрыклад, толькі два сябры мелі свае кнігі да Другое сусьветнае вайны і ні ў якім разе не лічылі сябе карыфэямі. Таксама зусім невыпадкова на вокладцы "Сакавіка" мелася "Двупагоня", а на старонках яе друкаваліся таксама некаторыя зь цяперашніх баявых ускалосаўцаў. Дзьверы гэтых часапісаў былі адчыненыя для іх, але яны ня ішлі туды, стварыўшы для сябе "Пагоню"[111], "Мэту"[112],

---

[110] У кастрычніку 1950 г. у Беларускім аб'яднаньні ў Новай Паўднёвай Валіі й рэдакцыі часопісу "Новае Жыцьцё" адбыўся раскол і надалей выходзілі дзьве розныя вэрсыі часопісу — бээнэраўская й бэцээраўская.

[111] **"Пагоня"** — мастацка-літаратурны часопіс, які выдаваўся ў Зальцбургу ў 1945—1946 гг. Выйшла 4 нумары.

[112] ***"Meta"*** — літаратурна-грамадзкі часопіс, які выходзіў у Ольдэнбургу ў 1946—1947 гг. Выйшла 15 нумароў.

“Наперад”[113], “Моладзь”[114], скаўцкія часапісы. Ня ішлі яны таму, што ў іх вачох усё-ж “Шыпшына” была да тае ці іншае ступені “зарубежніцкай”, а “Сакавік” быў да тае ці іншае ступені “крывіцкім”. Традыцыі гістарычнае “Баявой Ускалосі” зьявіліся глебай для арганізацыйнага афармленьня гэтае часткі пісьменьнікаў у сучасную “Баявую Ўскалось”.

Аднак з Вашага ліста відаць, што справа ня толькі ў тым, як заглядаліся баявыя ўскалосаўцы на “Шыпшыну”, але і ў тым, што для іх зьмест дамінуе над ягонай формай. Форма для іх другараднае ў параўнаньні зь ідэяй і ейным кірункам. Нават больш, пісьменьнік, на іхную думку, мае права да пэўнай ступені занядбаць формай, абы толькі зьмест падбіваў ворагаў нашае Бацькаўшчыны. Адсюль пэўне паходзіць і недаацэнка значаньня мастацкага твору, калі Вы адзначаеце, што баявыя ўскалосаўцы ў працівагу ўзвышэнцам змагаліся з ворагам ня толькі вершамі, але і на вуліцах, на барыкадах. І Вы зусім правыя, калі адзначаеце, што ў гэтым розьніца паміж баявымі ўскалосаўцамі і ўзвышэнцамі, а значыцца і з шыпшынаўцамі.

Мне прыгадваецца твор нашага Максіма Багдановіча пра музыку. Магчыма, у гэтым сэньсе Максім Багдановіч ня зусім характэрны, як да значнае ступені паэта чыстага мастацтва. Таму адразу прыгадваюцца два радкі з паэты, які ва ўсіх адносінах зьяўляецца змагаром, а менавіта з Уладзімера Маякоўскага[115]:

*Все Совдепы не сдвинут армий,*
*Если марш не дадут музыканты*[116].

А каб стацца менавіта такім “музыкантам” (у сэньсе ўзьдзейнічаньня на арміі) ён-жа, Маякоўскі, прызнаецца, што

*Изводишь единого слова ради*
*Тысячи тонн словесной руды*[117]

---

113 **“Наперад!”** — моладзевы часопіс, орган “Дванаццаткі”, які выходзіў у 1947—1953 гг. — спачатку на шляху ў Вялікую Брытанію, потым у Брытаніі, а ў 1953 г. у Бэльгіі. Выйшла 26 нумароў. Падрабязьней пра часопіс можна прачытаць у кнізе Янкі Запрудніка “Дванаццатка” (Нью-Ёрк, 2002).

114 **“Моладзь”** — моладзевы часопіс, які выходзіў у Парыжы ў 1948—1954 гг. Рэдактарамі былі Янка Філістовіч, Міхась Наўмовіч. Выйшла 32 нумары. Часопісу прысьвечаная кніга “Месца выдання — Парыж” (Мінск, 2004).

115 **Уладзімер Маякоўскі** (рус. *Владимир Маяковский*, 1893—1930), расейскі й савецкі паэт.

116 Цытата зь вершу Ўладзімера Маякоўскага *“Приказ по армии искусства”* (1918).

117 Цытата зь вершу Ўладзімера Маякоўскага *“Разговор с фининспектором о поэзии”* (1926).

— і прыраўноўвае паэзыю да здабычы радыя. Аўтар гэтых радкоў удзельнічаў у вялікім антыбальшавіцкім паўстаньні, пазьней яму павыбівалі палову зубоў, яшчэ пазьней вадзілі на расстрэл, і тым ня менш ён не без падставы лічыць, што куды больш даўся ў знакі бальшавікам як пісьменьнік, чым як паўстанец.

Дазвольце прывесьці трэці прыклад. У Сяргея Хмары ёсьць добры верш, які зусім не выпадкова ведаю на памяць.

*Усьцяж Беларусь!*
*Беларусь на губох,*
*У сэрцы-ж —*
*чорная здрада.*
*Дзьве Беларусі ёсьць.*
*Мы сваю ў снох*
*Уночы ня высьнім.*
*Скрадам!*

З гэтым творам на вуснах дзесяткі, сотні барацьбітоў выйдуць на вуліцы для змаганьня з ворагамі Беларусі. Калі-ж Сяргей Хмара замест таго, каб напісаць яшчэ шэраг такіх твораў, выйдзе на вуліцу, кіне гранату, якая, магчыма, зьнішчыць зь дзясятак саветчыкаў, але сам тут-жа загіне, дык гэта толькі будзе вялікай пацехай для ворагаў Беларусі.

Дазвольце прывесьці чацьвёрты прыклад з нашага далёкага мінулага. У 1610 г. архіяпіскап Мілеці Сматрыцкі[118] надрукаваў свой высокапатрыятычны “Фрынос” (“Плач”), які зьяўляецца і палітычным памфлетам, і высокамастацкім творам. Якое ўражаньне зрабіў гэты твор на нашых продкаў, відаць з таго, што польскі кароль Жыгімунт IV[119], які ў той час знаходзіўся разам са сваім войскам пад Смаленскам, загадаў спаліць усе паасобнікі гэтае кнігі і тую друкарню, дзе яна друкавалася. Дарэчы — хочацца, каб некаторыя нашыя пісьменьнікі пэсімістыя плакалі-б так, як плакаў Мілеці Сматрыцкі. Крый Божа, не хачу гэтым сказаць, што паэта, што мастак слова ня мае права на тое, каб зь вінтоўкай у руках змагацца з ворагамі Бацькаўшчыны. Мае на гэта права. Я хачу толькі сказаць, што вінтоўка ў ягоных руках зьявіцца куды слабейшай зброяй, чым створаны ім высокапатрыятычны твор, які закліча да бою сотні, тысячы суродзічаў. Мне думаецца, што бальшавікі даўно ўжо забылі пра існаваньне падпалкоўніка Аляксандра Прушынскага[120], але

[118] **Мялецій Сматрыцкі** (1557—1633), грамадзка-палітычны й царкоўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

[119] Маецца на ўвазе **Жыгімонт III Ваза** (1566—1632), кароль польскі й вялікі князь літоўскі ў 1587—1632 гг.

[120] **Аляксандар Прушынскі** (псэўд. **Алесь Гарун**, 1887—1920), паэт, празаік, публіцыст, дзеяч беларускага Адраджэньня пачатку XX ст.

яны ніколі не забываюць пра Алеся Гаруна. І вось раней узвышэнцы, а цяпер шыпшынаўцы імкнуцца да пэўнае гармоніі формы і зьместу, імкнуцца да стварэньня высокамастацкіх і разам з тым глыбока ідэёвых высокапатрыятычных твораў.

Ёсьць яшчэ адна рыса, якая адрозьнівае "Баявую Ўскалось" ад "Шыпшыны". Сябры "Баявой Ускалосі" зьяўляюцца вылучна прадстаўнікамі "трэцьцяе сілы" і вызнаюць эміграцыйную БНР, хаця і з пэўнымі засьцярогамі. Сярод сябраў "Шыпшыны" ёсьць прадстаўнікі ўсіх трох плыняў, і тым ня менш паміж імі ніколі ня было разьбежнасьцяў на палітычнай глебе. Нас усіх аб'ядноўвае адзінае сьвятое — Акт 25 Сакавіка і змаганьне за зьдзяйсьненьне гэтага Акту. Калі Міхась Кавыль прыгадвае ў сваёй паэме Астроўскага, дык нікому не забараняецца ў іншым творы адзначыць у тым-жа самым добрым пляне Абрамчыка. Аднак мы нікому не дазволім на старонках свайго часапісу называць Астроўскага *"Старым авантурнікам"*, а Абрамчыка — *"Маладым авантурнікам"*. "Шыпшына" змагаецца мастацкім словам з адвечнымі ворагамі нашае Бацькаўшчыны, а не з "крывічамі" і "зарубежнікамі" як з пэўнымі плынямі аднае і тае-ж беларускае палітычнае эміграцыі. "Шыпшына" зьяўляецца палітычнай у сэньсе змаганьня з расейскім і польскім імпэрыялізмам, але яна ёсьць апалітычная ў дачыненьні да змаганьня "крывічоў" з "зарубежнікамі".

І яшчэ адна істотная рыса. Яе трапна заўважыў нават чужынец, а менавіта ўкраінец праф. Ю[ры] Шэрах[121] у сваім вялікім артыкуле "Гарыць шыпшына"[122]:

*«"Шыпшына" свае вытокі вядзе ад "Узвышша". Вядзе ня толькі фармальна, а й даводзіць гэтае характарам і накіраванасьцю сваёй творчасьці»*.

Істотнай-жа адзнакай "Узвышша" зьяўляецца: мужны ваяўнічы нацыяналізм.

Мне думаецца, што "Баявая Ўскалось" і "Шыпшына" маюць паміж сабой больш агульнага, чым рознага. Тыя разьбежнасьці, якія існуюць паміж гэтымі двомя беларускімі літаратурнымі згуртаваньнямі на чужыне, ня большыя за тыя разьбежнасьці, якія існавалі на Бацькаўшчыне паміж "Узвышшам" і "Полымям"[123], або паміж "Узвыш-

---

[121] **Юры Шэрах** (сапр. укр. *Юрій Шевельов,* 1908—2002), украінскі лінгвіст і літаратуразнаўца, пісьменьнік, дасьледчык літаратуры. Працаваў у СССР, Нямеччыне і ЗША.

[122] Артыкул быў апублікаваны ў: Шыпшына. 1947. № 4. С. 28—30.

[123] **"Полымя"** — літаратурнае аб'еднаньне, якое існавала ў БССР у 1927—1932 гг. У яго склад уваходзілі Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гурло, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Алесь Ляжневіч і інш. З часу заснаваньня вяло жорсткую палеміку з узвышэнцамі.

шам" і "Маладняком"[124]. Для нас, шыпшынаўцаў, дарагой зьяўляецца Двупагоня як сымбаль. Нам хочацца думаць, што і для баявых ускалосаўцаў зьяўляецца дарагой як сымбаль узброеная дзідамі шыпшына. Маю Вас запэўніць, што ніякі *"зарубежніцкі слуп"* ня здолее нацкаваць шыпшынаўцаў на баявых ускалосаўцаў, хаця гэтыя спробы нацкоўваньня мелі мейсца зусім надысь. Хочацца таксама думаць, што і баявыя ўскалосаўцы не пачнуць ліць на шыпшынаўцаў падсунутыя "крывічамі" памыі. Будзем тварыць на карысьць нашае Бацькаўшчыны, Народу і эміграцыі, падтрымліваючы паміж сабой сьціслыя кантакты. Гэта зусім ня значыцца, што мы ня можам часам адзін аднаго крытыкнуць — у спрэчках нараджаецца ісьціна. Але ёсьць крытыка і ёсьць "крытыка". Ёсьць вялікая розьніца паміж тым, як Чэрчыль[125] крытыкуе Этлі[126], або МакАртур[127] Трумэна[128] з тым, як Сабалеўскі[129] крытыкуе Кушаля[130], або Янка Станкевіч Івана Ермачэнку[131]. Няхай ужо нашыя "палітыкі" ўзаемна абліваюць адзін аднаго памыямі і падлічваюць колькасьць кілішкаў, выпітых Стасем Станкевічам. Нашая крытыка мусіць

[124] **"Маладняк"** — найбольш маштабнае літаратурнае аб'яднаньне, якое існавала ў БССР у 1923—1928 гг., налічвала да некалькіх сотняў сябраў. У 1928 г. было рэарганізаванае ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменьнікаў.

[125] **Уінстан Чэрчыль** (анг. *Sir Winston Leonard Spenser-Churchill*, 1874—1965), брытанскі палітычны дзеяч, прэм'ер-міністар Вялікабрытаніі ў 1940—1945 і 1951—1955 гг.

[126] **Клемэнт Этлі** (анг. *Clement Attlee,* 1883—1967), брытанскі палітычны дзеяч, прэм'ер-міністар Вялікабрытаніі ў 1945—1951 гг.

[127] **Дуглас МакАртур** (анг. *Douglas MacArthur,* 1880—1964), амэрыканскі вайсковы дзеяч, генэрал арміі. Быў галоўнакамандуючым акупацыйнымі войскамі саюзнікаў у Японіі, кіраваў войскамі ААН у часе Карэйскай вайны. Быў адпраўлены ў адстаўку ў 1951 г. праз супярэчнасьці ў поглядах на вядзеньне Карэйскай кампаніі з прэзыдэнтам ЗША Гары Трумэнам.

[128] **Гары Трумэн** (анг. *Harry S. Truman*, 1884—1972), амэрыканскі палітычны дзеяч, 33-і прэзыдэнт ЗША ў 1945—1953 гг.

[129] **Юры Сабалеўскі** (1889—1957), грамадзка-палітычны дзеяч. Быў дэпутатам польскага Сойму, уваходзіў у БСРГ. Падчас нямецкай акупацыі быў старшынём Беларускай самапомачы й віцэ-прэзыдэнтам БЦР. Пасьля вайны жыў на эміграцыі ў ЗША й Нямеччыне. Адзін з кіраўнікоў БЦР.

[130] **Франц Кушаль** (1895—1968), грамадзкі й вайсковы дзеяч. Ад лютага 1944 г. камандзір Беларускай краёвай абароны. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі у Нямеччыне, а ў 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, Рочэстэры (штат Нью-Ёрк, ЗША). Браў удзел у працы Рады БНР, БАЗА.

[131] **Іван Ермачэнка** (1894—1970), грамадзка-палітычны дзеяч. У міжваенны пэрыяд жыў у Празе. Падчас Другой сусьветнай вайны ўзначальваў Беларускую народную самапомач. Пасьля вайны жыў на эміграцыі ў ЗША.

існці па сяброўскай лініі, што спрыяе росту як паасобных пісьменьнікаў, гэтак і ўвогуле беларускае літаратуры на эміграцыі.

З гэтым маім лістом цалкам салідарызуюцца Масей Сяднёў і Міхась Кавыль. На вялікі жаль, час не дазволіў мне пазнаёміць зь ім іншых сяброў "Шыпшыны", што жывуць у іншых штатах ЗША або па-за імі, але я не сумняваюся і ў іхнім салідарызаваньні з гэтым лістом. Дазвольце перадаць Вам асабіста і баявым ускалосаўцам самыя найлепшыя пажаданьні ад шыпшынаўцаў.

Шчыра зычу ўсяго добрага.

Чакаю Ваш ліст.

Жыве Беларусь!

З пашанай да Вас Юрка Віцьбіч.

Копія

15.4.51.

Глыбокапаважаны Спадар Хмара![132]

Вялікадушна даруйце за маё досыць значнае спазьненьне з адказам на Вашыя добрыя лісты. Ветліва прыміце таксама маю падзяку за ўсё дасланае Вамі. Спадзяюся, што Вы ўжо атрымалі № 9 "Шыпшыны", надасланы Вам 5.2.51. Цяпер робіцца № 10, але аб гэтым ніжэй.

Пачну з "Трэццяе сілы" і зь ейнай дэкларацыіі, дасланае Вамі з аднначаснай просьбай падпісаць яе ад імя літаратурнага згуртаваньня "Шыпшына". Згуртаваньне "Шыпшына" ў значнай ступені сымпатызуе тэзам Вашае дэкларацыі, але ўсё-ж падпісаць яе ня можа. Як пісаў Вам раней, згуртаваньне "Шыпшына" зьяўляецца палітычным у дачыненьні да змаганьня з адвечнымі ворагамі нашае Бацькаўшчыны, расейскімі й польскімі імпэрыялістамі, але яна ёсьць апалітычная ў дачыненьні да ўнутранага змаганьня нашае эміграцыі. Характэрна, што ў склад "Шыпшыны", паміж іншымі, уваходзяць сябра Ураду БНР, сябра Ураду БЦР, арганізатары "Трэццяе сілы" ў Нямеччыне — маю на ўвазе Згуртаваньне Беларускіх Патрыётаў з шыпшынаўцамі Ю[рыем] Жывіцам (Ю[ры] Попка) і Янкам Золакам (А[нтон] Даніловіч) на чале. Тым ня менш паміж намі няма аніякіх церцяў, а наадварот, мы моцна зьвязаныя агульнай барацьбой мастацкім словам за зьдзейсьненьне Акту 25 Сакавіка. Што датычыць прыналежнасьці да тае ці іншае плыні, дык гэтае зьяўляецца прыватнай справай таго ці іншага сябры. Паказальна ў сувязі з гэтым тое, што сёлета Дзень 25 Сакавіка некаторыя шыпшынаўцы адзначалі сярод бэнээраўцаў, другія сярод бэцээраўцаў, а іншыя ў вузка патрыятычным сяброўскім коле. Пэўне, Вы ўжо зразумелі, чаму "Шыпшына" не падпісала ветліва дасланае Вамі дэкларацыі.

[132] Пар. зь лістом Юркі Віцьбіча да а. Льва Гарошкі ад 01.05.1951 // Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью Ёрк, 1997. С. 382—385.

Калісьці (22.10.50) я Вам пісаў: *«Ад усяе душы хочацца вітаць паўстаньне “трэцьцяе сілы”, якая навядзе ці актыўна прылучыцца да навядзеньня парадку ў беларускай эміграцыйнай хаце. Але мне думаецца, што гэтае ня так проста, як на першы погляд здаецца. Раблю гэты выснаў на падставе вялікае колькасьці лістоў, якія атрымліваю адусюль, як Віцьбіч»*.

І запраўды гэтае ня так проста. Сёньня для беларускага нацыянальнага актыву канчаткова высьветлілася, што “трэцьцяя сіла” пабілася на дзьве плыні, а менавіта: I. Сяргей Хмара. Канада. “Пуга”. Часовы Камітэт Беларускага Сяброўства ў Ёрку, Вял[ікая] Брытанія. “Патрыёт”. Мае ўсё-ж пэўныя засьцярогі да канадыйскае дэклярацыі. II. Юры Попка. Згуртаваньне Беларускіх Патрыётаў. Нямеччына. “Беларускі Патрыёт”. Клуніцкі. Беларускае Аб’яднаньне ў Аўстраліі. “Новае Жыцьцё”.

У сувязі з гэтым мімаволі думаецца, што “Трэцяя сіла” мусіць спачатку сама паяднацца, а потым ужо заклікаць да паяднаньня іншых. Асабіста я ня веру ў магчымасьць паяднаньня бэнээраўцаў з бэцээраўцамі і наадварот. Але за тое моцна веру, што праз пэўны час усё запраўды патрыятычнае і самаахвярнае, што ёсьць у гэтых двох плынях, спалучыцца разам, адкінуўшы пры гэтым у бок зачэпляныя амбіцыі, асабістыя крыўды, з узаемным дараваньнем розных узаемных зьнявагаў і г. д.

Мне здаецца, што галоўнымі ворагамі “Трэцьцяе сілы” ў Канадзе зьяўляюцца не Акула, Навіцкі, Жук-Грышкевіч і іншыя, але часапіс “Пуга”. Я пры гэтым цалкам абстрагуюся ад карыкатураў на мяне асабіста. Абстрагуюся таму, што, па-першае, кажны грамадзкі дзеяч заўсёды падрыхтаваны, каб атрымаць з таго ці іншага боку адпаведную порцыю памыяў, а па-другое, сёньня амаль усім бэцээраўцам вядама, што Юрка Віцьбіч “скрывіўся”, што ён выйшаў з усіх бэцээраўскіх інстытуцый і што ён на 99 % не падзяляе пазыцыю сучаснае эміграцыйнае БЦР (паход у Карэю, царкоўнае пытаньне, падзел Беларусі па чыгунках[133], цкаваньне ўсходнікаў і г. д.). Між іншым, мушу зазначыць, што не пакрыўдзілі мяне ў свой час і медалі, якімі шчодра ўзнагародзіла мяне “Маланка”[134], бо ні ад якіх урадаў я аніякіх мэдаляў ня меў акрамя павыбіваных зубоў, з рэшткамі якіх і прыехаў у ЗША. Я ўсё-ж да пэўнае

---

[133] Маецца на ўвазе выкладзеная Радаславам Астроўскім ідэя правесьці мяжу паміж Беларусьсю й Літвой па лініі чыгункі Беласток — Дзьвінск (Даўгаўпілс). А паколькі чыгунка праходзіла таксама празь Вільню, то й гэты горад належала падзяліць адпаведна на літоўскі й беларускі сэктары. Гл.: Калюш, А. Гранічныя спрэчкі беларусаў з іх суседзямі ды спосаб іх вырашэньня // Аб’еднаньне. 1950. № 6 (27).

[134] **“Маланка”** — гумарыстычны часопіс, які выходзіў у 1948—1949 гг. у Гамбургу, а ў 1957—1966 гг. як дадатак да “Беларускага Горалу” (Таронта).

ступені разумею карыкатуры на мяне асабіста — тут вычуваецца сіла інэрцыі, калісьці Віцьбіч быў зацятым бэцээраўцам. За тое-ж я не разумею, што агульнага ў Сяднёва й Кавыля з недарэчным паходам Астроўскага на Карэю. І Сяднёў, і Кавыль былыя савецкія катаржнікі, што цудам захаваліся ў жывых. Яны пакутвалі за Незалежную Беларусь. Яны не хварэюць на міністраў і лічуць сябе сьціплымі сынамі свайго вялікага народу. Тут я меў на ўвазе абразу сваіх сяброў шыпшынаўцаў, але не падзяляю я таксама і гіпербалізаваныя закіды супраць некаторых бэнээраўцаў. Маючы ў мінулым, на вялікі жаль, сам адпаведную практыку ў сэньсе грызьні з Ян[кам] Станкевічам, Адамовічам і іншымі, мушу зазначыць, што гэтая грызьня аніякае дадатнае мэты не дасягае й толькі пэцкае таго, хто ёю злоўжывае. Але тым больш гэтая грызьня не дасягае мэты як сродак для паяднаньня. Наадварот, яна яшчэ больш распальвае варажнечу і пры пэўных умовах можа прывесьці толькі да самаізаляцыі. На падставе шматлікіх дадзеных раблю выснаў, што "Пуга" робіць самае адмоўнае ўражаньне сярод прадстаўнікоў усіх трох плыняў нашае эміграцыі.

Дарагі Хмара, закіньце сваю "Пугу". Не кажу ўжо пра самую назву. Мы, беларусы, у часе свае гаротнае гісторыі мелі пісагі ад расейскіх, польскіх, нямецкіх і г. д. бізуноў. Таму ў нас такая назва адразу нараджае адпаведны нясмак, а тым больш калі яна адпаведна зьместу. Вы як журналіст стаіце непараўнальна вышэй за ўсіх супрацоўнікаў "Патрыёту", а між тым "Патрыёту" няма чаго закінуць, бо ён, хаця часам і з памылкамі, але паважна трактуе на сваіх старонках нашыя балючыя эміграцыйныя пытаньні. Чаму Вы адкінулі свой ранейшы намер стварыць у Канадзе часапіс кшталту "Патрыёту", які, між іншым, і лацінкай, і на рататары, а тым ня менш набыў вялікую колькасьць чытачоў і прыхільнікаў? Такі часапіс, маючы на ўвазе Вашыя здатнасьці, паглыне ў сабе і "Патрыёта", і "Беларускі Патрыёт", і зусім бездапаможнае "Новае Жыцьцё", такі часапіс запраўды станецца запраўдным адзіным органам "Трэцьцяе сілы", такі часапіс прымусіць лічыцца з сабой і бэцээраўцаў, і бэнээраўцаў. А што датычыць "Пугі", дык пры ўсёй маёй пашане да Вас мушу зазначыць, што чытаючы яе адразу прыгадваюцца словы аднаго з гэрояў Максіма Горкага[135]: *"Расстрелял я заряд души моей по три копейки за выстрел"*[136].

Упэўнены ў тым, што нашая эміграцыя Вам удзячная за адраджэньне "Баявое Ўскалосі" — маю на ўвазе і Сустань, і часапіс. Паўстаньне "Баявое Ўскалосі" зьяўляецца заканамернай зьявай — яна мусіла паўстаць, яна мусіла аб' яднаць вакол сябе значную частку на-

---

[135] **Максім Горкі** (рас. *Максим Горький*, 1868—1936), расейскі пісьменьнік, драматург, грамадзкі дзеяч.

[136] Маецца на ўвазе герой аповесьці Максіма Горкага "Фама Гардзееў" Мікола Яжоў.

шых эміграцыйных літаратараў. Мне асабіста і шмат каму з тутэйшых суродзічаў падабаецца Ваш часапіс. Але, на жаль, у апошнім нумары ў бочку мёду трапіла лыжка дзёгцю. Я маю на ўвазе такія выразы, як *“розныя там гаруны й бядулі”* і галоўным чынам артыкул[137] Равенскага[138]. Мне думаецца, што калі-б ня было *“розных там гаруноў і бядуляў”*, дык ня было-б пазьней і “Баявой Ускалосі”, і “Шыпшыны”. Гаруны й Бядулі — гэта карэньне прыгожага дрэва беларускае мастацкае літаратуры. Розныя акупанты абсякаюць ейнае гальлё, але яно ўжо ніколі не загіне, і калісьці падаруе нашаму народу і Гамэраў[139], і Шэкспіраў[140]. Што датычыць артыкулу Равенскага, дык мне думаецца, што “Бацькаўшчына” зусім не выпадкова не зьмясьціла яго, бо ўсяму беларускаму эміграцыйнаму сьвету вядома старадаўняя спрэчка нашых двох выдатных кампазытараў. Але мне асабіста вельмі не спадабаліся заўвагі майго асабістага даўняга знаёмага Мік[олы] Равенскага наконт Міхася Чарота[141] з акцэнтаваньнем на тым, што ён былы камуністы. Увогуле ў нас астатнім часам аж зашмат спрабуюць шальмаваць гэтак званых “былых”, спакідаючы без увагі тое, што для бальшавікоў мы ўсе ўвогуле — былыя людзі. Гэтак вылаялі на старонках “Беларуса” аднаго з найздатнейшых нашых паэтаў Уладзімера Дудзіцкага[142] як былога ўласаўца[143], у іншым выданьні я чытаў такія-ж заўвагі наконт былога

---

[137] Маецца на ўвазе артыкул: Равенскі, Мікола. Крыху пра беларускую опэру // Баявая Ўскалось. № 3. Лют 1950. С. 30—32.

[138] **Мікола Равенскі** (1886—1953), кампазытар. У 1930-я гг. выкладаў у Менскім музычным тэхнікуме, Беларускай кансэрваторыі. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Чэрвені, быў рэгентам царкоўнага хору. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Ад 1950 г. жыў у Лювэне (Бэльгія), арганізаваў студэнцкі ансамбль пры Лювэнскім унівэрсытэце. Аўтар музыкі гімну-малітвы “Магутны Божа” (словы Натальлі Арсеньневай).

[139] **Гамэр** (VIII ст. да н. э.), легендарны першы старажытнагрэцкі паэт, аўтар паэмаў “Іліяда” й “Адысэя”.

[140] **Уільям Шэкспір** (анг. *William Shakespeare,* 1564—1616), ангельскі драматург, паэт, актор.

[141] **Міхась Чарот** (сапр. **Кудзелька**, 1896—1937), паэт, драматург, празаік, публіцыст.

[142] **Уладзімер Дудзіцкі** (сапр. **Гуцька**, на эмігр. **Гіцкі**, 1911 — пасьля 1976), літаратар, публіцыст, грамадзкі дзеяч. У 1949 г. выехаў у Вэнэсуэлу, дзе заснаваў Згуртаваньне беларусаў у Вэнэсуэле. У 1956—1962 гг. кіраўнік беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне / Свабода” ў Мюнхене.

[143] Маюцца на ўвазе ўдзельнікі вайсковых фармаваньняў, якімі кіраваў **Андрэй Уласаў** (рус. *Андрей Власов*, 1901—1946), савецкі вайсковы дзеяч, генэрал. Пасьля палону нямецкімі войскамі ў 1942 г. перайшоў на бок Трэцяга райху, узначаліў Расейскую вызваленчую армію (*РОА*), што ваявала на баку немцаў.

андэрсаўца[144]. А ў “Баявой Ускалосі” пабачыў і пра былога камуніста. У сувязі з усім гэтым пішу для № 10 “Шыпшыны” артыкул наконт “былых” увогуле і ў прыватнасьці.

Я ўпэўнены ў тым, што тыя беларусы з II корпусу, якія загінулі сьмерцю харобрых пад Монтэ-Касына[145], змагаліся за Незалежную Беларусь, а не за ажыцьцяўленьне вядомых выказваньняў Андэрса[146]. Упэўнены таксама ў тым, што тыя беларускія ўласаўцы, якія загінулі сьмерцю харобрых, абараняючы Магілёў ці Віцебск, загінулі сьмерцю харобрых за Незалежную Беларусь, а не за Гітлера з Готбэргам. Не кажу ўжо пра амаль бяззбройных жаўнераў БКА, што не дазвалялі эсэмэнам паліць беларускія вёскі. Я апраўдываю тых беларусаў заходнікаў, якія трапілі ў камуністычную партыю або камсамол, шчыра думаючы, што ў БССР будуецца “беларускі дом”. Я апраўдываю тых беларусаў усходнікаў, якія трапілі ў шэрагі камуністаў або камсамольцаў, шчыра думаючы, што ў СССР будуецца рай для чалавецтва, для людзтва, а трапіўшы ў часе апошняе вайны за жалезную заслону, або і без вайны пераканаліся ў агіднасьці бальшавізму й сталіся зацятымі ворагамі бальшавізму й жыцьцём паклалі за сваю памылку. Які няўлюдак можа кінуць сёньня камнем у Чарвякова, Галадзеда[147], Шаранговіча[148], Некрашэвіча[149],

---

[144] **Другі польскі корпус**, або **Армія Андэрса**, — створаныя ў часе Другой сусьветнай вайны польскім ваенным дзеячам генэралам Уладыславам Андэрсам узброеныя фармаваньні з рэпрэсаваных у СССР былых польскіх грамадзянаў. У шэрагах гэтага войска было багата беларусаў.

[145] Маецца на ўвазе **бітва пад Монтэ-Касіна** — сэрыя бітваў Другой сусьветнай вайны, у выніку якіх саюзьніцкія войскі пераадолелі ўмацаваную “Лінію Густава” й занялі Рым. 11—18 траўня 1944 г. у вырашальным змаганьні за ўмацаванае абацтва на гары каля гораду Касіна (ключавы пункт нямецкай абароны) галоўную ролю адыгралі жаўнеры 2-га Польскага корпусу генэрала Андэрса.

[146] Напэўна, тут маюцца на ўвазе выказваньні Ўладыслава Андэрса ў часе прамоваў, якія ён меў на пачатку 1950-х у ЗША й Канадзе, што Польшча — гэта ня толькі Варшава, але й Вільня ды Львоў. Сярод іншага, пра гэткія выступы дзеяча пісала газэта “Беларуская Трыбуна” (Гл. Гарбатага магіла… // Беларуская Трыбуна. № 2. 05.11.1950. С. 1).

[147] **Мікалай Галадзед** (1894—1937), партыйны й дзяржаўны дзеяч БССР, у 1927—1937 гг. старшыня СНК БССР. Быў арыштаваны ў Маскве ў 1937 г. і скіраваны ў Менск, дзе ў час допыту ў будынку НКУС выкінуўся з вакна 5-га паверху.

[148] **Васіль Шаранговіч** (1897—1938), партыйны й дзяржаўны дзеяч БССР. Член ЦК КП(б)Б, у тым ліку Першы сакратар у 1937 г. Арыштаваны ў Маскве ў 1937 г. Расстраляны.

[149] **Сьцяпан Некрашэвіч** (1883—1937), мовазнаўца, адзін з арганізатараў акадэмічнай навукі Беларусі. У 1930 г. арыштаваны па справе “Саюзу вызва-

Убарэвіча[150], а тым больш абразіць Сьветлую Памяць Усевалада Ігнатоўскага, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота? Нам невядомыя могілкі Галадзеда, Шаранговіча, Некрашэвіча, Убарэвіча, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота, але на могілках Ігнатоўскага і Чарвякова ў часе апошняе вайны ў дні нацыянальных сьвятаў стаяла ганаровая варта СБМ. Мы проста забываем пра тое, што ўся падпольная Ўсходняя Беларусь сьпявала верш "камуніста" Міхася Чарота:

*Жывуць Шыла, Грыб, Мамонька,*
*Будзем жыць і мы*[151].

Мы проста забываемся на тое, што Міхась Чарот расстраляны расейскім бальшавізмам як заўзяты вораг расейскага бальшавізму, як Змагар за Незалежнасьць Беларусі. Я занадта добра ведаў Міхася Чарота, каб нехта мне давёў, што ён зьяўляўся адзабальным камуністам.

Я асабіста не належыў ні да ўласаўцаў, ні да андэрсаўцаў, ні да камуністаў, ні да камсамольцаў, а таму магчыма вельмі талеранцыйна стаўлюся да "былых". За тое лічу, што няма аніякага дараваньня для аднаго бэцээраўца, які надысь меў у Нью Ёрку цёплую гутарку з Керанскім, або для аднаго бэнээраўца, які крыху раней меў такое-ж цёплае спатканьне у тым-жа Нью Ёрку з Андэрсам. Гэта запраўдныя здраднікі. Іхні шлях з нашым не супадае.

Дазвольце перайсьці цяпер да "Шыпшыны" № 10, над якім ужо работаю. Калі папярэднія №№ "Шыпшыны" знаёмілі беларусаў заходнікаў з паэтамі Ўсходняе Беларусі, дык у № 10 будзе разьдзел, прысьвечаны паэтам Заходняе Беларусі, а менавіта ў ім будуць прадстаўленыя Арсеньнева, Хмара, Танк[152], Машара[153], Васілёк[154], Ільляшэвіч[155], Таўлай[156], Казлоўшчык[157], Кастусёнак (Езавітаў). Кажнага паэту

---

леньня Беларусі" й прыгавораны да 5 гадоў высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1937 г. і прысуджаны да расстрэлу.

[150] **Еранім Убарэвіч** (1896—1937), савецкі вайсковы дзеяч. У 1931 г. быў прызначаны камандуючым войскамі Беларускай ваеннай акругі. Арыштаваны ў 1937 г. і расстраляны.

[151] Верш цытуецца ў п'есе Янкі Купалы "Тутэйшыя", праз што й стаў ведамы.

[152] **Максім Танк** (сапр. **Яўген Скурко**, 1912—1995), народны паэт Беларусі (1968), акадэмік АН Беларусі (1972), грамадзкі й палітычны дзеяч.

[153] **Міхась Машара** (1902—1976), паэт, празаік, драматург, перакладчык.

[154] **Міхась Васілёк** (сапр. **Міхась Касьцевіч**, 1905—1960), паэт.

[155] **Хведар Ільляшэвіч** (1910—1948), грамадзкі дзеяч, журналіст, пісьменьнік.

[156] **Валянцін Таўлай** (1914—1947), паэт, літаратуразнаўца, грамадзкі дзеяч у Заходняй Беларусі.

[157] Маецца на ўвазе Ўладыслаў Казлоўскі.

характарызуе адзін найбольш характэрны для яго верш, як, напрыклад, Арсеньневу “Сталёвы зьвяз”, Танка — верш пра краты і бэз[158] і г. д. Я ветліва прашу Вас надыслаць той свой верш, які лічыце па сваіх стылёвых якасьцях і ў тэматычным сэньсе найбольш характэрным для сябе. Прашу Вас таксама выказацца наконт вышэйадзначанага сьпіску — магчыма ён ня поўны. Разам з тым маю да Вас у сувязі з гэтым наступныя просьбы: ці няма ў Вас часам гэтага вершу Танка пра краты і бэз? Ці няма ў Вас таксама адрасу Сп. Панькова[159], бо толькі праз яго спадзяюся адшукаць верш Кастусёнка, што мае такі пачатак:

*Пярун наш бацька, ясны божа грому,*
*Даруй нам, жрацы Хрыста нас ашукалі.*
*Мы табе маліліся залатому.*
*Нас мячамі ксьцілі і ў вадзе купалі.*

Прабачце за клопаты. Са свайго боку, як і кажны шыпшынавец, заўсёды гатовы, каб у тым ці іншым сэньсе дапамагчы “Баявой Ускалосі”.

Трэба канчаць ліст — занадта вялікім ён атрымаўся. Ня злуйцеся на мяне, Спадар Хмара, за тое, што я прытрымліваюся запавету нашага слаўнага кашталяна смаленскага Івана Мялешкі[160], які тую праўду, нібы соль, у вочы кідаў. Прашу Вас прытрымлівацца гэтага прынцыпу ў дачыненьні да мяне і “Шыпшыны”. Ад усяе душы зычу Вам усяго найлепшага.

З пашанай да Вас Юрка Віцьбіч.

Саўт Рывер,
13.6.51.

Глыбокапаважаны Спадар Акула!

Тры тыдні таму назад я атрымаў ліст з Канады, у якім выказвалася радасьць з тае прычыны, што нарэшце адсунулі *“тату-рэдактара”*. У адказ на гэтае выказаў свой глыбокі жаль з вышэйадзначанае прычыны і заўважыў, што гіронія тут вычуваецца, як запраўднасьць — “Беларускі Эмігрант” стварыў К[астусь] Акула. Потым атрымаў № 3 (36) “Б[еларускага] Э[мігранта]” і пазнаёміўшыся зь ім вычуў, як сталы

[158] Напэўна, маецца на ўвазе верш “Паслухайце, вясна ідзе” (1937).

[159] **Мікола Панькоў** (1911—1995), грамадзкі дзеяч, бібліёграф, публіцыст. У часе нямецкай акупацыі працаваў на чыгунцы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У лягеры *DP* у Ольдэнбургу заснаваў Беларускую бібліяграфічную службу. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Падрыхтаваў даведнікі “Хто ёсьць хто на эміграцыі”, “Мартыралёгія беларускага народу”, “Беларуская прэса на эміграцыі”, якія не былі выдадзеныя.

[160] **Іван Мялешка** (?—1622), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, ведамы сваёй прамовай да Жыгімонта ІІІ на Варшаўскім сойме, якая стала знакамітым літаратурным творам.

чытач “Б[еларускага] Э[міграната]” штосьці накшталт асабістае абразы і крыўды. Які-ж гэта “Б[еларускі] Э[мігрант]”? “Б[еларускі] Э[мігрант]” мае свой адменны непаўторны твар, а ў № 3 (36) ён нагадывае ўсе беларускія выданьні пакрысе — і “Беларус”, і “Беларускую Трыбуну”, і “Бацькаўшчыну”, і “За Волю”[161]. Пэўне гэтае тлумачыцца тым, што № 3 (36) рабіўся без усякае любові да газэты. І ад усяе душы цешуся, што “Беларускі Эміграант” зноў рэдагуецца Вамі.

Заява Сяргея Хмары наконт канцэнтрацыйных лягероў у Канадзе і ЗША зьяўляецца абуральнай. Мне пры тым прыгадваецца Айцец Мікалай Лапіцкі, які надысь заявіў мне, што калі я зьвярнуся ў родны Віцебск, мяне заб’е новы ляндвойт Наўм Воўк[162] як здрадніка. Мне проста шкада гэтага ўбогага бацюшку, які не разумее, што Беларусь увогуле й Віцебшчына ў прыватнасьці непараўнальна вышэйшыя разуменьні, чым пэўная парафія, чым асабістыя інтарэсы гэтага бацюшкі і пасэйкаўскае супалкі[163], да якой ён належыць. Нагадывае мне Сяргей Хмара таксама вядомага анекдатычнага жаўнера Джо, які ў лісьце да сваякоў з жалем зазначыў, што толькі ён адзін заўсёды трымае крок, а ўся рота ідзе не ў нагу. Але Бог зь ім.

Вашая ветлівая прапанова наконт супрацоўніцтва ў “Б[еларускім] Э[мігранце]” нас, шыпшынаўцаў, і мяне асабіста вельмі радуе. Але разам з тым хочацца Вас папярэдзіць, каб Вы як рэдактар не рабілі ніякіх скідак для нашых літаратараў, як гэта, напрыклад, зрабіў рэдактар “Беларускай Трыбуны” ў дачыненьні да артыкулу Масея Сяднёва “Зацемкі аб нашай літаратуры”. Калі багамроўны Ахілес[164] меў адну небясьпечную пятку, дык у гэтым артыкуле іх некалькі дзясяткаў. Самая-ж істотная загана ў наступным: Сяднёў прапануе прытрымлівацца адзінае тэмы — Ягамосьць Чалавек, а для нас самай галоўнай тэмай зьяўляецца — Ейная Эксцэленцыя Бацькаўшчына. Менавіта таму для Сяднёва ў гэтым артыкуле Беларусь сталася гэаграфічным разуменьнем, а Акт 25 Сакавіка на ягоную думку “зашмульганы”. Зрабіў яму

---

[161] **“За Волю”** — газэта, якая выдавалася ў Парыжы пад рэдакцыяй Лявона Рыдлеўскага ў 1951 г. Усяго выйшла 7 нумароў.

[162] **Навум Воўк** — бурмістар, ландвойт у Віцебску ў часе выступленьня праваслаўных гараджан супраць насаджэньня ўніяцтва 12 лістапада 1623 г. (калі быў забіты Язафат Кунцэвіч).

[163] У мястэчку **Пасэйк** (анг. *Passaic*) у Нью-Джэрзі ў той час склалася кола прыхільнікаў БЦР, сярод якіх былі Эмануіл Ясюк, Аляксандар Русак, Яўхім Кіпель і інш.

[164] **Ахілес** (лац. *Achilles*) — у старажытнагрэцкай міталёгіі герой Траянскай вайны, адзін з пэрсанажаў “Іліяды”. Паводле легенды, маці Ахілеса, марская багіня Фэтыда, каб зрабіць сына несьмяротным, выкупала яго ў водах сьвяшчэннай ракі Стыкс. Толькі пятка, за якую трымала дзіця, засталася паражальнай. Ад стралы, што трапіла ў яе, герой і загінуў.

ў самым сяброўскім пляне, але моцную начоску. Больш ён такога глупства пісаць ня будзе, але нешта добрае й патрэбнае для "Б[еларускага] Э[мігранта]" напіша.

Мне асабіста хацелася-б у першую чаргу адзначыць на старонках "Б[еларускага] Э[мігранта]" 25-я ўгодкі ад дню заснаваньня Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня "Ўзвышша". Гэтае Згуртаваньне спакінула значны сьлед у гісторыі новае беларускае літаратуры і ўвайшло таксама назаўсёды ў гісторыю беларускага вызвольнага руху. 26 травеня суродзічы ў Нью Ёрку ў "Беларускай Хатцы" ўрачыста адзначылі гэтыя ўгодкі. Я атрымаў ветлівае запрашэньне ўдзельнічаць у гэтых абыходзінах, але, на жаль, хвароба дазволіла абмежавацца толькі цёплым узвышэнскім прывітаньнем, якое зачытаў другі ўзвышэнец Антон Адамовіч. Лічу сваім сьвятым абавязкам яшчэ лішні раз прыгадаць шырокім колам нашае эміграцыі пра роднае "Ўзвышша".

Дазвольце тымчасам на гэтым скончыць ліст. Спадзяюся неўзабаве атрымаць ад Вас вестку.

Жыве Беларусь!

З пашанай да Вас Юрка Віцьбіч.

Копія

Саўт Рывер,
11.10.51

Глыбокапаважаны Спадар Рэдактар[165]!

Вашая газэта "Беларускі Патрыёт" рабіла дагэтуль прыемнае ўражаньне тым, што ўсяляк пазьбягала лаянкі больш-менш уласьцівай і бэцээраўскай, і бэнээраўскай плыням. Аднак, на жаль, № 6—8 (8—10) "Б[еларускага] П[атрыёта]" зьяўляецца прыкрым вылучэньням у гэтай галіне. Я маю на ўвазе зацемку з паліцмэйстэрскім загалоўкам «Мы "закілзалі" "закілзывачоў" народу». Нават злоўжываньне двухкосьсямі зусім не зьмякчае дзяржымордаўскі характар такога загалоўку. А ўсё, што ідзе пад гэтым гострым загалоўкам, называецца ні чым іншым, як пашквілем, супраць якіх Вы нібы гэтак зацята змагаецеся.

На вялікі жаль, Вам зусім невядома беларускае жыцьцё ў Канадзе. Вам невядома, што піянерам беларускага руху ў Канадзе ёсьць не Пітушка, як Вы падкрэсьліваеце, а Акула (паэта Міхась Козыр), якога Вы ўсяляк без дай прычыны ганіце. Ён-жа, Акула, зьяўляецца заснавальнікам ЗБК і газэты "Беларускі Эмігрант". Той, хто хаця крыху ведае самаахвярнага беларуса Кастуся Акулу, ніколі ня дасьць веры тым паскудным словам пра беларускі народ, якія Вы зь невядомых меркаваньняў укладваеце ў ягоныя вусны.

---

165 Ліст адрасаваны Антону Даніловічу (Янку Золаку), які быў рэдактарам "Беларускага Патрыёту".

Вы далей прыгадваеце пра Навіцкага як пра падазронага. Якія ў вас асабіста, Спадар Рэдактар, ёсьць падазрэньні ў дачыненьні да Спадара Навіцкага? Наколькі мне добра ведама, адзінае, што яму закідвалася, гэта тое, што яго мінулае крыху разыходзіцца з тымі патрабаваньнямі, якія яшчэ надысь прад'яўляў да ДП[166] у Нямеччыне біль МэкКарана[167]. Але ў нас, беларусаў, ёсьць другі сьвяты біль — Акт 25 Сакавіка, паводля якога мы ставімся да сваіх суродзічаў. Менавіта ў сувязі з гэтым сваім білям мы ня можам абліваць памыямі Спадара Навіцкага і са сьлязьмі ў голасе прыгадваць пра сьмерць агульнавядомага архіяпіскапа Вэнэдыкта, што Вы практыкуеце. Больш чым магчыма, што і ў Згуртаваньні Беларускіх Патрыётаў, органам якіх ёсьць "Б[еларускі] П[атрыёт]", знайдуцца сябры, што зьяўляюцца самаадданымі беларускімі патрыётамі, але ў свой час былі адкінутыя білям Мэк Карана.

Я, Спадар Рэдактар, прыпушчаю, што Вы асабіста ў дадзеным выпадку сталіся ахвярай з боку спрактыкаванага пашквілянта, які Вам прыслаў гэты пашквіль з Канады. Дазвольце мне як старому рэдактару ветліва параіць Вам больш уважліва правяраць матар'ялы, што прыходзяць у Вашую высокакаштоўную рэдакцыю.

Шчыра зычу Вам усяго добрага.

Жыве Беларусь!

З пашанай да Вас Юрка Віцьбіч.

Таронта, 26.1.67.

Вельмі Паважаны Сп-р Віцьбіч,

Сяньня атрымаў Ваш ліст і цешуся, што здаравееце.

Вы напрыканцы пытаеце, ці Сярожа[168] належыць да Слуцка[169]. Хоць гэты цьмяны "ваяўнік" рэдка цешыцца ўвагай мясцовых Беларусаў, далейшыя часам прыдаюць яму большую значнасьць, чымся ён заслугоўвае. Сярожа, у сілу свайго характару й выдатных здольнасьцяў у вадным кірунку, да такіх супалак, што нешта будуюць, не належыў і належыць ня можа. Супалка Слуцка — гэта цяпер 24 сябры (многія зь іх сямейныя), каторыя захацелі сабе набыць прыгожае месца для адпачынку. Вось і купілі прыгожую фэрму (запушчаную ад гадоў пяці), дзе змогуць лавіць рыбу, адпачываць. Зразумела, што гэта прычыніцца да нашага

[166] ***DP — Displaced Person*** — перамешчаная асоба.

[167] **Пат МакКаран** (анг. *Patrick Anthony "Pat" McCarran*, 1876—1954), сэнатар-дэмакрат зь Нявады, ведамы сваім антыкамунізмам і ксэнафобіяй.

[168] Маецца на ўвазе Сяргей Хмара.

[169] **Цэнтар "Слуцак"** — беларускі дом загараднага адпачынку ля гораду Пэры-Саўнд (Антарыё), за 220 км на поўнач ад Таронта. Набыты ў 1966 г. спэцыяльным камітэтам на чале з Уладзімерам Шапаравым. Пляц меў больш за 200 акраў зямлі, лес і возера.

добрага спаўжыцьця. Удзельнікі Слуцка пастанавілі, што партыйным ці царкоўным розьніцам у іхным спаўжыцьці не павінна быць месца.

Дарэчы, яшчэ пра Сярожу. Нядаўна дасталося яму ад Украінцаў. На самым парадным месцы свайго сьнежанскага нумару[170] зьмясьціў ілюстрацыю Нараджаньня Хрыстова з украінскай каляднай паштоўкі. Гэта зрабіў бязь ніякай агаворкі — адкуль і чыё гэта. Украінская таронцкая газэта “Вільне слово”[171] на першай бачыне газэты зьмясьціла артыкул п[ад]-заг[алоўкам] *“Браття білорусы, так не робиться”*, дзе лупцуюць *“рэдакцыю Сярожавага голасу”*. Дзівакі, ня ведаюць, мусіць, што гадунец КІЖ[172]у выступае ў відзе колькіх партыяў і арганізацыяў. Антон Маркевіч[173] спанукаў мяне, каб я напісаў Украінцам ліста, паясьніў, маўляў, нашы *“суседзі з-за балота”* абвінавачваюць Беларусаў у кражы нацыянальнае маёмасьці. Я перачытаў іхны артыкул, перадумаў і наважыў ня лезьці ў Сярожаву квэку. Хай сам далей ваюе.

Кагадзе сп. Жызьнеўскі[174] з Чыкага даслаў мне выразкі з украінскае газэты “Укр[аіньске] Життя”[175] вялікага артыкулу п[ад]-заг[алоўкам] “*За які українські кардоны*”, у каторым нехта інж[ынэр] Сава Зеркал разглядае між іншага й *“Білоруску проблему”*. Усю нашу бацькаўшчыну далучыў да *“вэлыкой і соборной дэржавы”*, а цэлую нашу гісторыю збыў як выдумку ворагаў Украіны. Я напісаў тады даўжэйшы ліст, у якім павіншаваў рэдакцыю, што яны займаюцца гумарам і столькі месца ў газэце аддаюць патэнцыяльнаму гумарысту Саву Зеркале.

Між іншым, на Зьезьдзе Беларусаў у Кліўлендзе[176] на мінулы “лебярдзей”[177] доўга гаварыў з Клішэвічам. Ён мне апавядаў, як тварыў

---

170 Маецца на ўвазе газэта “Беларускі Голас”.

171 ***“Вільне Слово”*** — украінская штотыднёвая газэта, якая пачала выходзіць у Таронта ў 1956 г.

172 **КІЖ — Камуністычны інстытут журналістыкі** — дзяржаўная навучальная ўстанова ў Менску ў 1932—1941 гг.

173 **Антон Маркевіч** (1925—2009), грамадзкі дзеяч. Жыў у Ашаве (Канада). Разам з Кастусём Акулам арганізаваў выдавецкі клюб “Пагоня”. Уваходзіў у кіраўніцтва Згуртаваньня беларусаў Канады, быў сябрам рэдкалегіі старонкі “Весткі з Канады” газэты “Беларус”.

174 Маецца на ўвазе **Нікадым Жызнеўскі** (1926—2002), грамадзкі дзеяч. Ад 1949 г. жыў у ЗША. У Чыкага заснаваў беларускую радыёпраграму “Радыё Нёман”.

175 Маецца на ўвазе ***“Українське життя”*** — украінскі тыднёвік, які выходзіць у Чыкага ад 1955 г.

176 Маецца на ўвазе **7-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі**, якая адбывалася ў Кліўлэндзе 3—5 верасьня 1966 г.

177 Маецца на ўвазе ***Labor Day*** — дзяржаўнае сьвята ў ЗША, якое адзначаецца ў першы панядзелак верасьня.

“Васіля Каліну”[178]. Меў даволі цікавую гутарку і з Масеем Сяднёвым. Рытрыха-Саковіч[179] заахвочвала нас зрабіць паседжаньне літаратараў (у яе начавалі два блюмінгтонскія паэты[180]; была на Зьезьдзе і Арсеньнева), але з гэтага нічога ня выйшла.

Антон Маркевіч і я ўзяліся паважна, каб паставіць Выд[авецка]-асьв[етную] супалку “Пагоня”[181] на грашовыя ногі. Пляны нашы сьціплыя: на год пусьціць у сьвет якую кніжонку й кружэлку ці другую беларускіх песень. Уступ — 50 дал[яраў]. Справа пашырэньня беларускай культуры — рэч дэфіцытная, дык адразу даводзіцца адкінуць бальшыню мяшчанаў як магчымых сяброў. Магчыма, што апроч Антона й мяне прыбудзе адно пару сяброў. Ды гэта не бяда. Антон Маркевіч вельмі добры спэцыяліста да выцісканьня зь людзей капейкі на розныя выдавецкія патрэбы. Я на эміграцыі ня знаю лепшага за яго. Калісьці нашы пецярбургскія студэнты спрамагліся ў сваім “Загляне сонца...”[182] выдаваць сёе-тое, а мы — у параўнаньні зь імі, багацеі — чаму-ж ня можам?

Дык бывайце здаровы. Калі Вы ня ў сілах пісаць да мяне — ня турбуйцеся.

Няхай Вас Бог трымае.

Цісну руку, Ваш К[астусь] Акула.

14-га лютага 1967 г.

Вельмі Паважаны Спадар Віцьбіч,

Нарадзіўся я 16-га лістапада 1925-га году. Падчас нямецкае акупацыі, калі за дзьвярыма нашых школ пачулася родная мова, разам зь іншымі юнакамі цьверазеў я ад камуністычнага дурману й прагна ўсвойваў усё роднае й дарагое. Беларускія паэты, загаіўшы свае надломаныя крыльлі, з вышыні клікалі арлянятаў, каб расьлі, дужэлі, сьпяшылі на помач. Жылося ў поўным палоне патрыятызму. Практыкі, жыцьцёвае дасьведчанасьці ні было на зломаную капейку. У галаве — туманок і мроі, і захапленьне родным. Калі хіжакі з двух бакоў крывавілі

---

[178] **“Васіль Каліна”** — паэма Ўладзімера Клішэвіча.

[179] **Іна Рытар** (у першым шлюбе **Сеўрук**, у другім шлюбе **Каханоўская**, псэўд. **Аляксандра Саковіч**, 1906—1997), пісьменьніца, грамадзкая дзячка, другая жонка А. Каханоўскага. Ад 1950 г. жыла ў ЗША — спачатку ў Нью-Ёрку, а потым у Кліўлэндзе.

[180] Маюцца на ўвазе Ўладзімер Клішэвіч і Масей Сяднёў, якія на той час жылі і працавалі ў Блюмінгтане (Індыяна).

[181] Маецца на ўвазе **выдавецкая суполка (клюб) “Пагоня”**, заснаваная ў Канадзе Кастусём Акулам і Міколам Маркевічам.

[182] **“Загляне сонца і ў наша ваконца”** — першая легальная беларуская выдавецкая суполка, якая дзейнічала ў Санкт-Пецярбургу ў 1906—1914(1916?) гг.

зьняможанае цела бацькаўшчыны, у галаве аднаго Аляксандра Качана радзіліся няўдалыя радкі вершаў. Пачуцьці-ж штурхалі да выказваньня, настойліва патрабавалі дарогі ў сьвет.

Гэткім чынам калі др. Скурат на лекцыі настаўніцкіх курсаў у Глыбокім у жнівені 1942 году знаёміў нас са шляхам вялікага першадрукара з Полацку, Качанова галава за гэныя 45 хвілін зграмозьдзіла свой першы верш "Эх, быў-бы я сокал", што пасьля, із вялікімі папраўкамі, зьявіўся ў "Голасе вёскі"[183]. Качан быў захоплены. Напісаў яшчэ вершы тры ці чатыры, што таксама трапілі на бачыны нашых менскіх газэт, а пасьля "паэта" наважыў заглянуць асабіста на менскі Алімп. Падыход на Парнас быў даволі небясьпечны. У габінэце "Беларускае газэты"[184] сядзелі самыя мажныя арлы — Арсеньнева і Адамовіч. Нясьмелы юнак, прывітаўшыся, пачуў, як Антось буркнуў у вадказ і з Натальляй далей прадаўжаў падарожнічаць па Ўсяслававых баявых шляхох, забыўшыся пра авадня ў канцылярыі. А гэты авадзень спакойна прымасьціўся на лаве насупраць, мяркуючы, як гэта далей паклікаць на помач свой язык і зь якога боку наблізіцца да слугаў музы. Пакуль ён кумекаў, як разьвязаць такую важную праблему, засьвяціліся маланкай шэрыя Антосевы вочы й пачуўся валадарны голас: *"Чалавеча! Ці-ж ты ня бачыш, што перашкаджаеш! Выйдзі вон!"*. Гэткім чынам, раптоўна скаціўшыся з Парнасу, Качан, ачмурэлы няўдачай, доўга яшчэ блукаў па Пляцы Волі, пакуль наважыў пайсьці ў сваё часовае прыстанішча да добрай цёткі на Камароўку, каб лізаць першыя раны. Дваццаць гадоў пазьней (у Нью Ёрку на вечары, прысьвечаным "Змагарным Дарогам") праф. А[нтон] Адамовіч выявіў тайну, чаму на маю гарачую галаву бухнуў вядром халоднае вады. Аказваецца, у гэны самы нефартунны дзень завітаў да яго нейкі пісака із цэлым гатовым раманам (пэўна-ж із маладой "руні", якую аднойчы ахарактарызаваў Глыбінны ў "Беларускай газэце") і настойліва дамагаўся яго надрукаваньня. Што й гаварыць, Качан-жа адкуль мог адгадаць, што Адамовічу іншы "сокал" у гэны самы дзень нэрвы зьеў...

Творы беларускіх паэтаў (у тым ліку й Клішэвічавы) былі для мяне духовай стравай і жыцьцём, а самыя творцы — недасяжнымі арламі. Вось чаму й Клішэвіч (пра каторага так многа Вы напісалі ў папярэднім лісьце) быў заўсёды прадметам мае цікавасьці.

Неяк у Вільні раз пахваліўся я сваім двум сябром студэнтам: *"Мусіць, пакіну я паэзію й перайду на прозу"*. Мой кусьлівы й цынічны

---

[183] **"Голас вёскі"** — газэта, якая выдавалася ў Менску ў 1941—1944 гг. Галоўнымі рэдактарамі былі Мікола Караленка, Яўхім Кіпель, Аляксей Сянкевіч.

[184] **"Беларускай газэта"** (спачатку **"Менская газэта"**) выдавалася ад 27 ліпеня 1941 г. да 28 чэрвеня 1944 г. у Менску. Самае буйное беларускае антысавецкае пэрыядычнае выданьне ў пэрыяд Другой сусьветнай вайны.

сябра Кадушка[185] разрагатаўся й пачаў зьдзекавацца: *“Ты глянь на яго, вялікага гэнія-паэту. Некалькі тамоў паэзіі напісаў, а цяпер на прозу пераходзіць будзе. Гётэ[186], Пушкін[187], Міцкевіч[188] нас пакідае паэзыю! Га-га-га!”*. За гэны сяброўскі зьдзеклівы рогат я пасьля некалькі разоў быў удзячны Кадушку. Вось на стале маім ляжыць альманах “Белавежа”[189] № 1. Падарожнічаючы кажны дзень трамваем на працу й з працы (гадзіна часу), перачытаў яго з большага. Праўда, бальшыня мізэрыя! Каб заміж гэтай групы ды хоць адзін добры. Праўда, бальшыня зь іх “пачынаючыя”. Мо што й вырасьце.

Вяртаючыся да Клішэвіча, хачу дакінуць, што хоць напісаў яму пахвальны ліст, паэму ягоную чытаў з намаганьнямі. Мо той блюмінгтонскі ліфт, дзе ён працуе, больш спрыяў філязофскім блуканьням, чымся адлюстраваньню пакутаў гэрояў паэмы.

З усіх бэсэсэраўскіх пісьменьнікаў з найбольшай цікавасьцю сачу Ўладзімера Караткевіча[190]. Ня прыгадваю, хто гэта ня так даўно ў сваёй пародыі ці то ў “Беларусі”[191], ці ў “Літаратуры і Мастацтве”[192] напісаў, што Караткевіч наглытаўся пылу ў горадзенскім гістарычным архіве

[185] **Кастусь Кадушка** (на эмігр. **Якуб Амор**, 1925 — пасьля 1975), грамадзкі дзеяч. Быў курсантам Менскай афіцэрскай школы БКА, разам зь якой трапіў у 30-ю грэнадэрскую дывізію, перайшоў на бок саюзьнікаў, затым служыў у 2-м Польскім корпусе. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, адным з ініцыятараў і сталых аўтараў часопісу “Беларус на чужыне”. У 1952 г. выехаў для навучаньня ў амэрыканскай школе выведкі ў Нямеччыне. Рыхтаваўся для дэсантаваньня на савецкую тэрыторыю ў групе зь Цімохам Вострыкавым, аднак адмовіўся выконваць загад. Трапіў у турму, але быў вызвалены празь некаторы час і зьехаў у Бразылію. Пасяліўся на сталае жыцьцё ў Сан-Паўлу, падтрымліваў абмежаваныя кантакты зь беларусамі, якія абарваліся пасьля 1975 г.

[186] **Ёган Вольфганг фон Гётэ** (ням. *Johann Wolfgang von Goethe*, 1749—1832), нямецкі пісьменьнік, навуковец.

[187] **Аляксандар Пушкін** (рус. *Александр Пушкин*, 1799—1837), паэт, клясык рускай літаратуры.

[188] **Адам Міцкевіч** (1798—1855), беларуска-польскі паэт, публіцыст, дзеяч польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

[189] **“Белавежа”** — літаратурны альманах аднайменнага аб’еднаньня беларускіх пісьменьнікаў, што выдаецца ў Беластоку.

[190] **Уладзімер Караткевіч** (1930—1984), паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладнік.

[191] **“Беларусь”** — ілюстраваны штомесячны грамадзка-палітычны часопіс, заснаваны СП БССР у 1944 г., выходзіў спачатку ў Маскве, а потым ў Менску.

[192] **“Літаратура і мастацтва”** — штотыднёвая літаратурная газэта, якая выдаецца ў Менску ад 1932 г.

й сустрэў... Дануту Бічэль-Загнетаву[193]. Сёлета ў “Полымі” мае быць заканчэньне “Каласоў пад сярпом тваім”. Калі нягледзячы на рацэпту “роднапартыйнага” Пятруся[194], ён не перапрацаваў раману, дык гэта будзе адзін прынамся гістарычны твор у нашай літаратуры. Думаеш сабе часам, як далёка мы адсталі ад іншых народаў. Уолтэр Скат[195], Сянкевіч[196], Крашэўскі[197], Леў Талстой[198], Гогаль[199], Тургенеў[200] і інш. даўно ўнесьлі мінулае сваіх народаў у залаты фонд літаратуры. А нашы скарбы, як казаў той Пушча[201], *“пахованы ў глыбокія курганы”*. Калі-ж нарэшце той *“гэні, у мінулым паруганы, да славы ўзьнімуць вольныя сыны?”*[202]. Нам апроч свайго Бальзака[203] патрэбен яшчэ й Конрад[204] ці Набокаў[205]...

Ад часу “Дзярлівае птушкі” я напісаў 550 бачынаў... па-ангельску. Гэта дзьве аповесьці. Адна, няўдалая, прызямлілася, другая-ж цяпер ў дзьверы розных выдавецтваў стукае. Мо клюне. Перасылаю Вам копію ліста ад аднэй мясцовай фірмы, каб бачылі, што, здаецца, аповесьць ня зусім пустая. Калі-ж чужыя ня выдадуць, трэба будзе запрэгчы сваю худую супалку “Пагоню”.

---

193 **Данута Бічэль Загнетава** (нар. 1938), паэтка.

194 Маецца на ўвазе **Пятрусь Броўка** (1905—1980), грамадзкі дзеяч, празаік, паэт і перакладчык.

195 Сэр **Вальтар Скот** (анг. *Walter Scott,* 1771—1832), шатляндзкі празаік і паэт.

196 **Генрык Сянкевіч** (пол. *Henryk Adam Aleksander Pius Sienkiewicz,* 1846—1916), польскі пісьменьнік, лаўрэат Нобэлеўскай прэміі 1905 г.

197 **Юзаф Ігнацi Крашэўскі** (1812—1887), беларускі й польскі пісьменьнік, гісторык, фальклярыст, рэдактар, выдавец, публіцыст.

198 **Леў Талстой** (рус. *Лев Толстой*, 1828—1910), расейскі пісьменьнік, мысьляр, публіцыст.

199 **Мікалай Гогаль** (рус. *Николай Гоголь*, 1809—1852), расейскі і ўкраінскі пісьменьнік.

200 **Іван Тургенеў** (рус. *Иван Тургенев*, 1818—1883), расейскі пісьменьнік і паэт.

201 **Язэп Пушча** (сапр. **Плашчынскі**, 1902—1964), паэт, крытык, перакладчык.

202 Цытаты з вершу Язэпа Пушчы “О, Беларусь!”, якія Кастусь Акула ўзяў эпіграфам да сваёй “Дзярлівай птушкі”.

203 **Анарэ дэ Бальзак** (фр. *Honoré de Balzac,* 1799—1850), францускі пісьменьнік, пачынальнік рэалізму.

204 **Джозэф Конрад** (анг. *Joseph Conrad,* 1857—1924), ангельскі пісьменьнік польскага паходжаньня, клясык ангельскай літаратуры.

205 **Уладзімер Набокаў** (рус. *Владимир Набоков*, 1899—1977), расейскі й амэрыканскі пісьменьнік.

Галоўнай заганай "Дэрэлікт'с вэнджэнс"[206] — зношаная ваенная тэма. Найбольш, як Вам, пэўна, вядома, знасілі яе амэрыканскія Жыды. Што-ж, мне хацелася зрабіць трэшчыну ў лёдзе нясьведамасьці чужынцаў пра народ, што даў сьвету Міцкевіча, Глінку[207], Дастаеўскага[208], Цярэшкаву[209] дый масу іншых. А як-жа лепш было іх зь Беларусамі знаёміць, калі ня ў часе катаклізму, калі змаганьне ішло на сьмерць і жыцьцё?

Сяньня (нарэшце, дзякуй Богу) атрымаў сьнежаньскі нумар "Бацькаўшчыны", дзе й пазнаёміўся з Вашым прыгожым нарысам "Паданьне аб ваўку"[210]. Вы многа сказалі аб змаганьні гэтага гэроя супраць маскоўскіх калянізатараў і іхных калябарантаў ды замала пра Чырвонца як чалавека.

Вашыя нарысы пра нашых гэрояў з далёкай і блізкай мінуўшчыны параськіданы па бачынах шмат якіх нашых газэтаў. Ці ня думалі калі сабраць і выдаць асобна? Цікава, якой абыймы была-б кніга й колькі каштавала-б? Для арыентацыі падаю Вам, што "Дзярлівыю птушку" а. Пятроўскі[211] выдрукаваў за 1100 дал[яраў] — сума ня так ужо вялікая. Усе кошты вярнуліся з ахвяраў добрых людзей і з распродажы.

Сёлета маё няцікавае сямейнае становішча адабрала час для творчай працы. Чуюся вінаватым, але зьвязаныя рукі. У мяне ў пляне было напісаць за восень і зіму па аднэй кнізе. Так і рабіў. Гэта адсутнасьць часу для пісаньня ўплывае адмоўна й на маё здароўе. Спадзяюся, што Бог не бязь міласьці, прыйдзе на помач.

Хацелася шмат чаго сказаць, дык і ліст расьцягнуўся. Буду канчаць. Калі будзеце пісаць да мяне яшчэ, будзьце ласкавы прыгадаць, як здароўе й ці ўжо працуеце. Тымчасам бывайце.

Ваш К[астусь] Акула.

---

[206] ***"Derelict vengeance"*** — назва англамоўнага твору Кастуся Акулы, які так і ня быў надрукаваны.

[207] **Міхаіл Глінка** (рус. *Михаил Глинка*, 1804—1857), расейскі кампазытар беларускага паходжаньня, стваральнік рускай клясычнай музыкі.

[208] **Фёдар Дастаеўскі** (рус. *Федор Достоевский*, 1821—1881), расейскі пісьменьнік і філёзаф, які паходзіў зь беларускага шляхецкага роду.

[209] **Валянціна Церашкова** (рус. *Валентина Терешкова,* нар. 1937), савецкі касманаўт, першая жанчына ў космасе. Паходзіла зь сям'і беларусаў.

[210] Маецца на ўвазе публікацыя: Віцьбіч, Юрка. Паданьне аб ваўку // Бацькаўшчына. 1966. № 4 (637). С. 6.

[211] **Ян Пятроўскі** (1905—2001), рэлігійны й грамадзка-культурны дзеяч, пратэстанцкі прапаведнік, выдавец, літаратар, перакладчык. Ад 1953 г. жыў у ЗША. Напісаў і выдаў некалькі дзясяткаў кніг, у тым ліку пераклады з Плятона, "Клясічны грэцка-беларускі слоўнік".

якім гатовы былі-б пайсьці ў найбольш агонь за вольнасьць Бацькаўшчыны. Бог не наканаваў так. Хочацца пажадаць адно, каб такія людзі ня толькі ня зводзіліся, але множыліся ў народзе. Я ў сваіх сьціплых магчымасьцях, спадзяюся, ушанаваў яго сьветлую памяць, каб вечна жыў сярод нашчадкаў.

Тымчасам дай Божа Вам посьпехаў, а ад мяне й шматлікіх быўшых вайскавікоў і беларусаў-патрыётаў вялікая ўдзячнасьць, што зноў яго згадаеце. Прывітаньне Вашай мілай жоначцы.

Цісну руку, К[астусь] Акула.

28.9.69 г.
Саўт Рывер.

Дарагі Кастусь Акула!

Удзячны за Ваш ліст ад 28.8.69 г., а таксама за ўсьлед за ім, паводля мае просьбы, ветліва дасланую Вашую зьмястоўную кніжку “Змагарныя дарогі”. Спадзяюся, што Вы мне дазволіце на нейкі час затрымаць яе ў сябе, бо з прычынаў ад мяне незалежных вымушаны быў замарудзіць справу з напісаньнем артыкулу пра маёра Віт[аля] Мікулу, хоць Ст[ась] Ст[анкевіч] мяне й прысьпяшаў. Калі-ж Вам “Зм[агарныя] Д[арогі]” пільна патрэбныя, дык адразу-ж зь вялікай падзякай зьвярну іх.

Цалкам Вас разумею і ад усяе душы ў самым найлепшым пляне спачуваю. Ужо самае спалучэньне, як ведаў на сваім уласным гарбу, пазахатняе фізычнае працы з духовай, нялёгкае, а калі да першага яшчэ прылучаюцца цяжкія сямейныя ўмовы й скуты законам чалавек ня ў стане іх выправіць, дык творчасьць тут будзе межавацца з пудам. Вы маеце рацыю, што мае хатнія ўмовы таксама не да зайздрасьці, а калісьці ў сваім жыцьці меў яшчэ горшыя, і акурат гэтае дае мне магчымасьць і разумець Вас і спачуваць Вам. Дазвольце моцна, пасяброўску й па-мужчынску паціснуць Вам руку.

Мне спадабаліся Вашыя “Змагарныя дарогі”, якія... упяршыню прачытаў у друку. Гэта цікавы мэмуарны твор, які адразу стаўся каштоўнасьцю для дасьледнікаў і гісторыкаў, а разам з тым вельмі добра, што ягоны паважаны аўтар ня трапіў пад тыя ці іншыя ўплывы, а сваймі вачыма заглядаецца на ім асабіста перажытае, адпакутаванае. Акурат таму вакол гэтага твору як аніякага іншага на чужыне разгарнулася вялікая дыскусыя дый увогуле ён выклікаў шмат водгукаў. Тут пэўне-ж у першую чаргу адгукнуліся завяртанцы, і БЦР-аўцы, і БНР-аўцы, а ў пасыўны спосаб да агульнага ліку апанэнтаў далучыўся і... Юрка Віцьбіч.

Зь вядомага мне згадваецца наразе: рэцэнзія Ст[ась] Ст[анкевіч], “Бацькаўшчына”, № 585—586, рэцэнзія Фр[анц] Кушаль, “Беларус”, № 75, рэцэнзія “Сьветач Хрыстовае Навукі”[269], № 60, рэцэнзія Б. Ж.

[269] **“Сьветач Хрыстовае Навукі”** — эвангелісцкі часопіс, выдаваны Янам Пятроўскім у ЗША ў 1961—1966 гг. як працяг віленскага выданьня, што пачало выходзіць у 1932 г.

“Вехі”[270], № 10, Я-скі “У ацэне ўласнага чыну”, “Беларуская Думка”, № 8, “Яшчэ пра беларускі чын”, “Беларуская Думка”, № 9, В[ацлаў] Пануцэвіч “А ў кішэні — вялікая фіга”, “Беларус”, № 107.

Аж урэшце-рэштаў сам аўтар вырашыў зпрычыніцца да гэтае дыскусыі сваім артыкулам “Факты й лягенды”, “Беларуская Думка”, № 9.

І як прыемна, што Кастусь Акула наўсуперак жаданьням Сп. В[ацлава] Пануцэвіча ня зрабіў з Сп. Ген[эрала] Фр[анца] Кушаля другога цара Леаніда[271] або, паводля характарыстыкі Я-скага — дэзэртыра. Хоць, праўда, часам і складаецца ўражаньне, што каб ня Сп. Фр[анц] Кушаль, дык і Віталя Мікулы ня было-б, ці што Сп. Ген[эрал] К[астусь] Езавітаў меўся б і цяпер паміж намі, каб паслухаў парадаў Сп. Фр[анца] Кушаля. Магчыма, гэтае тлумачыцца тым, што аўтар крыху, прабачце, пасьлізнуўся, падпарадкаваўшыся афіцыйнаму аўтарытэту.

Цяпер дазвольце перайсьці да Юркі Віцьбіча. Я вельмі паважаю Вас як чалавека й пісьменьніка, каб цяпер гуляць з Вамі ў хованкі — мне калісьці вельмі не спадабаліся ў Вашым творы выразы, як, напрыклад, *“гэтак званы 2-гі Кангрэс”* або сёе-тое з выказваньняў аб гістарычнай (за часы вайны) БЦР. Ня ў прыклад пануцэвічам і я-скім, я арганічна ня ў стане абурацца з тае прычыны, што Вашыя погляды ня супадаюць з маімі, нават палічыў за шкоднае для літаратуры даводзіць ці паспрабаваць Вам давесьці, што Вам патрэбна… перагледзіць свае погляды. Вельмі-ж мне даліся ў знакі Лукашы Бэндэ[272], каб, уцёкшы ад іх на чужыну, раптам пайсьці тут іхнім сьледам.

Ад усяе душы зычу Вам, дарагі Акула, заставацца да скону жыцьця самім сабой, захоўваючы сваю чалавецкую й літаратарскую апрычонасьць, якія Вам уласьцівыя й вельмі выгодна адрозьніваюць Вас ад розных шэранькіх капралаў ад літаратуры й палітыкі.

Шчыра зычу Вам і Вашае сям’і ўсяго найлепшага ад мяне й маіх.

Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.

З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.

15.19.69 г.

Дарагі Спадар Віцьбіч,

Атрымаў Ваш ліст за 28 верасьня й вельмі ўдзячны за Вашы камэнтары дый за тыя залучнікі. Асабліва зацікавіла мяне ліста Вашых

---

[270] **“Вехі / Viechi”** — часопіс *“беларускае паступовае думкі”*, які выдаваўся ў Нямеччыне ў 1956—1989 гг. пад рэдакцыяй Юрыя Попкі. Выйшла 50 нумароў.

[271] Маецца на ўвазе **Леанід I** — адзін з цароў Спарты з роду Агідаў (491—480 да н. э.), застаўся ў гісторыі дзякуючы свайму ўдзелу ў бітве пры Фэрмапілах, у якой і загінуў.

[272] **Лукаш Бэндэ** (1903—1961), крытык, публіцыст і літаратуразнаўца вульгарна-сацыялагічнага кірунку.

твораў. Запраўды, так даводзіцца шкадаваць, што ня маю магчымасьць пазнаёміцца з плёнамі таго творчага шляху, каторым Вы йшлі пад сьпякотным сонцам сосовай[273] канстытуцыі. Цікава, ці ёсьць "Узвышша" ў Нью Ёркскай публічнай бібліятэцы? Бяз перасолу можна сказаць, што паколькі Вы былі тым сябрам, каторы не падпісаўся пад ліквідацыйным асьветчаньнем гэнага выдатнага згуртаваньня, дык "Узвышша" й сяньня жыве й творыць у Вашай асобе. Дык дазвольце павіншаваць Вас як выдатнага ўзвышэнца з саракагодзьдзем плённай творчай працы. Буду прасіць Бога, каб яшчэ доўгія гады трымаў Вас пад сваёй выдатнай апекай.

Прабачце, забыўся прыгадаць, што кнігу "Змагарныя Дарогі" пераслаў Вам як падарунак і зьвяртаць яе непатрэбна. Яшчэ некалькі паасобнікаў у мяне захавалася. Гэты свой першы большы твор пісаў я, як Вам, пэўна, ведама, каб выклікаць рэакцыю нашага грамадзтва. Прыслухоўваўся я даўжэйшы час ваенным адгалоскам між іншых народаў, дый такіх навет, каторыя многа нявіннае крыві пусьцілі (называць іх хіба-ж няма патрэбы). Прайшло бадай было дваццаць гадоў пасьля вайны, а мы, беларусы, быццам вады ў рот набраўшы, апроч лягернага палітыканства пра наша ваеннае гэройства ці недахоп яго ані гу-гу... Меркаваў я, што былі большыя ў нас аўтарытэты, каторым відней было, каторыя масу чаго ведалі таго, што мне, тагачаснаму студэнту, недаступным было... Спадзяваўся, што напішуць, чакаў. І заўсёды назаляла думка: ці-ж мы, каторыя столькі ахвяр палажылі, такія грэшнікі, што гаварыць пра мінулае баімося навонкі? Яй-Богу, так выглядала. А ў архіве ляжаў мой дзёньнік, каторы насіў у жаўнерскай кішэні праз усю Эўропу. Думаў пісаць мастацкую аповесьць, абапертую ў вагульным на гістарычных падзеях. Збоку падказалі, што варта спалучыць гэта зь гісторыяй, значыцца, са звычайнай публіцыстыкай.. Небясьпека такога спалучэньня вядомая: ні рак, ні рыба. З другога боку, праўда-ж, ніхто не напісаў. Вось адтуль і пастанова, што можа гэты твор выкліча рэакцыю, мо там дакажуць, дзе я не даказаў, а дзе дрэнна што зрабіў, дык даложаць, паправяць. Прызнаюся Вам, спадзяваўся, што іншыя напішуць падобныя творы, значыцца, падобныя ня формай ці сюжэтам, але ў пэрспэктыве ацэны мінуўшых падзеяў. Самі-ж ведаеце, водгукі былі, але паважнага так ніхто й не напісаў. А колькі сяньня жыве яшчэ людзей, каторых звычайныя ўспаміны асталіся-б некалі скарбам у нашай мэмуарнай літаратуры.

Дзякую Вам, сп-р Віцьбіч, за шчырае слова, хоць Вы сябе й паставілі ў апанэнты. Хіба-ж у апанэнты майго тагачаснага падыходу да некаторых нашых палітыкаў... Калі-б у будучыні трэба было перавыдаваць, дык варта сёе-тое перагледзіць. Аб'ектыўнасьць мая, пэўна-ж, шмат дзе шванкавала, ды й мо канкрэтна ў адносінах да сп-ра Кушаля. Асабіста,

[273] **Сосовай** — сталінскай, ад Сосо — дзіцячай мянушкі Іосіфа Джугашвілі.

прызнаюся, ня чуў я да яго лішніх сымпатыяў. Калі мяне арыштавалі на менскай чыгуначнай станцыі ў канцы 1943 г. (дакладна 26-га лістапада), дык мой сябра студэнт пайшоў да Кушаля, каб памог мяне зь менскае вязьніцы вызваліць. Кушаль прагнаў яго, як назойлівую муху, і пагразіў, што калі будзе дакучаць, *"дык і цябе пасаджу разам з гэным"*. Я, бязумоўна, самому Кушалю гэтага не казаў. Дарэчы, мы з гэтым сябрам ехалі зь Вільні дамоў па харчы й наважылі заехаць у Менск. Мы ня мелі "райзэшайнаў"[274], і яму ўдалося вышмыгнуць з вагону, а мне не.

З гэтага бачыце, што калі-б я быў зласьлівы, дык спрабаваў-бы з камандуючага БКА зрабіць дэзэртыра ці яшчэ горш... Ані ня было маім жаданьнем зрабіць зь яго гэроя. Адылі самі ведаеце, як цяжка пісаць пра тое, на чым дарожны пыл яшчэ не асеў, ці пра людзей, пабач жывучых, тымбольш калі ня маеш усіх фактаў ды розных адценяў грамадзкае апініі. Мне ня раз шкадаваць давялося, што не ўдалося, у прыватнасьці, зьвязацца са сьв. пам. Капітанам Чабатарэвічам[275] дый шмат кім іншым. Але бадай даволі пра гэта. Я пэўны, што яшчэ шмат хто й шмат чаго скажа пра той бурлівы час, падзеі й людзей.

Зноў памалу запрагаюся ў аглоблі другой кнігі "Гараваткі", каторую збольшага бадай зімой скончу. Пра "Тумороў іс естэрдэй" зьмясьціў добрую рэцэнзію квартальнік таронцкага ўнівэрсытэту. Пра пазытыўныя водклікі на гэту аповесьць з боку англамоўнага сьвету, здаецца, Вам раней згадваў. Ня ведаў і не спадзяваўся, што кніга дачакаецца такога гонару, каб быць зігнараванай беларускай прэсай ці, дакладней гаворачы, адзінай беларускай эміграцыйнай газэтай.

Калі-б Вы маглі мне параіць, якім чынам змог-бы пазнаёміцца з Вашымі ранейшымі творамі, быў-бы вельмі Вам удзячны. Першы Ваш твор, прыгадваю, што дастаўся мне ў рукі, гэта адбітка "Раніцы"[276] — "Беларускія нацыянальныя сьвятыні". Ад гэнага часу я накш пачаў глядзець на мінулае й скарбы нашага слаўнага народу. Які-ж удзячны я быў тады аўтару, каторы адкрыў перада мной новы сьвет ці новую прызму, каб зірнуць на веліч нашых продкаў.

---

[274] ***Reisescheine*** (ням.) — падарожны дакумэнт, дазвол на перамяшчэньні.

[275] **Віктар Чабатарэвіч** (1907—1963), грамадзкі й вайсковы дзеяч, настаўнік. У 1941—1942 гг. працаваў у Галоўным школьным інспектараце, сакратаром Цэнтралі БНС. У сакавіку 1944 г. узначаліў афіцэрскія курсы БКА, затым — Афіцэрскую школу БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Падтрымліваў прыхільнікаў Беларускай цэнтральнай рады, уваходзіў у склад Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі (быў яго віцэ-старшынём).
Кастусь Акула мае на ўвазе, што не кантактаваў зь Віктарам Чабатарэвічам у часе працы над "Змагарнымі дарогамі", а пасьля выданьня дзеячы ліставаліся. Гл.: Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум... С. 248—306.

[276] **"Раніца"** — беларуская газэта, выдавалася ў Бэрліне ад 1939 да 1945 г.

Будзьце ласкавы прывітаць ад мяне Вашу паважаную Жонку.

Цісну руку, К[астусь] Акула.

ПС. Учора даведаўся зь “ЛіМ”-а, што ў дзясятай кнізе “Полымя” Ул[адзімер] Дубоўка[277] з нагоды 75-годзьдзя нараджэньня піша пра Адама Бабарэку[278] п[ад] заг[алоўкам] “Шчасьлівы, што яго знаў”. Нецярпліва чакаю.

29.10.69 г.
Саўт Рывер.

Дарагі Кастусь Акула!

Удзячны за Ваш ветлівы ліст ад 15.10.69 г. ды цешуся, што Вы не пакрыўдзіліся на мяне за мае шчырыя заўвагі ў папярэднім лісьце да Вас. Дзякую таксама за Вашыя ласкавыя зычэньні з нагоды 40-годзьдзя мае сьціплае творчасьці, як і за каштоўны падарунак — паасобнік Вашых цікавых “Змагарных дарогаў”. Калі толькі яшчэ давядзецца, адзін Бог ведае, бачыць Вас у сябе, дык папрашу Вас падпісаць іх. Яшчэ раз — дзякуй за ўсё.

Добра разумею тыя цяжкасьці, зь якімі Вам давялося сустрэцца, працуючы над “Змагарнымі дарогамі”. Тут і спроба ціску з боку некаторых асобаў, як БНР-аўскага, гэтак і БЦР-аўскага напрамкаў. Тут і адсутнасьць належнае пэрспэктывы — яшчэ блізкі той час, каб сёе-тое зь яго собскай вагой апусьцілася каля ня зусім на донца, дык усё-ж ніжэй за колішняе. Толькі ў часе паводкі шумавіньне трымаецца наверсе, а потым яно бязь сьледу зьнікае. Тым ня менш, бяз увагі на кагадзе адзначаныя перашкоды, паважаны аўтар стварыў вялікі твор, у якім вычувалася значная патрэба, прычым стварыў яго ў нас першы, ня маючы перад сабой адпаведных узораў. І нават заткнуў тым глотку тамтэйшым завяртанцам, якія неяк узялі пад сумніў магчымасьць эміграцыйных літаратараў стварыць твор аб замаганьні “бебурнацы”[279].

Аднак далягляды даляглядамі, але дасьледнікі мусяць сьпяшацца, пакуль жывыя яшчэ тыя суродзічы, якія зьяўляюцца ўдзельнікамі або сьведкамі падзеяў і фактаў з найноўшае гісторыі. Цалкам разумею Ваш сум з тае прычыны, што Вам не пашанцавала пагутарыць зь сьв[етлай] пам[яці] капітанам Чабатарэвічам. А вось я сумую, што ня ўзяў інтэрвію ў сьв[етлай] пам[яці] генэрала Дзямідава[280], калі ён прыяжджаў

[277] **Уладзімер Дубоўка** (1900—1976), паэт, празаік, перакладчык, крытык.

[278] **Адам Бабарэка** (1899—1938), празаік, літаратуразнаўца. І Ўладзімер Дубоўка, і Адам Бабарэка былі рэпрэсаваныя ў 1930-я гг., але першы выжыў.

[279] **“Бебурнац”** — мянушка, утвораная ад выразу *“беларускі буржуазны нацыяналіст”*.

[280] **Мікола Дзямідаў** (1888—1967), вайсковы й грамадзкі дзеяч, публіцыст. Удзельнік Першай сусьветнай вайны, у 1918 г. займаўся ў Вільні арганізацыяй беларускіх вайсковых адзінак. Улетку 1920 г. уступіў у армію С. Булак-



Кастусь Акула ў друкарні. 1970 г.

у Саўт Рывер — гэта-ж адзін з напарнікаў Булак-Балаховіча[281]. Нашая сустрэча абмежавалася толькі бутэлькай, каб яе пярун, каньяку. Не пасьпеў я таксама "абсмактаць" ладне каго з суродзічаў, хто ўдзельнічаў у шматлікіх антыбальшавіцкіх паўстаньнях — яны шмат чаго цікавага й каштоўнага назаўсёды панясьлі з сабой у магілкі. Вось больш-менш выпадкова, па лініі Новага Рускага Слова, набыў карэспандэнта, што жыве ў Вас у Таронта, ад якога дастаў аж у 7-і вялікіх лістах багатыя матар'ялы аб беларускіх партызанах у 20—30-ыя гады. Наразе ашчадна паклаў гэтыя лісты ў адмысловую папку, але іншая справа, што сам аўтар мае сьпяшацца, бяручы пад увагу свой век.

Балаховіча, арганізаваў асобны беларускі батальён, які ўдзельнічаў у паходзе 1920 г. Ад 1923 г. у Латвіі на чале таварystваў "Беларуская хатка" й "Рунь". У 1940 г. арыштаваны й этапаваны ў Маскву, але неўзабаве вызвалены. У 1941 г. кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Дзьвінску, потым увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рызе. У 1942 г. пераехаў у Беларусь, працаваў інспэктарам Генэральнага камісарыяту, потым рэфэрэнтам па школьных справах. Удзельнічаў у фармiраваньні лідзкага батальёну БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, пазьней выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

[281] **Станіслаў Булак-Балаховіч** (1883—1940), вайсковы дзеяч, генэрал асобнага атраду БНР, камандзір добраахвотніцкіх атрадаў польскай арміі ў 1920 г.

На жаль, ня ў стане згадзіцца з Вашай думкай аб Вашай рабоце над “Змагарнымі дарогамі”, а менавіта: *“Збоку падказалі, што варта спалучыць гэта зь гісторыяй, значыцца, са звычайнай публіцыстыкай”*.

Даруйце, але хіба-ж на падставе гісторыі ня створаны выдатныя мастацкія творы? Затое запраўды небясьпечна спалучэньне з палітыкай, а тым балей з палітыканствам. Калі ўзяць прыклады з беларускае сучаснае тамтэйшае літаратуры, дык узорам першага, спалучэньня гісторыі з мастацтвам, зьяўляецца добры раман Уладзімера Караткевіча “Пад сярпом тваім”, а ўзорам другога — убогія грымзолы Івана Новікава[282], ягоныя г. зв. дакумэнтальныя аповесьці.

Пакуль сам яшчэ жывы ды, дзякуй Богу, больш-менш здаровы, а таксама жывыя тыя, хто з нашымі выдатнымі беларусамі сустракаўся, мушу ўсьлед за нарысам пра маёра Мікулу абавязкова напісаць пра наступных: Міхась Вітушка[283], Усевалад Родзька[284], Янук Філістовіч[285] і г. д.

Ужо сёе-тое плявузгалі аб іх раманоўскія[286], няхаі[287] ды пасьлядовічы[288], але апошняе слова мае належаць нам.

---

282 **Іван Новікаў** (1918—2001), празаік, журналіст, Заслужаны дзеяч культуры БССР.

283 **Міхась Вітушка** (1907—2006?), вайсковы дзеяч. У 1941—1944 гг. арганізатар вайсковых антысавецкіх аддзелаў на Смаленшчыне, Браншчыне, Магілёўшчыне. З 1945 г. узначальваў нацыянальны партызанскі рух на тэрыторыі БССР.

284 **Усевалад Родзька** (1920—1946?), грамадзкі дзеяч. Ад 1942 г. старшыня ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, арганізоўваў нацыянальную партызанку. Ад сакавіка 1944 г. быў камандзерам 15-га батальёну БКА. Арганізоўваў беларускі батальён “Дальвіц”, пасьля раззбраеньня батальёну ў Чэхіі нелегальна перабраўся ў Польшчу. Ствараў антысавецкую партызанку пад эгідай БНП. У 1945 г. арыштаваны і ў 1946 г. прыгавораны да найвышэйшай меры пакараньня.

285 **Янка Філістовіч** (1927—1953), грамадзкі дзеяч. Ад 1947 г. жыў у Францыі, у якасьці вольнага слухача наведваў лекцыі на гістарычным факультэце ў Сарбоне. 9 верасьня 1951 г. пры дапамозе амэрыканскіх спэцслужбаў дэсантаваўся каля Маладзечна. Узначаліў партызанскую групу, якая дзейнічала на тэрыторыі Ільлянскага раёну з 1949 г. У верасьні 1952 г. быў арыштаваны, а празь пяць месяцаў прысуджаны да найвышэйшай меры пакараньня — расстрэлу.

286 Маецца на ўвазе **Васіль Раманоўскі** (1918—1992), гісторык, доктар гістарычных навук, аўтар кнігі “Саўдзельнікі ў злачынствах” (Мінск, 1964).

287 Маецца на ўвазе **Рыгор Няхай** (1914—1991), пісьменьнік. Ад 1946 г. працаваў у газэце “Літаратура і мастацтва”. У 1952—1954 гг. загадчык аддзелу крытыкі й публіцыстыкі часопісу “Полымя”, у 1956—1957 гг. рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР.

288 Маецца на ўвазе **Макар Пасьлядовіч** (1906—1984), пісьменьнік і перакладнік.

Шчыра зычу Вам і Вашай сям'і ўсяго найлепшага ад мяне й мае сям'і.

Прашу пераказаць мае прывітаньне Спадару Маркевічу.

Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.

З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.

ПС. А ў Канадзе ўжо пэўне запраўдная зіма. З гэтае прычыны тут ужо, як штогод, зьявілася тысячы канадыйцаў. Маю на ўвазе… шпакоў. Іх прылятае сюды гэтулькі, што яны нагадываюць хмары. Трымаюцца тут бадай усю тутэйшую зіму. Калі впадзе на колькі дзён сьнег, дык адлятаюць на поўдня нашага штату, а потым зноў вяртаюцца. Але не сьпяваюць — чужына для іх. І птушкі любяць сваю бацькаўшчыну. А з нас бальшавікі спрабуюць стварыць *"Иванов непомнящих родства"*.

Яшчэ раз усяго добрага, Юр[ка] Віцьбіч.

13.4.70.

Дарагі Сп-р Віцьбіч,

Апошнія месяцы тры давялося многа лішніх гадзін правесьці пры заработнай працы. Працую адзін, замяніць няма каму, дык і лішкі трэба ў выпадку патрэбы рабіць. Да гэтага даходзіць і палітычная праца ў Эдмунд Бэрк Сосаеты. Вось чаму некаторыя сябры даўно ад мяне ня мелі слова.

Сьвяткавалі Дзень Незалежнасьці ў Тароньце ажно 5-га красавіка. Прыяжджаў для дакладу д-р Запруднік ізь сям'ёй. Расказваў пра непаладкі ў радыё "Свабода". Гаварыць многа не давялося.

У нас гэтта "ленінцы" адсьвяткавалі стагодзьдзе свайго ідала. Мы ім памаглі. Копію, напісаную для радыё "Свабода", залучаю. Мне ад "таварышоў" не папала *"ні ў каршэнь, ні ў грыву"*. Фактычна, не ўдалося мне свае "бомбы" падлажыць. Калі нашых хлопцаў павыкідвалі, чалавек восем нас асталося, каб прадоўжыць паводля пляну, як дамовіліся. Было ўмоўлена, што кажная група дзеіць асобна, каб такім чынам зруйнаваць ім цэлы вечар.

Пасьля першага выбуху яны, выкінуўшы бальшыню нашых, страцілі якой паўгадзіны, пакуль павылаўлівалі рэшту. Быў, ведама, там Грышка Акулевіч[289], каторы, пэўна, на мяне шапнуў. Паколькі я спакойна давёў ім, што я зусім няшкодны элемэнт і навет з кпінамі спытаўся іх, ці проданы мне імі-ж білет, каторы спакойна ляжаў у маей

[289] **Рыгор Акулевіч** (1907—1974), грамадзкі дзеяч, выдавец, публіцыст. Ад 1928 г. жыў у Канадзе. Удзельнічаў у прасавецкім руху, у выпуску газэты *"Канадский гудок"*, дзе ў першых трох нумарах друкаваўся "Беларускі куток" па-беларуску. Адзін са стваральнікаў пракамуністычнай Фэдэрацыі рускіх канадцаў і яе друкаванага органу — газэты *"Вестник"*. Неаднойчы наведваў БССР (1947, 1955). Аўтар кніг *"Русские в Канаде"* (Таронта, 1952) і *"50 лет Белорусской республики"* (Таронта, 1968).

кішэні, не дае мне права прысутнічаць, "таварышы" зьвярнулі мне й майму сябру па пяць даляраў, а ў маей няшкоднасьці я іх не пераканаў. Шкада, надта-ж сьвярбелі рукі. Але мы не хадзілі біцца.

Цяперака ў нашай самай прыгожай бібліятэцы, што ў будынку гарадзкой ратушы, паказваюць творы Леніна й творы пра Леніна. Тое самае, чуў я, адбываецца ў многіх нашых і амэрыканскіх гарадох. Вось да чаго дажыліся.

Пачуўшы пра гэта, мы пачалі тэлефонную афэнзыву на нашых бібліятэкараў. Адны пратэстуюць, другія пагражаюць. Да таго давялі бібліятэкараў, што ўжо прэсе паскардзіліся. І гэтта справа набрала розгаласу. Адным словам, во так клюём, дзе можам.

Атрымаў кагадзе той доўгачаканы праваслаўны каляндар, пра каторы Вы колькі разоў былі ласкавы згадаць. Павярхоўна пераглядаў. Выданы салідна. На такія сьціплыя царкоўна-грамадзкія сілы, як нашы, дык гэта немалы здабытак. Хоць чытаў ужо недзе раней, але зноў зь вялікім смакам прачытаў Ваш добры твор "470-годзьдзе зьяўленьня цудадзейнага абразу Менскае Божае Маці".

Тымчасам бывайце здаровы й пішыце пры нагодзе.

Цісну руку, К[астусь] Акула.

28.9.71 г.

Вельмі Дарагі Сп-р Віцьбіч,

Даляцела пэўне-ж і да Вашых вушэй, што краіну нашу, а ў тым ліку ды мо й насамперш Таронта, наведае ня хто іншы, як адзін з маскоўскіх зорак — прэм'ер-міністар Касыгін. Пачатак гэтай няслаўнай падзеі прыпадае на 18 кастрычніка, і крамлёўскі візытатар пабудзе ў Канадзе ці ня цэлы тыдзень. Не патрабую хіба прыгадваць, што наш прэм'ер-міністар гуляка П'ер Трудо наважыў адгадзіцца маскоўскім валадаром за тое, што гэтак прыгожа ў травені сёлета гасьцілі яго й ягоную Маргарыту[290]. Мо лішнім і прыгадваць, што сам Трудо зьвіхнуты ў кірунку сацыялізму (фабіянін-марксіста[291]). *Ваш фэдэральны лад нагадвае наш,* — сказаў ён украінскім цівунам і маскоўскім гаспадаром у Кіеве. — *У Нарыльску я меў найцяплейшае прыняцьцё,* — хваліўся П'ер, згадваючы горад, пабудаваны ці ня літаральна на касьцёх паняволеных.

[290] **Маргарыта Трудо** (фр. *Margaret Joan Trudeau,* нар. 1948), акторка, фатографка, тэлевядучая, жонка прэм'ер-міністра Канады П'ера Трудо.

[291] Відаць, маецца на ўвазе **фабіянства**, або **фабіян-сацыялізм**, — кірунак у сацыялізьме, які паўстаў у Брытаніі ў 1884 г. і быў зьвязаны зь дзейнасьцю Фабіянскага таварыства. Прыхільнікі гэтага кірунку выступалі за паступовае, шляхам рэформаў ператварэньне капіталістычнага грамадства ў сацыялістычнае.

Пачуўшы пра прыезд сюды Касыгіна, шмат розных добрых і актыўных людзей пачалі думаць, як “госьця” прыняць. Гавару пра таронцкіх. Пачаў і я — дазвольце такое параўнаньне — стрыгчы вушамі, каб прыслухацца адгалоскам зь беларускай грамады. І як ня стрыг — ажно вушы забалелі — нажаль, глухата. Тады прыйшоў на помач язык. На мае пытаньні шматлікія нашы родзічы адказалі, што на ведамай плошчы то яны стаяць і нават сядзяць, але што-ж зробіш, як прыедзе... ня пусьціш яго ці што? Іншыя то й нясьмела выказаліся, што яно варта было-б тое-сёе памяркаваць, каб зрабіць, але Бог ведае...

Гэтта ня цэлую нядзелю назад мне надзвычайна павязло: сустрэў не каго іншага, а самага старшыню Рады БНР сп-ра Жука Грышкевіча. На маё пытаньне, што ён думае ці што плянуе Рада, старшыня Грышкевіч ня мог нічога канкрэтнага сказаць. Пачаў размышляць, разам із маей дапамогай. *Той і гэны ня пойдзе, а гэты... самі ведаеце... Ну, што-ж, пакліч! Хто паслухае? Сам пойдзеш на тую дэманстрацыю? Дый невядома дзе й калі будзе...*

І ў гэтым тоне. Сп-р старшыня хацеў даведацца ад мяне, што будзе рабіць Канадыйская Рада Вольнасьці (Фрыдом Каўнсул) і Эдмунд Бэрк Сосаеты. Трэба ведаць, што гэта дзьве арганізацыі, што маюць крыху пораху ў запасе і рэпрэзэнтуюць мясцовыя групы з паняволеных народаў.

Пазаўчора ў нядзелю пры нашай царкве сустрэў я колькі людзей — з Аттавы, Кінгстана, Дэтройту і інш., якія звычайна рэдка сюды заглядаюць, а калі бываюць, то ў важных патрэбах. Думалася мне, што, пэўне-ж, не бяз прычыны прыехалі. І праўда. Аказалася, што ў сыботу 25-га верасьня ў хаце аднаго майго сябры адбылося даўгое паседжаньне канадыйскага сэктару Рады БНР. І сам сп-р Жук-Грышкевіч завітаў у царкву. Я — прызнаюся шчыра — усьцешыўся. Але пацеха мая была кароткая. Хутка даведаўся, што на гэным паседжаньні пытаньне сустрэчы “гасьця” Касыгіна ня было на парадку дня. Я не распытваўся добразычлівых мне радных, пра што гаварылі, але няцяжка ўявіць, што такія пытаньні, як рэвіталізацыя працы радных, сяброўскія складкі, узгадненьні раней няўзгодненага, прачытаньне папярэдняга пратаколу, выбары сакратара сходу, фармулёўка пратаколу, падсумоўка апошніх падзеяў на вызвольным фроньце, відокі на будучыню, камэнтары да апошняй сэсіі і розныя напэўна маглі быць і некаторыя былі. Гэта-ж, вядома, справы буйнага маштабу, так сказаць, дзяржаўнага характару, дык як-жа бязь іх. І што ў параўнаньні з такімі візыта нейкай там крамлёўскай букашкі.

Дзіва няма, што людзі, прызвычаеныя працаваць у рамках прынагодных прамоваў на парафіяльных абедах ці паглынутыя плянаваньнем статутаў або мэмарыялаў да розных псэўда-аўтарытэтаў, ня хочуць ці ня ўмеюць выкарыстаць гэткае нагоды, як візыта Касыгіна для падняцьця на бой з брыдой, якую ён рэпрэзэнтуе, усяго беларускага, што




Кастусь Акула на дэманстрацыі супраць Касыгіна. 1971 г.

яшчэ не памерла, або да забыцьця людзкое й беларускае годнасьці не растучнела.

Пытаньне: чаму-ж тады гэтыя людзі лічаць сябе парлямантам, кіруючым ворганам беларускага народу? Няхай сабе й ня цэлага народу, але вольнае часьці яго — эміграцыі?

Як ім ня сорамна?

Трэба Вам ведаць, што прысутнічаў на зборы сэктару й віцэ-старшыня Рады д-р Б[арыс] Рагуля, ён-жа й старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады[292]. Гэтага скарэй людзі паслухалі-б, чым сп-ра Грышкевіча.

Пытаньне: што-ж можна зрабіць супраць Касыгіна й Трудо?

Можна зрабіць шмат.

Я хацеў брацца за работу сам. Але як прыгадаў калішнюю мантрэальскую дэманстрацыю й масу работы, дык жахнуўся. Трэба было-б змабілізаваць людзей (пэўне не ўдалося-б), напісаць і мо за свае грошы выдаць якую лістоўку, пасьля дэманстраваць (мо быць арыштаваным), пасьля зьбіраць грошы на пакрыцьцё выдаткаў і наапошку... падзякаваць усім, што памаглі.

---

[292] **Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады** — грамадзкая арганізацыя беларусаў Канады, створаная ў 1966 г. дзеля каардынацыі дзейнасьці ўсіх беларускіх арганізацый у гэтай краіне. Першым старшынём камітэту быў Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

І ведаю, што цярпець буду, як нічога ня будзе зроблена.

А заўтра якраз адбываецца сход Канадыйскай Рады Вольнасьці. Мне трэба туды пайсьці й сьвяціць вачыма. ЗБК — арганізацыя там мной рэпрэзэнтаваная — бязьдзейная.

Дык вось якая сытуацыя.

Копіі гэтага ліста пасылаю некаторым, каму варта ведаць пра гэта.

Цісну руку, Ваш К[астусь] Акула.

Копіі: сп-ру В[інцэнту] Жук-Грышкевічу, д-ру Б[арысу] Рагулю, д-ру Ст[аніславу] Станкевічу, д-ру Я[нку] Запрудніку, мг-ру А[лесю] Грыцуку, сп-ру Касьцюкевічу[293], Уладыку Мікалаю, д-ру В[ітаўту] Тумашу[294], мг-ру Я[нку] Сурвілу, д-ру Сажычу[295], сп-ру М[іколу] Ганько, сп-ру Целяшу[296], А[нтону] Маркевічу, праф. А[нтону] Адамовічу.

31.10.71 г.

Дарагі Спадар Акула!

Перадусім прабачце, што позьнюся з адказам на Вашыя ветлівыя лісты ад 28.9 і 16.10.71, за якія ўдзячны. Проста меў даволі значныя клопаты. Каб быў год на дзесяць маладзейшым, дык можа яны й не здаліся-б аж задужа значнымі, але цяпер у хаўрусе з старэцкімі нядужасьцямі, на жаль, гэткімі зьяўляюцца. Прашу разуменьня й дараваньня.

Вашыя кагадзе прыгаданыя лісты датычуць галоўным чынам адмысловае падрыхтоўкі з боку канадыйскіх суродзічаў да прыезду Касыгіна ў Канаду. Як ведаю з газэтаў, радыё й целябачаньня, усё адбылося лепей, чым, напрыклад, у ЗША ў часе спатканьняў таго-ж Касыгіна з нашым б[ылым] прэзыдэнтам Джансанам[297]. Тады ён тут атрымліваў

---

[293] **Вячаслаў (Віктар) Касцюкевіч** (1925—1993), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам з жаўнерамі якой пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1952 г. выехаў у Канаду. У розныя часы быў старшынём і намесьнікам старшыні Згуртаваньня беларусаў Канады.

[294] **Вітаўт Тумаш** (1910—1998), грамадзкі дзеяч, мэдык, навуковец (скарыназнаўца). Старшыня БІНіМу ў 1953—1982 гг.

[295] **Язэп Сажыч** (1917—2007), грамадзка-палітычны дзеяч. У 1950 г. закончыў Марбурскі ўнівэрсытэт у Нямеччыне з дыплёмам лекара й выехаў у ЗША. Стаў адным з заснавальнікаў аддзелу БАЗА ў штаце Мічыган. З 1953 г. — сябра, у 1982—1997 гг. — старшыня Рады БНР.

[296] **Мікола Цэлеш** (псэўд. **Марцін Люціч**, 1900 ці 1904 — пасьля 1976), пісьменьнік, перакладчык і публіцыст. У 1920—1930-я гг. часта выступаў на старонках беларускіх рэспубліканскіх газэт і часопісаў з нарысамі, апавяданьнямі, аповесьцямі. Падчас нямецка-савецкай вайны жыў у Менску. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, пасьля перабраўся ў ЗША. У 1976 г. нечакана зьнік (аднойчы выйшаў з дому й назад не вярнуўся).

[297] **Ліндан Джонсан** (анг. *Lyndon Baines Johnson,* 1908—1973), 36-ы прэзыдэнт ЗША (1963—1969).

ад палітычных хіпі пераважна кветкі, а ня гнілыя памідоры ды яблыкі ў дадатак да дэманстрацый з пратэстамі друкаванымі й слоўнымі. Спадзяюся, што акрамя аншлагаў меліся таксама лістоўкі й брашуры, накшталт той добрай, якая распаўсюджвалася на выставе ў Мантрэале. Аднак усё гэтае не зьяўляецца стыхійным. Таму кажны з беларусаў на чужыне, а ў тым ліку і Юрка Віцьбіч, з падзякай і пашанай ставіцца да Вашых асабістых высілкаў у гэтай галіне. Але...

Мне, даруйце, проста неяк ня выпадае падзяляць Вашае шчырае абурэньне з тае прычыны, што, паводля Вашае ласкавае інфармацыі, Канадыйскі Сэктар Рады БНР ня рыхтуецца да прыезду ў Канаду Касыгіна, каб з гэтае прыкрае нагоды выказаць яму й сьвету ўвогуле нашую нацыянальную крыўду. Па-першае, я ў гэткай ступені не зьвязаны (арганізацыйна не належу) з гэтым высокашаноўным Сэктарам, як тыя глыбокапаважаныя суродзічы, якім Вы даслалі копіі свайго ліста да мяне, а значыцца, адсюль ня маю права на тое, каб абмяркоўваць ягоную працаздатнасьць. Разам з тым зразумела, я маю права на сваю думку аб дзейнасьці і БНР, і БЦР, але, калі зойдзе ў гэтым патрэба, дык выкажу яго не ў прыватным парадку, а ў вочы ці ў друку, ня абражаючы пры гэтым пачуцьцяў суродзічаў. Па-другое, Урад БНР зьяўляецца беларускай дзяржаўнай інстытуцыяй на чужыне, а таму ня можна ставіць ягонае існаваньне пад пагрозу з прычыны падарожжа Касыгіна. Апошнім мусяць "апекавацца", хоць, магчыма, і падпарадкаваны Ўраду БНР, арганізацыі і асобы, але, крый Божа, ня ён беспасярэдне. Як на мой погляд, дык ні Ўрад БНР і ні Ўрад БЦР ня мусяць вылазіць на вуліцы й плошчы гарадоў тае краіны, дзе яны знайшлі гасьцінны прытулак. Нават наш сьцяг у часе ўгодкаў 25 Сакавіка маюць уздымаць прадстаўнікі эміграцыйных, а ня дзяржаўных інстытуцыяў.

Не захаваю ад Вас таксама, што, як на маю думку, учынак (актам яго ня можна назваць) таго мадзяра[298] ў дачыненьні да Касыгіна не зьяўляецца ані дадатным, ані гэраічным, а ўсяго толькі шкодным для змаганьня ягонага народу, а ўскосна для ўсіх нацыянальных меншасьцяў у Канадзе. Да таго-ж тыпу "змаганьня" належыць і страляніна па вокнах савецкае місіі ў Нью Ёрку. Аплявухі гэта ня зброя ў змаганьні за Незалежнасьць Бацькаўшчыны. У гэтым сьвятым змаганьні эмоцыі мусяць падпарадкавацца розуму.

А вось нешта зусім іншае — бліскучая перамога ў Онтарыё прагрэсыўнае кансэрватыўнае партыі ў часе апошніх выбараў. Хочацца думаць, што беларусы садзей...[299].

---

[298] Маецца на ўвазе вугорскі ўцякач **Геза Матрай** (*Geza Matrai*), які даў поўху Касыгіну ў часе ягонага афіцыйнага візыту ў Канаду.

[299] Канцоўка ліста адсутнічае.

26.11.71 г.

Вельмі Дарагі Спадар Віцьбіч,

Вашыя цікавыя лісты за 31.10 і 22.11 сёлета атрымаў і дзякую. Прашу Вас ня турбавацца дый надта ня руціцца з адказамі. Замінаць могуць, пэўне-ж, і нядужасьці, і больш гарачыя працы. Вядома, апроч творчай пісаніны і журналістыкі хочацца часамі й "пагутарыць". Гэтак, прынамся, у мяне нараджаецца патрэба напісаць да Вас. Бязумоўна — Вам гэта, здаецца, ясна — што ў мяне няма другога субяседніка на Вашым узроўні; маю гэтта наўвеце й шырыню паглядаў, і глыбіню разуменьня жыцьця дый стаж творчага й палітычнага дасьведчаньня. Гэткім чынам "гутару" з Вамі з асалодай, бо ведаю, што знайду водклік і зразуменьне.

Прыгадаў я вышэй творчую працу й журналістыку. Першая паволі, але няспынна пасоўваецца наперад. Другая кніга "Гараваткі" патаўсьцела ўжо да 320 машынапісных бачын, гэроі ў поўным разгары дзейнасьці й бязьдзейнасьці. Вось адно пазаўчора адаслаў Косьціка Сабакевіча й Лявона Шпунта ў сталінскую вязьніцу згодна гістарычнаму факту, што ўсіх быўшых сяброў КПЗБ[300] ледзянавокі Сосо высылаў на перавышкаленьне. Бальшавікі-ж цягнуць зэніткі зь Ліпавічаў. Мо Вы й ня прыгадваеце дакладна лёкаяў і асобаў мае аповесьці, але людзі-ж адтуль для аўтара жывыя. Думаю й турбуюся пра іх кажны наступны крок.

Журналістыка мая цяперашняя палягае ў тым, што зьяўляюся адным з двух рэдактароў "Стрэйт Ток" [*Streight Talk*], што выдае Эдмунд Бэрк Сосаеты, і кажны месяц пішу туды прынамся дзьве бачыны, г. зн. каля сямі машынапісных лістоў. Вядома, ЭБС гэта суцэльная палітыка. Мне выгадней, бяручы на ўвагу іншыя пільныя заняткі, было-б выпрагчыся адтуль. Але, прызнаюся, гэта баявая група ўжо зрабіла й, спадзяюся, яшчэ шмат зробіць. Ды калі й я прылажуся, сплю спакайней.

Пакуль выветрыць з галавы, выпадае яшчэ адгукнуцца на Вашыя заўвагі адносна нашае акцыі да візыты Касыгіна.

Перад прыездам Лёшкі наш прэм'ер-міністар Трудо зьвярнуўся да ўсіх Канадыйцаў, каб выказалі крамлёўскаму візытару прынамся такую пашану, як яму і ягонай Магі задэманстравалі эсэсэраўцы... Гэтта-ж і "сабака закапаны" быў. Трудо, каторы ўбіў шкодны й спорны клін між Канадай і ЗША, залежала, каб у сваей, г. зн. "палітычнай рэар'ентацыі" паказаць усяму сьвету, што за ім стаіць канадыйскі народ. Гэты факт добра зразумелі далёказорныя канадыйцы (перадусім тыя, што з паняволеных народаў) і адпаведна ўлажылі пляны працы. Асноўнае заданьне акцыі — дыскрэдытацыя Трудо, ягонай Лібэральнай партыі й палітыкі. Каго-ж Касыгін, апроч парлямэнтарыстаў трудовых, ягоных урднікаў і групы юдаў з Асацыяцыі Канадыйскіх Прадпрыемцаў, бачыў і хто яго

[300] **Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ)** — нелегальная партыя, якая існавала ў 1923—1938 гг. на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Зьяўлялася аўтаномнай часткай Камуністычнай партыі Польшчы.

сустракаў? Паліцыю й дэманстрантаў. Ня было энтузіястычна вітаючых натоўпаў, не заходзіў Лёшка ў хату канадыйскага работніка (гэткае жаданьне выразіў у інтэрв'ю з Брус Вэстам[301] з таронцкага "Глоб энд Мэйл"). Дзе ні павярнуўся — дэманстранты й паліцыя. Вам хіба-ж ясна, што навет і балбатун-пэсыміста Трудо быў няміла зьдзіўлены такой рэакцыяй. Выбары ў Антарыё, Ньюўфаўндленд і меншых правінцыях дадаткова паказалі нашаму фабіяну-сацыялісту, што народ не на ягоным баку. Наступнай вясной, здаецца, будуць фэдэральныя выбары, і відаць, што нашаму П'еру трэба будзе пакаваць транты свае ў Аттаве.

Праўда, няма добрай замены. Кансэрватыстаў палітыка замежная амаль ня розьніцца ад лібэральнай. Абое — рабое. Абедзьве партыі ў руках "бойсаў", што за кулісамі. Гэтак як ратараў. Пра гэтых апошніх не пад сілу ў лісьце пісаць, але мо раскажу калі, калі Бог дасьць, сустрэнемся.

Цяпер колькі слоў пра Гэйзу Матрай. Заданьнем ягоным было даць аплявуху Трудо, а не замардаваць Лёшку. Гэтае апошняе ён мог зрабіць лёгка. Ня трэба забывацца, што на пяты Трудо й Лёшкі наступала каля 400 карэспандэнтаў з усяго сьвету. Ганьба для нашага кудлатага П'ера была аграмадная. Таму, як бачыце, у гэткім сьвятле паступак Гэйзы Матрая быў зусім рацыянальны. Бо што-б зьмяніла забойства Лёшкі? Хіба прынесла-б шкоду якім Мадзярам… бязумоўна, нашы хлопцы з ЭБС, актыўныя й непаседлівыя, плянавалі з парасём пайсьці ў бізнэсовы цэнтар Таронта падчас палудня, паклікаць карэспандэнтаў. Гэты трык быў-бы ў мясцовым гусьце і людзі-б яго зразумелі. Пасьля была зьмена плянаў, пасьля паліцыя наляцела на нашу краму, арыштавала нявіннае парасё…

Вы былі ласкавы выказацца, што руплівасьць Ваша ўжо дасягнула могільніка[302]. Гэта патрэбна. Зайздрошчу, што могільнік у Вас ёсьць Беларускі, дык і рупіцца можна пра апошняе месца. У нас, на жаль, пра могільнік ніхто яшчэ ня рупіўся. Я ўжо гаварыў колькі раз, што ў Слуцку трэба дзялку адпусьціць і калі мясцовыя ўлады дадуць дазвол, тамака вызначыць тым, што жадаюць, месца апошняга супачыну. Бязумоўна, далекавата, але што зробіш. Зрэшты, куды адышоўшым ад нас, жывых, сьпяшацца? Заедуць паволі, а за грошы завязуць.

Дзякую Вам за чарку, што выпілі за маё здароўе на "танксгівін"[303]. Спадзяюся, не за гарамі той час, калі яшчэ раз сустрэнемся, пагутарым, мо й ТАВІЗ'аўскія традыцыі падтрымаем.

---

[301] **Брус Вэст** (анг. *Bruce West*, 1912—1990), канадыйскі журналіст, калюмніст у газэце *"The Globe and Mail"*.

[302] Віцьбіч пісаў, што набыў сабе месца на могільніку й замовіў помнік для сябе й жонкі.

[303] Маецца на ўвазе **Дзень удзячнасьці** (*Thanksgiving Day*) — дзяржаўнае сьвята ў ЗША, што адзначаецца ў чацьверты чацьвер лістапада.

Тымчасам жадаю Вам добрага здароўя й вытрываласьці ў тых шматлікіх працах і турботах, так выдатных для нас усіх. Залучаю выразак з “ЛіМ”у, мо ня маеце. Каб было больш такіх на тым баку, як Мальдзіс і Кісялёў[304], дык лягчэй было-б народу нашаму найбольшае ліхалецьце перажыць.

Прывітаньне Вашай Добрай Спадарыні.

Цісну руку, Ваш К[астусь] Акула.

Таронта, 24.1.72 г.

Вельмі дарагі Сп-р Віцьбіч,

Ён ужо памёр і яшчэ жыве...

Прытомнасьць яму адабрала 6-га студзеня сёлета дзесь перад паўднём, значыцца, у дзень Куцьці. Ад таго часу ў шпіталі ў камэры інтэнсыўнага догляду дваццацігадовы мой Алесь[305] змагаецца зь ведамай ведзьмай, каторую звычайна на ілюстрацыях паказваюць з шчарбатым чэрапам і касой. Гэта так. Яе ніхто ня бачыў, хоць шматлікія хваляцца, што *“ў вочы заглядалі”*. Але кажны шмат разоў адчувае ейную прысутнасьць на шляху сваім.

І ў Вас яна кагадзе была. Таму й пішу. Бо не адважыўся-б... Але Вы зь ёй і сямейна, бліжэй, чым я, знаёмыя. Праўда, дзесь воддаль, здаецца, стагодзьдзі назад, заглядала яна ці раз у сям’ю бацькоў маіх, выглуміла бальшыню не ў гадах яшчэ... А цяперака, відаць, наважылася заглянуць і на парог майго дому. Ведама-ж, што няпрошаная, але ўжо ведаю, што ня ўступіць...

Лекар кажа, што сынок мой можа так змагацца яшчэ доўгі, доўгі час. Але ня выключана, што й хутка яго забярэ. А ён выносьлівы дзяцюк, маладзец быў. Прабач мне, Божа, што ўжо пішу пра яго ў часе прошлым, бо-ж часьць яго яшчэ жыве, апроч самага галоўнага, мазгоў... На пытаньне, ці можна хоць мець найменшыя спадзяваньні, лекар варушыць плячмі...

Што-ж, мусіць, трэба рэзыгнаваць, прыняць на парозе сваім і гэту, Богам даную й неабходную зьяву.

Трыццатага студзеня Алесю будзе дваццаць гадоў. Ён моцна, надта моцна й надта доўга хацеў жыць. Здавалася ўжо яму, што ведзьму абхітрыў; бо-ж ці раз яна ў суседзтве была.

Але паверце, дарагі Сп-р Віцьбіч, якія-ж ён меў шансы, каб доўга і доўга жыць, як марыў?

Да дзесяці гадоў гэта быў надзвычайны й разумны хлопчык, пяршынец мой. У дзесяць загаспадарыў у яго арганізьме дыябет. Думаю,

---

[304] **Генадзь Кісялёў** (1931—2008), літаратуразнаўца, архівіст, пісьменьнік, кандыдат гістарычных навук, доктар філялягічных навук. Ад 1971 г. працаваў навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры АН БССР.

[305] **Алесь Акула** (1952—1972), сын Кастуся Акулы.

самі разьбіраецеся, што гэта за хвароба, дык часу Вам забіраць ня буду. Алесь добра даваў сабе рады з гэтым першым забойцам, але вось на шаснаццатым падасьпела схізафрэнія[306]. Выкінулі яго са школы, гады два працаваў карэспандэнцыйна, каб скончыць сярэднюю школу. А ўжо ці ня год назад даў урад яму пэнсію інваліда.

Схізафрэнію Алесяву я асабліва не праклінаў, бо адзін з таго двайнога сьвету канцэнтраваў усе ягоныя сілы, каб глядзець за здароўем, значыцца, у ягоным выпадку, каб трымаць у кантролі дыябэт. Схізафрэнія па сваім характары хвароба ня менш забойчая, чым дыябэт, на маю думку. Мяркую, што Алесю яна ня надта перашкаджала, калі не памагала. Бог ведае, як далей было-б. Каротка кажучы, сынок мой меў двух забойцаў на плячох, і вечна падсьцерагала яго старая ведзьма.

Але дзяцюк трымаўся такога строгага рэжыму, што запраўды я поўнасьцю палягаў на яго і ўжо быў паверыў, што замоладу ведзьме ня дасца. Я быў такі пэўны, што летась навет адважыўся Эўропу наведаць, папрасіўшы, ведама, добрых людзей, каб у выпадку чаго ў шпіталь адвезьлі.

І хлопец апраўдаў сябе.

Алесь зусім слушна ганарыўся сваймі посьпехамі, і каб матка нармальная, дык з Божай помаччу жыў-бы доўга, доўга, так, як марыў.

Цяпер, гледзячы на гэта з адлегласьці, відаць, які зь мяне быў наіўны дурань... Ведзьма абхітрыла... Алесяву матку на помач паклікаўшы...

Якраз у першую нядзелю пасьля Сьв. Літургіі ў царкве пасьля Новага Году (па новым стылі), выйшаўшы ў залю, я, на пацеху й рогат сябром, перафразаваў зусім спантанічна ведамы верш:

*Новы Год ідзе крокам бадзёрым,*
*Крокам звонкім, як сам маладым,*
*Ён мінае даліны і ўзгор'і,*
*Прынясе, сукін сын, шмат бяды...*[307].

Адкуль мне тады магло ў галаву прыйсьці, што вось неўзабаве пачну так моцна, доўга плакаць аж да страты розуму?

5-га студзеня сёлета Алесь пайшоў у ратушу па інсулін. Па дарозе дахаты дзесь на вуліцы меў рэакцыю. Нейкі добры чалавек, згледзіўшы яго непрытомнага, выклікаў амбулянс. Я прыйшоў з працы, дома яго ня было і ніхто ня ведаў, дзе ён быў. Гэтак здаралася часта й раней. Меркаваў я, што, пэўне, дзесь у сяброў, а жонка, як звычайна, была

[306] **Шызафрэнія** (анг. *Schizophrenia*) — хранічная псыхічная хвароба, якая характарызуецца распадам працэсаў мысленьня й эмацыйных рэакцый.

[307] У арыгінале вершу Ларысы Геніюш першая страфа гучала так: *"Новы Год ідзе крокам бадзёрым, / крокам звонкім, як сам маладым, / расьсьцілае надзеі узорныя, / гоіць крыўдаў і ранаў сьляды"*.

ў сваім сьвеце. А гадзіне адзінаццатай вечарам патэлефанавалі мне са шпіталя, каб забіраў Алеся, што ён маецца добра й можа дамоў ехаць. Гэтак, праўда, даволі рэдка, здаралася з Алесем і раней. Калі мае рэакцыю, адразу даць першую помач у выглядзе пару кавалкаў цукру і ў шпіталь неадкладна.

Прывёз я яго дамоў поўдванаццатай, і хлопец пайшоў спаць. А першай гадзіне пазванілі мне са шпіталя, каб яму цукру з аранжавым сокам, што я неадкладна зрабіў, разбудзіўшы яго. Хлопец прагавіта выпіў гэты сок... і гэта быў апошні раз, калі я бачыў яго прытомнага.

Назаўтра каля гадзіны сёмай устаў я на працу. Быў гэта дзень Куцьці, думалася пра Каляды, пра тое, што заўтра трэба будзе ня йсьці на працу, а ў царкву Нованароджанага славіць. У кухні было сьвятло, і Алесь спаў спакойна. Ведаў я, што ўставаў ён пунктуальна а гадзіне шостай, даваў сабе інсуліну, еў сьнеданьне, а пасьля ішоў назад у ложак. Дык я не турбаваўся й пайшоў спакойна на працу.

Было раней, што жонка ў выпадку патрэбы званіла мне на працу. Гэтак у гэны страшны для мяне дзень працаваў я цяжка, заняты быў, але пару разоў думаў, што, дзякуй Богу, з дому ніякага алярму няма, дык усё ў парадку.

А гадзіне чацьвёртай, вярнуўшыся са школы, пазваніў мне шаснаццацігадовы Юрка. Алесь, кажа, непрытомны, стогне... Я на скрут галавы пёрся машынай. Разам зь Юркам Алеся, няпрытомнага, цяжкога ўладзілі ў аўта і адвезьлі ў шпіталь.

Што-ж аказваецца?

Жонка мая роўна а дванаццатай гадзіне, калі Алесь ня прыйшоў у кухню, каб рыхтаваць сабе абед (ён сам сабе ўсё рыхтаваў, матцы не давяраў) пайшла наверх у спальню, дзе й знайшла яго няпрытомнага. Калі яго кінула ў цемру, невядома. Яна-ж, заміж таго, каб мне неадкладна пазваніць, давала яму вады з цукрам і цэлы час малілася Богу.

Я пэўны, што навет калі-б паклікала мяне а дванаццатай, хлопец ужо быў-бы выратаваны й сядзеў-бы дома...

І цяпер не магу сабе дараваць, што не пазваніў яму сам дамоў...

Як бачыце, Дарагі Сп-р Віцьбіч, ані я, ані мусіць сам Алесь не прадугледзіў, што ведзьма выкарыстае матку...

Разважай цяперака пра віну, намагайся рацыяналізаваць прычыны, эмоцыі. Што гэта дасьць? Унь наш вялікі суродзіч, волат Дастаеўскі перасейваў буйныя й дробныя зярняты прычынаў цярпеньня, вышыні й пропасьці, рэальнае й нерэальнае цэлае сваё плённае жыцьцё. І што з гэтага? Агульных назоўнікаў, апроч аднаго — Бога, так і не знайшоў. Што-ж мы, такія малыя ў параўнаньні зь ім, знойдзем?

Калі ўзяцца пералічваць розныя “чаму”, дык набярэцца іх без канца, а там дзесь на нябачным канцы тупік чакае. Ня нам дана бачыць так далёка. Але спадзяюся, што людзі, з каторымі я ў кантакце, у тым ліку й Вы, Дарагі Чалавек, даруеце цяперака вельмі зьнямоажанаму Аку-

лу за яго некаторую сьлязьлівасьць. Немач гэтта духовая больш чымся фізычная. Адно высьцерагаюся, каб, барані Божа, залом не прыйшоў.

Людзі ведаюць, што сын яшчэ жывы, а ўжо пры сустрэчах спагаду выказваюць. І гэта нармальна. Тое і я-б зрабіў. Але мне гэта спагада, паверце, Дарагі Сп-р Віцьбіч, гэтак моцна й балюча коле. Хочацца адразу кудысьці ў нару, ад вока людзкога хавацца, зямлю грызьці. Мне здавалася (а мо памыляюся?), што я заўсёды стараўся быць такі мужны, выносьлівы, так часта эмоцыі адкідаў-выкідаў, каб балянсу ня страціць. Цэлы час стараўся аддаваць сябе ўсяго для іншых, бо ў гэтым знайшоў сваё пакліканьне. І ці-ж я, перад Ім малы й нікчэмны, не магу часам спытаць Стварыцеля, чаму надбаўляе мне ўсё цяжэйшую й больш пакутлівую ношу?

Веру, што гэта дый іншае яшчэ вытрымаю, у роспач поўнасьцю не акунуся...

Тымчасам будзьце ласкавы прабачыць, што на Ваша старэйшае плячо абапёрся.

Прывітаньні Вашай Паважанай Жонцы й няхай Бог трымае Вас у апецы сваей.

Ваш К[астусь] Акула.

25.2.72 г.
Саўт Рывер.

Дарагі Кастусь Акула,

Пра сумны адыход сьвятое памяці Алеся[308] ў жыцьцё вечнае я даznаўся ў дзень ягоных паховінаў ад Сп. Др. Запрудніка па тэлефону. З Вашае ветлівае адказнае карткі ведаю, што Вы атрымалі маё сьціплае спачуваньне, як, прыпушчаю, дасталі таксама адмысловыя лісты ад суродзічаў з Нью Бранзьвіку і Саўт Рыверу. Думкамі ў гэты час былі разам з Вамі. Хай будзе пухам яму зямля.

Агульнавядома, што найлепшым лекарам пры цяжкіх стратах зьяўляецца час, але ўсё-ж ня ў такой ступені, як людзі сьцьвярджаюць. Аднак затое найгоршым лекарам тут ёсьць алькаголь, ствараючы неадпаведныя рэчаіснасьці ілюзіі. Таму, прабачце за асабістае, толькі за памінальным сталом выпіў 2—3 кілішкі гарэлкі, а праваджаў маці[309] ў апошні шлях абсалютна цьвярозым, каб не зьняважыць ейную памяць непатрэбнымі словамі ці паводзінамі.

Цалкам разумею, як Вам цяжка дасталася ў тыя 5 тыдняў, пра якія Вы згадваеце. У мяне падобны пэрыяд налічваў бяз малага 2 гады, і, напрыклад, паводля вобразнага выразу аднаго доктара, я яшчэ пазалетась адабраў сваю матку ў сьмерці, але... Апошнім часам суродзічы

[308] Маецца на ўвазе сын Кастуся Акулы.

[309] Маці Юркі Віцьбіча **Еўдакія Стукаліч** памерла ў 1971 г.

пыталіся ў мяне нашай пашыранай прымаўкай: *“Ці ты сам хварэў, ці каля хворага сядзеў?”*. Аднак не аба мне тут гаворка. Па-першае, мая маці памерла ў глыбокай старасьці, а Ваш сын яшчэ распачынаў жыцьцё, а па-другое, зьлітаваўся Госпад Бог над маёй дарагой Маці, дараваўшы ёй вечны супачын, і тым скончыліся ейныя працяглыя цяжкія перадсьмяротныя мукі.

Вы ласкава пытаецеся — як трымаецеся? Наўсуперак розным нядужасьцям, яшчэ, дзякуй Богу, працую — параўнальна шмат пішу ды друкуюся. Аднак гэтае цяпер патрабуе большых намогаў, чым, напрыклад, дзесяць год таму, а тым балей у маладосьці, калі адно апавяданьне для “Ўзвышша” напісаў у Маскве ў трамвае на калене. Надзвычай добра гэты цяперашні стан адбіты ў цікавым вершы майго старога знаёмага, тамтэйшага паэты Хаіма Мальцінскага[310]:

*Часамі агортвае*
*Смутак лагодны,*
*Згадаю маленства і Віцебск мой родны —*
*І зернем нальецца ізноў адмыслова*
*Калосьсе майго палінялага слова,*
*Што траціць вагу залатога запасу*
*Пад цэпам штодзённым*
*Няўмольнага часу.*

Нават першыя тры радкі адусюль узяў эпіграфам да свайго нарысу “Разьвітаньне з Успенскай горкай”[311], які два тыдні таму даслаў для сакавіковага “Беларуса”.

На чарзе нарыс для Н[овага] Р[ускага] Слова “Смерть Булак-Балаховича”, якім і заканчваю мой цыкль, прысьвечаны гэтаму старому жаўнеру, да якога вычуваю вялікую павагу. Прынамсі і сам усё жыцьцё чуўся балахоўцам, і ня толькі па складу сваёй натуры, а нават зусім нявыпадкова 14-гадовы ўцякаў да яго з майго роднага Вяліжу. Мушу таксама (усьлед за творамі пра беларускасьць Дастаеўскага) напісаць пра беларускае паходжаньне Грыбаедава[312], як і сучаснага турыстага Яўтушэнкі[313]. Праўда, у апошнім выпадку выкажу свой жаль, што ня мы — беларусы, а ўкраінцы далі яму належнага чосу ў часе ягоных

[310] **Хаім Мальцінскі** (1910—1986), беларуска-габрэйскі паэт, празаік, драматург.

[311] Маецца на ўвазе тэкст: Віцьбіч, Юрка. Разьвітваючыся з Усьпенскай горкай // Беларус. № 179. Сакавік 1972. С. 2—3.

[312] **Аляксандар Грыбаедаў** (рус. *Александр Грибоедов*, 1785—1829), расейскі пісьменьнік, дыплямат.

[313] **Яўген Яўтушэнка** (рус. *Евгений Евтушенко*, 1932—2017), расейскі паэт.

тутэйшых гастроляў. Запраўды, ня можа-ж наш дарагі Кастусь Акула ўсюды пасьпець. Той бы даў рады з гэтым савецкім агэнтам.

Шчыра зычу Вам усяго найлепшага ад мяне й маёй.

Найсардэчныя пажаданьні ўсёй Вашай сям'і.

Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.

З пашанай да Вас, Ваш Юрка Віцьбіч.

ПС. Расчуліла да сьлёз сумесная прывітальная тэлеграма Натальлі Арсеньневай ад двох мюнхэнскіх галубкоў — Сяднёва й Казака[314]. Вось толькі ня разумею якога паходжаньня іхні ласкавы зварот да юбіляркі на "Ты" — ці то ад Слова Божага, ці проста ад амікашонства.

Яшчэ раз усяго добрага. Юр[ка] Віцьбіч.

ППС. Нешта ніхто тут ня атрымлівае "Беларускага Голасу" Сяргея Хмары. А можа гэтае выданьне ўжо ня існуе?

Юр[ка] В[іцьбіч]

4-га ліпеня 1972 г.

Дарагі Сп-р Віцьбіч,

Тымчасам мінуў ужо месяц, як я атрымаў Ваш ліст, за каторы дужа дзякую. Пісаў я апошні раз да Вас даслоўна на калене на працы й галоўна з просьбай, каб былі ласкавы перасьлаць урывак з раману сп-ру Даніловічу[315]. Тымчасам ад яго нічога не атрымаў, хоць прасіў і яшчэ раней і будучы ў Вас па тэлефоне і асабіста, каб быў ласкавы перасьлаць мне некаторыя папярэднія нумары "Беларускай Думкі". Мо ягоны гадзіньнік вальней валачэцца за мой, а мо моцна заняты. Ваша сугэстыя, каб перасьлаць урывак з "Закрываўленага сонца" ў "Беларус" добрая й пры нагодзе трэба будзе зрабіць гэта. Тымчасам памалу зноў бяруся плесьці даканчэньне гэнае кнігі.

Гэтта на перашкодзе таго "пляценьня" станулі важныя падзеі мясцовага і агульна-беларускага характару, дык прыходзіцца зноў шукаць парваныя ніткі клубку сюжэту. Сяньня быў у маім улюбёным парку Эдвард Гардэнс пад тым магутным дубам, дзе на лавачцы, калі засяду, дый навокал тае лавачкі адбываецца немалая актыўнасьць. Мой знаёмы чыпманк[316], маленькі надта бадзёры суродзіч вавёркі, дамагаецца ад мяне арэшкаў. Звычайна бяру з сабой мяшочак "пінатсаў"[317]. Пакуль ён яго перацягне ў сваю норку, я тымчасам "падпляту" далей падарожжа Янука Бахмача, Дуні Макатунішкі, Косьціка Сабакевіча і іншых. Сяньня-ж мой чыпманк хапаў арэшкі навыперадкі з чорнымі птушкамі

[314] Маецца на ўвазе Рыгор Крушына, які ў той час яшчэ працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода" ў Мюнхене.

[315] Маецца на ўвазе Антон Даніловіч (Янка Золак).

[316] ***Chipmunk*** — бурундук.

[317] ***Peanut*** — арахіс.

(мясцовая назва “бляк бэрд”[318]), каторыя якраз цяперака ня могуць напоўніць шыракаразінутыя дзюбы свайго вывадку. Пацеха вялікая.

Але вернемся да вышэйпамянутых падзеяў. Аж да апошняга сьвятога дня Нядзелі на працягу васьмі дзён адбываўся ў Тароньце так званы Караван[319], г. зн. выстаўка этнічных групаў. Было сёлета 44 павільёнаў. Палякі мелі аж тры: Кракаў, Варшаву й Гдыню; украінцы два: Кіеў і Адэсу, бальшыня іншых па адным. Беларусы наладзілі свой Менск. Як і летась, гаспадарыла наша моладзь, а продаж кніг, кружэлак, іншых цацак дык музыку дала “Пагоня”. Гэтак восем вечароў па шэсьць гадзін кажны давялося мне прадзяжурыць тамака за кніжным сталом, тлумачыць, выясьняць, што такое “Беларуша”. Безьліч цікавых і менш цікавых пытаньняў. Агульна трэба сказаць, што прарабілі мы выдатную працу. Колькасьць наведвальнікаў кажнага вечару даходзіла да 700, часам больш, часам менш. Была й наша беларуская кухня, былі й маладыя спрактыкаваныя танцоры, каторых заўсёды добра ўзнагароджвалі воплескамі гледачы.

Тыдзень таму назад памёр ад атакі сэрца наш выдатны сябра й працаўнік Мячыслаў Рачыцкі[320] ў веку 50 гадоў. Ягоная нялюдзкая радня ў асобах маральнага басяка Гэнрыка Барановіча[321], Адама Таранды й Рачыцкага жонкі, Барановічавай сястры, пахавалі гэтага чалавека на магілках для бедных. Хавалі за гарадзкі кошт, хоць стала-б ім злажыцца дый папрасіць іншых, каб магілу купіць. Палажылі яго ў яміне, дзе кладуць трох. Сорам і агіда. Навет помніка няма як паставіць. Наш сам прэзыдэнт Грышка і ягоная прэзыдэньціха Раіса навет ня прыехалі на паховіны, хоць вечарам перад паховінамі былі мной павядомленыя й гулялі на “Караване”. Цяперака многа людзей страшна абураныя перадусім на басяка Барановіча, Таранду, Рачыцкую (ейная віна гэтта невялікая) дый пасьля на прэзыдэнта Грышку[322] і іншых, што ня прыйшлі гэтага выдатнага чалавека ўшанаваць. Сп-р Грыцук навет праектаваў, каб зарганізавацца й перанесьці астанкі Рачыцкага ў іншую асобную магілу. Бязумоўна, гэттага не ўдалося-б зрабіць, бо гэна нялюдзкая радня не дала-б дазволу. Вось як.

---

[318] ***Blackbird*** (анг.) — чорны дрозд.

[319] **“Караван”** (анг. *Caravan*) — шматнацыянальны фэстываль, які праводзіўся ў Таронта (Канада) у межах палітыкі шматкультуралізму і ў якім беларусы ў 1970-я гг. бралі вельмі актыўны ўдзел.

[320] **Мечыслаў Рачыцкі** (1922—1972) грамадзкі дзеяч, дзеяч СБМ. Ад 1949 г. жыў у Канадзе. Быў сакратаром Выдавецкага фонду Згуртаваньня беларусаў Канады.

[321] **Генрык Барановіч** (1916—2002), грамадзкі дзеяч, дзеяч СБМ. Ад 1948 г. жыў у Канадзе. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, радным БНР.

[322] Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч, які ў той час быў Прэзыдэнтам Рады БНР.

Пра Сьв[етлай] пам[яці] М[ечыслава] Рачыцкага напісаў я на чатыры машынапісныя бачыны нэкралёг-нарыс і як дастану ад жонкі здымку, перашлю ў "Беларус"[323]. Няхай хоць гэткім чынам ушануецца ягоная памяць.



Кастусь Акула. 1990-я гг.
*Здымак Л. Юрэвіча*

Ня ведаю, ці выпадае спачуваць яму, ці вітаць Рыгора Крушыну з выхадам новага твору ці твораў пад аднэй вокладкай[324]. Ён-жа — сябра "Пагоні", дык пэўне скора пачне расьпіхаць Антон Маркевіч "Вясну ўвосені". Дарэчы, ранейшыя творы[325] ягоныя бязь ніякага спросу ўжо ляжаць лежма гадамі. Гэтыя мае заўвагі, хоць так мо гучаць, ня трэба разумець што Крушынавы творы ня маюць ніякае вартасьці. Хачу адно сказаць, што ніякая бадай паэзія дый наагул амаль мастацкая літаратура ня мае цяперака на эміграцыі ходу. Старыя адыходзяць, рынак малее, маладыя-ж чытаць ня ўмеюць.

Якая гэта мазольная праца наўчыць каго беларускае мовы. Мой Юрка — хлопец не апошніх здольнасьцяў. Працую ўжо над ім інтэнсыўна (амаль кажны дзень) з перапынкамі гады тры. Ён сам мяне падганяе й кажны вечар, навет улетку, сядзіць са мной паўгадзіны або болей над кніжкамі й сшыткамі. Але да звычайнага разуменьня беларускае лірыкі ці мастацкага апавяданьня яму яшчэ кавалак дарогі.

Мне прыемна, што Вы задаволеныя з атрыманьня двух тамоў БелСЭ[326] і надта прыкра чуць, што так не пашанцавала сп-ру Ханяўку[327].

---

[323] Нэкралёг быў апублікаваны: Акула, К. Мячыслаў Рачыцкі // Беларус. № 183. Ліпень 1972. С. 5.

[324] Маецца на ўвазе выданьне: Крушына, Рыгор. Вясна ўвосень. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1972. 124 с.

[325] Магчыма, маюцца на ўвазе зборнікі Рыгора Крушыны "Выбраныя творы" (1957), "Хвіліна роздуму" (1968).

[326] **БелСЭ** — Беларуская савецкая энцыкляпэдыя.

[327] Маецца на ўвазе **Часлаў Ханяўка** (1909—1988), грамадзкі дзеяч. Ад 1950-х гг. жыў у Саўт-Рывэры ЗША). Сябра БАЗА, адзін з заснавальнікаў і сябра ўправы Нью-Джэрзійскага аддзелу арганізацыі.

Запраўды, крыху чуюся вінаватым, бо як-ніяк я-ж яму гэну бэсэсэраўскую кнігу прадаў. Няхай будзе ласкавы даравацъ мне. Запраўды, пісаць у Менск ці што? Самі ведаеце, якія магчымасьці посьпехаў. Тымчасам прашу перадаць яму маё шкадаваньне, што так сталася, і ласкава прывітаць яго.

Сёлета на "лібярдзей" будзе зьезд Беларусаў ЗШ і Канады ў Тароньце[328]. Яшчэ напэўна ня ведаю, але здаецца, што й група — як яе цяпер называць? Лапіцкага? — таксама будзе зьбягацца пад бокам. Гэты зьезд наш будзе юбілейным, бо першы адбыўся ў Ніягара Фолс у 1952-м годзе й выдатным госьцем быў тады пакойны Чарапук-Змагар[329]. Сёлетні Зьезд будзе прысьвечаны 90-годзьдзю народзінаў Купалы й Коласа, даклад будзе мець сп-р д-р Ст[аніслаў] Станкевіч, а іншы, карацейшы, здаецца, сп-р праф. А[нтон] Адамовіч.

Тымчасам дазвольце пажадаць Вам добрага здароўя й далейшай плённай працы, а Вашай паважанай Спадарыні прывітаньне.

З пашанаю Ваш К[астусь] Акула.

3.2.73 г.

Дарагі Спадар Віцьбіч,

Апошні ліст пісалі Вы да мяне яшчэ адзінаццатага сьнежня летась, а я, на вялікі жаль, не сабраўся адказаць. Зразумела, як самі добра пры канцы сваіх лістоў раіце: *"пішыце пры наяве часу і ахвоты"*, гэтак і намагаюся рабіць. Апошнімі часамі ахвоты не бракавала, а часу ўвабрэз, хоць ты трэсьні. Перапісваў начыста ўсю кнігу "Закрываўленае сонца". Сяньня скончыў. Выйшла 465 бачын. Як бачыце, маса працы. Цяпер можна ў друкарню.

Вось колькі словаў пра друкарню. Д-р В[ітаўт] Тумаш даўно наведваўся да мясцовых украінскіх Базыльянаў і прасіў мяне праведаваць, калі яны змогуць узяцца за друк паэзіі сп-ні Арсеньневай[330]. Тыдзень назад сказалі мне, што яшчэ месяцы тры будуць заняты. Значыцца, як бачыце, час уцякае. Мне ня вельмі сьпяшылася-б у друкарню са сваім

---

[328] Маецца на ўвазе 10-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая адбывалася ў Таронта 2—4 верасьня 1972 г.

[329] **Янка Чарапук** (на эмігр. **Змагар**, 1896—1957), палітычны дзеяч. У 1918 г. супрацоўнік Міністэрства замежных спраў Украінскай Народнай Рэспублікі, чалец Беларускай рады ва Ўкраіне. Ад канца 1918 г. — на Гарадзеншчыне, быў сакратаром Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны й Гарадзеншчыны. Ад канца 1919 г. жыў у Рызе, працаваў сакратаром Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі, сябра Народнай Рады БНР. У 1922 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Адзін з ініцыятараў стварэньня Беларускага народнага камітэту ў штаце Ілінойс, Беларуска-амэрыканскага нацыянальнага клюбу.

[330] Маецца на ўвазе выдадзены значна пазьней збор: Арсеньнева, Натальля. Між берагамі: Выбар паэзіі. Нью Ёрк — Таронта, 1979. — XXXIX+350 с.

творам, калі-б ня думаў больш пісаць. Маю ў пляне яшчэ прынамся дзьве кнігі: трэцюю "Гараваткі" і яшчэ адну аповесьць на ангельскай мове. Усё сабе абяцаю, што гэта будзе тая вялікая, найважнейшая й найлепшая праца, да каторай пісьменьнік доўга падыходзіць і разважае. Але на гэта Божая воля.

Тымчасам я наважыў унезалежыцца ад друкарняў і купляю наборную машынку "Вэрытайпэр"[331], падобную як купіў калісь сп. Юрка Станкевіч[332] з Калошам[333] і з братам сваім Вячкам[334]. Яна цяпер, здаецца, у Вячкі. Гэткая перабудаваная машына з гваранцыяй, як на новую, каштавіцьме звыш 3 тыс[ячаў] 500 дал[яраў] бяру на выплату і прыватна, не для "Пагоні". Ужо чакаю на яе два месяцы, і калі дзесь у сакавіку атрымаю яе, адразу вазьмуся рабіць набор скончанай кнігі "Гараваткі". Бязумоўна, гэта забярэ шмат часу, каторы мог-бы скарыстаць на творчую працу, але які-ж выхад? Аддай матар'ял нашым саўтрыверскім друкаром, дык гадоў пяць будуць трымаць. Аддай мясцовым украінцам, таксама ласкі прасі. Яны робяць надзвычайна вялікую колькасьць памылак, і паўстаюць розныя няпрыемнасьці. Пляную, што пры дапамозе свайго "Вэрытайпара" змагу зарабіць сабе на пражыцьцё тады, калі пакіну цяперашнюю працу. З друкарствам я добра знаёмы, тры гады хадзіў у мясцовую вячэрнюю школу.

Учора ў хаце сп-ра Маркевіча зрабілі нам візыту два дзядзькі з Аттавы. Яны ёсьцьураднікамі Публічнага Архіву Канады. Адно добрае, што наш Фабіян Трудо зрабіў, дык гэта тое, што пабольшыў сродкаў на разьвіцьцё й падтрымку этнічных культураў у Канадзе. Гэткім чы-

---

331 Маецца на ўвазе папулярная ў той час друкарская машына *"Varityper"*.

332 **Юры Станкевіч** (1928—2014), грамадзкі дзеяч, сын Янкі й Марыі Станкевічаў. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Быў актывістам шэрагу беларускіх моладзевых арганізацый, сябрам рэдкалегіі часопісу "Беларуская моладзь". Быў сябрам Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня. Аўтар падручніка "Кароткі агляд гісторыі Беларусі" (вытрымаў некалькі перавыданняў), выдавец беларускіх кніг і пэрыёдыкаў, у тым ліку часопісу *"Belarusian Review"*. Ад 1999 г. жыў у Празе (Чэхія).

333 **Кастусь Калоша** (1924—2004), грамадзкі дзеяч. Ад 1950 г. жыў у ЗША. Сябра БАЗА і царкоўнай рады парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Кліўлэндзе. Адзін з заснавальнікаў і стваральнікаў Беларуска-амэрыканскага грамадзкага цэнтру "Полацак". Заснавальнік выдавецкай суполкі "Пагоня".

334 **Вячка Станкевіч** (нар. 1932), грамадзкі дзеяч, сын Янкі й Марыі Станкевічаў, брат Юркі Станкевіча. У 1949 г. прыехаў у ЗША. Быў актыўным сябрам Задзіночання беларуска-амэрыканскай моладзі, старшынём яго Нью-Ёрскага аддзелу. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва арганізацыі й яе Нью-Ёрскага аддзелу, у рэдкалегію газэты "Беларус". У 1988—1998 гг. кіраўнік беларускай службы Радыё "Свабода" ў Празе. Пасьля вярнуўся ў ЗША. Выдавец часопісу *"Belarusian Review"*. У 2009—2019 гг. старшыня Беларускай фундацыі Крачэўскага.

нам, галоўна дзякуючы сп-ру Маркевічу й мне ў Нацыянальным Музэі ў Аттаве існуе ўжо не такі бедны беларускі аддзел. Прадалі мы ім шмат рэчаў, з розных галінаў беларускага мастацтва. Візытары ўчарашнія прасілі нас, каб розныя дакуманты, якія сьветчаць пра жыцьцё беларускай групы ў Канадзе, пра нашу культуру, грамадзкую й рэлігійную дзейнасьць, мы зьбіралі й перадавалі ім на захаваньне. Мне сулілі, што калі аддам ім свае багацтвы так званыя, заложуць маю пэрсанальную тэку. Над гэтым вось і думаю. Бог ведае, колькі чалавеку наканавана жыць, а як адыйдзе, дык могуць няведама дзе твае здабыткі апынуцца. Ці перадаваць іх у музэй-бібліятэку Францішка Скарыны ў Лёндан, ці ў Аттаву? Здаецца, што падзялю. Назьбіралася вялікая маса прыватных папераў, захаваліся некаторыя машынапісы твораў з папраўкамі. Магчыма, гэта некалі й для некага будзе мець нейкую вартасьць. Дазвольце пры нагодзе спытаць, якія маеце пляны адносна Вашага прыватнага архіву? Калі не жадаеце на гэтае пытаньне адказваць, бязумоўна, не пакрыўджуся.

Апошнімі часамі чытаў многа Вашых твораў: і ў царкоўным часопісе, і ў "Беларускай Думцы". Усе яны прынесьлі мне шмат цікавага, і цешуся, што плённа працуеце. Як цяпер Ваша здароўе і як трымаецца Ваша паважаная Спадарыня?

Вы пэўне спасьцераглі ў апошнім (студзеньскім) нумары "Беларуса" Запруднікаву зацемку, што я навязаў быў сувязь з сп-ом Гэрманам Воўкам[335]. Гэта адзін з найважнейшых амэрыканскіх пісьменьнікаў, па паходжаньні жыд. Цяпер вучыць у Вашынгтонскім унівэрсытэце й працуе над другой кнігай "Вятроў вайны"[336]. Першую кнігу, цэлых звыш 800 бачын, я прачытаў ня толькі таму, што ён добры пісьменьнік, але й таму, каб пабачыць, як у яго выступае ў творы Беларусь і Беларусы. Паверце, я быў вельмі расчараваны. Чыстая маскоўская вэрсыя. У вадказ на мае спасьцярогі сп-р Воўк напісаў мне, што *"Саветы зрабілі надзвычайную працу па выкараненьні сьведамасьці пра Беларусь на міжнароднай плошчы"*. Ён езьдзіў у Менск у 1966-м годзе. Бацька ягоны калісь меў там пральню. Мне думалася, што я зрабіў важны кантакт. Чалавек папрасіў мяне даслаць матар'ялы пра Беларусь. Параіў яму што знайсьці ў Кангрэсовай бібліятэцы. Шкада, што сп. Запруднік абмежаваўся кароткай зацемкай. Трэба было абрэзаць тую *"крыклівую Барбару"*, што і ў гэтай газэце распаўзлася на вялікія прасторы, а пра Ваўка напісаць шырэй. Няхай-бы розныя прошкы й стукі[337] бачылі,

[335] **Герман Воўк** (анг. *Herman Wouk,* 1915—2019), амэрыканскі пісьменьнік, уладальнік Пулітцэраўскай прэміі. Бацька ягоны паходзіў зь Беларусі.

[336] ***"The Winds of War"*** — другі твор Германа Воўка, прысьвечаны Другой сусьветнай вайне, які пабачыў сьвет у 1971 г.

[337] Маецца на ўвазе **Анатоль Стук**, галоўны рэдактар радыястанцыі "Савецкая Беларусь", аўтар кнігі "Прафесія іх — здрада" (Мінск, 1969), скіраванай

што ня ўсе з нас тут за межамі сьпяць ды не разразаюць маскоўска-гардыянскіх вузлоў.

27-га сьнежня ашаўскія беларусы ладзілі вечарыну Самапомачы сваей. Было 140 чалавек, з гэтага мо палову Беларусаў. Вечар прайшоў добра. Патанцавалі, пад'елі, многа гарэлкі выпілі. Да гэнага часу таўханула мяне, насьледуючы К[андрату] Крапіву[338], сплесьці зваротак шаснаццаць "зычлівага слова". Пачынаецца так:

*Нешта сяньня у Ашаве*
*Сьвятло весела гарыць,*
*А народу поўна "галя",*
*Так, як дзьверы зачыніць.*
*Госьці зблізку і здалёка*
*Сабраліся сьвяткаваць*
*Сабепомачы угодкі,*
*Ёсьць нагода, так сказаць.*

Прасіў Антона перасланы сп-ру Ст[асю] Станкевічу ў газэту. Гэты гумарыстычны верш чытаў некаторым у Ашаве. Рагаталі й былі задаволеныя. Трэба сваіх падтрымліваць хоць і такім чынам, навет перахваліць часам.

Сяньня сыбота. Мушу ехаць да Антона на чарговую зборку. "Пагоня" ня мае яшчэ пляну працы на гэты год. Тымчасам пажадаю Вам і Вашай добрага здароўя.

Цісну руку, К[астусь] Акула.

## III. Радыё "Свабода": спроба аўдыцыі

28.1.64 г.

### *Рэлігійнае жыцьцё Беларусаў Канады і айцец Мацукевіч*

Позным вечарам 28-га студзеня сёлета а. Міхаіл Мацукевіч[339] вярнуўся ў Таронта зь вялікай дарогі. Разам ізь Міколам Ганьком,

супраць Радыё "Свабода".

[338] **Кандрат Крапіва** (1896—1991), празаік, паэт, драматург, перакладчык, літаратуразнавец, грамадзкі дзеяч, народны пісьменьнік БССР. У 1956—1982 гг. быў віцэ-прэзыдэнтам Акадэміі навук БССР.

[339] **Міхась Мацукевіч** (царк. **Мікалай**, 1917—2002), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар, ярарх БАПЦ. Ад 1951 г. жыў у Таронта (Канада). 2 траўня 1952 г. рукапакладзены на дыякана, а 6 траўня — ярэя. 4 кастрычніка 1954 г. адслужыў у царкве Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта першую літургію. Быў настаяцелем гэтага прыходу, наведваў беларускія асяродкі ў Канадзе: у Садбуры, Манрэалі, Лёндане, Кітчэнэры, Гвэлфе, Бэры, Атаве, Алістане ды інш. Паспрыяў заснаваньню парафіі БАПЦ Сьвятога Духу ў Дэтройце

кіраўніком хору праваслаўнай парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце ён езьдзіў у горад Садбуры, дзе жыве й працуе звыш дваццаці сям'яў шахцёраў-Беларусаў. Гэта быў сэзон Вадохрышча, і а. Міхаіл із сьвятой вадой і малітвай хадзіў асьвянчаў шахцёрскія беларускія хаты. Вернікі былі надзвычайна ўдзячныя свайму пастыру а. Міхаілу і не паскупіліся з ахвярамі на дапамогу Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай парафіі ў Тароньце.

Ад Таронта да Садбуры адлегласьць звыш дзьвесьце пяцьдзесят міляў, г. зн. каля чатырыста кілямэтраў. Навет аўтамабілем падарожжа па завеяных сьнегам дарогах нялёгкая. Гэтае-ж падарожжа а. Міхаіла характарызуе ня толькі яго самога як адданага і ахвярнага для Бога й Беларускага народу чалавека, але й праблемы духовай апекі над Беларусамі ў Канадзе.

Айцец Мацукевіч ёсьць запраўдным слугой Божым з пакліканьня. За сваю душпастырскую працу ён ня толькі не бярэ заплаты ад парахвіянаў на сваё ўтрыманьне, але яшчэ сам дакладаецца фінансава для разбудовы Сьвятой Беларускай Праваслаўнай Царквы. Як і кажны іншы рабочы, буднямі працуе ён у мясцовай гандлёвай фірме, а ўсю душпастырскую службу выконвае на канцоўках тыдня, вечарамі ды калі прыпадаюць сярод тыдня якія рэлігійныя сьвяты.

Сёлета вясной айцец Міхаіл будзе адзначаць у сваім жыцьці вялікі дзень: мінае дзесяць год з часу, калі скончыў ён духоўную сэмінарыю, і пасьвяцілі яго ў сьвятары. Ён і цяпер ёсьць у стане манаха, а сям'я ягоная — гэта вялікая й шырока рассыпаная сям'я праваслаўных Беларусаў па ўсходня-цэнтральнай Канадзе, правінцыях Антарыя і Квібэк.

Да 1954 г. праваслаўныя Беларусы ў Тароньце й ваколіцах ды й такіх гарадах, як Садбуры, Лёндан, Гамільтон і Ашава або наведвалі чужыя сьвятыні, або й зусім былі бяз духовай апекі. Калі быў пасьвячаны а. Міхаіл Мацукевіч, ён зьявіўся сюды і ўзяўся за працу. Праблемаў было многа. Перш за ўсё трэба было мець месца для малітваў. Ужо існавала нацыянальная арганізацыя — Згуртаваньне Беларусаў Канады. Дзякуючы ейнай помачы былі сабраныя вернікі, і паўстала праваслаўная парахвія. Супольна з Згуртаваньнем новая парафія купіла вялікі, але звычайны дом, дзе два пакоі былі адведзеныя на царкву.

Парахвія расла, і пасьля пяці гадоў, ізноў-жа, супольна з Згуртаваньнем змагла купіць вялікі будынак, дзе знайшлося даволі месца для царквы й на грамадзкія патрэбы. Сяньня гэты будынак называецца Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтар, і там ёсьць сьвятыня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, дзе служыць а. Мацукевіч.

---

(ЗША). 10 сакавіка 1968 г. у Адэлаідзе (Паўднёвая Аўстралія) хіратанісаны галавой БАПЦ Сяргеем у япіскапа Турава-Пінскага й Таронцкага. Ад 1973 г. узначальваў Канадыйска-Эўрапейскую япархію БАПЦ. У 1983 г. быў абраны першаярархам БАПЦ.

Ізь нядаўніх мерапрыемстваў Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага трэба адзначыць наступныя: мінулыя Каляды па ўсіх хатах беларускіх вернікаў з радаснай навінай аб Нараджэньні Збавіцеля й каляднымі песьнямі езьдзілі калядоўшчыкі. Для дзетак была зарганізаваная ёлка із багатай праграмай. Для дзетак таксама рэгулярна працуе школка, дзе выкладаецца слова Божае. Вельмі актыўнай ёсьць Парафіяльная Ўправа ў зьбіраньні сродкаў на аплату даўгоў за будынак сьвятыні.

Але ўсё гэта пытаньні больш лякальнага характару, бо больш чымся палавіна вернікаў парафіі жыве далёка за межамі Таронта. І яны заўдзячваюць сваю рэлігійную апеку пераважна аднаму чалавеку, які зарабляе на сваё жыцьцё так, як і кажны іншы рабочы, айцу Міхаілу Мацукевічу. Калі трэба людзям дзіця пахрысьціць, каму паховіны зрабіць ці каго абвянчаць — няважна, як далёка гэта ад Таронта, айцец Мацукевіч кідае іншае й сьпяшыць туды.

Запраўды, шчасьлівыя ёсьць нашы праваслаўныя вернікі ў Канадзе, што Бог паслаў ім такога ахвярнага свайго слугу, які вось ужо 10 год ахвярна працуе для БАПЦ.

## *Беларускі селянін у Канадзе*

У ліку беларускай эміграцыі ў Канадзе ёсьць нямала сялян, якія й тут займаюцца апрацоўкай зямлі. Адзін такі селянін — Максім Казека — прыехаў сюды 18 гадоў назад і мае гаспадарку 50 кілямэтраў ад гораду Гамільтону, блізу невялікага мястэчка Сімко ў правінцыі Антэрыя.

Максім Казека — сын простага й сумленнага беларускага селяніна. Калі вайна закінула яго ў Канаду, меў у кішэні 70 даляраў, умову з урадам працаваць на фармах два гады за 45 даляраў у месяц і добрую ахвоту пачаць жыцьцё нанова. Трэба было пазнаць мову, мясцовых людзей, умовы працы. Максім Казека добра справіўся з гэтымі цяжкасьцямі, і ўжо на другі год гаспадар згадзіўся плаціць яму па 75 даляраў з утрыманьнем на месяц. Заашчадзіўшы 1000 даляраў і скончыўшы ўмову з урадам аб працы на фарме, Максім пачаў разглядацца, каб пачаць гаспадарку на сваю руку.

Перш за ўсё новапрыежджы Беларус пастанавіў, што ягонае месца пры сельскай гаспадарцы. Але-ж каб мець гаспадарку, дык трэба і сваю сям'ю. На вялікае шчасьце, непадалёк нагледзіў дзеўку, тутака роджаную Беларуску, і, не адкладаючы, паслаў сватоў. Ажаніўшыся, жонка далажыла свае 1000 даляраў, і Максім узяў на выплату малую агародную фарму за 13000 даляраў.

Фарма мае 40 акраў (прыблізна 18 гэктараў) добрай гароднай зямлі, дом на чатыры пакоі са склепам унізе, ваннай, лядоўкай, усім кухонным, спальным і іншым умэбляваньнем, тэлефонам і электрычнасьцю; гумно канадыйскага мадэлю зь літага цэмэнту — унізе хлеў на статак, а наверсе на склад сена й збожжа. У ліку гаспадарскіх будынкаў ёсьць

адрына, вялікі гараж на аўта і асобны будынак на сельскагаспадарчыя машыны, на двары — калодзезь з помпай. З сельскагаспадарчых машынаў новы беларускі фармар атрымаў у добрым стане трактар, плуг з двумя нарогамі, дыск, культыватар, пружыноўкі, бароны, грабілку, каток, гнаярку, дзьве сеялкі на ўсякае насеньне й мінэральнае ўгнаеньне, касілку, жняярку-самавязалку, машыну для ладаваньня сена, воз на гумовых калёсах, аднатокавую й меншай вагі, ды ўвесь дробны прынарад, прыгодны ў гаспадарцы. З жывёлы была адна карова, чатырох сьвіней і 35 курэй.

Максім Казека, умела выкарыстоўваючы час і свае сілы, пачаў гаспадарыць. Дакупіў трох кароў, загадаваў больш дзьвюх сотняў курэй. Але аснаўны націск палажыў ён на гадоўлю ягад — клубніку і гуркоў, на якія ў ваколіцы знайшоўся вельмі добры збыт. За дзесяць гадоў працы й ашчаднасьці Максім выплаціў поўнасьцю 11 тысяч даляраў даўгоў за фарму, а яшчэ за пару гадоў збыў старое легкавое аўта й купіў новае ды падношаны грузавік.

Акрамя вышэйпамянутых культураў на фарме сваёй Максім садзіць памідоры, бульбу, гарох, капусту, моркву ды іншую гародніну, ня лічачы сена, што патрэбнае для гадоўлі жывёлы, ды аўса на корм. Малако ад кароў здае ў малачарню, зарабляе на яйках ад курэй.

Так вось у гэтай новай і для яго няведамай краіне руплівы й працавіты малады беларускі селянін збудаваў сабе добрую будучыню, знайшоў хлеб і працу ды амаль неабмежаваную вольнасьць, якой не стае нашым суродзічам удома. Максім цэніць гэта, бо ведае, што тут створаныя добрыя ўмовы для працавітых і ашчадных людзей, над якімі ў полі не стаіць цівун чужога й ненавіснага ладу; тут вольны чалавек працуе для сябе, сваёй сям'і й росту краіны.

Максім Казека ёсьць адным са шматлікіх беларусаў, што знайшлі ў Канадзе дабрабыт пры апрацоўцы зямлі. Ён — малы фармар. Ёсьць шмат за яго большыя й багацейшыя, што таксама дарабіліся ўсяго сваім мазалём. Але Максім ёсьць тыповым беларусам і з тэй прычыны, што ён належыць і да беларускай грамадзкай арганізацыі Згуртаваньня Беларусаў Канады і да беларускай парафіі ў Тароньце.

Летам на яго фарме беларуская арганізацыя й царква супольна ладзяць гэтак званыя пікнікі, г. зн. маёўкі. Тады добры, працавіты й сумленны Максім Казека шырака адчыняе вароты сваёй гаспадаркі прыезджым гасьцям, старым беларускім звычаем частуе іх сьвежым малаком, гуркамі, сьвежай гароднінай. На двары адбываюцца пасьля гульні, гудзяць песьні. У нядзелю падчас палявой багаслужбы Максім разам з гасьцямі дзякуе Богу за тое, што памог яму ў чужой краіне знайсьці дабрабыт і вольнасьць.

10.3.64

## *Беларускі работнік у Канадзе*

На паўночна-заходнім беразе возера Антарыя ляжаць тры канадыйскія гарады: Гамільтон, Таронта і Ашава. Раськінутыя на адлегласьці якіх 120 кілямэтраў яны із сваймі прыгарадамі твораць індустрыяльны камплекс, вядомы, як Залатая Дуга. Тут сканцэнтравана найбольшая часьць цяжкой і лёгкай індустрыі Канады, ад зялезнай да аўтамабільнай, ад харчовай да нафтаапрацоўчай.

У горадзе Ашава аўтамабільная хвабрыка Джэнэрал Моторс штодзённа дае працу звыш 12000 работнікам. У іх ліку многа Беларусаў.

Антон Міхневіч працуе тут ужо шэсьць гадоў. Сам паходзіць з Лагойшчыны. Сын калгасьніка, падчас вайны вывезены быў на прымусовую працу ў Нямеччыну. Калі-ж бальшавікі намагаліся рэпатрыяваць яго насільна, разам зь іншымі, ён разрэзаў сабе жылеткай[340] шыю, каб дастацца ў шпіталь, адкуль Антону ўдалося ўцячы й пазьней ужо выехаць у вольны сьвет, у Канаду.

Спачатку цяжка было. Давялося працаваць пры высечцы лесу, у шахтах, на сельскай гаспадарцы. Антона цягнула ў горад. І вось уладзіўся ён як чорнарабочы на канвэер у Джэнэрал Моторс. Тэмпа на канвееры трымаюць добрае, папрацаваць трэба. Але хутка Антон прывык, лёгка раду даваў. Цяперака ён ужо пры працы налаўчыўся й здабыў тры ці чатыры прафэсыі, уключна з электразварваньнем і маляваньнем. Таму й працаваць палягчэла, а таксама пабольшала грошы.

За васьмігадзінны дзень працы Антон Міхневіч зарабляе дваццаць даляраў, а за пяць дзён — значыцца, звычайны тыдзень — 100 даляраў. Калі працуе ў сыботу — а гэта бывае часта — дык плацяць паўтары разы больш, а ў нядзелю ці іншае сьвята — два разы больш. Цяпер аўтамабілі тутака вельмі ў ходзе, дык звычайны тыдзень у Антона Міхневіча — 60 гадзін, за якія ён прыносіць дамоў сто пяцьдзясят даляраў, калі ня болей.

Антон Міхневіч ня мусіць рабіць 60 гадзін, калі ня хоча. Усё вышэй сарака — гэта дабравольна. Аўтамабільны прафсаюз, да якога належыць і гэты Беларус — арганізацыя, што ў Амэрыцы мае звыш міліёну сяброў. Із імі лічацца такія індустрыяльныя гіганты, як Джэнэрал Моторс, Форд, Крайслер і меншыя. Дзякуючы вось гэтаму прафсаюзу й салідарнасьці вольных рабочых, маюць добрыя ўмовы працы. Антон Міхневіч не патрабуе бядаваць аб хваробах ці шпіталях ці лекарах. За ўсё гэта, калі трэба, плаціць кампанія. Таксама ёсьць і забесьпячэньне на жыцьцё. Калі-б Антон заўтра памёр, дык ягоная жонка атрымае 5 тысяч даляраў. Мала таго. Калі караткавата із працай, скажам, у тыдні

---

[340] Напэўна, ад слова *Gillette* — назвы кампаніі, якая вырабляе станок й лязо да яго для галеньня.

працуюць усяго два дні, дык за той страчаны час Антон і ягоныя сябры ўсёроўна атрымаюць 65% заработнай платы.

Адносіны кіруючага пэрсаналу ў хвабрыцы да рабочых — сяброўскія. Калі ёсьць якія праблемы — а гэткіх поўна кажны дзень — іх супольна вырашаюць кампанія із кіраўніцтвам прафсаюзаў. Усе людзі гэтыя вольныя. Яны маюць вялікую й магутную зброю, калі толькі яна спатрэбілася-б: права страйку. Гэтым і тлумачыцца, што ўмовы працы й дабрабыт работніка тут так павысіўся і што рэдка бываюць тут страйкі, бо яны і для кампаніі, і для работніка, і наагул для краіны, дзе вольны чалавек стараецца рабіць для свайго і агульнага дабра, вельмі *каштоўныя*.

Антон Міхневіч — чалавек сямейны. Мае жонку й двое дзетак, што цяпер ходзяць у пачатковую школу. Ён купіў за 14 тысяч даляраў хату ў горадзе і нядаўна скончыў сплачваць. У хаце той — 8 пакояў і 2 ванны. Палову зь іх Антон займае сам, а чатыры наймае іншым. Мае Антон таксама аўта, на якім кажны дзень езьдзіць на працу. Жонка ягоная не працуе, а даглядае дзетак. Праца ейная няцяжкая, бо ў хаце ёсьць і пральная машына, і швейная, не гаворачы аб лядоўцы, тэлевізары ці іншых машынах і мэблях, што ў гэтай краіне ў кожнай хаце.

Хоць апошнімі гадамі рэдка, але бывае Антон Міхневіч і беспрацоўным якіх пару тыдняў ці месяц, пакуль хвабрыка пераключыцца на прадукцыю новай мадэлі аўта. Тады атрымлівае штрахоўку і часьць ад кампаніі, так што ўсё роўна мае 65% звычайнага заробку. Так Антон Міхневіч і многа іншых дзякуюць Богу за тое, што знайшлі ў гэтай краіне вольнасьць, хлеб і добрае забясьпечаньне на старасьць пры варштаце вольнага ад дзяржаўнага кантролю прадпрыемства.

## ***Беларускіх шахцёр у Канадзе***

У цэнтральнай часьці правінцыі Антарыя ў Канадзе ляжыць горад Садбуры, што мае звыш сорак тысяч жыхароў. Садбуры ляжыць на скалях. Крыніцай утрыманьня людзей ёсьць шахты, у якіх дабываюць звыш 30 розных мэталяў, між іх такія рэдкія, як золата й плятына і асноўны мэталь — нікель.

У садбурскіх і вакольных шахтах працуе звыш 15 тысяч работнікаў. Адным зь іх ёсьць беларус Мікола Вашкевіч. Гадоў яму цяперака будзе звыш сорак, а стажу шахцёра мае за сабой гадоў пятнаццаць. Калі-б вам давялося сустрэць Вашкевіча ды паглядзелі-б вы на ягоныя блакітныя вочы, сьветлы твар, павольна-разважныя рухі, ласкавую ўсьмешку ды заўважылі абярэжнасьць са словам, сказалі-б вы, што гэтаму чалавеку скарэй месца дзесь на беларускай жытнёва-васільковай ніве, а не ў падзямельлі канадыйскай шахты. Няма й дзіва. Хоць мазолістыя рукі ягоныя ніколі ня бываюць *гуляшчымі* ў канадыйскай хаце, захаваў ён добрыя й здаровыя сялянскія навыкі, цяплыню сэрца

да людзей, спагадлівасьць да суродзічаў, што працуюць побач. Побач з тым у Міколы Вашкевіча, як вясною вада з-пад лёду, прабіваецца наўзьверх у гутарцы й наагул у выглядзе нейкая цьвёрдасьць, упэўненасьць, сьведамасьць таго, што ён ведае, як кажуць, колькі каштуе хунт ліха.

Нясоладка было імігранту Вашкевічу спачатку ў чужой краіне. Выгнаньне з роднай бацькаўшчыны — гэта мачыха, зь якой жыць нялёгка й пазбыцца нельга. Лёс прывёў яго ў малы антарыйскі горад, і Мікола ўзяўся за працу, якую ахвяравалі. За пару гадоў звыкся з новым лёсам і па-новаму пачаў глядзець на сьвет. Цяперака Мікола — жанаты чалавек, мае трое дзетак, собскі дом на шэсьць пакояў з усім абсталяваньнем. Такія рэчы, як лядоўня, пральная машына, электрычная печка, собская ванна і іншае — гэта ў Міколавай хаце, як і ў іншых работнікаў, ня люксус, а даступнае ўсім. Мае Мікола й добры аўтамабіль.

Працуе ён звычайна 40 гадзін на тыдзень, а плацяць яму на гадзіну блізу па тры даляры. Працуе адбойшчыкам, гружчыкам, ды можа выконваць і іншыя працы. Пры працы ён трымаецца асьцярожна, бо ведае цану бясьпекі пад зямлёй. Калі Вашкевіч жадае, можа працаваць і на канцы тыдня. Не баліць Міколу галава й за тое, што на выпадак хваробы трэба ў кішэню лезьці. Кампанія Інтарнэшэнал Нікель, для якой працуе, аплачвае страхоўку на здароўе й жыцьцё.

У Садбуры ёсьць невялікая грамада Беларусаў, чалавек больш паўсотні, што ў бальшыні працуюць побач Вашкевіча. Жывуць добра, бо ведаюць цану грашам і даюць ім добры ход. Гэтыя Беларусы — шахцёры маюць тут і нацыянальную арганізацыю — аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады, а таксама належаць да парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

Мінулыя два гады нашы садбурскія суродзічы, у ліку іншых шахцёраў, вялі войстрае змаганьне зь мясцовымі камуністамі, што мэтадамі хвальшу, абману й шантажу намагаліся ўзяць кіраўніцтва шахцёрскім прафсаюзам у свае рукі. Дзякуючы недагляду з боку шахцёраў, камуністы патрапілі схвальшаваць шмат галасоў пры выбарах, застрашыць некаторых кандыдатаў ды пасадзіць сваіх некаторых людзей на вярхушцы. Работнікі агледзіліся — дзякуй Богу — незапозна й паскардзіліся антарыйскаму ўраду. Справа зацягнулася. Умяшаўся ўрад, пытаньне пайшло ў суд і наапошку камуністы былі дарэшты выкрытыя. Адбыліся новыя выбары, і запраўдныя прадстаўнікі рабочых цяпер кіруюць прафсаюзам. Гэты выпадак паказаў, што, выкарыстоўваючы дэмакратычныя вольнасьці, камуністы хацелі дзеіць на шкоду работнікаў, ды ім не ўдалося. Іх у час выкрылі і выкурылі з пазыцыяў, што ўзялі зманам, бо ў дэмакратычнай краіне накш і быць ня можа: раней ці пазьней хвальш выяўляецца, а людзі, што чмуцяць народ, адсоўваюцца свабоднымі выбарамі ад улады.

Нельга сказаць, каб змаганьне з камуністамі было лёгкае. Яны ўжывалі ўсякія трыкі й спосабы, каб затуманіць рабочых, як паразіты, сесьці на іхныя плечы. Група садбурскіх Беларусаў із гонарам можа сказаць, што яны выканалі ў гэтым змаганьні свой абавязак.

Мікола Вашкевіч, як і іншыя, пазнаў калісьці бязбожны, антынародны камунізм. Ён працавіты й сумленны чалавек, цэніць вольнасьць і хоча, каб ягоныя дзеткі былі таксама вольнымі ў працы і адпачынку.

***Тэма нумару: “О, Канада!”***
*Архівалії й публікацыі*

***Сяргей Чыгрын***
*Слонім*

# ЛІСТЫ ВОЛЬГІ ГРЫЦУК

З Вольгай Грыцук мяне завочна пазнаёміла Раіса Жук-Грышкевіч (1919—2009) 12 гадоў таму. Дасьледуючы жыцьцё й дзейнасьць беларусаў Беласточчыны, я зьбіраў зьвесткі пра Аляксея (Алеся) Грыцука (1910—1976). Таму звярнуўся да спадарыні Жук-Грышкевіч, бо адрасу Вольгі Грыцук ня меў. Спадарыня Раіса напісала:

*«Паважаны спадар Сяргей! Сёньня атрымала Ваш ліст і адразу яго прачытала жонцы Алеся Грыцука — Вользе, якая жыве ў Кінгстане* (памерла 22 красавіка 2019 г. — С. Ч.). *Яна паведаміла, што “Бацькаўшчына” ў Мінску выдала ейную кнігу пра мужа Алеся Грыцука “Мы стваралі сваю Беларусь” (Мн., 2007). “Там, — кажа, — усё ёсьць”, а таксама фотаздымкі. Яна Вам напіша. Дасылаю Вам свой артыкул на 30-я ўгодкі сьмерці Алеся Грыцука. Болей Вам нічога не змагу прыслаць, бо я цяжка хворая. Застаюся з найлепшымі пажаданьнямі і пашанай — Раіса Жук-Грышкевіч. 18.06.2007»*.

Я напісаў ліст да спадарыні Вольгі. Яна мне хутка адказала. Так мы сталі ліставацца. А таксама вельмі часта тэлефанавалі адно аднаму: я — у Кінгстан, яна — у Слонім. А калі ў яе быў юбілей, 90-годзьдзе зь дня нараджэньня, я напісаў пра яе артыкул і апублікаваў у беларускім тыднёвіку “Ніва” (Беласток). Наагул, Вольга Грыцук была ўнікальным, шчырым, добрым, сьветлым чалавекам, любіла беларусаў і Беларусь.

А гэты верш мне даслаў выдатны наш паэт, дасьледнік беларускай культуры, краязнаўца Сяргей Панізьнік. Верш прысьвечаны слаўнай беларусцы Вользе Грыцук з Канады. Эпіграфам служаць радкі Вольгі Грыцук з дому Дуброўскіх: *“Мая радзіма — Дзісеншчына… І я не магу зразумець тых, хто лёгка забываецца на сваю зямлю, сваю мову, на ўсё, што робіць чалавека чалавекам”*. А верш гучыць так:

*Жыла ў Дзісне з Дуброўскімі, Ластоўскімі,*
*Тут чула Жаўняровіча псалмы…*
*Дасюль Дзісна ні крыгамі, ні войскамі*
*Не змецена: тут Адзігітрыя і мы.*
*Да Друі, да Лявонпаля, да Браслава*
*Схіляюцца чупрыны курганоў.*
*І сёння ёй, Васільеўне, прыўкраснага*

*Тут вельмі многа для паромаў-сноў.*
*Дарожкаўскую вуліцу з каштанамі,*
*Муры, капліцу помніла дзяўчо…*
*…Пранесліся нягоды — ураганамі*
*І пад спадзеў падстаўлена плячо.*
*Каханейка пякучае не стоміцца*
*Збіраць сляды дзяцінства ля Дзвіны…*
*Ёй здзейсніцца Дзісна! Вярба памоліцца,*
*Каб наша суайчынніца-патомніца*
*Прыйшла на фэст пад родныя званы.*

Фэсты спадарыні Вольгі адбываліся на яе 90-годзьдзе й 95-годзьдзе. Беларусы з многіх краінаў віншавалі яе са слаўнымі юбілеямі. А таксама дзякавалі за ўсё добрае, што яна зрабіла за сваё жыцьцё для беларускай культуры.

Лісты ад Вольгі Грыцук, якія я атрымліваў з Канады, пазнаваў адразу па прыгожым, роўненькім почырку. Адкрываў капэрту і чытаў: *«Пра Вашу кніжку “З беластоцкай зямлі”, якую выдала ў Беластоку Праграмная Рада Тыднёвіка “Ніва”, я атрымала шмат добрых ацэнак і задавальненьня ад беларусаў, для якіх я выслала Вашу кніжку. Доктар Вітаўт Кіпель зь Нью Ёрку прыслаў мне ліст, у якім піша, што шмат чытаў, але Ваша кніжка дапоўніла ягоныя веды. Казаў таксама, што такой кніжкі, добрай кніжкі ніхто яшчэ не напісаў. Пішыце больш, бо гэта вельмі важна і патрэбна для адраджэньня нашай Бацькаўшчыны вольнай і незалежнай…»*.

У іншым пісьме спадарыня Вольга паведамляла: *“Сёлета* (маецца на ўвазе ў 2011 г. — С. Ч.) *у красавіку ў Вербную нядзелю адведалі мяне з Таронта уладыка Сьвятаслаў, які прывёз з сабой спадарынь Натальлю Гардзіенка і Віялету Кавалёву. Наша беларуская арганізацыя Згуртаваньне беларусаў Канады ў Таронта запрасіла спадарыню Гардзіенка напісаць кніжку пра Згуртаваньне беларусаў у Канадзе. Спадарыня Гардзіенка прыехала ў Канаду на цэлы месяц. Езьдзіла ў Манрэаль, Атаву, шукала матэрыялы на кніжку. Да мяне прыехала ў апошні дзень перад выездам у Беларусь. Калі кніжка будзе выдадзена, ня ведаю. Усе паперы і дакумэнты яна сфатаграфавала…”*.

У пісьме пытаўся ў спадарыні Вольгі: а ці кантактаваў Ваш муж Аляксей Грыцук з беларусамі, калі вучыўся ў Варшаўскім унівэрсытэце? Спадарыня Вольга хутка пісала адказ.

Шлях Вольгі Дуброўскай да Аляксея Грыцука быў няпростым і даўгім. Пра гэта яна вельмі дакладна й шчыра напісала ў сваёй кнізе “Мы стваралі сваю Беларусь” (Мінск, 2007). Кніга ўнікальная, цікава чытаецца, шмат фактаў з уласнай біяграфіі й зь біяграфіі Аляксея Грыцука, з жыцьця беларусаў у Канадзе.

На Захад Аляксей Грыцук паехаў у 1944 г. А ў Канаду ён дабраўся параходам з Італіі ў студзені 1948 г. Яго ўзялі ў гэтую краіну па кантракце, які трэба было адрабіць. Цэлы год ён працаваў лесарубам. Было яму нялёгка. Перапісваўся толькі зь Міколам Ганько. І празь яго Алесь выйшаў на Згуртаваньне беларусаў Канады, арганізаванае Кастусём Акулам. А калі скончыўся тэрмін кантракту, Аляксей Грыцук прыехаў у Таронта й там уладкаваўся на фізычную працу й штодня вучыў ангельскую мову. У Таронта ён актыўна ўключыўся ў беларускае жыцьцё. А Вольга Дуброўская ў гэты час ужо жыла ў Польшчы, яны сталі перапісвацца. Тым часам сябры Алеся Грыцука ў Канадзе сталі паціху жаніцца, а ён чакаў сваю Вольгу. І вось той дзень настаў. Вольга Грыцук успамінае: *«Увечары са сталіцы Англіі я ляцела трансатлянтычным самалётам у Манрэаль зь перасадкай у Таронта. У цудоўны сонечны дзень, гадзіне 11-й, мяне сустрэў з групай сяброў Алесь — дарагі, чаканы. Ён бег насустрач, схапіў у абдымкі, пакружыў некалькі разоў, аж закружыў мне галаву. Мы абое расплакаліся. Яго сябры апладзіравалі і казалі: “Горка, горка!”. А там завезьлі нас на кватэру, якую наняў ва ўкраінцаў Глушкоў. Алесь падрыхтаваў сюрпрыз: сам склаў з купленых ім дэталяў тэлевізар і паставіў яго ў пакоі. Тэлевізар тады яшчэ быў вялікай навіной, і мяне ўразіла, што Алесь змог яго сам зрабіць. Ён доўга нам служыў. Першы куплены тэлевізар мы займелі ўжо потым, калі пераехалі ў Кінгстан...»*.



Аляксей, Юльяна й Вольга Грыцукі, Кінгстан (Канада), 1975 г.

1 лютага 1958 г. Алесь і Вольга ўзялі шлюб. А 8 студзеня 1959 г. у іх нарадзілася дачка Юльяна.

Вольга Грыцук, натхнёная сваім мужам, стала ў Канадзе актыўнай дзеячкай беларускага руху. У 1965 г. яна была адной з заснавальніц Згуртаваньня беларускіх жанчын Канады. А 6 сьнежня 1975 г. яе абралі

старшынёй гэтай арганізацыі, якую яна ўзначальвала цягам 18 гадоў — да 1993 г.

І 18 гадоў Вольга Грыцук пражыла з мужам. Яго ня стала ў траўні 1976 г. Перад сьмерцю ён казаў: *“Беражы Юльянку й глядзі, каб ня страціць дом. Я ведаю, ты моцная, ты ўсяму дасі рады”*.

Мужная жанчына-беларуска сапраўды аказалася моцнай. Яна дала адукацыю дачцэ, дачакалася ўнучку Сафію… Спадарыня Вольга жыла й за сябе, і за Алеся. І працягвала жыць доўга й думаць пра лёс Беларусі ды вельмі спадзявалася, што народ беларускі будзе шчасьлівы.

У яе кнігу “Мы стваралі сваю Беларусь” увайшлі і ўспаміны пра Алеся Грыцука. Але ў гэтых успамінах ёсьць і радкі-характарыстыкі пра Вольгу Грыцук. Барыс Аляксандрыў казаў пра яе так: *“Оля — сьціплая, разважная і чуйная”*. Раіса Жук-Грышкевіч напісала, што *“любіў Алесь Грыцук прыгаство, і Бог надарыў яго прыгожай жонкай Вольгай і дачкой Юльянай”*. Вольга Іпатава шчыра апісвае: *“Вольга Грыцук і цяпер захавала былую прыгажосьць — сінія вочы, акварэльныя фарбы твару, стройную постаць, мілую ўсьмешку і нейкую даверлівую чульлівасьць”*.

Гляджу на фотаздымак спадарыні-беларускі Вольгі Грыцук і думаю: няўжо за плячыма гэта прыгожай і мужнай жанчыны было пражыта больш за дзевяць дзясяткаў гадоў? Шмат ёю перажыта, шмат пабачана, шмат зроблена…

Вольга Грыцук пражыла амаль 96 гадоў. Да свайго 100-гадовага фэсту яна крыху не дацягнула. Для мяне, а таксама для ўсіх беларусаў яна заўсёды была прыкладам, як трэба шчыра любіць сваю Бацькаўшчыну, свой народ, родную мову. Любіць, шанаваць, перажываць за беларускасьць да апошняга дыханьня, да апошняга імгненьня.

Прапаную чытачам “Запісаў” некалькі лістоў Вольгі Грыцук да мяне.

***

Кінгстан, 15 снежня 2009 года

Паважаны і дарагі сп. Сяргей Чыгрын!

У першую чаргу шчыра Вам дзякую за Ваш ліст з траўня, каторы я атрымала 10 ліпеня. А Вашу кніжку і ліст атрымала 11 сьнежня.

Дарагі сп. Сяргей! Сардэчна дзякую за ліст і кніжку з цудоўнымі вершамі, поўныя хараства, патрыятызму, гісторыі і вялікай любові да нашай Бацькаўшчыны. Вельмі шчыра Вам дзякую за такі цудоўны падарунак. Выбачце мне, што я так доўга не адпісвала. Гэты 2009 год быў для мяне цяжкі і клапатлівы. У ліпені я ўпала і зламала нагу і моцна пабілася. У шпіталі аблажылі нагу ў гіпс на 2,5 месяца, таму я нічога не магла рабіць. На мыліцах я хадзіць не магла, бо я ўжо не маю раўнавагі, кідае мяне ў бакі. Таму я магла б зноў упасьці. І таму сядзела

ў хаце прыгнобленая. Здароўе маё благое, дакучае сэрца ды іншыя недамаганьні. Пару гадоў таму назад я мела ўдар сэрца, і зрабілі мне апэрацыю на сэрца, дык пакуль жыву. Вясной у гэтым годзе ізноў сэрца пачало дакучаць, бо стварылася "арытмія" і пагражае мне, што лекі не дапамагаюць. Будуць устаўляць у грудзі электронны рэгулятар, каб рэгуляваў біцьцё сэрца. Ну, што ж зробіш, я ўжо старая, мне мінула 86 гадоў, ды хваробы і старасьць вельмі аслабілі мяне.

Цяпер хачу Вам сказаць, што на Вашу кніжку "З Беластоцкай зямлі"[1] я атрымала шмат добрых ацэнак і задавальненьня ад беларусаў, для якіх я выслала Вашу кніжку. Тэлефанавалі да мяне і казалі, што такой кніжкі ніхто раней яшчэ не напісаў. Др. Вітаўт Кіпель зь Нью-Ёрку прыслаў мне ліст, у якім піша, што шмат чытаў, але Ваша кніжка дапоўніла ягоныя веды. Казаў таксама, што вельмі добрая кніжка і каштоўная. Вось такія камплемэнты для Вас, сп. Сяргей. Ганарыцеся і пішыце больш, бо гэта ўсё вельмі важна і патрэбна для адраджэньня нашай Бацькаўшчыны вольнай і незалежнай.

Сп. Кіпель піша таксама, што ён вельмі любіць чытаць Вашыя нарысы ў беластоцкай "Ніве". Вашу кніжку ён пазычыў для сп. Лявона Юрэвіча, а пасьля ён аддасьць кніжку ў Нью-Ёрскую публічную бібліятэку, дзе ўжо назьбіралася вялікая колькасьць беларускіх кніжак.

Сп. Сяргей, Вы пішаце, што зьбіраеце матэрыялы для кніжкі "Беларускі рух у Варшаве" і будзеце згадваць пра майго мужа Аляксея Грыцука. У 1930-х гадах мой муж настаўнічаў у Браславе і ў тым самым часе таксама вучыўся завочна ў Варшаўскім унівэрсытэце на факультэце гісторыі.

Скончыўшы навуку, ён атрымаў дыплём з тытулам магістра. Я перагледзела ўсе ягоныя паперы і нічога не знайшла: ані дакумэнтаў, ні лістоў, ні здымкаў з таго часу. Таксама я ня ведаю, ці мой муж меў якія-небудзь кантакты зь беларусамі ў Варшаве. У 1939 годзе яго мабілізавалі ў Браславе ў польскае войска і паслалі на фронт на абарону Варшавы, дзе ён быў паранены і забраны ў нямецкі палон. Ляжаў у шпіталі ў Варшаве. Калі трохі ачуняў і раны падгаіліся, ён са шпіталя ўцёк дадому ў Плянту да бацькоў. У тым часе Беласточчына ўжо была акупавана Савецкім Саюзам. Вось гэта ўсё, што я магу напісаць. Яшчэ раз шчыра Вам дзякую за цудоўную паэзію і памяць.

Сардэчныя прывітаньні і найлепшыя пажаданьні ды і вясёлых Каляд і шчасьлівага і шчодрага Новага Года ды ўсякіх посьпехаў у Вашым жыцьці.

Вольга Грыцук.

[1] Кніга выйшла ў Беластоку ў 2008 г.

Кінгстан, 3 траўня 2010 года

Паважаны і дарагі сп. Сяргей!

Шчыра Вам дзякую за ліст, за Вялікоднае віншаваньне, а таксама за Вашыя цёплыя, добрыя словы пра мяне.

Дасылаю Вам 3 траўня лятучай поштай вялікі канвэрт з трыма здымкамі вучняў Дзісьнянскай гімназіі з тых часоў і лістамі. Гэта тое, што я маю. Пару гадоў таму назад мая дачка Юльяна знайшла праз Інтэрнэт інфармацыю пра Дзісну. Яе Вам дасылаю. Калісь Дзісна мела Магдэбурскае права. Гэта быў прыгожы горад, але падчас Другой сусьветнай вайны зусім амаль зьнішчаны. У лісьце знойдзеце прозьвішча Міколы Шкялёнка і маіх сясцёр Любы і Марысі, ды шмат беларусаў, яўрэяў і крыху палякаў, пераважна дзяцей польскіх асаднікаў. Беларускія прозьвішчы моцна зьвіняць пальшчызнай. Мой тата моцна ўпёрся і не дазволіў, каб прозьвішча Дуброўскі зьмянілі на *Dabrowski*. Так было ў нас за польскім часам.

Нядаўна я тэлефанавала да сп. Вольгі Іпатавай[2]. Яны вельмі занятыя, бо дапамагаюць для сына Руслана і яго жонкі гадаваць двое маленькіх дзетак. У вольны час усе ходзяць у царкву і нашу беларускую арганізацыю, робяць даклады ў Дзень Герояў Слуцкага чыну і на 25 Сакавіка БНР.

Другая прыемная навіна, бо я атрымала пісьмо ад сп. Сяргея Панізьніка[3], што ён ужо прыехаў у Канаду з жонкай да іхнай дачкі Веранікі. Нармальна мы тэлефанічна камунікуемся, бо я жыву вельмі далёка ад іх.

Нарэшце прыйшла вясна-красна і ўсё пазелянела, выглядае цудоўна ды неяк і на душы пасьвятлела.

Жадаю Вам, сп. Сяргей, усяго найлепшага!

Вольга Грыцук.

Кінгстан, 20 кастрычніка 2010 года

Вельмі паважаны сп. Сяргей Чыгрын!

Даруйце мне, калі ласка, што я пішу да Вас зь вялікім спазьненьнем. Пра Вас, спадар Сяргей, я не забылася, але ў мяне цяпер найбольшай перашкодай зьяўляецца маё здароўе. Мне ўжо цяжка датрымаць адпаведную этыку. Я зрабілася нейкая вельмі павольная і асьцярожная, бо я трачу раўнавагу і часам падаю і б'ю свае старыя косьці. Хадзіць ужо мне цяжка, баляць калені, маю *"ostio arthritis"* — балючы тып рэўматызму.

[2] **Вольга Іпатава** (нар. 1945), пісьменьніца, перакладніца, грамадзкая дзячка. Цягам апошніх гадоў жыве ў Канадзе.

[3] **Сяргей Панізьнік** (нар. 1942), паэт, празаік, публіцыст. Цягам апошніх гадоў жыве ў Канадзе.


Вольга Грыцук. 2013 г.

Сардэчна Вам дзякую за пісьмо і за кніжку пра слаўнага дырыжора Антона Валынчыка[4]. Кніжка надзвычай цікавая. Безумоўна, пра такіх слаўных беларусаў трэба пісаць. Ліст з кніжкай ішоў зь Беларусі вельмі доўга, аж два з паловай месяцы, атрымала 12 жніўня. Другое пісьмо ішло 22 дні. Таксама і апошні ліст 22 дні. Я журылася, чаму так доўга ідзе пошта зь Беларусі. Можа Вы маеце нейкія турботы?.. У нас кажуць людзі, якія прыяжджаюць сюды зь Беларусі, што на Бацькаўшчыне, сапраўды, вольнасьці няма, што людзі і ўлада і надалей трымаюцца яшчэ савецкай мэнтальнасьці.

Дарагі спадар Сяргей! Сардэчна Вам дзякую і Вашай сям'і за запросіны да Вас у госьці. Вельмі шкада, што я ўжо старая, ды і здароўе благое, а гэта, сапраўды, быў бы для мяне вялікі гонар Вас адведаць. На вялікі жаль, я ўжо падарожнічаць не магу, бо не дазваляе здароўе. Мая дачка Юльянка таксама не можа пакінуць мяне адну, бо мне ўжо патрэбна апека і дапамога фізычная, бо я трачу баланс і моцна хістаюся. Нічога ўжо рабіць у хаце не магу.

Хачу Вам напісаць, што тут, у Кінгстане, 3 ліпеня адбылася падзея — сьвяткаваньне 100-годзьдзя з дня нараджэньня майго мужа Аляксея Грыцука. Вось у той самы дзень да нас прыехалі беларусы з Таронта і Атавы зь беларускім япіскапам Сьвятаславам[5]. Калі адпачылі крыху пасьля далёкай дарогі, мы ўсе паехалі на могілкі, там уладыка Сьвятаслаў адправіў паніхіду. Пасьля з дакладамі выступілі старшыня Рады БНР сп. Івонка Сурвіла і наша слаўная пісьменьніца сп. Вольга Іпатава. Пасьля заканчэньня ўсёй цырымоніі мая дачка Юльяна запрасіла ўсіх да сябе ў хату на пачастунак.

У панядзелак, 5 ліпеня, я атрымала вельмі прыемную неспадзяванку зь Беластоку — два асобнікі беларускай "Нівы" з Вашым артыкулам, сп. Сяргей, пра майго мужа Аляксея Грыцука да ягонага 100-годзьдзя. З глыбіні маёй душы я Вам складаю маю шчырую падзяку за такую адзнаку. Я ніколі не забуду Вас да канца майго жыцьця. Дзякуй Вам!

---

[4] Маецца на ўвазе кніга Сяргея Чыгрына "Жыў роднай песняй" (Мінск, 2010) пра беларускага кампазытара, дырыжора й пэдагога Антона Валынчыка (1896—1985).

[5] Маецца на ўвазе ўладыка **Сьвятаслаў (Логін)** — першаярарх БАПЦ.

У жніўні мне патэлефанавалі з Польшчы з Гдыні, што мой брат Лёня (яму 89 гадоў) ляжыць у шпіталі цяжка хворы на рак мозгу. Гэта сумная вестка ўзварушыла маё сэрца. Мой брат застаўся там адзін. Яго сын меў 50 гадоў, калі памёр. А жонка брата памерла 6 месяцаў таму ад цукровага дыябету. Такое няшчасьце ў адным годзе, калі дзьве асобы нас пакінулі. Я дасылаю грошы, каб нанялі нейкую жанчыну, каб яго даглядала днём, бо ноччу зь ім жыве ў яго мой пляменьнік, а раніцай едзе да працы. Вось такія сумныя навіны.

Жадаю Вам спадар Сяргей і Вашай сям'і і паклон Вашай маме, усяго найлепшага. Мае шчырыя прывітаньні.

Вольга Грыцук.

Кінгстан, люты, 2012 год

Паважаны спадар Сяргей!

Сардэчна Вам дзякую за прыгожыя і цёпленькія шкарпэткі, якія для мяне зьвязала Ваша мама. Яе рукадзельле вельмі прыгожае, яна сапраўды ёсьць цудоўная майстрыца. Шчыры ёй і Вам дзякуй!

Я таксама калісь магла вязаць, але я цяпер старая і хворая. Мне ўжо пайшоў 89 год. Ды і рукі ўжо балючыя ад рэўматызму і вочы слаба бачуць. Я ўжо нічога не магу рабіць. Маю акуляры, але яны толькі для чытаньня.

Дай Божа Вам здароўя і доўгага жыцьця, а маме Вашай ясных і цёплых дзён. Жадаю Вам духоўнай сьветласьці, трываласьці і надзеі на лепшую будучыню, ды ўсяго найлепшага.

З пашанай Вольга Грыцук.

Каляды, 2013 год

Вельмі паважаны сп. Сяргей Чыгрын!

Сардэчна Вам дзякую за пісьмо і за прыгожую картачку царквы і манастыра ў нашым старым і слаўным Полацку. Гэта засталася цудоўная рэліквія Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Я часта гляджу на картку, то неяк пачуваю аблягчэньне і спакой на душы.

У мяне нічога новага няма. Здароўе благое. Мая новая хвароба (дыябет) аслабіла мяне. Я шмат страціла ў вазе — 17 фунтаў. Ледзь ногі цягаю і нічога не парадзіш. Лекары прыпісалі мне сьціслую дыету. Таблеткі крыху памаглі, яны рэгулююць цукар у крыві. Змагаюся, як магу, але мне цяжка. Век сваё робіць, мне ўжо пайшоў 90-сты год, аднак хочацца жыць. Колькі мне дасць Бог яшчэ пажыць, цяжка сказаць.

Віншую Вас са Сьвятам Раства Хрыстовага і Новым 2013 годам. Жадаю здароўя, шчасьця, лепшых дзён для Беларусі, для Вас і нашага народу.

Шчырыя прывітаньні Вам, сям'і і Вашай маме. Вясёлых Калядаў!

Вольга Грыцук.

Кінгстан, 10 кастрычніка 2013 года

Шчыра паважаны сп. Сяргей Чыгрын!

Вельмі Вам дзякую за картку нашых слаўных продкаў са Слоніма. Вашу картку я атрымала 8 кастрычніка. А 2 верасьня я выслала для Вас цікавую кнігу Янкі Запрудніка "Беларускія фэстывалі і выстаўкі ў Амэрыцы"[6].

Дасылаю Вам свае фотаздымкі, якія Вам спатрэбяцца пры напісаньні артыкула пра мяне. Сардэчна Вам дзякую.

Я цешуся, што мая ўнучка Сафія скончыла 8 клясаў школы зь вельмі добрымі адзнакамі і 3 верасьня паступіла ў гімназію. Ёй ужо 14 гадоў. Яна таксама займаецца спортам. Вучыцца ў дзьвюхмоўнай гімназіі — па-ангельску і па-француску, плюс яшчэ бярэ лаціну.

Яшчэ раз дзякую Вам за памяць. Жадаю вам здароўя, добрага настрою і ўсяго найлепшага ў вашым жыцьці. Мае шчырыя прывітаньні для Вашай сям'і.

Вольга Грыцук.

Кінгстан, 22 сьнежня 2014 года

Вельмі паважаны сп. Сяргей Чыгрын!

Сардэчна Вам дзякую за лісты і прыгожыя карткі Беларусі, за віншаваньні і за вельмі добрую кніжку пра нашых слаўных беларусаў, дзеячаў, патрыётаў.

Мне вельмі прыкра, што я доўга да Вас не магла напісаць. Гэты год 2014 ёсьць для мяне вельмі цяжкі. Я два разы ляжала ў шпіталі. Цяпер я дома, але вельмі слабая... Дзякуй Богу, што яшчэ жыву. У нас усё па-старому. Юльянка з мужам працуюць, а Сафія ходзіць у гімназію. Вучыцца добра.

У нас, у Канадзе, шмат пішуць і паказваюць па тэлевізару пра Украіну. Расія не хоча, каб Украіна належала да НАТА і Эўрапейскай Уніі. Пра Беларусь нічога не чуваць.

З надыходам сьвята Нараджэньня Хрыстовага, жадаю Вам і Вашай сям'і, і Вашай маме радасна правесьці Каляды, а ў новым, 2015 годзе — добрага здароўя, шчасьця ды ўсяго найлепшага.

Ад шчырага сэрца — Вольга Грыцук.

---

[6] Маецца на ўвазе выданьне: Zaprudnik, Jan. Belarusian festivals and exhibitions in New Jersey: political information through the language of art (1948–2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011 гг.). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. — 198 p.

***Пётра Мурзёнак***
*Атава*

# ЛЮДЗІ АТАЎСКАГА АДДЗЕЛУ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ (1997—2019)

Размову пра беларускую суполку ў Атаве, якая склалася за апошнія два дзесяцігодзьдзі, пачнем з кароткай перадгісторыі. Згуртаваньне беларусаў Канады (ЗБК) было заснавана ў 1948 г. з цэнтрам у Таронта. Падчас сьвяткаваньня 70-годзьдзя арганізацыі 27 кастрычніка 2018 г. быў паказаны дакумэнтальны відэафільм, створаны Валянцінай Шаўчэнкай і прысьвечаны гісторыі ЗБК. Тут прагучала, што сябрамі Згуртаваньня ў 1948 г. было каля паўтары сотні беларусаў з розных гарадоў Канады[1]. У згаданым сьпісе значацца, прыкладам, тры беларусы з Атавы: Мікалай Хошчык, Пел(агія?) Норык і Пятрусь Галецкі, аднак мы дакладна ня ведаем, які далейшы лёс напаткаў гэтых людзей.

Афіцыйна лічыцца, што Атаўскі аддзел ЗБК быў заснаваны ў 1975 г. (старшыня Янка Сурвілла, сакратар-скарбнік Алена Скурат)[2]. У 1975—1997 гг. яго актыўнасьць уключала рэпрэзэнтацыю беларускіх інтарэсаў у шматкультурных канадыйскіх арганізацыях розных узроўняў. Так, Івонка Сурвілла была старшынёй працоўнай групы Канфэрэнцыі жанчын Атавы па пытаньнях шматкультуралізму (1975—1976) і сябрам управы Канадыйскай этнакультуральнай рады (*CEC — Canadian Ethnocultural Council*), Янка Сурвілла — сябрам Атаўскага аддзелу Паняволеных народаў, а Марыя-Паўла Сурвілла — старшынёй моладзевага аддзелу *CEC*. Шмат высілкаў уклала сямейства Сурвіллаў у заснаваньне Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі (1989) і далейшую шматгадовую працу па аздараўленьні і ўладкаваньні беларускіх дзяцей у канадыйскіх сем'ях[3]. Можна пералічыць некаторыя

---

[1] Архіў Міколы Ганько.

[2] Камунікат Галоўнай Управы Згуртаваньня беларусаў Канады. Таронта. Верасень 1976.

[3] Сурвілла, Івонка; Гімпелевіч, Зіна. Канадыйскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі // Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". https://zbsb.org/info/?modal=23182. 30.05.2018.

з актыўнасьцяў, якія адбываліся ў Атаве пры ўдзеле сябраў аддзелу таго часу: шматгадовы ўдзел у арганізацыі й правядзеньні маніфэстацыяў у Дзень Паняволеных народаў, удзел у фэстывалях *"Homelands"* (з 1979 да 1989 г.), правядзеньне канфэрэнцыі па беларускіх пытаньнях і выставы беларускага народнага мастацтва ў Атаўскім унівэрсытэце (19—27 красавіка 1975 г.), арганізацыя выставаў: беларускага народнага мастацтва (Публічная бібліятэка Атавы, 1977 г.), *"Self-portrait"* у Канадыйскім музэі чалавека (сьнежань 1987 г. — студзень 1988 г.) і іншыя. Відавочна, што дзейнасьць аддзелу ў 1975—1997 гг. патрабуе спэцыяльнага асьвятленьня.

Пасьля сьмерці Янкі Сурвіллы восеньню 1997 г. з ініцыятывы Івонкі Сурвіллы адбылося паседжаньне з удзелам некалькіх беларусаў з новай хвалі эміграцыі ў Канаду. На ім былі вылучаныя тры чалавекі для далейшай арганізацыйнай працы аддзелу: Уладзімер Міхайлаў (старшыня), Юрась Шамецька (сакратар), Зміцер Довбель (скарбнік). Далей двойчы адбываліся сустрэчы-знаёмствы беларусаў Атавы: на сядзібе Івонкі Сурвіллы (чэрвень 1998 г.) і ў доме Ўладзімера Міхайлава (ліпень 1999 г.). Менавіта на апошняй сустрэчы я ўпершыню сустрэўся з больш-менш арганізаванай групаў беларусаў — праз год пасьля прыезду зь сям'ёй у Канаду. Таму й больш дэталёвы аповед у гэтым артыкуле будзе ісьці ад таго часу.

Да ведама: паводле афіцыйных апытаньняў, праведзеных Міністэрствам статыстыкі (*Statistics Canada*), у Канадзе ў 1981 г. жыло 1125 беларусаў, у 1986 г. — 2030, у 1991 г. — 2830, у 2001 г. — 5110, у 2006 г. — 10505, у 2011 г. — 15565, у 2016 г. — 20710[4]. У Атаве ў 2011—2016 гг. налічвалася каля тысячы беларусаў.

Увосень 1999 г. на прапанову Івонкі Сурвіллы беларусы Атавы сабраліся адзначыць Дзень Слуцкага паўстаньня. На паседжаньні ў доме спадарства Шамецькаў прысутнічалі каля 20 чалавек і было прынята рашэньне правесьці сьвяткаваньне Новага году й беларускіх Калядаў, што й адбылося 8 студзеня 2000 г. у доме архітэктара Пётры Шварцмана. На сьвята прыйшлі звыш 50 асобаў. Трэба адзначыць, што ўвесь 2000 год быў годам новых ініцыятыў, якія спрыялі кансалідацыі беларускай суполкі ў Атаве. Гэта былі: сустрэча зь Сямёнам Шарэцкім (30 студзеня 2000 г.), пікет каля беларускай амбасады "І мы пераможам" разам зь беларусамі з Манрэалю й Таронта (16 сакавіка 2000 г.), першы сумесны адпачынак на возеры *Lake Phillipe* (6 жніўня 2000 г.), калядоўныя сьпевы ў сем'ях беларускіх атаўчанаў (25 сьнежня 2000 г.;

[4] Мурзёнак, Пётра. Міграцыя беларусаў у Канаду ў параўнанні з краінамі суседзямі // Сакавік. № 6. Чэрвень 2014. С. 30—39; Той жа. Новыя зьвесткі аб міграцыі беларусаў у Канаду паводле перапісу насельніцтва ў 2016 годзе // Культура, Нацыя. № 20. Сьнежань 2017. С. 67—74.

Наталья й Пётра Мурзёнкі, Герда Матусевічус), арганізацыя з ініцыятывы Івонкі Сурвіллы выставы-продажу малюнкаў дзяцей з Чавускага раёну Беларусі (лістапад 2000 г., выручаныя грошы, звыш 1000 даляраў, перададзеныя ў Канадыйскі чарнобыльскі фонд) і ўбраньня беларускай навагодняй ялінкі ў *National Art Centre* (сьнежань 2000 г., тое самае адбывалася ў 1999 і 2001 гг.). Да таго ж прадстаўнікі Атавы ўдзельнічалі ў паломніцтве да Беларускага Крыжа (Мідлэнд, 17 чэрвеня 2000 г.) і ў 24-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі (Кліўлэнд, Агаё, ЗША, 1—4 верасьня 2000 г.)[5].

26 лістапада 2000 г. на паседжаньні, прысьвечаным Слуцкаму збройнаму чыну, дзе прысутнічалі звыш 20 асобаў, былі праведзеныя выбары новага складу кіраўніцтва аддзелу (адной з прычынаў было тое, што старшыня Ўладзімер Міхайлаў выехаў за межы Канады). У склад Управы былі абраныя Пётра Мурзёнак (старшыня), Юрась Шамецька (сакратар) і Пётра Шварцман (скарбнік).

Падчас гэтай вечарыны выявілася цікавая акалічнасьць адносна прыналежнасьці, дакладней сказаць, палітычнай інфармаванасьці новай эміграцыі. На прапанову Івонкі Сурвіллы засьпяваць падчас вечарыны гімн БНР “Мы выйдзем шчыльнымі радамі” ня ўсе прысутныя (нават маючы тэксты) маглі зрабіць гэта шчыра й адпаведным чынам. Пішучы пра падзеі таго вечара, магу толькі адзначыць, што большасьць людзей на ім упершыню сустрэліся як з тэкстам, гэтак і з ідэямі, якія гучаць у гімне, напісаным у час станаўленьня БНР. Гімн быў забаронены ў СССР, таму, пэўна, толькі дасьціпныя й палітычна скіраваныя людзі яго ведалі. Ужо ў Канадзе я даведаўся ад сваіх бацькоў, што падчас вайны ў 1942/43 навучальным годзе яны ў школах сьпявалі гэты гімн, хоць, трэба адзначыць, жылі мае бацькі даволі далёка адно ад аднаго ў Пастаўскім раёне (в. Чарэмушнікі Падзісенныя й м. Дунілавічы, Віцебская вобл.). Такое адбывалася ў многіх школах Беларусі падчас нямецкай акупацыі.

Відавочна, што ў людзей, не заангажаваных у палітыку і ў гісторыю краіны, сьпяваньне гімну БНР і далучэньне да бел-чырвона-белага сьцягу магло выклікаць адмоўную рэакцыю. Што далей даволі часта назіралася ў беларускай суполцы ў Атаве: як толькі там гучалі палітычныя, антырасейскія, антылукашэнкаўскія, пра-бел-чырвона-белага-сцягу лёзунгі, частка людзей ад нас адлучаліся. Калі мець на ўвазе невялікую колькасьць беларусаў у сталіцы Атавы, ці маглі мы бачыць на нашых імпрэзах шмат людзей?

З другога боку, нягледзячы на розныя погляды на беларускае жыцьцё на радзіме, праглядалася істотнае жаданьне беларусаў новай

[5] Мурзёнак, Пётра. Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам. Атава. 2012. С. 219—230.

іміграцыі яднацца[6]. Яднацца ня ў сэнсе стварыць партыю й вырашаць нейкія палітычныя пытаньні, а ў сэнсе прыналежнасьці да агульных каштоўнасьцяў, мэнтальнасьці й культуры. Відавочна, што ў катэгорыю такіх ахвотнікаў не магло трапіць шмат выхадцаў зь Беларусі. Тым ня менш доля беларусаў, якія актыўна ўдзельнічаюць у нашых зборках і імпрэзах ці наведваюць іх (каля 5 % ад агульнай колькасьці прыбылых у Атаву), на сёньня перавышае аналягічны паказьнік ў суполках нашых суседзяў (напрыклад, каля 2,5 % у палякаў[7]).

Можна пагадзіцца з прадстаўніком старэйшай беларускай эміграцыі Вячкам Станкевічам, які падзяліў беларусаў новай эміграцыі на тры асноўныя катэгорыі: эканамічныя эмігранты (складаюць асноўную масу й застаюцца па-за межамі арганізаванай дыяспары), "далучэнцы" ды іншыя[8]. Падобны падзел можна назіраць і ў іншых дыяспарах, у прыватнасьці ў польскай[9]. Характарызуючы "далучэнцаў", Вячка Станкевіч піша, што *«з пункту гледжаньня "вэтэранаў", якія схільныя забыць пра свае ўласныя даўнейшыя ўнутраныя канфлікты, навічкі менш здольныя да супольнай і зладжанай працы ў калектыве і насілу ідуць на кампрамісы дзеля супольнай карысьці»*. Акрамя таго, *"трапляюцца сярод новых імігрантаў і людзі з больш цёмнымі намерамі. Яны ахвотна ўступаюць у існыя арганізацыі і прыкладаюць усе намаганьні, каб стаць іх паважанымі сябрамі. Іх вонкавая адданасьць справе беларускай дэмакратыі дазваляе ім заваяваць давер старэючых лідэраў. У выніку яны апынаюцца на кіруючых пасадах, пасьля чаго маскі зрываюцца і робіцца зразумелай іхная прыхільнасьць да дыктатуры, а таксама спробы пераняць кіраўніцтва ў арганізацыі. Адна такая спроба, якая ледзь не завяршылася посьпехам, мела месца ў нью-ёрскай супольнасьці"*[10].

У артыкуле Вячкі Станкевіча гучыць, з аднаго боку, заклапочанасьць лёсам беларускай дыяспары, але, зь іншага боку, там жа бачны

[6] Мурзёнак, Пётра. Куды ідзеш беларус? // Беларускае слова. № 2. Травень 2002; Шамецька, Юрась. Эміграцыя ці рух, які спрыяе жыццю // Культура, Нацыя. № 22. Лістапад 2018. С. 38—50.

[7] Паводле дакладу на сымпозіюме "Ўклад канадыйцаў польскага паходжання ў Канаду" (2017): Jablonski, A. M. Reflections on Polish-Canadians on Canada's 150th Anniversary // The 2nd Oskar Halecki Symposium "Polish Canadians Contribution to Canada". Warszawa — Ottawa, 2017. P. 52.

[8] Станкевіч, Вячка. Новая хваля эміграцыі: розныя мэты і каштоўнасці // Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". http://zbsb.org/node/1111. 20.01.2009

[9] Jablonski, A. M. Reflections on Polish-Canadians on Canada's 150th Anniversary. P. 52

[10] Станкевіч, Вячка. Новая хваля эміграцыі: розныя мэты і каштоўнасці.

недавер і падазронасьць да новай хвалі эміграцыі з боку старой. Як вынік, у згаданым артыкуле не прапанавана шляхоў кансалідацыі беларусаў папярэдняй і новай эміграцыі. Ці атрымалася іх, даволі розных паводле выхаваньня і ўмоваў жыцьця людзей, зьяднаць у нейкай агульнай "беларускасьці"? І ці магла гэтая еднасьць вынікаць з нутранай патрэбы адных і другіх? Ці адбылася ў нейкім сэнсе пераемнасьць ад старэйшых да новых?

Новыя людзі на пачатку сваёй эміграцыі гэтага ведаць не маглі. Паводле многіх прыкметаў гэта й сталася, і ня сталася. Калі казаць пра некаторыя беларускія асяродкі, напрыклад, у Нью-Ёрку ці ў Таронта, то там адбыўся плаўны й спрыяльны пераход арганізацыяў ад старых эмігрантаў да новых. Прынамсі, магчыма казаць пра тое, што беларусы новай хвалі (тыя, што хацелі й адпавядалі) далучыліся да старэйшай эміграцыі, якая трымаецца ідэяў незалежнасьці БНР, абвешчаных 25 сакавіка 1918 г.

Аднак супярэчнасці паміж пакаленьнямі ўсё ж узьніклі й не на глебе адносінаў да незалежнасьці Беларусі. Абумоўлены яны, так падаецца, розьніцай у сьветапоглядзе паваеннай і новай міграцыі. Паваеннае пакаленьне нават у "далучэнцах" бачыла й цяпер яшчэ бачыць савецкіх людзей, замбаваных, недастаткова нацыянальна сьведамых, і нават, магчыма, шпіёнаў-засланцаў, прызваных разграміць беларускую дыяспару. І гэта адчуваецца ў словах Вячкі Станкевіча. Такія засьцярогі, відаць, заўжды былі ў прадстаўнікоў паваеннай эміграцыі, якія не маглі ўявіць, што савецкія людзі ў Беларусі ў сваёй большасьці адчувалі сябе беларусамі, а пра свабоду думалі крыху інакш, як яны. Старэйшая эміграцыя марыла вярнуцца ў свабодную Беларусь, якую яна абагаўляла, абапіраючыся на беларускі досьвед змаганьня за незалежнасьць краіны ў першай палове XX ст. Здаецца, іх дыялёг з "далучэнцамі", якія ўсё ж пераважна ёсьць "эканамічнымі эмігрантамі", хіба што толькі часткова з палітычнай афарбоўкай, ня мог не выліваецца ў непаразуменьні й нават прыводзіць да ўзьнікненьня канфліктных сытуацый. Прыкладамі таму зьявіліся раскол Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА ў 2010 г.[11] і пакуль няўдалая спроба раскалоць ЗБК, а менавіта Таронтаўскі й Атаўскі аддзелы на зьездзе арганізацыі ў 2017 г. Такія выпадкі трэба аналізаваць і адкрыта абмяркоўваць.

Вяртаючыся да сьпяваньня гімну БНР — ці магла сучасная эміграцыя ўспрыняць каштоўнасьці старэйшай? Відавочна, што магла, але не адразу. Так думаецца, што на гэта не было ў новапрыбылых людзей адпаведнай базы й разуменьня. У дадатак, жывучы за жалезнай заслонай і выхаваныя зусім у іншых умовах, яны шмат чаго ня ведалі пра жыцьцё старэйшага пакаленьня эмігрантаў.

---

[11] Зайка, Віталь. Да гісторыі БАЗА: перадумовы й разьвіцьцё закалоту 2007—2011 гг. // Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 554—560.

Новыя людзі, прыехаўшы ў новую краіну, у той ці іншай ступені хацелі (ня ўсе) сустракацца з падобнымі да сябе. Гэта натуральнае жаданьне. Трэба адзначыць, што станаўленьне сучаснай беларускай грамады ў Атаве пачыналася на мяжы XX і XXI стагодзьдзяў. Яно ішло даволі павольна, можна нават сказаць, арганічна. Сябрамі Атаўскага аддзелу ЗБК станавіліся людзі, якія атрымоўвалі інфармацыю пра існаваўшыя ці існуючыя беларускія асяродкі ў Канадзе, знаёміліся з палажэньнямі Статуту Згуртаваньня, мелі магчымасьць і жаданьне плаціць складкі. Зь іншага боку, дзьверы на ўсе нашыя імпрэзы былі адчыненыя для ўсіх: хтосьці заставаўся з намі, хтосьці надоўга пакідаў, а потым зноў прыходзіў. Аб’ядноўчыя функцыі выконвалі як культурныя імпрэзы й сумесныя зборкі, напрыклад традыцыйнае цяпер сьвяткаваньне угодкаў абвяшчэньня БНР, гэтак і нефармальныя сяброўскія сустрэчы, якія адыгрываюць бадай што галоўную ролю ў стварэньні спрыяльнай атмасфэры ў нашай беларускай суполцы ў Атаве.

Варта згадаць самыя першыя сустрэчы беларусаў Атавы. Першы раз Новы год сустракалі 8 студзеня 2000 г. у доме мастака Пётры Шварцмана, а першая арганізаваная навагодняя імпрэза ў тым жа доме прайшла 7 студзеня 2001 г. На сьвята й канцэрт сабраліся больш за 60 асобаў. Канцэрт адкрыла вакальная група (Паліна, Яна й Алена Клімавы, Наталія й Пётра Мурзёнкі), якая ў суправаджэньні скрыпкі (Улада Шамецька) і клавішных (Насьця Чаканская) выканала калядныя беларускія песьні. Далей канцэрт працягваўся з удзелам і дарослых, і дзяцей. Дзеткі чыталі вершы (Каця Лысенка, Тоня Кумейка), ігралі на клавішных (Насьця Бойка), з гітарай сьпявалі песьні Алёна Баркар і Юрась Логвін, музыкальныя п’есы для скрыпкі выконвала Ўлада Шамецька. Вельмі пацешыў дарослых і дзетак Дзед Мароз. Усё было па-сяброўску — утульна й проста.

25 сакавіка 2001 г. беларусы Атавы першы раз адзначылі Дзень абвяшчэньня БНР у *Hintonburg Family Center* (тамсама ў 2012, 2014, 2015, 2017 гг.). Стала ўжо традыцыйным мець у сьвяточнай праграме тэматычныя даклады, канцэрт, беларускую дыктоўку, якую праводзілі сем разоў. Амаль на кожным нашым сьвяце прысутнічае й выступае з прамовай ганаровы госьць старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, якая жыве ў нашым горадзе. Даволі часта да нас на беларускае сьвята ў Атаву прыяжджае цудоўны фальклёрны ансамбаль “Яваровы людзі” з Таронта (2006, 2007, 2015, 2016 гг.), у стварэньне й разьвіцьцё якога многа сілаў і ведаў уклала нязьменны ягоны кіраўнік Віялета Кавалёва. Трэба адзначыць, што ў Атаве, у адрозненьне ад некаторых іншых беларускіх цэнтраў у Паўночнай Амэрыцы (Кліўлэнд, Нью-Ёрк, Таронта), няма свайго грамадзкага будынку. Таму нашыя імпрэзы й зборкі праходзяць у прыватных дамах ці ў нанятых памяшканьнях. Апроч згаданага вышэй, беларусы Атавы некалькі разоў праводзілі Сакавіцкія сьватка-

ваньні ў будынку гарадзкога савету Атавы (2002—2008, 2013, 2019 гг.), чаму спрыяла дапамога дарадцаў гораду: *Wendy Stewart, Maria McRae, Gord Hunter, Keith Egli,* якім мы вельмі ўдзячныя, а таксама ў *Ottawa Public Library* (2009 г.), *Nepean Creative Arts Centre* (2016 г.) і нават у будынку канадыйскага парлямэнту (2018 г.).

У значнай ступені кансалідацыі беларусаў Атавы спрыяла стварэньне беларускай суботняй школы, што працавала на працягу 5 навучальных сэзонаў (2004—2009 гг.)[12]. Яна была створаная пры падтрымцы гарадзкой адукацыйнай праграмы, у межах якой адкрытыя суботнія клясы для шмат якіх іншых нацыянальных групаў. Настаўнікамі ў беларускай школе былі мае бацькі — Даната Генрыхаўна Мурзёнак, што працавала зь дзеткамі малодшых клясаў, і Пётр Сільвэстравіч Мурзёнак, які займаўся са старэйшымі дзецьмі матэматыкай і беларускай літаратурай. Першыя заняткі адбыліся 14 лютага 2004 г. У школе на працягу пяці навучальных гадоў займаліся 15 дзяцей, і, ведама ж, побач зь імі знаходзіліся бацькі. Дзеці займаліся ня толькі школьнымі прадметамі (чытаньнем, пісаньнем, рашэньнем задачаў), малодшыя таксама вучыліся сьпяваць па-беларуску й таньчыць, у чым была вялікая заслуга Данаты Генрыхаўны.

28 лістапада 2004 г. дзеці беларускай клясы бралі ўдзел у славянскім дзіцячым фэстывалі (*Gatineau, Quebec*), двойчы ладзілі канцэрт на Каляды. Так, напрыклад, 14 студзеня 2006 г. канцэрт пачаўся песьняй “Учора зьвячора”, хорам дзеці засьпявалі “Ходзікі”, выканалі песьню-танец “Сьняжынкі”, таньчылі “Беларускую польку”, юныя музыкі ігралі на піяніна, дэклямавалі вершы, навагоднія й пра зіму. На заканчэньне з падарункамі прыйшоў Дзед Мароз, у ролі якога выступіў вучань 9-й клясы Раман Шамецька. 13 студзеня 2007 г. вучні дэклямавалі вершы, прагучала мэлёдыя песьні “Ціхая ноч” у выкананьні Ўлады Шамецькі (скрыпка) і яе дачкі Паўлінкі (фартэпіяна). Казку “Воўк-гультай” паказалі Алёша Цыпенка, Агата й Ніна Логвіны. Ліля Пелюшонак і Паўліна Шамецька выканалі танец “Лялька”. Беларускую полечку таньчылі Алёша й Агата. У выкананьні юных музыкаў на фартэпіяна прагучалі фрагмэнты клясычнай музыкі. Скончылі канцэрт песьняй “Саўка ды Грышка”. Цалкам натуральна, што як сама школа, гэтак і пазавучэбная актыўнасьць дзяцей сталіся магчымымі дзякуючы падтрымцы бацькоў.

[12] Мурзёнак, Пётра С. Беларуская кляса ў Аттаве // Беларус. 2012. С. 188—193; Той жа: Беларускі клас у Атаве // Адвечныя плыні. Мінск: Кнігазбор, 2015. С. 189—195; Той жа. Тры гады як працуе беларуская суботняя школа ў Атаве // Беларус. № 518. Сакавік 2006; Той жа. Навагодняе свята беларусаў у Атаве // Беларус. № 519. Красавік 2006. Пра беларускую клясу паведамлялася таксама ў газэце “Беларускае слова” (Таронта), у Атаўскай газэце *“Ottawa Citizen”* і на Радыё “Свабода” (8 чэрвеня 2006 г.).

Беларускае жыцьцё ў Атаве канцэнтруецца вакол некалькіх сем'яў. У першую чаргу хацелася б адзначыць сем'і Ўлады й Юрася Шамецькаў, Іны й Аляксандра Каралькевічаў, Аксаны й Сяргея Мазгавых і іх сяброў. Улада Шамецька ад самага стварэньня сучаснай беларускай грамады ўзяла на сябе ролю лідара нашых канцэртных праграмаў, як дарослых, гэтак і дзіцячых у беларускай школе. Разам зь Юрасём яны рыхтавалі й распаўсюджвалі абвесткі аб нашых падзеях сярод беларусаў Атавы. Гэта рабілася й праз мэйлы, і праз створаны ў 2001 г. вэб-сайт "Беларусы Атавы", адміністратарам і стваральнікам якога быў Юрась Шамецька. З 2009 г. гэты сайт стаў сайтам усяго ЗБК — www.belaruscanada.org. На сёньня актыўнымі сябрамі аддзелу зьяўляюцца 25—30 чалавек. Таксама найбольш актыўнымі ёсьць: Наталія Баркар, Ірына і Ўладзімер Клімковічы, Алена й Слава Клімавы, Аляксандра й Юрась Логвіны, Ірына і Ўладзімер Панчанкі, Галіна Рэзаіпур, Анжэла Прыма, Іна і Ўладзімер Семенчукі, Яўгенія й Андрэй Табаленкі, Галіна Туміловіч, Пётра Шварцман, Таццяна й Аляксей Федарэнкі ды іншыя.

Так атрымалася, што аўтару гэтага артыкулу давялося прыняць на сябе кіраўніцтва ЗБК у 2001—2005 гг. У гэты пэрыяд праводзіліся сумесныя акцыі беларусаў Атавы са сваімі землякамі з Таронта й Манрэалю, у тым ліку й ініцыятывы, скіраваныя на разьвіцьцё Згуртаваньня. Тут можна адзначыць сумеснае правядзеньне сьвяткаваньня абвяшчэньня незалежнасьці БНР у Атаве, Таронта, Манрэалі, маніфэстацый у Атаве, стварэньне сайту "Беларусы Атавы", дзе адлюстроўвалася жыцьцё канадыйскіх беларусаў, пачатак выданьня газэты "Беларускае слова" ў Таронта (рэдактар і лідар Віялета Кавалёва, 2002—2008 гг.). У гэтых ініцыятывах было жаданьне паказаць нашае сумеснае жыцьцё й прысутнасьць у Канадзе як беларусаў.

На працягу апошніх двух дзесяцігодзьдзяў было праведзена шмат імпрэзаў, якія спрыялі яднаньню беларусаў Атавы. Можна з упэўненасьцю сказаць, што тое, што запісана ў Статуце ЗБК[13], цалкам адпавядае тым ініцыятывам, якія сыходзілі ад саміх сябраў беларускай суполкі ў Атаве.

Хацелася б пералічыць найважнейшыя зь іх. 29—30 ліпеня 2006 г. беларусы Атавы ўпершыню сьвяткавалі Купальле на беразе маляўнічага возера Ньюкомб, на тэрыторыі, уласьнікам якой была Ўкраінская грэка-каталіцкая царква й дзе мы мелі магчымасьць паставіць намёты,

[13] Як запісана ў Статуце, мэтамі й заданьнямі ЗБК зьяўляюцца: а) захаваньне й культываваньне беларускай нацыянальнай і культурнай спадчыны; б) гуртаваньне беларусаў на тэрыторыі Канады; в) маральная й матэрыяльная падтрымка сваіх сяброў; г) культурна-асьветная праца сярод беларускага грамадзтва ў Канадзе; д) абарона інтарэсаў беларусаў у Канадзе, згодна з законамі.

адпачыць і правесьці сьвята. Затым двойчы, у 2008 і 2009 гг., на беразе ракі Атавы цёплым, прыгожым вечарам на маляўнічай паўвысьпе незадоўга перад заходам сонца плялі вянкі, дзяліліся сваімі ўражаньнямі ад прыроды, разважалі аб значнасьці гэтага сьвята, рабілі фотаздымкі. Разам праводзілі за раку й за далягляд сонца, запальвалі сьвечкі, сьпявалі беларускія песьні, напрыканцы пускалі вянкі ў рэчку. У апошнія гады "Купальле" адзначаецца падчас летніх сустрэчаў на возеры *Philippe*, дзяўчаты й жанчыны плятуць вянкі, якія сымбалічна пад беларускія песьні ўвечары выпускаюцца на ваду. Нашы летнія сустрэчы на возеры адбываюцца практычна кожны сэзон пачынаючы з 2001 г. і звычайна зьбіраюць каля паўсотні ўдзельнікаў.

У жыцьці сучаснай беларускай суполкі ў Атаве ёсьць яшчэ адна цікавая зьява — прэзэнтацыі кніг беларускіх аўтараў — сяброў суполкі. У 2001 г. была прэзэнтаваная мая кніга вершаў "Быліна мая, Беларусь", у 2008 г. — кнігі Івонкі Сурвіллы "Дарога", Пятра Сільвэстравіча Мурзёнка "Над Дзісенкай ракой" і Юркі Пелюшонка *"Acquisition through division (practical demagogy)"*, у 2011 г. — зборнік Юрася Шамецькі "Шлях да вяртаньня", у 2012 г. — кнігі Пётры Мурзёнка "Крыніца" й "Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам", у 2015 г. — зборнік Юрася Шамецькі "Атава", у 2016 г. — кнігі Пятра С. Мурзёнка "Адвечныя плыні" й Пётры Мурзёнка "Шляхі да беларускай нацыі", у 2017 г. — праца Пётры Мурзёнка "Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу", у 2018 г. — зборнік Пётры Мурзёнка "Колеры", у 2019 г. — зборнік Юрася Шамецькі "Непрадказальнае". Натуральна, што кожная з такіх прэзэнтацыяў дадае эмоцыяў для ўдзельнікаў і сама па сабе сьведчыць аб жыцьцяздольнасьці беларускай культуры тут, далёка за акіянам.

У сталіцу Канады нярэдка прыяжджаюць грамадзкія дзеячы й артысты зь Беларусі. Звычайна іх прыезд ёсьць добрай нагодай прыняць гасьцей і атрымаць сьвежую інфармацыю пра жыцьцё на радзіме. Мы прымалі Сямёна Шарэцкага (2000 г.), Валянціну Палевікову й Аляксандра Дабравольскага (2006 г.), Уладзімера Някляева, Яраслава Раманчука, Андрэя Дзьмітрыева й Анатоля Лябедзьку (2010 г.), Алеся Міхалевіча (2011 г.), Андрэя Саньнікава (2016 г.), Віктара Шалкевіча, Алену Макоўскую й Ніну Шыдлоўскую (2016 г.), Глеба Лабадзенку й Алесю Літвіноўскую, а таксама Зьмітра Вайцюшкевіча (2017 г.).

Трэба адзначыць, што шэраг ініцыятываў нашай суполкі ў Атаве рэалізоўваюцца ва ўзаемадзеяньні зь іншымі беларускімі арганізацыямі ў Канадзе, у прыватнасьці зь Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ў Канадзе. Так, атаўскія сябры ўзялі актыўны ўдзел у дзьвюх навуковых канфэрэнцыях Канадыйскай асацыяцыі славістаў: у канцэрце й працы беларускай сэкцыі ў Атаве (2009 г.), у працы дзьвюх беларускіх сэкцыяў і круглым стале беларускай паэзіі ў Таронта (2017 г.). У Таронта непасрэдна атаўчанамі былі зробленыя 4 з 6 дакладаў на гэтых сэкцыях,

а Юрась Шамецька й Пётра Мурзёнак разам з Вольгай Іпатавай і Сяргеем Панізьнікам стварылі творчую атмасфэру на паэтычнай вечарыне.

У жыцьці нашай суполкі вялікае месца займае культурніцкая дзейнасьць, і мы лічым, што менавіта яна можа быць аб'яднаўчай ідэяй для беларусаў замежжа. Палітычныя лёзунгі й мэты таксама важныя, і частка сяброў нашага аддзелу (тыя, хто адважыўся на гэта) за мінулыя гады правялі шэраг акцыяў у падтрымку дэмакратычнага разьвіцьця Беларусі. Варта толькі пералічыць некаторыя зь іх: 17 кастрычніка 1999 г. і 25 сакавіка 2000 г. больш як 20 прадстаўнікоў з Атавы, Манрэалю й Таронта ўдзельнічалі ў пікетах “Марш Свабоды” ля амбасады Беларусі ў сталіцы Канады; 6 красавіка 2003 г. у канадыйскай сталіцы ля расейскай амбасады адбылася дэманстрацыя супраць плянаванага аднаўленьня саюзу Расеі й Беларусі; 16 сакавіка 2006 г. перад амбасадай Рэспублікі Беларусь у сталіцы Канады была зладжаная дэманстрацыя на знак падзякі барацьбітам за новую, вольную, дэмакратычную Беларусь; 1 красавіка 2006 г. ля амбасады Расейскай Фэдэрацыі адбылася дэманстрацыя супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі; 18 сакавіка 2012 г. перад амбасадай Рэспублікі Беларусь зладжаная дэманстрацыя ў знак салідарнасьці з палітычнымі зьняволенымі (кандыдатамі ў прэзыдэнты Беларусі Андрэем Саньнікавым і Мікалаем Статкевічам, а таксама Ігарам Аліневічам і іншымі) і з патрабаваньнямі іх вызваленьня; 20 сакавіка 2014 г. у Атаве адбыўся мітынг у падтрымку ўкраінскага народу супраць расейскай агрэсіі.

У дадатак беларусы ладзілі актыўныя сумесныя акцыі з прадстаўнікамі іншых нацыянальных суполак у Атаве: вугорскай, латыскай, літоўскай, польскай, украінскай, чэскай, эстонскай, асабліва ў межах дзейнасьці Канадыйскага камітэту краінаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, які аднавіў сваю працу ў апошнія гады. Сярод арганізаваных Камітэтам мерапрыемстваў нагадаем паседжаньні, прысьвечаныя катастрафічным наступстам акту Молатава — Рыбэнтропа для краінаў Усходняй Эўропы, у арганізацыі й правядзенні якіх бралі ўдзел беларусы Атавы — з нацыянальным сьцягам, у беларускіх строях, з нацыянальнымі прамовамі (23 чэрвеня 2014 г., 23 жніўня 2015 г., 28 жніўня 2016 г., 28 жніўня 2017 г., 5 верасьня 2018 г., 22 жніўня 2019 г.).

Безумоўна, на такія падзеі з Атавы прыходзіла няшмат беларусаў, але яны там былі й там лунаў бел-чырвона-белы сьцяг як сымбаль беларускай надзеі на лепшае, дэмакратычнае й заможнае жыцьцё суродзічаў на радзіме.

Беларусы Атавы імкнуцца да паразуменьня ня толькі між сабой, але й з прадстаўнікамі дыяспараў краінаў-суседзяў, якія толькі нядаўна далучыліся да эўрапейскай супольнасьці — магчымасьць, якую прамінулі й да якой яшчэ будуць імкнуцца беларусы. Шмат робіцца ў галіне ўзаемадзеяньня з нацыянальнымі арганізацыямі суседзяў.

Гэта вельмі важна, бо, як са зьдзіўленьнем заўважыў у сваім артыкуле ўдзельнік польскай грамады Стэн Забароўскі[14], які быў нашым госьцем на Дні Волі — 2015, ён ня мог уявіць, што ў Атаве існуе такая арганізаваная група беларусаў. Гэты факт сьведчыць аб тым, што сёньня беларусы за мяжой, прынамсі ў Канадзе, дастаткова самаізаляваныя й самаабмежаваныя, нягледзячы на распаўсюджаную ў краіне шматкультурнасьць.

Намі зробленыя пэўныя захады, каб пра беларусаў больш ведалі канадыйцы з розных дыяспараў. Прадстаўнікі беларускай суполкі ў Атаве былі запрошаныя як госьці на тры першыя ўкраінскія фэстывалі ў Атаве (23 ліпеня 2016 г., 21 ліпеня 2017 г., 21 ліпеня 2018 г., 19 ліпеня 2019 г.), прысутнічалі на сьвяткаваньні 1050-годзьдзя хрысьціянства на польскіх землях (17 чэрвеня 2016 г.), на 100-годзьдзі аднаўленьня незалежнасьці Літоўскай Рэспублікі (2018 г.), на лекцыях Польскага інстытуту Оскара Халецкага (2016, 2017 гг.), чыталі лекцыі для польскай дыяспары (Івонка Сурвілла, Пётра Мурзёнак; 29 кастрычніка 2016 г.) і шмат чаго іншага. Такое ўзаемадзеяньне зь іншымі дыяспарамі важнае з розных гледзішчаў. Да прыкладу, польскія калегі на нашую просьбу пісалі пісьмо прэзыдэнту Польшчы ў справе палітычнай і фінансавай падтрымкі “Белсату” (студзень 2017 г.).

У Канадзе сёньня актыўна дзейнічаюць два беларускія асяродкі: у Атаве й Таронта. Сябры Атаўскага аддзелу ЗБК на зьездзе арганізацыі ў 2017 г. складалі 36 % яго дэлегатаў. Гэта значная доля ў агульнай структуры Згуртаваньня. Кожны мог упэўніцца ў сіле нашага аддзелу дзякуючы пасьпяховай арганізацыі й правядзеньню 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі (Атава, 3—5 верасьня 2016 г., гатэль “Лорд-Элгін”) і 100-годзьдзя БНР у будынку парлямэнту Канады (11 сакавіка 2018 г.). Абодва мерапрыемствы, паводле словаў іх удзельнікаў, прайшлі на высокім арганізацыйным і зьместоўным узроўні, сабралі агулам каля 90 і 160 удзельнікаў адпаведна. На іх прысутнічалі дэпутаты канадыйскага парлямэнту й гарадзкога савету Атавы, прадстаўнікі латыскай, літоўскай, польскай і ўкраінскай дыяспараў[15]. За арганізацыю й правядзеньне сьвяткаваньня 100-годзьдзя БНР шэраг беларусаў

---

[14] Zaborowski, Stan. Bialorusini w Ottawie // Polska Ednosc Narodowa. http://www.polskajednoscnarodowa.com/spotkanie-z-bialorusinami.php. June 10, 2015.

[15] Матэрыялы 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі // Культура, Нацыя. № 15. Верасень 2016. С. 16—91; Матэрыялы ўрачыстага сьвяткаваньня 100-годзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці БНР беларусамі Атавы — 11 сакавіка 2018 г., Цэнтральны будынак Канадыйскага Парламента. Commons Reading Room, Parliament Hill // Культура, Нацыя. № 21. Сакавік 2018. С. 16—46.

з Атавы былі ўзнагароджаныя дыплёмамі Беларускага інстытуту навукі й мастацтва (Канада) за разьвіцьцё беларускай культуры[16].

Хацелася б верыць, што беларуская прысутнасьць у Канадзе будзе заўважная як на радзіме, гэтак і ва ўсім сьвеце. Беларусы Атавы былі прадстаўленыя на Сустрэчах беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якія традыцыйна праходзяць раз на два гады (Кліўлэнд — 2000 г.; Нью-Бранськ — 2002 г.; Таронта — 2004 г.; Кліўлэнд — 2008 г.; Таронта — 2012 г.; Атава — 2016 г.). У склад Вялікай рады Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" ад Атавы (Канада) уваходзяць Івонка Сурвілла й Пётра Мурзёнак. Па меры магчымасьцяў беларусы Атавы аказваюць і матэрыяльную падтрымку актывістам і арганізацыям у Беларусі: напрыклад, на патрэбы абаронцаў Курапатаў (2006 г.), на правядзеньне VII Зьезду беларусаў сьвету (2017 г.), на выданьне кніг.

Мы добра разумеем, што вырашыць праблемы ў Беларусі могуць толькі самі беларусы, якія там жывуць, аднак, на нашую думку, тая, нават невялікая падтрымка, якую мы дэманструем, таксама працуе на адбудову новай Беларусі. Не хацелася б перабольшваць наш унёсак у нацыянальнае будаўніцтва на радзіме, але не адзначыць тое, што робіцца ў Канадзе, было б несправядліва ў дачыненьні да нашых людзей. Як далей будзе працягвацца жыцьцё беларускага асяродку ў Атаве, пакажа час. Аднак думаецца, што яно будзе беларускае па духу, такім, як гэта адчуваюць людзі, што пакінулі радзіму, любоў да якой яны носяць у сваіх сэрцах.

[16] Сьвяткаваньне 101-й гадавіны абвяшчэньня БНР у Атаве // Культура, Нацыя. № 23. Красавік 2019. С. 80—86.

*Тэма нумару: “О, Канада!”*
*Архівалії й публікацыі*

***Валянціна Шаўчэнка***
*Таронта*

# ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ (2009—2014)

Шчыра кажучы, я доўга не магла пачаць напісаньне гэтага артыкулу. За пяць гадоў майго старшынства ў Згуртаваньні беларусаў Канады адбылося нямала вельмі добрых падзеяў, якія прынесьлі шмат задавальненьня й нават шчасьця, але ж былі таксама такія, што нават зараз, праз шмат гадоў, балюча адбіваюцца ў сэрцы. А потым зразумела, што калі напішу аб усім шчыра — яно адпусьціць, ня будзе больш мучыць, і я пачала пісаць...

Мой шлях да старшынства ў ЗБК пачаўся ў канцы сакавіка 1998 г., менш чым празь месяц жыцьця ў Канадзе. У той дзень адбывалася сьвяткаваньне Дня Волі, куды нас і запрасіў тагачасны старшыня ЗБК спадар Мікола Ганько. Кантакты зь беларусамі Канады мы атрымалі ад сябра, які разам з намі браў удзел амаль ва ўсіх апазыцыйных дэманстрацыях і мітынгах. Мой муж Юрка нават адсядзеў колькі сутак за ўдзел у сьвяткаваньні Дня Волі — 1997, таму мы з радасьцю й хваляваньнем прынялі запрашэньне спадара Ганько. Нашая малодшая дачка Аляксандра вывучыла беларускі верш, і ў нядзелю мы апынуліся сярод сваіх, сустрэліся з уладыкам Мікалаем, Івонкай Сурвіллай, спадарствам Ганькоў, Арсенам Монідам, Раісай Жук-Грышкевіч і іншымі славутымі дзеячамі Беларускай Канады. Мяне ўразіла іх адданасьць беларускай справе, веданьне сучаснай сытуацыі ў Беларусі, беларуская мова, якой мы ў той час валодалі значна горш, чым яны, пражыўшы большасьць свайго жыцьця ў эміграцыі. З таго часу гэтыя людзі засталіся для мяне прыкладам самаахвярнага й бескарысьлівага служэньня Бацькаўшчыне, якое мы мусілі пераняць.

Менавіта гэтае пачуцьцё кіравала мной, калі ў 2009 г. я вырашыла балатавацца на пасаду старшыні Згуртаваньня беларусаў Канады. Да таго часу мы ўсёй сям’ёй вельмі актыўна ўдзельнічалі ў грамадзкім жыцьці, я й мой муж Юрка неаднаразова абіраліся ў склад Галоўнай управы, цягам некалькіх гадоў я была скарбнікам ЗБК. Было цікава, але ж і трывожна, бо адчувала вялікую адказнасьць. 13 снежня 2009 г. адбыўся 42-і Зьезд Згуртаваньня беларусаў Канады. Было прапанавана 5 кандыдытаў, зь якіх 3 зьнялі свае кандыдытуры, і засталіся Алесь Кот

і Валянціна Шаўчэнка. І вось тут здарылася вельмі цікавая рэч: спадар Кот прапанаваў правесьці таемнае галасаваньне, матывуючы гэта тым, што людзі будуць баяцца адкрыта галасаваць. Мне было дзіўна, я не разумела, як можна баяцца свайго меркаваньня, але ж зьезд вырашыў галасаваць таемна. Вынік: за Валянціну Шаўчэнку — 24 галасы, за Алеся Ката — 5.

Вось гэтак абсалютна дэмакратычна я была абраная старшынёй ЗБК на два гады, а потым, у 2011 г., ужо амаль што аднагалосна (адзін голас супраць і адзін устрымаўся) і адкрытым галасаваньнем — на наступныя 3 гады. Разам са старшынёй была абраная Ўправа ЗБК — тая каманда, якая будзе працаваць на працягу наступных двух гадоў, ад якой залежыць, ці будзе дзейнасьць арганізацыі эфэктыўнай і прывабнай для ўсіх беларусаў Канады. Я была ўпэўненая, што ЗБК — абсалютна незалежная грамадзкая арганізацыя, чынным сябрам якой можа стаць толькі той, хто стаіць на грунце 25 Сакавіка (беларускай дзяржаўнасьці), і галоўнымі прынцыпамі якой, паводле Статуту, ёсьць захаваньне й культываваньне беларускай нацыянальна-культурнай спадчыны, гуртаваньне, дапамога й абарона інтарэсаў беларусаў у Канадзе і ў сьвеце. Для мяне гэта азначала, што Беларусь мусіць быць незалежнай, што разьвіцьцё й захаваньне беларускай мовы, сапраўдная гісторыя й нацыянальная культура мусяць быць з галоўнымі кірункамі дзяржаўнай палітыкі й нашая мэта — падтрымліваць тых, хто змагаецца за гэта на Бацькаўчшыне, дапамагаць маральна й матэрыяльна.

Вось з такім настроем і пачалася мая праца на пасадзе старшыні ЗБК. Пералічэньне таго, што было зроблена, зойме шмат часу. Гэта й традыцыйныя сьвяткаваньні Новага Году ў Беларускім цэнтры — трэба сказаць, што гэтыя імпрэзы адымалі шмат сілаў і часу, але ж і прыносілі галоўны прыбытак ў касу ЗБК, бо нават арганізатары, якія займаліся падрыхтоўкай, куплялі квіткі, і гэта здавалася абсалютна правільным. Да Новага Году ставіліся гумарыстычныя спэктаклі, канцэрты, заўсёды была дыскатэка, у якой вялікую частку займалі творы беларускіх музыкаў. Часам прыходзілася спрачацца, каб расейская папса не гучала ў нашай залі, бо да нас прыходзілі розныя людзі, але ж мы заўсёды маглі пераканаць публіку й настаяць на сваёй, беларускай дыскатэцы. Гэта й калядныя ялінкі для дзяцей, Восеньскія балі, пілігрымкі ў Мідлэнд да Беларускага крыжа й Купальле, якое цяпер ператварылася ў беларускі фэстываль (у ім бярэ ўдзел больш за паўтары сотні людзей). Гэта й адзначэньне ўгодкаў Слуцкага збройнага чыну й Грунвальдзкай бітвы, на адным зь якіх адбылася сустрэча паэта Сяргея Панізьніка з бардам Сержуком Сокалавым-Воюшам ды высьветлілася, што яны апошні раз сустракаліся ў Беларусі шмат гадоў таму. Сустрэча ў Таронта была прыемным сюрпрызам для нашых выдатных паэтаў. Ганаруся, што мы адрадзілі традыцыю літаратурных вечарынаў, якія ператварыліся ў сьвяты беларускай лірыкі, у якіх зь вялікім задавальненьнем бралі

ўдзел шматлікія беларусы Таронта, прыяжджалі й госьці з Атавы. Мы стварылі традыцыю адкрытага мікрафону, і акрамя заплянаваных удзельнікаў кожны жадаючы мог прачытаць вершы, прасьпяваць песьню ці нават станьчыць. Гэта й імрэзы, прысьвечаныя юбілеям знакамітых беларусаў, сустрэчы зь цікавымі людзьмі, наведваньне старэйшых сябраў арганізацыі, якія ня мелі магчымасьці прыехаць на імпрэзы, але цікавіліся беларускім жыцьцём і з падзякай прымалі нас у сваіх хатах.




Сьвяткаваньне 600-годзьдзя Грунвальдзкай бітвы. Сустрэча Сержука Сокалава-Воюша й Сяргея Панізьніка. Таронта, 18 ліпеня 2010 г.

Мы шукалі новыя шляхі правядзеньня Дня Волі, бо мне здавалася, што час дакладаў ужо адышоў і трэба шукаць новыя, сучасныя формы. І мы іх знаходзілі. У 2010 г. Дзень Волі ўпершыню прайшоў у рэжыме скайп-канфэрэнцыі — на сувязі былі Атава, Менск, Прага, Нью-Ёрк, нават Хведар Нюнька зь Вільні далучыўся да нас! У 2011 г. мы адсьвяткавалі Дзень Волі каля мэрыі Таронта, у 2012 г. узьнялі наш бел-чырвона-белы сьцяг на галоўнай тэлевізійнай вежы гораду на знак падтрымкі Сяргея Кавалёва, які пацярпеў за тое, што ўмацаваў нацыянальны сьцяг на каляднай ялінцы. У 2013 г. у Беларусь былі дасланыя паштоўкі палітвязьням, у капэрты з паштоўкамі мы ўклалі Птушак волі, якія былі зроблены ўдзельнікамі гуртка “Гузік”, у 2014 г. прайшла віктарына “Ці ведаеш ты гісторыю БНР?”. Такія нефармальныя імпрэзы зацікаўлівалі людзей, менавіта у гэты час да нас далучылася шмат моладзі.

Было зроблена шмат “папяровых”, але ж вельмі важных справаў. Менавіта ў часе майго старшынства ў ЗБК былі падрыхтаваныя й на 43-м зьезде прынятыя папраўкі ў Статут. Папраўкі дэмакратычныя й даўно ўжо патрэбныя. Па-першае, быў павялічаны тэрмін паміж правядзеньнем зьездаў з двух да трох гадоў. Па-другое, сябра ЗБК ужо ня мог зай-

мацьпасаду старшыні два тэрміны запар. І па-трэцяе, сябры Галоўнай управы атрымалі афіцыйнае права ўдзельнічаць у паседжаньнях праз тэлеканфэрэнцыі.

Мы працягвалі традыцыю палітычнай дзейнасьці ЗБК. Беларусы Канады выходзілі на плошчы й вуліцы Таронта й Атавы на мітынгі салідарнасьці з *“акцыямі маўклівага пратэсту”* ў Беларусі, бралі ўдзел у шматнацыянальных мітынгах у падтрымку Ўкраіны, ладзілі пікеты каля амбасады Рэспублікі Беларусь у Атаве супраць фальсыфікацыі выбараў, арганізавалі пікет каля Залі хакейнай славы супраць чэмпіянату сьвету па хакеі ў Менску. Кожная значная падзея на Бацькаўшчыне была азначана акцыяй, імпрэзай ці пікетам.



Сьвяткаваньне Дня Волі
каля мэрыі Таронта. 2011 г.

Калі ў сьнежні 2010 г. у турмах апынуліся сотні людзей за тое, што выйшлі на галоўную плошчу ў Менску, каб пратэставаць супраць фальсыфікацыі вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў, была складзеная пэтыцыя, якую падпісалі больш за 200 беларусаў і канадыйцаў. Гэты зварот з подпісамі быў дасланы ў Офіс Найвышэйшага камісара па правах чалавека ААН (*Office of the United Nations High Commissioner for Human Rights — OHCHR*), Эўрапейскі суд па правах чалавека (*European Court of Human Rights*) і Раду Эўропы (*Council of Europe*). Таксама ЗБК зьвярнулася да канадыйскага ўраду з нотай пратэсту з заклікам падтрымаць дэмакратычную апазыцыю ў Беларусі й да консула Беларусі ў Атаве з нотай пратэсту. Мы падтрымлівалі палітвязьняў паштоўкамі на Каляды й Дзень Волі, і нам адказвалі — Зьміцер Дашкевіч, Мікола Статкевіч, Павал Севярынец. Тыя лісты, адрасаваныя асабіста да мяне, я захоўваю ў сваіх архівах як рэліквію. Калі я даслала лісты да кіраўніцтва калёніяў з патрабаваньнем палепшыць умовы ўтрыманьня зьняволенных, я нават атрымала афіцыйны адказ ад начальніка калёніі № 10. Ён быў вельмі фармальны, але ж напісаны па-беларуску, і гэта вельмі мяне зьдзівіла й адначасова ўзрадавала.

Трэба сказаць, што ў грамадзкім жыцьці часам здараюцца й вельмі непрыемныя рэчы. На жаль, у 2009 г. у Беларуска-Амэрыканскім задзіночаньні (БАЗА) адбыўся канфлікт — гэта вельмі цяжкая й супярэчлівая тэма. Калі на пачатку 2010 г. у Згуртаваньне беларусаў Канады пачалі прыходзіць запрашэньні прыехаць у штат Нью-Джэрзі

на 29-ю Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі, прычым у палове зь іх месцам правядзеньня называўся Нью-Брансьвік, а ў другой палове — Саўт-Рывэр, перад Галоўнай управай ЗБК паўстала дылема: каго падтрымаць? Напачатку мы шчыра спрабавалі разабрацца ў сытуацыі. У той час вялікі ўплыў на мне зрабіла пазыцыя Віялеты Кавалёвай, якая заўсёды магла знайсьці паразуменьне ў канфліктных сытуацыях, таму я давярала яе меркаваньню. Мы гадзінамі размаўлялі з прадстаўнікамі абодвух бакоў, абмяркоўвалі дасыланыя імі дакумэнты й лісты, але чым далей заглыбляліся ў тэму, тым больш заблытанай яна выяўлялася.

20 чэрвеня большасьць Галоўнай управы выказалася супраць удзелу ў Сустрэчы, арганізаванай у Саўт-Рывэры, а ўрэшце абсалютна дэмакратычна пасьля шматлікіх абмеркаваньняў і галасаваньняў 29 ліпеня 2010 г. Галоўная ўправа ЗБК прыняла рашэньне афіцыйна не падтрымліваць ніякі з бакоў канфлікту й ня браць фармальнага ўдзелу ў арганізацыі ніводнай з Сустрэчаў, але заахвочваць тых канадыйскіх беларусаў, хто вырашыць паехаць, наведаць, хоць бы й кароткачасова, і спатканьне ў Саўт-Рывэры, і імпрэзу ў Нью-Брансьвіку. Такое рашэньне Ўправы прыйшлося недаспадобы арганізатарам абодвух мерапрыемстваў. На нас пачаўся ціск, мяне пачалі атакаваць лістамі й тэлефоннымі званкамі, у катэгарычнай форме патрабуючы ад Управы прызнаць “адзіна законнай” і “адзіна легітымнай” тую Сустрэчу, якая мелася адбыцца ў Саўт-Рывэры. Кожны бок абвінавачваў мяне ў тым, што я знахожуся пад уплывам “варожага” боку. Тым ня менш, пазыцыя большасьці сябраў Галоўнай управы засталася ранейшай: перш чым апэляваць да падтрымкі ЗБК, амэрыканскія беларусы павінны вырашыць свае ўнутрыарганізацыйныя праблемы, правесьці нечарговы сход і выбраць кіраўніцтва, легітымнасьць якога ня будзе ставіцца пад сумнеў ніводным чальцом БАЗА. Тыя, хто галасаваў супраць удзелу ЗБК у Сустрэчы, матывавалі сваю пазыцыю тым, што не хацелі нажываць ворагаў сярод беларусаў найбліжэйшай да нас краіны. Многія з канадыйскіх беларусаў мелі сяброў сярод амэрыканскіх суайчыньнікаў, якія тады апынуліся ў апазыцыі адзін да аднаго, і таму мы перажывалі раскол у БАЗА як асабістую драму. Мы шчыра верылі, што і ў Саўт-Рывэры, і ў Нью-Брансьвіку сабраліся выдатныя людзі, беларускія патрыёты й яны змогуць праз непрацяглы час пераадолець канфлікт і прыйсьці да паразуменьня ды зноў аб’яднацца ў адной арганізацыі.

Але ж рашэньне большасьці Ўправы ЗБК было праігнаравана яе сябрам, сябрам Рады БНР Алесем Катом, які выступіў на Сустрэчы ў Саўт-Рывэры ад імя Згуртаваньня беларусаў Канады, тым самым яшчэ больш распаляючы канфлікт і пераносячы яго ўжо на канадыйскую зямлю. Потым было паседжаньне Галоўнай управы, пратакол якога ня вёўся, таму што паўстала пытаньне сяброўства спадара Ката ў арганізацыі пасьля парушэньня ім рашэньня кіруючага воргана ЗБК. Але ж я была пад уплывам думкі, што асноўная мэта беларусаў замеж-

жа — не разьядноўваць, а аб'ядноўваць людзей, што нельга паўтараць памылак, якія зрабілі амэрыканскія беларусы, таму ніякіх наступстваў гэтае здарэньне як быццам ня мела. Толькі праз нейкі час я зразумела, што наступствы былі, але ж аб гэтым пазьней.

На чарговым зьезде ЗБК у 2011 г. мяне зноў абралі старшынёй арганізацыі, як я ўжо пісала раней, амаль аднагалосна. Калі спадар Кот быў абраны старшынём Нагляднай рады, я папрасіла зьезд абараніць мяне ад бюракратычных і асабістых атакаў з боку новага старшыні, бо добра ведала дэструктыўны, на мой погляд, стыль працы гэтага чалавека, калі вельмі шмат часу траціцца на дробязныя зачэпкі й абмеркаваньне неістотных дэталяў. Я атрымала гарантыю ад сяброў Нагляднай рады, што ніякога канфлікту паміж Галоўнай управай і Нагляднай радай ня будзе.

Ужо тады на зьезьдзе я заўважыла, што галоўным мерапрыемствам на наступны справаздачны пэрыяд будзе Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Мне здавалася, што адзінае выйсьце пасьля сумных падзеяў, зьвязанных з 29-й Сустрэчай беларусаў Паўночнай Амэрыкі, — гэта правесьці 30-ю Сустрэчу ў Таронта. 26 лютага 2012 г. я прапанавала гэта на паседжаньні Галоўнай управы, якая аднагалосна мяне падтрымала. Узяўшы на сабе адказнасьць за правядзеньне Сустрэчы, я разумела, што наперадзе шмат працы, што перш за ўсё гэта праца ляжа на мае плечы, але ж вельмі хацелася, каб у Таронта прыехалі нашыя амэрыканскія суайчыньнікі, каб яны ў сяброўскім асяродзьдзі палагодзілі свае ўзаемаадносіны й здолелі застацца разам. На жаль, гэтага не адбылося, на сустрэчу прыехалі прадстаўнікі толькі аднаго, саўт-рывэрскага боку канфлікту, хоць я неаднаразова запрашала й іх апанэнтаў. Мы зрабілі



30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі:
Зянон Пазьняк, Тацьцяна Каляда, Івонка Сурвілла, Валянціна й Юрка Шаўчэнкі. Таронта, 1 верасьня 2012 г.

ўсё, што было ў нашых сілах, каб Сустрэча прайшла як мага лепей. Увесь жнівень перад ёй мы кожны дзень прыяжджалі ў Беларускі цэнтар, бо трэба было падрамантаваць і ўпрыгожыць залю, падрыхтаваць культурную праграму, прыгатаваць ежу й зрабіць шмат дробязяў, пра якія ведае толькі той, хто рабіў такія імпрэзы. Дарэчы, у рамках Сустрэчы прайшла прэм'ера спэктаклю "То-то-то", прэзэнтаваная музычна-літаратурная кампазыцыя з удзелам дуэту "Кантабіле" й паэтаў Юрася Шамецькі ды Пётры Мурзёнка з Атавы.

Галоўнай управе дапамагала шмат людзей, гэта быў незабыўны й вясёлы час, мы ўсе былі аб'яднаныя адной мэтай — правесьці 30-ю Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта цікава й сучасна. Успамінаецца вельмі сьмешны выпадак. Мы шылі вялікія дэкарацыі для спэктаклю, расклаўшы тканіну на падлозе, было горача, я на хвіліну прылягла й правалілася ў лёгкі сон. Прачнулася ад таго, што хтосьці з моладзі перад маім тварам махае плакатам з надпісам "Жыве Беларусь" — яны падумалі, што я страціла прытомнасьць. З водгукам "Жыве!" я паднялася й пад сьмех навакольных працягнула шыць. Мы сьпявалі разам, рэпэтыравалі, пілі гарбату, размаўлялі пра Беларусь. Аднойчы Натальля Колас прыйшла абсалютна хворая й не пагаджалася сысьці адпачыць. У другі дзень адзін з старэйшых асобаў беларускай суполкі Лявон дапамагаў нам гатаваць "патычкі" й доўга нам расказваў пра свой лёс. Віялета Кавалёва няспынна вучыла нас новым песьням, Юрка Шаўчэнка ўвесь час штосьці прыкручваў, рамантаваў — мы жартавалі, што ён замінае нашаму творчаму працэсу. Адным словам, каманда працавала як адзіны вельмі адладжаны мэханізм, і гэта прыцягвала людзей, шмат хто зь іх прыходзіў, можа, і адзін раз, але ж разам мы здолелі правесьці 30-ю Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі даволі прыстойна. Трэба сказаць, што ў час 31-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, у 2014 г., на даручэньне старшыні Атаўскага аддзелу ЗБК Пётры Мурзёнка я мела гонар зноў запрасіць суайчыньнікаў у Канаду, гэтым разам у Атаву. Аб гэтай падзеі трэба пісаць асобна, для мяне Сустрэча ў Атаве была самай запамінальнай і цікавай, арганізаванай Атаўскім аддзелам на самым высокім узроўні.

А цяпер хачу распавесьці аб справе, якой я асабіста ганаруся, — гэта адраджэньне Беларускага крыжа ў Прошчы Сьвятых Пакутнікаў, што знаходзіцца ў Мідлэндзе, невялікім горадзе недалёка ад Таронта. Першы Крыж быў усталяваны да 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі, адкрыцьцё й асьвячэньне яго адбылося ў верасьні 1988 г. у часе 18-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Крыж быў усталяваны намаганьнямі Раісы й Вінцэнта Жук-Грышкевічаў, якія арганізавалі збор сродкаў, дамовіліся з кіраўніцтвам Прошчы й замовілі Крыж будаўнічай кампаніі. Усталяваньне Крыжа каштавала каля 7 тысячаў даляраў, што на той час былі даволі вялікія грошы. Ён быў зроблены з дрэва й пакрыты плястыкавай плёнкай. Але ж за 25 гадоў дрэва пад

пластыкам абсалютна струхлела. Гэта стала зразумела, калі мы ў сярэдзіне жніўня 2013 г. прыехалі зь сябрамі, каб аднавіць фарбу, і кіраўніцтва Прошчы заўважыла, што Крыж немагчыма трымаць у такім стане. Мы апынуліся перад цяжкім выбарам: аднавіць Крыж было немагчыма, астаўляць, як ёсьць, таксама нельга. Я разгубілася й ня ведала, што рабіць.


Усталяваньне й асьвячэньне Крыжа ў Мідлэндзе: сьвятары айцец Яўген, уладыка Вячаслаў і майстар Юрка Шаўчэнка. 27 верасьня 2013 г.

Дапамога прыйшла з боку майго мужа Юркі Шаўчэнкі, які ўзяўся ў кароткі тэрмін зрабіць новы Крыж сваімі рукамі. Ужо на наступны дзень, у нядзелю, я распавядала Руслану Качаткову аб тым, што Крыж прыйшлося зьнясьці, што зараз трэба тэрмінова шукаць грошы, бо гэта будзе не рэстаўрацыя, а ўзьвядзеньне абсалютна новага Крыжа. Руслан Качаткоў адразу, ні хвіліны ня думаючы, ахвяраваў тысячу даляраў. Разам з ахвяраваньнямі, якія былі сабраныя раней на рэстаўрацыю, гэтых грошаў мусіла хапіць, таму што патрабаваліся яны толькі на матэрыялы й арэнду грузавіка — уся іншая праца была добраахвотная. Мы распаўсюдзілі ліст з просьбай дапамагчы. Адгукнуўся Андрэй Бабко й прывёз той інструмэнт, якога не хапала ў Юркі, даў некалькі парадаў. Кіраўніцтва Прошчы настойвала на тым, што новы Крыж мусіць быць з дрэва, каб не парушаць экалягічную й архітэктурную канцэпцыю гэтага сьвятога месца. Нейкі час пайшоў на тое, каб знайсьці падыходзячы матэрыял, і неўзабаве Юрка пачаў майстраваць Крыж — па выходных, па вечарах. 27 верасьня 2013 г., у дзень Узьвіжаньня Крыжа Госпадня, новы Крыж быў усталяваны рукамі беларускай грамады й асьвечаны сьвятарамі. Гэта было вялікае сьвята, на якое сабралося шмат людзей, і я спадзяюся на тое, што Крыж, створаны рукамі Юркі Шаўчэнкі й пастаўлены нашай хваляй эміграцыі на месцы старога, усталяванага нашымі папярэднікамі, стане пачаткам новай традыцыі: праз 20—25 гадоў зноў знойдзецца майстра, які зробіць новы Крыж і Беларусь будзе жыць у Канадзе!

У 2013 г. мы разам з Таронтаўскім аддзелам адсьвяткавалі 65-годзьдзе Згуртаваньня беларусаў Канады. Я доўга думала аб тым, як зрабіць гэтае сьвята нефармальным, і вырашыла стварыць прэзэнтацыю на падставе архіўных дакумэнтаў, якія нам зь Юркам перадала Марыя




Сьвяткаваньне 65-годзьдзя ЗБК. Былыя старшыні арганізацыі:
Пётра Мурзёнак, Надзея Дробіна, Зьміцер Эльяшэвіч
і тагачасны старшыня Валянціна Шаўчэнка (другая справа)

Ганько. Прээнтацыю, у якую ўвайшлі слайды зь першымі заявамі ў ЗБК, пратаколамі й іншымі цікавымі дакумэнтамі, здымкі з жыцьця беларусаў паваеннай эміграцыі, партрэты усіх старшыняў з гадамі кадэнцыі й аповед, што было імі зроблена, відэазапісы тады яшчэ жывых Марыі Ганько й Вольгі Грыцук зь віншаваньнямі і ўспамінамі — усё гэта заля прыняла з пачуцьцём удзячнасьці да тых, хто стварыў ЗБК, хто на працягу гадоў будаваў тое, што мы прынялі ў спадчыну. Трэба сказаць, што на падставе гэтай прээнтацыі ў 2018 г. я зрабіла відэастужку да 70-годзьдзя ЗБК, і цяпер яе можна пабачыць у інтэрнэце[1].

Вядома, што чалавек, якім бы актыўным ён ні быў, ня ў стане працаваць адзін. Галоўнае ў жыцьці арганізацыі — гэта каманда аднадумцаў, якія паважаюць меркаваньні адзін аднаго, якія ня толькі падтрымаюць, дапамогуць, возьмуць на сябе адказнасьць за вялікія кавалкі працы, але ж і канструктыўна пакрытыкуюць, паспрачаюцца дзеля агульнай справы. І мне пашчасьціла, што на працягу 5 гадоў я адчувала, што гэтая каманда існуе й дзейнічае. Гэта Віялета Кавалёва, Натальля Колас, Вольга Манькоўская, Руслан Качаткоў, Надзея Дробіна, Каця Ўсовіч, Піліп Тананка, Ігар Фялюшкін, Юрка Шаўчэнка, Пётра Мурзёнак, Натальля Баркар, Тацьцяна Каляда, з новай хвалі эміграцыі гэта Алена Лявончанка, Ірына Тоўсьцік, Аляксандар Бычынскі, Зьміцер Леановіч. У той час я мела абсалютную падтрымку гэтых людзей. У тыя ж гады наладзіліся вельмі добрыя й сяброўскія стасункі з Атаўскім аддзелам ЗБК: мы прыяжджалі адзін да аднаго на сьвяткаваньні Дня Волі, канцэрты й іншыя

[1] https://www.youtube.com/watch?v=XLE7RR96oDk&feature=youtu.be.

імпрэзы, актыўна абменьваліся інфармацыяй, ідэямі й думкамі, вэбстаронка ЗБК падтрымлівалася Атаўскім аддзелам і добра абнаўлялася.

Я разумею, што ня ўсё было так гладка, як я пішу, але ж добрая памяць жыве даўжэй, чым крыўда. Часам я магла пакрыўдзіць кагосьці, нават не заўважыўшы, часам сама крыўдзілася. На жаль, не атрымалася зарэгістраваць ЗБК, адзначыць усе памятныя даты, шмат плянаў так і засталіся плянамі. Не заўсёды хапала часу на паперы, на больш грунтоўнае вядзеньне пратаколаў. Мне бракавала досьведу грамадзкай працы, але ж здавалася, што калі робіш працу шчыра, то людзі гэта адчуюць.

Менавіта з такім настроем я рыхтавалася да 44-га зьезду Згуртаваньня беларусаў Канады. Ён адбыўся 9 лістапада 2014 г. І вось тады я зразумела, чаму сябра БНР Алесь Кот так хацеў атрымаць пасаду старшыні Наглядная рады. З першых жа слоў сваёй справаздачы ён перакрэсьліў рашэньне 43-га зьезду, сказаўшы, што, на яго меркаваньне, справаздача Наглядная рады за 2009—2011 гг., якую ўхваліў і прыняў той зьезд, была недасканалая, таму ён вырашыў зрабіць справаздачу за ўсе 5 гадоў дзейнасьці Галоўнай управы ЗБК. Я даўно заўважыла, што тыя, хто хлусіць, заўсёды спрабуюць кампэнсаваць сваю выяўную няпраўду фарсаванай гучнасьцю і ўзбуджанасьцю інтанацыі. Чым менш сэнсу, тым гучней і агрэсіўней. Чым менш адчуваньня ўласнай рацыі, тым больш напору й ціску. Прагучалі абсалютна неабгрунтаваныя абвінавачаньні. Галоўную ўправу абвінавацілі ў тым, што Наглядная радзе не прадстаўляліся пратаколы ці яны былі сфальсіфікаваны; што ўправа не інфармавала сябраў ЗБК аб дзейнасьці арганізацыі; сакратар Віялета Кавалёва, якая сталася абранаю на гэтую пасаду на прапанову Валянціны Шаўчэнкі, са сваёю працаю не спраўлялася; сайт ЗБК практычна спыніў сваё функцыянаваньне; часта мела месца ўжываньне ангельскае



Віншаваньне Марыі Ганько (у цэнтры) з Днём Волі. 25 сакавіка 2013 г.

мовы ў карэспандэнцыі Галоўнай управы; неаднаразова ў залі нашага Беларускага грамадзка-рэлігійнага цэнтру заўважаліся выпадкі ўжываньня расейскае мовы з боку сябраў ГУ; у агульным пляне праца на аб'екце "Беларускі Крыж" выканана на аматарскім узроўні з магчымымі нэгатыўнымі наступствамі, ён можа ўпасьці праз дзесяць гадоў, праз восемь ці праз колькі — ніхто ня ведае, прафэсійнага абсьледаваньня аб'екту з мэтаю папярэдняй ацэнкі магчымых варыянтаў выкананьня працы й прыблізных выдаткаў у кожным выпадку не праводзілася; у 2010 г. па ініцыятыве старшыні ГУ Валянціны Шаўчэнкі й сакратара ГУ Віялеты Кавалёвай адбылася спроба байкоту 29-е Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Саўт-Рывэры; непрыемным момантам сталася адмова ГУ ў 2011 г. адзначыць 20-я ўгодкі аднаўленьня незалежнасьці Беларусі; двойчы рашэньне аб правядзеньні Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Канадзе прымалася старшынёю ўправы асабіста, без паведамленьня ГУ; з боку старшыні ГУ мелі месца выпадкі праяваў гэткага панібрацтва ў адносінах да паважаных афіцыйных асобаў — у ангельскай карэспандэнцыі да афіцыйных асобаў зьвярталася са словамі *Hi* замест *Mister*. Усё пералічваць ня буду, высновы справаздачы былі наступныя: у сваёй бальшыні праблемы, спароджаныя недахопам досьведу ў галіне кіраваньня калектывам з боку старшыні ГУ й яе асабістымі якасьцямі; рашэньні, іншым разам нават заведама шкодныя, прымаліся ўправаю безумоўна толькі таму, што ініцыятарам іх выступала Валянціна Шаўчэнка.

Трэба адзначыць, што гэтую справаздачу падпісаў толькі спадар Кот, астатнія тры сябры Рады яе не падпісалі — яны нават не былі зь ёй азнаёмленыя. Кожны пункт гэтага тэксту можна было аспрэчыць, у кожным слове заўважалася асабістая нецярплівасьць да мяне. Мне здавалася, што адзінае, у чым мяне не абвінаваціў спадар Кот, — гэта што я прарывала канал з Бамбею ў Лёндан. Ужо потым, праглядаючы відэазапіс зьезду, я ўбачыла, што людзі разгубіліся, але ж шмат хто зь іх выступіў у маю падтрымку. Мяне, нягледзячы на ўсю крытыку, зноў абралі скарбнікам — я ўжо была старшынёй дзьве кадэнцыі й больш ужо не магла балятавацца на гэтую пасаду згодна з новымі папраўкамі ў Статут, і гэта азначала, што людзі мне давяралі. Сябра Нагляднай рады Натальля Баркар выступіла з заўвагай, што яна не падтрымлівае справаздачу й прапанавала дадаць свае папраўкі, якія будуць дасланыя Галоўнай управе пасьля зьезду. Толькі потым я зразумела, што трэба было выступіць з прапановай не прымаць справаздачу, бо гэта было прыватнае меркаваньне аднаго чалавека, заснаванае на асабістай крыўдзе. Але ж, як кажуць, кулакамі пасьля бойкі ня машуць, і зьезд прыняў справаздачу Нагляднай рады з умовай, што папраўкі Натальлі Баркар будуць улічаныя. Пасьля зьезду намаганьнямі наступнага старшыні ЗБК Зьмітра Эльяшэвіча гэтыя папраўкі ніколі не былі ўключаны ў афіцыйныя дакумэнты. Згаданае пытаньне шмат разоў падымалася,



Наведваньне Вольгі Грыцук з нагоды яе 90-годзьдзя: Валянціна Шаўчэнка, Віялета Кавалёва, Юльяна Грыцук, Натальля Колас, Юрка Шаўчэнка. Кінгстан, 2013 г.

але ж нават ня ставілася на галасаваньне, таму што спадар Эльяшэвіч ня бачыў гэта мэтазгодным. Амаль што кожнае паседжаньне Галоўнай управы ЗБК сканчалася канфліктамі, удзел у якіх не даваў спаць па начах, сьвідраваў галаву. Пасьля прыйшло разуменьне, што камусьці вельмі замінала мая актыўнасьць, асабліва палітычная.

У мяне апусьціліся рукі, займацца грамадзкай працай было цяжка. Але я нават нейкім чынам удзячная лёсу за тое, што адбылося. Па-першае, я ўпэўнілася, што ў жыцьці, асабліва грамадзкім, той, хто штосьці робіць, — заўсёды падвяргаецца крытыцы з боку таго, хто амаль нічога ня робіць. Таму гэтая крытыка, тым больш такая беспадстаўная й неканструктыўная, — знак таго, што праца была зробленая добра.

Па-другое, у жыцьці ўсё збалансавана, і таму калі зачыняецца адно вакно, адразу адчыняецца іншае. У мяне зьявіўся вольны час займацца творчасьцю, сваімі асабістымі музычнымі й тэатральнымі праектамі. Адным з вынікаў стала пастаноўка спэктаклю, аб якім я ўжо даўно марыла, — “Вуліца Геніюш” — пра лёс нашай *“самай беларускай паэткі”* Ларысы Геніюш, але ж гэта зусім іншая гісторыя, якая заслугоўвае асобнага артыкулу. Я шчасьлівая тым, што ў маім жыцьці былі 5 гадоў старшынства ў ЗБК і шматлікія гады самаадданай працы на карысьць Бацькаўшчыне ў складзе Галоўнай управы ЗБК. Ганаруся памятным мэдалём да стагодзьдзя БНР — гэта й ёсьць ацэнка дзейнасьці маёй і Галоўнай управы ЗБК пад маім кіраўніцтвам. І нічога ня можа гэтага шчасьця сапсаваць ці перакрэсьліць, тым больш што наперадзе яшчэ шмат плянаў і праектаў. Жыцьцё працягваецца, і ў гэтым жыцьці заўсёды жыве Беларусь!

*Тэма нумару: “О, Канада!”*
*Архівалії й публікацыі*

***Віялета Кавалёва***
*Таронта*

# МАЕ ДАРАГІЯ “ЯВАРОВЫ ЛЮДЗІ”

Калі мы сьпяваем народныя песьні, аб’ядноўваюцца дзьве магіі — магія фальклёру й магія супольных сьпеваў.

Словамі гэта растлумачыць цяжка, трэба адчуць самому. Калі твой і іншыя галасы зьліваюцца, пераплятаюцца, узмацняюць адзін аднаго, спараджаюць дадатковыя прыгукі, якія нібыта ніхто й не сьпявае, а яны ўсё адно гучаць, — тады ўтвараецца магутная хваля сьпеву, якая агортвае цябе з усіх бакоў, і кожная клетачка твайго цела сама сабой прыходзіць у гармонію з гэтым гукам. Потым зьнікае адчуваньне часу, простыя мелодыі народнай песьні (напевы, якія часам складаюцца літаральна з трох нотаў!) набываюць аб’ём і сэнс, і нараджаецца адзінае жаданьне — каб гэтае чараўніцтва працягвалася як мага даўжэй...

Шмат разоў, калі да нас прыяжджалі госьці зь Беларусі, прыходзілі ў Беларускі цэнтар Таронта й бачылі рэпэтыцыі “Яваровых людзей”, даводзілася чуць ад іх, што такую атмасфэру беларушчыны ў спалучэньні з творчасьцю яны рэдка сустракалі й на Бацькаўшчыне. Часам яны нават кажуць: вам тут лягчэй быць беларусамі, чым дома! Што й праўда, між іншым. У Канадзе, дзе мультыкультуралізм падтрымліваецца на дзяржаўным узроўні, сапраўды вельмі лёгка быць самім сабой. Калі іншыя народы, якія складаюць насельніцтва Таронта, імкнуцца захаваць свае карані, паказаць сваю культуру й нават маюць свае асобныя раёны — “чайнатаўн”, “маленькая Італія”, “маленькая Грэцыя” й г. д., — міжволі ўспомніш, адкуль ты сам родам і міжволі захочаш таксама быць сярод іншых не безаблічнай істотай, а прадстаўніком старажытнага народу з самабытнай культурай.

У які момант і пры якіх дакладна абставінах зьявілася назва “Яваровы людзі”, я, на жаль, ня памятаю. А прыйшла яна зь дзіцячай песьні-гульні: *“Явар, яваровы людзі, што вы тут рабілі? Мы рабілі моста для пана староста”* й г. д. Дакладна такая ж гульня з дакладна такімі ж словамі ёсьць і ў палякаў, і ва ўкраінцаў, значыць, карані ў песьні вельмі глыбокія. Хто такія гэтыя загадкавыя “яваровы людзі” й што за масты яны будавалі — наўрад ці дакладна ведаюць нават фалькляісты. Але мы адразу ўбачылі ў гэтым сымбалічны сэнс: паколькі явар — гэта белы клён, дык “Яваровы людзі” (па-ангельску мы перакладаем назву гурта як *Maple Folk*) — беларусы з Краіны кляновага ліста, то бок з Канады. Ну




Выступ на цэнтральнай плошчы Таронта — плошчы Дандас — на Дзень Канады 1 ліпеня 2012 г. *Фота Васіля Гусакова*

й з “мастамі” ў нашым выпадку таксама ўсё празрыста. Менавіта гэтым мы й займаемся вось ужо 18 гадоў — будуем мост паміж традыцыйнай беларускай культурай і сьветаўспрыманьнем чалавека, які знаходзіцца вельмі далёка ад гэтай культуры і ў прасторы, і ў часе.

Гурт утварыўся пры зьбегу абставінаў, які цяжка не назваць наканаванасьцю. Літаральна за пару тыдняў да таго, як мы зь дзецьмі пераехалі ў Канаду (а было гэта 19 траўня 2001 г.), беларусы Таронта ўпершыню атрымалі запрашэньне выступіць на шматкультурным фэстывалі ў горадзе Кітчэнэр. Мой муж Слава на той час ужо два тыдні жыў у Таронта, пасьпеў добра пазнаёміцца з таронтаўскімі беларусамі й сёе-тое расказаць пра нашую сям'ю. Таму літаральна ў першую ж нядзелю па прыезьдзе, калі я прыйшла ў Беларускі цэнтар Таронта, Надзя Дробіна (здаецца, яна тады была старшынёй Згуртаваньня беларусаў Канады), ведаючы ад Славы, што я сьпявала ў Беларусі ў фальклёрных гуртах, запыталася ў мяне: ці магчыма за месяц навучыць людзей сьпяваць народныя песьні й падрыхтаваць іх для выступу са сцэны?

На гэтае пытаньне я адказала не вагаючыся: безумоўна, усё магчыма! Патрэбныя літаральна тры рэчы: жаданьне выступаць, рэгулярнае наведваньне рэпэтыцыяў і песьні, якія лёгка развучваюцца й выйгрышна гучаць са сцэны. І калі беларусы Таронта дапамогуць сабраць на рэпэтыцыі патэнцыйных сьпевакоў, дык рэпэртуар я змагу падабраць.

Надзя й іншыя арганізатары з ЗБК узяліся агітаваць людзей выступіць, і нечакана сабралася вялікая грамада ахвотнікаў — амаль 30 чалавек! І вось, 24 чэрвеня 2001 г. беларусы Таронта ўпершыню выступілі на фэстывалі ў Кітчэнэры з праграмай беларускіх народных песьняў.

Было вельмі прыемна й сымбалічна, што на тым канцэрце разам з намі, эмігрантамі канца дзевяностых — пачатку нулявых, сьпявала адна беларуска з паваеннага пакаленьня эмігрантаў — спадарыня Марыя Ганько. Знайшоўся і баяніст — беластоцкі беларус Лешэк Сянькевіч, а былая ўдзельніца аднаго зь менскіх танцавальных гуртоў Аглая Ціханоўская станьчыла “Лявоніху”. Карацей, мы выступілі тады зь вялікім імпэтам і дастаткова ўдала — думаю, ніхто з нас нават не чакаў, што ўсё атрымаецца настолькі зладжана пасьля літаральна некалькіх рэпэтыцыяў. Ну а тое, што пачынаецца з посьпеху, тое й працягваць лягчэй. І дзесьці пад восень 2001-га мы паціху-памалу пачалі зьбірацца на рэпэтыцыі. З трох дзясяткаў удзельнікаў першага канцэрту 12 чалавек потым у розныя гады ўваходзілі ў склад “Яваровых людзей”. Хтосьці сьпяваў у нас нядоўга, хтосьці — шмат гадоў, а вось Валянціна Шаўчэнка як пачала зь першага канцэрту, так і дагэтуль сьпявае на канцэртах зь “Яваровымі людзьмі”, хоць даўно ўжо выступае з сольнымі праграмамі, а таксама супрацоўнічае зь іншымі музычнымі калектывамі.

Калі палічыць, колькі чалавек прайшло праз гурт за гэтыя 18 гадоў, колькасьць перавысіць 120 (гэта калі лічыць усіх, хто выступаў хоць бы на адным канцэрце й наведваў перад гэтым рэпэтыцыі). У кожным сезоне ў нас часткова абнаўляецца склад, так што кожны год гэта фактычна іншы калектыў. Часам мы выглядаем, як хор, часам — як камэрны ансамбль, а часам — як трыё ці квартэт. Але мы не панікуем, нават калі ў нейкі момант колькасьць удзельнікаў падае да мінімуму, — мы дапасоўваемся да абставінаў і працягваем рабіць тое, што можам. Таму што мы заўсёды штосьці можам, у любой сітуацыі.



Падэспань на плошчы Дандас у Таронта. У першай пары таньчаць Зьміцер Леановіч і Дамініка Кавалёва, за імі Аляксандар Рэзьнік і Сэрафіма Зібніцкая. Дзень Канады, 1 ліпеня 2012 г. *Фота Юрыя Шаўчэнкі*

Чаму людзі прыходзяць і чаму яны сыходзяць — на гэта ёсьць столькі ж прычын, колькі было ўдзельнікаў гурта. Тым ня менш найбольш частыя перашкоды для наведваньня рэпэтыцыяў нескладана пералічыць: людзі зьяжджаюць у іншы горад / краіну; працуюць ці вучацца дапазна ці ў другую зьмену; працуюць ці жывуць вельмі далёка ад Беларускага цэнтру; завялі сям’ю / гадуюць малых дзяцей / дапамагаюць гадаваць унукаў; купілі дом / заняліся рамонтам дома й г. д. Трэба мець на ўвазе, што Таронта разам з гарадамі-спадарожнікамі — вялікі мэгаполіс і часам, каб даехаць у Беларускі цэнтар на рэпэтыцыі, людзям даводзіцца пераадольваць адлегласьць у 20—30 кілямэтраў. Дадайце да гэтага круглагадовыя заторы на дарогах у гадзіны пік, сьнежныя заносы на працягу доўгай таронтаўскай зімы... Карацей, я сказала б наадварот: я зусім не зьдзіўляюся, калі людзі сыходзяць, але мяне дагэтуль бязьмежна ўражвае, што частка людзей па-ранейшаму знаходзяць час і магчымасьці, каб гераічна прыяжджаць на рэпэтыцыі пасьля напружанага працоўнага дня (бо ўсе ўдзельнікі гурта дзесьці працуюць, або вучацца, або спалучаюць першае й другое). Усім ім — мая найшчырэйшая павага й велічэзны дзякуй!

Ёсьць і яшчэ адна прычына, праз якую людзі з часам могуць згубіць цікавасьць да рэпэтыцыяў і гурта наогул. Яна заключаецца ў самой спэцыфіцы фальклёрнага калектыву, які будуе свой рэпэртуар у адпаведнасьці з народным календаром. Напрыклад, кожны год на пачатку ліпеня мы сьвяткуем Купальле (больш падрабязна я раскажу пра гэта ніжэй), і гэта значыць, што ад канца траўня і ўвесь чэрвень мы паўтараем і развучваем купальскія песьні. За месяц-паўтара да Калядаў пачынаем паўтараць ці развучваць калядныя песьні. Увесну сьпяваем вясьнянкі, масьленічныя, валачобныя песьні... Карацей, нават пры тым, што кожны год мы імкнемся развучыць адну-дзьве новыя песьні да кожнага сэзону, стараемся, каб “новыя” песьні былі не падобныя да “старых”, паходзілі зь іншых рэгіёнаў Беларусі, усё роўна большасьць песьняў у рэпэртуары штогод паўтараецца. Як ні круці, атрымліваецца такое дэжавю. Зразумела, што менавіта так і было калісьці ў вёсках: песьні заўсёды паўтараліся па гадавым коле, а новыя зьяўляліся вельмі рэдка, калі наогул узьнікалі. Але паколькі “Яваровы людзі” жывуць не ў беларускай вёсцы, а ў шасьцімільённым канадыйскім мэгаполісе XXI стагодзьдзя, сьмешна было б спадзявацца, што сьвядомасьць людзей застанецца такой самай, якой яна была ў іх бабуль і прабабуль. Таму некаторыя людзі проста стамляюцца ад паўтораў, ім гэта можа быць цікава год-другі-трэці, а потым абрыдае. Нічога страшнага. Затое кожны сэзон прыходзіць хтосьці новы, і вельмі радасна назіраць за людзьмі, якія адкрываюць для сябе невычэрпную глыбіню народных сьпеваў, народных традыцый. Яны проста сьвецяцца ў гэты момант, іх энтузыязм заварожвае. Нават калі праз некалькі гадоў жыцьцёвыя



На фэстывалі “Баўгарскі сельскі збор” у адным з паркаў Місісагі.
Чэрвень 2014 г.

абставіны прымусяць гэтых людзей сысьці з калектыву, усё адно беларуская песьня і ўсё, што ёй спадарожнічае, застануцца зь імі назаўсёды. (Дарэчы, у “Яваровых людзях” сьпявалі й працягваюць сьпяваць ня толькі беларусы — нам ніколі не прыйшло б у галаву зачыніць дзьверы перад прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў, якія зацікавіліся беларускай культурай.)

Калісьці мы пачыналі з таго, што сабралі людзей, якія проста хацелі сьпяваць па-беларуску. Або хацелі навучыцца сьпяваць. Або хацелі знайсьці для сябе ў шматмоўнай прасторы Таронта маленькую выспачку беларушчыны, і чыста выпадкова гэтая выспачка аказалася сьпеўнай, а ня, скажам, танцавальнай. Я напачатку проста перадавала далей па ланцужку тое, што ўжо ведала сама — гэта былі песьні, вывучаныя ў Майстроўні, а потым у “Дзяньніцы”. Пераважна песьні былі народныя, але іх дапаўнялі й аўтарскія патрыятычныя, для выкананьня на ўрачыстых імпрэзах — скажам, “Не загаснуць зоркі ў небе” на словы Янкі Купалы. Гэта й была аснова нашага першага рэпэртуару. Вельмі арганічна сюды ж дадаліся беларускія песьні, сьпяваныя на эміграцыі, напрыклад “Сьпі пад курганам герояў”, якую я, жывучы ў Беларусі, ніколі ня чула. У таронтаўскім асяродку паваенных беларускіх эмігрантаў гэтую песьню традыцыйна выконвалі на ўгодках Слуцкага збройнага чыну, і з утварэньнем “Яваровых людзей” гэтая традыцыя арганічна перайшла да нас. Наогул, адным зь першых вялікіх уражаньняў ад спадчыны паваенных беларускіх эмігрантаў быў “Беларускі песенны зборнік” Міколы Куліковіча, выдадзены ў Кліўлэндзе ў 1960 г., які я спачатку знайшла ў бібліятэцы Беларускага грамадзка-рэлігійнага цэнтру Таронта, а потым такі самы зборнік мне падараваў Антон Маркевіч. Было страшэнна цікава пабачыць на свае вочы, напрыклад, урыўкі з опэраў на словы Натальлі Арсеньневай (эх, я вельмі спадзяюся, што

калі-небудзь “Яваровы людзі” здолеюць выканаць і гэтыя творы!) або паглядзець, якія беларускія народныя песьні карысталіся папулярнасьцю ў асяродку беларускіх эмігрантаў у 1950—1960-я гг.

Карацей, у першыя часы існаваньня “Яваровых людзей” гаворка зусім не ішла пра тое, каб пераймаць народную манеру сьпеваў і выконваць фальклёр у максымальна набліжаных да аўтэнтычных варыянтах — было не да таго. За ўсе 18 гадоў у нас ніколі не існавала праслухоўваньня й адбору — у гурт прымаліся ўсе ахвотныя, незалежна ад голасу й слыху. Таму мая першапачатковая задача як кіраўніка калектыву была зусім сьціплая — навучыць людзей сьпяваць разам так, каб слухаць адзін аднаго й трапляць у ноты. І хоць і шмат гадоў прайшло, і шмат чаго зьмянілася ў “Яваровых людзях”, але мы дагэтуль прымаем у калектыў усіх ахвотных, незалежна ад вакальных дадзеных. Няхай сабе гэта стварае пэўныя нязручнасьці напачатку, але затое мы маем выдатныя прыклады, калі людзі, якія ніколі не здагадваліся пра свае патэнцыйныя здольнасьці, вырастаюць у выдатных сьпевакоў.

Калі паглядзець на фотаздымкі за ўсе часы існаваньня “Яваровых людзей”, можна ўбачыць, як зьмяняліся строі. Увосень 2001 г. гэта былі звычайныя белыя кашулі зь цёмнымі спадніцамі або нагавіцамі. Потым на белых кашулях паступова зьяўляецца арнамэнт — хтосьці ўжо пасьпеў вышыць яго сам, хтосьці пакуль арнамэнтаваную стужачку нашыў, камусьці прывезьлі сапраўдны строй зь Беларусі. Некаторым з нас перадалі свае строі беларусы з паваеннай эміграцыі — напрыклад, Валянціна Шаўчэнка дагэтуль надзявае на канцэрты кашулю, якую вышывала Марыя Ганько. Дачка Валянціны Пашкевіч Эва, якая цяпер жыве вельмі далёка ад Таронта, у Брытанскай Калюмбіі, прыехаўшы на адно са сьвяткаваньняў у Беларускім цэнтры, была прыемна ўражаная, убачыўшы, што некаторыя з наймалодшых удзельнікаў “Яваровых людзей” былі апранутыя ў фартушкі й кашулькі, у якіх сама Эва зь сяброўкамі ў дзяцінстве выступала разам зь беларускім танцавальным гуртом, што існаваў пры царкве Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай і якім кіравала Валянціна Пашкевіч. (Тут трэба дадаць, што пры царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, у будынку цяперашняга Беларускага цэнтру Таронта, дзе на працягу 18 гадоў рэпэтуюць “Яваровы людзі”, таксама калісьці існаваў танцавальны гурт пад кіраўніцтвам Барыса Кіркі. У 1970-я гг. абодва моладзевыя беларускія танцавальныя гурты нярэдка выступалі разам, напрыклад, падчас шматкультурных тарантаўскіх фэстываляў, якія называліся “Караван”. Атрымалася, што паваенныя беларусы калісьці разьдзяліліся на дзьве грамады на глебе палітыкі, а іх дзеці, народжаныя ў Канадзе, аб’ядналіся разам на глебе культуры. Але гэта, як той казаў, ужо зусім-зусім іншая гісторыя…)

І ўсё ж такі, чаму гурт “Яваровы людзі” дзейнічае ўжо 18 гадоў і пакуль не плянуе спыняць існаваньне? Многія фальклёрныя калектывы

ў самой Беларусі распадаюцца значна хутчэй. Мне здаецца, адна з прычынаў заключаецца ў тым, што мы ўвесь час зьмяняемся, разьвіваемся, і я спадзяюся, што мы ўсё ж ідзем наперад — не заўсёды па наўпроставай лініі, але наперад.

Пачаўшы ад сьпяваньня паасобных фальклёрных песьняў, мы на пэўным этапе перайшлі да стварэньня сцэнічных кампазыцыяў — своеасаблівых фольк-спэктакляў. Першым такім спэктаклем стаў "Год беларуса", паказаны намі на сцэне атаўскага тэатру Кайлаш Мітал (унівэрсытэт Карлтан) падчас канадыйскага кангрэсу славістаў у 2009 г. Гэты спэктакль дэманстраваў чатыры поры году й адпаведныя ім беларускія народныя песьні, а таксама некаторыя абрады, якія можна было паказаць са сцэны.

Потым мы паставілі перад сабой яшчэ больш складаную задачу. Перад 30-й Сустрэчай беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая праходзіла ў Таронта ў верасьні 2012 г., мы вырашылі самі напісаць п'есу з казачным сюжэтам, у які можна было б натуральным чынам уплесьці й каляндарна-абрадавыя, і сямейна-абрадавыя, і іншыя народныя песьні. Сцэнар пісалі літаральна ўсім калектывам, абмяркоўваючы й дадаючы новыя ідэі праз эмэйлы. Атрымалася казка пра каханьне, якое перамагае ўсе перашкоды. Тэма вечная, але фабула сюжэту была цалкам нашая, не пазычаная зь ніякай вядомай нам казкі.

Мы рэпэтавалі гэты спектакль цэлае лета — імпэт быў такі, што ў той год мы нават не разыходзіліся на вакацыі! Адначасова самі ра-



На здымках музычнага фільму-казкі "То-то-то" ў Гай-парку Таронта. Ала Касьцючэнка, Ігар Філюшкін, Ларыса Міхайлава, Інэса Церашчук, Аляксандра Саленік, Сьвятлана Макеева, Надзея Дробіна, Аляксандар Рэзьнік, Вольга Філюшкіна, апэратар Яўгенія Працко, Зьміцер Леановіч, Віялета Кавалёва. Кастрычнік 2013 г.
*Фота Ўладзіміра Касьцючэнкі*



На Купальле ў канадыйскі “Слуцак” зьбіраецца пад паўтары сотні ўдзельнікаў. Ліпень 2017 г. *Фота Максіма Зінчука*

білі строі, дэкарацыі, рэквізіт, шылі заднікі для залі. Спачатку хацелі назваць наш спэктакль “Чароўны пояс”, але потым вырашылі, што такая назва пазбавіць сюжэт інтрыгі, бо адразу раскрые ўсе карты. Аляксандар Рэзьнік, выканаўца галоўнай ролі закаханага хлопца Алеся, прапанаваў назву “То-то-то”, і яна адразу ўсім спадабалася. “То-то-то” — гэта рэфрэн шмат якіх купальскіх песьняў, старажытны, магічны й загадкавы. А завязка сюжэту нашай п’есы якраз і адбывалася на Купальле.

Упершыню мы паказалі спэктакль “То-то-то” 2 верасьня 2012 г. перад гасьцямі Сустрэчы беларусаў. Атрымалі шмат добрых водгукаў, але калі самі потым паглядзелі відэазапіс, дык убачылі, колькі ўсяго яшчэ можна й трэба дапрацаваць і паправіць. Дапрацоўкамі й пераробкамі мы займаліся яшчэ пару месяцаў, а потым паказалі новы варыянт “То-то-то” ў Беларускім цэнтры, запрасіўшы на яго беларусаў Таронта.

Шкада было разьвітвацца з героямі нашай п’есы, да якіх мы за некалькі месяцаў пасьпелі прывыкнуць, і таму мы вырашылі налета зрабіць сабе на памяць відэазапіс спэктаклю ў натуральных умовах, то бок здымаць сцэны Купальля не ў памяшканьні, а на прыродзе, падчас самога Купальля, і гэтак далей. Хто б мог тады ведаць, што з гэтага атрымаецца ня проста запіс для памяці, а новы вялікі праект!

З тым, дзе нам зьняць сапраўднае Купальле, праблемаў не было ніякіх. Купальле мы сьвяткуем, як я ўжо казала, штогод, выяжджаючы для гэтага за 250 км ад Таронта. Там, у паўночным баку Антарыё, знаходзіцца Маскока — найпрыгажэйшая курортна-адпачынкавая зона з сотнямі азёраў і выспаў. І менавіта там, у раёне гарадка Пэры-Саўнд, тарантаўскія беларусы ў 1965 г. купілі старую фэрму й перарабілі яе ў летні дом адпачынку, які назвалі “Слуцак”. Будынак і тэрыторыя

“Слуцака” належаць Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, і гэтая мясьціна стала адным з улюбёных месцаў адпачынку ня толькі для беларусаў Таронта й ваколіцаў, але й для расейцаў, украінцаў, палякаў.

На Купальле ў наш канадыйскі “Слуцак” цяпер зьбіраецца больш за паўтары сотні чалавек, яно ператварылася ў двухдзённы фэстываль, на які нават ня ўсе ахвотныя могуць трапіць — даводзіцца абмяжоўваць колькасьць, каб сьвята заставалася кіраваным. Мы імкнемся як мага паўней паказаць разнастайныя купальскія абрады, у якіх удзельнічаюць абсалютна ўсе — няма падзелу на “артыстаў” і “гледачоў”. Да позьняй начы над возерам Манітоўвабінг гучаць купальскія песьні, моладзь гуляе ў гульні і ўсе разам, ад малога да старога, таньчаць беларускія танцы.

Такім Купальле і ўвайшло ў наш новы праект — гэта былі першыя кадры музычнага фільму-казкі “То-то-то”, які базаваўся на нашым уласным спэктаклі. Далейшыя сцэны здымаліся ў парках Таронта, у будынку Беларускага цэнтру, у таронтаўскай *“вёсцы першых пасяленцаў” — Pioneer Village*. Зьмяняліся апэратары, на ходу сцэнар дапрацоўваўся, паляпшаўся. Увесь адзьняты матэрыял ляжаў некалькі гадоў, бо рэжысэр, які спачатку паабяцаў нам зрабіць фільм, ніяк ня мог знайсьці на гэта часу. І тады гукарэжысэр “Яваровых людзей” Ігар Філюшкін вырашыў засвоіць прафэсію відэаінжынэра, каб змантаваць фільм самому.

Разам зь Ігарам мы займаліся мантажом фільму й працай над гукам каля году, а ўся праца над фільмам, ад моманту, калі былі зьнятыя першыя кадры, заняла амаль пяць гадоў. Але колькі было радасьці й энтузыязму, калі фільм нарэшце быў скончаны, і 10 лютага 2018 г. у Беларускім цэнтры Таронта адбылася сапраўдная прэм’ера — з чырвонай дарожкай, па якой у вечаровых строях праходзілі акторы й стваральнікі фільму, з адмыслова зробленай афішай і, натуральна, з шампанскім.

Потым мы паказвалі фільм “То-то-то” яшчэ неаднаразова — і ў Таронта, і на Купальлі, і ў Менску, у прыватнасьці на курсах “Мова нанова”. Адбыліся два паказы ў Нью-Ёрку, дзе кіно змаглі пабачыць амэрыканскія беларусы. Нас вельмі ўсьцешыла і ўзрадавала, што фільм дастаткова высока ацанілі мастацтвазнаўцы й крытыкі, у тым ліку Івонка Сурвілла, Зіна Гімпелевіч і Зянон Пазьняк. Усе яны адназначна сказалі: трэба працягваць гэтую справу, думайце над новымі сюжэтамі! (Мы думаем, але пакуль ня будзем раскрываць нашых плянаў.)

Хочацца згадаць і пра яшчэ адзін шматгадовы праект “Яваровых людзей”, які нарадзіўся сам сабой. У 2011 г. мы рэпэтавалі для Навагодняга балю п’есу Сержука Вітушкі “Дружная капэля”, якую мы перарабілі й адаптавалі пад навагоднюю казку. Для гэтай казкі мы напісалі фінальную песьню, якую павінны былі сьпяваць усе акторы спэктаклю. Вось адзін зь яе слупкоў:

*Ў час, калі пануе цемра,*
*Ўсё здаецца безнадзейным,*
*Але ты на каляндар зірні:*
*Ўлада ночы не бязьмежна —*
*Пад канец любога сьнежня*
*Ўсё сьвятлее — і настрой, і дні!*

На адну з апошніх рэпэтыцыяў у канцы сьнежня мы прынесьлі відэакамеру й запісалі гэтую песьню ў жывым выкананьні. Атрымаўся дастаткова натхняльны музычны нумар, таму мы вырашылі паставіць гэты запіс на Юцюб. А далей мы са зьдзіўленьнем пачалі назіраць, як імклíва расьце колькасьць праглядаў. Калі яна дасягнула пары тысячаў чалавек, мы зразумелі, што гэта вельмі пэрспэктыўная й патрэбная справа — запісваць такія калядныя “відэапаштоўкі”, з дапамогай якіх беларусы на Бацькаўшчыне і ў замежжы маглі б віншаваць адзін аднаго перад навагоднімі сьвятамі. На сёньня ў нас запісана ўжо шэсьць такіх відэавіншаваньняў. Адной “паштоўкай” стала беларуская калядка “Нова радасьць”, для яшчэ адной мы напісалі новыя словы на песьню “Алілуя” славутага канадыйскага барда Леанарда Коэна, а далей вырашылі кожны год ствараць зусім новую песьню адмыслова для гэтага праекту. Словы некалькіх песень для нас напісала Вольга Іпатава, а музыку для дзьвюх зь іх — наш тарантаўскі кампазытар Юры Жвалікоўскі.

Асобна хачу сказаць некалькі словаў пра гісторыю нашай “каляднай паштоўкі” 2014 г. Пачалася яна ў студзені 2014-га, калі менскі бард і кампазытар Зьміцер Сідаровіч прапанаваў нам супольны праект. Зьміцер сказаў, што ён напіша для нас навагоднюю песьню, і нават з ходу, загарэўшыся ідэяй, прыслаў накід прыпеву, які потым зьбіраўся распрацаваць і дапісаць асноўную музычную тэму. Выконваць песьню, паводле ягонай задумы, меліся “Яваровы людзі” ў Таронта й сам Зьміцер з сынам і сябрамі ў Менску. Гэта быў бы, я думаю, фэерычны праект, але ў траўні таго ж году трагічны выпадак назаўсёды забраў Зьмітра ад нас. І калі надышоў час запісваць чарговую “відэапаштоўку”, мы вырашылі прысьвяціць яе памяці Зьмітра. Мы выкарысталі для песьні ягоную мэлёдыю прыпеву, а словы дапамагла напісаць наша незаменная Вольга Іпатава. Гэтае, а таксама і ўсе астатнія нашыя калядныя музычныя віншаваньні можна лёгка знайсьці на Юцюбе, калі набраць у пошуку “Яваровы людзі”. Там жа ёсьць запісы з нашых канцэртаў, трэйлер да фільму “То-то-то” й іншыя відэаклíпы.

А некалькі гадоў таму ў гісторыі “Яваровых людзей” зьявіўся нечаканы працяг. Усё пачалося, калі ў некаторых маладых сьпявачак гурта нарадзіліся дзеці. Яшчэ да свайго нараджэньня й потым літаральна ў пялюшках гэтыя дзеці пачалі выступаць на сцэне, бо маладым мамам часьцяком даводзілася браць іх з сабой на канцэрты й імпрэзы. (Дарэчы, і ў запісе калядных відэавіншаваньняў нашыя дзеці бралі ўдзел ад

самага пачатку, ад 2011 г., як гэта можна пабачыць на відэа.) Калі дзеці трошкі падрасьлі й іх ужо ня трэба было трымаць на руках, яны стаялі падчас канцэртаў на сцэне, трымаючыся за маміны спадніцы. Было б неверагодна, каб гэтыя дзеці не пачалі сьпяваць і таньчыць самі! Але тут ізноў выпадак падштурхнуў падзеі. У кастрычніку 2014 г. з падачы нашых сяброў — баўгарскага танцавальнага гурта "Ігранка" — "Яваровы людзі" ўпершыню ўзялі ўдзел у Славянскім фэстывалі, які штогод праводзіўся ў Місісазе, у грамадзкай залі польскага касьцёлу Сьвятога Максіміліяна Колбэ. Нашыя маладыя мамы, як звычайна, узялі з сабой на сцэну дзяцей. І атрымалася, што прысутнасьць дзяцей пасавала да імпрэзы надзвычайна! Высьветлілася, што ў Славянскім фэстывалі ўдзельнічаюць пераважна дзіцячыя гурты, бо ён і задумваўся адпачатку як дзіцячы фэстываль. Таму на наступны год мы сабралі ўжо большую каманду дзяцей, гукнуўшы ахвотных па ўсёй беларускай грамадзе Таронта. І так яно пачалося. Пакуль дзеці былі зусім маленькія, мамы й таты выходзілі разам зь імі на сцэну й дапамагалі сьпяваць і таньчыць (ад чаго самі атрымлівалі мора задавальненьня). А цяпер дзеткі падрасьлі і ўпэўнена трымаюцца на сцэне самі. Гэта наш гурт "Яваровы дзеці", у ім у сэзоне 2018—2019 гг. сьпявалі трынаццаць чалавек. І цяпер на некаторых канцэртах абодва гурты выступаюць разам — як гэта было на апошніх Калядах у Беларускім цэнтры або 9 чэрвеня 2019 г., падчас штогадовага таронтаўскага фэстывалю *"Taste of Russia"*.




Калі адгучаць апошнія ноты "Купалінкі", публіка, як заўсёды, узарвецца воплескамі. "Яваровы людзі" й "Яваровы дзеці" разам выступаюць на фэстывалі *"Taste of Russia"*. Таронта, чэрвень 2019 г.
*Фота Ўладзіміра Касьцючэнкі*



“Яваровы дзеці” й салістка “Яваровых людзей” Аляксандра Саленік выступаюць на дзіцячым фэсьце “Беларуская вясна” ў Беларускім грамадзка-культурным цэнтры Таронта. Травень 2018 г.

Я нават не плянавала напачатку ствараць самастойны дзіцячы гурт. Думала, што мы проста рыхтуемся да Славянскага фэстывалю і што дзеці будуць выступаць там раз на год, зьбіраючыся менавіта для гэтага кароткатэрміновага праекту. А атрымалася так, што сьпеўкі спадабаліся й дзецям, і іх бацькам, і нашыя сустрэчы ператварыліся ў сталыя рэпэтыцыі на працягу ўсяго навучальнага году. Давялося тэрмінова вучыцца прафэсіі кіраўніка дзіцячага гурта — раней я пераважна працавала з дарослымі выканаўцамі. А цяпер ужо й дзіцячы гурт налічвае чатыры гады існаваньня!

Так атрымалася, што гісторыя майго ўласнага жыцьця ў Канадзе й гісторыя “Яваровых людзей” практычна непадзельныя. І калі азірнуцца назад, можна ўзгадаць безьліч прыемных момантаў, зьвязаных зь “Яваровымі людзьмі”, а цяпер ужо й зь “Яваровымі дзецьмі”. Шмат чаго цікавага й добрага здарылася за гэтыя 18 гадоў! Успамінаюцца дзясяткі канцэртаў на шматлікіх пляцоўках Таронта, а выступалі мы як перад англамоўнымі канадыйцамі, так і ў гасьцях у сяброў зь іншых нацыянальных суполак: украінскай, польскай, баўгарскай, сербскай, расейскай, латыскай і г. д. Мноства прыемных уражаньняў пакінулі паездкі да беларусаў Атавы, Манрэалю, Нью-Ёрку. Былі ў нас і вясельлі ўнутры гурта, і нараджэньне дзяцей мы сьвяткавалі шмат разоў, адмыслова для гэтай мэты развучыўшы абрад “Радзіны”.

Дарэчы, абавязкова трэба падкрэсьліць, што “Яваровы людзі” — калектыў у найвышэйшай ступені сямейны. У нас сьпявалі й сьпяваюць бацькі й дзеці, мужы й жонкі. А калі хтосьці з мужоў і не сьпявае, дык

ён дапамагае гурту іншым чынам. Напрыклад, Зьміцер Доўнар, муж Іры Тоўсьцік, — надзейны гукарэжысэр, і калі ён сядзіць за пультам, можна быць упэўненым, што фанаграмы ўключацца ў патрэбным месцы з дакладнасьцю да сэкунды. А Ўладзімер Касьцючэнка, муж Алы Касьцючэнкі, — таленавіты фатограф, адзін з нашых летапісцаў, і калі ён прысутнічае на канцэрце ці імпрэзе, гэта гарантыя, што ніводны запамінальны момант ня пройдзе міма ягонага аб'ектыву. На Віталя Ржэвускага заўсёды можна разьлічваць у падрыхтоўцы да Купальля, Юрка Шаўчэнка вырабіў для "Яваровых людзей" шмат рэквізіту й запісаў на відэа многія нашыя канцэрты. Сьпіс можна доўжыць. І гэта выдатна, што ў сьпевакоў зь "Яваровых людзей" ёсьць такая моцная падтрымка з боку сям'і! Яна насамрэч натхняе й дадае нам моцы.

Не магу не сказаць тут асобна й больш падрабязна пра двух чалавек, без каго "Яваровых людзей" дакладна не было б у тым выглядзе, у якім яны існуюць. Гэта мой муж Вячаслаў Кавалёў і мой найлепшы сябар Ігар Філюшкін.

Кіраваць двума такімі праектамі, як "Яваровы людзі" й "Яваровы дзеці", пры ўмове, што працуеш поўны дзень дзесьці ў іншым месцы, — гэта азначае, апроч усяго іншага, што цябе часьцяком не бывае дома па вечарах і што на хатнія справы застаецца вобмаль часу й сілаў (калі наогул штосьці застаецца...). Было б вельмі цяжка або зусім немагчыма доўга весьці такі лад жыцьця, калі б гэта выклікала моцную незадаволенасьць у сям'і. І мне вельмі пашанцавала, што Слава пераважна з разуменьнем і падтрымкай ставіцца да маіх заняткаў, якім я аддаю амаль увесь свой пазапрацоўны час. (Ну, калі быць гранічна шчырай, зрэдку канфлікты на гэтай глебе ўсё ж здараюцца, але, на шчасьце, доўга не працягваюцца.)

Калі я расказваю Славу пра свае новыя ідэі, што датычаць "Яваровых людзей", ягоная звычайная рэакцыя бывае такая: *"Дзейнічай! Я табе ў гэтым дапамагу"*. Не было яшчэ такога праекту, нават самага рызыкоўнага, які Слава не падтрымаў бы словам і справай. Прычым што датычыць справаў, Слава першы хапаецца за найменш прывабныя, найбольш фізычна цяжкія й тыя, якія наогул ня ўсімі бываюць заўважныя. Менавіта ён абавязкова паедзе на "Слуцак" за тыдзень да Купальля, каб нарыхтаваць дровы для вогнішча і ўпарадкаваць тэрыторыю; менавіта Слава ў дзень, калі мы сьвяткавалі прэм'еру "То-то-то", некалькі разоў за вечар выходзіў з будынку Белцэнтру, каб адкінуць сьнег з дарожкі — у той лютаўскі дзень разгулялася моцная завіруха, і Слава не хацеў, каб госьці, якія прыехалі на прэм'еру кіно ў сьвяточных гарнітурах і вечаровых сукенках, дабіраліся да ўваходных дзьвярэй па калена ў сьнезе. І наўрад ці хтосьці з гасьцей Купальля задумаўся хоць раз: а чаму гэта ў купальскую раніцу бераг возера заўсёды такі бездакорна чысты, хоць літаральна ўчора на ім пасьвілася некалькі гусіных сем'яў?..




Паказ каляднай праграмы на сцэне таронтаўскага расейскага тэатру *“Amazing Cat”*. “Доктар-лекар” — Вячаслаў Кавалёў. Студзень 2018 г. *Фота Ўладзіміра Касьцючэнкі*

А яшчэ Слава не перастае зьдзіўляць мяне сваімі творчымі здольнасьцямі! Калі я выходзіла за яго замуж, я нават не падазравала, што за аблiччам інжынэра, які здольны адрамантаваць любую рэч і прыдумаць зграбны мэханізм, хаваецца вялікі артыст. Я нават думаю, што ў Беларусі ягоны творчы патэнцыял наўрад ці раскрыўся б напоўніцу (вярнуся да гэтай думкі ніжэй). А тут, у Таронта, раптам высьветлілася, што Слава — таленавіты камэдыйны актор! Ён з посьпехам выконваў ролі ў спэктаклях “Пісаравы імяніны”, “Прымакі” й “Паўлінка”, якія ставіў самадзейны тэатар ЗБК пад кіраўніцтвам Ірыны Шарамет, а яшчэ граў у шматлікіх навагодніх спэктаклях-капусьніках, падрыхтаваных “Яваровымі людзьмі”. І ў каляднай праграме “Яваровых людзей” Слава штогод грае адразу дзьве зорныя ролі — Цыгана й Доктара-лекара. Але калі спатрэбіцца, дык ён і калядную зорку пакруціць, і заднімі нагамі “кабылы” пабудзе без праблемаў.

Цяпер колькі словаў пра Ігара Філюшкіна. Калі Ігар прыйшоў у наш гурт у кастрычніку 2011 г., мы й здагадвацца не маглі, што ад гэтага моманту жыцьцё гурта памяняецца кардынальна. Па-першае, высьветлілася, што Ігару даўно хацелася заняцца гукарэжысурай, і ў “Яваровых людзях” ён убачыў магчымасьць рэалізаваць сваю даўнюю мару. За свае грошы Ігар накупіў апаратуры, у свой вольны час вывучаў асновы й сакрэты гэтай прафэсіі, і цяпер у нас ёсьць свая студыя й свой уласны гукарэжысэр! Кіраўнікі й выканаўцы любога сьпеўнага калектыву зразумеюць, якая гэта знаходка й якое гэта фантастычнае багацьце, калі

можна ў любы патрэбны момант запісаць фанаграмы й калі ня трэба для гэтай справы шукаць ніякай дапамогі збоку.

Далей Ігар натхніў мяне на іншы нечаканы праект. Адно са шматлікіх захапленьняў Ігара — гэта дайвінг і падводная фатаграфія. І вось Ігар прапанаваў мне напісаць да некаторых ягоных падводных відэа музыку — яму хацелася, каб відэашэраг суправаджалі беларускія народныя песьні ў інструмэнтальным выкананьні. Я ніколі такога не рабіла (і ніколі не планавала такой справай займацца), але ж заўсёды цікава паспрабаваць штосьці новае! Таму я села за клявішы й пачала імправізаваць, разьвіваючы мэлёдыі народных песьняў у розных стылях — куды фантазія закіне. У выніку мы запісалі ня толькі некалькі "падводных" відэакліпаў, але й цэлы "Інструмэнтальны альбом", пра які Віктар Сямашка расказаў у сваёй праграме "Кракатук", што выходзіць на Радыё Рацыя, а потым паставіў усе песьні з "Інструмэнтальнага альбому" на "Тузін гітоў", дзе іх і можна знайсьці, калі каму раптам стане цікава.

А потым быў чарговы, яшчэ большы праект — "То-то-то". Калі мы зразумелі, што ўвесь адзьняты матэрыял для кіно так і прападзе, калі мы самі ня возьмемся за яго, Ігар вырашыў, ізноў-такі, самастойна і ў вольны час засвоіць праграму для відэамантажу. Шчыра кажучы, напачатку нам было досыць боязна брацца за вялізны фільм (працягласьцю ў гадзіну!), калі мы нават не ўяўлялі, зь якога боку да гэтай справы падысьці. Дамовіліся пачаць зь невялікага — зрабілі кліп на адну зь песьняў фільма. Убачылі, што ня ўсё так страшна, вырашылі, што можам працягваць. І потым на цэлы год мы зь Ігарам перайшлі на шасьцідзённы працоўны тыдзень — пяць дзён на асноўнай працы, шосты дзень — праца над фільмам. А калі штосьці рабіць пасьлядоўна й ня кідаць, любая справа будзе рухацца ў патрэбным кірунку. Так і фільм у адзін цудоўны дзень аказаўся дарobленым. Пры ўсім тым, што гэтае кіно рабілі аматары, яно валодае ўласьцівасьцю ўзьдзейнічаць на людзей і абуджаць менавіта тыя пачуцьці, якія мы ў яго закладалі. Фільм "То-то-то" пакуль не стаіць у сеціве ў адкрытым доступе, але той, хто зацікавіцца ім і захоча паглядзець, можа зьвярнуцца непасрэдна да мяне на эмэйл vkovaleva@hotmail.com.

Вось збольшага асноўнае, што мне хацелася расказаць пра "Яваровых людзей". Усё астатняе — як і ў любога іншага творчага калектыву: рэпэтыцыі, канцэрты, запісы дыскаў, майстар-класы (нам падабаюцца абодва варыянты — і калі мы кагосьці вучым сьпяваць і таньчыць, і калі мы самі ад кагосьці вучымся), супольныя сьвяткаваньні сьвятаў і дзён народзінаў. Як можам, мы падтрымліваем адзін аднаго: усё ж такі эміграцыя — штука няпростая, ня так лёгка ўліцца ў новае грамадзтва, ня так хутка новая краіна становіцца тваім домам. І ў новай краіне нас сур'ёзна падтрымлівае народная песьня. Тая самая магія фальклёру,



Выступ на гала-імпрэзе
Канадыйскай асацыяцыі этнічных мэдыясродкаў (*CEMA*). У цэнтры — Магдалена Хмара, дачка Сяргея Хмары, старшыня *CEMA*. Удзельнікі гурта: Аляксандра Саленік, Анжэла Рунец, Ларыса Міхайлава, Віялета Кавалёва, Тацьцяна Крыштаповіч, Валянціна Шаўчэнка, Ігар Філюшкін, Сьвятлана Макеева, Юры Жвалікоўскі. Таронта, лістапад 2018 г.

пра якую я казала напачатку. Калі ў нас атрымліваецца зачэрпнуць энергію з гэтай крыніцы, мы перадаем яе далей — слухачам і гледачам.

Гаварыць напрыканцы артыкула пра творчыя пляны ня буду, каб, як той казаў, не насьмяшыць Усявышняга. Калі штосьці з задуманага атрымаецца, упэўненая, што пра вынік можна будзе даведацца з інтэрнэту. Зрэшты, маю надзею, што ў будучыні “Яваровых людзей” яшчэ здарацца й нечаканыя падзеі, і непрадказальныя павароты сюжэту, а некаторыя наступныя разьдзелы нашай далейшай гісторыі напішуцца як бы самі сабой — як яно было й раней.

А вось што мне хочацца зрабіць абавязкова, дык гэта назваць тут імёны тых, хто аддаў “Яваровым людзям” шмат гадзінаў напружанай працы й шмат гадоў свайго жыцьця, дзякуючы каму гурт жыў і працягвае жыве. (Ведаю, што назваць усіх не атрымаецца, таму загадзя прашу прабачэньня ў тых, каго міжволі прапусьціла.)

Такім чынам, вось хто ствараў і стварае гісторыю “Яваровых людзей”: Хведар Апейка, Натальля Бялько, Юля Бяроза, Дзьмітры Доўнар, Надзея Дробіна, Юры Жвалікоўскі, Серафіма, Марыя, Ліда й Сьпірыдон Зібніцкія, Каміла, Дамініка й Вячаслаў Кавалёвы, Ала і Ўладзімер Касьцючэнкі, Натальля Колас, Марыя Краўцова, Тацьцяна Крыштаповіч, Зьміцер Леановіч, Алена Лявончанка, Сьвятлана Макеева, Яўген Малашчанка, Вольга, Аляксандра й Аляксей Манькоўскія, Ірына Мартусевіч, Марына Мірашнічэнка, Ларыса Міхайлава, Аляксандар Патапаў, Сьвятлана й Віталь Ржэвускія, Анжэла Рунец, Аляксандар

Рэзьнік, Аляксандра Саленік, Лешэк Сянькевіч, Іна Сянько, Аліна й Піліп Тананкі, Ірына Тоўсьцік, Ігар і Вольга Філюшкіны, Інэса Церашчук, Марыя Цьвяткова, Ірына Шарамет, Ільля Шкарупін, Міхась і Віталь Шэметы, Валянціна, Аляксандра, Яўгенія й Юрка Шаўчэнкі.

А гэта нашы "Яваровы дзеці": Васілёк Асадчы, Зьміцер Гайсёнак, Соня Доўнар, Сафія й Давід Ліўшыцы, Ханна Малышэўская, Тэадор Місік, Зора Маруковіч, Каця Музыка, Туя Саленік-Уласічава й Ная Саленік-Бергер, Маша Сахновіч, Ксенія У.

А вось яшчэ пра што зьбіралася сказаць, ды забылася. Пра тое, што эміграцыя, пры ўсіх сваіх цяжкасьцях, валодае нечаканай здольнасьцю абуджаць у людзях схаваны творчы патэнцыял. Колькі разоў мы назіралі такое на свае вочы! Людзі, якія ў Беларусі ня мелі ніякага дачыненьня да сцэны, думаць ня думалі й марыць ня марылі, што яны будуць сьпяваць, таньчыць, граць у спэктаклях, раптам пачалі займацца ўсім гэтым у эміграцыі! Гэта цікавая й трохі загадкавая зьява — напэўна, на гэтую тэму можна было б нават напісаць навуковую манаграфію, калі б хто натхніўся ідэяй. А "Яваровы людзі" — адзін зь яскравых прыкладаў, які пацьвярджае гэтае правіла.

*Ліпень 2019 г.*

## Словы пра "Яваровых..."

***

Раптоўна-яскравае зьяўленьне "Яваровых людзей" для мяне стала неацэнным здабыткам, глыбокім і чыстым подыхам Беларусі.

Проста неверагодна, але тут, у Канадзе, удзельнікі — людзі розных прафэсій, рознага ўзросту, з розных куткоў Вялікага Таронта й прыгарадаў — так беражліва выконваюць, і тым захоўваюць традыцыі беларускай песеннай культуры, яе адкрытасьць, глыбіню й духоўную чысьціню. Шмат цудоўных, але ўжо забытых песень пазьбегнулі забыцьця дзякуючы "Яваровым людзям".

А касьцюмы! Які калярыт! Кожны стараецца альбо вышыць сваімі рукамі, альбо прывезьці старыя аўтэнтычныя зь Беларусі.

"Яваровы людзі" выконваюць песьні без апрацоўкі, на дыялекце розных раёнаў Беларусі, у першапачатковым выглядзе. І ў гэтым іх унікальнасьць.

"Яваровы людзі" — гэта душа беларускага жыцьця ў Канадзе.

*Надзея Дробіна,*
*шматгадовая сьпявачка гурта "Яваровы людзі",*
*былая шматгадовая старшыня ЗБК*
*і парафіі сьв. Кірылы Тураўскага*

***

Мне вельмі прыемна падзяліцца кароткімі ўспамінамі-думкамі пра ролю сьпеўнага гурта “Яваровы людзі” ў беларускім і канадыйскім жыцьці. Адразу падкрэсьлю, што гэты калектыў зьяўляецца ўнікальным сымбалем духу нашай нацыянальнай культуры ня толькі ў беларускіх суполках. Ён займае значнае месца сярод іншых нацыянальнасьцяў Канады. Вось некалькі прыкладаў: прэм’ера фальклёрнага гурта “Яваровы людзі” прайшла на ўсеканадыйскім фэстывалі нацыянальнасьцяў у горадзе Кітчэнэр (спадарожнік унівэрсытэцкага гораду Ватерлу) у 2001 г. Як жыхар Ватерлу й прафэсар славянскіх навук Унівэрсытэту Ватерлу я была сьведкай гэтага фэсту й з гонарам заяўляю, што ўзровень сьпеваў сяброў “Яваровых людзей” быў найвышэйшы. Сапраўды, атрымаўшы ў свой час музычную адукацыю, спадзяюся, што магу шчыра сказаць: “Яваровы людзі” нават тады былі адзіным калектывам, які гучаў прафэсійна. Гурт “Яваровы людзі” выступаў у Кітчэнэры неаднойчы, і ў наступныя гады іх падтрымлівалі выступамі нашыя салісты, Сьвятлана Літвінава й Валянціна Шаўчэнка, якіх гледачы таксама не адпускалі са сцэны. Другі прыклад — канцэрт, які адбыўся ў Атаве на Фэдэральным кангрэсе гуманітарных і сацыяльных навук Канады ва ўнівэрсытэце Карлтан (травень 2009 г.). “Яваровы людзі” й іншыя беларускія ўдзельнікі канцэрту трымалі аўдыторыю ў захапленьні каля 100 хвілін (заля была на 400 чалавек) хваляй сваёй творчай энэргіі. І трэці прыклад глядзіць вачыма ў будучыню. У жніўні 2020-га ў Манрэалі адбудзецца Сусьветны кангрэс навукоўцаў, які арганізуе Міжнародная рада па навуцы ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Гэта адна з самых прэстыжных зборак навукоўцаў у сьвеце (апошні кангрэс быў у 2015-м у Японіі). І “Яваровы людзі” запрошаныя, каб арганізаваць канцэрт для дэлегатаў кангрэсу, разам зь іншымі прафэсійнымі майстрамі-выканаўцамі рознага жанру беларускага паходжаньня.

Ніводнае сьвяткаваньне ў Беларускім цэнтры Таронта й амаль ніводная Сустрэча беларусаў ЗША й Канады, з удзелам амэрыканскіх і канадыйскіх палітыкаў і грамадзянаў, выхадцаў зь іншых краін, не абыходзіцца ў апошнія 18 гадоў бяз гэтага гурту, які створаны й кіруецца спадарыняй Віялетай Кавалёвай. Дзякуючы яе ведам беларускіх народных традыцый, невычэрпнай энергіі ў арганізацыі вакол сябе людзей, якія выхоўваюцца на сумесным разуменьні беларускасьці, яе бязьмежнаму творчаму патэнцыялу, бачаньню будучыні, культура Беларусі існуе ў Канадзе як роўная сярод роўных. Шчыры дзякуй, спадарыня Віялета, Вам і ўсім сябрам гурта “Яваровы людзі” за Вашую духоўнасьць, шчырасьць, талент, дабрыню, веды й плённую працу.

Зь вялікай павагай,

*Д-р Зіна Гімпелевіч,*
*прафэсар эмэрытус Унівэрсытэту Ватэрлу*

***

Для мяне “Яваровы людзі” — гэта магчымасьць успомніць маё дзяцінства ў беларускай вёсцы, паслухаць беларускую мову й паразмаўляць на ёй, вывучыць беларускія народныя песьні. Гэта магчымасьць пабыць у калектыве суайчыньнікаў, завязаць новыя знаёмствы, паразмаўляць зь людзьмі, у якіх такія самыя каштоўнасьці, такія ж погляды, такі ж досьвед. І такім чынам прагнаць пачуцьцё адзіноты, непрытуленасьці й часам разгубленасьці ў гэтай добрай, але ня роднай краіне.

А яшчэ я люблю сьпяваць. Вельмі цікава вучыцца сьпяваць у народным стылі, на некалькі галасоў. І атрымліваць вялікае задавальненьне, калі атрымліваецца сьпяваць чыста, прыгожым гукам і ў гармоніі зь іншымі галасамі.

*Ала Касьцючэнка,*
*шматгадовая сьпявачка гурта “Яваровы людзі”*

***

Я не зусім зь “Яваровых людзей”. Я находжуся збоку, але побач. Назіраю, раблю здымкі. Цікава сачыць, як людзі займаюцца любімай справай. Сьпяваюць старыя беларускія песьні, танчаць амаль зусім забытыя танцы, робяць тэатральныя пастаноўкі, сьвяткуюць народныя сьвяты. Ніхто не прымушае іх рабіць гэта. Але яны робяць. Робяць старанна. У складаных умовах. І, тым ня менш, зь вельмі добрымі вынікамі. Яны беларусы. Яны сапраўды ганарацца тым, хто яны й што робяць. Яны захоўваюць частку сваёй Радзімы ў зусім іншай краіне. Перадаюць свае веды маленькім беларусам, што нарадзіліся ўжо тут. Каб яны таксама адчувалі сабе беларусамі. І таксама ганарыліся тым. Адчувалі, што ўсе мы зьвязаныя паміж сабой беларускай нітачкай.

Назіраць за гэтым дзеяньнем вельмі цікава. Мне наогул падабаюцца тыя, хто робіць нешта па закліку душы. Перш за ўсё — у іх ёсьць душа. У кожнага зь іх гарыць у сярэдзіне нейкі агеньчык, нешта там кіпіць, булькае, вочы іскрацца. Таму й твары гэтых людзей такія сьветлыя й прыемныя. І знаходзіцца з гэтымі людзьмі так прыемна. А калі давядзецца дапамагчы, ну, напрыклад, зрабіць фотаздымкі, адчуваеш і сябе іх часткай. Адчуваеш, что і ў табе нешта тлее ўнутры. Ствараецца ўражаньне, што не дарма хлеб ясі. А што яшчэ трэба?

*Уладзімер Касьцючэнка,*
*муж сьпявачкі Алы Касьцючэнкі,*
*шматгадовы фатограф гурта “Яваровы людзі”*

***

Беларусы, якія апынуліся ў выгнаньні пасьля Другой сусьветнай вайны, мелі дзьве галоўныя мэты:

- Захаваць ідэалы 25 Сакавіка й нашую мову й культуру.

- Даказаць сьвету, што існуе такая краіна — Беларусь. Мы выкарыстоўвалі кожную нагоду, каб пра гэта ведала прынамсі насельніцтва краінаў, дзе мы пражывалі.

У Канадзе мы бралі актыўны ўдзел у міжэтнічным жыцьці краіны, і, нягледзячы на тое што шмат нашых людзей служылі нашым суседзям, і таму нас было ня так шмат, як балтаў, палякаў ці ўкраінцаў, мы карысталі з кожнай нагоды, каб даказаць, што мы годныя ўвагі менавіта дзеля нашых людзкіх якасьцяў і нашай культуры. Так здабывалі пакрысе сяброў для Беларусі, якія дасюль так моцна патрэбныя нашаму народу.

Аказалася, што найбольш эфэктоўнай дапамогай у нашым змаганьні за прызнаньне ўсяго беларускага была й ёсьць дасюль нашая культура. У ЗША найлепш яе прадстаўляў наш народны ансамбаль “Васілёк” пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана. У Канадзе мы гадамі бралі ўдзел у міжэтнічных фэстывалях, арганізоўвалі выстаўкі й канфэрэнцыі, стараліся быць прысутнымі ў міжкультурным жыцьці краіны.

Новая хваля эміграцыі падарыла нам “Яваровых людзей”. Ролі “Яваровых людзей” у захаваньні нашых традыцыяў і азнаямленьні іншых канадыйцаў зь беларускай культурай ня можна пераацаніць. Гэтая група людзей пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай ня толькі сталася важным фактарам яднаньня нашый моладзі ў Таронта, але й прадстаўніцтвам нашай культуры ў Канадзе. Выступаюць “Яваровы людзі”, безумоўна, і ў Беларускім рэлігійна-грамадзкім цэнтры ў Таронта, але таксама на міжнародных канцэртах і фэстывалях. Выступаюць выдатна, прафэсійна. Да выступаў дадалі фільм “То-то-то”, ладзяць сьвяткаваньні Купальля ў антарыйскім “Слуцку”.

У найбліжэйшай будучыні “Яваровых людзей” — выступ на Міжнародным кангрэсе славістаў у Манрэалі ў 2020 г. Там будзем ганарыцца “Яваровымі людзьмі” ня толькі мы, беларусы Канады, але й канадыйцы ўсіх паходжаньняў, бо “Яваровы людзі” будуць прадстаўляць там усю шматкультурную Канаду.

*Івонка Сурвілла,*
*Старшыня Рады БНР*

*Тэма нумару: “О, Канада!”*
*Асоба*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ДАСЬЛЕДНІК КАНАДЫЙСКІХ БЕЛАРУСАЎ

Аўтар першай у Канадзе дый наогул на Захадзе манаграфіі, прысьвечанай беларускай эміграцыі, Янка Садоўскі памёр 10 чэрвеня 1982 г. ва ўзросьце 56 гадоў. Сышоў раптоўна, нечакана й амаль бязгучна, калі мець на ўвазе звычайныя ў такіх выпадках пасьмяротныя розгаласы ў прэсе ды ў грамадзе. Зусім невялікі, у адзін абзац, нэкралёг-паведамленьне ў газэце “Беларус” пра сьмерць *“доктара гуманітарных навукаў, дасьледчыка гісторыі Беларусі”*[1] ды кароткія згадкі ў кнізе а. Аляксандра Надсана “Біскуп Чэслаў Сіповіч: святар і беларус” (Мінск, 2004) пра яшчэ даканадыйскае жыцьцё навукоўца — гэта бадай усё, што зафіксавана ў друку. Сёньня канадыйскія беларусы ня ведаюць, нават дзе пахаваны іх першы гісторык…

Чаму так атрымалася? Чаму чалавек, які зрабіў важную для грамады працу, замацаваў беларускую прысутнасьць у навуковым канадыйскім дыскурсе, аказаўся зусім незаўважным для сучасьнікаў і нашчадкаў? І ці не паўплывала на гэта менавіта ягоная дасьледчая праца? Што яна зь сябе ўяўляла й якія мела вынікі? На гэтыя й некаторыя іншыя пытаньні будзе зробленая спроба знайсьці адказы ў наступным тэксьце.

## *Даканадыйская біяграфія*

Біяграфічных зьвестак пра Янку Садоўскага захавалася няшмат нават у ягоным фондзе ў Нацыянальнай бібліятэцы й архіве Канады ў Атаве (*Library and Archives Canada. John Sadouski Fonds. MG31—D124*). З усіх 11 скрыняў тут можна знайсьці ці не адзіны цікавы ў гэтым сэнсе дакумэнт — англамоўны варыянт аўтабіяграфіі, напісаны каля 1970 г., дзе й выкладзеныя галоўныя падзеі даканадыйскага жыцьця навукоўца[2]. І хоць факты пададзеныя сьцісла й з пэўнымі замоўчваньнямі, аднак гэтае *Curriculum vitae* можна ўзяць за аснову аднаўленьня біяграфіі нашага героя.

---

[1] Сьв. памяці Янка Садоўскі // Беларус. № 303—304. Жнівень — верасень 1982. С. 7.

[2] Library and Archives Canada (LAC). John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 1.

Янка Садоўскі нарадзіўся 15 ліпеня 1926 г. у вёсцы Залужжа (цяпер Стаўпецкі раён Менскай вобласьці) у сям'і селяніна Пятра. У 1933—1939 гг. вучыўся ў пачатковай школе ў роднай вёсцы. Пасьля, да 1942 г., навучаўся ў сярэдняй школе ў Міры. У 1942—1944 гг. вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Далей у біяграфіі заўважаецца першая лакуна. Навуковец не ўдакладніў, якім менавіта чынам ён трапіў у польскае войска на Захадзе. Аднак можна дапусьціць, што разам зь іншымі навучэнцамі настаўніцкай сэмінарыі (з тым самым Аляксандрам Надсанам) ён апынуўся ў 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС, якая была кінутая немцамі на змаганьне з саюзьнікамі ў Францыі. Як і шматлікія маладыя беларусы, ён з гэтай дывізіі ўцёк, бо ад лютага 1945 г. ужо быў жаўнерам 2-га Польскага корпусу генэрала Андэрса. У шэрагах вайскоўцаў у ліпені 1946 г. Янка Садоўскі прыбыў у Вялікабрытанію й да траўня 1947 г. яшчэ служыў там у Польскім перасяленчым корпусе. Пасьля дэмабілізацыі працаваў *"у ведамствах брытанскай Камісіі лясной гаспадаркі, а таксама Нацыянальнай вугальнай рады"*[3].

У верасьні 1949 г. Янка Садоўскі здаў у Лёндане іспыт на атрыманьне атэстату аб сярэдняй адукацыі і ўжо ў кастрычніку таго ж году паехаў у Італію *"вывучаць італьянскую й лацінскую мовы"*. Тут у аўтабіяграфіі, пісанай для кіраўніцтва Кінгстанскага ўнівэрсытэту, замоўчваецца рэлігійная складовая жыцьця будучага навукоўцы. Пры атрыманьні магчымасьці навучаньня ў Рыме Садоўскі яшчэ ў 1948 г. паступіў кандыдатам у ордэн марыянаў, пра разбудову якога так дбаў стваральнік беларускага рэлігійна-грамадзкага асяродку ў Паўночным Лёндане а. Часлаў Сіповіч. Таму пасьля навіцыяту маладзён распачаў навучаньне ў Рыме ў падрыхтоўцы да сьвятарства[4].

У аўтабіяграфіі сьцьвярджаецца, што ў 1950—1952 гг. ён вучыўся ў Папскім інстытуце "Ангелікум" у Рыме, дзе атрымаў ступень бакалаўра філязофіі. У 1952—1956 гг. студыяваў тэалёгію ў Папскім Грыгарыянскім унівэрсытэце й займеў ліцэнцыят у гэтай галіне. Праўда, надзеі а. Часлава Сіповіча студэнт не апраўдаў. Ужо ў 1953 г. ён вырашыў не аднаўляць сваіх законных шлюбаў у марыянаў ды перайшоў зь візантыйскага ў рымскі абрад, у якім ён 17 сьнежня 1955 г. і быў пасьвячоны ў сьвятары[5].

Аднак сьвятарства не спыніла навучаньня. У 1956—1958 гг. Янка Садоўскі ўжо на бібліістыцы ў Папскім біблейскім інстытуце, па заканчэньні якога меў ліцэнцыят у Сьвятым Пісаньні. Адначасова ў 1956—1960 гг. — у Рымскім унівэрсытэце, спэцыялізаваўся на вывучэньні

---

3 LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. С. 1. F. 1.

4 Надсан, Аляксандр. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Мінск: БелФранс, 2004. С. 161.

5 Надсан, Аляксандр. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. С. 126.



Янка Садоўскі.
Кінгстан, 1971 г.

гісторыі ўсходнеславянскіх моваў і зацікавіўся дасьледаваньнем жыцьця й дзейнасьці Францыска Скарыны. З гэтай нагоды ў вечнага студэнта завязалася й працягнулася на доўгія гады ліставаньне зь яшчэ адным захопленым скарыназнаўцам Вітаўтам Тумашам. Апошні карыстаў з наяўнасьці свайго чалавека ў Італіі, каб праверыць розныя факты Скарынавай біяграфіі, часам прасіў Садоўскага дапамагчы зь перакладамі некаторых лацінскіх выразаў. Ліставаньне двух навукоўцаў захоўваецца ў канадыйскім архіве й чакае свайго дасьледніка[6].

Вынікам італьянскага пэрыяду навучаньня ды скарынаведы Янкі Садоўскага стала знаходка ў падуанскім архіве новага дакумэнта, згодна зь якім можна было меркаваць, што паміж 1506 і 1512 гг. будучы першадрукар быў сакратаром у дацкага караля. Малады дасьледнік спрабаваў таксама адшукаць доказы таго, што Скарына вучыўся ва ўнівэрсытэце ў Капэнгагене. Значна пазьней, у 1969 г., у лёнданскім *"The Journal of Byelorussian Studies"* пабачыў сьвет артыкул навукоўца, прысьвечаны зьвесткам пра дацкі пэрыяд жыцьця першадрукара[7].

Іншым наступствам "італьянскага" навучаньня стала атрыманьне Янкам Садоўскім у 1964 г. ступені доктара літаратуры ў славяназнаўстве. А ягоная дысэртацыя, напісаная пад кіраўніцтвам прафэсара Р. Пічыа (*R. Picchio*), мела назоў "Францыск Скарына".

Праўда, у часе абароны дысэртацыі малады навуковец ужо ня жыў у Італіі. У лютым 1961 г. на загад а. Часлава Сіповіча ён вярнуўся ў Лёндан, дзе меўся стаць кіраўніком Беларускай школы-інтэрнату імя сьв. Кірылы Тураўскага. Аднак выконваў гэтыя абавязкі вельмі непрацяглы час, бо ўжо ў сьнежні 1961 г. Янка Садоўскі пакінуў і Марыян-Хаўз, і наогул сьвятарства ды ў хуткім часе ажаніўся з ангелькаю. У беларускіх сьвятароў-паплечнікаў гэта выклікала немалы шок і зразумелае абурэньне.

Застаўшыся на нейкі час жыць у Лёндане, Садоўскі выкладаў рускую мову ў розных мясцовых школах. Ад 1964 г. пачаў рыхтаваць дактарат філязофіі ў галіне рускай мовы й літаратуры ў Школе славянскіх і ўсходнеэўрапейскіх студыяў Лёнданскага ўнівэрсытэту. Спэцыялізаваўся ён у гісторыі ўсходнеславянскіх моваў і падрыхтаваў дысэртацыю на тэму "Лінгвістычны аналіз Чатырох Кніг Царстваў, надрукаваных

---

6 LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 32.

7 Sadouski, John. Skaryna`s Stay in Denmark // The Journal of Byelorussian Stuies. Vol. II. № 1. London, 1969. P. 25—28.

Францыскам Скарынам у 1518 г.”. Працу пісаў пад кіраўніцтвам ведамага брытанскага славіста прафэсара Робэрта Оты ды прафэсара М. Самілава. Ступень доктара філязофіі атрымаў 8 лістапада 1967 г.

Пасьля абароны Янка Садоўскі змог нарэшце зьехаць зь Вялікабрытаніі, дзе яму, напэўна, было складана жыць з адчуваньнем крыўды з боку былых калегаў-сьвятароў. Навуковец перабраўся за акіян. У 1968—1969 гг. ён выкладаў рускую мову й літаратуру ў Ілінойскім унівэрсытэце ў Чыкага, аднак пачуваўся тут ня надта добра. У лісьце да Кастуся Акулы ад 4 траўня 1969 г. пісаў, што меў праблемы з горлам, што ЗША надакучылі, *“як горкі яблык”*[8]. Ён вельмі чакаў выезду ў Канаду, на якую ўскладаў вялікія надзеі.

## *Канадыйскі пэрыяд*

Ад 1 ліпеня 1969 г. Янка Садоўскі меў пасаду дацэнта (*associate professor*) рускай мовы й літаратуры ў Квінс унівэрсытэце ў Кінгстане (правінцыя Антарыё, Канада). Менавіта тут ён працягнуў сваю навуковую дзейнасьць ды працаваў да раптоўнай сьмерці ў 1982 г.

Канада адразу прыйшлася даспадобы. У лісьце ад 12 ліпеня 1969 г. да ўкраінскага пісьменьніка й навукоўцы Яра Славутыча дасьледнік пісаў: *“Канада нам вельмі падабаецца. Не баімся ісьці ў некаторыя месцы — тут не так небясьпечна, як у Чыкаго. Асабліва нашая дачушка задаволена, што цэлы дзень можа гуляць на дварэ”*[9].

Адносна хутка адбылася інтэграцыя ў канадыйскае беларускае жыцьцё. Ужо 26 кастрычніка 1969 г. Янка Садоўскі быў абраны на пасаду старшыні Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Канадзе (заставаўся на ёй да студзеня 1972 г.), а 18 студзеня 1970 г. быў прыняты ў сябры Згуртаваньня беларусаў Канады[10].

На пасадзе старшыні Канадыйскага БІНіМу дасьледнік распачаў даволі актыўную дзейнасьць. Першай ягонай ініцыятывай стала выданьне новага англамоўнага беларусаведнага часопісу *“Canadian Byelorussian Review”*. Янка Садоўскі бачыў яго міжнародным навуковым альманахам і ўжо у сакавіку 1970 г. пісаў да аднаго свайго брытанскага калегі ў справе публікацыяў[11]. На жаль, праект застаўся нерэалізаваным, хоць дакладныя прычыны гэтага й нявысьветленыя.

Больш пасьпяховай ініцыятывай было правядзеньне 17—18 красавіка 1971 г. навуковай беларусаведнай канфэрэнцыі у Квінс

[8] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 4.

[9] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 27.

[10] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 38.

[11] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

універсытэце, дзе Янка Садоўскі й працаваў. Гэта было першае такога кшталту мерапрыемства ў Канадзе. З прысьвечанымі беларускай тэматыцы дакладамі выступалі ня толькі беларусы, але й іншанацыянальныя дасьледнікі. Навуковая складовая падзеі была дапоўненая культурнай — выставай беларускага мастацтва.

У той самы час з падказкі тарантаўскага знаёмца Антона Маркевіча Янка Садоўскі распачаў супрацоўніцтва з канадыйскім Музэем чалавека ў Атаве па зьбіраньні беларускай калекцыі[12]. Паводле спэцыяльнага праекту дасьледнік стаў праз кантакты з суродзічамі вышукваць нацыянальныя вышываныя й тканыя вырабы, строі і ўсялякія іншыя прадметы традыцыйнага мастацтва. Неўзабаве музэйная ініцыятыва дапоўнілася фальклёрнай, калі Янка Садоўскі стаў вышукваць запісы беларускіх народных сьпеваў і рабіць іх пераклады. Гэтымі справамі ён займаўся на працягу 1971—1972 гг.

Побач з тым ішла выкладчыцкая й навуковая праца ва ўнівэрсытэце. Зразумела, што асноўны акцэнт на катэдры рускай мовы й літаратуры рабіўся на расейскай тэматыцы. Аднак Янка Садоўскі даволі хутка пачаў шукаць шляхі для пашырэньня межаў выкладаных дысцыплінаў і досьледаў. Ужо ў 1970 г. ён прапанаваў уключыць у праграму навучаньня курс “Усходнеславянскія цывілізацыі”, каб адысьці ад аднабаковай арыентацыі выключна на расейскую культуру й гісторыю[13]. Шукаючы ўласную нішу ва ўнівэрсытэцкай дасьледчай працы, навуковец пісаў пра беларускі ўплыў на рускую культуру ў XVI — XVII стст., пра беларускую літаратуру ў XIX ст., пра асобных беларускіх літаратараў XX ст. (пра Рыгора Крушыну, Васіля Быкава й інш.). Заангажаваўся ў стварэньне артыкулаў пра беларускіх пісьменьнікаў для Канадыйскай энцыкляпэдыі. Пэўны час ён рабіў адмысловыя англамоўныя агляды беларускіх публікацый для *“The Year's Work in Modern Languages Studies”*, што было надзвычай важным для прасоўваньня нацыянальнай тэматыкі ў іншакультурным навуковым асяродзьдзі.

У канадыйскі пэрыяд жыцьця навуковец працягваў займацца й скарыназнаўствам. У “Запісах БІНіМ” пэрыядычна зьяўляліся ягоныя скарынаведныя публікацыі[14], а таксама рыхтавалася да друку кніга на

[12] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 61.

[13] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 7.

[14] Найбольш значнымі скарыназнаўчымі публікацыямі Янкі Садоўскага былі: Садоўскі, Янка. Лексычныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Скарыны // Запісы БІНіМ. № 5 (11). Мюнхен, 1970. С. 91—112; Sadouski, John. Studies on Doctor Francis Skaryna Skaryna in the West since Word War II. (Дасьледаваньні аб Франьцішку Скарыну па Другой сусьветнай вайне на Захадзе) // Запісы БІНіМ. № 17. Нью-Ёрк, 1983. С. 31—34; Садоўскі Янка. Марфалягічныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Ф. Скарыны// Запісы БІНіМ. № 18. Нью-Ёрк, 1988. С. 83—95.

падставе дзьвюх дысэртацыяў. Першы раз дасьледнік паведамляў пра магчымасьць выданьня сваёй прысьвечанай Скарыну працы ў згаданым вышэй лісьце да Кастуся Акулы[15]. Яшчэ ў 1969 г. Янка Садоўскі сьцьвярджаў, што выдавецтва ўнівэрсытэту ў Алябаме прапаноўвала яму надрукаваць дысэртацыю. Пазьней пра гэта ж пісалася як пра справу амаль што вырашаную ў 1972 г. Аднак, як выглядае, навуковец так і ня змог пабачыць апублікаванымі вынікі сваёй скарынаведнай працы ў кніжным выглядзе. У ягоным архіве захаваўся чарнавы англамоўны машынапіс (290 старонак) пад назовам: *“Doctor Francis Skaryna: Life, Works and Language”* (“Доктар Францыск Скарына: Жыцьцё, працы й мова”)[16].

Здаецца, ужо ўсяго згаданага было дастаткова для спакойнага існаваньня ў канадыйскім унівэрсытэце й здабываньня павагі сярод калегаў і суродзічаў. Аднак Янку Садоўскаму гэтага было мала. Цягам апошніх амаль 10 гадоў свайго жыцьця ён заангажаваўся ў яшчэ адзін праект, які прынёс яму багата працы й хваляваньняў, — напісаньне гісторыі беларусаў у Канадзе.

## *Пачаткі праекту*

Гісторыя стварэньня кнігі пра беларусаў у Канадзе пачалася зь ліста, які прыйшоў на катэдру рускай мовы й літаратуры Квінс унівэрсытэту з аддзелу грамадзянства Дэпартамэнту Дзяржаўнага сакратара Канады 2 лістапада 1971 г. У ім паведамлялася, што ў абвешчанай прэм’ер-міністрам праграме шматкультурнасьці адным з кірункаў прадугледжвалася напісаньне гісторый этнічных групаў Канады. Адмысловая камісія, пакліканая Дзяржсакратаром, мелася кантраляваць і каардынаваць выданьне 20 такіх працаў. На першым этапе запрашаліся ахвотныя для стварэньня “базавых гісторый” паасобных нацыянальных групаў. Фінансаваньне выдаткаў на дасьледаваньні браў на сябе Дэпартамэнт Дзяржсакратара. Рашэньне пра тое, прысьвечаныя якім этнічным групам праекты будуць падтрыманыя, мелася залежаць як ад памеру самой групы, гэтак і ад кваліфікацыі дасьледніка, які падасьць заяўку на атрыманьне гранту[17].

Згаданая абвестка й прымусіла Янку Садоўскага задумацца пра стварэньне “Гісторыі беларусаў у Канадзе”. Роздумы занялі чатыры месяцы. 9 сакавіка 1972 г. навуковец скіраваў да аўтара згаданага ліста Говарда Палмэра просьбу даслаць больш дэталёвую інфармацыю для

---

[15] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 4.

[16] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 2. F. 1—10.

[17] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

падачы праекту напісаньня гісторыі беларускай групы ў Канадзе. Празь месяц 11 красавіка 1972 г. быў атрыманы адказ, што тэрмін падачы заявак на гэты год выйшаў яшчэ ў лютым, але будуць разглядацца магчымасьці стварэньня гісторый болей як 20 этнічных групаў і таму варта падаць сваю прапанову ў наступным годзе[18].

Амаль праз паўтара году, 2 жніўня 1973 г., Янка Садоўскі скіраваў у Дэпартамэнт Дзяржсакратара праект напісаньня гісторыі беларусаў у Канадзе. У тэксьце згадвалася, што на той момант існавала толькі дзьве навуковыя публікацыі, прысьвечаныя беларускай этнічнай групе: невялікая праца Ўладзімера Кайе (Кісілеўскага) *"Canadians of Byelorussian Origin"* (1960) і артыкул Вінцэнта Жук-Грышкевіча *"Belorussians and Canadian Statistics"* у зборніку *"Slavs in Canada"* (1968). У сувязі з гэтым Янка Садоўскі прапаноўваў скласьці бібліяграфію друкаў, архіўных дакумэнтаў як з дзяржаўных архіваў, гэтак і са збораў беларускіх арганізацый, апрацаваць гэтыя матэрыялы, адведаць беларускія асяродкі ў Таронта, Ашаве, Манрэалі, Галіфаксе, Садбуры, Вініпэгу й Ванкувэры (пералік гарадоў сьведчыць пра даволі прыблізныя тагачасныя веды навукоўца пра беларускія асяродкі ў Канадзе), запісаць інтэрвію зь беларусамі й іншымі асобамі, якія валодалі неабходнай для дасьледаваньня інфармацыяй. На рэалізацыю праекту навуковец заплянаваў сабе два гады, каб скончыць яго ў кастрычніку 1975 г., а бюджэту прасіў 10000 даляраў (як і меркаваў грант ад Дэпартамэнту Дзяржсакратара). У праекце былі пазначаныя дзьве асобы "паручыцеляў" — прафэсар аддзяленьня гісторыі Квінс унівэрсытэту Р. А. Пірс (*R. A. Pierce*) і прафэсар паліталёгіі Інстытуту савецкіх і ўсходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў Карлтанскага ўнівэрсытэту (Атава) Б. Р. Бацюркіў (*B. R. Baciurkiv*), дадавалася таксама кароткая біяграфія аўтара[19].

15 жніўня 1973 г. памочнік старшыні аддзелу грамадзянскіх культураў Дэпартамэнту Дзяржсакратара Орэст Кругляк пацьвердзіў атрыманьне заяўкі на грант і паабяцаў перадаць яе на разгляд адмысловага журы ды адказаць бліжэй да канца верасьня бягучага году. Аднак скончыўся й верасень, і кастрычнік, а зьвестак пра разгляд свайго праекту Янка Садоўскі ня меў. 9 лістапада ён напісаў да таго ж спадара Кругляка запыт наконт вынікаў разгляду й праз два тыдні атрымаў нечаканы адказ, нібыта ўласна заяўкі супрацоўнік Дэпартамэнту ніколі не атрымоўваў. Навукоўцу давялося дасылаць зноў і заяўку, і копію ліста таго ж Кругляка з пацьверджаньнем ейнага атрыманьня яшчэ ў жніўні[20]. Нягледзячы на просьбу разгледзець праект да канца году, толькі ў сту-

[18] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[19] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[20] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

дзені 1974 г. прыйшоў новы ліст ад Орэста Кругляка, гэтым разам з паведамленьнем, што журы запатрабавала больш дэталёвае апісаньне задуманай працы. На працягу месяцу Дэпартамэнт атрымаў прошанае. Янка Садоўскі падаў сьпіс з амаль двух дзясяткаў гарадоў, дзе жывуць беларусы, амаль паўсотні прозьвішчаў асобаў, зь якімі мае спаткацца, каля дзясятка арганізацый, салідны сьпіс пэрыёдыкаў і публікацыяў, што мае вывучыць. Дасьледнік дадаў таксама, што ягоная жонка Марыя гатовая дапамагаць яму ў справе зьбіраньня матэрыялаў[21].

Пашыраныя зьвесткі па праекце былі пададзеныя ў Дэпартамэнт на пачатку лютага 1974 г. Цягам сакавіка — траўня навуковец зноў безвынікова спрабаваў даведацца пра лёс сваёй заяўкі ў таго ж Орэста Кругляка. Пры канцы траўня яму адказаў кіраўнік Праграмаў канадыйскай ідэнтычнасьці Хэлі Ўілсан, што праект усё яшчэ на разглядзе камісіі. Гэта прымусіла Садоўскага напісаць у Дэпартамэнт Дзяржсакратара своеасаблівы ўльтыматум: калі ягоная заяўка, пададзеная яшчэ год таму, ня будзе разгледжана да канца жніўня, ён яе адкліча, бо ня можа болей марнаваць свой час у чаканьні[22].

Няведама, ці гэты ліст навукоўца падзейнічаў, ці павольная дзяржаўная машына нарэшце завяршыла свой плянавы цыкль, але 24 ліпеня 1974 г. Янка Садоўскі атрымаў з Дэпартамэнту паведамленьне, што ягоны праект падтрыманы. А 19 жніўня быў падпісаны й афіцыйны кантракт паміж дасьледнікам і Дзяржсакратаром як рэпрэзэнтантам Брытанскай каралевы. У ім пазначалася, што ад 31 жніўня 1974 г. да 1 кастрычніка 1977 г. (дату заканчэньня перавызначыў сам Садоўскі) мае быць зробленая праца па напісаньні гісторыі беларусаў у Канадзе. На яе аўтар меўся атрымаць 10 тысячаў даляраў (5 тысячаў для пачатку працы і па 2,5 тысячы па выніках — прамежкавым, у сакавіку 1976 г., і канчатковым, у кастрычніку 1977 г.). Усе матэрыялы, створаныя ў межах праекту, меліся належаць Дэпартамэнту, ён жа па выніках працы мусіў прыняць рашэньне пра іх поўную або частковую публікацыю. Ад імя Дзяржсакратара кантракт падпісаў той самы Орэст Кругляк[23].

Выглядае, што беларусы сталі 21-й этнічнай групай, напісаньне гісторыі якой было падтрыманае Канадыйскай дзяржавай. Для праекту Янкі Садоўскага, як і для іншых падобных, былі вызначаныя навуковыя куратары: прафэсар Ёркскага ўнівэрсытэту Джын Барнэт (*Jean Burnet*) і прафэсар Унівэрсытэту Калгары Говард Палмэр (*Howard Palmer*), якім належыла чытаць і ацэньваць будучы рукапіс[24].

[21] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[22] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[23] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[24] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

Нягледзячы на падпісаньне кантракту яшчэ ў жніўні 1974 г., грошы на пачатак дасьледаваньняў Янка Садоўскі атрымаў толькі ў сьнежні. І менавіта тады ён распачаў сваю працу.

## *Зьбіраньне матэрыялаў*

Паводле канонаў найперш Янка Садоўскі зьвярнуўся да апублікаваных і архіўных крыніцаў. Праўда, ужо з доступам да першых адразу ўзьніклі складанасьці. Так, у даступных бібліятэках не аказалася аўтабіяграфічнай кнігі Івана Шырынскага *"Странствия по Канаде"*, выдадзенай у Менску ў 1969 г. Яе аўтар некалькі дзесяцігодзьдзяў пражыў у Канадзе, аднак урэшце вярнуўся ў БССР. Ужо ў сьнежні 1974 г. Садоўскі напісаў ліст у рэдакцыю газэты "Голас Радзімы" з просьбай дапамагчы яму знайсьці гэтую кнігу[25]. Адказ прыйшоў толькі пры канцы сакавіка 1975 г. са шкадаваньнем, што немагчыма дапамагчы ў пошуку[26]. Праўда, праз пару месяцаў навукоўцу такі ўдалося пазычыць згаданае выданьне ў аднаго з супрацоўнікаў рэдакцыі тарантаўскай газэты *"Вестник"*.

Па-за кнігай Шырынскага й згаданымі яшчэ ў заяўцы па праекце публікацыямі Ўладзімера Кайе й Вінцэнта Жук-Грышкевіча Янка Садоўскі вывучыў працу беларуса зь міжваеннай эміграцыі Рыгора Акулевіча *"Русские в Канаде"*, прысьвечаную Фэдэрацыі рускіх канадцаў, значную частку ўдзельнікаў якой складалі беларусы, і яшчэ з паўсотні розных кніг і артыкулаў, у большай ці меншай ступені датычных тэмы. На працягу некалькіх гадоў ён таксама праштудыяваў камплекты газэтаў "Бацькаўшчына", "Беларускі Эмігрант", "Беларускі Голас", "Беларус", усе даступныя нумары часопісу "Баявая Ўскалось". Праўда, знайсьці ўсе згаданыя выданьні было ня так лёгка. Нацыянальная бібліятэка Канады ў той час займалася мікрафільмаваньнем пэрыёдыкаў, у тым ліку й беларускіх, таму доступу да іх трэба было чакаць месяцамі.

Значна складанейшай выглядала справа з архіўнымі крыніцамі, асабліва якія датычылі ранейшых хваляў беларускай іміграцыі ў Канадзе. У гэтай справе Янка Садоўскі адразу зьвярнуўся да свайго папярэдніка — Уладзімера Кайе. У лісьце ад 30 студзеня 1975 г. беларус прасіў парады, зь якіх архіўных дакумэнтаў варта пачынаць і на што зьвярнуць увагу. Літаральна праз тыдзень быў атрыманы наступны адказ:

[25] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 43.

[26] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*Люты 7, 1975*[27]

*Дарагі Праф. Садоўскі!*

*Быў рады атрымаць Ваш ліст ад 30 студзеня й даведацца доўгачаканую навіну, што Вы маеце намер пісаць "Гісторыю беларусаў у Канадзе".*

*Вы мусіце падтрыхтавацца да вельмі складанага заданьня, але я шчыра спадзяюся, што гэта ня будзе для Вас перашкодаю ў такім надзвычай важным праекце.*

*Амаль да Другой сусьветнай вайны само імя "беларусы" адсутнічала ў афіцыйных дакумэнтах. Беларускія імігранты запісваліся або "расейцамі", або "палякамі" ў залежнасьці ад таго, зь якой краіны яны прыяжджалі. Нават афіцыйныя перапісы не пазначалі беларусаў асобна.*

*Беларуская іміграцыя, наколькі я магу меркаваць, пераважна пачалася пасьля першай расейскай рэвалюцыі 1905 г., калі былі паслабленыя эміграцыйныя абмежаваньні. Яна прыбывала пад пазнакаю "расейцаў", і пераважная большасьць імігрантаў сяліліся ў прамысловых цэнтрах на ўсходзе краіны.*

*Магчыма, маё меркаваньне, выказанае ў лісьце да К[астуся] Акулы наконт даступнасьці матэрыялаў пра беларусаў у публічным архіве, было звышаптымістычным, але я ўсё яшчэ думаю, што багата можна адшукаць.*

*Упершыню я сутыкнуўся з афіцыйнай пазнакай беларусаў у часе маёй дасьледчай працы зь ліставаньнем часоў Першай сусьветнай вайны. Я пабачыў імёны параненых і забітых жаўнераў, чыё "месца нараджэньня" было пададзена як "Расея", але адрасамі іх сваякоў пазначаліся Горадня й іншыя беларускія месцы, што даводзілі іхняе беларускае паходжаньне. Месцы іх рэгістрацыі былі пераважна Квэбэк, Атава, Таронта, Манрэаль, практычна ўсе на ўсходзе.*

*На маю думку, найбольш важнымі крыніцамі для дасьледаваньня могуць быць сьпісы пасажыраў караблёў за 1905—1914 гг., але перагляд дзясяткаў тысячаў імёнаў — гэта вельмі працаёмкае заданьне (наколькі я ведаю). Каб вывучаць гэтыя сьпісы, неабходна атрымаць спэцыяльны дазвол. Імігранты пазначаліся як прыбылыя з "Расеі", і толькі ў запісах некаторых караблёў дадавалася назва гораду або мястэчка.*

*Запісы выдзяленьня гомстэдаў за 1890—1900 гады, якія я вывучаў, не падаюць ніводнага беларускага імя, магчыма, таму што беларуская іміграцыя пачалася пазьней і скіроўвалася на Захад наўпрост.*

*У запісах натуралізацыі за 1896—1906 гг. таксама адсутнічаюць беларускія імёны. Але вывучэньне пазьнейшых гадоў можа даць*

[27] Тут і далей пераклад лістоў з ангельскай зроблены Н. Г.

*пэўныя вынікі. Запісы аб натуралізацыі ўтрымліваюць больш дэталёвую інфармацыю пра заяўнікаў, уключна зь месцам нараджэньня.*

*Такім чынам, мне здаецца, што найбольш шматабяцальнымі крыніцамі інфармацыі могуць быць карабельныя сьпісы, запісы аб натуралізацыі пасьля 1914 г. і пайменныя сьпісы залічэньня ў войска ў часе Першай сусьветнай вайны.*

*Таксама было б карысна паглядзець гарадзкія запісы такіх месцаў, як Таронта (яны даступныя ў кніжнай форме), і іншых месцаў, як Кітчэнэр, Манрэаль, Квэбэк і г. д.*

*Шчыра Ваш*

*У. Дж. Кайе*[28].

У адпаведнасьці з парадамі старэйшага калегі Янка Садоўскі скіраваўся ў Публічны архіў у Атаве й найперш перагледзеў фонд самога Ўладзімера Кайе. Таксама разам з жонкаю, якая афіцыйна была далучана да дасьледаваньня, навуковец прастудыяваў колькі тамоў запісаў Іміграцыйнага аддзелу й Міністэрства абароны. Папрацаваў і ў Архіве этнічных групаў ды перагледзеў зьвесткі перапісаў і дзяржаўнай статыстыкі. Аднак вынікі гэтых пошукаў сам Янка Садоўскі ацэньваў як невялікія. У 1976 г. ён стаў рабіць захады, каб атрымаць дазвол на працу з запісамі аб натуралізацыі. Дапамогу ў атрыманьні дазволу на гэта аказваў дасьледніку тагачасны адміністратар Праекту этнічнай гісторыі ўкраінец Майран Момрык. Аднак пасьля кансультацыяў з аддзелам грамадзянства ён зрабіў такую заўвагу: *“Задача надзвычай складаная. Запісы аб грамадзянстве пераведзеныя на мікрафільмы, і гэта тысячы футаў стужкі. Каб перагледзець іх на прадмет пазнакаў месцаў нараджэньня, спатрэбіцца па меншай меры некалькі гадоў”*[29]. У выніку дасьледніку, каб своечасова скончыць праект, давялося адмовіцца ад апрацоўкі згаданых крыніцаў, тым больш што вынік такой працы быў не гарантаваны.

Затое Янка Садоўскі змог папрацаваць з дакумэнтамі беларускіх канадыйскіх арганізацыяў: Згуртаваньня беларусаў Канады, Беларуска-Канадыйскага жаночага згуртаваньня, царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Нечакана ў 1977 г. зьявілася магчымасьць доступу таксама да архіваў Беларускага нацыянальнага аб’еднаньня, што зьберагаліся ў ягонага сакратара Язэпа Баброўскага й які прапанаваў іх для прагляду. Недзе ў 1975 г. на прапанову Янкі Садоўскага Архіў этнічных групаў зьвярнуўся да ўдавы пісьменьніка Міколы Сільвановіча ў Віпэгу з просьбай перадаць ягоныя дакумэнты. Аднак прайшлі два гады, перш чым тыя матэрыялы апынуліся ў Атаве[30].

---

[28] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 67.

[29] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[30] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

Праца з апублікаванымі й архіўнымі крыніцамі зацягнулася. Ужо ў ліпені 1975 г. Янка Садоўскі зразумеў, што ў кантракце вызначыў замала часу для свайго дасьледаваньня. Ён паспрабаваў перанесьці канец праекту з кастрычніка 1977 г. на люты 1979 г., а прамежкавую справаздачу — з сакавіка на верасень 1976 г. З пераносам апошняй справа не атрымалася, а вось дату завяршэньня праекту ўрэшце навукоўцу дазволілі зьмяніць, але не на люты 1979 г., а на кастрычнік 1978 г.[31].

Варта заўважыць, што праца па праекце ішла паралельна з асноўнай выкладчыцкай працай Янкі Садоўскага ва ўнівэрсытэце. Так супала, што ў сярэдзіне 1970-х гг. дасьледнік атрымаў прапанову зь Нью-Ёрскага Квінскага каледжу ад Томаса Бэрда падрыхтаваць артыкул пра беларускае пісьменьніцтва ў Канадзе[32]. Гэта было вельмі дарэчы й для працы над кнігаю, таму ў 1976 г. Янка Садоўскі пісаў да розных беларусаў яшчэ і ў справе гэтага артыкулу. Прыкладам, грамадзкая дзяячка й мовазнаўца Валянціна Пашкевіч пастаралася, наколькі магла, поўна адказаць на пытаньні ў зьвязку зь беларускім пісьменствам.

*Ісьлінгтон, 23—11—1976*

*Вельмі паважаны Доктар!*

*Сьпяшаю адказаць Вам на Вашыя пытаньні, нажаль, баюся, ня шмат Вам памагу.*

*1. Ці хто ў Канадзе зь Беларусаў напісаў якую п’есу, я ня ведаю, ніколі аб такім ня чула.*

*2. Якія п’есы папулярныя, хто іх ставіў?*

*Як ведаеце, прафэсыйнай групы тэатральнай беларускай тут няма. У першыя часы, як прыбыла гэтая апошняя эміграцыя, былі аматарскія гурткі.*

*Наймацнейшы хіба зь іх, што я знаю, быў пры Згуртаваньні Беларусаў у Мантрэалі, зарганізаваны ў 1952 г. у рамках Культурна-мастацкага Гуртка пад кіраўніцтвам Паўлы Чопчыца. 22 чырвеня 1952 г. на адкрыцьці беларускае сьвятліцы (клюбу) у Мантрэалі яны ставілі сярод іншага камэдыю Каруся Каганца “Модны шляхцюк”, а 12 кастрычніка 1952 г. з гэтай п’есай прыяжджалі ў Таронта. У 1954 г. яны ізноў прыяжджалі з сваімі пастаноўкамі ў Таронта на супольна ладжаныя ўрачыстасьці з нагоды 36-х угодкаў Абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі.*

*Увечары 20 сакавіка 1954 г. далі яны цэлы канцэрт, у якім побач танцаў і выступленьня мужчынскага хору пад кіраўніцтвам сп. Казачка, была пастаўлена музычная інсцэнізацыя паэмы Янкі Купалы*

[31] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[32] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 6.

*“Курган” у музычнай апрацоўцы бел[арускага] кампазытара Алеся Карповіча, які тады, як і цяпер жыве ў Нямеччыне, а таксама камэдыя Франьцішка Аляхновіча “Зьбянтэжаны Саўка”*

*У травені 1955 гэты гурток ізноў у Таронта ставіў камэдыю Ф[ранцішка] Аляхновіча “Чорт і баба”, у якой асабліва выканальнікі Бабы й Чарта гралі, як прафэсыяналы, дый ці яны імі й ня былі, нажаль, ня знаю іх прозьвішчаў.*

*Дзеялі яны й выступалі напэўна і больш, але я пра гэта ня маю вестак. Ад сп-ні Івонкі Сурвіллы я чула, што ў Атаве жыве сп. Бука, які ў тыя часы быў у Мантрэалі, і пры сваёй добрай памяці шмат цікавага пра тыя часы й дзейнасьць расказваў, каб Вы, можа, зь ім скантактаваліся.*

*У Тароньце ня было каму гэтай справай пакіраваць, хаця аматары граць былі і было колькі спробаў. Расьпісалі ролі й пачалі вучыцца “Заручыны Паўлінкі”, п’еса ў 1-м акце Фр[анцішка] Аляхновіча, а пасьля “Шчасьлівы муж” — у 4-ох актах таксама Аляхновіча, але, здаецца, ніводная не дайшла да скутку якраз дзеля таго, што ня было каму кіраваць-рэжысаваць.*

*Затое на канцэрце ў Дзень Маткі ў травені 1956 г. удалося паставіць аднаактовую камэдыю “У вадным клюбе” Няфёда з жыцьця ў падсавецкай Беларусі. І выйшла зусім нядрэнна, у галоўных ролях — загадчыка клюбу йграў Цімафей Салановіч, а ягонае сакратаркі —* сп-ня *Э[леанора] Пітушка.*

*Пазьней ставілі інсцэнізацыю “На папасе!” — Янкі Купалы.*

*У пазьнейшыя гады п’ескі ставіліся толькі школьнікамі ў Тароньце ў бел[арускай] школе пры БНА і як настаўніца я гэтым кіравала. Зь цікавейшых былі “У калядную ноч” Сьвятаслава Каўша — сцэнічны мантаж для дзяцей зь лягернага паваеннага жыцьця — ставілася недзе ў канцы пяцьдзясятых гадоў.*

*Вельмі ўдалая інсцэнізацыя “Казкі пра зубра” на словы Васіля Віткі, “Калядны вечар”.*

*Інсцэнізацыя “На куцьцю” Я[нкі] Купалы”, “Рэпка” (народная казка), “Журавель і чапля” Максіма Танка. Вельмі ўдала выйшла на адной зь ёлак аднаактовая п’еса “Два капітаны” з жыцьця школьнікаў у Беларусі цяпер.*

*Пра іншыя асяродкі я ня ведаю.*

*3. Наколькі я ведаю, беларускіх літаратурных крытыкаў у Канадзе няма, у ЗША — праф. Адамовіч ды др. Ст[аніслаў] Станкевіч.*

*4. Які ўплыў робіць “Баявая Ўскалось”, ня ведаю, бо я яе за вынядкам колькіх нумароў ня бачыла, дык і ня ведаю, які ўплыў яна можа рабіць. Чытаюць яе, праўдападобна, тыя, хто і “Беларускі голас”, бо ім хіба радактар яе рассылае.*

*5. Дакладную дату сьмерці Міколы Вярбы ня ведаю, дзейным ён быў у Вініпэгу, там трэба шукаць пра яго інфармацыяў. З прэсы*

*глядзіце “Бел[арускі] голас” ці “Бел[арускі] эмігрант”, ведама, што ўлетку 1952 г. у Вініпэгу зарганізаваны былі перадачы па радыё беларускае песьні — пяяў ведамы тады малады хлапец Радчанка, які праславіўся тым, што перад мутацыяй голасу мог пяяць такія высокія тоны, як жанчына. Сам сабе наігрываў раней і акампаніямэнт другім голасам ды пяяў пад яго, як бы ў дуэце. 22—7—52 г. адбыўся канцэрт з нагоды 70-х угодкаў з дня нарадзінаў Янкі Купалы. Я больш чым пэўная, што “спірытус мовэнс” падобных імпрэзаў быў якраз Сільвановіч.*

*Ведамы ён таксама быў як мастак саломкавай мазаікі / вырабаў. Ягоныя вырабы пад загалоўкам: Straw Mosaic — Byelorussian Folkart былі на двутыднёвай выстаўцы ад 19—8 да 1—9 1952 г. на Pacific National Exhibition у Ванкувары. Нажаль, больш пра яго ня ведаю, хіба што зьбіраў бел[арускую] бібліятэку, перапісваўся пару разоў з маім мужам у справе кнігаў.*

*6. “Палесьсе” было выдана (1-ы нумар) у студзені 1955 г. мантрэальскай групай палешукоў-беларусаў пры дапамозе Таронта. Гэта быў літаратурна-мастацкі часапіс, прысьвечаны Палесьсю, ды зьмяшчаў рад артыкулаў розных аўтараў: М. Караткевіч “Беларускае Палесьсе”, Б[раніслаў] Скарыніч “Дзе Палесьсе?”, др. Я[нка] Станк[евіч] “З гісторыі Палесься” і кампазытара М[іколы] Куліковіча. Выданьне яго было рэакцыяй на ўзьнятую тады акцыю некаторых “супэрнацыяналістых” украінскіх, якія заяўлялі ў прэсе прэтэнсіі на ўсё Палесьсе. У чэрвені 1956 г. выйшаў другі нумар “Палесься”, ці выходзіла яно далей і як доўга, мне няведама.*

*Сястра мая[33] ёсьць сябрам Дарадчай рады па шматкультурнасьці. Далучаю Вам ейную візытоўку і “лэттэргэд”, каб Вы маглі правільна напісаць.*

*Вось гэта і ўсё. Як Вашая гісторыя пра Беларусаў у Канадзе пасоўваецца наперад? Я яшчэ ўсё кукую над карэктамі II-ое часткі свайго падручніка, заказы яшчэ ўсё час-часом прыходзяць, гэта дзякуючы Вам, і за гэта яшчэ раз Вам моцна дзякую.*

*Застаюся з найлепшымі прывітаньнямі Вам і Вашай спадарыні ды жадаю Вам посьпеху з гэтым артыкулам і ўсякай іншай Вашай працы.*

*З пашанай да Вас Вашая*

*В[алянціна] Пашкевіч*[34].

Цікавую інфармацыю пра канадыйскія беларускія пэрыёдыкі сярод іншага даслаў і грамадзкі дзеяч, пісьменьнік ды выдавец Сяргей Хмара. У адным зь лістоў ён падаваў наступныя зьвесткі:

[33] Маецца на ўвазе Раіса Жук-Грышкевіч.

[34] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*«“Маланка” выданая (аднoўленая) за мяжой у Гамбурзе у 48 г. — 49 гг. тры нумары. Рад[актар] Зачынайла (М[ікола] Панькоў). Карыкатурыст А[ляксей] Васіленя. Я. Пярун, Сьвітка — мае псэўды. Далей “Маланка” была выдаваная пад маёй рэдакцыяй як “Supplement” “Беларускага Голасу”. Карыкат. А[ндрэй] Лабэцкі.*

*Часапіс сатыры “Дзяцел” 1952—53. Радактар Я[зэп] Баброўскі “Бабёр”. Я[зэп] Баброўскі і карыкатурыст. Баброўскі аўтар саты-р[ычнай] паэмы “Тарас на эміграцыі” (пасьля захварэў псыхічна).*

*Аб “Пузе” (Puha). Выйшла 3 нумары лацінкай. Рад[актар] Васіль Камароўскі, ён жа карыкатурыст.*

*“Палесьсе” Мантрэаль 1958 2 нумары. Выдаванае ЗБК у Мантрэалі — арганізацыя самадзельная і ня мела нічога супольнага з ЗБК у Таронце. Радактар быў П[аўла] Чопчыц. Яны мелі свой мужчынскі хор. Рэгент П[аўла] Чопчыц. Драматычны гурток (тэатральная студыя — кір. В. Ромар), бібліятэку і школку, выдавалі бюлетэнь ЗБМ “Прамень” у 1953 г., радактар М. Новак — старшыня ЗБМ V. Zdan (памёр).*

*“Народным Шляхам” рад[актар] С[яргей] Хмара. Выдав[аўся] 3 гады (1952—54) Выд[аньне] БНГ (Двупагоньнікі).*

*“Дакуманты і Факты” 1953—55 гг. радактар першых нумароў М[ікола] Панькоў — пасьля С[яргей] Хмара»*[35].

На падставе гэтых і іншых зьвестак Янка Садоўскі напісаў артыкул *“Byelorussian Writing in Canada”* на 26 старонак, які, як выглядае, так і ня быў апублікаваны. Машынапісны чарнавік яго захоўваецца сярод папераў дасьледніка ў архіве ў Атаве[36].

Відавочна, разумеючы суб’ектыўнасьць і пэўную другаснасьць эпісталярных крыніцаў, толькі на мяжы 1976—1977 гг., калі была апрацаваная большасьць іншых матэрыялаў, Янка Садоўскі перанёс асноўны акцэнт сваёй працы на ліставаньне з суродзічамі ў Канадзе.

Адным зь першых і найбольш карысных карэспандэнтаў Янкі Садоўскага стаў той самы Сяргей Хмара, які быў гатовы дзяліцца ведамі пра суродзічаў у канадыйскіх рэгіёнах ды іхнымі адрэсамі, якія ведаў дзякуючы выданьню сваёй газэты “Беларускі Голас”. Вось як выглядалі адны зь першых лістоў дзеяча:

*25.1.1977*

*Пав[ажаны] Сп. Садоўскі!*

*Не адказваў пару дзён, бо якраз скончваў газэту. Сьпяшаю цяпер адказаць па парадку:*

---

[35] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

[36] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 3. F. 23.

*1. Першыя пасяленцы. Весткі здабылі пасрэдна ад Палякаў — іхны Польскі Дасьледчы Інстытут ёсьць тутака. Яны здабылі гэтыя імёны разам з трымя чыста Польскімі з Архіваў у Атаве. Гэта было 6 асоб справаджаных з Лёндану-Англія з Польскіх эмігрантаў — уцекачоў з Польшчы. Аб тым, што першыя 3 гэта прозьвішчы ня польскія, але беларускія — факт і таму мы палічылі, што варта нам іх не амінаць.*

*Выглядае, што гэта былі прадстаўнікі нашае дробнае шляхты з засьценкаў — быўшыя ў войску. Цікава, што і цяпер маем тут у Таронце іхных аднафамільцаў з новае эміграцыі — Міронаў з Гарадзеншчыны. На жаль, мы тут гэтых дакумантаў, аб якіх пытаеце, — ня маем.*

*2. Справа эвангелікаў важная тым, што яны першыя беларускія піянэры ў Канадзе, асеўшыя купамі — арганізаванымі грамадамі, патварыўшы свае эванг[ельскія] парахвіі.*

*У Бігары — Саскачэван, у Бэніто — Манітоба і ў Гарце — Альбэрта. Апрача таго, іх шмат у Эдмантоне, Сан Катрынс і інш. мясьцінах. Яны мелі 17 парахвіяў на супалку з Украінцамі (Славянскія), але з расейскай мовай на багаслужбах. Я падаю тут адрасы некаторых з іх, але да іх зможаце дабыцца толькі пры дапамозе прап[аведніка] Рэпэцкага з Саскатуну, які сьведамы беларус і дапаможа. Найлепш было б туды паехаць з ім. Другі іхны дзеяч Іван Гук выдае тут рэлігійны месячнік па-расейску "Хрыстианин", дзе часам зьмяшчае артыкулы па-беларуску — Рэпэцкага (ён з Беларускага Эвангельска-Баптыстычнага Брацтва). Часапіс выдаецца 10 год — Хрысьціянскай місыяй Таронта.*

*Яны маюць праз Монтэ Карлё беларускія радыяперадачы на Беларусь.*

*Перад тым у Канадзе былі вельмі моцныя і нашыя пяцідзясятнікі ў гэтак званых Усходне Славянскіх Пяцідзясятніцкіх Асамблеях, на чале якіх стаяў беларус. Цяпер знаю аднаго іх правадыра праводніка — прап. Левшун у Віндзары. Ён выдае таксама часапіс, але па-расейску. Адзін з нашых канадыйскіх паэтаў Янка Мароз (Пагуда) таксама пяцідзясятнік з Віндзару. Янка Ліхач — цяперашні адміністратар "Б[еларускага] Голасу" — эвангелік.*

*Да гэтага хацеў бы Вас паінфармаваць, як паўсталі лікі беларусоў у Канадзе. Паводле нашых аблічэньняў мае іх быць 45—50 тысячаў. Але тут на бяду быў такі Сільвановіч у Вініпэзе. Радакцыя Канадыйскай Энцыкляпэдыі знаходзілася там-жа. Яны зьвярнуліся да яго як мясцовага бел. дзеяча, каб даў інфармацыі аб беларусах, а той, не паразумеўшыся з нікім, падаў прыдуманую лічбу: 12 тысяч! Такім чынам трапіла ў Энцыкляпэдую гэтая лічба. Прышлося ратаваць сытуацыю такім чынам, што ўзялі гэты лік, як лік паваенных*

*іміграантаў (12 тыс[яч]). У Антарыі замацавалі лік 30 тысяч, бо калі з Правінцыяльнага Ўраду Прам'ера званілі да мяне пры пісаньні ўгодкавых прывітаньняў ад Прам'ера і пыталі аб лік беларусаў у Антарыі — падаваў ім гэтую лічбу.*

*Ці Вы ведаеце, што камуніст-беларус Г[рыгоры] Акулевіч (памёр), які быў радактарам "Вестник" (выходзіць у Таронце), прабаваў выдаваць беларускую старонку пры камуніст. часопісе "Гудок" (які папярэдзіў "Вестник"), але пасьля 6 старонкі беларускі дадатак быў зьліквідаваны. Ён напісаў кніжку "Рускія ў Канадзе", у якой залічыў усіх беларусаў, а нават менанітаў і расейскіх жыдоў у Расейцы і такім чынам налічыў Расейцаў да 100 тысяч! Тады як іх няма і 30.*

*Ці Вы ведаеце аб артыкуле праф[эсара] Кіселеўскага (Кеу) аб беларусах? А таксама аглядах бел[арускай] прэсы праф[эсара] Кірканэла ў вунівэрсітэцкіх зборніках?*

*Прывітаньні*

*С[яргей]Хмара*[37].

*19.2.1977 [датавана Садоўскім].*

*Падаю адрасы і інфармацыі.*

*1. Мантрэаль. Уся праца завалена. Найбольш ведае аб пачатках Сярг[ей] Паўловіч[...*[38]*], але расьпіўся і баіцца НКВД. Малады Храноўскі можа даць весткі з пазьнейшага часу, а Стасіловіч — баптыст, але мае сына студэнта — сьведамага беларуса*

*Вініпэг. Усё арганізацыйнае жыцьцё ад 10 год завалена. Кіраўнік — Сільвановіч (Вярба) памёр, ён меў усе архівы — выразкі з газэт і т. п. Мае сына з унівэр[сытэцкай] адукацыяй, мо дасьць вам выразкі.*

*Гуцько былы прадстаўнік бэцээр[аўскага] "Фронту". Ён вам хіба напіша (паклічцеся на мяне) аб апошнім пэрыядзе. Ён стварыў аддзел свайго "Вызвольнага Фронту", які існаваў некаторы час, а не слухаўся нашае рады закласьці Б[еларускую] Царкву, бо іначай усё заваліцца. Так і сталася. Беларусаў сотні сем'яў. Усе ў "рускай" царкве.*

*Ванкувар. Ніколі ня мелі там сваіх арганізацыяў. Беларусы ёсьць. Па інфармацыю зьвяртайцеся да A. Pietrov.*

*Calgary. Беларусаў шмат, але ня былі зарганізаваныя. Інфармацыі мо дасьць Сладкоўскі, але ён цяпер, здаецца, пэнсыянэр і нам не адказвае.*

*Эдмантон. Шмат беларусаў, але са старой эміграцыі. Бальшыня баптысты. Аб іх падасьць Рэпэцкі з Саскатуну. Адрас маеце.*

---

[37] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

[38] Пасьля кожнага прозьвішча Сяргей Хмара падае адрасы асобаў, пра якіх піша. Гэтыя адрасы пры публікацыі прапускаюцца.

*Сп. Волька Трэска — таксама там. Яна наша архівістка і таму сьцісла "засакрэчана" і адрас яе не даём. (Справа ў тым, што мы баімося трымаць свае архівы тут, каб не спалілі або пакралі тут "прыяцелі" са сваіх і чужых, і хаваем далёка аж у Волькі. Такая спроба была ўжо год 12 таму. Архівы ня тычацца Канадыйскага жыцьця.)*

*Lethbridge Alberta. Зьвярніце ўвагу на гэты закутак. Вялікая беларуская калёнія, але ня было нашых арганізатараў, прабавалі арганізаваць беларускую царкву, а скончылася на расейскай. "Дзядзькі" і "скупнікі" мо дасьць весткі. У ваколіцах ёсьць і фармары.*

*J. Klimov.*

*J. Marutkin.*

*Sudbury. Нібы і мелі на паперы аддзелы ЗБК. Інф. — К. Каранеўскі.*

*Ronew Que Капальня, прамысловасьць — купа беларусаў. Старавойтаў арганізатар Праваслаўнай Царквы, але расейскай, бо ёсьць пару расейцаў, сэрбаў і інш. Ад беларускіх спраў зусім адбіўся.*

*Thunder Bay. Беларусаў хапае, але без арганізацыі. A. Touscik.*

*Лондан. Мелі даўней арганізацыю. Па прыезьдзе Рагулі пачалі "змаганьне", залоджаны быў аддзел ЗБК. Цяпер — нічога.*

*Ашава — Самапомач. Хіба адрасы ведаеце. Таксама памерлая арганізацыя. Др. Галейка ў леташнім годзе перабраўся ў Амэрыку (Каліфорнія), дык адпаў.*

*Bip у Гамільтоне, але з прычыны паліт. парадку просіць ягоны адрас нікому не падаваць. (На яго і Таўпяку гостраць зубы тавар[ышчы?]!) Між іншым, Таўпяка без сталага мейсца, бо праэктар-гэоляг на Поўначы, а мо паедзе і ў Аляску! Так што наш Інстытут бязьдзейны[39]. Стасевіч намінальны Старшыня, але ён жыве таксама ў ЗША. Займаюцца хлопцы беларускай найноўшай гісторыяй. На канадыйска-беларускія справы — няма каму.*

*Беларускі Канадыйскі Жаночы Камітэт залажыла Вольга Трэска — першая старшыня. Іна Хмарашка Сакратар. Марыся Сербін Скарбнік. 1968 год у Таронце. Бралі ўдзел у этнічных выстаўках у City Hall на Вялікдзень штогод. Цяпер не бяруць. Старшыня Вера Разановіч, Сакратарка Магдалена Зіняк, І. Вэкін-Бойко, М. Сербін. М. Хайноўская і інш.*

*Беларуская Эвангельска-Баптыстычнае Брацтва. Старшыня І. Ясько, Сакратар Я. Ліхач.*

*Камітэт Вольнай Беларусі заложаны намі ў 1960 годзе.*

*Старшыня я. Віцэ-старшыня палк. А. Баравы — старшыня Беларускага Вызвольнага Руху (жыве ў ЗША).*

[39] Маецца на ўвазе Беларускі інстытут імя К. Каліноўскага — грамадзкая арганізацыя, створаная з актыўным удзелам Сяргея Хмары.

*У Аўстраліі — кіраўнік У[ладзімер] Клуніцкі (памёр), у Швэдыі — Лукашык (на Скандынавію) — памёр. Сябры: Канада: Вір, Таўпека, Трэска, Ліхач; ЗША: Стасевіч, Баравы, Яцэвіч, Панькоў, др. Галейка.*

*Бразылія: Перагуд, Харэўскі (памёр) і інш.*

*Фэдэрацыя Вольных Белар[ускіх] Журн[алістых]. Першы старшыня: Я[зэп] Баброўскі (Таронта). Цяпер я. Належаць усе вылучаныя з КВБ і ўсе супрацоўнікі "Беларускага Голасу".*

*Саюз б[ылых] удзельнікаў Збройнай Барацьбы за Вызваленьне Беларусі. Першай Старшыняй быў г[енэрал] Дзямідаў (ЗША), потым ат[аман] Харэўскі-Новік з Бразыліі. Цяпер атаман Я. Таўпека.*

*Дасьледчы Інстытут К. Каліноўскага заложаны з ініцыятывы М[іколы] Панькова (ЗША) як канадыйска-амэрыканскі (Таронта — Нью Ёрк) і радактар "Дакуманты і Факты" (друкаваны ў Таронце) ворган Інстытуту. (Фотакопіі здабудзеце ў яго.)*

*Тут у нас існаваў гурток "Беларускай Народнай Грамады" (тыя-ж людзі, што ўвайшлі потым у К-т Вольнай Беларусі). Такія-ж гурткі існавалі ў Англіі, Аўстраліі і ЗША. Выдавалі сваё бюлетэні ў Канадзе: "Народным Шляхам", рэдактар я.*

*У Мантрэалі выдана 3 нумары*[40] *літар[атурнага] журналю "Палесьсе". Рэдактар П[авал] Чопчыц, Паўловіч і Я[зэп] Баброўскі (зьмешчана і мае вершы).*

*Літаратурная Сустань "Баявая Ўскалось" мела ў Канадзе 9 сябраў, цяпер усяго 4, бо паўміралі і павыяжджалі ў ЗША (Галейка). Ад 1 да 5 нум[ароў] "Б[аявая] Ускалось" выдавалася праз М[іколу] Панькова ў Нямеччыне, а пасьля ў ЗША, ад 6-га ў Таронце рэдактар я.*

*Прабаваў я дапамагчы закласьці Каталіцкі Беларускі Касьцёл. Хадзіў да арх. Покока, які абяцаў памешканьне, калі белар[ускія] каталікі заарганіз[уюць] парахвію, але разьбілася аб абыякавасьць нашых каталікоў.*

*Ня ведаю, але ці не варта ўспомніць, што шмат жыдоўскай іміграцыі прыйшло сюды з Беларусі. Вядомыя палітыкі David Lewis (NDP), др. Сміт (лібэральны лідар).*

*[...]*

*Тут падаю прозьвішчы беларусаў, працуючых (выкладаючых) у вунівэрсытэтах Канады:*

1. *Алег Ісаенко — лектар Расейскай мовы, York University, Toronto.*
2. *W. Kott — праф[эсар] матэматыкі ў Kitchener University.*
3. *Paul Ukrainec — праф[эсар] у Саскачэванскім Унівэрсытэце.*
4. *Мажэйка ў Эдмонтонскім Унівэрсытэце (аб П[аўлу] Украінцу й Мажэйку ведае больш Рэпэцкі).*

---

[40] Ведамыя 2 нумары часопіса "Палесьсе".

*Недзе круціцца і праф[эсар] Акінчыц, ня ведаю, у якім унівэрсытэце.*

*Як кур'ёз да Вашага ведама падаю, што тут у Таронце беларус, гадаваны ў Аргэнтыне, а цяпер прыехаў у Канаду, зьяўляецца радактарам гішпанамоўнага Канадскага тыднёвіка "El Popular". Ягонае прозьвішча Miguel Rakevicz.*

*Здаецца, адказаў на ўсё. Ага! Пасрэдная асыміляцыя. Кур'ёзы.*

*Наш першы Старшыня Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня ў Канадзе: Барыс Апанскі — маёр беларускай дывізыі з апошняй вайны і сын палкоўніка Кунцэвіча — закладч[ык] белар[ускай] гімназыі ў Наваградку і бел[арускі] патрыёта і здаецца дваюрадны брат Рагулі цяпер ня толькі пішацца "ўкраінцам", але і скарбнікам у Праваслаўнай Украінскай Катэдры ў Таронце. Зрабіўся "ўкраінцам" дзякуючы жонцы-Украінцы і пярэчыць, што быў калі беларусам. Другі закладчык БНА — Анолька — зрабіў тое самае, а паза імі каля 10-ці іншых "шарых"*[41].

Дзякуючы дапамозе Сяргея Хмары цягам колькіх месяцаў Янка Садоўскі адправіў на адрэсы беларусаў з розных рэгіёнаў каля сотні лістоў з пытаньнямі для кнігі. Але хіба толькі трэцяя частка рэспандэнтаў адказала на звароты дасьледніка. Зноў жа асабліва карыснымі былі лісты Валянціны Пашкевіч, якая ня толькі падавала ведамыя ёй фактычныя зьвесткі, але й дзялілася разважаньнямі пра тое, як варта апісваць у кнізе некаторыя складаныя моманты.

*Ісьлінгтон, 18 сьнежня 1976 г.*

*Вельмі Паважаны Спадару Доктар!*

*Сын мой яшчэ ўсё моцна заняты на Ўнівэрсытэце, яшчэ ў сераду 22 сьнежня мае экзамен, таму на Ваш апытальнік адказваю я.*

*З гэтай-жа прычыны цяжка было сабраць танцораў для фатаграфіі для фатографа, дзеля таго толькі ў апошнюю нядзелю гэта зрабілі, і цяпер высылаем вам фільм, так як Вы прасілі.*

*Цяпер даю адказы на Ваш апытальнік.*

*1. Назоў арганізацыі моладзі:*

*"Саюз Беларускай Моладзі ў Канадзе"*

*"Byelorussian Canadian Youth Association". 32 Birchcroft Rd. Islington 677 Ont.*

*2. Лік сяброў у СБМК каля 50 чалавек, з Таронта і інш. месцаў Онтарыё.*

*3. Дзейнасьць арганізацыі ў галіне беларускага фальклёру:*

*Арганізацыя мае танцавальны гурток, які выконвае толькі беларускія танцы пад беларускую народную музыку для беларускай*

[41] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 11.

*публікі на канцэртах, ладжаных з нагоды нацыянальнага сьвята, Калядаў і інш.*

*СБМК зьяўляецца таксама сябрам міжнацыянальнай арганізацыі COMMUNITY FOLK ART COUNCIL of Metropolitan Toronto. Мэтай якой, як ужо сам назоў паказвае, і ёсьць культываваньне народнага мастацтва.*

*22—24 студзеня 1971 Community Folk Art Council ладзіў Канфэрэнцыю на тэму народных танцаў "Dance `71". Саюз Беларускай Моладзі дэлегаваў на яе два дэлегаты: Рагнеду Рагулю й Эву Пашкевіч і двух "обсэрвэрс".*

*У рамках гэтай-жа Канфэрэнцыі адбылася 5-цідзённая выстаўка перадусім народнай вопраткі розных нацыянальнасьцяў. Выстаўка даступна была толькі для арганізаваных вучнёўскіх экскурсыяў, а пазьней для ўдзельнікаў Канфэрэнцыі і наведвальнікаў трох канцэртаў, адзін у суботу вечарам і 2 у нядзелю 24 студзеня 71. Як у выстаўцы, так і ў адным канцэрце прымаў удзел і Саюз Беларускай Моладзі.*

*Гэты-ж Community Folk Art Council праз тры гады ўжо ладзіў у апошнім тыдні чырвеня "Toronto`s CARAVAN" і ў CARAVAN'е прымалі ўдзел і беларусы, беларускі павільён ладзіла СБМЖ. Дакладная справаздача аб беларускім павільёне ёсьць у газэце "Беларус" за верасень 71. № 173. б. 5.*

*4. Беларуская суботняя школа. 1008 Dovercourt Rd. Toronto*

*Настаўнікі: сп-ня Валентына Пашкевіч, сп-шня Эва Пашкевіч, айцец Архімандрыт Язэп Строк.*

*Прадметы: а) беларуская мова: чытаньне, пісаньне, граматыка. б) беларускія народныя танцы — сьпярша вучыла В[алянціна] Пашкевіч, цяпер Э[ва] Пашкевіч, да танцаў грае на п'яніне Я[зэп] Пітушка — сын. Крыху вучым сьпеваў, цяпер бел[арускія] калядкі. в) Рэлігія — а. Строк.*

*г) Лік вучняў — 20, раней, калі беларусы жылі больш скуплена ў самым Таронта, было шмат больш. Прыяжджалі былі з Мітрон (Онт), Скарборо дый некаторыя цяпер езьдзяць, іншых бацькі дома вучаць. Лепш кажучы, ня едзьдзяць, а бацькі мусяць вазіць.*

*Вучні толькі з беларускіх сем'яў, ну і мешаных з беларусамі.*

*Жадаем Вам і Вашай сям'і вясёлых Калядаў і шчасьлівага Новага Году.*

*Застаюся з пашанай да Вас*

*В[алянціна] Пашкевіч.*

*П. С. Малыя дзеці на фатаграфіях, вучаніцы беларускай школы*[42].

[42] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 61.

*Іслінгтон, 14-III-77*

*Вельмі паважаны Сп. Доктар!*

*Я знайшла выпіскі з газэтаў, якія я некалі рабіла для нейкай іншай мэты і яны ў мяне засталіся ў гэтай адной толькі копіі. Пасылаю Вам яе, бо ў ёй Вы знойдзеце адказ на рад Вашых пытаньняў. Якія Вы мне паставілі, але з умовай, што Вы мне і гэтыя выпіскі й фатаграфіі па выкарыстаньні вернеце ўсё чыста, хіба лішне тлумачыць, чаму. Веру Вам, таму пасылаю і спадзяюся, што Вы апраўдаеце мой давер (усіх фатаграфіяў — 35).*

*У запісках Вы знойдзеце гісторыю БНА да канца 60-х гадоў, калі паўстаў Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, і тады ўжо большая дзейнасьць БНА праяўлялася і, можна сказаць, абмяжоўвалася да ўдзелу ў дзейнасьці ККБК.*

*Тут ёсьць і пра бел. суботнюю школу, што паўстала 1953 г. і г. д.*

*Пра культурныя імпрэзы, ладжаныя беларусамі ў Таронта, таксама БНА праяўлялася толькі ў гэтыя пачаткі, а пазьней яно толькі дзеяла праз ККБК, а затое вельмі дзейнае было ЗБК, і тут ўжо трэба будзе Вам больш пашукаць у гісторыі ЗБК. Пачынаючы ад 1970 году ўдзел у Караване, які ладзіць Саюз Беларускае Моладзі, а старшыя як і з БНА, так і з ЗБК дапамагаюць. Пра Караван абшырныя справаздачы кажны год бываюць у "Беларусе".*

*Ага, ледзь не забыла Вам напісаць, што я гаварыла з сп. Баброўскім пра Вашую працу, і ён абяцаў, што дасьць Вам матар'ял, якога, быццам у яго шмат, бо ён трымае ў сябе чамусьці ня толькі свае матар'ялы, але ж і ўсе архівы БНА. Сёньня ўвечары ён званіў, што ён ужо з Вамі паразумеўся, ды што ў аўторак едзе да Вас з матар'яламі. У яго ёсьць шмат фатаграфіяў.*

*Паколькі ў Вашым другім лісьце ў другім пункце Вы пытаеце мяне пра мой пагляд на нашае грамадзкае жыцьцё, дазволю сабе на гэтую заўвагу, бязумоўна канфідэнцыйна, г. зн. што застанецца яна між намі.*

*50-ыя гады, як Вы ўжо заўважылі, хіба, пагартаўшы "Беларускі голас" ці "Беларускі эмігрант", гады лютай "міжсобіцы". Зусім нармальнае зьявішча, што людзі думаюць кажны інакш ды гуртуюцца ў групы аднадумцаў, ну а змаганьне між імі ўжо прымае выгляд і меры залежна ад маралі гэтых людзей, або часта проста й культуральнага іхняга ўзроўню. Сп. Баброўскі свайго часу быў адным з моцна "ваинствующих" супроць крывічоў, і цяпер ён выразіўся, што ён нейкую такую перапіску вязе Вам, а калі я сказала, што ў Вашай кнізе ня месца на такія справы, ён адказаў, што гэта ад Вас ужо будзе залежыць. Дык вось і Вам я паўтараю мой пагляд, што ў гэтай кнізе ня месца на бруды грызьні міжгруповай, хоць яна й мела месца, але нармальна людзі ня хваляцца і сьмецьця на паказ з хаты*

*ня выносяць. Думаю, Вы са мною ў гэтым згаджаецеся. Выбачайце, я загаляпавалася і напісала так, як-бы Вы ўжо і запраўды думалі так зрабіць, гэта толькі так выйшла. [...]*

*В[алянціна] Пашкевіч*[43].

У фондзе Янкі Садоўскага добра захаваліся лісты-адказы на ягоныя апытальнікі, у той ці іншай ступені скарыстаныя ім для кнігі. Шмат якія зь іх вартыя публікацыі самі па сабе. Прыкладам, даволі акуратна пастараўся адказаць на ўсе пытаньні тарантаўскі беларус М. Кухарчык:

*Высокапаважаны Спадар Доктар,*

*Шчыра дзякую за Ваш ліст з дня 11.5.гг. Вельмі прыкра, што ў сувязі із зьменай адрасу я не адтрымаў арыгіналу, які быў высланы на маё імя раней. Весткі аб распачатай Вамі працы "Гісторыя Беларусаў Канады" я меў раней ад сп-ні В[алянціны] Пашкевіч.*

*Разумеючы, скольні высілку будзе патрэбна для рэалізацыі, спачуваю Вам сп. Доктар і жадаю поўнага посьпеху ў асягненьні пастаўленай мэты.*

*Пераходзячы да справы, жадаю сказаць, што мая дапамога будзе малавартаснай з увагі на адсутнасьць цьвёрдых даных, якія ёсьць неабходнымі, каб магчыма іх выкарыстаць.*

*1. Скольні Беларусаў старой і новай эміграцыі ёсьць у Торонто, Антэр'ё і Канадзе?*

*Пытаньне аснаўное для гістарычнае працы, але адказаць на яго мне не магчыма. У свой час калі паўставалі беларускія арганізацыі ў Торонто, мы вышукалі больш за 1000 прозьвішчаў з тэлефанічных кнігаў, газэтаў і т. п., якія на нашую думку казаліся беларускімі. На жаль, нам не ўдалося поўнасьцю звэрафікаваць усіх, а тыя, што і былі апытаныя, не ўсе прызналіся да беларускасьці. Фактам ёсьць, што нашыя суродзічы із старое эміграцыі падаюць сябе за Расейцаў, а Рыма-каталікі з новай за Палякаў за малымі выняткамі. Апошні ўрадавы цэнзус насельніцтва Канады падаў нашую колькасьць у вельмі сьціплым ліку. Так што запраўды я не ў стане адказаць на в/пастаўленае пытаньне.*

*2. Якія адносіны паміж двумя эміграцыямі?*

*На маю думку вонкавы кантакт паміж намі зусім не існуе ў нацыянальным значэньні. Бязумоўна, прыватныя зносіны маюць месца і яны могуць быць сяброўскімі, адкідаючы палітыку. Старая беларуская эміграцыя, як нам ўсім добра ведама, аставіла Бацькаўшчыну ў пошуку хлеба. Нацыянальна-палітычныя аспірацыі былі для іх чужымі хаця-бы з увагі на інтэлектуальны ўзровень бальшыні з іх. Эканамічная дэпрэсыя 30-х гадоў кінула іх у абыймо савецкай пра-*

[43] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*паганды, а папаўшы туды, яны і запоўнілі ўсякія гурткі і саюзы на ўслугах Масквы.*

*3. Прычына падзелу паміж беларускай эміграцыяй?*

*На маю думку, падзел паўстаў з 2-х аснаўных прычынаў, а менавіта:*

*а) Палітычны.*

*б) Рэлігійны (калі ходзіць аб праваслаўных).*

*Палітычны падзел я бачу ў наяўнасьці 2-х аснаўных групаў: БНР і БЦР. Калі-б гэтыя групы мелі аспэкт палітычных партыяў, дык падзел быў-бы поўнасьцю зразумелы. Нажаль, абедзьве групы прадстаўляюць сябе легальнай дынастыяй дзяржаўнасьці. Асабіста я бачу ў гэтым поўны абсурд. Трудна дапусьціць, што беларускі народ, нават калі і дойдзе да таго, што ён зможа высказваць сваё "я", будзе патрабаваць імпартаваны ўрад ці ўрадаўцаў. Больш 30-ці гадоў мы адарваныя ад рэчаістасьці. Там вырасла новае пакаленьне людзей, якое, як мы знаем, голасна дамагаецца сваіх правоў і безсумліву, калі дзень настане, яны першыя ўдараць у звон і павядуць за сабою народ. Нашае заданьне тут на эміграцыі ёсьць прапагаваць пры кожнай нагодзе, што наш народ, так, як і ўсе іншыя народы, апынуўшыяся ў савецкім засягу, церпяць зьдзек паняволеньня чырвонай Масквы. Іначай кажучы, мы павінны быць амбасадарамі, а не ўрадам. Вось тут, на маю думку, і ёсьць прычына непаразуменьня і падзелу. На маю думку, калі-бы яшчэ ў Нямеччыне быў створаны ў сваім часе нацыянальны Камітэт з удзелам усіх групаў і адценьняў, мы сяньня прадстаўлялі-бы сабою больш салідную этнічную групу ў Канадзе і ЗША. Безумоўна, мы не ў станеануляваць памылак прошласьці, але мы ў стане бачыць іх і для дабра агульна-нацыянальнага далажыць сваіх стараньняў, каб скарактаваць іх. Хаця і апозьненна. Вось для прыкладу жадаю падаць, што недаўна я адтрымаў абежнік аб скліканьні 18-га Пленуму БЦР, заданьнем якога мае быць выбар новага Прэзыдэнта БЦР (у сувязі із сьмерцю сьв. п. Р[адаслава] Астроўскага). Якая тут мэта? Каму гэта патрэбна? Паміма таго, што я асабіста ўвесь час падтрымліваў БЦР, сяньня лічу, што гэтая ўстанова аджыла сваё і павінна перайсьці ў архіў. Ідэнтычную думку маю і аб сяньняшняй Радзе БНР.*

*Пераходзячы да рэлігійнага падзелу, які нам усім ёсьць добра ведамым, жадаю сказаць, што паміма таго, што заснаваньне БАПЦ казалася неабходным у той час, посьпех і арганізатары былі не ўдачнымі. Фактам ёсьць, што БАПЦ была прагалошаная ў Нямеччыне вельмі пасьпешна, а новапастаўленая ерархія рэваліцыйная. Арганізатары і ўдзельнікі "Сабору" недагледзелі альбо наўмысна прамінулі аснаўныя заложаньні праваслаўнай Царквы. Насьледак мы бачым сяньня ўва ўсіх краінах вольнага пасяленьня, а менавіта 2-е хворыя юрысдыкцыі з малым налікам вернікаў. Утварэньне "Мітраполіі*

*БАПЦ” ёсьць яшчэ адным дабавачным доказам, як далёка мы разышліся з рэчаістасьцю. Няўдачнасьць гэтай імпрэзы была відавочнай ужо ў Канстанцы, дзе ўсю закулісную працу правялі, нажаль, не самі праваслаўныя. Як можна спадзявацца, што агул праваслаўных вернікаў падтрымае новапрагалошаную БАПЦ, нягледзячы на дызэрцыю “праўнага” Епіскапату?*

*Пераходзячы да нашае моладзі трэба прызнаць, што паміма неўдачаў бацькоў яна запраўды асягнула ці асягае вышыню.*

*У самым Торонто прапарцыянальна мы маем запраўды высокі паказчык моладзі з вышэйшай адукацыяй:*

*1) Дачка інж. У. Шапараў — закончыла факультэт мэдыцыны (M.D)*
*2) П. Пашкевіч – эканоміі (BA.M.A)*
*3) Я. Пітушка геалогіі*
*4) У. Барановіч?*
*5) А. Сладкоўская матэматыкі*
*6) К. Сьцяпановіч?*
*7) Э. Пашкевіч студэнт*
*8) Я. Кухарчык студэнт мэдыцыны*
*9) У. Кухарчык студэнт мэдыцыны*
*10) М. Сьцяпановіч .................студэнт?*
*11) В. Велесьніцкая факультэт хіміі*

*Вось гэта было-бы ўсё, што я магу Вам падаць, Сп. Доктар, прашу прабачыць за непоўныя весткі і за рознага роду памылкі ў маім лісьце.*

*Шчыра жадаю Вам яшчэ раз посьпеху ў заплянаванай працы.*

*З глыбокай пашанай*

*М. Кухарчык*

*Торонто, 20.5.1977 г.*

*П. С. 12)? Арцюх — лясны факультэт*

*Рад другіх студэнтаў наведваюць прафэсіянальна-тэхнічныя школы*[44].

Часам у лістоўных кантактах Янку Садоўскаму не шанцавала. Прыкладам, запозна ён зьвярнуўся па інфармацыю да некалі актыўнага тарантаўскага беларуса Язэпа Пітушкі.

*Торонто дня 25.4.77 г.*

*Высока Паважаны Др. Садоўскі!*

*Пісьмо Ваша я атрымаў. Дзякую!*

*Толькі адпісаць Вам не змагу. Бо 25.10.75 г. [меў] параліж (строк) і з таго часу я не працую і не пішу.*

[44] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*Майго сына таксама німа, бо ён як пакончыў школу інжынэра, зразу атрымаў працу ў Regina, Саскачэван і там ужо скора два гады, як не бярэ з Беларусамі.*

*Чаму не пагаджаюцца ЗБК і БНА — то гэта дужа доўгая тэма. Але скажу прасьцей: А чаму ваююць Ірландцы між сабой? А чаму было зроблена два Віетнамы, дзьве Карэі, дзьве Нямеччыны? Відаць на гэтым каму-то залежыць. Таксама каму-то залежыць, каб было найбольш груповак і ў Беларусоў.*

*Вітаю Вас з 25 Сакавіком і Вялікаднём.*

*Пашанай да Вас*

*Я[зэп]Пітушка*[45].

Спазьніўся Янка Садоўскі і ў пошуках зьвестак пра беларусаў у Вініпэгу. Ранейшы ягоны карэспандэнт — Мікола Сільвановіч — памёр. Але нечакана па дапамогу прыйшоў іншы суродзіч, падказаны менавіта Сяргеем Хмарам, — кіраўнік мясцовага Беларускага вызвольнага фронту Ўладзімер Гуцька. Ён напісаў вялікі допіс пра беларускае жыцьцё ў Манітобе, які магчыма было скарыстаць для кнігі.

<u>*Частка працы, праробленай Беларускай эміграцыяй у прав[інцыі] Манітоба*</u>

*Вельмі цяжка сказаць, ад якога часу бяруць пачаткі першае беларускае эміграцыі тут у Манітобе. Аднак трэба заўважыць, што іх [эмігрантаў] можна налічыць сотні, а можа і тысячы. Пачатковыя пасяленні былі на гаспадарках, у некаторых мясцох паўсталі пасёлкі, згуртованыя з самых Беларусоў ды пераважна тае самае рэлігіі.*

*Пасьля некаторага часу, частка з іх пераехалі ў горад, пераважна тыя, якія мелі нейкі фах, як краўцы, шаўцы, сталяры, кавалі і іншыя, яны знайшлі лепшыя варункі да жыцьця.*

*Цяжка сказаць, кім яны чуліся ўпярод, аднак цяпер пры сустрэчах яны прызнаюцца, што паходзяць з Беларусі, з такое ці іншае губэрні. Аднак іхнія перакананні зусім супрацьлежныя да сучасных эмігрантаў, усё дзякуючы абставінам і ўплывам савецкіх прапагандыстаў 20—30 гадох, яны паверылі ім і сталі про-кам[уністычнымі], пэўна нікаторыя шкадуюць гэтага, аднак прызнаюцца, што ўжэ запозна рабіць паварот, задалёка зайшлі.*

*Масавы наплыў эмігрантаў беларускага паходжаньня дзесь у 46—47 гадох. Усе яны былі адзінокімі, хлапцы або дзяўчаты, прыяжджалі яны ўсе на кантракт на земляробства (фармы) або ў лес. Кантракт абавязваў 2 гады, у той час гэта былі пераважна хлапцы-жаўнеры з 2-га Польскага Корпусу, якія рознымі дарогамі знайшліся ў ім. Потым дзесь ў 48-м зачалі прыяжджаць з Нямеччыны нашы суродзічы,*

[45] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*што былі ў ДП абозах. Усе яны мелі адзінакавыя труднасьці: гэта незнаніе ангельскае мовы й сыстэмы працы, хаця клімат трохі адпавядаў нашаму на Бацькаўшчыне. Заработкі былі малыя $40 на месяц і харчы, гэта на фармах і ў лесе ад вырабу (акорд). Адносіны да эмігрантаў у той час былі не жычлівыя, хаця часта былі і завэрбаваныя праз Украінцаў, аднак іх погляды былі далёка розныя ад нашых.*

*Пасьля адбыцьця кантракту нашыя людзі зачалі хадзіць свабадней, зачалі адшукоўваць адзін другога, пераяжджаць у горад, перадусім у Вініпег, знаходзячы працу на фабрыках нават часткава паводле свайго фаху. Завязваліся знаёмствы, потым сужэнствы, але пераважна паміж сваімі, бо лучыла іх мова, рэлігія ды абычай. Жывучы ў горадзе, пад уплывам непагаслага полымя патрыятызму, вывязенага іх абозаў ДП, зачыналі гуртавацца, закладаць гурткі або арганізацыі. Дык першай арганізацыяй у Вініпегу была Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне БНА, якую ачоліў Сп. М[ікола]. Сільвановіч, а ў мастацкай працы Сп. Галожын. Але Галожын хутка выехаў на іншую працу і пакінуў Вініпег. Гурток і надалей працаваў, пакуль маладая кроў бурлела і забівала стому. Часта вяртаючыся з працы думалася аб адпачынку, але калі трэба было ісьці на пробу танцаў ці пастаноўкі, забывалася аб змучаньні.*

*У гадох 48—75 прыходзілася выступаць супольна з іншымі нацыянальнасьцямі ў розных імпрэзах.*

*Калі Канадыйскі ўрад дазволіў прывезьці свае сем'і з Нямеччыны, дык усе зачалі рабіць захады, каб прывезьці родных, жанок або мужыкоў, якім не ўдалося прыехаць разам, а перадусім старэйшых бацькоў, якіх неахвотна хацелі браць на працу або і зусім не ўзяць да Канады.*

*Калі ходзіць аб сужэнствах у той час, дык як ўжэ ўспаміналася раней, з прычыны незнанія мовы і наагул знаёмства, дык стараліся жаніцца з сваймі дзяўчатамі або выходзіць за свайго хлапца. Кожны, хто прыехаў да Канады, вельмі кепска стаялі матар'яльна, тым болей тыя, хто толькі пажаніліся. Дык закасвалі рукавы і ўзяліся за працу, бо сямейнае жыцьцё вымагала і патрабавала свой куток ды ўсё паробленае ў ім. Гэта моцна адбілася на арганізацыйным і грамадзкім жыцці. Аднак ня гледзячы на ўсе труднасьці, болей актыўныя сябры стараліся трымаць лучнасьць як з сваімі, так і з іншанацыянальнасьцямі. Узяўшы на сябе адказнасьць Сп. М[ікола] Сільвановіч рэпрэзэнтаваў Беларусоў на розных імпрэзах, аднак арганізацыйнае жыцьцё паволі замірала. Толькі адна была надзея, што ў той час вучыўся ў духоўнай Украінскай Праваслаўнай Сэмінарыі М[іхась] Мацукевіч. Дык спадзяваліся, што па аканчэньні навукі астанецца тут у Вініпегу і пастараемся залажыць свой праваслаўны прыход, а пры гэтым і арганізацыйнае і грамадзкае жыцьцё пойдзе зручней і зактывізуецца, тым болей зарганізавалі-б сваю школу для дзяцей*

*і моладзі. Аднак Мацукевіч не згадзіўся на нашу прапанову, пэўна з наказу пэўных асоб. Паехаў да Торонта, каб залажыць 2гі прыход, хаця там ўжэ існавала праваслаўная царква і моцны прыход, і таму ня трэба было рабіць авантуры. Моладзь і дзеці ў школьным веку пайшлі да школы, зачалі вучыцца і пастушаць на вышэйшыя вучэльні, і ўстановы як тэхнікум, унівэрсытэт, закончаючы іх і атрымаўшы дыплёмы кваліфікацыі, зачалі працу паводля іх фаху. З усіх да 77 году нашыя Беларусы: 1) Др. біялёгіі Пётра Сільвановіч (дзесь у Торонто) 2) Праф[эсар] эканоміі Віктар Альшэўскі (выкладае на Унівэрсытэце Вініпегу) 3) Настаўнікамі: Пётра Бурдзь і Віктар Бурдзей (вучаць у сярэдняй школе). 4) Іван Шыколюк, Анісімовіч Рома, Ул[адзімер] Гуцько — інжынэрамі.*

*Многа іншых пасканчалі вышэйшыя школы і фаховыя курсы і працуюць згодна іхняга ўпадабання. Многа між імі ёсьць дзяўчат, аднак як выйдуць замуж, дык або выяжджаюць у другое месца, або, маючы сям'ю, не працуюць. У кожным выпадку трэба прызнаць, што нашая моладзь вельмі добра папісваецца, атрымліваюць добрыя работы, а за гэта добру зарплату і пашану за добрую працу. Варта зазначыць, што із старэйшага пакаленьня ўсе вельмі добра ўстроіліся, маюць сталыя працы і цэняныя за сваю шчырую працу, таму і гаспадарча запэўняныя на прышласьць вельмі добра. 80 % нашых жанчын працуюць на розных фабрыках, але пераважна ў швальнях.*

*Нацыянальна-арганізацыйнае жыцьцё пад канец 54—55 заслабла. Тыя, якія працавалі мазольна на арганізацыйнай ніве, зачалі траціць надзею, што ўдасца нешта зрабіць. Хаця моцна гэтага шкадавалі, аднак з браку належнае падтрымкі ад нашых суродзічаў усё слабла, усе намаганьні актыву пасунуць нацыянальную справу наперад завялі, і не прадбачвалася іншага выхаду, як апусьціць рукі шкадабалюча справы здаць пазыцыі на ўцеху нашым ворагам. Але неяк злажылася, што дзесь ў 56 годзе прыехала нескалькі новых нашых суродзічаў, дык зноў зачалі пробы, зноў нарады. Аднойчы на сходцы актыву Ул[адзімер] Гуцько запрапанаваў зладзіць 25-га Сакавіка. Дык Сп. М[ікола] Сільвановіч адказаў, што не аплачваецца пісаць запросін, бо ніхто не прыйдзе. Але ўсё-ж такі настойлівасьць Гуцькі была перамогай, паканала, і развеяла ўсе неправідловыя асацаваньні. Паведамленьні былі разасланыя на сьвяткаваньне 25 Сакавіка на дзень 27—3—55 у аўдыторыі UNO пры 935 Main Str. У парадку дня было 1) Адкрыцьцё Акадэміі, 2) Даклад на тэму "Сяняшняя акупацыя Беларусі і праблема яе вызваленьня" чытаў Сп. М[ікола] Сільвановіч, а ў 2-ю частку музыка, танцы і песьні сяброў гуртка мастацкай самадзейнасьці пад кіраўніцтвам Сп. М[іхася] Радчанкі. Праўда, ад іншых нацыянальнасьцяў не было прадстаўнікоў, але затое нашых суродзічаў было вельмі шмат. Сьвяткаваньне ўдалося, у скоках бралі*

*ўдзел тыя, якія нават вышлі замуж, але маладыя-жывыя, нягледзячы на ўтомленасьць пасьля штодзённае працы.*

*У прэсу нідзе не паведамлялася, бо яшчэ мала зналіся зь мясцовае, ды мова не была авалодана належна. А да беларускае мала было ведама адрасы, не было і прывітаньняў ад іншых арганізацыяў, бо не было ніякае лучнасьці.*

*Аднак праца на месцы патрохі падзьвігалася, бо навязалася лучнасьць із іншымі нацыянальнасьцямі, што прыводзіла часта браць удзел у розных дэманстрацыях і паказах. Актыў працаваў, скольні мог, аднак зацікаўленьне з боку нашых суродзічаў малела. Дык і пэўныя асобы ў кіраўніцтве зачалі апускаць рукі, зьнеахвочвацца да працы, бо-ж кожны амаль толькі зачаў закладаць сям'ю, дык патрэбна было ўсё адразу, хату, грошы, мэбляваньне дому, а тут яго німа. Самадзейны гурток зачаў патрохі заміраць, не было рады, хаця больш сьведамым гэта балела, але што-ж зрабіць, калі зацікаўленьне сяброў малела. Дык арганізацыя перастала існаваць.*

*За новую пробу залажыць арганізацыю ўзяўся Ул[адзімер] Гуцько. Паскольні большасьць тут было вайскавікі з розных арміяў, дык найбольш адпавядала арганізацыя вайсковага характару, вэтэранаў, таму і зьвярнуліся да Гал[оўнага] Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту ў Нямеччыне, дык і атрымалі дазвол і зацьверджаньне на кіраўніцтва Краёвага Штабу БВФ на Канаду. Было падабрана людзей і надзелена функцый, якія ахвотна ўзяліся за працу, чакаючы вынікаў. Тут трэба сказаць, што зачалася бадай што найбольш актыўная праца ў розных кірунках як палітычнай рэпрэзэнтацыі, сацыяльнае жыцьцё ў грамадзе, навонкі рэпрэзэнтацыі. У той час найбольш прылажыла працы маладая энэргічная вучаніца, якая найлепей уладала ангельскай моваю, Ганка Розкавец. Яна пералажыла статут арганізацыі на ангельскую мову, што дало хутка пазнакоміць іншых народаў і ўрады аб нашай мэце і абавязку.*

*Для сябе пачалі арганізаваць сустрэчы "Пікнік" найчасьцей на фарме ў дзядзькі М. Русецкага, які ахвотна адпушчаў месца для нас ды і сам любіў сустрэцца ды пагаварыць-пажартаваць, паглядзець на нашу моладзь, якая ўжэ вырасла за межамі нашае Бацькаўшчыны. Вось туды з'яжджаліся ўсе нашы суродзічы з сваймі сем'ямі, там дзетвара запазнавалася між сабою і знаходзілі сяброўства і задаваленьне, а старэйшыя паводле свайго выбару і жаданьня праводзілі супольна дзень.*

*Актыўна ладзілі ўсе нацыянальныя сьвяты як 25-га Сакавіка, угодкі 1-га і 2-га Усебеларускага Кангрэсаў, Слуцкае Паўстаньне, дзень жаўнера, ялінку для дзяцей, сустрэчу Новага году, ды шмат вечарынак, на якія запрашалася знакомых з іншанацыянальнасьцяў, і тут завязвалася большая і бліжэйшае разуменьне справў. У гэтай галіне найбольш спрычыніліся нашы жанчыны, як Соня Бурдзь, Феня*

*Міхалевіч, Тася Потароча, Ніна Бурдзь, Надзя Розковец, Геня Радчэнка і іншыя. Гэта адрэзак сацыяльна-культуральны на чале з Альфонсам Цярэшко. Рэпрэзэнтацыя навонкі, як удзел у розных міжнацыянальных сходах, маніфэстацыях усіх паняволяных народаў праз Камунізм, маніфэстацыя Балтыскіх народаў супраць паневаленьня іхніх краінаў, гадавіны паўстаньня Вугорцаў, дзень незалежнасьці Славакіі, дзень незалежнасьці Украіны, удзел у сходах АБН.*

*Актыўны ўдзел у сходах Community Folk Arts Council of Manitoba, і выступалі разам з іншымі нацыянальнасьцямі. Гэта рэпрэзэнтавалі пераважна інжынэр-палк[оўнік] Ул[адзімер] Гуцька і кап[ітан] І. Бурдзь, ды іншыя. За культурна-асьветнага прадстаўніка ў розных імпрэзах наш вядомы сьпявак М. Радчанка.*

*Навязалася лучнасьць з урадавымі чыньнікамі розных краін, якія вельмі прыхільна ставіліся да нас Беларусоў. Арганізацыя набрала інтэрнацыянальнага маштабу. Да арганізацыі жадалі зварочацца ўрадавыя чыньнікі аб паясьненьні аб Беларусох, навязалася цесная лучнасьць і каардынацыя між іншанацыянальнасьцямі-групамі. [Мы] ахвотна прымалі ўдзел у іхніх сьвяткаванях, як і яны ў нас. Вялося і вядзецца цесная супрацоўніцтва з усімі Беларускімі арганізацыямі ў вольным сьвеце.*

*На дзень 25-га Сакавіка кожнага году надсылалі прывітаньні прэм'ер Канады, правінцыянальныя лідары розных партыяў, прадстаўнік Каралеўны на Канаду і правінцыю, мэр гораду Вініпег, усе Беларускія арганізацыі ў вольным сьвеце, уключаючы Гал. Штаб БВФ, БЦР і БНР.*

*Праца давала задаваляючыя вынікі для арганізатараў і арганізацыі. Вось напрыклад, была ладжана выстаўка народнага багацтва-ўмельства (Tresury of the Many Lands) у найбольшым магазыне Eaton у Вініпег, тут між іншых нацыянальнасьцяў мы Беларусы наладзілі свой станд. Дык цяжка было паверыць, што якраз наш стэнд будзе болей цікавы, чымся іншыя. Усе наведальнікі не маглі нацешыцца нашай выпрацоўкай льну: тут як шоўк разьлягаўся лён пасьля церніцы, трапашкі ды шчаткоў гатовы да прасьніцы. Адным словам выстава так цікавіла наведальнікаў, што папросту не было канца пытаньням і тлумачэньням. Прэса зьмясьціла прыхільны артыкул аб нас, арганізатары надаслалі падзяку.*

*Актыўны ўдзел бралі ў многагрупавай арганізацыі Citizenship Council of Manitoba. У рамах гэтае арганізацыі прыходзілася ніраз прымаць удзел у розных сустрэчах з іншымі нацыянальнасьцямі, а такжа рабіць супольныя вечарынкі. Варта тут зьвярнуць увагу на карысную і добрую прапаганду нашае справы ў 1972, у лютым 14 арганізавалі Valentyne Day — супольны фэстываль усіх нацыянальнасьцяў пад назовам "Віно і сыр". Вось тут ізноў удалося нашым жанчынам вельмі добра рэпрэзэнтаваць Беларусь і яе ўмельства.*

*Аб гэтым парупіліся М. Радчэнка, Ф. Міхневіч, Я. Гуцько і другія. Многім наведальнікам упершыню прышлося бачыць надпіс “Беларусь”, яе этнаграфічную мапу, прыгожыя дзяружкі, настольнікі, дываны, якімі быў упрыгожаны наш кут. А ежа? Калі хто спрабаваў наш хрыст, печыва, або сапраўды зробляны сыр па нашаму з клінка, дык тут пахвалаў кучы сыпаліся. Кожны пытаўся, як гэта робіцца, дык нядзіва, што ў нашым куце было найболяй наведальнікаў, а нават далося заўважыць тых самых асоб па нескольні разоў.*

*Газэта “Беларус” зьмясьціла прыхільну зацемку.*

*Паскольні хапала ў нас сілы і матэр’ялу, пробавалі ўсюды ўдзельнічаць, калі мелі нагоду, усюды запаўлялі месца і стараліся рэпрэзэнтаваць імя Беларуса і Беларускі Народ.*

*Таму праз наш актыўны ўдзел у працы як на нацыянальным, так і на інтэрнацыянальным адрэзку, мы сталі ведамыя для многіх іншых урадаў ды арганізацыяў. Зацемкі можна знайсьці ў Canadian Almanach and Directory.*

*У рамах Community Folk Art Council, калі было патрэбным, наша месца было запоўняна, а нагодаў было вельмі шмат, бо было падгатоўляна да адзначаньня 100-годзя правінцыі Манітоба. І тут мы прынялі чынны ўдзел. Ад нас была рэпрэзэнтацыя на Press Club і г. д.*

*Без сумліву можам мы пахваліцца, што праз арганізацыю БВФ у Канадзе мы Беларусы выканалі вельмі пачэсны і сумленны свой абавязак, як сапраўдныя амбасадары свайго народу і краю.*

*П.С. Тут абмяжоўваюся да паданьня часта прозьвішчаў зь ведамых прычын. Вышэй паданы зьмест можа быць зьменяны, скарочаны або зусім іначай гучэць. У залучаньні перасылаю выразкі з газэтаў, нескольні здымак і нескольні арыгінальных лістоў, якія былі прысланыя да арганізацыі. Ветліва прашу зьвярнуць пасьля выкарыстаня*[46].

Асабліва плённым было ліставаньне Янкі Садоўскага зь беларусамі-эвангелікамі. Іх прадстаўнікі дасылалі ці не найбольш цікавыя аповеды пра свае, хоць і ня ўласна беларускія арганізацыі. Адным з актыўных беларусаў-прапаведнікаў быў Якуб Рапэцкі.

*Саскатун 14/III-77 г.*

*Вельмі Паважаны Спадар Я[нка] Садоўскі.*

*Гэтым лістом адказваю на Ваш ліст ад 3/II-77 г. і на такі самы да Сп. М. Жідковіча ў Бігары, які ён мне даў прачытаць і прасіў мяне за яго адказаць Вам.*

*Я з’яўляюсь аўтарам таго артыкула аб беларускіх скупленьнях на захадзе Канады. Я прыехаў у Бігар пасьля 2-е ўсясьветнае*

---

[46] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*вайны ў 1948 гаду з Нямеччыны, толькі ў 1958 г., калі набыў сваё аўта, мог наведваць другіе мясцовасьці, як-та Эрвуд, Гарт, Сэнтвалбург і Бэніта, дзе жылі нашые веруючы Эвангельскіе Хрысьціяне-Баптысты.*

*Паколькі мне ведама, дык колькі ў Эрвудзі беларусы былі першымі пасяленцамі, а ў другіх успомняных месцах ужо былі ўкраінцы, галічане і нават чэхі і сэрбы. Беларусі і ўкраінцы былі большасьцю ў гэтых месцах.*

*Нажаль, ніякое нацыянальна-культурнай дзейнасьці яны там не праводзілі, апрача рэлігійнай. У сьвяточные дні зьбіралісь у жылых хатах, а пасьля будавалі малітоўныя дамы і мелі там эвангельскія багаслужэньні, у якіх сьпявалі па расейску і ўкраінску духоўные песьні і чыталі Эвангельле, хто якое меў: рускае ці ўкраінскае, а тлумачылі яго сваімі мовамі. А беларускіх сьпеўнікаў і Эвангельля шчэ не было, калі яны выяжджалі з дому (яны зьявіліся толькі ў 1930 сьпеўнік Божая Ліра, пер. Г. Ляўковіча і ў 1931 Новы Запавет, пер[аклад] Проф[эсара] Луцкевіча), толькі я іх прывез, калі прыехаў, і сьпявалі папулярную ў Наваградчыне песьню на Багачэ "Дай нам Божа добры час", якую ўсе вельмі любілі, дзе ёсьць такія словы: "Усюды мова ў нас адна, ўсюды перьня та сама. Дый Хрыстос усім аднак, хто з Хрыстом, той нам сваяк, Ай так, ай так, Хто з Хрыстом, той нам сваяк".*

*Амаль ва ўсіх царквах праваднікамі былі беларусы. У Бігары П. Пятроўскі, у Гарце Ф. Вакульчык, у Эрвуд Ф. Украінец, у Беніце П. Года. Праўда, ёсьць і праваслаўныя укр. і ўсяцкія укр., але яны пабудаваліся ў 2-й палавіне 50-тых гадоў і ў іх багаслужэньні не адбываюцца рэгулярна з-за браку сьвятароў. Каталікоў беларусоў я тут не сустракаў, сюды прыяжджалі пераважна польскія беларусы з аколіц Століна, Пінска, Дрогічына і Кобрыня, гутарылі яны польскім жаргонам і чыста беларускай мовы яны не зналі, бо беларускіх школ там не было, так што чыталі па расейску, толькі звалі сябе беларусамі, і праз гэта з мясцовымі ўладамі мелі беду такую: іх не хацелі пісаць Вайт-Рашан, а проста Рашан і яны баючысь, каб іх не лічылі за камуністаў, дык лепей пісалісь палякамі, бо яны прыяжджалі з былой Польшчы.*

*Сюда ў Бігар пачалі прыяжджаць ў 1926 да 1938. Тут такія прозвішчы Ярутіч, Гілевіч, Замковец, Сідорчук, Подгурскій, Новік, Крыстаповіч, Жідковіч, Петровскій, Брыч, Райчук, Яцык, Терахоў і Рэпэцкі. Тутака C.P.R. мела шмат сэкцый сваe зямлі, якую аддавала спярша эмігрантам у арэнду на 3-ці бушаль, а пасьля тым арэндатарам прадавала на выплату. А ў Гарце і Эрвудзе да 29 г. давалі гомштэты з падлеснай зямлі, і тые людзі больш нагараваліс, ніж тые, што паселіліс на прэрах (стэпах), бо адразу засевалі і мелі карысьць. А тые толькі вырубалі лес, з якога зрабілі хату, і вырабілі*

*крыху зямлі на гарод і там сядзелі да 45 года, пака не прышла моцная дзяржаўная машынэрыя і павыраблялі ім іх і зрабілі іх на доўгія гады доўжнікамі ўладу. Увосені мужчыны пакідалі жонак з дзецьмі і ішлі на малацьбу да ўжо разжытых фармароў, а зімою ў лес на лесорубку. А да жонак прыходзілі мядзьведзі ўначы і забіралі ў іх цялята і паросята з хлявоў і яны не маглі ад іх абараніцца. А да дамоў можна было дайсьці толькі на лыжах, а ўраджаі там вельмі часта вымярзаюць і нявольна разжываюцца з жывёлагадоўлі. Тамака вельмі добра расьце алфа[л]фа.*

*Вось гэта прыблізна усё, што я мог дадаць Вам да таго артыкула. Ад старыкоў вельмі мала хто астаўся, дык даю Вам адрасы іхніх дзяцей, якім пашліце апытальнікі ў ангельскай мове, дык можа Вам адкажуць на пытаньня.*

*З пашанаю Я[куб] Рэпэцкі*[47].

Цікавую інфармацыю, хоць і па-расейску, даслаў калега Якуба Рапэцкага — Іван Гук.

*Торонтовская христианская миссия*

*Марта 7, 1977*

*Ивану Садовскому,*
*Отдел Русского языка и Литературы,*
*Квинс Университет,*
*Кингстон, Онтарио*

*Уважаемый Иван Садовский,*

*При наилучших желаниях помочь Вам в сборе материала о белоруссах в Канаде, вряд ли смогу Вам помочь. Дело вот в чём. В нашей области Евангельской работы среди славянских эмигрантов первой и второй эмиграции не было сознания вести работу среди белоруссов, хотя их немного и было то там, то сям по нашим Евангельским церквам. Работа наша велась на русском и немного на украинском языке, затем жизнь заставила включить и английский. Только с приездом последней, как мы считаем третьей эмиграции, нашлись отдельные семьи и члены, владеющие белорусским языком.*

*Даже с приездом третьей эмиграции вряд ли можно было организовать отдельные церкви, так как, во первых, было мало белоруссов, во вторых, даже старые русско-украинские Евангельские церкви, организованные с моим приездом в Канаду в 1928 году теперь идут на вымирание. Молодое поколение ушло в канадские церкви. И так как форма наших богослужений не литургическая и не обрядовая, а основана скорее на проповеди и понимании языка, поэтому молодежь, не*

---

[47] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*зная в достаточной мере язык своих родителей, ушла с английским языком в канадские церкви. Это в общем. Теперь отвечаю на Ваши вопросы.*

*1. Отдельных белорусских церквей среди Евангельских Христиан в Канаде никогда не было. Пресвитеров белорусского происхождения есть много, но в силу обстоятельств в их время, включая меня, мы белорусским языком не владеем, потому что наше образование велось на русском языке.*

*2. Белорусских духовных песен у нас есть немало, так как наша Миссия ведет радио передачу на белорусском языке с Монте Карло, в Европе и мы готовим для этих програм пение.*

*3. Белорусских Евангельских братств и других организаций среди наших верующих нет и не было.*

*4. То, что я говорю о нашей провинции Онтарио, Манитобе, Саскатчеване и Альберте, то самое следует сказать и о Британской Колумбии. Там тоже нет отдельных белорусских ни церквей, ни других церковных организаций.*

*5. Из всех моих белорусских друзей в Канаде я имею лишь одного земляка, Якова Филипповича Репецкого, который владеет белорусским языком и он же наш диктор или проповедник белорусской программы по радио. Живёт он со своей женой в Саскатуне, а его сынок, Георгий Яков. Репецкий работает со мной в Торонтовской Христ. Миссии здесь в Торонто.*

*Как Вам самим известно, что с приездом последней эмиграции основались в Канаде кое-где церковные и политические или благотворительные организации и общества, но ничего подобного не случилось среди Евангельских Христиан. Мы на это не были подготовлены и в глазах некоторых белоруссов мы виноватые, но по моему — мы виноватые без вины, что не знаем белорусского языка, как дети наши без вины виноваты, что владеют преимущественно английским языком.*

*Сожалею, что не могу помочь Вам в этом. А если бы чем мог помочь — от души готов оказать Вам помощь. С приветом и добрыми пожеланиями, остаюсь Ваш,*

*Иван Каленикович Гук*[48].

На жаль, скарыстаць усе гэтыя зьвесткі ў кнізе было складана. Варта адзначыць, што ліставаньне Янкі Садоўскага з суродзічамі было сапраўды шматмоўнае. Яму пісалі адказы й па-беларуску, і па-расейску, і па-ангельску. Сустракаліся лісты вельмі ляканічныя, з кароткім адказам на пастаўленыя пытаньні, як наступны з Садбуры:

[48] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*Паважаны Сп. Дк. Я[нка] Садоўскі*

*У адказ на Ваша пісьмо паведамляю:*

*1. У Cadbury існуе аддзел ЗБК.*

*2. Беларусоў прыблізна 100 асоб, уключна з дзецьмі, большасьць ходзіць у праваслаўнаю цэркву (Украінскаю, Сэрбскаю), а такжа і ў каталіцкую цэркву.*

*3. Жанатыя із беларускамі і іншымі нацыянальнасьцямі.*

*4. Дзеці Беларусоў гавораць часткова пабеларуску.*

*5. Беларусы Садбуры захоўваюць нацыянальные традыцыі, па магчымасьці сьвяткуюць дзень 25-га Сакавіка.*

*На гэтам аканчу.*

*5-III-77 Лявон Наркевіч*[49].

Часам карэспандэнты выказвалі ў лістах-адказах свае крыўды на іншых беларусаў ці арганізацыі. Як, прыкладам, у англамоўным лісьце з Ванкувэру:

*Ліпень 29/77*

*Спадар,*

*Я атрымаў Ваш ліст ад Сакавіка 14/77. У той самы дзень я атрымаў капэрту ад "Пагоні", у якой быў мой чэк на кнігі, якія я замаўляў ад "Пагоні". Яны адмовіліся прадаць мне кнігі. (Я ведаю іншага беларуса ў Брытанскай Калюмбіі, які замаўляў кнігу ад "Пагоні" больш за год таму і дасёньня чакае яе.)*

*Наколькі я ведаю, У Ванкувэры няма беларускіх арганізацыяў. Адна жанчына набыла "Fundamental Byelorussian" ў мяне, іншая набыла "Беларускую Біблію". Большасьць беларусаў, якіх я ведаю, не размаўляюць па-беларуску, але яны б набылі (вакальна-інструментальныя, або інструментальныя) беларускія запісы, але я ня маю такіх запісаў на продаж. "Пагоня" не хоча мець са мною справы.*

*Я вельмі здзіўлены, ад каго Вы атрымалі маю адрэсу? Між іншага, мне 47 гадоў. Прабачце мне, калі ласка, што пішу Вам па-ангельску. Я не вельмі добра валодаю беларускай.*

*З павагай,*
*А. Пятроў*
*Ванкувер*[50].

Янка Садоўскі пісаў на ўсе магчымыя адрэсы, у тым ліку й асобам паўлегендарным, такім як загадкавая Волька Трэска з Эдмантану. Ад яе адказу ён не атрымаў, затое захаваўся ліст ад іншай цікавай асобы з атачэньня Сяргея Хмары — Васіля Віра з Гамільтану.

---

[49] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

[50] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*24 красавіка*

*Шаноўны Прафэсар!*

*Карыстаючы з побыту ў Таронта (рэдакцыйнае паседжаньне) адказваю на пісьмо.*

*З прычын, вам ведамых, ня хочам, каб шырэйшыя весткі аб нас трапілі да тых, што палююць. Я асабіста менш прысьвячаюся мясцовым справам паза працай для газэты. Мой нахіл паза палітычнай дзейнасьцяй (не адкрытай) гэта літаратурная крытыка. Працую ў сталёўнях. Самотны. 1910 год. Пінск. Арганізацыі тут няма. Калісь у 1954 г. існавала "Дэлегатура БНА" з Таронта, зарганізаваная Хмарай. Новае эміграцыі мала. Старой многа, але зрусыфікаванай і спалянізаванай. Знаю старой эміграцыі: праф. Кот з унів. Кітчэнэр — матэматык, адваката Анцуту цяпер у Манрэалі, дахтароў мед. Хмару (спалячаны), Ліхача (маладога), Мілейку ў Таронта. Іх многа ўсюду, ды без карысьці нам. У прав. царкве расейскай большыня нашых. У Сан Катарінс баптыст. малельня, амаль усе беларусы, а мова службы расейская. Прапаведнік Галабурда — беларус.*

*Зьбіраюся на старасьць дзе ў Каліфорнію*

*З паважаньнем*

*В[асіль Вір]*[51].

Амаль кожны, хто адказваў на звароты Янкі Садоўскага (хіба што за выключэньнем Сяргея Хмары), шкадаваў, што ня можа асабліва дапамагчы дасьледніку. Нават, здавалася б, калегі-навукоўцы зь беларусаў.

*14.II.77 г.*

*Вельмі паважаны Сп. Прафэсар Садоўскі!*

*Шчыра дзякую за Ваш ліст. Цешуся вельмі, што пісаньне гісторыі беларусаў у Канадзе ўжо пачалося. Гэта вельмі патрэбная праца можа быць цяжкой з прычыны амаль камплетнай адсутнасьці пісаных матар'ялаў.*

*Што датычыцца маёй дапамогі, то яна будзе вельмі скромнай — але чым хата багата, тым і рада. Мая хата багата вялікай колькасьцяй добрых прыгодных да друку фатаграфіяў, якія абыймаюць: усялякія сьвяткаваньні, урачыстасьці, фатаграфіі розных шматлікіх танцаў моладзі ў нацыянальных вопратках, харавыя выступленьні, выстаўкі бел. Мастачкі сп. Русак, выстаўка твораў Скарыны, навуковых бел[арускіх] сэсіяў у Kingston і Атаве. Маецца шмат зьнімкаў розных банкетаў. Да гэтага даходзяць зьнімкі з нашых больш ці менш кішанковых палітычных дзеячаў, епіскапаў і т. п. Зьнімкі абымаюць вельмі актыўны ў дзейнасьці пэрыяд 1967—71.*

*Што Вам патрэбна з гэтай трасянкі, я ня ведаю. Дзеля таго я прапаную Вам прыехаць да мяне пэўнай нядзелі пасьля пайдня*

---

[51] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

*і выбраць самім пажаданыя зьнімкі. Адначасна мы маглі-б пагутарыць на тэму Вашай працы ды аб беларускіх арганізацыях наагул.*

*Перад прыездам прашу паведаміць нас тэлефанічна, калі можам Вас чакаць. [...]*

*Спадзяваючыся ўбачыць Вас хутка, пазастаюся з пашанай Ваш Я[ўхім] Скурат*

*Прашу перадаць наша прывітаньне Вашай сям'і*[52].

Зьвяртаўся й да Кастуся Акулы, і да Жук-Грышкевічаў, і да шмат каго іншых з шэрагу беларускіх інтэлектуалаў у Канадзе. Аднак іх лістоў у архіве з адпаведнага пэрыяду не захавалася. Ці адказвалі яны, ці кантактавалі іншым чынам, застаецца невядомым. Затое нечакана адгукаліся на звароты нават прадстаўнікі папярэдняй хвалі эміграцыі, тыя, што ўваходзілі ў Фэдэрацыю рускіх канадцаў. Прыкладам, Сяргей Козак, які пазычыў Янку Садоўскаму так неабходную яму кнігу Шырынскага. Нават калі ніякіх каштоўных зьвестак такія лісты не падавалі, сам факт водгуку й жаданьне дапамагчы выклікаюць цікавасьць.

*Торонто, Онтарио*
*31 марта 1977 года*

*Уважаемый др. Садовский!*

*Спасибо вам за письмо и за доверие ко мне, но прошу извинить, что отвечаю Вам с некоторым опозданием. Ваше письмо было адресовано на "Вестник", где я с апреля прошлого года уже не работаю, а к тому неделю был вне города.*

*Очень сожалею, что не могу помочь вам в вашем труде, так как мои знания о белоруссках в Канаде очень скудные, как и не могу дать Вам имен, которые могли вы вам помочь, так как таковых не знаю.*

*Главная причина в том, что белорусы в Канаде до второй мировой войны были в основном из западных областей Белоруссии. Более ранние эмигранты приехали из царской России, а позже из Польши. По прибытие в Канаду они просто растворились среди других национальностей. Одни записались русскими, другие поляками, некоторые литовцами и даже украинцами, в зависимости из какого государства они приехали или, вернее, какое имели подданство.*

*С искренним уважением*

*С. Козак*[53].

У працэсе пошуку матэрыялу здараліся часам даволі цікавыя знаходкі. Так, пры канцы 1976 г. Янка Садоўскі даведаўся, што ў ягонага калегі прафэсара Хорні быў беларускі студэнт, які ў якасьці сваёй на-

52 LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

53 LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

вуковай працы запісваў успаміны беларусаў з Таронта. Дасьледнік напісаў і да прафэсара, і да студэнта, і завязалася добрае знаёмства. Імя студэнта было Антон Кульчын, і адказваў ён па-ангельску.

*Сакавік 12, 1977*

*Дарагі Прафэсар Садоўскі!*

*Вельмі выбачаюся, што не адказваў Вам раней. Вялікі гонар — атрымаць ад Вас апытальнік, але я адчуваю, што не змагу багата Вам дапамагчы. Я моцна заняты выкладаньнем і рознымі іншымі справамі, у якія я заангажаваны. На гэты момант я бяру курс гісторыі іміграцыі ў прафэсара Хорні. Мая праца будзе прысьвечаная іміграцыі зь Беларусі. Паколькі інфармацыі пра яе вельмі мала ў другасных крыніцах, а часу вельмі мала, я працую з тэмай па-свойму, праз невялікае ўласнае дасьледаваньне. Я буду апісваць досьвед аднае сям'і — мае ўласнае, якая пераехала зь беларускай вёскі Клетышча, Брэсцкая вобласьць, у Канаду. Мае бацькі і я прыбылі ў Канаду ў 1929 г., калі мне было 5 гадоў. Я дашлю Вам копію майго эсэ, калі пажадаеце. Калі змагу, я адкажу на колькі Вашых пытаньняў, калі яны будуць.*

*Адзіная кніга, якую я ведаў пра беларусаў у Канадзе, — Г. Окулевич, "Русские в Канаде". Нягледзячы на яе назву, кніга пераважна пра беларусаў, хоць і напісаная зь левых пазыцыяў.*

*Сардэчна Ваш,*

*Антон Кульчын*[54].

Кульчын ня толькі падзяліўся сваёй працай, але й сапраўды стаў адным з рэспандэнтаў Янкі Садоўскага, зь якім былі запісаныя інтэрвію, скарыстаныя ў кнізе.

Акрамя ліставаньня, інтэрвію сталі яшчэ адной важнай крыніцай інфармацыі для дасьледніка. У пададзеных у бібліяграфіі ўякасьці рэспандэнтаў таксама пазначаныя ўладыка Мікалай (Мацукевіч) і айцец Павал Вялікі, Міхась і Валянціна Пашкевічы, Сяргей Хмара, Іван Гук і шэраг менш ведамых беларусаў з розных хваляў эміграцыі (агулам 13 чалавек)[55].

Зьбіраючы з розных крыніцаў інфармацыю, складаючы, як мазаіку, гісторыю беларусаў Канады, Янка Садоўскі ўвосені 1978 г. прадставіў у Дэпартамэнт Дзяржсакратара машынапіс сваёй працы, які ўтрымліваў уводзіны, пяць асноўных разьдзелаў, заключэньне й бібліяграфію. Цяпер у праекту пачынаўся новы этап — перадпублікацыйная падрыхтоўка.

[54] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

[55] Sadouski, John. A History of Byelorussians in Canada. Belleville, 1981. P. 148.

## *Падрыхтоўка кнігі да друку*

Першым чытачом машынапісу працы Янкі Садоўскага стала адна з навуковых куратараў Джын Барнэт. Яна зрабіла свае заўвагі, якія аўтар улічыў і ўжо у сакавіку 1979 г. унёс некаторыя карэктывы ў свой тэкст, крыху пашырыўшы яго. Аднак на гэтым праца ня скончылася. У верасьні 1979 г. дасьледнік атрымаў ад тае ж Джын Барнэт выбарку заўваг трох ананімных чытачоў[56]. Дакладна няведама, хто былі тыя чытачы, можна толькі выказваць пэўныя меркаваньні. Адназначна, што былі яны беларусамі.

Сярод выказаных да машынапісу Янкі Садоўскага былі самыя розныя прэтэнзіі. Часам — карысныя карэктывы датаў і назваў, часам — вельмі суб'ектыўныя меркаваньні. Так, адзін з чытачоў актыўна перасьцерагаў аўтара ад высноваў, якія могуць выклікаць незадаволенасьць суседзяў (размова, відавочна, ішла пра вызначэньне першых беларускіх пасяленцаў у Канадзе сярод асобаў, якія адначасова лічыліся палякамі або ўкраінцамі, а таксама пра зьмешчаную ў дадатку да машынапісу мапу этнічных беларускіх тэрыторыяў), сумняваўся ў беларускім паходжаньні некаторых рэспандэнтаў, у тым ліку Рыгора Акулевіча, і патрабаваў абавязкова пазначыць яго як камуніста й г. д.

Другі чытач быў вельмі добра абазнаны ў дзейнасьці ЗБК, Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, Канадыйска-Беларускага жаночага згуртаваньня, закідаў аўтару завялікую ўвагу да газэты "Беларускі Голас", зважаў на тое, што падзел паміж ЗБК і БНА меў ня столькі пэрсанальны, колькі пераважна ідэалягічны характар, рэкамэндаваў згадаць у кнізе цэлы шэраг мерапрыемстваў ЗБК і ККБК. Можна меркаваць, што гэтым чытачом быў нехта з Жук-Грышкевічаў.

Сярод заўвагаў трэцяга чытача найбольш увагі было аддадзена таксама праблеме падзелу ЗБК і БНА. Аднак тут сьцьвярджалася, што найважнейшы быў не палітычны ці рэлігійны складнік, а разьмежаваньне беларусаў на менш нацыянальна сьведамых "усходнікаў" (БНА) і больш нацыянальна сьведамых "заходнікаў" (ЗБК). Таксама згадваўся й сацыяльны падзел на больш простых "мужыкоў" і больш адукаваных "паноў"[57].

Пытаньне таго, як падаваць інфармацыю пра падзел у беларускім асяродзьдзі, сапраўды было надзвычай актуальным для тагачаснай беларускай канадыйскай грамады. Яшчэ жывыя былі актыўныя ўдзельнікі падзеяў 1950-х гг. з уласным (часта супрацьлеглым) бачаньнем іх прычынаў і наступстваў. І відавочна, Янка Садоўскі, як і ніхто наогул, ня мог улічыць у кнізе ўсе меркаваньні. Ён пастараўся застацца па-над тым падзелам, не зважаючы асабліва на заўвагі згаданых чытачоў.

---

[56] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[57] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

Што праўда, некаторыя ўдзельнікі беларускай грамады ведалі тых, хто выказваў прэтэнзіі да працы Янкі Садоўскага. У сьнежні 1979 г. аўтар атрымаў нечаканы ліст ад Сяргея Хмары:

*1 сьнежня 79*

*Пав. Сп. Садоўскі!*

*Тут (праз другія рукі) пачуў я пахвальбу пару асоб з Атавы, што яны перарабляюць Вашую працу аб беларусах у Канадзе, бо маўляў яна "непраўдлова" падае гісторыю, г. зн. што яны некім чынам ўлезьлі ў колы, прычасныя да справаў выданьня Вашае працы, аганьбілі яе і ўзяліся "дапамагаць" ці, іначай кажучы, зфальшаваць — перарабіўшы Вашыя досьледы на свой лад, зразумела ў якім напрамку.*

*Што мяне застанаўляе, дык якім правам аддзел Шматкультурнасьці можа перарабляць пры дапамозе некіх там ужычак палітычнай групы — працы дасьледчыка без ягонай згоды?*

*А я ж ня веру, што Вы на гэтае безцырымоннае нахабства пагодзіцеся і наагул ці Вы аб гэтым ведаеце?*

*Раджу Вам бліжэй пацікавіцца гэтым і не дазволіць гэткага сьвінства.*

*З пав. С[яргей]Хмара*[58].

На той момант Янка Садоўскі ўжо зноў падкарэктаваў свой машынапіс і чакаў вырашэньня далейшага лёсу сваёй працы, таму спакойна адказаў спадару Хмару.

*10.I.1980 г.*

*Паважаны Спадару Хмара!*

*Шчыра Вам дзякую за пісьмо з I.XII.1979 г., у якім Вы пішаце, "што яны перарабляюць Вашую (г. зн. маю. — ЯС) працу аб беларусах у Канадзе". Згаджаюся з Вамі, што ніхто ня мае права яе перарабляць, бо гэта мая праца. Магу Вас запэўніць, што ніякае пераработкі ня было і ня будзе. Праўда, мой рукапіс быў высланы ўрадоўцамі Сакратара Стану некаторым беларусам. Рэдактар выбраў пару дзюжынаў іхніх заўвагаў і мы іх дыскутавалі. Пару памылак і недакладнасьцей не было мною заўважана. Я таксама перамяніў некалькі сказаў. Вось гэта і ўсё. Кораценька, паводле гаворкі "Ня вучы вучонага". Гэта адносіцца да "пераработнікаў".*

*З канцылярыі Сакратара Стану мне пісалі, што мой рукапіс у друкарні. Нажаль, трудна сказаць, калі выйдзе кніга.*

*Яшчэ раз Вам дзякую за Вашую помач.*

*У глыбокай пашане*

*Ваш*

*Янка Садоўскі*[59].

---

[58] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[59] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

Як і раней, калі ў Дэпартамэнце Дзяржсакратара разглядаўся яшчэ толькі праект дасьледчай працы Янкі Садоўскага, гэтак і цяпер, калі неабходна было прымаць рашэньне аб выданьні кнігі, справа моцна зацягнулася. Прайшоў год ад часу сканчэньня аўтарам рукапісу, былі ўнесеныя новыя й новыя праўкі, аднак запуску кнігі ў друк так і не было.

А ў міжчасе ў кастрычніку 1979 г. у Міністэрства мультыкультуралізму прыйшоў запыт на яшчэ адзін грант для напісаньня кнігі пра беларусаў Канады. Яго падала дачка Сяргея Хмары Магдалена Зіняк. Яна нават прыклала на 35 старонках машынапіс на адпаведную тэму й яшчэ адзін — "Пра беларускую літаратурную суполку ў Канадзе". Праўда, зь Міністэрства аўтарка атрымала адказ, што ўжо напісаная кніга Янкі Садоўскага, яна плянуецца для выданьня ў ангельскай і францускай вэрсыях і іншыя заяўкі на грант на тую самую тэматыку не прымаюцца[60].

Відавочна, тэкст Магдалены Зіняк быў ужо знаёмы Янку Садоўскаму, бо яшчэ ўлетку 1979 г. ён на просьбу прафэсара Ўнівэрсытэту Калгары Говарда Палмэра, таго самага другога навуковага куратара праграмы этнічных гісторыяў, рабіў водгук на артыкул пад назовам "Беларусы ў Канадзе", пададзены для публікацыі ў *"Canadian Ethnic Studies"*[61]. Водгук быў нэгатыўны, і артыкул апублікаваны ня быў. Дакладна праз год Янка Садоўскі атрымаў просьбу ўжо ад Мультыкультурнага гістарычнага таварыства Антарыё напісаць рэцэнзію на дасланы туды тэкст на 35 старонак пра беларусаў у Канадзе[62]. Цалкам верагодна, што гэта быў той самы артыкул Магдалены Зіняк. Прынамсі, паводле заўвагаў, зробленых Янкам Садоўскім, відавочна, што ён напісаны з выразнага "хмараўскага" пункту гледжаньня на гісторыю беларусаў Канады[63].

Пакуль машынапіс працы знаходзіўся ў Дэпартамэнце, потым у выдавецтве, Янка Садоўскі працаваў зь літаратурным рэдактарам, падбіраў для выданьня ілюстрацыі й спадзяваўся на тое, што кніга вось-вось будзе запушчана ў друк. Аднак 16 верасьня 1980 г. дасьледнік атрымаў нечаканы ліст ад таго самага Орэста Кругляка, што выдавецтва *"McClelland and Steward"*, якое запачаткавала сэрыю кніг па гісторыі этнічных групаў Канады, адмовілася друкаваць працу Янкі Садоўскага. Тлумачылася гэта тым, што нібыта ў тэксьце багата паўторнай інфармацыі, а калі яе прыбраць, то выданьне страціць палову свайго аб'ёму й ня будзе добра глядзецца ў сэрыі. Праўда, аўтару прапаноўваліся два ва-

[60] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

[61] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 41.

[62] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 49.

[63] Варта адзначыць, што ўжо ў 1990-я гг. артыкул Магдалены Зіняк, магчыма ў крыху скарочаным выглядзе, зьявіўся ў "The Encyclopedia og Canada`s People".

рыянты выйсьця — або выдаць кнігу ў іншай сэрыі меншым накладам, або знайсьці іншае выдавецтва, якое зможа атрымаць дзяржаўнае фінансаваньне на друк кнігі[64].




Янка Садоўскі абраў другі варыянт. Ён даволі хутка знайшоў зацікаўленае выдавецтва *“Mika Publishing Company”* з антарыйскага Білевілю, якое падало заяўку на грант для выданьня “Гісторыі беларусаў у Канадзе”. Фінансаваньне прыйшло ня так хутка, як меркавалі аўтар і выдавец, але ўжо ўзімку 1981 г. нарэшце распачалася друкарская праца. У гэты час Янка Садоўскі клапаціўся пра зьнешнія прадмовы для сваёй кнігі. Першую рэпрэзэнтацыйную пагадзіўся напісаць міністар мультыкультуралізму Джым Флемінг, другую — навуковы каардынатар і рэдактар праекту, старшыня Дарадчага камітэту Канадыйскіх этнічных студыяў прафэсар Джын Барнэт. І нарэшце, на пачатку чэрвеня 1981 г., амаль праз тры гады пасьля сканчэньня сваёй дасьледчай працы й праз восем гадоў пасьля падачы заяўкі на праект, Янка Садоўскі атрымаў надрукаваныя асобнікі кнігі.

## *“A History of the Byelorussians in Canada”*

Канчатковы варыянт працы заняў 148 друкаваных старонак і ўтрымліваў прадмову, шэсьць разьдзелаў, заключэньне й бібліяграфію, а таксама 12 старонак ілюстрацыяў[65]. У прадмове аўтар шчыра прызнаваўся, што не скарыстаў усе магчымыя крыніцы, найперш архіўныя, і базаваў сваю працу найбольш на інтэрвію, лістах і разнастайных публікацыях, асабліва газэтных. Таму ў выкладзенай інфармацыі могуць быць прагалы, але засталася надзея, што ў найбліжэйшай будучыні зьявіцца больш усебаковая й заснаваная на дакумэнтах кніга.

Першы разьдзел пад назовам *“Byelorussia”* ўяўляў зь сябе агульныя зьвесткі з гісторыі й сучаснасьці краіны. Ён меў на мэце ўвесьці канадыйскага чытача ў беларускую праблематыку, тлумачачы паходжаньне й розныя варыянты напісаньня назвы краіны, асноўныя этапы яе гісторыі, асаблівасьці геаграфіі й культуры, колькасныя, сацыяльныя, рэлігійныя й іншыя характарыстыкі беларусаў і г. д. 23 старонкі даволі

[64] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

[65] Sadouski, John. A History of Byelorussians in Canada. Belleville, 1981. 148 p.

пасьлядоўнага і ўзважанага нарысу. Пры канцы Янка Садоўскі згадваў пра слабую нацыянальную самасьведамасьць у старэйшага пакаленьня беларусаў, што было важна для далейшага разуменьня праблемаў беларускай іміграцыі ў Канадзе. У якасьці крыніцаў інфармацыі для гэтага разьдзелу пазначаныя як выданьні савецкія (БелСЭ, “Гісторыя беларускай літаратурнай мовы” А. І. Жураўскага, “Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры” ды інш.), гэтак і заходнія публікацыі Нікаласа Вакара, Янкі Запрудніка, Івана Любачкі, Антона Адамовіча ды інш.

Другі разьдзел кнігі распавядаў пра беларускую іміграцыю ў Канаду. Тут аўтар найперш спыніўся на праблеме першых пасяленцаў і выклаў меркаваньне Сяргея Хмары, апублікаванае ў “Беларускім Голасе”, адносна запісаных палякамі пасяленцаў Чырвонай Рэчкі (*Red River*) у 1817 г., што насамрэч былі беларусамі. Далей падаваліся прыклады канкрэтных гісторый прыбыцьця беларусаў у Канаду на пачатку XX ст., запісаных аўтарам праз інтэрвію або ўзятых з працы Рыгора Акулевіча “Рускія ў Канадзе”. Аднак галоўны зьмест разьдзелу ўсё ж быў прысьвечаны вырашэньню праблемы колькасьці суродзічаў-імігрантаў. Пры адсутнасьці якіх-небудзь афіцыйных зьвестак пра імігрантаў-беларусаў Янка Садоўскі паспрабаваў вырашыць праблему падліку суродзічаў праз вылучэньне іх прапарцыйнай долі сярод зафіксаваных у статыстыцы палякаў і расейцаў. У яго атрымаліся цікавыя, хоць і прыблізныя ды часам спрэчныя высновы, паводле якіх колькасьць беларускіх імігрантаў у Канадзе ў 1970-я складала каля 100 тысячаў чалавек, як і падавалася ў савецкіх крыніцах. Падлікі былі заснаваныя на шматлікіх дапушчэньнях, аднак пры адсутнасьці дакладнай статыстыкі яны таксама маглі быць адным з варыянтаў адказу на балючае пытаньне колькасьці беларусаў у Канадзе.

Наступны разьдзел працы меў назоў *“The Old Coutry and The New”* (“Старая краіна й новая”). На самым пачатку аўтар зрабіў агаворку, што пра тое, каб усебакова дасьледаваць расьсяленьне, геаграфічную й сацыяльна-эканамічную мабільнасьць беларусаў, іх сямейныя асаблівасьці й г. д., статыстычных крыніцаў надзвычай мала. Таму ён абапіраўся на дасьледаваньні, зробленыя ў дачыненьні польскай і расейскай эміграцыяў, тэндэнцыі ў якіх былі актуальныя й для беларусаў. Аднак асноўны зьмест разьдзелу склалі ўсё ж канкрэтныя гісторыі паасобных беларусаў, запісаныя ў інтэрвію ці атрыманыя ў лістах або знойдзеныя ў апублікаваных крыніцах. Стваралася цікавая мазаіка лёсаў суродзічаў, адны зь якіх працавалі на будаўніцтве чыгункі, былі работнікамі залатых ці вугальных капальняў, а іншыя ўладкаваліся лекарамі, інжынэрамі, былі артыстамі, навукоўцамі й нават знайшліся ва ўрадавых структурах. Тут згадваліся беларускія радыёперадачы ў Канадзе ды навуковыя дасьледаваньні, культурніцкія праекты й г. д. — усё тое, што дапамагала перадаць разнастайнасьць лёсаў суродзічаў і іх унёсак у жыцьцё новай краіны.

Адмысловы (самы аб’ёмны) разьдзел кнігі быў прысьвечаны беларускім арганізацыям у Канадзе. Пачынаючы ад згадак актыўнасьці міжваенных беларусаў у расейскіх і польскіх структурах, асноўны акцэнт аўтар натуральна зрабіў на дзейнасьці паваеннай эміграцыі. Тут падавалася гісторыя стварэньня Згуртаваньня беларусаў Канады, першыя гады ягонага існаваньня, заснаваньне асобных арганізацый у Вініпэгу й Манрэалі. Безумоўна, аўтар ня мог абысьці праблемы падзелу ў ЗБК, зьяўленьня Беларускага нацыянальнага аб’еднаньня й “хмараўскай” “трэцяй сілы”. Аднак Янка Садоўскі, магчыма, памятаючы параду Валянціны Пашкевіч, пастараўся не выносіць на старонкі кнігі падрабязнасьці міжарганізацыйнага змаганьня, канстатуючы толькі факты падзелу й тлумачачы яго як ідэалягічнымі, гэтак і міжасабовымі прычынамі. Такі падыход выглядаў слушным, аўтар заставаўся як бы па-над разладам, падаючы выключна фактычную інфармацыю. Праўда, пры канцы дасьледнік зрабіў заўвагу пра тое, што ўсё ж забагата часу й грошай у 1950-я пайшло на змаганьне паміж ЗБК і БНА і што падзел ня быў цалкам пераадолены нават са стварэньнем Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады ў 1960 г.

У разьдзеле багата згадваліся канкрэтныя мерапрыемствы, што ладзіліся тымі ці іншымі структурамі ў розныя часы, адзначаліся мастацкія самадзейныя калектывы, школкі, дзейнасьць у рэгіёнах, удзел беларусаў у шматнацыянальных фэстывалях і інш. Зразумела, хроніка падзеяў не была вычарпальнаю, хоць аўтар і стараўся адзначыць усю разнастайную гаму арганізаванага беларускага жыцьця ў Канадзе да сярэдзіны 1970-х. І даволі пэсымістычна гучала апошняя заўвага разьдзелу, справядлівая наогул для беларускіх эміграцыйных арганізацыяў, ня толькі канадыйскіх: яны ніколі не былі масавыя. Асноўная частка беларускіх імігрантаў у іх не ўваходзіла: палянізацыя, русыфікацыя, асыміляцыя, ідэалягічнае рознагалосьсе — усё гэта стаяла на перашкодзе. І тым каштоўнейшае тое, што ўсё ж удавалася стварыць.

Асобным пытаньнем для разгляду стала рэлігія. Янка Садоўскі падаў інфармацыю пра беларускіх каталікоў, якія ніколі ня мелі ўласных нацыянальных структураў у Канадзе, пратэстантаў, якія толькі ў 1973 г. супольна з суродзічамі з ЗША стварылі Беларускае эвангельска-баптысцкае брацтва, і праваслаўных, што заснавалі ў Таронта дзьве парафіі — сьвятой Эўфрасіньні Полацкай і сьвятога Кірылы Тураўскага, якія ніколі ня мелі афіцыйных кантактаў паміж сабою. Згадвалася ў тэксьце й экзатычная Беларуская праваслаўна-каталіцкая субожня, відавочна, аналяг таго, што было створана ў ЗША ведамым Ўладыславам Рыжым-Рыскім. Пры канцы разьдзелу навуковец наважыўся паспрачацца з думкаю пра вялікую ролю царквы ў вызначэньні нацыянальнай самасьвядомасьці. Ён заўважыў, што стварэньнем беларускіх прыходаў займаліся найперш менавіта сьвецкія арганізацыі й што беларусы спакойна ішлі ў польскія касьцёлы, украінскія ці расейскія цэрквы,

у пераважнай большасьці ня маючы патрэбаў насамрэч мець нацыянальныя рэлігійныя структуры.

Апошнюю частку сваёй кнігі Янка Садоўскі прысьвяціў друку й літаратуры. Тут ён падаў інфармацыю пра беларускія пэрыёдыкі ў Канадзе — як найбуйнейшыя (“Беларускі Эмігрант”, “Беларускі Голас”, “Зважай”), гэтак і меншыя (“Баявая Ўскалось”, “Палесьсе”, “Дзяцел”, “Народным Шляхам” і інш.). Другая палова разьдзелу была прысьвечаная тром беларускім пісьменьнікам у Канадзе: Кастусю Акулу, Сяргею Хмару й Міколу Сільвановічу. Аўтар зьмясьціў як біяграфічныя зьвесткі пра творцаў, гэтак і характарыстыку іх даробку. Часам, што праўда, Янка Садоўскі рабіў даволі крытычныя заўвагі пра той ці іншы твор, прыкладам, пра “Закрываўленае сонца” або *“Tomorrow is Yesterday”* Кастуся Акулы.

У заключэньні сваёй працы аўтар агучыў палітычна важную для беларускай грамады заўвагу: беларусы маглі б зрабіць значна большы ўнёсак у разьвіцьцё шматкультурнага канадыйскага грамадзтва, калі б канадыйскія палітыкі больш падтрымоўвалі іх культурніцкія й публікацыйныя ініцыятывы.

Агулам, кніга Янкі Садоўскага, нягледзячы на абмежаваную крыніцазнаўчую базу й пэўную колькасьць дапушчэньняў, у прынцыпе ўласьцівых і пазьнейшым дасьледаваньням беларускай эміграцыі, адлюстравала рознабакова й разнастайна фэномэн беларускай прысутнасьці ў Канадзе. Так, пэўныя тэмы, сюжэты засталіся па-за ўвагай аўтара, прыкладам дачыненьні розных пакаленьняў імігрантаў, антыкамуністычная й рэпрэзэнтацыйная дзейнасьць як асобныя кірункі працы арганізацый і г. д. Аднак нельга забывацца, што кніга была піянэрскай ня толькі ў пляне вывучэньня беларусаў у канкрэтнай краіне, але й наагул для айчынных эміграцыйных дасьледаваньняў. І аўтару ўдалося зрабіць пэўны (даволі ўдалы) сынтэз гісторыі арганізацый і гісторыі асобаў, адлюстраваньня як агульных тэндэнцыяў разьвіцьця эміграцыйнай супольнасьці, гэтак і канкрэтных праяваў яе жыцьця.

## *Пасьля выданьня*

Як любы аўтар, пасьля атрыманьня сваёй кнігі з друкарні Янка Садоўскі найперш стаў займацца дасылкай своеасаблівых “рэпрэзэнтацыйных” паасобнікаў аўтарам прадмоваў, асобам, што найбольш спрыялі выданьню. У адказ атрымаў падзяку й ад міністра Флемінга, і ад Джын Барнэт. Далей сталі прыходзіць прыватныя водгукі й выказваньні ўдзячнасьці ад чытачоў.

Прыкладам, цікавы, зьмястоўны і, галоўнае, першы беларускамоўны ліст даслаў Юрка Рапэцкі, сын згаданага вышэй карэспандэнта Янкі Садоўскага Якуба Рапэцкага.

*Вельмі паважаны спадар Садоўскі,*

*Шчыра вітаю Вас і спадзяюся, што ўсё ў Вас у парадку, на сваім месьце. Мы із спадаром Гукам раней заказалі й толькі што атрымалі Вашую кнігу пра Беларусаў у Канадзе. Вельмі добра Вы зрабілі.*

*Я зь цікавасьцяй прачытаў усю кнігу й шмат новага пазнаў, чытаючы яе. Дзякуй, што спадара Гука й нашы эвангельскі труд на радыё ўспомнілі. З таго часу, калі Вы бачыліся з намі, здарыліся некаторыя карэнныя зьмены арганізацыйнага характару. Мы яшчэ, як раней, рыхтуем беларускія эвангельска-рэлігійныя перадачы, што перадаюцца на Беларусь. Але колькі гадоў назад Таронтаўская Хрысьціянская Місія перабралася ў Амэрыку. Усе мы, хто тады працаваў у расейскім аддзеле, засталіся ў Тароньце ды пачалі новую місію, што цяпер завецца “Місійнае Радыёслужэньне”. Шлю вам дзьве брашуры, што растлумачваюць нашую цяперашнюю духовую працу й місію.*

*Я таксама шлю вам тэсьму зь дзьвюма нашымі перадачамі ў беларускай мове. У першай я гавару Слова Божае, у другой — мой тата, Якуб Рапэцкі. Я ўжо больш за год хаджу да спадарыні Пашкевіч на прыватныя лекцыі беларускае мовы й пачаў пісаць пропаведзі ў гэтай мове для нашых перадачаў. Спадарыня Пашкевіч іх папраўляе. Павінен сказаць, што яна мне ўжо шмат дапамагла й яшчэ дапамагае. Дык вось у першай праграме на йстужцы Вы пачуеце, як я чытаю пабеларуску. Папраўдзе сказаць, тата яшчэ больш рыхтуе пропаведзяў, чымся я, але я стараюся, прынамся, раз у месяц падрыхтаваць адну. Калі тата больш ня зможа гэтым займацца, дык я буду прадоўжваць ягоную справу.*

*Спадар Гук нядаўна вярнуўся зь Беларусі, дзе жыў амаль тры тыдні са сваякамі ў роднай вёсцы. Ён кажа, што Беларусы там з радасьцяй слухаюць нашыя й іншыя беларускія перадачы.*

*Калі будзеце ў Тароньце ды маеце на гэта жаданьне й час, загляньце да нас. Было-б прыемна йзноў пабачыцца з Вамі.*

*Усяго вам добрага!*

*З прывітаньнем,*

*Юрка Рапэцкі*

*12 жніўня 1981 г.*[66].

Падзяку за кнігу даслаў прафэсар Хорні (разам з зацікаўленасьцю ў запісах інтэрвію, зробленых Янкам Садоўскім). Замовіў кнігу для ўнівэрсытэцкай бібліятэкі й украінец Яр Славутыч. Падзякаў і спрыяльных водгукаў у архіве Янкі Садоўскага захавалася хоць і няшмат, але яны былі[67].

[66] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

[67] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

Складаней было з афіцыйнымі рэцэнзіямі. Першая зьявілася ўжо ў чэрвені 1981 г. на старонках часопісу “Зважай”. Яе аўтар Кастусь Акула сваім даволі эмацыйным тэкстам фактычна спляжыў усю працу навукоўцы. Тут былі закіды адносна “памылковых” падлікаў колькасьці беларусаў, крыўда на крытычныя згадкі твораў пісьменьніка, нараканьні на згадку тае праваслаўна-каталіцкай субожні, якой нібыта ня месца ў кнізе. Па-за гэтымі момантамі аўтар рэцэнзіі фактычна не зрабіў канкрэтных заўвагаў да тэксту кнігі, але выснова ягоная гучала як прысуд:

*«Неразборлівасьць і непрадуманасьць характарызуе ўсю кнігу. Наракаючы на недахоп дакумантаў, Садоўскі ў захлёб начытаўся хмараўскага “голасу”, панавыцягваў адтуль розных цымусаў. Бярэшся пісаць паважную працу, дык прынамся, як дбайлівы гаспадар, павінен адрозьніваць зярно ад мякіны ці пазадкаў. А калі ўжо пра пазадкі ня можаш ня пісаць, дык прынамся трэба іх назваць.*

*Садоўскага й ягоную жонку Марыю трэба пахваліць адно за тое, што парупіліся сабраць многа цікавага матар’ялу пра Беларусаў у Канадзе. Але канчальны прадукт і астаўся сырцом, дзе часта хлам трактуецца паважна, а важнае, — прыкладам, вялікая антыкамуністычная праца, зусім не разглядаецца. Можна й больш прыкладаў даць, але навошта? Ці аднаму з нас у будучыні прыдзецца чырванецца за кніжку, на якую канадыйскі ўрад выдаў вялікую суму грошы, а Садоўскі страціў так шмат часу...»*[68].

Відавочна, што аўтар “Гісторыі беларусаў у Канадзе” зачапіў Кастуся Акулу асабіста, праз крытычныя заўвагі да ягоных твораў, праз абмінаньне ягонай актыўнай антыкамуністычнай працы, за што й атрымаў надзвычай эмацыйны водгук. Аднак гэтая рэцэнзія была не адзіная.

Таксама ў чэрвеньскім нумары, але ўжо газэты “Беларускі Голас”, выйшаў яшчэ адзін водгук за подпісам “Аглядчык”. Хутчэй за ўсё, ягоным аўтарам быў сам Сяргей Хмара, паколькі тут выказваецца завялікая абазнанасьць у абставінах нібыта “выпраўленьня” кнігі Янкі Садоўскага з боку прадстаўнікоў ЗБК, пра што ён пісаў у прыведзеным раней лісьце. Рэцэнзэнт сьцьвярджаў: *«Вылічваючы паўстаўшыя пасьля вайны Беларускія арганізацыі, праф. Садоўскі слушна ходаецца якнайменш уваходзіць у падрабязнасьці, успамінаць як наймерш імёнаў, каб абыйсьці контравэрсыйныя пытаньні, ды ўберагчыся ад нападак вядомай, хоць і малой, але вельмі араганскай плыні “прэзыдэншчыкаў”. Аднак гэтае відаць яшчэ ім было мала і, як мы маем довады, актывісты гэтае групы, працуючыя ўрадоўцамі пры ўрадавых установах у Атаве, заходаліся, каб напісанае гісторыкам было “перапісанае”»*[69]. Хмара меркаваў, што менавіта ў выніку

[68] Акула, К. Кніга пра беларусаў Канады // Зважай. № 2 (22). Чэрвень 1981.

[69] Беларускі Голас. № 294. Чэрвень 1981.

гэтага зьнешняга ўмяшальніцтва з тэксту кнігі зьнік сюжэт пра тое, як паўсталі рознагалосьці ў выданьні газэты "Беларускі Эмігрант", што стваральнікі ЗБК ад пачатку не жадалі арганізоўваць праваслаўны прыход і г. д. Аўтар рэцэнзіі не пагадзіўся зь Янкам Садоўскім у ягонай ацэнцы ролі царквы ў беларускім жыцьці, а таксама сьледам за Акулам пашкадаваў, што антыкамуністычная дзейнасьць беларусаў у кнізе не была прадстаўленая. Наогул, тэкст Хмары выглядаў больш спакойным, і асноўнае абурэньне было скіраванае на зьнешнія чыньнікі, што паўплывалі на канчатковы зьмест працы.

Аднак увага да кнігі Янкі Садоўскага ў "Беларускім Голасе" не абмежавалася водгукам "Аглядчыка". Неўзабаве зьявілася большая аб'ёмам рэцэнзія, падпісаная Волькай Трэскай, з красамоўнай назвай "Гісторыя з прарэхамі". Тут паўтараліся асноўныя тэзы, агучаныя раней Хмарам, але значна больш шырока й безапэляцыйна разьвіваліся. Сьцьвярджалася: *"Аўтар слушна застасаваў да апісаньня гісторыі арганізацыяў хранікальны мэтад, падаючы аб жыцьці і падзеях весткамі з часапісаў, пратаколаў, але гэтая ягоная мэтода часам гостра падводзіць гісторыка-дасьледчыка, які падаючы механічна хроніку, мімаволі хіба робіць гэтыя механічныя даныя, без сваіх камэнтароў, хвальшывымі і часам на 180° супярэчнымі з тадышняй рэчаістасьцю. [...] Механічнае пералічэньне здарэньняў, без сваіх выясьняючых камэнтароў — гэта ня дасьледаваньне і патрабуючаму нічога не выясьняе"*[70]. Фактычна аўтару кнігі ставілася ў віну, што ён не падаваў падрабязнасьці ўнутрыбеларускай барацьбы, нібыта "падрыўной" дзейнасьці Вінцэнта Жук-Грышкевіча й Барыса Рагулі, не расстаўляў акцэнты. Даволі традыцыйна для "Беларускага Голасу" водгук на кнігу Янкі Садоўскага быў скарыстаны для чарговага зьвядзеньня рахункаў з палітычнымі праціўнікамі, таму да гэтых закідаў складана ставіцца сур'ёзна.

Але навуковец, здаецца, ставіўся. Ён пераклаў у ангельскую мову ўсе тры рэцэнзіі (яны захаваліся ў ягоных паперах). Праўда, у лісьце да Сяргея Хмары разам з падзякаю за водгук "Аглядчыка" згадаў публікацыю Акулы й філязофскі адзначыў: *"Дзякуй Богу, ёсьць што крытыкаваць. Асьмельваюся надзеяцца, што іншыя пачнуць пісаць пра беларусаў у Канадзе й што нас крыху лепш пазнаюць канадыйцы"*[71]. Ніякіх іншых рэцэнзіяў кніга Янкі Садоўскага ня зьведала. Больш за тое, яе не згадалі ні ў нэкралёгу аўтара, ні ў якіх-небудзь навінах у беларускім друку.

Акрамя таго, палажэньні дасьледчай працы беларуса складана ўспрымаліся й пэўнай часткай навуковай супольнасьці канадыйскіх

---

[70] Трэска, Волька. Гісторыя з прарэхамі // Беларускі Голас. № 295. Верасень 1981.

[71] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

славістаў. Так, у чэрвені 1980 г. ён напісаў у навуковае выданьне *“Canadian Ethnic Studies”* Дасьледчага цэнтру этнічных студыяў пры Ўнівэрсытэце Калгары, што хацеў бы падаць для публікацыі свой артыкул пад назовам “Першыя беларускія пасяленцы ў Канадзе”[72]. Ужо ў лістападзе таго ж году навуковец даслаў на імя рэдактара Говарда Палмэра тэкст публікацыі з заўвагай, што прафэсар Джын Барнэт яе ўхваліла. Болей як праз паўгоду, у чэрвені 1981 г., Садоўскі атрымаў ад аднаго з рэдактараў Ала Распорыча адказ, што рэцэнзэнты зрабілі шэраг заўвагаў да артыкулу, якія варта ўлічыць пры дапрацоўцы. Пытаньні калегаў выклікалі шмат якія моманты: і лік у 100 тысяч беларусаў у Канадзе, калі паводле перапісу 1971 г. іх толькі 2280, і як беларусы трапілі ў прэрыі, як сяліліся ў Манітобе. Рэцэнзэнты прасілі больш дакладных зьвестак. Не спадабалася ім таксама й нязгода Садоўскага з польскім дасьледнікам Віктарам Турэкам адносна паходжаньня жыхароў Чырвонай Рэчкі (*Red River*), але не таму, што тыя сапраўды былі палякамі, а таму, што было яшчэ й іншае дасьледаваньне Юліяна Стэчышына, паводле якога тыя самыя пасяленцы былі ўкраінцамі. Таму вэрсыю пра беларускае паходжаньне згаданых асобаў адзначылі як зусім не пераканаўчую[73]. Пры канцы жніўня 1981 г. Янка Садоўскі даслаў у рэдакцыю дапрацаваны варыянт свайго артыкулу са спасылкаю, што ўжо выйшла ягоная кніга пра беларусаў у Канадзе, на якой і базуецца тэкст. Аднак у студзені 1982 г. навуковец атрымаў ад *“Canadian Ethnic Studies”* адмову ў публікацыі. Той самы Ал Распорыч паведамляў, што дапрацаваны артыкул выклікаў яшчэ больш пытаньняў. Рэцэнзэнты сумняваліся ва ўсім — ад аўтарытэтнасьці аўтараў, на якіх спасылаўся Янка Садоўскі, да прыведзеных разьлікаў і аргумэнтацыі адносна першых пасяленцаў і іх паходжаньня[74]. Калегі-славісты не хацелі пераглядаць прынятыя на той момант тэзы й даваць месца беларусам у іміграцыйных дасьледаваньнях.

Складанасьці ўзьніклі й з абяцанай публікацыяй франкамоўнага варыянту кнігі Янкі Садоўскага. Ужо ўвесну 1981 г. адно квэбэкскае выдавецтва выказала цікавасьць да выданьня працы пра гісторыю беларусаў у Канадзе па-француску. Аднак цягам колькіх месяцаў з Дэпартамэнту Дзяржсакратара ніяк не маглі пераслаць выдаўцу машынапіс. Калі ўрэшце ў верасьні 1981 г. у Квэбэку атрымалі тэкст, дык вырашылі, што ён іх інтарэсам усё ж не адпавядае, і Янку Садоўскаму трэба было зноў шукаць сабе выдаўца[75].

72 LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 41.

73 LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 41.

74 LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 41.

75 LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 66.

Неўзабаве пасьля выхаду кнігі дасьледнік заняўся яшчэ адной важнай справай — уладкаваньнем свайго архіву. Падштурхоўваў яго да гэтага былы супрацоўнік праекту этнічных гісторыяў Майран Момрык, які ў 1979 г. перайшоў у Публічны архіў Канады й заняўся разбудовай усходнеславянскіх калекцыяў. Яшчэ у сакавіку 1981 г. ён зьвярнуўся да Янкі Садоўскага з прапановай перадаць на захаваньне матэрыялы ягонага дасьледаваньня. У лютым 1982 г. паводле ўзгадненьня з Дэпартамэнтам навуковец перадаў сабраныя ім дакумэнты ў Публічны архіў Канады, дзе й быў створаны ягоны пэрсанальны фонд, матэрыяламі якога мы маем магчымасьць карыстацца й сёньня[76].

І яшчэ адзін цікавы факт. Нягледзячы на высілоўнае змаганьне з павольнай дзяржаўнай бюрактарычнай машынай у часе працы над сваім беларускім праектам, ужо ўвесну 1980 г., калі рукапіс яшчэ чакаў вырашэньня свайго лёсу, Янка Садоўскі стаў агучваць ідэю наступнага праекту. Як ні дзіўна, ён плянаваў разам з жонкаю заняцца напісаньнем гісторыі… расейцаў у Канадзе. Магчыма, гэтай ідэі паспрыяла тая вялікая колькасьць датычных гэтай нацыянальнай групы крыніцаў, зь якой навуковец сутыкнуўся ў часе пошукаў матэрыялаў пра беларусаў. Што праўда, акрамя некалькі лістоў да магчымых навуковых рэцэнзэнтаў будучага расейскага праекту[77], ніякіх сьведчаньняў іншых захадаў Садоўскага ў згаданым кірунку не захавалася. Нават калі ён і падаў новую заяўку на грант, наўрад ці пасьпеў атрымаць на яе адказ. Чэрвень 1982 г. спыніў і ягоныя спробы выдаць францускі варыянт кнігі, і змаганьне з канадыйскімі бюракратамі ды калегамі-славістамі за належнае месца ў навуковым асяродзьдзі, і перажываньні з нагоды неўспрыманьня ягонай працы суродзічамі-беларусамі. Сэрца ня вытрымала.

### *Высновы*

Крыху больш як праз дзесяць гадоў, пабачыла сьвет другое эміграцыязнаўчае дасьледаваньне, створанае беларусам на Захадзе, — кніга “Беларусы ў ЗША” Вітаўта Кіпеля[78]. У адрозьненьне ад працы Янкі Садоўскага яна была прынятая публікай значна больш прыхільна, хоць і са статыстыкай беларускай эміграцыі ў Амэрыцы былі ня меншыя складанасьці, і аўтар новага выданьня гэтаксама ствараў мазаіку лёсаў суродзічаў і падаваў зьвесткі пра некалі актыўна варагуючыя беларускія арганізацыі. Чаму ж кніга Янкі Садоўскага была так непрыхільна ўспрынята грамадой?

---

[76] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 52.

[77] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 65.

[78] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Мінск, 1993. 348 с.; Kipel, Vitaut. Belarusans in the United States. University Press of America, 1999.

Можна меркаваць, што супраць аўтара спрацавалі некалькі розных фактараў. Найважнейшым стала ягоная вельмі невялікая ўласная ўключанасьць у канадыйскую беларускую грамаду. Ён прыбыў у Канаду значна пазьней, чым асноўная частка ўдзельнікаў нацыянальных арганізацый, жыў па-за асноўнымі цэнтрамі беларускага жыцьця — ва ўнівэрсытэцкім Кінгстане. Садоўскі ня толькі ня быў праваслаўным, але й быў расстрыгай-ксяндзом, пра што таксама добра ведаў шмат хто з канадыйскіх беларусаў, якія падтрымоўвалі цесныя сувязі зь лёнданскімі суродзічамі. Захаваная карэспандэнцыя сьведчыць, што Янка Садоўскі ня меў ні з кім асабліва блізкіх дачыненьняў. З усімі ў лістах толькі дзелавыя адносіны. Канцэнтраваўся на працы, але быў, паводле сьведчаньняў Вітаўта Кіпеля, даволі таямнічы, не распавядаў шырока, чым займаўся. Так, ён ладзіў беларусаведную канфэрэнцыю ва ўнівэрсытэце, удзельнічаў у іншых навуковых мерапрыемствах, зьбіраў рэчы для беларускай калекцыі ў Музэі чалавека, ліставаўся зь вялікай колькасьцю суродзічаў у гэтых справах. Але пры гэтым заставаўся як бы па-за грамадой. Янка Садоўскі спазьніўся на драматычныя падзеі падзелу ў беларускім асяродзьдзі й таму зусім спакойна кантактаваў зь ягонымі былымі ўдзельнікамі з усіх бакоў. Для сваёй працы ён прымаў дапамогу ад усіх, хто гатовы быў яе даць.

Але... беларуская канадыйскага грамада 1970-х пакуль не была гатовая да такой талерантнасьці, яшчэ існавала ранейшае разьмежаваньне на ЗБК і БНА, яшчэ вельмі актыўны быў Сяргей Хмара й яго гэтак жа актыўна не любілі суродзічы з абодвух бакоў. Ранейшае змаганьне хоць і сьцішылася, але ня зьнікла, і, не прыняўшы ў ім выразна пазыцыю аднаго з бакоў, Янка Садоўскі застаўся чужым для ўсіх. Актывісты з розных лягераў жадалі, каб у кнізе пра беларусаў у Канадзе было зафіксаванае менавіта іх бачаньне падзеяў, адзначаная менавіта іх роля. І таму пададзены навукоўцам абагульнены вобраз беларускага жыцьця выклікаў багата нараканьняў. Акула бачыў у ім уплыў Хмары, Хмара — уплыў БНРаўцаў, і пры гэтым ніхто не ўзяўся дасьледніка абараніць, бо ён быў “ня свой” для ўсіх.

Але пры гэтым навуковец не ўспрымаўся цалкам і як чужынец. Тое, што маглі дараваць украінскаму канадыйцу Кайе ў сэнсе прыблізнасьці статыстыкі ці нязгадкі тых ці іншых сюжэтаў, не хацелі дараваць Садоўскаму, бо *“ён жа беларус”*.

Была й іншая акалічнасьць. Сваю кнігу дасьледнік сьведама адрасаваў найперш канадыйцам, каб менавіта ім патлумачыць, хто такія беларусы ў іхняй краіне. У тым ліку й таму ён не падаваў дэталі ўнутрыграмадзкай барацьбы, але рабіў выразны акцэнт на асобным месцы беларусаў паміж палякамі, расейцамі, украінцамі. Янка Садоўскі, магчыма, менш думаў пра рэакцыю “сваіх”, таму, уласна, і атрымаў яе такой: ухвальныя лісты ад беларусаў і замежнікаў, далёкіх ад нацыянальнага жыцьця, і пагарду або маўчаньне актыўных суродзічаў.

У якасьці яшчэ аднаго магчымага фактару, які паўплываў на ўспрыманьне кнігі Янкі Садоўскага, можна вылучыць пэўную канкурэнцыю ў беларускім асяродзьдзі. Яшчэ ў 1975 г., калі праект толькі быў падтрыманы, дасьледчык пісаў у лісьце да Рыгора Казака: *"ніхто іншы не адважыўся, а некалькі асоб прэтэндуюць на гісторыкаў"*[79]. Па-за згаданай ужо Магдаленай Зіняк, якая так актыўна прасоўвала ўласнае бачаньне гісторыі беларусаў у Канадзе, быў яшчэ й, прыкладам, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, які ад 1960-х быў аўтарам адмысловага артыкулу пра беларусаў у выданьні *"Canadian Family Tree"*, што рэгулярна перавыдавалася. Цікавая акалічнасьць, у 1970-я Янка Садоўскі нават атрымоўваў прапанову па рэвізіі тэксту тагачаснага старшыні БНР для канадыйскага выданьня. Дзякуючы свайму дасьледчаму праекту для навуковых і ўрадавых колаў Садоўскі ператвараўся ў спэцыяліста, да якога можна зьвяртацца па рэцэнзіі, водгукі на іншыя беларусаведныя публікацыі. І гэта таксама магло выклікаць рэўнасьць у суродзічаў.

Напэўна, каб адэкватна ацаніць "Гісторыю беларусаў у Канадзе", трэба было, каб прайшоў час, каб адышлі зацікаўленыя ў тым ці іншым варыянце падачы ў ёй інфармацыі чыньнікі, каб прыйшло іншае пакаленьне. Парадокс жа ў тым, што іншаму пакаленьню патрэбная й іншая гісторыя, тая, дзе знойдзецца месца яму, і пажадана ў тым выглядзе, як менавіта яно (гэтае пакаленьне) яго бачыць. Кола замыкаецца.

І тым ня менш напісанае застаецца. Рыхтуючы сёньня новую кнігу пра гісторыю беларусаў у Канадзе, немагчыма абмінуць працу Янкі Садоўскага, як немагчыма яму й не падзякаваць за зробленае. Прарочымі аказаліся словы, якімі скончыла сваю прадмову да ягонай кнігі Джын Барнэт: *"Зьбіраючы зьвесткі адносна эўрапейскага паходжаньня, гісторыі й сучаснасьці беларускіх канадыйцаў, прафэсар Садоўскі зрабіў вартасную піянэрскую працу. Іншыя пойдуць далей па гэтым шляху. Варта спадзявацца, што, нягледзячы на адрозьненьні ў мэтадах і поглядах, яны будуць дзякаваць яму за тое, што паказаў ім дарогу"*[80].

І я шчыра дзякую.

---

[79] LAC. John Sadouski Fonds. MG31—D124. C. 1. F. 15.

[80] Sadouski, John. A History of Byelorussians in Canada. P. 10.

*Тэма нумару: “О, Канада!”*
*Асоба*

***Янка Садоўскі***

# БЕЛАРУСКАЯ ІМІГРАЦЫЯ Ў КАНАДУ

## (разьдзел з кнігі)

Пры дасьледаваньні такога пытаньня, як іміграцыя беларусаў у Канаду, узьнікае цэлы шэраг праблем. Няма дакладных і надзейных статыстычных дадзеных наконт колькасьці беларускіх імігрантаў; лічбы адрозьніваюцца вельмі моцна: напрыклад, некаторыя мяркуюць, што ў Канадзе знайшлі прытулак больш за 100000 беларусаў, у той час як іншыя дзеляць гэтыя дадзеныя на два ці кажуць пра лік менш за 33000. Прасачыць гісторыю беларускай іміграцыі ў Канаду таксама надзвычай цяжка, бо Беларусь не існавала ў той час у якасьці незалежнай краіны й таму на мытні беларусаў рэгістравалі як расейцаў, палякаў, латышоў, літоўцаў, а ў некаторых выпадках — і як украінцаў, у залежнасьці ад іх грамадзянства й часам на падставе іх рэлігійнай прыналежнасьці.

Немагчыма вызначыць час, калі першыя беларусы іміігравалі ў Канаду. Паводле адной крыніцы, першыя тры беларусы пасяліліся ў гэтай краіне ў 1817 г.[1]. Рэдактар газэты “Беларускі Голас” Сяргей Хмара ў размове з аўтарам казаў, што падставай для такога меркаваньня зьяўляецца публікацыя артыкулу Віктара Турэка[2], польскага навукоўца, які жыве ў Канадзе[3]. Хмара пабачыў у гэтым артыкуле тры прозьвішчы: *Michel Bardowicz*, *John Wasilofski* і *Jean Meron* — і палічыў іх тыпова беларускімі, а іх носьбітаў — беларускімі каталікамі з Заходняй Беларусі. Хмара ўпэўнены, што яны прымалі ўдзел у антырасейскіх дзеяньнях, арганізаваных палякамі, і былі вымушаныя зьбегчы з краіны, каб пазьбегнуць арышту[4]. Нам падаецца, што такія ўяўленьні грунтуюцца на тым факце, што лёс Беларусі быў моцна зьвязаны з гісторыяй Польшчы з канца XIV ст. да Другой сусьветнай вайны й шмат беларускіх каталікоў лічылі сябе палякамі.

---

[1] Першыя беларускія пасяленьні ў Канадзе // Беларускі Голас. Таронта. Ліпень 1962.

[2] Turek, Victor. Poles Among the de Meuron Soldiers // Historical and Scientific Society of Manitoba. Series III. № 9 (1954). P. 53—68.

[3] Інтэрвію з аўтарам ад 11 траўня 1977 г.

[4] Першыя беларускія пасяленьні ў Канадзе.

Турэк піша, што дзесяць палякаў прыехалі ў Манітобу ў 1817 г. Яны служылі ў палку дэ Ватвіля (*De Watteville's Regiment*) і разам зь іншымі былымі жаўнерамі, некаторыя зь якіх належалі да палка дэ Мэрона (*Regiment de Meuron*), яны суправаджалі лёрда Сэлкірка (*Lord Selkirk*) з Манрэалю да Калёніі на Чырвонай Рэчцы (*Red River Colony*). Сярод гэтых 10 імёнаў Хмара лічыць беларускімі два: *Michel Bardowicz* (ці *Bardavitsch*, ці *Bartavitche*, ці *Borokovitz*) і *John Wasilofski* (ці *Wasilowsky*, ці нават *Wasilovbokay*)[5]; Хмара запісвае іх наступным чынам: Міхаіл Барадовіч (Бардовіч) і Ян Васількоўскі[6].

Турэк сьцьвярджае, што першыя восем былых жаўнераў у ягоным сьпісе, уключаючы Бардовіча й Васілёўскага, былі палякамі, таму што іх імёны знойдзены ў сьпісе Хаймана, які датычыцца тых, хто служыў у палку дэ Ватвіля[7]. Аднак у сьпісе, зробленым Мечыславам Хайманам на падставе дакумэнту *"War Office, London. — W.O. 25\680. Soldiers of the De Watteville's Regiment. Description Book"*, можна знайсьці некалькі беларускіх імёнаў: напрыклад, *Joseph Lewosky*, нарадзіўся ў Горадні; *Martin Sabolsky*, нарадзіўся ў Горадні; *Paul Serada*, нарадзіўся ў *Colowh* (верагодна, Колаў); *Joseph Schust*, нарадзіўся ў *Zowlowitz* ці *Powlowitz* (верагодна, Паўлавічы)[8]. Першыя два нарадзіліся ў Горадні, гэта вялікі беларускі горад. *Serada* — тыпова беларускае імя, Серада, па-польску яно гучыць як *"sroda"*. *Schust (Shust)* — распаўсюджанае прозьвішча ў паўднёва-заходняй Беларусі. Таму аргумэнты Турэка наконт таго, што Бардовіч і Васілёўскі былі палякамі, здаюцца нам неабгрунтаванымі. Абодва імя, асабліва другое, часта сустракаюцца на этнічнай беларускай тэрыторыі. Хайман зьмяняе *Wasilofski* (ці *Vasilowsky*) на *Wasilewsk*і[9], каб гэтае імя не падавалася паляку чужаземным.

Турэк згадвае імя *John Meron* і кажа, што шатляндзкія пасяленцы спрасьцілі сапраўднае прозьвішча, бо яно было *"занадта доўгім і ім было цяжка яго вымавіць"*[10]. Ён таксама лічыць, што прозьвішча *Meron* адлюстроўвае той факт, што яго носьбіт служыў у палку дэ Мэрона (*de Meuron*)[11]. Аднак імя Мірон (*Meron* — літара *"e"* чытаецца ў ангельскай як "і") даволі распаўсюджанае сярод беларусаў, і сёньня ў ваколіцах Таронта пражываюць некалькі сем'яў з такім прозьвішчам. Правапіс, магчыма, лёгка зьмяніўся на *Meron* згодна з вымаўленьнем,

[5] Turek, Victor. Poles Among the de Meuron Soldiers. P. 60—61.

[6] Першыя беларускія пасяленьні ў Канадзе.

[7] Turek, Victor. Poles Among the de Meuron Soldiers. P. 61.

[8] Haiman, Mieczyslaw. Slady polskie w Ameryce. Chicago, Ill., 1938. P. 76, 84, 86.

[9] Haiman, Mieczyslaw. Slady polskie w Ameryce. P. 74.

[10] Turek, Victor. Poles Among the de Meuron Soldiers. P. 61.

[11] Turek, Victor. Poles Among the de Meuron Soldiers. P. 62.

таму мы ўпэўненыя ў тым, што *Jean Meron* быў беларусам, якога зарэгістравалі як паляка. Фактычна, сотні тысячаў беларусаў запісвалі палякамі ў афіцыйных дакумэнтах ня толькі ў Канадзе, але і ў іншых краінах.

Нам падаецца, што гэтыя доказы досыць пераканаўчыя, і мы лічым, што *Michel Bardowicz*, *John Wasilofski* й *Jean Meron* мелі беларускае паходжаньне. Яны прыбылі ў Калёнію на Чырвонай Рэчцы у 1817 г. і засталіся там жыць[12]. Гэтыя беларусы, як і іх польскія калегі з палку дэ Ватвіля, былі "простымі" й "неадукаванымі" сялянамі, якія пачалі працаваць на фэрмах[13], што трымалі ў сваю прыватную ўласнасьць ад лёрда Сэлкірка. Васілёўскі ажаніўся з дачкой францускіх швайцарскіх пасяленцаў, а іншыя два — з індзейскімі дзяўчатамі[14]. Можна выказаць здагадку, што ўсе тры заставаліся ў Чырвонай Рэчцы, бо імя *Jean Meron* зьяўляецца ў перапісе насельніцтва Калёніі, які праводзіўся ў 1849 г.[15].

Шмат беларусаў прыехала ў Канаду на працягу XIX ст. — асабліва пасьля паўстаньня Кастуся Каліноўскага супраць расейскага ўраду ў 1863 г., у якім удзельнічалі ня толькі дваране, але й сяляне. Аднак толькі адна крыніца згадвае той факт, што беларусы іміґравалі ў гэтую краіну *"недзе ў сярэдзіне 1890-х гг."*[16].

Толькі на пачатку XX ст. беларусы пачалі прыбываць у Канаду ў вялікай колькасьці. Эрнэст Паціпка (*Ernest Potipco*) з Таронта кажа, што ягоны сьвёкар Кірыл Глекаў прыехаў з Магілёву ў 1903 г., а ягоная жонка Акуліна, дзявочае прозьвішча Тальчынская, з таго ж самага гораду, далучылася да свайго мужа праз два гады. Чалавек з прозьвішчам Масулька й іншыя беларусы прыбылі ў гэту краіну ў 1903 г.[17].

Згодна з адной савецкай крыніцай, *"першая шматлікая эміґрацыя зь Беларусі ў Канаду адбылася ў 1907 г."*[18]. Нам падаецца, што гэтая інфармацыя заснаваная на меркаваньні Рыгора Акулевіча, беларуса паводле нацыянальнасьці, які пісаў: *«Пачынаючы з 1907 г. пачала прыбываць даволі шматлікая "даляравая" іміґрацыя з Гарадзенскай і Менскай губэрняў, а таксама з Валыні й Бесарабіі. Большасьць гэтых іміґрантаў ехала ў Злучаныя Штаты, але некаторыя апы-*

[12] Turek, Victor. Poles Among the de Meuron Soldiers. P. 60—61.

[13] Turek, Victor. Poles Among the de Meuron Soldiers. P. 62.

[14] Першыя беларускія пасяленьні ў Канадзе.

[15] Turek, Victor. Poles Among the de Meuron Soldiers. P. 61.

[16] Национальные проблемы Канады / редактор Ю. П. Аверкиева. Москва, 1972. С. 137.

[17] Інтэрвію з аўтарам ад 11 траўня 1977 г.

[18] Беларуская савецкая энцыклапедыя (далей — БелСЭ). Т. V. Мінск, 1972. С. 366.

*нуліся ва ўсходніх канадыйскіх індустрыяльных гарадах: Манрэаль, Таронта й Віндзар»*[19].

Трэба адзначыць, што Гарадзенская й Менская губэрні — гэта беларуская этнічная тэрыторыя.

У Публічным архіве Канады амаль няма дакумэнтаў пра беларускую іміграцыю, але ёсьць цікавы ліст, адрасаваны сакратару Аддзелу па справах іміграцыі, які датуецца 14 студзеня 1910 г.: *“Пяць маіх сяброў і я жадаем прыехаць у Канаду, каб працаваць там фэрмэрамі, таму мы просім вас выявіць ласку й даслаць нам падрабязную інфармацыю адносна атрыманьня зямельных надзелаў і месцазнаходжаньня гэтых надзелаў. Мы просім вас адказаць нам па гэтым адрасе: Менская губэрня, Рэчыўскі ўезд, Салірыская воласьць, маёнтак Саліція, Антон Беланкіно, Расея”*[20].

З-за адсутнасьці ўрадавых дакумэнтаў мы вымушаныя абапірацца на публікацыі й інтэрвію. На жаль, існуе вельмі няшмат публікацыяў пра беларусаў у Канадзе, асабліва да 1939 г. Інтэрвію ня ў стане запоўніць гэтую лакуну, бо шмат людзей ня памятаюць дэталі, не зьвязаныя зь іх асабістым жыцьцём.

У сваёй кнізе “Рускія ў Канадзе” Рыгор Акулевіч піша, што Аляксей Маслаў і Сьцяпан Бык, абодва зь вёскі Масевічы Пінскага раёну Менскай губэрні, прыбылі ў Віндзар, Антарыё, у 1909 г. Маслаў спачатку правёў два гады ў Кліўлэндзе, а потым пераехаў у Канаду, а Бык прыбыў адразу зь Беларусі[21]. Паводле слоў Натальлі Бутко з Таронта, яе бацька Ігнацій Бутко (Буцька) эміграваў у Злучаныя Штаты са сваёй роднай вёскі Пухавічы Слуцкага раёну Менскай губэрні ў 1908 г. Ён пераехаў у Канаду на працягу наступнага году й пасяліўся ў Таронта. Ягоная жонка Анастасія, дзявочае прозьвішча Садоўская, змагла прыехаць да яго толькі ў 1923 г.[22].

Рыгор Акулевіч паведамляе, што ў 1910—1912 гг. значная колькасьць беларусаў з Гарадзенскай губэрні працавала ў Паўночным Антарыё: у мястэчках Цімінс (*Timmins*) і Кокран (*Cochrane*). Ён згадвае Макара Трафімовіча, які прыехаў у Кокран зь вёскі Труханавічы

[19] Окулевич, Григорий. Русские в Канаде. Торонто, 1952. С. 15.
N. B. Меркаваньні, якія выказвае Р. Акулевіч, зьяўляюцца не заўсёды прымальнымі з-за ягоных марксісцкіх поглядаў. Аднак факты, асабліва тыя, якія датычаць раньняга пэрыяду іміграцыі беларусаў у Канаду, як нам падаецца, узятыя з надзейных крыніцаў.

[20] Мікрастужка, якая захоўваецца ў Публічным архіве Канады (Public Archives of Canada) [сёньня — Library and Archives Canada]: Canada, Immigration Branch. Vol. 50. File 1980. Part 2 — Vol. 50. File 2183. Part 1.

[21] Окулевич, Григорий. Русские в Канаде. С. 29.

[22] Інтэрвію з аўтарам ад 10 траўня 1977 г.

Пружанскага раёну Гарадзенскай губэрні ў 1911 г. Ягоны брат Давід і іншыя мужчыны з Труханавічаў, напрыклад Іван Паўлюковіч, працавалі з Макарам на будаўніцтве чыгункі[23]. Лін Кулеш (*Lynn Kulesh*) з Таронта кажа, што яе бацька — Ермалай Баешка (*Ermalai Baeshka*) эміграваў у гэтую краіну са сваёй роднай вёскі Пухавічы Слуцкага павету Менскай губэрні ў 1911 г. Ягоная жонка Марыя, дзявочае прозьвішча Паўловіч, узьядналася з мужам толькі ў 1924 г. Ермалай Баешка асеў у Таронта, як і некаторыя іншыя яго аднавяскоўцы. Алексіс Бутко, пляменьнік Ігнацыя Бутко, прыбыў у гэты горад у 1914 г. Ніканор і Сімон Прановічы эмігравалі ў Канаду ў 1910 г. Міхась Корань — у 1911 г. У цэлым, дзесяць сем'яў са Слуцкага раёну прыехалі ў Таронта[24].

Эрнэст Паціпка з Таронта прыехаў у гэтую краіну зь вёскі Падашоўе (*Padashoue*) Гомельскага павету Магілёўскай губэрні ў якасьці наведвальніка ў 1913 г. Калі ў 1914 г. пачалася Першая сусьветная вайна, ён ня змог вярнуцца ў Беларусь і вырашыў застацца[25]. Тысячы беларусаў эмігравалі ў Канаду, але мы згадаем толькі адно імя: Георгій Трацюк з Гарадзенскай губэрні прыбыў у Сыднэй, Новая Шатляндыя, у 1912 г.[26].

Большасьць беларусаў, якія прыехалі ў Канаду, былі “сялянскага роду”[27]. Яны мелі намер *“зарабіць грошы й, вярнуўшыся на сваю радзіму, купіць вялікія зямельныя надзелы”*[28]. Наступныя факты дапамогуць чытачу зразумець іх цяжкае становішча. Пасьля скасаваньня прыгоннага права ў 1861 г. былыя прыгонныя сяляне павінны былі кампэнсаваць землеўладальніку кошт тае зямлі, якую яны атрымалі. У выніку склалася такая сытуацыя, што ў 1877 г. сяляне мелі толькі 33,4 % зямлі, а ў 1893 г. — 77 % сялянства былі безьзямельныя[29]. На пачатку XX ст. Беларусь была пераважна сельскагаспадарчай краінай. Зямельныя надзелы, якія належалі сялянам, былі вельмі маленькія, *“менш за дваццаць акраў”*, і шмат хто зь сельскіх жыхароў быў вымушаны працаваць на землеўладальніка па некалькі дзён на тыдзень[30]. Ня дзіва, што вялікай колькасьці беларускіх сялянаў Канада здавалася

---

[23] Окулевич, Григорий. Русские в Канаде. С. 32.

[24] Інтэрвію з аўтарам ад 7 траўня 1977 г.

[25] Інтэрвію з аўтарам ад 11 траўня 1977 г.

[26] Окулевич, Григорий. Русские в Канаде. С. 36.

[27] Kaye, V. J. Canadians of Byelorussian Origin // Revue de l`Universite d`Ottawa. Vol. XXX. 1960. P. 305.

[28] Окулевич, Григорий. Русские в Канаде. С. 15. У інтэрв'ю з аўтарам, 7 траўня 1977 г., Лін Кулеш сказала, што мэтай яе памерлага бацькі было тое ж самае.

[29] БелСЭ. Т. XII. Мінск, 1975. С. 111.

[30] Lubachko, Ivan S. Belorussia under Soviet Rule 1917—1957. Lexington, Kentucky, 1972. P. 6—7.

прыцягальным месцам. Свабоднай зямлі было зашмат, а ў гарадах і на будаўнічых праектах можна было працаўладкавацца зь лёгкасьцю.

Гэтыя простыя людзі, а таксама некаторыя з тых, хто меў вышэйшую адукацыю, такія як, напрыклад, Эрнэст Паціпка, не адчувалі сябе прыналежнымі да беларускай нацыі, бо да 1905 г. царскі рэжым душыў усе праявы беларускага патрыятызму. Нават пасьля 1905 г. расейская паліцыя моцна сачыла за беларускім нацыянальным рухам і не дапускала абуджэньня нацыянальнай самасьведамасьці сярод народных масаў. Беларусы, якія прыбывалі ў Канаду, аўтаматычна лічыліся расейцамі, бо яны прыяжджалі з Расейскай імпэрыі.

Ня дзіўна, што ў раньніх расейскіх грамадах у Канадзе большасьць складалі беларусы[31]. Першыя расейскія прагрэсіўныя бібліятэкі былі арганізаваныя ў 1911 г. Праз два гады яны былі ператвораныя ў прагрэсіўныя клюбы[32] відавочна сацыялістычнага накірунку. Напрыклад, беларус М. Кодыш (*M. Kodys*) з Горадні быў старшынём Расейскага прагрэсіўнага клюбу ў Таронта ў 1913 г.[33]. Беларусы дапамагалі засноўваць расейскія праваслаўныя цэрквы. Напрыклад, Лін Кулеш згадвае, што ейныя бацькі, Ермалай і Марыя Баешкі, былі сябрамі-заснавальнікамі царквы Хрыста Выратавальніка ў Таронта. Яны й іншыя беларускія сем'і, зь якімі сябравалі Баешкі, бралі ўдзел у будаўніцтве гэтай царквы[34]. Беларускія рыма-каталікі, зь іншага боку, далучаліся да польскіх рыма-каталіцкіх парафіяў і касьцёлаў, а таксама сьвецкіх арганізацыяў, таму што польскае духавенства заўсёды сцьвярджала, што яны ёсьць палякамі па нацыянальнасьці[35]. Асыміляцыя беларусаў польскімі супольнасьцямі ў Канадзе была поўнай і незваротнай.

Празь недахоп статыстычных зьвестак аб польскіх і расейскіх супольнасьцях у Канадзе да Першай сусьветнай вайны фактычна немагчыма ацаніць колькасьць беларусаў у Канадзе ў гэтым часе.

Беларуская этнічная тэрыторыя была падзеленая паміж СССР і Польшчай паводле ўмоваў Рыскай дамовы ад 18 сакавіка 1921 г. Усходняя Беларусь стала Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай

---

[31] Kaye, V. J. Canadians of Byelorussian Origin. P. 305.

[32] БелСЭ. Т. V. Мінск, 1972. С. 366.

[33] Окулевич, Григорий. Русские в Канаде. С. 18.

[34] Інтэрвію з аўтарам ад 7 траўня 1977 г.

[35] Вынікам прапаганды, якую ажыцьцяўлялі Расейская праваслаўная й Польская рыма-каталіцкая цэрквы ў Беларусі, зьяўляецца тое, што большасьць беларусаў успрымалі сябе вернікамі “расейскага” й “польскага” веравызнаньня й пры гэтым таксама лічылі сябе “расейцамі” й “палякамі” адпаведна. Такім чынам, гэтымі цэрквамі пытаньне беларускай нацыянальнай самасьведамасьці ўвогуле ніколі не закраналася.

(БССР), межы якой зьмяняліся некалькі разоў[36], у той час як Заходняя Беларусь стала часткай Польшчы.

Невялікая колькасьць беларусаў з БССР далучылася да сваіх сем'яў у Канадзе пасьля Першай сусьветнай вайны, бо савецкія ўлады дазвалялі эміграцыю толькі ў якасьці выключэньня. Як мы ўжо пісалі, Анастасія Бутко й Марыя Баешка, абедзьве са Слуцкага раёну Менскай вобласьці БССР, узьядналіся са сваімі мужамі ў Таронта ў 1923 і 1924 гг. адпаведна.

Эміграцыя з Заходняй Беларусі, якая была пад польскай акупацыяй, аднавілася пасьля Першай сусьветнай вайны. *"Асабліва вялікая колькасьць беларусаў"* прыехала ў Канаду ў 1926—1929 гг.[37]. Акулевіч кажа пра *"значны прыцёк імігрантаў з Заходняй Беларусі ў 1926—1930 гг."*[38]. Іван Гук з Таронта дапамагаў беларускім сем'ям, якія прыязджалі ў Вініпэг у 1929—1931 гг., каб назаўсёды застацца ў Канадзе. Ён асабіста сустракаў сотні беларускіх хрысьціянаў-эвангелікаў[39]. Надзвычай цяжка вызначыць колькасьць беларусаў, якія прыехалі ў гэтую краіну паміж войнамі, бо яны ня ўлічваліся канадыйскімі статыстычнымі матэрыяламі. Аднак мы паспрабуем хаця б прыблізна вызначыць іх лік у 1927—1930 гг. У гэты пэрыяд надзвычай вялікая колькасьць імігрантаў з Польшчы, а таксама з Заходняй Беларусі, прыехала ў Канаду. У 1930-я гг. іх лік моцна зьменшыўся з-за дэпрэсіі.

Давайце разгледзім наступныя факты: a) Некаторыя аўтары кажуць, што больш за 100000 беларусаў эміґравалі з Польшчы й што адна траціна зь іх асела ў Канадзе, Злучаных Штатах і Лацінскай Амэрыцы[40]; b) Злучаныя Штаты не прымалі імігрантаў за выключэньнем тых, каму дазволілі далучыцца да сваякоў; c) Клімат, геаграфія і ўмовы жыцьця ў Лацінскай Амэрыцы былі занадта незнаёмыя для беларусаў, таму туды прыязджала ня шмат імігрантаў; d) Некаторыя часткі Канады, зь іншага боку, вельмі нагадваюць Беларусь. Можна выказаць здагадку, што каля траціны, г. зн. больш за 30000 беларускіх эмігрантаў з Польшчы, аселі ў Канадзе.

У 1931 г. 3460 000 беларусаў, 78 % ад агульнай колькасьці насельніцтва, і 260000 палякаў, толькі 5,9 %, жылі ў Заходняй Беларусі[41].

---

[36] Для атрыманьня далейшай інфармацыі гл. першую частку гэтай кнігі [маецца на ўвазе кніга Я. Садоўскага: Sadouski, John. A History of Byelorussians in Canada. Belleville, 1981].

[37] БелСЭ. Т. V. Мінск, 1972. С. 366.

[38] Окулевич, Григорий. Русские в Канаде. С. 669.

[39] Інтэрвію з аўтарам ад 19 траўня 1977 г.

[40] Vakar, Nicholas P. Belorussia: The Making of a Nation. Cambridge, Mass., 1956. P. 133.

[41] Volacic, Mikola. The Population of Western Belorussia and its Resettlement in Poland and the USSR // Belorussian Review. № 3. 1956. P. 12.

Аднак 37 % ворнай зямлі й прыблізна 90 % лясоў былі ў руках польскіх уладальнікаў[42]. Такім чынам, беларускія сяляне былі бедныя, валодалі ў сярэднім толькі 5—7 акрамі зямлі й не маглі знайсьці працу ў прамысловасьці, бо *"шмат індустрыяльных прадпрыемстваў, пабудаваных да рэвалюцыі 1917 г., спыніла сваю працу ў 1920-х і 1930-х гг."*[43]. Польскі ўрад ня меў плянаў выводзіць Заходнюю Беларусь з заняпаду й таму не разьвіваў рэгіянальную эканоміку[44]. Шмат беларускіх сялянаў мелі намер зарабіць грошы за мяжой і ўкласьці грошы ў набыцьцё зямельных участкаў пасьля вяртаньня.

Тысячы зь іх выяжджалі ў Канаду кожны год, асабліва ў 1927—1930 гг. Выказваюцца здагадкі, што беларусы склалі 20 % ад колькасьці эмігрантаў з Польшчы на працягу гэтых гадоў. Згодна з афіцыйнай статыстыкай (*Canada Year Books*) у 1927—1930 гг. 17920 імігрантаў польскай нацыянальнасьці прыбылі ў гэтую краіну ў 1927 г.; 18958 — у 1928 г.; 25739 — у 1929 г. і 21315 — у 1930 г. Гэтыя лічбы ўключаюць у сябе ня толькі палякаў, але таксама й беларусаў, габрэяў і ўкраінцаў. Таму можна сказаць, што прыблізна 3500 беларусаў эміgravалі ў Канаду ў 1927 г.; 3800 — у 1928 г.; 5100 — у 1929 г. і 4200 — у 1930 г.

Некаторыя беларусы з Заходняй Беларусі былі цалкам сьведамыя свайго этнічнага паходжаньня. Пётра Сідорык зь Віндзару прыехаў у гэтую краіну зь вёскі Баханы (*Bakhany*), што пад Стоўбцамі, у 1927 г. Ён згадвае пра сваіх трох аднавяскоўцаў: Іларыён Грамыка, Юльян Лапко й кузэн Пятра — Уладзімер Сідорык — далучыліся да яго цягам таго ж года[45]. Ліда Кульчын з Таронта памятае, што яе бацька Конан Калядзіч эміграваў у Канаду зь вёскі Грушава, што каля Горадні, у 1927 г. Ліда й ейная маці Алена, дзявочае прозьвішча Валасевіч, прыехалі праз два гады[46]. Якуб Кульчынскі з Таронта кажа: *"У 1927 г. большасьць людзей, якія эміgravалі з Заходняй Беларусі, прыехалі ў Канаду. Яны лічылі, што гэта быў найлепшы варыянт"*[47]. Іван Гук з Таронта прыехаў у мястэчка Пэрд'ю (*Perdue*), Саскачаван, зь вёскі Купяцічы, што пад Пінскам, у 1928 г. Ён згадвае, што шмат маладых адзінокіх мужчынаў эміgravалі ў гэтую краіну. Былі таксама й беларускія сем'і, большасьць зь якіх атрымалі фэрмэрскія надзелы ў канадыйскіх прэрыях[48]. Якуб

[42] Lubachko, Ivan S. Belorussia under Soviet Rule 1917—1957. P. 132—133.

[43] Lubachko, Ivan S. Belorussia under Soviet Rule 1917—1957. P. 133.

[44] Lubachko, Ivan S. Belorussia under Soviet Rule 1917—1957. P. 133.

[45] Інтэрвію з аўтарам ад 26 чэрвеня 1977 г.

[46] Інтэрвію з аўтарам ад 12 траўня 1977 г.

[47] Kulchin, Anton. A Belorussian Village and Emigration Factors: Essay for Prof. R. F. Harney. History 418. University of Toronto, April 1977. P. 25.

[48] Інтэрвію з аўтарам ад 19 траўня 1977 г.

Кульчынскі пакінуў сваю родную вёску Клецішча (*Kletyshche*), што каля Горадні, у красавіку 1928 г. Разам зь ім прыехалі ягоная жонка Ірэна й сын Антон. Яны прыбылі ў Мандэр (*Mundare*), Альбэрта, у траўні наступнага году, дзе пачалі жыцьцё ў Канадзе як чорнарабочыя на фэрме[49].

Хоць амаль усе беларускія іміграНты ў гэтую краіну былі сялянскага паходжаньня, некаторыя пакінулі сваю родную краіну з-за апазыцыі польскаму ўраду. Напрыклад, Рыгор Акулевіч зьбег з роднай вёскі Вялікая Кракотка, што пад Слонімам, у 1928 г. і такім чынам пазьбегнуў арышту за сваю антыпольскую дзейнасьць, якая ўключала ў сябе ўдзел у арганізацыі сакрэтнага задзіночаньня камуністычнай моладзі, аддзяленьняў Беларускай сялянска-работніцкай грамады, Таварыства беларускай школы й Бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы[50].

Выкарыстоўваючы даступныя дадзеныя аб польскай і расейскай нацыянальных групах можна вызначыць колькасьць беларусаў, якія жылі ў Канадзе на пачатку Другой сусьветнай вайны, хоць у канадыйскай статыстыцы да 1971 г. ніякіх сьлядоў іх прысутнасьці знайсьці немагчыма. Паводле канадыйскага перапісу самыя вялікія рэлігійныя вераваньні ў польскай і расейскай групах у 1941 г. наступныя:

| | Этнічная група | |
|---|---|---|
| Канфэсія | Палякі | Расейцы |
| Англіканцы | 3419 | 2344 |
| Баптысты | 3006 | 3917 |
| Духаборы | 23 | 12872 |
| Эвангелікі | 446 | 824 |
| Грэка-каталікі | 13628 | 3909 |
| Праваслаўныя | 5042 | 11019 |
| Лютэране | 7684 | 12160 |
| Менаніты | 267 | 7206 |
| Прэсьвітарыяне | 1832 | 1384 |
| Каталікі | 121860 | 13477 |
| Аб’яднаная царква | 6357 | 6274 |

Традыцыйна палякі заўсёды былі каталікамі, а расейцы — праваслаўнымі. Фактычна немагчыма сфармаваць аніякага разумнага меркаваньня пра стан рэлігіяў у Савецкім Саюзе. Зь іншага боку, да пачатку

[49] Kulchin, Anton. A Belorussian Village and Emigration Factors. P. 27, 32—33.

[50] БелСЭ. Т. І. Мінск, 1969. С. 207—208.

апошняй вайны беларусы належалі да абодвух рэлігійных напрамкаў у наступнай прапорцыі: 75 % — праваслаўныя і 20 % — рыма-каталікі[51]. На жаль, абедзьве канфэсіі выкарыстоўваліся ў сваіх мэтах і расейскім, і польскім урадамі: праваслаўных беларусаў запісвалі расейцамі, а беларусаў рыма-каталікоў — палякамі[52]. Насамрэч сярод палякаў вельмі мала праваслаўных, а сярод расейцаў амаль няма каталікоў. Лютэране — гэта звычайна людзі нямецкага ці балтыйскага паходжаньня, а менаніты, ведама, належаць да нямецкай этнічнай групы. Такім чынам, мы можам выказаць здагадку, што праваслаўныя ў польскай групе й каталікі ў расейскай маюць пераважна беларускае паходжаньне.

Наконт беларускай этнічнай групы ў Канадзе й яе рэлігійнай прыналежнасьці ў 1941 г. можна зрабіць наступныя высновы:

| | | |
|---|---|---|
| Англіканцы | 1000 | |
| Баптысты | 5000 | |
| Эвангелікі | 800 | |
| Праваслаўныя | 4500 | (з польскай групы) |
| | 9500 | (з расейскай групы) |
| Прэсьвітарыяне | 500 | |
| Каталікі | 12000 | (з польскай групы) |
| | 13000 | (з расейскай групы) |
| Аб’яднаная царква | 4000 | |
| Іншыя | 2000 | |
| Агульная колькасьць | 52300 | |

Некалькі фактараў паспрыялі перавазе каталікоў над праваслаўнымі ў беларускай этнічнай групе. Амаль усе беларускія імігранты ў Канаду паміж войнамі былі з Заходняй Беларусі, дзе рыма-каталіцкая й праваслаўная канфэсіі сярод беларусаў былі амаль роўныя па сіле[53] з-за моцнага ўплыву рыма-каталіцкай царквы ў гэтай частцы краіны й палітыкі польскага ўраду, які рабіў прывілеі для каталікоў у кожным аспэкце грамадзкага жыцьця: напрыклад, пры прыёме на працу ў дзяржаўныя ўстановы ці пры залічэньні вучняў у школы й студэнтаў ва ўнівэрсытэты[54]. Да таго ж праваслаўныя маглі далучыцца да іншых канфэсіяў, у тым ліку й да каталіцкай, а вось прыхільнікі каталіцызму далучаліся да іншых цэркваў рэдка й неахвотна.

---

[51] Kaye, V. J. Canadians of Byelorussian Origin. P. 306.

[52] Vakar, Nicholas P. Belorussia: The Making of a Nation. P. 12—13.

[53] Volacic, Mikola. The Population of Western Belorussia... P. 10.

[54] Аўтар ведае гэта на ўласным досьведзе.

Першыя беларусы, якія прыбылі ў Канаду пасьля Другой сусьветнай вайны, былі жаўнерамі Другога польскага корпусу пад брытанскім камандаваньнем, які месьціўся ў Італіі. Улетку 1946 г. канадыйскую камісію сельскагаспадарчых экспэртаў выправілі ў гэтую краіну, *“каб прыняць на працу 5000 сельскагаспадарчых работнікаў”*[55] зь ліку гэтых вайскоўцаў. 2800 польскіх жаўнераў прыехалі ў Канаду на працягу таго году[56]. Значная большасьць вайскоўцаў у Другім польскім корпусе была беларусамі й шмат хто зь іх быў нацыянальна сьведамым[57]. *“Большасьць палякаў, якія апынуліся па-за польскімі межамі ў 1945 г.”*, вярнуліся на сваю радзіму[58], таму мы можам сказаць, што прыблізна 2200 польскіх жаўнераў, якія эмігравалі ў Канаду ў 1946 г., мелі беларускае паходжаньне. У наступным годзе 1447 польскіх жаўнераў прыехалі ў гэтую краіну з Ангельшчыны, дзе яны былі прынятыя на працу[59]. Магчыма, што ў гэтай групе было прыблізна 800 беларусаў, бо прапорцыя беларусаў у польскім войску пад брытанскім камандаваньнем была ніжэйшая, чым у Другім корпусе. Беларусы, як і іх польскія калегі, падпісвалі двухгадовыя кантракты, каб працаваць на фэрмах[60] — пераважна ў Антарыё.

Падчас нямецкай акупацыі (1941—1944 гг.) прыблізна 380000 беларусаў, пераважна маладыя людзі, былі прымусова прыгнаныя ў Нямеччыну ў якасьці рабоў-чорнарабочых. Шмат хто зь іх памёр з-за жорсткай працы й невыносных умоваў жыцьця[61]. Таксама былі ваеннапалонныя з Войска Польскага й Чырвонай арміі, бо шмат маладых беларускіх мужчынаў былі змушаныя служыць у гэтых арміях. Тысячы беларусаў пакінулі краіну разам з адыходзячымі нямецкімі войскамі[62] перад наступам Чырвонай арміі ў 1944 г. Амаль усе яны засталіся ў выгнаньні пасьля паразы Нямеччыны й былі перамешчаныя ў лягеры ўцекачоў у Нямеччыне й Аўстрыі, бо баяліся арышту й рэпрэсіяў, калі б

---

[55] Radecki, Henry; Heydenkorn, Benedykt. A Member of a Distinguished Family. Toronto, 1976. P. 33.

[56] Radecki, Henry; Heydenkorn, Benedykt. A Member of a Distinguished Family. P. 33.

[57] Аўтар ведае гэта на ўласным досьведзе ў корпусе й па гутарках са сваімі суайчыньнікамі, якія служылі ў гэтым корпусе.

[58] Radecki, Henry; Heydenkorn, Benedykt. A Member of a Distinguished Family. P. 32.

[59] Radecki, Henry; Heydenkorn, Benedykt. A Member of a Distinguished Family. P. 32.

[60] А[кула, Кастусь]. Беларуская эміграцыя ў Канаду // Бацькаўшчына. 25 сьнежня 1951.

[61] История БССР / редакторы Т. С. Горбунов, Н. В. Каминская, И. С. Кравченко. Т. II. Минск, 1961. С. 501.

[62] Vakar, Nicholas P. Belorussia: The Making of a Nation. P. 208.

яны вярнуліся на радзіму. Чорнарабочыя былі б абвінавачаныя ў непраціўленьні немцам, а ваеннапалонныя — у калябарацыі. Такой была палітыка сталінскага рэжыму[63].

Большасьць палякаў, з іншага боку, вярнулася ў сваю краіну. Цікава, што *"зь мільёну прымусовых чорнарабочых"*, якіх прыгналі ў Нямеччыну, *"толькі прыблізна 380000 засталіся ўцекачамі ці людзьмі без грамадзянства"*[64]. Яны былі, на нашую думку, пераважна беларусамі. Шмат хто зь іх быў польскімі грамадзянамі да 1939 г., а іншыя баяліся казаць пра сваё савецкае грамадзянства, бо іх бы прымусова выслалі ў БССР. Для палякаў такая небясьпека адсутнічала. Таму большасьць беларусаў рэгістравала сябе як палякаў — палякамі яны лічацца й да сёньня.

У сьвятле вышэйзгаданых фактаў мы можам сказаць, што паміж 1948 і 1956 гг., г. зн. перш чым прамая эміграцыя з Польшчы аднавілася ў 1957 г.,[65] беларусы складалі ня менш за 60 % ад колькасьці польскіх імігрантаў у Канаду. Згодна з афіцыйнай статыстыкай (*Canada Year Books*) за 1952—1959 гг. 13915 імігрантаў польскага паходжаньня прыбылі ў гэтую краіну ў 1948 г.; 12359 — у 1949 г.; 6732 — у 1950 г.; 13078 — у 1951 г.; 5638 — у 1952 г.; 3308 — у 1953 г.; 2461 — у 1954 г.; 2073 — у 1955 г. і 2438 — у 1956 г. На нашае меркаваньне — прыблізна 9300 беларусаў былі сярод іх у 1948 г.; 8400 — у 1949 г.; 4000 — у 1950 г.; 8800 — у 1951 г.; 3300 — у 1952 г.; 200 — у 1953 г.; 1500 — у 1954 г.; 1200 — у 1955 г. і 1500 — у 1956 г. Паводле той жа самай крыніцы, 8468 імігрантаў расейскага паходжаньня прыехалі ў Канаду ў 1946—1956 гг. Магчыма, сярод іх было прыблізна 4000 беларусаў. Калі мы складзем гэтыя лічбы беларускіх імігрантаў з 3000 беларусаў з польскага войска, якія эмігравалі ў Канаду ў 1946 і 1947 гг., атрымаецца, што больш за 45000 беларусаў прыбылі ў гэтую краіну паміж 1946 і 1956 гг. Гэтая лічба будзе некалькі вышэйшая, калі мы прымем да ўвагі беларусаў, зарэгістраваных як латышы[66], літоўцы і ў некаторых выпадках як украінцы.

У 1957 г. палякам дазволілі пакідаць сваю краіну. У пэрыяд 1957—1971 гг. *"31320 палякаў прыехалі ў Канаду"*[67]. У першыя паваенныя гады назіралася *"добраахвотная міграцыя"* палякаў зь Беларусі й

---

63 Lubachko, Ivan S. Belorussia under Soviet Rule 1917—1957. P. 167.

64 Radecki, Henry; Heydenkorn, Benedykt. A Member of a Distinguished Family. P. 32.

65 Radecki, Henry; Heydenkorn, Benedykt. A Member of a Distinguished Family. P. 34.

66 Аўтар ведае некалькі сем’яў, напрыклад, сям’ю Пітушкаў з Таронта.

67 Radecki, Henry; Heydenkorn, Benedykt. A Member of a Distinguished Family. P. 34.

беларусаў з Польшчы ў свае адпаведныя краіны[68]. На самай справе ня толькі палякі зьяжджалі зь Беларусі, але таксама й шмат хто зь беларусаў, асабліва каталікоў. Добра ведама, што шмат беларусаў, якія жылі ў Польшчы, эміґравалі ў Канаду[69]. Паводле нашых асьцярожных падлікаў — больш за 3000 беларусаў прыехалі ў гэтую краіну з Польшчы ў 1957—1971 гг. Амаль нікому зь беларусаў не дазвалялі зьяжджаць з Савецкага Саюзу пасьля Другой сусьветнай вайны[70].

Нарэшце мы можам сказаць, што больш за 48000 беларусаў прыехалі ў Канаду ў 1946—1971 гг. У адрозьненьне ад дзьвюх папярэдніх хваляў эміґрацыі, паваенныя іміґранты мелі вельмі розны ўзрост, сацыяльна-эканамічны, культурны й палітычны бэкграўнд. Сярод іх былі простыя рабочыя й сяляне, а таксама высокакваліфікаваны тэхнічны пэрсанал і шмат прафэсіяналаў у розных сфэрах. Шмат хто зь іх меў разьвітае й паўнавартаснае пачуцьцё нацыянальнай самасьведамасьці. Фактычна, яны заклалі падмурак выразна арганізаванага беларускага жыцьця ў Канадзе ў 1948 г.[71].

Падчас зьбіраньня дадзеных для перапісу 1951 г., Згуртаваньне беларусаў Канады, заснаванае ў Таронта ў 1948 г., цалкам растлумачыла канадыйскім уладам *“неабходнасьць паважаць беларускую нацыянальнасьць”*[72]. Згуртаваньне таксама *“правяло шырокую тлумачальную працу сярод беларусаў наконт таго, што пры перапісе неабходна пазначаць сябе менавіта беларусамі”*[73]. Актыўныя сябры Згуртаваньня беларусаў Канады намагаліся пазначаць сваё этнічнае паходжаньне як беларускае пры перапісе 1951 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч з Бэры (*Barrie*), Антарыё, зрабіў інтэрвію з групай у 24 чалавекі й толькі траім зь іх удалося запісацца беларусамі[74]. З-за шмат якіх прычынаў не было беларусаў як нацыянальнасьці і ў перапісе 1961 г. Галоўны чыньнік — адсутнасьць моцнай нацыянальнай самасьведамасьці ў некаторых беларусаў, асабліва ў старэйшага пакаленьня, а таксама абыякавасьць ці страх перад хай нават і нязначнымі зьменамі якіх-небудзь зьвестак у сваіх дакумэнтах[75].

---

68 Vakar, Nicholas P. Belorussia: The Making of a Nation. P. 205.

69 Напрыклад, Вольга Грыцук з Кінгстану, Антарыё.

70 Напрыклад, Рыгор Ісаенка атрымаў дазвол ад савецкіх беларускіх уладаў далучыцца да сваіх жонкі й сына ў Таронта ў 1964 г. Паводле ліста аўтару ад 20 сакавіка 1977 г.

71 А[кула, Кастусь]. Беларуская эміґрацыя ў Канаду.

72 А[кула, Кастусь]. Беларуская эміґрацыя ў Канаду.

73 А[кула, Кастусь]. Беларуская эміґрацыя ў Канаду.

74 Zuk-Hryskievic, Vincent. Belorussians and Canadian Statistics // Slavs in Canada. National Conference on Canadian Slavs. Proceedings, 2nd. 1967. P. 283—291.

75 Zuk-Hryskievic, Vincent. Belorussians and Canadian Statistics. P. 134.

Толькі ў 1971 г. беларусы былі пералічаны сярод іншых нацыянальнасьцяў у перапісе насельніцтва Канады. Лік 2280[76] — надзвычай маленькі й не адлюстроўвае сапраўдную колькасьць беларусаў, якія пражывалі ў гэтай краіне ў той час. Мікола Сільвановіч таксама памыляецца, калі піша, што *“10000—15000 беларусаў жыве ў Канадзе”*[77]. Трохі больш рэалістычная лічба ў 1959 г. была агучана Ўладзімерам Кайе, які пісаў, што *“прыблізная колькасьць канадыйцаў беларускага паходжаньня — 30000 чалавек”*[78]. Я. Сыманчук лічыць, што гэтая лічба павінна быць 50000[79], паколькі адсоткі беларусаў у расейскай і польскай групах былі надзвычай заніжаныя. Напрыклад, Кайе піша, што прыблізна 20 % расейскіх праваслаўных і 5 % польскіх каталікоў маюць беларускае паходжаньне[80]. Сыманчук мяркуе, што гэтыя адсоткі — *“ня менш за 90”* і *“10”* адпаведна[81]. Ён кажа пра дадзеныя 1961 г. Ёсьць таксама й тыя, хто думае, што *“больш за 100000 беларусаў жыве ў Канадзе”*[82]. Гэты лік, як нам здаецца, зьяўляецца самым блізкім да сапраўднай колькасьці беларусаў у гэтай краіне[83].

Паводле перапісу[84], самымі распаўсюджанымі рэлігійнымі канфэсіямі ў польскай і расейскай этнічных групах у 1971 г. былі наступныя:

| | Этнічная група | |
|---|---|---|
| Канфэсія | Палякі | Расейцы |
| 1 | 2 | 3 |
| Англіканцы | 12285 | 3670 |
| Баптысты | 3130 | 1985 |
| Праваслаўныя | 5565 | 10085 |
| Лютэране | 9425 | 3455 |
| Менаніты | 5152 | 950 |
| Прэсьвітарыяне | 3345 | 900 |

[76] Census of Canada, 1971. Catalogue 92—723.

[77] Silvanovich, Mikola. People of Byelorussian Origin // Encyclopedia Canadiana. Vol. II. 1972. P. 150—151.

[78] Kaye, V. J. Canadians of Byelorussian Origin. P. 308.

[79] Сыманчук, Я. Спадар Кей і ягоная праца // Беларускі Голас. Жнівень 1961.

[80] Kaye, V. J. Canadians of Byelorussian Origin. P. 307, 308.

[81] Сыманчук, Я. Спадар Кей і ягоная праца.

[82] Шаринский, И. Странствия по Канаде. Минск, 1969. С. 7; БелСЭ. Т. V. С. 366.

[83] Аўтар размаўляў зь некалькімі канадыйскімі славістамі, напрыклад І. Рудніцкім, якія ў прыватнай гутарцы выказвалі такія ж меркаваньні.

[84] Census of Canada, 1971. Catalogue 92—735.

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| Каталікі | 224430 | 8505 |
| Украінскія каталікі | 7205 | 420 |
| Аб’яднаная царква | 26445 | 10870 |
| Іншыя | 7695 | 12670 |
| Безрэлігійныя | 13545 | 8460 |

Наконт беларускай этнічнай групы ў Канадзе й ейнай рэлігійнай прыналежнасьці ў 1971 г. можна зрабіць наступныя высновы:

| | | |
|---|---|---|
| Англіканцы | 7000 | |
| Баптысты | 5500 | |
| Праваслаўныя | 5500 | (з польскай групы) |
| | 8000 | (з расейскай групы) |
| Прэсьвітарыяне | 1500 | |
| Каталікі | 27000 | (з польскай групы) |
| | 8000 | (з расейскай групы) |
| Аб’яднаная царква | 16000 | |
| Іншыя | 8000 | |
| Безрэлігійныя | 11500 | |
| Агульная колькасьць | 98000 | |

Калі 2280 беларусаў дадаць да агульнага ліку, то нашая ацэнка колькасьці беларускай этнічнай групы ў 1971 г. будзе 100280, што вельмі блізка да лічбаў у савецкіх крыніцах, а менавіта — *“больш за 100000”*[85].

Сярод беларусаў каталікоў удвая больш, чым праваслаўных з наступных прычынаў. Намі ўжо згадвалася раней, што сярод заходніх беларусаў, якія склалі асноўную частку беларускіх імігрантаў у Канаду паміж войнамі, каталіцкая й праваслаўная цэрквы мелі роўную колькасьць прыхільнікаў. Акрамя таго, беларускія праваслаўныя далучаюцца да іншых цэркваў вельмі ахвотна, у той час як каталікі амаль ніколі такога не робяць. Нарэшце, шмат хто зь беларусаў, якія служылі ў польскім войску пад брытанскім камандаваньнем, былі змушаныя ці лічылі выгадным зарэгістравацца ў якасьці каталікоў. Гэта адбылося з-за памылковай думкі, што жаўнеры, якія былі польскімі грамадзянамі, абавязкова павінны былі быць рыма-каталікамі[86]. Хоць беларус-

[85] Шаринский, И. Странствия по Канаде. С. 7; БелСЭ. Т. V. С. 366.

[86] Аўтар сустракаў шмат людзей, якія адмовіліся ад праваслаўя ці былі ня супраць, калі польскія вайсковыя ўлады запісвалі іх каталікамі. Аўтара

кае арганізаванае жыцьцё ў Канадзе дакладна датуецца 1948 годам і хоць два беларускія праваслаўныя царкоўныя прыходы й некалькі царкоўных арганізацыяў былі заснаваныя пасьля гэтай даты, у краіне ніколі не існавала ніводнага беларускага рыма-каталіцкага царкоўнага прыходу ці іншай царкоўнай арганізацыі.

Прыведзеныя намі факты дазваляюць зрабіць наступныя высновы. Па-першае, пачатак іміграцыі беларусаў у Канаду датуецца XIX стагодзьдзем. Па-другое, у 1971 г. налічвалася больш за 100000 канадыйцаў беларускага паходжаньня. Савецкія аўтары прыводзілі гэтыя ж самыя лічбы, у той час як канадыйскія крыніцы вельмі недаацэньвалі колькасьць беларусаў у гэтай краіне.

*Пераклад з ангельскай А. Б.*

---

запісвалі каталіком некалькі разоў і ён настаяў на тым, каб яго афіцыйныя дакумэнты былі выпраўленыя.

*Тэма нумару: “О, Канада!”*
*Выданьне*

# “БЕЛАРУСКІ ЭМІГРАНТ”

У лютым 1948 г. убачыў сьвет першы беларускі пэрыёдык у Канадзе — “Беларускі Эмігрант”. Сьціплыя 10 старонак ратагарнага друку выглядалі, хутчэй, на бюлетэнь, і яно зразумела — на той час у краіне яшчэ не было ніводнай беларускай арганізацыі. Нядаўна прыбылыя з Эўропы суродзічы, раскіданыя па ўсёй Канадзе, адпрацоўвалі свае кантракты. Нават дзіўна, што ў такіх умовах удалося наладзіць выданьне якога-кольвечы пэрыёдыка. Ініцыятарам, аўтарам, рэдактарам, выдаўцом стаўся пісьменьнік Кастусь Акула. У перадавіцы першага нумару ён так пазначыў задачы выданьня: *«Каб у мерах сваіх магчымасьцяў дапамагчы нашым суродзічам у галінах інфармацыі, парадаў ды дзеля ўтварэньня цэнтру сувязі між тутэйшымі беларусамі, пакуль створацца ўмовы дзеля іхняга згуртаваньня, для гэтых вось мэтаў і выходзіць у сьвет “Беларускі Эмігрант”. Часапіс наш будзе старацца інфармаваць беларусаў у ЗША і Канадзе аб жыцьці й дзейнасьці беларускае эміграцыі на цэлым сьвеце, дапамагаць яму радамі, бараніць перад закідамі варожых нам элемэнтаў, прыпамінаць аб заданьнях і абавязках, што маем выканаць у гістарычна цяжкі пэрыяд нашага народу, усьведамляць нацыянальна ды наагул пільна сачыць за тым, каб беларускі эмігрант астаўся беларусам, годным спадчыны слаўных сыноў нашага народу, што загінулі ў змаганьні за яго незалежнасьць* (вылучана аўтарам)»[1].

Наступная гісторыя выданьня цесна зьвязаная з стварэньнем Згуртаваньня беларусаў Канады. Ад кастрычніка 1949 г. штомесячнік стаўся ўжо сапраўднай газэтай, выдаванай друкам. Зьмяніліся ня толькі форма, але й зьмест. Цяпер пэрыёдык арыентаваўся таксама на беларусаў у іншых краінах, імкнучыся стацца агульнаэміграцыйным, спаборнічаць зь мюнхенскай “Бацькаўшчынай”.

Аднак сур’ёзнай канкурэнцыі не атрымалася. Магчымасьці канадыйскіх беларусаў былі больш сьціплыя, чым у суродзічаў у Нямеччыне, што часам атрымоўвалі фінансавую падтрымку на выданьне ад прэзыдэнта БНР.

“Беларускі Эмігрант” таксама выразна падтрымоўваў адноўленую Раду БНР ды БАПЦ. Аднак, як і новапаўсталае ЗБК, рэдакцыю ў 1951 г. напаткаў крызіс, які нават абмяркоўваўся на сэсіі Рады БНР[2]. Ня бу-

---

[1] Беларускі Эмігрант // Беларускі Эмігрант. № 1. Люты 1948. С. 2.

[2] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1947—1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013. С. 196.

дзем удавацца ў дэталі канфлікту, удзельнікамі якога сталі й Кастусь Акула, і Алесь Грыцук, і Язэп Пітушка, і Сяргей Хмара, і шмат іншых канадыйскіх беларусаў. Падамо ягонае бачаньне з пазыцыяў рэдакцыі газэты ўжо 1953 году, калі канфлікт скончыўся.

*«Крызісам “Беларускага Эміграента”, а разам з тым і цэлага беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Канадзе быў год 1951. Хваля беларускае эміграцыі з Эўропы, акрамя адзінак канструктыўных і працавітых, прынесла й афэрыста, амбіцыянераў і пашквілістаў. Гэтыя элемэнты спрычыніліся былі амаль да поўнага заняпаду газэты. Цэлы год вялася вайна і нават ідэалёгічная лінія газэты на гэтым шмат пацярпела.*

*Хворы амбіцыянер за ўсякую цану хацеў быць рэдактарам яе, пашквіліста-ж хацеў на балонках газэты разьлічвацца са сваімі асабістымі й партыйнымі ворагамі. Ясна, да гэтага беларускае*

*грамадзтва не магло дапусьціць і нарэшце “Беларускі Эмігрант” пазбыўся абодвух»*[3].

Вынікам канфлікту стаў падзел у ЗБК ды стварэньне асобнага Беларускага нацыянальнага аб’еднаньня, а таксама зьяўленьне ў Таронта ўвесну 1952 г. новага пэрыёдыка “Беларускі Голас”, выдаўцы якога, паводле некаторых зьвестак, лічылі яго працягам “Беларускага Эміграната”.

Як бы там ні было, але сапраўдны “Беларускі Эмігрант” працягваў выходзіць яшчэ некалькі гадоў. Адзначаючы пяцігодзьдзе выданьня, у рэдакцыйным артыкуле так фармуляваліся ягоныя значэньне й мэты: *«“Беларускі Эмігрант” узяў на сябе вельмі важнае заданьне. Ён стаўся для беларусаў ня толькі лучнікам, ня толькі інфарматарам аб жыцьці суродзічаў у іншых краінах, але й той крыніцай, з якой улівалася вера ў сэрцы раскіданых і часта зьнядужэлых нашых родзічаў, што апынуліся ў гэтай гасьціннай і вольнай краіне»*[4].

І далей: *«Не апошняе месца на балонках газэты займае й абзнаямленьне нашых новых эмігрантаў з Канадай. Рэдкалегія здавала й здае сабе справу, што побач з весткамі й артыкуламі, мэтай якіх зьяўляецца падтрымліваньне жывога беларускага духа ў беларускім целе на выгнаньні й змаганьне з усімі ворагамі незалежнасьці Беларусі, чытач наш у Канадзе патрабуе й вестак аб Канадзе, гэтым гасьцінным і прыхільным народзе, гэтай магатай краіне, грамадзянамі якой не адзін з нас станецца. Мэты нашы — развал імпэрыялістычнага маскоўскага камунізму — сяньня зыходзяцца з мэтамі канадыйскага народу й дзеля гэтага “Беларускі Эмігрант” прынёс не малую ўслугу канадыйцам, разьясьняючы запраўднае аблічча чырвонае Масквы й небясьпеку з Усходу»*[5].

На жаль, фінансавыя й арганізацыйныя цяжкасьці ўрэшце пахавалі газэту. У красавіку 1954 г. убачыў сьвет яе апошні 58-ы нумар.

“Беларускі Эмігрант”, безумоўна, варты адмысловага дасьледаваньня й гісторыі ягонага выданьня, і адметнасьцяў зьместу, як і складаньня ягонай бібліяграфіі. Тут жа мы прапануем чытачам толькі адзін знакавы для паваеннай эміграцыі тэкст. Гэта беларускамоўная вэрсія прадмовы да працы Міколы Абрамчыка *“I Accuse of Kremlin of Genocide of My Nation”* (Toronto, 1950), дзе сфармуляваныя важныя для паваеннай беларускай эміграцыі аспэкты своеасаблівай нацыянальнай ідэі.

---

[3] Пяць год // Беларускі Эмігрант. № 2 (50). 22 лютага 1953.

[4] Пяць год // Беларускі Эмігрант. № 2 50). 22 лютага 1953.

[5] Пяць год // Беларускі Эмігрант. № 2 (50). 22 лютага 1953.

***Мікола Абрамчык,***
*Прэзыдэнт Рады БНР*

## Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу[1]

*Калі ход гістарычных падзеяў змушае які-небудзь народ разарваць палітычныя вузлы, вяжучыя яго з іншым народам, і заняць сярод дзяржаваў сьвету роўнае з другімі палажэньне ў сілу прыродных і Боскіх законаў, пашана да правоў людзкасьці вымагае, каб гэты народ выявіў прычыны, пабудзіўшыя яго да аддзяленьня.*

Дэклярацыя незалежнасьці

За гэтымі вогненнымі словамі з уступу да Вашынгтонскай Дэклярацыі Незалежнасьці, прагалошанай амэрыканскім народам чацьвёртага ліпеня 1776 г., ішоў пералік усіх абід і крыўдаў, прычыненых тады амэрыканскаму народу ангельскімі каралямі-“дэспотамі”, нарушаючы тыя прыродна-Боскія правы чалавека, па якіх амэрыканскі народ лічыў сябе ў праве быць роўным з другімі народамі ў сьвеце.

Амэрыканскі 3-хміліённы тады народ, зьвярнуўшыся да сумленьня людзкасьці, выклікаў глыбокае спачуцьцё цывілізаванага сьвету.

Беларуская моладзь, у тым ліку адзін з слаўнейшых продкаў беларусаў — Тадэй Касьцюшка, таксама апынуліся ў радох змагароў за вольнасьць ім далёкага, тады яшчэ мала ведамага амэрыканскага народу.

Здарылася гэта ў канцы 18-га стагодзьдзя.

Калі-ж беларускі 18-цiміліённы народ абвесьціў незалежнасьць Беларусі ў 1918 г., ён таксама зьвярнуўся да сумленьня людзкасьці, пералічваючы ўсе крыўды расейскіх паноў-тыранаў, узбудзіўшых беларускі народ да разрыву палітычных сувязяў з Расеяй.

Але пералічаныя крыўды беларускага народу, якія спрычынілі яму расейцы на працягу 125 год, настолькі сваёй жудасьцю пераўзыходзілі крыўды, спрычыненыя амэрыканскаму народу англічанамі, што цывілізаванаму сьвету яны відавочна выдаліся непраўдападобнымі. А таму гуманнае чалавецтва XX ст. аднеслася зусім абыякава да змаганьня беларускага народу за належачыя яму прыродна-Боскія правы чалавека.

Беларускі народ, рэстаўраваўшы сваю вольную дзяржаву на разваліне дэспатычнай царскай імпэрыі, павінен быў абараняць сваю маладую рэспубліку выключна собскімі сіламі. Але сіл гэтых было замала, каб супрацьдзеяць новаму расейскаму імпэрыялізму бальшавікоў.

[1] Друкуецца паводле: Беларускі Эмігрант. № 8 (30). 1950. С. 2, 4.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі як законадаўчы орган, выбраны на Ўсенародным Кангрэсе ў Менску 17—31 сьнежаня 1917 г., і яго праўны ўрад былі выгнаны з Беларусі паслушнымі бальшавіком расейскімі войскамі ў 1920 г.

Ліквідуючы мясцовыя органы кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі, падступныя бальшавікі аблудна прагаласілі Беларусь таксама рэспублікай, але права выбару законадаўчых і выканальных органаў для гэтай "Беларускай Рэспублікі" пакінулі выключна для Крамля.

Яны таксама аблудна ўрачыста прагаласілі ўстанаўленьне ў грамадзянскіх правох беларускай мовы, выгнанай расейскімі царамі з дзяржаўных і публічных установаў, але загадалі беларускаму народу гаварыць гэтай мовай не інакш як пад дыктоўку Масквы.

Яны паклікалі беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў, мастакоў, артыстаў да працы над адраджэньнем беларускай літаратуры, мастацтва, але паставілі іх перад неасягальным для чалавечага розуму заданьнем: творчасьць павінна быць *"нацыянальна-беларуская па форме, антынацыянальная, расейская па зьместу"*.

Яны адкрылі зачыненыя расейскімі царамі вышэйшыя навучальныя ўстановы й навуковыя інстытуцыі, але зьявіўшыхся туды беларускіх вучоных, паверыўшых шчырасьці бальшавікоў, пагалоўна арыштавалі й фізычна зьнішчылі.

Яны перадалі беларускім сялянам зямлю памешчыкаў, але стварылі для іх пасьля няведамае ў гісторыі беларускага сялянства нявольніцтва.

Калі-ж бальшавіцкія кіраўнікі пераканаліся аб тым, што беларускі народ ня прыме чужых яму крамлёўскіх філязофскіх ідэяў, гаспадарчай і бытавай сыстэмы жыцьця, яны прыступілі да масавага фізычнага вынішчэньня беларускага культурнейшага элемэнту.

Яны амаль пагалоўна вынішчылі беларускае духавенства.

Яны расстралялі ці замарылі ў концлягерох каля 20000 беларускай інтэлігенцыі.

Яны фізычна зьнішчылі 70 непаслухмяных бальшавіком беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў і мастакоў.

Яны перараблялі й падраблялі на бальшавіцкі лад творы мучаўшагася ў вязьніцы найгеніяльнейшага беларускага паэты Янкі Купалы, змусіўшы яго гэтым да самазабойства.

Калі-ж крамлёўскія тыраны пераканаліся ў нязломнасьці духа супраціву камунізму ўсяго беларускага народу, у цэлым салідарнасьці беларускіх народных масаў са сваёй кіраўнічай, культурнай і палітычнай элітай у краі і са сваім урадам на выгнаньні, калі маскоўскім тыранам стала немагчымым выдзяліць віноўных у непаслухмянасьці Крамлю з усяго непакорнага беларускага народу, тыраны пастанавілі прыступіць да сыстэматычнага вынішчэньня беларусаў без разбору.

Яны пасылаюць на Беларусь сваіх “спэцыялістаў”, бяздушных катаў з заданьнем вынішчаць сэрыямі грамадзян непакорнай Беларусі бяз сьледзтва, бяз судовых фармальнасьцяў.

Па выкананьні такога аднаго заданьня маскоўскіх “пракурораў” на Беларусі, каб ня выклікаць паўстаньня беларускага народу, з Крамля пасылаюць быццам сьледчую камісію, якая нават асуджае дзеяньні такога “пракурора” і нават карае яго за ўстаноўленае сьледчай камісіяй вынішчэньне нявінных людзей, але-ж наступны нованазначаны “пракурор” дзейнічае таксама, як і яго папярэднікі.


MIKOLA ABRAMCYK
President of the Rada of the Byelorussian Democratic Republic in exile

I ACCUSE THE KREMLIN
OF
GENOCIDE OF MY NATION

*Based*
*on the secret documents of the*
*Military Prosecutors and N.K.V.D.*
*of the U.S.S.R.*

September 1950 Toronto, Canada

Брашура Міколы Абрамчыка “I Accuse of Kremlin of Genocide of My Nation” (Toronto, 1950)

Такая тактыка маскоўскіх тыранаў у вынішчэньні беларускага народу характарызуе іх як подлых, але сьведамых забойцаў беларускага народу.

Сакрэтны дакумант крамлёўскіх тыранаў, знаходзяйчыся сяньня ў руках экзыльнага ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі, копія якога тут зьмяшчаецца, пераканае чытача, што выказаныя мною абвінавачваньні маскоўскім тыранам не зьяўляюцца выдуманымі.

Зьмяшчаючы тут гэтыя дакумэнты, у якіх самі савецкія тыраны прызнаюцца ў расстрэле 13325 нявінных грамадзян майго народу бяз усялякага суда і працэсуальных фармальнасьцяў, я зьвяртаюся з гарачым заклікам да кіраўнікоў цывілізаваных народаў уступіцца за мой няшчасны, нявінны ў ніякіх праступніцтвах народ, прызначаны маскоўскімі тыранамі на вынішчэньне.

Я зьвяртаюся да ўсяго хрысьціянскага сьвету, перадусім да духоўнікаў усіх хрысьціянскіх цэркваў з гарачай просьбай не астацца абыякавымі к перажываным жудасьцям майго народу.

Я заклікаю пісьменьнікаў, журналістаў усяго сьвету, абаронцаў гуманізму, праўды й справядлівасьці падняць голас у абароне майго народу ад зьверскіх забойстваў крамлёўскімі тыранамі.

[...][2].

*Падрыхтоўка да друку, прадмова*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

---

[2] Далей на працягу некалькіх нумароў “Беларускага Эмігранта” падаваўся дакумэнт, але публікацыя засталася нясконачанай. Гл.: Беларускі Эмігрант. № 8 (30), № 9 (31), № 10—11 (32—33). 1950; № 1 (34). 1951.

*Тэма нумару: “О, Канада!”*
*Выданьне*

# “БЕЛАРУСКІ ГОЛАС”

Газэта “Беларускі Голас” — адзін з самых працяглых па часе выданьня беларускіх пэрыёдыкаў на Захадзе. Яна выходзіла ад сакавіка 1952 г. да ліпеня 1992 г. — 40 гадоў, 370 нумароў. Яе фэномэн тым больш цікавы, бо выдавалася яна без прывязкі да нейкай арганізацыйнай структуры, трымаючыся на ініцыятыве й імпэце фактычна аднаго чалавека — пісьменьніка Сяргея Хмары.

Як і самога выдаўца, гэтак і газэту моцна не любілі прыхільнікі й Рады БНР, і БЦР, аднак пры гэтым у зьмесьце канкрэтных нумароў часта былі абазнаныя й тыя, і тыя. Нядзіва, што асобнікі газэты можна было спаткаць у беларускіх асяродках на розных кантынэнтах — і ў Аўстраліі, і ў Эўропе, і ў Амэрыцы. “Беларускі Голас” не любілі, але чыталі.

Не вызнаючы аўтарытэтаў, Сяргей Хмара й нешматлікія ягоныя прыхільнікі (частка зь якіх напаўміфічныя асобы кшталту Вольгі Трэскі з Эдмантану) часта пісалі правакацыйныя, тэндэнцыйныя тэксты, не шкадуючы непрыемных вызначэньняў і высноваў для сваіх апанэнтаў. Але побач з гэтым газэта фіксавала разнастайныя праявы беларускай



BIELARUŚ
БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС

Established in 1949.
BYELORUSSIAN VOICE
LA VOIX BIELORUSIENNE

Нр. 345 верасень 1988 | Toronto, September 1988 | Vol. 39/36 №345

З ГІСТОРЫІ ГЭНАЦЫДУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

НІШТО НЕ ЗАБЫТА, НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ!

Смерць і кроў,
Смерць і кроў,
Смерць і кроў,

верш Беларускага падсавецкага паэта

прысутнасьці ў Канадзе й наогул на Захадзе. Яна мела карэспандэнтаў у розных краінах і таксама мела агульнаэміграцыйную скіраванасьць.

Цікава, што без непасрэднай апоры на арганізацыйныя структуры Сяргею Хмару ўдалося выдаваць газэту дзесяцігодзьдзямі, захоўваючы добры выгляд і больш-менш трывалую пэрыядычнасьць. Дзеяч змог зрабіць тое, што амаль не ўдавалася іншым беларускім эміграцыйным выданьням — прыцягнуць да “Беларускага Голасу” канадыйскіх рэклямадаўцаў. Гэта дазволіла зьмяшчаць на старонках арыентаваную на суродзічаў рэкляму й на гэтым зарабляць. Магчыма, менавіта дзякуючы гэтаму газэта выходзіла так доўга.

У розныя часы ў “Беларускага Голасу” зьяўляліся розныя дадаткі: літаратурны — “Сыгналы” (1957—1975), гумарыстычны — “Маланка” (1957—1966), тэматычны — “Беларусы ў Канадзе” (1967—1970). Апошнія нумары газэты ў 1992 г. выходзілі пад назовам “Водгаласы”.

Архіў “Беларускага Голасу”, на жаль, захаваўся мала. Асобныя комплексы тэкстаў і ліставаньня ў складзе фонду Сяргея Хмары ў Нацыянальным архіве Канады. У гісторыі выданьня газэты багата белых плямаў. Прыкладам, фактычна няведамы дакладны склад рэдкалегіі, и таму часам узьнікае ўражаньне, што Сяргей Хмара рабіў усё сам. Дачка Сяргея Хмары Магдалена згадвала, як зь дзяцінства дапамагала бацьку ў падрыхтоўцы газэты. Таксама складана расшыфраваць шматлікія псэўданімы й крыптанімы, якімі падпісаная значная частка артыкулаў “Беларускага Голасу”, вызначыць рэальную колькасьць аўтараў. Усё гэта пытаньні для адмысловага дасьледаваньня.

Пакуль жа прапануем чытачам некалькі публікацый, прысьвечаных гісторыі беларускай прысутнасьці ў Канадзе. Па-за “Беларускім Голасам” гэтая тэма амаль не гучала ў эміграцыйным пэрыядычным друку.

***Я. П.***

## Беларускае асадніцтва на паўночных тэрыторыях Канады[1]

Найвялікшая група Беларусоў пасялілася ў мястэчку Эрвуд (*Erwood*) у правінцыі Саскачэван. Гэта 10 міляў на ўсход ад горада Годсэнбэй (*Goodson Bay*), Джонктон і 250 міляў на паўночны ўсход ад Саскатуну. Прастора гэтая заросшая непраходнымі асовымі і яловымі лясамі, але зямля роўная, чорная і ўрадлівая. У 1927 г. Саскачэванскія ўлады

[1] Друкуецца паводле: Беларускі Голас. № 170. Сакавік 1969. С. 2. Публікуецца з захаваньнем асаблівасьцяў мовы арыгіналу.

пачалі даваць там новапрыбылым імігрантам “гомстэды” (дзялянкі зямлі — надзелы), але хаця й крыху залежныя ад уладаў, імігранты не хацелі там пасяляцца дзеля таго, што было цяжка знайсьці сярод лясоў палянкі, дзе можна было-б паставіць будана для жыцьця, ня выкарчаваўшы мейсца папярэдня. Але бедныя, малыя сем’і імігрантаў-Беларусаў адважылі ўзяцца за карчаваньне гэтых непраходных лясоў. Былі гэта маладыя сем’і з двумя або трымя дзецьмі і некаторыя яшчэ бязьдзетныя сем’і, ды самотныя мужчыны, якія мелі забраць сваіх жонак зь Беларусі пасьля таго, як ўладзяцца самыя на новым мейсцы.

Былі гэта першыя 10 сем’яў Беларусаў, якія прыехалі з ваколіц Давід-Гарадка на Палесьсі. Насамперш яны пры дапамозе сякераў і лапатаў павыкарчоўвалі сабе маленькія пляцы пад хаткі. З тых-жа выкарчаваных асінаў збудавалі першыя хаты-будана, пакрылі тымі-ж рашчэпленымі асінавымі плошкамі ды пакрылі дзярном, вымазалі шчыліны хат глінай, ды на першую вясну пасадзілі толькі маленькія гародзікі каля хат, выкарчаваныя з-пад лесу. Пасьля пабудовы хат насамперш пабудавалі будынак свае эвангельскае Царквы, дзе сходзіліся штонядзелі і ў серады вечарамі і налажвалі свае Багаслужбы, у час якіх мелі лучнасьць міжсобку пасьля цяжкой працы, адпачываючы сэрцам і душою ды пацешалі сябе ў горы, калі пасьля двох год асяленьня прыйшла ў Канаду эканамічная крыза. Усе тыя Беларусы і іхныя дзеці гутараць чыстай Беларускай мовай, таму што там мала пасяленцаў іншых нацыянальнасьцяў.

Кожнае восені, як толькі пачыналася жніва, усе мужчыны пакідалі сваіх жонак зь дзецьмі і ішлі пешка за 75 міляў да ваколіцаў мястэчка Тысдэлу на заробкі да тамтэйшых Немцаў і Англійскіх, ужо разжыўшыхся фармэраў, каб зарабіць на пражыцьцё пажывы, як муку, аўсянку (порыдж), цукар і соль, якія закуплялі адразу на цэлую зіму, бо першыя гады Беларусы на сваіх гомстэдах маглі гадаваць толькі гародніну і бульбу, бо выкарчаваныя дзялянкі былі малыя. Мясам была дзічына, як зайцы і алені, якую Беларусы, пакупляўшы стрэльбы, стралялі. Летам зьбіралі грыбы і ягады чарніцу і саскатун, якія сушылі на зіму, а з каліны варылі павідла-мармаляду. У часе адсутнасьці мужчын часта да хатаў з жанчынамі прыходзілі мядзьведзі й душылі ім сьвіней і цялятаў. Дайшло да таго, што зь перапалоху жанчыны не маглі спаць начамі, пакуль аж чыгуначныя ўлады ня выслалі сваіх чыгункавых аглядчыкаў, якія пастралялі гэтых шкоднікаў. Так вось яны гаравалі якіх 15 год, пакуль у [19]42 годзе Саскачэванскія агракультурныя ўлады не паслалі туды мэханічную машынэрыю — катэрпілеры, якімі павыраблялі ім іхныя надзелы без граша, і яны за тое плоцяць разам з падаткамі. Апроч таго павырабляна катэрпілярамі і шмат казённай зямлі, якую мясцовыя асаднікі маглі купляць на доўгасплатную аплату. Тады наехала туды шмат Украінцаў і іншых нацыянальнасьцяў,

але Беларусоў там ёсьць найбольш і сяньня. Ёсьцека там Беларусы з такімі прозьвішчамі, як Кавалькі, Думічы, Боганы, Бадкарчыкі і інш. Адно шкода, што старшыя вучыліся ў Расейскіх школах у краі і на сваіх Багаслужбах чытаюць Біблію па Расейску, а тлумачаць яе пасьля па Беларуску.

У правінцыі Альбэрта падобным мейсцам першзаселеным Беларусамі быў Гарт (*Gart*) на 230 міляў на Паўночны Ўсход ад Эдмантану і 18 міляў на Поўнач ад мястэчка Бонэвіл (*Bonnewille*). Там таксама, як і ў Эрвудзе ў Саскачэванскай правінцыі, першыя аселі Беларусы ў тых самых гадох (1927), але такжа і Ўкраінцы. Зямля таксама падлесная і добрая, з тою толькі рожніцай, што сярод лясоў шмат палянаў-сенажацяў, зь якіх лягчэй здабыць корм для жывёлы, і асаднікі хутчэй там дзякуючы гадоўлі быдла разжыліся, хоць яна ў тыя часы была й танная.

У Гарце і ваколіцы асяліліся Беларусы сярэдняга веку і многадзетныя, якія таксама паходзілі з Палесься, з ваколіцаў Кобрыня, гутараць на сваім тамтэйшым Беларускім, Палескім дыялекце з уплывамі Украінскае мовы, дзякуючы сужыцьцю з асядленцамі Украінцамі, сямейным перамешкам зь імі. Аднак розьняцца ад Украінцаў веравызнаньнем, бо ўсе эвангэлісты й насамперш пабудавалі сваю Царкву, ды ладзяць там тры разы на тыдзень свае Багаслужбы й зборкі. Шмат ужо папераяжджала ў гарады і сяньня амаль палавіна эвангельскай сябрыны — Царква ў Эдмантоне — гэта былыя асяленцы Беларусы з Гарту. У [19]48 годзе Беларускія асяленцы пабудавалі таксама Эвангельскую Царкву ў мястэчку Бонэвілю, дзе штонядзелі ладзяцца Багаслужбы. Там часта выступае хор зь Беларускімі эвангельскімі сьпевамі. Спатыканыя там прозьвішчы Беларусаў: Фірсовічы, Вакульчыкі, Кацубчыкі, Казлы, Саўчукі і інш.

Мейсцам, дзе таксама вялікая колькасьць першых Беларускіх асядленцаў, але якія не пераважаюць іншыя нацыянальнасьці, а складаюць толькі нешта траціну насельніцтва, зьяўляецца Бігар у Саскачэванскай правінцыі, які ляжыць ў 64 мілях на Захад ад Саскатуну. Там жывуць Беларусырознага ўзросту, ад маладога веку да старых. Асяліліся там у [19]30-х гадох і ўжо з грашыма, бо павыпрадаўшы былі свае гаспадаркі ў старым краі і тут задаткавалі ўжо вырабленыя з падлесу землі, на якіх хутка разжыліся. Ёсьць там Беларусы Эвангелікі і Праваслаўныя. У Эвангелікаў свая Царква. Багаслужбы адбываюцца ў Расейскай мове. Адзін Прапаведнік прапаведуе на Беларускай мове. Таксама часам хор сьпявае эвангельскія сьпевы па Беларуску. Беларусы асяленцы гэтай мясьціны паходзяць пераважна з Палескага Драгічына. Гавораць сваім Палескім дыялектам і прызнаюць сябе Беларусамі. Там сустрэнеце прозьвішчы: Пятроўскі, Замкавец, Жыдковіч, Гілевіч, Церахоў.

У Манітобе на Заходнім узьмежжы Саскачэвані скупіна Беларускіх асяленцаў паходзячых з ваколіц Століна асялілася ў мястэчку Бэніто,

што ў 20-ці мілях ад гораду Сван Рывэр. Асяліліся яны там у [19]20-х гадох і памяшаліся часта сямейна з Украінцамі і нават з Расейскімі духаборамі. Дзеля гэтага іхныя дзеці за малымі выняткамі ўжо не гавораць па Беларуску. Там ёсьць Эвангельская Царква, да якой належаць Беларусы сумесна з Украінцамі, і яна мае назоў "Украінскай", бо Прапаведнік — Украінец. Аднак калі прыяжджаюць Беларускія Прапаведнікі, іх просяць прапаведваць па Беларуску і сьпяваць хору Беларускія песьні. Там спаткаеце прозьвішчы Беларусоў: Лішкевічы, Юхнаўцы, Бруцкія, Камэнды, Кавальчукі, Годы і інш.

Ёсьць скупіна Беларусоў і ў горадзе Саскатуне. Належаць да розных цэркваў і бальшыня зь іх зусім безідэёвая. Галоўная іхная мэта: багацтва. Прыбылі яны пераважна з ваколіцаў Драгічына, але ёсьць і з іншых ваколіц Беларусі. Сустрэнеце тут прозьвішчы Беларусоў: Новікі, Рэпэцкія, Замкуўцы, Брыч. Тут дзее вядомы сярод Беларускіх Эвангелікаў Беларускі Прапаведнік Рэпэцкі[2] са сваім Беларускім эвангельскім хорам. Ён наведвае скупіны Беларускіх Эвангелікаў стэпавых правінцыяў і Антэрыя, усюды прапаведваючы ў Беларускай мове.

Вялікія заслугі і сьветлую памяць па сабе пакінула ў Саскатуне эвангельская місыянэрка Поля Кавалеўская родам з Валожына, якая прысьвяціла сябе дапамозе бедным, хворым і патрабуючым. Яна зьбірала ахвяры для іх, купляла пажыву і вопратку, была дабраахвотнай самарытанкай — сястрой пры хворых імігрантах, хадзіла па ўрадах, дабіваючыся ўрадавай дапамогі бедным і г. п. Некалькі год таму Кавалеўская ўжо памерла, але людзі яе помняць і ўспамінаюць добрым словам.

*Ад Радакцыі: Друкуючы гэтыя цікавыя інфармацыі аб частцы Беларускіх пасяленскіх скупінаў у Канадзе, Радакцыя заклікае і іншых нашых супрацоўнікаў і чытачоў надсылаць далейшыя даныя аб Беларускіх асяленцах у іншых мясьцінах і частках Канады, што вельмі важнае для гісторыі.*

***Вольга Трэска***

## Беларусы ў Канадзе[3]

Вы іх ня знойдзеце ў статыстыцы. Канадыйскія перадваенныя правілы запісваць імігрантаў не па іхнай нацыянальнасьці — этнічным

---

[2] Маецца на ўвазе **Якуб Рапэцкі** (1908—1998), эвангельскі прапаведнік зь Піншчыны, які пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Канадзе.

[3] Друкуецца паводле: Беларускі Голас. № 270. Лістапад 1978. С. 2—3.

паходжаньні, але па дзяржаўнай прыналежнасьці, давяло да таго, што Беларусы апынуліся або ў групе *"рашэн"*, калі паходзілі з Расейскай імпэрыі, да якой належала Беларусь, ці пазьней, калі Заходняя Беларусь апынулася пад Польшчай, упісвана іх як *"поліш нашыоналіты"*, бо так дзівосна ў ангійскай мове *"нашыоналіты"* разумеецца не як нацыянальнасьць, але як дзяржаўную прыналежнасьць-грамадзянства. А паза тым трэба адзначыць яшчэ і тое, што дзякуючы позьняму нацыянальнаму ўсьведамленьню сялянскіх мас Беларусі, якое стала пашырацца фактычна толькі пасьля рэвалюцыі [19]17-га году, а на глухое Заходняе Палесьсе дакацілася толькі часткова ў [19]20-х — [19]30-х гадах, Паляшукі акрэсьлівалі сябе па веры: Праваслаўны значыць — *"рускай веры"* — *"рускі"*, каталік — *"польскай веры"* — *"паляк"*. Таксама акрэсьлівалі сябе і Беларускія каталікі зь Віленшчыны, якіх немалая валка шуганула ў Канаду, асеўшы ў Таронце і ваколіцах (гэта-ж яны пабудавалі перадусім Польскі Касьцёл на Дэнісон[4]). Калі-ж узяць яшчэ пад увагу, што на мейсцы яны не засталі ніякіх Беларускіх грамадзкіх ці рэлігійных арганізацыяў, але затое Польскія Касьцёлы й Расейскія Цэрквы, дык зразумела, чаму ў статыстыцы не зьявілася рубрыка *"Беларусы"* нават тады, калі з Заходняй Беларусі па 1927 годзе пачалі наплываць і сьведамыя нацыянальна адзінкі.

Новая паваенная іміграцыя накіроўвалася перадусім зь Нямеччыны, Брытаніі, Францыі й Бэльгіі, зноў ехала ў Канаду звычайна за малымі выняткамі не пад сваім нацыянальным імем, але пад чужым, хоць улады Канады ўжо навучыліся адрозьніваць нацыянальнасьць імігрантаў ад іх дзяржаўнай прыналежнасьці-грамадзянства. Тут адгуляла паскудную ролю чалавекаўбіўчая палітыка перадусім Брытаніі, якая прадала на гібель мільёны ўцекачоў з-пад Саветаў у рукі савецкіх палачоў. Вось-жа, каб ратавацца ад гібелі, уцекачы-Беларусы, што знаходзіліся ў Нямеччыне, мусялі запісвацца "палякамі", "немцамі", "латышамі" і іншымі нацыянальнасьцямі, каб іх не выдана Саветам. Пад гэтым імем яны і папрыяжджалі ў Канаду і так і засталіся паводле пашпарту, ня гледзячы на апошнія перапісы насельніцтва ў Канадзе, дзе ўжо ўмысна фігуравала рубрыка нацыянальнасьці (этнічнага паходжаньня) і роднае мовы. Толькі дробны працэнт з гэтых 12—15 тысяч паваенных імігрантаў выявіўся як Беларусы.

Беларускую іміграцыю ў Канаду можна падзяліць на тры хвалі: 1. Першая іміграцыя прыблізна ад 1905 па 1914 год. Хваля невялікая. Перадусім муская, з тэрыторыі больш Усходняй і Цэнтральнай Беларусі і каталіцкая зь Віленшчыны і Беласточчыны. Ахапляла яна ня больш пары тысяч імігрантаў. 2. Другая хваля іміграцыі была амаль выключна

[4] Магчыма, маецца на ўвазе **касьцёл Сьв. Станіслава Косткі** на *12 Denison Ave* ў Таронта, заснаваны ў 1911 г.

зь земляў Заходняй Беларусі, трапіўшых пад Польшчу і перажываўшых там амаль безьперапынны эканамічны крызыс.

Хваля гэтая пачалася недзе ў 1925 годзе і цягнулася да Другой Сьвятовае вайны, зь перапынкам на часы Канадыйскага Вялікага Крызысу. Наплыло за гэты час прыблізна больш 30 тысячаў пасяленцаў (частка нават праз Аргэнтыну і ЗША). Больш 50 % працэнтаў гэтае іміграцыі былі Беларусы-Паляшукі, як ужо ўспамінала, ня ўсьвядомленыя нацыянальна зусім. Яны секлі лясныя гушчары, будавалі чыгунку, карчавалі дзялянкі пад свае фармы. Як і першая эміграцыя, гэта былі мужчыны, і толькі абжыўшыся крыху, справаджвалі свае сем'і, а звычайна жаніліся на мейсцы, і з-за адсутнасьці Беларусак бралі жонак зь іншых нацыянальнасьцяў, перадусім Украінак, Палячак, Славачак (блізкіх па мове), радзей: Немак, Фінак, Ісьляндак, Айрышак. Як правіла, пры гэтым як яны, так і іхныя дзеці: украінізаваліся, палячыліся ці славачыліся, а зь іншымі ўспомненымі — англічаніліся або мусялі ўжываць для паразуменьня міжсобку ангельскую мову. Ня больш 20 % пажэненыя са сваімі, захоўвалі толькі сваю мову ў дыялекце, вынясеным з дому, зь вялікімі расейскімі прымешкамі, ад уплыву Расейскай Царквы, ці яшчэ больш — арганізацыяў пракамуністычнага напрамку на ўзор Фэдэрацыі Рускіх Канадыйцаў[5], стрыжань якіх і складаўся з гэтых неўсьвядомленых нацыянальна Беларускіх імігрантаў. Каля 30 % гэтай міжваеннай іміграцыі засталіся непажэнянымі — адзіночкамі. Гэта тыя, што прыехалі да Канады з намерам зарабіць грошай і вярнуцца на бацькаўшчыну, дзе часта пакінулі жонку й дзяцей або нявесту, тыя, што не пасьпелі справадзіць жонкі дзякуючы выбухшай Другой Сьвятовай вайне. Яны вось і складаюць перадусім гэты стрыжань пракамуністычнай Рускай Фэдэрацыі ў Эдмантоне, Вініпэгу, Таронце, Гамільтоне і Ванкувары, а цяпер і яшчэ гэтак званых "Пэнсыянэрскіх Клюбаў". Гэтая катэгорыя даўно на выміраньні. Вялікую ролю ў камунізацыі гэтай групы імігрантаў адгуляла так званая *"Азярніцкая ячэйка"* — камуністаў, уцёкшых з Заходняй Беларусі: Акулевіч[6] — радактар камуністычнага *"Вестніка"* ў Таронце, Якубовіч з Прэрыйных правінцыяў і Яфімовіч з Ванкувару.

Дзеці другое іміграцыі амаль у 90 % занглізаваныя. Пажэненыя амаль што ў 100 % з асобамі іншай нацыянальнасьці. Хатняя мова — Англійская, толькі частка разумее сваю. (З Беларуска-польскіх сем'яў дзеці затрымалі польскую мову; з Беларуска-Украінскіх — Украінскую.) Як характэрны паварот у апошнія гады, прыйшоўшыя ў унівэрсытэты, прабуюць аднавіць веданьне свае мовы вучачыся... Расейскай, якая

[5] **Фэдэрацыя рускіх канадцаў** — заснаваная ў 1942 г. агульнаканадыйская арганізацыя прасавецкай скіраванасьці, у якой значную колькасьць складалі беларусы, у тым ліку і ў кіраўніцтве.

[6] Маецца на ўвазе Рыгор Акулевіч.

ўсюды выкладаецца на ўнівэрсытэтах. З другога пакаленьня гэтае іміграцыі толькі якіх 5 % дасягло да Ўнівэрсытэту. Зь іх выйшлі перадусім настаўнікі, інжынэры, адвакаты, дантысты, невялікая колькасьць лекароў і прафэсароў (адзінкі), журналістаў, артыстаў і мастакоў.

Да 50 % ажэненых аселі на сваіх фармах, галоўна ў Прэрыйных правінцыях і ў паўдзённым ды сярэднім Антэрыю, але іхныя дзеці цяпер у абсалютнай большыні перанесьліся ў гарады.

Асобную цікавасьць і досыць значную групу міжваеннай іміграцыі складаюць веравызнаўцы эвангелізму. Лік іх сягае нешта да 10 тысяч, г. зн. блізу 30—35 % усёй міжваеннай іміграцыі. Трэба лічыць, што некая палавіна зь іх прыехала з сваім веравызнаньнем з дому, а рэшта навярнулася да іх ужо ў Канадзе. Гэта першыя групы іміграцыі зь Беларусі, якія прыехалі зарганізавана, цэлымі сваімі "абшчынамі", і заняўшы адпаведны абшар зямлі (гомстэды) адзін каля аднаго, адразу-ж зарганізавалі свае Малітоўныя дамы. Гэтак паўсталі Беларускія піянэрскія асяродкі ў Прэрыйных правінцыях: Бігар у Саскачэванскай правінцыі, Гарт у Альбэрце, Бэніто ў Манітобе, а такжа ў Гантэры, у Эдмантоне, у Таронце, у Барнабы пры Ванкувары і шмат іншых мясцох. Усе гэтыя групы прыбылі з Палесься і, на жаль, не ўсьвядомленыя нацыянальна, традыцыйна вялі свае Багаслужбы па Расейску, і напачатку нават свае "абшчыны" называлі "рускімі". Толькі па апошняй вайне, калі прыбылі ў Канаду эвангельскія дзеячы сьведамыя нацыянальна, назоў гэтых Цэркваў і іх арганізацыяў зьменены быў на "Славянскія", тлумачачы гэта тым, што да Цэркваў належыць і нейкая колькасьць Расейцаў і Ўкраінцаў (хоць Украінцы й Расейцы маюць свае асобныя эвангельскія Цэрквы). Цікава, што Беларускія Эвангелісты ня любяць называць сябе "Баптыстамі" і назоў сваёй арганізацыі прынялі як *"Славянскі Саюз Эвангельскіх Хрысьціян"*. (Толькі цяпер нядаўна створана *"Беларускае Брацтва Эвангельскіх Хрысьціян-Баптыстаў"*.) Моцная таксама іншая эвангельская плынь: Пяцідзесятнікі, якія ўваходзяць як аўтаномная частка агульна-канадыйскай Пяцідзесятніцкай (*Пэнтыкостал*) Царквы. На чале гэтых Славянскіх Пяцідзесятніцкіх Асамблеяў стаяў Беларус прап. Паціпко, на чале Эвангельскага Саюзу Беларус прап. Гук. У Канадзе выдаваліся ці выдаюцца тры эвангельскіх часопісы з радактарамі Беларусамі: у Таронце Баптыстычны "Хрысьціянін" рад. Гук (у Расейскай мове зь Беларускімі ўстаўкамі), у Віндзары пяцідзесятніцкі часапіс з радактарам Беларусам Ляўшуном і ў тым-жа Таронце Баптыстычны Польскі часапіс пад радактарствам Беларуса прап. Пашко.

Трэцяя хваля Беларускай іміграцыі нахлынула ў Канаду паміж 1948—1956 годам і складалася перадусім з уцекачоў ад савецкага ражыму і былых вайскоўцаў Беларускіх аддзелаў ды з Польскай арміі і зь Нямецкай арміі. У адмену ад папярэдніх іміграцыяў, гэта быў сьведамы

Беларускі элемэнт, хоць часта гэтая сьведамасьць была досыць новай і выявілася толькі падчас Нямецкай акупацыі і была павязаная са здабыцьцём "урадавага" месца ў адміністрацыі ці павязаная з стараньнем высвабадзіцца зь лягеру ваеннапалонных Польскай ці Савецкай арміі ў Нямеччыне. Вядома, гэтыя аказыйныя "Беларусы", прыехаўшы да Канады, не ходаліся выяўляцца зноў Беларусамі і звычайна папрыставалі да мацнейшых груп, як Палякі, Расейцы ці нават Украінцы.

Усяго паваеннай іміграцыі налічваецца нешта ад 12 да 15 тысячаў (як ужо ўспомніла: цяжкая да канкрэтнага аблічэньня, бо запісаная на не Беларускае імя). Гэта, па-першае, вайскоўцы-адзіночкі з Польскай арміі Андэрса. Сямейныя ўцекачы і работнікі зь лягероў Нямеччыны, былыя вайскоўцы Польскае арміі з Англіі, Работнікі з Бэльгіі і Францыі. Самотных налічвалася каля 20 %. За малымі выняткамі ўсе яны пажаніліся, але працэнт жонак Беларусак ня большы чым 2—3. Каля 50 % жанатых, гэта поўна-беларускія сем'і пажэненыя яшчэ на бацькаўшчыне ці ў Нямеччыне, другая палавіна гэта мяшаныя нацыянальна сем'і з Палякамі, Украінцамі, Расейцамі, з Францыі й Бэльгіі з Французамі, з Нямеччыны — з Немцамі і з Брытаніі са Шкоткамі, Айрышкамі і Ангелькамі. Як і ў старой іміграцыі, ажэнак з асобай іншай нацыянальнасьці (мужчына ці жанчына, усяроўна) вядзе звычайна за малымі выняткамі да асыміляцыі з той нацыянальнасьцяй Беларусаў. Таму сяньня фактычна па-за Тарантам у Антэрыі ня маем у Канадзе Беларускіх дзеючых актыўна асяродкаў, нават у такіх буйных Беларускіх скупчэньнях, як Вініпэг ці Мантрэал.

Новая Беларуская іміграцыя амаль выключна работніцка-сялянскага паходжаньня, з малым працэнтам паўінтэлігенцыі (інтэлігенцыі толькі адзінкі). Аднак на ральлі асела менш чым 5 %. У гарадах пачаўшы ад чарнарабочых, рубшчыкаў лесу і будаўляных работ, павыбіваліся на майстроў, электрыкаў, сталяроў і іншых спэцыялістаў. Адкрылі свае невялікія, але добра прыбытковыя бізнэсы. 95 % мае свае хаты, часта і па дзьве, котаджы, аўты і банкавыя конты. Характэрным ёсьць вялікі працэнт дзяцей з унівэрсытэцкай асьветай. Нешта каля 15 %. Гэта значна больш, чым у Канадыйцаў англамоўных.

Моладзь, аднак, хоць у аснаўным ведае мову бацькоў, ёю амаль што не карыстаецца міжсобку, як і ў пісьме (гэтага апошняга па-за якімі 2—3 % яна і ня ведае). Амаль у 100 % гэтая моладзь творыць нацыянальна мяшаныя сем'і, што вядзе да асыміляцыі, калі не беспасярэдна ў англамоўнае асяродзьдзе, дык пасрэдна праз гэтак званую дубляваную асыміляцыю (польшчаньне-англізаваньне або расейшчаньне-англізаваньне ці нарэшце ўкраінізаваньне-англізаваньне).

Пагоня за заробкам, ходаньне забясьпечаньне сябе ў новым краі (хата, аўта і г. п.) не дае ўзьняцца новаканадыйцу сялянскага паходжаньня, а нават паўінтэлігэнту да стандартнага ўзроўню культуры новага краю, хоць і пражывае ў вялікіх гарадох.

98 % апрошваных за 25—30 гадоў перабываньня ў Канадзе не адведала опэры, балету, філярмоніі. Горш, што больш 80 % не адведвае публічныя бібліятэкі, а толькі пару працэнтаў мае свае хатнія прыватныя бібліятэчкі.

Сем'і традыцыйна моцныя, калі поўнабеларускія. Разводы — выняткі. Затое большы працэнт разводаў у мяшаных сем'ях, больш чым 20 %.

*Падрыхтоўка да друку, прадмова*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Тэма нумару: “О, Канада!”***
*Інтэрвію*

# КАНАДА, БІНІМ, ЧАРНОБЫЛЬСКІ ФОНД

## Гутарка з д-рам Зінай Гімпелевіч

*Я пазнаёмілася з прафэсаркай славістыкі Ўнівэрсытэту Ватэрлу (Антарыё) Зінай Гімпелевіч у сярэдзіне красавіка 2011 г. Да месца спатканьня ў горад Кітчэнэр дабралася ад Таронта на аўтобусе гадзіны за дзьве.*

*Кітчэнэр — гарадок каля 230 тысячаў жыхароў у правінцыі Антарыё, заснаваны некалі нямецкімі перасяленцамі-менанітамі. Да 1916 г. ён называўся Бэрлін, але потым быў перайменаваны ў гонар фэльдмаршала Гербэрта Кітчэнэра. Гэты гарадок — спадарожнік унівэрсытэцкага Ватэрлу. Апошні мае каля 105 тысячаў жыхароў і нібыта плаўна выцякае з Кітчэнэру, прынамсі ніякай мяжы паміж імі не было заўважана. У мясцовым унівэрсытэце навучаецца каля 30 тысячаў студэнтаў. Некаторыя школы (факультэты), прыкладам матэматычная або грамадзянскага будаўніцтва, тут адны з найлепшых у сьвеце. Праз кілямэтар ад Унівэрсытэту Ватэрлу знаходзіцца ўнівэрсытэт Вілфрэд Лорэе, знаны ў Канадзе празь дзьве праграмы: эканамічную й музычную. Там вучацца каля 15 тысячаў студэнтаў-бакалаўраў і каля 5 тысячаў асьпірантаў. Трэці горад рэгіёну Ватерлу называецца Кэмбрыдж. Ён мае каля 130 тысячаў жыхароў. У 2004 г. Унівэрсытэт Ватэрлу перавёз кампус свайго факультэту архітэктуры ў Кэмбрыдж. Цяпер ходзіць маленькі аўтобус, “чаўнок”, паміж галоўным кампусам і тым, што ў Кэмбрыджы. Архітэктура й дызайн Ватэрлу — найлепшая праграма ў краіне й другая ў Амэрыцы (пасьля Гарварду).*

*Прафэсар катэдры германа-славістыкі Зіна Гімпелевіч спаткала мяне на аўтастанцыі й адвезла да сваёй хаты — прыгожага будынку недалёка ад унівэрсытэту. Па невялікім ланчы мы ўладкаваліся ў прасторным сьветлым пакоі, каб паразмаўляць. Я папрасіла спадарыню Зіну распавесьці, як яна трапіла ў Канаду, і аповед заняў больш за гадзіну...*

Зіна Гімпелевіч: Нарадзілася я ў Менску 28 сьнежня 1949 году. Бацька мой, Якаў Захаравіч Гімпелевіч, беларускі яўрэй, быў шмат старэйшы за маці. Мама, Дора Абрамаўна Рэйнгольд, музыка, была вундэркіндам. У 5 гадоў грала Шумана на беларускім радыё. Яна хадзіла ў яўрэйскую школу. Родная мова ў яе ідыш, якую, на вялікі жаль, я ня ведаю. Па-расейску яна размаўляла цудоўна, без акцэнту. Бацька паходзіў з Заходняй Беларусі. Я амаль нічога ня ведаю пра ягоную сям’ю.

Толькі — што ён быў актывістам і ў 19 гадоў стаў камуністам, нягледзячы на тое што ў сям'і быў вялікі хутар. Бацька быў сялянскай крыві. Калі прыйшлі Саветы, ён верыў у іх ідэалы, скончыў інжынэрную школу, кшталту тэхнікуму, стаў эканамістам. Ад першага дня пайшоў на вайну. Да вайны гэта была кроў з малаком. Ён быў паранены шмат разоў, ажаніўся з мясцовай жанчынай. Вайну скончыў у Бэрліне, меў шмат узнагародаў і тады пачаў расчароўвацца ў савецкім ладзе. Бацька быў бялявы з блакітнымі вачыма. Такімі былі й дзеткі. Але калі прыйшлі немцы, іх забралі. Выдала суседка. Там такое было: немцы, якія прыйшлі і ўбачылі тых дзяцей, сказалі, што гэта ж арыйскія дзеці. Але суседзі сказалі, што ня толькі бацькі яўрэі, але й бацька ў Чырвонай арміі. І іх усіх забралі...



Прафэсар Зіна Гімпелевіч. 2011 г.

Калі бацька вярнуўся з войска на пабыўку, пайшоў разьбірацца з суседзямі. Да яго выскачыў хлопчык, які казаў, што гэта ня бацька ягоны, а матка выдала, *"бо швейная машынка ў цёткі Цылі была добрая"*. А бацька ягоны быў у партызанах... Мой бацька быў вельмі ціхі чалавек, ён ніколі нам не расказваў гэтую гісторыю. Толькі калі ён памёр, маці расказала, што тады бацька павярнуўся й пайшоў, сказаўшы, што дастаткова сіротаў ужо ёсьць.

Тады ж бацька ўбачыў на вуліцы маю маці. Яна была такая яўрэйская прыгажуня, 19 гадоў. Спытаўся ў сяброў, хто яна. Бацьку ўжо трэба было вяртацца ў войска, але за дзьве гадзіны ён зрабіў маці прапанову выйсьці за яго замуж. А яна адказвае: *"У мяне трое дзетак"*. Гэта былі яе браты. Калі вайна пачалася, аднаму было больш за год, другому — чатыры, а трэцяму — 10. А ёй было 16. Бацькі памерлі ў эвакуацыі й яна ўзяла на сябе дзяцей. А мой жа бацька якраз страціў сваіх трох дзяцей...

Маці ў 14 гадоў паехала вучыцца спачатку ў вучылішча, хутка яе перавялі на першы курс кансэрваторыі, але пачалася вайна. Кансэрваторыю яна так ніколі й ня скончыла, таму што жыцьцё пачалося іншае, трэба было гадаваць трох братоў... Зь імі на руках і замуж выйшла. У 1946 годзе сястра нарадзілася, а потым і я ў 1949-м.

Бацькам трэба было працаваць. Абое працавалі. Я памятаю бацьку вельмі добра, хоць мне было 10 гадоў, калі ён памёр. У яго была саркома, з вайны вярнуўся хворы. Бацька працаваў інжынэрам-эканамістам на шчотачнай фабрыцы, заўсёды меў яшчэ адну працу.

Я вучылася ў Менску. Спачатку ў 53-й школе, гэта блізка ад месца, дзе нарадзілася, а нарадзілася я на Цнянскай (недалёка ад Камароўскага рынку). Але зараз, калі прыяжджаю, месца не пазнаю. Сябры кажуць, што вось тут, адно дрэва нават там нашае засталося. Бацькі мелі сваю хату, яны купілі, калі прыехалі з Бабруйску. Там не было шмат зямлі, але ўся была засаджаная. Бацька вучыў суседзяў, як апрацоўваць зямлю. Гэта быў ягоны ўлюбёны занятак. Тады працавалі й па суботах, затое ў нядзелю ад самага ранку бацька быў на агародзе. Я яго вельмі любіла й дапамагала яму. Сястра, якая была таксама таленавітая музыкантка... (калі кажу "таксама", ня маю на ўвазе сябе, бо я была чорная авечка ў сям'і). Сястра ніколі не любіла ў зямлі вазіцца. А зараз у яе гэта прачнулася. У яе ёсьць дача, і там цяпер таксама няма вольнага неапрацаванага кавалачку зямлі.

Калі мне было 6 гадоў, мама працавала ў першай музычнай школе й мяне туды прынялі. Але думаю, што па блацце. Па натуры я была хуліганкай, больш хлопцам, чым дзяўчынкай, у той час, і да гэтага піяніна мне было, як да цара. Але мама казала: *"Памру, але вывучу цябе"*. У гэтым сэнсе адукацыю я атрымала добрую. Мама тады не памерла, але прымушала, і школу я скончыла. Ня так я працавала, каб зрабіць на выдатна, але навучылася. І гэта потым дапамагло. Тут, у Канадзе, я грала для чатырох-шасьці балетных школаў у Атаве, калі прыехала. Гэта быў адзін зь першых кавалкаў хлеба.

Потым я ў 16 гадоў паступіла ў пэдагагічны інстытут на літаратурна-музычны факультэт. Там было пяць гадоў поўнай філялягічнай адукацыі (нічым асабліва ад унівэрсытэту праграма не адрозьнівалася), плюс музычная адукацыя была недзе на ўзроўні... думаю, ніжэй музычнага вучылішча. Калі хто хацеў, мог атрымаць вышэй, а я асабліва не вылучалася ў гэтым сэнсе, так, сяродка. У інстытуце вучылася добра, але не таму, што была добрая, а таму што хацела, каб матка з маіх плячэй зьлезла. Але гэта былі найлепшыя гады жыцьця. У нас была цудоўная група. Большай часткай дзеўкі й некалькі хлопцаў, але мы іх вельмі хутка перарабілі на свой лад. То пры іх і фарбаваліся, і панчохі падцягвалі... Добрая была група, вельмі дружная. Ня надта для савецкага часу звычайная, бо былі вольныя думкі.

Калі мне было 10 з паловай гадоў, амаль праз год пасьля бацькавай сьмерці, маці выйшла замуж другі раз. Мой другі айцец, якому я абавязаная тым, што я ёсьць у інтэлектуальным пляне, быў Дзьмітры Раманавіч Камінскі. Ён быў беларускім кампазытарам, але прыехаў у Беларусь пасьля вайны. У Камінскага была цікавая гісторыя: хросным ягонага бацькі быў Пётар Ільліч Чайкоўскі. Матка была раднёй гэтага кампазытара, і як пажаніліся, то нават мелі маёнтак недалёка ад маёнтку Чайкоўскага ў Кліну, у Маскоўскай вобласьці.

Дзьмітры Камінскі быў рафінаваны расейскі інтэлігент, паважаў шчырасьць. Калі меў магчымасьць, ніколі не хлусіў. Колькі гадоў таму

быў у мяне тут Сямён Шарэцкі, чалавек, якога я ня вельмі паважаю. Зрабіў ён мне такую "цудоўную" рэкляму пра беларусаў, што я потым колькі гадоў адплёўвалася. Але прывёў яго да мяне Барыс Рагуля, а былі й ёсьць людзі на эміграцыі, якім я магла задавіцца, але ніколі б не адмовіла. І Рагуля быў адзін зь іх. Шарэцкі пабачыў у мяне бацькавы маленькі фотамантаж і пытаецца: *"Гэта хто? Гэта Камінскі?"* Я кажу: *"Так"*. Пытаецца: *"А хто ён Вам?"* — *"Бацька другі"* (Камінскі заўсёды хацеў, каб я яго татам называла, але я не магла, пакуль ён зусім слабы ня стаў). А Шарэцкі, гэтае мурло, мне й кажа: *"Я яму не давяраў. Ён з намі ніколі ня піў"*. На што я не затрымалася надоўга й адказала: *"Гэта праўда, ён ня з кожным піў"*.

З Камінскім мы зрабіліся блізкімі зь першай хвіліны, мы любілі адных аўтараў, ён навучыў мяне любіць гэтых аўтараў. Ён добра ведаў усяго Чэхава. Калі мне было 13, Камінскі пачаў распавядаць мне гісторыю Расейскай імпэрыі, казаў, што бальшавікі ўзурпавалі ўладу, казаў, што Белая гвардыя пачыналася як высакародны рух, а потым сталі такімі ж бандытамі, як і чырвоныя. А я яму казала: *"Як камсамолка я вашых поглядаў не падзяляю, і мне б трэба было на вас пайсьці й паказаць. Але я такая слабая, што зараз не магу гэтага зрабіць"*. І Камінскі мне сказаў: *"Зінуша, ты ня той чалавек, які будзе подлічаць. І ня думаю, што табе хочацца гэта зрабіць"*. Пазьней, у мае 16, ён пытаўся: *"Ці ты памятаеш, як хацела паўтарыць подзьвіг Паўліка Марозава?"*

Менавіта мой айчым адказны за тое, што я выехала зь Беларусі Як толькі расчынілася крыху мяжа, ён пачаў мяне штурхаць. Казаў пра бандыцкую сістэму, што ў мяне нарадзілася дачка, якую трэба ўратаваць. Камінскі казаў: *"Калі мне было 17 гадоў, я зразумеў, што гэта такое. Я пайшоў праз мяжу. Мяне вярнулі, але не забілі. Не хачу, каб Лізка тут расла. Рабі, што хочаш, але зьяжджай"*. Я тады скончыла інстытут і працавала ў школе.

Але была яшчэ адна цудоўная рэч. Калі мне было 16 гадоў, я запісалася яўрэйкай, нягледзячы на тое што Камінскі настойваў, каб карысталася ягонай нацыянальнасьцю. Пасьля таго як скончыла інстытут, я хацела працаваць на тэлебачаньні музычным рэдактарам. Пайшла, здала экзамен (напісала праграму пра салістаў Опернага). Начальнік аддзелу кадраў думаў, што я Камінская, але паглядзеў на маю пятую графу й зваваніў да бацькі. Кажа: *"Добрая дзяўчынка й працавітая, бачу, што будзе працаваць. Але ж я думаў, што яна Вашая"*. Бацька кажа: *"Яна мая"*. Ён: *"Не, я думаў, што яна нашая"*. Камінскі кажа: *"Яна нашая"*. Той: *"Але ж вы ведаеце, пра што я"*. — *"Ведаю. Але гэта яе выбар"*. І той начальнік кажа: *"Мо Вы ёй растлумачыце, што гэты выбар яе пакіне бяз працы"*.

Потым Камінскі мне й сказаў: *"Як толькі народзіш, я ўсе сродкі ўкладу, што ёсьць, каб ты адсюль зьехала"*. У першыя роды ў мяне памёр хлопчык. Думаю, што гэтая гісторыя з тэлебачэньнем "дапамагла".

А потым, калі другое дзіця нарадзілася, тады якраз магчыма было паехаць. І мы сабраліся й паехалі.

Лізе было каля чатырох гадоў, бацькі нас выправілі. У той час трэба было плаціць зашмат, а дазвалялі правезьці толькі 250 даляраў на сям'ю. Мы былі маладыя спэцыялісты, у нас саміх амаль нічога не было, акрамя шасьці валізак. Чатыры зь іх паехалі морам, там былі большай часткай кнігі, а калі дабраліся да нас, усё было папсаванае, трэба было выжучыць.

Як гэта адбывалася? Трэба было мець выклік, які давалі яўрэйскія арганізацыі ў той час. Нібыта нейкая цёця ў Ізраілі ня можа жыць бяз нас. Потым трэба было ісьці ў натарыяльную кантору й гэтае пісьмо несьці. Яно было фальшыўкаю, бо ў нас не было нікога. У пісьме было напісана, быццам цёця, яўрэйка, была ў Заходняй Беларусі, адкуль пасьля вайны паехала ў Ізраіль. Потым трэба было зьбіраць свае дакумэнты, ехаць у Маскву (тады галяндзкая амбасада займалася гэтым усім як пасярэдніца).

Быў 1978 г. Выехалі мы ў лютым праз Польшчу, Чэхію, Вену. У Вене былі месяц, тут быў выбар: некалькі арганізацыяў, якія намі займаліся: каталіцкая, праваслаўная й яўрэйская. Нас ўгаворвалі паехаць у Ізраіль. І я хацела, бо думала, калі з радзімы зьяжджаеш, дык трэба зрабіць усё парадачна. Але муж вельмі не хацеў. Сястра была ўжо ў Канадзе тады, і ён маўляў, *"сястру ніколі ня ўбачыш."* Былі мы маладыя, а маладых браць усе хацелі. Штаты хацелі, Канада — хоць і ня так лёгка, Аўстралія. Чамусьці ў Вене нам сказалі, што мы можам паехаць у Францыю. Не каб застацца, а каб пражыць паўгады перад тым, як зьехаць у краіну выбару. Ня ведаю чаму, але яны нас выбралі. І я спыталася сяброўку, якая выйшла замуж за француза. Яна вельмі хацела, каб мы ў Францыю пераехалі. Але мая сястра не магла пераехаць у Францыю, таму мы паехалі ў Канаду.

У Канадзе трапілі ў Атаву. Нам далі выбар гарадоў: Манрэаль тады ня браў, былі праблемы свае… Мне квэбэкскі консул у Рыме не спадабаўся, хамуга. Мы прыйшлі на прыём да яго, а ён кажа: *"Чаму вы хочаце ў Квэбэк?"*. Мой муж, Пецька, адказвае: *"Сястра ў нас там"*. — *"У Вас?"* — *"Не, у жонкі"*. І той пачаў зьдзекавацца: *"Якая ў Вас прафэсія?"* — *"Архітэктар"*. — *"Мы зараз не будуемся. А ў Вас?"* — *"Выкладчыца расейскай мовы"*. — *"І дзе Вы будзеце працаваць?"* А я ўжо закусіла ўдзіла й кажу: *"Дакладна ня ў Квэбэку"*. Паднялася й пайшла, і дзьвярыма ляпнула. Ён трошку сумяўся, скіраваў за мною жанчыну, перакладчыцу, каб сказала, што ён вельмі просіць вярнуцца. Я адказваю: *"Не. І ў Канаду мы не паедзем"*. Яна кажа: *"Чаму?"* А я: *"Я ехала з роднай краіны таму, што там пачаліся расісцкія, шавіністычныя рэчы. І што? Я ехала адтуль, каб глядзець на такую морду, як ваш консул?"* Ён выйшаў, папрасіў прабачэньня, сказаў, што нас правядзе да галоўнага, генэральнага канадыйскага консулу, які быў асобна.

Я там чырвоная, злая, кажу: *“Вяртайце нам нашыя паперы, я не паеду ў Канаду”*. А консул адказвае: *“Квэбэк — гэта ня ўся Канада. У Вас там сястра. Выбірайце горад, і вы туды паедзеце”*. Я кажу: *“Які найбліжэйшы да Манрэалю?” — “Атава”*. Але, як кажуць, ня рой нікому яму… Празь некалькі гадоў іду на працу ў Міністэрства замежных спраў Канады, дзе мела кантракт, а гэты красавец [квэбэкскі консул] адтуль выходзіць і кажа: *“Што ты тут робіш?”* Я ў адказ: *“Ня ведаю, што ты тут робіш, а я тут працую”*…

Прыехалі бязмозглыя, нічога ня ведаючы. І так большасьць. Бяз мовы. І пачалося: сястра Стэла прыехала адразу, сказала, што яшчэ працуе ў балетных школках, але: *“Дай мне яшчэ паўгады й буду працаваць у найлепшай балетнай кампаніі Канады”*. Не прайшло й паўгады…

Адправілі нас ў школу мову вучыць. Усе эмігранты там былі. Я разумела, што мову мне дасьць практыка, таму хацела працаваць. Спачатку дзе прыйдзецца: у краме, прыбірала за людзьмі. Нас прымаў урад Канады, бо маладыя былі. І быў там адзін чалавек, франкаканадзец, я прайшла да яго на наступны дзень і сказала: *“Скіруй мяне мыць посуд* (чамусьці я падумала, што гэта ён вырашае), *ці куды заўгодна, але так, каб я магла з людзьмі гаварыць”*. А ён мне кажа: *“Ня будзь ідыёткай, у цябе ёсьць дыплём. Мыць посуд — гэта мая праца цябе паслаць, але я ня хочу гэтага рабіць зь людзьмі, якія маюць адукацыю. Ідзі ва ўнівэрсытэт і размаўляй зь імі”*. І я пайшла. І на другі год я была ўжо ва ўнівэрсытэце. Спачатку яны ўзялі мяне на выпрабавальны год: гэта калі ты вучышся, але яшчэ не ў праграме. Потым патрэбныя былі выкладчыкі расейскай мовы ў Міністэрстве замежных спраў. І я туды пайшла, там былі добрыя заробкі. Адпрацавала там выкладчыцай 10 гадоў. Толькі адну школку балетную сабе пакінула, бо гэта быў своеасаблівы абмен: дачка туды хадзіла й мне ня трэба было грошы плаціць. А яны мне не плацілі.

Потым прыехалі родныя: маці з бацькам выпусьцілі. Бацька мне даў слова, што, калі будзе жывы, прыедзе. Ён Лізку вельмі любіў. І прыехаў. Камінскі быў адзіны старшыня Саюзу кампазітараў у Савецкім Саюзе, які ня меў партбілету. Калі ён быў малады, нам Брэжнеў званіў у хату і пытаўся, чаму бацька ня ў партыі. Ён мне падміргваў і адказваў: *“Леанід Ільліч, я яшчэ не адчуваю, што здольны”*. Калі бацька стаў стары, Брэжнеў зноў званіў і пытаўся, а той адказваў: *“Стары я, хворы й для партыі нічога зрабіць не магу”*. Але гэта, здаецца, адзіны выпадак у савецкай гісторыі, што чалавек стаяў на чале такой арганізацыі беспартыйны.

Бацькі прыехалі сюды й засталіся. Адзінае, што Канада — ня надта добрая краіна была для людзей сталага ўзросту, ім нічога не давалася. Але маці ў мяне вельмі прабіўная была, пайшла працаваць нянькай. Бацька — не. Ні адзін, ні другі не былі прабіўнымі. Праз два гады я купіла ім інструмэнт, і мама пачала выкладаць.

Калі яны прыехалі, мы жылі ў Атаве. Але ні ў мяне, ні ў майго мужа нічога не было. Я была студэнткай, і ў мяне было дзевяць працаў: тут гадзіна, там дзьве гадзіны… Пецька таксама цяжка працаваў. Ён скончыў архітэктурны факультэт у Беларусі, але каб атрымаць тут працу, трэба было тут і вучыцца. Да таго ж гэта вельмі мафіёзная прафэсія, як і вэтэрынар, як мэдык. Усе ведаюць, што калі добра скончыш, дык будзеш мець добрае жыцьцё. Пецька вельмі здольны мастак, больш мастак, чым інжынэр. А ў архітэктуры павінен быць больш інжынэрам. Пайшоў на архітэктурны, таму што маці настойвала, што трэба мець прафэсію. А ён больш мастак. Тут, у Канадзе, працаваў на архітэктурныя фірмы. Не адразу. Спачатку ён спрабаваў працаваць па "дыплёму". Але архітэктарам яго ніхто ня браў, бо не было тутэйшай адукацыі. Працаваў як чарцёжнік, але гэта ён ненавідзеў. А потым знайшоў вельмі добрую нішу — рабіў малюнкі новых дамоў. Шмат гадоў гэта карміла добра нас, а потым яго аднаго, калі ён застаўся ў Атаве. Гэта былі малюнкі дамоў у пэрспэктыве. Зараз кампутары гэта робяць лепей, чым чарцёжнік ці мастак. А ў яго было гэта вельмі добра пайшло ў той час. І праз пяць гадоў мы пачалі падымацца.

Сюды ў Ватэрлу я пераехала ў 1990 годзе. Быў конкурс ва ўнівэрсытэт, і я яго выйграла. А дагэтуль я працавала ў Атаўскім унівэрсытэце. Мне давалі курсы. Я працавала выкладчыкам. Але з гэтага жыць было немагчыма. У той жа час міністэрства давала мне добры заробак. Я выхавала некалькі амбасадараў і некалькі пакаленьняў канадыйскіх дыпляматаў. Але ўвесь час цягнула ва ўнівэрсытэт. І праз дзесяць гадоў быў конкурс і дзьве пазыцыі. Я выйграла абедзьве: адну ў Ванкувэры, а другую тут, у Ватэрлу. Выбрала Ватэрлу, таму што бацька памёр і маці хварэла на рак. Ванкувэр — як іншая краіна. Тут я вельмі задаволеная была працай.

У першым годзе ўнівэрсытэту, яшчэ ў Атаве, выкладаў у нас украінец, вельмі падобны да майго бацькі. Папрасіў, каб я прачытала тэкст па-старабеларуску й кажа: *"Вы добра чытаеце"*. Я адказваю: *"Не"*. А ён: *"Тут ёсьць беларусы. Ці Вы ведаеце?"* Я кажу: *"Не"*. — *"Сябры мае. Ці хочаце ім зазваніць?"* Я саромелася званіць сама. Кажа: *"Дайце свой тэлефон, мо яны Вам зазвоняць. Яны заўсёды шукаюць сваіх"*. І я дала. І ў той жа вечар зазваніў тэлефон і загучаў мэлядычны жаночы голас. Гэта была Івонка Сурвілла. І яна сказала: *"Можа, Вы прыйдзеце на вячэру да нас у суботу?"* І я нібыта трапіла ў сям'ю. І гэта ў 1980 годзе недзе было.

Натальля Гардзіенка: *І як Вам падалася старая беларуская эміграцыя?*

З. Г.: Я ў той час добра ведала расейкую эміграцыю. Тады расейская паваенная эміграцыя была ў такім веку, у якім зараз я. З аднаго боку, яны думалі, што прыехалі бальшавікі. Зь іншага боку, нашая расейская мова іх даводзіла да белага каленьня. *"Как поживаете?"* — *"Нормально"*.

Замест *“Вашымі малітвамі”* й г. д. Але яны, як гідлівыя коткі, усё ж свая мова, цягнуліся да нас, вось мы і сышліся спачатку з гэтай эміграцыяй. Сярод іх шмат годных людзей было. Але розьніца была з тым, якія былі Сурвіллы, Рагуля, амэрыканскія беларусы. Нам спачатку вельмі дапамагалі наладзіць нейкую навуковую беларускасьць тут Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель. Потым Мікола Ганько, мы зь ім сышліся па працы. Марыю Ганько люблю. З Раісай Жук-Грышкевіч пазнаёмілася й пасябравала. З расейцамі заўсёды былі добрыя адносіны, шчырыя, але як бы ня родныя. Зь беларусамі было больш па-сямейнаму.

Н. Г.: *А як ставіліся да таго, што Вы размаўлялі па-расейску?*

З. Г.: Ды нічога. Я з часам пачала размаўляць па-беларуску. Было два фактары, чаму я пачала размаўляць па-беларуску. Першы, безумоўна, Сурвіллы. Янка заўсёды мяне называў *“мая маскалечка”* й *“матылёк”*. Янка быў цудоўным чалавекам. Я заўсёды да яго ставілася як да старэйшага брата. Да сваіх дзяўчынак Сурвіллы ставіліся, як да анёлкаў. Ну й да мяне таксама. Да Івонкі Янка быў у апошнія гады надта крытычны, але гэта, мяркую, таму што хварэў. Таго, што яна дасягнула, ня кожны мог. Як я ў акадэмічным пляне, дык яна ва ўрадзе дасягнула вялікай пазіцыі, гэта само не прыходзіць.

Але быў і другі фактар. Да мяне ў акадэмічных колах у Канадзе быў толькі адзін чалавек, які размаўляў па-беларуску, — прафэсар Янка Садоўскі. Гэта быў маленькі астравок. Ён памёр пасьля аднаго з кангрэсаў, якія ў нас штогод праводзіліся й дзе яго досталі, бо ён быў адзін. Кажуць (я яго ня ведала), што яму цяжка было стрымлівацца. І пасьля аднаго з дакладаў на яго накінуліся ўкраінцы, а асабліва расейцы… А гэта быў сапраўды важны акадэмічны голас, бо гэта быў унівэрсытэт. А ўнівэрсытэт — гэта тое, што прызнаецца тут…

Дык вось пра другі фактар. Калі адбылася Чарнобыльская аварыя, я яшчэ працавала ў Міністэрстве замежных спраў, і часткай маёй працы было чытаць савецкія газэты. І тут я гляджу, што нешта ня тое. Я была, можна сказаць, адным зь першых людзей на Захадзе, хто зразумеў, што нешта адбываецца. “Праўда” ня тое гаворыць, што “Ізвестія” й г. д. Яны яшчэ нават не абвясьцілі афіцыйна… А потым палілося. І я рыхтавала агляд на тэму Чарнобылю ў Беларусі. Тады ж украінцы ўзялі гэта ўсё на сябе. А гэта ж нашая трэцяя нацыя ў Канадзе. Здаецца, у Вікторыі тады быў кангрэс. Фэдэрацыя, што аб’ядноўвае сацыяльныя навукі, мае цэнтар у Атаве, але кожны год які-небудзь унівэрсытэт зьяўляецца гаспадаром кангрэсу Фэдэрацыі. Канадыйская асацыяцыя славістаў — таксама частка гэтай Фэдэрацыі. Усяго 76 навуковых арганізацый туды ўваходзяць. Кожная арганізацыя раз на год зьбіраецца на тэрыторыі гэтага гаспадара-ўнівэрсытэту й праводзіць канфэрэнцыі 3—4 дні. Гэта матэматыкі, юрысты, эканамісты, славісты, лінгвісты й г. д. Мы называемся Канадыйская асацыяцыя славістаў. Спачатку я пачала езьдзіць на кангрэсы са сваімі расейскімі тэмамі: Булгакаў, Пастар-

нак. Калегі падыходзілі да мяне й са спачуваньнем казалі: *“Ой, вы ж зь Беларусі, у вас жа расейская культура, вы ж нашыя... На жаль, няма беларускай культуры, і мовы няма”*. І я раззлавалася на сябе й пачала вывучаць беларускую мову й літаратуру. І гэта быў другі фактар, акрамя Сурвіллаў.

Ад канца 1980-х мы пачалі езьдзіць на кангрэсы. Спачатку былі тры даклады: мой пра Чарнобыль, Івончын пра беларускае мастацтва й Паўлінчын (Івончынай дачкі) пра музыказнаўства. Потым мы сталі прасіць Кіпеля, Запрудніка, Бэрда, Русак і іншых сяброў з амэрыканскага БІНіМу, каб падтрымлівалі нас. Тады мы ўжо рабілі дзьве ці тры сэкцыі (9 дакладаў). І вельмі хутка мае калегі зразумелі ўсё...

Зь першага дакладу што пачалося? Прываліла шмат украінцаў пагаўкаць на мяне на чале з Дэвідам Марплзам, які тады да іх далучыўся. Яны спачатку вельмі нэгатыўна ўспрымалі ўсё. Ну як жа, Чарнобыль — гэта ж толькі ўкраінская праблема! І Дэвід са сваёй выдатнай брытанскай мовай на мяне наваліўся. Тады я кажу: *“Магчыма, Вы маеце рацыю, але вось Вам мой даклад. У мяне тут толькі факты. Калі ў Вас ёсьць ці будуць іншыя, тады й пагаворым”*. І Дэвід прачытаў, зразумеў, ён жа навуковец. З той пары ён робіць добра ўкраінскія справы, але й беларускія ў яго добра ідуць. Дэвід Марплз напісаў пару цудоўных кніг, дзе паставіў Беларусь на мапу сьвету. І зараз ён працуе таксама.

У выніку нас, як казала, пачалі паважаць, хадзіць да нас сталі шмат. Потым мы пачалі езьдзіць і ў Амэрыку, Эўропу на навуковыя кангрэсы, нават запрашалі ў Гарвард, Сарбону, Оксфорд, Кэмбрыдж, Нотынгам і іншыя ўнівэрсытэты. Я некаторы час была на пасадзе прэзыдэнта Канадыйскай асацыяцыі славістаў. Калі абралі, не хацела згаджацца, але Івонка вымусіла, напомніла пра Садоўскага. Зрабілі мы шмат. І беларуская акадэмічная прысутнасьць у Канадзе і ў Амэрыцы, яна хоць і не такая, як расейская, але наш голас чуецца...

Н. Г.: *А што такое БІНіМ у Канадзе?*

З. Г.: БІНіМ у Канадзе? Зараз ён сядзіць перад табою. БІНіМ у Канадзе пачаўся дзякуючы мужу Раісы, Вінцэнту Жук-Грышкевічу. Ён быў добры беларусавед і цудоўны навуковец, які тут не прагучаў. Не таму, што благі, а таму, што такія ўмовы былі, што патрэбна было дакладаць па-ангельску, а гэтая мова была ў яго слабая. Канадыйскі БІНіМ — гэта спачатку была (да Жук-Грышкевіча) толькі сэкцыя амэрыканскага БІНіМу. Добрыя людзі былі прэзыдэнтамі. Але што гэта на самай справе? Сябры павінны здаваць грошы, але ніхто ніколі не здае. Прэзыдэнт, калі што трэба, вымае з сваёй кішэні, і на гэтым справа зробленая. БІНіМ павінен аб’яднаць людзей з адукацыяй, якія маюць навуковую ці мастацкую арыентацыю. Каб маглі ўдзельнічаць у канфэрэнцыях. Гэта такая сьцежка, каб далучыцца да акадэмічнага жыцьця.

Н. Г.: *А калі Вы сталі займацца БІНіМам?*

З. Г.: Я стала старшынёю пасля таго, як Івонку абралі старшынёй Рады БНР. БІНІМ павінен весьціся чалавекам, які мае працу й працу непалітычную. Калі яна стала старшынёй Рады (а там, наколькі ведаю, усё наадварот: прэзыдэнт павінен не залежаць ад працы), дык ня мела права кіраваць у БІНіМе. Тым ня менш яна ніколі не кінула БІНіМ, мы вялі працу разам, незалежна ад таго, хто як называўся. Галоўнае — людзі павінны чуць аб беларускай навуцы і справах у ангельскай мове.

Калі прыехалі новыя людзі, Віялета Кавалёва, Валя Шаўчэнка й іншыя, у канцы 1990-х, яны рэпрэзэнтавалі беларускую культуру на вельмі добрым узроўні. Напрыклад, у 2009 годзе на навуковым кангрэсе ў Атаве нашыя людзі далі цудоўны канцэрт больш за паўтары гадзіны. Віялета Кавалёва арганізавала фальклёрную групу, яны зрабілі неверагодна добрае прадстаўленьне. Валя Шаўчэнка й Сьвятлана Літвінава сьпявалі народныя й папулярныя песьні. Улада Шамецька й Міхась Рыкаў гралі клясычную музыку. Мы таксама арганізавалі выставу славянскіх мастакоў, дзе большая частка абразоў была прадстаўлена нашымі мастакамі зь Беларусі. І яшчэ беларускія пісьменьнікі й паэты паказалі свае кнігі на асобнай сэсіі.

Н. Г.: *А колькі цяпер сябраў у Канадыйскім БІНіМе?*

З. Г.: Па сьпісе 30. Але БІНіМ — хутчэй, назва ці шыльда, якая дапамагае нешта арганізаваць, нешта зрабіць тым, хто ня мае ўнівэрсытэцкай пазыцыі. Называць гэта навуковай арганізацыяй ці інстытутам у сапраўдным сэнсе складана. Гэта шыльда.

Н. Г.: *Ці Чарнобыль быў першай тэмай, зь якой Вы пачалі займацца беларускімі дасьледаваньнямі?*

З. Г.: Не зусім. Раней мяне зацікавіў Караткевіч. Вітаўт Кіпель папрасіў напісаць артыкул па-ангельску.

Н. Г.: *Наогул, наколькі запатрабаваная беларуская тэматыка ў Канадзе?*

З. Г.: Калі казаць шчыра, то славістыка зусім не патрэбная тут. І магчыма, калі я пайду на эмэрытуру, у гэтым унівэрсытэце яна сыдзе на нуль. Для ўнівэрсытэту вельмі важна, калі ёсьць у пэўнай галіне поўны прафэсар. Унівэрсытэт і ацэньваюць па колькасьці поўных прафэсароў. Бо гэта значыць, што восем спэцыялістаў міжнароднага ўзроўню, вяршыняў у прафэсіі, прызналі, што й ты спэцыяліст высокага ўзроўню, адпавядаеш таму, што гэта званьне табе дае. У нас і ў нямецкім аддзеле таксама зараз толькі адзін поўны прафэсар, і ён таксама неўзабаве сыдзе...

Мовы, літаратура й культура цяпер грошай ня маюць. Зусім іншыя галіны прыносяць унівэрсытэту грошы, дык навошта яму гэтае?

Н. Г.: *А Вы строгі прафэсар?*

З. Г.: Я прымушаю студэнтаў працаваць, як чэрці ў пекле. Яны ў мяне працуюць, але гэта ўсё з усьмешкаю. Я ім кажу, што дрэнных студэнтаў у мяне няма, ніколі не было і ніколі ня будзе. І сапраўды,

і бакалаўры, і асьпіранты, даводзяць справу да канца: усе атрымоўваюць дыплёмы.

Адносіны тут паміж студэнтамі й выкладчыкамі вельмі розныя. У кожнага ўнівэрсытэту свая культура. У Ватэрлу для нас вельмі дарагі першы год студэнтаў. І мы зь імі возімся, як ў дзіцячым садку. Такая культура гэтага ўнівэрсытэту, і за гэта я яго люблю.

У Атаўскім унівэрсытэце было цяжэй. Па-першае, розныя мэтады. Тады я толькі вучылася тут выкладаць. Але й студэнт быў іншы. У Атаўскім першае, што я навучылася, гэта знайсьці хоць адну пару вачэй, каб яны за табою ішлі. Астатнія з часам далучаліся. А ў Ватэрлу цяжка знайсьці пару вачэй, якія за табою ня сочаць.

Н. Г.: *Вы кантактуеце з калегамі зь Беларусі. Як можна параўнаць акадэмічную сытуацыю ў Канадзе і ў Беларусі?*

З. Г.: Пару маіх сяброўак з інстытуцкай групы засталіся ў Беларусі й выкладаюць. Адна зь іх цудоўны чалавек і спэцыяліст, добра вядомая ў сьвеце таксама. Гадоў пяць таму я яе прывезла сюды на два тыдні. Надаўжэй не магла, бо яна працуе шмат, як і я. Але ж я й атрымліваю адпаведна. Матэрыяльна не магу нас параўнаць зусім, гэта як розныя плянэты. І гэта пры аднолькавай працы. Я прывозіла таксама некалькі спэцыялістаў на свае гранты, аднойчы ўдалося прывезьці Вінцука Вячорку, які зрабіў даклад на Сусьветным кангрэсе ў Таронта, а ў Ватэрлу — цудоўную лекцыю, усе захапляліся ім.

Акрамя таго, я магу больш публікавацца ў акадэмічнай прэсе, у нас лепшыя ўмовы. Не скажу, што гэта лягчэй, наадварот. Кожны артыкул і кніга праходзяць праз тры тайныя рэцэнзіі. Пасьля гэтага шмат трэба перарабляць, і калі другі раз два з трох рэцэнзэнтаў выкажуцца супраць публікацыі, яе ня будзе. Але, зь іншага боку, хутка ў мяне будзе ўсё лета, каб працаваць над новай манаграфіяй. Гэта будзе ў ангельскай мове мая апошняя акадэмічная праца — вобраз іудзея ў беларускай літаратуры. У расейцаў, якія жылі са сваімі яўрэямі толькі 280 гадоў, ёсьць на гэты конт каля 10 манаграфіяў. У палякаў, якія жылі крыху менш, нават тры часопісы ёсьць штомесячныя, і яны яшчэ ўсё вырашаюць праблемы са сваімі яўрэямі. У беларусаў, якія жылі побач зь яўрэямі 700 гадоў, нічога няма. Я толькі закранула гэты пласт... Гэта будзе мой апошні падарунак радзіме.

Першага верасьня 2012 году я выходжу на эмэрытуру. Зараз мне далі акадэмічны адпачынак зь 1 верасня 2011 году, каб я напісала гэтую кнігу. Гэта таксама розьніца зь Беларусьсю, праўда? Нядрэнныя ўмовы. Яшчэ й заробак будуць плаціць. Пэнсія ў мяне будзе складаць чацьвертую частку таго, што я зараз атрымліваю. То, калі Бог дасьць жыцьця й здароўя, усё будзе цудоўна. Яшчэ й кніжку напішу.

А потым хачу пісаць сама, мастацкае. Ня ведаю, ці атрымаецца, але ўсё жыцьцё хацела. Хачу напісаць на падставе жыцьця маці, бацькі, другога бацькі. Калі атрымаецца... Я вельмі люблю гумар, то можа

змагу напісаць штосьці ў гэтым жанры… Магчыма, вярнуся й да музыкі. Купілі інструмэнт цудоўны. У мяне ніколі не было прыроднай тэхнікі, але музыкальнасьць ад маці перайшла. Быў такі выпадак. Маці думала заўсёды, што я поўны нуль у музычнай справе. А я ж тут, у Канадзе, грала ў балетнай студыі. Аднойчы маці прыйшла й чакала мяне ў калідоры, каб потым дахаты пайсьці разам. Калі я выйшла, яна мне кажа: *“Зіна, ты ведаеш, што ў вас тут прыстойны музыка працуе!”* Я кажу: *“Мама, гэта я грала”. — “Хлусіш. Ноты ў цябе з сабой?” — “Так”. — “То прыйдзеш дахаты і ўсё гэта мне прайграеш”.* І я раззлавалася (я тады яшчэ ўмела злавацца пра сябе). Пайшла й сыграла ёй. Маці папрасіла прабачэння й кажа: *“Як гэта я не разглядзела? Зь цябе ж магло нешта выйсьці. Не як Стэла, але нешта й магло. Як ты мяне так падманула? Я ж на цябе рукой махнула!..”* Але ў тэхнічным пляне, думаю, я б ніколі ня вырасла.

Н. Г.: *Раскажыце, калі ласка, пра свой удзел у Чарнобыльскім фондзе?*

З. Г.: Пасьля таго дакладу, пра які я расказвала, Івонцы ў галаву прыйшла ідэя. І мы сабраліся: уладыка Мікалай быў жывы, Янка Сурвілла прысутнічаў, Раіса прыехала. Сабралі зборку й вырашылі, што трэба паспрабаваць стварыць фонд. Потым нашыя зьніклі, і засталіся мы з Івонкаю. У яе была сяброўка Паўліна Пашкевіч-Сьміт, здольная жанчына, беларускага паходжаньня, але па-беларуску не размаўляла, толькі па-ангельску або па-француску. Так і пачалося: Паўліна (Пола) Пашкевіч-Сьміт была сакратаром, Івонка — галавой, а я пры ёй. Спачатку я была віцэ-прэзыдэнтам і скарбнікам. Статут нам зрабіў адвакат. У Івонкі ў той час яшчэ быў трошкі наіўны погляд на нашых людзей, што ўсе залатыя, шчырыя. Адна была памылка ў старой эміграцыі: як нехта нешта цяўкне па-беларуску, то яго адразу прымалі як шчырага беларуса. Тое адзінае, што я зрабіла тады для статуту фонду, гэта запатрабавала запісаць, што наяўных грошай у Беларусь ні капейкі не пойдзе. Квіткі для дзяцей аплочвалі мы, страхоўку — мы, аўтобусы, каб везьці дзяцей, — мы, візы — мы. Каб ніхто ня бачыў там грошай і ня меў спакусы. І гэта адзінае, чым я ганаруся. Усё астатняе зрабіла Івонка.

Я амаль кожны год езьдзіла ў справах фонду ў Беларусь. А там жа нічога яшчэ не было, іншы сьвет быў. Аднаго разу я прывезла ў Менск у фонд тамтэйшы вітаміны, лекі… Падыхожу, а там сядзіць жанчына ў прыёмнай. Кажу: *“Добры дзень, я з Канады прыехала, прывезла вам лекі й вітаміны, тры скрыні”.* Гэта ўвесь мой багаж быў, для сябе нічога не магла ўзяць, бо везла гэта. А жанчына мне адказвае: *“Вось там у кут пастаўце”.* Я кажу: *“Не, я хачу бачыць Грушавога”.* А яна: *“Жанчына! Ён прэзыдэнт усяго фонду! Ён ня можа сустракацца з усімі!”* Я адказваю: *“А я віцэ-прэзыдэнт Канадыйскага фонду. І вы жывяце тут на грошы, якія для вас мы зьбіраем. Вось мой адрас і мой тэлефон. Там я буду праз 20 хвілінаў. І калі ня будзе ад вашага*

*Грушавога званку, мы з вамі адносіны скончым зараз, не праз 20 хвілінаў, а зараз”*. Яна ажно пазелянела. А я кажу: *“І лекі гэтыя я вам ня дам. Я разьбяруся, каму яны патрэбныя, і тыя людзі іх атрымаюць. Бо калі я тут у вас пакіну, то на прылаўках у вашых шапіках гэта неўзабаве будзе. А я ня з тым усё везла, ня з тым добрыя людзі ў Канадзе гэта зьбіралі”*. Праз 20 хвілінаў Грушавы мне зазваніў і прыехаў, мы пагаварылі вельмі добра. Ён інтэлігентны чалавек і зразумеў, што лекі ад мяне не атрымае. Я пайшла да міністра аховы здароўя й спытала, каму гэтыя лекі й вітаміны патрэбныя, але каб перадаць рукі ў рукі, каб дзеці й бацькі былі. І ён мне даў сьпіс тых дзетак, у якіх з крывёю былі праблемы. Яны прыйшлі, атрымалі лекі. Усё было выдатна. І кожны раз, калі я ў Беларусь езьдзіла, брала машыну на свае сродкі. Кожны год нехта з нашых езьдзіў. І ўмова была такая, калі мы адаслалі абсталяваньне, яно там павінна быць. Калі кампутары — яны павінны стаяць там, куды іх перадалі. Я хацела бачыць, што дзеці працуюць на гэтым кампутары. І гэта адзіная мая заслуга. Усё астатняе — Івонка.

Н. Г.: *Гэта значыць, што прыняцьцем дзяцей на адпачынак у Канадзе займалася спадарыня Івонка Сурвілла?*

З. Г.: У нас хутка шмат памочнікаў знайшлося сярод канадыйцаў. Людзі прасілі дзяцей у сем’і. Гэта была справа, адпрацаваная вельмі-вельмі добра. З намі зьвязваліся толькі кіраўнікі групаў, таму што немагчыма было з усімі кантактаваць. Праз тры-пяць гадоў пайшло па ўсёй Канадзе. Была кіраўніца, скажам, пяці-шасьці групаў. Мы былі кантактам. Калі Івонкі не было ў краіне, гэтым займалася я. Калі мяне не было, то Івонка. Канадыйцы на месцах вельмі дапамагалі нам, шчыра рабілі бяз грошай усё. Знайшліся тыя, што шукалі дантыстаў для нашых дзяцей, бо ўсе з чорнымі зубамі прыяжджалі... Гэта была праца не ад дзявятай да пятай. Неяк і ўначы званілі мне з Брытанскай Калюмбіі, калі ў іх былі праблемы. Людзі такія шчырыя. Я закахалася ў канадыйцаў на ўсё жыцьцё. А беларусы ад нас хуценька разышліся, мы засталіся ўдвох.

Н. Г.: *А чаму так атрымалася?*

З. Г.: Ну, маральна нас падтрымоўвалі. Але, відаць, шмат было іншай працы, на ўсё трэба час. Напэўна, нам давяралі, верылі, што справімся...

Н. Г.: *А як доўга Вы займаліся гэтым фондам? Пакуль там была спадарыня Івонка ці й пазьней?*

З. Г.: Пазьней таксама. Яны хацелі, каб я была прэзыдэнтам. Я вельмі не люблю пасады. Калі трэба на нейкі тэрмін, заступлю, але... Некаторым людзям пасада вельмі патрэбная, а мяне гэта ўсё раздражняе. Я была ў фондзе як віцэ-прэзыдэнт да апошняга, пакуль мы яго не зачынілі.

Н. Г.: *А калі зачынілі?*

<u>З. Г.:</u> Афіцыйна зачынілі толькі ў 2005-м, бо ўрад беларускі паспрабаваў усунуць свой нос у наш статут. Быў сход і мая пазыцыя была такая, ніякаму шантажу мы не паддаемся… Наогул, нібыта дробная такая рэч: яны казалі, што мы ня маем права аддаваць дзяцей у аднаполавую сям'ю. Я ж таксама ня ўчора нарадзілася, ведаю, адкуль я. Нашыя людзі баяцца й чорнага колеру скуры, і такія рэчы для іх таксама страшна. Таму мы ніколі й не аддавалі дзяцей у гэткія сем'і. Але мы жывем паводле канадыйскіх законаў, і для нас запісаць такую рэч у свой статут — гэта зачыніцца з ганьбаю. Мы ніколі не далі б дзіця ў такую сям'ю, і не таму, што я ім не давяраю. Я ім больш давяраю, чым тым, якія п'юць пад сталом. Але таму, што ёсьць вялікая культурная розьніца. Але каб нехта нам дыктаваў, што рабіць, ці шантажаваў — не. Таму афіцыйна мы чатыры гады таму спынілі працу.

Але нічога ніколі не спыняецца зусім. У Лёндане [Антарыё] яны працягваюць працаваць як наш філіял, але ранейшае агульнаканадыйскае дзейнасьці ўжо няма. Англія зрабіла, як мы. Каталіцкая Ірляндыя не зрабіла, як мы, таму што ў іх усё і так зразумела. І ў Італіі застаўся афіцыйны фонд. Але сярод усіх фондаў мы былі ня толькі аднымі зь першых, але й зрабілі найболыш. Рабілі не каб выстаўляцца. Прэзыдэнтам фонду пасьля Івонкі быць я не хацела. Гэта ейнае месца было й засталося. Потым шмат людзей хацелі, але ня справіліся. Гэта ж не назоў, гэта праца без аплаты ды з раніцы да раніцы.

<u>Н. Г.:</u> *Але цяпер гэтага фонду ўжо няма й ніхто гэтай справай у Канадзе не займаецца, так?*

<u>З. Г.:</u> Займаюцца, тут у раёне ёсьць філіял. Я ім кірую. Гадоў 10 таму ў нас філіялы былі па ўсёй Канадзе. Потым нават быў адмысловы чалавек, які кіраваў імі. Але нам было вельмі цяжка плаціць. У нас памешканьне было, але мы яго здалі. І пасьля стала больш выгадна, каб філіялы кіраваліся самі. І некаторыя засталіся да сёньня, маленькія, але засталіся: у Альбэрце ёсьць, у Брытанскай Калюмбіі, тут, у Антарыё, ёсьць некалькі: самы вялікі ў Лёндане, у Таронта маленькі.

Людзі так па-добраму да гэтай справы ставіліся, казалі, што яны сэнс у жыцьці атрымалі праз дапамогу дзецям. А часам дзяцей сустракаеш на лётнішчы: *"На якой мове ты хочаш, каб я з табой размаўляла, — па-беларуску ці па-расейску?" — "Па-руску, цёцечка"…* Прыяжджалі (няшмат, але былі) і дзеці намэнклятуры. Казалі, маўляў, хочам вось гэтыя джынсы, гэтую ежу, таму што наш прэзыдэнт вам заплаціў… *"Дзякуючы каму вы тут, дзеткі?" — "Дзякуючы бацьку".* Але сьвежае паветра, добрая ежа, добрыя дантысты, лекары, і праз шэсьць ці трынаццаць тыдняў (розныя ў нас былі праграмы) дыпляматыя свабоды спрацоўвала, і гэта былі ўжо іншыя дзеці, калі ад'яжджалі. Ідэя ж адна, дабрачыннасьць. Людзі ставіліся да іх, як да сваіх, і нават лепей.

<u>Н. Г.:</u> *Вы засьпелі ў Канадзе старую беларускую эміграцыю, а цяпер прыехала новая. Якая розьніца паміж імі?*

З. Г. У першую чаргу колькасьць. Тых, хто працаваў на Беларусь, было няшмат. Таму кожны ведаў, што працуе таму, што павінен паводле сумленьня, бо радзіма засталася там і яна няшчасная. Неяк больш ідэйныя былі. Савецкіх эмігрантаў майго часу зь Беларусі было мала або ня ўсе нават гаварылі, што зь Беларусі. Яны пераважна менш цікавіліся радзімай, таму што хацелі адразу жыць як канадыйцы. Паслясавецкая эміграцыя, не наогул, канечне, але таксама значнай часткай у гэтым сэнсе была падобнаю на савецкую, як і іншыя людзі з былога СССР. Шмат чула нараканьняў, як бы Канада ім усім нечым вінная. У гэтым сэнсе беларусы нічым не адрозьніваюцца. І антысемітызм часам выяўляюць... Гэта таксама розьніца, для мяне вельмі паважная, у папярэдняй эміграцыі гэтага не было: прыехаў зь Беларусі, дык ты ёсьць беларус ці беларуска. На жаль, і сварак ёсьць больш, чым было. Калі я прыехала, пры мне ўжо нічога нэгатыўнага не было, неяк усе працавалі разам. Можа, і новыя прызвычаяцца адзін да аднаго й зразумеюць, што калі беларус ідзе супраць беларуса, яны разам працуюць супраць Беларусі.

Але, зь іншага боку, няпраўдзіва й вельмі несправядліва ўсіх з новай эміграцыі мерыць адным аршынам. Наадварот, трэба падкрэсьліць, што сярод тых новых, што прыехалі й далучыліся да нас, ёсьць шмат цудоўных сяброў, бесьсярэбранікаў, якія працуюць ня горш за папярэдніх эмігрантаў і, як гаворыцца, *“не за страх, а за сумленьне”*. І наогул, колькасьць новых эмігрантаў большая, чым у 1940—1950-я, 1970-я і 1980-я, таму й зрабіць могуць больш. Нашыя людзі часта працуюць ўсёй сям’ёй, як робяць сп-ры Сурвіллы, Шаўчэнкі, Качатковы-Іпатавы, Панізьнікі, Кавалёвы, Каралькевічы, Мурзёнкі, Шамецькі, Лявончанкі, Тоўсьцікі ды іншыя. Іншыя працуюць індывідуальна. За ўвесь час майго ўдзелу ў Канадыйскім БІНіМе, практычна з пачатку 1980-х, ня памятаю, каб нехта адмовіўся ад удзелу ў чымсьці. Так што жыве Беларусь у Канадзе й будзе жыць!

*Гутарка адбывалася восем гадоў таму. За гэты час пабачыла сьвет кніга спадарыні Зіны “The Portrayal of Jews in Modern Biełarusian literature”. Апублікавала дасьледніца ўспаміны свайго другога бацькі Дзьмітрыя Камінскага. Зараз канчае працу над сваёй сёмай кнігай “Biełarusian Artists Before and After The School of Paris”. Яна аўтар 13 разьдзелаў у акадэмічных кнігах і больш як 80 артыкулаў у навуковых часопісах. Працягвае ўдзельнічаць у беларускім жыцьці Канады...*

*Ад пачатку кастрычніка 2017 году Канадыйскім БІНіМам кіруе д-р Пётра Мурзёнак.*

*Гутарыла Натальля Гардзіенка*

***Тэма нумару: “О, Канада!”***
*Установа*

***Пётра Мурзёнак***
*Атава*
***Зіна Гімпелевіч***
*Ватэрлу*

# БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА Ў КАНАДЗЕ Ў 1967—2019 гг.

## I. Гісторыя стварэньня Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Канадзе й яго дзейнасьць напачатку

Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Канадзе (сёньня — БІНіМ, Канада) быў заснаваны 17 верасьня 1967 г. у Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры ў Таронта, спачатку — як аддзел амэрыканскага БІНіМу. Апошні існаваў ад 1951 г. і ягоная дзейнасьць пашыралася ня толькі на ЗША, але й на Канаду й Эўропу[1]. Арганізатары канадыйскага аддзелу на той час зьяўляліся таксама сябрамі амэрыканскага БІНіМу. Сувязі зь ім ніколі не парываліся, але ўмовы жыцьця ў ЗША й Канадзе былі розныя й з прычынаў фармальных і практычных патрэбна было заняць самастойную пазыцыю. Вось што пісала доктар Раіса Жук-Грышкевіч:

*«На другім Кангрэсе Канадыйскіх Славянаў, што адбыўся 9—11 чэрвеня 1967 г., д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, сябра БІНіМ(у) ЗША чытаў даклад на тэму “Беларусы і канадыйская статыстыка”. Выступаў ён ад грамадзкае арганізацыі Згуртаваньня Беларусаў Канады, а вымагалася, каб лектар рэпрэзэнтаваў нейкую навуковую арганізацыю — learned society — Канады, а не грамадзкую. Выпадак гэты быў беспасрэднай і адной з галоўных прычынаў заснаваньня БІНіМ(у) у Канадзе»*[2].

Пасьля абмеркаваньня кіраўнікоў Канадыйскага аддзелу з тагачасным старшынём амэрыканскага БІНІМу д-рам Вітаўтам Тумашам 7 лістапада 1968 г. было прынята рашэньне аб наданьні Канадыйскаму аддзелу статусу самастойнага, незалежнага інстытуту пад назвай БІНіМ у Канадзе. Гэта адкрыла магчымасьць для беларусаў Канады браць удзел у навуковых канадыйскіх і міжнародных акадэмічных імпрэзах:

---

[1] Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993. С. 398—400.

[2] Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. С. 288.

канфэрэнцыях, сымпозіюмах і кангрэсах. Другім кірункам дзейнасьці Інстытуту, апрача працы ў акадэмічнай сфэры, была й ёсьць праца ў галіне культуры. Роля БІНіМу ў Канадзе ў першым Статуце была адлюстраваная наступным чынам: *“Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Канадзе (БІНіМ) ёсьць арганізацыя навукі й культуры, якая намагаецца згуртаваць усе навуковыя й культурныя творчыя сілы, што ставяць сабе за мэту як навуковае пазнаньне й вывучэньне Беларусі, беларускага народу ды ягонай культуры ў мінулым і сучасным, так і падтрымліваньне навуковай працы ў галіне беларусаведы, а таксама й творчай працы ў галіне беларускай культуры”*. Паводле першага Статуту, кіроўныя органы Інстытуту выбіраліся толькі на тры гады[3]. Дапрацаваная вэрсія Статуту БІНІМу (Канада) была прынята 2 верасьня 2017 г.[4].

Першым старшынём БІНіМу ў Канадзе быў абраны ініцыятар яго стварэньня д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1968—1969), сакратаром — магістар Алесь Грыцук. Другім старшынём быў д-р Янка Садоўскі (пачынаючы з 26.10.1969, пратакол № 2 агульнага сходу БІНіМу ў Канадзе), трэцім — д-р Барыс Рагуля (ад студзеня 1972 г., пратакол № 4), чацьвертым — магістар Івонка Сурвілла (ад 22 чэрвеня 1974 г., пратакол № 5)[5], пятым — д-р Зіна Гімпелевіч (2002—2017)[6]. Ад пачатку кастрычніка 2017 г. старшынём БІНіМу ў Канадзе зьяўляецца д-р Пётра Мурзёнак.

Ад самага пачатку інстытут налічваў ад 3 да 8 чалавек. На раньніх этапах станаўленьня БІНіМу ягонымі актыўнымі сябрамі былі: Кастусь Акула, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч; д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, грамадзкі дзеяч, навуковец, Старшыня Рады БНР; магістар Алесь Грыцук, сакратар і скарбнік Інстытуту (да 1976), бібліятэкар Унівэрсытэту Куінс у Кінгстане (*Queen's University, Kingston*); д-р Янка Садоўскі, прафэсар Унівэрсытэту Куінс у Кінгстане, аўтар дзьвюх доктарскіх дысэртацыяў, прысьвечаных Францыску Скарыну[7]; д-р Яўхім Скурат, які здабыў дак-

---

[3] Статут быў прыняты 31 студзеня 1970 г. Гл.: Пратакол № 3 агульнага схода (архіў БІНіМу ў Канадзе за 1969—1975 гг. захоўваецца ў сп-ні І. Сурвіллы; матэрыялы за гэтыя гады афармляліся падрабязным і належным чынам Алесем Грыцуком); Library and Archives Canada. John Sadouski fonds — MG31-D124. Vol. 4. F. 35, 53.

[4] Статут БІНіМ, Канада ад 2 верасня 2017 г. Гл. вэб-сайт інстытуту: http://binim.org/index.php/charter.

[5] Архіў БІНіМу ў Канадзе за 1969—1975 гг.

[6] Архіў БІНіМ, Канада.

[7] Маюцца на ўвазе дысэртацыі: “Францішак Скарына” (на ступень доктара літаратуры ў славяназнаўстве ў 1964 г., абарона ў Італіі) і “Лінгвістычны аналіз чатырох Кніг Царстваў, надрукаваных Скарынам у 1518 г.” (на ступень доктара філязофіі у 1967 г., абарона ў Ангельшчыне). Гл.: Гардзіенка, Натальля. Да біяграфіі скарызнаўцы Янкі Садоўскага // Віленскія выданні

тарат у Сарбонскім унівэрсытэце, грамадзкі дзеяч, скарбнік Інстытуту да 1986 г.; мовазнаўца з Сарбоны й мастачка Івонка Сурвілла; эканаміст Янка Сурвілла, які закончыў Унівэрсытэт "Комплютэнсэ" (Мадрыд), грамадзкі дзеяч; д-р Раіса Жук-Грышкевіч, сакратар і скарбнік Інстытуту (да 2002), дантыст, грамадзкая дзяячка; д-р Барыс Рагуля, ведамы канадыйскі лекар, грамадзкі дзеяч, у 1996—1997 гг. выконваў абавязкі Старшыні Рады БНР[8].

Можна лічыць, што беларускія дасьледнікі Алесь Грыцук і Яўхім Скурат сваім удзелам у працы Трэцяй канфэрэнцыі канадыйскіх славістаў упершыню прадстаўлялі на ёй БІНіМ у Канадзе як сябры Інстытуту, прадоўжыўшы справу, распачатую д-рам Вінцэнтам Жук-Грышкевічам[9].

Да пачатковага пэрыяду дзейнасьці Інстытуту можна аднесьці літаратурна-мастацкія працы Кастуся Акулы (трылёгія "Гараватка"[10]), фундамэнтальныя падручнікі Валянціны Пашкевіч ("Беларуская мова" ў двух тамах пад рэдакцыяй Антона Адамовіча[11]), працу Янкі Садоўскага "Гісторыя беларусаў у Канадзе"[12] й іншыя ягоныя працы[13].

---

Францыска Скарыны ў кантэксце эпохі Адраджэння: да 490-годдзя кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім: матэрыялы IV Скарынаўскіх чытанняў (Мінск, 27 красавіка 2012 г.) / пад рэд. І. Э. Багдановіч. Мінск: Кнігазбор, 2014. С. 97—105.

[8] Ragula, Boris. Against the Current. Montreal & Kingston & London [GB]: MQUP, 2005. P. 169.

[9] Skurat, J. Belarussian Cultural Activity in Canada; Hrycuk, A. Byelarussian Imprints in Canada. Гл.: Library and Archives Canada. Raisa Zuk-Hryshkevich fonds — R4894. Vol. 23. F. 23—30. Third National Conference on Canadian Slavs. York University, June 14—17, 1969.

[10] Акула, Кастусь. Гараватка: Раман. Кніга I. Дзярлівая птушка = The Bird of Prey: Byelorussian novel. Таронта, 1965. 180 с.; Кніга II. Закрываўленае сонца = The Red Sun. Таронта: выдавецтва "Пагоня", 1974. 285 с.; Кніга III: Беларусы, вас чакае зямля = Byelorussians, the soil is yours. Таронта: выдавецтва "Пагоня", 1981. 286 с.

[11] Pashkievich, Valentina. Fundamental Byelorussian. Book 1—2 / Editor: A. Adamovich. Toronto: The Publishing Committee, Byelorussian Canadian Coordinating Committee, 1974—1978.

[12] Sadouski, John. A History of the Byelorussians in Canada. Belleville (Ontario), 1981. 148 p.

[13] Sadouski, John. Skaryna`s Stay in Denmark // The Journal of Byelorussian Studies. Vol. II. № 1. London, 1969. P. 25—28; Той жа. *"Belorussia under Soviet Rule, 1917—1957 by Ivan S. Lubachko"* [Book review] // Canadian Slavonic Papers. Vol. 16. № 3 (Autumn, 1974). P. 474—475; Той жа. *"A History of Byelorussian Literature. From its Origins to the Present Day by Arnold B. McMillin"* [Review] // Canadian Slavonic Papers. Vol. 20. № 2 (June 1978). P. 275—

Значны ўнёсак ў разьвіцьцё Інстытуту зрабіў прафесар Янка Садоўскі. Апроч шэрагу публікацыяў па беларускай тэматыцы, ім праведзеная ў 1969—1972 гг. значная праца па арганізацыі калекцыі беларускіх мастацкіх вырабаў у нацыянальным Музэі чалавека ў Канадзе[14]. Тут перапіска й з афіцыйнымі асобамі Музэя, і зь беларусамі, якія валодалі рэчамі, прывезенымі з радзімы ці зробленымі іх рукамі. Усяго зь ягонай дапамогай было сабрана 62 экспанаты (цяпер яны ў Музэі гісторыі Канады). Янкам Садоўскім і Алесем Грыцуком была зроблена значная падрыхтоўчая праца па арганізацыі выданьня часопісу *“Canadian Byelorussian Review”*[15], якая, аднак, ня мела станоўчага выніку. Вялікім і першым акадэмічным мерапрыемствам стала ў 1971 г. канфэрэнцыя “Беларусаведныя дні ў Квінс Унівэрсытэце ў Кінгстане”, якую арганізаваў праф. Янка Садоўскі[16]. Цікава, што ў ёй узялі ўдзел ня толькі беларускія дасьледнікі, але й англамоўныя прафэсары ўнівэрсытэту. Усяго было зроблена 8 дакладаў. Падчас канфэрэнцыі дзейнічала выстава беларускіх майстроў і мастакоў.

У 1975 г. вельмі паважны навукова-асьветніцкі й культурны форум — канфэрэнцыя “Беларусаведныя дні ў Атаўскім унівэрсытэце” й выстава беларускага народнага мастацтва (у супрацоўніцтве з Музэем чалавека) — была арганізавана спадарствам Сурвіллаў. Было прачытана 12 дакладаў, аб’яднаных тэмай “Беларуская прысутнасьць у Паўночнай Амэрыцы”. Матэрыялы дакладаў у Атаве (1975), як і ў Кінгстане (1971), не былі апублікаваныя. Адной з прэстыжных падзеяў канфэрэнцыі ў Атаве быў прысьвечаны Натальлі Арсеньневай вечар паэзіі, на якім прысутнічалі госьці зь іншых этнічных групаў і прамаўлялі знакамітыя прафэсары-славісты Атаўскага ўнівэрсытэту. Імпрэзу вёў праф. Антон Адамовіч[17].

276; Той жа. Soviet Belarusian Publications in the 1970’s // Natonalities papers. IX. № 2. Fall, 1981. P. 22—29; Той жа. Bryl Janka // The modern Encyclopedia of Russian and Soviet Literatures / Ed. by H. Weber, G. Breeze. Vol. III. Academic International Press. 1979; Той жа. Charot Michas // The modern Encyclopedia of Russian and Soviet Literatures. Vol. IV. P. 20—21; Той жа. Chorny Kuzma // The modern Encyclopedia of Russian and Soviet Literatures. Vol. IV. P. 99—103; Library and Archives Canada. John Sadouski fonds — MG31-D124. Vol. 1. F. 3.

[14] Library and Archives Canada. John Sadouski fonds — MG31-D124. Vol. 1. F. 60.

[15] Рашэньне аб выданьні часопіса было прынята 31.01.1970 (пратакол № 3 Управы БІНіМу ў Канадзе) // Архіў БІНіМу ў Канадзе за 1969—1975 гг.

[16] Byelorusian Study weekend at Queen’s University. April 17—18, 1971 // Queen’s Gazette. April 7, 1971. V. III. № 13; Library and Archives. Canada John Sadouski fonds — MG31-D124. Vol. 4. F. 29.

[17] Беларус. № 218. Чэрвень 1975 [публікацыя пра выставу]; № 219. Ліпень 1975 [публікацыя пра даклады]; № 221. Верасень 1975 [публікацыя пра вечар паэзіі Н. Арсеньневай].

Сп-ва Сурвіллаў спрычынілася таксама да арганізацыі выставы беларускага народнага мастацтва ў Публічнай бібліятэцы Атавы (1977), арганізоўвала фэстывалі *“Homelands”* (з 1979 да 1989 г.). Івонка Сурвілла прадстаўляла свае працы на болей як трыццацці мастацкіх выставах[18] і была арганізатаркай міжэтнічнай выставы *“Self-portrait”* у канадыйскім Музэі чалавека (сьнежань 1987 г. — студзень 1988 г.).

## II. Дзейнасьць БІНіМу ў Канадзе ў 1989—2016 гг.

Можна адзначыць значны прагрэс з 1989 г. ва ўдзеле БІНіМу ў канадыйскіх і міжнародных навуковых кангрэсах, што адбылося дзякуючы намаганьням і акадэмічным інтарэсам праф. Зіны Гімпелевіч, праф. Марыі-Паўлы Сурвіллы й мгр. Івонкі Сурвіллы. Да 2016 г. уключна сябрамі БІНіМу зроблена каля 150 дакладаў, пераважна згаданымі аўтарамі. Толькі ў 1993 і 1995 гг. сябры БІНіМу ў Канадзе зрабілі 16 дакладаў[19]. Гэтая актыўнасьць стала больш заўважнай на канфэрэнцыях Канадыйскай асацыяцыі славістаў (КАС — *CAS — Canadian Association of Slavists*), а з 1990 г. на сусьветных канфэрэнцыях славістаў, якія праходзяць кожны год у ЗША (*The Association for Slavic, East European and Eurasian Studies*) і іншых навуковых форумах. Прафэсары Зіна Гімпелевіч і Марыя-Паўла Сурвілла сумесна з прафесарам Куртам Вулхаўзэрам, прафэсарам Дэвідам Марплзам і дактарамі Янкам Запруднікам і Вітаўтам Кіпелем у 1999 г. заснавалі *North American Association of Belarusists* (*NAAB*) і шмат гадоў бралі ўдзел у кіраўніцтве асацыяцыяй.

Канадыйская асацыяцыя славістаў існуе з 1950-х і аб’ядноўвае навукоўцаў, што займаюцца вывучэньнем славянскай гісторыі, мовы, палітыкі, культуры й літаратуры (балканскія краіны, Беларусь, Польшча, Расея, Украіна ды інш.). Шэраг дасьледнікаў з БІНіМу ўваходзяць у гэтую навуковую арганізацыю, заснаваную ў 1954 г. КАС разам зь іншымі 72 акадэмічнымі асацыяцыямі краіны зрабілася часткай і сябрам Канадыйскай фэдэрацыі гуманітарных і сацыяльных навук. Кожны год фэдэрацыя праводзіць навуковыя кангрэсы, у якіх бярэ ўдзел і КАС. Трэба адзначыць, што на кангрэсах друкуюцца толькі праграмы, а не самі матэрыялы дакладаў. Іх можна апублікаваць у часопісе КАС — *“Canadian Slavonic papers”*. Да прыкладу, у гэтым часопісе апублікаваныя артыкулы праф. Зіны Гімпелевіч[20].

---

[18] Запісы БІНіМ. № 19. Нью Ёрк, 1989. С. 176.

[19] Запісы БІНіМ. № 23. Нью Ёрк, 1999. С. 175, 177—179.

[20] Gimpelevich, Zinaida. In Memoriam. Robert Karpiak (1942—2017) // Canadian Slavonic Papers. 2018; Тая ж. Dimensional Spaces in Alexander Solzhenitsyn’s *Dvesti let vmeste* (Two hundred years together) // Canadian Slavonic Papers. 2006. № 3—4. P. 233—260; Тая ж. Vasil Bykaŭ’s Biełarusian Pilgrimage //

За пэрыяд з 1989 да 2019 г. сябрамі Інстытуту былі надрукаваны 39 кніг, назвы якіх прыводзяцца ў бібліяграфіі ў канцы артыкулу.

Сябра БІНіМу праф. Зіна Гімпелевіч амаль кожны год арганізоўвала на канфэрэнцыях КАС ня менш за адну беларускую сэсію, а часам дзьве ці тры (колькасьць дакладаў была ад 3 да 9). Такія сэсіі, дзе было зроблена шмат дакладаў на беларускую тэматыку, адбыліся, сярод іншага, у наступных унівэрсытэтах Канады: Лаваль, Квэбэк; Вікторыя, Брытанская Калюмбія; Куінс, Кінгстан, Антарыё; Шарлоттаўн, Прынц Эдвард Айлэнд; Карлтан і Атаўскі ўнівэрсытэты, Атава, Антарыё; Манрэль, Квэбэк; Сэйнт Джонс, Ньюфаўлэнд; Шэрбрук і Лаваль, Квебэк; Таронта і Ёрк, Антарыё ды інш. Часта ў гэтых канфэрэнцыях бралі ўдзел сябры амэрыканскага БІНіМу: Томас Бэрд, Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, Зора Кіпель, Надзея Запруднік і Галіна Русак. На Сусьветны кангрэс славістаў ў Таронта (2005), на якім было прачытана 12 дакладаў па беларусістыцы, прыехалі зь Лёндану Арнольд Макмілін і айцец Аляксандар Надсан, а зь Беларусі — Вінцук Вячорка й Ганна Мязенка (прыезд гасьцей зь Беларусі адбыўся за кошт сродкаў гранту, атрыманага праф. Зінай Гімпелевіч; яны выступалі з дакладамі на кангрэсе, а таксама прачыталі лекцыі ва Ўнівэрсытэце Ватэрлу).

Сябры БІНіМу ў Канадзе неаднойчы былі запрошаныя на канфэрэнцыі й сымпозіюмы ў Гарвард, у Сарбону (двойчы), у Оксфард, у Кэмбрыдж, у Нотынгам, Лёндан, Эдынбург і іншыя ўнівэрсытэты сьвету. Так, напрыклад, праф. Марыя-Паўла Сурвілла чытала даклад "Гукавая дыпламатыя: Музыка й мэдыяцыя ад пасольства да падпольля ў постсавецкай Беларусі" ў Гарвардзкім унівэрсытэце на сымпозіюме "Музыка й дыпляматыя". Праф. Марыя-Паўла Сурвілла мае шмат артыкулаў на беларускую тэматыку, у тым ліку й напісаных на запрашэньне вядучых энцыкляпэдыяў сьвету.

9 чэрвеня 2002 г. у Ватэрлу (Антарыё) прайшоў агульны сход БІНіМу, на якім былі заслуханыя справаздачы старшыні Інстытуту Івонкі Сурвіллы й сакратара-скарбніка Раісы Жук-Грышкевіч, прынятыя новыя сябры й абноўленае кіраўніцтва Інстытуту[21]. На зьмену Івонцы Сурвілле, якая ўзначальвала БІНіМ у Канадзе цягам 28 гадоў, на пасаду старшыні была абраная праф. Зіна Гімпелевіч. У склад інстытуту былі прынятыя: архіяпіскап Мікалай (Мацукевіч) (мітрапаліт БАПЦ), д-р Наталія Баркар, Ірына Варабей, Антон Варабей, д-р Аляксандар Даніловіч, Надзея Дробіна, д-р Сяргей Дрозд, Віялета Кавалёва, д-р Сяргей Крычэўскі, д-р Ірына Лысенка, д-р Пётра Мурзё-

Canadian Slavonic Papers. 2000. № 3. P. 343—362; Тая ж. The Intelligentsia: What It Used to Be and What It Is in Aksenov's *Skazhi izium* // Canadian Slavonic Papers. № 37. 1995. P. 201—217.

[21] Архіў БІНіМ, Канада.

нак, д-р Юрась Пелюшонак, Уладзімер Рагуля, Юрась Рапецкі, Улада Шамецька, Юрась Шамецька, Валянціна Шаўчэнка, Пётра Шварцман, Вольга Яноўская. У справаздачы скарбніка Раісы Жук-Грышкевіч паказаныя прыбыткі й выдаткі інстытуту ў 1986—2002 гг. Сярод асноўных выдаткаў — дапамога ў выданьні кнігі Зянона Пазьняка "Курапаты" (450 даляраў), рэгістрацыйныя складкі для Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады[22].

На канферэнцыі КАС, якая праходзіла ў рамках кангрэсу Канадыйскай фэдэрацыі гуманітарных і сацыяльных навук у Атаве ў 2009 г., дзе было агулам 9000 дэлегатаў, канадыйскі БІНіМ добра прагучаў ня толькі з навуковай сцэны й рэпрэзэнтацыяй сваіх кніг, але й цудоўным беларускім канцэртам з удзелам ансамблю "Яваровы людзі," дуэту клясычнай музыкі (Улада Шамецька й Міхась Рыкаў), іншых нашых таленавітых сьпевакоў і музыкантаў. БІНіМ арганізаваў падчас кангрэсу мастацкую выставу, на якой былі прадстаўленыя працы Ірыны Варабей, Алёны Ляпко, Івонкі Сурвіллы, Марыі-Паўлы Сурвіллы, Пётры Шварцмана й Яўгеніі Шаўчэнкі.

Шмат гадоў ад імя БІНіМу ў Канадзе і Ўнівэрсытэту Ватэрлу рабілі даклады й брали ўдзел у канфэрэнцыях КАС студэнты-магістры, якія пісалі тэзы ці курсавыя працы на беларускія тэмы: "Беларускія казкі", "Літаратурная гісторыя Беларусі", "Літаратурны сшытак Валянціна Крывіча-Аненскага", "Літаратура Чарнобылю" ды інш. (кіраўнік праектаў праф. Зіна Гімпелевіч). Дзякуючы праф. Зіне Гімпелевіч, праф. Марыі-Паўле Сурвілле й Івонцы Сурвілле зьявілася цікавасьць да Беларусі ў такіх знаных навукоўцаў, як дактары Дэвід Марплз і Тымаці Снайдэр. Так, напрыклад, на Міжнародным кангрэсе беларусістаў у Менску ў 2010 г., на сэсіі, якую арганізавала праф. Зіна Гімпелевіч, даклады чыталі: дактары Томас Бэрд (БІНіМ, ЗША), Зіна Гімпелевіч (БІНіМ, Канада) і Цімаці Снайдэр (*Yale University*)[23]. У сваю чаргу, сябры канадыйскага БІНіМу дапамаглі амерыканскаму БІНіМу ўмацаваць англамоўную беларусістыку ў ЗША праз актыўны ўдзел у арганізацыі й адміністрацыйнай працы Паўночнаамэрыканскай асацыяцыі беларусістаў (Зіна Гімпелевіч, Марыя-Паўла й Івонка Сурвіллы) і Фундацыі беларускіх дасьледаваньняў і адукацыі (праф. Марыя-Паўла Сурвілла). Прафэсар Марыя-Паўла Сурвілла ёсьць адной з трох арганізатараў (разам з амбасадарам Дэвідам Суорцам і віцэ-прэзыдэнтам каледжу праф. Эндзі Шэфардам) у 2007 г. Цэнтру беларускіх дасьледаваньняў у Паўднёва-Заходнім каледжы ў Вінфілдзе (*Centre for Belarusian*

[22] Library and Archives Canada. Raisa Zuk-Hryshkevich funds — R4894. Vol. 23. F. 16.

[23] Гімпелевіч, Зінаіда. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтве ў Канадзе (БІНіМ, Канада). 1967—2016. Даклад на 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі // Культура, Нацыя. № 15. Верасень 2016. С. 70—75.

*Studies, Kansas, USA*) — унікальнай інстытуцыі ў Паўночнай Амэрыцы, якая спрыяе разьвіцьцю моцнай грамадзянскай супольнасьці праз ініцыятывы ў вышэйшай адукацыі. Таксама праф. Марыя-Паўла Сурвілла зьяўляецца сябрам рэдкалегіі беларускага акадэмічнага англамоўнага часопісу *"The Point"*.

Сярод іншых важных падзеяў у гэты пэрыяд трэба адзначыць тыя, у якіх прынялі непасрэдны ўдзел сябры БІНіМу з асабістай ініцыятывы ці ў рамках сумеснай актыўнасьці зь іншымі грамадзкімі арганізацыямі. Як заўважыла праф. Зіна Гімпелевіч у сваім дакладзе на 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі (Атава, 2016) — *"кожны сябра БІНіМу — сам па сабе Інстытут"*.

Івонка Сурвілла была ініцыятарам і разам з праф. Зінай Гімпелевіч і Паўлінай Пашкевіч-Сьміт заснавалі ў 1989 г. Канадыйскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі (*CRFVCB, Canadian Relief Fund for Victims of Chernobyl in Belarus*). Івонка Сурвілла за лета 1991 г. у сувязі з працай фонду дала журналістам 52 інтэрвію, якія былі надрукаваныя й трансьляваліся па радыё ці тэлебачаньні. Значны ўнёсак у працу фонду зрабіў доктар Барыс Рагуля. Ён сумесна зь сябрам праф. Чарльзам Руудам прывозілі, вучылі й лекавалі беларускіх дзетак, пасылалі пачкі зь лекамі й мэдычную апаратуру ў Беларусь, арганізавалі абмен лекарамі. Нягледзячы на тое што Канадыйскі фонд зачыніўся ў 2005 г., ягоная справа працягваецца праз пазасталыя аддзелы да сёньня[24]. Напрыклад, зусім нядаўна, у траўні 2017 г., праф. Чарльз Рууд адвёз у менскі шпіталь абсталяваньне для лекараў-кардыёлагаў.

Віялета Кавалёва заснавала ў 2001 г. сьпеўны гурт "Яваровы людзі". Яе непаўторны талент і актыўная дзейнасьць вартыя напісаньня асобнай кнігі як пра кіраўніка, гэтак і пра ўвесь гурт. За час існаваньня праз "Яваровых людзей" прайшлі каля паўтары сотні аматараў беларускай музыкі й фальклору.

У 2001—2005 гг. сябрамі Згуртаваньня беларусаў Канады (старшыня Пётра Мурзёнак) было ініцыяванае стварэньне сайту беларусаў Атавы (2001), адміністратар Юрась Шамецька. Пазьней атаўскі сайт — www.belaruscanada.org — пераўтварыўся ў сайт ЗБК, які дзейнічае да сёньня. У 2002 г. Віялета Кавалёва заснавала газэту "Беларускае слова", у выданьні якой бралі ўдзел сябры БІНіМу: Ірына Варабей, Яўгенія Шаўчэнка й іншыя. На працягу 2002—2008 гг. пабачылі сьвет 11 нумароў газэты. У 2005—2009 гг. у Атаве на працягу 5 вучэбных сэзонаў працавала беларуская кляса[25].

---

[24] Сурвілла, Івонка; Гімпелевіч, Зіна. Канадыйскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі // Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". https://zbsb.org/info/?modal=23182. 30.05.2018.

[25] Мурзёнак, Пётра С. Беларуская кляса ў Аттаве // Беларус. 2012. С. 188—193; Той жа. Беларускі клас у Атаве // Адвечныя плыні. Мінск: Кнігазбор, 2015.

Ірына Варабей, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, заснавала ў 2005 г. і працягвае рабіць выдатную працу ў творчай майстэрні па вышываньні беларускіх нацыянальных арнамэнтаў (майстэрня й сайт "Беларускі дух" — *Spirit of Belarus*). Як фатограф Ірына Варабей зьяўляецца двухразовым прызёрам конкурсаў часопісу *"Canadian Geographic"*.

У сьнежні 2012 г. быў заснаваны вэб-часопіс "Культура, Нацыя" (рэдактар Пётра Мурзёнак), які разьмяшчаецца на наваствораным сайце www.sakavik.net. На сёньня выйшлі 23 нумары часопісу. На ягоных старонках друкуюцца арыгінальныя матэрыялы, прысьвечаныя пытаньням нацыянальнага будаўніцтва й культуры. Усяго за гэты час апублікавана 167 арыгінальных артыкулаў ад 33 аўтараў. Агульны аб'ём часопісу склаў каля 1725 старонак, гэта значыць у сярэднім кожны нумар выходзіў на 75 старонках. Сайт і часопіс ад сакавіка 2013 да траўня 2019 г. наведалі больш як 18700 чытачоў (з больш як 30700 праглядамі); большасьць чытачоў паходзяць зь Беларусі (57,3 %).

Некалькі гадоў запар у Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры ў Таронта праводзяцца курсы "Мова нанова" (кіраўнік Ірына Тоўсьцік), якія выклікалі значны інтарэс як ў дзяцей, гэтак і ў дарослых.

Такім чынам, пэрыяд разьвіцьця БІНіМу ў Канадзе ў 1989—2016 гг. быў адзначаны шэрагам адметных дасягненьняў, многія зь якіх былі вынікамі дзейнасьці як самога Інстытуту, які выконвае свае спэцыфічныя функцыі ў Канадзе, гэтак і ягоных сяброў, зь іхняй асабістай ініцыятывы ці ў межах актыўнасьці ў іншых грамадзкіх беларускіх арганізацыяў у Канадзе.

## III. Сучасная дзейнасьць БІНіМ, Канада (2017—)

2017 год для Інстытуту быў насычаны значнымі падзеямі, якія можна ахарактарызаваць як новую хвалю актыўнасьці. Гэта сталася заўважным пасьля правядзеньня 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Атаве (3—5 верасьня 2016 г.), дзе быў зроблены даклад аб дзейнасьці БІНіМу ў Канадзе за амаль 50 гадоў існаваньня[26]. Дзякуючы намаганьням старшыні праф. Зіны Гімпелевіч, сакратара Натальлі Колас, Валянціны Шаўчэнкі, якая распрацавала новую сымболіку БІНіМу, перарабіла сайт, ды іншых, адразу пасьля 32-й Сустрэчы прайшла кампанія па пашырэньні кола сяброў БІНіМу.

Вельмі важнай падзеяй стаў чарговы ўдзел сяброў Інстытуту ў кангрэсе Канадыйскай фэдэрацыі гуманітарных і сацыяльных навук, які праходзіў 27—29 траўня 2017 г. у Раерсан унівэрсытэце (Таронта).

С. 189—195; Той жа. Тры гады як працуе беларуская суботняя школа ў Атаве // Беларус. № 518. Сакавік 2006.

[26] Гімпелевіч, Зінаіда. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтве ў Канадзе (БІНіМ, Канада). 1967—2016.

Адметным было тое, што дзякуючы арганізатарскім здольнасьцям праф. Зіны Гімпелевіч сябры Інстытуту працавалі ў дзьвюх беларускіх сэкцыях і дадаткова правялі паэтычную сэсію за круглым сталом. Упершыню інфармацыя аб канфэрэнцыі Канадыйскай асацыяцыі славістаў і матэрыялы зробленых дакладаў былі апублікаваныя ў часопісе “Культура, Нацыя”[27]. Заключны дзень працы кангрэсу дасьледнікі зь БІНіМу праводзілі не ў акадэмічнай, а ў эмацыйнай атмасфэры. Сеўшы ў кола, яны слухалі вершы й аповеды аб творчасьці беларускіх паэтаў: Вольгі Іпатавай, Сяргея Панізьніка, Пётры Мурзёнка, Юрася Шамецькі.

2 верасня 2017 г. падчас юбілейнай сэсіі, прысьвечанай 50-годзьдзю БІНіМу ў Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры ў Таронта, старшыня праф. Зіна Гімпелевіч зрабіла вельмі падрабязны аналіз дзейнасьці Інстытуту за паўстагодзьдзя (1967—2017). У межах сэсіі быў праведзены агульны сход БІНіМу, на якім прайшлі выбары Ўправы на наступны трохгадовы тэрмін і быў дапрацаваны Статут Інстытуту. На агульным сходзе старшынёй БІНіМу была пераабраная праф. Зіна Гімпелевіч. У хуткім часе яна падала заяву аб адстаўцы, і ў адпаведнасьці з аднаўленым Статутам функцыі старшыні Інстытуту перайшлі да намесьніка д-ра Пётры Мурзёнка, які з 9 верасьня 2017 г. пачаў дзейнічаць у якасьці старшыні БІНіМу. Ва Ўправу ўваходзяць таксама: Зіна Гімпелевіч (намесьнік), Натальля Колас (сакратар), Валянціна Шаўчэнка (скарбнік), Івонка Сурвілла, Юрась Шамецька, Руслан Качаткоў. Ганаровым прэзыдэнтам БІНіМу ў Канадзе на трохгадовы тэрмін абраны Дэвід Марплз (*David Marples, PhD, University of Alberta, Canada*).

У Інстытуце створаныя функцыянальныя групы: акадэмічная, пісьменьнікаў і паэтаў, клясычнай музыкі й фальклёрнага мастацтва, выяўленчага мастацтва й рамесьніцкага майстэрства (падзел сяброў па групах умоўны, некаторыя могуць быць у некалькіх групах). Прадстаўленыя матэрыялы аб сэсіі й дзейнасьці БІНіМу, уключна з новым Статутам, былі зьмешчаныя на абноўленым сайце www.binim.org, які дзякуючы стараньням і прафэсіяналізму адміністратара Аляксандра Каралькевіча значна зьмяніў свой выгляд і напоўніўся новым зьместам.

---

[27] На паседжаньнях кангрэсу свае даклады прадставілі: George Repetski — “Protestantism on Belarusian Soil”, Галіна Туміловіч — “Беларусь у свеце глабалізацыі і сцвярджэння нацыянальных ідэнтычнасцяў”, Zina Gimpelevich — “Ryhor Baradulin (1935—2014): *If only Jews were here! The book of respect and friendship”*, Івонка Сурвілла (за Марыю-Паўлу Сурвіллу, якая не змагла прыехаць на кангрэс) — “Сталасьць памяці і фарміраванне ідэнтычнасьці: міграцыя і Айчына ў беларускім досведзе”, Натальля Баркар “Дзейнасць часопіса “Культура, Нацыя” ў 2012—2017 гг.”, Пётра Мурзёнак “Месца ўсходнеславянскай беларуска-ўкраінскай цывілізацыі сярод іншых цывілізацый”. Даклады апублікаваныя ў: Культура, Нацыя. № 18. Чэрвень 2017. С. 35—91.

За кароткі час (2017—2019) сябрамі Інстытуту апублікаваныя 4 кнігі й больш як 30 навуковых артыкулаў, прысьвечаных пераважна беларускай тэматыцы. У 2019 г. БІНіМ у Канадзе фінансава падтрымаў выданьне ў Беларусі кнігі “(Не)расстраляная паэзія”.

Сярод важных задачаў для сябраў БІНіМу, апроч вызначаных у Статуце, ёсьць папулярызацыя дзейнасьці Інстытуту. Адным з добрых падыходаў ёсьць выкарыстаньне “лога” й імя БІНіМу на мерапрымствах, якія праводзяць сябры Інстытуту: канцэрты, прэзэнтацыі, лекцыі й г. д. Зь непасрэдным удзелам сябраў БІНіМу й ягонай фінансавай падтрымкай разам з ЗБК у Атаве арганізавана й зь вялікім посьпехам прайшло сьвяткаваньне важнай гістарычнай даты ў жыцьці беларускага народу — 100-годзьдзя БНР. Сьвята прайшло ў будынку Канадыйскага парлямэнту, на ім прысутнічала звыш 160 гасьцей[28].

У межах сьвяткаваньня стагодзьдзя БНР у Атаве сябрамі БІНіМу была арганізаваная выстава кніг, напісаных беларусамі-канадыйцамі. Сьпіс з 38 кніг, якія былі на выставе, апублікаваны ў часопісе “Культура, Нацыя”[29]. У 2018 г. пад эгідай БІНіМу прайшла прэзэнтацыя кнігі вершаў Пётры Мурзёнка “Колеры” ў Атаве[30]. Сёлета таксама ў межах працы БІНіМу ў Канадзе архітэктар і мастак Пётра Шварцман распачаў у Атаве цыкль лекцыяў пра сусьветную архітэктуру.

У 2017 г. у Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры ў Таронта быў створаны тэатар “Сэнс” (рэжысэр і пастаноўшчык Валянціна Шаўчэнка). БІНіМ разам зь іншымі спонсарамі (доктар Руслан Качаткоў, Згуртаваньне беларусаў Канады) падтрымаў пастаноўку спэктаклю “Вуліца Геніюш”, прэм’ера адбылася 14 красавіка 2018 г. у Таронта[31]. Тэатар на гастролях паказаў спэктакль у Атаве (6 красавіка 2019 г.). Пастаноўка была своеасаблівым працягам сьвяткаваньня стагодзьдзя БНР. Валянціна Шаўчэнка ведамая таксама як сьпявачка, якая годна прадстаўляе беларускую культуру на розных міжэтнічных канцэртах і форумах.

[28] Мурзёнак, Пётра. Святкаванне 100-годдзя БНР у Атаве // Культура, Нацыя. № 21. Сакавік 2018. С. 7—46.

[29] Сьпіс кніг, прадстаўленых на выставе ў гонар 100-годдзя БНР. 11 сакавіка 2018 г. Commons Reading Room, Parliament Hill, Ottawa, Canada // Культура, Нацыя. № 21. Сакавік 2018. С. 79—91.
Кнігі з калекцыі Івонкі Сурвіллы й Пётры Мурзёнка. У арганізацыі выставы й прэзэнтацыі кніг брали ўдзел Ксенія й Аляксандар Каралькевічы, Пётра Мурзёнак.

[30] Мурзёнак, Пётра. Паэтычна-музыкальня вечарына ў Атаве 23 верасьня 2018 года // БІНіМ, Канада. http://binim.org/index.php/2018/11/19/murzenak-kolery-20180923.

[31] Спектакль “Вуліца Геніюш” // БІНіМ, Канада. http://binim.org/index.php/2018/04/23/v-geniush.

Ёсьць шэраг момантаў, базавых для далейшай дзейнасьці Інстытуту, гэта дабрачыннасьць, ахвярнасьць і энтузіязм[32]. І ўсё ж, у любой грамадзкай арганізацыі заўжды паўстае праблема з грашовымі сродкамі, неабходнымі для рэалізацыі тых ці іншых праектаў. Добра ведама, што сяброўскіх складак можа быць недастакова, калі праект будзе сур'ёзны. Важным крокам, які, на нашу думку, можа дапамагчы ў пошуках спонсараў, мэцэнатаў, сродкаў у правінцыйных і фэдэральных фондах зьяўляецца афіцыйная рэгістрацыя Інстытуту (з назовам БІНіМ, Канада), якая адбылася 20 студзеня 2019 г.

Нягледзячы на акадэмічнасьць, якая ўтрымліваецца ў назове Інстытуту, і на фармат ягонай арганізацыі (управа, функцыянальныя групы), БІНіМ ёсьць арганізацыяй валанцёрскай, грамадзкай, сутнасьць якой заключаецца ў выяўленьні тае актыўнасьці, беларускасьці й пачуцьцяў, якія маюць многія беларусы ў адносінах да беларускай культуры й роднай Беларусі. Відавочна, што валанцёрская праца ў замежжы мае свае абмежаваньні, і ня толькі фінансавыя. Адарванасьць ад каранёў і недастатковыя сувязі з радзімай у значнай ступені ўплываюць на наш патэнцыял. Умоўным абмежаваньнем зьяўляецца таксама тое, што многія сябры Інстытуту ўваходзяць у склад іншых структураў і арганізацыяў. Аднак, як творчыя й ахвярныя людзі, яны могуць складаць адно цэлае, калі будуць імкнуцца да выкананьня мэтаў, пастаўленых у Статуце БІНіМу. Гэта ня значыць, што дзейнасьць Інстытуту адлюстроўваецца ў простай суме актыўнасьцяў, якія кожны зь сяброў выяўляе на сваім месцы. Хацелася б верыць, што высілкі, якія робяцца сябрамі БІНіМу ў Канадзе, ня толькі важныя для іх самарэалізацыі, але й зробяць свой ўнёсак у захаваньне й разьвіцьцё беларускай навукі й культуры як за мяжой, гэтак і на радзіме.

*Аўтары выказваюць шчырую падзяку спадарыні Івонцы Сурвільле, старшыні Рады БНР, за камэнтары й дапаўненьні да артыкулу, а таксама за яе нястомную працу як даўнішняга сябры БІНіМу.*

[32] Мурзёнак, Пётра. Бачаньне перспектывы БІНіМ на бліжэйшы час // Культура, Нацыя. № 20. Снежань 2017. С. 61—66.

## Сябрамі БІНІМу ў Канадзе за 1967—2019 гг. апублікаваныя кнігі:

1. Акула, Кастусь. Гараватка. Трылогія. Кніга I: Дзярлівая птушка. Таронта: Пагоня, 1965. 180 с.

2. Акула, Кастусь. Гараватка. Трылогія. Кніга II: Закрываўленае сонца. Таронта: Пагоня, 1974. 285 с.

3. Акула, Кастусь. Гараватка. Трылогія. Кніга III: Беларусы, вас чакае зямля. Таронта, Пагоня, 1981. 286 с.

4. Pashkievich, Valentina. Fundamental Byelorussian / Editor: A. Adamovich. Book 1. Toronto: The Publishing Committee, Byelorussian Canadian Coordinating Committee, 1974. 332 p.; Book 2. 1978. 422 p.

5. Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні. Таронта: Пагоня, 1976. 201 с.

6. Sadouski, John. A History of the Byelorussians in Canada. Belleville (Ontario), 1981. 148 p.

7. Гимпелевич, Зина. Интеллигент в романах “Доктор Живаго” и “Мастер и Маргарита”. Orange (CT): Antiquary, 1988. 196 с.

8. Gimpelevich, Zina. Boris Pasternak: What Millennium IS Out There? NY — Ottawa — Toronto: LEGAS, 1990. 163 с.

9. Жук-Грышкевіч, Раіса. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993. 797 с.

10. Акула, Кастусь. Змагарныя дарогі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. 572 с.

11. Мурзёнак, Пётра. Быліна мая, Беларусь. Атава, 2000. 32 с.

12. Survilla, Maria Paula. Of Mermaids and Rock Singers: Placing the Self and Constructing the Nation Through Belarusian Contemporary Music. New York: Routledge (USA), 2002. 216с.

13. Іпатава, Вольга. Альгердава дзіда. Мінск: Беллітфонд, 2002. 607 с.

14. Peliushonak, Yuri. Through the Eyes of a Coackroach. Ottawa, 2003. 144 p.

15. Peliushonak, Yuri. Strings for a Beatle Bass. Ottawa, 2004. 180 p.

16. Ганько, Марыя. Каб сведчылі пра Беларусь / укл. Вольгі Іпатавай. Мінск: Кнігазбор, 2005. 192 с.

17. Варабей, Ірына. Там дзе сэрца маё. Мінск: Кнігазбор, 2005. 124 с.

18. Ragula, Boris (Barys). Against the Current. Montreal — Kingston — London [GB]: MQUP, 2005. 185 с.

19. Gimpelevich, Zina. Vasil Bykaй: His Life and Works. Montreal: McGill-Queen’s Press, 2005. 266 p.

20. Грыцук, Вольга. Мы стварыалі сваю Беларусь / укл. Вольгі Іпатавай. Мінск: Медысонт, 2007. 256 с.

21. Сурвілла, Івонка. Дарога. Стоўпцы — Капенгаген — Парыж — Мадрыд — Атава — Менск. Радыё Свабода, 2008. 144 с. Тое ж. 2018. 163 с.

22. Акула, Кастусь. Заўтра ёсць учора / пер. на беларускую Ірыны Варабей. Мінск: Медысонт, 2008. 200 с.

23. Мурзёнак, Пётр С. Над Дзісенкай ракой. Атава, 2008. 338 с.

24. Гімпелевіч, Зіна Беларуска-яўрэйскія пісьменнікі XX стагоддзя: паходжанне, гісторыя, дыскурс і біяграфіі = Belarusian Jewish writers of the twentieth century: origin, history, discourse, and biographies. Winfield: Southwestern College Academic Press, 2010. 256 с.

25. Гимпелевич, Зина. Литературная тетрадь Валентина Кривича. Санкт-Петербург: Серебряный век, 2011. 326 с.

26. Гимпелевич, Зина. Василь Быков: книги и судьба. Москва: Новое литературное обозрение, 2011. 398 с.

27. Survilla, Joanna. A huit ans j'aifait laguerre. New York — Ottawa — Toronto, 2011. 58 p.

28. Шамецька, Юрась. Шлях да вяртання. Мінск: Кнігазбор, 2011. 96 с.

29. Мурзёнак, Пётра. Крыніца. Вершы. Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2011. 144 с.

30. Мурзёнак, Пётра. Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам. Атава, 2012. 314 с.

31. Мурзёнак, Пётр С. Адвечныя плыні. Мінск: Кнігазбор, 2015. 240 с.

32. Шамецька, Юрась. Атава. Вершы. Мінск: Кнігазбор, 2015. 128 с.

33. Мурзёнак, Пётра. Шляхі да беларускай нацыі. Мінск: Кнігазбор, 2016. 344 с.

34. Мурзёнак, Пётра. Чым трэба ганарыцца кожнаму беларусу. Мінск: Кнігазбор, 2017. 96 с.

35. Панізнік, Сяргей. Абліччы сустрэчаў. Мінск: Медысонт, 2017. 144 с.

36. Панізнік, Сяргей. Выбранае. Мінск: Тэхналогія. 2017. 215 с.

37. Gimpelevich, Zina. The Portrayal of Jews in Modern Biełarusian literature. McGill — Queen University Press, 2018, 500 p.

Кніга была прадстаўлена на *ASN World Convention in May 2019 (NY, Columbia University).* Прысутнічалі на 2-гадзіннай сэсіі калегі й студэнты-асьпіранты з Францыі, ЗША, Нямеччыны, Польшчы й Канады. Яна атрымала прэмію найлепшай навуковай кнігі ад КАС — *CAS & Taylor&Francis group* (Выдавецтва навуковага часопісу КАС: *Canadian Slavonic Papers*)

38. Мурзёнак, Пётра. Колеры. Вершы. Мінск: Кнігазбор, 2018. 188 с.

39. Шамецька, Юрась. Непрадказальнае. Вершы. Мінск: Кнігазбор, 2019. 116 с.

## *“SPIRIT OF BELARUS”*

Ірына Варабей — пісьменьніца, перакладніца, журналістка, мастачка, дызайнэрка мастацкай вышыўкі, фатографка. Ад 1999 г. жыве ў Таронта. У 2008 г. яна заснавала кампанію *“Spirit of Belarus”* — беларускі мастацка-дызайнэрскі брэнд у Канадзе, які пасьпяхова прасоўвае беларускае вышывальнае мастацтва. Дадаткова Ірына займаецца папулярызацыяй адметнай беларускай тэхнікі *Belarusan Nizanka* і ўвядзеньнем гэтага назову ў міжнародную клясыфікацыю.

Ірына Варабей піша: *«Мае работы — гэта ня толькі “выставачныя экспанаты”, яны зьяўляюцца мадэлямі да дызайнаў, што я прадаю. То бок студыя “Spirit of Belarus” займаецца стварэньнем схемаў вышывак. Работы — гэта ўзоры таго, што людзі могуць вышыць самі па той схеме, якую яны набываюць»*.

Дзе можна пабачыць яе працы?

Пэрыядычна — на штогадовым (два разы на год) *Creative Festival* у Таронта, у публікацыях у канадыйскім часопісе для рукадзельніц *“A Needle Pulling Thread”* (на сёньня апублікавана больш за 20 працаў), на выставах падчас штогадовых сэмінараў Канадыйскай асацыяцыі вышывальніц (*Embroidery Assossiation of Canada, EAC*), штогод у розных гарадах Канады, на выставах у *Toronto Guild of Stitchery*, Сустрэчах беларусаў Паўночнай Амэрыкі, у інтэрнэт-крамах Ірыны Варабей (https://www.etsy.com/shop/SpiritOfBelarus).

Непэрыядычна — у публікацыях у часопісе *EAC “Embroidery Canada”*, на трохгадовым перасовачным шоў *“Threadworks 2016”* па гарадах Антарыё (адбор быў на конкурснай падставе), на featured рознага кшталту выставах і шоў-праектах па запросінах у Таронта.

Больш інфармацыі можна знайсьці тут: http://spiritofbelarus.blogspot.ca і www.ivarabei.wixsite.com/spiritofbelarus.



1. “Намітка. Усе зоркі ў нашых руках”.
Тэхніка: чорным па белым (*Blackwork*), нітаграфіка (*Needlepoint*).
Матэрыял: шоўк, бамбук, мэталік, каралікі



2. “Краіна пухнатых дыямантаў”. Тэхніка: крыжык. Матэрыял: віскоза, бавоўна, мэталік



3. “Мірскі замак”. Тэхніка: паўкрыжык. Матэрыял: воўна



4. “Панада бярозавага гаю”. Тэхніка: нітаграфіка. Матэрыял: бавоўна, віскоза



5. “Грыбныя прыгоды”.
Тэхніка: крыжык.
Матэрыял: бавоўна



6. Партрэт Уладыкі Мікалая.
Тэхніка: крыжык.
Матэрыял: бавоўна



7. “Калядная Каза”.
Тэхніка: чорным па белым (*Black-work*), нітаграфіка (*Needlepoint*), вынітаваньне (*String Art*), беларуская нізанка (*Belarusan Nizanka*).
Матэрыял: віскоза, акрылік, бавоўна, мэталік, каралікі



8. “Кругі на вадзе”.
Тэхніка: беларуская нізанка
(*Belarusan Nizanka*).
Матэрыял: бавоўна (“ірыс”)



9. “Калі ласка, у нашу казку!”. Тэхніка: вынітаваньне (*String Art*), чорным па белым (*Blackwork*), крыжык. Матэрыял: акрылік, бавоўна



10. “Пагоня”. Тэхніка: крыжык. Матэрыял: мэталік па аксаміце



11. “Дажынкі”. Тэхніка: чатырохстопны баргела (*Four-way Bargello*)



12. “Грамавік”. Тэхніка: трохкутнік (*Trianglepoint*).
Матэрыял: бавоўна, акрылік, мэталік, каралікі



13. “Грамнічная сьвечка”. Тэхніка: хардангер (*Hardanger*). Матэрыял: бавоўна, мэталік



14. “Сьнежаньскі настрой”. Настольнік-сурвэта.
Тэхніка: беларуская нізанка (*Belarusan Nizanka*), украінская мярэжка (*Ukrainian Myrezhka*). Матэрыял: лён, віскоза, бавоўна



15. “Па матывах слуцкіх паясоў”.
Тэхніка: беларуская нізанка (*Belarusan Nizanka*)

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# КАНАДЫЙСКАЯ АРХІЎНАЯ БЕЛАРУСІКА

Канадыйскія беларусы пакінулі па сабе багата дакумэнтальных сьведчаньняў. Паперы арганізацыяў і прыватных асобаў, ліставаньне, фотаздымкі, пэрыёдыкі й іншае, у розны ступені ўпарадкаванае, захоўваецца сёньня ў архіўных зборах Канады, ЗША, Вялікабрытаніі, Беларусі. Раскіданасьць архіваў — традыцыйная зьява для эміграцыі. Кожная арганізацыя й асоба сама вырашае, што рабіць са сваімі паперамі, дзе іх захаваньне будзе больш надзейнае й ці наогул нешта захоўваць варта. У выніку багата каштоўнага губляецца-зьнікае, і тым большую вартасьць набывае тое, што ўсё ж застаецца ды становіцца даступным дасьледнікам. Паспрабуем жа зрабіць агляд тае архіўнае канадыйскае беларусікі, якая на сёньня нам ведамая.

## Беларускія дакумэнты ў Канадзе

### *Нацыянальны архіў Канады*[1]

“Нацыянальны архіў і бібліятэка Канады” (*Library and Archives Canada*), як сёньня афіцыйна называецца гэтая ўстанова, захоўвае найбольшую колькасьць дакумэнтаў канадыйскіх беларусаў. Найвялікшая заслуга ў гэтым былога кіраўніка славянскага аддзелу архіву, украінца паводле паходжаньня Майрана Момрыка. Менавіта дзякуючы ягоным намаганьням сёньня даступныя дасьледнікам асабістыя архівы Янкі Садоўскага, Сяргея Хмары й Раісы Жук-Грышкевіч. Майран Момрык, які ад 1980 г. цягам некалькіх дзесяцігодзьдзяў займаў гэтую пасаду, вёў таксама перамовы пра перадачу ў Нацыянальны архіў Канады дакумэнтаў уладыкі Мікалая (Мацукевіча), Івонкі Сурвіллы, беларускай праваслаўнай царквы ў Таронта, Фэдэрацыі рускіх канадцаў (дзе сярод сябраў было багата беларусаў). На жаль, спробы атрымаць гэтыя архівы не прынесьлі посьпеху. Але й тое, што здолеў зрабіць кіраўнік славянскага аддзелу, сёньня складае найкаштоўнейшую частку канадыйскай архіўнай беларусікі.

Якія ж беларускія фонды захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Канады? Разгледзім у парадку іх зьяўленьня ў архіве.

---

[1] http://www.bac-lac.gc.ca.

Фонды Кастуся Акулы й выдавецкай суполкі “Пагоня”

Пісьменьнік і грамадзкі дзеяч Кастусь Акула быў адным зь першых, хто ўсьвядоміў важнасьць прысутнасьці беларускіх дакумэнтаў у Нацыянальным архіве Канады. У 1973 г. да яго зьвярнуліся супрацоўнікі архіву й неўзабаве пісьменьнік перадаў туды адносна невялікую колькасьць уласных матэрыялаў, што склалі адну архіўную скрыню і ўлічаныя як *Kastus Akula fonds — MG31-H40*[2]. У гэтым фондзе ўтрымліваюцца: вялікі альбом з рознымі выразкамі пераважна з канадыйскіх газэтаў, дзе згадваюцца беларусы або наогул праблемы паняволеных СССР народаў; шмат копіяў лістоў дзеяча да розных асобаў, пераважна да рэдактараў мясцовых пэрыёдыкаў з нагоды таго ці іншага апублікаванага матэрыялу. Кастусь Акула апантана абараняў беларускія інтарэсы ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця, і гэта добра адлюстроўвае згаданае ліставаньне. Таксама ў фондзе ёсьць невялікая колькасьць копіяў лістоў да Юркі Віцьбіча, Вінцэнта Жук-Грышкевіча, Алеся Грыцука.

Незразумела, чаму Кастусь Акула не працягнуў практыку перадачы сваіх дакумэнтаў у Нацыянальны архіў Канады. У выніку ягоная спадчына аказалася расьцярушаная ня толькі паміж рознымі сховішчамі, але й паміж рознымі краінамі, пра што яшчэ будзе гаворка ніжэй.

У той самы час паплечнік Кастуся Акулы з Таронта Антон Маркевіч перадаў у Нацыянальны архіў Канады дакумэнты выдавецкай суполкі “Пагоня”, якія таксама ўлічаныя як асобны невялікі фонд — *Pahonia Byelorussian Publishers & Arts Club fonds — MG55/28-No20*[3]. Тут захоўваюцца газэтныя выразкі, інфармацыйныя матэрыялы пра дзейнасьць суполкі ў 1973—1975 гг.

Фонд Міколы Сільвановіча

Архіў літаратара й грамадзкага дзеяча ў Вініпэгу Міколы Сільвановіча быў перададзены ягонай удавой Францішкай Сільвановіч у 1976 г. Пры гэтым атрыманае было падзелена: частка пэрыёдыкаў і кніг перададзеная ў Нацыянальную бібліятэку Канады (гэта значыць у бібліятэчны фонд); друкі рэлігійнай тэматыкі скіравалі ў бібліятэку Ўнівэрсытэту Сьвятога Паўла ў Атаве; друкі, якія паходзілі зь Нямеччыны, апынуліся ў бібліятэцы Ўнівэрсытэту Манітобы ў Вініпэгу; друкаваныя матэрыялы амэрыканскага паходжаньня скіраваліся ў Цэнтар дасьледаваньняў гісторыі іміграцыі ў Мінэапалісе (Мінэсота).

Фонд Сільвановіча (*Mikola Silvanovich fonds — MG31-H90*[4]) займае пяць вялікіх архіўных скрыняў. Першую частку дакумэнтаў складаюць

---

[2] http://www.bac-lac.gc.ca/eng/CollectionSearch/Pages/record.aspx?app=fonandcol&IdNumber=102688&new= –8586385017029579466.

[3] http://www.bac-lac.gc.ca/eng/CollectionSearch/Pages/record.aspx?app=fonandcol&IdNumber=106162&new= –8586385016450974450.

[4] http://www.bac-lac.gc.ca/eng/CollectionSearch/Pages/record.aspx?app=fonandcol&IdNumber=190569&new= –8586385015671081122.

біяграфічныя: вялікая колькасьць розных пасьведчаньняў і сэртыфікатаў Міколы Сільвановіча, асабліва зь нямецкіх і канадыйскіх часоў. Тут жа падаюцца творчыя дакумэнты: рукапісы й машынапісы вершаў, апавяданьняў, артыкулаў, у тым ліку й ніколі не апублікаваны паэтычны зборнік “У дарозе”, які аўтар падрыхтаваў яшчэ на мяжы 1940—1950-х.

Важную частку архіву складае карэспандэнцыя. Найперш гэта ліставаньне з сваякамі ў Беларусі. Цікавая акалічнасьць — да пачатку 1960-х гг. дзеяч пісаў да родных не ад свайго імя, а ад нейкага далёкага сваяка Сяргея Раманоўскага. І толькі пазьней прызнаўся маці, бацьку й братам, што гэта ён. Акрамя шматлікай і надзвычай цікавай карэспандэнцыі з роднымі, у разьдзеле багата лістоў і ад замежных беларусаў. Ёсьць пасланьні з паваеннай Нямеччыны (асабліва зьвязаныя зь дзейнасьцю майстэрні “Раніца”, якую заснаваў Сільвановіч у лягеры ў Майнлёйзе), ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Аргентыны, і, зразумела, з розных рэгіёнаў Канады. Сярод канадыйскіх карэспандэнтаў: Кастусь Акула, Мікола Ганько, Алесь Грыцук, Валер Навіцкі, Язэп Пітушка, Сяргей Хмара й іншыя, у тым ліку й малаведамыя беларусы, што працавалі ў капальнях і на іншых цяжкіх працах у 1950-я гг. Багата афіцыйнай карэспандэнцыі створаных Міколам Сільвановічам Беларускага культурнага таварыства й Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вініпэгу, у тым ліку перапіска з рознымі афіцыйнымі канадыйскімі ўстановамі, арганізацыямі іншых нацыянальнасцяў (найперш украінцаў) і беларускімі суполкамі ў розных краінах сьвету. З паасобных замежных беларусаў дзеяч найбольш ліставаўся з Аляксандрам Асіповічам-Асіпчыкам (асабліва ў нямецкія часы), Франуком Шаўроўскім з Саўт-Рывэру (той рабіў паперы, каб зь Нямеччыны выклікаць Сільвановіча ў ЗША), Аляксандрам Лашуком зь Лёндану (у якога пісьменьнік рэгулярна замаўляў беларускія кнігі й пэрыёдыкі), Палікарпам Маньковым (вялікі стос лістоў ад канца 1940-х да сярэдзіны 1950-х), Пётрам Саўчыцам (часоў яго знаходжаньня ў Аргентыне), Аўгенам Вярбіцкім (каля 30—40 лістоў з 1946—1957 гг.). Але ці не найбольш сталым карэспандэнтам Сільвановіча быў Юрка Віцьбіч.

Па-за карэспандэнцыяй у фондзе таксама багата пэрыядычных выданьняў і зь лягераў Ды-Пі, і з Аўстраліі, Вялікабрытаніі, ЗША, Канады, а таксама паасобныя друкі з розных краінаў. Захоўваюцца ў фондзе й выразкі з газэтаў з інфармацыяй пра беларусаў у Вініпэгу, невялікая колькасьць фотаздымкаў і іншыя дакумэнты.

Архіў Міколы Сільвановіча даволі поўна адлюстроўвае ягоныя жыцьцё й дзейнасьць у 1940-я — першай палове 1960-х гг. Ранейшых і пазьнейшых дакумэнтаў тут фактычна не сустракаецца.

Архіў Беларускага нацыянальнага аб’еднаньня

Беларускае нацыянальнае аб’еднаньне было заснаванае ў Таронта ў чэрвені 1952 г. у выніку расколу, які адбыўся ў Згуртаваньні беларусаў

Канады. Частка яго ўдзельнікаў, што не былі прыхільнікамі Рады БНР, заснавалі ўласную арганізацыю, цесна зьвязаную з царквой Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, будынак для якой быў неўзабаве набыты. Найбольшая актыўнасьць арганізацыі прыпала на 1950—1960-я гг. На самым пачатку 1980-х гг. яе былы сакратар Язэп Баброўскі перадаў дакумэнты ў Нацыянальны архіў Канады, дзе яны былі ўлічаныя як асобны фонд (*Byelorussian National Association in Canada fonds — MG28-V130*[5]) і склалі дзьве вялікія архіўныя скрыні.

З дакумэнтаў выглядае, што Язэп Баброўскі быў даволі пасьпяховым лекарам, а таксама сам пісаў невялікія зацемкі на беларускія тэмы ў розныя канадыйскія газэты. Але ягоных уласных папераў у фондзе небагата, галоўнае — гэта архіў арганізацыі. Тут захаваліся й Статут, і сьпісы сяброў, і касавая кніга, і пратаколы пасяджэньняў, і абвесткі ды інфармацыйныя матэрыялы й выразкі з газэтаў, зьвязаныя зь дзейнасьцю аб'еднаньня, але найбольш — арганізацыйнай карэспандэнцыі. БНА ліставалася зь вялікай колькасьцю як уласна канадыйскіх, гэтак і беларускіх арганізацый, у тым ліку і ў іншых краінах. Асобная тэчка прысьвечаная справе архімандрыта Ўладзімера Фінькоўскага, якога запрашалі быць настаяцелем царквы. Захавалася й карэспандэнцыя рэдакцыі літаратурна-мастацкага часопісу "Палесьсе", дзе можна знайсьці лісты Вітаўта Тумаша, Натальлі Арсеньневай, Уладзімера Сядуры, але найбольш лістоў Антона Даніловіча (Янкі Золака).

Паколькі БНА было цесна зьвязана з парафіяй Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Таронта, у архіве захавалася кніга-даведнік з імёнамі ўсіх прыхаджанаў гэтай царквы, а таксама некаторыя іншыя дакумэнты.

Храналягічныя межы фонду складаюць пэрыяд ад 1952 да 1977 г., і дзейнасьць арганізацыі ў гэты пэрыяд прадстаўленая даволі поўна.

Архіў Янкі Садоўскага

Дакумэнты дасьледніка Янкі Садоўскага трапілі ў архіў з ініцыятывы Майрана Момрыка паводле дамовы з аўтарам у лютым 1982 г. Дзеячы былі добра знаёмыя ў сувязі з працай Садоўскага над кнігай пра беларусаў у Канадзе, якую пэўны час курыраваў ад урадавых структураў менавіта Момрык. У выніку ў Нацыянальным архіве Канады зьявіўся адзін з найбагацейшых беларускіх архіўных фондаў (*John Sadouski fonds — MG31-D124*[6]). Што праўда, як і ў выпадку з паперамі Сільвановіча, атрыманае ад Янкі Садоўскага было падзелена: кніжная калекцыя скіраваная ў бібліятэку Таронтаўскага ўнівэрсытэту, а 13 касэтаў з інтэрв'ю (каля 12 гадзінаў), якія Янка Садоўскі запісваў з удзельнікамі

[5] http://www.bac-lac.gc.ca/eng/CollectionSearch/Pages/record.aspx?app=fonandcol&IdNumber=190621&new= –8586385015131992133.

[6] http://www.bac-lac.gc.ca/eng/CollectionSearch/Pages/record.aspx?app=fonandcol&IdNumber=190423&new= –8586385014636067262.

беларускай грамады ў Канадзе для сваёй кнігі, былі перададзеныя ў адмысловы аддзел Нацыянальнага архіву — *Film, Video and Sound Archives*. Асноўная ж частка дакумэнтаў склала пяць вялікіх архіўных скрынак і шэсьць меншых скрынак з картатэкамі.

Фонд Янкі Садоўскага апрацоўвала беларуска, філёляг, былая выкладчыца Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Ірына Лысенка. Асаблівасьцю архіву Янкі Садоўскага ёсьць амаль поўная адсутнасьць у ім так званых біяграфічных дакумэнтаў: некалькі варыянтаў аўтабіяграфіі, складзенай у 1970 годзе, выпіска зь ліста сястры Ліды, апублікаванага ў 1957 г. у газэце "За вяртанне на Радзіму", а таксама сьпіс публікацыяў — вось і ўсё. Ніякіх пасьведчаньняў, дыплёмаў, сэртыфікатаў і здымкаў у фондзе няма. Затое захавалася багата дакумэнтаў з навуковай дзейнасьці Янкі Садоўскага. Усе яны падзеленыя на разьдзелы паводле найбуйнейшых тэмаў, якімі цікавіўся дасьледнік: "Францыск Скарына", "Беларуская мова й літаратура" й "Беларусы ў Канадзе". У разьдзеле, прысьвечаным Францыску Скарыну, можна знайсьці англамоўны й франкамоўны тэксты працы Янкі Садоўскага "Доктар Францыск Скарына: жыцьцё, працы й мова", якая, відавочна, грунтавалася на ягоных дзьвюх доктарскіх працах, але так і не была надрукаваная асобнай кнігай. Тут жа варыянты артыкулаў навукоўца, прысьвечаных першадрукару, а таксама копіі тэкстаў іншых аўтараў на тую ж тэму. Разьдзел "Беларуская мова й літаратура" складаюць тэксты Садоўскага, прысьвечаныя беларускім уплывам на рускую літаратуру ў XVI — XVII стст., артыкулы для энцыкляпэдыяў, даведнікаў, альманахаў па рускай і славянскай літаратуры, публікацыі пра творы Васіля Быкава ды іншае.

Разьдзел "Беларусы ў Канадзе" — найвялікшы ў вопісе. Тут ня толькі прадстаўленыя варыянты частак аднайменнай кнігі, але й сабраныя Садоўскім публікацыі іншых аўтараў ды матэрыялы, атрыманыя ад арганізацыяў і паасобных дзеячаў. У асобны разьдзел вылучаныя "Крыніцы для вывучэньня беларусаў Канады й замежжа", дзе сабраныя шматлікія беларускія пэрыёдыкі з розных краінаў, інфармацыйныя паведамленьні пра дзейнасьць арганізацыяў і асобаў, а таксама картатэкі, складзеныя паводле згаданых крыніцаў.

Шмат дадае да разуменьня навуковай дзейнасьці Янкі Садоўскага й захаванае ў фондзе абшырнае ліставаньне. Тут багата карэспандэнцыі Вітаўта Тумаша, дзе навукоўцы абмяркоўваюць скарынаведныя дасьледаваньні, шмат уласна акадэмічнай перапіскі Садоўскага ў сувязі з працай ва ўнівэрсытэце, але ці не найбольш цікавую частку складаюць лісты ад канадыйскіх чыноўнікаў, а таксама суродзічаў-беларусаў у зьвязку з падрыхтоўкай кнігі. Карэспандэнтамі дасьледніка былі Сяргей Хмара, які падаваў у лістах адрэсы беларусаў і інфармацыю пра паасобныя арганізацыі, Янка Рапэцкі, што пісаў пра справы эвангельскіх

хрысьціянаў-беларусаў у Канадзе, Баляслаў Лісчонак, што распавядаў пра асяродак у Ашаве, і шмат іншых. Далёка ня ўсё Янка Садоўскі скарыстаў у сваёй працы, што яшчэ больш падвышае каштоўнасьць ягонага архіву.

На жаль, у фондзе Садоўскага амаль няма фотаздымкаў. Майран Момрык казаў, што той ня надта хацеў аддаваць здымкі, асабліва асабістыя. Тым ня менш, архіў Янкі Садоўскага мае выключную каштоўнасьць для тых, хто вывучае гісторыю беларускай эміграцыі ў Канадзе ды іншых краінах, а скарынаведныя працы фондаўтваральніка яшчэ чакаюць свайго дасьледніка.

Фонд Марыяна Зіняка (Сяргея Хмары)

Дакумэнты пісьменьніка, журналіста, выдаўца Сяргея Хмары былі перададзеныя ў Нацыянальны архіў Канады, як выглядае, ягонай удавой у 1993 г. і ўлічаныя як *Marian Ziniak fonds — MG31-H193*[7] (аб'ём — 5 вялікіх архіўных скрыняў). Апрацоўваў іх сам Майран Момрык (вопіс складзены ў 2002 г.), аднак апісаньне фонду й ягонай гісторыі даволі сьціплае.

Архіў Хмары паводле зьместу дакумэнтаў даволі разнастайны. Сярод біяграфічных тут розныя пасьведчаньні й сэртыфікаты 1949—1991 гг., запрашэньні, аўтабіяграфічныя накіды. Таксама захавалася пэўная колькасьць чарнавікоў і розных варыянтаў тэкстаў Сяргея Хмары: артыкулаў, вершаў і інш. Вялікую частку фонду складае карэспандэнцыя, якая крыху дзіўна сыстэматызаваная: у адным разьдзеле — паводле краінаў, у другім — паводле асобаў, у трэцім — паводле арганізацыяў. У выніку лісты ад аднае асобы могуць быць у трох розных месцах. Сярод карэспандэнтаў Сяргея Хмары найбольш сталым быў, відаць, Мікола Панькоў, акрамя яго, ёсьць лісты Янкі Садоўскага, Раісы Галяк, архіяпіскапа Ізяслава (Бруцкага), Эміля Цяўлоўскага, Янкі Макарэвіча, Янкі Ліманоўскага й іншых. Цікава, што большая частка ліставаньня датычыць 1980-х — пачатку 1990-х гг., у тым ліку багата лістоў зь Беларусі: ад Алеся Белага, Сяргея Чыгрына, Уладзіслава Вяроўкіна, а таксама зусім невядомых беларусаў, што пісалі эмігрантам з просьбамі аб дапамозе — своеасаблівая адзнака часу.

Асобнымі разьдзеламі захаваныя дакумэнты газэты "Беларускі Голас" і часопісу "Баявая Ўскалось" — адносна невялікая й там, і там карэспандэнцыя, чарнавікі артыкулаў ды іншае. Асобную скрыню займаюць паперы створанага Сяргеем Хмарам Канадыйскага клюбу этнічных журналістаў і пісьменьнікаў (статуты, пратаколы, сяброўскія карткі й г. д.). Багата матэрыялаў сабрана ў разьдзеле "Рознае" — інфармацыйныя брашуры, буклеты, улёткі, выразкі з газэтаў, пэрыё-

[7] http://www.bac-lac.gc.ca/eng/CollectionSearch/Pages/record.aspx?app=fonandcol&IdNumber=192427&new= –8586385014176334454.

дыкі й паасобныя выданьні як канадыйскіх беларусаў, гэтак і суродзічаў зь іншых краінаў.

Наогул, захаваныя ў Нацыянальным архіве Канады дакумэнты Сяргея Хмары выглядаюць даволі эклектычна. Відавочна, што гэта толькі частка архіву дзеяча. Тут надзвычай мала дакумэнтаў, зьвязаных з выданьнем газэты "Беларускі Голас": толькі фрагмэнты ліставаньня й асобныя чарнавікі матэрыялаў, таксама занадта невялікая частка асабістай карэспандэнцыі дзеяча (асабліва калі ўлічваць, наколькі актыўна ён ліставаўся зь беларусамі ў розных краінах ад канца 1940-х гг.). Верагодна, як і пісаў Сяргей Хмара ў адным зь лістоў, асноўны ягоны й рэдакцыйны архіў захоўваўся недзе ў спэцыяльным месцы, па-за ягонай хатай, каб забясьпечыць ягоную недаступнасьць "пабочным асобам". Лёс гэтай часткі застаецца няведамы. Варта заўважыць, што фонд Марыяна Зіняка ў Нацыянальным архіве Канады належыць да ўмоўна адкрытых — для доступу да яго трэба атрымаць дазвол ад дачкі дзеяча Магдалены.

Між іншага ў архіве ёсьць і асобны фонд самой Магдалены Зіняк, ведамай дзяячкі шматкультурнага тэлебачаньня — *Madeline Ziniak fonds — R8446—0—3-E*[8]. Фонд быў сфармаваны таксама ў 1993 г. і складаецца з 90 відэакасэтаў з тэлепраграмамі этнічнага тэлебачаньня. Беларускіх матэрыялаў у ім няма.

<u>Фонд Раісы Жук-Грышкевіч</u>

Паводле архіўных запісаў, грамадзкая дзяячка Раіса Жук-Грышкевіч пачала перадаваць дакумэнты ў Нацыянальны архіў Канады яшчэ ў 1974 г. Яна дадавала новыя й новыя матэрыялы ад пачатку 1980-х таксама Майрану Момрыку, і гэта цягнулася да 2005 г., бо менавіта ім датуецца найбольш позьні дакумэнт. У выніку склаўся найбольшы з усіх беларускіх фондаў у Нацыянальным архіве Канады — *Raisa Zuk-Hryskievic fonds — MG31-H46, R4894—0—6-E*[9]. Ён утрымлівае 2 фотаальбомы й каля 5 архіўных мэтраў папяровых дакумэнтаў (разам 26 вялікіх архіўных скрыняў).

Архіў Раісы Жук-Грышкевіч — гэта й архіў Вінцэнта Жук-Грышкевіча, а таксама зборы дакумэнтаў тых арганізацыяў, у якіх сужэнцы бралі ўдзел. Што датычыць дакумэнтаў Вінцэнта (яны першыя прадстаўленыя ў вопісе), то тут можна знайсьці аўтабіяграфічныя запісы й публікацыі дзеяча, дзёньнікі (пачынаючы ад службы ў Арміі Андэрса ў Італіі ў 1944—1945 гг. і зь перапынкамі да 1973 г.), адрасныя кнігі, але галоўнае — багатая карэспандэнцыя дзеяча. Тут вялікая колькасьць

[8] http://www.bac-lac.gc.ca/eng/CollectionSearch/Pages/record.aspx?app=fonandcol&IdNumber=188724&new= –8586385013360609022.

[9] http://www.bac-lac.gc.ca/eng/CollectionSearch/Pages/record.aspx?app=fonandcol&IdNumber=26610&new= –8586385013700689619.

лістоў Міколы Абрамчыка й ягонай жонкі Ніны (ад 1947 да 1969 гг.), Юліяны Вітан-Дубейкаўскай, Натальлі Арсеньневай, айца Аляксандра Надсана, Вітаўта Тумаша й шматлікіх іншых беларусаў з розных краінаў сьвету ад паваеннага часу да сярэдзіны 1980-х.

У пэрсанальных дакумэнтах Раісы Жук-Грышкевіч яе аўтабіяграфія, нататкі зь першай паловы 1950-х гг., пасьведчанні й сэртыфікаты, зьвязаныя з навучаньнем і працай у Канадзе. Асобны разьдзел складае карэспандэнцыя: дзяячка мела ўласнае ліставаньне й зь сям'ёй Абрамчыкаў, і зь Юліянай Вітан-Дубейкаўскай, і з Натальляй Арсеньневай, і зь Вітаўтам Тумашам, і зь вялікай колькасьцю іншых беларусаў з розных краінаў. Таксама захаваліся накіды й выразкі з тэкстамі Раісы Жук-Грышкевіч, зь яе прамовамі ды іншым.

Вялікую частку фонду складае архіў Згуртаваньня беларусаў Канады. Раіса Жук-Грышкевіч зьбірала ў сябе дакумэнты арганізацыі ад самага заснаваньня да канца 1980-х гг. Тут захоўваюцца пратаколы (1949—1988), дакумэнты зьездаў ЗБК ад 1-га (1949) да 42-га (1985), выходная ды ўваходная карэспандэнцыя (1949—1988), адрасныя кнігі, сьпісы сяброў, рахункі й г. д. — вялікі, амаль што вычарпальны архіў арганізацыі.

Таксама ў фондзе Раісы Жук-Грышкевіч захаваўся архіў Каардынацынага камітэту беларусаў Канады (найбольш карэспандэнцыі 1970—2000-х гг.), Беларускага выдавецкага фонду ў Канадзе, матэрыялы, зьвязаныя з Сустрэчамі беларусаў Паўночнай Амэрыкі (ад 1-й да 18-й), пілігрымкамі ў Сьвятыню пакутнікаў у Мідлэндзе (1989—2000), некаторыя дакумэнты Беларуска-Канадыйскага жаночага згуртаваньня, БІНіМу ў Канадзе, БАПЦ і іншых арганізацый. Асобны разьдзел — дакумэнты Рады БНР, найбольш з часоў прэзыдэнцтва Вінцэнта Жук-Грышкевіча (калі Раіса выконвала сакратарскія функцыі) — пратаколы 12—16-й сэсіяў Рады БНР (1973—1979), некаторыя іншыя матэрыялы. Таксама захавалася карэспандэнцыя "Вестак з Канады" (адмысловых старонак газэты "Беларус") — пераважна за 1963—1970 гг., матэрыялы разнастайных беларускіх канфэрэнцыяў, фэстываляў у Канадзе. Адклалася ў фондзе таксама вялікая колькасць інфармацыйных матэрыялаў пра дзейнасьць беларускіх арганізацыяў па-за Канадаю: буклеты, абежнікі, брашуры, пэрыёдыкі. Цікавасьць маюць скрыпты беларускіх перадачаў Радыё "Вызваленьне": ад самага заснаваньня ў траўні 1954 г. да траўня 1956 г. — з часу, калі там працаваў Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Фонд Раісы Жук-Грышкевічаў сапраўды мае вялікае значэньне й для вывучэньня беларускай прысутнасьці ў Канадзе, і для дасьледаваньня шмат якіх аспэктаў беларускай дзейнасьці на Захадзе наогул.

Па-за разгледжанымі асобнымі фондамі ў Нацыянальным архіве Канады беларускія матэрыялы можна шукаць у калекцыі фотаздымкаў,

а таксама пэрыядычных выданьняў. Агулам жа трэба зазначыць, што дзякуючы таму, што паасобныя беларускія дзеячы або іх сваякі ў свой час паклапаціліся пра лёс дакумэнтаў, сёньня ў Нацыянальным архіве Канады захаваныя й даступныя для дасьледнікаў надзвычай цікавыя й каштоўныя матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі. Безумоўна, аддаленасьць архіву ад Беларусі стварае пэўныя праблемы для айчынных навукоўцаў, але прынамсі гэтыя дакумэнты надзейна захаваныя, што найболып важна.

***Іншыя зборы беларускіх дакумэнтаў у Канадзе***

Традыцыйнымі месцамі захаваньня беларускіх дакумэнтаў на эміграцыі былі цэрквы. Аднак у Канадзе гэта ня сталася менавіта так. У царкве Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай, дзе на пачатку 2010-х ужо фактычна не засталося беларусаў, і беларускіх дакумэнтаў не захавалася. Сьвятар-украінец, які зьявіўся там у 2005 г., распавядаў, што ў царкве на той час быў "вэрхал" і ніякіх архіваў не было.

Крыху іншая сытуацыя ў царкве Сьвятога Кірылы Тураўскага, якая да сёньня застаецца цэнтрам беларускага жыцьця ў Таронта, бо тут існуе ўласна Грамадзка-культурны цэнтар. У цэнтры ёсьць бібліятэка, дзе можна знайсьці розныя, найперш эміграцыйныя выданьні, падшыўкі газэтаў "Беларускі Эмігрант", "Беларускі Голас", "Бацькаўшчына", "Беларус" і іншых. Тут жа нейкім чынам апынуўся архіў Беларускага вызвольнага фронту ў Канадзе, якім доўгі час кіраваў Уладзімер Гуцька. Колькі дзясяткаў тэчак пераважна з карэспандэнцыяй арганізацыі даюць добрае ўяўленьне пра гэтую структуру. Іншых архіваў у Грамадзка-культурным цэнтры ня знойдзена.

Цікавыя дакумэнты зь беларускага жыцьця ў Канадзе й ня толькі захоўваюцца таксама ў некаторых прыватных архівах. Прыкладам, у архіве Міколы Ганько зьберагліся заявы-анкеты на ўступленьне ў ЗБК ад канца 1940-х гг., а таксама архіў арганізацыі 1990-х гг., тамсама некаторыя дакументы парафіяльнай рады царквы Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Таронта й адпачынковага цэнтру "Слуцак". Пасьля сьмерці Міколы Ганько гэтыя дакумэнты захоўвала ягоная жонка Марыя, а зь яе адыходам яны перайшлі пад апеку Валянціны й Юрыя Шаўчэнкаў.

Адзін з найбагацейшых прыватных архіваў у Канадзе належыць таксама старшыні Рады БНР Івонцы Сурвілле. У яе захоўваюцца дакумэнты мужа Янкі Сурвіллы, у тым ліку карэспандэнцыя яшчэ зь Нямеччыны й Гішпаніі, а таксама тысячы здымкаў, у тым ліку з Канады — ад пачатку 1970-х, калі сям'я апынулася ў гэтай краіне, Янка Сурвілла, які быў добрым фатографам, здымаў усе беларускія імпрэзы, на якіх прысутнічаў. У выніку склалася ўнікальная фотахроніка беларускага жыцьця за чвэрць стагодзьдзя, дзясяткі, калі ня сотні альбомаў. Акрамя таго, у Івонкі Сурвіллы захоўваюцца яе асабістыя дакумэнты яшчэ з дацкіх, францускіх, гішпанскіх часоў, матэрыялы, што датычаць дзейнасьці Чарнобыльскага фонду, сучаснай Рады БНР ды іншае.

## Дакумэнты канадыйскіх беларусаў у ЗША

Рознымі шляхамі некаторыя дакумэнты канадыйскіх беларусаў трапілі ў суседнюю краіну. Паасобныя комплексы пэрыёдыкаў і карэспандэнцыі можна знайсьці ў архіве БІНіМу, перададзеным у Нью-Ёрскую публічную бібліятэку. Некаторыя лісты й інфармацыйныя матэрыялы захоўваюцца таксама ў Беларускай фундацыі Крачэўскага. Лісты канадыйскіх беларусаў, відавочна, магчыма адшукаць у беларускіх калекцыях Александрыйскай бібліятэкі Ратгерскага ўнівэрсытэту. На жаль, для ўсіх згаданых збораў няма дэталёвых апісаньняў, таму пошук дакумэнтаў у іх даволі складаны.

Найлепш апісаны на сёньня архіў Раісы Жук-Грышкевіч (больш позьняя частка), што захоўваецца ў Цэнтры дасьледаваньняў гісторыі іміграцыі (*Immigration History Research Center*, скарочана *IHRC*) пры Мінэсоцкім унівэрсытэце ў горадзе Мінэапаліс[10]. Дакумэнты перадавала сама дзяячка цягам 2003—2007 гг. Паводле апісаньня, зробленага архівістам Ігарам Лабацэвічам, *"большасьць матэрыялаў архіву доктара Раісы Жук-Грышкевіч*[11] *складаюць дакумэнты, запрашэньні й праграмы беларускіх мерапрыемстваў ды пэрыядычныя выданьні Згуртаваньня беларусаў Канады (Камунікат ЗБК) і Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, Рады БНР на выгнаньні й іншых беларускіх арганізацыяў Канады. Цікавым для гісторыкаў можа быць тэчка зь ліставаньнем Вінцэнта Жук-Грышкевіча з доктарам V.J. Kaye (Уладзімерам Кісялеўскім), канадыйска-ўкраінскім гісторыкам і чыноўнікам Канадыйскага аддзелу нацыянальнасьцяў і іміграцыі, першым прэзыдэнтам Канадыйскай асацыяцыі славістаў, які ў 1950—1960-х працаваў над манаграфіяй, прысьвечанай беларусам Канады"*[12].

Яшчэ адно месца, куды мэтанакіравана перадаваліся архівы канадыйскіх беларусаў, знаходзіцца ў Паўднёва-Заходнім каледжы ў Вінфілдзе (штат Канзас). Тут у 2007 г. быў заснаваны Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў, адной з функцыяў якога зьяўлялася зьбіраньне беларускіх архіваў. Менавіта сюды быў перададзены, напрыклад, асноўны архіў пісьменьніка Кастуся Акулы, у які ўваходзілі аўтографы й машынапісы ягоных твораў, афіцыйная карэспандэнцыя й прыватнае ліставаньне, а таксама альбомы з фотаздымкамі ды іншыя дакумэнты[13]. У той самы Цэнтар перадаў сваю калекцыю друкаў манрэальскі

---

[10] University of Minnesota: The Immigration History Research Center: http://www.ihrc.umn.edu.

[11] Zuk-Hryskievic, Raisa, Papers: http://ihrc.umn.edu/research/vitrage/all/z/ihrc2932.html.

[12] Лабацэвіч, Ігар. Беларускія архівы ў штаце Мінэсота // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 246.

[13] http://belarusiancenter.org/projects/the-archive-project.

беларус Анатоль Храноўскі, былы старшыня Згуртаваньня беларусаў Квэбэку. Сярод перададзенага часопіс “Прамень”, колькі сотняў кніг, мапаў і кружэлак з запісамі беларускіх песень[14]. На жаль, дэталёвага апісаньня архіваў, сабраных у цэнтры, у вольным доступе няма й дакумэнты застаюцца маладасяжнымі для дасьледнікаў. Да таго ж існуе інфармацыя, што ад 2017 г. Цэнтар спыніў сваю дзейнасьць.

## Дакумэнты канадыйскіх беларусаў у Скарынаўскай бібліятэцы ў Лёндане

У Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане захоўваюцца некалькі комплексаў дакумэнтаў канадыйскай беларусікі. Найвялікшы — дакумэнты, дасланыя Раісай Жук-Грышкевіч. Відаць, недзе пры канцы 1990-х (гэтым часам датуюцца найпазьнейшыя дакумэнты) канадыйская беларуска пераслала ў Бібліятэку некалькі вялікіх скрыняў з добра ўпарадкаванымі матэрыяламі, якія датычаць Згуртаваньня беларусаў Канады, Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады й Рады БНР. У сыстэматызаваных па гадах тэчках утрымліваюцца копіі пратаколаў, лістоў, запрашальнікі й праграмы мерапрыемстваў і іншыя дакумэнты зь дзейнасьці ЗБК і ККБК (найбольш за 1960-я — пачатак 1990-х гг.). Відавочна, асобна былі дасланыя 8 тэчак і капэртаў матэрыялаў Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады, дзе ўтрымліваюцца пераважна друкаваныя й адмыслова збрашураваныя дакумэнты. Таксама былі перададзеныя ў Бібліятэку два альбомы матэрыялаў, прысьвечаных стварэньню, асьвячэньню Беларускіх помнікаў у Сьвятыні пакутнікаў у Мідлэндзе (Канада) ды паломніцтвам у яе.

Асобна варта адзначыць архіў Рады БНР, перададзены Раісай Жук-Грышкевіч. Тут можна знайсьці: Бюлетэні Рады БНР, матэрыялы Лігі БНР (1968—1972), дакумэнты сэктару Рады БНР у Канадзе за 1961—1979 гг., пратаколы сэсіяў Рады БНР (XII — XVII) за 1973—1982 гг., пратаколы пасяджэньняў Прэзыдыюму Рады БНР за 1969—1982 гг., прывітальныя словы, прамовы, вітальныя лісты й г. д. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, рахункі канцылярыі старшыні Рады БНР за 1973—1982 гг., сыстэматызаваныя па гадах тэчкі выходнай і ўваходнай карэспандэнцыі за 1970—1984 гг. і іншае ў копіях або арыгіналах. Выглядае, Раіса Жук-Грышкевіч імкнулася ўсімі сродкамі гарантаваць захаванасьць дакумэнтаў канадыйскіх структураў, да якіх яна мела дачыненьне, таму дасылала іх у розныя архівы, часта робячы па колькі копіяў.

Ускосна з Канадаю зьвязаныя дакумэнты Рады БНР, перададзеныя ў Лёндан Івонкай Сурвіллай. Гэта копіі ліставаньня й друкаваных матэрыялаў 2000-х гг.

---

[14] http://belarusiancenter.org/projects/the-archive-project.

Другі вялікі комплекс дакумэнтаў канадыйскай беларусікі быў дасланы ў Скарынаўку Кастусём Акулам. Гэта важная частка ягонага ўласнага архіву. Сярод захаванага тут можна знайсьці некаторыя біяграфічныя дакумэнты: школьныя пасьведчаньні з розных установаў адукацыі, у тым ліку зь Віленскай беларускай гімназіі й настаўніцкіх курсаў у Глыбокім, колькі здымкаў сямейных, а таксама з канадыйскага грамадзкага жыцьця. Маюць цікавасьць творчыя дакумэнты пісьменьніка: рукапіс часткі з трылёгіі "Гараватка" — "Закрываўленае сонца"; копіі зацемак Кастуся Акулы ў канадыйскіх газэтах, скрыпты перадачаў для Радыё "Свабода" пра Канаду (1963—1964 гг.) ды іншае. Але асаблівую каштоўнасьць мае разнастайная карэспандэнцыя: дзясяткі, калі ня сотні лістоў перапіскі зь Юркам Віцьбічам або Станіславам Станкевічам; ліставаньне з а. Язэпам Гэрмановічам, Аўгенам Трусавым, Янам Пятроўскім, з рознымі выданьнямі (сярод іншага ёсьць некалькі лістоў Фларыяна Чарнушэвіча з Аргентыны й адказ Кастуся Акулы на заўвагі да "Змагарных дарог"); перапіска з часу працы над "Змагарнымі дарогамі" й "Гараваткай"[15]; ліставаньне ў справе газэты "Бацькаўшчына" з 1960-х гг. (пераважна з Паўлам Урбанам); ліставаньне з рознымі асобамі па лініі прадстаўніцтва ўраду БНР у Канадзе (зь Міколам Абрамчыкам, Пётрам Манькоўскім, Аўгенам Кахановскім і іншымі). Па-за тым ў архіве Кастуся Акулы ўтрымліваюцца паведамленьні й праграмкі розных мерапрыемстваў беларусаў у Канадзе й ЗША, зацемкі з газэтаў і г. д. Захаваныя ў пісьменьніка дакумэнты ўяўляюць цікавасьць ня толькі для дасьледчыкаў ягонай творчасьці, але й для гісторыі беларускай прысутнасьці ў Канадзе й наогул беларускай эміграцыі на Захадзе.

Такім чынам, Беларуская бібліятэка імя Францыска Скарыны ў Лёндане стала яшчэ адным сховішчам, дзе захавалася надзвычай каштоўная, хоць і належна не апрацаваная частка канадыйскай архіўнай беларусікі[16].

## Дакумэнты канадыйскіх беларусаў у Беларусі

Зьвязаныя зь дзейнасьцю канадыйскіх беларусаў дакумэнты можна знайсьці таксама на Бацькаўшчыне. Так, у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у ф. 1267 "Рэдакцыя газэты "Голас Радзімы"' захоўваецца карэспандэнцыя з прадстаўнікамі прасавецкіх арганізацый

[15] Значная частка ліставаньня, прысьвечанага "Змагарным дарогам" і "Гараватцы", была надрукаваная ў: Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск: Кнігазбор, 2012. С. 127—353.

[16] Агульнае апісаньне архіваў Скарынаўскай бібліятэкі гл.: Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 73—100.

Канады (найперш Фэдэрацыяй рускіх канадцаў), а таксама разнастайная інфармацыя пра іх дзейнасьць і кантакты з БССР.

У Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва дакумэнты канадыйскіх суродзічаў паступаюць найперш зь нью-ёрскага БІНіМу: гэта паасобныя лісты Кастуся Акулы, Антона Маркевіч, Вінцэнта й Раісы Жук-Грышкевічаў і інш., выдадзеныя ў Канадзе паштоўкі, улёткі, запрашальнікі, абвесткі, праграмы й іншыя інфармацыйныя матэрыялы аб дзейнасьці нацыянальных арганізацыяў. Д-р Зіна Гімпелевіч перадала ў БДАМЛМ некаторыя дакумэнты Канадыйскага БІНіМу: Статут, пратаколы (1967, 1968, 2002 гг.), праграмы, запрашэнні, заяўку на грант і іншыя дакумэнты па арганізацыі Тыдня беларускіх студыяў у Атаве ў 1975 г., нешматлікую карэспандэнцыю розных часоў і інш. Некаторыя фотаздымкі й друкі канадыйскіх беларусаў трапілі ў архіўмузэй таксама ад пісьменьніцы Вольгі Іпатавай.

Дакумэнты беларусаў Канады магчыма таксама знайсьці ў архівах грамадзкіх арганізацыяў, якія працуюць з дыяспарай: Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” й Беларускага таварыства па сувязях з суайчыньнікамі за рубяжом “Радзіма”. Аднак гэтыя архівы пакуль, на жаль, не апрацаваныя.

***Яўхім Кіпель***

# ЛІСТЫ ДА ЮРКІ ВІЦЬБІЧА

*Пэрыяд жыцьця беларускіх уцекачоў у паваеннай Нямеччыне быў надзвычай багаты на ліставаньне: шукалі “сваіх”, навязвалі кантакты з “чужымі”, стваралі арганізацыі, засноўвалі выданьні, дыскутавалі, сварыліся, аб’ядноўваліся. Эпісталярыяў з таго часу засталося багата. Цікавыя яны адлюстраваньнем і арганізацыйнага нацыянальнага жыцьця, і штодзённасьці ягоных удзельнікаў, надзеяў і засьцярогаў, радасьцяў і змаганьняў. Захаваныя ў архіве Юркі Віцьбіча[1] некалькі лістоў ад Яўхіма Кіпеля з 1947—1950 гг. менавіта пра тое.*

*Паколькі асобе адрасата ў гэтым выпуску “Запісаў БІНіМ” ужо прысьвечана багата месца, то нагадаем чытачам пра асобу аўтара лістоў.*

***Яўхім Кіпель*** *(12.10.1898, в. Байлюкі Бабруйскага пав., цяпер Глускі раён Магілёўскай вобл. — 27.07.1969, Нью-Джэрзі, ЗША) — грамадзкі дзеяч, бацька Вітаўта Кіпеля. Падчас Першай сусветнай вайны — паручнік царскай арміі, ваяваў на Румынскім і Паўднёвым франтах. У 1918—1921 гг. — у Чырвонай арміі. Ад 1921 г. жыў у Менску, быў сябрам Тэрміналягічнай камісіі Наркамату асьветы, працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Арыштаваны ў 1930 г. па справе “Саюзу вызваленьня Беларусі” й высланы на пяць гадоў у Вяцкую вобласьць, у 1935 г. арыштаваны паўторна й высланы на Далёкі Ўсход. У 1942 г. вярнуўся ў Менск, працаваў у Галоўным школьным інспэктараце, рэдакцыі газэты “Голас вёскі”, займаўся падрыхтоўкай падручнікаў. Быў старшынём Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Браў удзел у грамадзка-палітычным руху, уваходзіў у кіраўніцтва БЦР, рэдагаваў газэту “Беларускае Слова”, быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Быў адным са стваральнікаў Асацыяцыі былых палітвязьняў савецкіх лягераў.*

*Ва ўспамінах “Эпізоды”, выдадзеных шмат гадоў пасьля сьмерці аўтара, Яўхім Кіпель так згадвае нямецкі пэрыяд жыцьця свайго й ўсяе ўцякацкае беларускае грамады:*

---

[1] Лісты захоўваюцца ў фондзе Юркі Віцьбіча ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва.


Яўхім Кіпель

*«Апынуўшыся ў зусім новых абставінах, напачатку неспрыяльных, беларускія эмігранты пачалі арганізоўвацца. Першы камітэт паўстаў у горадзе Рэгенсбургу, а затым зьявіліся беларускія камітэты-селішчы ў Мюнхэне, Аўгсбургу, Ульме ды меншых гарадох амэрыканскае акупацыйнае зоны — Фюсэне, Мурнаве, Ашафэнбургу, Остэргофэне, Фогэнштраўсе, Мітэнвальдзе. Такі-ж працэс пачаўся ў брытанскай і францускай зонах.*

*Съледам за лягерамі пачалі ствараца арганізацыі, партыі, дзясяткі школаў. Я са сваімі аднадумцамі Сымонам Жамойдам, Сымонам Шаўцовым, Міколам Сьцяпанавым, Міколам Падлазьнікам зарганізавалі Беларускую Народную Партыю (1946—1947), ды згуртавалі сваіх прыхільнікаў у некалькіх беларускіх лягерох. На пачатку 1949 году нашыя аднадумцы зь Беларускай Народнай Партыі сталі на чале беларускай групы ў шматнацыянальным лягеры Шляйсгайм, каля Мюнхэну.*

*Беларускія групоўкі і партыі ўвайшлі ў склад такіх арганізацый, як, напрыклад, АБН — Антыбальшавіцкі Блёк Народаў. [...] Увайшлі мы і ў іншыя міжнацыянальныя згуртаваньні, дзе ясна паставілі наш палітычны прынцып: мы дамагаемся незалежнай беларускай дзяржавы. Беларусы сталі сябрамі Нямецкай Кааліцыі Былых Вязьняў Савецкіх і Нямецкіх Канцэнтрацыйных Лягероў.*

*Калі ў гэтым часе беларусы як нацыянальнасьць засьведчылі аб сваіх нацыянальных ідэалах іншым народам — безумоўна, вельмі дадатнае зьявішча, — дык на нашым нутраным полі нам наўрад было чым пахваліцца. Мы, беларускія эмігранты, палітычна разьядналіся. У нас утварыліся два варожыя палітычныя лягеры: "крывічы" і "зарубежнікі", ці (я прыхільнік больш дакладнае тэрміналёгіі) лягер БНРаўцаў і лягер БЦРаўцаў. Я асабіста належаў і належу да групы БЦР. На мой пагляд, нічога не было ў тым зьняважлівага, што ў часе вайны мы стварылі БЦР, беларускую адміністрацыю, войска, школьніцтва. Мы тварылі беларускую нацыянальную дзяржаўнасьць. Бясспрэчна, да поўнае дзяржаўнасьці нам было далекавата, але-ж трэба было зь нечага пачынаць, бо за нас, за нашую нацыю паўсюдна выступалі саветы. Я ўважаў, што мы паступалі правільна.*

*Хутка пасьля арганізацыйнага пэрыяду аднавіла палітычную дзейнасьць Рада БНР на чале з М. Абрамчыкам. Яшчэ незадоўга перад тым, у 1945 годзе, гэтая група актыўна выступала за перамену назову Беларусь на Крывія (таму іх і пачалі называць крывічамі),*

*крытыкавала ў друку працу БЦРаўцаў у часе нямецкае акупацыі. Супрацоўнічаць з БНРаўскім крылом беларускае эміграцыі я ня мог: мае палітычная пагляды былі інакшыя»*[2].

*Прыведзены фрагмэнт успамінаў дамагае лепей зразумець і зьмест, і кантэкст пададзеных ніжэй лістоў.*

Паважаны Спадар Стукаліч!

Я сёньня прачытаў у расейскім *"ОБЗОРЕ"*[3], што расейцы арганізавалі ў Мюнхене *"Общерусский Комитет в Баварии"*. Гэтае права на арганізацыю такога камітэту яны адтрымалі ад нямецкіх уладаў на падставе артыкулу баварскай канстытуцыі. Я лічу, што такі камітэт трэба арганізаваць і нам, беларусам. Няхай існуе міжлягерны камітэт, ён патрэбен, але побач з ім павінен існаваць і агульнаэмігранскі камітэт для ўсіх беларусаў.

Міжлягерны будзе падпарадкаваны УНРА[4] або ўстанове, якая замяніць УНРА, а агульнаэміграцкі будзе падпарадкаваны нямецкім уладам.

Я чуў, што крывічы на чале з Кендышам[5] хочуць сябе абвясьціць Цэнтральным Камітэтам. Падобнае авантуры ад іх можна чакаць. Будучы наш Цэнтр[альны] Эмігранскі Камітэт павінен зьмяшчацца ў Мюнхене.

Падзяліцеся маімі думкамі з людзьмі нашага кола.

Як справы, ці можна да Вас прыехаць для далейшай супольнай літаратурнай творчасьці? Ці падрыхтаваная магчымасьць?

З павагай да Вас

Я[ўхім] Кіпель

16/VI-47

---

[2] Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Нью Ёрк, 1998. С. 245—247.

[3] ***"Обзор"*** — расейскі эміграцыйны часопіс, які выдаваўся ў Мюнхене — Фэльдмохінгу ў 1946—1948 гг.

[4] **УНРА — Адміністрацыя ААН па дапамозе і рэабілітацыі** (*United Nations Relief and Rehabilitation Administration — UNRRA*) — міжнародная арганізацыя па апецы над насельніцтвам вызваленых ад нямецкіх войскаў тэрыторый. Створана на прапанову прэзыдэнта ЗША Франкліна Дэлана Рузвэльта ў 1943 г. і займалася пераважна дапамогай уцекачам, апекай над лягерамі бежанцаў і г. д. У Эўропе спыніла дзейнасьць у 1947 г, калі клопат пра ўцекачоў пераняла *IRO*. У Азіі працягвала дзейнасьць да 1949 г.

[5] **Васіль Кендыш** (1908—2003), рэлігійна-грамадзкі дзеяч. У 1929 г. закончыў Клецкую беларускую гімназію. Вучыўся ў Найвышэйшай тэхнічнай школе ў Вільні, закончыў Настаўніцкі інстытут у Беластоку. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі ў Баранавічах, Нясьвіжы, Клецку. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягерах *DP* у Нямеччыне. Быў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэту на Амэрыканскую зону акупацыі. Актыўны ўдзельнік аднаўлення БАПЦ. Увесну 1949 г. выехаў у ЗША.

26—7—47

Паважаны Спадар Віцьбіч!

Я атрымаў Вашыя абудвыя лісты. Шчыра прашу прабачэньня, што не адказаў на ваш першы ліст. Бачыце, пасьля таго, як я адтрымаў першы ліст, зараз жа быў запрошан на ўдзел у арганізацыі саюзу былых бальшавіцкіх вузьнікаў. Гэтая арганізацыя яшчэ ня скончылася, яна будзе канчацца ў аўторак у Шлізгайме[6]. Пачатак пасяджэньня арганізацыйнага сходу будзе а 2-й гадзіне. Ад крывічоў быў Савёнак[7], ён ужо заўчасьне ўздымаў пытаньне аб правядзеньні ў сябры К-га [Каханоўскага][8]. Кендыш скардзіўся праф. Сьцяпанаву[9] на нашую дэзарганізатарскую дзейнасьць, Сьцяпанаў намечан у старшыні Саюзу. Саюз будзе інтэрнацыянальны, а пакуль што прысутнічалі толькі беларусы, расейцы і ўкраінцы. Ініцыятыва гэтага саюзу выйшла з пэўных сфераў. Я меркаваў, што калі ўсё ўтворыцца, так я Вам напішу.

Узьніклі і яшчэ дадатковыя пытаньні ў адным мейсцы, там я даведаўся пра некаторыя акалічнасьці з Ерм-м [Ермачэнкам][10] і з нашым прыяцелям С-скім [Сабалеўскі][11], але аб гэтым у другі раз раскажу, сёньня няма часу.

Я прыеду, вельмі будзе карысна пагаварыць. Зараз гэта нават неабходна.

Ну, бывайце здаровы, прывітаньне Вашым дамашнім і знаёмым.

З павагаю Я[ўхім] К[іпе]ль

---

[6] Маецца на ўвазе **Шляйсгайм** (ням. *Schleißheim*) — *DP*-лягер у Баварыі (недалёка ад Мюнхену), дзе ўтрымліваліся расейцы (большасьць), украінцы й беларусы. Працавалі беларускія садок і школа. У 1949 г. беларусаў адсюль перавезьлі ў лягер Розэнгайм.

[7] **Лявон Савёнак** (1897—1974), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, журналіст. Удзельнік аднаўленьня Рады БНР на эміграцыі. Ініцыятар заснаваньня газэты “Бацькаўшчына”.

[8] **Аўген Каханоўскі** (да эмігр. **Калубовіч**, 1912—1987), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, гісторык. Удзельнік аднаўленьня Рады БНР на эміграцыі. Ад 1948 г. быў кіраўніком ураду БНР. Ад 1950 г. жыў у ЗША.

[9] **Мікола Сьцяпанаў** (1896—1972), доктар-отарыналярынголяг, праваслаўны сьвятар. Быў рэпрэсаваны. У 1943—1944 гг. рэктар Магілёўскага мэдычнага інстытуту. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Стаў сьвятаром пасьля асабістай трагедыі — сьмерці сына. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР (травень 1948 г.), на якім быў прызначаны міністрам культуры й асьветы. Пазьней радны БЦР у ЗША.

[10] Маецца на ўвазе Іван Ермачэнка.

[11] Маецца на ўвазе Юры Сабалеўскі. Крыху пазьней ён, як Юрка Віцьбіч і Яўхім Кіпель, уваходзіў у рэдакцыю газэты “Беларускае Слова”.

17 ліст[апада] 1947

Вельміпаважаны Спадар Віцьбіч!

Шчыра дзякую за ліст. Артыкул аб сьмерці Жылкі[12] я прыгатаваў на 18 пісаных ад рукі старонках, на машынцы гэта будзе старонак шэсьць[13]. Я знайшоў два лісты Сасіновіча[14], які быў разам з Жылкаю і таму дата сьмерці ўстаноўлена дакладна.

Адначасова з гэтым я трошкі закранаю пытаньне аб нацдэмах і аб сучаснасьці. Мне ня хочацца пасылаць артыкул поштаю, я яго прывязу сам. На наступным тыдні я буду там у Вас і асабіста перадам Вам.

Навіны ў мяне таксама дробныя, але-ж ёсьць і я аб іх раскажу Вам, як прыеду.

Мне думаецца, што Ермачэнка зараз нідзе не паказваецца, чаму аб ім узьнялі пытаньне?

Вось тое добра, што не пагаджаюцца з “крывіцкай” бандай, на выбарах патрэбна, каб яны пацярпелі паражэньне.

У Лютэнзэі[15] адвялі мейсца для Фогенштраўса, але да гэтага часу яшчэ ніхто ня прыехаў.

Ну пакуль бывайце здаровы.

Хутка ўбачымся.

З пашанаю да Вас

Я[ўхім] Кіпель

7/V-48

Шчыра дзякую за віншаваньні. Выбачайце, што не зрабіў першым.

Ад душы жадаю, каб наступны дзень св. Вялікадня мы сустракалі ў сябе на Бацькаўшчыне.

Жыве Беларусь!

Я[ўхім] Кіпель

---

[12] **Уладзімер Жылка** (1900–1933), паэт, перакладчык, крытык. Арыштаваны ў 1930 г. Памёр у высылцы ад сухотаў.

[13] Відаць, маецца на ўвазе артыкул, які быў пазьней апублікаваны як: Я. К. Пясьняр, змагар, бядняк празь век. Мае ўспаміны аб сьмерці Ўладзімера Жылкі // Шыпшына. 1948. № 7. С. 49—52.

[14] Маецца на ўвазе **Іван Сасіновіч** (1900—?), пэдагог. Працаваў настаўнікам у слуцкай сямігадовай школе № 1. Арыштаваны ў ліпені 1930 г. па справе “Саюзу вызваленьня Беларусі”, асуджаны на 5 гадоў высылкі ў г. Уржум. Вызвалены ў 1935 г. Вярнуўся ў Беларусь.

[15] **Лютэнзі** (ням. *Luttensee*) — возера каля Мітэнвальду, на поўдні Баварыі, на беразе якога знаходзіўся беларускі *DP*-лягер.

2—8—50

Паважаны Сп. Віцьбіч!

Ад душы вітаю з новым номерам “Шыпшыны”[16]. З свайго боку я Вам пасылаю першы номер нашага часопісу — “Выклік”[17] — на ангельскай мове. Я Вас і Кавыля лічу таксама паліткатаржанамі і думаю, што Вы таксама нешта дасьцё, не адкладаючы на далёка. Мы падаем матар’ял на расейскай мове, а ўжо амерыканцы пераводзяць. Хочаце? Я буду настайваць, каб Вы ўвайшлі ў рэдкалегію.

Ну, прывітаньне Вашым, Кавылю і Качанскаму. Пішэце!

Ваш Я[ўхім] К[іпе]ль

P. S. Напішэце мне адрыс Сяднёва і Клішэвіча, я ім таксама прапаную напісаць. Трэба будзе “Шыпшыну” пасланьць у Аўстралію Шаўцову[18], ён прасіў прысылаць. Колькі яна каштуе?

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі*

[16] Відаць, маецца на ўвазе № 9 часопісу, які ўбачыў сьвет у 1950 г.

[17] Маецца на ўвазе ***“The Challenge”*** — часопіс Асацыяцыі палітычных вязьняў савецкіх лягераў, які друкаваўся ў Нью-Ёрку ад 1950 г. Ад беларусаў у рэдкалегію ўваходзіў Яўхім Кіпель. Часопіс выдаваўся да сярэдзіны 1950-х гг.

[18] **Сымон Шаўцоў** (1911—1999), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. закончыў гістарычны факультэт БДУ. Настаўнічаў, служыў у Чырвонай арміі й трапіў у нямецкі палон. Закончыў школу прапагандыстаў пад Бэрлінам, быў накіраваны на працу ў Менск. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Браў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР у маі 1948 г. Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Быў сябрам Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі. Аўтар кнігі “Мая Адысея”, што ўбачыла сьвет у 1999 г.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*
***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# “БЫЎ ЧАС, БЫЎ ВЕК, БЫЛА ЭПОХА”…

## Лісты з архіву Юрыя Попкі

Вынесеныя ў загаловак словы зь ведамай, даўно не ананімнай паэмы “Сказ пра Лысую гару”, вядома ж, пра зусім іншы час, хоць нібыта й той самы век. Эміграцыя так і не стварыла аб сабе ні геараічнай паэмы, ні сатырычнай.

Але паваенная эміграцыя пакінула па сабе лісты, адны зь якіх прачытваюцца сёньня як памфлеты, іншыя — як трагедыя, некаторыя — як камэдыя. Яны пра той час, які Хведар Ільляшэвіч назваў *“бандытызмам у нашым нацыянальна-грамадзкім жыцьці*”, а па словах Ніна Абрамчык, *«зьмяніўся час, тэрыторыя, нават часткова людзі, але-ж шмат якія асталіся, а “нязгода і ненавісьць ідуць тым самым шляхом”*».

Тут публікуюцца лісты людзей розных палітычных поглядаў — і БНР, і БЦР, і БВР, з розных гарадоў і краінаў — ёсьць і Парыж, і Лёндан, і лягеры *DP* у Нямеччыне. Бадай неверагодна, што ў іх быў адзін і той адрасат — Юры Попка, але так яно сталася, і гэты факт дазваляе нам сёньня праз тыя лісты пабачыць зрэз беларускага жыцьця, не абмежаванага ні краінамі, ні палітычнымі партыямі, — той час, той век, пачуць рэха тае эпохі.

Эпісталярная эпапэя. Раман-хроніка. Эміграцыйная сага.

Як ні акрэсьлі, усё адно: гэта — беларуская трагедыя.

Ніжэй — толькі асобныя яе фрагмэнты. Але асобныя фрагмэнты складаюцца ў агульную карціну.

Каротка пра галоўных дзейных ці, дакладней, прамаўляючых асобаў.

*Юры Попка* (ён жа Юры Жывіца, Жорж, Юры Сямёнавіч) — пісьменьнік, выдавец і грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся на хутары Высокі Груд Пружанскага павету ў 1912 г. Пачаў друкавацца ў 1938 г. на старонках заходнебеларускіх пэрыёдыкаў. У 1942 г. пасьля паездкі ў Беласток і знаёмства з Хведарам Ільляшэвічам стаў пісаць для “Новай Дарогі”. У 1943 г. стварыў і ўзначаліў у Пружанах аддзел Беларускага аб’еднаньня, займаўся арганізацыяй беларускіх школ. Ад 1944 г. —


Юры Попка. 1951 г.

на эміграцыі. У Нямеччыне захварэў і да 1950 г. лекаваўся ў розных шпіталях і санаторыях. Жыў у Пірмасэнсе, пазьней пасяліўся ў Ляймэне. Выдаваў шэраг беларускіх пэрыёдыкаў: “Беларуская праўда” (1965—1988), “Бюлетэнь Беларускай цэнтральнай рады — Жыве Беларусь!” (1976—1986), “Весткі Інстытуту Беларусаведы” (1986—1993) і інш. Быў кіраўніком палітычна-прапагандысцкага аддзелу Галоўнага штабу Беларускага вызвольнага фронту. Стварыў беларускі музей. Аўтар кніг: “Сын” (1950), “Празь сьлёзы” (1951), “Песьня салаўя” (1955, 1963), “Аднагалосьсе” (1961), “Кошык” (1961), “Расказы” (вып. 1—3, 1961), “У санаторнай белі” (1961), “Журавель” (1962), “Па чужых кутках” (1962), “Сын” (1962), “Сьвеціць у тумане” (вып. 1—3, 1962), “Умелы падыход” (1962), “Зь вінтоўкай у руках” (1963), “Пушча шуміць” (1963), “Новая хата” (1964), “Носьбіт ідэі” (1964). Памёр у Ляймэне ў 1990 г.

Ягоная эпісталярная спадчына расьцярушаная па розных краінах. Прадстаўленыя ніжэй лісты зьберагаліся ў архіве царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Вялікая частка ліставаньня з калегам па Беларускім вызвольным фронце Дзьмітрыем Касмовічам захоўваецца ў фондзе апошняга ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва ў Менску. Асноўны ж архіў дзеяча застаўся ў Ляймэне, і лёс ягоны пакуль ня высьветлены.

У часе атрыманьня зьмешчаных ніжэй лістоў Юры Попка жыў у Нямеччыне, адкуль ня мог выехаць па стане здароўя — сухоты. Магчыма, гэта спрычынілася й да праблемаў у сям’і: жонка Марыя з дачкой Рагнедай зьехалі ў ЗША, дзе першая знайшла сабе новага мужа[1]. У змаганьні з хваробаю й роспаччу пісьменьнік займаўся актыўнай творчай і грамадзкай працай, пра што й сьведчыць ліставаньне.

Адрасантаў жа Юрыя Попкі будзем прадстаўляць па чарзе зьмяшчэньня іхных эпісталярыяў.

*Лявон Рыдлеўскі* — грамадзкі дзеяч, былы ўдзельнік Слуцкага паўстаньня. Нарадзіўся ў 1903 г. у вёсцы Ўльянавічы Магілёўскай губ. (цяпер Сеньненскі раён Віцебскай вобл.). Вучыўся ў Слуцкай беларускай гімназіі. У 1920 г. далучыўся да слуцкіх паўстанцаў. Пасьля разбраеньня іх на польскай тэрыторыі, у 1921 г., жыў у Вільні. Закончыў Віленскую беларускую гімназію, у 1923 г. пераехаў у Прагу. У 1928 г. закончыў тут Політэхнічны інстытут з дыплёмам інжынэра. У 1929 г.

[1] Пра пазьнейшыя дачыненьні з дачкою й жонкаю можна знайсьці зьвесткі ў публікацыі: Гардзіенка, Натальля. Юры Попка: пісьменьнік нявыдуманай літаратуры // Дзеяслоў. № 5 (72). 2014. С. 249—264.

разам зь Міколам Абрамчыкам выехаў у Францыю. У 1930 г. стаў адным з арганізатараў Хаўрусу беларусаў у Францыі. Падчас Другой сусьветнай вайны быў у шэрагах францускага Супраціву. Па вайне вярнуўся ў Парыж, дзе актыўна ўдзельнічаў у стварэньні Аб'яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, выданьні "Беларускіх Навінаў", быў сакратаром Прэзыдыюму Рады БНР. Пазьней у сувязі з рэзкім пагаршэньнем здароўя (рак) і цяжкім матэрыяльным становішчам пераехаў у Лёндан пад апеку а. Часлава Сіповіча, дзе ў 1953 г. памёр.

У часе ліставаньня зь Юрыем Попкам Лявон Рыдлеўскі актыўна займаўся грамадзкай дзейнасьцю ў Парыжы, у супрацы зь Міколам Абрамчыкам.

*Ніна Абрамчык* (дзяв. Ляўковіч, псэўд. Ніна Раса) — грамадзкая дзеячка, пісьменьніца, жонка Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка. Нарадзілася ў 1916 г. у вёсцы Шані (сёньня Пружанскі раён Берасьцейскай вобл.). Закончыла Віленскую беларускую гімназію, вучылася ў Віленскім унівэрсытэце. Была сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Увосень 1939 г. вярнулася на Пружаншчыну, дзе працавала настаўніцай. Ад 1941 г. была ў Бэрліне. Працавала ў Беларускім камітэце самапомачы й газэце "Раніца", удзельнічала ў падрыхтоўцы й выданьні беларускіх кніг. У гэты час пабралася шлюбам зь Міколам Абрамчыкам, разам зь якім у 1943 г. пераехала ў Парыж. Пісала апавяданьні. У 1947 г. выдала адзіны нумар часопісу Беларускага жаночага аб'яднаньня ў Францыі "Беларуска". У 1955 г. нарадзіла сына Альгерда. Жыла ў прыгарадзе Парыжу Вільпэнце. Пасьля сьмерці мужа адмовілася аддаць беларускай грамадзе архіў Рады БНР. Працавала ў *Musée de l'Homme* ў Парыжы. Памерла ў 2003 г.

У часе ліставаньня зь Юрыем Попкам Ніна займалася актыўнай грамадзкай дзейнасьцю, заангажавалася ў жаночым руху, усяляк падтрымоўвала свайго мужа ў ягонай палітычнай барацьбе.

*Хведар Ільляшэвіч* — грамадзкі дзеяч, журналіст, пісьменьнік, знаёмец Юрыя Попкі па Беластоку. Нарадзіўся ў 1910 г. у Вільні. Закончыў гістарычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Падчас нямецкай акупацыі — у Беластоку, кіраваў Беларускім камітэтам, рэдагаваў штотыднёвік "Новая Дарога". У ліпені 1944 г. выехаў у Бэрлін, працаваў у рэдакцыі газэты "Раніца". У 1944 г. выдаў восем кніг з сэрыі "Народная бібліятэчка". Пасьля капітуляцыі Нямеччыны жыў у лягеры Ватэнштэт, настаўнічаў у мясцовай беларускай гімназіі, апекаваўся беларускім скаўтынгам. Аўтар кніг: "Навагоднія запросіны" (1946), "У Купальскую ноч" (1946), "Песьні выгнаньня" (1947), "Апавяданьні" (1948). Рэдагаваў часопіс "Шляхам жыцьця" (1946—1948), бюлетэнь "Апошнія весткі" (разам з *М. Шылам*). Загінуў у аўтакатастрофе ў 1948 г.

Лісты да Юрыя Попкі Хведар Ільляшэвіч пісаў у апошні год перад сваёй трагічнай сьмерцю. Магчыма, Жывіца пазьней меў нейкае

пачуцьцё віны перад сваім калегам і сябрам, зьбіраньнем творчай спадчыны якога з часам заняўся. У 1981 г. выйшла першая ўкладзеная ім кніга “Недапетая песьня. Жыцьцё і творчая спадчына Хведара Ільляшэвіча”.

*Юрка Віцьбіч* (ён жа Стукаліч, ён жа Сэрафім Шчарбакоў) — пісьменьнік, выдавец і грамадзкі дзеяч, асобе якога ўжо шмат прысьвечана ў гэтым выпуску “Запісаў БІНіМ”. У часе ліставаньня зь Юрыем Попкам ён займаўся актыўнай выдавецкай дзейнасьцю, друкаваў літаратурны часопіс “Шыпшына”, быў рэдактарам газэты “Беларускае Слова”, шчыраваў у змаганьні з “крывічамі”.

*Алесь (Аляксей) Вініцкі* — грамадзкі дзеяч, пэдагог. Нарадзіўся ў 1891 г. у вёсцы Малева Слуцкага павету Менскае губэрні (цяпер Нясьвіскі раён Менскай вобл.). Пасьля заканчэньня Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі працаваў выкладчыкам. У часе Першай сусьветнай вайны ваяваў у царскім войску, даслужыўшыся да званьня капітана. Пасьля вайны вярнуўся ў родную вёску, дзе арганізаваў беларускую школу, якую неўзабаве зачынілі польскія ўлады. Настаўнічаў у польскіх школах, а з прыходам Саветаў стаў дырэктарам дзесяцігодкі. За немцамі ствараў беларускія школы й аднавіў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю. Пасьля Другой сусьветнай вайны ў Нямеччыне спрыяў стварэньню беларускіх лягераў *DP*. Ад 1949 г. — дырэктар Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, выкладаў геаграфію. У 1956 г. выехаў у ЗША. Займаўся грамадзкай і навуковай працай, быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Каліфарнійскага аддзелу. Радны БНР. Аўтар працы “Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох” (Лос Анджэлес, 1968). Памёр у Каліфорніі ў 1972 г.

У часе ліставаньня зь Юрыем Попкам Алесь Вініцкі займаўся актыўнай пэдагагічнай і грамадзкай дзейнасьцю ў лягерах *DP*.

*Людвік Галубовіч* (на эміграцыі Зарэчны) — вайсковы й грамадзкі дзеяч, самая неадназначная асоба сярод адрасантаў Юрыя Попкі. Нарадзіўся ў 1915 г. у Ратамцы (цяпер Менскі раён Менскай вобл.). Праз хваробу бацькі мусіў кінуць школу і ў 16 гадоў пайсьці працаваць. Уладкаваўся на сакратарскую працу ў трэсьце “ЛесБел”. Пазьней, магчыма, працаваў у іншых установах цягам чатырох гадоў. Атрымаць вышэйшую адукацыю не пасьпеў. У 1935 г. быў асуджаны на шэсьць гадоў зьняволеньня, аднак праз пяць гадоў вызвалены й працаваў у Хабараўску. У Беларусь вярнуўся ў 1941 г. і хутка быў мабілізаваны ў Чырвоную армію. Трапіў у нямецкі палон, зь якога быў вызвалены ўвесну 1942 г. Працаваў у структуры вэрмахту. Займаў становішча інспэктара пры 9-й арміі па наглядзе за дзейнасьцю мясцовых аддзелаў паліцыі, а таксама працаваў на іншых пасадах. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны больш за два гады знаходзіўся пад арыштам. Аднак па вызваленьні навязаў кантакты з брытанскай адміністрацыяй у Нямеччыне і ў 1949—1953 гг.

працаваў у сыстэме Брытанскай кантрольнай камісіі на Нямеччыну на становішчы дарадчыка ў пытаньнях савецкай сыстэмы й яе органаў. Здолеў зацікавіць брытанскую выведку справай арганізацыі беларускага збройнага супраціву ў БССР, ладзіў навучаньне дывэрсійных групаў. У 1952 г. пры падтрымцы Радаслава Астроўскага заснаваў арганізацыю беларускіх вайскоўцаў на эміграцыі Беларускі вызвольны рух, які дэкляраваў сваю цесную сувязь з антысавецкім падпольлем у Беларусі. У 1955 г. адышоў ад справаў арганізацыі й беларускага жыцьця наогул. Празь некаторы час стаў падпісвацца як *"ксёндз Людвік Тытулярны Пастар Копыльскага Рэфармаванага Каталіцкага Кальвінскага Касьцёлу"*. Памёр у 1964 г. у Мюнхен-Глядбаху[2].

У часе ліставаньня зь Юрыем Попкам Галубовіч кіраваў Беларускім вызвольным рухам (і яшчэ не пасьпеў канчаткова пасварыцца з Радаславам Астроўскім) і актыўна (можна нават сказаць — прафэсійна) займаўся антысавецкай дзейнасьцю. Прыведзены ніжэй ягоны ліст уражвае ня толькі авантурнымі з гледзішча сёньняшняга часу плянамі па захопе ўлады ў Беларусі, але й глыбокім разуменьнем сытуацыі ў беларускім руху на эміграцыі й ягоных пэрспэктываў. А некаторыя ягоныя словы й сёньня выглядаюць актуальнымі.

*Радаслаў Астроўскі* — Прэзыдэнт БЦР, яшчэ адна асоба сярод адрасантаў Юрыя Попкі, якая не патрабуе адмысловага прадстаўленьня. У часе ліставаньня ён жыў Лёндане пад апекаю свайго сына Віктара, удзельнічаў у жыцьці беларускай эміграцыі ў Вялікабрытаніі й наогул на Захадзе, намагаўся захаваць раўнапраўнае становішча БЦР у змаганьні з Радай БНР.

Пры ўсёй розьніцы палітычных, прафэсійных, узроставых асаблівасьцяў адрасантаў Юрыя Попкі ўсіх іх аб'ядноўвае актыўная беларуская дзейнасьць. І ў зьвязку з гэтым вельмі адпаведна гучаць словы Людвіка Галубовіча: *«...і Хмара, і Асіпчык, і Попка, і Астроўскі, і Абрамчык, і мы ў тым ліку робім нешта беларускае, і кожны пакрысе, як мурашка, цягне на агульны беларускі муравейнік. А чужынец, назіральнік не апытваецца, хто гэта зрабіў, а кажа: "беларусы працуюць, беларуская справа жыве!". А калі гэта так, то мне ў найбольшай меры напляваць, хто мае "номер першы", а хто мае "номер апошні" ў гэтым агульным катле»*. Відаць, і Юрыю Попку было ўсё роўна, ён ліставаўся з усімі й сам зацята з году ў год, нягледзячы на праблемы са здароўем і сямейную неўладкаванасьць, рабіў уласны ўнёсак у агульную справу. Плёнам застаўся створаны ім музэй, выдадзеныя

[2] Болей пра Людвіка Галубовіча (Зарэчнага) гл.: Юрэвіч, Лявон. Танальнасьць біяграфіі як энцыкляпэдычнага жанру // Запісы БІНіМ. № 30. Нью-Ёрк — Менск, 2006. С. 223—230; Гардзіенка, Натальля. Людвік Галубовіч (Зарэчны) і Дзьмітры Касмовіч у лістах 1951—1953 гг. // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 271—301.

кнігі й пэрыёдыкі, пастаўлены ў Ляймэне помнік беларусам. Але тое будзе потым. Пакуль жа — пры канцы 1940-х — у сярэдзіне 1950-х усё бадай толькі пачыналася...

Парыж, 22.XI.47.

Вельмі паважаны сябра Попко.

Запраўды, вельмі цяжка што небудзь радзіць Вам, сябра Попко, але думаю, што самае найлепшае гэта будзе перасядзець там на мейсцы зіму, а на весну думаць пераяжджаць сюды. Думаю, што можна будзе знайсьці нейкую лёгкую працу і не ў фабрычным цэнтры, а дзесь на правінцыі з здаровай ваколіцай.

Мне прыйшло на думку — гэта заняцца аўчарства. Тут ёсьць досыць вялікія абшары, якія не надаюцца на ніякую гаспадарку — горш з кустамі ці ляскамі хваёвымі, і звычайна тут пасьвяць авечкі і козы.

Я бачыў у паўднёвай Францыі працу такога аўчара — рана раніцай улетку выганае іх да хмызьняку, а калі становіцца горача — гоніць дамоў, каб выгнаць яшчэ позна вечарам. У зімку — пры добрай пагодзе іх выганяе. Ня ведаю, што яшчэ пры гэтым робіць — як даглядае, але мне здаецца, што праца ня вельмі цяжкая. Аднак — трэба разумецца пры даглядзе хваробы, парод і г. д.

І вось, сябра Попко, калі гэта Вам падыйходзіць, я пачну старацца знайсьці Вам мейсца на поўдні Францыі.

Апошнім часам мы маем пертрактацыі з беларусамі Вашае зоны[3], каб там закласьці аддзел Аб’еднаньня Беларускіх Работнікаў[4]. Як нам здаецца, цяпер там на Вашай зоне пачалі беларусы троху варушыцца. Найбольш актыўным зьяўляецца Грамыко[5] — г. зн. часта піша, прапануе, радзіцца і агулам відаць, што чалавеку хочацца наладзіць грамадзкае жыцьцё. Ён там у Саўльгаў[6] мае нейкі гандаль, мае шмат занятку, але з ахвотай бярэцца і да агульнае справы. Др. Шудзейка[7] таксама не адстае.

---

[3] Юры Попка жыў у францускай зоне акупацыі Нямеччыны.

[4] **Аб’еднаньне беларускіх работнікаў у Францыі** (АБРФ) — арганізацыя, якая дзейнічала ў Францыі ад 1945 г. і ў заснаваньні якой Лявон Рыдлеўскі браў актыўны ўдзел.

[5] Маецца на ўвазе **Сяргей Грамыка** (?—?), грамадзкі дзеяч, які пазьней жыў у ЗША, дзе займаўся беларускай дзейнасьцю ў штаце Канектыкут. Належаў да Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

[6] **Заўльгаў** (ням. *Bad Saulgau*) — горад на поўдні Нямеччыны, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг. Пасьля вайны ў Заўльгаў утварыўся беларускі асяродак.

[7] **Аляксей Шудзейка** (1913—1969), грамадзкі дзеяч. У гады Другой сусьветнай вайны ўзначальваў Беларускае прадстаўніцтва ў Торуні, пазьней працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё “Вінэта”. Па вайне жыў у францускай зоне акупацыі Нямеччыны. З 1949 г. — у ЗША.

Вельмі было-б важна заснаваць там у вас беларускую арганізацыю, з нашай помаччу гэта было-б лёгка аформіць, вось толькі, каб не зарвацца. Раз пачаўшы, трэба, каб справа ішла сур'ёзна і стала. Каб ня было толькі пшык і годзі.

Сколькі Вас там Беларусаў у Біберах[8]? Якія настроі? Ці ня чулі Вы, дзе цяпер Цэлеш Мікалай? Пастарайцеся мне прыслаць яго адрыс.

Што рам робіць др. Войтэнка[9]? Ужо даўно ад яго ня меў вестак.

Вельмі магчыма, што пад канец гэтага месяца да вас загляне сп. Абрам[чык] Мікола[10], і тагды на мейсцы і жывым словам шмат што высьветліцца.

Шчыра дзякуем Вам за прэсу. На вялікі жаль, адсюль ідзе нерэгулярна, шмат разоў павяртаецца назад. Ці атрымалі Вы "Божым Шляхам". Вышла ўжо два нумар, і перад Калядамі выйдзе 3.

Жыве Беларусь!

Прывітаньне ўсім Беларусам.

Лявон Рыдлеўскі.

Парыж, 15.4.48

Даражэнькія,

Ужо так даўно ня было ад Вас лісту. Што ў Вас чуваць? Як маецеся? Спадзяюся, Жорж, што Ты паправіўся, бо калісь пісаў, што едзеш лячыцца. Пішы!

У нас — вясна. Зелена, цёпла, цьвітуць сады.

Пачынаюць прыяжджаць нашыя з Даніі[11]. Заўтра чакаем другога транспарту. Гэта ўсё моладзь.

Шмат нашых адгукаецца з далёкага Усходу, Індакітаю, дзе забраліся нашыя ваякі.

Спадзяюся забраць сюды Ніку[12], можа за пару месяцаў удасца, ужо запісала яго на ўнівэрсытэт.

Маю шмат працы, чуюся перамучаная, прытым раптоўная зьмена пагоды вельмі ўплывае на мой рэўматызм. Але часта выяжджаю за горад пагрэцца на сонцы.

---

[8] **Бібэрах** (ням. *Biberach an der Riß*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг. Тут у 1945 г. быў польскі лягер *DP*, дзе была створаная беларуская група.

[9] Маецца на ўвазе Віктар Войтанка.

[10] У 1947 г. Мікола Абрамчык рэгулярна езьдзіў у Нямеччыну, актывізуючы прыхільнікаў аднаўленьня Рады БНР.

[11] У гэты час у Даніі апынуліся дзясяткі беларускіх сем'яў, якія патрапілі пад пагрозу рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз. Мікола Абрамчык змог дамовіцца аб пераезьдзе тых беларусаў у Францыю.

[12] Відаць, маецца на ўвазе **Ніканор Ляўковіч** (1922—1995), брат Ніны Абрамчык, які жыў у Мюнхене.

Вось апошні тыдзень мела гасьцей са Скандынавіі. Паказывала ім Парыж ды ваколіцы.

Шмат гаварылі аб Беларусі, аб якой яны чулі ўпяршыню, і захопліваліся беларускім мастацтвам і культурай ды вытрымнасьцю пад столькімі акупантамі.

Ці ёсьць у Вашай зоне беларуская жаночая арганізацыя, калі не, абавязкова стварыце “Аб’еднаньне Беларускіх Жанчын” — ёсьць тэндэнцыя і абавязкова патрэбна мець усюды жаночыя беларускія арганізацыі. Незадоўга будзе зноў кангрэс[13]. Затым усяго найлепшага, чакаю лісту і вестак.

Жыве Беларусь!

Ніна [Абрамчык].

Парыж, 19.6.48.

Дарагі Жорж,

Вельмі мяне ўсьцешыў Твой ліст, які я вось толькі што атрымала. Шчыра Табе за яго дзякую. Я ўжо вельмі турбавалася, што з Табой, што так доўга няма ніякіх ад Цябе вестак, і ня ведама, як тваё здароўе. Цяпер вельмі цешуся, што Ты папраўляешся і незадоўга будзеш зусім здаровы і вернешся да працы, якой так шмат.

Жорж, дай мне адрыс Твае жоначкі! Я хачу зь ёю перапісвацца, ды-й нашая жаночая арганізацыя хоча навязаць сьцісьлейшыя кантакты з нашымі жанчынамі па-за Францыяй. Не хачу Цябе турбаваць, каб Ты жоначцы сваёй перасылаў лісты, таму прашу, дай мне Яе адрыс. Прытым і дачушка Твая, думаю, ужо незадоўга пачне вершы пісаць.

Толькі помні, Жорж, падлячыся добра, як сьлед, не хватайся зараньня да працы, бо ўсёроўна яна ня будзе пазытыўнай, калі праз сілу.

Як з Тваім раманам, што Ты калісь пачаў пісаць?

Хачу Табе сказаць, што трошкі ліст Твой мяне заскочыў, не такі зраўнаважаны, як заўсёды. Прыпісваю гэта Твайму стану здароўя і таму, Жорж, яшчэ раз напамінаю — ня кідайся надта да працы, бо можаш сабе пашкодзіць, лепей яшчэ месяц-два падлячыся, каб тады ўсімі сваімі сіламі мог узяцца за працу.

Ліст Твой мне навеяў шмат якіх думак. Не хачу аднак пісаць усё, каб Цябе неペратаміць маім даўгім і можа заэнэргічным на Твой настрой лістом.

Аднак можа пастараюся абмяняцца некаторымі думкамі, толькі прашу, Жорж, не нэрвуйся, калі-б што колечы Табе здалося заэнэргічнае

[13] Магчыма, маецца на ўвазе кангрэс **Лігі жанчын на эміграцыі**, заснаванай у лютым 1947 г. Пасьля першага зьезду жанчын эміграцыі, што адбыўся ў траўні 1947 г., у яе склад увайшлі прадстаўніцы беларускіх, украінскіх, эстонскіх, літоўскіх, польскіх, латышскіх, югаслаўскіх і каўказскіх арганізацый, што дзейнічалі ў Францыі, Бэльгіі, Вялікабрытаніі, ЗША й Канадзе.

ці мо ня зусім супадала з Тваёй думкай. Лепш пакінь чытаць або зусім зьнішч, ня чытаючы далей. Калі паправішся, можам заўсёды вярнуцца да гэтай тэмы.

Пазволь Цябе запытаць, якая радакцыя ангажуе Цябе ў супрацоўнікі? Прачытаўшы далей ліст, мне здалося, што адна з "Воляў"[14] ці "Вызваленьняў"[15]. Так?

Вельмі добра, пішы, толькі помні, Жорж, што пісаць трэба тое, што варушыцца пад чацьвёртым рабром, а ня тое, што ўлятае з мэгафону ў вуха. Спадзяюся, Жорж, прышлеш мне гэты нумар часапісу з сваім артыкулам.

Між іншым, ці ведаеш, што ёсьць у Нямеччыне Сашка Дарафейчук[16]. Апісаў мне свой выезд зь Беларусі — жудкі малюнак.

Жорж, пішаш, што Табе *"вельмі прыкра, што цяпер у нас такі непарадак, калі трэба..."*.

Жорж! Ты толькі цяпер яго бачыш, ці абачыў???????

Зьмяніўся час, тэрыторыя, нават часткова людзі, але-ж шмат якія асталіся, а *"нязгода і ненавісьць ідуць тым самым шляхом"*. Ці-ж Ты ня ведаў, што і "грамада"[17], і "хадэкі"[18], і розныя "коопэратывы-супалкі" і іншыя, іншыя былі ў той-жа Вільні, але часта дарогі між імі былі вельмі крутымі. Ня думай, што зь Беларускага Студэнцкага Саюзу[19] можна было так лёгка трапіць у "Скарынію"[20] і быць там мілым госьцем — або наадварот. А зрэштай — Беларуская гімназія[21] і беларускі Музэй[22] былі

[14] Відаць, маецца на ўвазе **"Беларуская Воля"** — выданьне Беларускай народнай партыі, што выходзіла ў Гарміш-Партэнкірхене ў 1947—1950 гг. Рэдактар — Яўхім Кіпель, выдавец — Сымон Жамойда.

[15] **"Вызваленьне"** (***"The Liberation"***) — штотыднёвы інфармацыйны бюлетэнь лягеру Міхельсдорф, які выдаваўся пад рэдакцыяй Антона Даніловіча (Янкі Золака) у сакавіку — жніўні 1948 г.

[16] Відаць, маецца на ўвазе **Аляксандар Дарафейчук** (1915—1985), які пазьней жыў у Нью-Джэрзі (ЗША).

[17] Маецца на ўвазе Беларуская сялянска-работніцкая грамада.

[18] **Хадэкі** — сябры Беларускае хрысьціянскае дэмакратыі, партыі, якая дзейнічала ў 1917—1940 гг.

[19] **Беларускі студэнцкі саюз** — арганізацыя студэнтаў-беларусаў Унівэрсытэту Стэфана Баторыя ў Вільні, якая існавала ў 1921—1939 гг.

[20] **"Скарынія"** — арганізацыя беларускіх студэнтаў у Вільні, створаная некаторымі былымі ўдзельнікамі БСС, якая дзейнічала ў 1931—1934 гг.

[21] **Віленская беларуская гімназія** — найстарэйшая беларуская сярэдняя навучальная ўстанова, якая працавала ў Вільні ў 1919—1944 гг.

[22] **Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча** існаваў у Вільні ў 1919—1945 гг. Як і гімназія, ён месьціўся ў базыльянскіх мурах на Вастрабрамскай вуліцы.

ў тым самым доме і на тым самым панадворку, але не заўсёды можна было і магчыма адведаць адно і другое...

Тады мы былі малымі, нас далёка трымалася ад гэтых спраў.

Цяпер мы вырасьлі і шмат чаго пасьпелі забыць, нават і тое, аб чым ня ведалі тады.

Барацьба — адвечны закон прыроды!!!

Барацьба была ўсёды і заўсёды, мы тако-ж ня з бульбы, а зь нечага такога, што фэрмэнтуе і дае нешта нейкае, што можна часамі ўжываць і зноў нікуды нявартыя асадкі, якія выкідаюцца вон, хоць яны і пакідаюць па сабе надоўга непрыемны пах.

Жорж, пішу гэты ліст толькі сама ад сябе, хоць можа тут і будуць успамінацца трэйцція асобы, як з маёй сям'і, так і мне блізкія. Наогул мой муж ніколі ня ўмешваецца ў маю прыватную карэспандэнцыю і ніколі ёю не цікавіцца. Яна ў мяне настолькі шырокая, што можа і зашмат і ня раз я сама думаю зь ёю скараціцца.

Жорж, пішаш, што Ты *“быў вялікім абаронцам” “Вашай ідэі і шкадуеш”*...

Жорж, што гэта за *“Вашая ідэя”*? Няўжо гэта толькі нам патрэбная гэтая ідэя? А Табе, пятаму, дзясятаму, дык гэтая ідэя толькі вось так сабе, ёсьць настрой — абаронца, не — абыйдземся і без бараненьня, можа нейкая іншая ідэя прысьпее. Зрэштай, чаго, чаго, а што да ідэяў, дык людзтва было заўсёды імі багатае.

Зрэштай, якую ідэю маем на мэце? Напішы точна!

Таму, што потым ідзе імя майго мужа, думаю, што маеш на мэце БНР.

Ці-ж гэта ідэя майго мужа! Далёка перад тым, як мой муж пачынаў дарастаць, яе стварылі людзі, якія паставілі за мэту перад беларускім народам уваскрасіць прошлае, узнавіць Беларускую дзяржаўнасьць.

Мой муж ёсьць толькі гарачым прыхільнікам гэтай ідэі, канцэпцыі, ён сабе і шмат ужо зьмяніць, выбраць ня можа, ён у ёй узгадаваўся і аддаў свае самыя гарачыя гады.

А што да памылак, дык ведама ўсім, што той ня мыляецца, хто нічога ня робіць.

А што да ролі апорніка людзей, майго мужа, дык чаму гэтую ролю якраз мае спаўняць ён? Ці-ж няма іншых інжынераў, прафэсараў ды дохтараў? Зрэштай, як сам кажаш, што дыплём ня іграе ролі, можа гэта споўніць нехта і недыплёмаваны.

Зрэштай, кандыдатаў на гэтую ролю ў нас не бракуе. Нават памінаючы Радаславаў[23] ёсьць яшчэ Ермачэнкі, Шудзейкі (хоць і з фальшывым, але лекарскім дыплёмам) ды зрэштай гандляроў і спэкулянтаў паштовымі маркамі ў нас зарадзіла, як у благім аўсе сьвярэпы.

[23] Маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі.

Вось маю надзею, што 1.7 вернецца мой муж і будзе толькі Міколка, бяз ніякіх іншых тытулаў і роляў.

А што да крывічоў, дык з тым самым "спадаром"[24] мой муж змагаўся і спрачаўся, калі яшчэ сядзеў на школьнай лаве, і калі і цяпер хоць і рэдка, але прыходзіцца спаткацца, дык ніколі зь ім не згаджаецца.

А што да Osterhofenцаў[25]? Жорж, баліць мне душа, але шмат якіх зь іх знаю асабіста, як маіх настаўнікаў і прыяцеляў, пачынаючы Арсеньневай, якая для мяне заўсёды была паўбогам. Нават з Танкам я спорыла за Арсеньневу, дык ён, каб мне больш дакучыць, калісь прыслаў яе зборнік "Пад сінім небам" і напісаў: *"Кіслая творчасьць"*. Пасьля гэтага нашая блізкая дружба з Максімам — расплылася.

Маеш жаль, Жорж, што Міколка не заехаў да Цябе. Але знаеш, на гэта нічога Табе пісаць ня буду, можа толькі зазначу, што ня ўсё можна напісаць, калі яно нават зьмясьцілася-б у два словы. Чаму? Згадай!

І цяпер ня можа заехаць, бо Ты ў іншай зоне, а ён можа быць толькі там, дзе ёсьць! Заскочыць — ня гэтак лёгка, бо можна ўскочыць, калі не пераскочыш. Эх, Ты, дзіцё! Такіх рэчаў не разумееш, і так вашая там кампанія, хоць і вельмі паважаная, але яму не адзін цьвёрды гарэх падсунула.

А што да настрою нашых людзей, дык як бачыш, што іх вельмі лёгка "настроіць", бо іменна гэта толькі маса, і як казаў Купала, *"трэба красаць у мокры пень!"*[26] — а яны яшчэ напасьледак запытаюцца: *"А колькі-ж нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой!"*[27]. (Гэты верш Ты ведаеш.)

А што да *"Цябе недацэнілі"*, дык, Жорж, мы Тваю цану знаем (асаблівая), і я ніколі ня думаю, Жорж, што Ты будзеш іншым, чымся калісь, калі мы спатыкаліся.

Я сама паўтараю тутэйшай моладзі (нават учора казала на сходцы), калі Ты быў малым у пачатковай школе ў Пружане, і цябе вучыцель запытаўся на ёлцы: *"Czemu nie tanczysz?"*[28], Ты яму адказаў: *"Jak ja będe*

---

[24] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч, які быў актыўным папулярызатарам замены назову Беларусь на Крывія ў паваеннай Нямеччыне.

[25] **Остэргофэн** (ням. *Osterhofen*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Баварыя, на чыгуначнай лініі Рэгенсбург — Пасаў. У 1946 г. тут быў створаны беларускі *DP*-лягер, насельніцтва якога складала больш як 400 чалавек. Лягер стаў апірышчам прыхільнікаў Рады БНР.

[26] Маюцца на ўвазе радкі *"У мокры пень агонь красіці / Склікаць аплучаных дружкоў"* (Янка Купала. "На папасе").

[27] Радкі зь вершу Янкі Купалы "Прарок".

[28] ***"Czemu nie tanczysz?"*** (пол.) — *"Чаму не таньчыш?"*.

*tanczyc kiedy moja Ojczyzna w nievoli”*[29]. Я гэтага ня чула, можа гэтак і ня было, але мне пра Цябе так казалі.

Вось! Напісала больш, чым думала. Але выбачай. Просіш, каб ня гневацца на Цябе?

Жорж, за што? Праўда і шчырасьць мае мейсца толькі між прыяцелямі, я ведаю, Жорж, што Ты ня маеш у сабе пустой славы і дурной амбіцыі і таму пішу Табе так шмат, як да прыяцеля, як калісь, шчыра і з даверам. Ведаю, што маеш сілу волі і можаш рабіць уплыў на масы, якія-б яны ні былі, гэта сіла народу: *vox populi, vox dei* (голас народу, голас Бога), і гэта вельмі важна, пад які ўплыў яны пападуць. А Ты рабі на іх такі ўплыў, які Табе дыктуе Тваё беларускае сумленьне.

А што да Рады БНР, знаеш, ужо няма такой сілы, якая-б спыніла яе ПАХОД.

БНР — жыла і будзе жыць, яна сталася ня толькі нашай, але яна зазьзяла і на міжнароднай арэне.

Канчаю. Чакаю Твайго лісту і артыкулу ў новым часапісе.

Жорж, засьцерагаю, што гэты ліст пісала Табе выключна і прачытаўшы — парві.

Жоначку і Дачушку Тваю цалую моцна, моцна, а Табе цісну руку.

Жыве Беларусь!

Ніна [Абрамчык].

Даражэнькі Сябра!

Лісты Вашыя атрымаў. Выкарыстаем. Пішыце — не забывайцеся! Я з Вамі ўпоўні згаджаюся адносна Вашага становішча што да нашых міністраў і остэргофенскіх заправілаў. Усё перамеліцца… Гэта ўсё, што цяпер варыцца, сьведчыць, што нараджаецца ў нас сапраўднае грамадства. Чартапалох з часам адсееецца і застанецца здаровае! Толькі дрэнна, што Вы зноў думаеце ісьці ў санаторыю! Трымайцеся! Выслаў Вам ліст, але забыўся напісаць Біберах — ня ведаю, ці атрымаеце? “Шляхам Жыцьця”[30] пакуль што спынілася, бо няма паперы… Затое выдаюцца “Апошнія Весткі”[31] — бюлетэнь.

Прывітаньні Вашай сямейцы!

Жыве Беларусь!

Ваш Хв[едар] Ільляшэвіч

---

[29] ***“Jak ja będe tanczyc kiedy moja Ojczyzna w nievoli”*** (пол.) — *“Як я буду таньчыць, калі мая Радзіма ў няволі”.*

[30] **“Шляхам Жыцьця”** — часопіс Беларускага дапамаговага камітэту ў Ватэнштэце, які выходзіў у 1946—1948 гг. Рэдактары — Янка Сурвілла, Хведар Ільляшэвіч, Мікола Шыла.

[31] **“Апошнія Весткі”** — інфармацыйны лісток, які выдаваўся ў Ватэнштэце ў студзені — ліпені 1948 г.

14.2.48

Дарагі, Дарагі Сябра!

Я вельмі ўстрывожаны. Ліст, каторы я атрымаў, сьведчыць, што нешта з Табой сталася. Фэльетон — у парадку. Надрукуем. Але — ліст? Чаму ты едзеш зноў у санаторыю? Чаму такі нэрвовы стыль? Братачка! Трымайся! Не паддавайся настроям і будзь тым, цьвёрдым, якога я ведаў і якога заўсёды ўяўляю. Сёньня наагул пачаўся ў нашым нацыянальна-грамадзкім жыцьці бандытызм, пасеяны нейкай чужацкай рукой, але — ці-ж упяршыню? — усё перажывем і тое, аб чым Ты, дарагі Браце, пішаш у сваім лісьце — зьдзейсьніцца. Ці зьдзейсьніцца ў “будучым годзе” — цяжка сказаць, але і там, і тут ёсьць людзі, якія працуюць дзеля зьдзяйсьненьня гэтае ідэі.

Будзь спакойны! Ня вер фальшывым прапагандыстам! Будзь чэсны з сабой!

Жыве Беларусь!

Твой Хв[едар] Ільляшэвіч

3.3.48

Дарагі Дружа!

Лісты атрымаў, дзякую за памяць і цёплыя словы. На днях бяруся “выпраўляць” “Цярністым шляхам” (а можа даць які іншы загаловак — “Лес шуміць” або “Рэха пушчы”, “У нетрах” ці нешта такое, бо “Цярністым шляхам” крыху абабіты загаловак...).

Буду прысылаць аркушамі заказнымі лістамі. Найлепш было-б даць у “Шыпшыну”. Што ні кажы, а гэта найсаліднейшы часапіс! “Беларуская Воля” — хто іх ведае. Хутка напішу абшырны ліст, у якім выкажу свае погляды на розныя справы, бо мне цікава было-б ведаць і Тваё становішча. Як бачна з апошніх карэспандэнцыяў, дык мы, здаецца, шмат у чым згодны. Чакай ад мяне ліста, адным словам. Глядзі — папраўся, выжань хваробу гэтую. Мы-ж павінны жыць! Галоўнае — есьці шмат сала, дык тады гэтыя бацыльлі са страху пахаваюцца і, можа, дасьць Бог, паздыхаюць. Але жарты кепскія — хвароба ня добрая, я ведаю. Толькі-ж гэтая хвароба, калі яе адразу дапільнаваць, можа быць ня страшная. Усяго найлепшага!

Прывітаньні жоначцы!

Твой Хведар [Ільляшэвіч].

14.9.48

Дарагі Сябра!

У пятніцу, значыцца, 17-га верасьня высылаю Вам XVIII разьдзелаў повесьці “Пушча шуміць”. Гэта толькі палова таго, што Вы выслалі. Ацэніце, ці я дражніўся з Вамі, ці нешта зрабіў. Пасьля атрыманьня гэтага матарыялу прашу мне паведаміць, ці маю далей апрацоўваць, ці

адсылаць матарыял Вам. Ясна, адсылаючы Вам гэтыя XVIII разьдзелаў, утрудняю далейшую працу сабе тым, што ня буду мець магчымасьці зазірнуць заўсёды ў ужо напісанае (што вельмі часта неабходна). У пятніцу высылаю таму, што ў пятніцу атрымаю 10 марак, а то цяпер ня маю за душой ані фэнінга. Высылаю заказным.

Я Вас зусім разумею, але непатрэбна Вы так нэрваваліся і, магчыма, думалі Бог ведае што. Я, паверце, нават ня меў часу што-небудзь сваё напісаць — усё адкладаў напасьля (калі скончу Вашую повесьць). Вы мне робіце папрокі, быццам я нічога не рабіў. А я, паверце, працаваў, як вол. Ніхто гэтага ня бачыць, ясна, і можа каму здаецца, што чалавек “дражніцца”. Я хацеў Вам, сапраўды, па-сяброўску прыслужыцца. Ну, што-ж — трудна...

Жадаю Вам якнайхутчэйшага выздараўленьня! Прывітаньні.

Жыве Беларусь!

Цісну моцна руку!

Ваш Хв[едар] Ільляшэвіч.

Міхельсдорф, 14.10.48

Глыбокапаважаны Спадар Попка!

Вы пішаце, што мой ліст прынёс Вам прыемнасьць (дзякую), а мне яшчэ большую прыемнасьць прынесла Вашая аповесьць “Пушча шуміць”... Яна сьветчыць аб тым, што Вам варта і трэба пісаць, сьветчыць аб тым, што Вы запраўды празаік, якіх нам, беларусам, заўсёды бракавала. Вашую аповесьць дадзім з працягам у некалькіх наступных нумарох “Шыпшыны”[32]. Чакаем і новых твораў. А магчыма што-небудзь дашлеце і журналісцкае — артыкул, фэльетон і г. д. Мне не аднойчы даводзілася раней чытаць Вашыя добрыя творы ў “Апошніх Вестках”. Пэўне, Вам належыць і зусім слушны адказ Ф. Одрычу[33].

Вось толькі ў мяне адна маленькая заўвага што да абранага Вамі псэўдоніма. Ён на маю думку больш-менш надаецца для фэльетаністага (хаця свае фэльетоны Вы падпісвалі — Жывіца), але не зусім для празаіка. Справа ў тым, што імя — Ягор, якое ўжываецца нашым народам, тым ня менш не ўласьціва беларускай літаратурнай мове, а тым больш у псэўдоніме літаратара. Напрыклад, на Віцебшчыне кажуць — Міхалка, Барыска, Васілька, Паўка, Давыдка, Масейка, Ляксандра,

---

[32] Твор Юрыя Жывіцы “Пушча шуміць” друкаваўся ў: Шыпшына. 1950. № 8. С. 14—17; 1950. № 9. С. 13—22. Плянаваўся для працягу ў № 10, які не быў выдадзены. Пазьней, у 1963 г., выйшаў асобнай кнігай.

[33] Маецца на ўвазе **Хведар Одрыч** (укр. *Федір Одрач (Шоломицький)*, 1912—1964), украінскі пісьменьнік, які паходзіў з-пад Пінску. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Канадзе.

Якуш, Ярыла (Юрка) і г. д. Гэтыя імёны аўтар мусіць шырока ўжываць для сваіх гэрояў у творах, прысьвечаных Віцебшчыне, але ні ў якім разе нельга ўжываць іх у творах, прысьвечаных, напрыклад, Берасьцейшчыне. Таксама было-б памылковым назваць сябе Ярылам Віцьбічам, бо палешук, напрыклад, будзе атаесамліваць Ярылу з богам, а не з мушчынскім імям. У сваю чаргу, нельга сказаць — Сьвяты Юрка Пераможца, а трэба — Сьвяты Юры Пераможца. Увогуле, ахрышчваць гэрояў, а тым больш саміх сябе трэба вельмі асьцярожна.

Прабачце за чысты асабісты прыклад, але я сваім псэўдонімам хацеў падкрэсьліць і сваё паходжаньне, і сваю замілаванасьць Віцебшчынай. Што датычыць імя, дык успамінаецца прыказка: Аднаго Юрку ўпусьціла, і ўся хата заюрылася.

Між іншым, мне нядаўна прыпомнілі гэтую прыказку ў адным чарговым “крывіцкім” пашквілі.

На жаль, нашыя псэўдонімы крыху аднастайныя, як, напрыклад, Міхась Кавыль, Міхась Багун, Юры Бярозка, Тодар Лебяда, Мікола Вярба, Міхась Васілёк і г. д. Запраўды, можна прыгадаць усю батаніку. У гэтым сэньсе “крывічы” маюць пэўную рацыю, калі паводля слоў Міхася Кавыля:

*Ужо крычаць: Кавыль, Таполя..*
*Ха-ха! Няма йшчэ кукурузы... (”Муза”).*

І, між іншым, аўтар клясычнае “Крывіі” і “На Парнасе”, найлепшы майстра нашае палітычнае паэзіі Міхась Кавыль аніяк не асацыіруецца з сумным жаночым кавылём. Нічым рашуча не нагадвае пустазельле Тодар Лебяда[34] — паэта і драматург з сваім непаўторным тварам, якога не зламала і не заламала Калыма. Няўдалы псэўдонім мае таксама Алесь Салавей. На Віцебшчыне шырока пашырана гліняная цацка-салавей. Калі ў яе наліць вады, а потым дуць у адмысловую дзюрку, дык цяжка адрозьніць ад запраўднага салаўя, але ўсё-ж гэта штучны салавей, не натуральны. На вялікі жаль, Алесь Салавей астатнім часам усё больш і больш нагадывае гэтую гліняную цацку.

У нас часам кажуць — Іван, але нельга ўявіць сабе — Івана Купалу, хаця Дзядзьку Купалу ў жыцьці называлі Іванам Дамінікавічам.

Ягор — успрыймаецца як сапсутае расейскае — Егор. Успамінаецца нават расейская старая салдацкая песьня:

*Из-за леса, из-за гор*
*Выезжает наш Егор.*

---

[34] **Тодар Лебяда** (сапр. **Пятро Шырокаў,** 1914—1970), паэт, драматург, журналіст.

Надзвычай удалы псэўдонім абраў сабе Максім Танк. Так, гэта сапраўды — танк. Ня менш удалыя — Язэп Пушча, Алесь Дудар[35], Цішка Гартны і г. д.

Аднак хопіць пра псэўдонімы.

Шчыра зычу Вам усяго найлепшага.

Чакаю Ваш ліст.

З пашанай да Вас Юрка Віцьбіч.

Розэнгайм, 17.11.49

Паважаны Сп. Попко!

Вельмі дзякую за Ваш ліст, які я атрымаў ад Вас. Заўсёды прыемна знаць, дзе і як жывуць старыя знаёмыя. Праўда, што я часта пытаў у знаёмых з французскае зоны аб вас, але ўсе яны казалі, што вы ў бальніцы. Цешуся, што стан Вашага здароўя ёсьць зусім добры. На эміграцыі без здароўя — прапаў чалавек.

Аб сабе магу сказаць, што з прыходам Амэрыканцаў адразу ўзяўся арганізаваць беларусаў, быў старшынёю БК у Рэгензбургу[36], пазьней старшынём Цэнтральнага Беларускага Камітэту на ўсю Нямеччыну, прагучэў пару разоў у “Маскоўскай Праўдзе”, а цяпер ужо другі год працую па сваёй спэцыяльнасьці — інспэктарам Беларускіх школ у Нямеччыне і Дырэктарам Беларускай гімназіі ў Остэргофэне, а цяпер і Розэнгайме. Апрача школьнае працы выконваю час ад часу і іншыя грамадзкія працы. Зматаўся за гэтыя 4 гады, у часе арганізацыйным аб’езьдзіў кажны куток Амэрыканскае зоны, ды яшчэ тады ў галодны час, таму пастарэў, пасівеў і палысеў, але яшчэ неяк трымаюся, толькі нэрвы нічога ня вартыя. Зьбіраюся ехаць у Амэрыку, але калі й сам яшчэ ня ведаю. Думаю, што да вясны буду яшчэ сядзець тут. Арганізацыйнае жыцьцё разьвярнулася так добра, што цяпер у кажнай краіне маем свой камітэт, які апякуецца прыбываючымі ў гэтую краіну нашымі людзьмі. Стары Б[еларускі] Камітэт у Чыкага збальшывізаваны, таму ня даў нам ніякае дапамогі, і мы яго закінулі, і няхай ліжуцца з бацькам Язэпам[37]. Новы камітэт з новых эмігрантаў у Н[ью]-Ёрку працуе вельмі добра і ўжо прыслаў даволі шмат ашурансаў[38].

---

[35] **Алесь Дудар** (сапр. **Дайлідовіч**, 1904—1937), паэт, празаік, крытык, перакладнік.

[36] **Беларускі камітэт у Рэгенсбургу** быў заснаваны у чэрвені 1945 г. Аляксандрам Русаком. На яго аснове пазьней быў створаны Беларускі лягер *DP*.

[37] Маецца на ўвазе Іосіф Сталін.

[38] Для эміграцыі ў ЗША акрамя запрашэньня (афідэвіту) патрэбнае было своеасаблівае паручыцельства (ашуранс), якое ўключала страхоўку запрошанай асобы ды гарантыю наяўнасьці месца працы.

Адносна палітычных групаў трэба сказаць, што яны пачалі зарысоўвацца ад 1946 году траўня м[еся]ца, калі быўшы Беларускі епіскапат зьліўся з Расейскаю зарубежнаю царквою і згодна падпісанага епіск[апамі] пратаколу ў Мюнхэні, *"перайходзяць духавенства з міранамі"*, таму тая група, якая пацягнулася за Расейскім епіск[апатам] і назвалася зарубежнікамі. Пачытайце цяпер іхняе "Беларускае Слова" і пераканайцеся, якую яны зрабілі шкоду і цяпер адмахваюцца ад епіскапаў сваіх верных камратаў[39].

Але гэта мяне мала цікавіць, сёньня ўсякія фэдэралізмы ці з Расеяй, ці з Польшчаю не папулярныя й шкодныя. Мы ідзем проста: ніякіх фэдэрацыяў і Незалежнасьць Беларусі палітычная, эканамічная й духовая. Таму мы адбудоўваем і нашую Беларускую Аўтакефальную царкву, як гаворыцца — адгарадзіцца ад уплыву расейцаў. Няхай будзе можа й ня так дасканалае, але затое нашае — Беларускае. К Калядам нашая аўтакефальная Беларуская царква будзе поўнасьцю афармленая, няхай лопаюцца жаўцёвыя пульхіты ад злосьці ўсім тым, каму незалежнасьць Беларусі стаіць гвоздам у горле. А мы ідзем, робім і *"лаю не прымечаем"*. Так, Сп. Попко, усё гэта каштуе здароўя й нэрваў, але за тое прыемна бачыць сьлед свае працы, калі нешта лае сёньня, то заўтра ўсе пахваляць, бо ёсьць за што. Калі ўзяць ад пачатку нашую тут работу, то мы ўсё ўзялі на свае плечы, галодныя й на голай падлозе, не выспаныя, а яны або спэкулявалі, або ціхенька сядзелі, бо трусьлівыя, баяліся й носа паказаць. Але, безумоўна, падзел — гэта сумнае й вельмі шкоднае зьявішча. Пазьней паглыбіў гэты раскол герой *отечественной войны* Р[адаслаў] Астроўскі. Сядзеў сам у польскім лягеры і рэшта кампаніі, але калі Вініцкі бяз адпачынку бадзяючы па лягерах выдзеліў з чужых лягераў, і ўтварыліся аж тры беларускія лягеры, тады й *"мосьці панове"* зьявіліся. Але Бог зь імі, няхай жывуць здаровыя. Высокія амбіцыі да міністэрскіх партфэляў прытупяцца, стануць кіравацца розумам і братнім сэрцам, а ня злосьцю, як цяпер, і зноў будзем жыць, працаваць для дабра нашага гаротнага народу. Час зробіць усё, людзі пазнаюць сябе ўзаемна на ніве грамадзкае працы, гнільлё адкінецца, а здаровы элемэнт будзе выконваць свае абавязкі.

А цяпер знаёмыя. Ніна Хмялеўская з Бацькам у Рэгензбургу, яна працуе ў шпіталі сястрою. Там-жа працуе мой малодшы сын як зубны тэхнік і зубадзёр, і там-жа працуе сакратаркаю Шура Заруцкая[40]. Яна вышла замуж і працуе з мужам[41]. Бацькі іхнія выехалі ў Аўстралію.

---

[39] **Камрат** (ад ням. *kamerad*) — таварыш.

[40] **Аляксандра (Шура) Заруцкая** (у шлюбе **Сямёнава**, 1925—2011), паходзіла са Стоўпцаў. Закончыла Беларускую гімназію імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе ў 1946 г., выйшла замуж за Дзьмітрыя Сямёнава.

[41] Маецца на ўвазе **Дзьмітрый Сямёнаў** (1926—1982), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў фэльчарскай школе й працаваў у Края-

Астаўся Міцька[42], вучыцца на месным аддзеле Мюнхэнскага Унівэрсытэту. Вайцяхоўскі[43] ў Амэрыцы, але яе ня бачыў, бо гаруе на плянтацыі бавоўны здалёк ад людзей. Жывецца там дрэнна. Канановіча Мікалая пытаўся, але ніхто ня ведае. Паляшукоў у нас ёсьць даволі з Піншчыны й з Янава, з Лунінца.

Галоўная кватэра ДП акругі — Мюнхэн, Арыя 4.

У Розэнгэйме жыву я з жонкай і дачкою. Лёлек[44] (што спаў наверсе ў Цьвітаве[45]) вучыцца ў Бэльгіі. Тут ён вучыўся спачатку ў Мюнхэні, а пазьней у Марбургу, але грошай ня было, і ён выехаў у Бэльгію і там мае дармовую кватэру, яду й 200 фр. на дробныя расходы. Славік[46] вучыўся ў Рэгенбургскім унівэрсытэце на зубным аддзеле, а Лёлек на мэдычным. Ляля кончыла гімназію, але вучыцца далей не захацела.

Вось і ўсе нашыя навіны. Пішыце, што ў Вас новага. Пра жонку не бядуйце, гэтага дабра хопіць.

Бывайце здаровы. Прывітаньні ад нас усіх.

З пашанай [Алесь Вініцкі].

---

знаўчым (Гістарычным) музэі (пад кіраўніцтвам Антона Шукелойця). Ад 1944 г. на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, затым у ЗША. Вывучаў паліталёгію ў Ратгерскім унівэрсытэце, штат Нью-Джэрзі, але працаваў хімікам. Аўтар “Дзёньніка 1943—1947” (Мінск, 2012).

42 Маецца на ўвазе **Міця Заруцкі**, брат Аляксандры.

43 Маецца на ўвазе **Кастусь Вайцяхоўскі** (на эміграцыі **Кон Ворт**, нар. 1926), грамадзкі дзеяч. У 1942 г. паступіў у Баранавіцкі дарожна-будаўнічы тэхнікум, затым вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы. Быў сябрам СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Закончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Там прызваны ў войска, служыў у вайсковай выведцы ў Карэі. Закончыў Ратгерскі ўнівэрсытэт. Сябра Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Жыве ў Каліфорніі.

44 Маецца на ўвазе **Лявон Вініцкі** (1923—1993), грамадзкі дзеяч, сын Алеся Вініцкага. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Ад 1949 г. вучыўся на факультэце палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльґія). Уваходзіў ва ўправы Беларускага студэнцкага згуртаваньня й Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1950-я гг. выехаў у ЗША. Жыў у Лос Анджэлесе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Каліфарнійскага аддзелу.

45 **Цьвітаў** — цяпер **Сьвітаві** (чэш. *Svitavy*), горад у Пардубіцкім краі Чэхіі.

46 Маецца на ўвазе **Яраслаў Вініцкі** (1925—2018), грамадзкі дзеяч, сын Алеся Вініцкага. У Нямеччыне атрымаў адукацыю дантыста. Ад пачатку 1950-х гг. жыў у ЗША, дзе працаваў зубным тэхнікам. Жыў у Каліфорніі. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Каліфарнійскага аддзелу.

Лянгенфільд[47], дня 15 студзеня 1954 году.

Вельміпаважаны і дарагі Юрыю Семёнавічу!

Пазаўчора атрымаў Ваш ліст з дня 10.1.54 году, за каторы шчыра ўдзячны. Прачытаў я яго, разважыў спакойна ўсю сваю віну, прыняў на свой рахунак усю “галавамойку” і за ўсё гэта застаюся толькі ўдзячным. Застаюся ўдзячным нават і тагды, калі Вы не ўва ўсім або незусім — маеце рацыю.

З адказам рыхтаваўся зараз-жа, але зьбіраўся ў падарожжа ў Бонн і таму мусіў гэта адлажыць на той час, калі вярнуся. Сёньня рана вярнуўся і, як бачыце, адлажыў службовыя і даволі пільныя справы, а сеў за машынку, каб трохі пагутарыць з Вамі. Паслухайце-ж цяпер трохі і мяне, паслухайце, што я скажу. Але загадзе прашу: калі ў нечым будзеце нязгодны, то ня гневайцеся, а чыста па-сяброўску папраўце або зьвярніце мне ўвагу.

Так, дарагі Юрыю Семёнавічу, я шмат у чым вінаваты. Вінават, што не зьвярнуў і не аддзякаваў за артыкулы; вінават, што доўга не пісаў; вінават, што не інфармаваў аб некаторых палітычных пытаньнях; і, быць можа, вінават, што не датрымаў некаторых сваіх абяцаньняў. Але не датрымаў гэтых абяцаньняў не па злой волі, а, напэўна, таму, што ня вышла так, як плянавалася або хацелася. Але аб гэтым пагаворым трохі пазьней, у гэтым-жа лісьце. А цяпер пагаворым аб “балёнчыках” і “тонкай палітыцы”.

Дакладна не памятаю калі, але, здаецца, у чэрвені ці ліпені месяцы мінулага году да мяне зьвярнуўся Хмара з просьбай і прапановай, каб я, у знак прыязьні і супрацоўніцтва БВР[48] з БНА[49], дапамог яму распаўсюдзіць улёткі БНА да Чырвонай Арміі на тэрэне Ўсходняе Нямеччыны, але прапануе раскідаць іх у Заходнім Бэрліне. Вось даслоўна што ён мне пісаў па гэтаму пытаньню (цытую ягоны ліст): *“Цяпер яшчэ адна справа. Вось канкрэтная прапанова: БНГ[50] мае праклямацыі да салдатаў Чырвонай Арміі. Ці Вы ня зможаце цераз сваю сетку раскідаць іх хоць у Заходнім Бэрліне? Вось была-б канкрэтная супраца. Памажыце!”*.

Прачытаўшы гэта, я палічыў яго або вар’ятам або проста ненармальным балванам, але не хацеў гэтага сказаць яму проста ў вочы.

[47] **Лянгенфэльд** (ням. *Langenfeld*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Паўночны Рэйн-Вэстфалія.

[48] **Беларускі вызвольны рух** — арганізацыя прыхільнікаў БЦР, заснаваная Людвікам Зарэчным (Галубовічам) у 1952 г. Скіравана была на аб’яднаньне найперш былых вайскоўцаў.

[49] Маецца на ўвазе Беларускае нацыянальнае аб’еднаньне (Таронта).

[50] **Беларуская народная грамада** — арганізацыя так званай “трэцяй сілы”, створаная Сяргеем Хмарам.

І адказаў яму дня 28.9.53 году наступнае: *«Аб вашых улётках. Іх можна заслаць, але толькі не ў Заходні Бэрлін, бо там іх ніхто ня будзе чытаць — там няма аніводнага савецкага салдата! Улёткі трэба закінуць у Ўсходні Сэктар Бэрліну або ў Аўстрыю. Гэта магчыма зрабіць, але для гэтага патрэбны грошы хаця-б у невялічкай колькасьці, бо трэба паслаць нейкага чалавека, а бязплатна, за свой кошт, ніхто не паедзе, бо тут трэба мець дачыненьне зь немцамі. Каб для гэтае акцыі Вы змаглі пераказаць з сотню даляраў, то можна было-б гэту справу зрэалізаваць. Улёткі міжна засылаць зь цягнікамі, якія ідуць у савецкую зону, і можна атправіць зь “люфтбалёнамі”, якімі дэспануюць немцы, чэхі і расейцы з НТС*[51]*. З расейцамі гэтага нам рабіць не выпадае, а вось зь немцамі або чэхамі — зусім магчыма!»*.

Тут я паступіў зусім чэсна і правільна. Я даў яму зразумець, што ён не арыентуецца ў падобных справах, бо ня ведае, што ў Заходнім Бэрліне няма аніводнага савецкага салдата. З другога боку, я праверыў яго шчырасьць — насколькі сур’ёзна ён гэтай справай хоча заняцца; і праверыў, насколькі яны моцна матар’яльна. Ясна, каб я быў “тонкім палітыкам”, але тагды ўжо трэба было-б стаць жулікам, я мог-бы яму сказаць: *“а як-жа, братачка, давай сюды твае ўлёткі — мы іх разашлём!”*. А як-бы атрымаў іх, то трэба было-б вынесьці іх на сьметнік і спаліць, а у прэсе напісаць: *“Савецкае МВД арыштоўвае за чытаньне ўлётак БНГ!”*. Гэта была-б “тонкая палітыка”, але гэта была-б свайго роду подласьць. На гэта я ня здольны. А акром таго я проста не хачу саздаваць хаця-бы капельку аўторытэту нейкай міфічнай БНГ і тым больш — каму-каму, але вархолу Хмары.

А цяпер, калі ласка, дарагі Юрыю Семёнавічу, скажыце, якія Вы маеце падставы рабіць мне ўпрокі ці закіды за гэтыя “балёнікі”, зь якімі Вы хочаце атпраўляць мяне аж да Маленкова[52]? Ці маеце Вы рацыю? Я знаю аб што Вам ходзіць. Вам ходзіць аб прэсьціж наш перад Хмарай, Асіпчыкам[53] і некаторымі іншымі, падобнымі ім суб’ектамі. Можа, Вы

---

[51] **Народна-працоўны саюз расейскіх салідарыстаў** (НТС) — арганізацыя, што брала свой пачатак ад Нацыянальнага саюзу расейскай моладзі, створанага ў Бялградзе ў 1930 г. Арыентавалася на падрыхтоўку народнай рэвалюцыі ў СССР, займалася адпраўкай агентаў для дэструктыўнай працы на савецкай тэрыторыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны гэтая арганізацыя была адной з найбольш колькасных сярод расейскіх эміграцыйных структураў. Да пачатку 1950-х гг. у шэрагах НТС знаходзілася каля 1500 актыўных сябраў і 5000—10000 “спачуваючых”.

[52] **Георгі Малянкоў** (рус. *Георгий Маленков*, 1902—1988), савецкі дзяржаўны й палітычны дзеяч. У 1953—1955 гг. быў старшынём Савету Міністраў СССР.

[53] **Аляксандар Асіпчык (Асіповіч-Асіпчык)** (1909—1990), грамадзкі й царкоўны дзеяч. У 1941—1944 гг. быў прыхільнікам беларусізацыі праваслаўнай царквы, удзельнік Беларускага царкоўнага сабору 1942 г. Ад лета

тут маеце рацыю, я ня ведаю, але ўважаю, што ці Хмара будзе з намі, ці ён будзе супроць нас — справа застанецца такой-жа. І мне думаецца, што безсэнсоўна разсыпацца перад гэтай публікай — хай коцяцца сваёй дарожкай! Ні "жыровіцкае брацтва кую памылку тым, што ўпуталіся ў грызьню між БЦР і абрамчыкавай клікай. Нам трэба было застацца нейтральнымі і даць ім свабоду на зьяданьне аднаго другім.

Ясна, Юрый Сямёнавіч, гэта ўсё пакуль што толькі думкі і неадшліфаваныя пляны. Знаю, Вы будзеце мяне крытыкаваць і будзеце можа сьмяяцца над маімі разважаньнямі. Але паверце мне, што іншага шляху я ня бачу і ўважаю, што пры дэтальнай апрацоўцы гэтага пляну, а пасьля — пры поўным ажыцьцяўленьні яго — галоўная мэта: апанаваньне сытуацыі ў часе вайны — будзе асягнута на ўсе 100 %!

Канешна, я вельмі прашу пакіньце гэта ў тайне, я дзялюся толькі думкамі, дзялюся з Вамі па-сяброўску.

Ну, а цяпер трохі аб сваіх абяцанках і недатрыманьнях словаў. Тут Вы часткова маеце рацыю. Ня столькі я, колькі Р[адаслаў] К[азіміравіч][54] абяцаў Вам і працай дапамагчы, і перацягваньнем Вас у раён Дюссельдорфу. Усё гэта аказалася не так лёгкім. Той чалавек, які гаварыў аб магчымасьці нейкага гешэфту — падвёў самаго Р[адаслава] К[азіміравіча], а гэта, між іншым, ягоны прыяцель яшчэ па зяцю[55] з Баранавіч. Гэта — купец, макляр, а душонка ў такіх людзей даволі паршывенькая, жулікаватая, а таму яны і багатыя, а мы па сваей добраце — бедныя. З кватэрай выйшла не так, як мы думалі. Я ўжо год часу чакаю на атрыманьне дзьвюх кватэраў — для Сенькі[56] і Р[адаслава] К[азіміравіча] і адну для сябе, бо ангельцы ўжо год трубяць сваё *"аддай хату!"*. Міністэрства абяцае, і гэтая абяцанка адкладаецца з дня на дзень, зь месяца на месяц. І вось толькі цяпер, у канцы гэтага ці ў па-

1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Спачатку шчыльна супрацоўнічаў зь беларускімі япіскапамі, а пасьля пераходу іх у склад РПЦЗ (1946) стаў іх праціўнікам. У 1947 г. у Заходняй Нямеччыне заснаваў Беларускае праваслаўнае таварыства Жыровіцкай Божай Маці, што мела суполкі ў розных краінах. Пазьней перабраўся ў ЗША. Выдаваў часопіс "Сіла веры" (1948—1965).

54 Маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі.

55 Маецца на ўвазе Мікалай Мінкевіч.

56 Маецца на ўвазе **Ўладзімер Сенька** (1918—1997), грамадзкі дзеяч. Скончыў школу афіцэраў рэзэрву ў Замброве й быў прыпісаны да баранавіцкага палка пяхоты. У 1939—1941 гг. працаваў настаўнікам. Быў начальнікам паліцыі ў Стоўпцах. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Працаваў з прафэсарам фон Мэндэ ў "Службе досьледаў Усходняе Эўропы". Рэдагаваў пэрыёдык "Жыве Беларусь!", а пасьля выдаваў "Інфармацыйныя сшыткі" ў нямецкай мове аб палітычным і эканамічным жыцьці ў БССР. Служыў у бундэсвэры.

чатку наступнага месяца мы будзем, здаецца, пераносіцца з Лянгфэльда. Дом гатоў, і заўтра еду паўторна аглядаць кватэру. Але гэта толькі дзьве кватэры: для мяне і для Сенькі з Р[адаславам] К[азіміравічам]. А для Вас? Для Вас амаль немагчымая рэч, бо мясцовасьць, дзе Вы жывіце, не падлягае пад адміністрацыйнае кіраўніцтва міністэрства Райнлянд-Вэстфаліен — Пірмасэнс адносіцца к Пфальцу. Выхад толькі адзін: прыватная кватэра як часовае мейсца для пераходу ў гэту абласьць Райнл[янд] Вэстф[алія]. А прыватная кватэра — каштуе месячна (у Дюсельдорфе) да 100 марак за пакойчык.

Працу на мейсцы можна знайсьці, але толькі на мейсцы, калі Вы будзеце тут, інакш — няма і мовы.

Я меў на ўвазе, што Вы будзеце хаця-б там, на мейсцы, у Віндсбергу, Пірмасэнсе і Кайзэрсляўтэрн, весьці такую сякую працу па барацьбе з агентурай і праступным элемэнтам. Мы з Вамі так і дамовіліся. За гэтую працу плоцяць даволі добра, мой рэзыдэнт на Мюнхэн мае штомесячна 250 марак плюс 75 марак на іншыя апэратыўныя выдаткі. Але-ж ён кожную дэкаду дае 5—6 інфармацыяў. Ад Вас-жа я не атрымаў ніводнай. Дык як-жа я магу датрымаць сваё слова і дапамагаць Вам матар’яльна? Мне-ж установа ня дасьць грошай, калі не атрымае выкананае працы. Я пасылаў грошы Гоху[57], Маеўскаму[58], Вярбіцкаму[59], даваў ім заданьні. А яны — нічога не зрабілі, і мне было проста сорамна. Вас я таксама прасіў заняцца працай, а Новік і Зенькевіч дакляравалі Вам памагаць. І што-ж? Цішына, няма ніводнай інфармацыі, а працы ў Кайзэрсляўтэрн і Пірмасэнсе вельмі шмат: на Кайзэрсляўтэрн і Пірмасэнс ССД (МВД Усходняе Нямеччыны) у другой палове 1953 году заслала каля 40 чалавек агентак — дзяўчат (блядушак) для працы сярод іностранцаў. У Кайзэрсляўтэрн знаходзіцца так званы “Дом Дружбы”, куды накіроўваюць перабежчыкаў з Савецкай Арміі. А сярод іх колькі агентаў? І мне прыкра: я падаў рапарт, што працуеце там Вы, Зенькевіч і Новік, а працы няма. І таму ня гневайцеся на мяне, бо тут, без Вашай працы, я бязьсільны. Каб Вы хоць нешта зрабілі, то ў мяне былі-б

57 **Сяргей Гох** (1912?—1979), грамадзкі й вайсковы дзеяч. Былы жаўнер БКА. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Нямеччыне.

58 **Міхась Маеўскі**, скаўцкі й грамадзкі дзеяч. Жыў у Ватэнштэце.

59 **Аўген Вярбіцкі** (1922—1986), грамадзкі дзеяч, навуковец, хімік. Пасьля Другой сусьветнай вайны вучыўся ва ўнівэрсытэце *UNRRA* ў Мюнхене. Пазьней у ЗША закончыў біялягічны факультэт Ратгерскага ўнівэрсытэту (Нью-Брансьвік, Нью-Джэрзі). Працаваў у ваеннай лябараторыі дасьледаваньняў ежы. Стваральнік “касьмічнай ежы”, што выкарыстоўвалася ў палётах амэрыканскіх астранаўтаў. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1954—1957 гг. быў намесьнікам старшыні Галоўнай управы арганізацыі.

падставы сказаць, што чалавек працуе. Рэшту я дапамог-бы Вам сам, а ўжо грошы — заўсёды знайшліся-б. Так што і ў гэтым выпадку віна мая ня зусім вялікая.

Вы пішыце адносна нейкага расейца, старога эмігранта з НТС, які ад 1948 году супрацоўнічае, як і Харунжы-Мюллер[60]. Справа вельмі цікавая, і Вас прашу даць аб ім больш дакладныя весткі: а. Прозьвішча і імя, як ён пішыцца па-расейску і лацінкай; б. Адрас — лацінкай; в. Канкрэтна, што аб ім вядома, ягоныя сувязі, ягоная дзейнасьць і г. д. А такжа, па-магчымасьці, адкуль стала аб гэтай справе вядома? Матар'ял пасылайце без сваей подпісі.

Р[адаслаў] К[азіміравіч] амаль два месяцы знаходзіцца ў Англіі. Сёньня выяжджае ў Бельгію на пару дзён, магчыма, наведае лювэнскіх бурсакоў і старога сэнатара Рагулю[61] і ў панядзелак будзе ехаць сюды. Нават прасіў яго, каб ён напісаў да Вас. Сам-жа не пісаў да Вас, бо шчыра кажу, мне крыху было не па сабе, што Вы зьвяртаецеся да яго з запытаньнем: што рабіць зь блянкетамі бюлетэня? Гэта чыстая справа наша, БВР, і яму да гэтага няма ніякога дзела, а чаму Вы так паступаеце? Я ня ведаю... МЫ змагаемся з тэндэнцыяў апанаваньня БВР праз БЦРаўцаў, а Вы самі лезіце да іх з падобнага роду запытаньнямі, і мне гэта страшна неспадабалася. Выбачце, але я Вам кажу шчырую праўду.

Адносна-ж спатканьня нашага — майго і Р[адаслава] К[азіміравіча] з Абрамчыкам ёсьць пэўныя недакладнасьці. Спатыкаўся з Абрамчыкам Р[адаслаў] К[азіміравіч], але я ніколі. Спатыкаўся ён у Мюнхэне на жаданьне Кандыбовіча[62] і Абрамчыка. Пазьней да нас прыяжджаў Рагуля, і я Вам пісаў аб гэтым. Між іншым, пасылаю Вам "Трыбуну"[63], і там аб гэтым прачытаеце. З Рагуляй канечна бачыўся і гаварыў і я, але гаварыў зь ім зусім на іншыя тэмы, пісаць аб каторых не зусім выпадае, але пры спатканьні раскажу Вам аб усім.

---

[60] Маецца на ўвазе **Георг Харунжы-Мюлер** — савецкі шпіён у Заходняй Нямеччыне ў 1951—1953 гг., пакуль ня быў выкрыты й асуджаны амэрыканскім ваенным судом.

[61] **Васіль Рагуля** (1879—1955), грамадзкі й палітычны дзеяч. У 1922—1927 гг. пасол польскага Сойму, у 1928—1930 гг. сэнатар. Падчас Другой сусьветнай вайны бурмістар Дзятлава, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі, жыў у Нямеччыне, Бэльгіі, ЗША.

[62] **Сымон Кандыбовіч** (на эмігр. **Кабыш**, 1891—1972), дзяржаўны дзеяч, гісторык. З 1926 г. сябра ЦК КП(б)Б, у 1931—1933 гг. кіраўнік справаў СНК БССР, у 1935 г. начальнік Наркамхарчпраму СССР пры СНК БССР. Падчас Другой сусьветнай вайны сябра Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, Беларускай Цэнтральнай Рады. З 1944 г. — на эміграцыі, працаваў на Радыё "Вызваленьне" і ў мюнхенскім Інстытуце вывучэньня СССР.

[63] Відаць, маецца на ўвазе газэта "Беларуская Трыбуна".

Закіды-ж Вашыя, што я Вас недацаніў і г. д. думаю, што не зусім адпавядальныя. Я ўважаў Вас і ўважаю як найчасьнейшага з усіх, каго ведаў і ведаю, і дружбы з Вамі траціць не хацелася-б. Перагледзіць адносіны, бязумоўна, трэба, але гэта сканкрэтызуем пры спатканьні, якое, думаю, хутка наступіць.

Кепска, што здароўе Ваша пашатнулася і што мусіце ісьці ў санаторыю. Відаць, катастрофа адбілася на Вашым здароўі, і вынікі яе даюць сябе адчуваць. Падайце, калі ласка, адрыс санаторыі, каб хоць ведаць, дзе Вы і дзе Вас шукаць. Магчыма, наведаю Вас, калі буду ў падарожжы на Мюнхэн ці Франкфурт. Кажу “магчыма”, бо ня ведаю, калі зьбяруся ехаць і як доўга Вы там затрымаецеся.

Так, дарагі Юрыю Семёнавічу, выглядае справа. Ня злуйцеся, калі можна, выбачце, калі ў нечым праштрафіўся перад Вамі. Лепш, мне думаецца, нават кепская дружба, чым добрая сварка; лепш кепскі прыяцель, чым добры вораг. А я для Вас ня вораг і кепскага Вам не жадаю. Часамі хацеў-бы паступіць інакш, значна лепей, у тым ці іншым пытаньні, але, як кажуць, чалавек “зарапартаваўся”... Выбач!

Ітак ад шчырага сэрца жадаю ўсёго найлепшага — найлепшага здароўя, дай Божа, каб паправіліся хутчэй і вярнуліся да супольнае працы. Паклон Вам ад маей Сям’і. Бывайце.

З глыбокай пашанай Ваш Л[юдвік] Галубовіч.

Лёндан, 24.9.56.

Высокапаважаны Юрыю Сямёнавічу,

Выбачайце, што доўга чакалі на мой адказ, але, як пабачыце з дасланае копіі артыкулу ў “Барацьбу”[64], наваліла, як кажуць палякі, мая машынка-гражданка. Лацінка была пазычана ХАБР’у. Пісаць артыкулы ў прэсу, якая выдаецца гражданкай, ня выпадае лацінкаю, бо сам ведаю, як пры перапісцы блытаюцца літары. З горам папалам на папсутай сваёй машынцы прыгатаваў матарыял у наступны нумар “Аб’еднаньня”[65] і сёньня выслаў артыкул на вайсковую тэму Касмовічу[66]

[64] **“Барацьба”** — часопіс, выдаваны ў 1955—1979 гг. у Нямеччыне як Цэнтральны орган Беларускага вызвольнага фронту. Вышла 88 паасобных нумароў.

[65] **“Аб’еднаньне”** — часопіс, орган Хрысьціянскага аб’еднаньня беларускіх работнікаў у Вялікабрытаніі, які выходзіў у Лёндане ў 1948—1966 гг.

[66] **Дзьмітры Касмовіч** (1909—1991), вайсковы й грамадзкі дзеяч. Ад кастрычніка 1954 г. быў прадстаўніком БЦР у ЦК Антыбальшавіцкага блёку народаў (АБН). У 1954 г. узначаліў Беларускі вызвольны фронт. Жыў у Штутгарце. Пакінуў кнігу ўспамінаў “За вольную і суверэнную Беларусь” (Вільня, 2006).

для “Барацьбы”. Копію яго перасылаю Вам. Напісаў Касмовічу, што калі ён ня будзе выдаваць “Барацьбу” або не захоча зьмяшчаць гэты артыкул у ёй, дык няхай адашле яго Вам, то можа Вы выкарыстаеце яго ў сваіх “Вехах”.

Зь ім ужо нарэшце навязалі лучнасьць БВФ-аўцы з В[ялікай] Брытаніі, дык можа пад іх націскам і ён крыху ажывіцца. Дзіўныя, аднак, людзі, што ня могуць аніяк гарманійна весьці грамадзкае працы калектыўна. Яны хацелі-б усё зрабіць самі, але-ж гэта немагчыма, бо: або ня хопіць часу і энэргіі, або ня хопіць пораху справіцца з рознаякаснымі вымогамі грамадзкае працы.

Ясна, ад таго, што яны тармозяць гэтым працу або бязьдзейнічаюць, вялікае бяды няма, бо-ж на міжнароднай арэне пануе ўсё тое-ж самае балота-капітуляцыйны настрой, падхварбаваны пустой фразеялёгіяй. Стаўка нашая на заходні сьвет — гэта фактычна стаўка на пустое месца. Чым, напрыклад, нам могуць памагчы Англія, Амэрыка ці Францыя ў нашай барацьбе супроць маскоўскае акупацыі, калі яны самі карыстаюцца тымі-ж самымі мэтадамі, што й бальшавікі, як у адносінах да падбітых імі народаў, так і ў справе абароны сьвету ад камуністычнае пошасьці. Сваёю палітыкай у Афрыцы ды Кіпру яны толькі памагаюць камуністам, якія спрытна выкарыстоўваюць нацыянальныя рухі народаў гэтых краінаў, а кладучы свой націск на падтрымку капіталістычных гіенаў, піхаюць у абняцьці камуністаў шчыра-дэмакратычныя элемэнты на ўсім сьвеце.

Безумоўна, з гэтага не вынікае, што мы павінны сядзець злажыўшы рукі, але ня трэба праймацца і нэрвавацца тым, што ў нас ня ўсё так дзеіцца, як бы нам хацелася.

“Беларускае Слова”, згодна з паведамленьнем з Амэрыкі, павінна ўжо выйсьці, але пакуль дойдзе да нас звычайнаю поштай — будзе, відаць, ужо кастрычнік. Бяда найгоршая ў тым, што і сярод нашае групы паўстаюць нерэальныя надзеі на магчымасьць нейкай “коекзыстэнцыі”[67] з крывічамі. Аўстралійцы, дзякуй Богу, ужо пераканаліся ў недарэчнасьці такое надзеі, дык будзем спадзявацца, што ў хуткім часе і ўсе іншыя пераканаюцца ў гэтым. Тут якраз, паводле мае думкі, час дзеець на нашую карысьць, а адсеў хісткага элемэнту паслужыць на карысьць нашай агульнай справе.

З шчырай пашанай да Вас Ваш Р[адаслаў] Астроўскі.

Лёндан, 8.11.56.

Даражэнькі Юры Сямёнавіч,

Учора быў на паседжаньні рэдакцыйнай калегіі “Аб’яднаньня” і даведаўся, чаму Ваш артыкул не памясьцілі. З аднаго боку, у іх ня

[67] **Коэгзыстэнцыя** (ад анг. *coexistence*) — суіснаваньне.

выходзіла зь лікам балонак (што я і прадбачыў), з другога боку, яны адлажылі яго да наступнага нумару, каб парадзіцца са мною, бо большасьць сяброў рэдкалегіі ня гадзілася зьмяшчаць у такой форме з лаянкай. Там сапраўды было шмат зусім непатрэбных вульгарных словаў: як *“гандляр жывым таварам”*, *“прастытуткі”*, розныя *“каханкі”* і г. д. Я там жа на месцы яшчэ раз яго прачытаў і гэтыя словы павыкідаў, бо-ж яны абніжаюць фактычна аўтара, а прыймаючы пад увагу, што вы падпісалі собскім імем, ня выпадала абніжаць зьместу і самога аўтара. Артыкул ад гэтага нічога ня страціў, а наадварот.

Такім чынам, ён пойдзе ў гэтым нумары, які ўжо набіваецца і каля 19-га гэтага месяца будзе адбіты. Як бачыце, ня было тут ніякае злое волі, а наадварот — жаданьне не абніжаць ані аўтара, ані тым самым часапісу.

Атрымаў два нумары “Барацьбы” — зусім добры нумар і на адпаведным узроўні. Вонкава таксама выглядае добра. Вы. Відаць, выслалі яго Зданковічу[68] і Бунчуку[69], бо яны займаюцца кальпартажам. Ці атрымалі вы “Беларускае Слова” з Амэрыкі? Калі не, напішэце мне. Я наагул ня ведаю, куды і каму і колькі яны высылаюць, бо разьдзельніка не падалі. Пытаўся, калі выйдзе наступны, але таксама дасюль нешта не адказалі. Наагул, там у іх нешта ня ладзіцца.

На Сабалеўскага напрасна Вы так заеліся. Вы ведаеце, што ён мне заліў за скуру пару ўжо разоў болей, чымсь каму, аднак і ён мае свае дадатнія бакі, а нам нельга людзьмі раськідацца. Кожны з нас мае свае недахопы, але калі гэта робіцца не па злой волі — трэба даравацъ.

З шчырай пашанай Ваш Р[адаслаў] Астроўскі.

---

[68] **Аляксандар Жданковіч (Зданковіч)** (1924—1996), грамадзкі дзеяч. Пасля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Ад 1948 г. быў сябрам ХАБР, уваходзіў у Часовую ўправу арганізацыі, быў першым старшынём Лёнданскага акруговага цэнтру. Ад 1956 г. уваходзіў у Краёвы штаб Беларускага вызвольнага фронту.

[69] **Янка Бунчук** (1923—?), грамадзкі дзеяч. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі, у Нотынгеме. Улетку 1956 г. быў прызначаны кіраўніком Краёвага штабу Беларускага вызвольнага фронту у Вялікабрытаніі й актыўна заняўся разбудовай арганізацыі. Быў старшынём нотынгемскага аддзелу Антыбальшавіцкага блёку народаў, сябрам выканаўчага камітэту Брытанскай лігі свабоднай Эўропы. Пры канцы 1979 г. у выніку непаразуменьняў зь Лёнданскім аддзелам БВФ адышоў ад справаў, ажаніўся з полькай і парваў усе сувязі зь беларусамі.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# КАЛІ АЙЦА ПЁТРУ КЛІКАЛІ ПЭДРО

На капэртах з Буэнас-Айрэсу ён падпісваўся як *Pedro Sawczyc*. Ня кожны, узяўшы ў рукі лісты, здагадаецца, што ў ЗША ён быў ведамы як сьвятар Пётра Саўчыц. І што гэта пра яго ж у артыкуле "Беларусы на службе ЦРУ. Кастусь Мярляк, першы агент у шэрагах беларускай эміграцыі ЗША" Антон Рудак піша: *"Адным з найбліжэйшых супрацоўнікаў Мерляка ў Аргенціне быў сумленны чалавек Пятро Саўчыц — колішні актывіст Саюза беларускай моладзі ў Вілейцы, які падчас нацысцкай акупацыі ўратаваў ад спалення вёску Бараўцы. Партызаны падарвалі на дарозе побач аўтамабіль з немцамі, і гітлераўцы ў адплату за гэта хацелі спаліць вёску разам з жыхарамі, а Саўчыц заступіўся за вяскоўцаў. Ён жа ратаваў з вілейскай турмы СД людзей, западозраных у супрацоўніцтве з партызанамі"*[1].

Зусім іншы вобраз Саўчыца, гаворачы пра падзеі ў Вялейскай акрузе ў тыя ж часы, малюе Язэп Малецкі ва ўспамінах "Пад знакам Пагоні" (Таронта, 1976):

*«Працы ў арганізаваньні намесьніцтва было шмат. Перш трэба было зарыентавацца ў людзях. Тут у запраўднасьці існавалі дзьве беларускія групы. Першая лучыла старэйшых дзеячоў, якія, супрацоўнічаючы зь Немцамі, стараліся адначасна ўсімі сіламі стварыць у акрузе асновы для беларускае нацыянальна-дзяржаўнае працы. Да яе, у ролі вядучай, належалі Родзевіч, Скабей, Калодка, Кунцэвіч, Найдзюк, Бабіч, Кажан. Да другой — апазыцыянеры, пераважна тыя праваслаўныя, што ненавідзілі каталікоў, адкідалі ўсю вялікую гісторыю нашага народу ў выглядзе Вялікага Княства Літоўскага, як нашай дзяржавы, рух беларускі бачылі адно ў дзейнасьці праваслаўя й праваслаўных. Галоўнымі прадстаўнікамі гэтае групы былі Касякі й Саўчыц.*

*Аднойчы прыпадкова сустрэў я К. Касяка. Быў гэта дзяцюк гадоў 26, вёрткі ў гутарцы, але бясхрыбетны ў справах нацыянальных. Рабіў уражаньне поўінтэлігента, які пры дапамозе інтрыганства пнецца здабыць давер у Немцаў ды выплыць на шырэйшыя воды. Сваім супрацоўнікам я сказаў ігнараваць гэтага чалавека ды рабіць сваю нацыянальную справу.*

---

[1] Гл.: https://gazetaby.com/post/belarusy-na-sluzhbe-czru-1/126959.

*Другі прадстаўнік “апазыцыі”, Саўчыц, як быццам абмінаў мяне й намесьніцтва. Усёжтакі аднойчы зьявіўся да мяне. Гляджу, што гэта за “лідар” — хлапец гадоў 19, ачытаны й яшчэ глыбей не сапсаваны. Думаю, адкідаць яго нельга. Хай у працы гартуецца. Дык назначыў яго кіраўніком Самапомачы.*

*Каб зар’ентавацца, што дзеіцца ў крымінальнай паліцыі, адведаў я Перамыкіна, раней ужо згаданага чорнасоценца, што кіраваў крымінальнай паліцыяй ды шпіёніў для СД усіх Беларусаў. Перамыкін, белагвардзейскі палкоўнік, Расеец па паходжаньні, гутарыў са мной “заігрываючы” на беларускім патрыятызьме. Хваліўся, што гэта ён сарганізаваў беларускую крымінальную паліцыю на Вялейскую акругу ды што мае пры сабе добрых Беларусаў, як Кажана, Бабіча, Качана. Асабліва хваліў Кажана як слаўнага й адважнага вайскавіка. У Саўчыца ён падкрэсьліваў палітычную гібкасьць ды адданасьць нямецкаму “новаму парадку”.*

*Колькі дзён пасьля Перамыкін рэвізытаваў мяне. У бяседзе на розныя тэмы я зьйшоў на справу арышту Родзевіча й Калодкі. Перамыкін бажыўся, што ён хацеў ратаваць Родзевіча й Калодку, але ня мог нічога зрабіць, бо яны самі былі вінаватыя. Пасьля ад Беларусаў, што працавалі ў крымінальнай паліцыі ў Перамыкіна, я даведаўся, што ніхто іншы, як ён з Саўчыцам, фабрыкавалі на Родзевіча й Калодку даносы ў СД.*

*Па нейкім часе Перамыкін запрасіў мяне да сябе, гэтым разам на дзень сваіх нарадзінаў. У доме Перамыкіна было шмат гасьцей. Там я пабачыў, што Саўчыц — правая рука гаспадара. Я тады яшчэ больш пераканаўся, што інфармацыі іншых супрацоўнікаў тайнай паліцыі праўдзівыя, што супалка Перамыкін — Саўчыц згулялі брудную ролю ў справе арышту Родзевіча, Калодкі ды іншых. Браты Касякі — Іван у Менску, а Канстантын у Вялейшчыне, бясспрэчна сваімі “рапартамі” ў СД памагалі, перадавалі туды цэлыя сьпіскі Беларусаў-каталікоў з анатацыямі, што гэта быццам скрытыя “Палякі”»*[2].

Часопіс “Царкоўны Сьветач” (1978, № 26) у сувязі з высьвячэньнем Пётры Саўчыца 6 лістапада 1977 г. у сан сьвяшчэньніка ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл (Нью-Ёрк) падае ягоную біяграмку:

*“Айцец Пётра Саўчыц нарадзіўся 9 сакавіка 1923 г. у вёсцы Бараўцы Вялейскага павету. Бацькі Даніла і Анна мелі тут сельскую гаспадарку, апроч гэтага — бацька займаўся канструкцыяй сельскагаспадарчых машын.*

*Пачатковую шасьціклясовую школу скончыў у роднай вёсцы, пасьля паступіў у Віленскую Беларускую Гімназію. Будучы вучнем гімназіі, жыў у Сьвята Духавым манастыры, вывучыў царкоўнаславянскую мову і сьвятое пісьмо, а падчас архірэйскіх службаў быў*

[2] http://knihi.com/Jazep_Malecki/Pad_znakam_Pahoni_Uspaminy.html.

*іпадзіяканам у Высокапрэасьвяшчэньнейшага Феадосія — Архіяпіскапа Віленскага й Лідзкага.*

*У 1939 г., з перадачай бальшавікамі Вільні ліцьвінам, пераяжджае ў Наваградак, а пасьля вяртаецца на сваю Вялейшчыну, дзе быў змушаны працаваць школьным настаўнікам і адначасна прадаўжаць навуку ў пэдагагічным інстытуце.*

*Падчас нямецкае акупацыі працаваў далей школьным настаўнікам у Вялейцы і адначасна ў Беларускай Народнай Самапомачы. У 1944 г. выяжджае ў Нямеччыну. Пасьля сканчэньня вайны прабываў у ДП лягеры Майнлёс — Баварыя. У гэтым, спачатку польскім, лягеры выдзялілў былых ваеннапалонных беларусаў ды арганізаваў асяродак з беларускай школай і праваслаўнай царквою.*

*У 1948 г. эміграваў у Аргэнтыну, дзе разам з сьв. пам. а. В. Вячорка арганізаваў беларускі праваслаўны прыход у мясцовасьці Бэразагатэгві каля Буэнос Айрэс.*

*У 1960 г. пераехаў у ЗША, дзе прымае актыўны ўдзел у беларускім і царкоўным жыцьці. Мае жонку Анну і двое дзяцей: сына і дачку".*

Пра апошнія гады жыцьця й дзейнасьці сьвятара піша Алег Гардзіенка ў сваёй кнізе "Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэньне — дзейнасьць — заняпад" (Менск, 2016): *"З 6 лістапада 1977 г. да 7 студзеня 1980 г. быў настаяцелем парафіі. [...] У 1991 г. каталог цэркваў РЗПЦ фіксуе яго як настаяцеля праваслаўнага прыходу сьв. Касьмы і Дзям'яна ў Пасэіку (Нью Джэрзі). Памёр 9 лістапада 2006 г. у Бэргене (штат Нью Ёрк)".*

Публікуючы лісты Пятра Саўчыца з Буэнас-Айрэсу ў канадыйскі Вініпэг да Міколы Сільвановіча (Вярбы), натуральна, ня маецца на ўвеце стаць на чыйсьці бок ці агучыць вырак; мэта зусім іншая: дадаць яшчэ адну невядомую старонку да біяграфіі дзеяча, які стаўся часткаю беларускай гісторыі, на бацькаўшчыне й эміграцыі. А вось якой часткаю — мусіць сьцьвердзіць далейшая архіўная пошукавая праца.

А яшчэ — ліставаньне можа проста чытацца як цікавы аповед пра побыт нашых у Аргэнтыне.

Парыж, 9/VII-48[3].

Даражэнькі Міколка!

Учора ў 6:00 гадзін раніцай мы апынуліся ў Парыжы. Змучаны пасьля няспаных пару начэй, я мусіў адставіць на задні плян усё й крыху адпачыць. Нас разьмясьцілі па гатэлях, атрымоўвалі па 350 фр[анкаў] штодзённа на абед на ўтрыманьне. Тут *IRO*[4] ня варыць супу, а ідзе

[3] Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў: Library and Archives Canada. MG31-H90. Vol. 2. F. 55.

[4] **Міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў** (анг. *International Refugees Organization, IRO*) — адмысловая структура пры ААН, створаная

ўсё па-Парыжску: атрымаў грошы і ідзі ў рэстаран. Цудоўны горад прыцягвае масу ўвагі, маса ўражаньняў, але паддавацца энтузіязму нельга з браку часу ды асабіста ў мяне браку настрою. З учарашняга дня пачалося залагоджваньне ўсялякіх фармальнасьцяў. У Марсэль мы ад'едзем 14/VII-48 г. Спадзяюся, што буду мець крыху часу, каб адведаць знаёмых, якіх маю пад рукой адрасы. Вельмі выгадна тое, што садзішся ў мэтро, і праз ½ гадзіны часу пераносіць цябе на другі бераг гораду. Магчыма, зайду да Абрамчыка[5], перад гэтым толькі мушу асушыць бутылку каньяку, ну ды і пабалтаю па-пустому. На якія небудзь паважныя справы ў Парыжы мяне не хапае. Міколка, ці паверыш, мяне апанаваў пусты настрой. Дзеля чаго, куды імкнуся, па што, з кім — сам сабе адказу не знайду.

Даражэнькі, я напісаў раду асоб у *Mainleus*[6] — Сьнежку, Юзі — мой адрыс у Буэнос Aires, з тым, каб мне зараз-жа пісалі, бо я спадзяюся, пакуль я туды даеду, вас з *Mainleus* вывязуць. Перадай, калі ласка, няхай хто мае жаданьне выехаць у Аргэнтыну з бліжэйшай нашай пачкі беларусаў, хай прышлюць на гэты адрыс свае пэрсанальныя даныя. Юзю, я прылажу ўсе мае сілы, каб як мага хутчэй забраць да сябе. Я прадстаўляю яе глупае цяперашняе палажэньне. Міколка, будзь ласкаў, старайся зь ёю гутарыць часьцей і дадай атухі, агарадзі як-небудзь, каб усялякая галота над ёю не глумілася. Я аб гэтым ужо некалькі разоў пісаў, прасіў таксама Сьнежку. З аднаго боку, я спадзяюся ад яго, што ён для мяне будзе рабіць усё магчымае і мной пажаданае, але знаючы яго, яго адносіны ранейшага да яе, лічу магчымым, што каб задавацца гэтаю апекай над ёю, ён можа палічыць ніжэйшым свае годнасьці, дзеля гэтага я таксама прашу і Цябе. Шмат расьпісваць яшчэ пакуль што няма аб чым, у агульнасьці я напішу ўжо з Марсэля або з Касаблянкі, гдзе мы таксама на пару гадзін будзем мець магчымасьць выйсьці на бераг.

Дык пакуль што бывай. Мае лепшыя пажаданьні і прывітаньні з Парыжа пасылаю я і мая сям'я.

Твой Пеця.

PS. Толькі што адчыніліся дзьверы, і Іван прынёс бутылку каньяку.

---

20 жніўня 1946 г. Паступова пераняла ад *UNRRA* клопат аб паваенных уцекачах. Займалася арганізацыяй выезду ўцекачоў на сталае месца жыхарства ў розныя краіны сьвету. Дзейнічала да 1952 г., пакуль не была ператвораная ў службу пры Вярхоўным камісары ААН па справах уцекачоў.

[5] Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык.

[6] **Майнлёйз** (ням. *Mainleus*) — горад у зямлі Баварыя, побач зь якім у казармах разьмяшчаўся *DP*-лягер, дзе дзейнічалі беларускія дзіцячы садок, пачатковая школа. Беларусы ў лягеры знаходзіліся ад 1947 да 1948 г.

*Buenos Aires, 20/X-48.*

Даражэнькі Мікола!

Адчуваю, я бачу, Ты крыўдзішся, што я на працягу такога часу яшчэ Табе не напісаў. Маня нават кажа, што гэта запозна, Ты пакрыўдзіўся, ня будзеш чытаць гэтага лісту і адашлеш назад. Бязумоўна, прыкра мне й сорамна за такое маўчаньне, але думаю, што ты даруеш, калі зразумееш, колькі гэта клопатаў і часу забірае, калі чалавек злазя з параплаву ў чужой краіне без аднаго граша й павінен распачынаць нейкае жыцьцё. На першы пачатак сяк так і менш больш я прывёў ужо справы ў парадак. Жывём ужо па-дамашняму. Патрэбныя мэблі ды розныя іншыя прычындалы сьцягнуў у кучу ды годзе. Ужо мінула 6 тыдняў, як працую на фабрыцы як *"elektroschweiser"*[7], зарабляю звыш 500 пэзо ў м[еся]ц. Курс пэза да даляра роўны 1:5,60. Бачыш, гэта няшмат, але жыцьцё тут каштуе 50 % або ў некаторых выпадках і меней, як у ЗША. Аб цэнах я ўжо шмат каму пісаў, але арыентыровачна яшчэ раз: кг хлеб 30 цэнтаўсаў, мяса кг 1 пэзо, цукар 50 ц[энтаўсаў], сала 2,50 пэзо, масла 3 пэзо. Гэта апошнія цэны, яны цяпер крыху павысіліся. Чарнарабочы зусім бяз ніякага фаху зарабляе 12 пэзо на дзень, бачыш, таксама тут нядрэнна можна пражыць. Дорага вельмі каштуюць памяшканьні, ды іх вельмі цяжка знайсьці, у Буэнос Айрысе гэта самая трудная праблема. Мы за памешканьне пакой з кухняй плацім 11 пэзо ў м[еся]ц. Сваё будаваць адразу не пачнём, бо шалёна дорага каштуе матар'ял і зямля — пляц.

Зараз тут маем якраз палавіну вясны, але яшчэ ня скідаў свайго цёплага сіняга касьцюма й свэтара. Яна непадобна зусім на баварскую вясну. Дзень бывае добра цёпла, а дзень халодна.

А цяпер крыху пра нашы беларускія справы. Беларусаў у *Buenos Aires* налічваецца 80 тысяч старой эміграцыі. Трэба сказаць, што вельмі добра зарганізаваны, лепш, як усе іншыя нацыянальнасьці, на нашу жаль, але пад крамлёўскім сонцам. Маюць сваю газэту "Наш Голос"[8] на расейскай мове, каторая сваім нахабствам і ілжой нават пераскочыла ўсякія маскоўскія праўды. Вельмі цяжка зь імі гутарыць, яны ўжо адпаведна настаўлены да спатканьня нас і інакш не завуць, як бандыты, фашысты. Але ўсё-ж па-маленьку даецца некаторых пераканаць і нават перацягваць на свой бок. Ты хіба ведаеш, мы тут маем сваю [арганізацыю] Згурт[аваньне] Беларусаў у Аргэнтыне. Арганізацыя маладзенькая і слабая, усюды тое самае: не хапае людзей. Я застаў тут урад з 3-х асоб, старшыня Мерляк[9] з Наваградчыны, ён быў гаспадар-

---

[7] ***Elektroschweißer*** (ням.) — электразваршчык.

[8] ***"Наш голос"*** — рускамоўны тыднёвік, орган *"Русско-белорусской общественности в Аргентине"*, які выходзіў у Буэнас-Айрэсе ў 1945—1949 гг.

[9] Маецца на ўвазе Кастусь Мерляк.

чым аф[іцэрам] у Рагулявым батальёне[10], два апошнія добрыя, але слабенькія хлопцы з арміі Андэрса. Ну, але паволі варушымся, справы наладжваюцца. Перадусім б'ем на тое, каб хоць часткова павярнуць да сябе *"заблудзіўшых сыноў"*. Пачаткі даюць надзею, ужо нават прыкметна трэшчына сярод масы і чырвонымі таварышчамі.

Ведаеш, Міколка, адчуваю кожны дзень, што Цябе тут брак. Мы разам, два розныя характары вельмі добра сябе дапаўнялі і заўсёды нават што-небудзь нядрэннае выходзіла. Я яшчэ з Парыжа ня ведаю, толькі кажу Табе ці Сьнежку пісаў, каб Вы як мага хутчэй даслалі свае пэрсанальныя даныя для атрыманьня візаў. Я іх яшчэ і цяпер ня маю. А ўжо дагэтуль шмат мог бы чаго зрабіць. Ня ведаю, магчыма, Вы там сабе плянуеце што небудзь лепшага. Як відаць з прэсы, шмат надзеі зараз пакладаецца на масавую эміграцыю ў ЗША. Цікава, як там выглядае ўсё зараз у нашым *Mainleus*. Юзя пісала мне, што ўся "перадавая" публіка выехала ў Мюнхэн. Спадзяюся, што цяпер стала шмат лягчэй працаваць. Як у цябе гарманізуецца праца з Цырка[?]. Што новага наагул у беларускім жыцьці ў Нямеччыне? Маю крыху вестак, але гэта ўсё аднастароньнія.

Даражэнькі, я прасіў Цябе яшчэ з Парыжа пераслаць мне тыя фатаграфіі палешука, жніва й сенакос, я іх забыўся ў канцэлярыі, а яны мне вельмі тут патрэбны. Наагул, Ты ведаеш, як я зьбіраўся і вельмі шмат патрэбных рэчаў забыўся, перадусім літаратуру.

Міколка! Просьба, будзь ласкаў, адбі Пагоню, якую Табе зрабіў Касьцюшка для выкладаньня саломай. Нам тут яна патрэбна для штандару арганізацыі. Наагул прышлі крыху беларускіх значкаў, паштовак, а зарганізаваўшы, я Табе расплачуся далярамі.

Дык ня крыўдзься, Даражэнькі, прабач мне і хуценька напішы.

З прывітаньнем, Твой Пеця.

PS. Прывітаньні Полі, Спадару Рагулю, Сьнежкам, Лебедзевым, Касьцюшкам ды наагул усяму быўшаму нашаму скаўцкаму пэрсаналу.

Прывітаньне маёй Юзенцы, чым можаш яе там пацяшай, спадзяюся, што хутка я яе змагу забраць.

*Buenos Aires, 20/VI-49.*

Паважаны Сп. Сільвановіч!

Зусім афіцыяльны па форме і зьместу Твой ліст я атрымаў. Крыўдна мне вельмі, што за прычыну нашай перарванай перапіскі Ты бярэш вельмі нізкі матыў, мянавіта пяць даляраў. Трудна называецца. Ты мяне ніколі не разумеў, калі мы яшчэ працавалі разам, і апошнія мае патрабаваньні ад Цябе прывялі мяне ўрэшце да перакананьня, што

[10] Маецца на ўвазе **эскадрон (швадрон)** Барыса Рагулі (1920—2005), які дзейнічаў на Навагрaдчыне ў 1943—1944 гг.

сапраўднага сяброўства паміж людзьмі не бывае й ня можа быць. Запісаныя Табой на разьвітаньне мне прашчальныя словы мне глыбака запалі ў душу, і я верыў, што другая частка маёй асобы застаецца там на месцы, і што праз Цябе я змагу дакончыць распачатую справу, адносяшчуюся зьвязаньне лёсу з другой асобай. Я дамагаўся ад Цябе аб'ектыўнага выясьненьня справы, бо толькі Табе аднаму я мог верыць. Атрымаў рашучы адказ *"даносамі ня буду займацца"*. Я даў супакой, думаючы, каб ня лезьці ў Тваю чыстую душу з сваймі бруднымі рукамі. Але ў тым-жа самым часе выясьняецца, што існуе іншая прычына, сам распачаў асыставаць за ёю, раскрываючы перад ёю мае лісты ды незаслужана бестаючы мяне, прадстаўляючы, як фальшывага тыпа і вечнага лгуна. Не з пабуджэньня зайздрасьці ці злосьці я перастаў пісаць, але гэта было для мяне сапраўды крыўдна і здаецца незаслужаным перад Табою. У гэтакім выпадку, здавалася-б, чалавек павінен выявіць свае залеты і не закранаючы годнасьці тым больш свайго папярэдняга блізкага сябры.

Бачыш, нас абодвух разьвяло ў розныя канцы сьвету, а такая глупасьць мусіла нам двайм заставіць у нашых сяброўскіх адносінах такі непрыемны асадак. Ня ведаю, можа, кепска раблю, што гэта выясьняю, няхай бы можа лепш было так, як гэта Ты думаў, што пяць даляраў разгарадзіла нашу перапіску. Вось дзеля гэтага я і паўстрымаўся пісаць больш да Цябе, думаючы, што з часам усё гэта само праз сябе ўтрасецца. Жаночая здрадлівасьць, бачыш, можа паставіць бар'ер нават паміж найлепшымі сябрамі. Напэўна, слухала Цябе, прызнавала рацыю, а пасьля напісала аб усім мне. Якая пустата. Я заставаўся верным сваім абяцаньням і Тваім везкім словам на ад'езьдзе: *"Ты забяры, няхай не падзе Твой аўтарытэт перад людзьмі"*. Цэлы год пякельных клопатаў і выдаткаў, зробленых за ўвесь час усімі сіламі нас усіх, аказваюцца дарэмнымі. Віза ў консуляў *Frankfurt*, а яна адказваецца на яе згаласіцца. Здаецца, па пераезьдзе ў *Backnang*[11] стаў большы выбар жаніхоў, і яна стараецца хутчэй выйсьці замуж.

Дык, бачыш, усё гэта ня стоіць выядзянага яйца, а між намі мусіла яшчэ зайсьці такое непаразуменьне. Добра, што гэта атмасфэра разьвеялася. Я ўпэўнены, што нам прыдзецца яшчэ ў жыцьці спаткацца, але хіба толькі акром хвіліны гумару нічога больш не прынясе.

Дык, паважаны, далейшыя нашы адносіны і перапіска залежыць толькі ад Цябе. Я застаюся такім да Цябе, якім разьвітаўся ў *Mainleus*.

Прымі самыя шчырыя пажаданьні ад мяне й маёй сям'і шчасьлівага ўладжаньня ўсіх Тваіх спраў на новым мейсцы. Прывітаньні ад усіх Полі.

Твой Пеця.

---

[11] **Бакнанг** (ням. *Backnang*) — горад у Нямеччыне каля Штутгарту, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг, дзе знаходзіўся беларускі *DP*-лягер. Тут апынуліся пераважна прыхільнікі БЦР. Лягер праіснаваў да 1950 г., калі апошнія жыхары выехалі ў ЗША.

*Buenos Aires, 19/VII-49.*

Даражэнькі Мікола,

Спадзяюся, што існаваўшае непаразуменьне паміж намі зьліквідавана. Ты паставіў “точку”, і я таксама на гэтым усім стаўлю “кропку” з “запятой”. Доўга чакаў Твайго ліста, ён прыйшоў са зпазьненьнем, і наагул шчасьце, што прыйшоў, бо я падумаў-бы, што Ты наагул ня хочаш адпісываць.

Ты скараціў адрас, выкідаючы *Gerli*, а гэта, браток, нельга рабіць. Ты павінен ведаць, што *Buenos Aires* па сваёй плошчы становіцца найбольшым горадам у сьвеце, а вось *Gerli* гэта як Бухаўшчына пры Маладэчне, бо вуліц гэтага самага назову спатыкаецца ў кожнай частцы горада. Але паколькі Саўчыц становіцца і тут “папулярным”, дык, бачыш, знайшлі. Дык цяпер, браток, хочам мы ўсе ведаць як найхутчэй, як Табе й Полі паводзіцца ў Канадзе. Гдзе працуеце, жывеце, а самае галоўнае, як чуецеся. Як падабаецца Канада наагул. Я хацеў-бы, каб Ты дакладна апісаў Канаду, паколькі пасьпеў запазнацца з боку фізычнае гэаграфіі, а галоўна з вока нашага беларускага гаспадара, што варта зямля й прырода. Я Табе, здаецца, пісаў, што папаўшы ў Аргэнтыну, я перастаў верыць у дасюлешнія даные гэаграфіі. Пазьней можа напішу сам для нашых беларускіх дзетак падручнік, але гэта так, як яно сапраўды выглядае, а не базуючыся на амплітудах ды ізатэрмах, бо ўсё гэта “чапуха”.

Нам тут даволі цяжка прывыкаць, позірк на каляндар, і становіцца глупа. Чэрвень, ліпень, жнівень — зіма, і наагул усё наадварот. Замест хвоі нейкая дурная пальма, а замест кусьцікаў ляшчыны, лазы ці вольхі нейкі да нічога непадобны кустарнік.

Дык, Даражэнькі, значыць, цяпер Твой ліст будзе на двух аркушах — чатырох старонках. Мае мне не даюць жыць, пытаючыся, што піша Сільвановіч? І вось скажы, дай адказ. Дык яшчэ раз вельмі прашу, дай мне поўны вобраз аб Канадзе, параўноўваючы яе да нашага роднага краю. У мяне маюцца ўжо сякія такія грошы, што я нават магу падумаць, турыстам ці іншым брадзягам, магчыма, заглянуць і туды да Вас. Пішаш, што ў Вас цяжка на конта “пацягнуць”, проста не разумею, тут тысячы сартоў. Віны, лікёры, каньякі, водкі і вельмі дзяшовы. Работнік за днеўку можа купіць сабе столькі гэтых напіткаў, што можна напоўніць ванну, легчы, напіцца і тут-жа захлынуцца ў ёй. Гэта сапраўды без павялічэньня. Але я штосьці страціў апэтыт да напіткаў. П’ю вельмі рэдка і зусім мала. Наагул, вяду *“żywot człowieka poczciwego”*[12]. У нас усё па-старому, матка дома, мы чацьвёра працуем, сёстры як

[12] Магчыма, алюзія на твор польскага пісьменьніка Мікалая Рэя (1505—1569) — дыдактычна-алегарычную паэму *“Wizerunk własny żywota człowieka poczciwego”* (1558).

партніхі, Іван столяр, я ўсё той-жа *“elektroschweiser”*. Што адносіцца беларускага грамадзкага жыцьця, то тут усё слабенька. Апошні час яшчэ ўтварыўся раскол. Калі Ты ўжо адпачыў ад гэтых спраў з Нямеччыны, магу напісаць у наступным лісьце дакладней.

Дык пакуль што, з самымі лепшымі пажаданьнямі Табе і Полі, застаёмся ўсе Вашы Саўчыцы.

*Buenos Aires, 5/X-1949.*

Даражэнькі Мікола!

Ня ведаю, як пачынаць Табе пісаць. У мяне нават была ахвота Цябе крыху палаяць за акуратнасьць, але не хачу, бо сёньня вельмі прыгожая вясеньняя пагода ў нас, а да гэтага я яшчэ толькі што атрымаў “палучку”. Я не спадзяваўся ўжо атрымаць ад Цябе вестку, думаў сабе, можа я гдзе небудзь у апошнім лісьце наступіў на Твой балючы паляц альбо штосьці іншае, бо ведаеш-жа тут маю справу з Вярбой-Сільвановічам. Дзякаваць Богу, аказваецца, усё ў парадку. Проста нейкія там злажыліся прычыны, што я мусіў чакаць на адказ два м[еся]цы. Як другі раз гэта паўторыцца, то я ўжо ведаю, што зрабіць. Вось перадамной Твая вялікая фатаграфія, дарысую яшчэ доўгую бараду, надпішу “Дзед” і адашлю Табе назад і, як Ты заўсёды казаў, *“справа вырашана”*. Але пакуль што буду ўсё-ж старацца ўтрымаць з Табой дыпляматычныя адносіны. Хто ведае, а можа давядзецца калі небудзь папрасіцца ў Цябе на начлег у Вэніпэгу ці спытаць нумар трамваю. Вось дзеля гэтага стараюся споўніць Твае просьбы. Сёньня высылаю Табе некаторыя нумары экзэмпляраў славянскай прэсы. Павінен зазначыць, што, як пабачыш, гэта ўсё вельмі слабенькае. Затое камуністычныя выдавецтвы гэтых-жа нацыянальнасьцяў стаяць зусім інакш. Я хачу спытаць перш, калі гэта не зашкодзіць там Тваёй апініі, то другі раз прышлю і гэтыя. Прыглядаўся на конта альбома аргэнтынскіх паштовых марак, што знайшоў быў досыць старыя, і наагул мне не падабаліся. У суботу па абедзе адпраўлюся глыбей у цэнтар і, думаю, што знайду штосьці больш саліднае і вышлю.

Твае лісты (копіі), адрасаваныя Палікарпу Фёдаравічу[13], адсылаю таго-ж, я ведаю, што Ты любіш мець у сваіх папках парадак.

У мяне асабіста ніякіх навасьцяў. Меў пару лістоў зь Нямеччыны, там усё тая самая старая бяда.

[13] Маецца на ўвазе **Палікарп Манькоў** (1910—1999), грамадзкі дзеяч. У 1939—1941 гг. служыў у Чырвонай арміі, трапіў у палон. У 1942—1943 гг. працаваў у слонімскім гебітскамісарыяце. Ад чэрвеня 1943 г. узначальваў СБМ у Слуцкай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне, потым у ЗША.

Усе мы звыкліся ўжо з аргэнтынскім спосабам жыцьця. Працуем чацьвёра, а мама гаспадаруе дома. Клапоціцца з кухняй, бо ў нас усіх дрэнныя апэтыты. А вось зараз-бы забыў пра самае галоўнае: наша Маня выходзіць замуж, хіба яшчэ ў гэтым м[еся]цы будзем спраўляць вясельле. Дашлю тады і Табе фатаграфіі зь яе мараком. Ён беларус з Палесься, ужо тры гады як тут, працуе на караблі як механік. Вось і цяпер у дарозе Вогненая Зямля — Бразылія.

Міколка, пішы больш аб сабе. Чаму цёця Поля ня дасьць нам пачуць нічога аб сабе? Цешуся, што Адам Бобна можа цяпер удоваль нагледзіцца на кучы золата, якое капае. Можа, зараз вылячыцца, бо золата гэта было яго хвароба. Калі вядзеш зь ім перапіску, напішы, няхай нам напіша або прынамся прышлі яго адрас.

А цяпер, Даражэнькі, мая просьба да Цябе. У мяне зусім сур’ёзная думка — павандраваць. Калі лёс ужо нас на гэта кінуў, то я хачу пабываць ува ўсіх кутках сьвету. Ты ведаеш мяне, я часта хапаўся крайнасьцяў, вось і цяпер з далёкага поўдня хочацца адразу ўзяць курс на самую поўнач. Ня ведаю, як удасца, падарожны пашпарт і грошы я маю. Справа ідзе аб якімсьці афідавіт і кантракт з Канады. Толькі, ясна, не ў якім выпадку не шахта. Можа быць поле, лес, фабрыка ды іншае. Добра было-б наагул якуюсьці фікцыю, бо дарогу заплачу я сам і на першыя пачаткі ў мяне ёсьць гатовыя грошы. Даражэнькі, я не кажу, каб гэта Ты мне стараўся. Я ведаю, што Ты ўжо шмат каму паабяцаў і робіш, маючы шмат з гэтым клопату. Я нават ня сьмею Цябе прасіць, бо Ты можаш сказаць, што вось табе *“pięknym za nadobne”*[14]. Я Табе меў зрабіць уезд сюды ў Аргэнтыну і не зрабіў. Калі-б Ты нават яшчэ сёньня сядзеў у Нямеччыне, я нічога-б да гэтага часу не зрабіў-бы. Нядаўна быў у міністэра, каб парушыць гэтыя справы, і для славян з Эўропы нічога нельга дастаць, нават калі гэта робіш на свой рахунак. Я чуў, што ў Канадзе маюцца нейкія польскія і іншыя арганізацыі, і ў іх “дзялкі”, што за 60 даляраў могуць выслаць такі сабе “кантракцік”. Дык вось я і хачу Цябе папрасіць крыху гэта разьведаць і зьвязаць мяне зь імі. Здаецца, што справа нават ідзе лягчэй, калі прыежджага хтось мае не з ДП і не з Эўропы. Дык вось, Даражэнькі, мяне ахвота пабадзяцца, сям’я ўжо больш менш уладжана, а мне ўсёроўна.

Дык спадзяюся, што не зацягнеш з адказам.

Застаюся Твой Пецця.

14 ***“Pięknym za nadobne”*** (пол.) — прыказка, якае мае значэньне *“адплаціць тым самым”*.

*Buenos Aires*, 6/XI-49.

Даражэнькі!

Ты сабе, напэўна, зноў сказаў: *“Пятро добра ўмея лгаць”*, ды і ня можа быць зь ім ніякіх спраў і сяброўства. Дык яно ўсё-ж ня так, як Ты думаеш. Газэты і альбом марак я выслаў Табе 6/X-49, але звычайнай поштаю, і Ты іх напэўна яшчэ не атрымаў. Паветранай поштай выслаць былі некаторыя труднасьці (не падумай, што ходзіла тут аб большай аплаце) ды да гэтага мяне яшчэ паштовы службовец упэўніў, што не пазьней, як за 20 дзён іх атрымаеш. Пішу з даволі вялікім спазьненьнем, і гэта таму, што ўсё-ж такі Ты мне вінаваты яшчэ адзін ліст. А наагул я бачу, што мае лісты Ты ня маеш сілы ці цярплівасьці чытаць. Што адносіцца дзялавой стараны, дык Ты мяне зусім не разумееш. Ясная рэч, што пераезд у Канаду гэта толькі мяне аднаго. Сям'я менш больш уладжана і прывыкла тут. Перад тым, як пісаць Табе, я быў у Канадзкім консуляце, але патрабуюць якісьці афідэвіт альбо кантракт, самі тут не займаюцца ніякай вэрбоўкай працоўнай сілы. Я зрабіў сабе падарожны пашпарт, і вось толькі бракуе такога хоць “маленькага кантракціка”. Цікава, напішы, што Табе сказалі ў польскай фірме, альбо якія існуюць ці будуць існаваць яшчэ магчымасьці.

Пішы, калі ласка, больш і падрабязьней аб сабе ды наагул аб жыцьці нашых новых эмігрантаў у Канадзе. Я тут спаткаў аднаго нейкага польскага “чудака”, што кінуў Канаду і прыехаў сюды. Я адразу зрабіў выснаў і думаю, што не памыліўся, што ўся прычына, што яму не падабалася Канада, гэта брак жанчын, і ён прыехаў сюды, каб ажаніцца. Ці гэта праўда, бо-ж для мяне, таксама маладога, нежанатага, варта і патрэбна ведаць?

На цёцю Полю мы ўсе злуем, што яна аб сабе нічога не напіша. У нас нічога новага, калі не лічыць, што на новай кватэры, як бачыш з адваротнага адрасу. Зь Нямеччыны ўжо каля двух месяцаў ня маю ніякіх вестак. Выехалі ў Амэрыку Касяк Я[15]. і Віцьбіч Ю[рка]. Ад Касяка чакаю ліст, а атрымаў ад сп. Шыбута[16], які папаў і працуе на плянтацыі бавоўны, праўда, гэта першы ліст, і яшчэ ня піша аб ніякіх там асаблівасьцях. Можна сабе аднак прадставіць, які там клімат, і ўсё,

[15] Відаць, маецца на ўвазе Іван Касяк.

[16] Маецца на ўвазе **Хведар Шыбут** (1901(1900)—1990), грамадзкі дзеяч. У 1925—1926 гг. сябра Беларускага сялянскага саюзу. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай цывільнай адміністрацыі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. стаў кіраўніком бацькоўскага камітэту Беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў г. Пуэбла (штат Каларада). Прыхільнік БЦР, прадстаўнік Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі на Каларада.

гдзе расьце бавоўна, ды да гэтага яшчэ, напэўна, гаспадар нэгр. Вось якія мячты і працу дае нашым эмігрантам ЗША.

Будзь ласкаў, прышлі адрас сп. А[дама] Бабко. Я сабе мяркую, чаму ён нам ня хоча напісаць, я напішу першы, і справа выясьніцца.

Дык пакуль што бывай! Прывітаньні ад мяне й усіх астальных Табе й Полі.

Твой Пеця.

PS. Аб маіх плянах пераезду ў Канаду пакуль што не разказвай нікому, не пішы з агульных знаёмых.

*Buenos Aires, 5/XII. 49.*

Даражэнькі мой Мікола!

Апошнім часам амаль усе лісты я павінен пачынаць з перапросін за неакуратнасьць са сваімі адказамі, таксама гэтым разам і Цябе. Твой ліст я атрымаў ужо даўно, і цэлы рад прычын зложылася, што адказваю так позна. Першае, гэта вясельле сястры Марусі, шмат часу заняла падрыхтоўка, ну а пасьля трэба было выдыхаць цэлыя выпітыя скрынкі віскі й шампанскага. Гэта ўсё нялёгка, калі ўзяць пад увагу тэмпэратуру надвор'я 36$^{o}$ да 40$^{o}$ цяпла.

Пасьля вясельля, якое адбывалася 19 і 20/XI.49, паўтара тыдня ў мяне гасьціў дваюрадны брат з Расарыё[17], з каторым (каб не пакрыўдзіўся) прыходзілася ўсё яшчэ папраўляць.

Марак Тваіх яшчэ не абмяняў, але зраблю гэта ў працягу тыдня. Дапаўненьне да альбому на 48 год атрымаю толькі каля 15 г[этага] м[еся]ца. Высылаць буду іх сам, бо фірма пад ніякім узглядам не згадзілася сама гэта рабіць.

Вельмі шкада, што Ты неахвотна, а амаль зусім адказваешся напісаць праз Тваё асабістае прыватнае жыцьцё ў Канадзе. Мяне ўсё вельмі цікавіць, тым больш, што я зусім паважна надумаў пакінуць гэтую паўдзённую лазьню й перабрацца туды. Раблю сабе падарожны пашпарт, каторы ўжо абышоўся мне шмат клопатаў і грошай, і вось за два тыдні маю ўжо атрымаць на рукі, а там толькі справа "кантратніка", але-ж гэта галоўнае. З Твайго апошняга лісту я бачу, што гэта нібы-то таксама ня ёсьць вялікай труднасьцю, толькі вось гэтых 100 даляраў. Не састаўляла-б гэта ніякай праблемы, каб іх можна было Табе перавясьці праз банк ці пошту. Я рабіў ужо запытаньні, але адгэтуль можна пасылаць за граніцу грошы толькі для маткі, жонкі ці дзяцей. Пры выязьдзе можна за сабою перавясьці нават даволі салідную суму, якой нават я, бязумоўна, ніколі мець ня буду. Купляць амэрыканскі

[17] **Расарыё** (гішп. *Rosario*) — найбольшы горад у цэнтральнай правінцыі Аргентыны Санта-Фэ.

даляр і перасылаць яго ў капэртах — справа небясьпечная, а па-другое, гэта выкідваньне добрай часткі грошай на вуліцу. Хіба ведаеш, што каштуе цяпер усюды даляр на біржах, а па афіцыяльнаму курсу іх нельга дастаць. Я буду яшчэ шукаць дарогу, як можна лепш зрабіць, і ў выпадку, калі нічога не зраблю, буду прасіць Цябе вылажыць там за мяне, а я зьвярну іх адразу па прыезьдзе. Будзь ласкаў, яшчэ раз усё дакладна разьведай, і я мяркую, каб выляндаваць там у м[еся]цы маі або чэрвені, думаю, што тагды будзе лягчэй з работай, а самае галоўнае, з лета лягчэй будзе акліматызавацца. Я ўжо прывык да паўдзённага клімату, і захапіць адразу холад у Канадзе можа пашкодзіць. Дык буду чакаць сыгналу ад Цябе, калі ўсё трэба пачынаць, каб у гэтых м[еся-]цах быць там. Думаю, што да гэтага часу я яшчэ атрымаю ад Цябе больш дакладныя весткі аб Канадзе. Дык вось некаторыя пытаньні: ці можна знайсьці працу ў *Winnipeg* у мэталюргічнай прамысловасьці? Якая існуе там ахова працы і працуючых і ці гэта распаўсюджваецца на чужынцаў? Ці існуе апека ўраду на выпадак бязпрацоўя? Праўда, гэта ўжо не адыгрывае большай ролі, бо цьвёрда ўзяў дэцызыю туды пераехаць, але ўсё-ж варта згары ўсё ведаць.

Ясна, усё гэта патрэбна на пачатак, а там далей мы павінны нешта залажыць сваё. У Цябе добрая думка — залажыць крамку з маркамі, а там мы можам, калі толькі, схочаш да гэтага прылучыць і фатаграфічны заклад. Пацікаўся, калі ласка, і напішы мне, ці маюцца там у Вас клішы разьмер 10 × 15, гэта для мяне вельмі важна ведаць. І наагул, як там стаіць фатаграфія, я ведаю, фатографаў усюды хапае, але ці яны што небудзь прызваітае робяць? Вось яшчэ адна справа, у якой я ўжо выглядаю зусім надаедлівым, а менавіта, я тут абзавёўся адным вельмі прызваітым калегам. Старэйшы чалавек, каля 40 гадоў, з радам вельмі добрых і цэнных прафэсыяў, нейкі палавіна немец, палавіна югаслаў з Трыесту, яму тут добра паводзіцца, добра зарабляе, бо запраўды спэцыяліста на ўсе рукі, але таксама яму не падабаецца Аргэнтына, і хоча вырвацца і папрабаваць яшчэ Канады. Ён гатовы нават пераслаць Табе даляры ў пісьме, каб толькі для яго купіў кантракцік, ну і пасьля абяцае добры барыш. Калі ня цяжка, зрабі і для яго, бо запраўды чалавек нечаму варты.

Ну, але хіба хопіць, у мяне, бачыш, толькі сухія надаедлівыя “дзелавыя” справы.

Пішы, калі ласка, больш аб сабе. Чакаю хуткага адказу. У міжчасе пастараюся пераслаць Табе маркі. Прывітаньні Табе й Полі ад маіх усіх і ад мяне асабіста!

Твой Пеця.

*PS*. Маня пасылае Вам на памятку свой шлюбны здымак.

*Buenos Aires, 9/I — 50.*

Даражэнькі Мікола!

Я таксама даў крыху “адляжацца” Твайму пісьму, але не дзеля таго, каб набраўся моцы, але што я ня мог трымаць пяра ў руках. Пры спатыканьні новага году я забыўся аб прыслоўі *“nie sadz palcow między drzwi”*[18] ды і ўсадзіў, дык вось яшчэ нават сяньня перашкаджае пісаць. Як правёў Ты сьвяты Новы год? Я праз увесь час думаў пра Цябе і Канаду. Вельмі хачу наступныя сьвяты спаткаць палюдзку са сьнегам і марозам гдзесь там разам з Табой у *Winnipeg*. Тут нічога не бракуе і ўсё, як кажуць, “па кішэні” даступна, толькі бракуе галоўнага, каб адчуць гэтыя сьвяты і мець сьвяточны настрой. А вось апошняе чалавек тут ніколі не асягне. Па-першае, Каляды і Новы год гэта якраз тут шчыт летняй сьпёкі, па-другое, як ні дзіўна, у тутэйшых “латынаў” няма ніякай сьвяточнай традыцыі, і сьвята Каляд сьвяткуецца, як звычайная нядзеля і толькі адзін дзень. Рэдка толькі гдзе ў доме немца ці ангельца можна пабачыць сьвяточную маленькую ёлку, ясная рэч, бяз запаху ялінкі-жывіцы, а гэта звычайны папяровы букет. Нельга перадаць ні словам, ні на пісьме, а гэта толькі можна асабіста адчуць тут, які сум агортвае чалавека тут па сьвету на другі бок экватара ў гэтыя сьвяточныя дні. Але хопіць, ня буду Цябе больш нудзіць маім такім сумным тонам.



Шлюбны здымак Мані,
дасланы Міколу Сільвановічу

Трымаючы Тваё слова абяцаньня дапамагчы мне выляндаваць у Канаду, я сёньня прашу Цябе разпачаць дзеля гэтага канкрэтныя захады на конт “кантракта”. Няхай Цябе, Даражэнькі, нікольки ня трывожа думка, што я магу цябе толькі навясьці на кошты. Я сам, як і Ты сёньня, кармлюся горкім хлебам эмігранта і ведаю, што гэта ўсё значыць, як цяжка прыходзіць даляр. Усе затрачаныя грошы для мае справы я Табе павярну ў першую хвіліну нашага спатканьня на станцыі ў *Winnipeg*. У выпадку-ж якіх небудзь самых катастрафічных выпадкаў з маім прыездам я не застануся ніколі перад Табою ў даўгу

[18] ***“Nie sadz palcow między drzwi”*** (пол.) — *“Не ўсадзі пальцы паміж дзьвярыма”.*

як я ня ёсьць і ня быў ніколі перад нікім. Дык вось я перасылаю мае пэрсанальныя даныя:

*Pedro Sawczyc*, 9/III. 1923, вёска *Barowec (Polonia)*, нацыянальнасьць *Bioloruso, Orthodox*. Прафэсыі, тэхнічныя: земляроб, электразваршчык, фатограф. Бацька: *Danilo Sawczyc*, матка *Anna* з *Kapciug*. Сямейны стан нежанаты. Адрас — знаеш апошні, на ўсякі выпадак *Cedula № 4027615*. Прашу Цябе, адразу паведамляй, які характар прыме ўвесь ход справы ад пачатку.

А цяпер крыху пра філятэлістыку. Дык вось, прабаваў адмяніць прысланыя Табой маркі, але пакуль што не ўдаецца. Кажуць, што ўсё дзяшовае, і няма сэнсу з гэтым займацца. Як не адмяню, перашлю Табе назад. Дадаткі да альбому за 1949 г. атрымаў і сёньня-ж высылаю. У гэтым лісьце перасылаю Табе каля 50 штук марак, сабраных мной асабіста, таксама не цікавыя, бачыш, мне таксама шлюць усе гэтыя “нефцяныя вышкі”. Я маю зараз вакацыі, пашляюся ў горадзе, можа, знайду штось добрае з аргэнтыйскіх старых марак, дык куплю і перашлю. Шкада, што я выслаў адразу альбом Табе, мне трэба было перш яго дакамплектаваць усімі маркамі, што ў ім зьмешчаны, але-ж, бачыш, і Ты мне гэтага не падказаў. Хіба што трэба будзе купіць другі альбом і так зрабіць, але гэты ўжо не пашлю па пошце, а прывязу і ўручу Табе асабіста як першую падзяку за Твае хлопаты для мяне.

На гэтым дазволь закончыць з правапісам.

Твой Пеця.

*Buenos Aires, 13/II — 50.*

Даражэнькі Мікола!

Тваё апошняе доўгае маўчаньне некалькі непакоіла мяне і застаўляла многа што думаць. Нядаўна я атрымаў весткі з Канады, і між іншым радасную вестку, аб каторай, здавалася-б, Ты павінен быў паведаміць першы, а менавіта, што Ты стаў бацькам маленькага канадыйца-беларуса, магчыма, першага з нашай новай беларускай эміграцыі. Нарадзіны сына састаўляюць самыя прыгожыя надзеі, як Твае, так і мамкі Полі. Зараз Вас поўная сямейка. Узгадаваньня яго стане прадметам усіх Вашых забот і спадзяваньняў. Ад усяе душы віншую Вас і жадаю, каб Вы заўсёды цешыліся сямейным шчасьцем, а сын Ваш рос на пацеху ўсіх акружаючых яго.

Гэтым і выясьнілася маё доўгае чаканьне на Твой ліст. Спадзяюся, што самая раптоўная частка клопатаў ужо перайшла. Ты мне напішаш зараз крыху аб сваім сямейным і прыватным жыцьці, а таксама аб маёй асабістай просьбе, якую я Табе, даруй, у даволі нахальны спосаб навязваў. У вапошнім лісьце я перасылаў Табе крыху паштовых марак і таксама мае пэрсанальныя даныя дзеля разпачацьця справы адносна афідавіта, аддзельна звычайнай поштай я выслаў дадаткі да альбома марак на 1949.

Спадзяюся, што Ты атрымаў усё, толькі ня меў часу ані што рабіць, ані нават напісаць адказ. Мой калега Тробіць Кудольф пісаў да Цябе таксама ліст і чакае адказу. Добра было-б, каб Ты яму напісаў пару слоў і пераслаў адрас славянскага камітэту, і хай далей сабе зь імі вядзе справу. Ён мне ўжо нават, па праўдзе сказаць, з гэтым усім надаеў. Што адносіцца мяне, то я таксама з нецярплівасьцю чакаю весткі. Усяроўна як бы справа не выглядала. Бачыш, здаю сабе справу, што Ты ані маеш часу на гэта і таксама 100 даляраў залажыць для мяне, магчыма, Табе не па сіле. Я чакаю адказу, таму што ў апошнім лісьце я ўжо канчаткова прасіў усё разпачынаць і шкода было-б, калі-б, напрыклад, Ты там штось пачаў і можа ўнёс частку грошы, каб гэта прапала. Дык, Даражэнькі, хоць караценька ў пару словах напішы, як прадстаўляецца справа. У мяне зусім падарожны настрой, не хачу быць ані аднаго дня больш. І таму буду шукаць іншых дарог, каб увесну адсюль выбрацца.

Дык пакуль што ўсяго добрага! Прывітаньні й павіншаваньні ад маіх усіх Табе й Полі! Напішы абавязкова, як называецца маленькі Сільвановіч.

Твой Пеця.

*Buenos Aires, 5/IX-50.*

Даражэнькі Мікола!

Шкада, што Ты называешся Вярба, а ня проста лаза. У другім выпадку я мог-бы сёньня напісаць Табе добрых цёплых пару слоў, але да Вярбы яны не падойдуць, дык вось пакіну гэта. Ці-ж не пара ўжо напісаць мне пару слоў, пры тым яшчэ, як Ты маеш уласную пішучую машынку. Ня толькі Ты не адказаў на мой апошні ліст, але яшчэ перад тым Ты ўжо быў вінаваты мне адзін. Напішы праўды, ці ў Цябе так усё дрэнна складаецца, што ня маеш часу ці Ты проста стаў гультай? Праўда, адное й другое стаецца характэрным для нашых эмігрантаў. Што адносіцца цябе, дык Ты праўда заўсёды ўмеў разлажыць свой час, каб яго на ўсё хапіла, і запаху гультайства ад Цябе асабліва ня чулася. Можа, якая-небудзь іншая прычына, а можа Ты ўжо здзесь, як стары кулямётчык, сядзіш гдзесь на раней падрыхтаваных пазыцыяй у Карэі. Цяжка згадаць самае простае, што Ты вось сам мне хуценька аб усім напішаш. Як маешся й што ў Цябе новага? Як сям’я? Твой Петрык, напэўна, ужо вялікі і калі Ты на працы, то ён хіба ўжо сячэ мамцы дровы. Толькі чаму Ты ня хочаш прыслаць яго фатаграфію, бачыш, імя маё даў яму, напэўна-ж, у той час думаў пра мяне, а цяпер, які ён Петрык, ня хочаш паказаць.

Справа неспадзеўкі, што Ты хацеў мне зрабіць — выйсьці спатыкаць мяне на станцыю ў *Winnipeg* — адпадае. Я ўжо перастаў даўно нудзіцца надзеяй, што пападу ў Канаду. Ня варта хіба цягацца, можа, спатакемся гдзесь там на Бугаўшчыне. Як думаеш Ты? Кажуць у нас, што надзею

пакладаць на тых, што ў ЗША і Канадзе, нельга, бо яны маюць ужо па некалькі мяшкоў даляраў і што толькі як усё добра ўціхне, яны прыедуць купляць хутары й фальваркі. Можаш перадаць усім, што ліцытатарам[19] зямлі буду там, я пастараюся заехаць першым, хаця маю далей, і што зямля будзе вельмі дарагой, даражэй, як у Аргэнтыне, гдзе каб купіць дзялянку пад пабудову хату 10 × 25, трэба працаваць усё жыцьцё, а як пабудаваць якуюсь хатку, дык доўг астанецца яшчэ й надалей. Як там у Цябе справа з уласнай хатай ці ўжо перанёсься? Як жывуць астальныя там нашы беларусы? Хутка 6 месяцаў, як я ўжо ня маю ніводнага лісту зь Нямеччыны, хіба ўжо ўсе паразьяжджаліся, і то бальшыня павалiла ў Аўстралію. Сьнежкі дзесь прапалі, чуў, што выяжджалі ў ЗША, але ўжо 5 ½ месяцаў ня маю ад іх нічога. Як там жыве Адам Бобна, ці прыехала яго Таня з Андрэссы? Будзь ласкаў, прышлі мне яго адрас яшчэ раз. У той самы вечар, калі атрымаў Твой ліст, загубіўся гдзесь яго адрас, і я да гэтага часу яму нічога не напісаў.

І так, Даражэнькі, чакаю хутка і шмат, шмат новых вестак. Прывітаньні Табе й Полі ад маіх усіх. Майго цёску малога пацягні за вушы ад мяне, каб вялікім рос.

Пецця.

[19] ***Licytator*** (пол.) — аўкцыяніст.

***Уладзімер Шыманец***

# ЛІСТЫ ДА ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

*28 лістапада 1948 г. цягам пяці дзён у Парыжы адбываўся Сусьветны зьезд беларускай эміграцыі. Паводле афіцыйнай інфармацыі, на ім былі прадстаўлены 22 дэлегаты ад 10 краінаў: Францыя — 9 дэлегатаў, Англія — 4 дэлегаты, Нямеччына — 2 дэлегаты, Бэльгія, Італія, Данія, Швэцыя, Аргентына, Аўстралія й Канада — па адным дэлегаце*[1]*. Рэальных жа прадстаўнікоў было відавочна меней, бо прыезд беларускіх кантрактных працаўнікоў пры канцы 1948 г. з Аргентыны, Аўстраліі ці Канады ў Францыю за ўласны кошт быў немагчымы. Тым ня менш сваёй прысутнасьцю або праз дэлегаваныя паўнамоцтвы на зьездзе былі прадстаўленыя цэнтральныя беларускія арганізацыі ў згаданых краінах, якія падтрымлівалі Раду БНР. Вынікам стала стварэньне ўнікальнай арганізацыі — Сусьветнага аб'еднаньня беларускай эміграцыі "дзеля гуртаваньня ўсіх нацыянальных сілаў беларускае эміграцыі й каардынацыі яе арганізацыйна-творчай працы"*[2]*. Усім беларускім арганізацыям раілася тэрмінова навязаць сувязь з САБЭ, а даволі амбітныя заданьні новай структуры выглядалі наступным чынам:*

*"1. Узмоцніць акцыю ўсьведамленьня, гуртаваньня й арганізаваньня беларусаў.*

*2. Зьвязаць і здысцыплінаваць грамадзкія актывы пры помачы канкрэтнай праграмы дзеяньня і тактыкі, дастасаваных да мясцовых патрэбаў і ўмоваў так, каб праца вялася рацыянальна, плянава і сыстэматычна бяз ніякіх перарываў.*

*3. Старацца стварыць сталыя матар'яльныя базы для беларускай грамадзкай працы, выкарыстоўваючы для гэтага мясцовыя ўмовы й магчымасьці.*

*4. Стварыць адзінае ўсебеларускае кіраўніцтва ўсёй беларускай работы на эміграцыі і ўсестароньняй апекі над беларускімі эмігрантамі ўва ўсіх краінах, дзе-б яны ня былі, з прадстаўніцтвамі ад усебеларускага кіраўніцтва.*

---

[1] Прысутны. 1-шы Сусьветны Зьезд Беларускае Эміграцыі // Бацькаўшчына. № 39 (42). 12.12.1948.

[2] Зварот 1-га Сусьветнага Зьезду Беларускае Эміграцыі да беларусаў і беларусак ва ўсім сьвеце // Бацькаўшчына. № 39 (42). 12.12.1948.

*5. Сканцэнтраваць і скаардынаваць усе высілкі ў справе беларускай прэсы і выдавецтва наагул.*

*6. Стварыць Цэнтральную Беларускую Інфармацыйную Службу і архіў дакумантаў.*

*7. Правесьці рэгістрацыю беларускіх эмігрантаў ува ўсіх краінах.*

*8. Дзеля аб'яднаньня і скансалідаваньня ўсей беларускай эміграцыі — праводзіць сталае, пляновае і сыстэматычнае змаганьне з усякага роду дэструкцыйнай работай і дывэрсыяй, скіраваных на разьбіцьцё беларускага жыцьця — з асаблівай увагай на зарубежніцтва й астроўшчыну.*

*9. У грамадзкай рабоце праводзіць рацыянальны падзел працы, не дапускаючы, каб кіруючы актыў, які перагружаны арганізацыйнай работай, займаўся яшчэ тэхнічнай працай, не вымагаючай спэцыяльных кваліфікацыяў.*

*10. У парадку грамадзкай дысцыпліны забавязаць да актыўнай працы ўсе інтэлігенцкія кваліфікаваныя адзінкі, якія дагэтуль адзначаюцца бязьдзейнасьцяй.*

*11. Узмоцніць высілкі дзеля павялічэньня колькасьці студыюючых беларусаў з мэтай запэўненьня росту кадраў беларускай інтэлігенцыі і арганізацыі беларускіх школаў і навуковых установаў.*

*12. Зьвярнуць увагу на арганізацыйна-грамадзкую і ўзгадаваўчую работу беларускіх жанчын-матак беларускіх пакаленьняў.*

*13. Ува ўсёй рабоце прыслухоўвацца да голасу масаў беларускай эміграцыі і ўзгадняць зь імі і іх патрэбамі бягучую штодзённую дзейнасьць.*

*14. Стварыць цэнтралю беларускіх камбатантаў-вайскавікоў у сусьветным значэньні дзеля кансалідаваньня і каардынаваньня іх арганізацыйнай работы.*

*15. Сабраць усе паданыя на Зьезьдзе справаздачы на пісьме, адбіваючыя абраз жыцьця і працы беларускай эміграцыі і выдаць іх друкам"*[3].

*У выніку САБЭ павінна была стаць адмысловай рэпрэзэнтацыйнай і каардынацыйнай структурай беларусаў на Захадзе. На старшыню яе быў абраны паплечнік прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка Лявон Рыдлеўскі.*

*За даволі кароткі час САБЭ, як выглядае, сапраўды наладзіла сувязі зь беларускімі арганізацыямі ў розных краінах свету. Ад траўня 1949 г. пачаў выдавацца адмысловы "Інфармацыйны бюлетэнь САБЭ", дзе публікаваліся зьвесткі пра падзеі ў беларускіх суполках. Сьціплы штомесячнік выходзіў да ліпеня 1950 г., пасьля чаго выданьне спыні-*

[3] Рэзалюцыя ў сувязі з дакладамі з месцаў // Бацькаўшчына. № 39 (42). 12.12.1948.



На Першым Сусьветным зьезьдзе беларускай эміграцыі. Сядзяць: Эвэліна Шыманец, Лявон Рыдлеўскі, Мікола й Ніна Абрамчыкі, Уладзімер Тамашчык, Валянціна (будучая Кавалеўская). Стаяць: невядомы, Уладзімер Шыманец, Янка Сурвілла, Янка Філістовіч, Аляксандар Лашук, Валянцін Міцкевіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Арсен Монід, невядомы парыскі беларус. Парыж, лістапад 1948 г.

*лася, і пра дзейнасьць САБЭ інфармацыі стала зьяўляцца ўсё меней. Асноўныя падзеі палітычнага жыцьця беларусаў паступова перамяшчаліся за акіян, да таго ж сур'ёзна захварэў кіраўнік САБЭ Лявон Рыдлеўскі. У выніку ў 1952 г. было прынята рашэньне перамясьціць цэнтар аб'еднаньня ў Бэльгію, дзе на той час быў больш актыўны беларускі асяродак. Паўнамоцтвы старшыні былі перададзеныя а. Аўгену Смаршчку[4], аднак пасьля гэтага дзейнасьць арганізацыі спынілася.*

*Гэтак выглядае кароткая гісторыя першай ініцыятывы па гуртаваньні беларускіх эмігрантаў у сьвеце. Аднак заўсёды цікава бачыць працэс знутры, вачыма тых, хто ў ім браў непасрэдны ўдзел. Пададзеныя ніжэй лісты кіраўніка рэфэрату фінансаў САБЭ Ўладзімера Шыманца да кіраўніка рэфэрату культуры й асьветы Вінцэнта Жук-Грышкевіча адлюстроўваюць тую самую нутраную кухню Сусьветнага аб'еднаньня: ідэі, якія закладваліся ў ягонае стварэньне, і праблемы, зь якімі сутыкнуліся ўдзельнікі. Багата яны гавораць і пра саміх заснавальнікаў САБЭ.*

[4] Kamunikat Susvietnaha Abjednannia Bielaruskaj Emihracyi. Louvain. 25.07.1952.

Парыж, 20 траўня 1949 году[5].

Паважаны Спадар Прафэсар!

Ваш ліст з дня 16 г. месяца атрымаў і шчыра за яго дзякую. Прыкра мне толькі, што Вы гэтак шмат прысьвяцілі месца апраўданьню свайго маўчаньня. Я Вас, Спадар Прафэсар, вельмі добра разумею, бо ў мяне абставіны рыхтык гэткія-ж, як у Вас.

Вы зачапілі справу САБЭ. Справа гэтая вельмі прыкрая, і я папросту ад часу Зьезду чуюся быццам хворы з гэтай прычыны.

Справа ў тым, што САБЭ мела быць той арганізацыяй, якая-б пхнула беларускае жыцьцё на эміграцыі на новы шлях. Тымчасам гэтае перавекславаньне пастулае вельмі вольна. Прычыны ў гэтым дзьве: першая — недахоп кадраў тут у цэнтралі, а другая — камплетны недахоп сродкаў.

Найгоршая трагэдыя ў тым, што Рыдлеўскі ня мае ніякіх даных на займаньне гэтак высокага становішча. Чалавек, які прывык да мелачаў, ніяк ня можа ўзьняцца над мелачамі і іх пакінуў іншым. Шмат праз гэта траціць ягоны аўтарытэт, а яшчэ больш тыя справы, за якія бярэцца. Годзі сказаць, што ніводная пастанова, даручаная яму да выкананьня, як гэта купля фермы, легалізацыя САБЭ, распаўсюджаньне брашуры “Bielorussie”[6], не пачатыя нават. Зь вялікімі цяжкасьцямі ўдалося дабіцца прыезду сюды Сакратара сп. Сурвіллы[7]. Статут, прыкладам, не пераложаны на францускую мову і г. д. і г. д.

Айцец Гарошка[8] таксама мае гэтулькі ініцыятывы. Я ізноў не лічу сябе ў курсе вышэйшых спраў, хоць ад часу прыезду сп. Сурвіллы справы нейк хутчэй пачалі рухацца і цяперачы магчыма ўдасца даць знак жыцьця. Мне немагчыма ні ў чым дапамагчы Рыдлеўскаму з увагі на неабходнасьць зарабкаваньня на прахарчаваньне сям’і.

Другая справа гэта грошы. Да гэтага часу мы выдалі на канцылярыю і пошту каля 12 тысячаў. Гэтыя грошы гэта “пазычкі” ад сябраў управы САБЭ. Калі палічыць яшчэ іншыя грамадзкія выдаткі, дык гэта на нас зашмат. Зборкі ніякай на гэтую мэту нельга правесьці і прыходзіцца ўсё пазычаць. А выдаткі вялікія. Сэрыя карэспандэнцыі

[5] Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў: Library and Archives Canada. R4894—91—2-E. Vol. 4. F. 4. Арыгіналы лістоў надрукаваныя лацінкай.

[6] Маецца на ўвазе выданьне: Rydlevsky, L[eon]. Biélorussie. Aperçu sommaire de l’Histoire de la Nation biélorussienne et du Mouvement de Libération Nationale. Avec 5 cartes de Ing. V. Šymaniec. Paris, 1948. 40 p.

[7] Маецца на ўвазе Янка Сурвілла.

[8] Маецца на ўвазе **а. Леў Гарошка** (1911—1977), рэлігійны дзеяч, пэдагог, публіцыст. У 1946—1957 гг. рэктар Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

ў 10 краінаў каштуе 700 fr, а то і болей. Скуль-жа гэта ўсё браць? Што-ж гаварыць аб выданьні марак[9] ці Матэрыялаў Зьезду?

Прэтэнсыі-ж з усіх бакоў страшэнна вялікія. Япіскап Сергій[10] патрабуе, Інж. Тамашчык таксама. "Бацькаўшчына" тако-ж. А да гэтага часу ўнесьлі Канада адзін даляр. І Бел[арускі] Выд[авецкі] Фонд 2620 франкаў. Нічога дзіўнага, што нам даводзіцца часамі пазлавацца на ўсіх і на ўсё і, прызнаюся, на Ангельшчыну асабліва. Бо трэба Вам ведаць, што мы найболей спадзяваліся на Вас, Спадар Прафэсар, гэта значыцца, на Вас асабіста і на ЗБВБ[11].

Цяперачы паўстае новая праблема. У 1949 годзе мае быць скліканы чарговы Зьезд. Мы тут у Францыі ніяк не можам сфінансаваць гэтага зьезду нават з гэтакім "размахам", як папярэдні. І што рабіць?

Вы пішаце, сп. Прафэсар, што ў беларусоў слабая актыўнасьць. На маю думку, першапачатковая актыўнасьць была штучнай і нацягнутаю. Уцягненьне пэўнай колькасьці асобаў з мас у грамадзкаю працу гэта не абыякавае асягненьне, але на гэтым канец. Палітыку ніколі не рабілі масы, а беларускія масы ў асаблівасьці. (Што іншае калі ходзіць аб пашкоджаньне справе, дык да гэтага ахвярных заўсёды шмат.) Я лічу, што мы нават прайгралі на тым, што палітыку здэвулявалі да ўзроўня неграматных масаў.

Цяперачы вытварыліся гэтакія абставіны, што кожны смаршчок хоча быць Наполеончыкам. З гэтай прычыны пачало расьці надта-ж ужо шмат розных арганізацыяў. Гэта ўводзіць непатрэбнае расьцярушаньне людзей шкоднаю рывалізацыю, расьцярушаньне грошаў і ўрэшце ўжо пачынае шмат каму брудзець.

Я лічу, што каб нам удалося якімсь чынам здабыць трохі грашоў, дык гэтымі сіламі і з гэтымі арганізацыямі, якія маем, удалося-б шмат што зрабіць. Нашыя попыткі зарганізаваць як найбольш масаў і мелі на мэце стварыць матэрыяльную базу для прапагандовай працы беларускай справы. Сёньня відаць, што масаў не ўдалося згуртаваць перадусім дзякуючы Астроўскаму[12]. За гэта ён калі паплаціцца, а мы тымчасам павінны цешыцца здабыцьцём гэтых кадраў, якія маем. Бо сапраўды і гэтага магло ня быць. Цяперачы нас чакае другі этап. Фактычная прапаганда нашай справы і ўдзел у міжнародным жыцьці.

---

[9] Маюцца на ўвазе 11 марак БНР, падрыхтаваных Уладзімерам Шыманцом, якія былі выдадзеныя ў 1949—1950 гг.

[10] Маецца на ўвазе першаярарх адноўленай БАПЦ архіяпіскап Сяргей (Ахатэнка) (1890—1971).

[11] **ЗБВБ (Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі)** — арганізацыя, заснаваная ў Лёндане ў 1946—1947 гг.

[12] Маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі.

Тут трэба ўсім узяцца за працу прафэсыйнаю, каб не быць нікому цяжарам, наадварот, каб мець магчымасьць падтрымаць грамадзкаю справу із сваей кішэні. Іншага выхаду для нас нажаль німа. Ніхто нам не дасьць задарма. А таей цаны якой за матэрыяльную дапамогу жадаюць мы нікому не дамо.

Загэтым лічу, што нам ніяк нельга чакаць горшага, а трэба брацца за зарабковаю працу, якая-б яна ня была, і самім сабе дапамагаць.

Вам пашчасьціла купіць дом[13], і гэта Ваша апора. Нашыя тут праваронілі адпаведную пару, а цяперачы з гэтымі сіламі і магчымасьцямі, што тут маем, нічога не ўдасцца зрабіць. А тут найгоршая справа з утрыманьнем сп. Абрамчыка і Рыдлеўскага. Дазволіць ім пайсьці на працу, усё замрэ, а даць ім утрыманьне нашымі сіламі не зможам.

Таксама справа газэты. “Бацькаўшчына” паступова памірае. Фінансавыя адносіны стабілізуюцца, а за гэтым траціцца ўсялякі грунт да выдавецтва ў Нямеччыне. Трэба рабіць штось тут на Захадзе. Адзіны выхад гэта супольная газэта… але тут якраз за шмат партыкулярызмаў.

На заканчэньне прашу Вас гэты ліст не публікаваць. Магчыма, мае суровыя адносіны выцякаюць з хвіліны. Асабліва што да сп. Рыдл[еўскага]. Але што праўда, то ня грэх.

Пішэце, калі ласка, сп. Прафэсар часьцей. Можа ў гэтакіх абменах думак знойдзецца шчасьлівая, якая дапаможа нам выйсьці з імпасу.

Ваш Шыманец.

Парыж, 14 кастрычніка 1949 г.

Дарагі Спадар Прафэсар!

З прыемнасьцю сьцьверджаю атрыманьне Вашага лісту і выражаю Вам шчырую падзяку за грунтоўнае апісаньне ўсяго таго, што ў Вас дзеецца. Прынамсі цяперачы маецца інфармацыя з першай крыніцы. Сапраўды, весткі, якія даходзяць сюды, даюць акрыўляны абраз жыцьця ў Ангельшчыне, ды да таго яны нагэтулькі скупыя, што арыентавацца аб вашых падзеях можна толькі на падставе некаторых зьявішчаў, як гэта спыненьне выхаду ў сьвет “Беларуса на чужыне”[14], зьяўленьне затое “Патрыёта” і г. д.

Тым ня менш я аднак не зусім з Вамі згодны, што да ўзалежняньня існаваньня й падтрымоўваньня САБЭ ад вашых унутраных суадносінаў. Арганізацыя гэта была створаная зь вялікім накладам працы і, як на нашыя францускія ўмовы, і грашавых сродкаў. Зрабіла яна вялікі фурор

[13] Маецца на ўвазе **Беларускі дом у Лёндане**, набыты ўвосень 1948 г.

[14] **“Беларус на Чужыне”** — грамадзка-культурны часопіс, які выдаваўся ў Лёндане ў 1947—1950 гг. Рэдактары — Аляксандар Надсан, Кастусь Амор. Выйшлі 42 нумары.

ня толькі сярод нашага грамадзянства, але і сярод чужынцаў. Нашая здарова думаючая эміграцыя спадзявалася ад яе пэўных крокаў, якія-б зьмянілі нашы дасэлешнія непаладкі на лепшае. З гэтых і іншых прычынаў на людзях, пакліканых у ўладу САБЭ, ляжыць вялічэзная адказнасьць за лёс нашай арганізацыі і эміграцыі. Дык-жа ніякія адгаворкі і непаразумленьні нутранога характару не апраўдвае тае ігнарацыі, зь якой арганізацыі ў Ангельшчыне і ў некаторых Эўрапэйскіх краінах аднесьліся да САБЭ.

Я Вам пісаў аб тым, што і тут не ўсе людзі на сваіх мясцох. Я маю вялікі жаль да Рыдлеўскага за зрываньне нашых праэктаў і да Гарошкі за яго кашэчыя ходы. Тым не менш я з Сурвілаю былі ўзяліся крыху за справу, і пайшла-б ізноў справа добра, калі-б ня нашыя фантазёры. Гэтая людчыкі, звар’яваныя на пункце студэнцтва, угаварылі Сурвілу вучыцца. Думка мо й правільная, але ніяк не на часе. Яна мо ў будучыне дасьць адукаванага чалавека, але змарнуе нам яго на сёньня, калі гэтых людзей страшэнна не стае. Ён заняўся курсамі францускай мовы і не мае абсалютна часу на выпаўненьне сваіх абавязкаў у САБЭ.

Застаўся я адзін. Але я апынуўся ў гэтакім становішчы, як Вы перад Вашай рэзыгнацыяй з усіх грамадзкіх становішчаў. Ад часу, калі ў “БіС”[15], а пасьля ў “Аб’еднаньні” зьявіліся пашквілі на мяне, тут бязспынна вядзецца кампанія, каб мяне выжыць з грамадзкага жыцьця. Нажаль, нашыя аўтарытэты ў нічым мне не дапамагаюць у змаганьні супроць гэтай банды злыдняў, і я змушаны адбіваць усе атакі ў адзіночку. Асабліва справа пагоршылася з мамэнтам паўстаньня г. зв. *“арганізацыі моладзі”*, у якой перадавую ролю водзяць, апрача тых, што засланяліся перад фатаграфам на Зьезьдзе САБЭ, яшчэ Спічонак[16], Філістовіч, Кавалеўскі[17]

[15] **“БіС” (“Беларуская Інфармацыйная Служба”)** — пэрыёдык, які выдаваўся ў Міхельсдорфе ў 1946—1949 гг.

[16] **Вінцэнт (Віктар) Сьпічонак** (1915—1981), грамадзкі дзеяч. У час нямецкай акупацыі служыў сакратаром Параф’янаўскай гміны. Быў дэлегатам на Другі Ўсебеларускі кангрэс, але праз ваенныя дзеяньні на кангрэс ня трапіў. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ва Ўсходняй Прусіі, пазьней у Бэрліне й Баварыі. У складзе беларускіх вайсковых фармаваньняў здаўся амэрыканцам. Пасьля вайны быў у ахове нямецкіх палонных. Пазьней выехаў у Парыж, далей — у Манрэаль (Канада). У 1959 г. прыбыў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі.

[17] **Аўген Кавалеўскі** (1921—1963), тэатральны дзеяч, драматург. Да 1941 г. вучыўся ў драматычнай школе пры БДТ. Ад лета 1944 г. — у Нямеччыне. Арганізаваў з прафэсійных актораў драматычнага й опэрнага тэатраў ансамбаль песьні й танцу “Жыве Беларусь”, што гастраляваў у *DP*-лягерах. Пісаў п’есы, прозу. Напрыканцы 1940-х гг. выехаў у Францыю, жыў і працаваў у Парыжы ў кравецкай майстэрні.

і Монід[18]. Даходзіць да апошніх разгрывак. Які будзе рэзультат, пабачым пазьней.

Гэтакі стан рэчаў адбірае мне ўсялякую магчымасьць і ахвоту працаваць з поўнай выдайнасьцю. Тым не менш былі зробленыя некаторыя праэкты, а гэта ў справе арганізацыі Б[еларускага] Нацыянальнага Фонду і Прэсы.

Адносна Фонду мае спасьцярогі былі гэтакія. У нас аж надта шмат розных фондаў. Кожны зьбірае і вымагае на якісь асобны цэль. Да таго ўлік гэтых грошаў не вядзецца, і ў грамадзянстве стварылася нейкае ўражаньне аб "вырвігрошах". Адзін дае на ўсе бакі, а іншы нічога. У гэтакіх абставінах ніхто зборак не трактуе паважна і як можа ад іх выкручваецца. Каб зарадзіць гэтай справе, я запраэктаваў заснаваньне манапольнай арганізацыі, якая-б занялася зьбіраньнем фондаў на ўсялякія мэты і для ўсялякіх арганізацыяў, а пасьля ў залежнасьці ад таго, колькі зьбярэцца і колькі каму неабходна патрэба, гэты фонд разьдзеляўся-б. У агульнасьці праэктавалася заснаваць у кожнай краіне Адміністрацыю БНФ з трох асобаў, выбраную месцоваю Цэнтральнаю Арганізацыяй і зацьверджаную Ўправаю САБЭ. Гэтая арганізацыя была-б падпарадкаваная Фінансаваму Рэфэрату САБЭ, а кантралявалася-б Каардынацыйным камітэтам на месцы і прадстаўніком Ураду БНР. Яна занялася-б фондамі БНР, САБЭ і магчыма іншымі, з тым што дзейнасьць месцовых арганізацыяў базавалася-б на сяброўскіх складках, даходах з імпрэзаў і з розных гаспадарчых працэсаў, тагды і ахвяры маглі-б зьбірацца толькі на патрэбы БНР і САБЭ. Зразумела, з фондаў САБЭ ў вельмі важных патрэбах маглі-б карыстацца таксама і паасобныя арганізацыі, але ў плянавым парадку і дакладнай чарговасьці патрэбаў. Гэтая сыстэма дала-б у рукі САБЭ пэўныя рэсурсы, якія нам паслужылі-б прынамся да фінансаваньня хоць-бы аднэй газэты. Проціў гэтага праэкту моцна выступіў Сп. Прэзыдэнт, і хоць мне на паседжаньні САБЭ і ўдалося правесьці сурогат статуту, аднак ён угразнуў у Прэзыдыюм Ураду БНР, дзе пэўна не адбылося бяз інтэрвэнцыі. Гэтакім спосабам гэтая гэтак важная справа, якая імкнулася спыніць існуючую партызаншчыну ў гэтай галіне нашага жыцця, правалілася.

Другою справаю была прэса. Ужо год таму было ясна, што "Бацькаўшчына" не ўтрымаецца. Ды і не зусім для нас прыемна было мець свой галоўны і адзіны ворган у Нямеччыне, на якой ляжыць пляма

[18] **Арсень Монід** (1925—2005), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладзечанскай адміністрацыйна-гандлёвай школе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Францыі, браў удзел ў працы Аб'еднаньня беларускіх работнікаў, быў рэфэрэнтам Галоўнай управы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі. У 1948 г. быў удзельнікам Сусьветнага зьезду беларускай эміграцыі ў Парыжы. Радны БНР. У сярэдзіне 1950-х гг. перабраўся ў Канаду. Быў актывістам Згуртаваньня беларусаў Канады.

гітлерызму. Ня трэба сябе маніць тым, што гэтай плямы няма і на нашай эміграцыі ў Нямеччыне. Апошнія вынікі скрынінгу аж надта добра гэта падцьвярджаюць. Дзеля гэтага даўно ўжо трэба было перанесьці газэту далей на захад і аддаць яе ў рукі тых людзей, на якіх няма падозраньня. Гэта дазволіла-б нашай прэсе рабіць больш сьмелыя шагі як у адносінах да Астроўскага, так у адносінах да палітыкі заходніх дзяржаваў ды і нашых суседзяў, якія лічаць сябе ўльтра чыстымі. Найлепшым спосабам было-б перанесьці газэту ў Францыю, Ангельшчыну ці Бэльгію. Ад Ангельшчыны Вы самі адцураліся (а калі не, дык пераймайце яе хоць сёньня). Бэльгія яшчэ не наладзіла ў сябе жыцьця так, як сьлед. Дык застаецца гэта зрабіць Францыі. На нашыя сілы гэта за вялікае заданьне, мы аднак лічылі, што хоць газэта і пачне выходзіць у Францыі, дык аднак удзел у яе фінансаваньні прымуць усе краіны. Перад усім шляхам падпісак.

Канкрэтна праэкт быў гэтакі. Купіць набор літар і набіраць рукамі студэнтаў. Гэта дасьць нам номяр газэты за 15000 Fr, калі набор і друк у друкарні каштуе каля трыццаці тысячаў. Да таго, калі-б мы выдавалі двутыднёвік плюс “Божым Шляхам”, мы-б далі студэнтам заработак па 8 тысяч мінімум або двум па 12 тысяч. Кошт набору замартызаваўся-б за 4 намяры (60000).

Грошы на газэту мелі-б ад падпішчыкаў, за праданыя надвыжкі па сабекошце і заработку на наборы “Божым Шляхам”.

Падпіскі, лічачы 400 сталых падпішчыкаў па 30 Fr за № , гэта 12000 на номяр. Па сабекошце адпусьцілі-б арганізацыям для бязплатнага разсыланьня (выходзячы з таго прынцыпу, што прапаганду ў кожнай краіне павінна фінансаваць мясцовая арганізацыя, а не Адміністрацыя газэты), па 8 FR за номяр, што за пяцьсот экзэмпляраў дало-б 4000 FR № і заработак на “БШ” дало-б каля 10000 у месяц, што на двутыднёвік вышла-б па 5 тысяч. Калі-б да гэтага дадаць субсыдыю з САБЭ, дык гэта нам дазволіла-б нават дапамагчы і аднаму з працаўнікоў Рэдакцыі. Лікі ўсе ўзятыя крайна нізкімі і пры добрай і чэснай арганізацыі кальпатражу пунктоўнага рэгуляваньня кальпартэрамі належнасьці, плян зусім рэальны. На куплю шрыфту мы грошы ўжо маем. Застаецца сабраць нам яшчэ на тры намяры газэты, каб справу пачаць, а тагды толькі зажадаць дапамогі з замежжа. Нажаль і тут акцыя Філістовіча і да некаторай ступені Рыдлеўскага ўстрымоўвае нам справу. Філістовіч і ягоная супалка бунтуе людзей супроць газэты, а Рыдлеўскі сыстэматычна не выконвае таей часткі заданьня, якой бяз яго ніхто не выканае, г. зн. палагоджаньня фармальнасьцяў з дазволам і купляй шрыфту.

Між іншым, тут цяжка набыць кірылічны шрыфт. Магчыма, гэты плян удалося-б зрэалізаваць у Ангельшчыне. Вы маеце свой дом на друкарню, і як інфармаваў А. Г., маеце магчымасьць лягчэй набыць шрыфт. Людзей да набору таксама знойдзеце. А радакцыя — трэба падумаць, у Вас-жа не горш, як у нас!

Я ня маю ніякіх рэгіянальных ці мясцовых амбіцыяў.

Нажаль, гэтыя праэкты зусім рэальныя і перадавога значэньня разьбіваюцца аб партыкулярызмы, між іншым, і Ваш, і пасыўнасьць, бо ці-ж мы можам браць паважна вашаю помач, тагды як па сяньняшні дзень ніводная карэспандэнцыя Вамі не палагоджаная па лініі САБЭ. Мо і на гэты наш заклік адкажаце маўчаньнем. А самі мы, рэч ясная, ня вытрымаем.

Дык я да Вас зварочваюся, Паважаны Спадар Прафэсар, прылажэце ўсе сілы да таго, каб гэты імпас пераламаць. Я на Зьезьдзе, як памятаеце, прыняў абавязкі фінансавага рэфэрэнта не бяз пратэсту, і трэба Вам ведаць, што гэты пратэст ня быў выразам якойсь скромнасьці ці адной з прынятых мэтадаў выражаньня гэтай скромнасьці. Я папросту тагды ня верыў, што прысутныя ня Зьезьдзе людзі будуць рэспэктаваць прынятыя сабою пастановы. Так яно нажаль сталася і сёньня мы тут бяз граша і людзей ніяк ня можам выпаўніць пакладаных на нас абавязкаў. А трэба Вам таксама ведаць, што я рэалісты і шаную сваё добрае імя. Я не дапушчу, каб маё прозьвішча пастаўлена было побач тых, на якіх спадзя адказнасьць за развал нашага жыцьця на эміграцыя і за не выкарыстаньне ўсіх магчымасьцяў, каб дапамагчы нашай вызвольнай справе. Яшчэ тыдзень два ці мо месяц, і калі далей справы пойдуць так, як ідуць яны сёньня, я выйду з управы САБЭ. Я ўжо рабіў гэтую ілюзыю на зборках САБЭ, але мне сказалі, што выйсьці лёгка. Я ведаю аб гэтым, але мне зацяжка было-б пераносіць ганьбу за чужыя віны. І гэта ніякая пагроза ці шантаж, гэта папярэджаньне ў пару. Я маю прэтэнсыі да палітыка і не магу дзейнічаць супроць свайго сумленьня і прынцыпаў чэснасьці.

Дык выбірайце. Я далей не магу згараць абурэньнем і хварэць за тое, што нашыя дзеячы трактуюць свае становішчы для гонару. Трэба таксама працаваць, а не толькі ганарыцца. Гэта ў роўнай меры датычыць нашых тутэйшых вельможаў, так як і замежных. САБЭ не вымагае шмат працы ад Вас, спадары. Вы з Ангельшчыны дапамажэце нам грашыма, плаця свае складкі, і давайце нам патрэбныя інфармацыі, якіх мы вымагаем ад Вас. У справах культурных, калі Вы, Спадар Прафэсар, не можаце асабіста, даактаптуйце сабе памочніка, гэта Вам заўсёды можна. У вас пачалася акцыя Карэспандэнцыйных унівэрсытэтаў. Чаму Вы яе не зарганізуеце ў скалі САБЭ? Гэта-ж залаты праэкт і патрэбны для ўсіх беларусаў. Ды гэта адзіны сродак, якім мы можам весьці асьвету сярод нашага грамадзянства. Падумайце. Толькі трэба рабіць справу да канца. Бо на праэкты мы, беларусы, здатныя, але выконваць гэтыя праэкты, дык не.

Падумайце таксама добра з прэсаю. Мне сапраўды здаецца, што ў вас больш магчымасьцяў, як тут. Натуральна, выходзячы з уласнай друкарні. Думаю, што тіраж на машыне і папера ня будзя гэтакая да-

рагая. Разумеецца, на пачатку трэба абыйсьціся бяз платных штатаў, за выняткам наборшчыкаў.

Я спадзяюся, што Вы шмат з чым згодзіцеся са мной і ў шмат чым зможаце дапамагчы. Усёжтакі калі ў працу САБЭ ўключыцца яшчэ адна асоба, гэта будзе тры, а значыцца на 50 % болей, і вынікі будуць у гэтакіх-жа адносінах большымі.

Але ўжо канчаю, бо пачынаю нэрвавацца. Я і так дзіўлюся, што гэтулькі напісаў.

Дык заставайцеся здаровы і пішэце часьцей.

Ваш Шыманец.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ЖЫЦЬЦЁ Й ДЗЕЙНАСЬЦЬ, ХВАРОБА Й СЬМЕРЦЬ ПРЭЗЫДЭНТА РАДЫ БНР МІКОЛЫ АБРАМЧЫКА (1903—1970) У ДАКУМЭНТАХ З АРХІЎНАГА ЗБОРУ ЯГОНАГА НАСТУПНІКА ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

*Мікола быў сярэдняга росту, чарнявы, меў вельмі інтэлігентны твар. Гэты чалавек, здавалася, ня меў слабасьцяў і ведаў, чаго ён хоча. Аб беларускіх справах і людзях ён спакойна гаварыць ня мог, ён жыў гэтым...*

Ларыса Геніюш

*Гэта быў цудоўны чалавек. Ён быў надзвычай ахвярны, гэта сьвятая асоба ў нашай гісторыі. Мне проста баліць душа, чаму пра Абрамчыка мала пішуць. Ён аднавіў Раду БНР. Ён вельмі важная асоба. І так дрэнна, што нічога ня ведаюць пра яго.*

Раіса Жук-Грышкевіч

Знакавая постаць першага Прэзыдэнта адноўленай па вайне Рады БНР сваёй гістарычнай значнасьцю мусіла б быць асабліва прыцягальнай для гісторыкаў. Разам з тым на сёньня асноўнай крыніцай пра ягонае жыцьцё зьяўляецца адзіны хрэстаматыйны артыкул Лявона Рыдлеўскага[1], а дзейнасьць у якасьці Прэзыдэнта апісана й задакумэнтавана толькі ў першым томе гісторыі самой Рады[2] ды ў паасобных

[1] Рыдлеўскі, Лявон. З жыцьця й дзейнасьці М. Абрамчыка // Бацькаўшчына. № 36—37 (115—116). 7—14 верасьня 1952. С. 3—4; передрук у: З гісторыяй на "Вы": Артыкулы. Дакументы. Успаміны. Вып. 3. Мінск, 1994. С. 118—130.

[2] Гардзіенка, Наталья; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР, 1947—1970: Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013.

публікацыях Янкі Запрудніка[3], Натальлі Гардзіенкі[4], аўтара гэтых радкоў[5] пры поўным — зрэшты, ужо даўно звыклым — маўчаньні самой сёньняшняй Рады наогул і яе Прэзыдыюму ў прыватнасьці.

Няма патрэбы й казаць, што гэтага відавочна, на гвалт, недастаткова для разуменьня й самой асобы палітыка, і гісторыі нашае эміграцыі, яе зьдзяйсьненьняў і паразаў[6]. Бо, як сьведчаць архіўныя знаходкі, Мікола Абрамчык меў непасрэднае дачыненьне да самых розных дзялянак жыцьця беларусаў на Захадзе, часам даволі нечаканых[7].

Перашкоды для зьяўленьня новых публікацыяў быццам відавочныя: адсутнасьць архіваў (асабліва з улікам страты ўласнага архіву Міколы Абрамчыка й па сумяшчальніцтве архіву Рады БНР), нежаданьне ягонага сына, Альгерда, ісьці на кантакт, дзяліцца копіямі пазасталых асабістых дакумэнтаў і дзіцячымі ўспамінамі (па словах апошняга, за няйменьнем што тых, што другіх).

Трэба таксама заўважыць, што й выяўленыя дакумэнты, напісаныя рукой Міколы Абрамчыка, толькі адным сваім фактам існаваньня цешаць душу архівіста, але ніяк не выкананьнем: бадай усе яны пісаліся ад рукі (вельмі дзіўна, што палітык такога рангу ня меў ці не карыстаўся друкаркаю), а почырк у яго быў хіба адным з найгоршых, зь якім дасьледнікі беларускай эміграцыі могуць спаткацца, — і гэта пры даволі спэцыфічнай беларускай мове аўтара лістоў, што лексычнай, што сынтаксычнай (зусім іншая справа, прыкладам, зь лістамі Юркі Віцьбіча: нават у лягерах *DP* амаль усе яны былі надрукаваныя, а што ўжо казаць пра карэспандэнцыю ў ЗША, і напісаныя, як гаворыцца, літаратурнаю

---

3 Запруднік, Янка. Да загадкі дзяржаўнага архіву БНР у Міколы Абрамчыка // Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 450—476; Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам, старшынём Рады БНР (1953—1969) // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 217—340.

4 Гардзіенка, Натальля. Некаторыя дакумэнты ў справе архіву Міколы Абрамчыка // Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 477—481; Гардзіенка, Натальля. Быць жанчынай. Лісты Ніны Абрамчык да Вольгі Запруднік (1956) // Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 330—339.

5 Юрэвіч, Лявон. Архіў Рады БНР // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 112—122; Юрэвіч, Лявон. Версіі // Ісці на сьвятло лабірынтамі даўніх падзей. Зборнік памяці Віталя Скалабана. Мінск, 2013. С. 362—373; Юрэвіч, Лявон. Ніна, Алік і Архіў Рады БНР // Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 339—350.

6 Даведнік “Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. Жыццярысы. Мартыралогія. Успаміны” (Мінск — Мюнхэн, 1999) мусіў бы пачынацца ягоным імем. Адсутнасьць Міколы Абрамчыка, аднаго з галоўных рухавікоў адраджэньня БАПЦ, у такім выданьні проста недаравальная.

7 Гл., напрыклад: Гардзіенка, Натальля; Юрэвіч, Лявон. Як укладалі “Спадчыну”. Мінск, 2018.

моваю). Цяжка ўявіць, як чыталіся Абрамчыкавы лісты — часам на дзясятак старонак! — паплечнікамі й падначаленымі. І калі даць веры тэзе пра сувязь почырку з характарам (душою) чалавека, міжволі задумваешся, чаго болей у такой нібыта знарочыстай неахайнасьці: сапраўды няўменьня (нежаданьня) пісаць разборліва ці ўсьведамленьня ўласнай значнасьці — маўляў, прачытаюць і гэтак?

Але знаходкі ўсё ж ёсьць, і яны патрабуюць расчытваньня й публікацыі, тым больш такія значныя, як у фондах Нацыянальнага архіву Канады (цікава, што ён знаходзіцца ў Атаве, горадзе, у ваколіцах якога жывё сёньняшняя старшыня Рады БНР і якой нібыта ў першую чаргу выпадала б парупіцца), выяўленыя й вернутыя для Беларусі Натальляй Гардзіенкай[8]. *Labor recedet, bene factum non abscedet!*

Застаецца спадзявацца, што няпростая праца архівістаў паслугуе працам гісторыкаў, і новыя публікацыі, прысьвечаныя Міколу Абрамчыку, не прымусяць сябе доўга чакаць.

*Kobenhavn, 29.1.48.*

Дарагія,

Вось ужо хутка тыдзень, як я зноў у Копэнгазе. Хутка гэты горад мне стане зусім сваім, так усюды ўжо па ім тапчуся. Надоечы мне сп. Шым[анец] паказваў ліст а. Часлава[9], у якім радзілася скарыстаць з камісіі Англічанаў. Камісія гэта ўжо тут, нажаль, скарыстаць зь яе ніхто з нашых ня зможа, а то па дзьвюх прычынах:

1. што бяруць яны толькі нежанатых ад 18 да 50 г[адоў], а па-другое, што людзі нашы згэтуль хочуць выехаць як хутчэй. Разам-жа са мной прыехала й француская камісія, ці як магу сказаць, "мая" камісія — як вынік майго папярэдняга прыезду. Гэта француская камісія бярэ сямейных зь дзяцьмі, робіць выняткі нат для старых непрацаздатных, зьвязаных зь сем'ямі, і выехаць зможа адгэтуль першая група каля 20.I. г[этага] г[оду]. Нашы таму халасьцякі, хоць і хацелі некаторыя да Англіі — пастанавілі, для салідарнасьці, ехаць усе да Францыі, каб мець змогу выстаргаваць больш і для сем'яў, у якіх маюцца старыя непрацаздатныя. Камісія француская мае тут заставацца 3 месяцы, Рыдлеўскі падшукаў вельмі выгадных кантрактаў каля Парыжу, нажаль, з гэтых кантрактаў скарыстаць ня можым, бо каб яны прайшлі праз міністэрства працы, патрэбна месяцы 2-а, а нам тут нашы "апякуны" так топчуць па пятах, што ўчора мы дагаварыліся з тутэйшымі ўладамі — выехаць у першую чаргу, г[эта] з[начыць] каля 20.I, пакуль "апякуны" не агледзіліся. Справа ў тым, што на некалькі асобаў яны склалі дамаганьне

[8] Тут публікуецца толькі частка ліставаньня, якое захоўваецца ў: Library and Archives Canada. R4894—48—1-E; R4894—46—8-E; R4894—47-X-E. Vol. 3. F. 9—11.

[9] Маецца на ўвазе а. Часлаў Сіповіч.

выдачы (а ў тым ліку і на Ш[ыманца?]). Робім таму падгатоўку свайго ад’езду [па-]парцізанску, але запэўнілі нас Д[атчане], што нам ня толькі не перашкодзяць, але й дапамогуць. Вось таму я вырашыў застацца пры фр[анцускай] камісіі да адпраўкі першай чаргі і дагаварыўся зь імі, што ў гэту групу ўвайдуць бел[арусы], а я іх буду праводзіць да Фран[цыі]. Паездка таму ад гэтуль у Ням[еччыну], як мяркаваў раней, адпадае, паеду туды ўжо павярнуўшыся да дому — з Парыжу. Аб усіх тутэйшых труднясьцях нікому не кажыце і не пішыце, бо найбольш далікатная справа з нашымі хлопцамі, а асабліва Ш[ыманцом?].

Цяпер яшчэ да ведама Вас двух. Якісь сябра Сэрафіновіча[10] — Бурак[11] перапісваецца з тутэйшым, сваім сябрам па сялу, але досыць разумным і сьведамым беларусам. Пішыць яму Бурак, што чакаюць зьезду, бо каталіцкая кліка з праф[эсарам] В-Г[12]. і ксян[дзом] Сіп[овічам] і іх памочнікамі Бартулём[13] і Кукелем[14] пастанавілі былі сабе за мэту

[10] **Сымон Сэрафіновіч** (1910—1996), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам паліцыі ў Міры. Ад 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, уваходзіў у склад першай Галоўнай управы. Падтрымаў апазыцыю ў ЗБВБ і быў пазбаўлены сяброўства. У красавіку 1948 г. увайшоў у Часовую ўправу Хрысьціянскага аб’еднаньня беларускіх работнікаў, а пры канцы 1948 г. заняў пасаду віцэ-старшыні арганізацыі. Быў сябрам рэдакцыі часопісу “Аб’еднаньне”. У 1952 г. прызначаны на пасаду прадстаўніка Штабу Беларускага вызвольнага руху ў Вялікабрытаніі (пазьней — начальнік Штабу БВР у Вялікабрытаніі). У 1954 г. стаў сябрам Беларускага вызвольнага фронту. У 1960—1980-я гг. быў парафіянінам лёнданскага прыходу сьв. Эўфрасіньні Полацкай. У 1990-я гг. супраць яго была распачатая крымінальная справа за ваенныя злачынствы. Аднак была спыненая з прычыны занадта сталага веку й хваробы абвінавачанага.

[11] **Анані Бурак** (1918—?), грамадзкі дзеяч. Служыў у Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 02.02.1947 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, аднак далучыўся да апазыцыі і ў траўні 1948 г. быў пазбаўлены сяброўства. Жыў у Лёндане. Быў сябрам Хрысьціянскага аб’еднаньня беларускіх работнікаў, потым стаў актывістам парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Лёндане.

[12] Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

[13] **Францішак Бартуль** (1918—2005), грамадзкі дзеяч. Перад Другой сусьветнай вайной жыў у Латвіі. У 1944 г. закончыў Віленскую беларускую настаўніцкую сэмінарыю, выехаў на эміграцыю, жыў у Нямеччыне й Італіі, з другой паловы 1940-х гг. — у Вялікабрытаніі, дзе стаў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. З 1957 г. — у ЗША, узначальваў Беларускае акадэмічнае каталіцкае аб’еднаньне “Рунь” і Фундацыю імя П. Крэчэўскага (1982).

[14] **Часлаў Кукель** (1915—1977), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў беларускай гімназіі ў Дзьвінску, потым у 1942—1943 гг. — у Беларускай настаўніцкай

паравярнуць у каталіцтва-ўніяцтва ўсіх праваслаўных. У доказ гэтага ён выстрыг з якойсь польскай газэты выцінак, дзе як раз "падцьвярджаецца". Але мы, кажа, агледзіліся і не дамося. Агледзіліся, кажа, і яны — г[эта] з[начыць] Вы — і як толькі пабачылі наш адпор — пачалі зацягваць з купляй дому і легалізацыяй арганізацыі. У апошнім выпадку ён вінаваціць праф[эсара] у матэрыяльнай зацікаўленасьці — выказваючы падазрэньне, што ён хацеў, відаць, падзарабіць на легалізацыі — бо казаў, што гэта легалізацыя каштуе 80 ф[унтаў] у той час, як яны справіліся і даведаліся, што гэта каштуе ўсяго 18 ф[унтаў]. Вось, пішыць, мы і хочым як найхутчэй склікаць зьезд ЗБВБ, а яны, чуючы за сабой грашкі, яго як мага зацягваюць. Але рана ці позна гэты зьезд адбудзецца і разьберамося...

Між іншым, цікавы сказ гэтага лісту. *"Ты, кажа, чытаеш, што робіць Сэрафіновіч? — тое самае, што й мы — мы ўсе за адно"*.

Гэты сусед Бурака называецца Гімпэль Александр — ён цьвердзіць, што знае добра Сэрафіновіча, і што гэты Сэрафіновіч дома быў каталік. Як гэта ўсё зразумець.

Трымайце пакуль што ўсё гэта да ведама, але не ўжыйце гэтых вестак так, каб Бурак не парваў перапіскі — хай карэспандуецца далі, мо яшчэ што выясьнецца.

Ж[ыве] Б[еларусь!]
[Подпіс Міколы Абрамчыка]

Парыж, 31.1.48.

Даражэнькі Вінцук,

Шчыра дзякуем усе за ліст і за прывітаньні. У нас нічога асаблівага. Міколка паехаў 24.1, піша, што ў яго справы йдуць добра. У Нямеччыне Праф[эсар] Астроўскі падняў гвалт, што без яго зрабілі паседжаньне. Пры помачы Кіпеля[15], Шчорса[16], Ігнатовіча[17] стаў на чале зарубежных

сэмінарыі ў Вільні, а пасьля яе — у каталіцкай духоўнай сэмінарыі ў Вільні. У 1944 г. разам з сэмінарыяй быў эвакуяваны ў Баварыю, а пазьней у Рым. Закончыўшы курс філязофіі, пакінуў сэмінарыю, перабраўся ў Вялікабрытанію. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Браў удзел у выданьні часопісу "На шляху". У пачатку 1950-х гг. выехаў на навучаньне ў Лювэнскі ўнівэрсытэт, аднак не закончыў яго й перабраўся ў Заходнюю Нямеччыну. Працаваў ва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы ў Боне.

15 Маецца на ўвазе Яўхім Кіпель.

16 Маецца на ўвазе Мікола Шчорс.

17 **Міхаіл Ігнатовіч** (?—?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Празе. У Нямеччыне быў камэндантам лягеру ў Міхельдорфе. У 1946 г. уваходзіў у склад управы Беларускага праваслаўнага аб'еднаньня на чале з а. М. Лапіцкім. У 1947 г. стаў на чале міжлягернай Рады ў амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1948 г. пераехаў у ЗША. Быў адным з заснавальнікаў Злучанага белару-

архірэяў, і зрабілі свой сход у Міхельсдорфе, дзе страшэнна ў сваёй прамове абураўся на Мік[олу] і гаварыў "гадкія рэчы" (як мне напісалі). Ён лічыць, што Ён зьяўляецца праўным Прэз[ыдэнтам] Беларусі.

У нас тут спакойна. Вечарына прайшла добра, уважаюць арганізатары, бо зарабілі шчэ 500 fr. і не пабіліся. На 21.II зьбіраюцца рабіць новую.

Са мной справа горш. Вось тыдзень, як ляжу хворая, у панядзелак яшчэ лекар агледзіць. Кашляю бесьперастанку, баліць горла, уся скура й косьці, галава — начамі ня сплю, але ўжо лепш, сяньня занялася пісьмамі. Але спадзяюся, што на другі тыдзень пачну ўставаць. Толькі не рабі шуму, каб не даведаўся Міколка, а то чаго добрага гатоў прыехаць. Хай канчае свае справы, а мяне і без яго даглядаюць навыперадкі: Язэп і Лявон[18]. Пазносілі мне ўсе свае лякарствы, дый а. Леў[19] тут сваіх брацішкаў аптэку прынёс. А пакуль — усяго добрага. Прывітаньні а. Чаславу.

Ёсьць у Нямеччыне Люба Варанец, была ў адной клясе са мной.

Жыве Беларусь!

Ніна [Абрамчык].

26.4.48, *Paris*.

Дарагі Вінцук,

Твой ліст 3/4.4. атрымаў. Не адказваў гэтак доўга, бо, прызнаюся, хацеў табе на яго адказаць больш грунтоўна. Але цяпер зразумей мяне, калі ты жалішся на брак часу, дык пэўне паверыш мне, у якой сытуацыі і абставінах знаходжуся я. Дзеля таго не палемізуючы з тваёй першай часткай лісту — можна было-б зрабіць такі высновак, што мне нічога не застаецца, як скапітуляваць перад Астроўскім і ўсё — я спадзяюся, што ты чытаеш усе апошнія высланьні Астроўскага, і з гэтым згодзішся. Такія мне закіды, як робіш ты, робяць іншыя тыя якраз людзі, *"якім нічога нельга закінуць у іхней злой волі"*, а іменна, што я ў свой час не пагаварыў з Астроўскім? Ня дзівяць мяне закіды гэтых апошніх, але з твайго боку дык дзіўна — бо хіба-ж табе ня ведама, якім гэта спосабам я езьдзіў у Нямеччыну і як гэта лёгка дастацца туды. Адзіная мая, як табе ведама, апошняя паўлегальная паездка да 3-х лягераў, якой я рызыкаваў в[ельмі] многім, дала мне змогу ўвайсьці ў кантакт з групай Астроўскага (абед у Ігнатовіча), якой я абяцаў за месяц прыехаць і даканчыць зь імі размовы ў тым якраз напрамку згоды, але гэтага яны як раз і зьлякаліся. Паведаміўшы аб гэтым др. Шчорса, а той галёпам

ска-амэрыканскага дапамаговага камітэту. Заснаваў разам зь беларусам Вішнеўскім фабрыку вырабу вокнаў — *IgWis*. Памёр ад раку.

[18] Маецца на ўвазе Лявон Рыдлеўскі.

[19] Маецца на ўвазе айцец Леў Гарошка.

паляцеўшы да Аст[роўскага] — на злом галавы паперліся з папулярызацыяй свае БЦР і Астроўскага як антытэзы БНР, дакаціўшыся да таго, што БНР фікцыя, што яна перадала свае паўнамоцтвы БССР і т. п.

Рэакцыя “Бацькаўшчыны”, а перадусім Цэнтру[20] іхняй адозвай была неабходнай, і адносна ўсёй правакацыйнай працы Астр[оўскага] толькі слабусенькай рэакцыяй.

Калі ўжо я і вінаваты, дык хіба толькі тым, што запраўды ня выступіў адразу у самай найрашучайшчай форме супроць гэтага аванцюрніка, і прызнаюся, меў гэткі намер, нажаль, папросту не хопіла фізычнай сілы. Дый цяпер, далібог, знаходжуся ў такім шоке, што або кінуць усю тую канкрэтна канструктыўную працу і ўдорыцца ў розныя палемікі і змаганьні з Астр[оўскім], або проста перадаць усё Астроўскаму, або зьвярнуць манаткі і пачакаць, пакуль гэта ўсё “выварыцца”.

Я перакананы, што многія-б на маім мейсцы гэта і зрабілі — мне-ж пакуль што дае Бог сілы, і на тое-сёе, каб ня кідацца ў роспач, хоць і спанукае на шмат якія рызыкоўныя крокі. Зраблю ўсё, але будзьце пэўныя, калі што й станецца, адказнасьць спадзе больш на ўсю сьведамую беларускую эліту — чым на мяне. Падкрэсьліваю, што рабіць буду не з роспачы, а з вымушаньня абставінаў, на якія мяне піхае якраз тая беларуская нацыянальная эліта. Вось 3 мая выступаю на паседжаньні *IRO* ў Жэневе і буду ўсё рабіць, што будзе ў маіх сілах. 10—15 мая еду (па сваёй транзітнай візе) з Жэневы празь Нямеччыну і стрымліваюся ў вадным з больш пэўных лягераў і раблю мітынг, на якім скажу ўсё, што толькі мне падгатуе розум і сумленьне. Як зарэагуе на гэта тая беларуская нацыянальная эліта — будзе сумленьнем і разуменьне яе, бо нарэсьце рэст нельга-ж і ад мяне вымагаць чагось надчалавечага. Сотні атрымліваю лістоў, і ў кожным зь іх паміж справаў грамадзкіх 70—80 % справы свае прыватныя. Тут-жа і крыўды, і жалі, і нараканьні, і просьбы помачы, і ратунку, а вось за 5 роўна месяцаў падарожжы, сабаччай валаканіны прыедзеш на пару тыдняў да хаты, нат ня маеш часу памачы ня тое што жонцы, але запраўды цэннаму грама[д]зка чалавеку. Вось і цяпер, бегаючы, бедная, па тым самым “леташнім” кангрэсе хрысьціянскіх жанчын[21], зноў звалілася з ног, і мушу ў такім цяжкім стане кідаць адну дома…

---

[20] Відаць, маецца на ўвазе **Беларускі нацыянальны цэнтар** (БНЦ) — арганізацыя, створаная 15 жніўня 1945 г. у Рэгенсбургу як пераемніца БЦР для прадстаўніцтва інтарэсаў беларускай эміграцыі на Захадзе. Старшынём арганізацыі быў абраны Мікола Абрамчык, а яго намесьнікам — Аўген Кахаshowўскі. Пазьней з БНЦ былі паступова выціснутыя прыхільнікі БЦР, і ён стаў выразна падтрымоўваць ідэю аднаўленьня Рады БНР.

[21] Маецца на ўвазе **Міжнародны кангрэс маці чалавечага прагрэсу**, які адбываўся 27.04—02.05.1947 у Парыжы.

Пішуць мне аб памылках, нятактах па адношаньні Астр[оўскага]. А той, пасьміхваючыся сабе ў вус, адно й знае сыстэматычна і ўпорыста праводзіць дэструктыўную працу, дакаціўшыся да таго, што сабраўшы навокал сябе самы чорны з гледзішча беларускі нацыянальны элемэнцік, зьбірае цяпер подпісы між беларусаў і маскалёў аб закрыцьці "Бацькаўшчыны" як газэты, выклікаючай закалот і абурэньне сярод беларускай эміграцыі. А тут лісты! З Астр[оўскім] нетактоўна паступілі... трэба было да яго паехаць... дагаварыцца... можа-б ён гэтага й не рабіў... Астроўскі адыграў пазытыўную ролю на Бацькаўшчыне, як гэта яго падтрымлівае вашая перадавіца ў "Б[еларусе] на чужыне". Дык якое ліха гэны тагды Абрамчык так трымаецца свайго того "прэзыдэнскага" крэсла — як мае ў такім разе рацыю Астроўскі...

Вось-жа, даражэнькія, мая сытуацыя такая, што калі ня змусяць аддаць *"тога прэзыдэнскага крэсла"* Астр[оўскаму] (чога я ніколі не зраблю), дык могуць быць пэўныя (усе тыя, што мяркуюць справу палагоджаньня з Астр[оўскім] магчымай), мець *"гэта прэзыд[энцкае] крэсла"* ў кожную ад мяне хвіліну. Гэта я зраблю зь вялікай прыемнасьцю, або толькі знайшоўся чэсны чалавек ды згадзіўся гэта на сябе ўсё пераняць. Тое-ж, што я не спакушаўся і ня гутарыў з Астроўскім, ніколі ня каюся, а цяпер тым больш задаволены, бо пераканаўся ў 100 %, што гэта агэнт, калі не бальшавікоў, дык прынамся белых маскалёў. А потым зрабіў-бы вялікую памылку, калі-б дагаварыўся нат да "якойсь" спаўпрацы з гэным так амаральным і бяздушным чалавекам. У Штокгольме мне ягоны калішні вучань (Лукашык[22]), разпавядаючы, як ён выцягваў з-за лавак вучняў і передаваў у рукі польскай паліцыі, выклікаў ва мяне такую агіду, што зь ім-бы проста не хацеў гутарыць нат як з чалавекам наогул. Ды й як-жа чалавек, рука якога ня дрыгнула аддаць у польскія вастрогі беларускіх дзяцей, чалавек, які сяньня мотам свае прапаганды выбраў тое, што паўнамоцтвы БНР былі перададзены БССР у 1925 г. (залатыя слоўцы Масквы), а сяньня зьбірае подпісы з зарубежнікамі і ўсякай свалотай спасярод маскалёў, каб зачыніць адзіную беларускую газэту — можна было-б быць пэўным у супрацоўніцтве з чалавекам такой маралі? Можна было-б даверыць таму чалавеку якуюсь адказную, сягоньня асабліва, акцыю? Вось-жа таму я сёньня цалком падзяляю

---

[22] **Васіль Лукашык** (1905—1975), грамадзка-культурны дзеяч, выдавец. Вывучаў паліталёгію ў Віленскім унівэрсытэце. Быў удзельнікам Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў Беластоку. У 1939—1941 гг. арганізоўваў беларускія школы на Беласточчыне, працаваў загадчыкам дзіцячага дому ў Беластоку. На пачатку нямецкай акупацыі стаў бургамістрам Беластоку. Па даносе быў арыштаваны гестапа, апынуўся ў канцлягеры Асьвенцім. Здолеў уцячы ў Варшаву, адкуль быў вывезены на прымусовыя працы ў Нарвэгію. Разам з групай беларусаў у 1944 г. уцёк у Швэцыю. У 1948 г. арганізаваў Беларускую грамаду ў Швэцыі.

думку тых, што такіх гадзюкаў толькі біць і біць з усёй энэргіяй. Адно з двух: або мы стаім на тым традыцыйным становішчы, на якім стаялі і стаяць усе ў сьвеце, што як бы там ня было, ідэйны рух можна ўтрымаць на кадрах ідэйна ахвярных людзёх, або расчынім дзьверы да гэтых кадраў для ўсялякае каналіі і будзем заплюшчыўшы вочы корчыцца да кута, покуль уся тая каналія не перабярэ ўсё кіраўніцтва ў свае рукі. Такім-бы шляхам мы бязумоўна ўніклі-б барацьбы, але што-б выйшла?.. Вось-жа я покуль буду жыць на такі шлях не пайду ніколі, калі-б навет і быў пераконаны, што кумпанію прайграю. Гісторыя потым хай судзіць. Астроўскі сягоньня падобна мае шансы выйграць (у Нямеччыне) такую кумпанію сярод масаў. І калі яе выйграе, дык толькі дзякуючы жытна-целасьці тае нашае інтэлігэнцыі, якая ўсё яшчэ шукае зговару з Астроўскім, а той кпіць і лупіць нам усім у скуру, даўно ўжо згаварыўшыся з розным чорным і варожым нам элемэнтам. Адабраць ад Астроўскага масы можна толькі безкампрамісовым зь ім змаганьнем, усякія-ж палавінчытыя зь ім дэмаршы толькі яму на руку. Астроўскага палітыка бэсціяльская. Ён, згаварыўшыся з бальшавікамі, бязумоўна хоча забіць двух зайцоў, 1 — уратаваць сваю скуру за супрацоўніцтва з немцамі і пры помачы бальшавікоў і паўбальшавікоў-зарубежнікаў ускараскацца на верх палітычнага кіраўнічага жыцьця беларускай эміграцыі — вядучы адначасова агентурна даносчыцкую працу “сільным”, каб потым здрадзіць у адпаведны мамэнт бальшавіком. Для мяне такія “хітрыкі” Астроўскага ня так ужо й хітрыя, бо найперш ніхто яшчэ ніколі ў сваёй паўпрацы з бальшавікамі іх ня ашукаў, а тым больш не ашукаў Астроўскі, ні бальшавікоў у[19]25—[19]28 годзе, ні палякаў, ні немцаў, бо ён найперш задробна агентурны тып, а потым нельга палітыку рабіць пры помачы агентуры.

Пішаш, што табе *“найлепш падабаецца становішча Лявона*[23] *ў адным зь лістоў яго: мы, кажа, тут у Парыжы займаем нэйтральную лінію”* — Лявон, прачытаўшы гэтыя твае радкі пратэстуе, але я зусім пэўны, што табе гэта ён мог напісаць. [*Тры з паловай радкі шчыльна закрэсьленыя, нечытабельныя*], але выбач, браток, мяне страшэнна зьдзівіла, што табе гэткая лінія вельмі спадабалася! Што-ж тады лепшага для Астроўскага, калі і вы ў Лёндане займеце такую нейтральную лінію, як *“Лявон у Парыжы”*. Я думаю што гэта найлепшая помач Астроўскаму. Зрэшты, Астроўскі здаецца вашую пазыцыю так і вычуў, бо ў № 6—7 свайго “Вызваленьня” “ўшчасьлівіў” “Б.Н.Н.Х.Р.”[24] і групу б[ылых] афіцэраў школы БКА, зьмясьціўшы ў хроніцы аб іх зацемкі, чым *“не ўдастойвае”* ніколі ніводную з беларускіх і іншых арганізацыяў.

[23] Маецца на ўвазе Лявон Рыдлеўскі.

[24] **БННХР** — Беларускі нацыянальны народна-хрысьціянскі рух, арганізацыя, заснаваная ў 1948 г. у Лёндане.

Я зусім веру, што табе цяжка ўсё дагледзіць, але адно недагледзіць, а другое прынцыповае становішча. Бо калі мець такое прынцыповае становішча ў духу *"Лявонавай канцэпцыі"* — дык тагды і даглядаць ня мае патрэбы. Перадавая "Б[еларуса] на Чужыне" тагды зусім на мейсцы.

А як цяпер вось быць з зборкай Астроўскім подпісаў аб адабраньні ліцэнзыі "Бацькаўшчыны". Зь Нямеччыны пішуць і просяць, каб умяшаліся на помач мы, так як калісьці ты іх прасіў умяшацца на помач супроць Суравога[25].

Пішуць, што бальшавікі падобным зьбіраньнем подпісаў зачынілі нядаўна адну ўкраінскую газэту, таксама быццам за выкліканьне *"неспакою і запалоху ў эміграцыі"*. Ды што-ж бальшавікам пашкодзіць, калі, сабраўшы з 10000 подпісаў, могуць да таго яшчэ справакаваць дзесь бойку. Я думаю, што з такой Астроўска-бальшавіцкай правакацыяй мы ня можам застацца нейтральнымі або чакаць, покуль нас не паставяць прад дакананым фактам.

Мы, напрыклад, з Парыжу заўтра-ж высылаем да Галоўнай Кватэры Арміі ў Франкфурт і копію да *IRO* свой контр пратэст супроць бальшавіцкай правакацыі па адношаньні да "Бацькаўшчыны", матывуючы тым, што "Бацькаўшчына" зьяўляецца адзінай часапіссу для беларускай эміграцыі ў Нямеччыне і нікога зь беларусаў яна ня можа ірытаваць[26], так як яна нікога не ірытуе ў Францыі.

Было-б вельмі добра, каб і вы, ад ЗБВБ, ад БННХР і місіі[27] таксама выслалі такую засьцярогу й просьбу. Асабліва было-б важна, каб падкрэсьліць, што ЗБВБ складаецца зь сяброў былых удзельнікаў змаганьня пад Монтэкасінам. Бо калі толькі амэрыканцы зробяць падобна, як зрабілі з газэтай украінскай, а яшчэ горш, што канцэсыю гэту на падставе *"дзясяткаў тысяч подпісаў"* перададуць астроўшчыкам, дык тагды з гэтай бэстыяй змагацца будзе ня ўсілы ня толькі ў Нямеччыне, але і ў вас, і ў нас.

А пакуль бывай — і выбач!

[Подпіс Міколы Абрамчыка]

PS. 5 ф[унтаў] — для студэнтаў атрымаў і падзяліў іх: Янук Ф[ілістовіч] — 2. Наумовіч — 3. Рэшту, казаў мне Леў[28], што (2) прышлюць пазьней (для Наум[овіча]). Ручкі тваёй ён забыўся ў Лёндане.

[25] **Барыс Суравы** (1907—1998), грамадзкі дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны — школьны інспэктар, кіраўнік СБМ на Слонімскую акругу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Вялікабрытаніі. Быў сярод заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, старшыня Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў

[26] ***Irytowac*** (пол.) — злаваць.

[27] Маецца на ўвазе **Беларуская каталіцкая місія**, заснаваная ў Парыжы ў 1946 г.

[28] Маецца на ўвазе а. Леў Гарошка.

Прывітаньне а. Чаславу ад Лявона і Ніны — Ніна мае крызас апэндыцыту і трэба рабіць апэрацыю, цэлы, брат, клопат, бо да апэрацыі трэба, кажыць лекар, перад гэтым паправіць агульны стан здароўя.

*27.5.48, Paris.*

Дарагі Вінцук,

Я сёньня вярнуўся да хаты, але толькі да 1-га ці 2-га чэрвеня. Як толькі залагоджу тут патрэбнае, адразу выяжджаю назад (у Ням[еччыну]), бо хачу выкарыстаць сваю візу як можна больш паўней. Віза мая важная да 1.7 — вось-жа да Парыжу вярнусь 1-га ліпня. Ад гэтае даты буду прынайменшым месяц дома. У гэтым месяцы — дзесь пад канец ліпня або пачатку жніўня — хочым зрабіць у Парыжу зьезд прадстаўнікоў усіх эміграньскіх арганізацыяў (рэальна прыедзе асоб 5—7 зь Нямеччыны, 1—2 з Бельгіі, ну і ад Вас з Англіі; з Амэрыкі і Канады хіба будзем мець мандаты). Уканстытуявалі-б цантралю эміграньскага прадстаўніцтва. Гэта справа ўжо дагаворана ў Нямеччыне, французы згаджаюцца даць візы. Вось, думаю, тады, усе спаткаўшыся, разам і пагаворым.

Што да майго лісту, дык выбач. Па сутнасьці выйшла памылка, я запраўды быў нэрвовы і ліст той, прачытаўшы, меў выкінуць, але сьпішаўся з выездам да Жэнэвы, забыўся на стале, а Ніна думала, што забыўся выслаць і паслала табе.

У Жэнэве справа, уважаю, удалася. Хоць канкрэтна нічога спэцыяльнага не дабіўся, але беларускае пытаньне паставіў на роўне з усімі іншымі народамі, чога не было да гэтуль. Цяпер-жа можна сказаць: *"што будзе міру, тое й бабінаму сыну"*. Прабыў там 9 дзён. Бачыўся з усімі адказьнейшымі чыньнікамі *IRO*, склаў усім і ўва ўсіх адзьдзелах мэмарандумы, намагаўся прадставіць нашу справу як найтрагічнейшай — і ўсюды абецалі, што будзе ўзята пад увагу гэта пры кожным паседжаньні аб ДП наагул. Зразумела вынятковых якіхсь прывілеяў для нас я і не чакаў, але ставіў гэта наўмысьля ў такую плашчыню, каб прынамсе пры тых агульных розглядах справаў ДП не забыліся аб нашым існаваньні. Навязаў шмат асабістых кантактаў, і ў выпадку чаго можна будзе праз іх цісnуць. Асабліва добры кантакт устанавіўся з прэзыдэнтам *IRO* — амбасадарам *Ponsot* (французам), які мне шмат дапамагаў рэкамэндацыямі і радамі.

У Нямеччыне быў два тыдні. Правёў толькі падгатаўчую працу да зьезду Рады, якая зьбярэцца 19 чэрвеня, і адведаў пару лягераў і групаў. Астроўскі залез вельмі далёка. З інтэлегэнцыі ён ня ўзяў нікога (з асяродзьдзя ідэйнага), сабраў галоўным чынам усякую шантрапу і выразна масквафільскі элемэнт, а потым слабейшы маральна элемэнт, які пагнаўся на "становішчы" і грошы або гарэлку. У Астроўскага аказалася ў запасе каля мільёну марак, дык вось цяпер ён іх кінуў на акцыю. Маюць шырокія таму магчымасьці для разьездаў-прапаганды, прапаганда-ж,

як ведаеш часткова з прэсы, без засьценчывая ў дэмагогіі сваё зрабіла. Аб'ектыўна сьцьверджваючы, яму ўдалося апанаваць у 50 % масамі.

На маё ўражаньне агульную сытуацыю можна ацаніць так. Астроўскі мае каля 20—30 чалавек безпаваротна заангажаванай інтэлегэнцыі, якая пры ўсякіх насьледках будзе з усёй сілы і ўсімі мэтадамі змагацца з БНР. Да іх належаць: Астроўскі, Ігнатовіч, Віцьбіч, Косяк, Коўш[29] — гэта і ідэйныя кіраўнікі. Далей, у другое зьвяно, гэта *"беларусы нямецкай эпохі"*, кар'ерыстыя, і нарэсьце трэйцяе зьвяно, людзі за грошы і гарэлку. Да гэтай апошняй трэба залічыць, нажаль, і сэнатара В[асіля] Рагулю, якога яны ўзялі "чаркай" гэтак-жа, як і Ільляшэвіча[30]. Я быў у сэнатара Рагулі зь яго пляменьнікам Барысам. Дагаварыліся былі зь ім, што ён кініць Астроўскага. Напісаў нат' быў заяву аб гэтым (на чарнавік), якую ён меў назаўтра перадаць Барысу для "Бацькаўшчыны". Заява была нат' абураючая на Астроўскага. Але назаўтра, як высьветлілася, прыехалі астроўшчыкі з гарэлкай і зрабілі сваё. Ня ведаю, чым гэта з Р[агулем] кончыцца яшчэ, Барыс мне абецаў, што паедзе яшчэ да яго, заяву гэную ад яго вырве — паглядзім, толькі, як бачыш, з такімі людзьмі ніколі ня можыш мець пэўнасьці. Тым больш што ён сядзіць у лягэру Расейцаў (хоць і беларускай групе). (Справу з Р[агулем] трымай пакуль што для сябе.)

З Сабалеўскім яшчэ горш. Гэты як быццам хочыць са мной бачыцца і дагаварыцца, але ўмовы яго абсалютна не да прыняцьця, да таго цьвёрды ў сваёй лёяльнасьці да расейцай і варожасьці да "крывічоў" не за іх "Крывію", а за іхні нацыяналізм. Апроч таго ён хоча гутарыць не за сябе, а за ўсю сваю групу русафілаў і паразуменьне ўяўляе — як зьліцьцё БНР з БЦР.

Была мне зроблена прапазыка праз аднаго сьвятара спаткацца зь мітрапалітам[31]

---

[29] **Сьвятаслаў Коўш** (1917—1997), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, сын сьвятара Аляксандра Каўша. Падчас Другой сусьветнай вайны, у канцы 1943—1944 гг., начальнік Клецкага павету. У 1944 г. эміграваў на Захад. У паваеннай Нямеччыне — камэндант беларускага лягеру ў Ватэнштэце. З 1949 г. — у ЗША. Стаў праваслаўным сьвятаром, у 1976—1986 гг. быў адміністратарам беларускіх (кананічных) парафіяў у Паўночнай Амэрыцы.

[30] Маецца на ўвазе Хведар Ільляшэвіч.

[31] Маецца на ўвазе **Панцеляймон** (сьвецк. **Павал Ражноўскі**, 1867—1950), праваслаўны сьвятар, царкоўны й грамадзкі дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. У гады Другой сусьветнай вайны браў удзел у арганізацыі царкоўна-рэлігійнага жыцьця на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі Беларусі. Фармальна спрычыніўся да аднаўлення БАПЦ, адзін з арганізатараў і старшыня Часовай мітрапалітальнай управы Беларусі. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, пазьней зь ярархамі епіскапату БАПЦ перайшоў у Расейскую праваслаўную царкву за мяжой.

і яго заступнікам Бэнэдыктам[32], гэтым апошнім фактычным мітрапалітам. Я згадзіўся на 16.6 (на пэўных умовах), але, будучы ў цэнтральным *IRO* Амэрыканскай зоны, даведаўся там такія рэчы аб Бэнэдыкту, што цяпер вагаюся, выглядае больш на манеўр, чым на запраўднае жаданьне дагаварыцца. Але аб гэтым яшчэ падумаем.

Што да масаў і тэй часткі паўінтэлегэнцыі, дык узялі яны яе наскокам і ў разплох. Да акцыі гэтай яны добра падрыхтаваліся, выпрацавалі тактыку, расставілі людзей, а з боку нашых не выявілася належнага адпору. Пакуль нашы прыглядаліся, дыскутавалі між сабой — тыя дзеялі.

З маім прыездам у масах заўважалася відочнае вычэківаньне. Пастараюся гэта выкарыстаць, паколькі дазволяць на гэта магчымасьці.

Агулам у нашым актыве такі настрой, што адзіная дарога гэта рашучае і без кампрамісовае змаганьне, біць і разшыфровываць усю акцыю клікі Астроўска-зарубежніцкай дывэрсыі, бо ўсякае нат' хоцьбы маленькае ваганьне кампрамітоваючы толькі будзе ўзмацняць іхнія пазыцыі. І то біць іх трэба без адклада як на нутраным, так і вонкавым фронце, гэта дапаможа хутчэй перацягнуць той слабы, хістаючыся элемэнт на наш бок.

Ваш зьезд вельмі моцна падзееў на гэты элемэнт, мусіце толькі ў сваёй прэсе больш становўча і рашуча выступаць супроць БЦР. А не ў "палавічнасьці", як гэта зрабілі ў сваёй рэзалюцыі асабліва былыя вучні афіц[эрскай] школы. Трэба асабліва рэагаваць на ўсякія выступы зарубежнікаў супраць БНР, якую яны праводзяць у сваёй прэсе, ды выкарыстовываць такія іхнія дзікія выступы, як падобны напад на скаўтаў у Міхэльсдорфе[33].

У "Бацькаўшчыне" нашы былі стрымаліся троху ў зьвязку зь зьбіраньнем зарубежніцкіх подпісаў. Але цяпер пачнуць сьмялей, бо я быў у рэфэрэнта прэсы ў *IRO*, ад якога залежыць ліцэнзыя, і выясьніў яму сутнасьць справы. Рэфэрэнт гэты (Амэрыканец) аказаўся маім знаёмым па Жэнэве, і я маю ўражаньне, што дэмаршы зарубежнікаў пойдуць у кош, і яны дазволу на прэсу (прынамся ў Амэрыканскай зоне) не атрымаюць, а ў ангэльскай наагул нікому не даюць. Заеду яшчэ да *IRO* і пры выезьдзе зь Нямеччыны — аб гэтым мяне там прасілі.

Так што Вы пакульшто рэагуйце толькі ў сваёй прэсе і пэўныя рэзалюцыі пасылайце да "Бацькаўшчыны". А калі будзе патрэбна і Вашай

---

[32] Маецца на ўвазе архіяпіскап БАПЦ Вэнэдыкт (Бабкоўскі).

[33] Падзеі адбываліся на сьвята сьв. Юр'я, які зьяўляецца апекуном скаўтаў, і праграма мерапрыемства, у тым ліку й набажэнства з удзелам скаўтаў, была зацьверджаная загадзя. Аднак калі скаўты ўвайшлі ў царкву са сваімі сьцягамі, то былі выкінутыя адтуль. Падрабязьней пра падзеі можна прачытаць у: Нячуваны зьдзек над нацыянальнымі сьцягамі і скаўцкімі эмблемамі // Бацькаўшчына. 16.05.1948. С. 4; Белямук, Міхась. Свайго лёсу не мінеш. Вільня, 2006. С. 71—74.

падтрымкі для супольнага выступу перад акупацыйнымі ўладамі — напішу, як вярнуся, або мо' нат' і зь Нямеччыны.

Чаму Астр[оўскага] акцыя таляруецца Амэр[ыканцамі] і Англічанамі, ёсьць падставай думаць, што яны, з аднаго боку, прыглядаюцца да самых чыньнікаў Астроўскага апарату — падазраючы іх у кантактах з баль[шавікамі], а з другога вывучаюць палітычную сьпеласьць самога беларускага грамадзянства.

Найбольш-жа небясьпечным для нас зьяўляецца акцыя Аст[роўскага], што зь яго асяродзьдзя пэўная група зьвязаная з Ан[гельскай] разьветкай. Групу гэту падтрымліваюць Немцы, працуючыя з Ан[гельцамі] па гэтай самай лініі.

Астроўск[аму] гэта дае вялікія казыры перад нашымі мала граматнымі палітычна масамі. Сваімі "кантактамі" гэнымі Астр[оўскі] казырае як "кантактамі" палітычнымі, таму зь ім на Анг[ельскай] зоне асабліва барацьба цяжкая, пакуль ён па гэнай лініі ім карысны, бо як табе ведама, што панамі і царамі ў Нямеччыне зьяўляюцца ня столькі палітычныя чыньнікі, як акупац[ыйныя] вайсковыя. Мы-ж ідзем дарогай палітычнай і па гэтай лініі маем усе сымпатыі на нашым баку.

Нашы цяпер у Нямеччыне падгатаўляюць да выпуску шэраг брашураў аб БНР і БЦР — дзе будуць паданыя дакумэнты як аб аднэй, так і другой.

Апроч гэтага пачнуць хутка выходзіць ратататарныя часапісы, якія будуць вясьці "палеміку" з рознымі "Вызваліцелямі"[34], "Едносьцямі"[35] і т. п.

Уся бяда, што ў іх вельмі цяжка з грашамі. З таго курыва[36] атрымалі толькі 10000. Рэшту абецаных 20000 затрымалі. Можа ты яшчэ гэту справу раз парушыш там з кім патрэбна, бо начы як "Бацькаўшчына", так і "Сакавік" ня вытрымаюць. Разам з гэтым можа націсьнеш трохі сваіх на пасылку пачак. 4—5 пачак, якія вы выслалі ім, дае 1 № "Бацькаўшчыны". Цяпер я ім на № 2 часьць павязу з Парыжу. Але Вы зможыце пэўне больш.

Прышлі мне пэрсаналіі кандыдатаў на зьезд беларускай эміграцыі ў Парыж, а таксама імёны, век, асьвету і дамашнія адрасы выбраных

---

[34] Магчыма, маецца на ўвазе часопіс "Вызваленьне" (Міхельсдорф, 1948).

[35] Магчыма, маецца на ўвазе ***"Адзінства=Unity=Единство=Єдність"*** — шматмоўны моладзевы часопіс, які выдаваўся ў Міхельсдорфе ў 1946—1949 гг.

[36] У паваеннай Нямеччыне асаблівым попытам карысталіся цыгарэты, якія выступалі ў тым ліку й як сродак аплаты пэўных паслугаў у беларускіх лягерах. Вядома, што заробкі цыгарэтамі атрымоўвалі настаўнікі ў лягерных школах. Ахвяраваньні цыгарэтамі дасылаліся на газэту "Бацькаўшчына". Для разьлікаў цыгарэты абменьваліся на грошы.

вамі кандыдатаў да Рады БНР. Рудзю[37] я вырашыў напісаць ліст, каб высьветліць яго паводжаньні.

Прывітаньне а. Чаславу і ўсім хлопцам.
Жыве Беларусь.

[Подпіс Міколы Абрамчыка]

*3.6.48, Paris.*

Дарагі Вінцук,

Вось зараз выяжджаю ў Нямеччыну, прад выездам вось стараюся табе чаркануць пару слоў.

Ніна мне казала, што ты ў адным якось лісьце пытаўся, ці за цябе разрахаваліся. Дык вось — ніхто, браток, ніякіх за цябе рахункаў тут з намі не пераводзіў. Адно што было атрымана праз пана Лягушку 5 фр. для студэнтаў. Я іх падзяліў 3 Наумовічу, 2 Філістовічу. Больш ніякіх апэрацыяў па тваім ад'езьдзе не пераводзілася.

Так калі ты выслаў штось, дык за рэклямуй. Агулам было-б гэта вельмі патрэбна, бо ўсё, што меў дома, аграбіў цяпер у дарогу.

[Подпіс Міколы Абрамчыка]

Парыж, 5.6.48.

Даражэнькі Вінцук,

Пішу зноў Табе, хоць ведаю, што ня маеш часу адказываць, але абяцаю паправіцца і так часта не дакучаць.

Як маешся? Ці паправіўся трошкі? Міколка ўчора вечарам паехаў да Стасюкоў[38] на цэлы месяц, але прыабяцаў, прыехаўшы, паехаць са мной "на вакацыі"!!!! Вось мне даў заданьне — падрыхтавацца! Галоўна — купіць палатку (намёт). Я тут пыталася, дык на 2 асобы каштуе 5000 (тысяч фр[анкаў]). Але вось мае каляжанкі (полькі-студэнткі) выпісалі сабе з Лёндану, і ім каштавала такая палатка 1800 фр[анкаў]. Я хадзіла — заказаць, але ўжо заказаў не бяруць, бо маюць надта шмат, але далі мне адрыс, каб я сама выпісала або хтось там на мейсцы купіў і мне прыслаў. Вось затым маю да Цябе вялікую просьбу — можа-б Ты мог зайсьці, купіць і выслаць, бо ад гэтуль заказаць, дык трывае ўся гэтая цэрэмонія 6 тыдняў, дык і лета мінецца, і я мора не пабачу. Вось адрас: *45 Gloucester Road, London*. Гэта амэрыканскія вайсковыя палаткі, але чамусьці яны прадаюць. Так выглядае палатка профіль

[37] **Сьцяпан Рудзь** (?—?), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Быў сябрам Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў, членам рэдкалегіі часопісу "Аб'еднаньне". Сьцяпан Рудзь паходзіў зь Міколам Абрамчыкам з аднае вёскі.

[38] Магчыма, маюцца на ўвазе Станіслаў Станкевіч, Станіслаў Грынкевіч і іншыя, што жылі ў той час у Нямеччыне.

(уздоўж), мае 2 насы, якія зашпільваюцца на гузікі (2 асобы). Вось каб Ты мог мне гэта зрабіць — было-б цудоўна, вельмі Табе была-б удзячная. Але яшчэ ня ўсё.

Трэба 2 такія палаткі (для нашых знаёмых) тако-ж 2 асабовая.

Вінцук! Калі можаш мне гэта залагодзіць, купі і перашлі (абедзьве) на мой адрыс! Калі НЕ, напішы адразу, тады я буду тут старацца.

Выбачай, што Цябе турбую, але больш ня маю да каго зьвярнуцца. Затым, выбачай, пішы і ўсяго найлепшага.

Жыве Беларусь!

Ніна [Абрамчык].

*9.2.49, Paris.*

Дарагі Вінцук,

Толькі што вярнуўся зь Лювэну і дастаў твой ліст. Перадусім хачу цябе папярэдзіць, што ліст, табе перасланы мной, ты ні ў якім выпадку ня можаш падаць галоснасьці. У якую-ж бы ты ролю запраўды паставіў мяне? Гэтым-бы толькі больш пашкодзіў справе, чым памог. Дзіўлюся, як ты гэтага не зразумеў. Ліст гэты прашу мне зьвярнуць назад.

Здаецца мне, што прыеду да Вас раней Вашага зьезду (хоць яшчэ ня зусім пэўна), тогды пагутарым.

У Лювэне справы нашы стаяць вельмі добра. З дакладу свайго[39] я вельмі задаволены, было вялікае зацікаўленьне, а ў *Reception*'е прынялі ўдзел найвыдатнейшыя прадстаўнікі бельгійскай навукі. Прывіталі мяне афіцыяльна, хоць з пэўнай памылкай, зробленай у афішах і лятучках (адну зь якіх табе тут залучаю).

Адкажы мне, як ты ўважаеш, ці лепш мне адкласьці свой прыезд да Вашага зьезду, ці няма патрэбы гэтта ўзалежніваць?

На ліст Міхалюка[40] я адкажу заўтра. Але яшчэ раз табе падкрэсьліваю, што перасланы мной ліст, як табе зазначыў, быў і пры яго перасылцы, быў выключна для цябе, а не для агалошаньня. Калі ты з гэтым

[39] Маецца на ўвазе даклад «*La "Bielorussie": son histoire, son etat actuel*» ("Беларусь: яе гісторыя і сучасная дзяржаўнасьць"), які Мікола Абрамчык чытаў 1 лютага 1949 г. на запрашэньне Міжнароднага таварыства замежных студэнтаў у Лювэне (Бэльгія).

[40] **Янка Міхалюк** (1922—1995), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, адзін з заснавальнікаў беларускага жыцьця ў Брадфардзе. Ад 1965 г. жыў у Лёндане (Вялікабрытанія). Быў пастаянным сябрам Галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1970—1995 гг. — нязьменным старшынём арганізацыі. Належаў да кіраўніцтва Англа-Беларускага таварыства, займаўся распаўсюдам часопісу *"The Journal of Byelorussian Studies"*. Уваходзіў у Раду апекуноў Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны.

ня згодны, можыш падыскутаваць, як прыеду — цяпер-жа я выключаю ўсякую дыскусыю.

А пакуль бывай.

Твой [Подпіс Міколы Абрамчыка]

Прывітаньні а. Чаславу і ўсім тваім супрацоўнікам.

Шырэй аб маім побыце ў Бельгіі прачытаеш у "Бацькаўшчыне", бо бачыў, што адзін з нашых студэнтаў узяўся ўжо быў пісаць.

На наступны год будзеш мець змогу ўладжваць маіх студэнтаў і на сярэднія тэхнічныя школы, у гэтым годзе ўжо запозна. Маем вельмі вялікага прыяцеля беларусаў а. Робэрта Canwelaert[41] (сына прэзыдэнта бел[ьгійскага] парлямэнту, які зьяўляецца сакратаром Бельгійска-Беларускага камітэту — помачы беларусам). Гэта вельмі чулы, вельмі культурны і дзейны чалавек — большую часьць вольнага часу я правёў зь ім і вельмі рады, што ён аддаўся цалком апецы беларусаў у Бельгіі.

[Подпіс Міколы Абрамчыка]

*17.6.49*

Дарагі Вінцук,

Не ўхапіў выслаць табе ліст (адказ на твой першы ліст), як вось атрымаў толькі што твой 2-гі з 12.6.

Запраўды, з а. Сіп[овічам], як выглядае, досыць прыкрая справа. Сам ня ведаю, што рабіць мне. Я яго чакаў увесь час у Парыжу, 22.V выслаў яму ліст, але адказу яшчэ да гэтуль не атрымаў. Ня ведаю, калі ён прыедзе і ці прыедзе наагул. Думаю аднак, што прыедзе, бо чакае яго і а. Леў. Вам-бы радзіў пакуль што ўсёж такі справу зь ягоным "сэпаратызмам" уладзіць неяк у сьцісла цясьнейшым кругу, каб ня вынеслася на вонкі.

Націсьнеце на яго там сваім актывам, а потым мы націсьнем тут. Можа неяк уладзіцца. Было-б в[ельмі] не пажадана, каб гэта вылілася ў нейкую форму да змаганьня і каб не набрала формаў змаганьня з нашага боку з каталіцызмам — было-б гэта для нас в[ельмі] некарысна, паставіць супроць сябе Рым, а ў тым ліку і Лювэн. Я яшчэ веру, што, націснуўшы добра на яго тут з Рыдлеўскім, перакaнаем яго сваю "тактыку" зьмяніць.

Што да кніжак, дык у мяне, браток, падвойнага экзэмпляру няма. Усё, што было падвойна, пераслаў быў у свой час вам у Лёндан (каля 80 кніжок). "Калосьсе" Сіповічу даваў не я, а а. Чарняўскі[42]. Папытаюся

---

[41] **Робэрт ван Кавэлярт дэ Ўілс** (1906—1986), грэка-каталіцкі сьвятар, які апекаваўся беларускімі студэнтамі ў Лювэне.

[42] **Францішак Чарняўскі** (1893—1979), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, выдавец. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай сэмінарыі. У 1920 г. атрымаў сьвятарскія пасьвячэньні. У 1924—1927 гг. вучыўся ў Рыме ў Папскім

яшчэ ў Філістовіча, бо гэты хлопец шмат купляе кніг (новых сов[ецкіх] выданьняў) у Расейскіх кнігарнях. Ён пэўне зможа дзе якую мець і для вас, а купіць, то напэўне. [...]

*20.6.49, Paris*

Дарагі Вінцук,

Толькі што атрымаў тваю пісульку з 6.6 і адначасова атрымаў ліст ад Ст[аніслава] Станк[евіча][43].

Вось-жа справа з прызнаньнем заруб[ежніцкага] "прадстаўніцтва", запраўды Галоўнай Кватэрай *IRO* на Амэрыканскую зону прызнана ў Бад-Кісінгэн[44] за афіцыяльную рэпрэзэнтацыю беларусаў (на Амэрыканскую зону зразумела).

Як гэта сталася:

Як паведамляе Ст[аніслаў] Ст[анкевіч], Гал[алоўная] Кв[атэра] *IRO* спачатку (зразумела зноўжа не бяз націску Расейцаў) "намагалася палагодзіць" прадст[аўнікоў] зарубежнікаў з Бел[арускім] Нац[ыянальным] Камітэтам[45] праз "пасярэдніцтва" "Сусьветнай Царкоўнай службы"[46], якая абсаджана Расейцамі. Як пішыць Стась, гэтая "Сусьв[етная] Царк[оўная] Служба" мела заданьне ад *IRO*: пагадзіць або заапіняваць, які з бел[арускіх] камітэтаў належыць узнаць. Вынікі ясныя — камэнтары не патрэбныя.

Гэту справу аднак ні ў якім разе мы спакойна пакінуць ня можым. Бо справа тут ходзіць аб прынцыповыя рэчы: ці маскалі маюць наагул права "апіняваць" у нашых справах і ці мы можым такія рэчы прыймаць. Ясная рэч, што не — мы павінны ў самы рашучы і энэргічны спосаб упратэставаць. У бліжэйшым часе мы падаем пратэст ад САБЭ (праз Амбас[аду]) як у Галоўную Кватэру *IRO* Ам[эрыканскай] Зоны, так і галоўнаму вайсковаму камандаваньню, а потым з парыжскае *IRO* ў галоўную кватэру *IRO* ў Жэневе.

---

Грыгарыянскім унівэрсытэце й Усходнім інстытуце. З 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў на вугальных капальнях. Пераехаў у Бэльгію, у 1953—1955 гг. — у кляштары бэнэдыктынаў. Рэдагаваў бюлетэнь "Божае слова". У 1957 г. выехаў у ЗША. Выдаваў часопіс "Сяўбіт".

[43] Станіслаў Станкевіч у той час быў рэдактарам газэты "Бацькаўшчына".

[44] **Бад-Кісінген** (ням. *Bad Kissingen*) — горад у Нямеччыне, курорт і раённы цэнтар, разьмешчаны ў зямлі Баварыя.

[45] **Беларускі нацыянальны камітэт** быў заснаваны ў Рэгенсбургу ў 1945 г. для прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў у Амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны.

[46] **Сусьветная царкоўная служба** (анг. *Church World Service (CWS)*) — створаная ў 1946 г. арганізацыя, якая дапамагала жыхарам лягераў *DP* выяжджаць зь Нямеччыны ў ЗША.

Але гэткія-ж пратэсты да *IRO* ў Бад-Кісінгэн і Вайсковы гал[оўна]-кам[андуючы]. У Гайтэльбург мусяць пасылацца і ад іншых нацыянальных бел[арускіх] арганізацыяў іншых краінаў.

Мы ў сваім мэмар'яле-пратэсьце абгрунтуем шырэй падставы нашага пратэсту. Сьмешная зразумела рэч — цьверджаньні "нейкай палітыкі" зарубежнікаў у Нямеччыне. Іграе ролю тут ня іх бальшыня, а іхняя зацята агрэсыўная дзейнасьць і помач маскалёў. Ваш пратэст можа быць кароткі з зробленым націскам на 2-ва толькі пункты:

1. Вы дакладна паінфармаваны, што так зв[анае] Цантральнае Бел[арускае] Прадстаўніцтва ні ў якім разе не прадстаўляе бальшыню бел[арускіх] ДП у Нямеччыне.

2. што Ваша арганізацыя ЗБВБ, што складаецца з пераважнай колькасьці ўдзельнікаў у баёх *Monte-Casino*, пратэстуе супраць штучнае падтрымкі ў рэкляме "рэпрэзэнтантаў", падлягаючых дырэктывам Астроўскага стаўленіка СС гэнэрала Фон Готбэрга.

Я перакананы, што, калі энэргічна націснуць з усіх бакоў, дык змусім здэцыдаваць пастанову *IRO*.

Акцыя такая канечне патрэбная ня толькі з-за гэтае пастановы, бо зарубежжа так абнаглела ў сваёй дывэрсыйнай працы, што ўжо напроста немагчыма цярпець.

Пішыць мне між іншым Ст[аніслаў] Ст[анкевіч], што Кабыш (наш міністр фінан[саў]) знаходзіўся ўжо ў порту (Брэмен) для выезду ў ЗША, як зарубежнікі даносамі ўплылі так, што яго завярнулі назад у лягер. А гэта пасьля таго, як ён прайшоў усе камісіі і праверкі.

Твой [Подпіс Міколы Абрамчыка]

PS. Што да прыезду Астроўскага ў Англію, дык думаю, табе-б было варта выклікаць таго Англічаніна, зь якім мы супольна гутарылі, і паінфармаваць яго, а то яшчэ лепш — злажыць праз яго пратэст, таксама падкрэсьліваючы вашае змаганьне супольна з Англічанамі пад Монтэ Касыно.

Ермачэнкам, між іншым, занятыя як выглядае Амэрыканцы (у Вашынгтоне) на сур'ёз. Думаю што за даны яму ўезд у ЗША Акупац[ыйныя] чыньнікі дастануць па носе. Амэрыканцы выкрылі ягонае ашуканства і, згодна іх законаў, за гэта ён падлягае кары.

Ермачэнка-ж хоць і лаўкач, але прымітыў, дазволіў сабе даць у Амэр[ыканскім] Радыё інтэрвію, што падчас вайны ён служыў у Амэрыканскай арміі ў Мэдычным Корпусе. Вось з гэтага і пачалося разсьледваньне і, здаецца, траплена на запраўдныя нітачкі, дзе ён запраўды служыў.

[Подпіс Міколы Абрамчыка]

*23.6.49, Paris.*

Дарагі Вінцук,

Толькі што атрымаў твой ліст і ліст ад сп. Лашука[47] (разам) у справе непаразуменьня з падвойным заклікам на фонд пасылкі дэлегата ў Злуч[аныя] Ш[таты] А[мэрыкі].

Прызнаюся, мяне гэта моцна ўдарыла. Лашук пішыць, што свой заклік выслаў, а цяпер хочаш выслаць ты. Ня ведаю, як гэта зразумець? Прашу цябе стрымаць свой заклік, бо то ж будзе проста скандалічна перад Вашымі людзьмі. Я думаю, што сталася гэта ў насьледку нейкага непаразуменьня ў зьвязку з інструкцыяй Кажану[48]. Але-ж ты ведаў, што Лашук зьяўляецца ад даўжэйшага часу кіраўнікам фонду — чаму зь ім не паразумеліся?

На твой ліст адкажу за пару дзён, бо як раз цяпер адарваўся толькі на пару хвілін; пішу зь Лявонам[49] мэмар'ялы: адзін да *IRO*, другі да амбасады УСА[50] — і маю зь ім бегчы, бо ўмоўлена пабачыцца, у вечары маю паседжаньне ў Акадэміі.

Выбач таму за такі ліст. Але прашу цябе стрымаць твой заклік, раз пайшоў Лашукоў, а потым разьберамося.

Мейце-ж трохі літасьці, людцы дарагія.

[Подпіс Мікола Абрамчык]

*24.2.50, N[ew] York.*

Дарагі Вінцук,

Дзякуй за ліст, за інфармацыю.

Вельмі добра, што ты намагаешся неяк учапіцца за ўнівэрсытэт[51] — старайся гэта зрэалізаваць, абы зачапіцца.

Мне тут удалося дабіцца ад аднэй інстытуцыі (маўчы толькі пакуль што) згоды даць некульки стыпэндыяў і для бел[арускіх] навукоўцаў

---

47 **Аляксандар Лашук** (1909—1997), грамадзкі дзеяч. Закончыў польскую сямігодку ў Ілы, працаваў у гміннай адміністрацыі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гаспадарчым аддзеле раённай адміністрацыі. У 1944 г. выехаў на эміграцыю. Трапіў у 2-і Польскі корпус. Ад 1946 г. — у Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане. Шмат гадоў быў старшынём сэктару Рады БНР у Вялікабрытаніі. Займаўся распаўсюдам беларускіх выданьняў.

48 **Віталь Кажан** (1916—2004), вайсковы й грамадзкі дзеяч. Ад 1950 г. жыў у ЗША. Шматгадовы скарбнік Рады БНР.

49 Маецца на ўвазе Лявон Рыдлеўскі.

50 Магчыма маюцца на ўвазе ЗША (*USA*).

51 На пачатку 1950-х гг. у Атаўскім унівэрсытэце Вінцэнт Жук-Грышкевіч абараніў доктарскую дысэртацыю "Лірыка Янкі Купалы".



Парыскія беларусы: жонка Міхася Наўмовіча, Ніна Абрамчык, Лявон Рыдлеўскі. 1950 г.

(бо, як ведаеш, іншыя ўжо атрымалі даўно). Дабіцца гэтае згоды было вельмі цяжка, бо мы, як ведаеш, не былі ўключаны ў іхнюю "гэаграфію". Надоечы шэф гэтае арганізацыі (бо зь ім я меў безпасярэдне аж 3 спатканьні) заявіў: *"Я гутарыў учора ў Ваш[ай сытуацыі] з аднэй в[ысока] пастаўленай асобай. Ваша сытуацыя ацэнена запраўды як трагічная, таму Вы за нейкіе 2-ва месяцы атрымаеце нешта таксама. Ня 100 %, як вы хочыце, але атрымаеце"*.

Я яму падзякаваў і дадаў, каб ён мне яшчэ яго дазволіў адведаць, бо якраз я яшчэ буду ў ЗГА[52] два месяцы, і быў-бы таму в[ельмі] шчасьлівы перад сваім ад'ездам яму падзякаваць — ён згадзіўся.

Я яго ўвесь час так трымаў і зь першага спатканьня, калі ён мне даў катэгарычную адмову. Дык заінтрыгаваў яго іншымі рэчамі, каб мець яшчэ 2-е рандэву.

На другім была таксама адмова — з-за *"гэографіі ялтанскай"*, а вось на 3-цім даў згоду.

Арганізацыя гэтая, як ведаеш, фінансуе-дапамагае вучоным, палітыкам і прэсе.

Словам, надзея ёсьць. Маю яшчэ адзін вельмі цікавы кантакт — в[ельмі] важны і, можна сказаць, найважнейшы.

Гутарыў надоечы 3 гадзіны. Цікавыя в[ельмі] даведаўся рэчы.

Ня выключана, што застануся тут цэлае лета, бо так шмат працы.

У Канаду буду старацца папасьці ў той ці іншы спосаб.

Бывай, твой [подпіс Міколы Абрамчыка].

[52] **ЗГА** — Задзіночаныя Гаспадарствы Амэрыкі (ЗША).

4.5.51

Дарагі Вінцук,

Лаеш, што не адпісваю, але, на вялікі жаль, адрас твой быў недакладны, і мой ліст вярнуўся, пасылаю табе канвэрт. Што да кніжок, нічога ня можам выслаць, бо яны вельмі тут патрэбныя, бо гэта адзінае мейсца на Эўропу, дзе нешта могуць чужынцы дастаць беларускае, і гэтых пару кніг не ляжыць, як ты думаеш, але ўсе ў "паходзе". А што да майго нацыянальнага сумленьня — ня бойся, яго бросьня не зацягнула, бо, на шчасьце, я мела такіх настаўнікаў, якія так умелі сеяць, што зерне й на камяні ўзыйдзе. Вельмі часта цябе тут успамінаем і зь вялікай прыемнасьцю табе напісала-б часьценька, але ты вельмі заняты і не хачу табе перашкаджаць і займаць твой час сваімі няцікавымі й даўгімі лістамі. Калі аднак дазволіш перадаць мой тутэйшы эўрапэйскі настрой, напісаць табе пра ўсё і нічога разам, зробіш мне вялікую прыемнасьць і ласку, бо я амаль адна і ня маю зь кім падзяліцца сваімі думкамі і парадзіцца ў шмат чым. З прыяцеляў маіх: *"адны забыліся, другіх узяла магіла..."*[53]. Пішы, Вінцук, буду табе вельмі ўдзячнай!

Жыве Беларусь!

Ніна [Абрамчык].

16.3.54. NY

Дарагі Вінцук.

Усе твае 3-ры лісты атрымаў. Вельмі дзякую за дакладную інфармацыю. З Ліманоўскім[54] справа ўладжана. Учора ўжо канчальна дагаварыліся ў Камітэце[55] на яго выезд. Сяньня Ліманоўскі ідзе ў Камітэт упарадкоўваць усе фармальнасьці (кантракт, паперы на візу і г. д.).

---

[53] Радок зь вершу Канстанцыі Буйло "Адна".

[54] **Янка Ліманоўскі** (1896—1989), пісьменьнік, літаратуразнаўца. Ад 1949 г. жыў у Чыкага. Быў сябрам Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага. У 1952 г. выехаў у Нью-Ёрк. Быў сябрам Рады БНР. У 1952—1954 гг. дырэктар БІНіМу. У 1954 г. перабраўся ў Мюнхен для працы ў беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне", аднак працаваў там нядоўга. Вярнуўся ў Чыкага. Праз канфлікт з В. Тумашам адышоў ад БІНіМу. Быў сябрам Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. З часам абарваў кантакты зь беларусамі.

[55] **Амэрыканскі камітэт вызваленьня народаў Расеі** (з 1953 г. — **Амэрыканскі камітэт вызваленьня ад бальшавізму**) быў заснаваны на ініцыятыву Дзярждэпартамэнту ЗША як прыватная ўстанова ў штаце Дэлаўэр. Галоўнай задачай арганізацыі было стварэньне каардынацыйнага цэнтру змаганьня народаў СССР супраць бальшавікоў. У 1956 г. "ад бальшавізму" адкінулі, у ангельскамоўным скароце атрымаўся *Amcomlib* (*American Committee for Liberation*). Гэтая назва пратрымалася да 1964 г., калі яеператварылі ў *Radio Liberty Committee* — Камітэт Радыё "Свабода".

Папярэдзь толькі Стася Станкевіча, каб ён не пісаў нічога Адамовічу і Янку[56] ў справе выезду Ліманоўскага. Бо Янка апошні час зноў пачаў дамагацца, каб паслалі яго (Янку), і калі ён даведаецца аб выязьдзе Лім[аноўскага], будзе вар'яваць — і не дасьць мне спакою. Хай лепш дазнаецца потым. Сэсыю мы закончылі[57]. Выканаўчы сакрэтарыят буду арганізоваць у Эўропе, каб мець некага пад рукой. Прэзыдыюм Рады выбралі зь Ньюёрскіх: др. Тумаш — заступнік мой, др. Орса[58], Гэн[эрал] Кушаль — сябры прэзыдыума, Манькоўскі[59] сакратар. Махноўскага[60] з Кушалем памірылі. З выбараў незадаволены адзін Янка Станкевіч. Прыслаў мне ліст, што ён гэтага прэзыдыума ня будзе прызнаваць. Кандыдаваў і ён, але што зрабіць, калі атрымаў толькі 2-ва галасы.

Амэрыканскі Камітэт ужо мае з Вашынгтону дыфіцітыўны праект прапазыцыі "Парыскаму Блёку"[61] для палітычнага цэнтру. Прапазыцыі гэтыя Камітэт абяцае нам даць недзе 20—30 сакавіком. Запэўніваюць нас, што для "Парыс[кага] Блёку" будзе прыемлема і што не прыйме іх толькі Керанскі і Мільгуноў[62]. Вось-жа паглядзім. Я маю ўражаньне, што "П[арыскі] Блёк" уключыцца ў палітычную работу Амэр[ыканскага] Камітэту.

---

[56] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

[57] Маецца на ўвазе 7-я сэсія Рады БНР, пасяджэньні якой адбываліся ў Нью-Ёрку ад траўня 1953 г.

[58] **Аляксандар Орса** (1896—1959), грамадзкі дзеяч, пэдагог. Выпускнік Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе. Падчас Другой сусьветнай вайны — школьны інспэктар на Наваградзкую акругу. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Міхельсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША. Быў радным БНР.

[59] **Пётра Манькоўскі** (1916—2002), грамадзкі дзеяч, публіцыст. Вывучаў юрыспрудэнцыю ва ўнівэрсытэтах Вільні, Мюнхену, Нью-Ёрку. Ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША. Быў радным БНР.

[60] **Аляксандар Махноўскі** (1902—1967), грамадзкі дзеяч, пэдагог. У 1942—1944 гг. быў інспэктарам беларускіх школаў у Дзьвінскім, Луцынскім і Ілукштанскім паветах. У 1944 г. разам зь сям'ёй выехаў на Захад. У 1949 г. пасяліўся ў ЗША. Быў радным БНР.

[61] **Парыскі блёк** — неафіцыйная назва Лігі вызваленьня народаў СССР, заснаванай у Парыжы ў канцы сакавіка 1953 г. У яе ўвайшлі прадстаўніцтвы ад Армэніі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Ідэль-Уралу, Паўночнага Каўказу, Туркестану й Украіны. Ліга выдавала свой часопіс "Праблемы народаў СССР" (Мюнхен, 1958—1966). Ініцыятарам стварэньня Парыскага блёку і доўгагадовым кіраўніком быў Мікола Абрамчык.

[62] **Сяргей Мельгуноў** (рус. *Сергей Мельгунов*, 1879—1956), расейскі палітычны дзеяч, гісторык. У 1950—1954 гг. рэдагаваў часопіс "*Возрождение*", ад 1951 г. быў старшынём Каардынацыйнага цэнтру антыбальшавіцкай барацьбы (КЦАБ).

У гэту суботу еду ў Бостан, а панядзелак 22-га ў Вашынгтон. Прабуду там тыдзень, а там за тыдзень выяжджаю ў Парыж. У Канаду, на жаль, не ўдалося — але пішу Грыцуку[63] вялікі ліст і абяцаю за 8 месяцаў, едучы ў Амэрыку, да іх заехаць у першую чаргу — ніяк начы зрабіць ня мог.

У гэту нядзелю (14 сакавіка) адсьвяткавалі гадавіну заснаваньня "Парыскага Блёку". Сьвята ўдалося надзвычай. Публікі было каля паўтары тысячы. Ад Парыскага Блёку прачытаў дэклярацыю Новасард'ян[64] (армянін), якую мы выпрацавалі зь ім супольна, выступіў з прамовай кангрэсмэн Керстан[65] — прамова яго была ў духу дэклярацыі "П[арыскага] Блёку", і былі тры тэлеграмы амэрыканскіх санатараў, якія не змаглі прыехаць дзеля свайго занятку ў Камісіях санату.

Асаблівую ўдачу мела мастацкая частка — канцэрты і танцы. Выступалі 3-ры вялікія хоры: армянскі, беларускі і ўкраінскі — кожны ад 40 да 50 харыстых і іншыя народы меншыя, але разам усіх было каля 200. Мазаіка касьцюмаў, рознаякасьць нумароў — справілі вялізнае ўражаньне.

Амэрыканскі Камітэт перад канцэртам пабаіваўся, што сьвята "Блёку" прыйме непрыемлімы для іх характар дэманстрацыі і пашкодзіць ім у прыцягненьні Расейцаў да спаўпрацы. Яны баяліся, што наша дэманстрацыя выльецца ў нешта падобна крыклівае пратэстанцыйнае a la АВНаўшчыны[66]. Але потым казалі, што такога спэктакля і на так культурна-мастацкім узроўні задуманае — [*неразборліва*] ніводная яшчэ да гэтуль эміграцыя ў Амэрыцы не патрапіла паказаць. Мне гэта было асабліва прыемна чуць, бо ідэя гэтага сьвята была падана мной. Парыжскі Блёк яшчэ падняў свой аўтарытэт — ён прадэманстраваў сваю волю, імкненьні сваіх народаў, у тоне спакойным, хоць і цьвёрдым, тоне акадэмічным, бяз крыку, але тоне ўпэўненым у свае сілы. Водгук амэрыканцаў і не амэрыканцаў аб гэтым сьвяце апраўдаў поўнасьцю, што

---

[63] Маецца на ўвазе Алесь Грыцук.

[64] **Ваан Навасардзян** (1888—1956), армянскі палітычны дзеяч, адзін зь лідараў Дашнакцуцюн, рэдактар газэты "Усабер" (Каір, Эгіпет).

[65] **Чарлз Керстэн** (анг. *Charles Joseph Kersten*, 1902—1972), амэрыканскі палітык, кангрэсмэн-рэспубліканец. У 1953—1954 гг. узначальваў кангрэсавую Камісію камуністычнай агрэсіі.

[66] **Антыбальшавіцкі блёк народаў** (укр. *Антибільшовицький блок народів*, англ. *Anti-Bolshevik Bloc of Nations)* — створаная ўкраінскімі нацыяналістамі ў 1943 г. і структурна аформленая ў Мюнхене ў 1946 г. арганізацыя, што стала каардынацыйным цэнтрам антыкамуністычнай дзейнасьці эмігрантаў на Захадзе. У 1970-я гг. у яе склад ўваходзілі 16 арганізацый, у тым ліку БЦР. Ад 1967 г. уваходзіла ў склад Сусьветнай антукамуністычнай лігі. У 1996 г. спыніла сваю дзейнасьць у зьвязку з дасягненьнем сваіх мэтаў.

мэта, якую мы былі надавалі гэтаму гадавому юбілею, была поўнасьцю апраўданая. Для "Бацькаўшчыны" Паланевіч[67] прышле дакладнейшую справаздачу і фатаграфіі. Мае гэтыя радкі хіба могуць быць для Стася дадатковымі.

А пакуль бывай здароў. Прывітаньні ўсім.

[Подпіс Міколы Абрамчыка]

*31.3.55, Villepinte*

Дарагі Вінцук.

Толькі што атрымаў твой ліст і сьпяшаюся адказаць. Ты вельмі добра і правільна паставіў пытаньне што да Целеша і Сядуры. Ні адзін, ні другі зь іх не падыходзяць да працы ў сэкцыі[68]. Першы, як ты правільна ацаніў, слабы як пісака, да таго-ж в[ельмі] цяжкі характар. Другі хоць з пункту гледжаньня пісаньня мог-бы падыйсьці — яго прэтэнзыі аднак не памерна непрапарцыйныя яго здольнасьцям. Былі-б зь ім ня толькі вялікія клопаты, аб якіх ты пішаш, але яшчэ і клопаты ў зьвязку з эвэнтуальным тваім ад'ездам. Ён безумоўна перся-б з усёй сілы ў дырэктарства, на што мы ні ў якім выпадку не маглі-б пагадзіцца, бо перадаць яму кіравецтва гэта значыла-б перадаць сэкцыю пад поўны кантроль Расейцаў. Найлепш таму хай пішуць, калі хочуць, скрыпты збоку.

Цяпер Гуткоўскі[69] — Казак[70]. Гуткоўскі, безумоўна, сіла. Калі-б ён быў у сэкцыі, ён быў-бы в[ельмі] прадуктыўны. Седзячы тут, сэкцыя-б безумоўна паднялася-б на вышэйшы ўзровень. Гэта чалавек сьпелы палітычна, пэўны нацыянальна, добра ўдакумэнтаваны і з добрым пяром.

[67] **Гіпаліт Паланевіч** (1907—1997), грамадзка-культурны дзеяч, пэдагог, гісторык. Быў рэпрэсаваны і ў 1936—1940 гг. адбываў пакараньне ва Ухта-Іжэмскім лягеры (Комі АССР). Пасьля вызваленьня вярнуўся ў Беларусь і працаваў настаўнікам. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў гісторыю ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, кіраваў тэатральным гуртком. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. У 1962 г. атрымаў унівэрсытэцкі дыплём у галіне бібліятэказнаўства. Працаваў па спэцыяльнасьці. Быў стваральнікам газэты "Беларус" разам з М. Кунцэвічам. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Аўтар шэрагу публікацый па гісторыі Беларусі

[68] Маецца на ўвазе беларуская сэкцыя Радыё "Вызваленьне / Свабода".

[69] **Ізыдар Плашчынскі** (на эмігр. **Язэп Гуткоўскі**, 1908—1986), грамадзкі дзеяч, публіцыст, малодшы брат Я. Пушчы. У часе нямецкай акупацыі супрацоўнічаў у "Беларускай газэце". Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне жыў у лягеры *DP* у Гановэры. Супрацоўнічаў з пэрыёдыкам "Вольнае Слова". У 1950-я гг. друкаваўся на старонках выданьняў мюнхенскага Інстытуту вывучэньня СССР, быў пазаштатным аўтарам беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне / Свабода". Жыў у Нью-Ёрку.

[70] Маецца на ўвазе Рыгор Казак (Крушына).

На дырэктара ён ня годзіцца, бо на першым бы паседжаньні радактароў мог-бы зрабіць скандал Расейцам. У сэкцыі зь ім-бы працаваць было ня цяжка. Да дырэктарства ён сам ніколі-б не пёрся. Я пэўны аднак, што ён на выезд з Амэрыкі, на жаль, ня згодзіцца, але калі-б згадзіўся, трэба было-б яго браць. З Кушалем бы яны супрацоўнічалі. Арсеньнева мае на яго в[ялікі] уплыў. Але ўсе гэтыя разважаньні дарэмныя, бо ён ня згодзіцца.

Мая таму думка: скажы амэрыканцам, што абодвыя кандыдаты (Гут[коўскі] і Казак) добрые. Першы мацнейшы ў скрыптах, другі мацнейшы як продусор, і што мы згодны хай выберуць там у Нью Ёрку Амэрыканцы аднаго або другога, абы толькі хутчэй прывозілі. На дырэктара, скажыш, падамо кандыдатуру пазьней. Калі-б Кушаль адмовіўся або не згадзіліся Амэрыканцы — падамо тогды Кунцэвіча[71]. Гэта былы судзьдзя ў З[аходняй] Бел[арусі], цяпер яму год 50 — і ён згодзіцца напэўна.

Я пару дзён хварэў. Моцна прастудзіўся, дык цяпер мушу наганяць. Праект мой (замена цэнтру канфэрэнцыямі) спаткалі тут з інтузыязмам. Затое Ценцадзэ[72] з абураньнем і пратэстам. Пагражае выхадам іх арганізацыі з П[арыскага] Блоку і г. д.

У звязку з гэтым маю шмат клапот і прыкрасьцяў, паседжаньні нашы зацягваюцца, вяртаюся заўсёды да дому позьняй ноччу. Агулам настрой ува ўсіх добры і здаецца ўсе пойдуць на пралом супраціву Цэнцадзэ. Учора мне тэлефанаваў Пэч[73] — яны, маю ўражаньне, поўнасьцю здэцыдаваліся стаць на "канфэрэнцыяй". Прасіў толькі мяне як найхутчэй падаць ім наш праект з зазначэньнем, якіе арганізацыі апрабовываюць. Вось цяпер разпрацовываю праект гэта да змаганьня з Цынцадзэ.

Спадзяюся за нейкія два-3-ы тыдні быць у Мюнхэне. Пэч хочыць, каб мы адразу прыступілі да працы, пачынаючы з першай канфэрэнцыі 2-х блокаў, на якой-бы спрабавалі ўзгадніць супольную акцыю на зьяўленьне ў Усх[одняй] Нямеччыне камітэту "патрыётаў", які заклікае

---

[71] **Мікола Кунцэвіч** (1907—1985), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнае вайны быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Нямеччыне. Пераехаў на сталае жыцьцё ў ЗША. У 1957—1959 гг. старшыня БАЗА. Быў ініцыятарам стварэньня (разам з Г. Паланевічам) і сябра рэдкалегіі газэты "Беларус".

[72] **Ной Цынцадзэ** (*N. K. Tsinsadze*), грузінскі палітык, меншавік, удзельнік рэвалюцыі 1917 г., лідар грузінскіх незалежнікаў у эміграцыі, актыўны дзеяч Парыскага блёку.

[73] **Айзек Пэтч** (анг. *Isaac Patch*), амэрыканскі дыплямат, які працаваў у Маскве й Празе. На пачатку 1950-х гг. стаў палітычным каардынатарам Амэрыканскага камітэту вызваленьня ад бальшавізму.

нас да павароту на “родину” (калі ты аб гэтым ня чуў, паінфармуйся ў Доўгаля[74]).

Сёньня табе тэлефанаваў, на жаль, не застаў цябе дома.

Калі будзеш мець нешта сьпешнае, тэлефануй мне, з раньня да 10-й гадзіны я заўсёды дома.

Прывітаньне Раісе[75].

Ваш [подпіс Міколы Абрамчыка].

*Paris, 14.9.55.*

Дарагі Вінцук,

Ліст твой атрымаў, дзякую. Адказваю табе з Парыжу. У нас цяпер у разгары паседжаньні па падрыхтоўцы да канфэрэнцыі П[арыскага] Блёку. Прыехалі Армяне з Каіру — таргуемся за старшынства блёку. 1-га кастрычніка ў нас адчыніцца канфэрэнцыя ў Мюнхэне. Вось-жа я прыяжджаю да Мюнхэну 30-га верасьня. Да рэчы папрашу цябе, каб хлопцы замовілі мне месца ў *Lowen*. Абавяскова не забудзься гэтага і нехай не адкладаюць, бо потым можа ня быць мейсца. У Мюнхэне я затрымаюся нейкі тыдзень.

У справе кандыдатаў на кіраўніка радыё сэкцыі я вёў перапіску з Тумашам. Апошні быў увесь час у кантакце з Адамовічам як чалавекам, зарыентаваным у тутэйшай сытуацыі. Абодва мне ўжо напісалі ў гэтай справе па 2-а лісты, а я ім нешта разы 3-ы. У насьледку гэтай перапіскі — я ім выказаў сваю думку падаць Амэрыканцам 3-ры кандыдатуры ў наступнай градацыі.

1-м Дудзіцкага (ён згаджаецца, і па думцы Тумаша і Адамовіча ён мог-бы рэвалізаваць з Кахаоўскім). 2-м Кунцэвіча — і толькі 3-м Грыцука.

Дудзіцкі ў Веніцуэле, але пакольні амэрыканцы хацелі-б “савецкага”, можна было-б разьлічаць, што на яго згодзяцца ў першую чаргу.

Надоечы атрымаў ліст ад Адамовіча і Тумаша. Першы пішыць мне, што ён, Адамовіч, і Тумаш згодны з тым, каб 1-м падаваць Дудзіцкага — але Кунцэвіча кандыдатура выключаецца (шмат прычынаў, аб якіх можна гутарыць вусна). Адамовіч таму быў у Дрэгэра[76] і падаў яму

---

[74] **Спірыдон Доўгаль** (укр. *Спиридон Довгаль*, 1896—1975), украінскі палітычны дзеяч, навуковец, эканаміст, дацэнт Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах. Сябра ЦК Украінскай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, удзельнік ураду УНР у выгнаньні (у 1954 і 1969—1972 гг. кіраўнік гэтага ўраду), у 1966—1967 і 1972—1975 гг. старшыня УНРады. С. Доўгаль вучыўся ва Ўкраінскай гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах аднычасова зь Міколам Абрамчыкам (закончыў на год пазьней).

[75] Маецца на ўвазе Раіса Жук-Грышкевіч.

[76] Маецца на ўвазе **Робэрт Дрэер** (анг. *Robert Dreher*), службовец ЦРУ, які працаваў у Мюнхене.

2-ве кандыдатуры — Дудзіцкага і Грыцука. За Дудзіцкага яны схапіліся і будуць ад яго прасіць скрыптаў.

Разам з гэтым Адамовіч мяне інфармуе, што Дрэгер пісаў Каханоўскаму, але той нат' не адказаў яму. Гэта без надзейная справа. Апроч таго, Камітэт угаворывае Паланевіча, але той не згаджаецца. Была мова пра Сядуру, але, пішыць Адамовіч, што гэта "нехта" падаў з Мюнхэну. Амэрыканцы ў *NY* аднак самі яго трактуюць не падыходзячым, таму Адам[овіч] лічыць, не было патрэбы і пратэставаць, хоць ён і выказаўся, што мы-б усёроўна на яго не згадзіліся, не выказваўся і ў справе Паланевіча, паколькі, як пішыць Адамовіч, ён (Пал[аневіч]) ні ў якім выпадку не згодзіцца. Не згаджаецца і Гуткоўскі. Таму эвэнтуальна могуць абмяркоўвацца 2-е кандыдатуры — Дудзіцкі як зусім адпаведны і нам і Ам[эрыканцам], і Грыцук як у крайняй бязвыходнай сытуацыі.

Я ня ведаю, ці ёсьць цяпер сэнс падаваць гэтыя кандыдатуры Вільямсу, паколькі па-мойму даручаньню Тумаш і Адамовіч ужо іх падалі ў *N[ew] York*у. Калі ты ўважаеш патрэбным, то паінфармуй яго (Вільямса). Аб рэшце пагутарым, як прыеду (30 верасьня).

У мяне ў хаце ўсё ў парадку. Ніна мае шмат клопатаў, Альгэрд[77] расьце мілы хлопчык, не плача ніколі, больш сьмяецца і "гутарыць" сам з сабой, пробуе ўжо поўзаць і в[ельмі] любіць гэты спорт, хоць в[ельмі] цяжка яшчэ ў яго гэта ўдаецца. Заўтра еду на 2—3 дні ў Лювэн.

Прывітаньне Раісцы і ўсім хлапцам.

[Подпіс Міколы Абрамчыка]

*Villepinte, 10.7.68.*

Пару словаў да цябе асабіста, Вінцук, (не для "пратаколу").

Хачу, каб ты добра быў зарыентаваны, што сама з сябе сёньня прадстаўляе бел[аруская] радакцыя і як яе можна аздаравіць.

Вось-жа з адходам Цьвіркі[78] цяпер такі склад: Сяднёў як прыняты на мейсца пакойнага Сыча[79] — заступніка гал[оўнага] радактара цяпер і выконывае, быццам часова (?), функцыю гал[оўнага] радактара.

---

[77] Маецца на ўвазе **Альгерд Абрамчык** (нар. 1955), сын Міколы Абрамчыка.

[78] **Уладзімер Цьвірка** (да эмігр. **Вадзім Сурко,** 1928—1992), журналіст. Сябра "Дванаццаткі". Браў актыўны ўдзел у выданьні часопісу "Наперад!". У 1950—1954 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце. Ад 1954 г. працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне / Свабода".

[79] **Пётра Сыч** (1912—1964), літаратар, журналіст. Жыў у Мюнхене. Быў галоўным рэдактарам сатырычнага часопіса "Шарсьцень", супрацоўнічаў з газэтай "Бацькаўшчына". Ад 1954 г. намесьнік галоўнага рэдактара беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне / Свабода".

Казак і Сенькоўскі[80] — рэдактары, Блажэвіч[81] — тэхнічны працаўнік (на места пакойнай Барбары[82]), Чайкоўская[83] ніто перапісчыца, ніто "экспэдытарка" і дзьве даходные (не кадравые) сьпікеркі (адна зь іх жонка Сяднёва). З нашых (пра бэнээраўскіх) людзей з радактароў толькі адзін Сенькоўскі, затым Чайкоўская і нейтральная тая другая сьпікерша (забыўся яе прозьвішча).

Казак гэта проста такая мізэра. Падхаліма Гэруса[84] ў 100 %. Пакуль ён быў адзін, калі жыў Марговіч[85], то супраць 3-х (Цьвіркі, Сенькоўскага і Марговіча) ён ня рыпаўся. Цяпер з гэтым чалавекам немагчыма і гутарыць. Блажэвіч сядзіць ціха, але-ж ён стаўленьнік Гэруса. Зрэшты, і на працу прыходзіць рэдка — найбольш "хварэе" (?). Па саставу радакцыі не хватае 3-х (цяпер) радактароў (на места Марговіча, Цьвіркі і аднога як папаўненьне, згодна пастановам канфэрэнцыі, усім радакцыям наагул).

Сяднёў? Як табе ўжо казаў, у ім моцна разчараваўся Адамовіч і хочыць яго "гнаць". А чаму? Адамовіч ды й Запруднік перакананые, што ў "моўнай" справе Сяднёў падтрымліваў Гэруса.

Маё ўражаньне аб Сяднёву. Чалавек гэта безумоўна хісткі. Гэта чалавек з псыхікай савецкіх канцэнтрацыйных лягэраў. Прыехаў-бы

---

[80] **Юры Сяньkоўскі** (1926—1995), грамадзкі дзеяч, журналіст. У 1950—1956 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце на эканамічным факультэце. Па заканчэньні ўнівэрсытэту пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне / Свабода".

[81] **Блажэвіч**, беларус паводле паходжаньня, які выступаў як латыш, супрацоўнік беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне / Свабода", вакол зьяўлення якога ў 1967 г. адбыўся сур'ёзны канфлікт паміж Міколам Абрамчыкам і кіраўніцтвам радыё. Гл. пра гэта: Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам, Старшынём Рады БНР (1953—1969) // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 320—321.

[82] **Барбара Вержбаловіч** (1901—1967), сьпявачка, актрыса, працавала машыніcткай у беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне / Свабода". Памерла ад траўмаў, атрыманых у аўтакатастрофе.

[83] Відаць, маецца на ўвазе жонка мастака Зьмітра Чайкоўскага.

[84] **Мікола Герус** (раней Дончанка), украінец, які працаваў рэпартэрам у Нью-Ёрку ва ўкраінскай рэдакцыі Радыё "Свабода" й адначасна заступнікам Густава Бурбеля, загадчыка аддзелу нерасейскіх рэдакцый. У першай палове 1960-х гг. яго перавялі ў Мюнхен на пасаду дарадніка ўкраінскай і беларускай рэдакцый Радыё "Свабода".

[85] **Алесь Марговіч** (1927—1967), журналіст, грамадзкі дзеяч, выдавец. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У Міхельсдорфе заснаваў выдавецтва "Крыніца", дзе выходзіў часопіс "Напагатове!". Сябра "Дванаццаткі". Ад 1950 г. вучыўся ў Лювэне. Закончыў факультэт паліталёгіі й сацыялёгіі Лювэнскага ўнівэрсытэту. Працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене і ў беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне / Свабода".

Сяднёў да нас гады 3-ры таму, калі радакцыя была поўнасьцю ў нашых руках — быў-бы 100 % наш. Ад зарубежжа ён даўно[86] адыйшоў і выразна дэманстраваў сымпатыі да нас (супрацоўнічаў з "Бацькаўшчынай", пасылаў на яе грошы і т. п.), але калі прыехаў у час, дзе пабачыў, што ў радакцыі не наша "ўласьць", а Гэрусава — ён *"прытуліў свае вушы"* і, без сумліву, з патайна прылабудоўваецца да начальства. Гэтага я, да рэчы, і в[ельмі] баяўся, чаму і быў проціў, каб ён прыежджаў у час, калі ў нас не закончана барадзьба з гэным хуліганам Гэрусам.

Адамовічава ідэя — гнаць яго цяпер — ня толькі што наіўная, безнадзейная справа, а й справа такая, што замест пагнаць Сяднёва — адгонім ад сябе і то на безпаваротна ўсю бел[арускую] радакцыю. А чаму?

1. Тые матывы, якіе мае ўжыць Адамовіч з Запруднікам (палітычные) — зь імі я азнаёміўся — не маюць ніякай цаны (зрэшты, я ў прынцыпе проці такога мэтаду).

2. Як гэта нарэшце і выглядала-б, як на гэта-б паглядзелі амэрыканцы. Каля паўтара году таму Запруднік уладзіў (у *NY*) Сяднёву інтэрвію (для перадачы ў Радыё Свабода). Разрэклямавалі паэта-патрыёту — аж божа як! Тут-жа Запруднік даў запоўніць анкету яму на працу. Анкету гэтую перадалі ў пэрсанальны аддзел Ам[эрыканскага] Кам[ітэту] у *NY*. З *NY* перaслалі ў Мюнхэн Гэрусу. Гэрус паляцеў да Сяднёва ў Таксас[87]. Цьвірка, Сенькоўскі ў Мюнхэне, Адамовіч і Запруднік у *NY* далі як найлепшую яму апінію. Пры выезьдзе з *NY* Сяднёву з жонкай у Інстытуце Тумаш уладзіў банкет, накруцілі фільм — проста гістарычная нейкая падзея, а... за пару месяцаў — гонім! Куды? Толькі ў зарубежжа. Для амэрыканцаў наагул, не толькі для Гэруса — Сяднёў в[ельмі] цэнны супрацоўнік. Ужо зь першых дзён яго прыезду яго плянавалі замяніць на Цьвірку. Мне вельмі добра ведама гэтые (Амэрыканцаў уключна са Скотам[88] меркаваньні, як яшчэ лепш гэта ведама Адамовічу). І калі-б тады Амэрыканцы фармальна паставілі гэта справу — нам-бы ніяк не ўдалося абараніць (у гэтай замене г. зн. Сяднёва на гал[оўнага] рад[актара], а Цьвірку на заступніка) Цьвірку, бо Сяднёў у ваўсіх адносінах, як інтэлектуальным, так нават не да параўнаньня, але паколькі гэта не фармальна, а так як-бы прыватна ў мяне пыталіся — я адказаў, пачакаем... а разам-жа з гэтым Сяднёву я даў зразумець (тады ў першым зь ім знаёмстве), каб ён не гнаўся на шэфства, у выпадку-б яму прапанавалі Амэрыканцы, на што ён адразу згадзіўся і запэўніў мяне, што ён ніколі гэтага не зробіць, што хочыць, каб праца ішла дружна і т. п.

---

[86] Маецца на ўвазе, што пэўны час Масей Сяднёў быў у шэрагах прыхільнікаў БЦР на эміграцыі.

[87] **Таксас** (ад анг. *Texas*) — штат Тэхас.

[88] **Уолтэр Скот** (анг. *Walter K. Scott*), дырэктар Радыё "Свабода" ў Мюнхене каля 1965—1975 гг., былы дыплямат.

Цяпер-жа, падчас майго апошняга побыту, я меў двойчы зь ім спатканьні. Мне ведама было, што Амэрыканцы цяпер начы й не мяркуюць, як пакінуць Сяднёва гал[оўным] радактарам. Для іх (Амэр[ыканцаў]) цяпер праблема падшукаць тых 3-х радак[тараў] для папаўненьня бел[арускай] радакцыі. Ведама мне было, што яны ўжо і шукалі іх — пры помачы Сяднёва. Сяднёў нат і прызнаўся мне, што ён і падаў быў такіх кандыдатаў: Каханоўскага, Клішэвіча[89], Попку[90], Даніловіча (гэты апошні паэт з Саўт Рывэру псэўд[анім] Кавыль[91]) і Сельвановіча[92].

Праўда, пачуў ён (Сяднёў) сябе пры гэтым не зручна трохі, але апраўдваўся тым, што і Цьвірка аб гэтым ведаў, *"бо як-жа? — Амэрыканцы дамагаліся — трэба было каго назваць"*. Каханоўскі —адмовіўся, Попка зусім не граматны, адразу адкінулі, а тых рэшту — Амэрыканцы не надта ахотна бяруць з Амэрыкі, бо за дорага яны каштуюць.

Жаліўся пры гэтым, што Адамовіч з Запруднікам несправядліва яго віняць за супалку (у мове) з Гэрусам, а цяпер ён вычувае, што проці яго вядзецца "выробленьне" апініі ў беларускім грамадзтве...

Я яму даваў раду: што "апінія" супраць яго можа вырабіцца ў беларускім грамадзтве сама сабой, без усякай з чыісьць боку накіраванасьці, пакуль сілай абставінаў ён (Сяднёў) змушаны так будзе салідарызавацца з Гэрусам. За пабегчы ён аднак можа гэтаму ў такі спосаб: 1. ні ў якім выпадку <u>не згаджацца</u> прыняць <u>становішча</u> галоўнага радактара на прапанову (аднабаковую) Амэрыканцаў, а заставацца ў ролі <u>часова</u> выконваючага абавяскі гал[оўнага] радактара. Функцыю гэту (гал[оўнага] рад[актара]) прыняць толькі тагды, калі-б яму запрапанавалі мы.

2. Кандыдатаў для папаўненьня бел[арускай] радакцыі ніякім чынам <u>не</u> падаваць раней самому, пакуль гэта ня будзе ўзгоднена з намі, эвэнтуальна з Адамовічам і Запруднікам (як табе ведама, я летась <u>змушаны</u> быў гэтак заявіць на "кантактнай камісіі" — што я, асабіста, не займаюся больш шуканьнем кандыдатаў у бел[арускую] радак[цыю], таму што Сяднёў ужо быў на параплаве. Я тады сказаў з тае прычыны, што я хворы — даручыў гэту справу Радзе БНР у Н[ью] Ё[рку] — эвэнтуальна Адамовічу і Запрудніку).

Сяднёў з гэтым згадзіўся адразу і абяцаў усё узгодніваць з Адам[овічам] і Зап[руднікам]. Ён толькі зноў-жа моцна на іх жаліўся, асабліва на Запрудніка, які яго "абразіў" нат' у сваім лісьце, чаму ён (Сяднёў) нат хацеў адаслаць тыя падаркі, якія яму з жонкай далі ў Інстытуце падчас банкету і аб якіх яму "вытыкнуў" Запруднік (нейкіх слонеў). Але ён згодны, каб далей дружна супрацоўнічаць.

---

[89] Маецца на ўвазе пісьменьнік Уладзімер Клішэвіч.

[90] Маецца на ўвазе Юры Попка.

[91] Мікола Абрамчык блытае. Псэўданім Антона Даніловіча быў Янка Золак.

[92] Маецца на ўвазе Мікола Сільвановіч.

Бачыш, Вінцук, верыць ці ня верыць шчырасьці ягоным заявам, але пры сучаснай сытуацыі зь ім (Сяднёвым) паступаць ніяк нельга, бо, паўтараю, яго "выгнаць" зь бел[арускай] радакцыі нікому не ўдасца. Гіцкага[93] мы гналі амаль 3-ы гады, пакуль выгналі, а Сяднёвым пры сучасных абставінах і за 10-гадоў ня выгнаць. Трэба таму хоць у такі спосаб ладзіць зь ім, пакуль ня вытурым Гэруса. Вытурым апошняга — Сяднёў будзе зусім лёяльным і да нас. Накшага выхаду няма. З рэшты і знайсьці кандыдата на гал[оўнага] радактара, які-б мог канкураваць зь Сяднёвым (у вачох Амэрыканцаў) мы не знойдзем. Хіба-б згадзіўся на гэта Запруднік, але-ж мне ведама, што Запруднік зь Нью Ёрку не паедзе. Папрабуйце з Адамовічам яго ўгаварыць.

Тымчасам хопіць. Выбач, што так накрэмзаў, в[ельмі] сьпяшаўся, каб здаць на пошту. Еду да Грузінаў, у іх замак (30 кілём[этраў] на другім баку Парыжу). Запрасіў мяне туды Цынцадзэ на абед. Там будуць нейкіе грузінскіе госьці — і той нат знаёмы Амэрыкана.

Прывітаньні Раісцы.

[Подпіс Міколы Абрамчыка]

11.4.69

Дарагі Мікола,

Дзякую за твой ліст, камунікат і інфармацыі. Цяпер буду чакаць толькі на твае далейшыя сугэстыі адносна паседжаньня Прэзыд[ыюму] Рады. Паводле твайго ліста ты ўжо мусіш быць дома й хіба што пасьпяшыш выслаць абяцаны ліст. Добра, каб прыслаў таксама здымак ці адбітку тастамэнту З[ахаркі][94]. Ужо добра, што прыслаў копію, але, баюся, што ёю няверуючым тамашом носа не падатрэш, бо заверана яна табой-жа.

Мы выяжджаем з Раісай у сераду 16 крас[авіка] аўтобусам, бо думаем заехацца да Наталкі[95] ў Рачэстар. У Н[ью] Ё[рку] думаем быць у пятніцу вечарам (17.4). Затрымаемся ў Валодзі Русака[96], адрас якога падаю ніжэй.

---

[93] **Гіцкі** — прозьвішча Ўладзімера Дудзіцкага на эміграцыі.

[94] Маецца на ўвазе тастамэнт Васіля Захаркі 1943 г., паводле якога ён перадаваў свае паўнамоцтвы прэзыдэнта БНР разам зь пячаткаю й архівам Міколу Абрамчыку.

[95] Маецца на ўвазе Натальля Арсеньнева, якая ў той час жыла ў сына ў Рочэстэры (штат Нью-Ёрк).

[96] **Уладзімер Русак** (1913—2009), грамадзкі дзеяч. У 1935 г. закончыў Віленскую тэхнічную школу, потым школу падхаружых у Зэмбраве. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у францускай зоне акупацыі, у лягеры *DP* Шляйсгайм. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Сябра БАЗА, радны БНР.

Адначасна паведамляю Васіля Русака[97], каб ён склікаў паседжаньне на суботу — 19 г[этага] м[есяца]. У Н[ью] Ё[рку] я думаю пабыць штонайменш тыдзень.

Жадаем Вам усім траім усяго найлепшага!

Абыймаем вас, Раіса і Вінцук.

Вільпант, 20.4.69

В[ельмі] Паважаныя, дарагія,

Хачу яшчэ дадаць дзе-што Вам да сваіх папярэдніх лістоў, што пісаліся сьпехам (ізь Мюнхэну, і з Парыжу). Больш дакладней аб справе зь бел[арускай] сэкцыяй у радыя "С[вабода]". З далучанай тут перапіскі выразьней сабе прадставіце тамтэйшую сытуацыю. Трэба вам яшчэ узяць той ліст "Нікшы" ў сп. Запрудніка, хоць і па цытатах Сенькоўскага досыць зразумела. Цяпер некалькі і маіх зацемак, а потым што я намераны рабіць у гэтай справе ды што-б вам раіў зрабіць выкарыстоўваючы пабыт у Н[ью] Ё[рку] Д-ра Жука.

У мяне ўражаньне: чытаючы ліст "Нікшы" (безумоўна гэта выдуманы "карэспандэнт" чэкістамі), пераданы бел[арускай] радакцыяй без каментароў, задаеш сабе пытаньне: ці запраўды гэны Гэрус толькі так сабе, проста дурань, а не сьвядомы бальшавіцкі агэнт, які разпаясываецца што раз то вальней, вычуваючы што акружэньне яго (начальства яго) дурні, або і сярод тых "дурняў" сядзіць яшчэ хітрэйшы за Гэруса бальшавіцкі агэнт. Сенькоўскі правільна скамантаваў гэную перадачу радыям "Св[абода]". Але-ж якая была рэакцыя на мэморандум Сен[ькоўскага]? Вельмі цікава. Найперш сярод усей адміністрацыі падняўся перапалох. Шукалі хто супольнік Сенькоўскага? Хто гэта *"падрыхтовывае міну"* пад іх... і т. д., бо запраўды С[янькоўскі] стукнуў моцна, ды досыць па "чулым" мейсцы. Ня буду аналізаваць тут адказу Ван Дер Рора[98], самі лепш за мяне гэта зробіце. Адзначу хіба, што на маю думку адказ гэты ня столькі ад Ван Дэр Рора, колькі ад Така[99]. Пісаў-бы Ван Дэр Р[ор] сам, пастыдаўся-б усё-ж такі ўдакументаваць такую яскрава прабальшавіцкую пляцформу радыя "Свабода", бо В[ан] Дэр Р[ор] усё-ж такі не такі тупіца, як Так. Да таго ў адказе гэным маюцца чысьцюсенькія "пёрлышкі" высказаў Така, якіе калісь мы чулі ад

---

97 **Васіль Русак** (1923—2000), грамадзкі дзеяч. Ад 1950-х гг. жыў у Нью-Джэрзі, уваходзіў у кіраўніцтва Нью-Джэрзійскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, быў актывістам БАПЦ, радным БНР.

98 Маецца на ўвазе **Эдвард Ван Дэр Рор** (анг. *Edward Van Der Rhoer*), дырэктар палітычнага аддзелу Радыё "Свабода".

99 **Робэрт Так** (анг. *Robert L. Tuck*), службовец Амэрыканскага камітэту вызваленьня, пэўны час быў дырэктарам праграмнага аддзелу Радыё "Свабода".

яго на паседжаньнях К[амітэту] "*як госьць у гасьціннай хазяіна*" ці "*каб не страціць слухача з аўдыторыі кам[уністычнай] эліты*" і т[аму] пад[обнае]. Дык вось і схапіліся за "Нікшу", а каб яго "ня страціць", дык нат апладыруюць яму, што ён (Нікша) правільна зразумеў іх (радыёвы) лёзунг з Купалавага вершу: "*За Свабоду сваю ўсёй душой пастаю*"[100]. Нікша моцна падкрэсьлівае разуменьне "СВАЕ" свабоды і што "пастаяць" за яе ён паказвае свой "кулак", калі-б яму нехта прапанаваў іншую "свабоду", а "нашы" з радыя яму... "*Брава, Нікша відаць зьяўляецца нашым слухачом і мае на ўвазе наш заклік*" (зь верша Я[нкі] К[упалы]). Так што і Купалу ў падпор "Нікшу". Дык ці-ж не паскуднікі яшчэ да ўсяго тага...

Як я тут намерываюся рэагаваць? Ні ў якім разе, зразумела, не пакінуць гэта ў спакоі. Ліст В[ан] Дэр Р[ора], на жаль, выкарыстаць проста, каб яго можна было цытаваць, тымчасам нельга, бо гэтым-бы адразу падставілі пад "агонь" Сенькоўскага за "дывульгацыю" хатняадміністратыўных "сакрэтаў". Але 7-га траўня, як вам ведама, маю быць у Мюнхэне (сустрэча К[аардынацыйнага] К[амітэту] з Пачам[101], а потым, праўдападобна, паседжаньне К[аардынацыйнага] К[амітэту] з Скотам і Сосіным[102]). Перад гэтым маю зайсьціся да Ван Дер Р[ора] і як Дырэктару "Програм полысі"[103] паставіць пытаньне — чаму беларускія перадачы зьведзены на прапагандова-бальшавіцкі напрамак. Пачну з папулярызацыі Леніна, што ставяць яны нам за наш палітычны ідэал, а потым ліст "Нікшы" як пашквіль на беларускую эміграцыю. Гэты апошні я маю, як і вы, у камплекце скрыптаў, што мне таксама прысылаюць з радыя. Змагу таму яго камэнтаваць яшчэ больш глыбей, чым гэта рабіў С[янькоўскі]. Не сумневаюся, што В[ан] Дер Р[ор] адкажыць мне прыблізна так, як ён ужо адказаў. Я зрэфэрую затым усю справу К[аардынацыйнага] К[амітэту] і спадзяюся, што К[аардынацыйны] К[амітэт] згодзіцца справу гэту фармальна паставіць на парадак дня пры паседжаньні з Скотам і Сосіным. Калі-ж бы Скот і Сосін выказалі салідарнасьць з такой лініяй радыя або прынамся намагаліся прытаптаць гэта неяк, распрацуем тагды мэморандум ад К[аардынацыйнага]

[100] Маецца на ўвазе верш Янкі Купалы "За свабоду сваю" (1911).

[101] **Айзек Пэтч** (анг. *Isaac Patch*), амэрыканскі дыплямат, які працаваў у Маскве й Празе. На пачатку 1950-х гг. стаў палітычным каардынатарам Амэрыканскага камітэту вызваленьня ад бальшавізму. Ягонай задачай было наладзіць супрацу расейскіх і нерасейскіх прадстаўнікоў у камітэце.

[102] **Джын Сосын** (анг. *Gene Sosin*), саветоляг, які працаваў у праграмным аддзеле Радыё "Свабода". Аўтар кнігі ўспамінаў (*Sparks of Liberty. An Insider's Memoir of Radio Libery. The Pennsylvania State Univerity Press, University Park, Pennsylvania, 1999. — 313 p.*).

[103] ***Program policy*** (анг.) — тут: праграмны аддзел Радыё "Свабода".

К[амітэту] у Н[ью] Ёрк з копіямі адпаведным чыньнікам, прадставіўшы ўсё, у цэласьці, як іх "ідэолёгічныя", гэтак і хуліганскія ўсе фокусы з Такам-Гэрусам на чале.

Што-ж бы вам раіў цяпер зрабіць у гэтым напрамку у Н[ью] Ёрку? Па-мойму, было-б в[ельмі] важна, каб ад імя прэзыдыюма Рады, на чале з Др-ам Ж[ук]-Грышкевічам у складзе 2-х ці прынамся яшчэ аднаго сябры [*закрэсьлена*] зрабіць Саржанту[104] "Дэмарш". Па форме можа такі "дэмарш амікаль[105]", але пакінуць на паперы "Эд Мэмуар"[106].

Пры ўступе, вусна, варта адзначыць, што ў вас была сэсыя Прэзыдыума Рады, дыскутавалася праблема нашых узаемадачыненьняў з А[мэрыканскім] К[амітэтам]. Што хочыце шчыра, нічога не хаваючы яму як Прэзыдэнту Кам[ітэту] выказаць усё, што нам баліць... Прыпомніць адразу, што Др. Жук быў першым шэфам белар[ускай] сэкцыі радыя, прыпомніць усе тые труднасьці, што меліся на пачатку адносна супрацоўніцтва з А[мэрыканскім] К[амітэт]ам наагул (што бальшыня не расейскіх народаў наагул байкатавала А[мэрыканскі] К[амітэт] за яго палітычную лінію, аб пашквілях на нас з боку ўкраінскіх "нацыяналістых" за нашу "зраду"... за наша "праданьне" за даляры і т. п.). Што Вам, Жук-Грышкевічу, удалося зарганізаваць беларускія перадачы і ў такіх умовах. Агульна было прызнана, што беларускія перадачы, цягам больш 10-ці год стаялі на першым мейсцы па свайму ўзроўню сярод усіх нерасейскіх сэкцыяў, а заўсёгды вышэй за ўкраінскія. Разбурэньне працы бел[арускай] радакцыі адразу пачалося з прыезду Гэруса. Трэба прыпомніць, што Гэрус, яшчэ будучы ў Нямеччыне з сваім бацькам (Дончэнкам, як эмігранты Дончанкі) былі найбліжэйшымі супрацоўнікамі ўкраінскай групы на чале з Багранымі[107]. У сваім органе-часапісе *"Украінскі Вісти"*[108]яны засыпалі пашквілямі Раду БНР за яе супрацоўніцтва з А[мэрыканскім] К[амітэтам]. Арганіза-

---

[104] **Хоўланд Сарджант** (анг. *Howland H. Sargeant,* 1911—?), амэрыканскі палітычны дзеяч, у адміністрацыі Гары Трумана быў памочнікам дзяржсакратара па грамадзкіх справах (1952—1953). У 1954 г. быў прызначаны на пасаду старшыні Амэрыканскага камітэту вызваленьня ад бальшавізму.

[105] ***Amical*** (фр.) — сяброўскі, прыязны.

[106] **Эд мэмуар** (ад фр. *aide memoire*) — памятная нататка.

[107] **Іван Баграны** (укр. *Іван Багряний*, 1907—1963), украінскі паэт, празаік, публіцыст, палітычны дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў на эміграцыі ў Нямеччыне, заснаваў Украінскую рэвалюцыйна-дэмакратычную партыю, быў кіраўніком выканаўчага органу Ўкраінскай Нацыянальнай Рады, намесьнікам прэзыдэнта УНР.

[108] **"Українські вісті"** — украінская штотыднёвая газэта, якая выходзіла ад 1945 г. у Нямеччыне (потым, ад 1978 г., у ЗША), орган Украінскай рэвалюцыйна-дэмакратычнай партыі. Ад 1948 г. рэдактарам быў літаратуразнаўца

валі дывэрсыю супроць Рады БНР, мабілізуючы скампрамітаваны ў бел[арускім] грамацтве бел[арускі] элемэнт, выдаючы ім пашквільны лісток у беларускай мове "Беларускае слова"[109]. Малады Дончанка, цяпер Гэрус, прыехаўшы ў Мюнхэн, ня толькі не хаваўся, што належаў да варожай беларусам акцыі Багранога, а нат хваліўся, што ўважае Багранога сваім настаўнікам і духовым бацькам. Ужо за адно гэта недапушчальна, каб Гэрусу падпарадковываць у адміністратыўную залежнасьць беларусаў.

У першым спатканьні зь беларускай сэкцыяй адразу праздрадзіўся у сваіх намерах: разганяць здальнейшых супрацоўнікаў і набіраць на іх мейсца не па прызнацы адпаведных кваліфікацыяў, а абы каго толькі не прыхільнікаў Рады БНР. Ён груба абразіў аднаго з найздальнейшых і аднаго з найпрадуктыўнейшых супрацоўнікаў бел[арускай] сэкцыі П[ётру] Сыча, што да прыходу Гэруса працягам 10-ці год выклікаў, ня толькі ў беларусаў, адно адмірацыю[110]. Сыч быў в[ельмі] чулы, з кволай шляхэтнай душой. Абразу гэту ён не перанёс. Пайшоў на другі дзень у шпіталь і там-жа на другі дзень у загадкавых абставінах памёр[111]. Кабыш[112] і Урбан[113], ня зносячы грубіянства гэтага хулігана па 10 гадох свайго супрацоўніцтва з рад[ыё] "С[вабода]", адмовіліся ад усякага кантакту з Гэрусам (трэба вам ведаць, што Кабыш атрымаў ад Саржанта асаблівае прызнаньне, падзяку і нагароду за яго адну стацьцю па с[ельскай]-гаспадарцы СССР). Не прыняў на працу ў Бел[арускую] радакцыю маладога, але праявіўшага сябе в[ельмі] здольным скрыптарам Сянькевіча[114] (Сянькевіч за 90 дзён напісаў 80 скрыптаў, Гэрус затым

Юры Лаўрыненка (1905—1987). У 1940—1960-я гг. газэта падтрымлівала УНРаду.

[109] Першыя чатыры нумары "Беларускага Слова" сапраўды выдаваліся як дадатак да ўкраінскай газэты "Українські вісті", а далей з № 4 (5) ад 25 сакавіка 1949 г. газэта стала самастойным выданьнем.

[110] **Адмірацыя** (ад фр. *admiration*) — захапленьне.

[111] Пётра Сыч памёр у Мюнхене 20 чэрвеня 1964 г.

[112] Маецца на ўвазе Сымон Кабыш-Кандыбовіч.

[113] **Павал Урбан** (1924—2011), гісторык, грамадзкі дзеяч. Сябра "Дванаццаткі". Закончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці "гісторыя", абараніў дысэртацыю пра дзейнасьць вялікага князя літоўскага й польскага караля Аляксандра. Працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене, потым у беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода".

[114] **Віктар Сянькевіч** (1926—2017), грамадзкі дзеяч, гісторык, журналіст. У 1958 г. закончыў філязофскі факультэт Мадрыдзкага ўнівэрсытэту, абараніў дысэртацыю "Пачаткі Княства Літоўскага". У 1958—1961 гг. працаваў у беларускай сэкцыі Нацыянальнага гішпанскага радыё. Супрацоўнічаў зь беларускай рэдакцыяй Радыё "Свабода" й Радыё Ватыкана. Напісаў каля

забараніў зьмяшчаць яго скрыпты) як *“палітычна не надзейнага”*, калі гэны *“паліт[ычна] ненадзейны”* працуе ў тэйсамай ам[эрыканскай] установе, толькі марнуючыся на тэхнічнай працы. (Адамовіч і Запруднік могуць яшчэ больш чаго дабавіць.)

Аб безадказным разбоі хулігана Г[еруса] разьнеслася па ўсёй бел[арускай] ды ня толькі беларускай эміграцыях. Зразумела, што ніхто цяпер з паважнейшых людзей на працу ў бел[арускую] сэкцыю ня хоча й слухаць. Наадварот, тыя, што працуюць, цяпер маюцца ўцячы кудысь, на іншую працу. Апошні фокус Г[еруса] пушчаны пашквіль Нікшы асабліва абурыў беларусаў. Падымаюцца галасы людзей беларускіх арганізацый — падняць акцыю публічных пратэстаў у беларускай прэсе і перад адпаведнымі амэрыканскімі чыньнікамі. Ува ўсіх цьвёрдае перакананьне, што разбой Г[еруса] ніяк нельга выясьніць як акцыяй сьвядомага бальшавіцкага агэнта.

Паводзінамі Г[еруса] абураны і спачуваюць беларусам усе нацыянальныя радакцыі Рад[ыё] “С[вабода]” уключна з Расейскай рад[акцыяй]. Г[ерус] стараецца запужываць служачых у рэдакцыі, разпускаючы “ў шэпкі” чуткі аб сабе і Таку, што яны прысланыя ў радыя *CIA*[115] і ніякаму іншаму начальству ў рад[ыё] “С[вабода]” не падпарадкаваны.

Г[еру]су ўдаецца ўводзіць у блуд адміністрацыю Р[адыё] С[вабода], дзякуючы не дастатковаму асьвядамленьню апошняй у справе беларускага вызвольнага змаганьня наагул.

Напр[ыклад]: Раду БНР ён прадстаўляе як “партыю” палітычную, чаму ён *“дзеля аб’ектыўнасьці”* намагаецца папоўніць супрацоўнікамі бел[арускую] сэкцыю зь *“іншых бел[арускіх] палітычных партыяў”,* фактычна-ж, каб гэтым апраўдаць набор таго элемэнту, які сваім удзелам адно даваў-бы падставы быць добрай мішэньню для бальшавікоў як людзей дэскрэдытаваных у беларускім народзе. Дарэчы Мр. Кэллі[116] не аднаразова гаварыў М[іколу] Абрамчыку ў прысутнасьці Цынцадзэ, што А[мэрыканскі] К[амітэ]т пры вывучэньні беларускай эміграцыі яшчэ ў пачатку прыступленьня да працы прыйшоў да выснаўку: што Амэрыканскі Камітэт мае супрацоўнічаць па лініі беларускай толькі з Радай БНР як арганізацыяй праверанай, дэмакратычнай, а ніякімі іншымі

дзьвюх тысячаў гутарак-артыкулаў “Гаварыў Язэп Барэйка”. Пісаў для беларускіх эміграцыйных пэрыёдыкаў “Зважай”, “Бацькаўшчына”, “Беларус”.

115 ***CIA — Central Intelligence Agency*** — Цэнтральнае разьведвальнае ўпраўленьне (ЦРУ).

116 **Робэрт Кэлі** (анг. *Robert F. Kelley*, 1894—1976), амэрыканскі палітычны дзеяч, колішні кіраўнік Усходнеэўрапейскага аддзелу ў ДзяржДэпартамэнце ЗША. У 1950—1970-я гг. кіраўнік Мюнхенскага аддзелу Амэрыканскага камітэту вызваленьня ад бальшавізму.

і што ў рукаводстве А[мэрыканскага] К[амітэту] у гэтай справе *“ляжыць гэтая інструкцыя на пісьме”* ў актах А[мэрыканскага] К[амітэ]та.

У бюры Раліса[117] яго памочнікам Аніным было падлічана, што на 78 атакаў у Сав[ецкай] прэсе і радыя ў 1968 годзе белар[ускае] радыя было мішэньню 25 разоў, або 32 процэнты. Г[ерус] у насьмешна, да цынізму над неасьведамленнасьцю А[мэрыканскай] Адміністрацыі ў беларускіх справах пераканаў іх, што гэта дзякуючы ягоным (Г[ерусавы]м) заслугам за “рэарганізаваную” ім працу бел[арускай] рад[акцыі] (Адамовічу пісалася на гэту тэму больш) дадаць трэба: яшчэ большая дыспрапорцыя бал[ьшавіцкіх] атакаў па адношаньні бел[арускай] палітэміграцыі. Прыпомніць “Квадрат 52”[118] новэля аб *“падрыхтовываным Абрамчыкам паўстаньні”* ў Сав[ецкай] Беларусі ў 1952—[19]56 гадох пашыраная ў Беларусі і замежамі “Па воўчых сьцежках”[119] і т. п. разпаўсюджываная ў мільёнах экз[эмпляраў] (перадрук у “Камсам[ольскай] Праўдзе” ды польскай прэсе).

Думаю, што маіх сугэстыяў хопіць (з майго боку). Варта выбачыцца за шчырасьць выкладзенага, але гэта вас змусіла сказаць усё яму (Сарджанту) дзеля таго, што гэта скандальная гісторыя непазьбежна прыме публічныя формы, што было-бы ня толькі не пажадана А[мэрыканскаму] К[амітэ]ту, а йшчэ больш нам, Радзе БНР, якая праз дзесятак гадоў паклала столькі высілкаў у супрацоўніцстве з А[мэрыканскім] К[амітэтам], давала адбой усім праціўнікам проці супрацоўніцтва з А[мэрыканскім] К[амітэтам], цяпер бы была змушана прызнацца публічна, што памылялася, бо фактычна мы ўжо поўнасьцю адсунуты ад удзелу ў спаўпрацы з А[мэрыканскім] К[амітэтам]. Але мы просім яго (Сардж[анта]) навесьці нарэсьце парадак і даць нам змогу далей гэтак-жа шчыра і гэтак-жа эфэктоўна як раней супрацоўнічаць з А[мэрыканскім] К[амітэтам].

Канкрэтна запрапанаваць:

1. Усунуць Г[еруса] дачыненьня да беларускай радакцыі.

2. Прыняць на працу ў беларускую Рад[акцыю] Сянькевіча (за палітычную надзейнасьць і лаяльнасьць да Ам[мэрыкі] мы даем усімі беларускімі арганізацыямі паўнейшую гарантыю як знаючага яго намі многімі з дзяцінства ды з баёў пад Монтэ Касіно). Будзе тагды нам ня цяжка папоўніць радакцыю і іншымі, адпаведна кваліфікаванымі людзьмі, бо вернецца даверра да А[мэрыканскага] К[амітэту].

---

117 **Макс Раліс** (анг. *Max Ralis*, 1916—1999), сацыёляг, доўгачасовы кіраўнік аддзелу, які займаўся вывучэньнем аўдыторыі Радыё “Вызваленьне / Свабода”.

118 **“Квадрат Б-52”** — савецкая аповесьць пра чатырох беларускіх дэсантнікаў, закінутых амэрыканцамі ў Беларусь у 1952 г. Выйшла ў Маскве ў 1957 г.

119 **“Па воўчых сцежках”** — дакумэнтальная аповесьць Макара Пасьлядовіча, прысьвечаная дэсанту Янкі Філістовіча й выдадзеная ў Менску ў 1958 г.

Мы не дамагаемся абавяскова суровага суду Г[ерусам] за яго так праступна руйнацкую нас працу. Пакуль А[мэрыканскі] К[амітэт] ня склонны верыць у яго агэнтурна бальшавіцкую працу, ня будзе затым А[мэрыканскаму] К[амітэту] цяжка перакінуць яго (Г[еруса]) на іншую працу ў Радыя, а на места адвайзэра для Бел[арускай] і Ўкр[аінскай] Рэдакцыі даць лаяльнага для белар[усаў] чалавека. Між іншага, можыце спаслацца на мяне, што аднойчы Мр. Скотт (Малады) што цяпер працуе ў расейскай рад[акцыі], казаў беларусам, што ахвотна-б згадзіўся працаваць з беларусамі. Тое самае казаў адвайзэр Татара-Башкірскай Рад[акцыі] Мр. Штумф[120], што памяняўся-б з Гэрусам.

Тымчасам бывайце здаровы, прывітаньне ўсім.

[Подпіс Міколы Абрамчыка]

5.6.69

Дарагі Вінцук,

Учора адправіла табе ад Міколы ліст на *Barry*[121]. Ведаю, што Ён зьбіраўся пісаць табе яшчэ сяньня на адрас Др. Сажыча[122], дзе Ён ведаў, што ты там будзеш. Мне ведама зь Яго настрояў, што Ён ня зусім быў задаволены з Вашай апошняй сэсіі ў Нью-Ёрку і ў асаблівасьці з твайго эдмэмуару. Меў Ён наагул шмат чаго дыскутаваць і аб сваіх плянах працы тут. Але вось раптоўныя зьмены. Прыйшлі аналізы з лабараторый, і яго лекар наш загадаў раптоўна і безадкладна адвесьці ў шпіталь на экстэрную раптоўную трансфузыю крыві. (Яму бракуе 3 мільёны чырвоных шарыкаў.)

Пішу гэта табе, каб ты, як і ўсе сябры Вашы, што там будуць разам, не разьлічалі на ніякія на яго больш лісты працягам 2-х месяцаў. Калі будзеце штось патрабаваць — пішэце да мяне.

Прывітаньні Раісы і ўсім, усім.

Ніна [Абрамчык]

Парыж, 17.6.69.

Др'у В[інцэнту] Жук-Грышкевічу, Віцэ-Старшыне Рады БНР

В[ельмі] П[аважаны] Спадар Доктар,

Заўтра маю быць падданы апэрацыі. Паводле дыягназу лекараў у шпіталі затрымаюся каля месяца часу. Буду затым адасланы дзесь у дом адпачынку. Да актыўнага жыцьця не змагу раней прыступіць як за 6 месяцаў.

---

[120] **Штумпф** — немец паводле паходжаньня, працаваў палітычным дараднікам у Радыё "Свабода" ў Мюнхене.

[121] Маецца на ўвазе **Бэры** (анг. *Barrie*) — горад у правінцыі Антарыё (Канада), дзе жылі Жук-Грышкевічы.

[122] Язэп Сажыч жыў у Дэтройце.

Прашу таму Вас прыступіць, згодна Статуту Рады БНР, да выкананьня абавяскаў Прэзыдэнта Рады БНР, да выконваньня абавяскаў прэзыдэнта БНР на гэты час ці эвэнтуальна прадоўжанага майго вакансу.

Жыве БНР.

М[ікола] Абрамчык

26.6.69.

Даражэнькія Ніна й Мікола,

Мы зь нецярпеньнем чакаем вестак пра вынікі апэрацыі Міколы, якая мела адбыцца тыдзень таму назад. Але тыдзень прайшоў, а весткі ніякай. Ня ведаем, ці непакоіцца, ці цешыцца, бо думаем, што калі-б было нешта трывожнае, то мы-б аб гэтым ужо ведалі-б.

Ліст Міколы з 17.6 я атрымаў. Усё прыняў да ведама. Згаджаюся, што аб С[яднёвым] можна было-б і не ўспамінаць, як не ўспамінаў я яго пры гутарцы з С[арджант]ам. Пераймаць абавязкі Міколы мне ня хочацца, хіба пакуль ён хворы. Я нікому аб гэтым яшчэ не гаварыў. Думаю, што няма ніякай патрэбы падаваць аб гэтым у газэце. Мікола паздаравее і ўсё стане зноў на сваё месца. Ня трэба яму цяпер, пакуль хворы, праймацца нашымі справамі і абавязкамі й думаць аб іх, мы кратаемся й што трэба робім. Сажыч прыняў сваё назначэньне ахвотна, складаюць сьпіскі вайскавікоў, вартых павышэньня ў чыне, і ён асабіста адведае ў пачатку ліпеня Арсеньневу, каб абмяркаваць зь ёю помнік плітку на магілку Гэн[эрала] Кушаля ад грамадзтва (помнік — каменны крыж паставіла ўжо сям'я) і дамовіцца аб даце адкрыцьця помніка.

Як Мікола так добра прадставіў а. Др-а Смаршчка[123] — мне прышла думка, ці ня варта было-б даручыць яму заступніцтва Міколы на час хваробы на Эўропу? Я ня ведаю, каму іншаму можна было-б гэта даручыць, але кагось там трэба знайсьці, бо мне дападаць і ў Эўропу будзе проста немагчыма, тым больш, што я ня знаю цяпер ані тамашніх спраў, ані людзей.

Чакаем зь нецярпеньнем вестак аб стане здароўя Міколы.

Цалуем вас усіх траіх — вашы [Жук-Грышкевічы]

---

[123] **Аўген Смаршчок** (1914—1984), сьвятар, пэдагог, перакладнік. У 1950 г. закончыў факультэт псыхалёгіі й філязофіі Філіпс-унівэрсытэту ў Марбургу. Зь верасьня 1950 г. высьвячаны на ярэя БАПЦ, пераехаў у Лювэн (Бэльгія) для абслугоўваньня рэлігійных патрэбаў мясцовых беларусаў, заклаў парафію БАПЦ. У 1955 г. закончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт з ступеньню магістра псыхалёгіі й філязофіі. У 1960-я гг. навучаўся ў Вольным інстытуце філялёгіі й гісторыі ўсходніх славянаў Брусэльскага ўнівэрсытэту, атрымаў ступень магістра славістыкі. У 1965—1980 гг. выкладаў расейскую мову ў Вышэйшай флямандзкай школе перакладнікаў у Антвэрпэне.

Бэльгія, у чэрвені 1969 г.

Вельмі паважаным Сп-ву Др. і Спадарыні Жук-Грышкевічам.

Выкліканы сьпешна, дня 10 чэрвеня, прыгатаваў я духоўна Сп. Прэз[ыдэнта] Міколу Абрамчыка да вельмі паважнай апэрацыі жывата. З огляду на перавязеньне хворага ў вялікую больніцу Сьв. Людовіка ў Парыжы, апэрацыя адбылася толькі 19 чэрвеня.

Цяпер ведама, што пасьля выпісаньня хворага з больніцы трэба прайсьці месячную курацыю ў доме дзеля рэконвалесцэнтаў[124].

Спадар Прэзыдэнт Абрамчык прасіў мяне зьвярнуцца да Вас з просьбай уключыцца актыўна дапамагчы ў вельмі цяжкой сытуацыі сям'і, ніяк не прыгатаванай на так вялікія кошты лячэньня.

Крытычны стан хваробы насьпеў за час апошніх 10 месяцаў пасьля нешчасьлівага выпадку злому нагі пры будове ў жніўні прошлага году. Выпадак гэты спрычыніў ня толькі вялікія выдаткі за лячэньне, але перадусім спыніў працу й стараньні дзеля забясьпячэньня матэрыяльнага: продажу будаванага дому.

Прашу Вас адклікнуцца максымальнай дапамогай (уключна з пазыкай) ды зрабіць магчымы ўплыў у асяродзьдзі беларускай эміграцыі на водгук салідарнасьці ў няшчасьці чалавека, катораму ўся беларуская палітычная эміграцыя маральна й нацыянальна забавязана ў высокай меры.

Прашу прабачэньня за эвэнтуальна памылковую транскрыпцыю Вашага прозьвішча ці недакладнасьці адрэсы, атрыманай ад Спадарыні Ніны Абрамчык у дні цяжкіх перажываньняў.

Хрысьціянскае й беларускае дзякуй за Ваш чулы воклік і за ўдзел у гэтай дапамаговай акцыі беларускай салідарнасьці.

З глыбокай пашанай й любоўю ў Хрысьце Госпадзе, Ваш а. Аўген Смаршчок.

P. S. Дарагі Прыяцель, Вам пэўна ведама ад др. Б[арыса] Рагулі ўся павага стану здароўя Сп. Прэзыдэнта.

*28.6.69, Villepinte.*

Сакрэтна — толькі Вам!

Пішу: Барысу [Рагулю], Набагезу[125],

---

[124] ***Rekonwalescencja*** (пол.) — выздараўленьне.

[125] **Уладзімер Набагез** (1919—2011), грамадзкі дзеяч, лекар. Пасьля Другой сусьветнай вайны вучыўся на мэдычным факультэце Марбурскага ўнівэрсытэту, пазьней перайшоў у Лювэнскі ўнівэрсытэт, які закончыў з дыплёмам доктара мэдыцыны. Сябра Беларускага студэнцкага таварыства. У 1956 г. перабраўся ў ЗША. Працаваў у нью-ёрскім шпіталі, пазьней распачаў прыватную практыку ў г. Уолдэн (штат Нью-Ёрк). Сябра БАЗА, у 1963—1968 гг. кіраўнік яго Нью-Ёрскага аддзелу.

Войтэнку[126] — Смаршчкам — больш ніхто не павінен знаць праўды — для рэшты — была апэрацыя жалудка — язва — прашла нармальна.

Даражэнькія Раіска і Вінцук,

Міколка вельмі, вельмі Вам дзякуе за прывітаньне і чэк. А також за Ваш так мілы ліст да мяне. Апрача Міколкавай хваробы маю розных клопатаў, зьвязаных з хваробай (галоўна адміністратыўныя і ня маю зь кім на'т і парадзіцца) — дабіваюся і сама.

Міколку апэравалі 19.6.69 (у чацьвер). Вынялі *"ennorme masse"*[127] — вельмі шмат, але лекар казаў (калі праўду) — што пячонка не занятая. Аналізы [*неразборліва*] яшчэ ня меў. Наагул быў вельмі пэсыміст, апрача надзеі — іншага нічога няма. Апэрацыю Міколка перанёс нармальна, бяз камплікацый. Ужо пачынаюць карміць. Кармілі 4 дні глюкозай праз жылы, паласкалі жалудак, улівалі кроў і г. д. Бедны ён, бедны, усе яго вэны папараны іголкамі, рукі папухлі, жаль глядзець. На месяц маюць пакласьці недзе ў дом адпачынку, ня ведаю, куды, бо яшчэ на'т ня была ў *"assistance"*[128] — ня маю ад асэкурацэлі яшчэ папераў патрэбных.

Надзеяюся — ня ведаю, на што — на цуд, бо і лекары гэтага чакаюць, кажуць, усё залежыць ад настрою хворага, ці працэс будзе ісьці (хваробы) павольна, у гэтым веку гэтая хвароба меней разьвіваецца. Ня ведаю, што пісаць, столькі думак у галаве. Цалую.

P. S. Алік здаў усе экзамены дасканала, цудоўна.

Ніна [Абрамчык].

4.7.69

Дарагая Нінка,

Твой ліст нас крыху падбадзёрыў. Гэта вельмі важна, што пячонка не закранута. Прыпадкова я гаварыў са сваім лекарам. Ён казаў, што ўсё-ж шмат новых сродкаў ёсьць супраць рака, якія калі ня вылечваюць, то стрымліваюць хваробу. У нас год таму адзін лекар захварэў на рака, кінуў практыку й зьбіраўся паміраць. Але прайшоў год часу, і ён настолькі паправіўся, што ўзнавіў практыку. Найважнейшае, каб хворы ня падаў на духу й чапляўся за жыцьцё. Дасьць Бог, Мікола паправіцца й будзе памаленьку тое сёе рабіць, каб не адчуваць пусткі. Ясна, трэба будзе ўважаць за сабой, быць бярэжлівым.

Між іншага, нашы ў Нью Ёрку праектуюць выдаць важнейшыя дакумэнты ў сувязі з 25-мі ўгодкамі Міколавага прэзыдэнцтва. Дзеля гэтага трэба было-б зрабіць мікрафільмы з архіву БНР. Я ня думаю, што ты гэтым можаш заняцца, асабліва цяпер. Але ўважаю, што як

---

[126] Маецца на ўвазе Віктар Войтанка-Васілеўскі.

[127] ***Énorme masse*** (фр.) — вялізная маса.

[128] ***Assistance*** (фр.) — дапамога. Тут маецца на ўвазе адмысловая служба дапамогі.

сытуацыя крыху паправіцца, можа Запруднік ці хто іншы прыедзе да вас і займецца гэтай справай. Варта было-б хоць частку дакумэнтаў зафіксаваць пры жыцьці Міколы. Як ты глядзіш на гэту справу? Можа, і зь Міколам пагаворыш аб гэтым, як дойдзе да сябе.

І мы цешымся з таго, што Алік здаў эгзамены дасканальна. У якую-ж клясу ён перайшоў і на якую спэцыяльнасьць хоча вучыцца? Мы не ар’ентуемся ў арганізацыі францускіх школаў.

У нас усё па-старому: шмат працы й розных справаў. У нядзелю мы былі на высьвячэньні Беларускага Цэнтру Адпачынку “Слуцак”. Раіса прастудзілася й мучыцца з болямі горла. Пакрысе працуе, хоць і з трудом, бо ня можа пакінуць распачатую работу ў пацыентаў. Чуецца перамучанай. Добра, што вікэнд ужо. Як адпачне, можа, лепш будзе чуцца. А тут і вакацыі не за гарамі. Мы думаем выехаць на тры тыдні 19-га гэтага месяца.

Шкада, што ты адзінокая цяпер і няма каму памагчы табе з рознымі справамі. Хоць бы з бліжэйшых знаёмых хто пад’ехаў з Англіі, Бэльгіі ці Нямеччыны. Хоць і цяжка сказаць, хто табе мог бы памагчы. Я, дзякаваць Богу, йшчэ трымаюся, хоць і са скрыпам. Бяда, што ў грамадзкай рабоце няма на каго надта абаперціся, і гэта мяне непакоіць больш за ўсё. Ну, але неяк будзе.

Вітай ад нас Міколу і пажадай яму хуткага выздараўленьня.

Цалуем вас моца, вашы Раіса і Вінцук.

4.7.69[129].

Дарагі Янка [Запруднік],

Дзякую Вам за ліст. Добра было-б, каб Вы пагутарылі з Войтэнкам, бо ён прыслаў мне другі ліст, з якога відаць, што ня хоча сходзіць са сваіх пазыцыяў і атакуе Лігу БНР. Гэтым ён здраджае сваю палітычную бязграматнасьць.

Я думаю, што якімсь чынам варта было-б пабачыцца зь Сяднёвым хоць бы дзеля таго, каб даведацца, чым ён дыхае. Цікава, хто яго заступае ў рэдакцыі радыя? Пры эвэнтуальнай гутарцы зь ім варта было-б спрабаваць пераканаць яго, што ягоная лінія адносна БНР в. шкодная для ўсёй нашай вызв. справе. Можна сказаць, што ўся наша эміграцыя супраць такой лініі.

Учора атрымаў ліст ад Нінкі. Апэрацыя Прэз[ыдэнта] А[брамчыка] адбылася 19.6 і прайшла нармальна. Ужо кормяць яго глюкозай. Лекары думаюць скіраваць яго на месяц у рэканвалесц[ыйны] дом. Кажуць, што ён слабы й далейшы лёс яго будзе залежаць ад яго сілы й

[129] Ліст быў надрукаваны ў: Гардзіенка, Натальля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР 1970—1982. Падзеі і дакументы. Мінск, 2014. С. 257—258. Але падаецца тут для лепшага разуменьня ліста Ніны Абрамчык ад 09.07.1969.

вытрымаласьці. Выглядае — калі й вернецца да сябе, дык гэта будзе няскора. Пра архіў БНР я ей напішу, але каб зрабіць мікрафільмы нехта мусіў бы паехаць да іх, я думаю, хіба што Вы, бо ніхто іншы гэтага ня зробіць, а ёй самой не да гэтага, жаліцца на навал розных справаў і фармалістыкі і яшто няма каму ёй памагчы. Я баюся яшчэ аднэй рэчы: каб крэдытары ня ўзьлезьлі на маёмасьць разам з архівамі.

Цешуся, што дысэртацыя Вам удалася й што хутка закончыце афармленьне дактарату. Я вельмі чакаю на гэта, каб Вы маглі папхнуць шмат якія справы. У першую чаргу "Інфармацыйны лісток". Шкада, што ён да гэтага часу ня выйшаў. У сэктарах наракаюць, што Рада БНР зноў нічога ня робіць, бо ня бачаць ніякіх наглядных вынікаў. Таму радныя ня хочуць плаціць сябр[оўскіх] складак, а некаторыя дамагаюцца нават справаздачаў. Трэба, каб "лісток" выйшаў як найхутчэй. Тады як я быў у Н[ью] Ё[рку] у Вас быў матар'ял, да яго яшчэ можна было-б дадаць актуальныя весткі: аб наданьні Прэз[ыдэнтам] А[брамчы]кам чыну палкоўніка Др-у Сажычу й прызначэньне яго на кіраўніка Аддзелу да Спраў Вэтэранаў у Сакратарыяце Рады БНР. Аб праэкце ўстанаўленьня вайскавікамі (быўшымі) і бел[арускім] грамадзтвам памятнай пліты на магіле сьв[ятой] п[амяці] Гэнэрала Францішка Кушаля і эвэнтуальным адкрыцьці яе й помніка ў кастрычніку г[этага] г[оду]. Магчыма, і Вы маеце штось новае дадаць. Калі Вы ня маеце магчымасьці заняцца гэтым "лістком", даручыце заняцца ім камусь іншаму. [...]

З прывітаньнямі Ваш В[інцэнт] Жук-Грышкевіч

8 ліпеня 1969 г.

Сп. В. Кажану, Скарбніку Рады БНР.

Вельмі Паважаны Спадару,

Як Вам ведама, у сувязі з цяжкой і зацяжной хваробай Прэз[ыдэнта] Абрамчыка сям'я ягоная апынулася ў цяжкой сытуацыі. Вы ведаеце хіба таксама, што ад даўжэйшага часу бліжэйшыя сябры й знаёмыя Прэзыдэнта памагалі яму выйсьці з цяжкой матар'яльнай сытуацыі — некаторыя нават значнымі сумамі. У цяперашняй сытуацыі, калі хвароба аказалася цяжкой і зацяжной, нельга хіба што абмежыцца да ахвярнасьці сяброў і знаёмых Прэзыдэнта, а трэба зьвярнуцца да шырэйшых колаў нашага грамадзтва за дапамогу хвораму і ягонай сям'і. Нельга-ж выдаваць грошы на гэту мэту з касы БНР, калі ў ёй штось ёсьць, бо Радзе БНР заўсёды патрэбны грошы на яе дзейнасьць. Таму я прапаную, каб Вы як скарбнік Рады БНР выдалі падпісныя лісты да беларускага грамадзтва на дапамогу цяжка хвораму Прэзыдэнту і ягонай сям'і. Пішу аб гэтым да Вас, памінаючы сп. Запрудніка — старшыні Сакратарыяту, бо ведаю, што ён цяпер страшэнна заняты заканчэньнем свайго дактарату. Падпісныя лісты можна выдаць ад імя Прэзыдыюму

Рады БНР, Сакратарыяту ці проста ад скарбніка Рады БНР. Аднак прасіў бы Вас паразумецца (можна й тэлефанічна) са сп. Запруднікам у гэтай справе і эвэнтуальна з праф[эсарам] Адамовічам і сп. Шукелойцем. Падп[існыя] лісты трэба было-б разаслаць да ўсіх сэктароў.

Між іншага, у Нью Ёрку зьбіраў грошы на ўспомненую мэту сп. Валодзя Русак. Ён згодны й далей гэту справу рабіць, толькі з ім трэба паразумецца асабіста.

З глыбокай пашанай да Вас, В[інцэнт] Жук-Грышкевіч, Заступнік Старшыні Рады БНР.

8 ліпеня 1969 г.

Вельмі Паважаны й Дарагі Айцец Доктар,

Мы ў курсе справы адносна хваробы Прэз[ыдэнта] Абрамчыка дзякуючы лістом сп-ні Ніны. Незалежна ад гэтага мы ўдзячны Вам за ваш ліст і клопаты. Мы сьведамы сытуацыі, у якой апынуўся Прэз[ыдэнт] Абрамчык і ягоная сям'я і робім, што можам, каб ім дапамагчы. Але мусім паінфармаваць Вас прыватна, што справа гэтай дапамогі цягнецца гадамі й дзеля гэтага трапляе на грунт ня надта спрыяльны. Справа ў тым, што некалькі год таму Прэз[ыдэнт] Абрамчык прасіў бліжэйшых сяброў аб пазыку на сваю будову добрых пару тысяч дал[яраў] і ня ўсім гэту пазыку зьвярнуў. У мінулым годзе на сэсіі Рады БНР у Нью Ёрку зноў асабіста зьвярнуўся за пазыкай і атрымаў некалькі тысяч. Пасьля выпадку з нагой бліжэйшыя да яго людзі зразумелі цяжкасьць сытуацыі, іншыя ўзялі пад увагу ваш лістоўны зварот і прышлі з дапамогай. Толькі сп. Валодзя Русак сабраў і выслаў панад тысячу дал[яраў]. Цяпер зноў трагічная сытуацыя, зноў трэба дапамагчы. Не зразумейце мяне блага, я зраблю, што змагу, каб людзі адлікнуліся на няшчасьце й гэтым разам, хачу толькі, каб Вы зразумелі, што бяручы пад увагу ўсё папярэдняе — спрыятлівага грунту для зьбіраньня ахвяраў няма. Тыя-ж самыя, ня так лічаныя, людзі даюць на ўсякія патрэбы й нашага грамадзкага, царкоўнага й палітычнага жыцьця. Таму чым далей, тым цяжэй зьбіраць, а ахвярадаўцаў ня большае, а меншае. Патрэбны-ж грошы й на справу, калі мы хочам, каб яна не заняпала. У такой сытуацыі я прыйшоў да выснаву, што ў справе дапамогі Прэз[ыдэнту] Абрамчыку і ягонай сям'і мы не павінны абмежыцца толькі вузкім колам сяброў і яго знаёмых, а зьвярнуцца да шырэйшых колаў грамадзтва. Я напісаў сябром Прэзыдыюму Рады БНР у Нью Ёрк, каб яны пусьцілі падпісныя лісты да грамадзтва на дапамогу цяжка хвораму Прэз[ыдэнту] Абрамчыку і ягонай сям'і.

Ёсьць яшчэ адна вельмі важная справа: Прэз[ыдэнт] Абрамчык калі й вернецца да працы, дык няскора гэта будзе. Такім чынам, у нашым жыцьці й дзейнасьці наагул і асабліва ў Эўропе на ягоным месцы вытварылася пустка. Пустку гэту трэба запоўніць, хоць часткова. Але кім?

Я доўга над гэтым думаў і не знайшоў нікога больш адпаведнага, як Вы, Айцец Доктар, хоць я Вас асабіста й ня знаю. Мне прышлося заступіць Прэз[ыдэнта] А[брамчыка] на гэтым кантынэнце, а Вам прыдзецца заступіць яго ў Эўропе. Аб гэтым я пісаў Прэз[ыдэнту] А[брамчыку] перад ягонай апэрацыяй. Іншага выхаду я ня бачу.

Вы блізка ад Парыжа й часьцей можаце там быць. Таму я Вас вельмі прашу мець вока на акты, архівы Рады БНР, якія знаходзіліся пад апекай Прэз[ыдэнта] А[брамчыка]. Каб, барані Божа, зь імі чагось ня сталася, каб яны ня трапілі ў неадпаведныя рукі, каб не прапалі. Гэта-ж адна з найважнейшых частак нашай гісторыі! Прасіў я аб гэтым і сп-ню Ніну, але яна заклапочаная жанчына, да таго ў роспачы. Трэба, каб Вы дбалі пра гэтыя архівы, пакуль мы іх не забясьпечым у належнай ахове. Скарыстаў з нагоды й баюся, што надужыў яе, пішучы так шмат. Даруйце за гэта й прыміце падзяку, што такую нагоду Вы далі самі.

Прывітаньні Вам і Вашай Спадарыні ад нас з Раісай.

З глыбокай пашанай, В[інцэнт] Жук-Грышкевіч.

*Villepinte, 9.7.69.*

Даражэнькія,

Дзякую за Ваш лісток. Міколку я яго не магу паказаць. Міколка дома ад 4.7.69 (пятніцы). Першыя 3 дні былі нічога, а ўчора і сяньня — болі і тэмпэратура. Ня ведаю, што рабіць. Не ўдалося мне яго ўмясьціць у доме адпачынку. Кажуць — трэба чакаць 3 тыдні. Вызначылі нейкі вельмі далёка аж на поўдні Францыі. Баюся, што не давязу, ды за 3 тыдні, хто ведае, дзе ён будзе, лежачы дома, бязь лекарскай помачы. Ды як і давядзецца туды заехаць, дык як назад, калі што здарыцца. Я не хачу, каб ён там, так далёка астаўся. Я ніколі ня буду мець магчымасьці туды дабрацца, хоць мейсца адведаць. Ніхто-ніколі туды да яго не загляне, і за 5 год усё зьнікне, будзе хтось другі на яго мейсцы.

На духу Ён вельмі падупаў. Бачыць, што няма ратунку, шмат цяжкасьцяў, і я сама-адна зь дзіцём супраць іх. Тутэйшую нялікую эміграцыю ахапілі бальшавікі. Езьдзяць да хаты і баяцца "добры дзень" сказаць пры спатканьні. Да іх не магу зьвярнуцца, каб не перадалі добрых вестак Прокшы[130].

Што да Запрудніка — я яго памялом паганю. Няма чаго яму сюды ехаць, хай раней свой дыплём зробіць. Курыца, як доўга сядзіць на яйках, — выходзяць баўтуны. Праектаваная кніга (аб якой пішаш) — за Міколы — ня выйдзе, ужо ня будзе часу. Мікола, як пісаў да Запрудніка ў розных рэчах, дык той заўсёды агароджываўся сваім дыплёмам. Хай піша! Няма чаго яму сюды ехаць. Зрэштам, мне не да мікрафільмаў у гэты момант і ня маю замеру сіл і часу раскладацца з паперамі. І так

[130] Маецца на ўвазе Леанід Прокша.

балаган усюды. Не хачу, каб архіў расьцярушылі хто куды папала. Гэта грамадзкі скарб.

Цалую Вас моцненька абаіх — Ніна [Абрамчык].

14 ліпеня 1969.

Даражэнькая Нінка,

Твой ліст з 9.7 вельмі нас занепакоіў — і стан здароўя Міколы, і што ты ня ведаеш, што рабіць. Якраз у нас былі Сажычы. Др. Сажыч сказаў, што калі ў Міколы пачаліся болі й тэмпэратура, трэба было адразу залярмаваць гошпіталь і дактароў, якія рабілі апэрацыю. Тое самае сказаў і Набагез, як мы да яго зазванілі. З Амэрыкі ніхто бадай што ня можа раптам сарвацца з сваіх абавязкаў і ляцець у Парыж, асабліва-ж дактары. Але ты зьвярніся да нашых у Эўропе ці а. Смаршчка ці да нашых у Нямеччыне ці ў Англіі. Нядобра, што ты сама ў такі крытычны час пры хворым. Між іншага, у Мюнхэне цяпер ёсьць Адамовіч, я думаю, што ён у вас будзе. Мы з Раісай разважалі, каб з нас хтось паляцеў, але я нянадта чуюся па сілах да такога падарожжа й сытуацыі, а Раіса была ўсхапілася і ўжо гатова была зьбірацца, ды пад уплывам здэнарваваньня пачулася блага, мусіла адклікаць пацыентаў і пайсьці ў ложак. Наракае на сэрца, але я думаю, што гэта толькі здэнарваваньне. Бяда, што вы ад нас так далёка.

Ты зусім непатрэбна так адзываешся аб Запрудніку. Я яго ўспомніў у сваім лісьце між іншага для прыкладу. Я ня ведаю, ці ён цяпер мог бы ляцець у Парыж, бо здаў сваю дысэртацыю і мае далейшыя афармленьні дыплёму. Я меў на думцы пазьнейшы час, як ён усё закончыць. Трэба быць і да яго выразумелым, бо робіць ён дактарат з нармальнай 8-мі гадзіннай нагрузкай адказнай працы і ўсё-ж ён увесь час куды больш актыўны ў нашай справе, як іншыя, што апрача працы на пражыцьцё нічым іншым не заняты.

Маем надзею, што ты сама адумалася й зьвярнулася да Міколавых лекараў, а калі не — дык зрабі гэта зараз-жа!

Залучаем на ўсякі выпадак: чэк на 100 ам[эрыканскіх] дал[яраў] ад Др-а Сажыча й на 50 кан[адыйскіх] дал[яраў] ад нас. Па магчымасьці інфармуй нас аб стане здароўя Міколы. Вітай яго ад нас. Хай Бог Усемагутны мае яго ў апецы і цябе з Алікам!

Цалуем вас моцна вашы

[Жук-Грышкевічы]

14 ліпеня 1969 г.

Вельмі Паважаны й Дарагі Айцец Доктар,

Сяньня мы атрымалі алярмуючы ліст ад сп-ні Ніны: у Прэз[ыдэнта] Абрамчыка тэмпэратура й болі, пачаліся 8.7 (ліст пісаны 9.7 г. м.). Ён

дома ўжо ад 4.7. У дом рэканвалесцантаў яго могуць прыняць толькі праз тры тыдні й то недзе далёка на паўдні Францыі. Сп-ня Ніна чуецца адзінокай і бязраднай, ня ведае, што рабіць, а ў Парыжы няма нікога зь яе блізкіх знаёмых. Як кажуць нашы дактары — сытуацыя хворага можа быць крытычнай і трэба, каб апрача жонкі, яшчэ нехта быў са здаровым цьвярозым розумам. З Амэрыкі ніхто з нашых дактароў ня зможа сарвацца раптам ад сваіх абавязкаў, прыходзіцца лічыць на людзей, што жывуць бліжэй да Парыжа. Можа, Вы-б змаглі заняцца, каб у гэтым крытычным часе нехта з нашых з Бэльгіі, Нямеччыны ці Англіі быў у Абрамчыкаў і дапамог ім сваёй прысутнасьцю й радай.

Я напісаў сп-не Ніне, што калі пачаліся болі й тэмпэратура ў хворага, яна мусіла зараз жа скантакатвацца з дактарамі, якія рабілі апэрацыю. Магчыма, яна й сама здагадалася й зрабіла гэта. Пішу да Вас на ўсякі выпадак, бо Вы там бліжэй і можаце дапамагчы сп-ні Ніне хоць добрай радай.

А што-ж мы можам зрабіць? Апрача таго, аб чым я Вам пісаў у папярэднім лісьце — выслалі сп-ні Ніне крыху грошы: ад Др-ра Сажыча $100 і ад сябе $50.

Выбачце, што турбую.

З прывітаньнямі, В[інцэнт] Жук-Грышкевіч.

25.8.69.

Дарагі Айцец Аўген,

Прыступаю да адказаў на лісты, якіх назьбіралася столькі да мяне, а дагэтага падкінула не мала і Ніна мне "сваіх". Мусіце ёй выбачыць, што не адказала яна Вам на Ваш апошні ліст. Гэты апошні месяц у нас асабліва быў перагружаны. Перадусім нас адведала аж 7-м нашых знаёмых, падаражуючых у Францыі. Усе гэтые візыты былі для нас вельмі цікавые ды настолькі прыемные, што нельга было не заняцца імі, асабліва Ніне. Раўнабежна з гэтым мелі мы і непрыемные справы, якіе занялі нам столькі часу і сапсулі нам столькі нэрваў — гэта гісторыя з нашым "асюрансам"[131] і эвэнтуальным маім ад'ездам у той "мэзон дэ конвалесанс"[132]. Вось-жа перадусім аб нашых госьцях. Лада зрабіла на нас прыемнае ўражаньне. Галоўнае, кожнае яе апавяданьне аб тамтэйшым жыцьці пераконывае вас настолькі ў яе шчырасьці і аб'ектыўнасьці, што дае вам змогу рабіць сьмялей адпаведны выснавак, а з другога боку, па ёй як, да пэўнай меры, прадстаўніцы маладой польскай інтэлегэнцыі, можна спадзявацца, што расьце там пакаленьне, зь якім Беларусі

[131] ***Assurance*** (фр.) — страхоўка.

[132] ***Maison de reconvalescence*** (фр.) — даслоўна: дом для выздараўленьня; санаторый.

будзе лягчэй унармаваць нашыя ўзаемаадносіны, чым дагэтулешнім іхнім клерыкала-шовіністычным. Пікарда[133] прывозіў мне паказаць матэр'ялы да гадавіка "Белорушлен Студіес"[134]. За 1968 ужо набраны, прывозіў карэкту, а за [19]69-ты матэр'ялы шчэ ў рукапісах. Абодвы номеры выдуць хутка, адзін за адным, як ён казаў. Сп. Пікарда згадзіўся са мной збольшыць тыраж, падвоіць. Дагэтуль яны адбівалі толькі 1000 экз[эмпляраў]. Вельмі прыемна бачыць, як ангэльскіе навукоўцы пачынаюць што раз то глыбей цікавіцца нашымі праблемамі. Ды ня толькі цікавіцца. Айцец Чарняўскі[135] адведываў Ул[адыку] Слосканса[136]. Казаў, хацеў скласьці візыту Вам, але Вы былі яшчэ ў Італіі. Цяпер у нас гасьціць с-ня Кіта[137]. Німіна сяброўка з гімназіі. Разумная кабета. З мужам, як Вам ведама, яны прабывалі даўжэйшы час у "зарубежжы". Яна весяліла нас некаторымі апавяданьнямі.

Найцікавейшыя весткі прывез нам Нікан[138]. З Аўстраліі ён аб'ехаў увесь сьвет. У Беларусі адведаў Ларысу[139]. Расказаў ён падрабней аб нашым тут жыцьці, а яна аб сваім... З жыцьця ў Аўстраліі навіны не цікавыя, нат' больш, в[ельмі] сумныя і прыкрые. Я хацеў, каб ён заехаў да Вас і ў справах царкоўных пагутарыў з Вамі сам, але Бэльгія ня ўходзіла ў яго маршрут. Цяпер ён у Англіі, а за пару дзён паляціць у Н[ью] Ё[рк]. Хоча папасьці на Сабор БАПЦ. Хоча там прадставіць справу зь дзейнасьці Ул[адыкі] Сергія. Гэны там вытварае скандальныя рэчы. Усеўшыся сярод грэцкіх бунтарных супроць Патрыярху Атанагорасу[140] прыходаў атручывае і нацыянальна-грамацкае жыцьцё там беларусам. Беларускага царкоўнага прыходу там <u>фактычна няма ні воднага</u>. Паводле-ж чутак на Саборы Ул[адыка] Васіль і а. Войтэнка праектуюць прагаласіць

[133] **Гай Пікарда** (анг. *Guy Reginald Pierre Picarda*, 1931—2007), брытанскі беларусіст, юрыст, дасьледнік беларускай музыкі, кнігадрукаваньня, гісторыі беларускай прысутнасьці ў Вялікабрытаніі ды інш., сябра Англа-Беларускага таварыства.

[134] "***The Journal of Byelorussian Studies***" — англамоўны навуковы часопіс, орган Англа-Беларускага таварыства, выходзіў у Лёндане ў 1965—1988 гг.

[135] Маецца на ўвазе айцец Францішак Чарняўскі.

[136] **Баляслаў Слосканс** (лат. *Sloskāns*; 1893—1981), каталіцкі ярарх, паводле паходжаньня латыш. У 1952 г. вышэйшымі духоўнымі ўладамі Ватыкану прызначаны апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікоў у Заходняй Эўропе.

[137] Маецца на ўвазе жонка Барыса Кіта Ніна.

[138] **Мікола Нікан** (1908—1999), грамадзкі дзеяч. Ад 1952 г. жыў у Мэльбурне.

[139] Маецца на ўвазе **Ларыса Геніюш** (1910—1983), паэтка, грамадзкая дзячка. У той час жыла ў Зэльве.

[140] **Атэнагор** (сьвецк. **Арыстокліс Сьпіру**, 1886—1972), архіяпіскап Канстантынопаля — Новага Рыму, усяленскі патрыярх у 1949—1972 гг.

Сергія Патрыярхам або прынамсе Мітрапалітам Беларусі. Настрой-жа нашых там людзей — пазбавіцца “апекі” яго як найхутчэй. Пайшоў да грэкаў, то хай там і сядзіць пад анафэмай Атанагораса. Цікавіць мяне, што Вы думаеце і ці Вы інфармаваны аб усіх праектах сабора?

З нашым “асюрансам” вышла зусім блага. Гэта цэлая гісторыя. Чуць дабіліся толку. У выніку — за шпіталь і клініку ў Вэрт-Галандзе мусім плаціць самі. Са шпіталя ўжо прыслалі рахунак на 6696 фр[анкаў], з Клінікі будзе праз 3000, з усімі іншымі дабаўкамі ў 2000 дол[яраў] ня ўложымся. На пазычкі з Амэрыкі не разьлічаю. Залетась выціснуў зтуль, што мог, ды то паважную суму, але пры навароце ў Парыжы тады ў паніцы дэвалюцыі франка не памяняў чэкаў на 6000 дол[яраў], а перадаў іх, як вам здаецца казала Галіна, ёй на сплату майго ранейшага ёй доўгу. У Галі цяпер зьмянілася сытуацыя, і павярнуць мне нат’ часткі з тых чэкаў ня можа. У аснаўным доўг на тэй маёй вільле да праданьня за апошнія гады збольшыўся толькі на 2000 дол[яраў]. Можна-б было яшчэ сьмела браць пазычкі на конт праданьня тэй віллы ў суме да 10000 дол[яраў]. На гэту восень мне будзе патрэбна МІНІМУМ 4000 дол[яраў]. У наступным леце прадам яе абавязкова, хоць бы са стратай, бо начы будзе скандал. У дом адпачынку мелі ехаць 8 жніўня, але таму што там не атрымалі гарантыі на аплату — анулявалі. Цяпер выясьнілі, што ў асюранс мы ўключаны. Ад месяца ліпеня будуць нам аплачываць (усім траім) выдаткі на лекараў і лекі ад 70 да 80 процэнтаў. Запісалі таму ізноў на чаргу ў той дом выздараўленьня. Вось-жа чакаю чаргі.

Па апэрацыі кончылася два месяцы. Чуюся што раз лепі, хацеў таму махнуць рукой на той іх “дом выздараўленьня”, але Ніна ўгаварыла паехаць ўсёжтакі, калі прыйдзе тая чарга, каб прынамсе навучыцца ад іх *“дыятычнаму харчаваньню”*.

Дык вось, дарагі айцец, падаў Вам дакладней пра сваю фінансавую сытуацыю. Ці не паможэце мне прыдумаць нешта, каб пазычыць на год часу 4000 дол[яраў] на ўмовах, якіх-бы там ня было (вышыні процэнтаў), бо-ж як Вы бачылі, гарантыя майго капіталу ў інвэнтары дае больш, чым гварантыю сплаты. Справа йдзе толькі ачысьціць тую віллу к вясьне, а пушчу яе, як казаў ужо, хоць-бы з пэўнай стратай для нармальнай цаны.

Прывітаньне ўсёй Вашай сямейцы ад нас траіх [Подпіс Міколы Абрамчыка]

PS. Адносна праэкту Ніны прыехаць да вас на вакансы — справа ўжо не актуальная.

Пішэце, што маеце лісты зь Н[ью] Ёрку як рэакцыю на Ваш ліст. Цікава, ад каго? Я атрымаў: ад Грышкевіча 150 дол[яраў], ад др. Сажыча 100. Ад др. Войтэнкі 100 і зь Нью Браўсвінгу 250.


Мікола Абрамчык.
27 кастрычніка 1969 г.

27.8.1969, Вільпант.

Дарагі Барыс [Рагуля],

Выбач, што так доўга не адказваў на Твой ліст. Цябе і Люду[141] магло гэта в[ельмі] турбаваць. Вось-жа цяпер, прыступаючы да адказаў наагул, Цябе хачу перадусім ня толькі паінфармаваць аб стане майго здароўя, а да пэўнай мэры і пакансультавацца ў Цябе як лекара. Тутэйшыя лекары мне нічога не адказываюць на мае пытаньні, а гэта мяне злуе і часам нэрвуе.

Як Табе казала Ніна, у мяне адкрылі раптоўна "Ульсэры"[142] і безадкладна на мяне націснулі рабіць апэрацыю. Для мяне найбольш загадковым здавалася патрэба тае "раптоўнасьці", таму што мне абсалютна і нічуткі не балеў той жалудак, апроч таго я ведаў, што з ульсэрамі людзі ходзяць па некулькі год і, ня робячы апэрацыі, вылечываюцца. Дык у чым тут справа са мной?

Цяпер да апэрацыі. Да апэрацыі мяне атпраўлялі аж 16 дзён. 8 у клініцы і 8 перавёзшы ў шпіталь. 4-ры дні (па апэрацыі) пачуваўся няважна, але не адчуваў таксама асаблівых боляў. Па 4-х днях зьнялі ўсе "трубкі, помпы", а на 8-м дні зьнялі швы з разрэзу, на 15-м дні выпісалі са шпіталя. Меўся быць адасланы ў "мэзон дэ Конвалесанс", але вось чакаю на чаргу ўжо 7 тыдняў. Гэны "мэзон" спэцыялізуецца лячэньнем апэраваных на страўнікі дыетамі. Мне падобна выразалі каля паловы жалудка. Кажуць есьці 5—6 раз, але патрохі і толькі в[ельмі] выжыўнымі рэчамі. Ніна, бедная, стараецца ў гэтай нуднай і дакучнай працэдуры, але вынікі не важныя. На вазе ніяк не прыбываю. З шпіталя выйшаўшы, важыў 55 кіло, дома на трэці дзень схапілі былі болі, якіх ня меў нат па апэрацыі, а цяпер усё ўляглося, ніякіх боляў не адчуваю, але не прыбываю нітрошкі на вазе. Проста як-бы закансэрваваны. 53 кіло і ні зьместа. Мой узрост 172 см. Кажуць, нармальная мая вага — 70 кіло. У вас як быў апошні раз важыў 65 к[іло]. Найбольш мяне турбуе тое, што Ніна з Альгердам, як даведаўся, па радзе хірурга пільнуюць мяне, як малое, каб "не нэрваваўся", а найбольш ляжаў ды праходжываўся ды як "жандары" ў вязьніцы аж дагэтуль хавалі ад мяне паперу, машынкі, каб не займаўся пісанінай.

Хірург мой адылі мне казаў шчэ ў шпіталі, што апэрацыя прайшла вельмі а вельмі задаваляюча ды што арганізм мой в[ельмі] адпорны.

---

[141] **Людміла Рагуля** (дзяв. **Гутар**, 1925—2014), грамадзкая дзяячка, жонка Барыса Рагулі.

[142] ***Ulcère*** (фр.) — язва.

Але што да загоеньня жалудка (у сярэдзіне) патрэбна 3 месяцы часу, а каб мог езьдзіць так, як раней, патрэбна год часу. Дык што Ты думаеш аб гэтай усёй гісторыі?

Дзякую Табе вельмі за падтрымку на духу Ніны з Альгердам. Альгерд вясной склаў малую матуру. Цяпер перайшоў у 2-ю клясу ліцэя. Да бакалярыяту яму асталося 3 гады (2-я, 1-я кляса і кляс "Тэрмінал"). Сорт бакаляр'яту ён выбраў матэматыка-фізіка з захаваньнем латыні і 2-х жывых моваў: латыні[143] і нямецкай. Гэта дае найшырэйшае поле ў выбары потым факультэту. Бак[аляўрыят] гэты найцяжэйшы для вучня, але нам параілі яго прафэсары, казалі, што справіцца хлапец.

Аб нашых грамацкіх і палітычных справах, з майго пункту гледжаньня, напішу іншым разам. Ці вярнулася Рагнеда? Калі яшчэ не, то напішы ёй, хай адведае нас.

Цалуем вас усіх мы ўсе трое.

[Абрамчыкі]

***Станіслаў Станкевіч***

## Мікола Абрамчык[144]

Ізь сьмерцяй Прэзыдэнта Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Сьвятой Памяці Міколы Абрамчыка беларускі нацыянальна-вызвольны рух панёс вялізарную страту. Выбыў з нашых радоў нацыянальны працаўнік і змагар, што ня часткова, а цалком, бяз рэшты аддаваў сябе нацыянальна-вызвольнай справе й чые дасягненьні ў працэсе змаганьня за Вольную й Незалежную Беларусь назаўсёды застануцца ў гісторыі.

Сыстэматычную нацыянальную дзейнасьць пачаў Мікола Абрамчык яшчэ ў 1920 годзе, і якраз сёлета спаўняюцца ейныя 50-я ўгодкі. Але ягоная дзейнасьць шырэйшага дзяржаўніцкага маштабу як кіраўніка й правадыра беларускага нацыянальнага руху й вызвольнага змаганьня ў вабставінах эміграцыі пачалася ад мамэнту пераняцьця ім паўнамоцтваў Прэзыдэнта БНР ад Васіля Захаркі перад ягонай сьмерцяй у 1943 годзе й бесьперапынна вялася ім ледзь не да самае ягонае сьмерці. Пераняцьцё паўнамоцтваў Прэзыдэнта БНР прыпала на самы крытычны момант апошняе фазы мінулае вайны, калі ўсякая легальная беларуская дзейнасьць была Немцамі заглушаная й зьведзеная да нелегальнае рыхтавальнае працы на нутраным адрэзку.

[143] Відавочна, памылка.

[144] Друкуецца паводле: Беларус. № 158. Чырвень 1970. С. 1—2.

Атрымаўшы прэзыдэнцкія паўнамоцтвы, а тым самым і новыя абавязкі, Мікола Абрамчык, ня спыняючы свае дзейнасьці ўнутры беларускае эміграцыі, перш-наперш паставіў перад сабой заданьне разьбіць перад заходнімі аліянтамі створаны бальшавікамі міт пра калябаранцтва Беларусаў зь нямецкім фашызмам ды прыпомніць ім пра легітымнасьць БНР. Прымусовая рэпатрыяцыя па заканчэньні вайны спараліжавала ўсякую магчымую дапамогу грамадзтва з новае эміграцыі, загрожанае гэтай рэпатрыяцыяй, затым усю дзейнасьць перад вонкавымі сіламі быў змушаны Мікола Абрамчык праводзіць літаральна сам адзін.

Мікола Абрамчык, выступаючы із становішча Прэзыдэнта Рады БНР, закідаў заходнія ўрады і ўлады мэмарыяламі супраць прымусовае рэпатрыяцыі, інтэрвэньяваў асабіста, як у цэнтрах, гэтак і ў некаторых паасобных выпадках на мясцох, дзе заходзіла патрэба гэтага. Прыкладам, у канцы 1947 году ў Даніі на настырлівае патрабаваньне Саветаў мелі быць выдадзеныя ім каля 200 Беларусаў. Заалярмаваны гэтай весткай, Мікола Абрамчык паехаў у Данію, цэлымі тыднямі наведваў данскія міністэрствы ды іншыя ўстановы, пераконваў іх, прасіў і калі ўрэшце данскі ўрад згадзіўся не рэпатрыяваць гэтых людзей пад умовай, што яны безадкладна пакінуць межы Даніі, Мікола Абрамчык асабіста выстараўся для іх перад францускім урадам права азылю ў Францыі.

Але асабліва вялікая й карысная была праробленая работа ў кірунку азнаямленьня Захаду зь беларускай нацыянальнай праблемаю й здабываньня ў заходнім сьвеце трывалых для нас пазыцыяў. Адразу пасьля вызваленьня Францыі, дзе ён знаходзіўся, Мікола Абрамчык пачаў навязваць блізкія кантакты з амбасадамі заходніх дзяржаваў у Парыжы й беспасярэдня з урадамі некаторых зь іх, літаральна засыпаў іх мэмарыяламі, інфармаваў і пераконваў у карысьць беларускай вызвольнай справы. У 1947/48 гг. шмат якія экзыльныя ўрады й нацыянальныя цэнтры паняволеных бальшавізмам народаў не маглі яшчэ й думаць пра гэткія шырокія кантакты, якія, дзякуючы Міколу Абрамчыку, мелі ўжо мы. Аўтарытэт і палітычны патэнцыял Рады БНР былі ўжо тады нагэтулькі вялікія ня толькі сярод сваіх, але й чужых, што рад экзыльных урадаў, у тым ліку й былыя нашыя непрыяцелі або супраціўнікі, увайшлі ў перамовы з органамі БНР. Хоць гэтыя перамовы зь некаторымі нацыянальнасьцямі ня прывялі да канкрэтных умоваў, аднак немалым нашым дасягненьнем было ўжо тое, што гэтыя нацыянальнасьці ня імкнуліся шукаць сабе партнэраў па-за органамі БНР.

За паваенны пэрыяд часу Мікола Абрамчык навязаў кантакты з адказнымі ўрадавымі дзейнікамі й важнейшымі палітычнымі цэнтрамі Захаду. Беларуская нацыянальная справа выйшла на міжнародную арэну, сталася міжнародным пытаньнем, ёю пачалі цікавіцца, вывучаць, ёй сымпатызаваць. Гэта бадай ці не найвялікшае нашае

дасягненьне ў паваенным пэрыядзе, у чым галоўная заслуга Міколы Абрамчыка.

Вялікую й шырокую акцыю правёў Мікола Абрамчык у кірунку арганізаваньня й кансалідаваньня нашага эміграцыйнага грамадзтва пасьля спыненьня ваенных дзеяньняў. За час вайны кантакты із старой эміграцыяй былі перарваныя, а з новай, што знаходзілася галоўна ў Нямеччыне і акупаваных Немцамі краёх, не маглі быць наагул навязаныя. Трэба было пачынаць усё спачатку. Гэта была ў гэным часе нявымоўна цяжкая праца галоўна з увагі на тое, што нашае грамадзтва, стэрарызаванае прымусовай рэпатрыяцыяй і здэзарыентаванае палітычна, расплывалася, не даючы аб сабе ніякага знаку, сярод чужых нацыянальнасьцяў, сытуацыя якіх была выкляраваная, галоўна сярод Палякаў.

У гэтай галіне прарабіла важную работу выдаваная й рэдагаваная Міколам Абрамчыкам у Парыжы газэта “Беларускія навіны”[145], нумар першы якой зьявіўся ўжо ўвосень 1945 году. Не зважаючы на тое, што газэта выходзіла нярэгулярна, яна адыграла вялікую ролю ў справе ўстанаўленьня кантактаў сярод расьцярушанай эміграцыі і палажыла першыя трывалыя асновы ў справе нацыянальнай і палітычнай кансалідацыі.

Апрача гэтага Мікола Абрамчык наведваў асабіста ўсе беларускія асяродкі нашай эміграцыі ў Заходняй Эўропе, памагаў ліквідаваць розныя цяжкасьці, што былі вынікам яшчэ няўстабілізаванага паваеннага жыцьця, даваў ініцятыву ў грамадзкай і нацыянальнай дзейнасьці. Нашая эміграцыя із свайго боку дала яму поўнае падтрыманьне, а ўсё палітычнае сьведамае грамадзтва сканцэнтравалася вакол Рады БНР.

Навязаных сувязяў з эміграцыяй Мікола Абрамчык ня толькі не парываў пасьля, але ўсьцяж іх паглыбляў і зацясьняў. Ён вельмі рэдка бываў габінэтным працаўнікам, што павінна было-б вынікаць зь ягонага становішча. Наадварот, мы бачылі Міколу Абрамчыка заўсёды з масамі, у сталым і блізкім кантакце зь імі. У юбілейным артыкуле ў “Бацькаўшчыне” ў 1953 годзе на 50-я ўгодкі ад нараджэньня Міколы Абрамчыка сказана, што за апошнія восем год ад заканчэньня вайны й да 1953 году ён траха пяць год знаходзіўся ў дарозе, з чаго на адну Амэрыку прыпаў чуць ня цэлы год. Ёсьць усе асновы ўважаць, што й пасьля 1953 году й да апошняга часу ягонай актыўнай дзейнасьці прыблізна гэткая-ж была прапорцыя часу, праведзенага дома ў Парыжы і ў падарожжах.

Часта наведваючы Амэрыку, запыняўся ён не на адным месцы ў Нью Ёрку ці Вашынгтоне, але ўпраўляўся бываць і то па колькі разоў за кажным наведаньнем Амэрыкі, усюды там, дзе толькі знаходзілася большая або меншая група Беларусаў.

---

[145] **“Беларускія Навіны”** — беларуская газэта, якая выходзіла ў Францыі ў 1945—1947 гг. Выдавец — Лявон Рыдлеўскі. Убачыла сьвет 8 нумароў.

Усе гэтыя падарожжы ані ня былі падобнымі да афіцыйных візытаў, а насілі характар беспасярэдняе стычнасьці й супрацоўніцтва з тымі эміграцыйнымі групамі, якія Мікола Абрамчык наведваў. Затым кажнае гэткае наведаньне пакідала па сабе незацёрты сьлед, пасьля чаго людзі, узмоцненыя на духу, адкідалі сумляваньні, што мучылі іх дагэтуль, ды із сьвежым энтузіязмам упрагаліся ў нацыянальную працу.

У 1951 годзе з ініцыятывы й пры фінансаваньні ды арганізацыйнай дапамозе Амэрыканскага Камітэту вызваленьня народаў СССР пачалася й разгарнулася наступнымі гадамі акцыя дзеля змантаваньня палітычнага цэнтру паняволеных у Савецкім Саюзе народаў, супольна з расейскімі арганізацыямі, у мэтах змаганьня з бальшавізмам. Але расейскія арганізацыі галоўнай перадумовай супрацоўніцтва з арганізацыямі нерасейскіх народаў паставілі взынаньне імі г. зв. прынцыпу непрадрашэнства, паводля якога абвешчаныя ў 1918 годзе нацыянальныя дзяржавы трацілі юрыдычную моц, а пытаньне дзяржаўнага статусу пакідалася на новае разьвязаньне гэтымі народамі адно пасьля зьнішчэньня бальшавізму. Канцэпцыю непрадрашэнства падтрымаў і Амэрыканскі Камітэт.

Аднак бальшыня экзыльных урадаў і нацыянальных цэнтраў нерасейскіх народаў гэткую палітычную плятформу катэгарычна адкінула. Адкінула яе й Рада БНР і асабіста ейны Прэзыдэнт Мікола Абрамчык, цьвёрда будучы ў гэтым падтрыманы беларускім грамадзтвам. З гэтае прычыны й ня здолеў паўстаць міжнацыянальны палітычны цэнтр паняволеных бальшавізмам народаў разам з Расейцамі. Тым ня менш Амэрыканскі Камітэт ня зрокся намеру знайсьці магчымасьці супрацоўніцтва з эміграцыямі.

Вычуваючы гэтыя тэндэнцыі Амэрыканцаў ды выяўляючы вялікую палітычную далёказоркасьць, Мікола Абрамчык зрабіў вельмі правільны й палітычна ўдалы крок. Зь ягонае асабістае ініцыятывы і ягонымі стараньнямі ды пад ягоным старшынствам адбылася 15 і 16 лютага 1953 году у Карльсругэ (Заходняя Нямеччына) канфэрэнцыя, у якой прынялі ўдзел нацыянальныя цэнтры трох народаў: Рада БНР, Урад Грузінскай Дэмакратычнай Рэспублікі й Грузінская Нацыянальная Рада ды Выканальны Орган Украінскай Нацыянальнай Рады.

На гэтай канфэрэнцыі былі зробленыя першыя арганізацыйныя пачаткі і апрацаваныя палітычныя прынцыпы Лігі Вызваленьня Народаў СССР (без Расейцаў), ведамай пад назовам Парыскага Блёку. Неўзабаве да Лігі далучыліся і іншыя нацыянальныя цэнтры паняволеных бальшавізмам нерасейскіх народаў, так што гэтая арганізацыя задзіночыла ў сабе нацыянальныя прадстаўніцтвы дзевяцёх нерасейскіх народаў. За Старшыню Парыскага Блёку ад мамэнту ягонага заснаваньня ў лютым 1953 г. і аж да 30 сакавіка 1969 г. нязьменна перавыбіраўся Мікола Абрамчык.

Амэрыканскі Камітэт, не дасягнуўшы паразуменьня між нацыянальнымі прадстаўніцтвамі нерасейскіх народаў з Расейцамі з прычыны тарнаваньня апошнімі прынцыпу непрадрашэнства ды пабачыўшы, што створаная нерасейскімі нацыянальнасьцямі Ліга Вызваленьня Народаў СССР прадстаўляе сабой аўтарытэтную й моцную арганізацыю, пастанавіў увайсьці зь ёю ў супрацоўніцтва, адмовіўшыся ад тарнаваньня да яе гэнага прынцыпу непрадрашэнства. Гэта была бліскучая палітычная ўдача Парыскага Блёку і асабіста ягонага ініцыятара й даўгагадовага старшыні Міколы Абрамчыка.

У выніку гэтак навязанага супрацоўніцтва Амэрыканскага Камітэту з Парыскім Блёкам Беларусы прыдбалі важныя кураўнічыя пазыцыі ў спансараваным Амэрыканскім Камітэтам мюнхенскім Інстытуце вывучэньня СССР, у якім на працягу колькіх год маглі разгарнуць навуковую й выдавецкую дзейнасьць у галіне беларусаведы, а таксама беларускую сэкцыю ў мюнхенскай радыястанцыі “Вызваленьне”, ведамай сёньня як “Радыё Свабода”. І калі ў першым томе “Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі”, побач з рознымі паклёпамі, сказана, што Мікола Абрамчык *«вядзе антысавецкую прапаганду праз радыястанцыю “Свабода” ў Мюнхене»,* дык у гэтым ёсьць і частка праўды: хоць Мікола Абрамчык ніколі ніякага становішча ў гэтай радыястанцыі не займаў, аднак увядзеньне беларускіх перадачаў у гэтай радыястанцыі заўдзячваецца перш-наперш і галоўна Міколу Абрамчыку.

Мікола Абрамчык — вялікі энтузіясты беларускае нацыянальнае ідэі. Энтузіязм гэты базаваўся на ягонай непахіснай веры ў канчальную перамогу беларускае нацыянальнае ідэі. У гэтай веры ўмацоўвалі яго галоўна два фактары: глыбокае перакана624ньне ў вялікай жыцьцёвай моцы беларускага народу ды няменшае перакана괜ньне, што дзяржаўная незалежнасьць і вызваленьне беларускага народу выплываюць із самой лёгікі гістарычнага працэсу. Вось тут і хаваецца дзівугодная таямніца таго, што Мікола Абрамчык, узброены гэтай верай, меў вялікую сілу ўзьдзейваньня на іншых, так што кажны, хто зь ім сутыкаўся, запальваўся гэткім-жа, як і ён сам, энтузіязмам, набіраў веры ў будучыню.

Да інакш думаючых і сваіх палітычных супраціўнікаў звычайна ставіўся ён зь вялікай талерантнасьцяй і тактам. Не дарма сярод беларусаў і чужых, што зналі яго бліжэй, быў пашыраўся пагляд, што сумленны палітычны супраціўнік можа зь Міколам Абрамчыкам не згаджацца, але ненавідзець яго ніяк ня можа.

Мікола Абрамчык — гэта чалавек ідэі. Ад самага пачатку свае дзейнасьці ў кажным сваім чыне й пачынаньні быў ён на службе гэтае ідэі, аддаваўся ёй поўнасьцяй і да рэшты. А дасягнутае ім на працягу ўсяе ягонае нацыянальнае дзейнасьці ўвойдзе ў гісторыю як адзін з важных і трывалкіх нацыянальных здабыткаў.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ВЫКЛЯТЫ ПАЭТ ПЁТРА СЫЧ



Пётра Сыч

Беларуская эміграцыя мела сваіх *Les Poètes maudits*. Іх, як і ў Поля Верлена, таксама тры.

Першы — Хведар Ільляшэвіч. Ён і пайшоў першым, загінуўшы ў аўтамабільнай катастрофе ў 1948 г. Ягоную спадчыну сабраў і выдаў Юры Попка (Жывіца). Перавыдаць, дадаўшы знойдзенае і апублікаванае пазьней, справа нескладаная. Толькі добрая воля патрэбная й крыху ахвярнасьці.

Спадчына другога, Уладзімера Дудзіцкага, зьніклага ў часе й прасторы, была прынамсі захаваная ў БІНіМе ды выдрукаваная — спачатку ў Нью-Ёрку, а тады і ў Беларусі.

А вось з трэцім, Пётрам Сычом, штосьці не атрымалася на пачатку 1990-х, калі літаратура эміграцыі вярталася, не зьвярнулі на яго ўвагі і ў пазьнейшы час. Хіба што мастацкі ўспамін пра Монтэ-Касіна быў перадрукаваны[1].

Змрочны, бадай да чарнаты, ня столькі зьнешняй, колькі нутраной, на здымках, ён валодаў дзіўным пачуцьцём гумару, саркастычным — найперш да самога сябе.

Жыў стала, наколькі гэта можна стасаваць зь ім, у Мюнхене, але калі думаеш пра яго, чамусьці ўяўляюцца бульвары Манпарнаса.

Ягоная спадчына патрабуе зьбіраньня. Проза, паэзія, пераклады, фэльетоны. Малюнкі. І лісты, дзе ён найбольш шчыры, душэўна агалены, асабліва калі піша да блізкіх яму людзей.

Ніжэй друкуецца адзін ліст — да Вінцука Жук-Грышкевіча[2]. Ён хавае ў сабе таямніцы (што адбылося ў 1948 годзе? Які й ад каго загад змусіў паэта выехаць зь Лёндану?), але разам з тым даволі яскрава сьведчыць пра стан аўтара.

---

[1] Гл.: Беларусы ў бітве за Монтэ Касіна. Мінск, 2004.

[2] Гл. таксама: Жук-Грышкевіч, Вінцэнт. Успаміны пра Пётру Сыча // Газеты “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Выбранае. Мінск, 2019. С. 321—328.

Мюнхэн, 20.3.1952[3].

Дарагі Вік!

Хаця Станкевіч[4] толькі ўчора ўспомніў мне аб лісьце ад Цябе, але гэта не было нават патрэбным, бо я сам ведаю, што не ад мяне Табе, але ад Цябе мне належыцца слова. А менавіта: “Сьвіньня”. Цераз вялікае “С”.

Але ты-ж чалавек да пэўнай ступені талерантны, дык, думаю, што мяне зразумееш і ня будзеш памінаць ліхам. Знаеш, Брат, ніякімі сіламі не магу пазбыцца ідыёсынкразыі да пісаньня лістоў. Гэта мне асталося ад маёй трагэдыі з 48 году. Ну папросту няма сілы, каб мяне змусіла.

Як відзіш, я ні ждана, ні жадана зьмяніў г[этак] зв[анае] м[есца] п[обыту]. Папросту прыйшоў загад, і я цераз два дні зьліквідаваўся з Лёндана, бяз фэтаў і пажагнаньняў. І вось ужо блізка паўгады, як таўкуся па Эўропе. Нібы мая сталая кватэра ў Мюнхэне, але больш часу бываю ў падарожжы. За гэтых пяць месяцаў быў сем разоў у Лёндане, шэсьць у Бэльгіі, чатыры ў Францыі, у Швайцарыі і Галяндыі. У найбліжэйшым часе думаю быць у Гішпаніі і Італіі. Апутаў мяне дэман скорасьці й прастору: ужо экспрэсы для мяне ходзяць запаволі, бо прывык есьці сьнеданьне ў Мюнхэне, абед у Амстэрдаме, а вячэру ў Лёндане. Апошні час сяджу два тыдні на месцы, і ўсё пада мной круціцца. Гэта таксама хвароба.

Каб не ўрачы, але здароўе дапісвае. Ужо абжыўся рознымі сэрцовымі трагіфарсамі і хлопатамі, грошы — як заўсёды — не хапае, але жывецца. Тут я крыху адзінокі, бо няма з кім зжывацца. Бортнік[5] — як кожны сухотнік — мэлянхолік, а Станкевіч — не для мяне. Ну а больш нікога. Так, што хоцькі, няхоцькі, трэба шукаць немак. І зусім добра можна зь імі ладзіць, тым больш, што вельмі кемныя і лёгка можна на мігі згаварыцца. Што праўда, цяпер зьяжджае сюды маса польскіх артыстаў з Лёндану, у радыё *Free Europe*[6], але пакуль што стараюся іх не спатыкаць: задорага мне каштавалі ў Ангельшчыне. Думаю, што гэта было-б усё, што мог-бы аб сабе напісаць. З про публіко боно, думаю, Ты добра паінфармаваны, бо знаходзішся бліжэй нашага Алімпу. Я-ж ад палітыкі далёка, часамі, як камар, прыткнуся да “Бацькаўшчыны”, але

[3] Арыгінал ліста захоўваецца ў: Library and Archives Canada. R4894—93—6-E. Vol. 4. F. 6.

[4] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.

[5] **Уладзімер Бортнік** (1910—1988), грамадзкі дзеяч, журналіст. Жыў у Мюнхене, быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Заходняй Нямеччыне. Пазьней супрацоўнічаў з Радыё “Вызваленьне / Свабода”.

[6] **Радыё “Свабодная Эўропа”** (анг. ***Radio Free Europe***) — створаная адмысловым амэрыканскім Нацыянальным камітэтам свабоднай Эўропы ў 1951 г. радыёстанцыя, арыентаваная на вяшчаньне на эўрапейскія краіны сацыялістычнага лягеру. У 1976 г. аб’ядналася з Радыё “Свабода”.

гэта так, як кажуць, *“nasypali* [неразб.]*”*. Станкевіч прынамсі два разы ў месяц пішыць на мяне страшныя ўльтыматумы, я праз ветлівасьць раблю міну, што іх заўважаю, і далей раблю сваё. Ведаю, што Ты карэспандуеш і з Сіповічам, дык, думаю, што адносна Ангельшчыны добра паінфармаваны. Там цяпер камплетныя пусткі і ня робіцца нічога. Ды наагул робіцца трагічна. Столькі робім стараньняў, каб атрымаць радыёперадачы, але калі-б гэта ўдалося — хто іх будзе рабіць? Гэта не газэта, што калі Станкевіч запьецца, я выеду — можа не выходзіць тры тыдні.

Шчыра табе віншую з нагоды атрыманьня лектарату, але гэта-ж капля ў моры.

Я там абʼяжджаў вашых пітушкаў[7], але ў апошнім фэльетоне напаў і на Вас. Хіба можа Станкевіч ня пусьціць, бо нешта змакаў.

Але гэта ерунда.

Як-жа Ты жывеш, што робіш, чым сябе цешыш? Як Тваё здароўе? Як сэрцовыя справы? Не бяры гэта за шыдэрства[8], бо пад якой-бы мы гэографічнай даўжынёй не зышліся, заўсёды сэрцовы балаган у катомках завядзецца. Так званы “сардэчны баляст”. Гэта поўзае за намі, як смурод за гогаляўскім “Петрушкой”[9].

Дык апішы, Браток, усё падрабязна.

Мы тут з Барысом Рагулям часьценька вядзём даўгія начныя размовы за бутылкай віна і даходзім да вываду, што цябе трэба гвалтам вырываць адтуль у Эўропу. Ты-ж там ня ўрос у залатое руно і, думаю, спакаваў-бы бяз вялікай трагэдыі свае вуды, бо рыбу і тут вудзіць можна, а тым больш, што Ізар у Мюнхэне мутны.

Жыцьцё тут даволі цікавае, хаця крыху занэрвовае, але на гэта ёсьць лекі — 50° манапалькі, якая недарагая. Так што заліўшы рыбака, можна вытрымаць. Што праўда, у выпадку буры тут будзе зацёпла, дык зноў-жа нам не прывыкаць і шкадаваць занадта няма чаго.

Затое клімат тут цудоўны, Альпы пад бокам, водкі — хоць заліся, баб — хоць адбаўляй, прыгоды, авантуры — заўсёды на пажаданьне. Жыві поўнай грудзьдзю.

Дык дарагі Вінцук, буду канчаць, бо мушу выехаць, а ўжо з практыкі ведаю, што як адарвуся ад пісаньня — ня лёгка будзе ўвайсьці натор.

Маю надзею, што Ты адпішаш, і можа як-небудзь сьпішамся.

Тады бывай і не забывайся.

Абдымаю Цябе.

Твой П[ётра] Сыч.

---

[7] Маецца на ўвазе Язэп Пітушка.

[8] ***Szyderstwo*** (пол.) — насьмешка, кпіна.

[9] **Пятрушка** — герой паэмы Мікалая Гогаля “Мёртвыя душы”, слуга Чычыкава.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# “ЖЫВЕМ І ПАМІРАЦЬ НЕ ЗЬБІРАЕМСЯ…”

## Лісты Натальлі Арсеньневай да Вінцэнта й Раісы Жук-Грышкевічаў


Натальля Арсеньнева

Зь лістамі Натальлі Арсеньневай ужо давялося спаткацца раней, пры падрыхтоўцы матэрыялу «“Трэба жыць, як набяжыць” — праўдзівай біяграфіі амэрыканскіх гадоў Натальлі Арсеньневай»[1] на падставе ейнага ліставаньня зь Янінай Каханоўскай. Лісты былі выбраныя, і тады думалася-спадзявалася пра большую, паўнейшую публікацыю.

Толькі спадчыньнікі спн. Каханоўскай, хоць тая сама пры жыцьці перадала ліставаньне ў БІНіМ і выказала пажаданьне іхнай публікацыі, пагражаючы судом (незразумела, праўда, за што) прымусілі вярнуць лісты ў сям'ю. Што ж, застаецца спадзявацца, што мо некалі ў іх саміх знойдуцца час, веды й фінансы на выдрук гэтых каштоўных сьведчаньняў жыцьця нашае Паэткі.

Але тое не адзіныя лісты Натальлі Арсеньневай. У Атаве, у дзяржаўным, дзякуй Богу, архіве, захоўваецца яе карэспандэнцыя зь сямейcтвам Жук-Грышкевічаў. Меншая памерам, яна нясе тую самую адметнасьць, што й кагадзе апублікаваны эпісталярый: гранічная шчырасьць — пра самую сябе й пра людзей побач, ці то блізкіх, родных, ці то калегаў па “беларускай справе”.

І яшчэ адное нечаканае, што ўражвае пры чытаньні: наколькі падзеі ў самой беларускай эміграцыі сярэдзіны мінулага стагодзьдзя нагадваюць асобныя сюжэты ў яе ж — тых самых! — грамадзкіх і палітычных арганізацыях стагодзьдзя гэтага.

Хіба з адным толькі адрозьненьнем — усьведамленьнем, што тое ня нейкага ворага рука, што ўсё робім самі. Самі.

---

[1] Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум. Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. С. 380—422.

12.3.55 г.[2]

Даражэнькі Вінцук,

дзякую за ліст і за давер. Сьпяшаюся адказаць. Дык вось — першага кандыдата для цябе маю[3]. Ён можа выехаць хоць сяньня, бо нічым тут не зьвязаны. Гэта — паэт і пісьменьнік Рыгор Казак, год 48, самотны (жонка кінула колькі год таму), але мае пры сабе сына, якому сяньня ўжо 17 год і які канчае сёлета *High School*. Рыгор (Р. Крушына) 5 год — ад 1934 — [да 19]39 працаваў у Менскім радыё, добры дыктар, мову ведае добра (у 2 нумары "Конадняў"[4] глядзі апавяданьне "Чорныя дразды", падпісаныя псэўданімам Рамановіч), скрыпты можа пісаць. Адна ягоная вада — слабое веданьне ангельскай мовы. Яму вельмі хочацца выехаць у Эўропу з погляду на сына, якога ён марыць аддаць у Лювэн, бо тут ягоная матка, зь якой ён бачыцца, бунтуе супраць усяго беларускага, ну, і супраць бацькі таксама. Параўноўваючы зь Ліманоўскім, гэта чалавек, бязумоўна, шмат вартнейшы пад усімі поглядамі, ціхі й супакойны. Наш цалкам, хоць да Рады БНР не належыць. Праўда, ён любіць шмат гутарыць, але гэта хіба невялікая, бо працы не пашкодзіць. Што да другога кандыдата — пакуль што няма нікога. Прыдзецца табе для дабра беларускай справы яшчэ на нейкі час папрацаваць[5]. Ты нязвычайна падабаешся Камітэту[6], і аб гэтым і Тэрпак[7], і Вільямс, і Дрэгер увесь час гавораць. Можа, як угаворыш Раісу[8] пацярпець хоць яшчэ поўгады, а тады мо' якая рада знойдзецца. Вось увосені фабрыка, дзе працуе муж[9], выяжджае зь Нью Ёрку, і ён застанецца бяз працы. Можа-б згадзіўся тады навет ён на які год выехаць у Эўропу? Адміні-

[2] Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў: Library and Archives Canada. R4894—65—1-E; R4894—66—3-E. Vol. 2. F. 28—29.

[3] Для працы на Радыё "Вызваленьне", беларускую рэдакцыю якога Вінцэнт Жук-Грышкевіч узначальваў у 1954—1956 гг.

[4] **"Конадні"** — літаратурна-мастацкі часопіс, выдаваны Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку й Мюнхене ў 1954—1963 гг. Выйшлі 7 нумароў.

[5] Вінцэнт Жук-Грышкевіч меў намер сысьці з кіраваньня беларускай рэдакцыяй Радыё "Вызваленьне" ў 1955 г.

[6] Маецца на ўвазе Амэрыканскі камітэт барацьбы за вызваленьне ад бальшавізму.

[7] **Майкл Тэрпак** (анг. *Michael Terpak*), службовец палітычнага аддзелу Амэрыканскага камітэту вызваленьня ў Нью-Ёрку.

[8] Маецца на ўвазе Раіса Жук-Грышкевіч, якая ў траўні 1954 г. закончыла ўнівэрсытэт з дыплёмам дантыста, увосень 1954 г. атрымала канадыйскае грамадзянства, а ад пачатку 1955 г. далучылася да мужа ў Мюнхене ў чаканьні, калі яны абое змогуць наладжваць недзе сталае жыцьцё.

[9] Маецца на ўвазе Франц Кушаль.

стратар ён добры, але не асаблівы знаўца ні беларускай, ні тым больш ангельскай мовы. А мо і яшчэ хто надарыцца.

У нас учора прайшлі выбары ў Інстытут[10]. Рэпрэзантаваных было на ім 41 сябра (усяго — 60 сяброў). У новы Ўрад выбраныя: старшыня ізноў Тумаш, а ўправа: я, Адамовіч, Шукелойць[11] і інж[ынэр]. Гарошка[12] (скарбнік). Так што склад вельмі добры. Будзем працаваць. А Крывіцкае Таварыства[13] фактычна развалілася. Станкевіч[14] астаўся амаль адзін.

Наагул у нас тут палажэньне на грамадзкай ніве шмат папраўілася ад леташняга. Апазыцыя разьмецелася: Савёнкі выехалі[15], Панькоў (відаць на загад Хмары) з Рады выйшаў, Орса[16] застаўся зусім адзін, як і Станкевіч. Рэшта-ж скансалідавалася й працуе разам. На 25 сакавіка БАЗА робіць гадзінную перадачу на радыё. Прамаўляць будзе муж. Адным словам, працуем і робім, што можна.

Прывітаньні Раісе.

Твая Н[аталья] Арсеньнева.

[Сакавік 1955 г.?]

Даражэнькі Вінцук,

Атрымала твой другі ліст. Цікава, чаму ты не атрымаў майго адказу? Думаю ўсё-ткі, што ты яго атрымаў, толькі мо' нашыя лісты разьмінуліся. Я тады не адразу табе адказала, бо мусіла-ж пабачыць Рыгора Крушыну й пагаварыць зь ім. Дык вось, ён вельмі цешыўся-б, каб удалося яму трапіць у вашае радыё. Усе кваліфікацыі да гэтага ён мае, тут нічым паважнейшым не зьвязаны, мог-бы ехаць хоць сяньня-ж. Мы зь ім сябруем, і мне яго шкода, вельмі-ж ужо яму тут не шанцуе, усю

[10] Маецца на ўвазе Беларускі інстытут навукі й мастацтва.

[11] **Антон Шукелойць** (1915—2017), грамадзка-культурны дзеяч. Ад 1952 г. жыў у Нью-Ёрку. Сябра Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, доўгагадовы ягоны старшыня.

[12] **Мікола Гарошка** (1902—1979), грамадзкі дзеяч, інжынэр. Вучыўся ў Чэхаславаччыне, пасьля вяртаньня на радзіму працаваў у каапэрацыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны — на эміграцыі, быў старшынём Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня ў 1949—1952 і 1965—1967 гг., таксама быў старшынём Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

[13] **Крывіцкае (Беларускае) навуковае таварыства імя Пранцыша Скарыны** — навукова-асьветная арганізацыя, якая дзейнічала ў 1946—1949 гг. у Нямеччыне, а ў 1949—1976 гг. — у ЗША. Ягоным заснавальнікам і галоўным рухавіком быў Янка Станкевіч.

[14] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

[15] Лявон і Апалёнія Савёнкі набылі фарму ў Памоне (Нью-Джэрзі) і выехалі на жыцьцё туды.

[16] Маецца на ўвазе Аляксандар Орса.

зіму сядзеў бяз працы, цяпер дастаў, але вельмі цяжкую на канатнай фабрыцы. Дык цешылася-б за яго, каб адпачыў (вы там, пэўне, вашую працу адпачынкам не называеце, але для нас, чорнарабочых, гэта так) пры працы, якую любіць. Паміж іншага, Адамовіч нядаўна дастаў ліста ад Стася Ст[анкевіча], дзе той пісаў, што Ліманоўскі пэўне застанецца ў радыё. Дык як там запраўды?

А цяпер на іншую тэму. У сыботу адбылося першае паседжаньне новага ўраду БІНІМ. Урад гэтак падзяліў функцыі: старшыня Тумаш, заступнік — Адамовіч (Тумаш будзе весьці арганізацыйную і адміністрацыйную працу, Адамовіч — навуковую частку), скарбнік — Гарошка, архівары — Шукелайць і сакратар — узноў я, хоць вельмі адмаўлялася, бо мне сапраўды цяжка быць сакратаром і Інстытуту, і БАЗА, асабліва пры гэткім *Boss*'у, як Мярляк[17], што толькі на 25 Сакавіка я адна мусіла разаслаць звыш 300 лістоў (за межы, на шчасьце, рассылала Галоўная Ўправа). Разаслалі мы на ўсе адрасы беларусаў ваколіцы, якія ўдалося сабраць з погляду на радыёперадачу, якая адбудзецца ў сыботу. Калі людзі ня змогуць прыйсьці ці прыехаць на сьвяткаваньне, дык хоць паслухаюць радыя.

Што аўторку ўвечары маю “раніцу” зь Мерляком у памешканьні БАЗА, дзе мы цэлы вечар пішам і друкуем. Варочаюся да хаты пад поўнач. Цяпер, але ўжо па панядзелках, гэткія-ж “раніцы” буду мець яшчэ і з Тумашам ужо па лініі Інстытуту. Апрача гэтага, хаджу на сьпеўкі, бо цяжка было сабраць хор, і Мярляк выдэлегаваў мяне ў хор у ролі і даглядчыка, і сьпевака. Ну, і сьпяваю. Гэты тыдзень асабліва цяжкі, бо апрацоўвалі бацькаву[18] прамову на радыё, перабівала аж тры разы (бо ўсьцяж замены) на машынцы. А ўчора да 1-ай уначы перакладала на беларускую мову адну рэч да сьпеваў з нотаў, якая мае выконвацца на 25 Сакавіка. Пішу гэты ліст і засыпаю. А ўжо пасьля паловы восьмай. Трэ канчаць і бегчы на сваю фабрыку[19].

Прывітаньні Раісе і ўсім знаёмым.

Твая Н[аталья] А[рсеньнева].

Ня думай толькі, што хоць шмат працы, а я наракаю. Наадварот, сёлета ў нас неяк вясёла, і я поўнасьцяй цешуся з жыцьця. Пішы часам.

---

[17] Кастусь Мерляк у 1954 г. быў абраны на старшыню Акруговай управы БАЗА ў Нью-Ёрку, а Натальля Арсеньнева была яе сакратаром.

[18] Натальля Арсеньнева называла “бацькам” свайго мужа Франца Кушаля.

[19] Натальля Арсеньнева працавала на кансэрвавай фабрыцы, закрывала агуркі ў слоікі.

[Сакавік-красавік 1955 г.?]

Даражэнькі Вінцук, выбачай, што так доўга на твой ліст не адказвала, але перад сьвятамі сабралася столькі працы, што запраўды на карэспандэнцыю не магла й часінкі ўрваць. Ня ведаю, з чаго й пачынаць, табе адказваючы. Хіба найбольш цябе будзе цікавіць справа, аб якой ты пісаў — ці згадзіліся-б мы паехаць на працу ў Радыё. Дык справа, як я й пісала, ня можа ўваходзіць у рахубу раней позьняй восені. Да лістапада муж мусіць працаваць, каб набыць правы на мінімум пэнсіі *old age relief*, дзеля чаго для ягонага гадавіку патрэбныя найменш 5 год бесьперапыннай працы. Таму што яму ўжо мінула сёлета 60, другое пяцігодкі да асягненьня 65 год ён ужо ня зробіць, дык мусіць мець хоць адну пяцігодку, якая кончыцца ў лістападзе. Па-другое, яму, здаецца, прыйдзецца пайсьці на апэрацыю, як толькі дапрацуе свой пяты год. Каб не рабіць перапынку, ён спэцыяльна й вычэквае з гэтым аж да лістапада. Так што калі-б ня было ніякіх іншых зьмен і перашкод, раней новага году ён ня можа думаць аб ніякіх выездах. Па-другое, навет у гэтым выпадку мы тут сваіх справаў бы не ліквідавалі, і я-б у Эўропу адразу не паехала, бо запраўды тутка вельмі патрэбная, напэўна, больш, чымся ў Эўропе. Аб гэтым шмат хто чуў, калі траха ня ўсе, могуць пасьветчыць. Зрэшты, да канца году гэткія могуць заўсёды здарыцца зьмены, што цяжка сказаць, што і як трэба будзе рабіць. На жаль, не магу табе параіць і нікога іншага. Ніхто, апрача Казака, у Эўропу ехаць ня хоча. Праўда, што ў Камітэт лазяць і набіваюцца (аб чым я даведалася якраз за тыдзень да атрыманьня твайго “канфэдэнцыяльнага” ліста — Тэрпак расказаў аб гэтым) — Цэлеш і Сядура, але апінія беларускага грамадзтва аб гэтых “кандыдатах” ужо ведамая Камітэту і, здаецца, перасудзіла справу. Я нядаўна таксама аб усіх гэтых справах гутарыла з Тэрпаком, ён фактычна меў са мной гутарку ў справе мае кандыдатуры на зьезд пісьменьнікаў (на што я пагадзілася), але гаварылі мы шмат аб чым. Між іншага, ён наракаў, што ўсе народы, якія маюць быць прадстаўленыя на зьезьдзе пісьменьнікаў, ужо падалі кандыдатаў на сяброў арганізацыйнага зьезду і толькі беларусы там нікога ня маюць, бо гэта мае быць асоба апалітычная. На гэта я падала яму кандыдатуру айца Гарошкі, бо нікога іншага не магла прыпомніць. Тэрпак запісаў і будзе яго пытацца аб згодзе, дык можа й ты, калі па-твойму ён да гэтае ролі падыйдзе, яму напішаш, каб ён згадзіўся.

Што да твайго абурэньня крытыкай Радыё “Вызваленьня” на вечары, наладжаным Тэрпаком на жаданьне Акр[уговай] Управы БАЗА, дык зусім на ім нічога гэткага ня было, у кажным разе ў “Беларусе” гэтая справа была насьветлена, хоць нібы й так, як была, але па-праўдзе із спэцыфічнай афарбоўкай — няма дзіва, бо пісаў гэту інфармацыю

сп. Міцкевіч[20], а трэба табе ведаць, што гэта адзін з нашае галоўнае тройкі зацятых ворагаў Радыё Вызваленьне й Камітэту наагул (два другія — Орса й Шукелойць, гэты апошні больш тэарэтычны вораг). Добра, што Савёнкі ўжо выехалі на сваю далёкую фарму, а то "крытыкаў" было-б больш. Пры гэтым мушу як удзельнік сказаць, што нашае сэкцыі ў Радыё ніхто не крытыкаваў наагул, а ўсе вінавацілі ў недахопах ня Вас, а Камітэт, даючы Тэрпаку розныя парады й выказваючы па чарзе нашыя яму жаданьні. Агульнае ўражаньне ад вечару было вельмі добрае й да ўсіх Вас сардэчнае й прыхільнае, чаму ў цябе стварылася благое ўражаньне — ня ведаю. Праўда, я ў "Беларусе" зацемку толькі прабегла вачыма, дык ня ведаю, можа чаго й не заўважыла, але кажу, што пісаў яе сам рэдактар Міцкевіч з Шукелойцам, якія варожа ставяцца да Камітэту. Але іх было толькі 2 (Орсы ня было), а ўсіх прысутных, дарма, што будзённы вечар пасьля працоўнага дню, — чалавек 35. Гаварылі мы й пра *"З Богам"*. Па-мойму, добра й *"Дай Божа"* канчаць перадачу, але можна й так: *"Заставайцеся з Богам"*. Але й па-мойму адно *"З Богам"* тут ня йдзе, бо гэта на Беларусі гаворыцца, толькі калі каго выпраўляеш у дарогу. Так што аб гэтай "крытыцы" ня думай і не бядуй, я сьветка, што да нашага Радыя 90 % прысутных паставіліся вельмі прыхільна, а што Тэрпаку рабіліся тыя ці іншыя слушныя заўвагі, дык так і трэба, зрэшты, Камітэт астаўся вельмі вечарам задаволены й маніцца па нашаму прыкладу правесьці такія вечары й зь іншымі нацыянальнасьцямі.

У нас на 25 Сакавіка была вельмі добрая радыёперадача на 32 часіны, з кароткай прамовай мужа, плыткамі й добрым канфэрансам. Усім вельмі спадабалася. Слухала яе вельмі шмат людзей. Было шмат розных водгукаў. Шлю табе тэкст прамовы, разьлічаны галоўна на старую эміграцыю. Мо' скарыстаеш у "Хроніцы".

А пакуль што бывай здароў. Прывітаньні.

Твая Н[атальля] А[рсеньнева].

6.4.1955 г.

Даражэнькі Вінцук, не адказала табе адразу, бо, па-першае, чакала, як выясьніцца канчальна справа ў Рыгора [Казака], а па-другое, яшчэ раз спраўдзіла тое-іншае, што да пэнсіі, выслугі год і г. д. Дык вось: Рыгор вылятае ў панядзелак 9-га мая раніцою, так што, магчыма, будзе

[20] Відаць, маецца на ўвазе **Міхась Міцкевіч** (псэўд. **Антон Галіна**, 1897—1991), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, брат Якуба Коласа. Падчас нямецкай акупацыі працаваў інспэктарам беларускіх школаў на Стаўпецкі раён. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягерах для перамешчаных асобаў, настаўнічаў, выпусьціў чатыры чытанкі для дзяцей. З 1950 г. — у ЗША, актыўны дзеяч БАПЦ, радны БНР. Некалькі гадоў быў рэдактарам газэты "Беларус" і каля 15 гадоў — часопісу "Голас Царквы".

ў Вас раней за мой ліст. Што да нашай справы, дык я мела рацыю: праца ў Радыё не залічана ў катэгорыю, якая мае права на *Old Age Relief*. Пакуль што на яе маюць права толькі работнікі, якія аплачваюць г. зв. *Social Security*[21]. Сёлета да іх дайшлі дамовая абслуга й некаторыя катэгорыі работнікаў на фармах. Абяцаюць, што катэгорыі гэтыя будуць пашырацца за бегам год, але пакуль што гэтага няма. Іншая справа Амэрыканцы. Магчыма, што ім гэтая праца залічаецца, як дзяржаўная, і яны таму маюць пэнсіі, але ўжо не ад *Social Security*, а ад дзяржавы, на што не амэрыканскія падданыя разьлічаць ня могуць. Так што раней, як недзе пад зіму, як я ўжо пісала, нам нікуды рушыцца ня можна. На гэта складаецца безьліч прычынаў. Я лічу, што ў сувязі із бясспрэчна пераламовым міжнародным палажэньнем табе наагул трэба пакуль што перачакаць нейкі час зь якой-колечы дэцызыяй. Гэтае лета шмат чаго вырашыць наагул, і калі ты ўжо там і на становішчы, дык найпрасьцей, ды наагул адзіна магчымае гэта ахвяравацца й перачакаць, тым балей, што нехта ўжо кінуў чутку, разьлічаную, бязумоўна, на падрыў аўтарытэту твайго, а гэтым самым і нашай сэкцыі ў Радыё, быццам ты паставіў Камітэту ультыматум — дасьцё жонцы пасаду, буду працаваць, а не — кідаю ўсё. Разумеецца, што гэта вуснамі нейкага нашага дурня (ці не Ліманоўскі крыніца?) пашыраюць дэзарыентацыю ў беларускім грамадстве бальшавіцкія агенты. Таму, каб я была на тваім месцы, я-б сьцяла зубы й вытрывала яшчэ крыху.

А што да “нашага бацькі” й таго, што ты ўспамінаеш са словаў Раісы, дык ён якраз ніколі аб асабістым ня думае. Тое, што ён перажыў апошнім часам па віне тых-жа цёмных сілаў, якім тады косьцяй у горле быў “Беларус”[22] (якога, між іншага, яшчэ ніхто як належыць, не ацаніў), як сяньня ёсьць нашае Радыё ў Мюнхэне, дык большага пасьвячэньня для справы цяжка ад чалавека вымагаць. Падумай, чалавека найчасьнейшага (аб гэтым я, хіба, ведаю найлепш), каб толькі адсунуць ад працы, карыснай для нас і шкоднай для ворага, робяць злодзеем, здраднікам, пэцкаюць і ахайваюць на ўвесь сьвет (славуты пашквіль[23]). І ён усё гэта пераносіць для дабра справы й працуе й дапамагае, дзе можа й далей. І тое самае раблю я. Ці-ж мы ня служым справе? А тое, што я пасьвяціла й сябе, і сваю творчасьць грамадзкай працы цалкам, каб толькі як ня даць нашай справай зусім прапасьці, так-такі для Вас нічога ня значыць? То я табе ніколі ня пісала аб тым, як у нас сяньня тут справы стаяць, бо неяк вельмі прыкра пісаць аб нейкім нешта, ну, ня зусім добрае, але цяпер, хіба, напішу.

---

[21] ***Social Security*** (анг.) — сацыяльнае забесьпячэньне.

[22] Гл.: Юрэвіч, Л. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага. Гісторыя газэтаў “Бацькаўшчына” й “Беларус” (1947—2000). Мінск, 2006. С. 83—93.

[23] Прадуха, Аркадзь. На крывіцкім панадворку. Лёндан, 1956. 15 с.

Справа ў Мерляку. Я згадзілася быць яго сакратаром па лініі БАЗА проста, каб магчы хоць крыху дапамагаць яму й высьцерагаць ад памылак. Але гэта я магу рабіць толькі па лініі БАЗА. Зрэшты, на гэтым становішчы ён зусім добры. Гэта чалавек нязвычайна амбітны, аж занадта, самаўпэўнены, усюды пройдзе, энэргічны, працавіты. Калі ўжо ня ён, дык у БАЗА ніхто нічога ня зробіць! Але ён мае вялізную загану: ён (але гэта толькі паміж намі, Вінцук) страшэнны прымітыў, г. зв. недавучаны поўінтэлігент і абсалютна ня знаецца на палітыцы. Як старшыня сэктару[24], ён ужо нарабіў колькі памылак, якія цяжка выправіць.

Першае: запрошаны на сьвята Ўкраінскай Незалежнасьці, ён выступіў там з прамовай (ад імя сэктару), хоць быў там прысутны куды лепшы прамоўца — Адамовіч. У гэтай прамове ён, ведама, горача выступаў за Ўкраінцаў, якіх вынішчаюць бальшавікі мільёнамі, а сьвет маўчыць, тады як "зачапілі" ў Маскве колькі жыдкоў, і жыды паднялі вэрхал на ўвесь сьвет! А жыдоўскія прадстаўнікі сядзяць у першым радзе! Разумеецца, яны страшэнна абурыліся, зьвярнуліся з пратэстам да Ўкраінцаў, патрабавалі ад іх выясьненьня, ну й вядома, тыя ўсю віну скінулі, перапрашаючы, на беларусаў. Хіба апінія жыдоў цяпер для нас асабліва прыхільнай ня будзе.

Другая справа ня лепшая. Справа ў тым, што сёлета перад 25 Сакавіка палякі самі (праз др. Грабыка, здаецца) наважылі адзначыць гэты дзень. У Нью Ёрскай польскай газэце *"Nowy Swiat"*[25] зьявіўся на першай бачыне артыкул аб 25 Сакавіка ў дзьвюх мовах — польскай і беларускай (пісаў Грабык, тлумачыла на беларускую мову па ягонай просьбе я), дзе палякі ў канцы запэўнялі аб салідарнасьці ўсёй перадавой калёніі з намі ў нашых імкненьнях да незалежнасьці й г. д., артыкул вельмі прыгожы. Апрача гэтага, далей быў зьмешчаны вялікі й рэчавы артыкул пра Беларусь і яе змаганьне за незалежнасьць, напісаны, як пасьля выясьнілася, Паланевічам і ператлумачаны самым рэдактарам. Апрача гэтага, на само сьвяткаваньне 25 Сакавіка прыйшлі прадстаўнікі ад польскіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў і мелі прамаўляць, але ў рэфэраце, які Мярляк даў чытаць Орсу (як ён сам пазьней казаў, *"каб рэабілітаваць яго па парадзе згары"*) і які ён сам "праверыў", Орса ў сваім рэфэраце вельмі шмат месца прысьвяціў польска-беларускім дачыненьням, Люблінскай Вуніі, Заходняй Беларусі, Картуз-Бярозе і г. д., так што польскія госьці слухалі, слухалі, а тады абразіліся й выйшлі, ня вітаючы й не прамаўляючы. Абраза трывае да сяньня, і таму мы самі ад сябе (бо Мярляк, які быў крыху зьбянтэжаны адразу, цяпер ужо гаворыць, што рэфэрат быў добры, бо *"дзеля колькіх*

[24] Маецца на ўвазе сэктар Рады БНР.

[25] ***"Nowy Świat"*** — польскі часапіс, які выходзіў у Нью-Ёрку ў 1919—1971 гг.

*палячкоў крывіць душой ня будзем”*), дык мы наважылі, як гэту справу пастарацца загладзіць праз др. Грабыка, зь якім мы падтрымоўваем, праўда, дось рэдкія, таварыскія дачыненьні. Можа як і ўдасца хоць трохі гэты скандал злагодзіць.

Гэта дзьве найгоршыя памылкі, але ёсьць шмат іншых. Побач з гэткімі “выступленьнямі” перад чужынцамі дзеіцца і іншая цікавая рэч: усе тыя людзі, якія запраўды маглі-б запрэзантаваць нас перад чужынцамі, адсоўваюцца на бок, памінаюцца (паводле ўпорных чуткаў, таксама таямнічымі Мерляку “парадамі з гары” (?), таксама спроба скампрамітаваць і сп. Прэзыдэнта[26]).

Ясна, што дзеіць тут усё тая-ж спрытная варожая рука, якая так кіруе справамі, што людзі карысныя й творчыя кампрамітуюцца, ахайваюцца або проста памінаюцца і адсоўваюцца, а прымітывы выстаўляюцца наперад на вялікую шкоду нашай справе. І шкода гэтая ўжо відаць — сёлетняе сьвяткаваньне, дарма што Мярляк расьпісаў у “Бацькаўшчыне”, было найгоршае за ўсе апошнія гады й па лініі палітычнай і мастацкай.

Дык вось як у нас. Напісала табе аб гэтым чыста па-сяброўску, каб ты ведаў, што ўсюды варожая рука дзеіць. У нас цяпер адзін Інстытут наш жыве й дзеіць, гуртуе інтэлігенцыю на рэфэратах і вечарох, а так — ніхто нічога ня знае, сэктар падаўнейшаму абсалютна бязьдзейны, сп. Прэзыдэнт нікому ня піша ні слова (хоць Мярляк хваліўся, што яму піша, але, відаць, сакрэты, аб чым гаварыць іншым ня можна). Адным словам, імпас, які мы стараемся, як можам, расьсейваць. А так наагул — Мярляк чалавек добры, шчыры, ахвочы, аж занадта. Не ягоная віна, што ён ня мае патрэбнае асьветы й палітабыцьця.

Канчаю й кажу *“не дамося”*. Ня “дайся” й ты.

Прывітаньні ўсім знаёмым.

Твая Н[аталья] Арсеньнева.

[Лета 1955 г.?]

Даражэнькі Вінцук, выбачай, што адказваю на твой ліст із немалым спазьненьнем. Атрымала яго якраз перад нашым выездам на вакацыі (езьдзілі да сына[27] ў Лінн, пад Бостанам, і цудоўна правялі там час, цэлыя дні на пляжы і ў моры), а калі вярнуліся, дык неяк час так заляцеў, што і ўсё тое, на што я мелася табе адказаць, ужо, фактычна, або неактуальнае, або ты ўжо аб гэтым ведаеш.

[26] Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык.

[27] Маецца на ўвазе **Ўладзімер Кушаль** (нар. 1926), сын Натальлі Арсеньневай і Франца Кушаля.

Ліманоўскі вярнуўся 4-га[28]. Ён вельмі сябруе з Паланевічам. Раней вёў зь ім жывую перапіску, зь якой я ведала аб тым, што ты мне пісаў у апошнім лісьце, яшчэ на які тыдзень перад ягоным атрыманьнем. Ведама, і ў лістах, і цяпер на словах ён вельмі лае цябе ды неласкаў і на сп. Прэзыдэнта. У гутарках з Паланевічам я заўсёды старалася цябе бараніць і праставаць няпраўдзівыя інфармацыю Ліманоўскага, але сумляваюся, ці верыў ён мне лепш, чымся Ліманоўскаму. Сябруе зь Ліманоўскім і Шукелайць, быў у нядзелю ў яго разам з Паланевічам (Ліманоўскі жыве на сваёй старой кватэры). Ці вядзе ён ужо якую "акцыю", яшчэ ня ведаю, бо ні сама зь Ліманоўскім, ні Паланевічам, ні Шукелайцем ня гутарыла на гэту тэму. Думаю, што калі што будзе — даведаюся.

Затое зноў пачынае "ажываць" наша "апазыцыя", якая звыш году спала моцным сном. Пару тыдняў таму прыяжджаў у Нью Ёрку Каханоўскі[29] і рабіў "зьезд" свае "партыі"[30]. Але на сяньня засталіся ў ёй толькі Орса (адзін з найбольш актыўных "партыйцаў"), Кулеш[31], Савёнак і Старасельскі[32]. Дык Каханоўскі запрасіў і колькіх "не сяброў" — Галяка[33], Панькова, Махноўскага (гэты не пайшоў), вёў доўгія гутаркі із Міколаю Шчорсам, і ў выніку ўсяго паўстаў "Камітэт Вызваленьня Беларусі", бо Рада БНР, быццам, зрадзіла нашай справе[34]. Ясна, што

---

[28] Янка Ліманоўскі вярнуўся зь Мюнхену, звольнены з працы на Радыё "Вызваленьне".

[29] Маецца на ўвазе Аўген Каханоўскі.

[30] Маецца на ўвазе **Беларуская нацыянал-дэмакратычная партыя (БН-ДП)**, якая паўстала ў Нямеччыне пасьля Другой сусьветнай вайны на чале з Аўгенам Каханоўскім (гл.: Праграма Беларускай Нацыянал-Дэмакратычнай Партыі. 1947. — 52 с.).

[31] Відаць, маецца на ўвазе **Павал Кулеш** (1913—1998), грамадзкі дзеяч. Паводле адукацыі аграном. У часе Другой сусьветнай вайны трапіў у палон, дзе дапамагаў шмат каму з суродзічаў, бо працаваў польска-нямецкім перакладчыкам. У 1950 г. пасяліўся ў ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Сябра ўправы Нью-Джэрзійскага аддзелу БАЗА.

[32] **Юліян Старасельскі** (1919—1965), грамадзкі дзеяч. Жыў у ЗША, у штаце Канэктыкут.

[33] **Леанід Галяк** (1910—1980), грамадзкі дзеяч, юрыст. У часе нямецкай акупацыі працаваў юрыстам у Менскай акрузе. У 1944—1945 гг. супрацоўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР. Заснаваў Беларускае бюро ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Аўтар "Успамінаў" (выдрукаваныя ў 2 тамах у 1982—1983 гг.).

[34] Тут маюцца на ўвазе дыскусіі, якія ішлі вакол супрацы Рады БНР з Амэрыканскім камітэтам вызваленьня ад бальшавізму, а таксама (праз яго) кантактаў з расейскімі эміграцыйнымі структурамі, якія лічылі, што вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў дачыненьні народаў былой Расейскай

з гэтага тут усе сьмяюцца, бо гэтыя людзі (плюс Я[нка] Станкевіч) усім добра знаныя, як абсалютна да нічога няздольныя, непаважныя й да таго вельмі нячэсныя, ну, але “рух” робіцца. Так што, як бачыш, у нас усё па-старому ізноў.

А рэшта — пакуль што ў вакацыйным настроі. Справа Беларуская чакае, аж спадзе гарачыня, зачыняцца пляжы, і публіку агорне восенскі настрой. Я й сама гэтага чакаю, ізноў будзе весялей, пачнуцца сходы, рэфэраты, вечарыны. Лета ўжо абрыдла, надта-ж яно сёлета гарачае й парнае, тэмпэратура ўвесь час між 95—98°[35]. Цяжка трываць навет мне. Я вельмі цешуся, што ты пакуль што застаўся ў Радыё. Паланевіч, быццам, ехаць у Эўропу ня хоча.

Прывітаньні табе, Раісе, усім добрым знаёмым.

[Натальля Арсеньнева]

[Канец 1955 — пачатак 1956 г.?]

Даражэнькі Вінцук, выкарыстоўваю нагоду і ў службовую капэрту ўкладаю колькі прыватных да цябе словаў. Днямі сюды прыяжджаў Грыцук[36], яго выклікаў А[мэрыканскі] Камітэт, дык думаем, што гэта й будзе твая замена. Іншых кандыдатаў няма, бо хіба ня можна паважна браць кандыдатуру Ў[ладзімера] Дудзіцкага (Гуцькі), якую, быццам, падтрымоўваеце Вы. Гэта-ж такі непаважны, лёгкадумны чалавек, як уп’ецца — авантурнік, а да таго-ж абсалютна далёкі ад ідэй БНР. Гэта-ж ён у 1944—45 годзе перайшоў быў да Ўласава[37] разам з Кіпелем[38] і Селяхам. Мы як пачулі, што ён кандыдат — аж спалохаліся. Праўда, ён прапагандыст добры, умее гаварыць і ў таварысьцьве сяброў, пакуль ня вып’е, чалавек мілы, але зрабіць яго кіраўніком нашага Радыя! На шчасьце, Камітэт сказаў, што з Вэнэцуэлі сьцягваць людзей — вялікі клопат, і таму кандыдатуру адкінулі. Грыцук-жа, як мы чулі ад Адамовіча, ім спадабаўся. Яшчэ ня ведаю, на чым ён паехаў назад, у Таронто, ня бачыла ад аўторку Адамовіча, а ён адзін можа ведаць што пэўнае як свой чалавек у Камітэце. Думаю, аднак, што яго будуць цяпер афармляць, і ён паедзе табе на зьмену. Цешуся, што Рыгор [Казак] добра спраўляецца. Тое, аб чым пішаш у справе перадачаў, перадам старшыні Сэктару, але сумляваюся, ці прыватнага ліста твайго да мяне будзе яму

імпэрыі, у тым ліку й беларусаў, трэба адкласьці да моманту перамогі над камунізмам, і такім чынам не прызнавалі паўнамоцтвы БНР.

[35] 95—98 градусаў па Фарэнгейце — гэта 35—36,6 градусаў па Цэльсію.

[36] Маецца на ўвазе Алесь Грыцук.

[37] **Андрэй Уласаў** (1901—1946), былы савецкі генэрал-лейтэнант. Захоплены ў палон, перайшоў на бок нацыстаў. Узначаліў Рускую вызваленчую армію.

[38] Маецца на ўвазе Яўхім Кіпель.

досыць дзеля інтэрвенцыі. Мо ты яму напісаў-бы сам (Мерляку), а ён мог-бы склікаць Сэктар і вырашыць. Але канчаю. Прывітаньні.

Твая Н [аталья] А[рсеньнева].

[Люты 1956 г.?]

Даражэнькі Вінцук,

Ужо навет і не перапрашаю цябе за даўгое маўчаньне — гэта-ж я калі атрымала твой апошні ліст, недзе яшчэ перад Калядамі! Але ўсё неяк чакала, можа здарыцца што цікавае, або будзе крыху больш вальнейшага часу. Ведама, што да часу, мець яго хоць крыху для сябе — як дагэтуль, недасяжная мроя — часу ніколі не стае навет на найпатрэбнейшыя рэчы. Вось ужо, думаеш, скончыўшы якую пільную справу, — *"ну, дзякуй Богу, можна крыху адпачыць"*, — аж зараз-жа налятае нешта новае, неадходнае, пільнае... і ўсё пачынаецца адпачатку. Гэтак — надыходзілі Каляды й было шмат працы ў хаце, каб належна да іх падрыхтавацца, а на гэта патрэба было часу, які трэба адкрадаць гадзіна па гадзіне. Тады — рыхтаваліся да сустрэчы Новага Году, і я ізноў мела шмат працы з арганізацыяй гэтай сустрэчы (добра яшчэ, што ўсё ўдалося нязвычайна добра й давялося й натанцавацца й нагуляцца ўдосыць), тады — мусіла арганізаваць дзіцячую ялінку, якая каштавала мне шмат працы, сіл і нэрваў, бо хацелася наладзіць і нейкі канцэрцік дзіцячае самадзейнасьці і гульні. На шчасьце, і гэта ўдалося правесьці як належыцца. Паставіла я інсцэнізацыю ведамае казкі "Рэпка", напісаўшы да яе вершаваны тэкст, якой мне самой давялося й чытаць. Зрабіла вельмі ўдалыя касьцюмы й маскі "Жучкі", кошкі й мышкі, зь вялікай цяжкасьцю знайшла й Дзеда Мароза, бо ніхто чамусьці (як, зрэшты, штогод) не хацеў ім быць. Жанчыны з нашага дому (Рагуліха[39], Курыліха[40], а таксама Кунцэвічыха[41]) дапамаглі мне купіць падарункі й запакаваць іх, — і ў выніку выйшла вельмі добрая ялінка. Вельмі прыгожа дэклямавала вершы Рагулява дачка й сын Мухі[42]. Гэта яшчэ раз паказала, што калі бацькі дбаюць аб сваіх дзяцей і займаюцца імі — яны беларускай мовы не забудуць ніколі і іх шмат чаму добраму можна навучыць. Затое

39 Маецца на ўвазе **Ніна Рагуля** (1920—2005), жонка Міхася Рагулі.

40 Маецца на ўвазе жонка Ўладзімера (Уладыслава) Курылы.

41 Маецца на ўвазе жонка Міколы Кунцэвіча.

42 **Іван Муха** (1912—1982), грамадзкі дзеяч. У 1942—1945 гг. працаваў настаўнікам у Нясьвіскай сэмінарыі. Двойчы быў арыштаваны, больш як месяц праседзеў у Баранавіцкай турме. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне, у лягерах *DP* у Розэнгайме, Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, працаваў настаўнікам матэматыкі й фізкультуры ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У 1950 г. выехаў у ЗША. Ад часу набыцьця адпачынковага цэнтру "Белэр-Менск" дапамагаў праводзіць спартовыя гульні.

Тумашаў “Брацік” спракудзіўся — зьбіўся й сышоў са сцэны, паказаўшы язык нейкаму хлопцу, што зь ягонай няўдачы быў засьмяяўся. Пасьля ялінкі — мусіла рыхтаваць матар’ялы для “Конадняў”, якія й так дзеля поўнае нястачы грошы моцна спазьніліся з выхадам у сьвет. Пісала сама й перадрукоўвала ўвесь матар’ял. Цяпер ужо сабралі каля 200 даляраў і здалі ўсё ў друк. Трэцяга сакавіка мае быць гатовае. Цяпер ізноў — забава БАЗА на выдавецкі фонд газэты “Беларус”, на якой я маю зь Яняй Кахаfor ўскай[43] падрыхтаваць і правесьці лятарэю. Фанты ўжо сабраныя. А як скончыцца гэты абавязак, буду прабаваць перакласьці хоць пару вершаў Купалы на ангельскую мову, што будзе вельмі цяжка дзеля таго, што маю занятыя працай на фабрыцы ўсе раніцы, калі мне найлепш творча працуецца. Увечары, калі вернешся дахаты змучаная, галава ўжо цяжкая й вельмі цяжка творча працаваць. У сыботы-ж і нядзелі зноў — так шмат неабходнае працы хатняе й грамадзкае, што проста немагчыма што-колечы ўрваць для сябе. Але буду прабаваць, Стась Станкевіч вельмі просіць. Наагул, ахвота да працы творчай ёсьць у мяне цяпер вялікая, але на перашкодзе ўсяму — нястача часу. Каб я хоць трохі магла быць вольнай, каб нічога, нічога ня рупіла — я-б, хіба, магла напісаць штосьці вельмі добрае. Выглядае, аднак, што гэткая мроя мая ніколі ня зьдзейсьніцца, а шкада. Гэтак і лятуць дні. Ліманоўскі сядзіць досыць спакойна пасьля свайго выступу на сэктары. Мярляк, які выкінуў быў новую “штучку”, таксама асеў у выніку гвалтоўнае рэакцыі нашага грамадзтва й цяпер заняты арганізацыяй 25 Сакавіка. Справа ў тым, што ён, ні з кім не параіўшыся й навет патайком хацеў было ладзіць сёлета сьвяткаваньне разам з зарубежнікамі і ўжо навет дагаварыўся быў са Шчорсам, які меў адчыняць сьвяткаваньне, а што да рэфэрату — дык Мярляк із Шчорсам[44] мелі цягнуць лёсы, хто дасьць дакладчыка. Так што мог быць вялікі скандал, які-б зарубежнікі, якія, між іншым, зусім тут ужо канаюць, выкарысталі ўжо як належыць! На шчасьце, агульная рэакцыя ўсіх, апрача Ліманоўскага, была гэткая, што Мярляк мусіў адклікаць сваю гутарку са Шчорсам. Ладзіць сёлета абыход Сакавіка будзем, аднак, па ўзору зарубежнікаў у нейкім гатэлі, будзе канцэрт, рэфэрат і тады банкет. Мярляк запрашае шмат гасьцей, невядома толькі, ці так шмат прыйдзе. Думаю, што так, бо зарубежнікі, у выніку ўсяго, са сьвяткаваньня ў Нью Ёрку, быцца зрэзыгнавалі й будуць ладзіць сьвяткаваньне толькі ў сябе ў Саўт-Рывэры. Іншых палітычных навінаў у нас тут пакуль што няма. Сэктар ня склікаецца, ніякія

---

[43] **Яніна Кахаnoўская** (дзяв. **Шабуня**, 1905—2005), грамадзкая дзяячка, пляменьніца Івана й Антона Луцкевічаў, першая жонка А. Калубовіча (Кахаnoўскага).

[44] Мікола Шчорс быў у той час старшынём Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

агульныя сходы таксама. Усе чакаюць Сэсіі Рады[45]. Але яна яшчэ, пэўне, вельмі ня хутка будзе. Галіна[46] тут мае нейкія "каншахты" ўсё зь Мерляком. Мярляк надта ёй "кадзіць". Чаго ён ад яе спадзяецца, а таксама што яна яму гаворыць — няведама. А так — нічога асаблівага іншым не гаворыць. Жыве яна ў Яні Каханоўскай, і там таксама на палітычныя тэмы не гавораць. Сядзіць цэлымі днямі й нешта вышывае або ходзіць у кіно. Памагае таксама й хоры, што рыхтуецца на 25 Сакавіка.

Ліманоўскі мае свой клопат і таму, мусіць, не асабліва шкодзіць. Гэта мне давялося даведацца прыпадкам і пад сакрэтам, так што й ты нікому не кажы: ён падаў быў на грамадзянства, і вось ужо йдзе чацьвёрты месяц — і яго ня выклікаюць, хоць нармальна выклікаюць на экзамен пасьля месяца, а на прысягу, пасьля гэтага, — ізноў празь месяц. Так што ён баіцца, што яму й зусім могуць у грамадзянстве адмовіць. У нас тут бальшыня ўжо ці грамадзяне, ці хутка імі будуць, так што па прыкладу іншых народаў давядзецца для працы навонкі стварыць побач свае Рады БНР на ўнутраны ўжытак нейкае "Таварыства прыяцеляў Рады БНР", каб Радныя маглі дзейнічаць навонкі. Будучы амэрыканскім грамадзянінам, ён ня можа, прыкладам, выступаць, скажам, у Вашынгтоне, у справах нашых або БНР, а будучы сябрам "Таварыства прыяцеляў або прыхільнікаў Рады БНР", можа рабіць абы-якія інтэрвэнцыі перад уладамі, і ніхто яму не забароніць. Гэтак цяпер зрабілі ўсе блізу народы, бо кажны год памяншаецца колькасьць неграмадзян. Ну, але гэта справа бліжэйшае будучыні. Калі-ж прыедзе ўжо Ў[ладзімер] Дудзіцкі? Мы чулі, што ён едзе з жонкаю (каторай па ліку, цікава) і чатырма дзецьмі. Гэта нас крышку, што да ягонае асобы, супакойвае: будучы гэтак моцна жанатым і "дзіцятым", ён, хіба, пасталеў і спаважнеў, а таму можа й кінуў піць ды авантуравацца. Мо пасталелі і ягоныя палітычныя пагляды? Калі ты думаеш варочацца? Калі можна цябе спадзявацца ў нас? Вось тады ўжо нагаворымся ўдосыць! А пакуль што канчаю, ужо зусім позна, і "бацька" соладка сьпіць. Час класьціся й мне. Перадай ад мяне прывітаньне Раісе і ўсім знаёмым (скажы Рыгору [Казаку], каб напісаў).

Твая Н[аталья] Арсеньнева.

[Недатаваны, 1956 г.?]

Даражэнькі Вінцук,

Думаю, што ты ўжо даўно атрымаў мой ліст і хутка можна будзе спадзявацца на адказ. Сяньня я карыстаю з нагоды, што рассылаю

[45] Наступная, восьмая, сэсія Рады БНР адбывалася ў верасьні — сьнежні 1956 г.

[46] Магчыма, маецца на ўвазе Галіна Ганчарэнка, якая прыяжджала ў 1956 г. зь Мюнхену ў Нью-Ёрк для атрыманьня амэрыканскага грамадзянства.

абежнікі Інстытуту[47] й хачу чыркануць табе пару словаў. У нас асаблівых навінаў няма. На ўсіх франтох — супакой. Рыхтуемся да 25 Сакавіка. Будзе перадача праз радыё. Прамаўляць будзе Адамовіч. На акадэміі рэфэрат чытаць будзе Тумаш. Горш з мастацкай часткай, бо няма каму падрыхтаваць хор. Робіцца ўсё магчымае, але, магчыма, што выступіць з хорам ня ўдасца. Як няма Куліковіча, дык і нічога няма! Куліковіч, паводле апошніх чутак, пераехаў у Чыкага, дзе будзе арганізаваць хор у новай уніяцкай, гэтым разам, беларускай царкве, якую там заснавалі нашыя тамтэйшыя ксяндзы[48]. Праз тыдзень мае выйсьці чародны нумар “Конадняў”, канчаюць яго набіраць. Бяда з грашыма. Кажны нумар каштуе нам звыш 400 даляраў, а грошы няма скуль браць. Кажны цэнт, які ўдаецца так-сяк нам прыдбаць — аддаем у друкарню, ды й то заўсёды ў даўгох. Усе іншыя выдаткі, як рассылка часапісу, кніг, абежнікаў, лістоў — я ў 90 % пакрываю з свае худое кішэні, а таксама й Шукелайць. Чамусьці так ужо ўлажылася. І ніякія пратэсты не памагаюць. Даводзіцца шмат чаго сабе адмаўляць, бо пры маіх заробках — інстытуцкія выдаткі — адчуваюцца. Ну, але гэта дробязі, грунт — каб усё йшло, як трэба. А што чуваць у вашым слаўным Мюнхэне? Як вы жывяцё, што манецеся арганізаваць на 25 Сакавіка?

Як тваё здароўе? У нас ужо ўсё ўзьнятае некалі Ліманоўскім, улеглося й забылася. Пакуль што, як кажуць расейцы, *“мір і благодать”*. Кажныя два тыдні ў Інстытуце ладзім рэфэраты й дыскусыйныя вечары. Тыдзень таму — чытаў рэфэрат Адамовіч, а за тыдзень — будзе рэфэрат нашага “Бацькі”, які мае ў БІНІМ цэлы цыкль рэфэратаў з гісторыі беларускіх (пераважна — Вялікага Княства Літоўскага) войнаў. Так што — жывем і паміраць не зьбіраемся. Працы таксама хапае, каб яе! Ну, але канчаю: яшчэ цэлая процьма канвэртаў адрысаваць, сяброў-жа ў БІНІМ звыш шасьцідзесяцёх, і ўсе на маю бедную галаву!

Прывітаньні Раісе. Як-жа яна маецца?

Твая Н[аталья] Арсеньнева.

[Лета 1962 г.?]

Даражэнькі Вінцук,

зь вялікім жалем даведаліся аб тваёй хваробе. Спадзяемся, аднак, што цяпер ты чуешся ўжо ляпей, а хутка й зусім адолееш яе. Найлепшае на гэта лякарства — цярплівасьць і супакой духа, нішто так не дапамагае

---

[47] **“Абежнік. Беларускі інстытут навукі й мастацтва”** — інфармацыйны бюлетэнь, рэдагаваны Вітаўтам Тумашам, што выходзіў у Нью-Ёрку ў 1953—1969 гг.

[48] Маецца на ўвазе арганізаваная ў 1955 г. у Чыкага з ініцыятывы айцоў Уладзімера й Яна Хрызастома Тарасэвічаў беларускай грэка-каталіцкай парафіі Хрыста Збаўцы.

чалавеку ў кажнай благой прыгодзе, яг гэтыя дзьве рэчы, аб гэтым я ці раз ужо сама пераканалася ў жыцьці. Дык здаравей, даражэнькі Вінцук, спадзяюся пабачыць цябе, калі прыеду на зьезд[49], пабачыць хоць можа яшчэ ў хаце, але ўжо зусім у "добрай форме". Вельмі хочацца цябе пабачыць. Ты-ж для мяне — кавалачак мае маладосьці, успамін аб такіх, здавалася тады, цяжкіх гадох змаганьня з жыцьцём за здабыцьцё навукі — а гэткіх бестурботных і шчасьлівых, мяркуючы да нашае сучаснасьці!

У нас тут ціха. Лета. Гарачыня. Праца. Мала каго бачым. Кажны заняты сваім. Вось адбудзем зьезд, пачнецца восень, тады й жыцьцё нашае ўзноў пачне рухацца жвавей. Пачнуцца зборкі Інстытуту, рэфэраты ў верасьні, пад канец, пэўне, паедзем у Рачэстэр хрысьціць унучку[50]. Узноў — дробачак уцехі. А пакуль што — цалую цябе моцна, здаравей.

Твая Наталка.

1973

Даражэнькія, спадзяюся, што Вашае падарожжа ў Чыкага было добрае. Мы з Наткай гэтаксама скардзіцца ня можам. Колькі дзён пасьля нашага звароту[51] пачалася ў нас вялікая гарачыня. Увесь амаль тыдзень было 90° і нат больш. Сяньня пахаладнела й нахмарылася. Дождж вельмі патрэбны. Мы з Наткай колькі дзён узапар хадзілі ў наш парк і прыносілі па кошыку грыбоў. Баравікоў мала, але ўсялякіх іншых грыбоў было. Але ўчора нічога ня было, ад вялікай гарачыні ўсё высахла. Трэба чакаць, каб прайшлі дажджы. Укладаю колькі здымкаў. Ведама, які фатограф, гэткія й здымкі. На адным — усе без галоваў, на іншым бяз ног. Але здымак Вінцука ў лесе вельмі прыгожы. Палова здымкаў наагул ня выйшла, але хоць колькі будуць добрай памяткай.

Я напісала ліст Адамовічу з "падзякай"[52], але пісала яго на рукі Яні [Кахаsucc]. Яня мне тэлефанавала, што, быццам, як толькі ён скончыць рэдагаваць Валіну кнігу[53], што будзе праз тыдзень, возьмецца надобра за маю. Таму мы вырашылі, што Яна гэты ліст прытрымае, бо ану запраўды Адамовіч пачне працу над зборнікам? Калі-ж пройдзе

---

[49] Маецца на ўвазе 5-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая адбывалася 1—3 верасьня 1962 г. у Таронта.

[50] Натальля (Ната) Кушаль нарадзілася 25 чэрвеня 1962 г.

[51] Натальля Арсеньнева з унучкай вярнуліся з адпачынку ў Канадзе.

[52] Натальля Арсеньнева была незадаволеная тым, што Антон Адамовіч абяцаў, але доўгі час не займаўся рэдагаваньнем яе зборніка.

[53] Маецца на ўвазе кніга: Pashkievich, Valentina. Fundamental Byelorussian. Book I. Беларуская мова / Editor: A. Adamovich. Toronto: The Publishing Committee, Byelorussian Canadian Coordinating Committee, 1974. 332 p.

пару тыдняў, і ён нічога рабіць ня будзе, Яня гэты ліст яму аддасьць. Пажывем — пабачым.

Натачка ўсё ўспамінае Канаду, Вас і, ведама, вавёрак. Пытаецца, ці прыходзяць яны й ці Вы даецё ім гарэхі. Яна знайшла ці, вярней, адабрала ад суседзкага ката пазаўчора птушку, *robin*'а[54], зь перакушаным крылом і апякуецца ім. Ён так да яе за гэтыя дні прывык, што ходзіць за ёй сьледам. Малады, дык людзей яшчэ не баіцца.

Пішэце, што чуваць у Вас, як скончыўся *Caravan*? Цалую Вас моцна і яшчэ раз дзякую за гасьцінец.

Вашая Наталка.

[Лета 1974 г.?]

Даражэнькі Вінцук, перасылаю сваё ўпаўнаважаньне Раісе[55]. Зайздрошчу Вам Вашых сёлетніх вакацыяў на *Ottawa River*. Вельмі хацела-б там ізноў быць разам з Вамі. Але абставіны мае гэтак складаюцца, што буду летаваць сёлета ў хаце. Шкада толькі, што сёлетняя засуха не абяцае мне тут нават грыбоў, зьбіраць якія — адна з найбольшых маіх прыемнасьцяў улетку. У нас там, дзе не паліваюць, усё выгарэла да голай зямлі. Дзе-ж тут грыбы, калі й травы нямашка! Адна надзея, што можа пад восень справы паправяцца. А пакуль што цалую Вас абаіх моцна. Прывітаньне ад Наткі. Яна таксама зь вялікай тугой успамінае *Ottawa River* і хацела-б узноў там пабываць.

Вашая Наталка.

[красавік 1975?]

Даражэнькія, так даўно Вам не пісала, што ня ведаю, з чаго й пачынаць. Вялікдзень прамінуў, таксама й 25 Сакавіка, вітаць ужо няма з чым. Дзякую таму Вінцуку за прысланьне Валінае кнігі й ліст. Што Вы ведаеце пра “вечар паэзіі Натальлі Арсеньневай” у Атаве[56]? Я мела яшчэ ў лютым кароткі тэлефон ад Сурвілаў[57] з пытаньнем аб прынцыповай маёй згодзе, і вось у апошнім “Беларусе” ўжо й паведамленьне зьявілася! Я-ж ня ведаю нават, як туды ехаць! Куды завяртацца і колькі

---

54 ***Robin*** (анг.) — робін, від дразда.

55 Магчыма, маецца на ўвазе ўпаўнаважаньне Натальлі Арсеньневай як раднай БНР, перададзенае Раісе Жук-Грышкевіч, у сувязі зь немагчымасьцю прысутнічаць на 13-й сэсіі Рады БНР, што адбывалася 13 лістапада 1974 г. у Нью-Ёрку.

56 Вечар паэзіі Натальлі Арсеньневай адбываўся 25 красавіка 1975 г. у часе 2-га Тыдню беларусаведных студыяў у Атаўскім унівэрсытэце (25—27 красавіка 1975 г.). Паэтка прысутнічала на гэтым вечары.

57 Маюцца на ўвазе Івонка й Янка Сурвіллы, якія займаліся арганізацыяй Тыдню беларусаведных студыяў у Атаве.

гэта займе часу? Ці Вы едзеце? Чым? Можа, лепш было-б прыехаць да Вас, а тады разам ехаць далей? Ці лепш самой? Мне наагул цяжка выбірацца на колькі дзён дзеля сямейных абставінаў, дык хацелася-б ня траціць шмат часу. На ўсялякі выпадак напішыце мне адрыс і тэлефон Сурвілаў, калі давядзецца ехаць аднэй, каб ня блудзець. Дык чакаю на адказ, каб не хваляваццa.

У нас сёлета зімы, можна сказаць, ня было, але затое напачатку красавіка як наваліла сьнегу, дык за ўсю зіму стане! Кожны дзень амаль мяцеліца. І ня тае. Ну, але ўсёроўна ўжо-ж вясна, дык ня страшна.

Цалую Вас моцна. Валіну кнігу пакрысе пераглядаю. Уразілі мяне крыху папраўкі ў "Новай зямлі" Коласа. Непатрэбныя.

[Натальля Арсеньнева]

[Студзень 1978 г.?]

Даражэнькія, дзякуй за Каляднае павіншаваньне *"extra"*, бо-ж мы павіншаваліся ўжо праз "Беларуса"[58]. Што ў Вас чуваць і як Вы пераносіце зіму? У нас халадэча, ды яшчэ нейкая новая *flu*[59] — тэксаская. Яна прыкрая тым, што зацяжная, пры малой тэмпературы, але кладзецца на грудзі, цяжка дыхаць. Мы ўсе ёй перахварэлі ці бо яшчэ хіба хварэем, бо чуемся дрэнна. Сёньня першы дзень Натка пайшла ў школу, а *Peter* — на працу. Я яшчэ ня выходжу. А на дварэ — вецер і мароз 40. У сувязі з гэтым ці запраўды (як ты мне пісала, што некаторыя радзяць) не адкласьці юбілейныя ўрачыстасьці[60] на які месяц (у палове сакавіка), калі гэта не перашкодзіць угодкам 25 Сакавіка, а калі так, дык на 10—15 красавіка, калі ўжо напэўна ня будзе марозу й мяцеліцаў. Прыкладная дата народзінаў пры юбілейных абыходах рэдка супадае, важны год, а не дакладны дзень. Благое надвор'е цяпер можа сапсаваць усю ўрачыстасьць. Пазаўчора і ўчора, напрыклад, наш аэрапорт быў зачынены, аўтабусы не хадзілі. Гэтаксама было перад Калядамі. Влодак па справах свае кампаніі езьдзіў у Чыкага й вярнуўся із спазьненьнем на тры дні, бо самалёты не лятаў і аўтабусы не хадзілі, ды й то прывезьлі іх нарэшце ў Сіракюзы і адтуль ён дабіраўся да Рачэстара. Разваж гэта й вырашы загадзя[61]. Дабірацца да Вас з Аттавы ці Дэтройту й Лёндану гэтаксама можа здарыцца, будзе вельмі цяжка. Ды цяпер людзі могуць

[58] Паводле традыцыі ў калядных нумарох газэты "Беларус" зьмяшчаліся віншаваньні суродзічаў.

[59] ***Flu*** (анг.) — грып.

[60] Маецца на ўвазе 75-годзьдзе Вінцэнта Жук-Грышкевіча, якое прыпадала на 10 лютага 1978 г.

[61] Сьвяткаваньне юбілею Вінцэнта Жук-Грышкевіча адбывалася ў Бэры ў красавіку 1978 г. Натальля Арсеньнева прысутнічала на гэтым мерапрыемстве.

яшчэ й пахварэць. Я, прыкладам, пры такім надвор'і, што стаіць пераважна ў нас, ня думаю, каб магла да Вас дабрацца.

Цалую Вас абаіх моцна. Можа, Бог дасьць і пабачымся.

[Натальля Арсеньнева]

[Восень 1978 г.?]

Даражэнькія, шчыра дзякую Вам за павіншаваньні. Дзень маіх 75-х угодкаў мінуў тут вельмі звычайна, як кажны іншы. Бо-ж знаёмых тут мы маем вельмі, вельмі мала, а я дык і зусім амаль нікога, ды, зрэшты, ніхто даты маіх народзінаў ня ведае, бо ніколі іх не спраўляем. Але зь іншых краінаў сьвету крыху прывітаньняў мела, дык і хопіць!

У нас ужо восень, быў першы прымаразак, але я пасьпела абарваць памідоры, бо яны вельмі лёгка мерзнуць. Цяпер ляжаць на ўсіх вокнах за фіранкамі, сьпеюць. Грыбоў так сёлета й ня было, з тыдзень таму высыпала ў траве ў парку крыху пячаркаў, і гэта ўсё. Як там вашыя рыжыкі? Каб ты ведаў, Вінцучок, зь якой асалодай я іх тады ў вас зьбірала! Часам цяпер навет сьню іх.

Ад Уладыкі Сіповіча перакладу “Зуброў”[62] (перакручаных мясьцінаў) дагэтуль не атрымала ды й кінула чакаць, яму цяпер не да “Зуброў”. Але Тумаш пісаў, што галоўныя засьцярогі датычацца беларускага перакладу, а расейскі пераклад наагул добры і карыстаць яго можна. Так што зноў бяруся за “Зуброў”. Перакладзена ўжо больш трацiны, бярэцца пад палову. Буду карыстаць з кажнае часіны (я-ж у хаце усё раблю сама і адна, дык і тых вольных часінаў ня гэтак ужо й шмат, як каму здаецца)[63].

Пішэце мне, што чуваць у Вас, як здароўе? Цалую моцна. Прывітаньні Пашкевічам.

Вашая Наталка.

[Студзень-люты 1979 г.?]

Даражэнькі Вінцучок! Вітаю зь яшчэ аднымі, гэта ўжо, здаецца, 76 угодкамі. Хай-жа паўтараюцца яны штогод без канца!

Пішу табе з глыбіняў майго ложка, бо хварэю другі тыдзень, вельмі-ж моцна й неспадзявана мяне сёлета ўзяло! Уся нашая сям'я перахварэла. *Peter* быў першы. Ён ужо ходзіць на працу, але ўсё яшчэ вельмі кашляе. Ната перахварэла ня гэтак моцна, але ўсё-ж 1 ½ тыдні ня ходзіць у школу, можа, пойдзе ў панядзелак. А тады ўзяло мяне, ды як! Кашаль ледзь не задушыў, начамі была вельмі вялікая гарачка. Цяпер ужо лепшае, але ўсё-ж чуюся яшчэ вельмі дрэнна і вельмі аслабела.

---

[62] Маецца на ўвазе твор Міколы Гусоўскага “Песьня пра зубра”.

[63] Пра гісторыю перакладу “Песьні пра зубра” гл.: Юрэвіч, Лявон. Жанры. Мінск, 2013. С. 106—108.

І падумаць, што я як сьлед да сёлетняе зімы падрыхтавалася, узяла ўсе патрэбныя ад *flu* уколы, і *A*, і *B*, і *Russian*, а тут аказалася нейкая нечаканая новая, стрэйн[64] *C*, горшая за ўсе папярэднія. Ну, але дасьць Бог, дам тады і ёй, бо зусім ня маю часу хварэць, працы як ніколі.

Нас зусім засыпала сьнегам, і марозы стаяць вялікія. Ня ведаю нават, ці атрымаеш ты гэтую картку напару, бо Влодак таксама ў ложку, і няма як дастацца на пошту, а скрынкі на вуліцах засыпаныя. Ну, але неяк будзе. Веру, што ты ведаеш, што я цябе памятаю і аднаго найлепшага табе жадаю. Абы толькі вось паздаравець. Гэтая новая *flu* якраз тое, што мне трэба на мой і так дакучлівы хранічны бранхіт.

Цалую Вас абаіх моцна, моцна, мае даражэнькія. Ната, хоць таксама хворая, вельмі добра мяне даглядае, бедная дзяўчынка.

Вашая Наталка.

[Недатаваны, 1979 г.?*]*

Даражэнькія! Вы ўжо, пэўне, зьбіраецеся на вакацыі, лавіць рыбку, зьбіраць баравічкі... А я й сёлета буду пазбаўленая, відаць, гэтае прыемнасьці, бо ў сувязі із вельмі халоднай вясной і пачаткам лета грыбоў, зьбіраць якія мая адзіная бадай-што “летняя” прыемнасьць, у нас дагэтуль няма й сьледу, а магчыма, што й ня будзе наагул.

Влодак надумаў перарабляць кухню, зьдзіраць столь, падлогу, рабіць усё новае. Нам з Наткай давядзецца “змывацца”, каб не замінаць. Паедзем, відаць, у Флярыду, хоць гарачыня досыць-ткі прыкрая рэч. Майсеева[65] прыслала ліст, вельмі просіць нас прыехаць. У палове жніўня Майсееў ідзе ў шпіталь на апэрацыю (прастата), яна вельмі нэрвуецца й просіць нас прыехаць, каб падтрымаць яе на духу. Апрача гэтага, Уладыка Сіповіч прасіў яе напісаць яму біяграфію нябожчыка Куліковіча (Шчаглова)[66], а яна сама не патрапіць, просіць мяне памагчы. Будзе даваць мне факты, а я буду запісваць адразу зь ейных словаў. Ніхто, апрача нас зь ёю, гэтага ўжо ня можа, а час ляціць.

Паляцім у Флярыду пэўне 8-га жніўня, бо гэта серада, а ў серады на палёты зьніжка. Вярнуцца-ж трэба хоць на колькі дзён перад Днём Працы, які сёлета прыпадае на 3-га верасьня, у сувязі з Наткінай школай. Гэта ейны апошні год у сярэдняй школе, і яна вельмі праймаецца.

Цалую Вас моцна, зычу добрых вакацыяў, багатае здабычы ў грыбох і асятрах і г. д. і г. д.

Вашая Наталка.

---

[64] ***Strain*** (анг.) — штам (вірусу).

[65] **Майсеева** — Натальля Дзьмітрыеўна Чамярысава, першая жонка Міколы Куліковіча-Шчаглова й маці Тусі (памерлай жонкі Ўладзімера Кушаля).

[66] Відаць, біяграфія пісалася да 10-х угодкаў сьмерці кампазытара.

[Вясна 1980 г.?]

Даражэнькія! Выбачайце, што даўно не пісала, бо ў Флярыдзе крыху была папрaвілася, але, вярнуўшыся, узноў падчапіла нейкую *flu*, бо надта было холадна, і ўсё яшчэ чую ейныя ўплывы, кашляю. Тым больш, што й дагэтуль у нас, хай сонца сьвеціць, пераважна вее нейкі сьцюдзёны вецер ад вас з Канады. Ну, але справа йдзе не да зімы, а да лета, дык будзем чакаць і гарачыні, і паправы здароўя... А тут яшчэ й хатнія клопаты пачынаюцца, будзем маляваць хату, усё прыймаць, хаваць, тады ўзноў расстаўляць, парадкаваць. А ў мяне ўсё яшчэ на сумленьні няскончанае рэдагаваньне ўспамінаў панічкі Дубейкаўскай[67], ізноў перарыў у працы ў сувязі з рамонтам, які ўжо нельга было адкладаць. А тут яшчэ клопаты ў сувязі з Наткіным заканчэньнем сярэдняе школы сёлета, рыхтаваньне сукенкі й г. д. Ну, але Бог дасьць, усё залагодзіцца, абы здароўе.

Мы з Натачкай вельмі былі ўсьцешыліся з твайго, Раіска, кароткага лісту, які мы атрымалі, вярнуўшыся з Флярыды, дзе ты пісала, што Вінцук чуецца лепш. Натка шчыра верыць у малітву й цешыцца заўсёды, калі ейныя просьбы бываюць выслуханыя. Я яе ў ейнай веры заўсёды стараюся падтрымаць, бо-ж шмат лягчэй жывецца чалавеку, калі ён верыць у нейкую “вышэйшую” апеку й дапамогу. Яна цяпер вельмі занятая, пачынаюцца экзамены, а яна досыць упартая і амбітная, хоча мець добрыя вынікі. На ейную *“graduation”*[68] прыедзе з Флярыды ейная “флярыдская” баба Майсеева, дык клопатаў у яе хапае й хваляваньняў таксама. Добра хоць ужо, што з каледжу, куды яна хоча йсьці на восень і куды цяжка папасьці, прыйшло ўжо паведамленьне, што яна прынятая. Натка ня хоча нікуды ехаць з хаты, хоча вучыцца далей у Рачэстары, бо хто-ж будзе глядзець за *“ейным сабакам і катамі, ды і за табой, Баба?”*, кажа яна. Што-ж, добра, хоць на апошнім месцы, а быць прыгаданаю.

Як Вы наагул чуецеся, як здароўе Вінцука, як справа з Вашай хатай, што думаеце рабіць, куды падавацца? Бачыш, на колькі пытаньняў ты, Раісачка, маеш адказаць!

А пакуль што моцна, моцна Вас, мае даражэнькія, цалую, спадзяючыся, што ўсё ў Вас будзе добра.

Вашая Наталка.

[67] **Юльяна Дубейкаўская** (дзяв. **Мэнке**, 1886—1969), настаўніца, грамадзкая дзяячка, мастацтвазнаўца. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыла ў Нюрнбэргу (Нямеччына). Напісала мэмуары пад назовам “Мае ўспаміны”, прысьвечаныя Івану Луцкевічу.

[68] ***Graduation*** (анг.) — выпускны.

Рачэстар, 18.8.82 г.

Даражэнькія!

Гэтак даўно ня мела ад Вас аніякіх весткаў, ды й сама нічога нікому ня пісала. Усю зіму пасьля нашае леташняе самаходавае катастрофы была змушанае праседзець у хаце, бо благі пералом рукі й пляча ўсю зіму не дазвалялі мне апрануць зімовае паліто, а зіма ў нас сёлета была вельмі халодная, так што адно пад Вялікдзень пачала крыху выходзіць. А восень таксама была вельмі цяжкая праз паводзіны нашага *Peter*'а. Пакуль ён працаваў, было лягчэй, бо хоць удзень яго ня было ў хаце, а як кінуў працаваць ужо блізу два гады таму, заўсёды ў хаце, робіць, што хоча, дык цяжка часам проста вытрываць. Влодак вельмі перажывае, але нічога ня робіць, кажа, што *Peter* хворы, а зрэшты цяпер вялікі працэнт моладзі гэткіх-ж, як ён. Гэтак і жывем. Я была ў поўнай дэпрэсіі, яшчэ й цяпер нічога не хачу рабіць. Пакінула-б усё, але шкада Наткі, яна вучыцца, і стараюся хоць ёй дапамагчы. Праз два гады яна канчае, тады паглядзім.

Цалую моцна, пішэце, бо я зусім самотная.

Вашая Наталка.

[Студзень 1983 г.?]

Даражэнькія, ня прыеду[69], хоць так бы хацела адарвацца хоць на пару дзён ад свайго цяжкога, самотнага жыцьця: у нас — усе пахварэлі, відаць, я зрабіла нешчасьлівы пачатак. Яшчэ адзін Влодак трымаецца, але і ён ужо пачынае чуцца дрэнна. Мне ўжо лепей, і я адна ўсім услугоўваю. Да таго-ж нас зусім засыпала сьнегам, і мароз сёньня раніцай быў мінус 3. А ў Вас-жа, пэўне, яшчэ горш. Нават здароваму было-б небясьпечна пушчацца ў падарожжа пры гэткіх абставінах. Дык будзем чакаць лепшых. Моцна цалую. Я неяк зусім пала духам. Ня хочацца жыць.

Твая Наталка.

[Восень 1984 г.?]

Даражэнькія! Нарэшце атрымала ад Вас вестачку, усё-ж лета ня было ад Вас, як кажуць, *“ні слыху, ні дыху”*. Я ўсё лета была ў хаце, адзіная мне прыемнасьць была зьбіраньне грыбоў. Іх пад канец лета было ў нас шмат. Ніколі ня бачыла столькі баравікоў, расьлі проста пад нагамі й там, дзе іх раней ніколі ня было. З Наткай і нашым сабакам амаль кожны дзень хадзілі ў парк. Яна ўсё лета была ў хаце, бо ў пачатках травеня захварэла на горла й доўга ня лепшала. Доктар сьцьвердзіў паважную стрэптакоккавую інфэкцыю, і спыніць яе было цяжка, бо Натка вельмі

[69] Маецца на ўвазе сьвяткаваньне 80-годзьдзя Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў лютым 1983 г.

аллергічная да пэнацыліну й шмат якім яшчэ антыбіётыкам, так што пакуль падабралі лекі, давялося шмат часу лячыць шкоды, яшчэ й цяпер часта чуецца дрэннавата. Яна ўжо апошні год у каледжы, дык мусіць цягнуць. Але, дзякуй Богу, кажа, што чуецца шмат лепш. Маё здароўе таксама ўжо шмат горшае, як калісь, баляць усе косьці, асабліва ногі, няма столькі сілаў. Але не паддаюся, палюючы за баравікамі, лазіла па кустох, па горах і долах, і вось — жывая!

Вельмі хацела быць на сёлетняй Сустрэчы[70], але ехаць адной у незнаёмы горад, ня маючы ні адрасоў, ні бліжэйшых там знаёмых, з паламаным плячом і рукой — не адважылася. Маё жыцьцё тутка вельмі самотнае й няцікавае. Каб ня Натка, ня ведаю, як бы я жыла. Яна мая адзіная сяброўка, дапамагае мне ў хатняй працы й не дае цалкам “заплесьнець”.

Ці езьдзілі Вы сёлета куды ўлетку? Ці было і ў Вас шмат грыбоў? Пішэце, хоць зрэдка.

Цалую. Наталка.

*Камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

[70] Маецца на ўвазе 16-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая адбывалася ў Кліўлэндзе 1—3 верасьня 1984 г.

***Аляксандар Сьлесараў***
*Менск*

# ЛІСТАВАНЬНЕ АРХІЯПІСКАПА ВАСІЛЯ (ТАМАШЧЫКА) З ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫМІ Й РЭЛІГІЙНЫМІ ДЗЕЯЧАМІ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА (1950—1967)

Вялікую цікавасьць для дасьледнікаў гісторыі рэлігійнага жыцьця беларускага замежжа маюць матэрыялы, якія захоўваюцца ў архіве Беларускай бібліятэкі й музэю імя Францыска Скарыны ў Лёндане. Дадзенай публікацыяй уводзяцца ў навуковы зварот дзесяць лістоў ярарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка), напісаныя ў пэрыяд з 1950 да 1967 г.

Ліст № 1 ад 7 лютага 1950 г. адрасаваны міністру працы й сацыяльнага забесьпячэньня Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) і старшыні Сусьветнага аб’яднаньня беларускай эміграцыі (САБЭ) Лявону Рыдлеўскаму (1903—1953). Выказваючы падзяку свайму карэспандэнту за прывітаньні з архіярэйскай хіратоніяй, якая адбылася 19 сьнежня 1949 г., япіскап Васіль разам з тым скардзіўся на адсутнасьць прывітаньняў з боку беларускіх каталіцкіх сьвятароў Льва Гарошкі й Часлава Сіповіча: *“Што гэта бы мело значыць? Ці ім Папа забараніў? [...] Дзіўная нейкая беларускасьць успоўненых двох ксяндзоў!”*[1]. Аднак прывітаньні новарукапакладзенаму ярарху БАПЦ ераманах Чэслаў Сіповіч накіраваў яшчэ 26 студзеня 1950 г., дзе азначаў: *“Я перакананы, што ня раз нам прыдзецца спатыкацца ў працы та на ніве харытатыўнай у дапамозе нашым суродзічам, як тож у дачыненьнях культурна-грамадскіх. Не сумняваюся, што ў гэтых галінах наша супрацоўніцтва будзе карысным і пажаданым для Бацькаўшчыны”*[2]. Свой удзячны адказ япіскап Васіль накіраваў ераманаху Чэславу ў лісьце ад 28 лютага

[1] Архіў Беларускай бібліятэкі й музэю (АББМ) імя Францыска Скарыны. Ліст япіскапа Васіля (Тамашчыка) да інжынэра Лявона Рыдлеўскага. 07.02.1950. Машынапіс.

[2] Надсан, Аляксандар. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Мінск: БелФранс, 2004. С. 125.

1950 г.[3]. Такім чынам, адлюстраваная ў лісьце да Лявона Рыдлеўскага крыўда архіярэя БАПЦ на згаданых каталіцкіх сьвятароў праз кароткі час ужо ўспрымалася як непаразуменьне.

Далей япіскап Васіль зьвяртаецца да праблемы аднаўленьня дзейнасьці Жыровіцкага праваслаўнага брацтва (ЖПБ), падпарадкаванага кіраўніцтву БАПЦ. Заснаваньне брацтва адбылося 20 мая 1947 г. з ініцыятывы былога супрацоўніка Беларускага праваслаўнага аб'еднаньня (БПА) Аляксандра Асіпчыка, нязгоднага з далучэньнем БПЦ да Рускай праваслаўнай царквы замяжой (РПЦЗ). Фактычна ўзначаліўшы ЖПБ на пасадзе сакратара, ён дэкляраваў у якасьці асноўных мэтаў дзейнасьці брацтва садзейнічаньне адраджэньню БАПЦ, кансалідацыю праваслаўных беларусаў на чужыне, арганізацыю мерапрыемстваў духоўна-асьветніцкага характару, выданьне беларускай рэлігійнай літаратуры. Пэўны час Аляксандар Асіпчык аказваў дзейсную падтрымку Часоваму камітэту БАПЦ (чэрвень 1948 г. — люты 1949 г.), потым рэарганізаванаму ў Галоўную епархіяльную ўправу БАПЦ (люты — лістапад 1949 г.). Ад жніўня 1948 г. праводзілася палітыка арганізацыі аддзелаў брацтва ва ўсіх беларускіх праваслаўных асяродках на Захадзе. Больш за тое, у красавіку 1949 г. сакратар ЖПБ атрымаў прызначэньне на пасаду сакратара Галоўнай епархіяльнай управы БАПЦ, што значна павялічыла яго ўплыў на рэлігійнае жыцьцё беларускай дыяспары. Аднак у кастрычніку 1949 г. пачаўся канфлікт Аляксандра Асіпчыка з кіраўніцтвам БАПЦ, зьвязаны зь яго настойлівай прапановай адмовіцца ад прагалошаньня беларускай царкоўнай аўтакефаліі й стварыць аўтаномную беларускую мітраполію ў складзе Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (УАПЦ) на чужыне. Неўзабаве сакратар ЖПБ рэзка раскрытыкаваў выбраньне інжынэра Ўладзімера Тамашчыка япіскапам БАПЦ і адмовіў яму ў праве на кіраўніцтва царкоўным жыцьцём беларускай дыяспары. На першым паседжаньні Вышэйшага царкоўнага кіраўніцтва БАПЦ, якое адбылося 21 сьнежня 1949 г., Жыровіцкае праваслаўнае брацтва атрымала статус галоўнага брацтва БАПЦ. Пры гэтым ягоны сакратар Аляксандар Асіпчык адхіляўся ад кіраўніцтва арганізацыяй. Не прызнаў гэтых пастаноў, заявіў аб адыходзе ад БАПЦ і працягнуў ачольваць брацтва. У гэтых умовах адбыўся раскол ЖПБ, адна частка якога засталася ў БАПЦ, а другая засталася ў складзе БАПЦ[4]. У лісьце да Лявона Рыдлеўскага

---

[3] Надсан, Аляксандар. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. С. 125.

[4] Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва на чужыне // Сіла веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. 1950. № 3. С. 22—23; Асіпчык, Аляксандар. Ад Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва // Сіла веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. 1948. № 1. С. 5—6; Ад Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва // Бацькаўшчына. 1948. № 26 (29).

ад 7 лютага 1950 г. япіскап Васіль (Тамашчык) разважае над праблемай замяшчэньня пасады кіраўніка брацтва, адхіляе кандыдатуру рымакаталіцкага сьвятара Льва Гарошкі й прапануе абраць архімандрыта Ўладзімера (Фінькоўскага) з Парыжу[5]. Але гэтую пасаду архімандрыт Уладзімер так і не заняў.

Ліст № 2 ад 5 ліпеня 1949 г. адрасаваны палкоўніку Міколу Дзямідаву (1888—1967), які раней браў актыўны ўдзел у фарміраваньні структуры Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Зьяўляючыся чальцом Беларускага нацыянальнага камітэту, Мікола Дзямідаў яшчэ на пачатку 1948 г. вёў перамовы з ярархам УАПЦ япіскапам Сергіем (Ахатэнкам) і дасягнуў дамоўленасьці адносна садзейнічаньня працэсу стварэньня БАПЦ і часовага духоўнага кіраўніцтва беларусамі дыяспары. У чэрвені 1948 г. Мікола Дзямідаў увайшоў у склад Часовага камітэту БАПЦ і заняў пасаду кіраўніка гаспадарчага аддзелу, а рашэньнем Прэзідыюму Рады БНР быў абраны кандыдатам на архіярэйскае рукапалажэньне. Аднак да пачатку 1949 г. прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык ужо не разглядаў ягоную кандыдатуру ў якасьці магчымага кандыдата на япіскапскае высьвячэньне. Прычынай быў сямейны статус палкоўніка, які працягваў знаходзіцца ў шлюбе й ня мог прыняць манаства, неабходнае для далейшай архіярэйскай хіратоніі. Падчас рэарганізацыі Часовага камітэту БАПЦ у Галоўную епархіяльную ўправу, якая адбылася 11 лютага 1949 г., палкоўнік атрымаў прызначэньне на пасады

С. 3; Беларускае праваслаўнае жыцьцё на эміграцыі // Сіла веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. 1948. № 1. С. 11; Да 10-х угодкаў Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва // Сіла веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. 1955. № 8. С. 32; Ліст Жыровіцкага Праваслаўнага Братва да Яго Блажэнства Мітрапаліта Палікарпа. Баварыя, 21.09.1948 // Сіла веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. 1948. № 1. С. 4; Праектаваная дагаворанасьць прав[аслаўных] беларусаў. Дня 30.10.1949 у Бакнангу // Сіла веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. 1950. № 3. С. 29; Пратакол паседжаньня Вышэйшага Царкоўнага Ўпраўленьня БАПЦ. Розэнгайм, 21 сьнежня 1949 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні) / Collection of documents of the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church (In exile). Authorized by Metropolitan Andrew. Compiled by the Consistory of BAOChurch. [Б. м.], 1983. С. 150; Статут Беларускага Праваслаўнага Брацтва Жыровіцкага Манастыра // Сіла веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. 1949. № 2. С. 1; У Часовым Кіравецтве Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы // Бацькаўшчына. 1948. № 25 (28). С. 4; M.V. Carkoŭny Kamitet Biełaruskaj Aŭtakiefalnaj Pravasłaŭnaj Carkvy na čuźynie // Сіла веры. Часопіс Жыровіцкага Праваслаўнага Брацтва. 1949. № 2. С. 40—43.

[5] АББМ. Ліст япіскапа Васіля (Тамашчыка) да інжынэра Лявона Рыдлеўскага. 07.02.1950. Машынапіс.

епархіяльнага эканома, кіраўніка гаспадарчага аддзелу й сакратара канцылярыі япіскапа Сергія (Ахатэнкі). Не пагадзіўшыся на скасаваньне шлюбу, Мікола Дзямідаў у сакавіку 1949 г. прапанаваў абраць на пасаду япіскапа БАПЦ інжынэра Ўладзімера Тамашчыка[6]. У хуткім часе апошні прыняў манаскі пострыг, дыяканскае й ярэйскае пасьвячэньне. Апублікаваны ніжэй ліст № 2 ераманах Васіль (Тамашчык) напісаў палкоўніку Міколу Дзямідаву роўна празь месяц пасьля сваёй архіярэйскай хіратоніі. У ім ён апісвае бягучыя справы беларускага лягеру Розэнгайм, а таксама дасылае ўзор штампу й пячаткі Духоўнай кансысторыі БАПЦ.

Ліст № 3 япіскап Васіль (Тамашчык) накіраваў палкоўніку Міколу Дзямідаву 7 сакавіка 1950 г., праз два з паловай месяцы пасьля свайго япіскапскага высьвячэньня. Тэкст гэтага ліста нясе на сабе адбітак таго эмацыйнага захапленьня, у якім знаходзіўся аўтар пад уражаньнем перажытай падзеі. Апісваючы абставіны хіратоніі, ён вельмі камплімэнтарна ацэньвае ролю палкоўніка ў працэсе ажыцьцяўленьня беларускага аўтакефальнага праекту.

Ліст № 4 япіскапа Васіля (Тамашчыка) да Міколы Дзямідава датуецца 3 чэрвеня 1953 г. і прысьвечаны галоўным чынам разважаньням адносна зьмены палкоўнікам сваіх палітычных і царкоўна-юрысдыкцыйных арыентыраў. У прыватнасьці, ярарх ставіць пад сумнеў мэтазгоднасьць адыходу Міколы Дзямідава ад падтрымкі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі й прыняцьце пасады віцэ-старшыні Беларускай

---

[6] Войтанка, Віктар. Аднаўленьне аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы. С. 58; Зварот Беларускага Нацыянальнага Камітэта ў французскай акупацыйнай зоне Нямеччыны да епіскапа Сергія (Ахатэнка). 30.03.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 94; Ліст Міколы Абрамчыка, адрасаваны Аўгену Кахаоўскаму ад 14.01.1949 // Гардзіенка, Натальля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 450—451; Ліст сакратара Сіноду УАПЦ епіскапа Платона (Арцемюка) да ваеннага губернатара французкай акупацыйнай зоны ў Нямеччыне // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 107; Пратакол № 2 паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР 21 чэрвеня 1948 г. у Остэргофэне // Гардзіенка, Натальля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970). С. 103—104; Пратакол № 3 паседжаньня Прэзідыюма Рады БНР дня 14-га, сакавіка, 1949 году ў Остэргофэне, Нямеччына // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 123; Пратакол Агульнага Сходу дэлегатаў і вернікаў БАПЦ у Остэргофэне ад 15.03.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 140—141; Пратакол Паседжання Царкоўнага Кіравецтва БАПЦ ад 11.06.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 136.

Цэнтральнай Рады (БЦР). Няма нічога дзіўнага ў тым, што архіярэй БАПЦ, узьніклай у выніку рэалізацыі рэлігійный палітыкі Рады БЦР, рэзка нэгатыўна ацэньваў дзейнасьць канкурэнтнай палітычнай структуры: *"Гэтая арганізацыя ў мінулым нам карысная, цяпер ужо даўно страціла рацыю свайго існаваньня, як наш рэпрэзэнтатыўны орган, з ёй, нажаль, цяпер нідзе ня можна паказацца, тым болей сярод дыпляматычных заходніх колаў"*[7]. Пры гэтым япіскап Васіль адзначаў рэлігійны фактар як магчымы падмурак палітычнага аб'яднаньня беларускай дыяспары: *"Наагул мая думка была й ёсьць тая, што нашая кансалідацыя мела бы распачацца ад Царкоўных справаў. Калі-б яны збоку БЦР прызналі шчыра нашу сьв. БАПЦ і мы пачалі разам маліцца, дык я ўважаю, што гэта ўжо была-б добрая палавіна справы, і тады другая палавіна была-б хутка аформленая, бо тут галоўнае духова-псыхалагічнае паразуменьне. Я перакананы, што ўжо на першай супольнай Службе Божай сьцерлася-б бальшыня нашых вострых кантаў, якія перашкаджаюць паразуменьню, людзі падалі-б сабе рукі й сказалі-б: даволі мы ўжо самы сабе перашкаджалі, пара злучыцца ў супольных арганізацыях. Так маглі-б лёгка злучыцца грамадскія арганізацыі, моладзі, студэнтаў, а там бы засталася толькі апошняе пытаньне: БНР і БЦР, якое таксама пра добрай волі ўжо ня цяжка было-б палагодзіць. [...] Пакуль, аднак, кіраўнікі БЦР будуць негатыўна глядзець на нашу БАПЦ, так доўга ўважаю аб ніякай кансалідацыі думаць ня можна, бо толькі Царква можа дапамагчы духоваму паразуменьню, а бяз яго немагчымая ніякая кансалідацыя"*[8]. Аднак, як ведама, прынцыповай і нязьменнай пазыцыяй кіраўніцтва БЦР заставалася непрыманьне БАПЦ з прычыны яе некананічнага статусу й садзейнічаньне разьвіцьцю беларускай царкоўнай структуры ў юрысдыкцыі Сусьветнага патрыярхату.

У лісьце № 5 ад 8 жніўня 1956 г. архіяпіскап Васіль (Тамашчык) зьвяртаецца да Міколы Дзямідава з нагоды зьяўленьня інфармацыі адносна магчымага далучэньня палкоўніка да Рускай праваслаўнай царквы замяжой. Запэўніваючы свайго карэспандэнта ў шчырым сяброўскім стаўленьні, ярарх БАПЦ вельмі няўхвальна адгукаецца аб рускім царкоўным асяродзьдзі й называе яго *"родам лукавага"*[9]. Відавочна, што ў гэтай характарыстыцы праваслаўных хрысьціянаў іншай царкоўнай юрысдыкцыі нацыянальна-палітычныя матывы дамінуюць над рэлігійнымі...

---

7 АББМ. Ліст япіскапа Васіля (Тамашчыка) да палкоўніка Мікалая Дзямідава. 03.06.1953. Машынапіс.

8 Тамсама.

9 АББМ. Ліст архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) да палкоўніка Мікалая Дзямідава. 08.08.1956. Машынапіс.

Лісты № 6—9 ахопліваюць пэрыяд ад 28 сьнежня 1966 г. да 3 лютага 1967 г. і ўяўляюць зь сябе перапіску архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) з апостальскім візытатарам для беларусаў грэка-каталікоў за мяжой япіскапам Чэславам Сіповічам. Нягледзячы на досыць абмежаваны адрэзак часу напісаньня гэтых лістоў, яны праліваюць сьвятло на гісторыю першага поўнага перакладу Бібліі на беларускую мову, зробленага намаганьнямі створанага ў 1965 г. Беларускага біблійнага камітэту. У склад апошняга ўваходзілі пратэстанцкі пастар Масей Гітлін (1896—1969), доктар Янка Станкевіч (1891—1976) і Тарас Сайка (1906—1973)[10]. Перапіска была ініцыяваная япіскапам Чэславам, які браў актыўны ўдзел у рабоце каталіцкай камісіі па перакладзе Бібліі на беларускую мову (Біблійнай камісіі) і жыва цікавіўся існуючымі распрацоўкамі ў гэтай галіне. З свайго боку, архіяпіскап Васіль досыць падрабязна апісвае гісторыю ўзаемадзеяньня з згаданай групай перакладчыкаў і тлумачыць прычыны крытычнага стаўленьня БАПЦ да праведзенай імі работы. Адмова ярарха БАПЦ ад літургічнага ўжываньня гэтага перакладу Бібліі значным чынам адбілася на аўтарытэце гэтага выданьня й яго запатрабаванасьці ў беларускім эміграцкім асяродзьдзі.

Ліст № 10 архіяпіскап Васіль (Тамашчык) накіраваў рыма-каталіцкаму ераманаху-марыяніну Язэпу Гэрмановічу (1890——1978) на Вялікдзень 1965 г., які тады сьвяткаваўся 25 красавіка. У адрозьненьне ад усіх папярэдніх лістоў гэты тэкст мае прыватны й досыць даверлівы характар. Зьвяртаючыся да свайго карэспандэнта, ярарх БАПЦ выказывае даволі сьмелыя думкі адносна ідэі аб'яднаньня праваслаўя й каталіцызму: *"О, як бы скора мы маглі бы служыць разам, калі-б гэта ад нас залежала! Бо людзі духа не глядзяць на розьніцы, а на галоўнае, а галоўнае было, ёсьць і навекі будзе толькі адно: Любоў Божая! Тая Любоў, якая з найбольшых ворагаў можа зрабіць прыяцеляў, стацца збаўленым фундамантам Царства Божага на зямлі! Здаецца так проста, як і Бог пры ўсёй Сваёй нявычэрпнасьці — просты! Аднак, нажаль, людзям гэтае — просты — не падабаецца. Чаму? Толькі таму, што надта "крывыя" яны! [...] Я першы цешыўся-б, калі-б наступіла аб'еднаньне перадусім Праваслаўнае й Каталіцкае Царквы, цешыўся-б нязвычайна, бо гэта справа Божая"*[11]. Трэба адзначыць, што падобныя разважаньні архіяпіскап Васіль ужо выказваў

[10] Сьвятая Бібля. Кнігі Сьвятога Пісьма Старога й Новага Закону. З мовы габрэйскае а грэцкае на вялікалітоўскую (беларускую) нанава перакладзеныя / Пераклад Я. Станкевіча і М. Гітліна. У Ню Ёрку: Published by Francis Skoryna Greatlitvin (Belarus) Society of Arts and Sciences in the U.S., INC, 1973. 840 + 260 с.

[11] АББМ. Ліст архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) да ераманаха Язэпа Гэрмановіча. Бруклін, Вялікдзень, 1965. Машынапіс.

і раней, уносячы смутак у беларускае праваслаўнае асяродзьдзе. Вялізны скандал адбыўся ў 1956 г., калі быў апублікаваны прыватны ліст ярарха з нагоды заснаваньня беларускага грэка-каталіцкага прыходу ў Чыкага. Адмовіўшыся ўзяць удзел у яго адкрыцьці, ён пісаў: *«Маё становішча не пазваляе на гэта, асабліва прымаючы пад увагу шмат розных нашых "прыяцеляў", якія адразу-бы распачалі свой "тэатр" супраць мяне. Не, такой "радасьці" мы ім даць ня можам. […] На жаль, усё яшчэ дасюль мы ня маем адпаведнае "атмасфэры" сярод праваслаўных і каталікоў. […] На вялікі жаль яшчэ ані бальшыня духавенства гэтых двох нашых веравызнаньняў, ані бальшыня вернікаў, не дарасьлі да зразуменьня. […] а мы на такую "рэформу" надта слабыя!»*[12]. Прадэманстраванае архіяпіскапам Васілём добрае стаўленьне да ідэі праваслаўна-каталіцкага аб'яднаньня пацягнула за сабой рэзкую крытыку й абвінавачаньні яго ў тайным уніяцтве. Сакратар Жыровіцкага праваслаўнага брацтва Аляксандар Асіпчык нават пачаў распаўсюджваць улёткі з адмысловымі закідамі[13]. Нагледзячы на гэта, архіяпіскап захоўваў свае погляды й празь дзевяць гадоў, аб чым сьведчыць ягоны ліст да ераманаха Язэпа Гэрмановіча.

Акрамя гэтага, архіяпіскап Васіль дзеліцца сваімі разважаньнямі адносна росту папулярнасьці ў каталіцкім і праваслаўным сьвеце ідэяў мадэрнізацыі царкоўнага жыцьця. На ягоны погляд, імклівае разьвіцьцё сучаснай цывілізацыі зусім не патрабуе мадэрнізацыі Царквы: *"Дзеля чаго людзі цяпер мала разумеюць нас? Толькі таму, што сьвет стаўся іншым, зьмяніўся? А што ёсьць аснова сьвету? Тэхніка, ракеты, тэлевізія, аўты, дамы, грошы? Але, скажаце й Вы: усё гэта толькі мякіна! Асноваю сьвету быў, ёсьць і навек будзе толькі Бог! А ці Ён зьмяніўся?"*[14]. Але ж з багаслоўскага пункту гледжаньня наўрад ці магчыма згадзіцца з гэтымі высновамі, таму што ў каталіцкім і праваслаўным разуменьні мадэрнізацыя ёсьць адыход ад гістарычна састарэлых культурных формаў, а не ад глыбіннай сутнасьці веры. Зьвяртае на сябе ўвагу, што архіяпіскап крытыкуе 1-ю Ўсеправаслаўную нараду, якая адбылася на востраве Родас у 1961 г.: *«Вось жа, Ойча, ці гэты "мадэрнізм" паможа нам? І гэты мадэрнізм я бачу ў той пастанове Ватыканскага Сабору, і на Канфэрэнцыі на Родосе! […] Шляхам "мадэрнізму" ніякае аб'еднаньне ня будзе асягнутае. Яно можа наступіць толькі адным адзіным шляхам: змаганьнем з усякім "мадэрнізмам" […] Я ня маю нічога супольнага зь ім — айцом ілжы,*

[12] Розмысл, Сяргей. Расьце непакой у БАПЦ // Праваслаўным Шляхам. 1969. № 1 (14). С. 21.

[13] Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва. Яшчэ адзін доказ. Сакратар БПЖБрацтва А. А. 25.03.1957 г. Машынапіс.

[14] АББМ. Ліст архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) да ераманаха Язэпа Гэрмановіча. Бруклін, Вялікдзень, 1965. Машынапіс.

*ды: Адыйдзі ад Мяне шатане! Цяжкая справа? Зусім ня цяжкая, калі толькі мы напоўнімся вагнём Божым, сілаю Духа Яго, тады як дым зьнікнуць усякія “мадэрністы”, бо зьнікне айцец іхны — шатан!»*[15]. Трэба адзначыць, што ўсеправаслаўны форум на Родасе зьявіўся першай сустрэчай прадстаўнікоў усіх Памесных праваслаўных цэркваў з часоў VII Усяленскага сабору (787 г.). Падчас нарады была прынята пастанова аб падрыхтоўцы Ўсеправаслаўнага сабору дзеля вырашэньня найбольш актуальных пытаньняў сучаснага царкоўнага жыцьця. Прадстаўнікі БАПЦ ня бралі ўдзелу ў гэтым міжправаслаўным форуме з нагоды адсутнасьці прызнаньня яе кананічнага статусу на ўсеправаслаўным узроўні. Можна меркаваць, што разьвіцьцё крытычнага стаўленьня архіяпіскапа Васіля да 1-й Усеправаслаўнай нарады на Родасе й абвінавачаньні яе ў “мадэрнізме” зьявіліся адказам на ізаляванасьць БАПЦ ад межправаслаўных стасункаў.

Ацэньваючы ў сваім лісьце духоўны стан беларускай дыяспары, архіяпіскап Васіль робіць вельмі пэсымістычныя высновы, зьвязаныя з канстатаваньнем адсутнасьці выхаваных у праваслаўным і каталіцкім асяродзьдзі нацыянальных элітаў: *“Калі я чытаю ўкраінскія царкоўныя часапісы, то я там бачу артыкулы прафэсароў, дактароў, інжынераў, пісьменьнікаў, многа вершаў паэтаў. А ў нас? Чаму няма? Толькі таму, што ўкраінская царква змагла выхаваць сваю царкоўную інтэлігенцыю, а ў нас ня было ані Праваслаўнае, ані Каталіцкае Царквы, якія бы змаглі гэтае зрабіць, таму нашая інтэлігенцыя духоўна — дзіч, на якую амаль немагчыма прышчапіць добрародную галінку”*[16]. Зьяўленьне падрыхтаваных Царквою нацыянальных элітаў архіяпіскап зьвязваў з адраджэньнем беларускай дзяржаўнай незалежнасьці: *«Дай Божа, каб мы хутчэй здабылі вольную Беларусь, дзе хіба зможам выхаваць запраўдную, бо веруючую інтэлігенцыю, якая будзе нас УСЯК разумець і вялікія рэчы тварыць. А цяпер тымчасам робім і будзем рабіць усё, што можам, как нашая інтэлігенцыя хоць часам заходзіла ў Царкву, не зьдзічала поўнасьцю ў гэтым “мадэрным” сьвеце, які выкідае Хрыста, і ўцякае ад Яго»*[17].

***

Пры падрыхтоўцы тэксту лістоў архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) да выданьня выпраўляліся відавочные граматычныя памылкі й абдрукоўкі, але ж асаблівасьці аўтарскай стылістыкі й вонкавага афармленьня засталіся нязьменнымі[18].

[15] Тамсама.

[16] Тамсама.

[17] Тамсама.

[18] Публікатар дзякуе Натальлі Гардзіенцы за атрыманыя ад яе копіі лістоў.

## № 1
## Ліст япіскапа Васіля (Тамашчыка) да інжынэра Лявона Рыдлеўскага

Розэнгайм, 7.2.50.

Даражэнькі
Сп. ІНЖЫНЕР!

Шчыра дзякую Вам асабіста за прывітаньне, гэта нічога, што яно пазьнілася, важна што яно ёсьць і застанецца ў нашых архівах. Мяне вітала шмат розных чужых арганізацыяў, сярод іх і каталікі, бо такія прывітаньні датычаць ня толькі мяне асабіста, але й усіх нас, як беларусаў. Дзіўна неяк, аднак, што такі скажам а. Л[еў] Гарошко, або а. Сіповіч не спрамагліся на такое прывітаньне… Што гэта бы мело значыць? Ці ім Папа забараніў? Чаму тады а. Ф[ранцішак] Чарняўскі прывітаў? Чаму вось такі а. Салавей[19], каталіцкі ксёндз-беларус тут у нас навет прыняў удзел у Хіратоніі й вітаў мяне ПУБЛІЧНА перад сотнямі людзей! Дзіўная нейкая беларускасьць успоўненых двох ксяндзоў!

Даражэнькі Лявон, я вельмі цешуся, што Вы там радасна перажывалі мамэнт Хіратоніі. Бязумоўна, гэта вялікая наша перамога, значэньне якой будзе належна ацэненае толькі ў будучыні, калі Бог паможа нам вярнуцца дамоў. Значэньне гэтай нашай перамогі найлепей разумеюць нашы ворагі, таму яны й вылілі на мяне й усіх нас бочкі сваіх брудаў… Але жыве ў нас двух нашае Еўфрасініі Полацкае, Кірылы Тураўскага, Мітрапаліта-Мучаніка МЕЛХІСЭДЭКА[20], ну — і Кастуся[21] і Слуцкіх Паўстанцаў[22] і — сучасных Змагароў! Таму з памыямі сяньня Дух наш зламаць нікому не ўдасца!

Другая рэч, что калі Гасподзь Бог працягнуў нам Сваю дапаможную Руку, Ён адначасна кажа нам: працуйце, ня сьпіце, узмацняйце распачатую справу на Славу Божу й карысьць свайго Народу. Таму вось я вельмі дзякую Вам за тое, што Вы прыступаеце да залажэньня Жыровіцкага

---

[19] **Уладыслаў Салавей** (1918—1974), рыма-каталіцкі рэлігійны дзеяч. Рукапалажэньне прыняў у 1946 г. Ажыцьцяўляў сваё служэньне ў Заходняй Нямеччыне. З 1955 г. генэральны пастыр для беларусаў-католікаў у Нямеччыне.

[20] **Мелхісэдэк** (сьвецк. **Паеўскі**, 1879—1931), праваслаўны рэлігійны дзеяч. У 1922 г. абвясьціў і ўзначаліў аўтаномную Беларускую мітраполію. Праз чатыры гады склаў зь сябе званьне мітрапаліта Беларускага і ў сане япіскапа вярнуўся ў юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы. У 1928—1931 гг. архіяпіскап Енісейскі й Краснаярскі.

[21] Маецца на ўвазе кіраўнік паўстаньня 1963 г. на беларускіх землях **Кастусь Каліноўскі** (1838—1864).

[22] Маюцца на ўвазе ўдзельнікі **Слуцкага антысавецкага паўстаньня** ў лістападзе — сьнежні 1920 г.

Брацтва, бо гэта асноўная наша клетка пад слаўны будынак нашае сьвятое БАПЦ. Па правілам, на чале Брацтва мае быць сьвяшчэньнік. Таму было-б вельмі добра, калі-б Вы знайшлі там у сябе такога, які-б празнаў Юрысдыкцыю БАПЦ, толькі не а. Л[еў] Гарошко, тым болей, што ён каталік. Гэта мог бы быць адзін з тых сьвяшчэньнікаў, аб якіх Вы пішаце, ня шкодзіць навет, што ён бы ня быў у Парыжы, важна ўжо тое, што ён бы ачоліў Вашае Брацтва, а можа й Сястрыцтва. Мяне асабіста вельмі цікавіць а. Архімандрыт Фінькоўскі[23]. З аднаго боку гэта было-б для нас вялікай здабычай, калі-б мы мелі ў сваіх духоўных шэрагах Архімандрыта, тым болей такога як а. Фінькоўскі — з духоўнай практыкай і да таго, як я чуў, даволі энэргічнага й ня дрэннага беларуса. Гэта запраўды вельмі-б узбагаціла нас. Толькі Бог яго ведае, ці гэтая здабыча не прынесла бы нам і паважныя мінусы з увагі на ўсе тыя няпрыгожыя чуткі, якія зьвязаны зь ягонай асобай. Магчыма, што сярод гэтых чуткаў ня мала ёсьць варожай прапаганды, магчыма, што ён у свой час быў непрыемны розным Бэнэдыктам, Філафеям і ім падобным[24] і яны стараліся адпаведна ачарніць яго. Вы жывеце там у Вас у Парыжы ўжо даўжэйшы час разам зь ім, таму павінны добра ўжо ведаць, сколькі праўды, а сколькі варожай прапаганды. Таму я вельмі прашу Вас прадставіць мне аб'ектыўны абраз аб ім. Мне цяпер важна ведаць, што сказалі-б Вашы людзі з Парыжа, калі-б а. Фінькоўскі ачоліў Вашае Брацтва. Калі-б Вашы людзі нічога супраць яго ня мелі й ахвотна прынялі яго як Апекуна Брацтва, я асабіста толькі бы цешыўся, як з паважнага цненьня нашых духоўных кадраў. Таму, даражэнькі

[23] **Уладзімер Фінькоўскі** (1906—1988), рэлігійны дзеяч, архімандрыт. У 1941 г. распачаў справу царкоўнага адраджэньня ў Менску, але праз канфлікт зь беларускім епіскапатам быў пазбаўлены магчымасьці ажыцьцяўляць служэньне ў Беларускай мітраполіі. У 1943—1944 гг. палкавы сьвятар 1-й казачай кавалерыйскай дывізіі пад кіраўніцтвам генэрал-палкоўніка Хельмута фон Панвіца. Па заканчэньні Другой сусьветнай вайны пражываў у Парыжы, дзе зьяўляўся духаўніком першаярарха Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы мітрапаліта Палікарпа (Сікорскага) (1875—1953). У 1948 г. разглядаўся Радай БНР у якасьці кандыдата на архіярэйскае служэньне ў БАПЦ, але ня быў абраны. У 1955 г. справакаваў раскол у прыходзе БАПЦ у Манчэстэры (Вялікабрытанія). У 1959 г. справакаваў раскол у беларускім прыходзе сьв. Юр'я ў Чыкага (ЗША) у юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату, абвясьціў сабе архіяпіскапам Менскім і Беларускім, першаярархам альтэрнатыўнай Беларускай аўтакефальнай царквы. З 1962 г. пражываў у Францыі й ня меў дачыненьня да беларускіх царкоўных юрысдыкцый.

[24] Маюцца на ўвазе ярархі Беларускай мітраполіі архіяпіскап Вэнэдыкт (Бабкоўскі) і архіяпіскап Філафей (Нарко), якія ў 1946 г. перайшлі ў юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы замяжой.

Лявон, пагаварыце добра адносна гэтага пытаньня й зараз-жа напішыце мне. Я зраблю так, як Вы выращыце. Калі пастановіце прыняць яго, я толькі буду рады благаслаўлю яго, калі не, я таксама пагаджуся з Вамі. Ясна, калі-б Вы пастанавілі прыняць яго, фармальнасьць была-б такая: ён піша да мяне просьбу прыняць яго да БАПЦ, я тады прыймаю, благаслаўляю яго на Апекуна Вашага Брацтва й паведамляю аб гэтым як яго, так і Вас. Гэтая працэдура павінна быць і з усімі іншымі сьвяшчэньнікамі, якія-б жадалі працаваць з намі.

Было-б вельмі добра, калі-б а. Фіцькоўскі наагул напісаў мне пару слоў. Калі яго пабачыце, передайце яму маё прывітаньне й скажыце яму, што я чакаю на ліста ад яго. Прозьвішча Міхан, нажаль, нашы тут ня чулі, калі-б нешта даведаліся, паведамім. Адносна Сп. Суравога [?] я паведаміў Сп. Манькоўскага. Я вельмі рад, што сьвятар Макарэвіч працуе пры нашым Згуртаваньні ў Аргентыне. Трэба будзе таксама зь ім навязаць кантакт і прасіць ачоліць брацтва там. У Лёндане ўжо зарганізавалі Брацтва, толькі бяда там у нас, што ўсё яшчэ ня маюць свайго сьвятара. Хутка здаецца паеду ў Бэльгію да студэнтаў, куды мяне ўжо даўно просяць. Там ёсьць надзея зарганізаваць нейкі Курс для сьвятара. Калі-б гэта ўдалося, было-б таксама вельмі добра. Спадзяюся, што Бог і тут нам паможа.

Пасылаю Вам усім шчырае прывітаньне й Архіпастырскае благаславеньне. Няхай Гасподзь Бог мае Вас усіх у Сваей Апецы.

З малітвамі й Любоўю ў Хрысьце

† Епіскап Васілій

## № 2
## Ліст ераманаха Васіля (Тамашчыка) да палкоўніка Міколы Дзямідава

Мюнхэн, 5.7.1949.

Даражэнькі Мікола Іванавіч!

Выбачайце, што, едучы ад Уладыкі, не заглянуў да Вас. Справа ў тым, што ў яго затрымаўся аж да наступнага панядзелка, таму спяшаўся назад. Ня ведаў, што там з нашым лягерам у Розэнгайме, як там стаяць нашы справы. Тымчасам там справы ня зусім ў парадку, бо ў гэтым лягеры знаходзіцца [*неразб.*] IPO, у якой працуе каля 300 чалавек, належачых да 11 розных нацыянальнасьцяў, якія маюць усе функцыі ў сваіх руках. Пакуль што нашы людзі асягнулі толькі тое, што там цяпер наш камэндант лягеру й лягер лічыцца беларускім. Мне было, калі я туды прыехаў, вельмі прыемна бачыць наш бела-чырвона-белы сьцяг на пляцу лягеру. Аднак яшчэ пройдзе 2—3 тыдні, пакуль нашы людзі зробяць яго поўнасьцю беларускім, тым болей што туды

перавозяць ужо таксама іншыя беларускія групы з Альтенштайту[25], Мітэнвальду[26] і інш., так што там хіба хутка будзе каля 1000 беларусаў. Таму я спадзяюся, што гэта будзе вельмі прыгожы беларускі лягер.

Усё гэта мяне вельмі цешыць, трэба толькі крыху пачакаць. Я таксама спадзяюся, што там мы будзем мець прыгожую нашу царкву. Усяночную я адправіў у Ўладыкі, здаецца, пры Вас, а літургію ў нядзелю ўжо без Вашае прысутнасьці. Літургія ўдалася таксама даволі добра.

Штамп і пячатку нашае Д[ухоўнае] К[ансісторыі] я зрабіў у Канстанцы, вось яны:







Штамп і пячатка Духоўнай кансісторыі БАПЦ

Прыйшлося зрабіць лацініцай, бо кірыліцай ня было магчыма. Некалі можа паправім, зробім славянскімі літарамі. Нашаму духавенству я ўжо напісаў лісты ад Духоўнай Кансісторыі з просьбай паведаміць мяне, як яны працуюць на ніве Б.А.П.Ц. Што ў Вас чуваць? Ці хутка ўжо выяжджаеце ў Амэрыку? Я вельмі цешуся, што Вы там шмат зробіце для нашае сьвятое справы. Пішыце калі ласка. Чакаю.

Сардэчна вітаю Вас, Вашу мілую маці й швагерку.

Жыве Беларусь!

З хрысьціянскай любоўю й пашанай да Вас

Ваш а. Васілій

[25] **Альтэнштат** (ням. *Altenstadt*) — польскі лягер для перамешчынах асобаў, які знаходзіўся на тэрыторыі зямлі Баварыя (Нямеччына). Першая беларуская група зьявілася ў Альтэнштаце вясной 1949 г., а ўжо летам таго ж году яна была пераведзеная ў лягер Розэнгайм.

[26] **Мітэнвальд** (ням. *Mittenwald*) — лягер для перамешчаных асобаў на тэрыторыі зямлі Баварыя (Нямеччына).

## № 3
## Ліст япіскапа Васіля (Тамашчыка) да палкоўніка Міколы Дзямідава

Розэнгайм, 7.3.50.

Глыбокапаважаны й Даражэнькі
Мікола Іванавіч!

Госпаду Богу ўгодна было ніспаслаць Сваю Ласку й Благадаць нашай сьвятой БАПЦ. Я цешуся, што гэтая Ласка й Благадаць праявіліся да нас праз маю скромную асобу. Паколькі Вы мяне ведаеце, можаце верыць мне, што я з свайго боку далажу ўсіх стараньняў, каб мы добра апраўдалі гэтую Міласьць Божую да нашага гаротнага Народу. Дзякаваць Богу, я не адзін: з усіх канцоў сьвету шчырыя й гарачыя сэрцы сыноў нашае мілае Беларусі горнуцца да нашае Адроджанае Аўтакефальнае Царквы, ахвяруюць сваю дапамогу, тымчасам хаця бы маральную, што аднак для мяне мае вялікае значэньне, бо падтрымоўвае мяне на духу й паказвае, што абраны намі шлях мілы й прыемны Богу й нашым змагаром.

Я заўсёды верыў, што сярод гэтых шчырых і гарачых сэрцаў будзе й Вашае, Мікола Іванавіч, бо іначай і быць не магло ці ня можа. Я ведаю Вашу самаахвярнасьць ужо не адзін год, асабліва на працягу апошніх пару гадоў на ніве нашае сьвятое БАПЦ, Вы-ж адзін з Яе асновапаложнікаў і будаўнічых. Таму поўнасьцю веру Вам, што Вашае сэрца цешылася й радавалася, калі Вы даведаліся аб ніспасланьні Благадаці Божай нашай БАПЦ. Вельмі, вельмі шкада, што Вы не маглі разьдзяліць нашай агульнай радасьці ў часе нашае вялікае ўрачыстасьці, калі запраўды сам Бог быў з намі й дапамагаў нам, бо Вы-ж ведаеце матарыяльнае палажэньне нашых людзей тут, а толькі гасьцей было каля 50 асобаў, сярод якіх 3 Япіскапы, 10 сьвятароў, 5 протадыяканаў, дыяканаў і гаподыяканаў, акрамя таго такія госьці, як генэралы, прафэсары, рэдактары і г. д., а нашых самых людзей ня менш 150! Вы можаце сабе добра ўявіць, як я мусіў пачуваць сябе, калі пабачыў такую масу людзей спачатку! За тое вельмі цешыўся пасьля, калі пабачыў вялікую ахвярнасьць нашых людзей ува ўсіх адношаньнях і толькі думаў: не, гэта сам Бог нам памагае й шчыра дзякаваў Яму ў сэрцы сваім. Вы магчыма ўжо чулі, што ўся Хіратонія, ад пачатку да канца, зьфільмаваная; гэты фільм мы ўжо бачылі тут у нас, вельмі прыгожы! Шкада толькі, што мы тымчасам ня можам яго выкупіць, некалі трэба будзе гэта абавязкова зрабіць, бо гэта вялікая наша гістарычная каштоўнасьць!

Даражэнькі Мікола Іванавіч! Я не знаходжу слоў, як Вам адпаведна падзякаваць за Ваш прыгожы чын у сувязі з Вашымі прысланымі мне

пастановамі ад Беларусаў Чыкага, хіба толькі сказаць: Няхай Госпадзь Бог благаславіць Вас усіх і Прачыстая Жыровіцкая Маці Божая ахіне Вас усіх сваім цудоўным Амафорам, каб гора й бяда ніколі ня былі Вашымі гасьцямі, каб Вы ўсе жывыя і здаровыя дачакаліся радаснае хвіліны павароту на нашую мілую й дарагую, вольную й незалежную Беларусь!

Што датычыць маго прыезду да Вас, магу толькі сказаць, што я быў-бы шчасьлівы, калі-б мог спаткацца з Вамі. Цяпер, аднак, усё яшчэ цяжка сказаць, ці гэта станецца, бо як толькі я пачаў афармляць свой кантракт, мае “прыяцелі”, якіх ведаеце, у мяне не мала, зараж-жа пусьцілі ў рух сваю брудную машыну... Панцелейман[27] выпусьціў сваю ўлётку, дзе называе ўкраінцаў і нас ня толькі раскольнікамі, але й герэтыкамі! Паводля яго, ёсьць толькі адна адзіная Царква кананічная й законная, гэта... Расейская! Гэтая ўлётка толькі яшчэ адзін раз пераканала нас у праўздівасьці нашага шляху й чаго можна было спадзявацца ад “мітрапаліта” “Беларускае” Царквы!! Вылажыў, як гаварыцца, на лапаце сваё імпэрыялістычнае нутро! Мы вельмі ўдзячныя яму за гэтую ўлётку, якая хіба й сьляпому адкрыла вочы, толькі для мяне асабіста гэта назнака, што фронт маіх ворагаў сягае такі далёка... Ну, Бог з імі, гарбатага магіла направіць, пабачым. Цераз нейкі месяц-паўтара буду хіба больш менш ведаць, куды пакіруецца мая справа, тады паведамлю Вас. Пакуль што, даражэнькі Мікола Іванавіч, няхай Госпадзь Бог Вам памагае на ніве нашае сьвятое БАПЦ. Калі можна, закладайце Прыход і Брацтва[28]. Мы тут надрукавалі Пасьветчаньні Брацтва з Абразком Жыровіцкае Божае Маці, калі такое будзе з Вас заложанае, вышлем некалькі штук і Вам. Пішыце.

Я вельмі рад, што ў Вас быў Сп. Прэзідэнт[29]. Ён хіба нешта добрае зробіць там для нас, няхай Бог памагае яму й благаславіць ягоную працу. У нас тут цяпер, самы ведаеце, выяздовая гарачка, усякія камісіі і г. д.

Шчыра вітаю Вас усіх і прашу Бога, каб Ён заўсёды й усюды благаслаўляў Вас у Сваёй Боскай Апецы.

Аб тым, аб чым мы гаварылі разам у Вангене[30], я ня забыўся й быў-бы толькі рад, калі-б эта сталася.

З малітвамі й любоўю ў Хрысьце

† Япіскап Васілій

---

[27] Маецца на ўвазе мітрапаліт Панцеляймон (Ражноўскі).

[28] Маецца на ўвазе аддзел Жыровіцкага праваслаўнага брацтва.

[29] Маецца на ўвазе Прэзыдэнт Мікола Абрамчык.

[30] **Ванген** (ням. *Wangen*) — камуна ў зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг.

## № 4
## Ліст япіскапа Васіля (Тамашчыка) да палкоўніка Міколы Дзямідава

Бруклін 2, 3.6.1953.

МІЛЫ І ДАРАЖЭНЬКІ
МІКОЛА ІВАНАВІЧ!

Шчыра дзякую за ліста. Нажаль, я ня мог Вам адказаць своечасова, каб Вы маглі атрымаць гэты мой адказ да 30.5, бо ліста Вашага атрымаў толькі два-тры дні перад гэтай датай.

Мне вельмі шкада Вас, што Вы мусілі так дарага плаціць за сваё падарожжа ў Нью-Ёрк, бо аж 2 з паловаю тыдні хварэлі. Спадзяюся, што Вы ўжо пачуваеце сябе добра, чаго Вам ад душы жадаю. А тое, што на мой стук адказу ня было, гэта драбніца, якая на другі дзень ужо забылася, часта бываюсь куды горшыя рэчы.

Вы парушаеце ў сваім лісьце шмат паважных пытаньняў, на дзеякія з каторых так лёгка адказаць. Перадусім што да Прэзідэнта Сп. Абрамчыка, дак нажаль яго тут ужо хіба два тыдні як няма. Ён выехаў крыху далей, і калі вярнецца, няма ведама, можа за два-тры тыдні. Калі вярнецца, пастараюся пабачыцца з ім і парушыць закранутыя Вамі пытаньні. Як ён глядзіць на кансалідацыю нашых сілаў, цяпер я ня ведаю, ведаю толькі, што раней ён пазытыўна ставіўся да гэтага пытаньня. І на маю думку гэта было-б добра, бо яна ўсё-ж хоць крыху ўзмацніла бы нас і вышла бы гэта нам на карысць. Я Вам абсалютна веру, што Вы асабіста кіруецеся зусім чэснымі прынцыпамі й жадаеце ўзмацненьня нашага фронту. Толькі ня ведаю, ці Вы добра зрабілі, прыняўшы функцыю віцэстаршыні БЦР, бо гэтая арганізацыя ў мінулым нам карысная, цяпер ужо даўно страціла рацыю свайго існаваньня, як наш рэпрэзэнтатыўны ворган, з ёй, нажаль, цяпер нідзе ня можна паказацца, тым болей сярод дыпляматычных захадніх колаў. Гэта, бязумоўна, мая думка, іншыя могуць думаць іначай, тут я не хачу быць нецярпімым, кажны мае права на сваю думку. Тым болей я, як духаўнік, я яшчэ ніколі з сваіх пропаведзях не кранаў гэтага пытаньня, я заўсёды малюся за ўвесь наш многастрадальны народ, для мяне тут няма партыяў ці групаў, для мяне ўсе беларусы, таму я й малюся заўсёды за ўвесь наш народ і за ўсю эміграцыю. Гэта нашы людзі заўсёды чуюць ад мяне ў нашай Царкве. Таму аб гэтым пытаньні ў яго палітычным асьпекце гавару як прыватная асоба, як кажны беларус. І ў гэтым характары й у характары духаўніка тым болей я заўсёды прывітаю кажную кансалідацыю.

А калі я часамі ўспамінаю БНР, дык толькі таму, што я ўважаю гэтую Ўстанову сяньня за адзіна магчымую нашу рэпрэзэнтацыю, акрамя таго, староньнікі БЦР, як Вы добра ведаеце, ужо ня мала зла зрабілі нашай сьв. БАПЦ і мне асабіста, і далей прадаўжаюць рабіць тое самае. Ня гледзячы на ўсё гэта, я амаль ніколі нідзе не выступаў супраць іх,

тым болей у Царкве й толькі прашу Госпада Бога, каб Ён прасьвятліў розум іх, каб яны ўрэшце зразумелі, што ня ведаюць, што робяць.

Я вельмі рад, што Вы мелі намер, а можа ўжо й правялі, адсьвяткаваць Дзень нашае слаўнае сьв. Еўфрасіньні, ды асабліва Пяцігодзьдзе Канстанцкага Сабору[31]. Мы будзем сьвяткаваць гэтую слаўную дату ў Нядзелю, 7.6. у Нью Брансьвіку[32]. Мне таксама прыемна чуць ад Вас, што Вы хацелі запрасіць мяне да сябе, шчыра дзякую. Бязумоўна, што датычыць майго прыезду да Вас, дык на гэта было ўжо вельмі мала часу, аб такіх рэчах я мушу ведаць прынамсі два-тры тыдні наперад. Наагул мая думка была й ёсьць тая, што нашая кансалідацыя мела бы распачацца ад Царкоўных справаў. Калі-б яны збоку БЦР прызналі шчыра нашу сьв. БАПЦ і мы пачалі разам маліцца, дык я ўважаю, што гэта ўжо была-б добрая палавіна справы, і тады другая палавіна была-б хутка аформленая, бо тут галоўнае духова-псыхалагічнае паразуменьне. Я пераkананы, што ўжо на першай супольнай Службе Божай сьцерлася-б бальшыня нашых вострых кантаў, якія перашкаджаюць паразуменьню, людзі падалі-б сабе рукі й сказалі-б: даволі мы ўжо самы сабе перашкаджалі, пара злучыцца ў супольных арганізацыях. Так маглі-б лёгка злучыцца грамадскія арганізацыі, моладзі, студэнтаў, а там бы засталася толькі апошняе пытаньне: БНР і БЦР, якое таксама пра добрай волі ўжо ня цяжка было-б палагодзіць. Гэта мая аснаўная думка й мой плян, уважаю, адзіна рэальны й магчымы для кажнага, хто жадае дабра нашай агульнай справе.

Пакуль, аднак, кіраўнікі БЦР будуць негатыўна глядзець на нашу БАПЦ, так доўга ўважаю, аб ніякай кансалідацыі думаць ня можна, бо толькі Царква можа дапамагчы духоваму паразуменьню, а бяз яго немагчымая ніякая кансалідацыя.

Калі Вы тут штось зможаце зрабіць, гэта будзе вялікая заслуга Ваша. У гэтым сэнсе шчыра й сардэчна вітаю Вас, Мікола Іванавіч і Вашу мілую Елену Фамінішну.

Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас.

З пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце

Ваш

Япіскап Васілій.

---

[31] **Канстанцкі сабор** — царкоўны сабор беларускага духавенства й міранаў, прысьвечаны пытаньням стварэньня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на чужыне. Адбыўся 5 чэрвеня 1948 г. у г. Канстанца (Нямеччына) пад кіраўніцтвам спэцыяльна запрошанага ярарха УАПЦ япіскапа Сергія (Ахатэнкі). Галоўнымі вынікамі сабору сталі стварэньне Часовага кіраўніцтва БАПЦ на чале зь япіскапам Сергіем і пачатак арганізацыі структуры БАПЦ.

[32] Маецца на ўвазе **прыход Жыровіцкай іконы Божай Маці** ў г. Нью-Брансьвіку (штат Нью-Джэрзі, ЗША), які быў заснаваны ў 1951 г. і знаходзіўся ў юрысдыкцыі БАПЦ.

## № 5
## Ліст архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) да палкоўніка Міколы Дзямідава

Бруклін 1, 8.8.1956.

ГЛЫБОКАПАВАЖАНЫ Й ДАРАГІ
МІКОЛА ІВАНАВІЧ!

Шчыра дзякую за ліст. Прашу выбачыць, што не адразу адказаў на яго. Чаму? Бо, ня гледзячы на тое, што ўжо некалькі разоў прачытаў Вашую просьбу, аднак, і цяпер яе не зразумеў. Ведаючы, што Вы добра разумееце царкоўныя справы й формы, я ўрэшце падумаў, што Вы так на ясна ўлажылі сваю просьбу толькі таму, што Вам хочацца пайсьці ў расейскую царкву рэгентам-псаломшчыкам, або можа ў Вас ёсьць яшчэ якаясь іншая думка.

Чаму я прыйшоў да такіх вывадаў? А вось чаму: Вы пішаце, што рэшты жыцьця сваяго хацелі-б ахвяраваць Праваслаўнай Царкве. Моцна хвалю Вас за гэта, але якой Царкве? Далей Вы пішаце, што просіце мяне памагчы Вам у гэтым. Чым і як памагчы?

Дарагі Мікола Іванавіч! Калі Вы рашылі пайсьці ў Расейскую Царкву, дык я Вам не хачу й не магу перашкаджаць, бо-ж Вы ўжо даўно пакінулі БАПЦ. А калі Вы плянуеце нешта іншае й хочаце мець маю раду, або дапамогу, дык напішыце мне проста й ясна, што Вы хочаце рабіць. Вы хіба з практыкі сваяго жыцьця пераканаліся, што я яшчэ ніколі не парадзіў Вам нешта дрэннае, або для Вас шкоднае, бо гэта не ў маім характары. Тым болей Вам як сваяму земляку я заўсёды жадаў і жадаю толькі дабра. Нажаль, Вы некалькі разоў не паслухалі мяне, навет дзеялі супраць мяне. Аднак, я й цяпер ня гневаюся на Вас, бо-ж доўгі час мы былі прыяцелямі, супольна працавалі для нашага агульнага дабра, а гэта ў мяне ня так скора забываецца. У апошнія часы Вы прайшлі па іншай лініі, пачалі шукаць сабе іншых прыяцеляў сярод гэтага роду лукавага і я думаў сабе: ну, што-ж, сілаю ня будзеш мілаю, кожны свой розум мае, аднак, я нідзе ніколі не выступаў супраць Вас, бо ўсё яшчэ хачу думаць, што мы — прыяцелі, я цяпер я гатовы Вам, па меры сваіх магчымасьцяў, памагчы, толькі я мушу ведаць: як і чым?

І ў гэтым сэнсе шчыра й сардэчна вітаю Вас, дарагі Мікола Іванавіч, жадаю Вам добрага здароўя, сіл і радасьці духовае.

Гасподзь Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць Вас.

З глыбокаю пашанаю да Вас і любоўю ў Хрысьце,

Адданы Вам,

† Архіеп[іскап] Васілій.

## № 6
## Ліст біскупа Часлава Сіповіча да архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка)

*Roma, Via Corsica 1.*
28.XII.1966.

Ваша Дастойнасьць Дарагі Ўладыка,

Калі я быў у Зл[учаных] Штатах у 1961 г., меў нагоду спаткацца з Вамі і помню, што тады Вы мяне інфармавалі пра беларускі пераклад Біблії. Я быў бы Вам вельмі ўдзячны, калі-б Вы мне дакладней напісалі, як сёньня выглядае гэта паважная справа?

Ці шмат ужо пературмачана сьвятых кнігаў? Хто іх тлумачыў? Ці Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква судзейнічае афіцыяльна?

Калі-б дзеля якіхсьці прычын Вы не маглі-б праслаць мне гэтых інфармацыяў, дык да каго я магу звернуцца, каб іх атрымаць?

Наступная просьба да Вас: будзьце ласкавы і прышліце мне наступныя нумары "Голасу Царквы"[33]: Nr. 1—13 /ад першага да трынаццатага / і гэтыя нумары: 19, 20, 22. Апошні нумар, які я маю — гэта 23. Калі выйшлі наступныя, такжа прашу прыслаць. Не забудзьцеся такжа залічыць рахунак на ўсё.

Чуў я, што хутка мае быць хіратанізаваны айцец Мацукевіч[34]. Калі гэта праўда, дык цешуся. Пэўне-ж яму трэба яшчэ шмат працаваць, асабліва каб больш адчытацца, але найважнейшай рэчай сьпеласьць духовая, а гэта ён мае.

З нагоды надыходзячых Калядаў і Новага Году прыміце найшчырэйшыя пажаданьні.

З глыбокай пашанай да Вас,

† Чэслаў Сіповіч
Тыт[улярны] Біскуп Марыямітанскі
Ап[остальскі] Віз[ытатар] Беларусаў.

[33] **"Голас Царквы"** — беларускі рэлігійна-грамадзкі часопіс, афіцыйны орган БАПЦ. Выдаваўся ў 1955—1993 гг. Рэдактарамі часопісу пасьлядоўна зьяўляліся архіяпіскап Васіль (Тамашчык), Міхась Міцкевіч і Пётра Манькоўскі.

[34] Маецца на ўвазе архімандрыт Мікалай (Мацукевіч).

## № 7
## Ліст архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) да біскупа Часлава Сіповіча

19.XII.1966.

ЯГО ДАСТОЙНАСЬЦЬ
БІСКУП ЧЭСЛАЎ
МАРЫЯН ГАЎЗ, ЛЁНДАН.

ВАША ДАСТОЙНАСЬЦЬ! ДАРАГІ ЎЛАДЫКА!
ХРЫСТОС РАЖДЖАЕЦЦА — ЯГО СЛАЎЦЕ!

Вельмі дзякую за Вашыя Калядныя й Новагоднія прывітаньні й добрыя пажаданьні. І я з свайго боку сардэчна вітаю Вас з нашым вялікім і радасным Сьвятам: РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ і з НОВЫМ — 1967 — ГОДАМ!

Пры гэтай нагодзе выказваю Вам хіба найлепшыя пажаданьні: каб Нованароджаны Ісус Хрыстос, Сын Божы і Богачалавек штонайхутчэй памог нам зьдзейсьніць Ягонае жаданьне: Няхай усе будуць Адно! Будзем прасіць Яго, каб гэтая сьвятая справа зьдзейсьнілася яшчэ за нашага жыцьця, каб ўсе мы разам адным сэрцам і адною душою славілі Яго, у Прэсьвятой Тройцы Адзінага Бога нашага.

Што да перакладу Бібліі на Беларускую мову скажу Вам тое, што я ведаю. Чатыры-пяць год таму прыйшоў да мяне былы іудэй, а цяпер выдатны пратэстанскі пастар Гітлін[35] і сказаў: *"Мой бацька паходзіць зь Беларусі, я ўжо памог украінцам пералажыць Біблію на ўкраінскую мову, тым болей хачу памагчы вам гэта зрабіць. Адначасна ён сказаў мне, што галоўным перакладыкам тут зь беларускага боку будзе д[окта]р Янка Станкевіч, але адначасна й я буду перакладаць"*. Я горача падзякаваў яму за гэтае ягонае добрае жаданьне, але сказаў яму, што, нажаль, мова д[окта]р[а] Я[нкі] Станкевіча ніяк не падходзіць для нашае Бібліі, бо гэтаю моваю карыстаецца ў нас толькі ён сам. Ня толькі гэта: *"Мова Бібліі, асабліва Новага Запавету, сьв. Евангельля, якое мы, праваслаўныя, чытаем нарасьпеў, мусіць быць поўная гармоніі, а гэтага ў мове д[окта]р[а] Я[нкі] Станкевіча няма"*. Тое самае сказаў Гітліну і д[окта]р В[ітаўт] Тумаш, які пры гэтым яшчэ сказаў яму: *"Д[окта]р Я[нка] Станкевіч можа абцёсваць моўныя каменьні, але ўкладаць іх у мову ня можа"*.

---

[35] **Гітлін Маісей** (1896—1969), пратэстанцкі пастар, перакладчык, гебраіст, публіцыст. Паходзіў з габрэйскай сям'і. У 1920-я гг. перайшоў у хрысьціянства. Займаўся шырокай місіянэрскай працай у Польшчы, Аргентыне, Канадзе, ЗША. З 1965 г. узначальваў Беларускі біблейскі камітэт, які займаўся падрыхтоўкай перакладу Бібліі на беларускую мову.

Ня гледзячы на гэта, Гітлін прыходзіў да мяне на працягу двох месяцаў двойчы на тыдзень, і я пераклаў зь ім Кнігу прарока Даніеля. Я вельмі хацеў, каб мы змаглі выдаць сваю Біблію, таму хацеў пайсьці зь ім, Гітліным, на кампраміс. Я, у паразуменьні з д[окта]р[ам] В[ітаўтам] Тумашам, сказаў яму: добра, няхай д[окта]р Я[нка] Станкевіч перакладае, але пасьля ён мусіць передаць свой пераклад Камісіі на перагляд, ці там часам няма таксама й рэлігійных памылак, або навет герэзіяў[36]. На гэта Гітлін мне нічога не сказаў, але папрасіў мяне, каб я даў яму бачыну свайго перакладу на перагляд доктара і на выраз свае аб'ектыўнасьці, сказаў, што Янка зробіць тое самае, дасьць мне сваю бачыну. Я гэта зрабіў. Наступным часам ён прынёс мне гэтую маю бачыну, а таксама бачыну Янкі. У маім перакладзе што другое слова было ў чырвоным колцы й напісана: абмылка. Напрыклад, у мяне: юнак, а Янка напісаў: дзяцюк і г. д. Калі я пачаў чытаць пераклад Янкі, то жахнуўся. Там я знайшоў такія словы: "ё", "ёсьцека", "ёсьць", "а" замест "і", Бог для Янкі — Спадар, "тут" і "тутака", "там" і "тамака", "цяпер" і "цяперака", "жыцьцё" і "бытаваньне" і г. д.

Убачыўшы гэтую сечку-салому ў Бібліі, я яшчэ раз цьвёрда сказаў Гітліну, што такая мова мусіць быць выпраўленая Камісіяй, іначай я з праваслаўнага боку складаю зь сябе ўсякую адказнасьць. Пасьля гэтага Гітлін перастаў прыходзіць да мяне, і ўжо перакладаў толькі Янка, які атрымоўваў за гэта 100 даляраў у месяц, а мне Гітлін сказаў, што для мяне грошай няма. Гэтага я й не патрабаваў, і быў удзячны яму за тое, што ён навучыў мяне чытаць па габрэйску. Каля двох год таму Гітлін праз прэз[ыдэнта] Абрамчыка прасіў мяне, каб я даў багаславенства на гэты пераклад, бо ён ужо скончаны. Я сказаў Прэзідэнту: *"Без перагляду даць благаславенства ніяк не магу, бо я пэўны, што ня толькі мова там дзеравяная й бутафорная, але й рэлігійных памылак там ня мала"*. Пераклад мне прысланы ня быў, і я чуў, што нейкая Камісія прыняла яго, і ён ужо ляжыць у Лёндане ў Біблійным Таварыстве, але... пад сукном. Такім чынам Янка добра зарабіў, і я пэўны, што Гітлін ня мала тысячаў палажыў сабе ў кішэню, бо атрымоўваў ня сто даляраў у месяц, а многа больш, а мы маем бяду: Бібліі няма й хіба ня будзе, бо з гэтым перакладам БАПЦарква нічога супольнага мець ня можа. Гэты пераклад многа горшы за ўкраінскі пераклад Кулеша, у якім мноства грубых словаў, таму ўкраінцы й зрабілі новы пераклад, згодны з сучасную ўкраінскаю літаратурнаю моваю. Тое самае магло быць і ў нас. Нажаль, тут Гітлін замест памагчы нам, толькі пашкодзіў, бо пра Я[нку] Станкевіча няма што й гаварыць. Мая сугэстыя Вам тут была-б такая: калі можаце, дастаньце з "пад сукна" той пераклад і мы супольна яго выправім і дамо багаславенства, і будзем мець нашую Біблію.

[36] Пад словам **"гэрэзіі"** маюцца на ўвазе хрысьціянскія ерасі.

Перасылаю Вам тыя нумары "Голасу Царквы", якія Вы просіце, уключна з апошнім 24-м, якіх пасылаю тры: два для выдаўцоў "Божым Шляхам". Акрамя гэтых двох нумароў цана перасыланых Вам выносіць прыблізна 10 даляраў.

Але, архімандрыт Мікалай Мацукевіч гатовы да Хіратоніі у Епіскапа. Калі гэта станецца, сказаць, нажаль, усё яшчэ не магу. Так, яму трэба яшчэ шмат працаваць, многа чытаць, але духова ён запраўды стаіць высока.

З глыбокаю пашанаю да Вас

і зь любоўю ў Хрысьце Ісусе,

† Архіепіскап Васілій.

## № 8
## Ліст біскупа Часлава Сіповіча да архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка)

Лондан, 14 студзеня 1967 г.

Дастойны і Дарагі Ўладыка,

Запраўды пацешылі Вы мяне Вашым лістом з дня 19.12.1966. За Вашы шчырыя пажаданьні з нагоды Калядаў і Новага Году, а такжа за весткі ў справе Беларускай Бібліі вельмі дзякую. У надыходзячым Тыдні Малітваў за еднасьць у Хрысьце ўсяго чалавецтва будзем маліцца, каб і беларусы аб'ядналіся.

Цяпер паінфармую Вас аб нашай працы над Бібліяй і аб тым, што нам сказала Біблійнае Брытанскае Таварыства. Засьцярагаюся, што ўсё ніжэй напісанае гэта толькі для Вас або Вашых бліжэйшых супрацоўнікаў, але пакуль што не для агульнага ведама.

Мы каталікі стварылі адумысловую Біблійную Камісію, якая прыняла ўжо рэгулы або прынцыпы, на якіх павінна апірацца наша праца тлумачэньня на беларускую мову Бібліі. Перадусім аднак будзем старацца прыгатаваць беларускі тэкст да літургійнага ўжытку так усходняга, як і лацінскага абраду. Айцец архімандрыт Гарошка апрацоўвае тэрміналагічны слоўнік, які ёсьць неабходны.

Мы такжа падзялілі часьць біблійнага матэрыялу паміж намі, прыкладам я маю пэратлумачыць з арыгінальнай мовы *Pentateuch* або Кнігі Майсея. Над першым разьдзелам майго тлумачэньня была праведзеная дыскусія на зборцы цэлай камісіі.

Ваш ліст для нас быў вельмі начасе, бо ўсё роўна жадалі навязаць сувязь з Біблійным Брытанскім Таварыствам, якое выдала тлумачэньне А[нтона] Луцкевіча Н[овага] Запавету і псалмоў[37].

[37] Маецца на ўвазе выданьне: Новы Запавет Госпада Нашага Ісуса Хрыста [і Псальмы]. Гэльсінгфорс: Брытанскае і Замежнае Біблійнае Таварыства, 1931. 353+ 93 с.; Выд. 2. Лёндан, 1948.

11.I.1967 г. а[йцец] Архімандрыт Гарошка і я былі прынятыя *D*r. A. *K. Moulton*. На стале перад ім ляжала вялікая папка розных дакументаў і карэспандэнцыя ў справе бел[арускага] тлумачэньня Бібліі. Як ён нас паінфармаваў, гэтая справа пачалася ў Канадзе дзесь у 1957 г. і працягвалася праз добрых 10 гадоў. Усё аднак скончылася тым, што Біблійнае Таварыства Брытанскае ў паразуменьні з Амерыканскім прыгатаваны сп. Гітлінам і д[окта]р[ам] Я[нкам] Станкевічам тэкст не прыняло і гэты тэкст адаслала сп. Гітліну назад з датай 28.III.1966. *Rev[erend] dr. Moulton* быў з намі шчыры і ён сказаў, чаму гэтак паступіла іхняе Таварыства. Браліся пад увагу кошты выданьня, распродаж, імя мовы (д[окта]ра Я[нкі] Станкевіча прапанова: *Great Lithuanian language*), тлумачэньне, зробленае абмежаным лікам людзей (Гітлін, Станкевіч) і без супрацоўніцтва з праваслаўнай і каталіцкай Царквой.

Як бачыце, Дарагі Ўладыка, Біблійнае Таварыства да (паданай) справы падыходзіла вельмі паважна, дык нічога дзіўнага, што яно не магло здаволіцца з усяго таго, што двох толькі і не зусім аўторытатыўных чалавек зрабіла.

Мы дагаварыліся да пэўнага супрацоўніцтва. Тымчасам яно мае праявіцца ў наступнай форме: Брыт[анскае] Бібл[ійнае] Таварыства звернецца ізноў да д[окта]ра Гітліна і папросіць, каб ён пераслаў яму той тэкст Бібліі. Наступна вышле яго (магчыма толькі некаторыя кнігі Св[яшчэннага] Пісаньня і перафатаграфаваныя) нашай Каталіцкай Камісіі і Вам, як Галаве Беларускай Праваслаўнай Царквы. Вы і мы павінны, пераглядзеўшы тое тлумачэньне, дадзём сваю апінію, якая зводзіцца да трох толькі магчымасьцяў: прыняць тэкст, адкінуць або прыняць пад умовай, што яго перапрацуем нанава.

Была такжа парушана справа супрацоўніцтва і з нашымі пратэстантамі: з а[йцом] Пятроўскім[38]. Пакуль што аднак лепш яго аб нічым не паведамляць, бо ня ведаем наагул, ці Бібл[ійнае] Таварыства атрымае назад той тэкст ад Гітліна і які ён ёсьць. У кожным выпадку, мы жадалі-б супрацоўнічаць з Вамі, а такжа і з Біблійным Таварыствам, якое і шмат чым магло-б нам дапамагчы.

Радзіў бы Вам, Уладыка, стварыць Біблійную Праваслаўную Камісію. У Еўропе мог бы яе рэпрэзентаваць а[йцец] д[окта]р Смаршчок[39].

Такжа прасіў бы прыслаць нам Ваша тлумачэньня прарока Даніеля, а мы Вам будзем дасылаць усё тое, што будзе намі пераtлумачана. Я за пару дзён выязджаю ў Рым і прашу ветліва пісаць мне на рымскі адрас: *Roma, Via Corsica 1*. Дзякую Вам за часопіс, за які пастараюся хутка разьлічыцца.

Прыміце словы глыбокай пашаны і любові ў Хрысьце,

† Чэслаў Сіповіч.

[38] Маецца на ўвазе Ян Пятроўскі.

[39] Маецца на ўвазе а. Аўген Смаршчок.

## № 9
## Ліст архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) да біскупа Часлава Сіповіча

3-ага лютага, 1967.

ЯГО ДАСТОЙНАСЬЦІ
ЕПІСКАПУ ЧЭСЛАВУ
РЫМ, ВІА КОРСІКА 1.

ВАША ПРЭАСЬВЯШЧЭНСТВА!

Супакой і радасьць Вам у Прэсьвятой Тройцы: Богу Айцу, Богу Сыне й Богу Духу Сьвятым.

Вельмі дзякую Вам за два лісты, а таксама за шчодрую ахвяру ў 30 даляраў на мой часопіс "Голас Царквы". Мяне многія нашыя людзі лаюць за яго, што я там займаюся "неактуальнымі" справамі, а не пішу нічога пра нашыя "канкрэтныя" справы: у бальшыні пра нашыя бруды. На гэта ў мяне многа прычынаў, і шкадую толькі таго, што ў нас надта мала людзей, якія могуць разумець галоўнае.

Я вельмі рад, што Вы ўзяліся за наш вялікі скарб: за пераклад Бібліі на Беларускую мову. Бязумоўна, калі мы палагодзім гэтую справу, то гэта будзе запраўдная эпоха ў нашым царкоўным жыцьці. Як я Вам ужо пісаў, я гатовы быў навет супрацоўнічаць з Гітліным ды др. Я. Станкевічам, абы толькі неяк зьявілася нашая Беларуская Біблія.

Тым болей я гатовы тут супрацоўнічаць з Вамі. Я гатовы пайсьці на ўсякі тут кампраміс, абы толькі ня было там такіх выразаў як — Субожня ці Экклезія замест Царквы, ясна, новатвораў Янкавых як — Спадар замест Бог ці Гасподзь і пад.

Я моцна сумляваюся ў тым, што Гітлін верне той рукапіс. Калі-б вярнуў, тады ясна: мы скарыгуем яго, а калі ня верне, таксама ня будзе бяды, бо маем сілы ўсё самі зрабіць, ды зрабіць запраўды добра, згодна з нашаю сучаснаю літаратурнаю моваю. Адна тут у мяне просьба да Вас: калі ласка, не бярэце пралата Рымскага, рэдактара "Зьнічу"[40] да супрацоўніцтва, бо-ж гэта ў мове другі др. Янка [Станкевіч], зноў была-б бяда.

Таксама пра супрацоўніцтва пастара Пятроўскага няма мовы. Чаму? Пару гадоў таму ён прыслаў мне для прагляду свой пераклад трох малых прарокаў, і я проста жахнуўся над тою сечкаю-саломаю ў мове,

[40] Маецца на ўвазе **Пётра Татарыновіч** (1896—1978), рыма-каталіцкі прэлат, заснавальнік беларускага рэлігійна-грамадзкага часопісу *"Źnič"* ("Зьніч") і ініцыятар стварэньня беларускіх перадач на Радыё Ватыкана. У 1952 г. прапанаваў свой аўтарскі нэалягізм "Субожня" ў якасьці беларускай альтэрнатывы тэрмінам "Царква" й "Касьцёл" (гл.: P. D. Pa linii vytrymanaj kansekvencyi // Źnič. 1952. № 17. S. 4).

не гаворачы ўжо аб тым, што выкрыў страшныя выкрыўленьні, што мяжуюць з герэзіяй. Магчыма ў ягонай пратэстанскай галаве гэта было й добра, але ня ў нас.

Як я ўжо пісаў Вам, я разам з Гітліным зрабіў пераклад Кнігі Прарока Даніеля. Калі справа з перакладам прыйме канкрэтныя формы, то я перашлю Вам гэты свой пераклад. Акрамя таго, я мог бы ўзяць на сябе ўпарадкаваньне перакладу Луцкевіча сьв. Евангельля й Пасланьняў Апостальскіх. Магчыма й Вы ведаеце, што там ёсьць ня мала чаго, што трэба зьмяніць. Я тут разумею ня зьмест ці сэнс, а словы, а навет і паасобныя сказы, бо калі чытаю Евангельля ў Царкве пабеларуску, тое ад Луцкевіча, то часта чытаю крыху інакш, чым напісана. У некаторых месцах ягоная мова ня сьпеўная, не мэлядыйная, грубая. У Пасланьнях Апостальскіх у дзеякіх месцах заўважыў, праўда, не вялікія, але памылкі. Гэтым не хачу сказаць, што ягоны пераклад наагул благі, наадварот, часта дзіўлюся, як ён на той час добра валодаў беларускаю моваю: многія месцы й цяпер чытаюцца лёгка ды безь ніякіх зьменаў, і ў параўнаньні з гэтым перакладам пераклад др. Янкі [Станкевіча], мягка кажучы, надта слабы.

Словам, дарагі Ўладыка, цьвёрда вазьмецеся за гэтую нашую вялікую й сьвятую справу, а я з свайго боку буду таксама цьвёрда памагаць Вам.

Я буду таксама рад, калі Вы дзешто напішаце мне адносна апошніх вялікіх падзеяў у Ватыкане ў сувязі з тымі кантактамі з Масквою, а таксама пра іншыя справы з царкоўнага жыцьця ў сусьветных маштабах. Мы жывем у страшныя часы, калі не Сьвятло змагаецца з Цемраю, а Цемра з Сьвятлом, і, нажаль, пачынае "агартаць" яго. А калі цемра згушчаецца, паўстае небясьпека грому й маланак, а калі Сьвятло неналежна ўваходзіць у цемру, цемра можа перамагчы яго, і тады громы й маланкі будуць не асьвяжаючыя, а зьнішчальныя. Многа цяпер пішацца на гэтую тэму ды парознаму, дай Божа, как Сьвятло перамагло.

Прашу прыняць мае найлепшыя пажаданьні й шчырыя прывітаньні.

З любоўю ў Хрысьце,

† Архіепіскап Васілій

## № 10
## Ліст архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) да ераманаха Язэпа Гэрмановіча

Бруклін, ВЯЛІКДЗЕНЬ, 1965.

УСЕЧЭСНЫ Й ДАРАГІ о. ІЕРАМАНАХ[41]!
ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Сардэчна вітаю Вас, Дастойнага Ўладыку Часлава й усіх Айцоў Вашых зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам над Сьвятамі —

Уваскрасеньнем Хрыстовым, Вялікаднем нашым слаўным прывітаньнем:

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Няхай Нябеснае Сьвятло Уваскрасеньня Хрыстовага зьзяе й у Вашых сэрцах, цешыць, радуе Вас, душы й сэрцы Вашыя падымае да Неба, да Прастолу Усявышняга, Сонца Праўды, Дабра, Радасьці, Шчасьця й Спасеньня!

Няхай Бог і Спас наш, Ісус Хрыстос зьявіцца й Вам пасьля Свайго Уваскрасеньня, і Вас зь любоўю прывітае: РАДУЙЦЕСЯ!

Вельмі дзякую Вам за Ваш мілы ліст. Мне наадварот, вельмі падабаецца, калі Вы проста зьвяртаецеся да мяне, бо я чалавек ня формылітары, а духа. О, як бы скора мы маглі бы служыць разам, калі-б гэта ад нас залежала! Бо людзі духа не глядзяць на розьніцы, а на галоўнае, а галоўнае было, ёсьць і навекі будзе толькі адно: Любоў Божая! Тая Любоў, якая з найбольшых ворагаў можа зрабіць прыяцеляў, стацца збаўленым фундамантам Царства Божага на зямлі! Здаецца так проста, як і Бог пры ўсёй Сваёй нявычэрпнасьці — просты! Аднак, нажаль, людзям гэтае — просты — не падабаецца. Чаму? Толькі таму, што надта "крывыя" яны!

Вельмі падабаецца мне, калі Вы ў адказ на мае жалі ў сэнсе духоўнага посьпеху кажаце, што нам нечага бракуе, што мы мусім шукаць новых спосабаў. З аднаго боку гэта праўда. Я часта чую такія заўвагі:

---

[41] **Язэп Гэрмановіч** (1890—1978), рыма-каталіцкі рэлігійны дзеяч, пісьменьнік. У 1924 г. далучыўся да беларускага манастыра айцоў-марыянаў у Друі. Акрамя царкоўнага служэньня займаўся выкладчыцкай працай і выхаваньнем моладзі. Друкаваўся ў выданьнях "Хрысьціянская Думка" й "Крыніца" пад псэўданімам Вінцук Адважны. У 1932—1936, 1939—1948 гг. працаваў у каталіцкай місіі ў Харбіне. У 1948 г. арыштаваны й асуджаны на 25 гадоў зьняволеньня. Вызвалены ў 1955 г., пасьля чаго пераехаў у Польшчу, а потым ў Італію й Вялікабрытанію. Жыў у Беларускім рэлігійна-культурным цэнтры (*Marian House*) у Лёндане. Ад 1964 г. быў рэдактарам часопісу "Божым Шляхам". Аўтар кнігі ўспамінаў "Кітай — Сібір — Масква".

цяпер ня тыя часы, чалавецтва пайшло далёка наперад, іначай думае, “мадэрна” жыве й працуе, таму неабходна прыстасоўвацца да яго, знаходзіць новыя шляхі для здабыцьця душаў.

З аднаго боку, гэта праўда. Толькі праўда палавічная, або поўправўда, а калі мы пойдзем так далей, то скажам: зусім няпраўда! Дзеля чаго людзі цяпер мала разумеюць нас? Толькі таму, што сьвет стаўся іншым, зьмяніўся? А што ёсьць аснова сьвету? Тэхніка, ракеты, тэлевізія, аўты, дамы, грошы? Але, скажаце й Вы: усё гэта толькі мякіна! Асноваю сьвету быў, ёсьць і навек будзе толькі Бог! А ці Ён зьмяніўся? Так, скажаце Вы: не зьмяніўся! Але й Сам Хрыстос, як кажаце Вы, гаварыў прыповесьцямі, каб людзі Яго разумелі. Вось так і мы павінны шукаць гэтых прыповесьцяў. Добра, але з другога боку мы бачым у Хрыста й нешта іншае: як востра Ён граміў фарысеяў і кніжнікаў! А цяпер, нажаль, усюды гэтых фарысеяў і кніжнікаў поўна. Ці мы тут маем насьледаваць Хрыста, ці не?

Гэта раз, а два: прычыну неразуменьня мяне з боку нашае інтэлігенцыі я бачу яшчэ ў нечым іншым. Гэта нашая векавая бяда. Калі я чытаю ўкраінскія царкоўныя часапісы, то я там бачу артыкулы прафэсароў, дактароў, інжынераў, пісьменьнікаў, многа вершаў паэтаў. А ў нас? Чаму няма? Толькі таму, што ўкраінская царква змагла выхаваць сваю царкоўную інтэлігенцыю, а ў нас ня было ані Праваслаўнае, ані Каталіцкае Царквы, якія бы змаглі гэтае зрабіць, таму нашая інтэлігенцыя духоўна — дзіч, на якую амаль немагчыма прышчапіць добрародную галінку. Дам Вам такія прыклады: ужо многа ўкраінскіх епіскапаў пісалі мне: вашыя артыкулы ў “Голасе Царквы” пракрасныя, з радасьцю прачыталі іх, жадаем далейшых посьпехаў, а наш інтэлігент навет неахвотна купляе яго. Часам да мяне ў Сабор на Службы Божыя заходзяць украінскія сьвяшчэньнікі, якія пры цалаваньні Крыжа кажуць мне: *“Уладыка, вашая пропаведзь сяньня была цудоўная!”* А нашыя інтэлігенты: *“Уладыка, задоўга гаворыце!”* А гавару я прыблізна 10—15 мінут! Ужо пару разоў сталася ў мяне такая рэч: калі я бываю ў Кліўлендзе, там заўсёды саслужыць мне найменш два ўкраінскія сьвяшчэньнікі. І вось пасьля на абедзе яны кажуць мне: *“Уладыка, ці не маглі бы даць нам копіі вашае цудоўнае пропаведзі?”* І ўжо пару разоў я ім даваў. А Вы думаеце, што хоць адзін наш інтэлігент зьвярнуўся да мяне з такою просьбаю? Не, ён навет наагул хіба й ня слухаў, або адным вухам слухаў, а другім выпускаў.

Вось тут галоўная цяжкасьць: няма ў нас царкоўных людзей. Многія нашыя інтэлігенты ня ведаюць навет малітвы Ойча Наш! Факт! Што-ж тут ім памогуць прыповесьці? І тут галоўная прычына, чаму я стараюся падыходзіць да іх шляхам РОЗУМУ. Няма іншага выхаду. Я добра разумею, што СЭРЦА ў духоўным жыцьці вялікая рэч, і тут я яго стараюся таксама выкарыстоўваць, але гэта хутчэй датычыць звычайных сялян,

бо ў інтэлігенцыі нашай сэрца грубае, аброслае мохам, і дастацца да яго амаль немагчыма, хіба хутчэй пра розум. Ясна, я ня супраць таго, каб знаходзіць новыя спосабы, але асабліва ў Амэрыцы гэта надта цяжка. Чаму? Нядаўна адна 12—13-гадовая дзяўчына ў маёй суботняй Школе ў часе навукі Рэлігіі кажа мне: *"Уладыка, вы кажаце, што нас стварыў Бог, а вось настаўнік у нашай школе, гайскул, казаў, што мы ад малпы!!"* Казаў так? Напэўна казаў! Бо-ж, як ведаеце, малітвы забароненыя тут у школах, а настаўнікі ў большыні бязбожнікі!

Так, дарагі Ойча, дай Божа, каб мы хутчэй здабылі вольную Беларусь, дзе хіба зможам выхаваць запраўдную, бо веруючую інтэлігенцыю, якая будзе нас УСЯК разумець і вялікія рэчы тварыць. А цяпер тымчасам робім і будзем рабіць усё, што можам, как нашая інтэлігенцыя хоць часам заходзіла ў Царкву, не зьдзічала поўнасьцю ў гэтым "мадэрным" сьвеце, які выкідае Хрыста і ўцякае ад Яго. Ясна, ня выкіне, і не ўцячэ, і ў аўта не пасадзіць! Магчыма хутка прыйдзе час, калі яна ў гэтым пераканаецца, балюча пераканаецца! І тут я ўсьцяж стараюся перасьцярагчы яе ў гэтым, каб пасьля на мяне не наракала.

Вы маеце праўду, калі кажаце: у ворагаў трэба шукаць ці паказваць лепшае, каб адрозьніць грэх ад чалавека. Але, Бог ня любіць грэху, але грэшнікаў любіць. Гэта, так сказаць, догмат. Толькі... вось гэтае слова: у ворагаў Божых? НІЧОГА! Бо-ж: Безь Мяне вы нічога ДОБРАГА ня зробіце! Вось жа, Ойча, ці гэты "мадэрнізм" паможа нам? І гэты мадэрнізм я бачу ў той пастанове Ватыканскага Сабору[42] і на Канфэрэнцыі на Родосе! І я бяру гэты "мадэрнізм" не дзеля такого, каб кагось "ушчыкнуць", тым болей сьв. Каталіцкую Царкву. Не, я першы цешыўся-б, калі-б наступіла аб'яднаньне перадусім Праваслаўнае й Каталіцкае Царквы, цешыўся-б нязвычайна, бо гэта справа Божая. Але, калі я бачу ў гэтым руху "мадэрнізм", то я ўжо хварэю душою. Чаму? Таму, што шляхам "мадэрнізму" ніякае аб'яднаньне ня будзе асягнутае. Яно можа наступіць толькі адным адзіным шляхам: змаганьнем з усякім "мадэрнізмам", цяплаватаю вадзічкаю, толькі шляхам усё ачышчаюшчага ВАГНЮ Божага, Навукі Хрыстовае, а Яна ясна кажа нам: з ворагамі Божымі трэба, неабходна на кожным кроку змагацца, бо-ж: Я ня маю нічога супольнага зь ім — айцом ілжы, ды: Адыйдзі ад Мяне шатане! Цяжкая справа? Зусім ня цяжкая, калі толькі мы напоўнімся вагнём Божым, сілаю Духа Яго, тады як дым зьнікнуць усякія "мадэрністы", бо зьнікне айцец іхны — шатан! Але што зрабіць, людзі любяць ісьці "лягчэйшым" шляхам: жыцьцё цяпер іншае, трэба прыймаць яго пад увагу, прыстасоўвацца, махляваць, хітраваць... але — лягчэй!

---

[42] **Другі Ватыканскі сабор** (1962—1965) — XXI Усяленскі сабор рыма-каталіцкай царквы, які санкцыянаваў праграму ўсебаковага абнаўленьня царкоўнага жыцьця за выключэньнем дагматычнай сфэры.

Чакаю на Вашую крытыку гэтага майго “дагматызму” і буду рад ня раз яшчэ пагаварыць з Вамі на гэтыя жыцьцёвыя тэмы.

Яшчэ раз шчыра вітаю Вас усіх і жадаю ў супакоі, здароўі й радасьці спаткаць і правясьці Сьветлае Хрыстовае Ўваскрэсьне.

Багаславенства Ўваскросшага Госпада Бога нашага Ісуса Хрыста няхай будзе з усімі Вамі.

З малітвамі й любоўю ў Хрысьце Ісусе,

Ваш

† Архіепіскап Васілій

## *Эпісталярыі*

***Вацлаў Пануцэвіч***

# ЛІСТЫ ДА ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

*У папярэднім выпуску "Запісаў БІНіМ" былі выдрукаваныя лісты Вацлава Пануцэвіча — гісторыка. Тут жа публікуюцца ягоныя лісты да Вінцэнта Жук-Грышкевіча з архіву апошняга, дзе аўтар паўстае актыўным грамадзкім дзеячам эміграцыі, з сваім уласным бачаньнем і незалежнай ні ад каго апініяй, якіх бы аўтарытэтаў яна ні кранала. Зь лістоў паўстаюць няведамыя, не агучаныя раней дэталі як грамадзкага, гэтак і царкоўнага жыцьця эміграцыі, часам сур'ёзныя, а калі-некалі бы з правінцыйнага вадэвілю; погляды аўтара на падзеі Другой сусьветнай вайны, як у агульным маштабе, гэтак і ў прыватных сытуацыях, як з да сёньня загадкавай сьмерцю кс. Гадлеўскага.*

Вельмі Паважаны Спадар Жук-Грышкевіч[1],

Дзякую за запросіны да сябе. Нажаль, ніяк нельга выкарыстаць, бо я маю толькі 3 дні сьвяточныя, а прасторы такія вялікія, што ня справішся. Магчыма, вы ня так зьвязаны з працай, дык просім на Коляды адведаць нас. Будзем вельмі рады Вас зы Спадарыняй гасьціць у сябе. Запазнаецеся з Чыкаго ды будзе аб чым гутарыць.

Што да Вашых поглядаў на царкоўныя справы, то зь імі нельга пагадзіцца. Падобныя лісты я атрымоўваю з розных старон. У мяне паўстала ўражаньне, што людзі не разумеюць мяне. Яны думаюць: на якое ліха ён хапіўся за рэлігійныя справы, калі адлогам ляжаць іншыя, важнейшыя. У гэтым духу пішаце й Вы. Вось-жа прыходзіцца даць некаторыя выясьненьні. Духоўнікі ў нас сякія-такія ёсьць, але толк зь іх пакуль-што невялікі. На іх здаць царкоўную справу ніяк ня можна. Не пра дэвоцыю й дагматыку ідзе, але пра стварэньне нашай нацыянальнай царквы з душы й цела. Гісторыя нашых дзён дабітна нас вучыць, што царкоўныя дзялянкі нельга пакідаць самапас ды здацца на духоўнікаў і царкоўнікаў. Ня буду гаварыць пра яп[іскапа]. Панцялеймана[2], які пры немцах прымушваўся тварыць аўтакефалію ды здолеў адстаяць маскоўшчыну, але пра нашых сучасных духоўнікаў. Возьмем, да прыкладу, яп[іскапа] Васіля[3], які меў ратаваць аўтакефалію.

---

[1] Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў: Library and Archives Canada. R4894—75—4-E. Vol. 3. F. 38.

[2] Маецца на ўвазе мітрапаліт Панцеляймон (Ражноўскі).

[3] Маецца на ўвазе архіяпіскап Васіль (Тамашчык).

Што вышла? Вышла поўная кампрамітацыя. Ня толькі не стварылі выгляду аўтакефаліі (я не гавару пра "томасы" ці нешта падобнае, яны нам не канечны), але не змаглі прапагандова ўтрымаць гонару. Васіль, налажыўшы рызы, стаўся тыповым папом зь цёмнага Палесься, папаў у нэрвовы перапалох, мабыць, калі ён адступіць ад маскоўшчыны, ад грэкаў, дык станецца "ерэтыкам". Дык пабег у прымакі да адступніка і неважнай славы яп[іскапа] украінскага Багдана[4] ды стаўся ягоным "халопам". Лапіцкі[5] мае лепшы "фэйс"[6], бо ён адразу падаўся да грэкаў, а наш задаволіўся "грэцкім" украінцам. Нават зарэгістравалі сваю царкву як "украінскую", дзе Васіль толькі заступнік Багдана. А пыл пускаюць, што маецца аўтакефалья. Гэта нацыянальны праступак, якога нельга скрыць, бо чужынцы апублікавалі кніжку "Праваслаўныя цэрквы ў Зл[учаных] Шт[атах] і Канадзе", дзе вось раскрылі Васіля. 10 год прайшло, а Васіль нічога не зрабіў аб беларусізацыі царквы. Чаму? Бо здаліся на гэтага нібы бел[арускага] інтэлігента-патрыёту, бо не далі яму моцнага заплечча, а кінулі на ласку лёсу ды розных прымітываў. Мала таго, што Васіль "халоп" Багдана і яму падобных, але ён улез у нерад ні ў зад, ні ў перад, як кажа пагаворка. Цяпер яму няма выхаду, дык ён мусіць гразнуць у бесканечным балоце. Калі выясьнілася сёе-тое з гэтага балота, мы ўзьнялі трывогу пра ратаваньне становішча некаторай беларусізацыяй. У "Б"[7] пачалі пісаць зразу асьцярожныя артыкулы, потым мацнейшыя аб беларусізацыі БАПЦ, ставячы на першы пачатак наш Крыж. Што вышла? Васіль замест падтрымаць гэтую справу, стаў грудзьдзю за маскоўшчыну. Кліўленд рэвалюцыйным спосабам зламаў супраціў ды зьняў маскоўскі крыж з сваёй царквы. Хто зьняў? Вось сьвецкія патрыёты. Крыж наш стаіць у Кліўляндзе, стаіць ён і ў нас у Чыкага, але Васіль ня думае ўводзіць яго ў сваёй царкве, бо Багдан, ягоны "бос", сказаў, што не. Ідзе далейшы сабатаж беларусізацыі ды падбухторваньні простага нясьведамага народу якраз Васілём. Мы маем мноства арыгінальных і капіяваных лістоў яп[іскапа] Васіля, якія, калі-б іх апублікаваць, то бесканечны сорам за такога беларускага япіскапа. Нядаўна


Вацлаў Пануцэвіч

---

[4] Магчыма, маецца на ўвазе **Багдан** (укр. сьвецк. *Теодор Шпилька*, 1892—1965), япіскап Канстантынопальскай праваслаўнай царквы, прадстаяцель Украінскай праваслаўнай царквы ў Амэрыцы (1937—1965).

[5] Маецца на ўвазе а. Мікалай Лапіцкі.

[6] ***Face*** (анг.) — твар.

[7] Відаць, маецца на ўвазе газэта "Беларус".

Кліўляндцам прышлося рэвалюцыйным спосабам зламаць ягоную кампрамітуючую шыльду на царкве, міма напамінаньняў і перасьцярогаў. А Вы кажаце, пакіньце царкоўную справу духоўнікам! Выглядае, што Вы не арыентуецеся ў гэтых справах. Як-жа можна пакінуць ім, калі яны прадаўжальнікі кацапшчыны й духовай няволі народу.

Думаеце, што з каталіцкімі сьвятарамі справа лепшая? Можа, ня маем, на наша шчасьце, такога тупалоб'я, як у праваслаўных. Але ім таксама нельга спакойна даручаць нашай нацыянальна-царкоўнай справы. Возьмем ад галавы. Сп. Пр[эзыдэнт] Абрамчык летам мне казаў, што ў Лёндане ў капліцы яп[іскапа] Сіповіча аж кішыць ад маскоўскіх крыжоў, а калі а. Маскалік[8] выступіў супраць маскоўшчыны, атрымаў дысцыплінарку! У а. Гарошкі ці мала кацапаўшчыны ў "Божым Шл[яхам]", аб якой ён не падазрае і якую ён ненавідзіць! Айцец Чарняўскі і Татарыновіч свайго роду арыгіналы. Нашыя Тарасэвічы[9] таксама патрабуюць моцнай кантролі і рады. Дык як бачыце, ніяк нельга супачыць на царкоўным фроньце. Нашым заданьнем ёсьць поўная беларусізацыя царкоўнага жыцьця пры поўнай ачысцы чужацкіх элемэнтаў. Пачалі мы акцыю ад Крыжа, далей пойдзе справа сьвятых (ужо ў найбліжэйшым нумары адхіленыя Віленскія мучаньнікі), абрадавых звычаяў, літургічнай мовы і г. д. Хто адважыўся-б павясьці такі наступ, калі-б ня мы, сьвецкія?

Самі бачыце, што "Сяўбіт"[10] і "Зьніч" не належнай вышыні. Але мала крытыкаваць, трэба пісаць пазытыўныя й вартасныя рэчы ў гэтыя часапісы, каб іх паставіць, як трэба. А[йцец] Чарняўскі ахвярны чалавек, бо сваім коштам выдае часапіс, але ён абмежаваны, каб выдаваць часапіс. На кім ляжыць нацыянальны абавязак помачы, як ня тых лічаных адзінках, якія ацалелі? Дык трэба прыступаць да дзела.

---

[8] Магчыма, маецца на ўвазе **Міхась Маскалік** (1903—1965), каталіцкі сьвятар усходняга абраду, доктар філялёгіі, культурна-грамадзкі дзеяч. Пасьвячоны ў сьвятары ў ліпені 1938 г. У гады вайны выконваў сьвятарскія абавязкі сярод ваеннапалонных, у 1943 г. быў арыштаваны, некалькі месяцаў правёў у канцлягеры Заксэнгаўзэн. Вызвалены дзякуючы намаганьням Папскай місіі ў Нямеччыне. Пасьля вайны жыў у Заходняй Нямеччыне. Быў ініцыятарам і кіраўніком Беларускай харытатыўнай службы. Праводзіў душпастырскую дзейнасьць у парафіях Радэборн, Оснабрук і Гільдэсгайм. У 1959 г. у Мюнхенскім унівэрсытэце абараніў доктарскую дысэртацыю па беларускай літаратуры "Янка Купала — пясьняр беларускага народу" (*Janka Kupala. Der Saenger des weissruthenischen Volkstum*), якая ў 1961 г. выйшла ў Мюнхене на нямецкай мове.

[9] Маюцца на ўвазе айцы Ян Хрызастом і Ўладзімер Тарасэвічы.

[10] "**Siaubit = The Sower**" — "каталіцка-грамадзкі" часопіс, які запачаткаваў у 1958 г. а. Францішак Чарняўскі. Выходзіў да кастрычніка 1973 г.

Кажаце, няма бібліятэкі! Яе нідзе няма. Трэба самому тварыць. Зьбіраць адусюль кніжкі, фотакопіі, фільмы. Інакш ніхто за нас не паклапоціцца.

А кніжка пра гісторыю Беларусі так нагла патрэбная. Як-жа яе можам напісаць, калі не распрацуем самых ключавых пунктаў у сваім духу. Пісаць так, як піша Янка Станкевіч, шкада паперы. І вось абавязак нашых гісторыкаў уключыцца зараз-жа ў гэтую справу. Няважна, як і дзе іх працы будуць публікавацца. Нам патрэбны перш за ўсё чарнавік.

Б[еларуская] Ц[арква] задумана як часапіс, які мае быць падручным матарыялам для беларускага інталігента, ягоным "вадэмэкум" (праз гэта мае з часам стацца і правадніком зьяднаньня). Бо калі выхаваем інталігенцыю, зможам выхаваць і народ. Бачыце, заданьне вялікае, і яго трэба праводзіць нам, сьвецкім. Трэба ўнікнуць у глыбіню нашай мэты, каб зразумець спосабы, якімі мы хочам дзеіць. Вось чаму я зьвяртаўся й зьвяртаюся да некаторых нашых спадароў, каб падтрымалі задуманую акцыю. Гэта не работа тыпу "рыцэжа непакалянай"[11], але паглыблена нацыянальная адраджэнская. Мала цяпер такіх, якія здольныя яе зразумець. Таму я ўсьцяж веру, што й Вы зразумееце сэнс нашай працы ды таксама ўключыцеся.

Найлепшыя пажаданьні з нагоды Калядаў і Новага Году Вам і Вашай Паважанай Спадарыні.

Чакаем на Коляды.

Ваш Вацлаў [Пануцэвіч]

Вельмі Паважаны Спадару Др. Вінцуку Грышкевічу,

Барры, Канада.

Сьветлай памяці кс. Вінцэсь Гадлеўскі, вялікі патрыёт і змагар за незалежнасьць Беларусі, поўнасьцю заслугоўвае, каб Яго жыцьцё шырэй адзначыць, зыбраўшы ўсе магчымыя матарыялы і ўспаміны аб Ім. На жаль, у маім распараджэньні маюцца шмат некамплетныя матарыялы, каб гэту справу вырашыць. Таму зьвяртаюся з гарачым заклікам да ўсіх, хто ведаў гэтага чалавека, сутыкаўся зь ім, мае матарыялы аб ім, фатаграфіі, лісты, зацемкі ці можа аб ім напісаць хоць некалькі слоў, каб быў ласкавы як найхутчэй прыслаць на мой адрыс. Усе матарыялы будуць зьвернены, а асобы, прыслаўшы іх, адзначаны ў публікацыі. У асаблівасьці ў мяне не стае дадзеных да наступных пэрыядаў жыцьця кс. Гадлеўскага:

1. Дакладнай даты і месца нараджэньня. Імёны бацькоў і родных. Занятак іх. Школьныя гады Вінцуся.

2. Час уступленьня ў Віленскую Духоўную Сэмінарыю. Жыцьцё ў гэтай Сэмінарыі сярод іншых беларускіх клерыкаў. Час пасьвячэньня на сьвятара. Ягоная навука і час яе ў Пецярбургу. Удзел яго ў тамтэйшых беларускіх арганізацыях. На якую тэму ён пісаў магістэрскую працу.

---

[11] ***Rycerz niepakalany*** (пол.) — бездакорны (беззаганны) рыцар.

3. Дзейнасьць пасьля сканчэньня навукаў у Пецярбургу як сьвятара і як беларускага дзеяча. Калі ён быў у Нясьвіжы гімназіяльным прафэктам? Дзейнасьць у Жодзішках?

4. Дзейнасьць у Вільні пасьля звароту зь вязьніцы да 1932 году.

5. Дзейнасьць у Варшаве, Польшчы і Бэрліне ў гадох 1939—1942.

6. Дзейнасьць у Менску 1941—[19]42.

7. Партыя, твораная ім, "Беларускі Нацыянальны Фронт" ў Вільні, Польшчы, Ягонае дачыненьне да "Беларускай Незалежнай Партыі"[12] ў часе нямецкай акупацыі Беларусі.

8. Усякія асабістыя заўвагі аб ягоным характары, поглядах, адношаньні да іншых, аб ягоных плянах, аб ягоных прыяцелях і праціўніках. Яго адношаньне да палякаў, расейцаў, гітлераўцаў.

9. Ягоныя працы друкаваныя.

10. Прычыны арышту й сьмерці.

11. Ягонае значэньне й роля ў беларускім вызвольным руху.

Ведама, на ўсе гэтыя пытаньні цяжка адказаць, але будзе вялікім укладам кожнага, хто хоць дакіне маленькую цаглінку дзеля праўдзівага прадстаўленьня гэтага вялікага нашага дзеяча. Усякія зацемкі прашу прыслаць да 15 сакавіка гэтага году.

Дзякуючы за ўсё, Ваш В[ацлаў] Пануцэвіч.

Чыкаго, 10 лютага 1965 г.

Дарагі Спадар,

Перш за ўсё шчыра дзякую за Ваш водгук на мой абежнік у справе кс. Гадлеўскага. Вашыя заўвагі маюць таксама добры дадатак да характарыстыкі гэтага дзеяча. Я ўжо скончыў нарыс аб Гадлеўскім. Ён зойме больш 100 бачынаў. Нажаль, ня ўсе пытаньні ўдалося вырашыць ці належна асьветліць, а то часткова таму, што на маю анкету адгукнуліся толькі лічаныя асобы, а маўчаць многія, хто больш што мог дакінуць. Паводля маіх пераконаньняў, утвораных на аснове студыяў ягонай дзейнасьці, выказваньняў, захоўваньня й сьледзтваў нямецкіх уладаў, выходзіць, што Гадлеўскі адыграў у часе ІІ вайны самую галоўную ролю ў мантаваньні беларускага нацыянальнага супраціву немцам, што прымусіла гітлераўцаў — насуперак іх ганебным плянам — даваць некаторыя канцэсіі беларусам уключна з БЦР і ІІ Кангрэсам, што спрычынілася да беларускага рэнесансу. Гадлеўскі, будучы яшчэ ў Польшчы і Нямеччыне ў гг. 1939—1942, стварыў пачаткі т. зв. *"беларускага незалежніцкага фронту"* (што пазьней праявіўся ў БНП) ды шукаў кантактаў з выведам ангельскім, французкім і амэрыканскім

[12] **Беларуская незалежніцкая партыя** — вайскова-палітычная арганізацыя, створаная ў часе Другой сусветнай вайны з ініцыятывы Вінцэнта Гадлеўскага. У паваенны час дзейнічала ў эміграцыі.

цераз нашых некаторых людзей, а такжа цераз польскае падпольле. Яго вонкавая пранямецкая дзейнасьць была толькі тактычным прыкрыцьцём. Будучы школьным інспэктарам Беларусі, ён выкарыстоўваў разьезды дзеля мантажу арганізацыі апору. На пачатку другой паловы 1942 г. (у ліпені) немцы лучылі на сьляды існаваньня змовы на Беларусі праўдападобна празь дзьве крыніцы: 1. з інструкцыяў польскага падпольля аб супрацоўніцтве зь беларусамі з антынямецкай групы і 2. з рапартоў Ф[абіяна] Акінчыца[13] ням[ецкаму] СД у Бэрліне й Менску. Акінчыц, як мне асабіста ведама, у гэтым часе лётаў, як сокал, па Беларусі ды вынюхваў змову. Я зь ім спатыкаўся ў Менску, дзе меў асабістую гутарку з Казлоўшчыкам[14], які падазраваў мяне, што належу да "дэмакратычнай" групы, называў мяне й групу Гадлеўскага *"гнілымі дэмакратамі"*, што хочуць паразы Нямеччыны ды нюхаюцца з ангельскім лягерам. Я тады нічога ня ведаў аб акцыі Гадлеўскага ў шырэйшым маштабе, дык думаючы, што ён нада мной насьміхаецца зь Віленскіх часоў, проста стаў сьмяяцца з Казл[оўшчыка], што ён марна запрадаўся немцам ды піша небыліцы ў "Менскай газэце". Пытаўся, ці ён верыць у тое, што піша. Ён адказаў, што спачатку ня верыў, а цяпер ужо верыць. На другі дзень я зайшоў зрана да Казл[оўшчыка] на кватэру, каб дастаць газэты ды ўзяць з сабой у Баранавічы і ў яго памешканьні сустрэўся з Акінчыцам, які, аказваецца, ведаў ужо мае гутаркі з К[азлоўшчыкам]. Казл[оўшчык] мяне прадставіў Ак[інчыцу], а той зь месца самымі непрызваітымі й вульгарнымі славамі пачаў мяне лаяць на чым сьвет стаіць, грозачы пабоямі etc за тое, што падсьмяяў яго ў гутарцы з К[азлоўшчыкам], як нямецкага выжла. Я Акін[чыцу] нічога не сказаў ў сэньсе палітычным, а толькі выказаў зьдзіўленьне, што ён з замашкамі на бел[арускага] *"fuerera"* так брудна лаецца, што не прызваіта яго бачыць. Я так і пайшоў. Крыху пазьней немцы далікатна праводзілі допыты ў мяне аб маёй беларускай дзейнасьці ў мінулым, цяпер, прыналежнасьці да бел[арускіх] групаў і што я думаю аб вайне й будучыні Беларусі. Я зразумеў, што ідзе нейкае расьсьледаваньне шырэйшай акцыі, у якой падазраецца мой удзел. Я сказаў на допытах, што ня гледзячы, як іншыя беларусы думаюць і дзе належаць, я стаю за супрацоўніцтва зь немцамі, бо ўважаю, што для Беларусі няма іншага выхаду, паколькі палякі й маскалі на працягу гісторыі даліся нам у знакі. Імя Гадлеўскага ў гэтых допытах ня было названае ані

[13] **Фабіян Акінчыц** (1886—1943), грамадзкі дзеяч, юрыст, журналіст. У 1933 г. заснаваў БНСП, разам з Уладыславам Казлоўскім выдаваў часопіс "Новы Шлях". У 1939 г. выехаў у Бэрлін. У 1940 г. узначаліў беларускае бюро пры Міністэрстве прапаганды, кіраваў школай беларускіх прапагандыстаў у Вустраве пад Бэрлінам. Застрэлены ў Менску.

[14] Маецца на ўвазе Ўладыслаў Казлоўскі.

іншых беларусаў. Пазьней крыху мне далі заданьне схарактыразаваць Ф[абіяна] Акінчыца. Я прадставіў яго як прайдзісьвета й чалавека, якому немцы не павінны верыць. На пачатку 1943 г. Акінчыц быў забіты ў Менску. На вестку аб гэтым начальнік СД у Бар[анавічах] выклікаў мяне і сказаў падазроныя словы: *"Чулі Вы, Акінчыц забіты ў Менску. Цяпер хіба беларусы цешацца. Ідзіце й напішыце, што думаюць беларусы аб забойстве Акінчыца".* Я зразумеў, што нейкая правакацыя, мне здалося тады, што самі немцы зьліквідавалі Акінчыца як чалавека, што тварыў Бел[арускую] Нац[ыянал-]Сац[ыялістычную] Партыю, а немцы гэтага не жадалі. Я нідзе не хадзіў, нікога не пытаўся, сеў і напісаў адваротна да таго, што раней пісаў, што беларусы абураныя на новы акт бальшавіцкага тэрору ў адносінах да беларускіх дзеячоў. Цяпер мне ясна, што Акінчыц быў тым злым духам у акцыі расьсьледваньня змовы на Беларусі. Адной зь першых ахвяраў гэтай акцыі быў арышт і сьмерць а. Неманцэвіча[15]. Гадлеўскі быў пад зоркім наглядам, і ён аб гэтым ведаў. Арышт яго наступіў пад страхам Сталінградзкай паразы, што на тылах ням[ецкага] фронту пачнецца і беларуская дывэрсыя. Ён, відаць, нікога ня выдаў, і такім чынам абышлося бяз большых ахвяраў сярод бел[арускай] інтэлігенцыі. Вось чаму немцы прымушаны былі на даваньне беларусам канцэсіяў, чаго не рабілі для другіх народаў на ўсходзе. Канцэсіі нямецкія змушалі й Маскву на ўступкі, як увядз[еньне] БССР у UNO[16] і інш. Вы ў сьвятле сказанага пры нагодзе правядзіце гутаркі зь людзьмі, якія сутыкаліся з Гадл[еўскім], каб выявіць, наколькі мая тэорыя ёсьць праўдзівая ці не. Гэта вельмі важна, каб правільна знайсьці разьвязку так сьмерці Г[адлеўскага] і іншых, як і нямецкай

[15] **Антон Неманцэвіч** (1893—1943), каталіцкі сьвятар усходняга абраду, манах-езуіт. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1915 г. Душпастырскую дзейнасьць распачаў у Колпіне, недалёка ад Петраграду. Пасьля 1920 г. служыў вікарыем пры парафіі сьвятых Пятра й Паўла ў Маскве. Арыштаваны органамі савецкай бясьпекі ў траўні 1921 г. за "антысавецкую дзейнасьць", пасьля дэпартаваны ў Польшчу ў выніку абмену палітычнымі вязьнямі паміж польскім і савецкім урадамі. У 1925—1927 гг. вучыўся ў Папскім усходнім інстытуце ў Рыме. У канцы 1920-х гг. вярнуўся ў Польшчу. Выконваў сьвятарскія абавязкі ў Альбэртыне й пры ўніяцкай парафіі ў Сынковічах на Палесьсі. У 1932—1937 гг. рэдагаваў і выдаваў беларускі ўніяцкі часопіс "Да злучэньня". Ад 1934 г. прафэсар Папскай усходняй сэмінарыі ў г. Дубне (Заходняя Ўкраіна), дзе пэўны час займаў пасаду рэктара. У 1938 г. рэдагаваў часопіс *"Złučeńnie"*. У 1939 г. мітрапалітам Шаптыцкім узьведзены ў сан экзарха беларускай уніяцкай царквы. У гады Другой сусьветнай вайны разгарнуў шырокую дзейнасьць па арганізацыі адміністрацыйных структур настворанага Беларускага экзархату. У жніўні 1942 г. арыштаваны нямецкай тайнай паліцыяй, памёр у бэрлінскай турме.

[16] Маецца на ўвазе Арганізацыя Аб'яднаных Нацый (*United Nations Organisation*).

палітыкі на Беларусі ў часе вайны. Тое, што бальшавікі нядаўна пісалі ў повесьці “Дарогі скрыжаваліся ў Менску”[17], мае некаторыя рэальныя абаснаваньні.

А цяпер іншая важная справа. Нядаўна з Монтрэалю адгукнуўся нейкі Антон Ромэр на Бел[арускую] Царкву ды прасіў выслаць яму кніжкі. Я яму выслаў некаторыя, тады ён прыслаў ліст (пісаны папольску), у якім перапрашае за польскую мову, бо беларускую хоць ведае, але літаратурна яшчэ ня можа адазвацца. Ён падае аб сабе, што ён зь беларускай Лівоніі (Латгаліі), яго маёнтак быў каля Рэжыцы. Скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт. Мае 76 гадоў і працуе ў бібліятэцы ў Мантрэалі ды на старасьць надзвычайна зацікавіўся, як называе, “роднай” беларушчынай. Просіць многа кніжок, як граматыкі, карту Беларусі, календары і іншыя публікацыі. Просіць запазнаць яго зь Беларусамі ў Мантрэалі ці ў Канадзе, запрашае пры нагодзе мяне да сябе й г. д. Я думаю, што, калі-б гэта было-б магчыма, каб Вы пад’ехалі да яго туды ды зацікавіліся гэтай асобай, можа прадстаўляе вартасьць для нашага руху. Я яму напісаў-бы аб гэткай магчымай сустрэчы. Яго адрыс: *Antoine C. de Romer, 3800 Route Reine Marie (Queen Mary Road), Montreal, 26, Que.*

Калі хто там ёсьць у Мантрэалі, які мог-бы зь ім спаткацца, дык павядомце яго, даючы яму ад сябе інструкцыі.

Дык чакаю Вашага водгуку.

Ваш Вацлаў.

6 кр[асавіка] 1965.

Чыкага, 16 сьн[ежня] [19]68

Вельмі Паважаны др. В[інцэнт] Жук-Грышкевіч.

За ліст і інфармацыі вельмі дзякую. Рэзалюцыя ОК. Думаю, што памесьціць Стась [Станкевіч], прынамсі Адамовіч, які быў тут, нічога ня чуў аб супраціве. Артыкул сп. Раісы[18] — гадка выкрапкаваны, гэта праўда. Робіцца ўражаньне, што газэту 80 працэнтаў запаўняе сам Стась на супалку з Запруднікам. Яго (Стася) літаратурныя артыкулы наагул неблагія, затое палітычныя — слабенькія. Гэтак сама слабыя Запруднікавы, асабліва бяз глузду “Жыхарства сьвету і амэрыканская сям’я”. Аб Баршчэўскім[19] — артыкул добры. Праўда, ён больш, як

[17] Маецца на ўвазе аповесьць Івана Новікава “Дарогі скрыжаваліся ў Мінску” (1964), якая ў 1965 г. была адзначаная Літаратурнай прэміяй імя Якуба Коласа.

[18] Маецца на ўвазе Раіса Жук-Грышкевіч.

[19] **Аляксандар Баршчэўскі** (псэўд. **Алесь Барскі**, нар. 1930), паэт, літаратуразнаўца, доктар філялягічных навук, жыве ў Варшаве.

пальцам, паказвае на гэтага патрыёта, але я, два разы прачытаўшы гэты артыкул, супакоіўся. Канцы-канцоў Баршчэўскі ў Польшчы, і там яму ня будуць рабіць сьвінстваў за беларускі патрыятызм, скіраваны супраць Масквы (прытым не названай па імені). Гэта, магчыма, патрэбна, каб падбадзёрыць патрыётаў у БССР дый і самога Баршчэўскага. Як быў у яго сп. Прускі[20] ў гэтым годзе і размаўляў зь ім (Баршчэўскім), ён пільна сочыць апінію эміграцыі аб дзейнасьці беларусаў у БССР і Польшчы ды хоча не адставаць у супраціве. Ён сам партыйнік ды не такі ўжо трусьлівы. Зрэштай, Масква ведае нарастаньне супраціву ўсіх народаў. На Беларусаў хай не спадзяецца ў падтрымцы яе няволі. Наагул з Стасям — ведамая бяда, ані яго выкінуць, ані талераваць. Але вострыя лісты трэба пісаць.

У нас 7 сьн[ежня] г[этага] г[оду] Запруднік чытаў у Лаёла Унів[эрсытэце][21] у рамах студыяў трох нацыяў (Лятувісы, Украінцы, Беларусы) аб самавызначэньні даклад на тэму “Шлях беларускі да свае нацыянальнасьці”. Публікі на цэлай канфэрэнцыі было ня многа. Я быў прысутны на Запруднікавым дакладзе. Ён мне не спадабаўся, і я рабіў грымасы зараз у прысутнасьці многіх беларусоў. Ужо сам назоў рэфэрату — бязглузды. Усе іншыя гаварылі аб сваёй дзяржаўнасьці, беларус заняўся пытаньнем фармаваньня нацыянальнай сьвядомасьці, сягаючы Каліноўскага. Паколькі гэтая “сьведамасьць” не паказана на справе, дык вышла, што Беларусы ледзь “выпаўзьлі” (словы Адамовіча ў добрым разуменьні). Далей Запруднік для неабазнанай публікі зь бел[арускім] пытаньнем увесь час вёў спрэчкі з Круталевічам[22] і іншымі саветчыкамі адносна ўтварэньня БССР, канстатуючы, што БНР было закругленьнем беларускага адраджэньня. Я назваў канфэрэнцыю “пачатковай школай”, што, ведама, дакладчыкам не спадабалася. 8 сьн[ежня] Адамовіч чытаў даклад на тэму купалаўскага верша “Перад будучыняй” для тут[эйшых] Беларусоў. Было на дакладзе 50 чалавек, і даклад наагул быў вельмі цікавы, хоць у многім дыскусыйны. Я напісаў вялізную спра-

---

[20] **Мікола Прускі** (1927—2014), грамадзкі дзеяч, выдавец, сын стрыечнай сястры Якуба Коласа. Пасьля Другой сусьветнай вайны прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Дэтройце. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Дэтройцкага аддзелу арганізацыі. Выдаў дзясяткі беларускіх кніг. Рэдактар і выдавец пэрыёдыкаў “Беларускі Сьвет” (1971—1989), “Беларускі Дайджэст” (ад 1993).

[21] **Унівэрсытэт Лаёлы ў Чыкага** (анг. *Loyola Universuty*) — прыватны езуіцкі ўнівэрсытэт у Чыкага, заснаваны ў 1870 г.

[22] **Вадзім Круталевіч** (1922—2006), юрыст, гісторык, сацыёляг, доктар юрыдычных навук. Ад 1954 г. працаваў у Інстытуце філязофіі й права АН БССР. У 1974 г. абараніў доктарскую дысэртацыю “Правал контррэвалюцыйных планаў стварэння беларускай буржуазнай дзяржавы і ўтварэння БССР (кастрычнік 1917 — люты 1919 гг.)”.

ваздачу на 8 бачын машынапісу аб гэтым дакладзе, пераказваючы па свойму ход думак аўтара і забіраючых голас. Ня ведаю, ці спадабаецца гэта Адамовічу, паколькі я некаторыя думкі дакладчыка дапоўніў ім непаданымі фактамі ды крыху скарыгаваў ягоную аргумантацыю з мэтаю наданьня ўсебаковасьці праблемы, маючы перад вачамі патрэбны прэсьціж дакладчыка. Было крыху дыскусій у нашай хаце, але кароткі час ды яўнае нехаценьне Адам[овіча] і Запр[удніка] уваходзіць у глыбейшую дыскусію, не прынясло нічога новага. Агульнае ўражаньне, у абодвых недастатковая начытанасьць, недахоп гістарычных падстаў ды "чолабіцьцё" ўсталеным поглядам.

Ваш Вацлаў [Пануцэвіч]

Чыкага, 3 ст[удзеня] 1969

Вельмі Паважаны Спадар В[інцэнт] Жук-Грышкевіч,

За ліст і брашуру Акулевіча[23] — дзякую. Поўнасьцю з Вамі пагаджаюся, што ўсё-ж-ткі на гэтую марноту трэба адказваць. А паколькі ён Вас зачапіў, прыходзіцца Вам. Я яе прачытаў і набраў агіды ад гэтага ці бясконца наіўнага ці подлага прадажніка. Ён гадчэйшы ад бэсэсэраўскіх апошніх выжлаў, аблезлых ад зьвягі ды маханьня хвастом. Ведама, бальшавіком выгадна мець такога дурня, які за капеечкі гатоў цалаваць маскалёў у самае нячыстае месца. Я хацеў-бы Вам падказаць балючыя месцы і Акулевіча, і бальшавіцкага ягонага заплечча, якія так і ў брашуры, як і падобных цяперашніх бальшавіцкіх агітках распаўсюджваюцца.

1. Галоўным конікам бальшавіцкай прапаганды ёсьць страшыла нямецкім гітлерызмам, нацызмам і рэваншызмам, з аднаго боку, а з другога, зводжаньне ўсяе эміграцыі да гітлероўскіх крымінальных злачынцаў. Трэба затакаваць гэтага паршывага коніка. Злодзей бэштае злодзея, бандыт ня любіць іншага бандыта. Першым сусьветным бандытам, праступнікам, найбольшым злачынцам была бальшавіцкая кліка Леніна, якая а) далася выкарыстаць кайзарскім немцам ды за іх грошы і пры іх дапамозе ачмуціла абманам цёмную Расею: работнікаў і сялянства, якія як людзі чэсныя паверылі прафэсыянальным бандытам ды самі ўлезьлі ў пастку нябывалага запалоненьня. Асабліва сяляне — бальшыня насельніцтва царскай імпэрыі — паверылі, што кліка Леніна дасьць ім зямлю. Кліка, умацаваўшы свае сілы, адказала дасюль няведамым у гісторыі паняволеньнем і тэрорам. Зьнішчыўшы інтэлігенцыю, якая разумела сэнс бальшавіцкай дыктатуры, кліка ўзялася за ліквідацыю сялянства, якое паверыла ў абманчывы кліч: зямля сялянам. Інтэлігенцыю замучылі ў турмах ці расстралялі падчас рэвалюцыі

[23] Маецца на ўвазе выданьне: Окулевич, Григорий. 50 лет Белорусской республики. Торонто: "Вестник", 1968.

або ў засьценках ГПУ, на спалоненьне мільёнаў сялянства спатрэбілася ня толькі Сыбір — царская зсылка й катарга, але мадэрныя спосабы — лягеры сьмерці на Салоўках, мільённыя магілы ў беламорскім канале, пры эксплятацыі тайгі і ў будаўніцтве зауральскай індустрыі. Гітлер прыйшоў да ўлады толькі ў 1933 годзе. У гэтым часе Савецкі Саюз прадстаўляў вялізарны могільнік каго? Работнікаў і такіх адурманеных, як Акулевіч, сялянаў. Гітлер вывучаў бальшавіцкую дыктатуру, рыхтуючыся да ўстанаўленьня свае дыктатуры. Гітлер быў вучням бальшавізму, як падавіць усякую апазыцыю ды накінуць свае мітычныя погляды. І калі Акулевіч разам з бальшавіцкай прапагандай пеніцца на гітляроўскія кацэты, а настаўніцкія, бальшавіцкія, то што? Адным голадам усьмерцілі на Украіне каля 5 мільёнаў насельніцтва, а колькі сотняў тысяч згноена бальшавіцкімі апрычнікамі беларускіх сялян у гадох 1927—1930? А колькі пазьней? Акулевіч можа махаць языком, як сабака хвастом, таму што ён апынуўся ў Канадзе. Інакш ня было-б ягонага потраху сёньня. Акулевіч нахальна б'е хвастом, ніводным словам не заікнуўшыся аб Сталінскім тэроры. То-ж нават Хрушчоў на XX зьезьдзе партыі ня мог іначай ратаваць правалу бальшавікоў за ўсе нечуваныя злачынствы над народам, як зваліць усю бяду на Сталіна. Гэта было магчыма, бо Сталіна ўжо ня было. Нябось, пры Сталіне Хрушчоў на ягоны загад скакаў гапака перад загранічнікамі. Хрушчоў зваліў усю бяду на Сталіна таму, бо ўвесь падняволены народ савецкай імпэрыі чакаў пераменаў. Акулевіч гэтага вялікага працэсу ня хоча чуць. Як тупалобы мужык дзеля прымітыўнай собскай спадзяванай узвышанасьці, ён махае вёсламі й на цяперашняй рачной гладзі бальшавіцкай рэчаіснасьці. Ён ня бачыць, ды ня здольны бачыць, што маладое беларускае пакаленьне ў БССР стаіць вышэй бальшавіцкага прымітывізму ды рухае спружыны гісторыі ў такт сэрца беларускага народу. Кожны разумны чытач бачыць цяпер, што Акулевіч і яго апякуны гэта зласьліўцы, якія жадаюць, каб мы былі вечнымі нявольнікамі, каб мы ня сталіся самастойным народам, каб мы не супрацьстаўляліся Маскве ў ейнай мэце быць валадаром усіх славянскіх народаў. Акулевіч вінаваціць нас разам з бальшавікамі, быццам беларуская інтэлігенцыя ў часе Другой сусьветнай вайны была гітлераўскім супрацоўнікам дзеля нейкіх крымінальных карысьцяў. Ці бальшавіцкія злачынцы ды іх ахвяры — Акулевічы — могуць зразумець адбыўшыяся падзеі? Вынікае, што яны заабмежаваныя, каб пасьля 20 год ад падзеяў яны змаглі выйсьці з трапятаньня на абмяжаваным стоішчы. Навука ведае, што прымітывы й калекі трапечуцца на адным месцы, ня здольныя ўзвысіцца. Таму няма патрэбы думаць, што прымітыў Акулевіч прадстаўляе нейкую вартасьць. Ён тыповая падсьцілка гною ў беларускую рэчаіснасьць, дарма, што ён рыпаецца папасьць у беларускія інтэлігенты. Каб так лёгка было папасьць у інтэлігенцыю, не патрэбныя былі-б мазольныя школы. Толькі самавукі й прымітывы думаюць, што маленькай арыентацыяй

яны выскачылі з прымітыўнага кошыка. Акулевіч можа іграць толькі на неасьвечанай старой эміграцыі, але і там знаходзяцца Гарбацэвічы[24].

2. Акулевіч і ягоныя пратэктары бальшавікі ахвотна паказваюць пальцам на нацысцкія пляны вынішчэньня й перасяленьня ў Сыбір славянскіх народаў ды яны ліюць кракадыліныя сьлёзы аб загубе 2 мільёнаў Беларусаў зь іх рукі. А ці маскоўскія камуна-нацысты гладзілі па галоўцы Беларусаў? Масква ўдасканаліла нацыскі плян зьнішчэньня ўсіх паняволеных народаў ды што найважнейшае: праводзіць у жыцьцё. Сыбір не нямецкая выдумка. Яшчэ пры цары быў месцам ссылак беларускай шляхты, рэвалюцыйнага сялянства й мяшчанства, непакорных вуніятаў. Бальшавікі зь першых гадоў свае ўлады з Сыбіру зрабілі аграмадны канцэнтрацыйны лягер ды што найменш 40 мільёнаў людзей замучылі ў жудасных умовах нявольніцкай працы пры будаўніцтве расейскай імпэрыі на гэтых землях. Больш 3 мільёнаў замучана там Беларусаў перад Другой вайной. Толькі некаторым удалося вырвацца з гэтага пекла. У часе Другой вайны партызаншчына ў Беларусі вытварылася штучна не з волі нашага народу. У глыб 1943 г. нідзе ня было партызанаў, ды беларусы ня думалі ўспамагаць сваіх крывавых ворагаў бальшавікоў. Бальшавіцкія заклікі не памагалі. Тады зь ініцыятывы Сталіна быў утвораны пры галоўнай кватэры бальшавікоў партызанскі галоўны штаб з Панамарэнкам[25] на чале. Штаб падбіраў беларусаў з арміі, з бежанцаў, з рабочых ды пераселеных, што былі на яго баку фронту, тварыў зь іх партызанскія групы, школіў ды маскоўскімі камуністамі як начальнікамі скідаў самалётамі паводля дэтальна выправанага пляну, бяручы пад увагу адміністрацыйны падзел Беларусі, лясныя масывы, камунікацыйныя шляхі і г. д. Такім чынам толькі ў 1943 г. скіненыя апэрацыйныя групы з дастаўкай зброі і амуніцыі пачалі арганізована дзейнічаць ды спрычыняць за фронтам падрыў немцам і жыхарству. Банды выклікалі нямецкую рэакцыю ў многіх напрамках. Сталі зьнішчаць вёскі ў раёнах дзейнасьці партызанаў, каб ня было апоры для іх, паколькі ня мелі рэзэрваў, каб паставіць ахоўныя гарнізоны. Гэта нагнала многіх людзей у банды. Далей вываз у Нямеччыну на работу, дзе Нямеччына востра патрабавала работнікаў, зьбіраньне даставак таксама вёў у банды тых, хто ўвайшоў у канфлікт

[24] Маецца на ўвазе **Дзяніс Гарбацэвіч** (псэўд. ***Минский Мужик***, 1895—1986), беларус-эмігрант з царскай Расеі, які ў 1935 г. наведаў СССР і напісаў кнігу *“Что я видел в советской России. Из моих личных наблюдений” (Чикаго, 1935)*, якая была перавыдадзеная ў 1937 г. у Нью-Ёрку. А ў 1967 г. пасьля новай паездкі ў СССР у Нью-Ёрку выйшла праца *“Два месяца в гостях у колхозников”*.

[25] **Панцеляймон Панамарэнка** (1902—1984), савецкі партыйны й дзяржаўны дзеяч, у 1938—1948 гг. першы сакратар ЦК КП(б)Б. У 1942—1944 гг. быў Першым начальнікам Цэнтральнага штабу партызанскага руху.

з акупацыйнымі ўладамі. Але самай галоўнай прычынай росту партызаншчыны быў сьвядомы крыміналізм маскоўскіх бальшавіцкіх нагоншчыкаў паводля наказу Сталіна: стварыць на Беларусі ўмовы такога тэрору, каб насельніцтва ня мела іншага выхаду, як апынуцца на бальшавіцкім баку. Так яно й сталася. Скінутыя банды мабілізавалі моладзь уводжаньнем яе пад прымусам у лес, рабавалі сялян, палілі дамы ўсіх апорных, расстрэльвалі ўсіх, хто шукаў самаабароны ці думаў у той ці іншы спосаб прысекчы бальшавіцкую нечысьць. Такім парадкам вытварылася такая сытуацыя: днём карныя аддзелы ў пошуках партызанаў распраўляліся з тымі, хто тым ці іншым змушаны быў ратавацца ад бальшавіцкіх бандаў ды ім не супраціўся, ня маючы надзеі на самаабарону, а ноччу налятаі савецкія бандыты ды ня менш крывава распраўляліся з тым-жа беларускім няшчасным насельніцтвам. Немцы не давяралі нікому, згодна з гітляроўскай установай, каб даць зброю й магчымасьці больш самастойнай арганізацыі самаабароны. На намаганьні беларускіх патрыётаў яны згаджаліся стварыць самаахову, потым БКА, але апечаныя на практыцы расейскіх процібальшавіцкіх злучэньняў (Камінскі[26], Уласаў, групы СС) так і не далі зброі нашым злучэньням. БКА ў часе мабілізацыі паказала волю нашага народу да самаабароны. За тыдзень часу ўжо ва ўмовах бальшавіцкай партызаншчыны стала на кліч БЦР больш 70000 мужчын, з чаго было ўтворана 70 батальёнаў БКА[27]. Тры месяцы гэтыя батальёны чакалі на зброю і ўмундараваньне, а калі ўсякія надзеі прапалі, пакіненыя сем'і былі падстаўленыя пад удары бальшавіцкіх бандаў ды патрабавалі гаспадарчай дапамогі, батальёны натуральным працэсам растала, прытым за разыход ніхто не пацярпеў, гэта значыць, што з боку беларускай і нямецкай управы не прымаліся меры пакараньня за адлучку. Прыблізна 10 тысяч жаўнераў аж да паўторнага нахлыну бальшавікоў летам 1944 мужна чакала на вырашэньне лёсу беларускага войска. Каля 5000 тысяч падалося на захад на эміграцыю. Гэта паказьнік на волю беларускага народу да свабоды. Акулевіч перадрукоўвае бальшавіцкія байкі аб партызаншчыне на Беларусі. Ягоныя гаспадары выдалі нават зборнікі "дакумантаў"[28] аб гэтай партызаншчыне. Хопіць толькі

[26] **Браніслаў Камінскі** (1899—1944), адзін з камандзіраў рускіх фармаваньняў у складзе войскаў СС, брыгадэнфюрэр СС і генэрал-маёр войскаў СС (1944). Расстраляны немцамі за марадзёрства.

[27] Паводле сучасных зьвестак, у БКА было мабілізавана каля 25 000 чалавек, зь якіх створаны 39 пяхотных і 6 сапёрна-будаўнічых батальёнаў (гл.: Літвін, Аляксей. Акупацыя Беларусі (1941—1944). Пытанні супраціву і калабарацыі. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. С. 187).

[28] Відаць, маецца на ўвазе выданьне: Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): документы и материалы: в 3 т. Минск, 1967—1982.

абазнанаму з падзеямі ў апошняй вайне сваім собскім дазнаньнем прагледзіць гэтыя “дакуманты”, каб пабачыць штучнае тварэньне міту на падабенства берасьцейскай крэпасьці. Нават перад адыходам нямецкіх войскаў зь Беларусі летам 1944 бальшавіцкая партызаншчына не прадстаўляла паважнейшай сілы, каб нанесьці паважнейшы ушчэрб нямецкай адыходзячай ваеннай машыне. Цыфры, даты, здарэньні бальшавіцкіх публікацыяў высcаныя з голага пальца: яны ўвялічаныя найменш на 1000 працэнтаў. Магчыма, гэта было згодна з дутасьцяй усіх савецкіх лікаў пры Сталіне (ды ў некаторай меры і цяпер). Калі падаецца Акулевічам і бальшавікамі выдуманы лік 400 тыс[ячаў] партызан на Беларусі пад канец нямецкай акупацыі — гэта фантазія. Паводля нямецкіх падлікаў у чэрвені 1944 г. (Галоўная ўправа СС пры Камісарыяце Беларусі), гэта ёсьць перад эвакуацыяй, налічвалася бальшавіцкіх бандаў менш больш у межах БССР — 365 з агульным лікам да 25000 партызанаў. Легенда пра савецкую партызаншчыну была створана ня толькі дзеля фантазіі камуністых. Бальшавіцкі нахлын летам 1944 <u>стварыў новую партызаншчыну</u>, якая ўтрымалася аж да 10 гадоў да 1955 г. Паводля рапартаў сюды прыехаўшых людзей з БССР выясьняецца, што бальшавіцкі нахлын пасьля адыходу немцаў выліўся ў жудаснай форме для нашага народу. Бальшавікі абвясьцілі мабілізацыю ўсіх мужчын да 65 год жыцьця ды сотні тысяч мужчын гналі бяз аружжа аж пад Бэрлін, садзячы ў прычэпах да танкаў ды пад кулямі НКВД загароды ды немцаў. Прыблізна адзін мільён дазнала гэтага жудасьця. Сотні тысячаў загінулі ў баях ці асталіся пакалечанымі. Сталінскі нахлын і тэрор адносна астаўшага насельніцтва, арышты і расстрэлы людзей, падазроных у ляяльных адносінах да нямецкае акупацыі ці нават зусім нэўтральных і нідзе не замешаных, вытварылі яшчэ большую партызаншчыну, як была бальшавіцкая, гэтым разам супраць чырвоных акупантаў Беларусі. Прыблізна аблічваюць з савецкіх крыніц, што ў часе найбольшага разгару супрацьбальшавіцкай партызанкі ў 1944—1948 гг. у межах Беларусі было каля паўмільёна партызанаў, якіх бальшавікі звалі “ляснымі бандытамі”. Бальшавікі, як раней немцы, кантралявалі раённыя і абласныя цэнтры ды галоўныя чыгункі, масты і шосы. Партызаны нападалі на валасныя ўправы, на бальшавіцкія заставы ў саўгозах і калгасах, у валасьцях і раёнах, зьнішчалі бальшавіцкіх паслугачоў, шпіёнаў і правакатараў. Найбольшае згушчэньне партызанскіх аддзелаў было зьеднанае групай “Чорнага ката”[29] (бальшавікі называлі “Чорная кошка”) у Белавежскай пушчы,

[29] **“Чорны Кот”** — антысавецкая партызанская арганізацыя, якая дзейнічала ад 1944—1945 гг. да пачатку 1950-х гг. пад кіраўніцтвам Міхася Вітушкі (гл.: Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944—1956. Менск: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999).

а аўгустоўскіх лясох, у налібоцкай пушчы, у горадзенскай пушчы, у рудніцкай пушчы, у лясох дзьвінскіх, віцебскіх, менскіх, на Палесьсі, у Магілеўшчыне, Гомельшчыне й Браншчыне, у лясох Смаленшчыны. Бальшавікі арыштоўвалі ды ссылалі ў канцлягеры ў Сыбір усіх, хто ім выдаваўся патэнцыяльным праціўнікам ды сымпатыкам антыкамуністычнай партызанкі. Такім чынам, у гэтай акцыі сотні тысячаў беларускага народу цяжка пацярпела. Партызаншчына ўтрымалася да 1955 году, гэта значыць, 10 гадоў. Аб гэтым запраўдным ды спантанным антыбальшавіцкім змаганьні беларускага народу не заікаецца ніводным словам ні бальшавіцкая прапаганда, ні іх брахун Акулевіч. Калі дадаць 5 гадоў антыбальшавіцкай партызаншчыны пасьля 1920 году ў БССР, аб чым успамінае Акулевіч, дык выходзіць час змаганьня: 1917—1921 — 4 гады; 1921—1926 — 5 гадоў; 1941—1944 — 4 гады; 1945—1955 — 10 гадоў. Разам 23 гады на 50, гэта ёсьць палавіна бальшавіцкага панаваньня над беларускім народам прайшла ў збройнай барацьбе з адвечным ворагам нашага народу — Масквой, гэтым разам чырвонай.

3. Акулевіч і бальшавіцкая прапаганда страшыць наш народ нацыскімі плянамі вынішчэньня нашага народу. Гэта праўда, такія пляны былі ў нацысцкіх фанатыкаў. Але гэтыя пляны толькі мроіліся ў іх галовах. Нацысты зьнішчылі на нашай тэрыторыі жыдоў (каля 1 мільёна) і сотні тысяч людзей з правакацыі бальшавіцкай і польскай, АЛЕ маскоўскія злачынцы свой нацыскі плян перасяленьня беларускага народу на Сыбір і іншыя акругі праводзяць і пасьля Сталіна. Паводля савецкіх крыніц (гл. “Полымя”, № 3, 1968) маскоўскія злачынцы высяляюць кожны год сотні тысячаў беларусаў з мэтай іх русыфікацыі і на іх месца ўсяляюць расейцаў, калмыкаў, татараў, украінцаў і балтаў, каб вытварыць маскоўскі ліквідацыйны кацёл дзеля зьнішчэньня нашага народу і іншых нерасейскіх народаў. Паводля БССР крыніц ад 1948 г. да 1968 г., гэта ёсьць за 20 апошніх год, гэта ёсьць часу, у якім Акулевіч два разы адведаў БССР, Масква выселіла з БССР 2 мільёны Беларусаў ды ўсяліла прыблізна столькі чужога насельніцтва. Такім чынам, ужо з рук бальшавіцкіх пасьля нямецкай акупацыі вырвана з роднай зямлі, забіта ці замучана каля 4 мільёнаў Беларусаў. Вось “дасягненьні” савецкай улады ў пасьляваенным часе ў вынішчэньні беларускага народу.

4. Акулевіч і бальшавіцкая прапаганда хвастаецца, *“глядзіце, які поступ, як вырасла з попелу Беларусь”*. Няма чым хвастацца. БССР ня толькі тэрытарыяльна абрэзана на карысьць Расеі, Польшчы, Лятувы, Украіны, Латвіі на 2/3 сваёй этнаграфічнай тэрыторыі, але ёсьць найбольш адсталай у эканамічных адносінах у параўнаньні да РСФСР, УкрССР і балтыцкіх краінаў. З недахопу працы для насельніцтва, уцякаючага ад калгаснага вызыску і прыгону ў беларускіх гарадох, уцекачы прымушаныя пераносіцца ў расейскія раёны ды гэтым русыфікавацца. Масква на нашых землях наўмысьля ўтрымоўвая каляніяльнае ста-

новішча, каб у маскоўскім тыгельніку стапіць, зьнішчыць беларускі народ як нацыю. Тут ужо ня проста русыфікацыя, гэта ёсьць падмена мовы беларускай мовай расейскай. Тут ідзе арганізаваны наступ на наш народ як самастойную нацыю. І калі запраўдныя патрыёты БССР, паэты й пісьменьнікі, мастакі, кампазытары, архітэктары і культурнікі, настаўнікі й сьведамая моладзь вядуць супраціў намерам крывавай Масквы, то прадажнікі й здраднікі нашага народу тыпу акулевічаў, прокшаў і ім падобных са скуры выходзяць, каб хутчэй угробіць беларускі народ. Будзе час, што з Божай дапамогай наш народ перажыве гэтыя цяжкія напасьці, а тады з агідай асудзіць запраўдных ворагаў і іх жалюгодных паслугачоў.

5. Акулевіч, атакуючы да Грышкевіча, хапаецца за аўтарытэт Янкі Купалы і Якуба Коласа. То-ж ведама, што бальшавікі не расстралялі гэтых нацыянальных будзіцеляў дзеля выкарыстаньня іх аўтарытэту. Янка Купала быў арыштованы ў гадох расправы з так зв. "нацдэмамі" ды быў даўлены чэкістамі, каб сваім аўтарытэтам пракляў беларускіх патрыётаў.

Купала ратаваўся спробай самагубства, а калі гэта не ўдалося, быў прыкінуўся славаслоўем Сталіну і бальшавіцкім апрычнікам, а калі ў часе Другой вайны маскоўскія злачынцы нанова насядалі на яго, каб ён закляйміў нацыянальны ўздым у апошняй вайне, ён выбраў у 1942 г. сьмерць, чымся пакарыцца нацыянальнаму ворагу — Маскве. Колас памёр з нацыянальным пакаяньнем ды апраўданьнем, што маскоўска-бальшавіцкае славаслоўе — тэрор бальшавізму.

Перад сьмерцяй у 1947 г. ён пісаў:

*Не радуе неба, бяздушнае, злое,*
*І хмар кучаравых нідзе не відаць,*
*Ня ў той бок махае галінамі хвоя, —*
*І марна пра дождж той сягоньня гадаць!*
*У сэрцы трывога, і злосьць мне на вецер:*
*Чаму не нагоніць жаданых нам хмар?*
*Журботна калыша бярэзінка вецер,*
*І лёгкі пылок ёй кладзецца на твар.*
*Хаджу ад дубкоў я да яблынек кволых,*
*Што летась саджаў яшчэ з раньняй вясны, —*
*Гібеюць, нябогі, і я невясёлы,*
*Успомню і мары былыя і сны.*
*Ня раз я, бывала, у дні сухавеяў*
*Таксама душою і сэрцам хварэў*
*І неба, і хмары, і ўсіх дабрадзеяў*
*Маліў, каб на ласку зьмянілі свой гнеў;*
*Каб дожджык застукаў сялянству на ўцеху;*

*Каб вырасла жыта, гарох, ярына;*
*Каб гумны заклалі пад самую стрэху*
*І каб расьпірала сусек ад зярна;*
*Каб лес аж загніўся пад восень грыбамі,*
*Каб нам ураджай на іх быў, ды такі,*
*Што людзі іх проста б вазілі вазамі...*
*Эх, баравікі вы!.. Эх, баравікі!*
*Хаджу я, пануры, ад градак да дрэва,*
*І сіл не хапае мне іх паліваць.*
*А вецер бясплодныя дудзіць напевы...*
*І як жа зь вятрамі, скажы, ваяваць?*
*Іду на баромэтр зірнуць, ці ня кажа*
*Пра дождзжык жаданы, пра радасьць маю.*
*А ён — не зрухнецца, стаіць, сіла ўражжа!*
*Баромэтру пстрычку са злосьці даю...*
*І помню — я раз узлаваўся зацята:*
*Чаго ён, нягоднік, як ідал, стаіць?*
*Пра дождзжык чаму не варожыць, праклятый?*
*Я ў рэчку хацеў яго несьці тапіць.*

Вось як спавядаецца Якуб Колас з свайго зьняволеньня словасьцямі ня ў чэсьць Сталіна, партыі й маскоўскага імпэрыялізму. Кожны праўдзівы патрыёт разумее яго шчырую споведзь. Ён змушаны быў садзіць дрэвы ў бездаждлівае лета без відокаў на зьмену пагоды. І тыя яго дрэвы пасохлі, бяздышныя, як усё, што здушанае было злой сілай. Але вера ў перамены не адставала аж да яго сьмерці. Ці злачынцы тыпу Акулевічаў змогуць калі-небудзь пакаяцца? Трудна паверыць. Бо толькі вялікія душы, упаўшы, знаходзяць сілы падняцца. Паўзуны вечна поўзаюць па зямлі.

Многа яшчэ можна сказаць пра зьвяканьне Акулевіча й бальшавікоў як аб пачатках БНР і БССР, аб нежаданьні Расеі, каб Беларусь паўстала, аб калгаснай няволі, аб бунце беларускага народу. Вы самі перадумайце вялікую трагэдыю нашага народу ды ўзяўшы мае тут разважаньні, дайце адказ гэтаму паслугачу злачынцаў нашага народу, а разам з гэтым і самым злачынцам.

Ваш Вацлаў [Пануцэвіч]

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

## *Публікацыі*

***Ірына Чыкалава***
*Менск*

# “НАШ КАРЭСПАНДЭНТ У ЛЁНДАНЕ”: СЯМЁН ІСААКАВІЧ РАПАПОРТ (1858—1934)[1]

У 2018 г. споўнілася 160 гадоў з дня нараджэньня Сямёна Ісаакавіча Рапапорта. Пры жыцьці ён займаў адно з найбольш прыкметных месцаў у шэрагу прафэсійных замежных карэспандэнтаў дарэвалюцыйных расейскіх пэрыядычных выданьняў. Адзінымі апублікаванымі крыніцамі інфармацыі пра яго зьяўляюцца аўтабіяграфічная даведка, напісаная ў 1899 г. на просьбу Сямёна Вянгерава й апублікаваная ў “Крытыка-біяграфічным слоўніку рускіх пісьменнікаў і навукоўцаў”[2], і біяграфічны артыкул (1912), зьмешчаны ў “Яўрэйскай энцыкляпэдыі” Бракгаўза й Эфрона[3]. Дакумэнты, зьвязаныя з прафэсійнай дзейнасьцю Рапапорта, можна выявіць у фондзе Сямёна Вянгерава ў рукапісным аддзеле Інстытуту рускай літаратуры й мастацтва ў Санкт-Пецярбургу (Пушкінскі дом). Сярод іх аўтабіяграфія, бібліяграфічныя зьвесткі, бібліяграфічны лісток з адказамі на пытаньні для крытыка-біяграфічнага слоўніка рускіх пісьменьнікаў і навукоўцаў, лісты[4].

---

[1] Больш поўная версія артыкулу была апублікавана ў 2017 г.: Чикалова, Ирина. Забытый лондонский корреспондент российских журналов Семен Исаакович Рапопорт (1858—1934) // Диалог со временем. Альманах интеллектуальной истории. Вып. 60. Москва: ИВИ РАН, 2017. С. 69—89. Гл. таксама: Чикалова, Ирина. Великобритания: осмысление исторического опыта в Российской империи (XIX — начало XX в.). Минск: Беларуская навука, 2018.

[2] Рапопорт Семен Исаакович. Автобиографическая справка // Венгеров, Семен. Критико-биографический словарь русских писателей и ученых (от начала русской образованности до наших дней): [в 6 т.]. Т. 6. Санкт-Петербург: Тип. М. М. Стасюлевича, 1904. С. 201—203.

[3] Рапопорт Семен Исаакович // Еврейская энциклопедия: Свод знаний о еврействе и его культуре в прошлом и настоящем / под общей ред. А. Гаркави и Л. Каценельсона. Т. 13. Проклятие — Сарагосси. Санкт-Петербург: Общ-во для научных еврейских изданий и Изд-ва Брокгауз – Ефрон, 1912. С. 308—309.

[4] Рапопорт Семен Исаакович // Русская интеллигенция; под редакцией [и с вступительной статьей] В. А. Мыслякова: автобиографии и биографические документы в собрании С. А. Венгерова: аннотированный указатель:

Сямён Рапапорт нарадзіўся 14 лістапада 1858 г. у Пружанах Гарадзенскай губэрні. Ягоная прабабуля па бацькоўскай лініі была дачкой холмскага рабіна і ўнучкай Сімхі Рапапорта, які на працягу каля 20 гадоў, да 1714 г., зьяўляўся рабінам Горадні. Дзед Сямёна прыняў прозьвішча маці — Рапапорт — і быў рабінам мястэчка Орля Бельскага павету Гарадзенскай губэрні. Бацька ж займаўся казённымі падрадамі. У сям'і Сямён атрымаў традыцыйнае габрэйскае выхаваньне й адукацыю. Ён навучаўся амаль выключна прадметам габрэйскай рэлігіі й літаратуры, рана вывучыў іўрыт, на якім самастойна па падручніках вывучаў матэматыку, фізыку, гісторыю. Першапачатковыя зьвесткі па рускім правапісе атрымаў у вясковай школе, якую паўгоду наведваў разам зь іншымі вясковымі дзецьмі.

На пачатку 1870-х гг., згалеўшы, бацька Рапапорта разам зь сям'ёй перасяліўся ў Санкт-Пецярбург. Тут Сямён паступіў у нядаўна адкрытую прыватную клясычную гімназію Бычкова, у якой у той жа час вучыліся будучыя буйныя навукоўцы: гісторык Сяргей Платонаў, заоляг Валянцін Біянкі, юрыст Васіль Латкін. Аднак у сувязі зь цяжкім матэрыяльным становішчам бацькоў Сямён Рапапорт сышоў з гімназіі й стаў самастойна рыхтавацца да здачы іспыту на атэстат сталасьці. Выпрабаваньне ня вытрымаў і ўвесну 1877 г. выехаў з Санкт-Пецярбургу. Перабываў у розных гарадах (у Варшаве, Гомелі, Горадні й інш.), як пісаў ён у аўтабіяграфіі, *"хістаючыся бяз справы, пазбаўлены ўсякага кіраваньня й парады"* й пакутуючы ад моцнай нястачы, *"пакінуў усялякую думку аб атэстаце сталасьці"*[5].

Аднак неўзабаве Рапапорт вырашыў зрабіць яшчэ адну спробу атрымаць сярэднюю адукацыю й адначасова займець якую-небудзь прафэсію. У 1878 г. ён паступіў у землямерна-таксатарскія клясы пры Горы-Горацкім земляробчым вучылішчы, дзе на працягу ўсіх гадоў навучаньня атрымліваў поўную казённую стыпэндыю. Дзякуючы рэкамэндацыі кіраўніцтва вучылішча дадаткова даваў урокі маладым людзям, якія рыхтаваліся да ўступнага іспыту, і такім чынам стаў жыць на ўласныя сродкі. Нягледзячы на невялікі аб'ём пакінутых успамінаў (а напісаныя яны былі праз дваццаць гадоў у Лёндане), Рапапорт знайшоў у іх месца для апісаньня вучнёўскага жыцьця ў Горы-Горках. Гэта робіць тэкст каштоўнай крыніцай па гісторыі Горы-Горацкага земляробчага вучылішча, што заставалася па-за ўвагай спэцыялістаў у галіне гісторыі адукацыі на беларускіх землях:

в 2 т. Т. 2: М — Я. Санкт-Петербург: Наука, 2010. С. 275; Інстытут рускай літаратуры і мастацтваў (ІРЛМ) РАН. Ф. 377. Воп. 7. Спр. 3033.

[5] Рапопорт Семен Исаакович. Автобиографическая справка // Венгеров, Семен. Критико-биографический словарь русских писателей и ученых. Т. 6. С. 202.

*«Жыцьцё й заняткі ў Горы-Горках былі прывольныя. У той час там у землямерна-таксатарскіх клясах валадарыў нейкі зьмяшаны парадак — паўунівэрсытэцкі й паўшкольны, які, аднак, выдатна адпавядаў патрэбам установы. Вучні, сярод якіх былі 26—28-гадовыя маладыя людзі, карысталіся поўнай свабодай. Яны маглі чытаць што заўгодна; уся багатая бібліятэка школы, якая засталася ёй у спадчыну ад інстытуту, была да іх паслугаў. Паліць, піць, цягацца па корчмах, гуляць на більярдзе, адпраўляцца на паляваньне ў які заўгодна час, насіць які заўгодна касьцюм — усё гэта было асабістай справай вучняў, і начальства нічога не рэглямэнтавала, не забараняла й не карала. У той жа час яно рабіла ўсё магчымае дзеля стварэньня здаровых асалодаў і задавальненьняў. У вучылішчы быў выдатны аркестар і вялікі хор; часта ладзіліся спэктаклі, у якіх вучні й настаўнікі бралі аднолькавы ўдзел; танцавальныя вечарыны, на якіх адбываўся адчайны флірт; чытаньні й дэклямацыі, на якіх сцэнкі з часопісу “Развлечение” адыгрывалі самую выдатную ролю; сельскагаспадарчыя выставы, дзе рэпа й бручка бралі першыя прызы і ўпрыгожваліся мэдалямі, адбітымі ў рамеснай школе, што знаходзілася пры вучэльні. Увогуле час праходзіў нават весела. Заняткі ў Горы-Горках адбываліся круглы год: зімою тэорыя, а летам практыка, але часу для чытаньня заставалася вельмі шмат, і я ў бытнасьць у Горы-Горках пасьпеў прачытаць мноства кніг, сярод якіх нямецкія клясыкі займалі першае месца»*[6].

У 1880 г. Сямён Рапапорт закончыў клясы пры Горы-Горацкім земляробчым вучылішчы, атрымаўшы званьне *“прыватны землямер і таксатар”*. Аднак набытую спэцыяльнасьць яму не давялося прымяніць на практыцы. Маладзён зноў апынуўся ў Санкт-Пецярбургу.

Так пачаўся новы пэрыяд у ягонай біяграфіі, што ад канца 1881 г. быў зьвязаны зь дзесяцігадовай службай у праўленьні Лібава-Роменскай чыгункі, якую ён спалучаў з журналісцкай працай. Там жа служыў выпускнік Менскай мужчынскай гімназіі, будучы выбітны гісторык літаратуры Сямён Вянгераў. Тады й завязалася іх сяброўства на ўсё жыцьцё. Менавіта дзякуючы Вянгераву, які карпатліва зьбіраў зьвесткі пра расейскіх літаратараў і навукоўцаў, да нас дайшла аўтабіяграфія Рапапорта, якая ўвабрала ў сябе асобныя зьвесткі зь яго жыцьця да 1899 г. і, што яшчэ больш важна, у апублікаваным выглядзе.

У Санкт-Пецярбургу Сямён Рапапорт пачаў супрацоўнічаць са сталічнымі пэрыядычнымі выданьнямі. Упершыню апублікаваўся ў 1883 г., працаваў у руска-габрэйскім друку, зьмяшчаў пад псэўданімамі дробныя артыкулы й апавяданьні ў сатырычных ілюстраваных

[6] Рапопорт Семен Исаакович. Автобиографическая справка // Венгеров, Семен. Критико-биографический словарь русских писателей и ученых. Т. 6. Тут і далей пераклад з рускай мовы І. Чыкалавай.

часопісах *“Шут”*, *“Стрекоза”*, *“Осколки”*, *“Будильник”*, *“Задушевное слово”*, *“Рижский вестник”*, адкуль яны передрукоўваліся іншымі выданьнямі ў правінцыі. У 1886—1890 гг. таксама публікаваўся ў “*Русском вестнике*”, *“Слове”*, *“Стране”* й іншых пэрыёдыках.

У аўтабіяграфічнай даведцы 1899 г. Рапапорт замоўчвае (мабыць, з асьцярожнасьці) аб важным факце са свайго санкт-пецярбурскага жыцьця: ён браў удзел у зборы матэрыялаў для анталёгіі “*Рускія людзі пра габрэяў*”, надрукаванай у 1891 г., але з цэнзурных прычынаў ня выпушчанай у сьвет. Яе аўтары-ўкладальнікі вырашылі застацца ананімнымі, але іхныя імёны ведамыя: кнігу, якая выйшла пад рэдакцыяй Мікалая Бакста[7], склалі Рыгор Вольтке й Сямён Рапапорт. Сам жа Рапапорт пазначаў, што кніга *“значнай часткай”* належала яму; у 1892 г. яна была зьнішчаная цэнзурай. Сапраўды, пастановай Камітэту міністраў Расейскай імпэрыі наклад выданьня памерам 346 старонак быў зьнішчаны. Але адзінкавыя асобнікі захаваліся[8]. Выпраўляючыся ў Ангельшчыну, Рапапорт, відаць, вывез з сабой такі. Неўзабаве кніга зьявілася ў бібліятэцы Брытанскага музэю[9]. У каталёжным запісе ў якасьці складальніка анталёгіі пазначаны толькі Рапапорт, што, можна меркаваць, было зроблена зь ягоных словаў (пазьней паўстала спрэчка паміж Вольтке й Рапапортом наконт аўтарства кнігі)[10].

На карысьць вэрсіі аб “эвакуацыі” асобніка кнігі самім Рапапортам кажа той факт, што ў 1900 г. у Бэрліне выйшаў пераклад анталёгіі на нямецкую мову[11]. У прадмове яе перакладчык А. Шольц паведамляў пра экзэмпляр кнігі, які “ўсплыў” і зь якога быў зроблены пераклад[12]. Ці ведаў

---

[7] **Мікалай Ігнатавіч Бакст** (сапр. Ноах Ісаакавіч Бакст, 1842—1904), фізіёляг і грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў Міры, быў выпускніком, а потым прыват-дацэнтам Санкт-Пецярбурскага ўнівэрсытэту.

[8] *Русские люди о евреях* / Составил Г. С. Вольтке при участии С. И. Рапопорта; под редакцией Н. И. Бакста. Санкт-Петербург: Типо-лит. А. М. Вольфа, 1891. 10 с. + 336 с.

[9] Русские люди о евреях [A collection of extracts from official and unofficial sources relating to the Jews in Russia. Compiled by S. I. Rapoport]. 1891.

[10] У Інстытуце рускай літаратуры і мастацтва (ІРЛМ) у фондзе Сямёна Вянгерава захоўваецца машынапісны дакумэнт, датаваны 1905 г.: Вольтке Григорий Самойлович. Записка Третейскому Суду, избранному Г. С. Вольтке и С. И. Рапопортом для разрешения возникшего между ними спора об авторстве книги “Русские люди о евреях” // ІРЛМ. Ф. 377. Воп. 6. Спр. 282. 15 л.

[11] Die Juden in Russland [Русскіе Люди о Евреяхъ] Urkunden und Zeugnisse russischer Behörden und Autoritäten / Aus dem Russischen übersetzt von August Scholz. Berlin: Concordia Deutsche Verlags-Anstalt, 1900. 248 s.

[12] Zur Orientierung // Die Juden in Russland [Русскіе Люди о Евреяхъ] Urkunden und Zeugnisse russischer Behörden und Autoritäten... S. 4.

Рапапорт пра існаваньне нямецкамоўнага выданьня анталогіі, няведама. Сёньня яго можна знайсьці ў розных заходніх бібліятэках. На партале *“Internet Archive”* апублікаваны скан кнігі са штампам бібліятэкі Гарвардзкага ўнівэрсытэту[13]. Імя складальнікаў анталёгіі не пазначана, як і ў расейскім яе выданьні, што знайшло адлюстраваньне ў каталёжных апісаньнях. Але ўсё ж супрацоўнікі бібліятэкі Брытанскага музэю, дзе таксама маецца асобнік бэрлінскага выданьня, справядлівасьць аднавілі: у бібліяграфічным запісе паказаны яе складальнік — *S.I. Rapoport*.

Няцяжка выказаць здагадку, што стала прычынай для Сямёна Рапапорта, які меў дастаткова добра аплочваемую працу (бо чыгунка ў той час была лякаматывам тэхнічнага прагрэсу) і дадатковыя заробкі за публікацыі ў часопісах, каб прыняць рашэньне перасяліцца ў Ангельшчыну: няўдача з выданьнем кнігі ці габрэйскае паходжаньне, што, дарэчы, ён згадвае ў аўтабіяграфічнай даведцы (*“па незалежных прычынах, зьвязаных з маім габрэйскім паходжаньнем”*)[14]. Хутчэй за ўсё, усе неспрыяльныя фактары для Сямёна Ісаакавіча сышліся разам. 1891 год быў адзначаны масавымі высылкамі габрэяў са сталіцаў. Усе былі выселеныя з Масквы й нават было выдадзенае распараджэньне аб высылцы на працягу 24 гадзінаў з Санкт-Пецярбургу Сямёна Вянгерава, праўда, скасаванае пасьля заступніцтва сяброў і асабліва Ўладзімера Салаўёва[15].

У такой абстаноўцы Расею пакідалі многія габрэі. Нягледзячы на значныя юрыдычныя й адміністрацыйныя складанасьці, зьвязаныя з адсутнасьцю ў краіне заканадаўства аб эміграцыі, колькасьць выяжджаючых пачынаючы з 1881 г. расла с кожным годам. Апагей гэтага працэсу быў дасягнуты падчас выгнаньня габрэяў з гарадоў, напрыклад з Масквы ў 1891 г., пасьля Кішынёўскага й Гомельскага пагромаў у 1903 г. і асабліва пасьля пагромаў 1905—1906 гг. На працягу 1881—1914 гг. краіну пакінулі ад 1 млн 700 тыс. да 1 млн 980 тыс. габрэяў. Асноўная плыня, 84 %, накіроўвалася ў ЗША і толькі 8,5 % — у Ангельшчыну, 2,2 % — у Канаду й 2,1 % — у Палестыну[16]. У выпадку з Рапапортам выбар быў зроблены на карысьць Ангельшчыны. Зьяжджаючы, Рапапорт ня мог ня ведаць, што *“пераход расейцаў у іншае*

---

[13] Гл.: https://archive.org/stream/diejudeninruss l00schogoog#page/n7/mode/2up.

[14] Рапопорт Семен Исаакович. Автобиографическая справка // Венгеров, Семен. Критико-биографический словарь русских писателей и ученых. Т. 6. С. 203.

[15] Neginsky, R. Письма Зинаиды Афанасьевны Венгеровой к Софье Григорьевне Балаховской-Пети // Revue des études slaves. 1995. T. 67. Fascicule 1. С. 210.

[16] Полян, Павел. Эмиграция: кто и когда в XX веке покидал Россию // Россия и ее регионы в XX веке: территория — расселение — миграции / под ред. О. Глезер и П. Поляна. Москва: ОГИ, 2005. С. 493—519.

*грамадзянства забараняўся, а тэрмін знаходжаньня за мяжой абмяжоўваўся пяцьцю гадамі, пасьля чаго трэба было хадайнічаць аб прадаўжэньні тэрміну. У адваротным выпадку чалавек, які зьехаў, губляў грамадзянства й падлягаў, у выпадку вяртаньня, арышту й вечнай высылцы; маёмасьць жа яго аўтаматычна пераходзіла ў Апякунскі савет"*. Праўда, у дачыненьні да габрэяў пачынаючы з 1892 г. эміграцыя стала дапускацца, але ім у такім разе *"катэгарычна забаранялася любая форма рэпатрыяцыі"*[17].

Як бы там ні было, у канцы красавіка 1891 г. Рапапорт ва ўзросьце 32 гадоў з жонкай і двухмесячным сынам Юліем пакінуў Санкт-Пецярбург і перасяліўся ў Лёндан. Як пісаў Сямён Ісаакавіч у аўтабіяграфічнай даведцы, у Ангельшчыне ён *"прысьвяціў сябе цалкам журналістыцы"*[18]. З гэтага моманту й пачынаецца ангельскі пэрыяд у жыцьці былога выпускніка землямерна-таксатарскіх клясаў і служачага праўленьня Лібава-Роменскай чыгункі.

Для Сямёна Рапапорта, які ўжо меў досьвед супрацоўніцтва з пэрыядычнымі выданьнямі, журналістыка стала спосабам забесьпячэньня надзённых патрэбаў. Зь перасяленьнем за мяжу ён зрабіўся сталым супрацоўнікам газэтаў *"Новости"*, *"Неделя"*, часопісаў *"Книжки недели"*, *"Недельные хроники Восхода"*, *"Восход"*. І вельмі хутка тэма Вялікабрытаніі, жыцьця ангельцаў стала цэнтральнай у яго творчасьці, хутка ператварылася ў пастаянны аб'ект вывучэньня й інфармаваньня расейскага чытача. Празь некалькі гадоў у прадмове да зборніка "*Народ-богатырь*" Рапапорт заўважыў: Ангельшчына, *"бясспрэчна, уяўляе зь сябе для нас найбольш годную вывучэньня дзяржаву"*. Жыцьцё ў гэтай краіне дала яму найбагацейшыя ўражаньні, якімі ён як прафэсійны рэпарцёр на працягу дваццаці гадоў дзяліўся з суродзічамі ў мностве нарысаў.

Першымі цікавасьць да тэкстаў Рапапорта аб ангельскім жыцьці выявілі газэты *"Новости"* й *"Неделя"*, супрацоўніцтва зь якімі працягвалася гадамі. Адзін з нарысаў быў прысьвечаны Джону Кенворці — распаўсюджвальніку ідэяў талстоўства ў Ангельшчыне, яшчэ адзін — знакамітаму ангельскаму журналісту Ўільяму Томасу Стэду. З 1892 г. яго нарысы за подпісам "Р." сталі зьяўляцца ў штомесячным дадатку да "*Недели*" — літаратурным часопісе "*Книжки недели*". Гэтым жа годам датуецца мікрафотакопія фотаздымка Рапапорта з дарчым надпісам Паўлу Гайдэбураву, уласьніку й рэдактару-выдаўцу "*Недели*", якая захавалася ў Расейскім дзяржаўным архіве літаратуры й мастацтва (РДАЛМ)[19].

---

[17] Полян, Павел. Эмиграция: кто и когда в ХХ веке покидал Россию.

[18] Рапопорт Семен Исаакович. Автобиографическая справка // Венгеров, Семен. Критико-биографический словарь русских писателей и ученых. Т. 6. С. 203.

[19] Фотографии из юбилейного альбома «25 лет "Недели"» // РДАЛМ. Ф. 1410. Воп. 1. Спр. 78.

На працягу 1893—1895 гг. Рапапорт пад псэўданімам “Рыбаков, С.” публікаваў нарысы пра лёнданскае жыцьцё й ангельскія ўстановы пад агульнай назвай “Лісты з Ангельшчыны” ў штомесячным часопісе “*Северный вестник*”. Першы зь іх — “Лёнданскі штодзённы друк” — зьявіўся ў двух апошніх нумарах часопісу за 1893 г. Працяг распачатай тэмы адбыўся на наступны год, калі таксама ў двух нумарах часопіс зьмясьціў нарыс “Лёнданскі штотыднёвы й штомесячны друк”. У 1894 г. зьявіўся артыкул, прысьвечаны тэатральнаму й музычнаму жыцьцю Лёндану. Супрацоўніцтва Рапапорта зь “*Северным вестником*” завяршылася ў 1895 г. публікацыяй дзьвюх карэспандэнцый — “Школьная барацьба ў Ангельшчыне” й “Беднасьць і дабрачыннасьць”.

У канцы 1890-х гг. Рапапорт надрукаваў шэраг нарысаў у часопісе “*Восход”* — найбуйнейшым руска-габрэйскім перыядычным выданьні. Замалёўкі “Габрэі пэндзлем і алоўкам” і “Габрэі на ангельскай сцэне” — найбольш аб’ёмныя зь іх. Прысутнасьць аўтара ў часопісе завяршылася публікацыяй некалькіх апавяданьняў з побыту габрэйскіх эмігрантаў у Ангельшчыне.

Ужо раньняя карэспандэнцыя Сямёна Рапапорта з Туманнага Альбіёну зьвярнула на сябе ўвагу ў Расеі. Яе сталі цытаваць у аглядзе друку. У 1900—1903 гг. нарысы Рапапорта былі апублікаваныя асобнымі кнігамі — “У ангельцаў у горадзе й вёсцы”[20], “Народ-волат”[21] і “Дзелавая Ангельшчына”[22]. Два апошнія зборнікі аўтар разглядаў як адзінае цэлае. Кніга “Народ-волат” складалася з нарысаў, апублікаваных раней у *“Новостях”*, *“Неделе”*, *“Книжках недели”* й *“Северном вестнике”*. Паводле задумы Рапапорта, яна *“тычылася галоўным чынам палітычных і грамадзкіх установаў Ангельшчыны, жыцьця духоўна-палітычнага”*. Кніга “Дзелавая Ангельшчына”, якая была нібыта працягам, мела, як напісана ў прадмове, *“больш справу з матэрыяльным бокам жыцьця, з прамысловым і працоўным побытам ангельскага народу”*[23]. У яе ўвайшлі нарысы, надрукаваныя раней пераважна ў “*Вестнике Европы*”. У сваім “Крытыка-біяграфічным слоўніку рускіх пісьменьнікаў і навукоўцаў” Сямён Вянгераў даў такую адзнаку зборніку нарысаў Рапапорта “Народ-волат”: *«Гэтую жыва й таленавіта напісаную кнігу нельга не прызнаць каштоўным унёскам у небагатую рускую літаратуру пра*

---

[20] Рапопорт, Семен. У англичан в городе и в деревне: С прил. ст. М. А. Бекетовой “Народный дворец” и Дом имени Тойнби / Сост. С. Рыбаков [псевд.]. Москва: Тип. Вильде, 1900. 112 с.

[21] Рапопорт, Семен. Народ-богатырь. Очерки политической и общественной жизни Англии. Санкт-Петербург: Тип. М. Меркушева, 1900. 376 с.

[22] Рапопорт, Семен. Деловая Англия. Москва: Тип. т-ва И. Д. Сытина, 1903. VII, 291 с.

[23] Рапопорт, Семен. Деловая Англия. С. V.

*Ангельшчыну. [...] Аўтара пры гэтым ніколі не пакідае “параўнальны мэтад”. Апісваючы парадкі ангельскія, ён заўсёды мае перад сабою карціну зусім іншых умоваў грамадзкага жыцьця, і гэта надае яго нарысам вельмі характэрную адметнасьць, што далёка выходзіць за межы проста этнаграфічнага інтарэсу»*[24].

Рапапорт і Вянгераў падтрымлівалі цесныя адносіны, вялі пастаянную перапіску. Кнігу “Народ-волат” ён нават прысьвяціў Вянгераву, у асабістым фондзе якога ў рукапісным аддзеле Інстытуту рускай літаратуры й мастацтва ў Санкт-Пецярбургу (Пушкінскі дом) захоўваецца калекцыя з 226 адрасаваных яму лістоў Рапапорта[25]. Іх вывучэньне праліла б сьвятло на шматлікія бакі жыцьця й працы як самога Рапапорта, гэтак, магчыма, і ўзаемаадносінаў у творчым асяродзьдзі выхадцаў зь беларускіх губэрняў. І менавіта на замову Вянгерава ён напісаў аўтабіяграфію.

У першыя гады XX ст. Сямён Рапапорт ужо быў дастаткова ведамы, займеў сувязі й фінансавыя сродкі. Адначасова з супрацоўніцтвам з расейскімі выданьнямі ён публікаваўся ў ангельскім друку, які знаходзіўся на этапе нечуванага росту. Новая публіка, тыя, хто атрымаў адукацыю дзякуючы праведзенай у 1871 г. школьнай рэформе, патрабавала лёгкага чытва, і ў Лёндане адна за адной узьнікаць вячэрнія газэты, напрыклад *“Pall Mall Gazette”*, скіраваныя менавіта на такую аўдыторыю. Толькі ў сталіцы выдавалася дзевятнаццаць ранішніх і дзесяць вячэрніх газэтаў, сотні штотыднёвых і штомесячных часопісаў і ўтварылася ўнікальная сытуацыя — пэрыёдыкам літаральна бракавала аўтараў. У выніку Рапапорт стаў друкавацца на старонках *“Pall Mall Gazette”*, *“Daily Mail”*, *“Daily News”*, *“Echo”*, *“Jewish Chronicle”*, *“Progressive Review”*, *“Novel Review”*, *“Leisure Hour”*, *“Christian Weekly”*, *“Globe”*,*“Independent Review”*. У штогодніку *“Sell’s Dictionary of the World’s Press”* за 1897 г. быў зьмешчаны ягоны артыкул пра расейскі палітычны друк[26], пра што аўтар згадвае ў аўтабіяграфічнай даведцы.

Фінансавыя магчымасьці дазвалялі Сямёну Рапапорту жыць разам зь сям’ёй у Хамстэдзе (пра што паведамляе запіс ад 31 сакавіка ў пера-

---

[24] Рапопорт Семен Исаакович, талантливый корреспондент // Венгеров, Семен. Критико-биографический словарь русских писателей и ученых. Т. 6. С. 203—204.

[25] ІРЛМ РАН. Ф. 377 (Венгеров Семен Афанасьевич). Воп. 4. Спр. 1879, 1881, 1882. У фондзе захоўваецца 69 лістоў Рапапорта Вянгераву за пэрыяд з 9 верасьня 1889 г. да 26 сьнежня 1898 г., 90 лістоў за пэрыяд з 4 студзеня 1904 г. да 17 сьнежня 1906 г. і 67 лістоў за пэрыяд з 11 студзеня 1907 г. да 3 лістапада 1915 г.

[26] Sell’s dictionary of the World’s Press: in Commemoration of the Sixtieth Year of Her Majesty’s Reign. London: Linotype Co., 1897.

пісе насельніцтва Ангельшчыны 1901 г.) — даволі прэстыжным раёне Лёндану з самым вялікім у горадзе паркам, які атрымаў вядомасьць як месца знаходжаньня інтэлектуальных, ліберальных, музычных і літаратурных таварыстваў. Тут жа ягоны 12-гадовы сын паступіў на навучаньне ў прэстыжную прыватную школу для хлопчыкаў. Пра свой занятак Рапапорт у перапісным лісьце паведамляў ляканічна: *“журналіст”*.

Сямён Рапапорт сустракаўся з гасьцямі, якія прыяжджалі ў Лёндан з Расеі. Сярод іх быў Карней Чукоўскі, які знаходзіўся ў Ангельшчыне з чэрвеня 1903 г. да жніўня 1904 г. у якасьці карэспандэнта “*Одесских новостей*” і, паводле дасьледніцы з Эдынбурскага ўнівэрсытэту Ганны Ванінскай, іх *“бязьлітасна крытыкаваў”*. Сапраўды, наведаўшы Рапапорта, Чукоўскі запісаў у дзёньніку: *“Рапапорт, чалавек неразумны, заікаецца і ў прамовах, і ў думках, зайздросны, славалюбівы, — але заўсёды складваецца такое ўражаньне, быццам ён бесклапотны й любіць”*[27]. Антыпатыя была ўзаемнай, і ёсьць таму сьведчаньні, у прыватнасьці, гісторыка ангельскай літаратуры Ўладзімера Лазурскага, які жыў у Лёндане з Чукоўскім ў адным пансіёне. Апошні, паводле згадак Лазурскага, *«дрэнна выконваў ролю лёнданскага карэспандэнта вялікай газэты, і ў рэдакцыі “Одесских новостей” ім былі не задаволеныя»*[28]. У выніку ён быў вымушаны пераехаць у сьціплы пакой, бо праз фінансавыя праблемы часта ня меў грошай. Так што грэблівы тон Чукоўскага ў дачыненьні да калегаў, якія супрацоўнічалі з прэстыжнымі выданьнямі на пастаяннай аснове й былі лепш уладкаваныя, думаецца, быў выкліканы прафэсійнай рэўнасьцю.

Супрацоўніцтва ж Рапапорта з расейскімі выданьнямі было вельмі пасьпяховае. У 1902—1903 гг. ён друкаваўся ў часопісе “*Образование*”, на старонках якога зьявіліся ягоныя нарысы на тэмы асьветы й выхаваньня ў Ангельшчыне (“Новая брытанская акадэмія”, “Ангельскае студэнцтва”, “Кніжная прадукцыйнасьць і літаратурныя густы ангельцаў”, “Сярэдняя адукацыя ў Ангельшчыне”). З 1905 г. журналіст пачаў зьмяшчаць у “*Мире Божьем” / “Современном мире*” нарысы пад агульнай назвай “Лісты зь Лёндану” й “Будаўнікі ангельскага жыцьця”. На хвалі рэвалюцыйнага ўздыму ў Расеі, напярэдадні і ў гады першай расейскай рэвалюцыі, сярод тэмаў пераважалі зьвязаныя з асаблівасьцямі функцыянаваньня дэмакратыі ў краіне (“Выхаваньне выбаршчыка ў Ангельшчыне”, “Роля грамадзкай думкі ў ангельскім заканадаўстве”, “Свабода сумленьня“, “Свабода сходаў” і інш.). Усяго да 1909 г. уключна, калі супрацоўніцтва з часопісам канчаткова спынілася, на ягоных старонках было зьмешчана 16 публікацыяў Сямёна Рапапорта.

---

[27] Чуковский, Корней. Дневник. 1901—1921 // Чуковский, Корней. Собрание сочинений: В 15 т. / [сост. и коммент.: Е. Чуковская]. Т. 11. Москва: Терра — Книжный клуб, 2013. С. 85.

[28] Лазурский, Владимир. История моей жизни. Одесса: ВМВ, 2012.

Да таго часу ў журналіста ўжо завязалася супрацоўніцтва з “*Русской мыслью*”, у якой ён у 1908—1910 гг. надрукаваў некалькі нарысаў пераважна аб сацыяльных праблемах у Ангельшчыне (“Пэнсіі для старых”, “Біль аб дзецях”, “Рэлігія й сацыялізм” і інш.). 1910 год пачаўся публікацыяй нарысу *“Новы ангельскі жыльлёвы закон”* у першай студзеньскай кніжцы часопісу “*Городское дело*”.

Але самае доўгачасовае супрацоўніцтва ў Сямёна Рапапорта склалася з часопісам “*Вестник Европы*”, на старонках якога на працягу 20 гадоў, з 1896 да 1915 г., за подпісам *“С. И. Рапапорт”* і пад крыптанімамі *“Ра–т, С.”*, *“Р–р–ъ, С.”*, *“Р–т, С.”* чытач рэгулярна знаходзіў матэрыялы пра Ангельшчыну (больш за два дзясяткі нарысаў). У іх адсутнічаюць глыбокія абагульненьні, але тэмы вельмі разнастайныя. Аўтар пастаянна зьвяртаўся да штодзённых бакоў існаваньня простых насельнікаў краіны, што жылі як у Лёндане, гэтак і за ягонымі межамі. Апошняя публікацыя Рапапорта ў “*Вестнике Европы*” — “Літаратура й мілітарызм у Ангельшчыне” — зьявілася ў верасьнёўскай кніжцы за 1915 г.

Рапапорт актыўна супрацоўнічаў з энцыкляпэдычнымі выданьнямі. Ён напісаў мноства артыкулаў для “Палітычнай энцыкляпэдыі”, якая выдавалася асобнымі выпускамі на працягу 1906—1907 гг. пад рэдакцыяй Леаніда Слонімскага[29] — зь ім журналіст падтрымліваў інтэнсіўную перапіску. Частка лістоў Рапапорта да Слонімскага захавалася[30]. Выданьне энцыкляпэдыі не было завершана: выйшлі з друку чатыры выпускі, якія склалі яе першы том. Энцыкляпэдычныя артыкулы былі даведзеныя да літары “К”. Амаль усе, што мелі дачыненьне да Ангельшчыны, яе калоніяў і дамініёнаў, належалі Рапапорту. Ён быў адным з аўтараў Энцыкляпэдычнага слоўніка Бракгаўза й Эфрона (у артыкуле “Вялікабрытанія” яму належаў разьдзел “Найноўшая ангельская літаратура”), быў у ліку супрацоўнікаў “Яўрэйскай энцыкляпэдыі” Бракгаўза й Эфрона (напісаў разьдзелы “Габрэі ў ангельскай літаратуры” й “Англагабрэйская літаратура” ў артыкуле “Ангельшчына”).

У 1910-я гг. Сямён Рапапорт у якасьці лёнданскага карэспандэнта публікаваўся ў органе Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі штодзённай газэце “*Речь*” (1906—1917). Сярод мноства матэрыялаў, дасланых ім у рэдакцыю ў 1914 г., былі такія: “Гонар Ангельшчыны”, “Вяртаньне Кіра Гардзі”, “Абноўлены ўрад” й інш.[31]. Матэрыялы ў газэце журналіст падпісваў крыптанімам *“С. І. Р.”*. На жаль, не пралівае сьвятла на пуб-

[29] Политическая энциклопедия / под ред. Л. З. Слонимского. Т. 1. Санкт-Петербург: П. И. Калинков, 1906—1907.

[30] Письма Рапопорта С. И. к Слонимскому Леониду-Людвигу Зиновьевичу, 12 августа 1898—**2**1(8) января 1907 г. // РДАЛМ. Ф. 1163. Воп. 1. Спр. 17.

[31] Рапопорт, Семен. Статьи, заметки, корреспонденции, открытые письма, некрологи, рецензии, присланные в редакцию газеты “Речь”, 10 марта — 5 июля 1914 г. и без даты // РДАЛМ. Ф. 1666. Воп. 1. Спр. 2095. 154 л.

лікацыі за аўтарствам Рапапорта ў газэце “*Речь*” дысэртацыя Дзьмітрыя Брыкава «Руская лібэральная прэса пра ўзаемаадносіны краінаў Антанты й Траістага саюзу напярэдадні Першай сусьветнай вайны: па матэрыялах газэтаў “*Речь*” і *“Русские ведомости”*». Пры гэтым яе аўтар сьцьвярджае, што *«ў газэце штодня друкавалася нямала вестак з розных сусьветных цэнтраў, многія зь якіх дастаўляліся ўласнымі карэспандэнтамі. Карэспандэнты “Речи” імкнуліся пашырыць свае сувязі ва ўрадавых сфэрах. С. І. Рапапорт (СИР), ангельскі карэспандэнт газэты, падтрымліваў знаёмствы з дарадцам расейскай амбасады ў Лёндане»*[32].

Рапапорт на працягу многіх гадоў, аж да закрыцьця, супрацоўнічаў зь *“Вестником финансов, промышленности и торговли”*, які выдаваўся зь лістапада 1883 г. да кастрычніка 1917 г. міністэрствам фінансаў краіны. Гэты найбуйнейшы эканамічны штотыднёвы часопіс забясьпечваў сваіх чытачоў дакладнай інфармацыяй па ўсіх галінах гандлёва-прамысловага, фінансавага й сельскагаспадарчага жыцьця як Расеі, гэтак і іншых дзяржаваў. Разам з буйнымі агляднымі артыкуламі тут публікаваліся рэфэратыўныя паведамленьні, данясеньні зь месцаў, разнастайныя статыстычныя матэрыялы па розных краінах, невялікія інфармацыйныя нататкі. У 1905 г. у часопісе зьявілася новая рубрыка “Спэцыяльныя карэспандэнцыі”. З Ангельшчыны ў першы год яны зьяўляліся бяз подпісу[33], а ў выпусках за 1906 г. пад імі (“Акцыянэрныя кампаніі ў Ангельшчыне”, “Амэрыканская бавоўна й ангельскія фабрыканты”) стаяла прозьвішча Рапапорта. Строгі, канкрэтны й лякантчны стыль публікацыяў у часопісе рэзка кантраставаў з усімі астатнімі. Ён дыктаваўся самім падыходам, якога прытрымлівалася рэдакцыя. З гэтым штотыднёвым часопісам у Рапапорта працягвалася пастаяннае супрацоўніцтва пасьля пачатку Першай сусьветнай вайны. У апошні год выданьня — 1917 — ён апублікаваў 12 артыкулаў і карэспандэнцый. Іх тэматыка, натуральна, была абумоўленая па большасьці падзеямі ваеннага часу, што знайшло адлюстраваньне ў саміх загалоўках: “Суднабудаўніцтва падчас вайны”, “Ангельскія капіталы ў Румыніі”, “Аб камэрцыйнай службе ў замежных дзяржавах”, “Рэгуляваньне біржавых абаротаў у Ангельшчыне”, “Ангельскі бюджэт”, “Гандаль і прамысловасьць Брытанскай імпэрыі”, “Фінансавы рынак Амэрыкі” й інш.

---

[32] Брыков, Дмитрий. Русская либеральная пресса о взаимоотношениях стран Антанты и тройственного союза накануне Первой мировой войны: по материалам газет “Речь” и “Русские ведомости”: дисс. … к. ист. н. Санкт-Петербург, 2008. Л. 4.

[33] Специальные корреспонденции. Из Англии. Бюджетная речь // Вестник финансов, промышленности и торговли. 1906. № 18. С. 182—184; Специальные корреспонденции. Из Англии. Положение почтово-телеграфных служащих // Там жа. 1906. № 19. С. 217—221.

Так выглядае “геаграфія” публікацый, а таксама найважнейшыя, хоць далёка ня ўсе ангельскія тэмы й сюжэты, прадстаўленыя ў журналісцкай творчасьці Рапапорта, якая заслугоўвае, як і сам аўтар, больш глыбокага вывучэньня. Дзякуючы ягоным публікацыям расейскі чытач, які ня быў у Ангельшчыне, меў магчымасьць дакрануцца да яе рэчаіснасьці. Цалкам відавочна, што Рапапорт быў запатрабаваны. Інтэнсіўнасьць жа ягонай публікатарскай дзейнасьці як у расейскім пэрыядычным друку, гэтак і ў брытанскім выклікае сапраўдную павагу.

Быў і яшчэ адзін бок творчасьці Сямёна Рапапорта, зьвязаны з азнаямленьнем ангельцаў з расейскай рэчаіснасьцю й культурай. Журналіст садзейнічаў зьяўленьню перакладаў на ангельскую мову твораў рускіх пісьменьнікаў. У 100-м томе “*Литературного наследства*” апублікаваная перапіска Антона Чэхава з супрацоўнікам газэтаў “*Неделя*” й “*Новое время*” Міхаілам Меньшыкавым, зь якой вынікае, што Рапапорт спрыяў выданьню ў Ангельшчыне апавяданьняў Чэхава. У лісьце ад 30 траўня 1893 г. Меньшыкаў паведамляе: *«Лёнданскі мой прыяцель С.І. Рапапорт (карэспандэнт “Недели”) піша, што апавяданьні Вашы — “Палата № 6” і яшчэ нейкія — перакладзеныя й пачнуць тыдні праз два друкавацца для асобнай кніжкі. Для прадмовы ён вельмі просіць у мяне агульных біяграфічных зьвестак пра Вас. Паколькі ў мяне іх няма, то можа быць Вы самі былі б ветлівыя паведаміць Р[апапорту] тое, што палічыце патрэбным»*[34]. Праўда, у аўтабіяграфічнай даведцы сам Рапапорт пра гэты эпізод ня згадвае. Хутчэй за ўсё, ён выступаў пасярэднікам паміж перакладчыкам і пісьменьнікам. Магчыма, тады да выданьня справа не дайшла. На гэта ўскосна зважае ў лісьце да Антона Чэхава ад 7 ліпеня 1898 г. Робэрт Эдвард Лонг, які дзейнічаў ад імя вядомага ангельскага журналіста й выдаўца Ўільяма Стэда: *“Наколькі мне вядома, ні адзін з Вашых твораў не выходзіў у ангельскай мове, і я ўпэўнены, што яны выклікалі б вялікую цікавасьць у ангельскага чытача”*[35]. У зьвязку зь гэтым журналіст зьвяртаўся з просьбай пра дазвол перакласьці апавяданьні Чэхава (“Палата № 6”, “Мужыкі”, “Чорны манах” і некаторых іншых) на ангельскую мову ў заснаванай ім выдавецкай сэрыі “Руская бібліятэка”.

Больш пасьпяхова ў Сямёна Рапапорта ішла праца зь перакладам на ангельскую мову твораў Льва Талстога. Пачаў ён з апавяданьня “Гаспадар і працаўнік”, якое толькі зьявілася на старонках “*Северно-*

---

34 Чехов в переписке с переводчиками: Англия [Сахарова Е.М. Вступительная заметка] // Чехов и мировая литература: В 3 кн. / Ред.-сост. З.С. Паперный, Э.А. Полоцкая; Отв. ред. Л.М. Розенблюм. Кн. 3. Москва: Наука, 2005. С. 444.

35 Алексеев, Н. Письма к Чехову от его переводчиков // Вестник истории мировой культуры. 1961. № . 2. С. 104—105.

*го вестника*” й “*Книжек недели*”. Перакладзены тэкст адрэдагаваў Джон Кенворці, заснавальнік аднаго зь першых у Эўропе талстоўскіх пасяленьняў, біёграф і выдавец твораў расейскага пісьменьніка[36]. Ангельскі пераклад “Гаспадара й працаўніка” выйшаў у Лёндане ў выдавецтве Ўолтара Скота ў 1895 г. пад назовам *“Master and man”*[37]. Яго зьяўленьне анансавалася ў брытанскім друку[38]. Леў Талстой у лісьце да свайго сябры й памочніка Ўладзімера Чарткова згадвае імя Сямёна Рапапорта як асобы, якая забясьпечыла даслоўны пераклад тэксту з рускай мовы для далейшай ангельскай літаратурнай апрацоўкі Кенворці[39]. Варта адзначыць, што ў РДАЛМ захавалася й частка ліставаньня Рапапорта й Чарткова[40].

Пасьля ўдалага досьведу супрацоўніцтва з Кенворці Леў Талстой у лісьце да апошняга 18 верасьня 1895 г. прапануе пасадзейнічаць у апублікаваньні ў адной з найлепшых брытанскіх газэтаў артыкулу Пятра Бірукова, прысьвечанага ганеньням на сэкту духабораў, і згадвае Рапапорта: “*Я думаю, што Вы знаходзіцеся ў кантакце з сп. Рапапортам, і ён мог бы зрабіць пераклад. Ягоныя пераклады вельмі добрыя*”[41]. Праект адбыўся. Адрэдагаваны Талстым артыкул “Ганеньні на хрысьціян у Расеі ў 1895 годзе”, дзе пададзены вялікі фактычны матэрыял аб становішчы духабораў і дзеяньнях паліцэйскіх уладаў у дачыненьні да іх, быў апублікаваны ў перакладзе Кенворці й Рапапорта ў газэце *“Times”* 23 кастрычніка 1895 г.; ён пабачыў сьвет з суправаджальным лістом і пасьлямовай Талстога[42]. Так пачалася шырокая міжнародная кампанія ў абарону духабораў.

---

[36] Воробьев, И. Толстовские колонии в Англии во второй половине 1890-х годов // Вестник Балтийского федерального университета им. И. Канта. Вып. 6. 2011. С. 141—146.

[37] Tolstoi, L. Master and Man. A Story / rendered from the Russian into English by S. Rapoport and John C. Kenworthy. London: Walter Scott, 1895. 64 p.

[38] Advertisements & Notices // Pall Mall Gazette. 3 May, 7 May 1895; Advertisements & Notices // Glasgow Herald. 9 May 1895; New Books // Glasgow Herald. 16 May, 23 May 1895.

[39] Л. Н. Толстой — В. Г. Черткову, 7 октября 1895 г. // Толстой, Лев. Полное собрание сочинений в 90 томах / под общей ред. В. Г. Черткова. Т. 87. Письма к В. Г. Черткову, 1890—1896. Москва: Художественная литература, 1937. С. 403.

[40] Письма Рапопорта Семена Исааковича В. Г. Черткову, 2 мая 1896 г. 3 марта 1905 г. // РДАЛМ. Ф. 552. Воп. 1. Спр. 2381.

[41] Толстой, Лев. Полное собрание сочинений. Т. 68. Письма 1895 г. Москва: Гос. изд. худ. лит., 1954. С. 183.

[42] Толстой, Лев. Собрание сочинений в 22 томах. Т. 19. Избранные письма 1882—1899 гг. Москва: Гос. изд. худ. лит., 1984. С. 145.

У аўтабіяграфічнай даведцы Рапапорт адзначае, што яму таксама належаць пераклады “Казкі пра Івана-дурня” й знакамітага кароткага пераказу “Евангельля” Льва Талстога — працы, за якую пісьменьнік быў адлучаны ад Царквы. Сапраўды, у 1896 г. у Лёндане ў выдавецтве Ўолтара Скота выйшаў пераклад кнігі на ангельскую мову, аўтар якога ня быў паказаны. Можна меркаваць, што ім быў Рапапорт сумесна з Кенворці[43]. Выявіць выданьне “Казкі пра Івана-дурня” ў перакладзе Рапапорта ў бібліятэчных фондах мне не ўдалося.

Сямён Рапапорт зрабіў унёсак і ў азнаямленьне чытачоў у Расеі з ангельскай літаратурай. Яму належыць пераклад на рускую мову п’есы Бэрнарда Шоў “Вучань д’ябла” (1901)[44]. У 1916 г. зь ягонай прадмовай ў Маскве выйшла аповесьць ангельскага пісьменьніка, драматурга й журналіста Нэйла Лаянса[45].

Да моманту Лютаўскай рэвалюцыі ў Расеі Сямён Рапапорт пражыў у Ангельшчыне амаль дваццаць сем гадоў. 16 студзеня 1917 г. датаваны захаваны ў РДАЛМ ліст журналіста ў рэдакцыю часопісу *“Голос минувшего”*[46]. Аж да ліпеня 1917 г. чытач сустракаў ягонае імя на старонках “*Вестника финансов, промышленности и торговли”*. Пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі расейскія выданьні, зь якімі Рапапорт супрацоўнічаў ці патэнцыйна мог супрацоўнічаць, былі зачыненыя. Самому ж Сямёну Ісаакавічу споўнілася 59 гадоў. Ён застаўся жыць і працаваць у Лёндане й канчаткова стаў часткай эміграцыйнай грамады выхадцаў з былой Расейскай імпэрыі ў Ангельшчыне. Сувязь з роднай краінай перапынілася. Адным зь першых ён стаў сябрам Лёнданскай асацыяцыі замежнай прэсы.

Пасьля заўчаснага сыходу з жыцця ў 1918 г. сына Юлія (грамадзкага дзеяча, таленавітага гісторыка, пісьменьніка, журналіста й перакладчыка) Сямён Ісаакавіч застаўся адзін. Але ён працягваў працаваць. У фондах бібліятэкі Брытанскага музэю захоўваецца асобнік складзенай Рапапортам у рускай мове й выдадзенай у Лёндане брашуры “Ангельская даведачная літаратура па гандлёва-прамысловых і сацыяльных

---

43 Tolstoy, Leo. The Gospel in Brief / Translated from the Russian original. Embodying the author’s last alterations and revisions. Croydon: Brotherhood Publishing Co. — London: Walter Scott, 1896. 226 p.

44 Шоу, Бернард. Ученик дьявола: (Безбожник): Мелодрама в 3 д. / пер. с англ. С. И. Рапопорт. Москва: “Польза” В. Антик и К°, 1911. 104 с.

45 Лайонс, Нейл. Письма к Матильде: [Повесть] / пер. с англ. Елены Тавы; С предисл. С. И. Рапопорта. Москва: Универсітетская бібліотека, 1916. 144 с.; [2-е изд.]. 1917.

46 Письма Рапопорта Семена Исааковича в редакцию журнала “Голос минувшего”, 13 мая 1915 г.; 16 января 1917 г. // РДАЛМ. Ф. 305. Воп. 1. Спр. 1102.

пытаньнях” (1919)[47]. У 1926 г. у часопісе “*Славянская книга*”, што выдаваўся ў Празе, ён апублікаваў сьпіс пэрыядычных выданьняў, што выйшлі ў рускай мове ў Ангельшчыне[48].

Відавочна, Сямёну Рапапорту неабходна было знайсьці новыя тэмы, запатрабаваныя выдаўцамі й чытачамі ў Эўропе. Ён намагаўся знайсьці месца сваім матэрыялам на “рускую” тэму ў сур’ёзных брытанскіх часопісах. Яшчэ да рэвалюцыі ў журналіста наладзілася супрацоўніцтва з *“The Economic Journal”*, для якога ён пісаў агляды кніг па эканоміцы, што выйшлі ў Расеі. У 1918 г. у часопісе *“Socialist Review”* зьявіўся нарыс Рапапорта “Ленін і Троцкі”. Матэрыяламі на актуальныя тэмы, у прыватнасьці зьвязанымі з рэвалюцыяй у Расеі, удалося зацікавіць лёндансkі часопіс *“The Contemporary Review”*. На працягу 1920-х гг. на ягоных старонках былі надрукаваныя нарысы “Прыхалёгія бальшавізму”, “Вызнаньне савецкай Расеі”, “Ці можа Расея плаціць?”. У 1928 г. *“The Contemporary Review”* надрукаваў артыкул Рапапорта, прысьвечаны праблемам перакладу расейскіх аўтараў на ангельскую мову. Прадаставіў свае старонкі для публікацыяў Рапапорта (1929 і 1930 гг.) і часопіс *“The Slavonic and East European Review”*, што выдаваўся Школай славянскіх і ўсходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў Лёнданскага ўнівэрсытэту. Аўтар быў ахарактарызаваны наступным чынам: *«выбітны расейскі журналіст, пэўны час карэспандэнт “Речи”, “Новостей” і “Недели”, таксама аглядальнік “Вестника Европы”, “Русской мысли”, “Северного вестника” й іншых, пісаў у розныя расейскія энцыклапэдыі»*.

Да апошняга часу была невядомая дата сыходу з жыцьця Сямёна Рапапорта. І толькі ўважлівае вывучэньне брытанскага рэгістратару сьмерцяў дазволіла яе ўзнавіць. Журналіст памёр у сакавіку 1934 г.[49].

Нягледзячы на тое што ўсё яшчэ ня вывучанае ліставаньне Сямёна Рапапорта, якое захоўваецца ў РДАЛМ, ІРЛМ і іншых архівасховішчах, мне ўдалося амаль што цалкам рэканструяваць дарэвалюцыйны пэрыяд ягонай журналісцкай дзейнасьці, зьвязаны з расейскімі выданьнямі.

---

[47] Английская справочная литература по торгово-промышленным и социальным вопросам / сост. С. И. Рапопорт. Лондон: Экономическое Бюро Русских Кооперативных Учреждений в Англии, 1919. VIII, 97 с.

[48] Раппопорт, Семен. Список периодических изданий, вышедших в Англии на русском языке, начиная с 1855 г. // Славянская книга: Месячник славянской библиографии. № 12. Прага: Пламя. 1926. С. 318—323.

[49] Semen Rapoport, 1934, Registration Quarter: January — February — March // England and Wales Death Registration Index 1837—2007, database, *FamilySearch* (https://familysearch.org/ark:/61903/1:1: QVHN-TQN6: accessed 28 February 2016); citing Death, Edmonton, Middlesex, England, General Register Office, Southport, England. Vol. 3A. Page. 776. Line 49.

Аднак застаецца практычна белай плямай у біяграфіі Рапапорта ягоная інтэнсіўная публікатарская праца ў ангельскай прэсе і ўвогуле ягонае штодзённае жыццё ў Лёндане.

*Публікацыі*

***Мікола Трус***
*Менск*

# ЖЫЦЬЦЁВЫЯ ПОВЯЗІ НА ЭЎРАПЕЙСКІХ СКРЫЖАВАНЬНЯХ: ЛЮДМІЛА КРАСКОЎСКАЯ Й ЛЯВОН РЫДЛЕЎСКІ

У некалькіх выпусках "Запісаў БІНіМ" мы ўжо мелі магчымасьць прадставіць жыцьцёвы шлях Людмілы Краскоўскай (1904—1999), археоляга, шматгадовай супрацоўніцы Славацкага нацыянальнага музэю (Браціслава), яе сувязі з рознымі пакаленьнямі беларускіх і ўкраінскіх дзеячаў культуры, асаблівую ролю ў захаваньні архіваў эмігрантаў міжваеннай Чэхаславаччыны[1].

Пасьля стварэньня асноўнага корпусу тэкстаў, падмацаванага візуальным шэрагам фотаздымкаў і дакумэнтаў, ёсьць магчымасьць перайсьці да асьвятленьня тэмаў, зафіксаваных у выніку нашых архіўных пошукаў больш фрагмэнтарна, але ня менш важных у агульным імкненьні ў найменшых дэталях, дагэтуль абмінутых дасьледнікамі, узнавіць панарамную карціну беларускай грамадзка-культурнай чыннасьці ў Цэнтральнай і Заходняй Эўропе 1920—1940-х гг.

Супольныя жыцьцёвыя шляхі Людмілы Краскоўскай і Лявона Рыдлеўскага (1903—1953) пралягалі праз Віленскую беларускую гімназію й атрыманьне вышэйшай адукацыі ў Чэхаславаччыне. Людміла Краскоўская закончыла Карлаў унівэрсытэт у Празе (1929), Украінскі вышэйшы пэдагагічны інстытут імя М. Драгаманава (1927), была слухачкай Украінскага вольнага ўнівэрсытэту (з 1924 г.). Дыплём інжынэра Лявон Рыдлеўскі атрымаў у Вышэйшым політэхнічным інстытуце ў Падэбрадах (1929).

Людміла Краскоўская й Лявон Рыдлеўскі ўваходзілі ў найбліжэйшае сяброўскае кола беларускага студэнцтва ў Чэхаславакії 1920-х гг.,

---

[1] Трус, Мікола. З гісторыі роду Краскоўскіх // Запісы БІНіМ. № 36. New York — Miensk, 2013. С. 163—171; Той жа. Старонкі жыцьця й архіўныя зборы Людмілы Краскоўскай // Запісы БІНіМ. № 36. New York — Miensk, 2013. С. 172—180; Той жа. З архіваў Людмілы Краскоўскай // Запісы БІНіМ. № 36. New York — Miensk, 2013. С. 189—215; Той жа. Браціслаўскі архіў Людмілы Краскоўскай: беларускія і ўкраінскія зборы дакумэнтаў // Запісы БІНіМ. № 37. New York — Miensk, 2014. С. 637—644.



У другім шэрагу стаяць: Лявон Рыдлеўскі, Людміла Краскоўская, Леанід Мэнке. Буштына (Падкарпацьце), 1925 г.
*З прыватнага збору Міколы Труса*

дзе апроч іх былі Ўладзімер Жылка, Міхась Каберац, Гіляры Дварчанін, Яўген Дыліс, Любоў Вернікоўская й Лізавета Мілоўская.

У адшуканых намі менскіх лістах Уладзімера Жылкі 1927—1928 гг., адрасаваных Людміле Краскоўскай, неаднаразова сьведчыцца ўвага паэта да сваіх сяброў у Чэхаславаччыне: *"Каберца згадваю кожны дзень — як я яго люблю і як шкада яго. Жыцьцё не справядліва да сваіх лепшых, а такіх, як Міхась, мала — вельмі мала. Напішы яму і прывітай ад мяне. Ведаеш, каб разказаць, колькі ў мяне любові і нежнасьці да ўсіх вас... Долі толькі ня маем. Вітай Жэньку, Лізу, Гіляра, Міхася"*; *"Што думае рабіць Жэнька, Лёўка, дзе Гіляр і што з тымі хлопцамі, што паехалі ў Польшчу. Пішы дакладна. Я рад аб іх пачуць і буду табе ўдзячны за вестку"*; *"Вітай усіх, хто яшчэ згадвае мяне і ў першую чаргу Жэньку, Міхася, Гіляра, Леўку, Любу (што яна робіць і куды едзе?), Лізу і іншых каго я любіў"*[2].

Ведама, што ў 1929 г. Лявон Рыдлеўскі разам зь Міколам Абрамчыкам перабраўся з Чэхаславаччыны ў Францыю. Міхась Каберац, калі знаходзіўся на лячэньні ў чэскім санаторыі, цікавіўся ў Людмілы Краскоўскай у лісьце ад 7 лістапада 1930 г.: *"Ці пішуць Вам, Людка, Мікола (Мікола Абрамчык. —* М. Т.*) з Лёўкай? Дзе яны і што з імі? Калі маеце адрэсу Лёўкі, дык прышліце мне яе. Пашлю яму хоць паштоўку і палаю яго трошку, што аба мне ён ніколі ня ўспомніць. Хоць-бы адкрытачку калі небудзь паслаў з дарогі, а то ні слуху ні духу! Аднačасна з Вашым лістом, пішу яшчэ ліста Жэньку"*[3].

Візуальным пацьверджаньнем існаваньня цеснай беларускай сябрыны ў Чэхаславаччыне 1920-х гг. зьяўляецца невялікая падборка адшуканых намі фотаздыздымкаў таго часу, якія захоўвала Людміла Краскоўская. На першым зь іх рукой былой уласьніцы пазначана паўкраінску: *"Буштино. Підкарпаття"*. Сёньня Буштына (укр. *Буш-*

[2] Трус, Мікола. З архіваў Людмілы Краскоўскай. С. 194—195.

[3] Трус, Мікола. З архіваў Людмілы Краскоўскай. С. 204—205.

*тино / Буштина*) — пасёлак гарадзкога тыпу ў Цячэўскім раёне Закарпацкай вобласьці Ўкраіны. У міжваенны пэрыяд гэта тэрыторыя Падкарпацкай Русі ў складзе Чэхаславацкай Рэспублікі. Эканамічна адсталы рэгіён ЧСР быў прываблівы для адпачынку студэнцтва сваёй некранутай прыродай і невысокімі коштамі.



Яўген Дыліс, Лізавета Мілоўская (Дыліс), Лявон Рыдлеўскі, Людміла Краскоўская. Чэхаславакія, 1929 (?) г. *З фондаў Славацкага нацыянальнага музэю*

На пастановачным студыйным здымку зьнятыя пяцёра асобаў у нацыянальных строях. Дзьвюх дзяўчат зь першага раду ідэнтыфікаваць пакуль не ўдалося. З пэўнасьцю можна сьцьвярджаць, што ў другім шэрагу стаяць Лявон Рыдлеўскі, Людміла Краскоўская й Леанід Мэнке. Датаваць фотаздымак дапамаглі пошукі ў архіве Славацкага нацыянальнага музэю (асабісты фонд Людмілы Краскоўскай, на час знаёмства зь ім аўтара гэтых радкоў — не апрацаваны). У адной з аўтабіяграфіяў Людміла Краскоўская падрабязна пазначыла месцы свайго побыту ў Чэхаславаччыне да 1931 г. Паводле гэтых запісаў, у ліпені — жніўні 1925 г. яна пражывала ў вёсцы Буштына на Падкарпацкай Русі. Гэта пацьвердзіла й паштоўка, адпраўленая Яўгенам Дылісам з Радоціна каля Прагі: *“Люда! Перасылаю Вам усю Вашую карэспандэнцыю.* 2 з *Дзьвінска, адно з Менску. Атрыманы яны сягодня. Як-жа Вам жывецца? Але перш наперш, як дабраліся? Чуў што размінуліся з Л. Нічога, удасца! Шанцуе Вам, хоць куды! Вы яшчэ не зьбіраецесь уцякаць з пекнага Падкарпацьця?”*. Пад ініцыялам Л. тут можа быць згаданы й Лявон Рыдлеўскі (што больш пэўна), і Леанід Мэнке.

Наступны здымак можна датаваць не пазьней за 1929 г., калі Лявон Рыдлеўскі выехаў у Францыю. На ім на лясной дарозе стаяць Яўген Дыліс, Ліза Мілоўская (Дыліс), Лявон Рыдлеўскі й Людміла Краскоўская. Здымак з гэтай сэрыі быў ужо апублікаваны намі ў “Запісах БІНіМ” (№ 36): тыя ж асобы, толькі сядзяць на траве, тая ж вопратка.

## Кузьня тэхнічных кадраў — Падэбрады

У некаторых крыніцах памылкова сцьвярджаецца, што Лявон Рыдлеўскі вучыўся ў Вышэйшым політэхнічным інстытуце ў Падэбрадах. З Падэбрадамі ён быў зьвязаны, жыў тут у час 1928/29 навучальнага году. Вучыўся ж Рыдлеўскі на сельскагаспадарчым аддзяленьні Вышэйшай школы сельскагаспадарчай і лясной інжынэрыі (*Vysoka škola zemědělského a lesního inženyrství, obor zemědělský*), што знаходзілася ў Празе. Гэта была ўласна чэская, а не эмігранцкая вышэйшая навучальная ўстанова, самастойная, але пры гэтым яна ўваходзіла ў агульную структуру політэхнічнага інстытуту — *ČVUT*. (Інфармацыю дапамог спраўдзіць дасьледнік Сяргей Кнырэвіч.)

У Падэбрадах знаходзілася знакамітая Ўкраінская гаспадарчая акадэмія. Дзейнасьць гэтай адукацыйнай установы сьцісла прадстаўленая ў кнізе “Ўкраінская гаспадарчая акадэмія”[4] (1931), найбольш разгорнута й шматгранна, з вышыні пройдзенага часу — у выданьні “Ўкраінская гаспадарчая акадэмія ў ЧСР. 1922—1935”[5] (1959). УГА закончылі двое яркіх прадстаўнікоў праскай школы ўкраінскай паэзіі — Яўген Маланюк (укр. *Євген Маланюк*, 1897—1968), які цесна супрацоўнічаў зь беларускай эміграцыяй, і Леанід Мосендз (укр. *Леонід Мосендз*, 1897—1948), добры знаёмы Людміле Краскоўскай па браціслаўскім пэрыядзе ягонага жыцьця й творчасьці. (У прыватным зборы аўтара гэтых радкоў захоўваецца некалькі фотаздымкаў паэта, у тым ліку з дарчымі подпісамі Людміле Краскоўскай, а таксама ліставаньне вузкага кола ўкраінскай сябрыны ў Браціславе, у якім Леанід Мосендз неаднаразова згадваецца.)

Інжынэр-гідратэхнік Яўген Маланюк, які ў 1928 г. закончыў гідратэхнічны факультэт акадэміі, з уласьцівымі яму красамоўствам ды іроніяй, кантраставай на фоне інфармацыйнай напоўненасьці й навуковай староннасьці асноўнага зьместу кнігі, даў наступную характарыстыку першых гадоў украінскай эміграцыі й гістарычнай ролі УГА: *“Эміграцыю, што на пачатку заўсёды зьяўляецца больш або менш хаатычным станам бежанства, можна ахарактарызаваць як неўпарадкаванае поле сілаў, скіраваных у розныя, вельмі часта ўзаемна процілеглыя бакі... [...] У 1921 і 1922 гадах нашая эміграцыя, якая знаходзілася пераважна ў лягерах інтэрнаваных, уяўляла сабой такое хаатычнае поле сілаў. Лекары рэдагавалі часопісы. Вайскоўцы*

[4] Українська Господарська Академія / Товариство прихильників Української Господарської Академії. Прага — Подєбради, 1931. 39 с.

[5] Українська Господарська Академія в Ч.С.Р. 1922—1935 / Українська висока політехнічна школа на чужині. Том І. Ню Йорк: Видано Абсольвентами Української Господарської Академії та Українського Технічно-Господарського Інституту, 1955. 247 с.

*ігралі на сцэне. Інжынэры музыцыравалі. Палкоўнікі выкладалі тэорыю Эйнштэйна. Генэралы часам нават вышывалі. Цэнтральныя камітэты партыйных прывідаў адбывалі паседжаньні, а графаманы, як звычайна, пісалі вершы. Поруч з шматлікімі трупамі й капэламі паўставалі ня менш шматлікія народныя й ненародныя ўнівэрсытэты*"; "*25 гадоў таму ў чэскіх Падэбрадах украінская энэргія згуртавалася й скіравалася ў канструктыўным напрамку творчай працы. Плённыя вынікі таго згуртаваньня й скіраваньня хутка сталі відавочнымі для ўсіх, ня толькі ўкраінцаў*"[6].

У сьпісе абсальвэнтаў (выпускнікоў) УГА 1927—1933 гг. знаходзім шэраг выхадцаў зь беларускіх земляў: Юрый Бурак, Антон Былінскі, Аляксандар Барткевіч, Уладзімер Талькоўскі, Мікола Абрамчык, Грыгорый Яфрэменка, Аляксандар Жыховіч, Дзямян Малько, Аляксандар Паўлаў, Павал Хадаркевіч і інш. На асобнай старонцы згаданага выданьня зьмешчаныя два фотаздымкі беларускага зямляцтва: партрэтная выява Міколы Абрамчыка (у 1929 г. закончыў эканамічна-каапэратыўны факультэт УГА з дыплёмам інжынэра-эканаміста), калектыўны здымак (сем асобаў) з подпісам "*Гурток беларусаў*"[7].

## Пад сьцягам Багдановіча

Наступныя знаходкі дапамаглі ўзнавіць і актуалізаваць цэлы ланцужок фактаў пэрсанальных творчых зацікаўленьняў і міжнароднага супрацоўніцтва. Як вядома, у 1976 г. Людміла Краскоўская перадала вялікую калекцыю архіўных дакумэнтаў сваёй сям'і ў Фундамэнтальную бібліятэку імя Якуба Коласа АН БССР. Абставіны гэтай перадачы нам удалося асьвятліць праз адшуканую й сыстэматызаваную перапіску Людмілы Краскоўскай і загадчыцы аддзелу рэдкіг кніг і рукапісаў Лідзіі Збралевіч[8]. У ліку перададзеных матэрыялаў быў зборнік Максіма Багдановіча "Вянок" (1913). Адзін з 42 ведамых сёньня асобнікаў, якія трымаюцца ў полі зроку дасьледнікаў і захоўваюцца ў розных краінах, у дзяржаўных і прыватных зборах. На вокладцы кнігі подпіс уласьніцы: "*Л. Краскоўскай. Дзьвінск, 1922 г.*". Кніга захавалася ў неблагім стане, але відаць, што была ў пастаянным чытацкім ужытку.

У беларускім асяродку Чэхаславаччыны творчасьць "*песьняра чыстае красы*" (як казаў Антон Луцкевіч) асабліва шанавалася. Уладзімер

---

[6] Маланюк, Є. Чвертьстоліття (з ювілейної промови 16 травня 1947) // Українська Господарська Академія в Ч.С.Р. 1922—1935. С. 127.

[7] Українська Господарська Академія в Ч.С.Р. 1922—1935. С. 206.

[8] Перапіска Лідзіі Збралевіч і Людмілы Краскоўскай // Трус, Мікола. Брацiслаўскі эпісталярый: славацка-беларускі архіўны дыскурс ХХ стагоддзя. Мінск: Беларуская навука, 2019. С. 183—195.






“Выбраныя творы” М. Багдановіча з дарчым надпісам Лявона Рыдлеўскага.
*З прыватнага збору Міколы Труса*

Жылка пісаў Антону Луцкевічу з Прагі ў Вільню 29 сьнежня 1925 г.: *«...я “всерьез и надолго” ўзяў курс на М. Багдановіча, не ведаю, ці прыдуся да двара. Шкада, што не магу развіваць сваіх думак у друку. Але за свой Сцяг (Максіма) гатовы змагацца»*[9].

Людміла Краскоўская ў адказах на пытаньні дасьледніка Ўладзімера Калесьніка, які шмат гадоў займаўся праблемамі ўзнаўленьня фактаў беларускай грамадзка-культурнай чыннасьці за мяжой, пісала ў лісьце ад 7 красавіка 1991 г.: *“Міхась (Каберац.* — М. Т.*) быў вельмі чэсны і разумны хлопец, і яго смерць нас усіх вельмі засмуціла. Калі ён быў у санаторыі, У. Жылка яму перадаў першы том твораў М. Багдановіча, які тады выйшаў. Наколькі я памятаю, другі том Багдановіча знішчылі адразу пасля яго выдання”*[10].

Дарэчы будзе нагадаць, што ініцыятыва заснаваньня гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах, пра якую мы вялі гаворку вышэй, належала Ўкраінскаму грамадзкаму камітэту ў Празе, на чале якога быў выбітны грамадзкі й палітычны дзеяч, колішні міністар ва ўрадзе УНР Мікіта Шапавал (укр. *Микита Шаповал*, 1882—1932). Мікіта Юхімавіч быў адным зь першых перакладчыкаў Багдановіча на ўкраінскую мову, па-

[9] Жылка, Уладзімір. Выбраныя творы / уклад., прадм. і камент. М. Скоблы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. С. 274.

[10] Слядамі “Ветразяў Адысея” [Перапіска Уладзіміра Калесніка і Людмілы Краскоўскай] // Трус, Мікола. Браціслаўскі эпісталярый: славацка-беларускі архіўны дыскурс XX стагоддзя. Мінск: Беларуская навука, 2019. С. 137.





Лявон Рыдлеўскі й Людміла Краскоўская. Парыж (?), 1947 (?) г.
*З фондаў Славацкага нацыянальнага музэю*

пулярызатараў маладой беларускай паэзіі ва ўкраінскім друку пачатку XX ст. Так, на старонках часопісу *“Літературно-науковий вісник”* (1909, кн. 9) былі апублікаваныя пераствораныя ім вершы *“Над могилою”* й *“Прийде весна”*.

Сярод кніг, якія пасьля сьмерці Людмілы Краскоўскай патрапілі да прыватных асобаў у Браціславе, намі адшуканыя “Выбраныя творы” Максіма Багдановіча (Мінск, 1946) з дарчым надпісам: *“На добрую памятку аб доўгім знаёмстве. Лявон. Парыж. 1947”*. Ужо сам факт таго, што кніга, выдадзеная ў пасьляваеннай БССР, неўзабаве знаходзілася ў прыватным абарачэньні ў далёкай Францыі, выклікае зьдзіўленьне.

Паколькі яна належала Краскоўскай, лягічна меркаваць аб адрасаце дарчага надпісу.

Выяўленыя намі два фотаздымкі ў фондах Славацкага нацыянальнага музэю дадалі інтрыгоўнасьці. На іх Людміла Краскоўская й Лявон Рыдлеўскі. Адзін студыйны, другі зроблены ў хатняй, можна сказаць, халасьцяцкай абстаноўцы. Узьнікае шэраг пытаньняў: калі, дзе й кім зробленыя гэтыя здымкі (асабліва другі)? Магчыма дапусьціць, што сустрэча даўніх сяброў адбылася ў Францыі, у тым жа 1947 годзе. На той час Краскоўскай было 43, Рыдлеўскаму — 44 гады.

Адказы на агучаныя намі ды іншыя пытаньні можа даць далейшая пошукавая праца ў архівах. Важна, што перад намі ўжо ёсьць некалькі фрагмэнтаў гістарычнага пазлу асобасных узаемадачыненьняў, творчых памкненьняў адметнай генэрацыі беларускіх інтэлектуалаў на фоне тэктанічных зрухаў эўрапейскага жыцьця першай паловы XX ст.

## *Публікацыі*

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# МАЛАВЕДАМЫЯ СТАРОНКІ БІЯГРАФІІ ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ: ЛОДЗЕНСКІ Й АРГЕНТЫНСКІ СЬЛЯДЫ Ў ЖЫЦЬЦІ РАДАСЛАВА АСТРОЎСКАГА

Радаславу Астроўскаму было наканавана пакінуць пасьля сябе значны сьлед на старонках беларускага нацыянальнага руху XX ст. Невыпадкова ягоная дзейнасьць неаднаразова была прадметам навуковай увагі. Дасьледнікі па-рознаму ацэньваюць ролю, якую Астроўскі адыграў у гісторыі беларускага нацыянальна-адраджэнчага руху. Безумоўна, можна па-рознаму ставіцца да многіх ягоных крокаў і ўчынкаў як палітыка й грамадзкага працаўніка. Аднак, на жаль, дасюль у гістарыяграфіі дамінуюць скрайныя ацэнкі гэтага беларускага дзеяча. У выніку мы маем чорна-белы вобраз рэчаіснасьці, а ў сапраўднасьці жыцьцё й дзейнасьць героя гэтай публікацыі былі куды больш складаныя й цікавыя, чым можа здавацца і прыхільнікам, і нядобразычліўцам. Нягледзячы на тое што Радаславу Астроўскаму прысьвечана ўжо даволі шмат публікацыяў (як на бацькаўшчыне, гэтак і на чужыне), у ягоным жыцьцяпісе па-ранейшаму застаецца шмат белых плямаў. У Інстытуце нацыянальнай памяці ў Варшаве захоўваюцца цікавыя дакумэнты, якія кідаюць сьвятло менавіта на найбольш недасьледаваныя старонкі жыцьця й дзейнасьці прэзыдэнта БЦР. Гэтыя крыніцы ў значнай ступені адлюстроўваюць лодзенскі (1936—1941) і аргентынскі (1950—1952) пэрыяды ягонага жыцьця. У абодвух выпадках мы маем дачыненьне з сытуацыяй, калі беларускі дзеяч зьнікаў з грамадзка-палітычнага далягляду, каб потым зноўку вярнуцца да актыўнай дзейнасьці.

Зараз варта прыгадаць абставіны, якія спрычыніліся да таго, што Астроўскі апынуўся ў Лодзі й Аргентыне. У Лодзь будучы прэзыдэнт БЦР завітаў у 1936 г., пераведзены зь Вільні. Па сутнасьці, горад стаў прытулкам для беларускага дзеяча, які мусіў зьехаць у выніку непаразуменьняў і вэрхалаў, удзельнікам якіх ён быў. Астроўскаму неабходна было "ў цішыні" перачакаць тую навальніцу, у атмасфэры якой былы лідар "беларускай санацыі" пакідаў Вільню й пасаду дырэктара Віленскай беларускай гімназіі. У Лодзі ён атрымаў працу настаўніка



Радаслаў Астроўскі. 1930-я гг. Здымак з фондаў БДАМЛМ

фізыкі ў мясцовай гімназіі. У горадзе беларусы былі рэдкасьцю, але затое існавала даволі значная расейская калёнія, якая гуртавалася вакол праваслаўнай царквы Сьв. Аляксандра Неўскага.

Праваслаўная супольнасьць міжваеннай Лодзі налічвала каля 2000 вернікаў. Сярод іх быў і Радаслаў Астроўскі. Яму ўдалося наладзіць добрыя адносіны зь некаторымі ўплывовымі лодзенскімі расейцамі. У 1939 г. горад апынуўся пад нямецкай акупацыяй і быў далучаны да Трэцяга рэйху. Увесну 1940 г. захопнікі пачалі выкарыстоўваць новы назоў гораду — Ліцманштат (у гонар нямецкага генэрала Карла фон Ліцмана). Ва ўмовах акупацыі актывізавалася дзейнасьць некаторых нацыянальных групаў, у тым ліку — беларусаў. У горадзе й ваколіцах знаходзілася пэўная колькасьць суродзічаў — польскіх ваеннапалонных, якія паступова вызваляліся зь лягераў і набывалі статус іншаземных работнікаў. Беларускі актыў у Бэрліне пачаў рабіць захады, каб у найбуйнейшых гарадах Рэйху стварыць мясцовыя аддзелы Беларускага камітэту самапомачы (БКС). Аддзел БКС у Лодзі быў створаны 13 верасьня 1940 г., а першым старшынём стаў Вітаўт Тумаш. Аднак фактычная дзейнасьць распачалася толькі 25 кастрычніка 1940 г. У наступныя гады назіраўся сталы рост колькасьці сябраў гэтай арганізацыі. Паводле зьвестак тагачаснай беларускай прэсы, напрыканцы 1940 г. у шэрагах камітэту налічвалася звыш 300 сябраў, але зь цягам часу іх колькасьць павялічылася да тысячы чалавек. Мы ведаем рэлігійны склад удзельнікаў Лодзенскага аддзелу. Так, у студзені 1941 г. да камітэту належала 400 чалавек, сярод якіх было 310 каталікоў і 90 праваслаўных[1]. Арганізацыя праводзіла культурна-асьветную працу, ладзіла курсы беларусаведы, мела ўласную бібліятэку.

Галоўнай прычынай імклівага росту колькасьці ўдзельнікаў беларускай арганізацыі на абшары, дзе перад вайной беларусаў амаль не было, зьяўляецца тое, што ў ейных шэрагах знаходзілася шмат прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, якія, кіруючыся рознымі меркаваньнямі, дэкляравалі сябе беларусамі й запісваліся ў сябры камітэту. Ва ўмовах жорсткай акупацыйнай рэчаіснасьці сяброўскае пасьведчаньне БКС ня толькі давала пэўныя матарыяльныя выгоды, але й магло дапамагчы пазьбегнуць рэпрэсіяў з боку нямецкіх уладаў, якія фаварызавалі нацменаў у супрацьвагу польскаму насельніцтву. Такім

[1] Grzybowski, Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939—1956. Warszawa 2011. S. 101.

чынам, у складзе Лодзенскага камітэту апынуліся палякі, якія паходзілі "з-за Бугу". Менавіта гэтай акалічнасьцю належыць тлумачыць вышэйзгаданы рэлігійны склад Лодзенскага БКС. Пры гэтым сярод сяброў беларускага камітэту былі вядомыя людзі, прадстаўнікі інтэлігенцыі.

Беларускія крыніцы падаюць, што на чале камітэту ў Лодзі быў Вітаўт Тумаш, а потым (ад лета 1941 г.) Мікалай Габруковіч[2]. Якое ж дачыненьне да Лодзенскага БКС меў Радаслаў Астроўскі? На падставе некаторых крыніцаў можна меркаваць, што менавіта ён заснаваў Лодзенскі аддзел, якім потым і кіраваў. На дадзены момант адсутнічаюць пераканаўчыя доказы, якія б пацьвярджалі гэтую інфармацыю. Разам з тым у сьвятле ўжо ведамых фактаў не падлягае сумневу, што незалежна ад пасады, якую Астроўскі займаў, гэты беларускі дзеяч адыгрываў ці не асноўную ролю ў арганізацыі й функцыянаваньні камітэту ў Лодзі ад моманту стварэньня да сярэдзіны 1941 г.

На момант заснаваньня Лодзенскага БКС Астроўскі знаходзіўся ў горадзе, за чатыры гады жыцьця ён добра пазнаёміўся з жыхарамі, быў ведамы ў мясцовых інтэлігенцкіх колах. Калі браць пад увагу досьвед і амбіцыі, гэты чалавек ня мог застацца ўбаку ад падзеяў, сьведкам якіх яму давялося быць. Няцяжка ў гэтым пераканацца, азнаёміўшыся з дакумэнтацыяй па тэме Беларускага камітэту ў Лодзі, якую ў паваенныя гады назапашылі супрацоўнікі апарату дзяржаўнай бясьпекі Польшчы. Апошнія вельмі цікавіліся ўсімі праявамі дзейнасьці "беларускіх нацыяналістаў" падчас нямецкай акупацыі. У выніку захаваліся досыць падрабязныя зьвесткі пра знаходжаньне Астроўскага ў акупаванай Лодзі. З прыходам немцаў і да студзеня 1940 г. ён займаў пасаду віцэ-дырэктара гімназіі, у якой да гэтага працаваў настаўнікам. Акрамя таго, нейкі час працаваў як чыноўнік у нямецкай арганізацыі *Trenhand Stale*. Спачатку ён займаў кватэру на вуліцы Ажэшкі, 31, але ўлетку 1940 г. пераехаў у трохпакаёўку, якая месьцілася на Магістрацкай, 4. Ведама таксама, што Астроўскі ня жыў сам, а дзяліў дах з аптэкаркай Ядвігай П., якая паходзіла з-пад Пшэмысьля[3]. Пасьля вайны сваё жаданьне жыць з Астроўскім яна тлумачыла тым, што была самотная й баялася нямецкіх рэпрэсіяў, а дзеяч як супрацоўнік немцаў мог яе абараніць. Вось, які запіс пакінуў супрацоўнік камуністычнай бясьпекі пасьля размовы з жанчынай: *«Астроўскі, працуючы ў БК, у Лодзі распавядаў [...] Ядвізе, што ён як беларус імкнецца да адарваньня беларускіх земляў ад СССР і хоча стварыць новую "магутную самастойную беларускую дзяржаву", прычым выкарыстоўваў фразэалёгію пра дабрабыт для беларускага народу. Выразна сымпатызаваў*

---

[2] Раніца. 20 сьнежня 1941. С. 3.

[3] Archiwum Instytutu Pamięci Narodowej (AIPN). Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 41.

*гітлераўскай Ня*меччыне»[4]. У падобным стылі выказвалася й Кацярына Дзяржынская[5], якая асабіста ведала Астроўскага падчас ягонага знаходжаньня ў Лодзі: *"Ведаю, што ён быў старшынём Беларускага Нацыяналістычнага Камітэту ў Лодзі, аб чым сам распавядаў. Хваліўся, што змагаецца за Самастойную Беларускую Рэспубліку"*[6].

Лодзенскі пэрыяд жыцьця Радаслава Астроўскага працягваўся да лета 1941 г., калі ён пакінуў горад і накіраваўся ў Беларусь з мэтай удзелу ў стварэньні мясцовай акупацыйнай адміністрацыі. Аднак і тады Астроўскі не забываўся пра сваю лодзенскую кватэру. У часе службовых паездак у Бэрлін ён затрымоўваўся ў Лодзі, каб наведаць гаспадыню сваёй кватэры. Дзеяч таксама ўтрымліваў карэспандэнцыйную сувязь з былой каханкай, высылаў ён грошы на аплату камунальных паслуг, наняў пакаёўку. Спачатку ёй была Антаніна З., а потым Яніна В. Апошняя падавалася за сваячніцу Астроўскага[7]. Празь нейкі час ў лодзенскай кватэры Астроўскага жылі жонкі Вітаўта Тумаша й Мікалая Шкялёнка. Прычынай часовага знаходжаньня жанчын у Лодзі былі частыя бамбардаваньні Бэрліну. Марыя Шкялёнак не знайшла агульнай мовы з гаспадыняй. Паводле апошняй, Шкялёнкава неаднаразова даносіла на яе ў гестапа, распавядаючы, што нібыта яна сабатуе нямецкую аптэку, прадае лекі палякам, а не нямецкім жаўнерам, а ў хаце размаўляе толькі па-польску[8]. Аднак вартаўнік дому, у якім жыла Ядвіна П., лічыў, што прычынай непаразуменьняў паміж жанчынамі былі паводзіны гаспадыні, аб чым Шкялёнкава інфармавала свайго мужа й Астроўскага. Урэшце стомленая паводзінамі гаспадыні жонка Шкялёнка мусіла пакінуць Лодзь[9].

Аргентына стала часовым прыпынкам на жыцьцёвым шляху Астроўскага ўжо пасьля Другой сусьветнай вайны. Паваенная міжнародная атмасфэра, якая запанавала адразу пасьля заканчэньня баявых дзеяньняў, не спрыяла дзейнасьці ў якасьці кіраўніка БЦР — органу, які

---

[4] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 172—175.

[5] **Кацярына Дзяржынская** (з дому Авяр'янава, 1888—1976), другая жонка Ўладзіслава Дзяржынскага, руская па паходжаньні.

[6] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 172—175.

[7] Вось, што пра яе напісаў інфарматар пад псэўданімам Кракавян у нататцы (5 чэрвеня 1956 г.): "*Замэльдавалася як сваячка Астроўскага, афіцыйнай працы ня мела, а ўтрымоўвалася, хутчэй за ўсё, з гандлю. Яна і ейная сятра мелі беларускія аўсвайсы й належалі да Беларускага Камітэту... [...] Ейныя зацікаўленьні не выходзілі па-за гандаль і кавалераў, але пра яе, аднак, магу сказаць, што яна лічыла сябе беларускай больш, чым іншыя, каго я ведаў*" (AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 134).

[8] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 111—116.

[9] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 100.

паўсюдна атаясамліваўся з супрацоўніцтвам з Трэцім рэйхам. Неўзабаве Астроўскі быў вымушаны нават спыніць на нейкі час працу арганізацыі, а сам адысьці ад грамадзка-палітычнай актыўнасьці. Вяртаньне на палітычную сцэну ва ўмовах эміграцыі (рэактывацыя БЦР у 1948 г.) адбывалася ў абставінах вострай канкурэнцыі й барацьбы за ролю ачольніка беларускага нацыянальна-вызваленчага руху на чужыне. Як ведама, гэта выклікала закалот у шэрагах беларускай эміграцыі й яе падзел на "крывічоў" і "зарубежнікаў".

На працягу першых паваенных гадоў Радаслаў Астроўскі знаходзіўся ў Заходняй Нямеччыне. Разам з тысячамі сваіх суродзічаў ён атрымаў статус перамешчанай асобы (*DP*) і карыстаўся апекай *UNRRA*. Аднак *DP* разумелі, што іх знаходжаньне ў Нямеччыне мае часовы характар. На працягу 1940-х г. адбываўся іх выезд у іншыя дзяржавы, а лягеры паступова ліквідоўваліся. Тыя, хто па зразумелых прычынах не зьбіраўся вяртацца на Бацькаўшчыну, мусілі паруліцца пра ўладкаваньне на Захадзе. Адным з напрамкаў эміграцыі была Паўднёвая Амэрыка, краіны якой, кіруючыся эканамічнымі меркаваньнямі, выказвалі цікавасьць у прыняцьці часткі перамешчаных асобаў. Асабліва гэта тычылася прадстаўнікоў прафэсіяў, на якія існавала запатрабаваньне. Можна меркаваць, што рашэньне Радаслава Астроўскага аб эміграцыі менавіта ў Аргентыну ў значнай ступені вынікала з асабістых абставінаў. Ён не абіраў падарожжа ў цалкам невядомую краіну, дзе быў бы пазбаўлены сувязяў са знаёмымі й сваякамі. Рэч у тым, што яшчэ раней у Паўднёвую Амэрыку выехала ягоная дачка зь сям'ёй. Галіна й Мікалай Мінкевічы перабраліся ў Аргентыну яшчэ ў студзені 1949 г. Яны былі лекарамі, што дазваляла забясьпечыць сям'і больш-менш годнае матарыяльнае становішча.

Захаваліся досыць падрабязныя зьвесткі наконт часу прыезду Радаслава Астроўскага ў Аргентыну. Ведама, што ён прыбыў у Паўднёвую Амэрыку на караблі *"Campana"*, які прыплыў з Марсэлю (Францыя) 21 сьнежня 1950 г. У рубрыцы "Прафэсія" ў ягоных дакумэнтах было пазначана *"электрык"*[10]. З гэтага часу пачаўся аргентынскі пэрыяд жыцьця Радаслава Астроўскага, які доўжыўся да 1952 г., пакуль ён вярнуўся ў Эўропу.

Няпоўныя два гады ў лацінаамэрыканскай краіне былі часам, калі Астроўскі знаходзіўся на ўзбочыне грамадзка-палітычнага руху. Адлегласьць рабіла немагчымым актыўны ўдзел у жыцьці беларускай дыяспары, расьцярушанай па розных кутках сьвету. Акрамя прэзыдэнта БЦР, у Аргентыне беларусы ўжо дзейнічалі. Ад 1947 г. нацыянальна арыентаванай беларускай калёніяй кіраваў Кастусь Мерляк, прыхільнік Рады БНР, зь якой Астроўскаму было не па дарозе. У Аргентыне лідар

[10] www.cemla.com/buscador/ostrowski (дата доступу: 15.07.2018).

БЦР жыў у правінцыі Сан-Люіс (каля 800 км ад Буэнас-Айрэсу), дзе дзяліў хатнюю гаспадарку з дачкой, зяцем і ўнукамі. Праз нейкі час да іх далучыўся сын Астроўскага — Віктар. Сям'я Астроўскіх-Мінкевічаў асела спачатку ў мясцовасьці Сан-Марцін, а потым Нашчэль, якая знаходзілася ў цяжкадаступнай частцы краіны. Зь лістоў Радаслава Астроўскага вынікае, што сям'я змагалася са шматлікімі матэрыяльнымі й маральнымі цяжкасьцямі. Пра Аргентыну — ейны клімат і людзей — ён узгадваў зь непрыхаванай агідай і непрыхільнасьцю: *"рэкі без вады, кветкі бяз паху, людзі бяз гонару"*. Ён наракаў на лёс і шкадаваў, што прыехаў у Паўднёвую Амэрыку. Відавочна, што жыцьцё Прэзыдэнта БЦР у Аргентыне было пазбаўлена пэрспэктываў. Перадусім не спрыяла эканамічная сытуацыя ў краіне. Больш за тое, чалавек зь ягонымі амбіцыямі пачуваўся як у далёкай правінцыі. Не павінна здзіўляць, што ўжо ў траўні 1952 г. ён выехаў у Эўропу — спачатку ў Нямеччыну, а потым у Ангельшчыну. У хуткім часе ўсе сваякі Астроўскага таксама пакінулі Аргентыну: сын выехаў раней за ўсіх, а дачка зь зяцем — пасьля бацькі.

У архіўных зборах Інстытуту нацыянальнай памяці ў Варшаве захоўваюцца дакумэнты, якія даюць пэўнае ўяўленьне наконт лодзенскага й аргентынскага пэрыядаў жыцьця Радаслава Астроўскага. Гэта лісты беларускага дзеяча да сяброўкі ў Польшчы, якія былі напісаны ў паваенныя гады. Дадзенае ліставаньне ня толькі можа спатрэбіцца тым, хто цікавіцца постацьцю Астроўскага, але таксама ўяўляе сабой крыніцу па гісторыі беларусаў у Польшчы й Аргентыне. Прычыны зьяўленьня гэтых лістоў сягаюць ваеннага часу, а іх адрасатам была жыхарка Лодзі Ганна Будрын[11]. Знаёмства жанчыны з Астроўскім распачалося ў 1939 г. Падчас допытаў Будрын наступным чынам апісвала абставіны, у якіх упершыню пабачылася зь беларускім дзеячам: *"З Астроўскім Радаславам, які карыстаўся таксама імем Рамана, я пазнаёмілася ў кастрычніку альбо лістападзе 1939 году ў Лодзі ў наступных акалічнасьцях: Пасьля прыходу ў Лодзь немцаў я жыла ў Лодзі [...] і яшчэ да вайны — на працягу пяці ці шасьці гадоў — сябравала з прафэсарам Дзяржынскім Уладыславам і жонкай яго Кацярынай, якія жылі ў Лодзі на вуліцы Ажэшкі, 7. Будучы ў кватэры Дзяржынскіх ў кастрычніку альбо лістападзе 1939 году, я сустрэла там Астроўскага Радаслава, так мне яго прадставілі,*

---

[11] **Ганна Будрын** (1897—1968) нарадзілася ў Варшаве ў сям'і Івана й Марыі Крыжаноўскіх. Ейны бацька быў паштовым чыноўнікам, а маці — настаўніцай. У 1914 г. сям'я была эвакуяваная ў глыб Расеі. У Маскве закончыла гімназію й паступіла ў Пэдагагічны інстытут. У 1922 г. як рэпатрыянтка вярнулася ў Польшчу, пасялілася ў Лодзі. У 1924 г. выйшла за муж за Дзьмітрыя Будрын. У 1939 г. ён як польскі афіцэр трапіў у савецкі палон і ўвесну 1940 г. быў расстраляны НКУС у Катыні.

*які быў у Дзяржынскіх у якасьці госьця. У пазьнейшым часе, калі я наведвала Дзяржынскіх, прозьвішча Астроўскага ўзгадвалася падчас размоваў у маёй прысутнасьці. Дзякуючы гэтаму я даведалася, што Астроўскі меў заняцца афармленьнем несапраўднага беларускага пасьведчаньня, што Дзяржынскі Ўладыслаў ёсьць сябрам Беларускага камітэту ў Лодзі. Гэта пасьведчаньне мела на мэце абараніць праф. Дзяржынскага перад арыштам яго немцамі як брата Фэлікса Дзяржынскага"*[12].

Паміж Радаславам Астроўскім і Ганнай Будрын зьявіліся блізкія сяброўскія адносіны. Паводле відавочцаў, дзеяч вельмі сымпатызаваў жанчыне, а можа, нават меў да яе *"глыбокае пачуцьцё"*[13]. Пасьля таго як Астроўскі ўлетку 1941 г. пакінуў Лодзь і выехаў на Ўсход, ён працягваў сябраваць з Будрын, лістуючыся зь ёй, а таксама наведваючы асабіста падчас праездаў праз Лодзь. У дакумэнтах паваенных допытаў жанчыны чытаем: *«Астроўскі, карэспандуючы са мной, паведамляў мяне пра чарговыя месцы знаходжаньня, а таксама пра сваё прыватнае жыцьцё ці нашыя асабістыя справы. Астроўскі езьдзіў таксама ў Бэрлін, куды быў выкліканы ў арганізацыйных і службовых справах [...] Астроўскі, едучы ў Бэрлін зь Беларусі, праязджаючы праз Лодзь, наведаў мяне двойчы — думаю, што гэта было ў 1943 годзе. У размове распавёў мне, што арганізуе адміністрацыю, беларускія нацыяналістычныя арганізацыі, паліцыю, словам, усё палітычнае культурнае жыцьцё і апарат уціску [...] У 1944 годзе я атрымала ліст, напісаны Астроўскім зь Менску, у якім ён паведаміў мяне, што быў абраны г. зв. прэзыдэнтам "Нацыяналістычнай Беларусі", прычым дадаў, што яго ахоўвае адмысловая варта, а езьдзячы цягніком, атрымоўвае адмысловы вагон і ахову»*[14]. Апошні раз ён наведаў Будрын

[12] AIPN. BU003172/24. T. 12. K. 96—104. Гаворка ідзе пра **Ўладыслава Дзяржынскага**, старэйшага брата Фэлікса Дзяржынскага. Да вайны ён быў лекарам і палкоўнікам Войска Польскага. Прыналежнасьць Уладыслава Дзяржынскага да Беларускага камітэту ў Лодзі знаходзіць пацьвярджэньне ў польскай мэмуарнай літаратуры. Так, іншы лекар і дзеяч польскага незалежніцкага падпольля ў гады вайны доктар Зыгмунт Клюкоўскі пісаў, што Дзяржынскі *"ў 1939 г. пасьля таго, як скончыліся баявыя дзеяньні, жывучы ў Лодзі, па апартунісцкіх прычынах задэкляраваў сябе беларусам"* (Klukowski, Zygmunt. Wspomnienia z Moskwy (1896—1912) // Archiwum Historii Medycyny. 1957. № 1—2. S. 247—248). Варта дадаць, што прыналежнасьць да БКС не ўратавала яму жыцьця. У 1942 г. Дзяржынскі быў расстраляны немцамі разам з групай іншых прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі ў межах акцыі *"Intelligenzaktion"*, якая прадугледжвала зьнішчэньне на акупаваных абшарах прадстаўнікоў польскіх інтэлектуальных і палітычных элітаў.

[13] AIPN. Sygn.: BU003172/33. T. 12. K. 4.

[14] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 96—97.

у ліпені 1944 г., калі разам зь зяцем, дачкой, маці зяця й некаторымі сябрамі БЦР накіроўваўся на Захад. Тады Астроўскі на некалькі дзён затрымаўся ў кватэры Ганны, а зяць і дачка разьмясьціліся ў ягонай кватэры. У гэты час Прэзыдэнт БЦР прапанаваў жанчыне стаць ягонай жонкай, але яна адмовілася з асабістых прычынаў[15]. Радаслаў Астроўскі прапанаваў заапекавацца сынам Будрын, Уладзімерам, якога абяцаў уладкаваць на працу ў Бэрліне. Па словах Ганны, прэзыдэнт БЦР быў вельмі занепакоены ваеннымі падзеямі. Гэты ж настрой панаваў сярод ягоных сваякоў[16]. У хуткім часе Радаслаў Астроўскі выехаў у Бэрлін, аднак працягваў падтрымліваць сувязь з жанчынай. Восеньню 1944 г. ён запрасіў сяброўку наведаць яго ў нямецкай сталіцы[17]. Вось як пра гэта падчас допыту ўзгадвала яна сама: *"Астроўскі, будучы ў Бэрліне, падтрымоўваў са мной ліставаньне, а таксама ў Лодзь прыяжджаў яго ад'ютант, узгаданы раней Пётар, які наведваў мяне і запрашаў мяне ад імя Астроўскага ў Бэрлін. У лістападзе 1944 году я скарысталася запрашэньнем Астроўскага й прыехала да яго ў Бэрлін [...] дзе знаходзілася тыдзень часу. Астроўскі тады, як мне апавядаў, працаваў у Цэнтральным беларускім камітэце ў Бэрліне, але, якую пасаду займаў, ужо не памятаю. Астроўскі казаў мне таксама, што быў на прыёме ў Розэнбэрга, які ў гітлераўскім урадзе выконваў функцыю гаўляйтара на ўсходнія тэрыторыі СССР акупаваныя немцамі,*

[15] Жанчына наступным чынам тлумачыла сваю адмову выйсьці замуж за беларускага дзеяча: *"я не згадзілася па дзьвюх прычынах: ня мела пэўнасьці, ці мой муж насамрэч не жыве, паколькі спадзявалася, што вернецца [...], а па-другое, я лічыла, што авантурнічы лад жыцьця Астроўскага мне не адпавядае, таму вырашыла жыць для сваіх дарастаючых дваіх сыноў"*. AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 96—104.

[16] У паваенных допытах Ганна Будрын згадвала: *"У часе размоваў Астроўскі быў здэнэрваваны, а таксама быў вельмі зьдзіўлены непазьбежнай паразай гітлераўскай Нямеччыны. Сьцьвярджаў, што быў пераканаы, што поруч і з дапамогай гітлераўскай Нямеччыны зможа стварыць незалежную беларускую дзяржаву [...] Размаўляючы зь імі* [Галінай і Мікалаем Мінкевічамі] *на тэму ўцёку Мінкевіч Галіна вельмі шкадавала, што мусіла пакінуць Баранавічы і ўвогуле Беларусь. Падкрэсьлівала, што галоўным вінавайцам ёсьць бацька Астроўскі, які, як выказалася, сваёй авантурнай дзейнасьцю давёў да таго, што іх далейшае знаходжаньне на гэтай тэрыторыі немагчымае й праз яго яны вымушаны туляцца па сьвеце. Гэтую думку падзяляў таксама ейны муж Мінкевіч Мікалай, як таксама ня быў задаволены дзейнасьцю Астроўскага"* (AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 96—104).

[17] Пасьля вайны Ўладзімер Будрын знаходзіўся ў лягерох *DP* у Заходняй Нямеччыне, дзе падтрымоўваў кантакты з Радаславам Астроўскім. У Нямеччыне ён зьмяніў прозьвішча з Будрын на Крыжаноўскі (дзявочае прозьвішча маці). Пазьней эміграваў у Сыднэй (Аўстралія).

*нібыта па справах нейкай дапамогі для ўцекачоў-нацыяналістаў з БССР”*[18].

Пасьля вайны Радаслаў Астроўскі вырашыў узнавіць сувязь з даўняй сяброўкай у Польшчы. Падчас знаходжаньня ў Заходняй Нямеччыне ён выслаў ліст у Лодзь, на які Будрын адказала. Яна па-ранейшаму жыла ў тым горадзе, працавала лектарам расейскай мовы ў Лодзенскай палітэхніцы. Распачалося ліставаньне, якое доўжылася ад 1945 да 1953 г. Першыя лісты дзеяч пісаў зь Нямеччыны (1946—1949), потым з Аргентыны (1950—1952), а апошнія выслаў з Ангельшчыны. Менавіта гэтыя лісты мы й прапануем ніжэй увазе чытачоў. На жаль, ліставаньне захавалася толькі часткова. Паводле словаў Ганны Будрын, Прэзыдэнт БЦР высылаў ёй у сярэднім 2—3 лісты на год. Падчас допытаў у турме ў студзені 1955 г. яна наступным чынам ахарактарызавала гэтае ліставаньне: “*Пасьля вызваленьня ў 1945 годзе, калі было ўжо ўзноўлена ліставаньне паміж акупацыйнымі зонамі Заходняй Нямеччыны й Польшчай, я атрымала першы ліст ад Астроўскага Радаслава, які мяне паінфармаваў, што вучыцца на дэнтыстычнага тэхніка, і прасіў мяне, каб я даслала яму польскія падручнікі па гэтай галіне [...] у 1945 г. я атрымала адзін альбо два лісты, у пазьнейшы час ён пісаў адзін ліст на тры месяцы, а ў 1952 г. адзін ліст на паўгады. Адказы мае на лісты Астроўскага адпавядалі колькасьці лістоў, атрыманых ад Астроўскага. Агулам я атрымала каля 30 лістоў і на столькі ж адпісала”*[19]. Удалося адшукаць толькі некалькі, але нават яны даюць уяўленьне пра тое, чым тады займаўся й як жыў беларускі дзеяч.

Безумоўна, як да кожнай крыніцы, да гэтай карэспандэнцыі неабходна ставіцца крытычна. Належыць памятаць, што Радаслаў Астроўскі лічыўся з тым, што ягоныя лісты, магчыма, будзе чытаць ня толькі адрасатка. Невыпадкова зьмест ліставаньня перапоўнены сэнсавымі скаротамі, якія маглі быць ведамыя толькі аўтару й адрасатцы. Астроўскі карыстаўся псэўданімамі. Усе лісты былі напісаныя ад імя жанчыны. Беларускі дзеяч падпісваўся імёнамі “Казя” (калі пісаў зь Нямеччыны), “Рэня” (з Аргентыны) і “Рома” (з Ангельшчыны). Пра сябе часамі пісаў у трэцяй асобе, ужываючы імя “Ромэк”. Аўтар заўжды карыстаўся адрасамі іншых асобаў. Аналіз зьместу карэспандэнцыі пераконвае, што лісты мелі пераважна асабісты характар. У карэспандэнцыі пераважае побытавы штодзённы матыў, аповеды пра сем’і, цяжкасьці, асабістыя адчуваньні й перажываньні. Са зразумелых прычынаў у лістах Астроўскі амаль не закранаў іншых бакоў сваёй дзейнасьці. Гэтая акалічнасьць, аднак, не зьмяншае інфармацыйнай каштоўнасьці дакумэнтаў. Наадварот, амаль усе лісты зьмястоўныя і ўтрымліваюць даволі падрабязныя

[18] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 96—104.

[19] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 96—104.

зьвесткі пра штодзённае жыцьцё нашага героя й ягоных сваякоў на чужыне. Асабліва гэта датычыць лістоў з Аргентыны. Сярод іншага, зь якіх бачна, што Астроўскі намагаўся дапамагаць Ганьне Будрын, высылаючы ёй лекі. Часам усё ж у карэспандэнцыі прысутнічаў палітычны матыў. Прэзыдэнт БЦР пісаў пра магчымыя зьмены ў сьвеце, якія зьліквідуюць існуючыя межы, што дзеляць абедзьве часткі Эўропы. Не называючы наўпрост рэчы, ён намагаўся такім чынам падбадзёрыць сяброўку. Ведаючы ейныя антысавецкія погляды, Астроўскі даваў зразумець, што ўзброены канфлікт паміж Захадам і Ўсходам непазьбежны, таму камуністычнае панаваньне можа быць непрацяглае.

Акрамя Радаслава Астроўскага з Ганнай Будрын ліставаліся таксама ягоныя зяць і дачка — Мікалай і Галіна Мінкевічы. Праўда, арыгіналы іх лістоў не захаваліся. Пра зьмест жа можам меркаваць на падставе пазьнейшых успамінаў адрасаткі: *“У 1947 альбо 1948 г. я атрымала ліст і паштоўку ад Мінкевічаў, якія паведамлялі, што мой сын Уладзімер знаходзіцца ў Заходняй Нямеччыне і ўтрымлівае карэспандэнцыю зь імі, а таксама што ён скончыў матуру й паступае ў ВНУ ў Кёльне. Больш за тое, яны інфармавалі, што робяць ужо захады, каб паехаць у Аргентыну. У паштовай картцы, якую атрымала ад Мінкевіч Галіны, як мяркую, адмыслова яна ўводзіла мяне ў зман пішучы, што ейны бацька Астроўскі Радаслаў быў забіты падчас бамбардаваньня Бэрліну, што было няпраўдай. Мяркую, што гэтая байка была спэцыяльна для таго, каб распусьціць гэтую вэрсію ў краіне, а гэтым самым адвярнуць увагу ад Астроўскага як нябожчыка. У сапраўднасьці Астроўскі ліставаўся са мной, аб чым дачка яго й зяць, Мінкевічы, добра ведалі, паколькі я перадавала ім праз яго прывітаньні, цікавілася іх лёсам, а таксама Астроўскі паведамляў мне ў лістах аб Мінкевічах [...] Наступны ліст я атрымала ад Мінкевіча Мікалая ў 1948 г., але ўжо з Аргентыны, у якім выразна адчуваўся адчай, які сустрэў іх у Аргентыне. Пісаў мне, што побытавыя ўмовы вельмі благія, яны знаходзяцца ў мясцовасьці Сан-Люіс, дзе электрычнага сьвятла няма, а ўмовы працы вельмі цяжкія й за ўсё гэта ўдзячныя Астроўскаму. Падкрэсьліў, што авантурніцтва Астроўскага, якое прыпісвае склерозу, далей працягваецца й невядома куды ён іх завядзе. Гэта адзначала, што Астроўскі працягваў ангажавацца ў палітычныя авантуры — дакладна аднак я гэтага не разумела. У лютым 1953 г. я атрымала яшчэ адзін ліст ад Мінкевічаў, у якім Мінкевіч Мікалай праведамляў мяне, што хоча аддзячыцца мне за паліто, якое я падаравала ягонай маці ў Лодзі падчас уцёкаў, і высылае тры ампулы вітаміны Б і восем ампулаў акрамэцыны, якія я атрымала. Больш за тое, у лісьце прасіў адшукаць адрас ягонага сябры ў Лодзі, які працаваў лекарам і падаў у лісьце ягонае прозьвішча”*[20].

[20] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 96—104.

Нягледзячы на тое што кантакты паміж Радаславам Астроўскім і Ганнай Будрын мелі асабісты характар, у жыцьці апошняй яны адыгралі вельмі трагічную ролю. Знаёмства з палітыкам такога калібру у разгар халоднай вайны й ва ўмовах паваеннага сталінізму не магло не паўплываць на лёс жанчыны. Магчыма, яна ня ведала, што ейны даўні знаёмы працягвае гуляць у надта небясьпечныя гульні. У згаданы час Прэзыдэнт БЦР быў зьвязаны з брытанскай выведкай. Брытанцы пры дапамозе беларускага актыву намагаліся атрымаць зьвесткі пра магчымасьці арганізацыі сабатажу й выведкі на тэрыторыі краінаў усходняга блёку. За супрацоўніцтва з брытанскай выведкай ад імя БЦР адказваў Беларускі вызвольны рух (БВР), па лініі якога адбываўся вярбунак беларускіх эмігрантаў як дывэрсантаў дзеля далейшага іх закіду на тэрыторыю БССР і Польшчы з мэтай стварэньня агентурнай і паўстанцкай базы[21].

У 1952 г. брытанская выведка выслала ў Польшчу 2 сяброў БВР — Вацлава-Васіля Завадзкага й Аляксандра Петраша. Сярод іхных задачаў была арганізацыя агентурнай сеткі на базе былых супрацоўнікаў Прэзыдэнта Астроўскага — удзельнікаў беларускіх структураў, а таксама стварэньне каналаў для перапраўкі агентаў у СССР. Паводле дадзеных камуністычнай бясьпекі, брытанскія дывэрсанты стварылі ў Польшчы агентурную сетку з 13 чалавек, якая ў 1952—1954 гг. была пасьпяхова ліквідаваная польскімі спэцслужбамі. Ці насамрэч Завадзкаму й Петрашу ўдалося стварыць патаемную арганізацыю ў Польшчы? Хутчэй, не. У сапраўднасьці агентурна-шпіёнская сетка, створаная ў ПНР *“беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі — агентамі брытанскай выведкі”*, існавала толькі ў галовах функцыянэраў камуністычнай бясьпекі. Апошнім было важна падкрэсьліць сваю эфэктыўнасьць у змаганьні *“з ворагамі сацыялістычнага ладу”*. Тым часам людзі, зь якімі сустракаліся Завадзкі й Петраш, не зьбіраліся ангажавацца ў якую-колечы антыдзяржаўную дзейнасьць. У большасьці выпадкаў Радаслаў Астроўскі нагадваў ім пра небясьпечнае акупацыйнае мінулае, да якога не было жаданьня вяртацца. Але з гледзішча камуністычнага апарату рэпрэсіяў сама сустрэча з *“агентамі Астроўскага”* й ранейшае знаёмства з тым, хто іх выслаў, разглядалася як злачынства. У таталітарным камуністычным грамадзтве людзі рабіліся ахвярамі й абвінавачваліся ў прыналежнасьці да *“буржуазных нацыяналістаў”* толькі таму, што яны не прымалі паваеннай палітычнай рэчаіснасьці ва Ўсходняй Эўропе. Таму не падлягаюць ніякаму апраўданьню рэпрэсіі, якія выкарыстоўвалі ў дачыненьні да іх камуністычныя ўлады.

[21] Грыбоўскі, Юры. Службы бяспекі ПНР і “беларускія нацыяналісты і іх палітычныя цэнтры на Захадзе” // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 28. 2007. S. 158—192.

Няшчасьце Ганны Будрын заключалася ў тым, што яна апынулася сярод тых, каго наведаў Завадзкі. Апошні завітаў да яе па загадзе Прэзыдэнта БЦР. Жанчына стала міжвольным закладнікам небясьпечнай сытуацыі, якую стварыў Астроўскі. Паводле сьведчаньняў жанчыны, госьць паінфармаваў пра тое, што ў хуткім часе адбудзецца вайна й намагаўся пераканаць, каб яна ўцякла на Захад, але тая адмовілася. У пратаколе допыту Ганны Будрын чытаем: *"Празь нейкі час у 1952 г. наведаў мяне ў хаце Завадзкі Васіль, які нелегальна прыбыў з Ангельшчыны ў Польшчу, падкрэсьліваючы, што прыбыў па загадзе Астроўскага, нібыта з мэтай даведацца, ці сапраўды мне добра жывецца, як я пісала, як маё здароўе, бо, калі б мела недастатак, Астроўскі гатовы мне дапамагчы. Пры гэтым Завадзкі абвесьціў, што Астроўскі прызначаны ангельцамі г. зв. Прэзыдэнтам беларускага эміграцыйнага ўраду. Паінфармаваў, што ў хуткім часе сядзібай гэтага ўраду будзе ваколіца (не памятаю назвы), ля Гамбургу. Гэты ўрад, якога прэзыдэнтам ёсьць Астроўскі, арганізуе вайсковыя аддзелы, якія ў найбліжэйшай вайне, што рыхтуе Ангельшчына, будуць выкарыстаныя для барацьбы зь лягерам міру. У склад гэтых аддзелаў уваходзяць беларусы, якія знаходзяцца за мяжой. Гэты ўрад атрымоўвае сродкі ад ангельскага ўраду на арганізацыйныя мэты. Пра сябе Завадзкі сказаў, што перайшоў нелегальна мяжу ў Польшчу з мэтай адшукаць пэўных людзей, а таксама выедзе ў СССР у Беларусь адшукаць пэўнага чалавека. Як я зарыентавалася, Завадзкі прыехаў у Польшчу па нейкіх нячыстых справах, на якія я не зьвярнула ўвагі, нягледзячы на тое што ён выпытваў мяне адрасы пэўных людзей. Пасьля майго арышту я пераканалася, што Завадзкі быў ангельскім шпіёнам, які меў за заданьне весьці выведкі супраць Польшчы"*[22].

Занепакоеная візытам госьця з Захаду жанчына вырашыла больш не падтрымоўваць карэспандэнцыі з Астроўскім. Пасьля сустрэчы з Завадзкім яна накіравала апошні ліст, у якім паведаміла пра спатканьне. Пасьля гэтага інцыдэнту Ганна Будрын атрымала ад Прэзыдэнта БЦР толькі дзьве сьвяточныя паштоўкі, пасьля чаго ліставаньне цалкам спынілася. У адным з апошніх лістоў Астроўскі пісаў, што "Бася" (г. зн. Завадзкі) шчасьліва вярнулася ў Ангельшчыну[23]. Неабходна падкрэсьліць, што, высылаючы да Будрын агента брытанскай выведкі, дзеяч ублытаў жанчыну ў рызыкоўную й небясьпечную гульню. Зрабіў гэта сьведама ці нясьведама? Чым кіраваўся й на што разьлічваў, сьцягваючы на даўнюю сяброўку такую небясьпеку? Ці быў шчыры, калі пісаў пра жаданьне не наклікаць ёй непрыемнасьцяў сваімі лістамі? На гэтыя пытаньні яшчэ мусяць адказаць дасьледнікі. Так ці інакш 29 ліпеня

[22] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 96—104.

[23] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 141.

1953 г. Ганна Будрын была арыштаваная супрацоўнікамі ваяводзкай управы Дзяржаўнай бясьпекі ў Быдгашчы. Падчас сьледзтва жанчына паведаміла, што ў 1945—1946 і 1951 гг. яе наведваў няведамы чалавек, які размаўляў па-расейску, рэкамэндаваўся як прадстаўнік савецкіх уладаў і цікавіўся Астроўскім[24]. 11 траўня 1954 г. Ганна Будрын атрымала прысуд — пазбаўленьне волі на 6 гадоў *“за супрацоўніцтва з ангельскай выведкай”*[25]. Падчас яе затрыманьня супрацоўнікі бясьпекі не знайшлі лістоў ад Астроўскага. Пра іх існаваньне стала ведама пазьней, калі адрасатка ўжо знаходзілася ў вязьніцы.

Эпілёг гэтай гісторыі досыць сумны. Ганна Будрын адбыла палову тэрміну турэмнага зьняволеньня й выйшла на волю. У часе палітычнай адлігі ў краіне была рэабілітаваная. Памерла ў Лодзі ў 1968 г. Тым часам, постаць Радаслава Астроўскага яшчэ няхутка перастала цікавіць бясьпеку ПНР. Наадварот, у наступныя гады ён быў прадметам пільнай увагі адпаведных савецкіх і польскіх органаў. Прэзыдэнт БЦР быў адным з галоўных фігурантаў шэрагу агентурна-групавых распрацовак, якія ў 1950-я і 1960-я гг. праводзіліся спэцслужбамі Польшчы й СССР. У габінэтах у Варшаве й Менску складалі пляны, што мелі на мэце дыскрэдытаваць Прэзыдэнта БЦР у вачох заходніх дзяржаваў, а таксама беларускіх незалежнікаў-эмігрантаў на Захадзе. З гэтай мэтай зьбіраліся бясконцыя кампраматы, шукаліся *“цёмныя старонкі мінулага”*, якія потым бясьпека мелася давесьці да ведама грамадзкай думкі на Захадзе, каб зганьбіць дзеяча ў вачох аднадумцаў.

Нагодай для пачатку кампаніі супраць Радаслава Астроўскага й БЦР было перакананьне, што іх актыўнасьць *“пагражае сацыялістычнаму ладу”*. Вось якім чынам гэта бачылі супрацоўнікі польскай камуністычнай бясьпекі: *“У траўні 1952 году ангельская выведка пры супрацоўніцтве т. зв. Прэзыдэнта БЦР Астроўскага Радаслава выслала з Аргельшчыны ў Польшчу двух беларускіх нацыяналістаў — агентаў ангельскай выведкі Петраша Аляксандра й Завадзкага Вацлава з заданьнем правядзеньня шпіёнскай дзейнасьці супраць Польшчы й Савецкага Саюзу. Заданьнем згаданых было стварэньне шпіёнскай сеткі на базе былых супрацоўнікаў Астроўскага — сяброў беларускіх нацыяналістычных і вайсковых арганізацыяў, скампрамітаваных супрацоўніцтвам з акупантам, а таксама арганізацыя каналаў перакіду ў СССР, праз якія ў будучыні павінны быць перакіданы агенты іншаземных выведкаў [...] З допытаў Будрын Ганны, Зыбайлы Дзяніса, Сніткі-Сіньніцкага і іншых вынікае, што Астроўскі знаходзіцца ў Ангельшчыне, а ягоны зяць Мінкевіч Мікалай у Аргентыне, БЦР фінансуецца ангельскай выведкай з мэтай правядзеньня*

---

24 AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 166.

25 AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 39.

*шпіянажу супраць Польшчы й СССР, а таксама арганізуе ўзброеныя вайсковыя аддзелы, якія падчас будучай вайны будуць выкарыстаны супраць СССР і дзяржаваў народнай дэмакратыі. Астроўскі карэспандэнцыйным шляхам усталяваў кантакт са знаёмымі яму сябрамі беларусіх арганізацыяў на бацькаўшчыне й даведаўся ад іх іншыя адрасы вядомых яму сяброў БК, да якіх пазьней выслаў зь Нямеччыны агентаў выведкі [...] Падобным чынам як Астроўскі кантакты са сваімі супрацоўнікамі намагаўся ўсталяваць ягоны зяць Мінкевіч Мікалай, які праз Будрын Ганну атрымаў адрас лекара з Лодзі (прозьвішча невядома)"*[26].

Пасьля выпадку з Завадзкім і Петрашам імя Прэзыдэнта БЦР набыло асаблівую вядомасьць у польскай бясьпекі. Увесну 1955 г. з дапамогай агента "Кавальскага" яна імкнулася *"ўсталяваць карэспандэнцыйную сувязь з т. зв. кіраўніком беларускага нацыяналістычнага ўраду ў Англіі Астроўскім Радаславам-Раманам, які зьяўляецца паслугачом ангельскай выведкі"*[27]. Спэцслужбы ПНР адсочвалі інфармацыю пра актыўнасьць Астроўскага й БЦР. Асабліва бясьпеку цікавілі сувязі з заходнімі выведкамі. У рэфэраце "Кароткая характарыстыка беларускага асяродка пад назвай БЦР — Беларуская Цэнтральная Рада" (красавік 1955 г.) чытаем: *"Дамінуючы ўплыў на БЦР мае ангельская выведка, якая фінансуе й выкарыстоўвае яе да правядзеньня арганізацыйна-шпіёнскай дзейнасьці супраць Польшчы й СССР. Апрача ангельскай выведкі на БЦР таксама ўплывае выведка ЗША і Гэлен. Ангельская выведка ў гульнях супраць выведкі ЗША выкарыстоўвае БЦР як супрацьвагу для БНР Абрамчыка, паміж якімі адбываецца канфлікт за ўплывы на беларускі нацыяналістычны рух за мяжой. Ролю пасярэдніка ў залагоджаньні спрэчкаў паміж Абрамчыкам і Астроўскім адыгрывае прыхільнік Астроўскага, былы старшыня Беларускага камітэту ў Варшаве Мікалай Шчорс. БЦР у сваёй варожай арганізацыйна-шпіёнскай дзейнасьці супраць СССР і Польшчы абапіраецца галоўным чынам на былых агентаў і супрацоўнікаў гітлераўскай Нямеччыны, якія рашуча падтрымліваюць Астроўскага"*[28].

Камуністычная бясьпека выкарыстоўвала кожную магчымасьць, каб нашкодзіць Прэзыдэнту БЦР. У 1962 г. КДБ БССР зьвярнулася да польскіх калегаў з прапановай выкарыстаць супраць Астроўскага эміграцыйную прэсу. У адной з працоўных нататак чытаем: *"Праціўнікі Астроўскага абвінавачваюць яго у тым, што ён на шкоду беларускім справам утрымлівае кантакт з польскай эміграцыяй. Калі б*

[26] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 38—39.

[27] AIPN. Sygn.: BU003172/24. T. 12. K. 28.

[28] AIPN. Sygn.: BU00317/33. T. 9. K. 12—13.

*была магчымасьць трэба напісаць артыкул у газэту, выдаваную польскімі эміграцыйнымі коламі, у якім пазытыўна ахарактарызаваць дзейнасьць Астроўскага як кіраўніка, што магло б узмацніць варожасьць беларускіх нацыяналістаў да Астроўскага”*[29]. У поле бачаньня савецкіх функцыянэраў трапіла газэта “Беларускі Голас”, якую ў Таронта выдаваў Сяргей Хмара. Зьвярнула на сябе ўвагу рыторыка, скіраваная супраць Астроўскага й БЦР. У сувязі з гэтым увесну 1963 г. у мурох бясьпекі нарадзілася думка пра тое, каб сабраныя супраць дзеяча кампраматныя матэрыялы пры пасярэдніцтве агентуры перадаць выдаўцу “Беларускага Голасу” з мэтай публікацыі іх на бачынах газэты. У лісьце-даведцы савецкага боку (студзень 1963 г.) чытаем: *«З мэтай узмацненьня непаразуменьняў паміж беларускімі нацыяналістычнымі групоўкамі агент “ПВ” павінен дамовіцца з Хмарам аб перадачы яму некаторых архіўных матэрыялаў, якія “ПВ” нібыта мае ў сваім распараджэньні, якія характарызуюць дзейнасьць Прэзыдэнта БЦР Астроўскага ў панскай Польшчы, а таксама ў пэрыяд Айчыннай вайны (такія матэрыялы ў нас маюцца й мы маглі б іх перадаць польскім сябрам)»*[30]. Прыклады можна працягваць. Але гэта ўжо іншая тэма, якая заслугоўвае асобнага навуковага дасьледаваньня.

## Лісты Радаслава Астроўскага (1947, 1948, 1951—1953)[31]

4.12.47[32]

Дарагая й каханая Анячка.

Даўно не пісала да Цябе, але гэта не таму, што лянілася, а не магла. Неаднаразова была ў Галюні[33], думала, што там знайду нейкія весткі пра Цябе, але, на жаль. Я пачала непакоіцца.

Уладка[34] адрасу ня маю, а ён, нядобры, як зьнік пасьля матуры, дык і знаку жыцьця не дае.

Што з Вамі сталася? Рома[35] нарэшце зусім выпадкова знайшла свайго сына[36] — знаходзіцца ў Ангельшчыне й працуе ў капальні. Шмат,

[29] AIPN. Sygn.: BU00317/33. T. 9. K. 156.

[30] AIPN. Sygn.: BU00317/33. T. 9. K. 15.

[31] Лісты падаюцца ў перакладзе на беларускую мову.

[32] AIPN. Sygn.: BU00231/228. T. 24. K. 73.

[33] Маецца на ўвазе Галіна Мінкевіч, дачка Радаслава Астроўскага.

[34] Маецца на ўвазе Ўладзімер Будрын (Крыжаноўскі), сын Ганны Будрын.

[35] Тут Радаслаў Астроўскі мае на ўвазе сябе.

[36] Маецца на ўвазе Віктар Астроўскі, які падчас вайны быў жаўнерам Арміі Андэрса, а потым асеў у Вялікай Брытаніі.

бядака, перажыў і нацярпеўся, але дзякаваць Богу ацалеў і здаровы. Пра бацьку[37] і ён дакладных зьвесткаў ня мае. Ад знаёмых чуў, што памёр у нейкім шпіталі ў Ташкенце, але ці сапраўды гэтак было — Бог яго ведае. Рома атрымала ад сына ўжо некалькі лістоў і здымкаў. Сама яна далей туляецца па Нямеччыне, намагаецца беспасьпяхова адтуль выехаць у нейкую Абяцаную зямлю. Нядаўна напісала мне, што мае надзею на выезд у Французскае Марока, там знайшла знаёмых. Нібыта ўсялякія фармальнасьці ўжо вырашаныя й чакае візы. Адначасова запісалася ў Аргентыну, але ўсё гэта няпэўнае. Сумуе вельмі па сваёй найдаражэйшай дачушцы — Ані й мужу, верыць, што з часам зможа зь ёй злучыцца.

Што чуваць, каханая, у Вас? Як тваё здароўе і што робіш? Як маецца Юлек і дзе вучыцца? Як паводзіцца Аленцы? Як згубіла адрас Аленкі[38]. Пішы, мая дарагая, часта й не крыўдуй на мяне.

Цалую цябе й сьціскаю моцна моцна й сардэчна, твая Казя.

ПС. Гэты ліст дойдзе пэўна толькі на Сьвяты, таму прымі ад мяне, каханая, самыя сардэчныя сьвяточныя й навагоднія зычэньні. Пішы на адрас Галюні, паколькі я пастаянна знаходжуся ў дарозе. Усім знаёмым перадавай прывітаньні, Казя.

23.8.48[39]

Дарагая й каханая Аня.

Ты зрабіла мне надзвычайную неспадзяванку сваім лістом ад 10.03. Ты атакуеш мяне за гэтак працяглае маўчаньне цалкам няслушна, паколькі гэтаму прымусоваму й вельмі для мяне балючаму маўчаньню вінная Ты сама, каханая мая. З апошняга твайго ліста я прадчуваю зусім выразна, што мае лісты робяць табе крыўду. Таму я не хачу быць няўдзячнай і з болем спыніла ліставаньне.

Я падумала, што ты хочаш зарваць з усім, што некалькі нас аб'ядноўвала. Я хацела даведацца нечага больш дакладнага пра Аленку, але, відаць, ліст выслала на неадпаведны адрас. Я была б вельмі шчасьлівая, калі б усё гэта было адным прыкрым непаразуменьнем.

А мо Твая цяперашняя атака зьяўляецца толькі зручным прыёмам, каб нечага даведацца пра тое, да чаго ты неабыякавая? Прызнайся, каханая Анячка, і павер мне, я ня буду на цябе крыўдаваць. Я ведаю добра, што разумныя жанчыны такімі прыёмамі карыстаюцца. Спадзяюся, што адкажаш мне шчыра.

---

[37] У сапраўднасьці гаворка ідзе пра жонку Радаслава Астроўскага — Антаніну, якая загінула ў СССР.

[38] Маюцца на ўвазе знаёмыя Радаслава Астроўскага з Лодзі, якія належалі да БКС.

[39] AIPN. Sygn.: BU00231/228. T. 24. K. 82.

А зараз патроху пра ўсіх нашых супольных знаёмых. Ромак працягвае сядзець у Нямеччыне. Атрымаў праўда ад сваіх знаёмых пасьведчаньне на выезд у Паўночную Амэрыку, але ніякіх намаганьняў ня робіць, сьцьвярджае, што хутка паедзе дахаты. Галюня й Коля[40] маюць візы й пашпарты ў Аргентыну й чакаюць транспарту. Ня памятаю, ці я пісала Табе, што жонка Ромка памерла ў лістападзе 1941 г. каля Бузулуку. Ён атрымаў гэтую вестку ад сына з Ангельшчыны. Яму паводзіцца надзвычайна, як наогул усім пасьля грашовай рэформы. Пакуль нідзе не працуе, але вельмі заняты грамадзкай працай і пастаянна знаходзіцца ў дарозе. Казаў мне, аднак, што ўсё яму абрыдла й калі празь месяц не атрымаецца яму выехаць дахаты, дык будзе рабіць намаганьні, каб выехаць у Амэрыку.

У нас стан неспакойны, усе нечага чакаюць. Размовы палітыкаў у Маскве й Бэрліне неяк ня могуць дайсьці да канца, а ўсё гэта стварае нэрвовы стан. Газэты й радыё часта кажуць пра магчымую вайну. Ці ж яшчэ раз давядзецца пачуць гукі сырэнаў і бомбаў? Але што будзе, тое будзе, каб толькі нарэшце запанаваў сталы трывалы спакой і лад на сьвеце. Няпэўнасьць у заўтрашнім дні і адсутнасьць працы надакучылі ўсім.

Вельмі цешуся, што ты асабіста нядрэнна ўладкавалася й што Юлек добра вучыцца. Калі Уладэк выедзе ў Канаду, дык вельмі добра зробіць. Я маю там знаёмых, якія выехалі туды напрыканцы 47 г. і сёньня вельмі задаволеныя. Спадзяюся, што ён там ўладкуецца вельмі добра. Вяртаньне да маці было б у дадзенай сытуацыі зусім памылковым. Пішы мне на адрас: *(20a) Cr. Hillgsfeld 86 b/Frau Strohte, Kr. Hameln fur K.,* хоць можна і без *fur*, заўсёды на гэты адрас я атрымаю. Чакаю ад Цябе адказу на гэты ліст каля 20.9. Цалую Цябе, мая дарагая, сардэчна. Твая Казя.

Аленцы і ўсім нашым знаёмым сардэчныя прывітаньні перадаю. Надвор'е тут кепскае, сёлета зусім не было лета. Штодня дождж і холадна. Казя.

*Halina Minkiewicz, San Martin, prov. San Luis, Argentina*
Сан Марцін, 16.03.1051 г.[41]

Дарагая мая й каханая Анячка,

Учора я атрымала з Эўропы два твае лісты: на жаль, адзін вандраваў звычайнай поштай і таму дайшоў да Аргентыны з двухмесячным спазьненьнем, другі апошні (бяз даты) мне даслалі *"par avion"*. Усе твае здагадкі, як бачыш, былі беспадстаўнымі. Не разумею ўвогуле, адкуль бяруцца такія фантастычныя падазрэньні? Мая дарагая, я сталая й

[40] Маюцца на ўвазе Мікалай і Галіна Мінкевічы.

[41] AIPN. Sygn.: BU00231/228. T. 24. K. 65.

старая жанчына, а таму не мяняю сваіх пачуцьцяў да сваіх бліжэйшых сяброў, ня маючы да гэтага сур'ёзных падставаў. Гэткі працяглы перапынак у нашым ліставаньні ўзьнік па той прычыне, што я чакала твайго ліста. Напішы мне, мая дарагая, як у Вас ёсьць насамрэч, бо тут у нас капіталістычная прапаганда сьцьвярджае, што частае атрыманьне лістоў з-за мяжы можа выклікаць розныя непажаданыя наступствы для адрасатаў. Гэта й толькі гэта не дазваляе мне часта пісаць да цябе. Зразумела, я не магу дазволіць сабе наклікаць нядолю на сваіх найлепшых сяброў. Калі так ня ёсьць у сапраўднасьці, дык будзеш атрымоўваць ад мяне лісты вельмі часта.

Такім чынам, я ўжо ў Аргентыне, куды выехала зусім нечакана 1 сьнежня. Даехала на месца толькі на другі дзень Божага Нараджэньня й зь нецярплівасьцю чакала знаку ад цябе. Я добра ведала, што ты будзеш непакоіцца, але ня мела выйсьця. Як доўга тут яшчэ буду? Пакуль сама ня ведаю, бо чакаю тут Віктара, які ўжо мае візу ў Аргентыну й толькі чакае транспарту. Ён атрымаў бясплатны дазвол на выезд, як усе тыя, хто змагаўся на баку Ангельшчыны супраць Гітлера. Чакаю яго зь нецярплівасьцю. Жыву ў сваіх у закінутым кутку Аргентыны на далёкай правінцыі, куды пошта даходзіць толькі 3 разы на тыдзень. Сан-Марцін знаходзіцца 80 км ад чыгуначнай станцыі й туды можна даехаць толькі аўтобусам. Нашыя працуюць па сваёй прафэсіі й жывецца ім добра. Праўда, ужо на працягу 5 месяцаў жывуць асобна, бо Мікалай замяняе іншага лекара ў іншым дэпартамэнце, прыяжджае сюды толькі ў суботу й нядзелю, а ў панядзелак зноўку вяртаецца да сябе. Як доўга гэта будзе працягвацца — цяжка сказаць, хоць ён робіць захады, каб яго перамясьцілі туды настала. Аднак гэтая справа нялёгкая, бо іншаземцы могуць працаваць толькі там, дзе няма аргентынскіх лекараў. У Сан-Марцін, зразумела, аніводзін аргентынскі лекар ня рвецца, бо тут нібы канец сьвету, але там, дзе ён замяняе, сытуацыя лепшая, бо ёсьць чыгунка й сувязь са сьветам. У красавіку гэтая справа павінна канчаткова вырашыцца.

У Эўропе паўтара месяца я досыць цяжка хварэла й нават ўжо зьбіралася да Аўраама на піва, бо сэрца падвяло. Зараз я адчуваю сябе ўжо лепш, але ўвесь час прытрымліваюся дыеты, без магчымасьці ўжываньня алкаголю й нікатыны. З алькаголем няма бяды, бо й так апошнім часам ня надта яго любіла, але з папяросамі крыху горш. Два месяцы ўвогуле не паліла, але зараз зноўку патроху пачынаю. Тутэйшы клімат цалкам зносны, толькі бяда з парой году. Тут, напрыклад, ужо закончваецца лета й пачынаецца восень, але надвор'е, як у нас, як у прыгожы жнівеньскі дзень. Вінаград каштуе амаль столькі, колькі бульба, персікі, грушы, яблыкі — усяго навалам і вельмі танна. На жаль, ужо заканчваецца сэзон, а апельсіны будуць бадай што напрыканцы ліпеня. Дзеці маюць вакацыі й таму штодзённа пакрысе я займаюся імі,

каб не запамяталі таго, чаго за год навучыліся. А вакацыі працягваюцца ў школах ажно 4 месяцы, ад 1 сьнежня да 1 красавіка. Агульныя школы тут знаходзяцца на вельмі нізкім узроўні, ня ведаю, ці гэтак паўсюль, можа ў вялікіх гарадох крыху лепш. Усіх звычаяў я яшчэ ня ведаю, але ўвогуле тут жыць можна. Факт, што рэха Карэі й розныя ваенныя штучкі тут амаль не даходзяць. Праўда, я маю радыё на акумулятары (бо электрычнасьці мы ня маем) і часам атрымоўваецца паслухаць Маскву й Ангельшчыну, іншым часам Амэрыку. Польшчы, аднак, ніколі не атрымалася злавіць на хвалі. Пакуль дойдзе да цябе мой лісток, дык ужо будзе й Вялікдзень, таму пры нагодзе дазволю скласьці табе самыя сардэчныя сьвяточныя зычэньні: ня злуйся на мяне, мая дарагая, і пішы часьцей. Зараз мой адрас будзе больш сталы, таму большага перапынку ў ліставаньні не павінна быць, але гэта залежыць ад вышэйшай сілы там у Вас... Напішы мне яшчэ: як тваё здароўе й як сёлета з працай? Ты пісала, што ў гэтым годзе працуеш толькі ў адной школе, таму не павінна быць табе цяжка, але ці гэта ня вельмі адбіваецца на кішэні? Цалую цябе моцна-моцна,

Заўсёды твая Рэня

Усе нашыя перадаюць табе прывітаньне.

Пішы на адрас Галі, на звароце капэрты.

*H. Minkiewicz, San Martin, prov. San Luis, Argentina*
Сан Марцін, 6.8.51[42]

Дарагая, мілая і каханая Анячка, бязьмежна Табе ўдзячная за ліст, які я ўчора атрымала. Цешуся, што мая Аня ўзялася за падручнік, але адначасова вельмі мне шкада, што не магу табе дапамагчы. А ў гэтай справе я сапраўды магла б табе вельмі дапамагчы. Наогул няма на гэта пакуль ніякай рады. Павіншуй Юлька са здачай матуры й перадай яму мае самыя сардэчныя зычэньні. Зычу яму ўсялякага посьпеху ў ягоным навучаньні. Уяўляю сабе, які ён зараз вялікі й задаволены тым, што скончыў як-ніяк найвышэйшы ўзровень на мазольнай жыцьцёвай сьцежцы. Мая дарагая, я, аднак, зайздрошчу табе, што працуеш па сваёй прафэсіі з моладзьдзю. Праўда, гэтая прафэсія стамляе й ня раз цяжкая, але заўсёды, аднак, удзячная.

Ты пытаеш, як маё самаадчуваньне, што раблю й што пляную? Каб адказаць на гэтыя, здаецца, простыя пытаньні, мушу шмат распавесьці. Як маё самаадчуваньне? Адказ будзе адмоўны, наогул кепска. Як ты ведаеш, на самаадчуваньне перадусім ўплывае клімат. І хоць розныя пісьменьнікі прыгожа апісваюць экзатычныя краіны, я зь імі цалкам ня згодная. Я вельмі злуюся на іх, напрыклад, за тое, як яны

[42] AIPN. Sygn.: BU00231/228. T. 24. K. 67.

апісваюць Аргентыну. Маю ўражаньне, што ўся лухта пра *“знойнае неба Аргентыны”* — гэта ня больш як вынік буйной фантазіі тых, хто піша абы-што, седзячы ва ўтульных люксусовых трансатлянтычных параплавах альбо нейкім люксусовым гатэлі ў адной са сталіцаў г. зв. Рэспублікі Паўднёвай Амэрыкі. Я злая на іх за тое, што яны не зрабілі ніякіх намаганьняў, каб хоць павярхоўна азнаёміцца з ваколіцамі Буэнас-Айрэсу альбо Монтэвідэа ці Рыа-дэ-Жанэйра, ня кажучы ўжо пра закінутыя куткі Аргентыны.

Уяві сабе, мая дарагая, што пад знойным небам Аргентыны ўзімку (травень — жнівень) чалавек добра сябе адчувае толькі ў кажуху і пад пярынай! Праўда, тут ўвогуле няма паўгоду ані вясны, ані лета, ані восені, ані зімы, а ёсьць толькі альбо холадна, альбо горача. Зараз, напрыклад, ёсьць тут г. зв. зімовая пара, якая адрозьніваецца ад лета тым, што на дварэ вельмі холадна. Сапраўды, марозу й сьнегу няма, але халодны пранізьлівы вецер, які нясе за сабой цэлыя хмары пылу, ад якога цяжка схавацца. Ён пранікае ва ўсе шчыліны, а тутэйшыя забудовы да такога холаду зусім не прыстасаваныя, часта няма печы, няма столі, а толькі сетка — такі дах (вельмі часта дзіравы). Адзінае шчасьце, што ў такі нязносны пэрыяд зусім няма дажджу. Але й гэта не суцяшальна, бо такі бязводны пэрыяд доўжыцца ня менш як 6—8 месяцаў. Сёлета апошні дождж быў у лютым! Навокал нейкая цьвярдая пажоўклая трава, лётны пясок і вулканічныя скалы! І ня думай, што гэтак ёсьць толькі ў гэтым закінутым кутку, якім зьяўляецца Сан-Марцін, не! Як праехала Аргентыну ў шырыню 100 км, і краявід аднолькавы. Няма зусім зелені, бо летам усё выпаленае сонцам, а ўзімку й восеньню сухое праз адсутнасьць дажджў. Увесь стэп пакрыты шэра-жоўтай травой, вулканічнымі скаламі, на якіх нейкім цудам растуць самыя розныя церні накшталт кактусаў і нейкіх бліжэй невядомых імшарнікаў. Паўсюль расьліны тут маюць іголкі большыя альбо меншыя. Надвор'е вельмі зьменлівае як узімку, так і ўлетку. Напрыклад, раніца выглядае вельмі сонечнай і нават цёплай і сьпякотнай, але праз пару гадзінаў уздымаецца вялікі вецер зь пяском. Гэтак ёсьць зараз, а “ўлетку” сьпёка раптоўна можа зьмяніцца на буру зь вялікім дажджом, а нават градам вялічынёй з галубінае яйка. У гэтым, што я пішу, няма ані трохі перабольшаньня! Зараз хіба разумееш, чаму самаадчуваньне благое хоць бы з-за аднаго клімату. Вядома, Аргентына вялікая й магчыма, што ёсьць мясцовасьці (як, напрыклад, каля мяжы з Бразыліяй), дзе, як распавядаюць, амаль штодзённа ідзе дождж, шмат зелені й там ня так халодна, але... але там ёсьць іншыя кветкі... у выглядзе маскітаў, і іншых нязносных авадоў ды зьвяроў, зь якімі жыць нельга. Здаецца, што прымаўка *“там добра, дзе нас няма”* цалкам слушная. А ўсе заакіянскія краіны няхай іх д'ябал возьме! Я ўстрымаюся ад апісаньня мясцовага люду, асабліва ўрадаўцаў, але ўзамен зацытую табе адну тутэйшую прымаўку: *“Trodos Rios — sin agnua, flores — sin olor, todos hombres — sin honor”*.

У перакладзе на польскую мову гэта азначае: усе рэкі без вады, усе кветкі бяз паху, усе людзі бяз гонару. І ведаеш, у гэтым амаль няма перабольшаньня. Тутэйшыя рэкі, напрыклад, гэта горныя ручаі, якія нават ня маюць мастоў. Калі няма дажджу, гэта нявінная глыбіня, празь якую лёгка праехаць і прайсьці, але затое падчас навальніцы робяць такія шкоды, што нельга потым направіць. Вада ў такіх бязводных рэках раптам узрастае да 3,3 мэтру і разьліваецца на кілямэтры. Мы, напрыклад, улетку прастаялі на адлегласьці 4 км ад хаты цэлую ноч да раніцы пад вялікім дажджом і толькі а 10 раніцы зь цяжкасьцю праехалі такі сьціплы струменьчык, калі вада крыху зьнікла. Узгадаю тут пра тутэйшых урадаўцаў, дэманструючы характэрны прыклад, які сьведчыць пра мясцовых урадаўцаў і іх стаўленьне да грамадзтва. Раённы лекар адкрыў у пэўным кутку выпадак тронду й пры дапамозе тэлеграфу паведаміў аб гэтым дырэкцыю аховы здароўя, просячы забраць хворага ў ізалятар. Праз больш-менш тры тыдні ён атрымаў загад узяць аналіз крыві. Дасылае, лябараторыя сапраўды пацьвярджае наяўнасьць тронду, але мінае месяц, а хворы надалей застаецца на месцы. Другі выпадак: лекар выкрыў воспу й просіць прыслаць дызэнфэкцыйную брыгаду й прышчэпкі. Пасьля двух тыдняў атрымоўвае старую неадпаведную прышчэпку, а дэзынфэкцыйныя сродкі высылаюцца празь месяц. Такое службовае стаўленьне, а калі гаворка ідзе пра прыватныя справы, дык міністэрства альбо ўстанова дасылае адказ на заяву на працягу 2—3 месяцаў. Нават прыватныя фірмы дасылаюць, напрыклад, каталёгі праз 2 месяцы. Ну ніхто не сьпяшаецца. Але моцная пратэкцыя пануе непадзельна! Галюню й Мікалая абяцаюць перавесьці на іншае лепшае месца, каля чыгуначнай станцыі. Мусілі абіваць парогі нейкія тры тыдні. Ужо мінула 10 месяцаў, а справа паранейшаму не кранулася зь месца. Можна тут падаваць безьліч такіх прыкладаў, але ці варта? Тое, што тут я напісала, я думаю, хопіць, каб склалася ў цябе ўражаньне пра Аргентынскую Рэспубліку. Такім чынам, мая дарагая, ты даведалася, што ў такіх умовах я не магу адчуваць сябе добра, а — нават зносна. Таму я вельмі шкадую, што ўвогуле выехала з Эўропы. Віктар таксама думае, ці не вярнуцца назад, хоць у капальні праца не належала да лёгкіх. Але й такой тут знайсьці цяжка. Думалі, што зоймецца гаспадаркай па сваёй прафэсіі, але ў такім клімаце ці ж магчыма марыць пра нейкую гаспадарку? Пакуль што мы жывем надзеяй, што нешта атрымаецца выкамбінаваць, але гэтыя надзеі штораз марнейшыя. Тут трэба шчасьця й нічога больш. Са шчасьцем людзі тут стварылі фартуну, а іншыя нават з грашыма вышлі, як кажуць, на сабакі! Як табе, мая дарагая, вядома, асабіста я маю шмат цярплівасьці й спакойна пагаджаюся з усім, што ёсьць, але адначасова раблю захады, каб адсюль, аднак, выехаць. Куды? Пакуль ня ведаю, але я хацела б вярнуцца туды, адкуль прыехала. Усё гэта, як уяўляю, не зьяўляецца лёгкай справай, але я не губляю надзеі.

Ня злуйся, каханая Анячка, што пішу табе гэтак рэдка, але што ёсьць гэтаму прычынай, я ўжо пісала табе раней. Абяцаю табе сумленна заўсёды адказваць хутка на твой ліст. Так раблю зараз. Таму, калі нешта захочаш пра мяне ведаць, пішы, запэўніваю, што праз 2 тыдні атрымаеш адказ. Ня думай толькі, мая дарагая, што я пішу рэдка. Я пішу табе, а нават размаўляю з табой амаль штодзённа, асабліва ўначы, калі пануе непадзельная цішыня альбо толькі віхура калыша маю столь (яна з палотнішча)... На жаль, ты ўсяго гэтага чуць ня можаш, бо задалёка, а людзкае вуха ёсьць да таго ж апаратам вельмі й вельмі недасканалым. Найбольш дасканалы, аднак, апарат — гэта сэрца. І яно, як мне здаецца, падсьвядома адчувае, хто аб ім думае, ці ж ня праўда?

Ужо два тыдні я чакаю твайго ліста й... атрымала. А гэта значыць, што флюіды з твайго сэрца й тваіх думак, мая дарагая, дайшлі да маёй сьвядомасьці яшчэ тады, калі ты, мая дарагая, узялася за пяро, каб да мяне гэных пару словаў напісаць. На жаль, пакуль толькі такая камунікацыя для нашых думак і пачуцьцяў магчымая, але я цешуся бязьмежна й гэтаму. Можа, надыдуць нарэшце лепшыя часы, калі зьнікнуць усялякія запоры, якія сёньня дзеляць краіны й людзей, і тады мы паразмаўляем, каханая, мацней і бліжэй. Сьціскаю цябе й моцна цалую,

Твая Рэня

*H. Minkevich, Naschel, prov. San Luis, Argentina*
*Naschel,* 19.11.1951 г.[43]

Дарагая мая й каханая Анячка!

Пішу табе зь іншага месца, куды нарэшце перанесьлі Колю. Галюня засталася яшчэ на пэўны час на старым месцы й прыяжджае да нас у кожную суботу, а выяжджае ў панядзелак па абедзе. Няма ў іх лекара, і таму пагадзіліся перанесьці пры ўмове, што Галя будзе на месцы, пакуль ня знойдуць кандыдата на ейнае месца. Але мы мяркуем, што да студзеня нехта знойдзецца. *Naschel*, праўда, таксама дзіра, але каля чыгуначнай станцыі. Сама толькі думка, што ў кожны момант можаш вырушыць у сьвет джунглі, супакойвае. Віктар ужо выехаў назад у Ангельшчыну й шчасьліва заехаў. Пазаўчора я атрымала ад яго першы ліст. Зразумела, што яшчэ не працуе, мусіць зарэгістравацца, але я вельмі не хацела б, каб ён вярнуўся зноўку ў капальню. Будзе намагацца ўладкавацца недзе ў садоўніцтве. Ромэк таксама вырашыў канчаткова выехаць адсюль у Эўропу й чакае візы. “Абяцаная” зямля выглядае прыгожа толькі ў галаве пісьменьнікаў, якія яе ня бачылі. У сапраўднасьці гэта шэрая, сухая, пясчана-камяністая пустыня. Кватэры пакуль маюць невялікія, я маю асобны прыгожы пакоік у другой хаце. Так мне лепш, бо ў кожны момант магу ўцячы ад шуму дзяцей. Акрамя нашых дробных

[43] AIPN. Sygn.: BU00231/228. T. 24. K. 69.

выгодаў тут лепш і таму, што ад змроку да поўначы ёсьць электрычнасьць. Штодругі дзень можна мець газэту, бо цягнік курсуе праз дзень у адзін бок, а на другі дзень назад. Апрача таго, кожны другі дзень ёсьць аўтобусная камунікацыя. Зараз тут пачынаецца сьпёка, тэмпэратура даходзіць да 50 градусаў на сонцы, але няма гарантыі, што праз пару гадзінаў не спадзе да 20 градусаў. Нязносны вецер, які нясе хмары пяску, ад якога хіба можна схавацца толькі ў гермэтычна шчыльным посудзе. За 9 мінулых месяцаў два дні таму быў маленькі дождждык. Суша жахлівая й гародніны няма. Праўда, прывозяць два разы на тыдзень зь іншых мясцовасьцяў, але пераважна ня тое, што мы любім і не такое, як у нас. Ёсьць надзея, што хутка пачнуць прывозіць персікі, але, мусіць, сёлета ўсё будзе даражэйшае. Ад 12 гэтага месяца чыгунка падаражэла 50 %, а гэта дасьць падставы гандлярам павысіць кошты на тавары на 100 %. Апрача таго, штораз менш на рынку імпартных тавараў, а на месцы прадукцыя вельмі марная й невялікая. Віной усяму слабая мясцовая валюта й відавочная адсутнасьць дэвізаў на замежныя тавары. Праўда, зараз урад намагаецца палепшыць жыцьцёвы дабрабыт работніка, але гэта выклікае зразумелы супраціў і сабатаж з боку капіталістаў, у руках якіх знаходзіцца цэлы ўнутраны й замежны гандаль. А ўрад, мусіць, не адчувае сябе моцным, каб правесьці радыкальныя рэформы. Таму ўсё выглядае даволі карыкатурна, нібы хоча, а ня можа.

А на сьвеце па-ранейшаму неспакойна й трывалага спакою ня бачна. На карэйскім сьметніку па-ранейшаму ідзе змаганьне й дамовіцца ня могуць. На міжнародным фронце — такі самы вобраз і да добрага канца хіба гэта халодная вайна не давядзе. Амэрыка па-ранейшаму ўзбройваецца і ўзбройвае іншых. А гэта — да добрага не давядзе. Капіталісты ж вырабляюць зброю ня дзеля таго, каб яна ржавела! Апрача таго, апошнім часам зьяўляюцца весткі аб падпісаньні *“Абароннага пакту паміж Амэрыкай і Ціта*[44]*”*! Я гэта разумею наступным чынам, што такая паважная дзяржава, як Амэрыка, пачынае ўжо пактаваць з такімі бандытамі, як Ціта, дык гэта добрым ня скончыцца. Раней ці пазьней адбудзецца сур’ёзнае сутыкненьне паміж сьветам працы й сьветам капіталу й эксплюатацыі, ці ня праўда ж?

Дарагая мая й мілая Анячка, пішы да мяне часьцей, бо гэта пакуль мая адзіная пацеха. Пракляты лёс так зрабіў, што столькі гадоў я не магу з Табой пабачыцца! Нешта не пашэньціла нам з табой — ты там сама бедная, а я вымушана пакуль сядзець у [*нечытальна*]. Самыя сардэчныя прывітаньні высылаю нашым супольным знаёмым, а Цябе, Каханая, сторазова моцна цалую!

Заўсёды Твая — Рэня

[44] **Іосіп Броз Ціта** (сэрба-харв. *Josip Broz Tito*, 1892—1980), лідар Югаславіі ў 1945—1980 гг., маршал, прэзыдэнт у 1953—1980 гг.

*Naschel, 30.1.1952*[45]

Мая дарагая і каханая Анячка, апошні твой ліст я атрымала й хацела як найлепш аформіць высылку пачкі для цябе. Аднак толькі сёньня я змагла выслаць Табе авіяпачку — 100-грамавы пакуначак з мэдыкамэнтамі. Рэч у тым, што вялікія рэчы зараз забаронена высылаць: ані кавы, ані гарбаты, ані цукру, ані эстрэптаміцыны высылаць нельга. Я выслала Табе, аднак, замест эстрэптаміцыны — аўраміцыну — гэта больш новы й значна лепшы сродак. Атрымалася выслаць таму, што ў сьпісе забароненых рэчаў яна яшчэ не фігуруе, але я пераканана, што ў наступным паведамленьні яна ўжо зьявіцца. Можа, і дойдзе гэтая пачка. Пасьля атрыманьня адразу ж напішы мне, а калі гэта дойдзе да цябе, дык паспрабую яшчэ раз выслаць гэткім чынам (замоўленым лістом 100 гр., бо звыш 100 гр. авіяпошта ня прыме). Тады вышлю яшчэ больш новую вынаходку рэраміцыны. Сёньня лекары лічаць, што аўраміцына — гэта адзіны сродак, які нават у выпадках амаль безнадзейных робіць цуды. Ад каклюшу, напрыклад, гэта адзіны эфэктыўны сродак. Пры гэтак званай палаговай ліхаманцы ратуе людзей і г. д.

Іншыя забароненыя рэчы ня варта высылаць, бо гэта нічога ня дасьць. Што тычыцца тлушчаў. Дык трэба мець адмысловы дазвол міністэрства, што я зрабіла, але калі й ці дазволяць — пабачым. Складанасьць заключаецца ў тым, што звычайная пачка ідзе традыцыйнай поштай больш за 7 тыдняў, можна выслаць толькі кансэрвы, якіх, на жаль, у такім горадзе, як Нашчэль, няма. Я зьвярнулася ў бюро з запытам, якія пачкі яны могуць выслаць. Мне здаецца, што можна выслаць 5 кг. Алей (тут завецца ацытыла) можна атрымаць на месцы, сланіну высылаць ня варта, бо вэнджанай няма, а звычайная сапсуецца. Бакавінка ёсьць, але таксама ня вэнджаная, моцна салоная, можа й дойдзе. Адным словам, буду намагацца выслаць усё, што атрымаецца выслаць пасьля атрыманьня дазволу.

Буду намагацца табе й пэнэцыліну 500000 адзінак, але памятай, што нават тут аўраміцына каштуе ў чатыры разы больш, чым пэнэцыліна. Таксама павінна быць і ў вас.

Перадай прывітаньне Аленцы й паклоны дакторству (Гаўрыілу[46], жонцы й матулі). Я прыгадала, як некалькі ў іх весела час бавілі, нягледзячы на досыць панурае акружэньне, я хацела сказаць асяродзьдзе, але зараз мне ўжо ўсе мовы перамяшаліся.

У нас нічога новага. Сядзім амаль у аргентынскіх джунглях — 800 км ад цэнтру культуры, якім зьяўляецца Буэнас-Айрэс. Натуральна, крыху лепш як у Сан-Марціне, бо побач маем чыгуначную станцыю. Напішы, мая дарагая, як зараз Табе паводзіцца й Аленцы? У вас зараз

[45] AIPN. Sygn.: BU00231/228. T. 24. K. 88.

[46] Маецца на ўвазе знаёмы Радаслава Астроўскага з Лодзі, былы сябра БКС.

зіма й, мусіць, холадна, а тут страшэнная сьпёка — тэмпэратура ў пакоі даходзіць да 35 градусаў. Сасьпеў вінаград, а ўжо былі абрыкосы й персікі. Праз тыдзень спадзяюся, што й грушы будуць. Але ўсё ж неяк сумна, што гэтых рэчаў не магу табе даслаць. Чакаю хуткага адказу пасьля атрыманьня пачкі, цалую й сардэчна сьціскаю. Твая Рэня.

*Cristane Cooke*
*Marlow Bucks, Bucks* 13.4.53 г.[47]

Дарагая мая, каханая й мілая Анячка!

Бязьмежна Табе ўдзячная за ліст. Толькі шкада мне, што ты стала падазраваць мяне, што я забываюся пра цябе. Ведаеш, мая каханая, што я ніколі сваіх сяброў не забываю. З гэтага настрою прадчуваю, што ты страціла надзею на лепшае заўтра. Я лічу, што да гэтага няма ніякіх падставаў. Праўда, сёньня яшчэ дзень сонечны, але гэта міне. Штораз бачна, што сёньняшні стан нікога не задавальняе, нават тых, хто такі стан выклікаў. Я глыбока перакананы, што людзі нарэшце зразумеюць усю адказнасьць падзелу й зробяць найвялікшы высілак, каб разбурыць запоры, якія існуюць. Тады зьнікнуць штучныя перагародкі й народы ўсяго сьвету аб’яднаюцца ў супольным высілку з мэтай дабрабыту й свабоды для ўсіх народаў.

А мае ўсе здаровыя й высылаюць табе найлепшыя зычэньні й найлепшыя прывітаньні. Сьціскаю цябе сардэчна, твая Рома.

Пані Кацярыне і ўсім знаёмым далучаю прывітаньні, а Аленку сьціскай ад мяне. Напішу Галюні, каб яна выслала табе трохі лекаў. Цалую яшчэ раз твая Рэня.

[47] AIPN. Sygn.: BU00231/228. T. 24. K. 70.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ПЧАЛА СКАРЫНЫ

*В поте — пишущий, в поте пашущий!*
*Нам знакомо иное рвение...*

*Марына Цьвятаева*

Мінулі Скарынавы ўрачыстасьці, зачыніліся выставы, зацьверджаныя й падшытыя справаздачы... А спадчына першадрукара па-ранейшаму працягвае клікаць. Застаюцца пытаньні, большыя й драбнейшыя, ня вырашаныя ўсе загадкі, ня знойдзены адказы. І ці будуць калі?

Партрэт (ці аўтапартрэт — таксама да сёньня дакладна ня ведама) Скарыны прыцягваў увагу спэцыялістаў самых розных галінаў, але што стаіць за "трохкутнікам" і "трапецыяй", які сэнс нясуць іншыя знакі-выявы на ім — так і ня мае адзінага адказу. Бальшыня дасьледнікаў пагаджаецца, што пошукі трэба весьці з дапамогаю гэральдыкі, і ў гэтым пошуку бадай няма месца выяве пчалы. Нехта нават, як мастацтвазнаўца Віктар Шматаў, лічаць, што пчала, *"сымболіка якой вельмі складаная"*, празьмерна дэталізавала партрэт, уносіла ў яго элемэнт натуралізму, а таму й была выдаленая як неадпаведная тонкаму разуменьню мастацтва Скарынам[1].

Цалкам магчыма. І ўсё-ж наважуся прапанаваць яшчэ адно прачытаньне гэтага сымбалю — і хай даруецца аўтару, калі падобная здагадка некалі некім выказвалася, бо праступдыяваць усё напісанае пра Скарыну не ўяўляецца магчымым.

Першае апісаньне партрэту належыць, як ведама, расейскаму прафэсару Івану Сьнегірову, які, адпаведна першым, і раскрыў сымбалізм выявы пчалы: *"Скорина окруженъ книгами, надъ коими виситъ глобусъ, песочными часами и другими принадлежностями учености; при подножіи его на полу стоитъ подсвешникъ съ умбракуломъ, къ коему летитъ пчела, знаменіе трудолюбія"*[2].

[1] Спадчына Скарыны. Зборнік матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытаньняў (1986) / уклад. А. І. Мальдзіс. Мінск, 1989. С. 179—182.

[2] Труды и летописи Общества исторіи и древностей Россійскихъ, учрежденного при Императорскомъ Московскомъ университете. Ч. V. Кн. I. Москва, 1830. С. 309.

І наш Юрка Віцьбіч у артыкуле "Вялікі сын вялікага народа" цалкам салідарызаваўся з гэткім поглядам: *"Першадрукар, апрануты ў доктарскую мантыю і бярэт, з гусіным пяром у руцэ сядзіць у сваім пакоі за работай. Аб выключнай напружанасьці і ўшчыльнёнасьці гэтай работы сьведчыць і пясочны гадзіньнік, і пчала, у вобразе якой мастакі заўсёды ўяўлялі сабе нястомную працу"*[3].




Паштоўка, выдадзеная Беларускім інстытутам навукі й мастацтва да 450-х угодкаў беларускага кнігадрукаваньня. Нью-Ёрк, 1972 г.

Багата ўвагі надаваў ролі пчалы Ўладзімер Калесьнік: *"У Скарыны ключавы вобраз-сімвал — пчала. Яна ўвасабляе не проста рупную працавітасць, а ідэю калектывізму, грамадскасць у шырокім сэнсе слова, пчала — гэта ўзорны грамадзянін. Скарына прагне, каб народ яго стаў рупным і дбайным, свядомым у сваіх дзеяннях пчаліным роем. Пчолы Скарыны ўмеюць ня толькі дружна збіраць мёд, яны ўмеюць і дружна джаліць, баронячы вуллі свае. Такім чынам, герой Скарыны — зборны пчаліны рой-калектыў, а індывідуальнасці, якімі б несамавітымі яны ні былі, — толькі члены калектыву, падобныя на члены чалавечага арганізма. Гэта надзвычай важна"*[4].

І ў сваёй іншай кнізе дасьледнік піша: *«Сімвал пчалы азначаў для Скарыны не толькі працавітасць і пільнасць, але перад усім — калектывізм, грамадзянскую лучнасць індывіда з родам, патрыёта, дзеяча свайго краю. І гэтая любоў да радзімы, свядомы патрыятызм быў рысаю новых часоў, калі абуджаліся нацыянальныя імкненні і з племяннога паралельнага мноства паўставалі буйныя супольнасці — нацыі. Такое разуменне было здабыткам выбраных — эліты, часткова духавенства, сяляне ж, плебс, нават у эпоху Адраджэння сапраўднага пачуцця патрыятызму мець не маглі, бо заставаліся людзьмі паднявольнымі, значыць пасіўнымі ці наогул абыякавымі да нацыянальных пытанняў, хіба што краіну ахоплівала вызваленчы рух.*

[3] Літаратура і Мастацтва. 1941. 17 мая.

[4] Калеснік, Уладзімір. Зорны спеў. Літаратурныя партрэты, нарысы, эцюды. Мінск, 1975. С. 90.

*Скарына рабіў працу для суайчыннікаў, для свайго роя — для "братии своей руси", людзей посполитых»*[5].

У трактоўцы Ўладзімера Калесьніка выразна адчуваецца час, у якім ён жыў і пісаў, як і ўласныя погляды эпохі — усё яшчэ спадзеўнага сацыялізму.

Прынагодна хочацца выказаць здагадку, *што* менавіта натхніла Калесьніка на падобныя разважаньні, на такое бачаньне супольнасьці пчолаў — гэта паэма Вергілія "Георгікі", і прывесьці ў пацьверджаньне ўрывак зь яе. І хай даруе чытач за мову, бо ня маем тым часам свайго перакладу, і за немалы памер цытаты, або — падзякуе, бо калі яшчэ будзе нагода ў наш мітусьлівы час прачытаць гэты твор:

*Ну же, вперед! Изложу, какие свойства Юпитер*
*Пчелам сам даровал в награду за то, что за звонким*
*Шумом куретов, за их громкозвучной последовав медью,*
*Неба владыку они воскормили в пещере Диктейской.*
*Общих имеют детей лишь они, и дома-общежитья*
*В городе; жизнь их идет в подчинении строгим законам.*
*Родину знают они и своих постоянных пенатов.*
*Помня о близкой зиме, работают пчелы усердно*
*Летом, в общей казне храня, что трудом пособрали.*
*О пропитанье одни заботятся и, по согласью,*
*Делают дело в полях, другие внутренность дома*
*Мажут нарцисса слезой и клейкой древесной смолою,*
*Этим для сот основанья кладут, чтоб после привесить*
*Крепко держащийся воск; иные молоденьких учат,*
*Улья надежду; меж тем иные сгущают прозрачный*
*Мед и кельи свои наполняют нектаром жидким.*
*Есть и такие меж них, чей удел быть стражем у двери:*
*В очередь эти следят за дождем и за тучами в небе;*
*От прилетающих груз принимают; иль, войском построясь,*
*Трутней от ульев своих отгоняют, — ленивое стадо.*
*Дело кипит, чабрецом отзывается мед благовонный.*
*Так и циклопы: одни куют из податливой глыбы*
*Молнии, воздух меж тем другие вбирают мехами*
*И выдувают опять; иные же звонкую в воду*
*Медь погружают, и вся гудит наковальнями Этна.*
*Мощным движеньем они поднимают в очередь руки,*
*Переворачивают с бока на бок железо щипцами.*
*Так и кекроповых пчел, — коль великое сравнивать с малым, —*
*Всех обрекает на труд прирожденная страсть к накопленью,*
*Разных по-разному: тем, кто постарше, забота об улье,*

[5] Калеснік, Уладзімір. Тварэнне легенды. Мінск, 1987. С. 98—99.

Об укреплении сот, о строенье дедаловых зданий.
Те, что моложе, устав от трудов, уже позднею ночью
Чобр на лапках несут; берут с земляничника тоже,
С голубоватой ветлы, с лаванды и сальвии красной,
С липы богатой берут, с гиацинтов железного цвета.
Отдых от дел одинаков у всех, и труд одинаков.
Утром из двери валят, и нет запоздавших; а после,
В час, когда Веспер велит наконец с полей удалиться,
Сбор прекратив, прилетают домой и холятся в ульях.
Шум раздается, жужжат по краям и порогам жилища.
После ж, по спальням когда расположатся, все замолкает
На ночь, и нужный им сон объемлет усталые члены.
Если же дождик навис, они от жилища далеко
Не отлетают; коль Эвр грозит, не верят погоде,
Рядом, у стен городских, осторожные, по воду ходят,
Лишь на короткий полет решаясь; и камешки часто
(Так при волне неустойчивый челн песком нагружают)
В лапках несут и, качаясь, летят средь бездны пустынной.
Ты удивишься, как жизнь подобная по сердцу пчелам!
Плотский чужд им союз: не истощают любовью
Тел своих, не рожают детей в усилиях тяжких.
Новорождённых они со сладких злаков и листьев
Ртом берут, назначают царя и малюток-квиритов,
Строят сызнова двор и все царство свое восковое.
Часто стирали они, по жесткому ползая щебню,
Крылья, — и душу свою отдавали охотно под ношей.
Вот что за тяга к цветам, что за честь собирание меда!
Так, хоть у них у самих ограниченный возраст и вскоре
Их обрывается жизнь (до седьмого не выжить им лета),
Все ж остается их род бессмертным, и многие годы
Дом Фортуна хранит, и предки числятся предков.
Так царя своего ни в Египте не чтут, ни в обширной
Лидии, ни у парфян, ни на дальнем Гидаспе индийском.
Ежели царь невредим, живут все в добром согласье,
Но лишь утратят его, договор нарушается, сами
Грабят накопленный мед и сотов рушат вощину.
Он — охранитель их дел; ему все дивятся и с шумом
Густо теснятся вокруг; сопутствуют целой толпою,
Носят нередко его на плечах, защищают в сраженье
Телом своим и от ран прекрасную смерть обретают.
Видя такие черты, наблюдая такие примеры,
Многие думали: есть божественной сущности доля
В пчелах, дыханье небес, потому что бог наполняет
Земли все, и моря, и эфирную высь, — от него-то

*И табуны, и стада, и люди, и всякие звери,*
*Все, что родится, берет тончайшие жизни частицы*
*И, разложившись, опять к своему возвращает истоку.*
*Смерти, стало быть, нет — взлетают вечно живые*
*К сонму сияющих звезд и в горнем небе селятся*[6].

Але ж вернемся да нашае пчалы.

Сапраўды, яна была й ёсьць сымбалем працавітасьці, і аспрэчыць гэта — паўторанае шматлікімі дасьледнікамі — быццам не выпадае. І ўсё ж.

Як вельмі слушна напісаў Генадзь Кісялёў, *«мы зыходзім з таго, што сімволіка Скарыны была зразумелая яго адукаваным сучаснікам (інакш які ў ёй сэнс), потым ключы да яе былі згублены і толькі праз два з паловай стагоддзі гісторыкі зноў пачалі спасцігаць, "адкопваць" гэты страчаны сэнс і паступова, вельмі паступова дашукваца ісціны»*[7].

І вось мы нарэшце падыходзім да таго, дзеля чаго, уласна, і быў напісаны загаловак гэтай зацемкі.

Які сэнс быў Скарыну акцэнтаваць увагу сваіх *адукаваных сучасьнікаў*, што ён працуе цяжка, працуе шмат — бы нейкі шараговы рамесьнік, нейкі рольнік? Гэта для нас, у тым XX стагодзьдзі, калі пісалі Юрка Віцьбіч і Ўладзімер Калесьнік, цяжкая праца была нагодаю гордасьці, а для адукаванага чалавека Скарынавага часу падобнае параўнаньне было б ці не абразаю. Дый каб хацеў, дапусьцім, зрабіць акцэнт на высільваючай працы сваёй Скарына, ці абраў бы для гэтай мэты такі вобраз — у доктарскай мантыі, ва ўласным кабінэце сярод кнігаў? Хутчэй, ён падаў бы сябе або загадаў падаць у вобразе, блізкім да маскоўскага помніка Івану Фёдараву — падчас працы, з наборнымі дошкамі, прыладамі, у простым адзеньні.

Не, не рамесьнікам сябе хацеў выставіць наш першадрукар, пісьменьнік, перакладчык — ня нейкай кнігі, а Бібліі. Не да цягавітага ратая прыпадобніцца хацеў.

Скарынава пчала, на маю думку, мела нагадаць *адукаваным сучасьнікам* пра Плятона, якога самі грэкі клікалі "боскім". Хто з кніжных людзей таго часу ня ведаў легендаў пра нараджэньне гэтага філёзафа, бацькам якога лічыўся Апалён, і пра пчолаў, што напаўнялі рот немаўляткі Плятона мёдам як прадвесьце ягонага салодкага моўнага дару?!

Боскі старажытнагрэцкі філёзаф, пісьменьнік — вось ідэал нашага першадрукара, пра што й сьведчыць сымбаль на партрэце.

Пчала Скарыны.

Пчала Плятона.

---

[6] Гл.: http://flibusta.is/b/201286.

[7] Кісялёў, Генадзь. Кніга першая… кніга апошняя. Мінск, 2009. С. 307.

*Публікацыі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ТРАДЫЦЫІ “ТРЭНАСА” МЯЛЕЦІЯ СМАТРЫЦКАГА Ў ЭМІГРАЦЫЙНЫМ КАНТЭКСЬЦЕ

*Дзе зараз той каштоўны каменьчык, як свяцільнік ззяючы карбункул, які я паміж іншымі перламі, як сонца паміж зорамі, у кароне галавы маёй насіла — дом князёў Астрожскіх, які бляскам светласці старажытнай веры сваёй над усімі іншымі свяціў? Дзе і іншыя дарагія і таксама каштоўныя той жа кароны каменні, дабародныя рускіх князёў дамы, неацэнныя сапфіры, бясцэнныя дыяменты, княжаты Слуцкія, Заслаўскія, Збаражскія, Вішнявецкія, Сангушкі, Чартарыйскія, Пронскія, Ружанскія, Саламярэцкія, Галаўчынскія, Крошынскія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія, Лукомскія, Пузыны і іншыя без лічбы, якіх пералічваць паасобку была б доўгая справа? Дзе пры гэтых і іншыя неацэнныя мае скарбы, радавітыя, гавару, слаўныя, велікадумныя, моцныя і старадаўнія, ва ўсім свеце ў добрай пашане, праслаўленыя адвагаю і мужнасцю народу рускага дамы — Хадкевічы, Глябовічы, Кішкі, Сапегі, Дарагастайскія, Война, Валовічы, Зяновічы, Пацы, Халецкія, Тышкевічы, Корсакі, Храбтовічы, Трызны, Гарнастайскія, Бокіі, Мышкі, Госкія, Сямашкі, Гулевічы, Ярмалінскія, Чалганскія, Каліноўскія, Кірдзеі, Загароўскія, Мялешкі, Багавіціны, Паўлоўскія, Сасноўскія, Скуміны, Пацеі і іншыя?*

*Мялеці Сматрыцкі*

Традыцыі старажытнабеларускай культуры на эміграцыі, адчуваньне спадчыннасьці й нават пераемнасьці — тэма не сказаць каб новая. Пра досьледы жыцьця й дзейнасьці Францыска Скарыны, інстытуцыі, названыя ягоным імем пісалася дастаткова, хоць яшчэ застаецца нямала несказанага, недасьледаванага й, галоўнае, несабранага; як мінімум — працы скарыназнаўцы нумар адзін Вітаўта Тумаша. Ведамы артыкул Зоры Кіпель — “Традыцыя Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай на эміграцыі”[1]. Дзьве царквы — у Брукліне і ў Таронта — імя Сьв. Кірылы Тураўскага, а таксама манаграфія пра яго айца Аляксандра Надсана, апярэдзіўшая публікацыі ў мэтраполіі[2], гавораць самі за сябе.

---

[1] Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост. Мінск, 2007. С. 144—150.

[2] Надсон, Аляксандр. Сьвяты Кірыла Тураўскі. Лёндан, 1968.

Мялецій Сматрыцкі не зазнаў у беларускіх паваенных уцекачоў і блізу падобнай увагі й павагі, але й яго згадаць ёсьць падстава, імя якой — Юрка Віцьбіч.

Зацікаўленьне да гэтага дзеяча XVI—XVII стст., нават болей — сымпатыю пісьменьнік выяўляў яшчэ ў сваёй даваеннай творчасьці. Чытаем у аповесьці "Арцыбіскуп і сьмерд":

*«Ад узбурэння ледзь-ледзь толькі скончыў арцыбіскуп імшу. І ўзбурэнне гэта было народжана не пачуццём жаху перад смерцю, а гострым жаданнем помсты паганым схізматыкам. Яго рукі, трымаючы келіх з сакрамантам, выразна дрыжалі, але ў вачах запаліліся аганькі змагання ў імя ўкрыжаванага. Гэта пачуццё не пакінула арцыбіскупа і тады, калі пасля імшы на спусцелым пляцы ён дайшоў дахаты.*

*Праз колькі часу ён пісаў ужо скаргу на бунтаўлівае паспольства ў магістрат. Шукаючы штосьці, ён выцягнуў з шафы кніжку, разгарнуў на выпадковай балонцы, і нечакана ўбачанае там прымусіла яго рынуцца так парывіста да стала, што атрамант з перавернутай рухам каламарніцы заліў скаргу.*

*Кніга гэтая была "Плач" арцыбіскупа Полацкага Мілецыя Сматрыцкага, а на выпадковай балонцы ўбачыў арцыбіскуп:*

*"Дзе неацэненыя шафіры і смарагды дыядэмы маёй? Дзе Вішнявецкія, Сангушкі, Чартарыйскія, Сапегі, Пацы, Каліноўскія, Корсакі, Пацэі? Вы агалілі мяне, зрадцы. Але памятайце: пракляты ўсякі, хто адкрывае нагату сваёй маці".*

*— Ха-ха-ха!!! — нервова засмяяўся арцыбіскуп. — Дыяменты твае пайшлі на аздобу трону святога Пётры ў Вечным горадзе. Велікапанства тваё цалуе пантоплю найшчаснейшага папежа. А за магнатамі мы, воі пана Езуса, пагонім сляпое быдла. І на працягу кароткага часу ў палякі перакінуцца русіны. Ха-ха-ха. А табе анатэма — высвячэнец Сагайдачнага і пагарджонай басоты Запарожжа. Тройчы анатэма. Шыяй пакараць цябе варта.*

*Заўжды самотны ў далёка закінутым у паўночна-ўсходні кут Польшчы Віцебску, арцыбіскуп пачынаў часам размаўляць сам-насам, каб вызваліцца ад цяжару ні з кім не падзеленых думак, не заўважаючы нават дзіўнасці гэтых гутарак. Блукалі насамперад па звілінах мазгоў таемныя для вакольнага думкі, потым нечакана прарываліся вонкі, апранаючыся ў гукавыя злучэнні.*

*Тое, што здарылася сёння на бабінцы катэдры, на момант выціснула Мілецыя Сматрыцкага, але раптам усплыло: Праклён таму, хто агаляе маці... — Гэта з "Плачу", — шаптаў арцыбіскуп. — Чэрнь, значыцца, падтрымлівае сувязь з Мілецыем. — І інстынктыўна пачаў раздзіраць у дробнае шкуматцё партрэт архіепіскапа на першай балонцы»*[3].

[3] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Мінск, 2011. С. 43—44.

Гэты твор, "Плач", трэба разумець, настолькі ўразіў Віцьбіча, што ён ужо ў эміграцыйныя гады зноў і зноў вяртаецца да яго. Вось што ён піша ў лісьце да Сяргея Хмары (22.10.1950): *«У 1610 г. архіяпіскап Мілеці Сматрыцкі надрукаваў свой высокапатрыятычны "Фрынос" ("Плач"), які зьяўляецца і палітычным памфлетам, і высокамастацкім творам. Якое ўражаньне зрабіў гэты твор на нашых продкаў, відаць з таго, што польскі кароль Жыгімунт IV, які ў той час знаходзіўся разам са сваім войскам пад Смаленскам, загадаў спаліць усе паасобнікі гэтае кнігі і тую друкарню, дзе яна друкавалася. Дарэчы — хочацца, каб некаторыя нашыя пісьменьнікі пэсімістыя плакалі-б так, як плакаў Мілеці Сматрыцкі»*[4].

І тую ж думку фармулюе Юрка Віцьбіч у лісьце да Антона Адамовіча (14.03.1950): *«Чалавецкае жыцьцё параўнальна кароткае, каб пасьпець выявіць свае магчымасьці, а гэтым самым як найбольш прылучыцца да вызваленьня Беларусі. Між тым, у нас на чужыне ўжо некаторыя паэты заплакалі. Я асабіста нічога ня маю супраць плачу. Але калі плакаць, дык толькі так, як плакаў Сяргей Ясенін — ягоныя сьлёзы дагэтуль пакрысе падтачваюць крамлёўскія муры, калі плакаць, дык толькі так, як плакалі біблійныя жыдоўкі на раках Бабілёнскіх, калі плакаць, дык толькі так, як плакаў калісьці Мілет Сматрыцкі — пачуўшы гэты плач, кароль забыў пра свае гарматы, калі плакаць, дык толькі так, як плакаў Уладзімер Жылка ў сваім: "Ляпей чужыны золь, Сьцякаць ад чорнай працы потам»*[5].

Каб патлумачыць, які ж плач нашых пісьменьнікаў меў на ўвазе Віцьбіч, дазволю сабе самацытату:

*«Ужо на самым пачатку свайго існаваньня эміграцыйная літаратура фактычна артыкулявала тыя тэмы, што стануцца асноўнымі на працягу ўсяго ейнага існаваньня, у тым ліку туга па радзіме, якая з часам сталася нібы заменьнікам самое літаратуры, тэмаю, безь якой быццам немагчымая сама літаратура... [...] І хоць падобная думка існуе і сёньня*[6]*, варта сказаць, што ўжо ў лягерох ДП ейная слушнасьць (а разам з тым уяўная віна перад пакінутаю Бацькаўшчынай) для асобных пісьменьнікаў была больш як сумніўнаю, а таму зьяўлялася прыдатнаю тэмаю да сатыры, як у вершы-пародыі Р. Бэза (Палікарпа Манькова), напісаным 10 сакавіка 1946 г.*[7]*:*

---

[4] Цалкам ліст публікуецца ў гэтым жа выпуску "Запісаў БІНіМ" ў тэксьце Лявона Юрэвіча "Паперы Кастуся Акулы ў архіве Скарынаўкі як крыніца інфармацыі пра біяграфію й творчасьць пісьменьніка, літаратурнае жыцьцё на эміграцыі й гісторыю канадыйскіх беларусаў".

[5] Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум. Мінск, 2012. С. 53.

[6] Згадайма першую анталёгію літаратуры беларускай эміграцыі, якая так і называлася — "Туга па радзіме" (Мінск, 1992), укладаньне Барыса Сачанкі.

[7] Пародыя напісаная на Рыгора Крушыну.

*Цяжка, цяжка сіраціне*
*У чужой, сухой краіне,*
*Дзе ў людзей у небарак*
*Усё ня гэтак, ўсё ня так.*
*Ды няма у іх балотаў,*
*Ні асотаў, ні чаротаў,*
*Ані купін, ані мхоў,*
*Ні лапцей, ні армякоў.*
*Няма гэтакіх аладак,*
*Ад якіх я быў так гладак*
*На маёй ды на радзіме*
*У каханай у краіне.*
*Ой, хачу я, ой, хачу я…*
*Проста птушкай палячу я*
*На маю ды на радзіму*
*У прыгожую краіну.*
*Сьціпла там сіпяць асіны,*
*Між сучкоў — капшук асіны.*
*У ім восы, нібы пчолкі,*
*Хор вядуць, як амазонкі.*
*Цецярук там на дубе*
*Ды цяцёрачку дзяўбе,*
*А другая падбягае:*
*“Дзеўбані-ж ты і мяне”.*
*У дупле гняздо удода,*
*А зь яго нясецца водар.*
*І пахучы-ж такі ён,*
*Лепшы за адэкалён.*
*У крапіве, дзе ня суха,*
*Сядзіць пекная рапуха.*
*Сьлімакі вакол яе*
*Гладзяць лысіны свае.*
*Смачна пахне пахам плесьні,*
*Як ля лазьні на прадвесьні.*
*Зачароўваюць бары*
*Бляскам рудае кары.*
*Па гразі ў рудую восень*
*Пекна хлюпаюць калёсы.*
*Пад карчамі сьлізкі гад,*
*Хіба-ж я яму ня рад?*
*Ёсьць свабода там і воля,*
*Захацеў — пайшоў у поле.*
*І шчасьлівы там народ —*

*Што яму вадаправод!*
*Вось краіна дык краіна!*
*Гэта й ёсьць мая радзіма.*
*Ай, люлі, ай люлі —*
*Я люблю, і ты любі!*»[8].

Але мо нават болей на Юрку Віцьбіча зрабіла ўражаньне паэтыка “Плачу”, дзе аўтар, Сматрыцкі, выкарыстаў рытмічнасьць народных галашэньняў, гэтыя *“Дзе неацэненыя шафіры і смарагды дыядэмы маёй? Дзе Вішнявецкія, Сангушкі, Чартарыйскія, Сапегі, Пацы, Каліноўскія, Корсакі, Пацэі?”*, што быццам нанізваліся адно на адно, як у нейкай мантры.

Зачараваны гэтым рытмам, Віцьбіч у 1948 г. у лягеры *DP* піша ўлётку, якая тады дый даўгі час пасьля заставалася ананімнаю для гісторыкаў, але ж непрыхаванае захапленьне творам Сматрыцкага выдала аўтара.

## *Беларусы й Беларускі Остэргофэну*

*Беларус з тых 40 беларусаў, якіх прывёз з Пассаў Крэстовіч Барыс. Помні, што ты зробіш, як апошні мярзотнік, калі аддасі свой голас за пагарджаных даношчыкаў крывічоў, якія бясчэльна выкінулі беларуса Крэстовіча з Отэргофэну ў расейскі лягер Натэрнбэрг.*

*Беларус з тых 180 беларусаў, якіх прывёз зь Дзінгольфінгу Беня Іван. Помні, што ты зробіш, як ганебны здраднік, калі аддасі свой голас за польскіх падпанкаў крывічоў і за іхніх цыгарэтных халуёў, якія подла выкінулі беларуса Беню з Остэргофэну ў расейскі лягер Натэрнбэрг.*

*Беларус з тых 160 беларусаў, якіх прывёз з Ашафэнбургу Шостак Аляксандр. Помні, што ты зробіш як брудны злачынца, калі аддасі свой голас за тых самых крывічоў, якія, ідучы бальшавіцкім сьледам, пазбавілі беларуса Шостака на паўгода выбарчых правоў. Ты добра ведаеш, што тут ходзіць не аб коўдры, а вылучна аб тое, што сп. Шостак зьяўляецца кандыдатам на камэнданта.*

*Беларус паляшук! Крывічы зьдзеквуюцца над тваім праваслаўным веравызнаньнем, над тваёй паляшуцкай мовай, над тваімі паляшуцкімі звычаямі. Іх цікавіць толькі ў часе выбараў твой голас, а паміж выбарамі твая кішэня. Твайго сьвяшчэньніка айца Іоана Лупіша, які хрысьціў тваіх дзяцей, вянчаў цябе, хаваў тваіх бацькоў, які, як сапраўдны пастыр, прыйшоў разам з табой, са сваім парафіянінам, з Бацькаўшчыны на чужыну, яны называюць на сходзе — бандытам. Твайму псаломшчыку, таксама паляшуку, сп. Стасюку цяперашні*

[8] Юрэвіч, Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі. Мінск, 2002. С. 13—14.

*камэндант Станіслаў Станкевіч, увёўшы ў блуд УНРР'у, забараніў прыяжджаць у Остэргофэн. Тваю Царкоўную Раду, якую благаславіў Архіяпіскап, езувіты крывічы разьвязалі. Яны гэта робяць дзеля таго, каб гвалтам накінуць табе польскі каталіцызм. Дык галасуй за крывіцкую зграю, калі ты хочаш, як Юда Іскарыёт, зракчыся роднага праваслаўя і тым самым плюнуць на магілкі сваіх дзядоў і прадзедаў. Дык галасуй за крывічоў, калі Рэч Паспалітая для цябе даражэйшая за роднае беларускае праваслаўнае Палесьсе.*

*Беларус усходнік! Беларус з-пад Менску і Віцебску, з-пад Магілёву і Гомелю, з-пад Слуцку і Смаленску! Родны брат беларуса заходніка. Дваццаць год ты пакутваў пад бальшавіцкім ботам. Ад гора твая матка выплакала ўсе свае сьлёзы, твае сёстры адвучыліся сьмяяцца, тваіх братоў закатавалі ў Сібіру. Падлізьнікі крывічы, якія лізалі і ліжуць зады палякам, бальшавікам і немцам, з шляхецкай пагардай называюць цябе "калгасьнікам", "маскалём" і плявузгаюць, што ты "савецкі агент". Паводля свае партыйнае бандыцкае пастановы, крывічы маюць перадаць цябе і ўжо перадаюць з вяроўкай на шыі ў лягеры савецкіх "падданых". Дык галасуй за крывічоў, калі ты хочаш трапіць на бальшавіцкую вісельню.*

*Беларус селянін і работнік! Злодзеі крывічы прывязьлі з Бацькаўшчыны мільёны крывавых гітлераўскіх марак у той час, як ты прыйшоў з хатылём за плячыма, хаваючы па дарозе сваіх дзяцей. Ужо тут крывічы прымусам выкалацілі зь цябе больш чым сто тысяч марак на свае асабістыя справы. Дык галасуй за крывічоў, калі хочаш, каб яны садралі зь цябе і з тваіх дзяцей апошнюю кашулю і порткі. Дык галасуй за крывічоў, калі хочаш, каб за твае грошы яны набылі ў Амэрыцы фэрмы, а цябе зь сям'ёй спакінулі паміраць пад баварскім плотам.*

*Няхай жыве Маці-Беларусь!*
*Няхай загіне здрадніцкае насеньне — крывічы!*

Юрка Віцьбіч ня раз у лістах ды й у фэльетонах будзе карыстаць гэты прыём, але што цікава: ня толькі ён. У такім самым ключы напіша свой твор, "Паніхіда памяці нязнаных Сыноў Беларусі ў абароне яе Вольнасьці", яшчэ адзін шыпшынавец, Мікола Вярба (Сільвановіч)[9].

Вось тым часам столькі да тэмы традыцый "Трэнаса" Мялеція Сматрыцкага на эміграцыі.

[9] Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью Ёрк, 1997. С. 319—323.

*Публікацыі*

***Аляксандар Сьлесараў***
*Менск*

# РЭЛІГІЙНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ АРХІЯПІСКАПА ВАСІЛЯ (ТАМАШЧЫКА) У 1946—1970 гг.

Пераадоленьню нэгатыўных наступстваў трагічнага XX стагодзьдзя, якое прынесла беларускаму народу цяжкія выпрабаваньні, можа садзейнічаць вывучэньне й асэнсаваньне гісторыі супярэчлівых падзеяў мінулага. Гэта датычыць і гісторыі рэлігійнага жыцьця паваеннай беларускай эміграцыі, асаблівасьці разьвіцьця якога аж да цяперашняга часу ў значнай меры передвызначаюць наяўнасьць царкоўна-юрысдыкцыйнага падзелу паміж праваслаўнымі беларусамі. Рознасьць поглядаў на шляхі дасягненьня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, яе нацыянальна-культурнае разьвіцьцё й пэрспэктывы рэлігійнага адраджэньня абумовіла існаваньне трох праваслаўных беларускіх царкоўных юрысдыкцый (Беларускай праваслаўнай царквы ў юрысдыкцыі Маскоўскага патрыярхату, беларускіх парафій Амэрыканскай архіяпіскапіі Канстантынопальскага патрыярахату й Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы — БАПЦ). У сваю чаргу, адсутнасьць рэлігійнага адзінства абумоўлівае разьдзяленьне беларускай нацыі й можа значна пагаршаць узаемаадносіны паміж суайчыньнікамі. На наш погляд, вывучэньне канфэсійнай гісторыі беларускага замежжа садзейнічае пераадоленьню гэтага ўзаемнага адчужэньня й спрыяе асэнсаваньню гістарычнага вопыту адзінага беларускага народу. Адной з ключавых фігураў рэлігійнага жыцьця беларускай дыяспары на Захадзе ў 1946—1970 гг. зьяўляўся архіяпіскап Васіль (Тамашчык), агляду дзейнасьці якога прысьвечаны гэты артыкул. Пры гэтым трэба адзначыць, што нягледзячы на ўжываньне ярархам царкоўнаславянскай формы свайго імя — Васілій, у беларускамоўнай літаратуры ён традыцыйна мянуецца Васілём.

Уладзімер Тамашчык нарадзіўся 15 красавіка 1900 г. у вёсцы Вялікія Азяраны Галынскай воласьці Гарадзенскага павету (цяпер Сакульскі павет Падляскага ваяводзтва, Польшча) у сям'і заможных сялянаў. У 1913 г. разам з бацькамі пераехаў у маёнтак Дубляны (цяпер вёска ў Мастоўскім раёне Гарадзенскай вобласьці, Беларусь), які быў набыты сям'ёй Тамашчыкаў і знаходзіўся ў Вяліка-Бераставіцкай воласьці. З 1912 да 1914 г. навучаўся ў 2-клясавай школе сяла Галынка

Гарадзенскага павету, пасьля яе заканчэньня паступіў у Гарадзенскую настаўніцкую сэмінарыю. Падчас нямецкага наступу 1915 г. сям'я Тамашчыкаў эвакуявалася ў Сібір, дзе Ўладзімер працягнуў навучаньне ў сэмінарыі. У 1920 г. будучы ярарх закончыў сярэднюю школу ў г. Омску й на працягу году працаваў настаўнікам гарадзкой школы. Пасьля разам зь сям'ёй ён вярнуўся ў маёнтак Дубляны, але неўзабаве прыняў рашэньне працягваць адукацыю. У 1929 г. Уладзімер Тамашчык закончыў гімназіяльныя курсы пры Віленскім школьным куратары, а ў наступным годзе паступіў на аграрны факультэт Чэскага політэхнічнага ўнівэрсытэту ў Празе. Падчас навучаньня далучыўся да дзейнасьці БНР, а ў 1932—1938 гг. нават быў сакратаром старшыні Рады БНР Васіля Захаркі (1877—1943).

Па заканчэньні ўнівэрсытэту інжынэр Уладзімер Тамашчык з 1934 да 1939 г. працаваў асыстэнтам у Інстытуце заалёгіі (Прага), а з 1939 да 1941 г. — рабочым у г. Любэк (зямля Шлезьвіг-Гальштэйн, Нямэччына). Нядоўгі час, у 1941 г., ён узначальваў украінскую сельскагаспадарчую школу ў Пярэмышлі (цяпер Падкарпацкае ваяводзтва, Польшча), але неўзабаве перайшоў на працу ў беларускія нацыянальна-грамадзкія ўстановы. Пэўны час жыў у Беластоку й зьяўляўся заступнікам галоўнага рэдактара беларускай газэты "Новыя Дарогі". У 1944 г. пераехаў у Нямеччыну, а ў 1945 г. пасяліўся ў г. Мюнхене, дзе працаваў асыстэнтам-лектарам Міжнароднага ўнівэрсытэту *UNRRA* (*United Nations Relief and Rehabilitation Administration* — Адміністрацыі Аб'еднаных Нацый па дапамозе й аднаўленьні). З 1948 г. узначальваў Беларускі цэнтральны камітэт у Нямеччыне й быў заступнікам старшыні Сусьветнага аб'еднаньня беларускае эміграцыі (САБЭ)[1].

Першы ведамы эпізод удзелу інжынэра Ўладзімера Тамашчыка ў падзеях рэлігійнага жыцьця беларускай эміграцыі зьвязаны зь Першым беларускім праваслаўным зьездам, які адбыўся 5 траўня 1946 г. у Рэгенсбургу (Нямеччына). Правядзеньне зьезду зьявілася рэакцыяй на весткі аб жаданьні ярархаў Беларускай мітраполіі на выгнаньні на чале зь мітрапалітам Панцялейманам (Ражноўскім) далучыцца да Расейскай праваслаўнай царквы замяжой (РПЦЗ). Падчас працы зьезду, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі беларускага духавенства й міранаў з амэрыканскай, ангельскай і французскай акупацыйных зонаў Нямеччыны, адбылося стварэньне новага органу кіраваньня царкоўным жыцьцём

---

[1] Жыцьцяпіс іераманаха Васілія Тамашчыка. Мюнхэн, 2 жніўня 1949 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні) = Collection of documents of the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church (In exile). Authorized by Metropolitan Andrew. Compiled by the Consistory of BAOChurch. [Б. м.], 1983. С. 76; Гарошка, Мікола. Архіяпіскап Васіль // Беларус. № 159. 1970. С. 1—2.


Япіскап Васіль (Уладзімер Тамашчык)

беларускай дыяспары. Пры гэтым трэба адзначыць, што мэтай ягонай дзейнасьці бачылася прыцягненьне нацыянальна сьведамых клірыкаў і міранаў да вырашэньня пытаньняў царкоўнага жыцьця[2]. З пункту гледжаньня праваслаўнага каранічнага права стварэньне гэтага царкоўна-адміністрацыйнага органу без дазволу вышэйшай ярархіі й фактычнае супрацьпастаўленьне яго Сыноду Беларускай мітраполіі можа клясыфікавацца як акт расколу (схізмы).

Падчас абмеркаваньня розных аспэктаў дзейнасьці новаўтворанага царкоўна-адміністрацыйнага органу Філярэт Родзька запрапанаваў назваць яго "Беларускае праваслаўнае аб'еднаньне" (БПА). Але зь ім не пагадзіўся кіраўнік Беларускага цэнтральнага камітэту інжынэр Уладзімер Тамашык, які лічыў, што назва павінна быць больш шырокай, і высунуў прапанову назваць орган "Беларускае хрысьціянскае аб'еднаньне". На думку большасьці дэлегатаў зьезду, такі назоў мог мець схаваныя магчымасьці для ўніяцкага ўплыву на беларускае царкоўнае жыцьцё, таму была зацьверджаная прапанова Філярэта Родзькі[3].

Нягледзячы на зварот удзельнікаў зьезду адносна недапушчальнасьці далучэньня Беларускай мітраполіі да Расейскай праваслаўнай царквы замяжой, ужо 6 траўня 1946 г. беларускія ярархі ўзялі ўдзел у паседжаньні Архіярэйскага Сыноду РПЦЗ. Вынікам абмеркаваньня далейшых пэрспэктываў царкоўнага жыцьця беларускай дыяспары, што адбылося ў той дзень, стала ўключэньне Беларускай мітраполіі ў склад РПЦЗ на правах аўтаноміі[4].

Дзеля пераадоленьня перадумоваў далейшага расколу беларускай праваслаўнай супольнасьці кіраўніцтва Беларускай мітраполіі абвесьціла незаконным утварэньне Беларускага праваслаўнага аб'еднаньня й наклала кананічныя пакараньні на галоўных ініцыятараў

---

[2] Пратакол Беларускага Праваслаўнага З'езду ў Рэгэнсбургу дня 5 траўня 1946 г. С. 592—594; Касяк, Іван. З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу. Нью-Ёрк, 1956. С. 143—144.

[3] Пратакол Беларускага Праваслаўнага З'езду ў Рэгэнсбургу дня 5 траўня 1946 г. С. 593—594.

[4] Архіў Архіерэйскага Сінода РПЦЗ (г. Нью-Ёрк). Д. 76/46. Протокол № 2 Архиерейского Собора Русской Православной Церкви Заграницей. 25 апреля / 8 мая 1946 г. Л. 6; Удостоверение. Архиерейский Синод Русской Православной Церкви заграницей. № 996. Ноября 19-го 1949 года // Праваслаўны Беларус. № 9. 1949. С. 8.

ягонага зьяўленьня. У выніку старшыня БПА протаярэй Мікалай Лапіцкі быў забаронены ў сьвяшчэннаслужэньні, а найбольш актыўны дзеяч БПА інжынэр Іван Касяк на тры гады пазбаўлены прычасьця (эўхарыстычнай лучнасьці з Праваслаўнай царквою). Гэтыя меры мелі наступствам перагляд кіраўніцтвам БПА свайго стаўленьня да беларускага епіскапату й падпарадкаваньня арганізацыі епіскапату Беларускай мітраполіі, што завяршылася прыняцьцем адпаведнай пастановы на Другім беларускім праваслаўным зьездзе, які адбыўся 12 верасьня 1946 г. у Рэгенсбургу[5].

Знаходжаньне ярархаў Беларускай мітраполіі ў складзе РПЦЗ не выклікала падтрымкі з боку Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), арыентаванай на палітыку стварэньня незалежнай Беларускай праваслаўнай царквы. Пры гэтым палітычны аспэкт аўтакефальнага праекту дамінаваў над кананічным. Пасьля доўгіх пошукаў сярод праваслаўных архіярэяў, якія пражывалі ў Нямеччыне, прыхільнікі ідэі царкоўнай незалежнасьці зьвярнуліся да япіскапа Мелітопальскага Сергія (Ахатэнкі), ярарха Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (УАПЦ). 11 траўня 1948 г. апошні даў свой пісьмовы адказ адносна гатоўнасьці ўзяць удзел у фармаваньні структураў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы[6].

Пачаткам царкоўнага расколу беларускай дыяспары можна лічыць 5 чэрвеня 1948 г., калі япіскап Сергій (Ахатэнка) узначаліў царкоўны Сабор у г. Канстанца (Нямеччына). На гэтым Саборы адбылося прыняцьце пастановаў адносна пачатку разбудовы незалежнай Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы й стварэньня Часовага кіраўніцтва БАПЦ на чале зь япіскапам Сергіем (безь ягонага адыходу ад УАПЦ)[7].

Значная частка беларускага духавенства вельмі насьцярожана аднеслася да пастановаў Канстанцкага Сабору, бо відавочным было парушэньне нарматыўных падставаў праваслаўнага кананічнага права, забараняючага абвешчаньне аўтакефаліі без узгадненьня гэтага пытаньня з кірыярхальнай Царквой і іншымі Памеснымі Цэрквамі. Асобных беларускіх клірыкаў бянтэжылі пэрспэктывы абраньня нягодных, на іх погляд, асобаў на высокія пасады ў БАПЦ. Напрыклад, протаярэй Хведар Данілюк адмовіўся ад удзелу ў Канстанцкім Саборы,

---

[5] Вініцкі, Алесь. Матэр'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох. Ч. II: Рэлігійныя справы. Лос Анжэлес, 1968 (машынапіс). Л. 26—27, 47.

[6] Ліст япіскапа Сергія (Ахатэнка) да старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэта Віктара Вайтэнка ад 11.05.1948 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 26.

[7] Пастановы Саборыку Праваслаўных Беларусаў у Нямеччыне, у дзень прп. Еўфрасіні 23 траўня / 5 чырвеня 1948 г. у Канстанцы // Тамсама. С. 8.

бо не пагаджаўся з магчымым абраньнем палкоўніка Міколы Дзямідава ў якасьці кандыдата на япіскапскае высьвячэньне. Але крыху пазьней у інжынэра Ўладзімера Тамашчыка атрымалася пераканаць протаярэя далучыцца да БАПЦ[8].

Пастановы Канстанцкага Сабору атрымалі поўную падтрымку з боку Рады БНР. На паседжаньні яе Прэзыдыюму 21 чэрвеня 1948 г. пад кіраўніцтвам Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка адбылося прыняцьце рашэньня аб усебаковай падтрымцы працэсу разбудовы структуры БАПЦ. Больш за тое, Прэзыдыюм абраў трох кандыдатаў на архіярэйскае рукапалажэньне ў асобах архімандрыта Ўладзімера (Фінькоўскага), палкоўніка Міколы Дзямідава й старшыні Беларускага цэнтральнага камітэту ў Нямеччыне Ўладзімера Тамашчыка[9]. Актыўны ўдзел кіраўніцтва БНР у зацьвярджэньні кандыдатураў на вышэйшае ерархічнае служэньне сьведчыць аб прамой залежнасьці праекту стварэньня БАПЦ ад кірунку рэлігійнай палітыкі, якую праводзіла названая палітычная арганізацыя.

Да пачатку 1949 г. Прэзыдэнт Рады БНР адхіліў кандыдатуры архімандрыта Ўладзімера (Фінькоўскага) і палкоўніка Міколы Дзямідава. У сваім лісьце да прэм'ер-міністра БНР Аўгена Каханоўскага ад 14 студзеня ён падкрэсьліваў неабходнасьць абраньня кандыдатаў на япіскапства выключна зь міранаў, бо, на ягоную думку, сярод беларускага кліру годныя кандыдаты адсутнічалі. Пры гэтым Мікола Абрамчык спасылаўся на прэцэдэнт УАПЦ, значная колькасьць ярархаў якой абіраліся ў япіскапы зь міранаў. Таксама ён згадваў пра неабходнасьць наяўнасьці ў будучага архіярэя пэўнай грамадзка-палітычнай пазыцыі: *"Патрэбна-б было, па-мойму, зрабіць усе высілкі, каб знайсьці прынамсі аднаго добрага кандыдата на япіскапа, які-б усю нашу царкоўную справу ўзяў моцна за рогі. Чалавека добра выробленага грамадзка-палітычнага і маральна загартаванага. Зразумела, на такіх кандыдатаў можым разраховываць толькі з сьвецкіх (бо з існуючых духоўных ня знойдзем)"*[10]. Далей Прэзыдэнт БНР назваў Уладзімера Тамашчыка найбольш прыдатным кандыдатам на япіскапскае высьвячэньне й выказаў свае меркаваньні адносна падрыхтоўкі ягонай хіратоніі: *"Было-б вельмі добра, каб Вы заахвоцілі і ўгаварылі на гэта сп. Тамашчыка і яшчэ кагось аднаго. Рабіце гэта ўсё толькі*

[8] Данілюк, Барыс. Успаміны // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 428.

[9] Пратакол № 2 паседжаньня Прэзыдыюму Рады БНР 21 чэрвеня 1948 г. у Остэргофэне // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 103—104.

[10] Ліст Міколы Абрамчыка да Аўгена Каханоўскага ад 14.01.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970)... С. 450.

*сьцісла замкнута, каб не паддаваць галоснасьці перад дакончаным фактам. Калі-б Тамашчык згадзіўся ці хто іншы, тады ціханька без усялякага афішаваньня ідуць у манахі (да ўкраін[цаў]) дзесь на 2 месяцы, а потым прыедуць у Парыж зь япіскапам Сергіем ці яшчэ лепш хіратанізуюцца ў Нямеччыне, а ў Парыжу зробім урачыстасьць"*[11]. Зьвяртаючыся да асобы палкоўніка Міколы Дзямідава, Прэзыдэнт БНР зазначаў фармальную немагчымасьць ягонага архіярэйскага высьвячэньня з прычыны таго, што ён знаходзіўся ў шлюбе й ня мог прыняць манаства[12].

Верагоднае абраньне Ўладзімера Тамашчыка на архіярэйскае служэньне абумовіла ягонае прызначэньне на пасаду заступніка кіраўніка Галоўнага епархіяльнага кіраўніцтва БАПЦ, у якое загадам япіскапа Сергія (Ахатэнкі) ад 11 лютага 1949 г. было ператворана Часовае кіраўніцтва БАПЦ[13]. Сутнасьць гэтай рэарганізацыі заключалася ў наданьні адміністрацыйнай структуры БАПЦ выгляду традыцыйнай для праваслаўя епархіяльнай ўправы.

Канчатковае зацьверджаньне інжынэра Ўладзімера Тамашчыка ў якасьці кандыдата на архіярэйскае высьвячэньне адбылося 14 сакавіка 1949 г. на паседжаньні Прэзыдыюму Рады БНР. Пагадзіўшыся з абраньнем, ён высунуў умовай свайго рукапалажэньня падтрымку з боку беларускіх палітычных арганізацыяў і грамадзкасьці. На наступны дзень, 15 сакавіка, у лягеры Остэргофэн сабраўся агульны сход духавенства й вернікаў БАПЦ, які зацьвердзіў пастанову Прэзыдыюму Рады БНР[14].

Важным практычным крокам па рэалізацыі плянаў адносна пашырэньня епіскапату БАПЦ стаў накіраваны ў сакавіку 1949 г. зварот прэм'ер-міністра БНР Яўгена Каханоўскага да Сьвяшчэннага Сыноду УАПЦ з просьбай аб садзейнічаньні ў правядзеньні архіярэйскай хіратоніі Ўладзімера Тамашчыка й дазволе япіскапу Сергію (Ахатэнка) далучыцца да БАПЦ[15].

Згодна з рашэньнем палітычнага кіраўніцтва БНР далей пачалося імклівае ўзвышэньне інжынэра па ерархічнай лесьвіцы ў межах

---

[11] Ліст Міколы Абрамчыка да Аўгена Каханоўскага ад 14.01.1949. С. 451.

[12] Ліст Міколы Абрамчыка да Аўгена Каханоўскага ад 14.01.1949. С. 451.

[13] Пратакол Агульнага Сходу дэлегатаў і вернікаў БАПЦ у Остэргофэне ад 15.03.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 140.

[14] Пратакол № 3 паседжання Прэзідыюма Рады БНР дня 14-га, сакавіка, 1949 году ў Остэргофэне, Нямеччына // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 123; Пратакол паседжання Кансісторыі БАПЦ ад 05.06.1949 // Тамсама. С. 142.

[15] Зварот прэмьер-міністра БНР А. Каханоўскага да Свяшчэннага Сінода УАПЦ. Сакавік 1949 г. // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 126—127.

юрыдыкцыі БАПЦ. 23 красавіка 1949 г. ён прыняў манаства зь імем Васіль, 25 красавіка япіскапам Сергіем быў пасьвечаны ў сан ерадыякана, а 5 чэрвеня ў сан ераманаха[16]. Весткі аб гэтым выклікалі крытычную рэакцыю з боку прыхільнікаў Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР), якая знаходзілася ў канкурэнтным супрацьстаяньні з Радай БНР. На старонках газэты "Беларускае Слова" ананімны аўтар пад псэўданімам "Някрывіч" пісаў: *"У нашым беларускім царкоўным жыцьці гэта першы выпадак, калі камуніст стаўся сьвятаром"*[17]. Відавочна, што ў гэтым пасажы мелася на ўвазе падтрымка будучым сьвятаром Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якая магла быць у 1920-я гг.

Пастановай Кансісторыі БАПЦ ад 6 чэрвеня 1949 г. новарукапакладзены ераманах Васіль атрымаў прызначэньне на пасаду прадстаўніка Кансысторыі, якая часова разьмясьцілася ў Мюнхене й неўзабаве павінна была пераехаць у беларускі лягер для перамешчаных асобаў у Розэнгайме (зямля Верхняя Баварыя, Нямеччына)[18]. У тым жа месяцы адбылося перасяленьне ў Розэнгайм беларусаў зь лягераў Віндышбэргердорф, Шляйсгайм, Остэргофэн і Альтэнштат, што прывяло да стварэньня найбуйшейшага беларускага асяродку ў Нямеччыне[19].

Падлегласьць Розэнгайму палітычнаму ўплыву Рады БНР абумовіла зацьвярджэньне ў гэтым месцы цэнтру царкоўнага жыцьця для прыхільнікаў БАПЦ. Акрамя згаданага пераезду Кансысторыі БАПЦ, у Розэнгайме адбылося стварэньне беларускай Сьвята-Мікалаеўскай парафіі й пачалося будаўніцтва храму. Указам япіскапа Сергія (Ахатэнка) ад 12 чэрвеня 1949 г. настаяцелем парафіі БАПЦ быў прызначаны ераманах Васіль (Тамашчык). Ужо 21 жніўня таго ж года адбылося высьвячэньне новазбудаванага храму, якому рашэньнем япіскапа Сергія быў наданы статус катэдральнага сабору БАПЦ[20].

---

[16] Пасьведчаньне аб манаскім пастрыгу, дыяканскай і іерэйскай хіратоніях Васілія (Тамашчыка). 12.06.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 24; Жыцьцяпіс іераманаха Васілія Тамашчыка. Мюнхэн, 2 жніўня 1949 г. // Тамсама. С. 76.

[17] Някрывіч. З царкоўнага жыцьця // Беларускае Слова. № 10 (11). 12 кастрычніка 1949. С. 2.

[18] Ліст іерарманаха Васілія (Тамашчыка) да протаіерэя Сцяпана Войтэнка ад 04.07.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 74.

[19] Вініцкі, Алесь. Матэр'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. С. 126, 135, 137—144; Вініцкі, Алесь. Матэр'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. II: Рэлігійныя справы. Л. 115.

[20] Ліст царкоўнага кімітэта ў Розенгайме да епіскапа Сергія (Ахатэнка) ад 10.08.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 144—145; Указ архіепіскапа Сергія (Ахатэнка)

Усебаковая падтрымка працэсу стварэньня БАПЦ дазваляла ўраду БНР разглядаць садзейнічаньне ейнаму далейшаму станаўленьню як адзін з прыярытэтных кірункаў сваёй дзейнасьці. На паседжаньні Рады міністраў БНР, якое праходзіла 14—15 кастрычніка 1949 г. у Розэнгайме, адбылося зацьверджаньне пэрспэктыўнага пляну працы ўраду БНР. У сьпіс мерапрыемстваў Міністэрства культуры й веравызнаньняў былі ўлучаны архіярэйская хіратонія ігумена Васіля (Тамашчыка), афармленьне кананічнага выхаду япіскапа Сергія (Ахатэнка) зь юрысдыкцыі УАПЦ і ягонае афіцыйнае далучэньне да БАПЦ, арганізацыя Сьвяшчэннага Сабору БАПЦ і разьвіцьце дзейнасьці Жыровіцкага праваслаўнага брацтва[21].

Рэалізацыя плянаў адносна разьвіцьця БАПЦ у значнай ступені залежала ад стаўленьня да гэтага вышэйшага кіраўніцтва УАПЦ. Таму ўрад БНР накіраваў прэм'ер-міністра Аўгена Каханоўскага разам зь міністрам культуры й веравызнаньняў Алесем Вініцкім на Архіярэйскі Сабор УАПЦ, які праходзіў 4 лістапада 1949 г. ва ўкраінскім лягеры для перамешчаных асобаў у Дылінгене (Нямеччына). Вынікам праведзеных перамоваў стала прыняцьце рашэньня аб садзейнічаньні ў разбудове БАПЦ і рукапалажэньне ігумена Васіля ў сан япіскапа. Але ўмовай такога высьвячэньня называлася абавязковае правядзеньне папярэдняга выпрабаваньня кандыдата на адпаведнасьць ягоных асабістых якасьцяў высокім крытэрам архіярэйскага званьня. Ажыцьцяўленьне духоўнага іспыту даручалася архіяпіскапу Генадзію (Шыпрыкевічу) і япіскапу Вячаславу (Лісіцкаму). Разам з тым Архіярэйскі Сабор УАПЦ дазволіў япіскапу Сергію (Ахатэнка) перайсьці ў юрысдыкцыю БАПЦ[22].

---

аб прызначэнні іераманаха Васілія (Тамашчыка) настаяцелем парафіі БАПЦ у лагеры Розенгайм. 12.06.1949 // Тамсама. С. 75; Letter to Referent of Church Affairs from the Church Commission and believers of Whiteruthenian Independent Church in Rosenheim. 12.07.1949 // Тамсама. С. 143; Урачыстасьць БАПЦ у Розенгайме // Бацькаўшчына. № 16 (60). 1949. С. 1.

[21] Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 14—15.10.1949 г. Розэнгайм — Нямеччына // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970)... С. 153.

[22] Виписка з Протоколу ч. 2 засідання VI сесії Свящ. Собору Єпископів УАП-Церкви на еміграції, відбутого дня 4 листопада 1949 р. в українському таборі в Ділінген // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 113; Выцяг з пратаколу № 2 паседжаньня VI сэсіі Сьвят. Сабору Епіскапаў УАП Царквы на эміграцыі, адбытага 4 лістапада 1949 г. у ўкраінскім лягеры ў Дылінгене // Бацькаўшчына. 1950. № 1 (61). С. 2; Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 30.11.1949 г. Розэнгайм — Нямеччына // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970)... С. 155; Вініцкі, Алесь. Матэр'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. II: Рэлігійныя справы. Л. 95.

Паколькі ігумен Васіль (Тамашчык) не атрымаў духоўнай асьветы й меў досыць малы вопыт царкоўнага служэньня, япіскап Сергій (Ахатэнка) быў вельмі няпэўны ў станоўчых выніках праходжаньня ім архіярэйскага іспыту. Таму 10 лістапада 1949 г. ён пісьмова зьвярнуўся да япіскапа Вячаслава (Лісіцкага) з просьбай аб прыхільным стаўленьні да вызначанага кандыдата на архіярэйскае служэньне ў БАПЦ і адпаведным уплыве на другога члена экзаменацыйнай камісіі: *“Уладыка! [...] Я, з свайго боку, прашу на экзамене а. Васілія нарэшце зрабіце форму экзаменаў. Тут, цяпер вельмі патрэбны япіскап. Бо калі Вы, або Уладыка Генадзій, зрэжаце яго, то нам будзе нялоўка з гэткаю дапамогаю Беларусам. [...] Як што, Ул[адыка] Генадзій правaліць а. Васілія, то атрымаецца вялікая перамена, бо ёсьць япіскапы, каторыя гоняцца на гэтае сьвятое дзела. Але, Б.А.П.Царква хоча мець лучнасьць з УАПЦ. Прашу Вас, Уладыка, і Уладыку Генадзія прашу, гэтую справу з а. Васіліем правесьці прыгожа і ўсё будзе добра у Вас і ў нас. [...] А як гэтае дзела правaліце — скандал. Нам і Вам. А ворагі тады пасьмяюцца над намі. Спадзяюся, што ўсё будзе добра й прыгожа”*[23]. Вынікам усіх намаганьняў стала пасьпяховае праходжаньне ігуменам Васілём неабходных атэстацыйных іспытаў, што здымала апошнюю перашкоду на шляху да ягонай архіярэйскай хiратоніі.

Станоўчае рашэньне Архіярэйскага Сабору УАПЦ адносна дараваньня кананічнага водпуску япіскапу Сергію (Ахатэнка) і садзейнічаньня ў япіскапскім высьвячэньні ігумена Васіля стварала ўмовы для рэалізацыі ўрадам БНР яшчэ адной з пастаўленых задачаў — фармаваньня Сабору япіскапаў БАПЦ. Пасьля абмеркаваньня гэтага пытаньня Рада міністраў БНР на сваім на паседжаньні ад 30 лістапада 1949 г. вызначыла неабходнасьць прызначэньня япіскапа Сергія Першаярархам БАПЦ з узьвядзеньнем у сан архіяпіскапа, а будучага япіскапа Васіля (Тамашчыка) разглядала ў якасьці заступніка Першаярарха[24].

Весткі аб падрыхтоўцы архіярэйскай хіратоніі ігумена Васіля выклікалі нэгатыўную рэакцыю з боку ярархаў Беларускай мітраполіі ў складзе РПЦЗ. Спрабуючы не дапусціць гэтага высьвячэньня япіскап

---

[23] Ліст епіскапа Сергія (Ахатэнка) да епіскапа Вячаслава (Лісіцкага) ад 10.11.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 17.

[24] Ліст прам’ер-міністра БНР А. Каханоўскага да Духоўнай кансісторыі БАПЦ і епіскапа Сергія (Ахатэнка). 03.12.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 149; Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 30.11.1949 г. Розэнгайм — Нямеччына // Тамсама. С. 134; Пратакол паседжаньня Рады міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі 30.11.1949 г. Розэнгайм — Нямеччына // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970)... С. 155.

Афанасій (Мартас) асабіста сустракаўся зь Першаярархам УАПЦ мітрапалітам Палікарпам (Сікорскім). Спробу ўзьдзеяньня на мітрапаліта Палікарпа з свайго боку зрабіў прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі, які ў пісьмовым звароце да яго адгаворваў ад хіратоніі беларускага япіскапа й спасылаўся на кананічныя правілы Двукротнага Сабору (861 г.). Нягледзячы на ўсе намаганьні праціўнікаў беларускай аўтакефаліі, кіраўніцтва УАПЦ засталося непахісным у сваёй гатоўнасьці садзейнічаць зьяўленьню самастойнай ярархіі БАПЦ[25]. Акрамя таго, Сынод Беларускай мітраполіі на сваім паседжаньні ад 14—15 лістапада 1949 г. зацьвердзіў "Пастанову Беларускага Епіскапату ў справе ўмяшаньня Ўкраінскага Епіскапату ўва ўнутраныя справы Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі". Гэты дакумэнт дэкляраваў прыхільнасьць беларускіх ярархаў у складзе РПЦЗ беларускай нацыянальнай ідэі, іх арыентаванасьць на садзейнічаньне ўзьнікненьню незалежнай беларускай дзяржавы, а таксама зьмяшчаў пратэст адносна ўмяшаньня ярархаў УАПЦ у беларускія царкоўныя справы, што характарызавалася ў катэгорыях расколу[26]. У апошні дзень сынадальнага паседжаньня архіяпіскап Вэнэдыкт (Бабкоўскі) з групай беларускага духавенства РПЦЗ наведаў кіраўніка аддзелу па рэлігійных пытаньнях перамешчаных асобаў у Мюнхене Г. Баркера й беспасьпяхова спрабаваў пераканаць яго ў неабходнасьці забароны архіярэйскага высьвячэньня ігумена Васіля (Тамашчыка)[27].

Распараджэньнем Першаярарха УАПЦ нарачэньне ігумена Васіля (Тамашчыка) япіскапам Віленскім адбылося 18 сьнежня 1949 г. у Сьвята-Мікалаеўскім храме беларускага лягеру для перамешчаных асобаў у Розэнгайме. На наступны дзень, 19 сьнежня, у тым жа храме адбылася архіярэйская хіратонія другога ярарха БАПЦ, якую зьдзейсьнілі япіскап Сергій (Ахатэнка) у саслужэньні зь ярархамі УАПЦ япіскапам Платонам (Арцемюком) і япіскапам Вячаславам (Лісіцкім). На богаслужэньні прысутнічалі прадстаўнікі каля трыццаці дэлегацыяў з боку грамадзска-палітычных, царкоўных, культурных, студэнцкіх,

[25] Ліст епіскапа Ровенскага і Крэменецкага Платона (Арцемюка) да ігумена Васіля (Тамашчыка). 12.12.1949 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 78.

[26] Пастанова Беларускага Епіскапату ў справе ўмяшаньня Украінскага Епіскапату ўва ўнутраныя справы Беларускай Праваслаўнай Царквы на эміграцыі // Вініцкі, Алесь. Матэр'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. II: Рэлігійныя справы. Л. 112—113; Крыловіч, М. Беларускі вызвольны рух і Праваслаўная Царква. // Беларускае Слова. 1950. 25 сакавіка. № 2 (14). С. 12.

[27] Вініцкі, Алесь. Матэр'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. II: Рэлігійныя справы. Л. 97.

моладзевых і іншых арганізацыяў розных народаў з амэрыканскай, брытанскай й францускай акупацыйных зонаў Нямеччыны. Значную частку фінансавых выдаткаў, зьвязаных з арганізацыяй урачыстасьці, узяў на сябе ўрад БНР[28].

Першае паседжаньне Сьвяшчэннага Сабору япіскапаў БАПЦ, якое адбылося 20 сьнежня 1949 г. у Розэнгайме, абрала япіскапа Сергія (Ахатэнку) Першаярархам БАПЦ з узьвядзеньнем у сан архіяпіскапа й зацьвердзіла япіскапа Васіля (Тамашчыка) на сталай пасадзе сакратара Сабору япіскапаў БАПЦ. Акрамя таго, адбылося разьмеркаваньне сфэраў адміністрацыйнай улады кожнага зь ярархаў: архіяпіскап Сергій атрымаў прызначэньне на пасаду адміністратара БАПЦ у Аўстраліі, а япіскап Васіль стаў адміністратарам БАПЦ у ЗША, Канадзе й Эўропе[29].

Рукапалажэньне япіскапа Васіля (Тамашчыка) і ўзьнікненьне Сьвяшчэннага Сабору япіскапаў БАПЦ завяршыла царкоўны раскол беларускай дыяспары. Зьвяртаючыся да суайчыньнікаў, ярархі Беларускай мітраполіі РПЦЗ апублікавалі “Архіпастырскае пасланьне япіскапаў Беларускай Праваслаўнай Царквы да духавенства і веруючых праваслаўных беларусаў на эміграцыі” ад 7 студзеня 1950 г., у якім крытычна ацэньвалі дзейнасьць па стварэньні БАПЦ і заклікалі праваслаўны народ аб’яднацца вакол кананічнага беларускага епіскапату на чале зь мітрапалітам Панцялейманам (Ражноўскім)[30].

Яшчэ больш нэгатыўную ацэнку ўзьнікненьне ярархіі БАПЦ атрымала з боку Архіярэйскага Сыноду РПЦЗ, які ў сваёй пастанове “Аб самачыннай Беларускай Царкве” ад 1950 г. аб’яўляў рукапалажэньне

---

[28] Грамата аб архіерэйскім рукапалажэньні Васілія (Тамашчыка) ва япіскапа Віленскага. Розенгайм, 20 сьнежня 1949 г. На 1 л. Рукапіс. Фотакопія. Архіў аўтара; Ліст Аўгена Кахноўскага, адрасаваны Прэзідэнту БНР М. Абрамчыку ад 26.12.1949 // Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970)... С. 484—485; Ліст мітрапаліта Палікарпа (Сікорскага) до епіскапа Сергія (Ахатэнка) // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 115; Навіцкі, І. Вялікія дні БАПЦ // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1950. С. 1; Bird, Thomas E. Orthodoxy in Byelorussia: 1917—1980 // Запісы БІНіМ. № 17. Нью Ёрк, 1983. P. 169.

[29] Гарошка, Мікола. Архіяпіскап Васіль. С. 1; Гарбінскі, Юры. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагодзьдзя. С. 191; Ліст Аўгена Кахноўскага, адрасаваны Прэзідэнту БНР М. Абрамчыку ад 26.12.1949. С. 485; Першая Сэсія Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1950. С. 1; Саборнае архіпастырскае пасланьне // Бацькаўшчына. № 1 (61). 1950. С. 2.

[30] Архіпастырскае пасланьне япіскапаў Беларускай Праваслаўнай Царквы да духавенства і веруючых праваслаўных беларусаў на эміграцыі. 25 сьнежня 1949 году паводле старога стылю // Вініцкі, Алесь. Матэр’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ч. II: Рэлігійныя справы. Л. 116—118.

япіскапа Васіля (Тамашчыка) незаконным і нядзейным[31]. На практыцы прыняцьце гэтай пастановы азначала адмову Расейскай Праваслаўнай Царквы за мяжой ад прызнаньня ўсіх царкоўных сьвяшчэннадзеяньняў БАПЦ (Эўхарыстыі, рукапалажэньня ў сьвяшчэнны сан, шлюбу й г. д.), што пасьлядоўна праводзілася ў РПЦЗ на працягу многіх гадоў[32].

Падтрымалі крытыку БАПЦ і грамадзка-палітычныя колы, арыентаваныя на палітыку Беларускай Цэнтральнай Рады. Напрыклад, газэта "Беларускае Слова" называла БАПЦ сэктай, а япіскапа Васіля (Тамашчыка) характэрызавала як *"нядаўняга салдата гітлераўскае групы фэльдмаршала Паўлюса, а пазьней вельмі энэргічнага супрацоўніка гітлераўскага Арбайтсфронту"*[33].

Нягледзячы на крытычныя выказваньні ў свой бок, япіскап Васіль пачаў актыўную дзейнасьць па ўмацаваньні ўплыву БАПЦ на беларускую дыяспару. Вясной 1950 г. ён наведаў Бэльгію, дзе пры падтрымцы БНР і Саюзу беларусаў у Бэльгіі ініцыяваў стварэньне парафіі БАПЦ пры Лювэнскім каталіцкім унівэрсытэце, які актыўна прымаў беларусаў для навучаньня па розных спэцыяльнасьцях[34]. У чэрвені таго ж году япіскап Васіль зьдзейсьніў візыт у Вялікабрытанію, дзе таксама прыняў шэраг захадаў па арганізацыі парафіяў БАПЦ і высьвяціў для іх духоўнага акармленьня ярэя Аляксандра Крыта[35].

Плянуючы пераехаць на сталае жыхарства ў Нью-Ёрк, япіскап Васіль (Тамашчык) з прычыны навучаньня ва Ўкраінскай багаслоўскай акадэміі УАПЦ у Мюнхене вымушаны быў пэўны час заставацца ў Нямеччыне. Здабыўшы ступень магістра багаслоўя, у траўні 1951 г. ён накіраваўся ў ЗША, дзе актыўна ўключыўся ў грамадзка-палітычнае й культурнае жыцьцё мясцовай беларускай дыяспары. У сьнежні таго ж

---

[31] Постановление Архиерейского Синода о самочинной Белорусской Церкви // Православная Русь. № 4. 1950 С. 13—14.

[32] Гл.: Резолюция Епархиального Съезда Канадской епархии Русской Православной Церкви Заграницей о прихожанах, состоящих во внебрачном сожительстве // Православный Вестник в Канаде. № 18—19. 1972. С. 11.

[33] Крыловіч, М. Беларускі вызвольны рух і Праваслаўная Царква // Беларускае Слова. № 2 (14). 25 сакавіка 1950. С. 12.

[34] Праневіч, А. Візыта Япіскапа БАПЦ Уладыкі Васіля ў Бэльгіі // Інфармацыйны бюлетэнь Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. № 5. 1950. С. 2—4.

[35] БАПЦарква ў Вялікай Брытаніі // Голас Царквы. № 45. 1976. С. 13—14; З царкоўнага жыцьця // Беларус. № 1. 1950. С. 4; Крушына, Янка. Брадфорд, цэнтар беларускага рэлігійнага жыцьця ў Вялікай Брытаніі // Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1968 год. Нью-Ёрк: Выданьне Епархіяльнае Управы Сьв. Б.А.П.Ц. у Амэрыцы, 1967. С. 94—97; Праасьвяшчэньнейшы Ўладыка Васіль сярод беларусаў Англіі // Бацькаўшчына. № 63. 1950. С. 4; Стаўпіскі, Міхась. Рада БАПЦарквы ў В. Брытаніі // Голас Царквы. № 45. 1976. С. 15.

году ярарх узначаліў на пасадзе старшыні новаўтвораную грамадзкую навукова-культурную арганізацыю Беларускі інстытут навукі й мастацтва (БІНіМ). Мэтаю стварэньння гэтай установы бачылася аб'яднаньне прадстаўнікоў беларускай навукі, літаратуры й мастацтва ў эміграцыі дзеля каардынаваньня іх сумеснай дзейнасьці[36].

На працягу шэрагу гадоў адным з найважнейшых пытаньняў арганізацыі царкоўнай структуры БАПЦ было ўзвышэньне яе да ўзроўню мітраполіі. Неабходнай кананічнай умовай для гэтага зьяўлялася такое павелічэньне колькасьці епіскапату, пры якім у склад Сыноду БАПЦ уваходзілі б ня менш як тры архіярэі. Рознасьць падыходаў да вырашэньня задачы абраньня трэцяга ярарха надзвычайна ўскладніла ўзаемаадносіны паміж архіяпіскапам Сергіем (Ахатэнкам) і япіскапам Васілём (Тамашчыкам). Кожны зь іх разглядаў магчымасьць узмацненьня свайго ўплыву на ўнутранае жыцьцё БАПЦ праз вылучэньне ўласнага стаўленіка на вышэйшую ерархічную ступеню. Ужо ў 1950 г. архіяпіскап Сергій прапанаваў ярэю Аляксандру Крыту зь Вялікабрытаніі прыняць манаства й архіярэйскае высьвячэньне, якое ён плянаваў зьдзейсьніць пры падтрымцы ярархаў УАПЦ. Але, даведаўшыся пра гэта, япіскап Васіль прыклаў усе намаганьні, каб адхіліць кандыдатуру ярэя Аляксандра. Пры гэтым ён прапанаваў высьвяціць на япіскапа настаяцеля парафіі БАПЦ у Таронта (Канада) ярэя Мікалая Мацукевіча. Прапанова сакратара Сабору япіскапаў БАПЦ не знайшла падтрымкі Першаярарха[37]. Узьніклае супрацьстаяньне расьцягнулася на васямнаццаць гадоў, тым самым паралізаваўшы многія сфэры царкоўнага кіраваньня й абумовіўшы разьвіцьцё сыстэмнага крызісу ў БАПЦ.

Рашучыя дзеяньні, накіраваныя на дасягненьне кампрамісу зь япіскапам (з 28 сакавіка 1954 г. архіяпіскапам) Васілём (Тамашчыкам), Першаярарх БАПЦ прадпрымаў у 1952, 1956—1957, 1963 і 1967 гг. Пры гэтым ён пагаджаўся на архіярэйскае высьвячэньне Мікалая Мацукевіча (з 1966 г. архімандрыта), але пры ўмове згоды сакратара Сабору

---

[36] Тимчасова довідка єпископові Василеві Томащикові про присудження ступеня магістра богослов'я. U.A.O.C. Theological Academy: München. 27.05.1951 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 73; Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Хронікі БІНІМу. Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2017. С. 18—21, 23; Гарошка, Мікола. Архіяпіскап Васіль. С. 1; Яго Праасьвяшчэнства Япіскап БАПЦ Васіль пакінуў Эўропу // Бацькаўшчына. № 67. 1951. С. 3.

[37] Ліст архіепіскапа Сергія (Ахатэнка) да сьвяшчэньніка Аляксандра Крыта ад 30.12.1950 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 30; Ліст сакратара Сінода УАПЦ епіскапа Платона (Арцемюка) да епіскапа Васіля (Тамашчыка). 02.02.1950 // Тамсама. С. 119.

япіскапаў БАПЦ на япіскапскую хіратонію Аляксандра Крыта (з 1952 г. протаярэя). Аднак кожны раз архіяпіскап Васіль выказваў сваю катэгарычную нязгоду, што знаходзіла падтрымку з боку кіраўніцтва БНР[38].

Пакінуўшы надзею на мірнае ўзгадненьне пытаньня, 15 лютага 1968 г. архіяпіскап Сергій (Ахатэнка) зьдзейсьніў рукапалажэньне свайго стаўленіка, некалькімі днямі раней пастрыжанага ў манаства зь імем Андрэй, на япіскапа Гарадзенска-Наваградзкага й Кліўлэндзкага. Удзел у хіратоніі прыняў таксама кіраўнік Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі неканнанічнай Свабоднай сэрбскай праваслаўнай царквы (ССПЦ) япіскап Дзімітрый (Балач). Указам Першаярарха БАПЦ япіскап Андрэй (Крыт) прыняў прызначэньне на пасаду кіраўніка новазаснаванай Кліўлэндзкай япархіі, вікарыя Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі, адміністратара БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы й Заходняй Эўропе[39]. Лёгіка гэтых прызначэньняў сьведчыць аб жаданьні архіяпіскапа Сергія (Ахатэнкі) замацаваць за япіскапам Андрэем максымум магчымых адміністрацыйных паўнамоцтваў і тым самым абмежаваць уплыў архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) на нутранае жыцьцё БАПЦ. Цалкам відавочна, што Першаярарх БАПЦ разглядаў новага архіярэя ў якасьці свайго магчымага пераемніка.

---

[38] Загад архіепіскапа Сергія (Ахатэнка) архіепіскапу Васілю (Тамашчыку) ад 25.10.1956 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 42; Ліст архіепіскапа Сергія (Ахатэнка) да епіскапа Васіля (Тамашчыка) ад 26.08.1952 // Тамсама. С. 35; Ліст архіепіскапа Сергія (Ахатэнка) да протаіерэя Аляксандра Крыта. 1952 г. // Тамсама. С. 35; Ліст архіепіскапа Сергія (Ахатэнка) да архіепіскапа Васіля (Тамашчыка). 14.07.1967 // Тамсама. С. 58; Ліст архіепіскапа Сергія (Ахатэнка) да протаіерэя Аляксандра Крыта. 03.08.1967 // Тамсама. С. 59; Ліст Епархіяльнай управы БАПЦ у Амерыке, Канадзе і Еўропе да протаіерэя Аляксандра Крыта і Царкоўнай Рады парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе. 26.06.1967 // Тамсама. С. 91; Ліст першага заступніка Прэзідэнта БНР Аляксандра Стагановіча і старшыні Суду БНР Філарэта Родзькі да архіепіскапа Сергія (Ахатэнка). 05.10.1967 // Тамсама. С. 60; Пасьведчаньне аб узнагародзе епіскапа Васіля (Тамашчыка) санам архіепіскапа. 28.03.1954 // Тамсама. С. 83; Пратакол паседжаньня Епархіяльнае Управы ў царкве ў Гайленд Парку (ЗША) ад 1 сьнежня 1963 г. // Тамсама. С. 135; Ліст протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага да архіепіскапа Афанасія (Мартаса). Красавік 1967 г. // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. Нью-Ёрк — Варшава: БІНіМ — ІСПАН, 2005. С. 339.

[39] Стаўленічаская грамата епіскапа Андрэя (Крыта). 15.02.1968 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 64—65; Letter from archbishop Sergij (Okhotenko). 09.02.1968 // Тамсама. С. 63; Указ архіепіскапа Сергія (Ахатэнка) аб прызначэнні епіскапа Андрэя (Крыта) кіраўніком архіерэйскай кафедры ў Кліўлендзе і вікарыем Першаіерарха БАПЦ на Аўстралію, Новую Зеландзію і Амерыку. 16.02.1968 // Тамсама. С. 66; Розмысл, Сяргей. Падзеі ў Адэлаідзе. С. 24—25;

Рэакцыяй архіяпіскапа Васіля на зьяўленьне ў БАПЦ новага ярарха стала актывізацыя намаганьняў, накіраваных на правядзеньне япіскапскай хіратоніі архімандрыта Мікалая (Мацукевіча). Ужо 1 сакавіка 1968 г. дзеячы прыбылі ў Аўстралію й пасьля цяжкіх перамоваў пераканалі Першаярарха БАПЦ у неабходнасьці высьвячэньня чацьвертага архіярэя БАПЦ. Рукапалажэньне архімандрыта Мікалая на япіскапа Турава-Пінскага й Тарoнтаўскага зьдзейсьнілі 10 сакавіка таго ж году архіяпіскап Сергій (Ахатэнка), архіяпіскап Васіль (Тамашчык), кіраўнік Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі УАПЦ архіяпіскап Сільвэстар (Гаеўскі) і кіраўнік Аўстралійска-Новазэляндзкай япархіі ССПЦ япіскап Дзімітрый (Балач)[40]. Такім чынам, у 1968 г. адбылося вырашэньне шматгадовай праблемы зьяўленьня новых беларускіх архіярэяў. Але пераўтварэньне БАПЦ у мітраполію пры жыцьці архіяпіскапаў Сергія (Ахатэнкі) і Васіля (Тамашчыка) не адбылося з прычыны надзвычайнай напружанасьці адносінаў паміж гэтымі ярархамі.

Асобнай увагі патрабуе агляд дзейнасьці архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) у галіне міжправаслаўных зносінаў. Амаль адразу пасьля пераезду ў ЗША ён зьвярнуўся да Экзарха Канстантынопальскага патрыярхату ў Паўночнай і Паўднёвай Амэрыцы архіяпіскапа Міхаіла (Кукузіса) з прапановай аб усталяваньні кананічных зносінаў з БАПЦ. Падчас разгляду гэтага пытаньня апошні зьвярнуўся па кансультацыю да протаярэя Мікалая Лапіцкага, які зьяўляўся прыхільнікам рэлігійнай палітыкі Беларускай Цэнтральнай Рады, разбудоўваў беларускія парафіі ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату й вельмі нэгатыўна ставіўся да БАПЦ. Гэтая акалічнасьць перадвызначыла адмоўны адказ архіяпіскапа Міхаіла (Кукузіса) на прапанову архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка). Другі раз сакратар Сабору япіскапаў БАПЦ зьвярнуўся з аналягічнай прапановай да Экзарха Канстантынопальскага патрыярхату ў Паўночнай і Паўднёвай Амэрыцы 1 травеня 1963 г. Гэтая ініцыятыва сустрэла падтрымку з боку ўдзельнікаў Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая праходзіла 1 верасьня 1963 г.[41]. Але

[40] Аўстралійскі Беларус. Новыя япіскапы // Беларус. № 132. 1968. С. 4; Розмысл, Сяргей. Падзеі ў Адэлаідзе. С. 25; Bird, Thomas E. Orthodoxy in Byelorussia: 1917—1980. P. 169.

[41] Ліст архіепіскапа Васілія (Тамашчыка) Яго Высокапрэасьвяшчэнству, Высокапрэасьвяшчэньнейшаму Якаву, Экзарху Усяленскае Патрыярхіі на Паўночную і Паўдзённую Амэрыку. 01.05.1963 // Царкоўны Сьветач. № 14—15. 1964. С. 7; Ліст протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага да архіепіскапа Афанасія (Мартаса) ад 22.12.1962 // Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. С. 332; Ліст протапрэсвіцера Мікалая Лапіцкага да архіепіскапа Афанасія (Мартаса) ад 25.05.1963 // Тамсама. С. 334—335; Ліст протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага да архіепіскапа Афанасія (Мартаса) ад 08.10.1963 // Тамсама. С. 338; Ліст архіепіскапа Афанасія (Мартаса)

значная частка прыхільнікаў БАПЦ жадала толькі вызнаньня свайго кананічнага статусу, не разглядаючы прапанаванага ім прыяднаньня да юрысдыкцыі грэцкай архіепіскапіі ў Амэрыцы. Заява аб гэтым прагучала 30 лістапада 1963 г. падчас правядзеньня Другога епархіяльнага зьезду БАПЦ у ЗША, Канадзе й Эўропе[42], што канчаткова спыніла развіцьцё дыялёгу паміж БАПЦ і Канстантынопальскім патрыярхатам.

Аглядаючы дзейнасьць архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) у якасьці адміністратара БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы, трэба адзначыць, што ў значнай ступені яго намаганьні мелі вынікам пасьлядоўнае разьвіцьцё і ўдасканаленьне царкоўнай структуры. З ініцыятывы ярарха ў 1955 г. пачалося выданьне рэлігійна-грамадзкага часопісу "Голас Царквы", які стаў афіцыйным органам БАПЦ і рэдагаваўся самім архіяпіскапам[43]. На старонках часопісу, які выходзіў два разы на год[44], публікаваліся архіпастырскія пасланьні, афіцыйныя дакумэнты, хроніка царкоўных падзеяў, матэрыялы духоўна-маральнага, багаслоўскага й гістарычнага зьместу.

Значнай падзеяй рэлігійнага жыцьця беларускай дыяспары стала правядзеньне 28—29 траўня 1960 г. у Нью-Ёрку Першага епархіяльнага зьезду БАПЦ у ЗША, Канадзе й Эўропе, які праходзіў пад кіраўніцтвам архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка). Згодна з пастановай Зьезду адбылося пераўтварэньне адміністратуры БАПЦ на тэрыторыі ЗША, Канады й Эўропы ў самастойную япархію, што больш адпавядала праваслаўным традыцыям арганізацыі царкоўнага жыцьця. Акрамя таго, удзельнікі мерапрыемства стварылі епархіяльныя аддзелы й прызначылі іх кіраўнікоў, выпрацавалі механізм фармаваньня епархіяльнага бюджэту

да протапрэсвіцера Мікалая Лапіцкага ад 19.06.1963 // Тамсама. С. 355; Ліст протапрэсвіцера Мікалая Лапіцкага да архіепіскапа Афанасія (Мартаса) ад 08.10.1963 // Тамсама. С. 337; Ліст протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага да архіепіскапа Афанасія (Мартаса). Травень 1963 г. // Тамсама. С. 333; Рэзалюцыя Зьезду Беларусаў Амэрыкі і Канады. 1 верасня 1963 г. // Царкоўны Сьветач. № 14—15. 1964. С. 5; Аўтакефалісты. У абароне нашае Царквы (Несьвятарскія чыны аднаго сьвятара) // Беларус. № 3 (9). 1952. С. 2; Лапіцкі, Мікалай, протаярэй. У імя праўды // Царкоўны Сьветач. № 4. 1953. С. 12—13; Тамашчык у Экзарха Сусьветнага Патрыярха // Царкоўны Сьветач. № 2. 1952. С. 12.

[42] Рэзалюцыя Другога Епархіяльнага Сабору Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Паўночнае Амэрыкі ў справе задзіночаньня беларускіх праваслаўных парафіяў у Амэрыцы й Канадзе. 30 лістапада 1963 г. // Уздым. № 2. 1963. С. 10.

[43] Хроніка // Голас Царквы. № 1. 1955. С. 14—15.

[44] У 1972—1976 гг. часопіс выходзіў тры разы на год, у 1982 г. ня выйшла ніводнага нумару, а ў 1988—1989 гг. выйшаў адзін падвойны нумар. З 1993 г. выданьне часопісу спынілася.

й пастанавілі адкрыць пастырска-рэгенцкія курсы на базе парафіі Жыровіцкай іконы Божай Маці ў Кліўлэндзе. З ініцыятывы архіяпіскапа Васіля была прынятая пастанова аб неабходнасьці пашырэньня беларусізацыі царкоўнага жыцьця БАПЦ. Акрамя ўжо ўведзенага ў царкоўны ўжытак справаводзтва, прапаведніцтва й выкладаньня Закону Божага ў беларускай мове, ярарх прапанаваў перакласьці на родную мову богаслужбовыя тэксты й тэксты Старога й Новага Запавету. Гэтая прапанова знайшла поўную падтрымку ва ўдзельнікаў зьезду[45]. Вынікам прыняцьця апошняга рашэньня стаў пачатак шматгадовай перакладніцкай працы, якая прывяла да зьяўленьня корпусу беларускамоўных кнігаў Сьвятога Пісьма й літургічнага ўжытку.

Нягледзячы на тое што архіяпіскап Васіль (Тамашчык) стала жыў у Нью-Ёрку, ён ня змог усталяваць прыязныя дачыненьні й заваяваць павагу сярод удзельнікаў мясцовай парафіі БАПЦ. У прыватным лісьце да каталіцкага ераманаха-марыяніна Язэпа Гэрмановіча ён у 1965 г. пісаў: *«Прычыну неразуменьня мяне збоку нашае інтэлігенцыі я бачу яшчэ ў нечым іншым. Гэта нашая векавая бяда. [...] Дам Вам такія прыклады: ужо многа ўкраінскіх епіскапаў пісалі мне: вашыя артыкулы ў "Голасе Царквы" пракрасныя, з радасьцю прачыталі іх, жадаем далейшых посьпехаў, а наш інтэлігент навет неахвотна купляе яго. Часам да мяне ў Сабор на Службы Божыя заходзяць украінскія сьвяшчэньнікі, якія пры цалаваньні Крыжа кажуць мне: Уладыка, вашая пропаведзь сяньня была цудоўная! А нашыя інтэлігенты: Уладыка, задоўга гаворыце! А гавару я прыблізна 10—15 мінут! Ужо пару разоў сталася ў мяне такая рэч: калі я бываю ў Кліўлендзе, там заўсёды саслужыць мне наймені два ўкраінскія сьвяшчэньнікі. І вось пасьля на абедзе яны кажуць мне: Уладыка, ці не маглі бы даць нам копіі вашае цудоўнае пропаведзі? І ўжо пару разоў я ім даваў. А Вы думаеце, што хоць адзін наш інтэлігент зьвярнуўся да мяне з такою просьбаю? Не, ён навет наагул хіба й ня слухаў, або адным вухам слухаў, а другім выпускаў. Вось тут галоўная цяжкасьць: няма ў нас царкоўных людзей. Многія нашыя інтэлігенты ня ведаюць навет малітвы Ойча Наш! Факт! Што-ж тут ім памогуць прыповесьці? І тут галоўная прычына, чаму я стараюся падыходзіць да іх шляхам РОЗУМУ. Няма іншага выхаду. Я добра разумею, што СЭРЦА ў духоўным жыцьці вялікая рэч, і тут я яго стараюся таксама выкарыстоўваць, але гэта хутчэй датычыць звычайных сялян, бо*

[45] Епархіальны Зьезд БАПЦарквы // Голас Царквы. № 12. 1960. С. 6—9; Першы Епархіяльны Зьезд Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы й Канадзе // Бюлетэнь Беларускага Праваслаўнага Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці ў Вялікабрытаніі. № 8. Сьнежань 1960. С. 2.

*ў інтэлігенцыі нашай сэрца грубае, аброслае мохам, і дастацца да яго амаль немагчыма, хіба хутчэй пра розум"*[46].

У тым жа годзе архіяпіскап Васіль распачаў спробу наданьня парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку статусу катэдральнага сабору. Пры гэтым ярарх плянаваў перавесьці сабор пад сваё беспасярэднае кіраўніцтва, што выклікала абурэньне з боку царкоўнай рады й справакавала жорсткі канфлікт. Рашэньнем надзвычайнага агульнага парафіяльнага сходу, скліканага 14 лістапада 1965 г., было абвешчана незаконным прызначэньне архіяпіскапам новай царкоўнай (парафіяльнай) рады. Больш таго, удзельнікі агульнага сходу адмовіліся выдаткоўваць сродкі на ўтрыманьне архіяпіскапа, але апошні сваім загадам ад 3 красавіка 1966 г. прызначыў новага скарбніка парафіі, што дазваляла ўсталяваць кантроль над царкоўнай касай. Наступны надзвычайны агульны парафіяльны сход, які адбыўся 8 траўня 1966 г. без дазволу архіяпіскапа Васіля, заявіў аб поўным даверы старому складу царкоўнай рады, забараніў скарбніку перадаваць справы прадстаўніку епархіяльнага архіярэя й прызначыў ярэя Юрыя Абрэмскага настаяцелем парафіі. Пасьлядоўнае разьвіцьцё супрацьстаяньня парафіяльнай рады з найвышэйшай епархіяльнай уладай мела сваім вынікам накладаньне кананічных санкцыяў (адлучэньня ад прычасьця) на найбольш актыўных міранаў, якія працягвалі заставацца ў складзе кіроўчага царкоўнага органу. Незадавальненьне гэтым заахвоціла архіяпіскапа Васіля зьвярнуцца ў Вярхоўны суд штату Нью-Ёрк. Амаль адначасна з гэтым ярарх выдаў распараджэньне ад 5 лістапада 1967 г., згодна зь якім ярэй Юрый за сваю дзейнасьць супраць кіроўнага архіярэя пазбаўляўся сьвятарскага сану[47].

---

[46] Архіў Беларускай бібліятэкі й музэю імя Францішка Скарыны (АББМ). Ліст архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) да ераманаха Язэпа Гэрмановіча. Бруклін, Вялікдзень, 1965. Машынапіс. Л. 1—1 аб.

[47] Распараджэнне архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) адносна пазбаўленьня сану сьвяшчэньніка Юрыя Абрэмскага. 05.11.1967 // Збор дакумантаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (На выгнаньні). С. 92; Рэзалюцыя, прынятая на надзвычайным агульным сходзе прыхажанаў парафіі катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, дня 8 травеня 1966 г. у залі, 401 Атлянтык Авэню, Бруклін, Нью Ёрк // Беларуская думка. № 9. 1966. С. 25—26; Распараджэньне архіепіскапа Васіля (Тамашчыка) адносна адстраненьня скарбніка Царкоўнай Рады Прыходу Катэдральнага Сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага Д. Клінцэвіча. 02.04.1966 // Беларуская думка. № 9.1966. С. 26—27; Аўтакефаліст. З вуніяцкіх нератаў на волю // Царкоўны Сьветач. № 17. 1968. С. 31; З гісторыі прыходу сьв. Кірылы Тураўскага // Амэрыканска-Беларуская Незалежная Праваслаўная Царква сьв. Кірылы Тураўскага. Нью Ёрк, 1969. С. 3—4; Новая царкоўная рада ў Кліўлендзе // Голас Царквы. № 23. 1966. С. 15; Присутны. Агульны надзвычайны сход прыхажанаў парафіі катэдральнага сабору сьв. Кірылы

Падчас судовага разьбіральніцтва канфлікт парафіяльнай рады з архіяпіскапам Васілём (Тамашчыкам) даходзіў нават да сутыкненьняў у храме. Напрыклад, 10 студзеня 1968 г. частка парафіяльнага актыву на працягу дзьвюх гадзінаў спрабавала не дапусьціць свайго архіярэя да служэньня літургіі й заплянаванага ярэйскага рукапалажэньня Васіля Кендыша. Неузабаве епархіяльны сход прыняў новы статут парафіі сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, згодна зь якім бруклінскі храм пераходзіў у непасрэднае падпарадкаваньне архіяпіскапу Васілю. Вызначэньнем Вярхоўнага суду штату Нью-Ёрк № 17212/1967 ад 8 жніўня 1968 г. кіроўны архіярэй быў прызнаны правамоцным ажыцьцяўляць кіраваньне парафіяй, але за парафіяльнай радай заставалася права распараджацца царкоўнымі сродкамі й маёмасьцю. Больш таго, судовае распараджэньне вызнавала неабгрунтаваным накладаньне кананічных санкцыяў на прадстаўнікоў парафіяльнай рады. Незадаволеныя такім разьвіцьцём падзеяў прадстаўнікі больш, чым пяцідзесяці беларускіх сем’яў зладзілі 10 лістапада 1968 г. спэцыяльны сход, на якім прынялі пастанову аб поўным спыненьні царкоўных зносінаў з архіяпіскапам Васілём (Тамашчыкам), выхадзе зь юрысдыкцыі БАПЦ, пераходзе ў склад Амэрыканскай архіепіскапіі Канстантынопальскага патрыярхату й пабудове новай беларускай царквы ў Нью-Ёрку[48].

Адыход значнай часткі прыхаджанаў катэдральнага сабору Сьвятога Кірылы Тураўскага ад БАПЦ не спыніў крытыкі ў адрас архіяпіскапа Васіля. Найбольш гучным абвінавачваньнем ярарха на працягу шэрагу гадоў было выяўленьне ягонай прыхільнасьці да філакаталіцызму й падазрэньні ў крыптавуніяцтве. Значны розгалас у беларускім праваслаўным асяродзьдзі мела публікацыя прыватнага ліста архіяпіскапа Васіля да палкоўніка Мікалая Дзямідава, напісанага 2 студзеня 1956 г. з нагоды падрыхтоўкі да ўрачыстага адкрыцьця грэка-каталіцкай парафіі ў Чыкага. Не знаходзячы для сябе магчымым прыняць удзел у мерапрыемстве, сакратар Сыноду БАПЦ скардзіўся на адсутнасьць адпаведнай атмасфэры ва ўзаемаадносінах беларускіх праваслаўных і каталікоў. За гэтыя словы крытыкі называлі архіяпіскапа ўніятам і параўноўвалі яго зь дзеячамі ўніяцкай царквы XVI — XVIII стст.[49].

---

Тураўскага ў Брукліне, БАПЦ // Беларуская думка. № 9. 1966. С. 25; Розмысл, Сяргей. Расьце непакой у БАПЦ // Праваслаўным Шляхам. № 1 (14). 1969. С. 20—21.

48 Адозва Ўправы Прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага. Нью Ёрк, 18 лютага 1969 г. // Праваслаўным Шляхам. № 1 (14). 1969. С. 23; Аўтакефаліст. З вуніяцкіх нератаў на волю. С. 31; З гісторыі прыходу сьв. Кірылы Тураўскага. С. 5; Новы сьвяшчэньнік БАПЦ // Голас Царквы. № 26. 1967. С. 16.

49 Ад Беларускага Праваслаўнага Жыровіцкага Брацтва. Яшчэ адзін доказ. Сакратар БПЖБрацтва А. А. 25.03.1957 г. Машынапіс. Л. 1—1 аб.; Розмысл, С. Расьце непакой у БАПЦ. С. 20—22.

Рэлігійная дзейнасьць архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) на працягу шэрагу гадоў уключала ў сябе палітычнае напаўненьне, што абумоўлівалася цеснай узаемасувязьзю БАПЦ з Радай БНР. Ад сярэдзіны 1950-х гг. ярарх традыцыйна наведваў Кангрэс ЗША з нагоды чарговых гадавінаў абвешчаньня незалежнасьці БНР (25 сакавіка 1918 г.), дзе адкрываў працу найвышэйшага заканадаўчага органу малітвай аб Беларусі й меў афіцыйныя сустрэчы з прадстаўнікамі амэрыканскай улады. У розныя гады сакратар Сыноду БАПЦ сустракаўся са сьпікерамі Кангрэсу, кангрэсмэнамі, сэнатарамі й віцэ-прэзыдэнтамі ЗША[50].

Не пазбаўлены былі палітычнага зьместу й царкоўныя пастановы, прынятыя з удзелам архіяпіскапа Васіля. Напрыклад, акрамя вырашэньня пытаньняў царкоўна-адміністрацыйнага характару, Другі епархіяльны сабор БАПЦ 30 лістапада 1963 г. прыняў рэзалюцыю з пазначэньнем беларускіх эмігрантаў як *“ахвяраў старога й новага расейскага імпэрыялізму”*[51]. Пры гэтым дэкляравалася, што *“сучасная савецкая ўлада ў нічым не зьмяніла народа-забойчай палітыкі з часоў Сталіна. Наадварот, яна ўсіліла гэту палітыку праз выкарыстаньне расейскае Праваслаўнае Царквы дзеля сваіх імпэрыялістычных мэтаў”*[52]. Падобным чынам Чацьверты епархіяльны сабор БАПЦ, які

---

[50] Акт 25 скавіка ў Кангрэсе ЗША // Бацькаўшчына. № 15—16 (349—350). 1957. С. 5; Беларуская дэлегацыя ў Віцэ-прэзыдэнта ЗША // Бацькаўшчына. № 14—15 (400—401). 1958. С. 3; Беларуская дэлегацыя ў Віцэ-Прэзыдэнта ЗША Рычарда Ніксона // Бацькаўшчына. № 16—17 (402—403). 1958. С. 1; Беларуская дэлегацыя ў Сэнаце ЗША // Бацькаўшчына. № 2 (629). 1965. С. 1; Малітва, прачытаная ўладыкаю Васілём у Сэнаце ЗША з нагоды Ўгодкаў 25-га Сакавіка // Голас Царквы. № 13. 1961. С. 16; Малітва, прачытаная ўладыкаю Васілём у Сэнаце ЗША з нагоды 45-х угодкаў 25-га Сакавіка // Голас Царквы. № 17. 1963. С. 3—4; Малітва ў Сэнаце Задзіночаных Штатаў Амэрыкі // Бацькаўшчына. № 16—17 (402—403). 1958. С. 1; Малітва Яго Высокапрэасьвяшчэнства Уладыкі Васілія, прачытаная ім у Сэнаце ЗША з нагоды 48-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка // Голас Царквы. № 23. 1966. С. 3—4; Рэха сьвяткаваньня 48-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка // Бацькаўшчына. № 2 (635). 1966. С. 7; Сакавіковыя ўрачыстасьці ў Нью-Ёрку // Голас Царквы. № 17. 1963. С. 15; Сакавіковыя ўрачыстасьці ў Ню-Ёрку // Голас Царквы. № 23. 1966. С. 15—16; Сьвята 25 Сакавіка ў ЗША // Беларус. № 60. 1957. С. 4; Сьвята Незалежнасьці Беларусі ў ЗША // Беларус. № 66. 1958. С. 1—2; Урачысты абход Сакавіковай гадавіны ў Нью Ёрку // Бацькаўшчына. № 16—17 (402—403). 1958. С. 2; Хроніка // Бюлетэнь Беларускага Праваслаўнага Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці ў Вялікабрытаніі. № 4. Жнівень 1958. С. 10; Хроніка // Голас Царквы. № 5. 1957. С. 15; Хроніка // Голас Царквы. № 7. 1958. С. 14—16.

[51] Другая рэзалюцыя Другога Епархіяльнага Сабору Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Паўночнае Амэрыкі. 30 лістапада 1963 г. // Уздым. 1963. № 2. С. 10.

[52] Другая рэзалюцыя Другога Епархіяльнага Сабору…

праходзіў 30 жніўня 1969 г., прыняў рэзалюцыю з абвінавачваньнем савецкай улады ў русыфікацыі беларускіх земляў[53].

9 чэрвеня 1970 г. архіяпіскап Васіль (Тамашчык) раптоўна памёр у сваёй нью-ёрскай кватэры, што спарадзіла мноства чутак і нечаканых здагадак. Даволі распаўсюджанай стала вэрсія пра магчымае забойства ці самагубства ярарха, чаму спрыялі такія абставіны, як выяўленьне набожчыка толькі празь некалькі дзён пасьля сьмерці й пахаваньне яго ў закрытай труне. Пасьля таго як газэта "Беларускі Голас" апублікавала на сваіх старонках тэкст з шакуючымі здагадкамі наконт прычыны сьмерці архіяпіскапа, Епархіяльная ўправа БАПЦ у ЗША й Канадзе накіравала ў рэдакцыю вышэй згаданага пэрыядычнага выданьня саваё абвяржэньне. Згодна з афіцыйнай заявай гэтага царкоўна-адміністрацыйнага органу, мэдычная экспэртыза вызначыла прычынай сьмерці сардэчны прыступ. Абвяргаліся таксама чуткі адносна таго, што пры пахаваньні архіярэя труна была пустая[54].

Падводзячы вынікі агляду рэлігійнай дзейнасьці архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) у 1946—1970 гг., трэба адзначыць ягоны вялікі ўплыў на працэс станаўленьня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, які значна абумовіў кірунак і формы ейнага гістарычнага разьвіцьця. Пры гэтым варта згадаць, што архіяпіскап Васіль на працягу многіх гадоў свайго жыцьця меў дачыненьне да палітычнай дзейнасьці й актыўна мабілізоўваў палітычны патэнцыял БАПЦ для рэалізацыі задачаў, вызначаных кіраўніцтвам Беларускай Народнай Рэспублікі. Выразнай рысай ягонага архіярэйскага служэньня было атаясамленьне палітычных і рэлігійных інтарэсаў беларускага народу, што нават у наш час можа знаходзіць розныя ацэнкі.

---

[53] Рэзалюцыя Чацьвертага Епархіяльнага Сабора БАПЦ // Голас Царквы. № 30. 1969. С. 8—9; Чацьверты Епархіяльны Сабор Сьв. БАПЦ // Голас Царквы. № 30. 1969. С. 6—8.

[54] Апошняе падарожжа ўладыкі Васіля // Беларус. № 159. 1970. С. 3; Гарошка, Мікола. Архіяпіскап Васіль. С. 1; 133; Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Праніклівасьць і практычны падыход. Нью-Ёрк, 1992. С. 354—355; Сьвятой памяці Высокапраасьвяшчэньнейшы Архіепіскап Васіль // Голас Царквы. 1970. № 32. С. 4.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ЭПІГРАМА — СЫТУАЦЫЙНЫ ЖАНР

Тэрмін "сытуацыйнасьць" у дачыненьні да літаратурнага жанру ўпершыню, здаецца, ужыў Элеазар Меляцінскі ў кнізе "Гістарычная паэтыка навэлы" (Масква, 1990): *"Сярэднявечная пераднавэла, як мы ведаем, была пераважна менавіта сытуацыйнай, у клясычнай навэле Адраджэньня паводзіны пэрсанажаў суадносіліся ня толькі з абставінамі, але й зь іхнымі асабістымі ўласьцівасьцямі, пазьней узьнікае намёк на індывідуальныя характары"*[1].

Сытуацыйнасьць у значна большай ступені ўласьцівая эпіграме, яна фактычна стварае яе — на асабістых якасьцях, індывідуальных характарах, а галоўнае, на канкрэтнай жыцьцёвай, гістарычнай сытуацыі. З гэтага вынікае, што, каб зразумець эпіграму, трэба ведаць кантэкст, абставіны, інакш ейны сэнс пройдзе паўз чытача. Ад гэтай высновы зусім лёгка зрабіць крок да наступнай: эпіграмы *мусяць* камэнтавацца.

У "Анталогіі беларускай эпіграмы" (Мінск, 2000) гэтага звыкла не адбываецца, хоць укладальнік Казімір Камейша ў прадмове й піша: *«Згадваецца такі выпадак. Неяк у Саюзе пісьменнікаў ішоў юбілейны творчы вечар Міхася Машары. Па традыцыі пасля хвалебных выступаў слова ўзяў сам юбіляр. І пачаў ён са сваіх ранніх вершаў. І толькі прачытаў радкі: "Я сын галоты і цямры", як дзверы расчыніліся, і Анатоль Вялюгін, які зайшоў у залу, працягнуў: "Купіце боты мне, сябры!". Зала выбухнула смехам. Сама сабою нарадзілася эпіграма, якая памятаецца і сёння:*

*Я сын галоты і цямры,*
*Купіце боты мне, сябры» (с. 5).*

Як можна зразумець гэтую эпіграму бязь веданьня сытуацыі, у якой яна ўтварылася, — пытаньне, відаць, цалкам рытарычнае.

Камэнтаваньне таксама дазваляе ўбачыць, зразумець, якога характару эпіграмы. Створаныя на эміграцыі — бадай выключна зьвязаныя зь літаратураю, нават калі гэта эпіграмы палітычныя (!), і збольшага датычацца літаратурных твораў аб'екту сатыры ці ягонай ролі ў літаратурным працэсе.

---

[1] Гл.: http://flibusta.is/b/340516. Пераклад з расейскай Н. Г.

Сытуацыйнасьць важная й з боку гледзішча часу напісаньня эпіграмы, бязь веданьня сутнасьці канфлікту "крывічоў" і "зарубежнікаў" у лягерах *DP* і пазьней шмат якія месцы застануцца незаўважанымі, *"ня выстраляць"*.

Прадэманструем гэта на асобных творах.

Хіба найбольш эпіграмаў было прысьвечана Юрку Віцьбічу — тры, што ёсьць адбіткам ягонай актыўнасьці й як рэдактара, і як журналіста.

Эпіграма Ўладзімера Клішэвіча (1944):

*На патугі рэдактар багаты.*
*Здэцца, зьявяцца зараз двайняты...*
*Толькі цяжка раджаецца "Ўзвышша",*
*Ні адзін яшчэ нумар ня выйшаў.*

Юрка Віцьбіч у часе вайны быў сябрам Беларускага культурнага згуртаваньня й адказным за выпуск часапісу, які меўся называцца "Ўзвышша". Трэба сказаць, што адзін нумар усё ж быў падрыхтаваны[2].

Другая эпіграма, ананімная, называецца "Ўзвышэнец" (маецца на ўвазе даваеннае літаратурнае згуртаваньне) і напісаная палітычным апанэнтам Віцьбіча, хоць ідзецца вылучна пра літаратуру:

*На ўзвыш, ўзвышша рваўся, бедны,*
*А скончыў — "Бацькаўшчыны" дном.*
*Усё грашак вось гэты медны*
*Той кут пад Стасевым ярмом!*
*Званіў ў "званы Сьвятой Сафіі"*
*І громы ціскаў ён на Рым.*
*А сяньня славіць ўжо віція,*
*Што ўчора гэтак йшчэ карыў.*

Першы радок датычыцца таго ж часапісу ваеннага часу. Пад *«дном "Бацькаўшчыны"»* маюцца на ўвазе так званыя падвалы знакамітага эміграцыйнага пэрыёдыка — месца ўнізе газэтнай бачыны, дзе пераважна друкаваліся Віцьбічавы творы. *"Стасева ярмо"* — намёк на рэдактара "Бацькаўшчыны" Стася Станкевіча. "Званы Сьвятой Сафіі" — праваслаўны часапіс, рэдагаваны Віцьбічам, з крытыкаю каталікоў і вуніятаў. Зьмена поглядаў, выказваньне большай талеранцыі й крытыкуецца ў эпіграме.

Эпіграма Міхася Кавыля:

*Не, ня крывёю, а чарнілам*
*Ён паражае д'ябла сілы*
*І на узвышша шляхам чыну*
*Вядзе праз немарач "Шыпшыну".*

---

[2] Гл.: Гардзіенка, Наталля. Часопіс "Узвышша" 1944 года як архіўны рарытэт // Roczniki humanistyczne. T. 65. Zeszyt 7. 2017. S. 147—152.

Тут аўтар абыгрывае два творы Юркі Віцьбіча — ненапісаную кнігу "Не чарнілам, а крывёю", урыўкі зь якое друкаваліся ў тагачасным пэрыядычным друку, а таксама яшчэ адзін ягоны часапіс, "Шыпшыну", што была дэкляраваная як працяг даваеннага літаратурнага згуртаваньня й выданьня "Ўзвышша".

Міхась Кавыль быў аўтарам, відаць, найбольшай колькасьці эпіграмаў (некаторыя падпісваў псэўданімам К. Міхась). Вось адна зь іх — на Алеся Салаўя:

*На крыльлях вольнага Пегаса*
*Сьпявае весела ён часам,*
*Бо на Гальгофе, у "Крывіі"*
*Гараць... "званы Сьвятой Сафіі".*

Маюцца на ўвазе дзьве паэтавыя паэмы: адна — названая ў гонар Віцьбічавага часапісу (і прысьвечаная пісьменьніку), якая была заўважнай зброяй у вайне "крывічоў" з "зарубежнікамі", а другая — "На хуткіх крылах вольнага Пэгаса".

Алюзыя на апошнюю і ў эпіграме А. Птаха:

*Лячу, лячу ўвесь час за Альпы, за аблокі —*
*Туды, дзе толькі ўзьлёт бяз хмарнай павалокі.*
*На хуткіх крыльлях я да ўсіх высот лячу*
*І нізка падаю... Ляцець больш не хачу...*

Эпіграма Масея Сяднёва на Антона Адамовіча:

*Яшчэ ад матчынае цыцкі*
*Ты быў апосталам "крывіцкім".*

Тут падзіўляе аўтарскае добрае веданьне біяграфіі аб'екту сваёй сатыры: Адамовіч яшчэ ў малодшых школьных клясах разам зь сябрам заснаваў падпольную арганізацыю КРЫЮГ — Крыўская юнацкая грамада.

Яшчэ адна Кавылёва эпіграма, гэтым разам на самога Масея Сяднёва:

*Спадзяваўся ў акіяне ночы*
*Сам сабе быць не маленькім,*
*Ды сказалі проста ў вочы:*
*"Гэта-ж хуліганства, даражэнькі!".*

"У акіяне ночы" — зборнік вершаў і паэмаў Сяднёва, выдадзены ў 1947 г. у Мюнхене. У гэтым зборніку быў надрукаваны верш, які заканчваўся радком *"Я сам сабе адзін вялікі"* й які нарабіў шмат розгаласу ў беларускіх асяродках зь нязьменным асуджэньнем аўтара за ягоную нясьціпласьць.

На Рыгора Крушыну:

*Лебедзь чорную, белыя гусі,*
*Данясеце да Беларусі,*
*Хай пачуе уцеха-дзяўчына,*
*Як іграе на йскрыпцы Крушына.*

“Лебедзь чорная” — зборнік, “Эротава скрыпка” — паэма Рыгора Крушыны.

Яшчэ ў адной эпіграме Кавыля — на Янку Юхнаўца — аб’ектам жарту робіцца своесаблівая лексыка паэта, сапраўды ні на чыю не падобная, з зборніка вершаў “Шорах моўкнасьці” (1955).

*У яго зусім другія скрыдлы,*
*Ён ні на кога не падобны з нас:*
*Руінаў моўкнасьць — яго Парнас,*
*А куст крапівы — яму Азарыс.*

На Хведара Ільляшэвіча, таксама Міхася Кавыля:

*Шляхам жыцьця імкнецца*
*І сьпявае “Ў агні не загінем”.*
*І мае ён добрае сэрца*
*Дараваць усім, каму павінен.*

“Шляхам Жыцьця” — часапіс, які рэдагаваў Ільляшэвіч у лягерах *DP*. А вось што да двух апошніх радкоў, дык варта скіравацца да ўспамінаў Адама Варлыгі пра паэта, тут адным сказам не абыдзецца[3].

Аўтаэпіграма Міхася Кавыля:

*Пад небам Случчыны каханай*
*Падняўся з музаю так рана,*
*Каб кавыляць на сконе веку*
*Міжплянэтным чалавекам.*

“Пад небам Случчыны каханай” — паэма Міхася Кавыля, напісаная ў 1943 г. А *“міжплянэтны чалавек”* — зь ягонага вершу:

*Я жыву ні бедна, ні багата:*
*Маю сэрца, а яшчэ душу.*
*У бяз вокнаў ледзяную хату,*
*Як і кажны, вельмі не сьпяшу.*
*Завязуць мяне туды калісьці,*
*Дзе ні сьлёз, ні песьняў дарагіх.*
*Нада мной у міжплянэтны высьціг*
*Паляцяць агністыя стагі.*

[3] Варлыга, Адам. Чутае, бачанае, пражытае // Запісы БІНіМу. № 40. Нью-Ёрк — Менск, 2018. С. 260—262.

*Я пайду ў бязьмежжа. Не загіну.*
*Белы месяц, сінюю зару —*
*Ўсё для вас, каханыя, пакіну,*
*Толькі ў вечнасьць душу забяру.*

І яшчэ адная эпіграма — на Пётру Сыча — нібыта таксама літаратурная, але насамрэч палітычная, скіраваная ня толькі супраць яго самога, але й супраць газэты, дзе ён друкаваў свае фэльетоны, — “Бацькаўшчыны”:

*Ну, браткі, і урадзіла*
*У паэзыі на дзіва:*
*Былі Танкі, Пяюны,*
*Вольхі, Вербы, Сьвістуны,*
*Салаўі н’ат завяліся,*
*Хмары гойдаліся ў высях.*
*А цяпер даюць пачын*
*У паэзыі Сычы.*
*Ды каб толькі яшчэ там!*
*Гэта-б з горам папалам!*
*А то вунь за гумар ўзяў!*
*Сыч і гумар!*
*Божа збаў.*


РЭДКАЛЕГІЯ

Супольная фатаграфія «пашыранага» паседжаньня Рэдакцыйнай Калегіі «Бацькаўшчыны».



З права на лева: Язэп Каранеўскі, Алесь Крыга, Ст. Крушыніч, Ст. Ст- (-іч) і Р. С.

“Бацькаўшчыне” прысьвечаная й эпіграма самога Сыча, супрацоўніка газэты. Яе публікацыя ў часапісе “Шарсьцень” (№ 4. Сьнежань 1952. С. 8) суправаджалася малюнкам, на якім за сталом сядзелі шэсьць ідэнтычных постацяў (Сыч быў, як ведаем, здольным мастаком), і подпісам: *«Супольная фатаграфія “пашыранага” паседжаньня Рэдакцыйнай Калегіі “Бацькаўшчыны”. З права на лева: Язэп Каранеўскі, Алесь Крыга, Ст. Крушыніч, Ст. Ст. (–іч) і Р. С. Усе пастановы прыймаюцца “аднагалосна”, навет справа ганарараў спрэчак ня выклікае»*.

І за гэтым ішла ўласна эпіграма:

*Згодна працуюць на славу, на хлеб*
*І для нашай культуры: Каранеўскі Язэп,*
*Чаго той не дацягне, дык мігам*
*На падмогу сьпяшыць Алесь Крыга.*
*Зноў-жа Крызе ніякіх ня чыніць*

*Перашкодаў ляяльны Крушыніч,*
*Як двайное Ст. не прасьпіцца ў пару,*
*Тады –іч і Р. С. бяруць вёслы і руль…*
*Толькі горш, калі доктар Станкевіч засьпіць:*
*Паўстае перабой і — газэта ляжыць.*

Для чытачоў не было сакрэту, што ўсе пералічаныя “прозьвішчы” — псэўданімы й крыптанімы Станіслава Станкевіча, як і тое, што ў рэдактара была ведамая загана — ён мог сысьці ў запой, і тады выхад газэты спыняўся.

Значна больш складанай выглядае справа камэнтаваньня эпіграмаў, дзе імя адрасата не пазначана. Тут патрабуецца шырэйшае веданьне кантэксту.

Напрыклад, эпіграма “Даношчыку”, зьмешчаная таксама ў часапісе “Шарсьцень” (№ 8. Ліпень 1953. С. 4), таксама падпісаная *пс*[4]:

*Пісаць вучыўся на даносах,*
*Таму й пішаш, як сэксот.*
*Ня раз табе прыцёрлі носа,*
*А ты ўсё пхнеш пад чужы плот.*
*Ужо ўсе знаюць, чым ты дышыш,*
*На брэх твой вухам не вядуць;*
*Тыя, каму даносы пішыш —*
*На каго пішыш аддаюць.*
*Ты ня так шкодны — гадкі болей,*
*Зусім ня ліс, скарэй шашок,*
*Нікога не зьясі ніколі,*
*Толькі смуродзіш пад парог.*

Эпіграма адрасаваная Янку Станкевічу. Маецца на ўвазе эпізод, калі ён напісаў данос на Галіну Ганчарэнку, быццам тая камуністка, і даслаў прэзыдэнту амэрыканскага каледжу, дзе дзяўчына вучылася. Вынік быў для аўтара ліста неспадзяваным: прэзыдэнт выклікаў Ганчарэнку, паказаў той ліст і запытаўся, ці сам аўтар не камуніст[5]. Лішне казаць, што ніякіх наступстваў для студэнткі не было.

У 1953 г. Мікола Абрамчык пачаў арганізоўваць працу беларускай сэкцыі Радыё “Вызваленьне” й настойліва запрашаў прыехаць Галіну Ганчарэнку. Відаць, тады й расказала яна пра гэты выпадак, і гісторыя шырака разышлася па беларускім Мюнхене.

Як бачна нават па гэтых некалькіх прыкладах, разуменьне сытуацыі, кантэксту дазваляе лепей ацаніць майстэрства эпіграмы, а часта й вызначыць, каму менавіта яна адрасаваная.

---

[4] **пс** — крыптанім Пётры Сыча.

[5] Юрэвіч, Лявон. Жанры. Мінск, 2013. С. 202.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# НЭКРАЛЁГ: КУЛЬТУРНЫЯ КАШТОЎНАСЬЦІ Й ПАМЯЦЬ[1]

*Усё добрае пра нябожчыкаў успамінаецца не дарма.*
*Яно служыць прыкладам для тых, хто застаецца жыць.*
Янка Запруднік

Ведамыя словы філёзафа Мераба Мамардашвілі: *"Чалавек пачынаецца з плачу па памерлым"*. Плач, трэнас, лямант, урэшце, нэкралёг гаворыць столькі ж пра аўтара, колькі пра героя. Гэта застаецца слушным нават тады, калі аўтар піша нэкралёг на сьмерць чалавека, якога ўважае чужым сабе, антыподам. Напрыклад, зьмешчаны на сайце *"Regnum"* "Нэкралёг нашаму самаму ворагу" сьведчыць мо болей пра аўтара, Эдуарда Лімонава, аўтара трох "Кнігаў мёртвых", чым пра сэнатара Джона Макейна, якому прысьвечаны[2]. У нармальным жа, неперакручаным сьвеце аўтара й героя аб'ядноўваюць тыя самыя ідэалы, каштоўнасьці, якія, па сутнасьці, і зьяўляюцца галоўнымі ў аповедзе, у гэтым сьвяткаваньні жыцьця, чым і ёсьць сучасны нэкралёг. Плач стаўся гімнам.

Нэкралёгі, выдрукаваныя ў газэтах "Бацькаўшчына" й "Беларус" (за даволі рэдкім выняткам тэндэнцыі апошніх гадоў, калі з новым рэдактарам "Беларуса" — нядаўнім эмігрантам — пачалі зьмяшчацца паведамленьні аб сьмерці знакамітых беларусаў на Бацькаўшчыне), датычыліся й датычацца, па сутнасьці, параўнаўча невялікай грамады, дзе збольшага адзін аднаго ведаюць / ведалі калі не асабіста, дык — цягам гадоў — праз рознага кшталту публікацыі (пераважна хронікі) у тых самых газэтах. І гэты факт робіць выдрукаваныя нэкралёгі справай бадай што сямейнаю — рыхтык калі ідзецца пра родных людзей.

Ня будзе перабольшаньнем сказаць, што нэкралёгі ў чытачоў, у асяродзьдзі паваеннай эміграцыі (якой на сёньня, з сумам трэба канстатаваць, застаюцца лічаныя адзінкі й якія зьяўляюцца з зразумелых прычынаў ледзь ня штатнымі аўтарамі тытульнага жанру),

[1] Працяг. Пачатак гл.: Юрэвіч, Лявон. Нэкралёг: вобраз Свайго // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 380—447.

[2] https://regnum.ru/news/2471263.html.

былі аднымі з самых чытэльных, прыярытэтных матэрыялаў кожнага нумару. Сьмерць прадстаўніка грамады закранала кожнага, і страта аднаго сябры яднала пазасталых — ад Нью-Ёрку да Лёс-Анджэлесу, ад Таронта да Сыднэю.

Але для падобнага эфэкту толькі знаёмства ці ўсьведамленьня падабенства лёсаў было б недастаткова. Вызначальна, каб нэкралёг апэляваў да калектыўнай памяці, калі звычайны чалавек рабіўся часткаю агульнага мінулага: у ранейшых нэкралёгах — гісторыі Беларусі, у пазьнейшых — гісторыі эміграцыі. Гэтая прыналежнасьць збліжала гэроя нэкралёгу з чытачамі, грамадой і нагадвала, *што* ў жыцьці мае значаньне. Інакш кажучы, тэкст нэкралёгу, расказваючы пра памерлага, ягонае жыцьцё, справы й дасягненьні, робіць гэта ў адпаведнасьці зь ярархіяй каштоўнасьцяў канкрэтнай грамады, у нашым выпадку — беларускае эміграцыі.

Што ж ставіцца на першае месца, што лічыцца найбольш важным? Як сьведчыць аналіз выбраных нэкралёгаў, гэта не дасягненьні ў прафэсіі ці творчасьці, хоць яны, безумоўна, таксама згадваюцца. Найпершая й найбольшая каштоўнасьць — гэта прыналежнасьць да самае грамады. Падавацца яна магла рознымі шляхамі: хранікальна — у расповедзе пра ўдзел памерлага ў арганізацыях і справах грамады — ці простаю канстатацыяй — "*трымаўся свае грамады*". Грамадзкае — панад асабістым. Што таксама вельмі істотна: у адрозьненьне ад газэтаў мэтраполіі тут кожны памерлы заслугоўвае на нэкралёг (праўда, маштабы *грамадаў* на эміграцыі і ў мэтраполіі розныя).

Другой па важнасьці зьяўляецца прыналежнасьць да царквы, прычым не істотна, ці ідзецца пра Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву або пра цэрквы Канстынопальскага патрыярхату. Галоўнае, каб памерлы быў *"хрысьціянінам глыбокае веры"* ці прынамсі тым, што ў ангельскай мове называецца *churchoing*.

Прынцып *"грамадзкае па-над асабістым"* разам з тым зусім ня значыць, што ў нэкралёгах ігнаравалася індывідуальнасьць, асоба памерлага. Але кожны асобны нэкралёг гэта больш, чым паведамленьне пра чыюсьці сьмерць. Апісаньне жыцьця, падвядзеньне вынікаў яго дэманструе, чым яно было важным для грамады, і лучыць з нацыянальнай гісторыяй і калектыўнай памяцьцю. Асабістае стаецца часткаю агульнай гісторыі.

## Сьветлай памяці сп. Юлі Андрусышын[3]

На сьвітанку 16 верасьня 2017 году ў Нью Ёрку памерла дзяячка беларускай эміграцыі Юля Андрусышын. У апошнія хвіліны яе трымаў

[3] Друкуецца паводле: Беларус. № 628. Жнівень — кастрычнік 2017. С. 8.

за руку сын Багдан, якога яна ласкава называла Данчык. Юлі Андрусышын у чэрвені споўнілася 85 гадоў.

Нарадзілася сп. Юля ў 1932 годзе ў Менску. У яе радаводзе перапляліся чатыры беларускія шляхецкія роды: Луцкевічы — Песьлякі — Шабуні — Каралёвы. Сп. Юля часта ўзгадвала перадваенны Менск, дзе яе сям'я жыла амаль у самым цэнтры, каля Сьвіслачы, недалёка ад дому Янкі Купалы. Яна перажыла там нямецкую акупацыю і дванаццацігадовай дзяўчынкай разам з маці Янінай, бабуляй Эміліяй і сястрычкаю Элеанораю пакінула родны горад і назаўсёды разьвіталася з Бацькаўшчынаю. Уцекачоў чакала доўгая дарога на Захад, апынуліся ў лягеры для перамешчаных асобаў у паваеннай Нямеччыне, а потым пераехалі ў Амэрыку. У Нью Ёрку Юля сустрэла імігранта з Украіны Паўла Андрусышына, зь якім пабралася шлюбам, у сям'і вырасьлі двое сыноў — Юрка й Багдан. Багдана цяпер ведаюць у Беларусі й беларускім замежжы як знакамітага сьпевака Данчыка.

У 2015 годзе ў выдавецтве "Лімарыус" у Менску выйшла кніга ўспамінаў Юлі Андрусышын "Забыцьцю не адданае".

Юля Андрусышын брала самы актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў Нью Ёрку. Ніколі на чужыне яна не забывалася пра сваю родную краіну, была да апошняй хвіліны вялікай, адданай да апошняй крывінкі патрыёткаю Беларусі. Ніколі й нідзе, ні пры якіх умовах яна не паступілася сваёй беларускасьцю. Ганарылася сваім паходжаньнем, сваімі родавымі каранямі па маці Яніне, якая была дачкою Эмілі Шабуні — роднай сястры пачынальнікаў беларускага Адраджэньня Івана і Антона Луцкевічаў. Ужо ў сталым веку больш даведалася пра свой другі радавод па бацьку — зь Песьлякаў, таксама старадаўні шляхецкі літоўскі род зь Віленшчыны. У асобе сп. Юлі як бы зьнітавалася ўсё тое найлепшае, што стагоддзямі вырастала, захоўвалася, перадавалася з пакаленьня ў пакаленьне носьбітамі нацыянальнай ідэі. Так яна выхоўвала сваіх сыноў. Малодшы зь іх працягнуў патрыятычныя родавыя традыцыі. З натхнёнай дапамогай маці Данчык, народжаны ў Нью Ёрку, стаў адным з найлепшых выканаўцаў беларускай песьні і адным зь яркіх сымбаляў новага беларускага Адраджэньня.

Сп. Юля і сама была творчаю асобаю, яна знайшла свой асабісты шлях, каб служыць беларускай справе. Захапіўшыся беларускай вышыванкаю, яна стала сапраўднай майстрыцаю ў гэтай справе, была ня проста вышывальніцаю, але найперш мастачкаю, якая сама стварала ці ўдасканальвала існуючыя ўзоры беларускага мастацтва. Пасьля яе засталіся шмат вышыванак, якія заслугоўваюць таго, каб яны былі выдадзены ў выглядзе альбома, а самі арыгіналы могуць прадстаўляць мастацтва эміграцыі ў беларускіх музэях. Сп. Юля ўмела аздабляць вышыванымі ўзорамі розныя побытавыя рэчы, якія ёсьць у многіх беларускіх сем'ях у Амэрыцы. А якія прыгожыя і па-мастацку дасканалыя

атрымліваліся ў сп. Юлі беларускія лялькі ў нацыянальных строях, яны таксама могуць быць музэйнымі экспанатамі.

Юля Андрусышын мела ў сабе вельмі глыбокае пачуцьцё адказнасьці, за што ні бралася, рабіла справу як найлепш. Яна была захавальніцай гісторыі свайго роду. Зьбірала па крупінцы ўсё, што захоўвала памяць пра перажытае, пра лёсы сямейнікаў, пра гісторыю паваеннага пакаленьня беларускай эміграцыі ў Амэрыцы. Яна сыстэматызавала ўсё гэта, захоўвала ў альбомах і скрынках у шафах сваёй не такой ужо вялікай кватэры. Гэта быў яе самы каштоўны скарб. Яна магла гадзінамі распавядаць, паказваць, чытаць лісты ад вядомых людзей. Мы зь ёю цэлымі вечарамі праводзілі за праглядам гэтых сапраўдных гістарычных каштоўнасьцей. Шмат што ўвайшло ў ейную кнігу ўспамінаў, найперш фотаздымкі. Архіўныя зборы сп. Юлі Андрусышын маюць вялікую каштоўнасьць для беларускіх архіваў на Бацькаўшчыне. Бібліятэка сям'і Андрусышыных перададзена сынамі ў бібліятэку сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Цяжка сёньня мне заходзіць у кватэру, дзе пражыла пяць гадоў побач зь Вялікай Жанчынаю Беларусі, не пабачыць яе ўсьмешкі, не пачуць голасу. Так гасьцінна яна заўсёды сустракала кожнага, тут гучалі галасы яе родных, сяброў, шматлікіх гасьцей. Цяпер гэты прыватны Беларускі дом у Нью Ёрку апусьцеў. Але засталіся ўспаміны, добрыя словы, якія выказваліся з нагоды адыходу ў вечнасьць сп. Юлі Андрусышын на старонках інтэрнэту і падчас пахавальнай вячэры.

*Ганна Сурмач*

## Сьв[етлай] пам[яці] Тамара Аўдзей[4]
## 27.08.1929—18.11.2011

Ціха, непрыкметна, далекавата ад беларускай грамады, у горадзе Мінэапаліс, штат Мінэсота, адышла ў іншы сьвет в[ечнай] п[амяці] Тамара Аўдзей, дзявочае прозьвішча Карповіч, адна з актыўных беларусак-эмігрантак паваеннае хвалі 1944—1945 гадоў.

Тамара, народжаная ў Клецку, на эміграцыю выехала разам з бацькамі. Перакідаліся на розных працах у нацыстаўскай Нямеччыне, а па заканчэньні вайны, ідучы з усходу на захад, уцякаючы ад Саветаў, апынуліся ў Рэгенсбургу, дзе пачыналася беларускае паваеннае жыцьцё. Будучы знаёмай з маладзёвым рухам, Саюзам Беларускай Моладзі, у Клецку, в[ечнай] п[амяці] Тамара адразу ўлучылася ў групу моладзі, арганізатараў беларускага скаўтынгу. Яна наведвала скаўцкія курсы-лекцыі, арганізаваныя УНРРА для ўцекачоў, была адной з арганізатараў скаўцкае сьвятліцы, а крыху пазьней — і дзявочай скаўцкай дзейнасьці.

[4] Друкуецца паводле: Беларус. № 586. Лістапад 2011. С. 11.

Дапамагала таксама Тамара ў выданьні першага скаўцкага часапісу ў Рэгенсбургу “Зважай”.

Тамара Карповіч стала таксама адной зь першых вучаніц гімназіі імя Янкі Купалы, якую закончыла ў 1949 годзе. Брала яшчэ вельмі актыўны ўдзел ў наладжаньні “Купальля” ў Рэгенсбургу, у танцавальных гуртках ды гімназіяльным драматычным гуртку ў Міхэльсдорфе. Як кіраўнічка скаўтак езьдзіла на міжнародныя спаборніцтвы ў Рэгенсбург, Мітэнвальд, Остэргофэн, Касэль.

У ЗША сям’я Карповічаў выехала зь лягеру Бакнанг у 1950 годзе і адразу-ж па прыбыцьці далучылася да стварэньня парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, штат Нью Джэрзі, хоць жылі й працавалі Карповічы ў розных месцах: у гарадах Пасэйк, а пасьля Ірўінгтон.

У ЗША Тамара закончыла Ратгерскі штатны ўнівэрсытэт у Нью Брансўіку, а таксама Ньюёрскі ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці «гуманістыка й мовы». Дыплём бібліятэкара Тамара атрымала зь Індыянскага ўнівэрсытэту ў гор[адзе] Блюмінгтан, штат Індыяна. Працавала ў розных акадэмічных бібліятэках. А калі была на пасадзе галоўнага бібліятэкара па набыцьці кніжных фондаў ва ўнівэрсытэце Кўіна ў штаце Нью Джэрзі, уважліва сачыла за беларускімі калекцыямі. Яна належала да Таварыства Бібліятэкараў Амэрыкі, часта брала ўдзел у гадавых зьездах гэтае арганізацыі.

У пачатку 1950-х гадоў Тамара Карповіч выйшла замуж за Івана Аўдзея, актыўнага беларускага грамадзкага й палітычнага дзеяча. Пасьля сьмерці мужа яна пасялілася непадалёк ад сям’і дочкі Аляксандры (Шуры) Мюлер у штаце Мінэсота.

Пахаваная нябожчыца на могільніку парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, дзе спачываюць ейныя бацькі й муж.

Успамінаючы нашу дзейную й добрую сяброўку-супрацоўніцу, выказваю ад сябе й многіх сяброў самае шчырае спачуваньне сям’і Тамары Аўдзей: дачцы Шуры й зяцю Паўлу Мюлерам ды ўнучцы Кэйты Мюлер.

*Вітаўт Кіпель*

## Сьв[етлай] пам[яці] Яраслава Вініцкага[5] “Амэрыканская мроя”

У якія прафэсіі ішлі нашыя суродзічы, калі прыбывалі ў 1950-х гадах у Амэрыку? Адной з такіх прафэсіяў для многіх сталася зубная тэхніка, абслугоўваньне дэнтыстаў выразбляньнем зубоў. Працаю ў гэтай галіне шмат хто здолеў рэалізаваць сабе й дзецям так званую “амэрыканскую мрою”, ці, як у нас кажуць, выбіцца ў людзі. Адным з такіх быў

[5] Друкуецца паводле: Беларус. № 631. Сакавік — красавік 2018. С. 15.

нядаўна памерлы (26.01.2018) у Каліфорніі Яраслаў (Славік) Вініцкі. Прыбыўшы ў Нью Ёрк на пачатку 1950-х, ён неўзабаве перабраўся ў Лёс Анджэлес, дзе пасялілася з часам уся сям'я Вініцкіх: бацькі, два сыны й дачка.

Славік нарадзіўся ў Нясьвіжы (26.04.1925) у сям'і былога афіцэра царскай арміі й беларускага грамадзкага дзеяча Алеся Вініцкага. Сям'я Вініцкіх апынулася пад канец вайны ў Нямеччыне. Там Славік паступіў ва ўнівэрсытэт і атрымаў дыплём дэнтыста. Але ў Амэрыцы дыплёмы зь іншых краінаў не прызнаюцца, нават калі хто грамадзянін ці ўраджэнец Злучаных Штатаў. Славік выбраў сабе блізкую да дэнтыстыкі прафэсію зубнога тэхніка. Пагатоў што ён быў здольны ў руках, а ў дадатак адзначаўся артыстычнымі якасьцямі, любіў малюнкі, музыку, займаўся ў вольны час фатаграфіяй. У сваёй прафэсійнай працы, у якой яму шмат дапамагала жонка Кацярына (з дому Яцэвічаў), Славік ня толькі адзначаўся якасным выконваньнем заказаў, але й строгай акуратнасьцю, датрымоўваньнем тэрмінаў. Усё гэта забясьпечыла яму высокую ацэнку з боку дэнтыстаў, супраца зь якімі трывала 55 гадоў. Працай сваёй Вініцкія змаглі забясьпечыць вышэйшую асьвету дзьвюм дочкам, Ані й Люсі, ды сыну Антону (сёньня падпалкоўнік амэрыканскай арміі ў адстаўцы). Усім траім грунт да "амэрыканскай мроі" забясьпечылі бацькі.

Працавітае жыцьцё Яраслава Вініцкага скончылася 26-га студзеня сёлета. Сям'я й мноства сяброў ушанавалі ягоную сьветлую памяць 9-га лютага, а 10-га лютага адбыліся паховіны — на просьбу сям'і толькі ў прысутнасьці родных — на могільніку *Holy Cross Cemetery* (імя Сьвятога Крыжа) у Калвэр Сіці, частцы гораду Лёс Анджэлес.

Вечная яму памяць!

*Янка Запруднік*

## Сьв[етлай] памяці Барыс Данілюк[6] 5.4.1924—28.1.2011

У гор[адзе] Самэрсэт, штат Нью Джэрзі, памёр на 88-м годзе жыцьця Барыс Данілюк, беларускі патрыёт, працаўнік на грамадзкай і рэлігійнай ніве, актыўны пашыральнік ідэі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы й беларусізацыі багаслужбаў, рэдактар, выдавец рэлігійных і літаратурных публікацыяў, перакладнік псальмоў ды іншых літургічных тэкстаў.

Сын сьвятара Хведара Данілюка, удзельніка Слуцкага паўстаньня 1920 г., Барыс нарадзіўся ў вёсцы Старыя Дзяваткавічы на Слонімшчыне. Вырас гарачым беларускім патрыётам, працаўніком нацыянальнае справы. Падчас нямецкай акупацыі Барыс Данілюк працаваў

[6] Друкуецца паводле: Беларус. № 577. Люты 2011. С. 11.

у Самапомачы, быў актывістам мастацкае самадзейнасьці, спартовым інструктарам Саюзу Беларускай Моладзі, браў удзел у Другім Усебеларускім Кангрэсе. Перад эвакуацыяй сям'і Данілюкоў на Захад улетку 1944 г. Барыс пабраўся з Марыяй Дземідовіч.

У Заходняй Нямеччыне па вайне вучыўся на інжынэра ва ўнівэрсытэце ЮНРРА, належаў да Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня, да Рады БНР, як і бацька-сьвятар, быў прыхільнікам аднаўленьня БАПЦ.

На пачатку 1950-х гадоў перабраўся зь сям'ёй у ЗША. Быў актыўным удзельнікам грамадзкага жыцьця, спачатку ў Нью Ёрку, а пасьля ў штаце Нью Джэрзі, належаў да Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, уваходзіў у Раду й Кансысторыю БАПЦ, кіраваў царкоўным хорам у саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, рэдагаваў і выдаваў часапіс "Царкоўны Пасланец", апрацоўваў графічна некаторыя праэкты, у тым ліку помнік Героям Беларусі на беларускім могільніку ў Іст Брансўіку.

У расколе БАПЦ, што ўзьнік на пачатку 1980-х гадоў, нябожчык узяў бок мітрапаліта Ізяслава, якога абслугоўваў тэкстамі і адміністрацыйнай апекай да канца ягонага жыцьця.

Апошнімі гадамі цяжка хварэў, але з уласьцівай яму напорыстасьцяй не пакідаў працаваць над успамінамі ды іншымі літаратурнымі й выдавецкімі праектамі. Казаў: *"Калі-б ня гэты занятак, дык можна было-б здурэць"*.

1 лютага ў царкве Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд Парку адбылося адпяваньне нябожчыка. Спачыў ён на беларускім могільніку ў Іст Брансўіку. Там, пад гукі жалобнага маршу "Сьпі пад курганам герояў" адбылося апошняе разьвітаньне зь верным і працавітым сынам Беларусі.

Пра вялікую частку свайго жыцьця Барыс Данілюк распавёў у грунтоўных успамінах, апублікаваных якраз напярэдадні ягонай сьмерці ў "Запісах БІНІМу" (кн. 33).

Нябожчык пакінуў у смутку жонку Марыю, сына Расьціслава зь сям'ёй і дачку Ліду Браўн з мужам і двума сынамі. Усім ім глыбокае спачуваньне. А Барысу — вечная памяць. Сьляды ягонага жыцьця не затруцца, будуць нагадваць нашчадкам пра пакаленьне патрыётаў, якія ўскладалі ахвяры на аўтар Бацькаўшчыны.

*Янка Запруднік*

## Сьв[етлай] памяці Ўладзімір Літаровіч[7]

Няўмольны жыцьцёвы лёс кожнага чалавека мае свой пачатак і канец. Мы аддаем пашану памяці Ўладзіміра Літаровіча, які пакінуў гэты сьвет 18 сакавіка 2012 г. ва ўзросьце 80 гадоў.

---

[7] Друкуецца паводле: Беларус. № 590. Сакавік — красавік 2012. С. 14.

Нарадзіўся Ўладзімір Літаровіч у вёсцы Боркі на Бабруйшчыне. Пасьля Другой усясьветнай вайны сямья Літаровічаў апынулася ў Нямеччыне, ва ўкраінскім лягеры ДП ў Гановэры. Там была вялікая група беларусаў. Яны арганізавалі беларускую праваслаўную царкву, пачатковую школу для дзяцей і беларускі скаўтынг. У 1952 г. Літаровічы прыехалі ў Амэрыку ў Саўт Рывэр і тут зноў уключыліся ў беларускае жыцьцё. Уладзімір быў сябрам Парахвіяльнага камітэту. Працаваў на фабрыцы “Швайцэр” цягам 47 гадоў як інжынэр.

Пакойны Ўладзімір амаль кожную рэч мог зрабіць ці паправіць пры пабудове царквы і Беларускага Грамадзкага Цэнтру.

Ад імя Парахвіяльнага камітэту Беларускай Праваслаўнай Царквы імя Сьвятое Еўфрасіньні Полацкае выказваем самае шчырае спачуваньне сям’і нябожчыка — жонцы Галіне, дзецям і ўнукам.

Пахаваны Уладзімір Літаровіч на Беларускіх могілках у Саўт Рывэры.

Няхай яму будзе пухам амэрыканская зямля і сьняцца сны аб Беларусі!

*Міхась Сенька*

## Алег Махнюк[8]
## 07.05.1928—21.02.2009

У веку 80 гадоў адыйшоў ад нас у вечнасьць айцец пратадыякан Алег Махнюк. Нарадзіўся ён у Беларусі на Шаркаўшчыне. У 1944 годзе апынуўся ў Нямеччыне і пражыў у беларускім лягеры Ватэнштэт пяць гадоў. Часу не марнаваў. Вучыўся ў беларускай гімназіі імя Максіма Багдановіча, быў актыўным у скаўцкім жыцьці. У скаўцкім міжнацыянальным лягеры “Брацтва” на возеры Вальхэнзээ, Альпы, Баварыя, 30 жніўня — 15 верасьня 1949 году здаў іспыты на скаўтмайстра. Меў прыгожы голас — *“аксамітны барытон”*, як сказаў архіяпіскап Апанас. Пяяў у хоры “Рэвэлерсаў”, якім кіраваў, пісаў словы і музыку Пятро Нядзьвецкі. Пяяў у царкоўным і лягерным харох.

У сьнежні 1950 году прыехаў у ЗША і пасяліўся ў Саўт Рывэры. 25 ліпеня 1952 году, яшчэ не абжыўшыся ў Амэрыцы, быў пакліканы ў амэрыканскае войска. Служыў на Далёкім Усходзе, у Карэі. 27 траўня 1954 г. быў ганарова звольнены з рангай капраля.

Прапрацаваў на заводзе Форда ў Эдысоне больш за 30 гадоў.

24 кастрычніка 1954 г. жаніўся зь Людмілай Каліноўскай. Абое яны былі духова адоранымі людзьмі і шчыра працавалі для дабра парафіі.

30 ліпеня 1972 году адбылося архірэйскае высьвячэньне царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Пасьля заканчэньня крыжовага ходу навакол царквы і сьв. літургіі з блаславеньня архіяпіскапа Якаваса япіскап

[8] Друкуецца паводле: Беларус. № 555. Красавік 2009. С. 7.

Філатэос усклаў аздоблены крыж на настаяцеля царквы а. Мікалая Лапіцкага, а. Сьвятаслава Каўша ўзьвёў у сан пратаярэя, а а. Алега Махнюка ў сан пратадыякана за зробленыя купал, іканастас, ківоты на іконы сьв. Еўфрасіньні Полацкай і Жыровіцкай Божай Маці, аналоі і іншыя патрэбныя ў царкве рэчы. Не абмінуў Алег і могілкі — зрабіў драўляную браму.

У 1980 г. спадарства Махнюк пабудавалі дом і пераехалі жыць у г. Джэймсбург, Нью Джэрзі.

Бязьлітасная сьмерць забрала матушку Людмілу ў 2003 годзе. Цяпер вось адыйшоў ад нас і айцец пратадыякан Алег, пакінуўшы ў смутку дачок і іх мужоў: Нону і Юрку Азарка ў Самэрсэце і Алісу і Франка Ді Космо ў Калёніі, і ўнукаў: Хрыстафора і Марка Азарка, Юльяну Ді Космо і сп-ню Вольгу Лявіцкую.

Ад імя парафіяльнага камітэту царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай выказваю самае шчырае спачуваньне сям'і нябожчыка.

Шчыра дзякую ўсім, хто быў на паніхідзе і пахаваньні і аддаў нябожчыку апошнюю зямную пашану.

Вечная яму памяць!

*Міхась Сенька*

## Сьв[етлай] памяці Ўладзімір Набагез[9] 20.10.1919—11.1.2011

У штаце Нью Ёрк памёр на 92-м годзе жыцьця др. Уладзімір Набагез. Родам ён быў зь вёскі Сялец ля Наваградка. У Наваградку атрымаў сярэднюю асьвету ў беларускай філіі польскай гімназіі. Вучыўся там разам зь сябрамі, зь якімі пазьней працягваў на эміграцыі далейшую навуку ва ўнівэрсытэтах і супрацоўніцтва на грамадзкай ніве — Барысом Рагулем і Язэпам Сажычам.

У верасьні 1939 г., змабілізаваны ў польскую армію, трапіў у нямецкі палон, адкуль яго як беларуса выпусьцілі на волю. Але пад савецкую ўладу Ўладзімір не вярнуўся, а застаўся працаваць у Беларускім прадстаўніцтве пры нямецкім Арбайтсфронце ў Кёнігсбэргу.

Па сканчэньні вайны вучыўся на мэдыцынскім факультэце Марбургскага ўнівэрсытэту, а закончыў мэдыцынскую асьвету ў Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі. Быў актыўным у арганізацыйным жыцьці беларускіх студэнтаў як у Нямеччыне, гэтак і ў Бэльгіі. Маючы добры голас (бас), сьпяваў у студэнцкіх хорах, у тым ліку ў хоры Міколы Равенскага ў Лювэне.

У 1956 г. перабраўся ў ЗША, пасяліўшыся спачатку ў гор[адзе] Нью Брансўік у штаце Нью Джэрзі. Працуючы ў мясцовым шпіталі,

[9] Друкуецца паводле: Беларус. № 577. Люты 2011. С. 11.

апаноўваў азы амэрыканскай мэдычнай практыкі і ангельскай мовы. Прызнаваўся, што ніколі ў жыцьці яшчэ так цяжка не працаваў. Здольнасьць да такой працы гарантавала ўдачу. Здаўшы патрэбныя залікі, перабраўся на доктарскую працу ў гор[ад] Нью Ёрк. Далучыўся там да нацыянальнага актыву.

Ён быў сябрам Рады БНР, належаў да Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, быў пэўны час старшынём Ньюёрскага аддзелу БАЗА, браў актыўны ўдзел у рэлігійным жыцьці парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. У гэтым часе ажаніўся з мэдсястрой, Яляндай, ураджэнкай францускамоўнае часткі Канады. Неўзабаве пасьля гэтага купіў сабе ў вёсцы Ўолдэн (*Walden*, 6 тыс[яч] жыхароў) у штаце Нью Ёрк паўтара гэктара зямлі з садам, вазярцом і жылым домам ды там і застаўся жыць, займаючыся мэдычнай практыкай. У сям'і нарадзілася двое сыноў, Джон і Андрэй. Першы зь іх, падобны на бацьку, цяпер — доктар мэдыцыны, кардыёляг, а другі, з матчынымі рысамі твару — музыка.

Др. Уладзімір Набагез праз усё жыцьцё захаваў беларускі патрыятызм, які ён вынес з наваградзкага асяродзьдзя. Адзначаўся моцнай сілай волі і адначасна сьціпласьцяй у дачыненьні да свае асобы. Меў добрую памяць. Вельмі цікава распавядаў пра свае прыгоды ў ваенным часе: польска-нямецкі фронт, палон, праца перакладчыка, сувязь з суродзічамі на ваенным раздарожжы ў Нямеччыне, шуканьне выхаду ў паваенным разбродзе. *"Валодзя, дык ты апішы ўсё гэта. Гэта-ж так цікава!"*. *"А што там надта пра сябе расказваць буду. Падумаеш, важная асоба!"* — адмахваўся ён ад такіх падказак. Каб сеў тады каля яго з магнітафонам, дык расказаў бы. Але дзе там быў час на такое...

Захоўваючы зацікаўленьне грамадзка-арганізацыйным жыцьцём пасьля ад'езду зь Нью Ёрка, Набагез падтрымліваў беларускую справу грашыма. Мы зь ім час ад часу перазвоньваліся, каб адказаць адзін аднаму на пытаньне *"Што чуваць?"*. Часам ён званіў проста, каб выгаварыцца. Апошнімі пару гадамі тэлефанічная сувязь перарвалася ў выніку, як нядаўна даведаўся, моцнага паслабленьня ягонага слыху.

На пачатку 1990-х гадоў Набагез наведаў свае родныя мясьціны, а таксама Наваградак, дзе жыла ягоная сястра. З гонарам расказваў, што адшукаў магілу дзеда, пахаванага ля самага наваградзкага замчышча.

Пра сьмерць др. Уладзіміра Набагеза паведаміла на сваім сайце "Наша Ніва" (2.2.11) і "Нью Ёрк Таймс" у нумары за 16 студзеня. З кароткага нэкралёгу ў "НЁТ" даведваемся, што нябожчык пражыў з жонкай Яляндай 48 гадоў ды што абодвы ягоныя сыны жанатыя.

Вечная памяць дарагому сябру.

Са спачуваньням сям'і і сваякам

*Янка Запруднік*

## Сьв[етлай] пам[яці] Уладзімер Русак[10]
## 19.11.1913—06.02.2009

Пару гадоў таму беларускае грамадзтва Нью Ёрку правяло на вечны супачын знаную актыўную і надзвычай дабрадушную сьветлай памяці Нюру Русак. А цяпер каля магілы яе ўзьняўся й курганчык ейнага былога мужа в[ечнай] пам[яці] Уладзімера Русака. Родам ён быў зь вёскі Сьвяцілавічы, што недалёка ад Баранавічаў. У Злучаныя Штаты Амэрыкі яны зь Нюрай прыехалі ў 1949 годзе.

Хоць у апошнюю чвэрць веку ў грамадзкім жыцьці нам даводзіласяісьці супольна, пару мамэнтаў з далёкае даўнасьці настырліва не забываюцца.

Год 1944. Месяц ліпень. Горад Каралевец (Кёнігсберг). Беларусаў у горадзе поўна. Нядаўна прыбыў эшалён БЦР. Перад гэтым прыехалі колькі вагонаў юнакоў Саюзу Беларускае Моладзі. Натоўпы сялянаў-уцекачоў зь Беларусі. Асноўны клопат кожнага — дастаць прадуктаў, зарабіць пару марак, аформіць нейкія паперы.

У бегу штадзённых праблемаў я, згубіўшыся ад людзей, зь якімі прыехаў, ды ад бацькоў, калі даведаўся ад немцаў, што прыбыў яшчэ нейкі эшалён зь беларусамі, ды што ён накіроўваецца на Бэрлін, сьпешна пабег туды. Але мне, як спозьненаму, не аказалася месца ў вагоне. І раптам, калі цягнік ужо пачынаў рухацца, адчыніліся дзьверы аднаго купэ і мяне проста ўцягнулі ў вагон. Былі гэта спадарства Нюра і Ўладзімер Русакі. Адтуль пачалося ў мяне зь імі блізкае знаёмства.

Мамэнт другі. Год 1949. ДП лягер Шляйсгайм каля Мюнхэну. Адбываецца зьезд арганізацыі беларускіх скаўтаў на чужыне. Сабраліся мы прадыскутаваць нашыя праблемы. У[ладзімер] Русак у той час ня быў ужо скаўцкага веку і заняў пазыцыю, адваротную ад мае. Мы добра зь ім пасспрачаліся... і разышліся.

Шмат гадоў пазьней, калі я апынуўся ў ЗША, мы зь ім зноў сустрэліся й пачалі супрацоўнічаць. Я часта рабіў даклады ў вэтэранскіх арганізацыях, якімі ён кіраваў, а ён дапамагаў мне і ў Белэры, і ў рэспубліканскіх арганізацыях, дапамагаў БІНІМу, парадкуючы кніжныя калекцыі, беларусаведныя матарыялы др. В[ітаўта] Тумаша ды пераплятаючы газэтныя зборы Фундацыі імя П[ётры] Крэчэўскага.

Слоў няма, шчырыя грамадзкія працаўнікі, спадарства Нюра і Ўладзімер Русакі, шмат дапамаглі беларускаму руху ў Амэрыцы. Вечная ім памяць.

*В[ітаўт] Кіпель*

[10] Друкуецца паводле: Беларус. № 555. Красавік 2009. С. 7.

## Сьв[етлай] памяці Ніна Сільвановіч[11]

Нарадзілася нябожчыца ў вёсцы Крупчыцы Кобрынскага раёну ў сям'і праваслаўнага дыякана Емяльяна і Веры Кайкаў (дзявочае прозьвішча маці — Сакалоўская). Улетку 1944 г. бацькі Ніны з чатырма дзяцьмі (Ніна наймалодшая) пакінулі Беларусь, ратуючыся ад Саветаў. Жылі ў Нямеччыне. У 1947 г. бацьку высьвяцілі ў сьвятары. У 1950 г. сям'я Кайкаў выехала ў Амэрыку. Хутка па прыбыцьці за акіян пасялілася ў гор[адзе] Саўт-Рывэры, дзе жыло шмат беларусаў. Тут Ніна хадзіла ў школу, атрымала сярэднюю асьвету. У 1957 г. выйшла замуж за Аляксандра Сільвановіча. У іх нарадзілася чацьвёра дзяцей.

Алекс і Ніна былі актыўнымі прыхаджанамі царквы Жыровіцкай Божай Маці (БАПЦ) у Гайленд Парку. На працягу многіх гадоў Ніна выконвала абавязкі скарбніка ў сястрыцтве. Алекс Сільвановіч быў сябрам кансысторыі БАПЦ. Абое бралі ўдзел ў рэлігійным і грамадзка-культурным жыцьці. Пасьля здабыцьця Беларусяй незалежнасьці наведвалі Бацькаўшчыну, завозілі туды дапамогу ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Пасьля сьмерці мужа ў 2007 г. Ніна шмат зрабіла дзеля захаваньня ягонай памяці: у краязнаўчым музэі гор[аду] Вялейка знаходзяцца цяпер дакумэнты, фатаграфіі, асабістыя рэчы Алекса й Ніны Сільвановічаў як сьведчаньне іхняга працавітага жыцьця й дабрачыннай дзейнасьці.

Адпяваньне адбылося ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, а ў пахавальным абрадзе ўзялі ўдзел сьвятары абедзьвюх цэркваў.

За памінальным сталом у саўтрывэрскім Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры, дзе сабраліся ўдзельнікі пахавальнага абраду — сем'і двух сыноў, Антона і Андрэя, ды дзьвюх дачок, Ірэны й Галіны, — успамінамі пра нябожчыцу падзяліліся а. Міхаіл, настаяцель царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, Янка Запруднік і Люда Бакуновіч.

Ніна Сільвановіч была чалавекам спакойнае натуры, вернай жонкай, добрай маці, руплівай гаспадыняй, хрысьціянкай глыбокае веры. Усё добрае пра нябожчыкаў успамінаецца не дарма. Яно служыць прыкладам для тых, хто застаецца жыць.

Спачыла сьв[етлай] пам[яці] Ніна Сільвановіч побач са сваім мужам на беларускім могільніку ў Іст Брансўіку. Вечная ёй памяць.

*Я[нка] З[апруднік]*

[11] Друкуецца паводле: Беларус. № 590. Сакавік — красавік 2012. С. 15.

## Сьв[етлай] памяці Паўла Урбан[12]
## 27.3.1924—2.2.2011

У Мюнхэне на 87-м годзе жыцьця памёр Паўла Урбан — гісторык, журналіст, культурна-грамадзкі дзеяч, праз усё жыцьцё адданы беларускі патрыёт. З Паўлюком (так мы яго звалі, а ён сваё імя пісаў: Паўла) маё знаёмства й сяброўства на рэшту жыцьця пачалося ў 1946 годзе ў беларускім лягеры для "перамешчаных асобаў" (ДыПі) у Рэгэнсбургу. Далей пайшоў супольны шлях празь беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе, скаўтынг, вугальныя шахты ў Англіі, унівэрсытэт у Бэльгіі, супрацоўніцтва ў выдавецтве "Бацькаўшчына" ў Мюнхэне ды, пасьля майго адʼезду ў Нью Ёрк, ліставаньне й рэдкія тэлефанічныя размовы аж да самага канца ягонага працавітага жыцьця.

Пра Паўлюка можна прачытаць, калі хто мае, у кніжках Яна Максімюка "Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне" (Нью Ёрк — Беласток, 1994), і Барыса Рагулі "Беларускае студэнцтва на чужыне" (Лёндан, Канада — Нью Ёрк, 1996) ды маёй "Дванаццатцы" (Нью Ёрк: БІНІМ, 2002). Дарэчы, у гэтай апошняй зьмешчаны й Паўлюковы (пад псэўдонімам Паўлюк Вазёрны) ягоныя празаічныя творы: аповесьць "Нявольнік няпраўды" ды некалькі апавяданьняў. Зь іх відаць, што, апрача ўсяго іншага, Паўлюк меў добры літаратурны задатак.

Нарадзіўся Паўла Урбан у вёсцы Закаліўе на Лепельшчыне. Бацькі — звычайныя сяляне. У сямʼі было сямёра дзяцей. Падчас хутарызацыі ў 1920-х гадох бацька атрымаў дзевяць гэктараў зямлі, але хутка пачалася масавая калектывізацыя, і сямʼю абʼявілі кулацкай. Бацьку арыштавалі, ён чакаў прысуду ў лепельскай турме больш за шэсьць месяцаў. Выпусьцілі яго адтуль у сувязі з артыкулам Сталіна *"Головокружение от успехов"*. Вярнуўшыся з турмы, бацька вымушаны быў уступіць у калгас. Паўлюк пасьля 7 клясаў дзесяцігодкі вучыўся ў Віцебску ў фабрычна-заводзкай вучэльні.

Падчас вайны вёска Закаліўе знаходзілася ў партызанскай зоне. Жыхары нацярпеліся і ад немцаў, і ад партызанаў. У часе адной супрацьпартызанскай акцыі немцы арыштавалі Паўлюка й пасадзілі ў лягер для вывазу ў Нямеччыну. Каб памагаць бацькам з малымі дзецьмі, Паўлюк уступіў у дапаможную паліцыю ў Лепелі. У чэрвені 1944 г., пакінуўшы бацькаўшчыну, ён апынуўся ў нямецкай дывізіі, якая была перакінута ў Францыю. Там хутка перайшоў на бок амэрыканцаў і апынуўся ў Заходняй Нямеччыне. Па заканчэньні вайны ўдалося пазьбегнуць прымусовага "вяртаньня на радзіму" й далучыцца да сваіх суродзічаў у лягеры ДыПі.

Спачатку ў Рэгенсбургу, а пасьля ў Міхэльсдорфе Паўлюк вучыўся ў беларускай гімназіі ймя Янкі Купалы, быў актыўным удзельнікам

[12] Друкуецца паводле: Беларус. № 577. Люты 2011. С. 11.

скаўцкага руху, добрым гімназістам. У студзені 1948 г., разам зь дзесяцьма сябрамі-скаўтамі з таго-ж самага міхэльсдорфскага дыпіўскага лягеру (будучая “Дванаццатка”), выбраўся на заработкі ў Вялікабрытанію. Пасьля двух зь лішнім гадоў вуглякопскае працы й творчага супрацоўніцтва ў выдаваным намі часапісе “Наперад”, наша група зь дзевяцёх дванаццаткаўцаў, у тым ліку Паўлюк, прыехала ў Бэльгію на навуку ў Лювэнскім унівэрсытэце. Мы з Паўлюком выбралі гістарычны факультэт, які й закончылі ўвосень 1954 г. Пра сваю грамадзкую нагрузку ў Лювэне Паўлюк напісаў наступнае (кніга Барыса Рагулі, с. 195): *“Падчас навучаньня быў сакратаром і скарбнікам лювэнскай студэнцкай арганізацыі (колькасьць беларускіх студэнтаў даходзіла да 50 чалавек), сакратаром Саюзу Беларусаў Бэльгіі. Удзельнічаў у студэнцкім харавым і танцавальным ансамблі”*.

Пасьля Лювэну П[аўла] Урбан правёў год у Рыме, працуючы ў архівах і спадзяючыся на шанец зрабіць дактарат з гісторыі Беларусі. Але лёс павярнуўся другім бокам. Праз год, напрыканцы 1955 г., шляхі нашы зыйшліся ў Мюнхэне, дзе я працягваў сваю журналістычную працу ў Радыё “Вызваленьне” (будучая “Свабода”), а Паўлюк стаўся супрацоўнікам Інстытуту Вывучэньня СССР. Там ён працаваў рэдактарам, узначальваў аддзел біяграфічных даведнікаў, быў сябрам прэзыдыюму навуковай рады і сакратаром гэтай рады. Пра яго пісаў адзін з кіраўнікоў Інстытуту, др. Шульц, Антону Адамовічу ў 1970 г.: *“П. К. Урбан працуе рэдактарам нашых біяграфічных даведнікаў і адзначаецца выключнай стараннасьцю, добрасумленнасьцю й цудоўным характарам”*. Лагоднасьць Паўлюковага характару, між іншага, красамоўна адлюстраваная ў ягонай ветлівай усьмешцы, якую бачыш на пераважнай бальшыні фатаздымкаў яго.

Пасьля таго як у 1972 г. Інстытут Вывучэньня СССР спыніў сваю дзейнасьць, ад 1974 г. і да выхаду на пэнсію ў 1989 г. П[аўла] Урбан быў супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода”.

Быўшы чалавекам з моцным патрыятычным пачуцьцём і высокай грамадзянскай маральлю, Паўлюк актыўна спалучаў сваю прафэсыйную працу з грамадзкімі справамі й палітычнай дзейнасьцю. Ён быў сябрам Рады БНР. Паралельна з працай у Інстытуце Вывучэньня СССР супрацоўнічаў на грамадзкай аснове з газэтай “Бацькаўшчына”, быў скарбнікам і адміністратарам аднайменнага кніжнага выдавецтва, сакратаром мюнхэнскага аддзелу БІНІМу.

У 1961 г. Паўлюк ажаніўся зь зямлячкаю Ларысай Асадчай. У іх нарадзілася дачка. Абедзьве жывуць у Мюнхэне і абедзьве дбайна апекаваліся ім апошнімі гадамі ў часе ягоных хваробаў. Выказваю ім тут глыбокае спачуваньне.

Паўла Урбан пакінуў па сабе багатую гістарыяграфічную, журналістычную і эпісталярную спадчыну, пакуль што не сабраную. А што да

кніжных выданьняў, дык у лісьце да мяне ў 2001 г. ён назваў наступныя публікацыі: 1. П. К. Урбан. Смена тенденций в советской историографии. Институт по изучению СССР. Мюнхен, 1959; 2. Паўла Урбан. У сьвятле гістарычных фактаў (У сувязі з брашурай Л. С. Абэцэдарскага). Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхэн — Нью Ёрк, 1972; 3. Паўла Урбан. Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў. Выдавецкі цэнтр "Бацькаўшчына", Менск, 1994; 4. Паўла Урбан. Старажытныя ліцьвіны. Мова, паходжаньне і этнічная прыналежнасьць. Тэхналёгія. Мінск, 2001. Пра публікацыю № 4 Паўлюк зазначыў у лісьце: *«Апошняя кніга — гэта зборнік маіх працаў, дапоўнены "Матэрыялямі да тлумачэньня славянскіх і ліцьвінскіх паганскіх імёнаў". Зборнік гэты я яшчэ не атрымаў зь Менску, і нават ня ведаю, ці захавалася пададзеная назва, якую прапанаваў Зьміцер Санько»*.

Бальшыня навуковых і публіцыстычных артыкулаў Паўлы Урбана апублікаваная ў пэрыёдыках Інстытуту Вывучэньня СССР і Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды ў газэце "Бацькаўшчына" (спыніла выхад у 1966 г.). Цяпер у БІНІМе вядзецца бібліяграфічны збор ягоных працаў, які будзе апублікаваны ў наступнай кнізе "Запісаў" (№ 34).

Вечная Табе памяць, дарагі Сябра. Мілая сэрцу Беларусь будзе далей жыць і Тваёй працай на ейную карысьць.

*Янка Запруднік*

## Сьв[етлай] памяці Стэнлі Шабовіч[13]

8 сакавіка 2018 у Канзасе памёр Стэнлі Шабовіч. Ён належаў да паваеннай хвалі эміграцыі. Нарадзіўся ў беларускай сям'і Антона Шабовіча і Галіны Дубяга 17 лістапада 1932 году ў Мядзелі, у час, калі Заходняя Беларусь належала да Польшчы. У Амэрыцы апынуўся падлеткам, скончыў сярэднюю школу, а пасьля Ўнівэрсытэт Уэйна ў Дэтройце (штат Мічыган), атрымаў ступень магістра ў галіне бібліятэчных навук. Працаваў бібліятэкарам у сістэме адукацыі да выхаду на пенсыю. Быў сталым чытачом газэты "Беларус", заўсёды пачуваўся беларусам.

Пахаваны на гарадзкіх могілках Лакросу, у гэтым горадзе жыў ад 2016 году, пасьля переезду з Фармнігтон-Хілз (штат Мічыган). Пакінуў у смутку жонку Люсыль, сястру Ірэну, стрыечнага брата і дзьвюх стрыечных сёстраў.

Сьветлая памяць!

[13] Друкуецца паводле: Беларус. № 631. Сакавік — красавік 2018. С. 15.

## Сьв[етлай] пам[яці] Васіль Шчэцька[14]
## 18 сакавіка 1923—27 траўня 2011

У штаце Нью Джэрзі памёр 27 травеня сёлета на 89-м годзе жыцьця Васіль Шчэцька, беларускі патрыёт і грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ён у вёсцы Апечкі, што каля гораду Стоўпцы (сёньня Менская вобласьць). Нябожчык прайшоў праз жыцьцё складанымі сьцежкамі часоў польскай і савецкай акупацыяў, бадзяльнага пражываньня ў паваеннай Нямеччыне, працы й навукі ў Вялікабрытаніі, Бэльгіі ды Амэрыцы.

На працягу даўгіх гадоў жыцьця на чужыне Васіль Шчэцька трымаўся свае грамады, дзякуючы чаму здолеў працягваць асьвету ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, а пасьля — у Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі. Быў актыўным удзельнікам беларускага скаўцкага руху, здабыў сабе ступень скаўтмайстра. Пасьля заканчэньня гімназіі два зь лішнім гады (1948—1950) адпрацаваў у ангельскіх вуглякапальнях. У Англіі належаў да так званае Дванаццаткі — групы выпускнікоў Купалаўскае гімназіі, што таксама працавалі ў шахтах. Дванаццаткаўцы за свае заробленыя грошы выдавалі месячны часапіс “Наперад!”. Васіль друкаваўся пад псэўдонімам М. Багун як аўтар легендаў, народных паданьняў.

У сакавіку 1950 г. дзевяцём з дванаццаткаўцаў, у тым ліку Васілю, пашчасьціла атрымаць стыпэндыі й стацца студэнтамі Лювэнскага ўнівэрсытэту. Там, апрача навукі, сябры беларускага студэнцкага згуртаваньня праводзілі актыўную культурна-інфармацыйную дзейнасьць. Васіль сьпяваў у хоры М[іколы] Равенскага, быў сябрам танцавальнага гуртка. Гісторыя Дванаццаткі, групы хлапцоў-бязбацькавічаў у пэрыядзе 1946—1954 гадоў, апісаная ў маёй кнізе “Дванаццатка”.

З Бэльгіі Васіль Шчэцька, закончыўшы факультэт палітычных і сацыяльных навукаў і ажаніўшыся з бэльгійкай Жанэт Дэляп’ер, выехаў у 1955 г. у Амэрыку. Быў два гады старшынём кліўлендзкага аддзелу БАЗА. У 1958 г. перабраўся ў Нью Ёрк, уладзіўся на працу ў бібліятэцы Калюмбійскага ўнівэрсытэту. У 1959 г. на кангрэсе БАЗА яго выбралі за сакратара Галоўнай управы.

Працягам усіх далейшых гадоў Васіль Шчэцька браў актыўны ўдзел у грамадзкім і рэлігійным жыцьці. Пасьля 29 гадоў бібліятэкарскай працы, у 1988, выйшаў на пэнсію. У 1995 г. аўдавеў. Дзяцей у яго ня было. У 1997 г. ажаніўся з былой настаўніцай зь Менску сп-няй Алай Кузьміцкай. Яна й дагледзела яго да канца жыцьцёвае дарогі.

Васіль Шчэцька быў чалавекам лагоднай натуры. Беларус-патрыёт, шчыра адданы сям’і, сябрам, грамадзе, ён заўсёды быў гатовы, пакуль дазваляла здароўе, удзельнічаць у грамадзкіх, рэлігійных ды

[14] Друкуецца паводле: Беларус. № 581. Чэрвень 2011. С. 10.

нацыянальных справах. Моцна цікавіўся падзеямі ў Беларусі, дзе ў яго засталіся сваякі.

Пахаваны нябожчык на беларускім праваслаўным могільніку ў Іст Брансўіку ў штаце Нью Джэрзі.

Вечная памяць вернаму сыну Беларусі Васілю Шчэцьку, а жонцы, сваякам і сябрам шчырае спачуваньне.

*Янка Запруднік*

*Водгукі*

# ПЕРАДГІСТОРЫЯ

У красавіку 2019 г. сябры рэдкалегіі “Запісаў” атрымалі ліст:

*ЗВАРОТ ДА РЭДКАЛЕГІІ “ЗАПІСАЎ”*

*У канцы сакавіка сёлета мне папаў у рукі 40-ы нумар “Запісаў”. Глянуўшы на зьмест, я пабачыў артыкул Віталя Зайкі: “Да гісторыі БАЗА: перадумовы і разьвіцьцё закалотаў 2007—2011 гг.”.*

*Гэта якраз былі тыя гады, калі я быў старшынём Галоўнай управы БАЗА, таму я адразу ўзяўся гэты артыкул прачытаць і быў ашаломлены такім злосным зьместам у навуковым выданьні БІНіМу.*

*Мая асоба аблітая неверагоднай хлусьнёй і тэндэнцыйнасьцю аўтара. На працягу сямі старонак маё імя й прозьвішча згадваецца ажно 26 разоў. Аўтар карыстаецца злоснымі плёткамі, тэндэнцыйна падбірае факты й паўфакты, абвінавачвае мяне ў ашуканстве ды толькі зрэдку карыстаецца нескажонымі фактамі.*

*Я зьвярнуўся да аднаго сябры Рэдкалегіі “Запісаў”. Ён прапанаваў мне напісаць папраўлены артыкул і зьвярнуцца да выдаўцоў зьмясьціць яго ў наступным гадавым нумары.*

*Гэта для мяне абсалютна непрымальна, бо даецца магчымасьць чытачам цэлы год чытаць і распаўсюджваць тую абразьлівую хлусьню!*

*Я лічу, што Рэдкалегія мае адказнасьць паведаміць мне на працягу некалькіх тыдняў, якія крокі пляніе прыняць, каб выправіць зробленую мне шкоду. Калі трэба, я магу выказаць мой погляд.*

*Да галоўнага рэдактара маю асаблівую крыўду, бо, маючы са мной асабісты кантакт і супрацоўніцтва ў іншай публікацыі гэтага нумару “Запісаў”, яна нават не паведаміла мне аб артыкуле пра БАЗА, каб паправіць яўныя памылкі й тэндэнцыйны намер аўтара.*

*Чакаю хуткага адказу*
*З пашанай Вячка Станкевіч.*
*7 красавіка 2019 г.*

Неўзабаве аўтару ліста быў скіраваны адказ:

*Шаноўны спадар Вячка!*

*Безумоўна, як галоўны рэдактар я нясу адказнасьць за рэдакцыйную палітыку “Запісаў”, а гэтая палітыка складаецца з таго, што ніхто не ажыцьцяўляе цэнзуру тых тэкстаў, якія публікуюцца ў альманаху. Кожны аўтар адказвае за зьмест таго, што ён публікуе. Мы даем магчымасьць выказацца ўсім, незалежна ад таго, пагаджаюся я асабіста, ці іншы сябра рэдкалегіі, з пазыцыяй таго ці іншага аўтара ці не.*

*І ў аўтарскіх артыкулах, і ва ўспамінах, і ў рэцэнзіях на кнігі, якія часам бываюць даволі вострыя, мы захоўваем за аўтарам права выказваць сваё меркаваньне. Так было на працягу ўсяе больш як пяцідзесяцігадовай гісторыі “Запісаў”, і я толькі падтрымоўваю гэтую традыцыю.*

*Успамін Віталя Зайкі адпачатку быў прызначаны для іншага выданьня, але з розных прычынаў туды ня трапіў, і паводле ўзгадненьня з аўтарам быў зьмешчаны ў “Запісах”. Ён не падаўся мне асабліва эмацыйным. Аўтар пасьлядоўна выклаў сваё бачаньне падзей таго канфлікту, удзельнікам якога быў і ён, і Вы, і іншыя беларусы Нью-Ёрку. Зразумела, калі б гэта быў тэкст не Віталя Зайкі, а Вячкі Станкевіча, ён гэтак жа абавязкова зьявіўся б у “Запісах” без узгадненьня зь Віталём Зайкам, Маратам Клакоцкім ці кім іншым, хто быў у тым канфлікце зь іншага боку “барыкадаў”. Вы як колішні кіраўнік беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода”, мяркую, ведаеце гэтую практыку.*

*Я з аднолькавай павагай стаўлюся да ўсіх удзельнікаў беларускай супольнасьці ў Нью-Ёрку, заангажаванай у той трагічны для грамады канфлікт, вынікі якога адчуваюцца й праз дзесяцігодзьдзе. На жаль, яны будуць адчувацца й далей, калі тыя, хто распачаў супрацьстаяньне, ня змогуць з пазыцыі часу пераасэнсаваць, што адбылося, і спакойна пра гэта размаўляць. І я думаю, менавіта “Запісы” могуць стаць гэткай трыбунай для абмеркаваньня й асэнсаваньня. Мы аднолькава ставімся да ўсіх. У пацьвярджэньне гэтага Вы можаце ўбачыць, што на старонках згаданага Вамі нумару зьмешчаны ня толькі ўспамін Віталя Зайкі, але й інтэрвію з Ганнай Сурмач, якая была ў тым канфлікце менавіта на Вашым баку, а таксама й нашая з Вамі прадмова да публікацыі кнігі Вашай маці, за супрацу ў якой я вельмі Вам удзячная. Усё гэта сьведчыць пра тое, што “Запісы” гатовыя супрацоўнічаць з усімі, хто мае, што апублікаваць.*

*У сувязі з вышэй напісаным я прапаную Вам выкласьці ўласнае бачаньне падзей таго канфлікту, якое мы з радасьцю апублікуем у “Запісах” таксама без аніякай цэнзуры, і чытачы гэтаксама на працягу наступнага году будуць мець магчымасьць асэнсаваць Вашую пазыцыю, Вашыя заўвагі, Вашыя погляды на падзеі. Гэтая практыка звычайная для любога навуковага выданьня, і мы яе прытрымліваемся таксама.*

*Новы 41-ы выпуск “Запісаў” ужо рыхтуецца дзякуючы Вашай і Беларускай фундацыі П. Крачэўскага фінансавай дапамозе. Тэксты ад аўтараў я зьбіраю ў яго да пачатку чэрвеня. І буду радая атрымаць у тым ліку й Ваш тэкст.*

*З павагай*

*Натальля Гардзіенка».*

Вынікам гэтай сытуацыі стаў тэкст Вячкі Станкевіча, які публікуецца ніжэй.

***Вячка Станкевіч***
*Naples, Fl*

# ДА ГІСТОРЫІ БАЗА 2007—2011

## Адказ на артыкул Віталя Зайкі

*__Моцныя__ арганізацыі кіруюцца прынятымі правіламі,*
*а __кволыя__ — асабістымі жаданьнямі кіраўнікоў.*

### Уступ

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) было заснаванае паваеннай хваляй беларускіх эмігрантаў у 1949 годзе ў Нью-Ёрку (горадзе). Яны стварылі Раду дырэктароў (Галоўную ўправу), якая зарэгістравала БАЗА як непрыбытковую карпарацыю ў штаце Нью-Ёрк. Мэтаю было стварыць установу, якая магла б разрастацца па ўсіх штатах Амэрыкі, ствараючы мясцовыя аддзелы ды колькасна меншыя гурткі.

У 1950 годзе ў горадзе Кліўлэнд (штат Агаё) заснавалася Згуртаваньне беларускай моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА) як асобная арганізацыя, афіліяваная з БАЗА. Пазьней паўстаюць аддзелы БАЗА ў Кліўлэндзе, Чыкага, Нью-Джэрзі, яшчэ пазьней — у Дэтройце, Новай Англіі, Каліфорніі.

БАЗА кіруецца сваім зарэгістраваным карпарацыйным Статутам, які складаецца зь дзьвюх частак: афіцыйнай Канстытуцыі й больш падрабязнага Ўставу (*By-Laws*). Падобнае адбывалася і ў Канадзе, дзе яшчэ раней заснавалася Згуртаваньне беларусаў Канады (ЗБК).

У 1952 годзе новапрыбылыя беларусы зладзілі па двух баках вадаспаду Ніягара сяброўскую Сустрэчу, якая пазьней перарасла ў традыцыйныя Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Яны ладзяцца кожныя два гады падчас традыцыйнага амэрыканскага сьвята *Labor Day* на пачатку верасьня ў найбольш людных асяродках ЗБК і БАЗА. Адбыліся ўжо 33 Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Галоўныя ўправы БАЗА і ЗБК узгадняюць месца ды асноўную праграму Сустрэчы, а мясцовыя аддзелы БАЗА, ЗБК, ЗБМА ды іншыя ўстановы ладзяць гэтае мерапрыемства. Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ня маюць фармальных статутаў, а праводзяцца паводле традыцыяў і мясцовых магчымасьцяў.

Ніжэй падаюцца асноўныя правілы дзейнасьці БАЗА праз вытрымкі з Статуту.

***Канстытуцыя. Артыкул 4** — Рада дырэктароў (Галоўная ўправа)*

***Пар. 1** Галоўная ўправа выконвае свае абавязкі згодна з Канстытуцыяй БАЗА і пастановамі Кангрэсу. Яна можа рабіць усе захады, якія служаць для дабра й росту арганізацыі.*

***Пар. 2** Галоўную ўправу абірае Кангрэс БАЗА на тэрмін (кадэнцыю) — 2 гады, у складзе ня больш 9 асобаў…*

***Артыкул 7** — Кангрэс*

*Найвышэйшай уставадаўчай уладай БАЗА ёсьць Кангрэс, які складаецца з дэлегатаў і прадстаўнікоў ад арганізацыйных адзінак БАЗА (рэпрэзэнтантаў).*

(Ёсьць два тыпы кангрэсаў — звычайны й надзвычайны. Пра другі будзе больш сказана ў адпаведнай частцы артыкулу. Звычайныя Кангрэсы павінны адбывацца што два гады, агульныя сходы аддзелаў — штогод.)

***Устаў. Артыкул 3** — Дзейнасьць Галоўнай управы*

***Пар. 1** Засяг улады*

*Галоўная ўправа ёсьць выканальным ворганам БАЗА. Яна стаіць на старожы Статуту й пастановаў Кангрэсу. У часе паміж Кангрэсамі Галоўная ўправа ёсьць найвышэйшым аўтарытэтам БАЗА…*

А цяпер пераходзім да самога артыкулу Віталя Зайкі, як быў зьмешчаны ў “Запісах” № 40 (2018).

Ужо на першай старонцы артыкулу, які складаецца зь сямі старонак дробнага шрыфту без падзагалоўкаў, адчуваецца жаданьне аўтара перабольшыць сваю ролю, апраўдаць недахопы й амаль бязьдзейнасьць блізкіх яму ды жорстка панізіць ролю іншых. На пытаньне *“Чаму ў Нью Джэрзі не праводзіліся гадавыя сходы аддзелу?”* старшыня Юрка Азарка адказаў: *“Калі Шукелойць не праводзіць сходаў (Кангрэсаў), чаму я маю гэта рабіць?”* І праўда, сам аўтар артыкулу піша, што *“апошні Кангрэс праводзіўся каля 14 гадоў перад тым”*. І тут ён апраўдвае доўгатэрміновага старшыню Галоўнай управы тым, што ён быў у адвансаваным веку (91 год!) *“…і выказаў жаданьне працаваць з дапамогай намесьнікаў на пасадзе старшыні й надалей”*. (Адзін з намесьнікаў памёр у папярэднім годзе, скарбнік яшчэ раней, і ён ня быў заменены іншай асобай з Галоўнай управы.) Аднак аўтар артыкулу чамусьці крытыкуе Статут, *“што быў складзены паўстагодзьдзя таму… і быў недастаткова ясным і зразумелым”*. Таксама сьцьвярджае аўтар артыкулу, *“што яму й іншым было вядома няшмат пра аддзел у штаце Агаё”*.

Затое пра свой Нью-Ёрскі аддзел аўтар з захапленьнем піша некалькі абзацаў. Згаджаюся, што ёсьць чым ганарыцца, дзейнасьць шырокая й рэгулярная. Аднаўленьне газэты “Беларус” у 2002 годзе было патрэбным і вялікім крокам. Трэба за гэты крок падзякаваць рэдактару Марату Клакоцкаму й Віталю Зайку, які меў адказнасьць падаваць вест-

кі аб Нью-Ёрскім аддзеле на старонцы “Весткі й Паведамленьні”. Аднак тут не абыйшлося без перабольшваньня, як напрыклад: *“У аддзеле налічвалася каля 300 сяброў паводле сьпісу”* (гэта хіба “вечнага сьпісу”) і *“прыблізна 60—70 чалавек рэгулярна наведвалі штомесячныя сходы”* (гэта амаль што немагчыма ў звычайнай трохпакаёвай кватэры, дзе адбываліся сходы, хоць адзін з пакояў быў пабольшаны коштам перарobленага гаражу). І нават меншая прысутнасьць была дзякуючы людзям, якія прыходзілі, каб заплаціць сяброўскія складкі ды атрымаць афідавіты, падпісаныя старшынём аддзелу дзеля прапановы адвакату як першыя крокі ў атрыманьні права на сталы побыт у ЗША. Ізноў жа — дзейнасьць добрая й карысная, калі яна не становіцца амаль асноўнай для штомесячных сходаў.

## Кангрэс БАЗА 2007 году як вынік “кансьпірацыйнай” дзейнасьці

Палова наступнай старонкі артыкулу Віталя Зайкі прысьвечаная спробе аднавіць скліканьне Кангрэсаў БАЗА, і асноўным “кансьпіратарам” тут падаецца мая асоба (Вячкі Станкевіча).

Пасьля 10 гадоў працы на Радыё Свабода (восем зь іх як дырэктар Беларускай службы) я вярнуўся ў ЗША й на першым спатканьні з Францішам Бартулём, зь якім разам былі ў Галоўнай управе БАЗА ў 1969—1971 гадах, пачуў пытаньне: *“Ці ты гатовы вярнуцца да грамадзкай дзейнасьці?”* Адказ быў: *“Чаму не, калі знойдзецца ахвотная й працаздольная каманда”*. Потым у мяне былі чатыры гады жыцьця паміж ЗША ды Эўропай, часта бываў у Беларусі, працуючы разам зь сябрамі ТБМ у сэмінарах самапалепшаньня “Я магу жыць ляпей”. Часта бываў на Беласточчыне, у Празе, меў крыху турызму па цэлай Эўропе, некалькі месяцаў штогоду праводзіў у паўночнай Італіі — любімым рэгіёне жонкі. Настала сям’я пасялілася ў ЗША ў штаце Нью-Джэрзі, ля мора, у 2004 годзе. І неўзабаве я стаў сябрам тутэйшага аддзелу БАЗА.

Я імкнуўся азнаёміцца са зьменамі ў беларускіх асяродках ЗША, якія адбыліся падчас маёй доўгай адсутнасьці ў гэтай краіне. І гэта ёсьць рэаліі дзейнасьці таго часу, а не фантазія аўтара артыкулу ў “Запісах”, дзе ён у лічаных радках аж сем разоў згадвае імя або прозьвішча Вячкі Станкевіча, які *“актыўна заклікаў да правядзеньня Кангрэсу БАЗА”* і *“актыўна рыхтаваўся”*. Чаго я напраўду не рабіў, гэта *“мабілізацыю галасоў (упаўнаважаньняў на Кангрэсе) у аддзеле БАЗА Агаё”*.

Таксама, *“фармаваньне двух лягераў прыхільнікаў”* аднаго ці другога кандыдата зьяўляецца фантазіяй Віталя Зайкі, які памылкова цьвердзіць, што я *“прапанаваў для Антона Шукелойця пасаду ганаровага старшыні”*. Такую прапанову насамрэч агучыў Вітаўт Кіпель, а я заявіў, што, незалежна ад вынікаў галасаваньня, асабіста паважаю Антона Шукелойця. Вынікі галасаваньня былі да пэўнай меры

неспадзеўкай, калі я перамог (19:17), хоць найбольшы Нью-Ёрскі аддзел меў вялікую перавагу абраных дэлегатаў, якія, відавочна, не зьявіліся на Кангрэс, не перадалі ўпаўнаважаньняў або галасавалі за мяне.

Аўтар артыкулу таксама робіць намёк на нібы хцівасьць новаабранага старшыні, калі той, даведаўшыся, што ў касе Галоўнай управы няма ні цэнта, прапанаваў трымацца ранейшага правіла: аддзелы перадаюць 30 % ад сабраных сяброўскіх складак на працоўныя выдаткі Галоўнай управы. Віталь Зайка дамагаецца ведаць, на што будуць выкарыстаныя гэтыя грошы, і заяўляе, што пры патрэбе Галоўная ўправа можа зьвярнуцца да аддзелаў. Безь вялікага *"абурэньня"* ён атрымаў адказ: *"На адведваньне аддзелаў, на паштовыя й друкарскія выдаткі"*. Ад прысутнага дэлегата, рэдактара газэты "Беларус" Марата Клакоцкага пастуціла прапанова: *"пяць даляраў ад кожнага з паўнапраўных сяброў аддзелу"*, якая і атрымала падтрымку праз галасаваньне.

## 28-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі

Чарговая 28-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі прайшла ў Беларускім цэнтры "Полацак" недалёка ад Кліўлэнду, найбольшага гораду ў штаце Агаё. Гэта былі амаль тры дні ў канцы жніўня — пачатку верасьня 2008 году, запоўненыя багатай і разнаітай праграмай.

Папярэднюю падрыхтоўку да яе, у цесным супрацоўнцтве з Галоўнай управай, правялі сябры мясцовага аддзелу БАЗА. Гэта былі др. Сяргей Раманюк, нядаўна абраны старшынём мясцовага аддзелу й адначасна сябрам Галоўнай управы, Сьвятлана Белая, якая апрацавала й выдала па-мастацку выкананыя праграмкі, Анатоль Лук'янчык, былы футбаліст у камандзе "Пагоня", сябра аддзелу БАЗА й старшыня Цэнтру "Полацак", пасьпяховы прадпрымальнік. Апошні за свой кошт даставіў вялікую палатку, у якой падчас Сустрэчы была наладжана выстава беларускіх кніг, друкаваных у эміграцыі ды на Бацькаўшчыне, а таксама традыцыйныя народныя вырабы, выстаўленыя на продаж. Таксама ўдзельнічала Ірына Каляда, сустаршыня прадпрыемства "Этнічны голас Амэрыкі", якая дапамагала беларускім дзецям пабываць у чыстых ад радыяцыі рэгіёнах Эўропы праз акцыі, якія праводзіла Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Ірына запрасіла Алену Макоўскую, старшыню гэтага аб'яднаньня, прыляцець на Сустрэчу ды аплаціла ейны транспарт і побыт.

Усе гэтыя людзі стараліся, каб Сустрэча прайшла пасьпяхова. Як тут не згадаць групу жанчын зь мясцовага прыходу (добрая частка іх была сяброўкамі тутэйшага аддзелу БАЗА), якія забясьпечылі бальшыні гасьцей харчаваньне, або тых актывістаў, што арганізавалі валейбольны турнір, або Пола Васілеўскага, колішняга старшыню аддзелу БАЗА, які прадаваў напоі, скарбніка аддзелу Олю Кабяка, якая прадавала білеты

й памагала Сьвятлане Белай пры ўваходзе на банкет у нядзелю. Як не згадаць а. Ігара Лабацэвіча, які спэцыяльна прыехаў зь Мінэсоты, каб дапамагчы вернікам-уніятам пабыць на беларускамоўнай багаслужбе, або музыку Федзю Паўлаўца, былога сябры мясцовага аддзелу БАЗА, які прыехаў з Каліфорніі ды стварыў надзвычайную атмасфэру на вечарыне ў першы дзень, калі амаль усе разам сьпявалі вядомыя беларускія песьні.

Тут чытач можа запытацца, якое дачыненьне гэтыя радкі маюць да цэлага артыкулу? Маюць! Аўтар Віталь Зайка згадвае толькі адну, даволі кароткую частку цэлай Сустрэчы: *"Канфэрэнцыя на ёй рыхтавалася ўсімі актывістамі БАЗА. У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі як Галоўнай управы, гэтак і прадстаўнікі Нью-Ёрскага аддзелу"*. Ствараецца ўражаньне, што канфэрэнцыя, якая ў сапраўднасьці была панэльнай дыскусіяй і ў якой Віталь Зайка згадзіўся выконваць ролю вядучага, была адзінай або найважнейшай часткаю Сустрэчы. Гэта зусім ня так. Панэльная дыскусія пасьля Багаслужбы й перад банкетам больш фармальна адчыніла другі дзень Сустрэчы ў вялікай залі, упрыгожанай творамі мастакоў з розных асяродкаў. Прамоўцы, а гэта былі Зянон Пазьняк, Валянціна Трыгубовіч і Алена Макоўская, засяродзіліся на розных тэмах із сучаснага жыцьця Беларусі.

З артыкулу выглядае, што аўтар адразу пасьля банкету пайшоў шукаць кандыдатаў на "кулуарныя размовы". Невядома, каго ён знайшоў: ці былі гэта людзі, якія мала ведалі, або пакрыўджаныя асобы, або зь іхных выказваньняў аўтар артыкулу мог выбіраць тое, што яму было патрэбна. Аўтар нават ня згадвае, што прысутнічалі на Сустрэчы ганаровыя госьці, як першы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Сўорц і старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

Магчыма, аўтар артыкулу ня быў прысутны на канцэрце, які арганізавала Ала Орса-Рамана, на якім былі выступоўцы з розных асяродкаў, а большую частку праграмы выканалі сьпевакі й музыкі з Канады. Пазьней быў паказаны фільм пра Васіля Быкава, зроблены Галінай Навумчык, а прафэсар Паўліна Сурвілла правяла гутарку з моладзьдзю. Другі дзень Сустрэчы закончыўся танцамі пад музыку мясцовай аркестры. На наступны дзень — разьвітаньні, госьці зьбіраюцца ад'язджаць, а мясцовыя арганізатары пачынаюць заслужаны адпачынак.

Шмат пазьней аказалася, што Віталю Зайку не ўдалося сабраць дастаткова кампрамітуючай інфармацыі пра мясцовы аддзел БАЗА, і ён пад канец 2009 году выслаў сюды "разьведчыцу", якая мела добрую фантазію.

## Кангрэс БАЗА 2009-га году ў Нью Джэрзі

У сваім артыкуле Віталь Зайка без аніякай падставы абвінавачвае ў ашуканстве нейкіх неназваных дэлегатаў, уключна з тымі, што былі

абраныя ў Прэзыдыюм (ізноў неназваныя). Аўтар піша: *"Зноў значная (?) колькасьць упаўнаважаньняў прыбыла з Кліўлэнду..."* Насамрэч гэта былі тры ўпаўнаважаньні ад дэлегатаў і адно ад сябры Галоўнай управы.

Пратакол мандатнай камісіі паказвае, што прысутных дэлегатаў было 24, упаўнаважаньняў — 21. Усіх разам галасоў — 45.

***Асноўныя галасаваньні:***

Адлік часткі сяброўскіх складак для Галоўнай управы: 40 — "за", 4 — "супраць", 1 — "устрымаўся".

Абмежаваньне колькасьці тэрмінаў для старшыняў (адлік з 2009 году):

аддзелаў — чатыры тэрміны запар або чатыры гады запар;

Галоўнай управы — тры тэрміны запар або шэсьць гадоў запар.

Галасаваньне: 24 — "за", 8 — "супраць", 13 — "устрымаліся".

Абмежаваньне колькасьці тэрмінаў увойдзе ў сілу на наступным Кангрэсе, у 2011 годзе.

Выбары старшыні Галоўнай управы: адзіны кандыдат — Вячка Станкевіч. Іншых прапановаў не было.

Галасаваньне: 30 — "за", 15 — "устрымаліся".

У артыкуле Віталь Зайка піша, што 15 галасоў былі пададзеныя за Антона Шукелойця. Аднак не было падставаў думаць, што той быў зацікаўлены ў пасадзе, з увагі на ягоныя 93 гады. Няведама, ці Віталь Зайка меў зь ім размову ў гэтай справе, але ўпаўнаважаньня ад Антона Шукелойця ён не прадставіў.

За прапанаваны склад Галоўнай управы: 28 — "за", шэсьць — "супраць", 15 — "устрымаліся".

У рэвізійную камісію абраныя Н. Брылеўская, М. Цімашэнка, Т. Кулакевіч.

Хоць на Кангрэсе было шмат крыку й скандальных паводзінаў некалькіх асобаў, ніякіх канкрэтных або фармальных пратэстаў у пратакол унесена не было.

Адсюль відавочна, што тыя тры ўпаўнаважаньні з Кліўлэнду ня мелі ніякага ўплыву на вынікі галасаваньня.

Для зацікаўленых чытачоў падаюцца лічбы дэлегатаў і рэпрэзэнтантаў (апошнія — гэта сябры Галоўнай управы, рэвізійнай камісіі й старшыні аддзелаў) і тых асобаў, што былі абраныя ў аддзелах, але ня бралі ўдзелу ў Кангрэсе нават праз упаўнаважаньні.

Аддзел Нью Ёрк: прысутных — 9, упаўнаважаньняў — 7, ня бралі ўдзелу — 9[1].

Аддзел Нью Джэрзі: прысутных — 3, упаўнаважаньняў — 1.

[1] Магчыма, былі абраныя сябры, якія, атрымаўшы патрэбны ім афідавіт, не паклапаціліся быць на кангрэсе або перадаць упаўнаважаньне.

Аддзел Агаё: прысутных — 0, упаўнаважаньняў — 3, ня бралі ўдзелу — 1.

Гурток Вашынгтон: прысутны — 1.

Гурток Канэтыкат: прысутны — 1.

Гурток Каліфорнія: незразумелае ўпаўнаважаньне, ня браў удзелу — 1.

Галоўная ўправа: прысутных — 6, упаўнаважаньняў — 9.

Рэвізійная камісія: прысутных — 3[2].

Старшыні аддзелаў: Віталь Зайка прысутны (1) + Юрка Азарка перадаў яму ўпаўнаважаньне (1).

На наступным Кангрэсе, у 2011 годзе, Станкевіч ужо ня быў кандыдатам, што й абяцаў зрабіць чатыры гады таму. На пасаду старшыні Галоўнай управы была абраная Ганна Сурмач.

## Жорсткая кампанія ў газэце "Беларус"

***Канстытуцыя. Артыкул 7***

***Пар. 3*** *Надзвычайны Кангрэс*

*Надзвычайны Кангрэс можа быць склiканы пры надзвычайнай патрэбе старшынём цi Галоўнай управай па iх iнiцыятыве або па прапанове рэвiзiйнай камiсii цi на пiсьмовую заяву, падпісаную асабіста адной пятай часткай выбраных дэлегатаў папярэдняга чарговага Кангрэсу. Ва ўсiх выпадках мусiць быць пададзена абгрунтаваньне склiканьня Кангрэсу на падставе Статуту.*

У канцы сьнежня 2009 году Галоўная ўправа БАЗА атрымала ад Віталя Зайкі ліст, у якім ён дамагаецца скліканьня надзвычайнага Кангрэсу БАЗА. Ліст, напісаны больш як праз паўгоду пасьля мінулага, чароднага Кангрэсу, ня меў абгрунтаваньня прычынаў, у ім не было асабістых подпісаў (толькі названа 10 прозьвішчаў), што недастаткова для скліканьня надзвычайнага Кангрэсу.

У газэце "Беларус" (№№ 563—564 за сьнежань 2009 і студзень 2010) на старонцы "Весткі й Паведамленьні", якую вёў Віталь Зайка, зьяўляецца некалькі радкоў пад велічэзным загалоўкам: "Зварот аб правядзеньні надзвычайнага Кангрэсу БАЗА".

У наступным нумары газэты (№ 565 за люты 2010) ізноў на старонцы "Весткі й Паведамленьні" без называньня аўтара, які ў старыя часы заслугоўваў бы тытул камісара прапаганды, у артыкуле пад загалоўкам "Вячка Станкевіч і Ньюёрскі аддзел БАЗА" маё прозьвішча згадваецца ажно 15 разоў пераважна зь непраўдзівай інфармацыяй.

---

[2] Гэта быў голас рэпрэзэнтанта Агародніка, які захварэў. Ягоны голас быў перададзены Кангрэсам Марату Клакоцкаму, чый голас праз недагляд ня быў унесены ў сьпіс дэлегатаў Нью-Ёрку.

Аднак гэтага не хапае. На той жа старонцы друкуецца наступны артыкул пад загалоўкам “Заява ўправы Ньюёрскага аддзелу БАЗА”. Аўтары ізноў чапляюцца да Кліўлэндскага аддзелу БАЗА, хоць на гэта ня маюць права, бо кожны аддзел дзейнічае самастойна, кіруючыся Статутам і пастановамі Галоўнай управы, а не адным чалавекам, якога бясконца абвінавачваюць. Таксама ня маюць права й заклікаць іншыя аддзелы да бунту.

У наступным нумары газэты (№ 566 за сакавік 2010) ужо дзьве заявы. Першая ад аддзелу ў Нью-Джэрі, у якой істотна паўтараецца ранейшая нью-ёрская — але з дададзеным 30-дзённым ультыматумам. Другая ад Нью-Ёрку з шасьцю новымі пунктамі й друкаванымі прозьвішчамі 11 дэлегатаў (тры зь іх, уключна зь Юркам Азаркам, не былі асабіста прысутныя на Кангрэсе, таму не маглі самастойна сьведчыць аб парушэньнях).

Апрача згаданых заяваў, была адна істотная *“Папраўка”*, зьмешчаная ў самым нізе старонкі, набраная дробненькім шрыфтам. *«У тэксьце Заявы Ньюёрскага аддзелу БАЗА, апублікаванай... у папярэднім нумары газэты, замест слова “ўправа” павінна быць слова “кіраўніцтва”. За выняткам гэтай недакладнасьці, рэшта тэксту адпавядае сапраўднасьці»*.

Не зусім так. Па-першае, сама Заява была створаная меншынёй управы Нью-Ёрскага аддзелу, а бальшыня управы ня брала ў ёй удзелу й падала адпаведны пратэст да рэвізійнай камісіі. Ён быў напісаны 25 лютага 2010 году і ў ім аспрэчвалася заява, што Нью-Ёрскі аддзел БАЗА (ня толькі нейкае фікцыйнае “кіраўніцтва”) лічыць цяперашні склад Галоўнай управы нелегітымным, заклікаючы іншыя аддзелы БАЗА далучыцца да гэтай разбуральнай дзейнасьці. Па-другое, у самой Заяве знаходзіцца наступны прынцыповы фальш... Пададзена: *“Між тым дэлегаты, якія падпісалі Заяву*”, складаюць больш як 1/5 усіх дэлегатаў Кангрэсу. У тым і бяда, што ніводзін дэлегат заявы асабіста не падпісаў, як гэтага патрабуе Статут. А здабыць асабістыя подпісы на працягу паўгоду ня так ужо й цяжка, калі тыя людзі гатовыя гэта зрабіць. Чаму гэтага не адбылося — загадка.

Дзейнасьць “кіраўніцтва” прывяла да расколу ў Нью-Ёрскім аддзеле. Пратэстуючы супраць яе, 21 сябра (уключна з шэрагам сяброў управы) падпісалі заяву аб выхадзе з Нью-Ёрскага аддзелу ды зьвярнуліся да Галоўнай управы з просьбай аб заснаваньні новага аддзелу.

Той зварот быў задаволены, і новы — Бруклінскі — аддзел быў створаны на ўстаноўчым сходзе, які прайшоў у грамадзкай залі на 401 Атлантык Авэню (будынак сабору) 4 чэрвеня 2010 году. Гэты будынак стаў сталым месцам для сходаў аддзелу.

Пасьля некалькіх лістоў у рэдакцыю, якія не былі зьмешчаныя ў “Беларусе”, пры дапамозе аўтарытэтных асобаў удалося надрукаваць

заяву Галоўнай управы пад загалоўкам “Ці будзе надзвычайны Кангрэс БАЗА?”. Адказваючы па пунктах, Галоўная ўправа скончыла заяву наступнай адмовай:

*“...На Кангрэсе БАЗА 30 траўня 2009 году ніякіх істотных парушэньняў не было дапушчана. Галоўная ўправа ня будзе склікаць надзвычайны Кангрэс, бо не бачыць абгрунтаваных прычынаў дзеля такога кроку й дастаткова важнай сытуацыі, якая патрабавала б скліканьня такога форуму.*

*Ад Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) старшыня Вячка Станкевіч, сакратар Таццяна Красоўская”.*

## 29-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Саўт Рывэры

У 2010 годзе прыйшла ізноў чарга Нью-Джэрзі ладзіць гэтае мерапрыемства. Бяручы пад увагу ўсе закалоты, гэта не была лёгкая задача. Нядаўна прайшоў гадавы сход аддзелу Нью-Джэрзі. Была абрана новая ўправа з малымі зьменамі.

Старшыня Галоўнай управы ў лютым напісаў Юрку Азарку, старшыні мясцовага аддзелу, ліст такога зьместу: сёлета крытычна важна наладзіць лепшае супрацоўніцтва ды каардынацыю дзейнасьці паміж Галоўнай управай і аддзелам БАЗА Нью-Джэрзі ў ладжаньні мясцовай Сустрэчы. Як заўсёды, запрашаюцца ўсе беларусы, незалежна ад арганізацыйнай прыналежнасьці, часта прыбываюць госьці зь Беларусі. Ёсьць патрэба як найхутчэй вызначыць канкрэтнае месца Сустрэчы. Калі ласка, дайце знаць, калі адбудзецца наступнае паседжаньне ўправы аддзелу з гэтым пунктам парадку дня.

Адказ старшыні аддзелу, на жаль, быў поўнасьцю адмоўны: *“Перш трэба Галоўнай управе склікаць надзвычайны Кангрэс, іначай я лічу Галоўную ўправу нелегітымнай”.* На гэтым спроба супрацоўніцтва кончылася.

Галоўная ўправа сабралася, каб абмеркаваць, што рабіць. Зьвярнуцца да ЗБК, каб сёлетняя Сустрэча прайшла ў Канадзе, бо ж мінулая была ў ЗША, у штаце Агаё. Другая думка: даведацца, ці заля Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру ў Саўт-Рывэры не занятая ў тыя дні. Гэта шмат каго з управы цікавіла, бо былі знаёмыя з Цэнтрам. Вялікая заля са сцэнай, прафэсійная беларуская кухня пад кіраўніцтвам Соні Арцішэнка, бар. Ад мясцовых даведаліся, з кім трэба дамаўляцца. Па вельмі добрай цане дамовіліся на тры дні амэрыканскага сьвята *Labor Day*.

Навязалі кантакт з Канадай, пыталіся, ці здолее прыбыць фальклёрны гурт “Яваровы людзі”. Не ўдалося, бо для навапрыезджых у Канаду былі праблемы зь візамі ў ЗША. Лучнасьць была асноўна з Валянцінай Шаўчэнка й старшынём ЗБК Зьмітром Эльяшэвічам.

Дамовіліся аб супольным ладжаньні Сустрэчы з малодшымі прадстаўнікамі саўт-рывэрскага Цэнтру Бабі Цупрыкам, Юркам Наумчыкам і Юркам Арцішэнкам. Засталося падаць абвестку ў газэту, дапоўніць працаздольны арганізацыйны камітэт і пачаць працаваць. Абвестка пра Сустрэчу ў Саўт-Рывэры была дасланая ў газэту "Беларус" 26 траўня 2010 году. Быў атрыманы адказ: *"Будзе абвязкова надрукаваная"*. Прыйшоў чэрвеньскі нумар газэты (№ 569), і на першы погляд — стандартны выгляд, загаловак нармальны. Чытаеш: *"Набліжаецца верасень і разам зь ім час правядзеньня чарговай 29-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі"*. Чытаеш далей — тут ШОК. Замест інфармацыі пра месца Сустрэчы ды падобнага бачыш: *"Канфлікт у БАЗА прывёў да таго, што Сустрэчу цяпер рыхтуюць дзьве розныя групы людзей у розных месцах. Сутнасьць канфлікту ў тым, што аддзелы БАЗА ў Нью Ёрку й Нью Джэрзі не прызнаюць легітымнасьць кіраўніцтва старшыні Галоўнай управы Вячкі Станкевіча з-за парушэньняў, якія мелі месца падчас выбараў на гэтую пасаду, патрабуюць правядзеньня надзвычайнага Кангрэсу БАЗА для выпраўленьня гэтых парушэньняў. Сп. Станкевіч, у сваю чаргу, лічыць гэтыя прэтэнзіі неабгрунтаванымі і, не шукаючы шляхоў палагоджаньня канфлікту, працягвае лічыць сябе легітымным кіраўніком БАЗА"*.

Далей пададзеныя сайты абодвух бакоў для большай меры інфармацыі ды апошнія два радкі (драбнейшым шрыфтам): *«Існуе магчымасьць, што да верасьня паразуменьне будзе знойдзена ды адбудзецца агульная імпрэза. Больш інфармацыі будзе ў жнівеньскім нумары "Беларуса"»*.

Хочацца верыць, няўжо ёсьць надзея на паразуменьне? Званю Марату: *«Ты ж абяцаў, што маю абвестку "абавязкова надрукуеш..."»* І цішыня. А тады прыгнечаным голасам адказ: *"Я думаў, што вы ня здолееце"*. І ў адказ на пытаньне *"Хто даў табе зьмешчаную інфармацыю?" — "Мне далі яе Зайка й Азарка"*.

Чарговая праблема: пад ціскам зь Нью-Ёрку ці Нью-Джэрзі ЗБК вырашыла ня браць афіцыйна ўдзелу ў гэтай Сустрэчы.

І вось прыйшоў жнівеньскі нумар газэты "Беларус". Выгляд і зьмест старонкі "Весткі й Паведамленьні" зусім розныя ад бальшыні папярэдніх. Апісваецца ліпеньскі сход Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА ў Цэнтральным парку Нью-Ёрку, каля помніка вялікага князя старабеларускай дзяржавы Ягайлы, які потым стаў каралём Польшчы. Вялікая фатаграфія переважна моладзі зь беларускімі сьцягамі, а ў цэнтры Антон Шукелойць, пажыцьцёвы беларускі дзеяч як у Беларусі, гэтак і на эміграцыі, якому якраз споўнілася 95 гадоў. Далей працяг галоўнага артыкулу пра традыцыйны Марш паняволеных народаў.

А ўнізе старонкі ліст у рэдакцыю ад Алесі Сёмухі, ведамай многім чытачом газэты, як і слухачом Радыё Свабода, дзе яна яшчэ ў мала-

досьці працавала як журналіст. Вось некалькі радкоў дасьветчанага журналіста: *«Вырашэньне канфліктаў ускладняецца, калі рацыянальныя аргумэнты й канструктыўны дыялог выціскаюцца крыўдлівымі скаргамі й асабістымі нападамі. Дык вось менавіта гэта я бачу апошні год на старонках "Беларуса" ў кожнай справаздачы Ньюёрскага аддзелу БАЗА. У мяне складаецца ўражаньне, што ў Нью Ёрку няма іншага парадку дня, як бясконца скардзіцца на старшыню Галоўнай управы БАЗА»*.

Цэлая старонка гэтага нумару прысьвечаная канфлікту вакол 29-й Сустрэчы. Зь левага боку артыкул пад загалоўкам "Чаму ладзяцца дзьве розныя Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, а не адна супольная?". Аўтар артыкулу не паказаны, але, гледзячы на дакладнасьць і поўны аб'ём тэмы, можна дагадацца, што гэта Янка Запруднік. З правага боку артыкул Сяржука Сокалава-Воюша, нават большы памерам, зь нейкім мудрагелістым загалоўкам. У ім Сяржук разьбірае па кавалках папярэдні артыкул, з ладнай доляй сарказму, бо, відавочна, меў гэты тэкст пад рукой перад тым, як ён быў надрукаваны.

Сяржук Сокалаў-Воюш задае пытаньне, *"Чаму да сп. Зайкі зьвярнуўся Янка Запруднік, а не сябры Галоўнай управы?"* Адказ: *"Таму, што гэта было зроблена й быў атрыманы жорстка адмоўны адказ ад Юркі Азаркі шмат раней (шэсьць месяцаў раней), калі яшчэ месца Сустрэчы не было ўзгоднена, ЗША ці Канада"*. Толькі пасьля той адмовы Галоўная ўправа зьвярнулася да Янкі Запрудніка з просьбаю быць пасярэднікам у справе Сустрэчы, бо не было жаданьня мець дзьве. (Цытаты ўзятыя з артыкулу.) Янка Запруднік меў дзьве размовы зь Віталём Зайкам. У другой размове Віталь Зайка заявіў, што ён гаворыць і ад імя Юркі Азаркі. Пытаньне ад Галоўнай управы было: *"Ці згодны вы гаварыць з Галоўнай управай БАЗА пра Сустрэчу, пакідаючы збоку ўсе іншыя засьцярогі?"* Адказ Віталя Зайкі: *«Мы ставім тры перадумовы: 1. Скліканьне надзвычайнага Кангрэсу БАЗА; 2. Ліквідацыя новапаўсталага "канкурэнтнага" Бруклінскага аддзелу БАЗА; 3. Гарантыя на памешканьне для зборак сяброў Ньюёрскага аддзелу БАЗА. Інакш няма сэнсу зьбірацца на гутарку»*.

Пры такіх перадумовах, якія пярэчаць Статуту БАЗА, пагадненьня знайсьці немагчыма. Так і адбыліся дзьве Сустрэчы — адна афіцыйная (з Галоўнай управай) 29-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры ў Саўт-Рывэры, другая (без Галоўнай управы) — Сустрэча аддзелаў Нью-Ёрку й Нью-Джэрзі ў гатэлі *Hyatt* у Нью-Брансўіку.

(У 2012 годзе 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбылася ў горадзе Таронта ў Канадзе, 31-я — у Нью Ёрку, ЗША, 32-я — у Атаве ў Канадзе, 33-я — ізноў у Нью Ёрку, ЗША. Традыцыя працягваецца.)

У кастрычніцкім нумары "Беларуса" (№ 573. 2010) апісваліся абедзьве імпрэзы: зь левага боку — Нью-Брансўік, з правага —

Саўт-Рывэр. Ёсьць вытрымкі з газэты пра першы дзень у Саўт-Рывэры, які называўся кірмашом і *«ўключаў у сябе песьні й музыку сям'і Валентына й Тацяны Дзямешчыкаў на сьвежым паветры ў паркавай зоне паміж будынкам Цэнтру ды царквою сьв. Эўфрасіньні Полацкай, грыль з жаранінай і закускай, (асобна прысьвечаны) бар, стэнды з кніжкамі, сувэнірамі, інфармацыйнай літаратурай пра Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе, стэнды, прысьвечаныя 100-годзьдзю Ларысы Геніюш і 100-годзьдзю выхаду ў сьвет "Кароткай гісторыі Беларусі" Вацлава Ластоўскага, паказ фільмаў, песьні Данчыка. Адбыўся валейбольны матч саўтрывэрскай і канадзка-ньюёрскай камандаў. (Перамагла саўтрывэрская з лікам 3:0)»*. (Уступ на кірмаш быў бясплатны, таму прыйшло шмат сем'яў зь дзецьмі.)

Другі дзень Сустрэчы быў больш традыцыйны. Пасьля Багаслужбы быў банкет із чытаньнем прывітаньняў, канфэрэнцыя, адчыненая прамоваю старшыні Рады БНР, з мадэратарам Янкам Запруднікам і ўдзелам шэрагу прамоўцаў. Пазьней канцэрт, які вяла Ала Орса-Рамана, з удзелам Ірыны Мозылевай, сям'і Дзямешчыкаў, Вілачкі Леўчук з танцамі дзяцей і народным песьнямі Сьвятланы Літвінавай з Канады. У вячэрняй праграме выступалі Вольга Іпатава й Зіна Гімпелевіч, абедзьве з Канады. На раніцу наступнага дня падсумаваньне вынікаў Сустрэчы, якая і з гаспадарчага боку прайшла выдатна. Арганізатары Сустрэчы — Галоўная ўправа БАЗА і Беларуска-Амэрыканскі Цэнтар — разьлічыліся з усімі выдаткамі ды падзялілі між сабой (пароўну) дзьве тысячы даляраў.

А што адбывалася ў гатэлі *Hyatt* у Нью-Брансўіку? Не было там свайго карэспандэнта, таму інфармацыя абмежаваная, толькі старонка газэты пад рукой. У імпазантнай залі гатэлю — вялікі беларускі сьцяг і лёзунг "Жыве Беларусь!". У калідорах Беларускі музэй Нью-Ёрку разгортвае мастацкую выставу ведамых мастакоў, дэманструюцца лялькі Валянціны Якімовіч ды абразы ў выкананьні Любові Карпавай.

Імпрэза пачынаецца прамовай Юркі Азаркі, чытаюцца прывітаньні ад губэрнатара штату, мясцовага кангрэсмэна ды абодвух сэнатараў штату. Зьяўляецца асабіста кангрэсмэн Франк Палонэ, які часта згадвае, што дзед ягонай жонкі паходзіў зь Беларусі й старое прозьвішча якога — Гаспадар. Далейшай інфармацыі няма, акрамя вестак, што ўсё праходзіла даволі стандартна й фармальна, хоць час ад часу вялікая колькасьць моладзі гучна давала пра сябе знаць.

На старонцы дзьве фатаграфіі, якія амаль пацьвярджаюць агульнае ўражаньне. Зь левага боку — у Нью-Брансўіку, старшыня мясцовага аддзелу БАЗА Юрка Азарка ў касьцюме пад краваткай перад мікрафонам чытае прамову або прывітаньні. З правага боку старонкі — у Саўт-Рывэры, маса людзей пасьля банкету, некаторыя ў народных строях, выйшлі з залі Цэнтру, каб зрабіць памятны здымак.

## Абставіны вакол зьмены рэдкалегіі газэты “Беларус”

На апошняй старонцы артыкулу Віталя Зайкі пададзеная яшчэ адна неадпаведная інфармацыя: *«Напрыканцы 2010 г. Галоўная ўправа перaняла выпуск газэты “Беларус”, атрымаўшы дадатковы сродак уплыву на сяброў арганізацыі»*. Аўтар артыкулу навязвае гэтую падзею на папярэдні абзац, у якім напісана, што *“ў жніўні 2010 г. Валянціна Якімовіч… напісала й стала пашыраць сярод знаёмых крытычны артыкул…”*. Аднак гэта быў 2009 год, значыць год раней, і грамадзтва тую пісаніну асудзіла… і забылася.

А што сапраўды сталася ў 2010 годзе?

29 ліпеня прыйшоў *e-mail* ад адказнага рэдактара газэты Марата Клакоцкага: *“Можа, мая некампетэнтнасьць у справе выданьня газэты стане нагодай, каб знайсьці чалавека, які мае лепшую падрыхтоўку да выкананьня такога адказнага даручэньня. Я з задавальненьнем перадам такому чалавеку ўсе рэдактарскія абавязкі. […] Маю надзею, што вы з усёй адказнасьцю возьмецеся за пошукі новага рэдактара. Марат”*.

З гэтага вельмі ясна відаць, што не Галоўная ўправа была ініцыятарам пераняцьця газэты, а сам рэдактар Клакоцкі хацеў перадаць *“усе рэдактарскія абавязкі”*. А пра некампетэнтнасьць ніколі не было мовы, хоць былі заўвагі, што ён як адказны рэдактар ня здолеў за больш як паўгоду спыніць *“паліваньне брудам”* на ведзенай Віталём Зайкам старонцы *“Весткі й Паведамленьні”*.

Праз некалькі дзён быў высланы наступны адказ:

*Паважаны сп. Клакоцкі!*

*У Вашым да мяне e-mail ад 29 ліпеня Вы прапануеце мне шукаць новага рэдактара, якому Вы будзеце гатовы перадаць усе рэдактарскія абавязкі.*

*Хачу Вас запэўніць, што, пасьля кансультацыі зь сябрамі Галоўнай управы, я да Вашай просьбы адношуся надзвычай сур’ёзна, разумеючы тую важную ролю, якую ў нашай грамадзе адыгрывае газэта “Беларус”. Праца над пошукам ня толькі адказнага рэдактара, але й цэлай працаздольнай рэдкалегіі ўжо нефармальна пачалася.*

*Спадзяюся, што пасьля 29-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі мы знойдзем магчымасьць з Вамі спаткацца, каб абмеркаваць наступныя крокі вакол газэты й зьвязаных зь ёй праектаў.*

*З пашанай Вячка Станкевіч.*

24 верасьня 2010 году адбыліся перамовы Марата Клакоцкага з будучым рэдактарам Ганнай Сурмач, і вынікам была перадача да яе рэдактарскіх абавязкаў пачынаючы із сьнежаньскага нумару газэты. Марат абяцаў, што пастараецца дапамагчы новай рэдакцыі як мага хутчэй асвоіць новыя абавязкі.

Тады ў кастрычніцкім нумары газэты быў зьмешчаны доўгі артыкул Марата Клакоцкага пад загалоўкам “Новая старонка ў гісторыі “Беларуса”, у якім ён падрабязна апісвае ранейшую гісторыю, як і восем з палавінай гадоў свайго рэдактарства.

Першы радок звычайны: *“Пачынаючы ад сьнежня 2010 году газэта “Беларус” будзе выдавацца пад кіраўніцтвам новай рэдакцыі…”*. Але ўжо ў другім радку ў працягу сказу пачынаюць мяняцца факты: *“якую ўзяўся сфармаваць сп. Вячка Станкевіч, зь якім я меў перамовы на гэты конт”*.

Гэта не зусім так. Як было паказана вышэй, я пагадзіўся на зварот ад Марата Клакоцкага шукаць новага рэдактара, што й выканаў. А пазьней ужо Ганна Сурмач самастойна сфармавала склад рэдкалегіі ды вяла асноўныя перамовы з Маратам.

Здаецца, драбніца, на якую ня трэба зьвяртаць увагі, але тады пасыпаліся ня толькі старыя абвінавачаньні: *“пачынаюць выключаць з арганізацыяў і ўстановаў, над якімі займеў кантроль сп. Станкевіч”*, але й зусім новыя: *«Рэдактара “Беларуса”, быццам бы, павінен назначаць Кангрэс БАЗА»*.

Хто мог гаварыць або пісаць такое? Няўжо ізноў вінавацяць Станкевіча? Калі так, то гэта чарговая няпраўда. Аднак што сапраўды зьдзіўляе, гэта тое, што Марат Клакоцкі ў сваім разьвітальным лісьце не згадвае старонку “Весткі й Паведамленьні”, на якой адказны за яе Віталь Зайка на працягу 2010 году праводзіў кампанію супраць Станкевіча й бясконца дамагаўся скліканьня надзвычайнага Кангрэсу БАЗА.

Але трэба быць удзячнымі, што на працягу ўжо некалькіх гадоў новая рэдакцыя “Беларуса” такой *“інфармацыі”* не зьмяшчае і што “Весткі й Паведамленьні” пры адноўленай рэдакцыі Марата Клакоцкага вярнуліся да прыстойнага зьместу.

## Падсумаваньне

1. На паседжаньнях Галоўнай управы БАЗА пастановы прымаюцца большасьцю галасоў, таму ў артыкуле Віталя Зайкі шмат дзе трэба было б казаць *“Галоўная ўправа пастанавіла…”*, а не бясконца згадваць прозьвішча старшыні.

2. Нью-Ёрскі аддзел БАЗА пад кіраўніцтвам Віталя Зайкі пэрыядычна карыстаўся памяшканьнем Фундацыі П. Крэчэўскага, пачаў без дазволу ўжываць адрас Фундацыі й не лічыў патрэбным дамовіцца наконт умоваў карыстаньня. Калі ў 2010 годзе сп. Зайка прадставіў амаль ультыматум — карыстаньне памяшканьнем скончылася.

3. Каб паказаць, што Кангрэс БАЗА ў 2009 годзе прайшоў без істотных парушэньняў, у гэтым артыкуле падрабязна паказаныя асноўныя яго падзеі й вынікі галасаваньня. Такім чынам, зварот склікаць надзвычайны Кангрэс ня меў дастатковых пад сабою падставаў.

4. У газэце “Беларус” на старонцы “Весткі й Паведамленьні”, якой кіраваў Віталь Зайка, праводзілася шматмесячная кампанія супраць Галоўнай управы БАЗА й асабіста супраць яе старшыні. І ўсё гэта было зьвязана з патрабаваньнем правесьці надзвычайны Кангрэс БАЗА, найперш каб скасаваць абмежаваньне тэрмінаў старшынства аддзелаў і Галоўнай управы. Галоўны рэдактар газэты ня здолеў спыніць кампанію, пакуль яна не спынілася сама па сабе.

5. Чаму было патрэбнае згаданае абмежаваньне тэрмінаў кіраваньня? Маем некалькі прыкладаў: св. п. Антон Шукелойць займаў пасаду старшыні Галоўнай управы 32 гады, з якіх 14 апошніх гадоў без скліканьня Кангрэсаў БАЗА. Юрка Азарка кіруе аддзелам БАЗА ў Нью-Джэрсі каля 20 гадоў. Віталь Зайка быў старшынёй Нью-Ёрскага аддзелу да 2011 году на працягу 13 гадоў і цяпер працягвае кіраваць іншай арганізацыяй ужо болей за 7 гадоў. Паўстае пытаньне — чаму не рыхтуюцца новыя кіраўнікі? У Галоўнай управе пасьля чатырох гадоў кіраваньня Вячкі Станкевіча й шасьці гадоў Ганны Сурмач у 2017 годзе была абраная на старшыню Натальля Федарэнка.

# ДА 110-ГОДЗЬДЗЯ АНТОНА АДАМОВІЧА

*У чэрвені 1909 г. нарадзіўся наш выбітны гісторык літаратуры й бацькаўшчыны, пісьменьнік, адна з найбуйнейшых постацяў эміграцыі, сябра БІНіМу — Антон Адамовіч.*

*Ушаноўваючы ягоную памяць, “Запісы БІНіМ” перадрукоўваюць артыкул гэтага дзеяча з думкамі пра будучы зборнік, прысьвечаны яму.*

***Антон Адамовіч***

## Якуб Колас (3.XI.1882—13.VIII.1956)[1]

*На першыя ўгодкі па Коласу ў газэце “Бацькаўшчына” за 11.VIII.1957 г. зьявіліся пад гэткім загалоўкам, падпісаныя празрыстым у нашых абставінах крыптанімам — ініцыяламі А. А. — нататкі пра паэту, якія, на прапанову спадкаемца “Бацькаўшчыны” “Беларуса”, падаюцца тутака, крыху ачышчаныя ад некаторых дэталяў, часта проста стылістычнага парадку, ня гэтак істотных для агульнага абраза, які мог-бы ў сяньняшняга чытача адно зацямняцца імі.*

Колас і Купала — два ймя (ці, для пэдантаў, — два псэўданімы), што выдатна вяжуцца з трэйцім імём: Беларусь (таксама-ж — псэўданім, хоць ужо й не для пэдантаў, а якраз наадварот).

Вяжуцца ў уяве вонкавага сьвету аб нас, вяжуцца і ў самапачуцьці нашага нутранога сьвету беларускага.

Пра Коласа й Купалу ці мала напісана ўжо. Дый напішацца шмат яшчэ, пэўне-ж. Адчыняцца будуць новыя мамэнты й бакі, новыя падыходы і асэнсаваньні, пераадчыняцца старыя, менш малазнаныя, забываныя, забытыя.

Паўтараць адчыненае й знанае ня хочацца: знаюць усе, хто не — пазнаць зусім лёгка, адно захацеўшы.

Калі дазволіцца, дык — не адчыніць, а хоць прыадчыніць — тое-гэта, там-сям хацелася-б тут.

У Коласавым жыцьцяпісе — хто не знае яго? — а ад яго-ж, ад жыцьцяпісу, заўсёды пачатак — цікава, хоць і крышку няцікава: тытулы, годнасьці, афіцыйныя і неафіцыйныя.

---

[1] Друкуецца паводле: Беларус. № 305. Кастрычнік 1982.

Афіцыйных меў два — і абодвы “народныя”: народны настаўнік і народны паэта. І тыя-ж два — неафіцыйныя, адно ў адваротным парадку наступнасьці.

Афіцыйна “народны настаўнік” (але-ж, тытул, годнасьць — бо “званіе”, хоць якраз у нашым, беларускім сэнсе — бо толькі адно “званьне” што) — дараваны яшчэ за царом — год 1902 — Канстантыну Міцкевічу, які неўзабаве Якубам Коласам (псэўда, але-ж) — не на псэўда, назапраўды — зарабляць пачаў — і ўжо зарабіўшы быў — неафіцыйна — народнага паэту.

“Народны паэта” — як-бы ў сьцьверджаньне, ушанаваньне запраўднасьці гэтай — афіцыйна дараваны савецкім урадам — год 1926 — ужо Коласу — псэўда, але-ж, дый сам тытул такі ў псэўда абарачаць пачалі — неафіцыйна — каб вярнуць запраўды наўсьпяты да першага да таго — да таго — да “народнага настаўніка” — “азбукі камунізма”...

Абярнулі — вярнулі? Адныя сьветчаць — а як-жа! Другія пярэчаць — а не-ж, ані Божа мой! трэйція прымірэнчаць — і гэ, і не...

Найпракудней, што ўсе — і першыя, і другія, і трэйція — праўду тут маюць — пасвойму, пэўна-ж.

Гэта мо крышку й няцікава...

А часта-ж цікавае на няцікавае выходзіць дый цікавым ізноў — глянь — абернецца.

Кажны мае свае затоеныя жаданьні — кажны паэта таксама. І прагаворыцца-праязычыцца часам. Паэта асабліва — на тое й паэта ён, каб праязычвацца (тэрмін вульгарны, не да выбачэньня, дый выбачаць ня трэба; навукова кажуць: самавыражэньне).

У Коласа найпершае дый найшчырэйшае бадай затоенае жаданьне добра падгледзіў Адам Бабарэка. У першым-жа друкаваным вершы — “Наш родны край”:

*А як песьня панясецца —*
*Колькі ў песьні той нуды!*
*Уцякаў-бы, бег, здаецца,*
*Сам ня ведаеш, куды...*

І веданьне знайшлося — прыйшло з “Нашай Доляй”, у якой выдрукаваўся той першы верш, зь беларускім рухам, рухам адраджэнскім, які й тую “Нашую Долю” надрукаваў: уцякаць, уцячы — ад беспрасьветнай бяды й нуды *“нашага роднага краю”*, ад вечнай беспатольнай песьні гэтай бяды й нуды — ёсьць куды: у вызвольны рух, рух адраджэнскі, у “Нашую Долю” — праз нашую долю — да нашае волі, ад песьні бяды ды нуды — празь *“песьні жальбы”* — да песьні свабоды.

На гэтым першым шляху ўцёкаў і станаўленьне народнага паэты.

І паэтызацыя гэтага шляху — як той-жа Бабарэка раскрыў — “Сымон Музыка” ў ўцёках сваіх — з “куста жыцьця” ў новы “куст”.

(Няўхільная супастава — ці супрацьстава — да “напарніка” — Купалы: найпершае, найшчырэйшае затоенае жаданьне ў таго — дасюль не падгледзіў ніхто — а інося зусім:

*...Эх, і мсьціў-бы, мсьціў усім!*

Іноcя зусім, аднак — тое-ж “бы” і тут на старожы. Адно — “чаму?” — па-купалаўску маўчыцца. І, пэўна-ж, тут ужо ня толькі, “каб ведаў”, а й “каб мог” — наперадзе больш.

Веданьне тое-ж і так-жа, адтуль-жа прыйшло, тымі-ж шляхамі наперад пайшло.

А змога? Па ёй і была цэлы час туга...)

Найвышэйшы пункт на шляху народнага паэты — бязумоўна, “Беларускаму люду”.

Некаторыя дэталі гісторыі першага апублікаваньня, шырэй нязнаныя, а падаваныя тут зь першакрыніцы й ведама сучасьніка.

Адным зь першых выданьняў яго — Коласава “Водгульле”, другі ўсяго зборнік паэтавых вершаў (па “Песьнях жальбы”, 1910 г.).

Апошнім вершам, заключным “до” — якраз “Беларускаму люду”.

Цэнзуры афіцыйнай ужо-яшчэ няма. Але аўтацэнзура — найпапераднейшая цэнзура пісьменьнікаў і выдаўцоў над самымі сабою — у савецкіх абставінах ад зусім незапомных часоў.

Першы цэнзуральны ціск на паэту — ад прыватных “каапэрацыйных” выдаўцоў... Прынамся адна страфа вершу — напэўна небясьпечная: у ёй “таварышом” прапануецца *“самым лепш падбаць сабе хлеба”*...

Пад ціскам гэтым выпад супраць “таварышоў” пераадрасуецца на “ксяндзоў” — на гэтых можна, нат і ўхвальна.

Апошні лісток аддрукаванае ўжо кніжкі вырэзваецца, уклейваецца новы лісток папраўленага ўжо тэксту (хто бачыў калі гэтую кніжку, можа прыпомніць гэты прыклееены апошні лісток, хто пабача — возьмеце ўвагу).

Аўтасцэнзураваная страфа адноўленая ў нас. У сцэнзураваным тэксьце два апошнія радкі гучэлі гэтак:

*Самі падбайце лепей пра неба,*
*Скажам мы так да ксяндзоў...*

Але-ж і па гэтым засталося што! І *“межы, што правадзілі бяз нас”*, і *“чужаніцы, цёмных дарог махляры”*, і сам *“ціск Маскалёў”*! Пасьлей устаноўленая цэнзура мела клопату касаваць то тое, то гэта пры перадруках у іншых выданьнях аж пакуль, як і іншыя падобныя “крамолы”, не “із’яла” цэлага тэксту.

Гэтак прасьлізнулася праз рэдкую цэдзілку свае аўтацэнзуры — у афіцыйным міжцэнзур’і — наймагутнейшая песьня вызваленьня — песьня свабоды — народнага паэты, так далёкага яшчэ тады ад самой хоць-бы магчымасьці афіцыйнага прызнаньня ў гэтай годнасьці.

(Ізноў невялічкая супастава з Купалам: у наступным выданьні таго-ж “Адраджэньня” — часапісе такога-ж назову — паўсталы ў міжчасе — 6-га чырвеня 1922 г. — орган паліцыйнае цэнзуры “Глаўліт” выразаў Купалаў верш “Перад будучыняй”. А безпасярэдняе, масавае дзеяньне яго было-ж куды меншае за Коласавага “Беларускаму Люду”: нат самы *“кліч бураломны — вызваленьне з пут!”* пададзены ў вабалонцы рытарычнага пытаньня, а ня клічнага імпэратыву, як Коласава *“люд, вызваляйся!!!”*.)

Адзін з матываў “Беларускаму люду” — матыў пратэсту на Рыскі падзел Беларусі — паўтораны і ў вадным зь лірычных адыходаў тым-жа часам дапісванае “Новае Зямлі” (разьдзел XVI — “Вечарамі”, 1922 г.).

І пры гэтым, як-бы й “пабочны прадукт” на вока, выйшла наўзьверх яшчэ адно, найглыбейшае мо, затоенае жаданьне паэты — народнага паэты — народнае жаданьне запраўды, ня толькі што паданае, як такое:

*...ўсім сэрцам і душою*
*Застацца... сам сабою.*

Гэта — не адмена таго найпершага затоенага “ўцячы” — *“уцякаўбы”*, гэта — выдабыцьцё наўзьверх ягонае-ж глыбейшае падасновы, мэтавага ўгрунтаваньня, калі гэтак сказаць, ягонага выпраўдальнага сэнсу: “уцячы”, каб “застацца сабою”.

Гэтак выявіўся канчальна камплекс найглыбейшых й найшчырэйшых жаданьняў паэтавых.

Толькі калі ў 1925 г. Колас, арыштаваны ў сувязі зь ведамаю “лістападаўшчынай”, трапіў у славуты падвал менскага ГПУ — удалося там неяк заламаць (паводля спэцыфічнай тэрміналёгіі “раскалоць”) “контррэвалюцыйнага” датуль беларускага народнага паэту. Неўзабаве па тым і той “народны” тытул афіцыйна быў дараваны.

У падвале, напэўна, выплыла — не магло ня выплыць — ізноў тое затоенае “ўцякаў-бы”. А тое, што за ім — *“сам ня ведаеш куды”* — паўстала яшчэ безадказьней, яшчэ бязвыходней.

Запраўды, куды? Нат у нічога — у вялікае нічога — у сьмерць самагубствам — у падвале падацца бадай немагчыма — пілнуюць, асабліва гэтакага важнага мусілі пілнаваць. У маленькае нічога — у ссылку якую, турму — дык вялікаму й цяжка ў малое (дый таксама-ж не далі-б). Дык куды?

Заставалася толькі адно-адзінае куды, на якое-ж і паказвалі пальцам, піхалі ўвесь час: у зраду. Дый ці-ж такая ўжо гэта зрада будзе? Зрада-ж толькі маларэальнага тымчасам (“беларускі люд”-жа, як у Пушкіна той народ — *“безмолствует”* на ўсякія клічы, жменька лістападаўцаў — ці-ж ня чысты сьмех?) дзеля магчымага рэальнага і ўжо рэалізаванага ў “беларусізацыі” на вачох. *“Так в чём дело, товарищ поэт — товарищ народный поэт?”*.

Гэтак і сталася — зрада, большая ці меншая, напачатку здавацца магло — проста як-бы й ніякая (часта яшчэ й цяпер шмат каму так здаецца й верыцца), ды, як ні круці, а зрада.

Уцёкі, але назад, наўспяты…

Адчулася й паражылося гэта толькі пасьлей, і помнік таму — зусім мала знанае апавяданьне “Балаховец”.

“Балаховец” зьявіўся ў “Полымі” ў 1929 году — у самы гарт *“змаганьня зь беларускім контр-рэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам”*.

Уся рэч — алегарычная і аўтабіяграфічная. “Балаховец” — старая бальшавіцкая мянушка для беларускіх нацыянальных актывістых, як “пятлюэравец” — для ўкраінцаў. І тут “Балаховец” выразна — “беларускі нацдэм”, але зраднік сваіх, што нарэшце адчуў у войстрым мамэньце, што жыве ўжо “лішні час” і дайшоў да апошняе пастановы — час гэты сваёй воляй самому сябе абарваць.

“Балаховец”, пэўна-ж, сам аўтар. Ня часта, але ўсё-ж даводзілася яму клікаць сваю сьмерць, хоць і — запаветным тропам — ад яе-ж уцякаць. У першым, расейскім яшчэ варыянце “У палескай глушы”, ён як настаўнік Сошкін нат пусьціў сабе кулю.Ператварыўшыся ў Лабановіча, перад самаю тэю куляю ўжо затрымаўся — уцёк (знайшлося, куды).

“Балаховец” — скончыў самагубствам. Разам зь ім — у ім — скончыў і народны паэта, той, неафіцыйна тытулаваны.

Афіцыйны застаўся, застаўся, як Колас. Дажыў аж да 1956 году.

(Апошні раз — каротка — да Купалы: той клікаў сьмерць куды часьцей: матыў самагубства даецца прасачыць праз усю паэзію. І адрэагоўваў ня толькі літаратурна: “харакірамі” няўдала, неўзабаве па тымжа Коласавым “Балахоўцу”, у тых-жа, адно больш згусьцелых яшчэ, абставінах, ды ўдала — апошнім актам жыцьця — са сходаў “Масквы”.

Хоць часткава, а ткі гэтым *“мсьціў, мсьціў усім”*, затоенае спаўняючы.

Памсьціліся і яму — ад пахавальнага транспаранту пачынаючы “Мне сьняцца сны аб Беларусі”…)

Пакуль фізычна жыў Колас, жыў у ім і затоены той камплекс — “уцячы” й “застацца самым сабою”.

“Уцякаў” у старое, у песьню свабоды, застаўшыся сам сабою на гэнай глыбіні.

Яшчэ перад рэвалюцыяй так часты ў Коласа вобраз буры, навальніцы як алегорыя жаданага вызвольнага выбуху.

Але чаму той-жа вобраз не-не, а ўзнырне — штагоду найменш — і аж да апошніх часоў у Коласа? А вось Коласаў верш паваенны — “З майго летапісу” — прачытайце канечна — тут-жа ў гэтым нумары газэты.

Ці-ж не застаўся, заставаўся самым сабою ў гэтым Колас, уцякаючы — ужо жывы труп, сьцень калішняга “Балахоўца” — у тую-ж песьню свабоды — песьняю спадзяваньня, чаканьня вызвольнае навальніцы.

…А народны паэт Якуб Колас ня ў 1956 г. памёр, а прынамся ў 1929 памёр, як ягоны “балаховец”.

*In memoriam*

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# ЮРЫ ТУРОНАК (26.04.1929—02.01.2019)

2 студзеня 2019 г. у Варшаве на 89-м годзе жыцьця памёр выбітны беларускі гісторык Юры Туронак. Імя гэтага выдатнага дасьледніка ведамае ня толькі ў Беларусі, але й далёка за ейнымі межамі.


Юры Туронак

Нягледзячы на тое, што ягонае сьведамае жыцьцё прайшло па-за Беларусьсю, ён захаваў адданасьць беларускасьці. Юры Туронак быў сынам Бранiслава Туронка, студэнта Ўнівэрсытэту Стэфана Баторыя ў Вільні, дзеяча Беларускага студэнцкага саюзу, удзельніка беларускага хрысьціянска-дэмакратычнага руху (г. зв. Хадэцыі) у міжваеннай Польшчы.

Юнацтва будучага гісторыка прыпала на час вялікіх выпрабаваньняў, якімі былі гады Другой сусьветнай вайны. Сям'я Туронкаў жыла на беларуска-літоўскім памежжы — у Дукштах (цяпер *Dūkštas, Ignalinos rajonas*, Літва). Пад нямецкай акупацыяй малады Туронак вучыўся ў гімназіі ў Вільні. Потым была адаптацыя ў новай паваеннай рэчаіснасьці, якая адбылася ўжо ва ўмовах камуністычнай Польшчы.

Пасьля заканчэньня Гандлёвай акадэміі ў Шчэціне Юры Туронак пераехаў у Варшаву, дзе атрымаў працу ў імпартна-экспартнай фірме хімічных вырабаў і адначасова выкладаў у Галоўнай школе плянаваньня й статыстыкі. З 1956 г. ажно да выхаду на пэнсію працаваў у Польскай знешнегандлёвай палаце. Не застаўся ўбаку й ад тагачаснага культурнага жыцьця польскіх беларусаў. Прозьвішча Юрыя Туронка было ведамае перш за ўсё ў сувязі зь ягонай дзейнасьцю ў Беларускім грамадзка-культурным таварыстве. Працяглы час ён быў кіраўніком Варшаўскага аддзелу гэтай арганізацыі. Дзякуючы ягоным намаганьням пры аддзеле ў Варшаве быў створаны навуковы гурток. Больш за тое, варшаўскі аддзел таварыства спрычыніўся да стварэньня катэдры беларускай філялёгіі ў Варшаўскім унівэрсытэце.

Першапачаткова лёс Юрыя Туронка ня быў зьвязаны з гістарычнай навукай. Аднак ужо на пачатку 1960-х гг. пачалі выходзіць ягоныя

першыя дасьледаваньні. Як згадваў сам аўтар, ягоны экскурс у гісторыю быў вынікам асабістага выбару, разуменьня грамадзкай карысьці ад занятку навукай. Спадар Юры займаўся навукай без маральнай і матэрыяльнай падтрымкі ў вольны ад працы час. Можна меркаваць, што цікавасьць менавіта да гісторыі беларускага нацыянальнага руху была абумоўленая радаводам і асабістым жыцьцёвым досьведам.

Першыя ягоныя навуковыя працы тычыліся гісторыі беларускай меншасьці ў паваеннай Польшчы. Аднак у беларускую й польскую гістарыяграфію ён увайшоў перадусім як аўтар грунтоўных працаў па гісторыі нямецкай акупацыі, калябарацыі, беларуска-польскіх узаемадачыненьняў у гады Другой сусьветнай вайны. Штуршком да вывучэньня менавіта гэтага пэрыяду стала цікавасьць да постаці Вацлава Іваноўскага, аднаго з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху пачатку XX ст. Праз прызму дзейнасьці гэтага чалавека ў Менску ў 1941—1943 гг. Юры Туронак пачаў вывучэньне праблематыкі, зьвязанай з нямецкай акупацыяй Беларусі. Вынікам стала абарона ў 1986 г. доктарскай дысэртацыі. Сапраўдны розгалас у навуковым асяродзьдзі выклікалі працы “Беларусь пад нямецкай акупацыяй” (Уроцлаў, 1989) і “Вацлаў Іваноўскі і адраджэньне Беларусі” (Варшава, 1992). Публікацыі Юрыя Туронка правакавалі ў Польшчы яшчэ большую цікавасьць да беларускай праблематыкі. Пры дапамозе гэтых працаў многія дасьледнікі здолелі адкрыць для сябе новыя, несавецкія старонкі беларускай гісторыі.

На пачатку 1990-х гг. імя Юрыя Туронка стала ведамае таксама беларускім навукоўцам і аматарам гісторыі. Яно хутка й трывала ўвайшло ў канон беларускай гістарыяграфіі. Дзякуючы працам гэтага аўтара многія чытачы ўпершыню пазнаёміліся з гісторыяй беларускага нацыянальнага руху першай паловы XX ст. і ў выніку інакш пачалі ставіцца да мінулага. Беларускамоўнае выданьне кнігі “Беларусь пад нямецкай акупацыяй” убачыла сьвет у адпаведны час, калі на пачатку 1990-х гг. у Беларусі назіраўся ўздым нацыянальнага адраджэньня. Дасьледаваньні Юрыя Туронка выглядалі тады настолькі піянэрскімі й грунтоўнымі, што іх нельга было не заўважыць. У пэўным сэнсе яны разбуралі непахісны дасюль мур савецкай міталёгіі й цэнзуры. Беларускі гісторык Сяргей Новікаў слушна адзначыў, што кніга “Беларусь пад нямецкай акупацыяй” (Менск, 1993) была настолькі наватарскай працай, што беларускае навуковае асяродзьдзе проста не было гатовае да сур’ёзнай навуковай дыскусіі зь ейным аўтарам. Нават тыя, хто не пагаджаўся з Туронкам, не былі ў стане на належным узроўні аспрэчыць ягоныя высновы. Патрэбны быў час, каб беларуская гістарыяграфія асэнсавала зьмест і сутнасьць гэтай піянэрскай працы.

Варта адзначыць, што на працягу ўсёй навуковай дзейнасьці Юры Туронак не пакідаў ваеннай і акупацыйнай праблематыкі. Дзякуючы

гэтаму беларуская гістарыяграфія атрымала шэраг новых каштоўных працаў: “Беларуская кніга пад нямецкім кантролем. 1939—1944 гады” (Менск, 2002), “Людзі СБМ” (Менск, 2006) і шмат іншых. Амаль адразу кнігі Туронка станавіліся сапраўднымі гістарычнымі бэстсэлерамі, аб чым сьведчыць факт, што яны імгненна зьнікалі з кнігарняў. Належыць таксама падкрэсьліць, што працы дасьледніка дапамаглі многім маладым навукоўцам пераадолець савецкія стэрэатыпы й міты. Адважна й пераканаўча аўтар зьнішчаў ранейшыя штучныя схемы гісторыі, пры гэтым не абыходзячы маўчаньнем вострых і супярэчлівых момантаў мінуўшчыны. Гісторык ставіў за мэту раскрыць сапраўдныя акалічнасьці тых або іншых падзеяў, якімі яны ні былі б. Пры гэтым, разбураючы старыя міты, ён не імкнуўся да стварэньня новых. Такім чынам, дасьледнік можа быць прыкладам прафэсіяналізму й сумленнасьці, якія, на жаль, уласьцівыя далёка ня ўсім тым, хто займаецца вывучэньнем гісторыі.

Беручы пад увагу значэньне навуковага даробку Юрыя Туронка, яго бясспрэчна можна залічыць да клясыкаў сучаснай беларускай гістарычнай навукі. Ён адкрыў цэлы пласт цікавых і сур’ёзных праблемаў гісторыі Беларусі й яе суседзяў. Унёсак дасьледніка ў разьвіцьцё гістрычнай беларусістыкі неацэнны, а ягоныя працы сталі сапраўднымі энцыкляпэдыямі. З упэўненасьцю можна сьцьвярджаць, што аніводнаму сталаму навукоўцу, які займаецца гісторыяй беларускага нацыянальнага руху, польска-беларускіх узаемаадносінаў або нямецкай акупацыі Беларусі, нельга будзе абмінуць дасьледаваньняў спадара Юрыя. Ягоныя працы, нават тыя, што выйшлі даўно, дасюль ня страцілі сваёй актуальнасьці й працягваюць выконваць ролю своеасаблівых арыентыраў для тых, хто дасьледуе складаную гісторыю Беларусі XX ст. Цэлае пакаленьне маладых беларускіх гісторыкаў выхавалася на працах Туронка, якому абавязана выбарам уласнага дасьледніцкага шляху. У сувязі з гэтым ня будзе перабольшаньнем адзначыць, што Юры Туронак стварыў уласную гістарычную школу.

Акрамя прафэсійных якасьцяў належыць таксама зьвярнуць увагу на добразычлівасьць і чалавечую дабрыню Юрыя Туронка. Аўтар гэтых радкоў ня ведае выпадку, калі б дасьледнік адмовіў у дапамозе іншым гісторыкам. Размовы ў ягонай утульнай варшаўскай кватэры заўсёды былі сапраўдным творчым сьвятам і інтэлектуальнай асалодай. Гаспадар захапляў сваіх суразмоўцаў адкрытасьцю й шчырым жаданьнем дапамагчы ў творчых пошуках. Ён ніколі не шкадаваў парадаў і ахвотна дзяліўся ўласным досьведам, а досьвед меў велізарны.

Жыцьцёвы шлях Юрыя Туронка заслугоўвае найвялікшай пашаны й ёсьць прыкладам для іншых як у прафэсійным, гэтак і ў агульналюдзкім сэнсе. Сёлета беларуская гістарычная навука страціла выдатнага дасьледніка й клясыка, заслугі якога цяжка пераацаніць, а грамадзкасьць — сумленнага добразычлівага чалавека й адданага патрыёта. Сьветлая памяць!

## *In memoriam*

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# ЮРЫ ВЕСЯЛКОЎСКІ (02.01.1924—09.08.2017)

Сёлета ў жніўні мінула другая гадавіна сьмерці Юрыя Весялкоўскага. Шматгадовы беларускі дзеяч у Вялікабрытаніі памёр на 94-м годзе жыцьця ў Лёндане ў 2017 г. Як большасьць эмігрантаў паваеннай хвалі, ён меў вельмі складаны й цікавы жыцьцёвы шлях. Нарадзіўся 2 студзеня 1924 г. у мястэчку Новы Сьвержань на Стаўпеччыне ў сям'і Мікалая й Сафіі Весялкоўскіх. Бацька будучага дзеяча працаваў вэтэрынарам, а маці апекавалася чатырма дзецьмі.

Дзяцінства й юнацтва мінулі ў атмасфэры заходнебеларускага мястэчка ў складзе міжваеннай польскай дзяржавы. Пачатковую асьвету малады Юрка атрымаў у мясцовай польскай школе. Аднак працягваць адукацыю давялося ўжо ў сярэдняй школе *"за першых саветаў"* (1939—1941 гг.). Тым часам сталеньне й паступовае ўваходжаньне ў дарослае жыцьцё адбывалася ва ўмовах нямецкай акупацыі. Як многія ягоныя аднагодкі са Стаўпеччыны, ён пайшоў навучацца ў настаўніцкую сэмінарыю ў Нясьвіжы. Менавіта ў мурах гэтай установы распачаліся кантакты юнака зь беларускім нацыянальным рухам. Пасьля стварэньня ўлетку 1943 г. Саюзу беларускай моладзі (СБМ) ён разам зь іншымі выхаванцамі сэмінарыі ўступіў у шэрагі гэтае арганізацыі. Навучаньне ў настаўніцкай сэмінарыі і ўдзел у СБМ канчаткова сфармавалі нацыянальныя погляды юнака й паўплывалі на ягоны далейшы лёс.

У 1944 г. Юры Весялкоўскі быў залічаны ў камандзерскую школу Беларускай краёвай абароны (БКА), якая знаходзілася ў Менску. Юнак браў удзел у ахове Другога Ўсебеларускага кангрэсу. У чэрвені 1944 г. курсанты школы былі эвакуяваныя на Захад. Празь Літву і Ўсходнюю Прусію беларускія кадэты апынуліся ў Польшчы, дзе былі ўключаныя ў склад 30-й грэнадзёрскай дывізіі СС (1-й расейскай). Неўзабаве гэтае фармаваньне было накіраванае на фронт у Францыю. Аднак маладыя беларусы не зьбіраліся змагацца ў чужым мундуры й за чужую справу. Напрыканцы жніўня 1944 г. Весялкоўскі разам зь іншымі колішнімі кадэтамі БКА перайшоў на бок альянтаў. Пасьля непрацяглага знаходжаньня ў лягеры ваеннапалонных ён як польскі грамадзянін атрымаў магчымасьць уступіць у Польскія ўзброеныя сілы на Захадзе (ПУСЗ).

27 сьнежня 1944 г. Весялкоўскі трапіў у Італію, дзе кватараваўся 2-і Польскі корпус пад камандаваньнем генэрала Ўладзіслава Андэрса.



Юры Весялкоўскі

У красавіку 1945 г. юнак быў залічаны ў склад 17-га батальёну 6-й Львоўскай брыгады 5-й Крэсавай дывізіі пяхоты (5КДП). Пасьля заканчэньня баявых дзеяньняў у Эўропе сярод польскіх вайскоўцаў беларускага паходжаньня можна было заўважыць праявы нацыянальна-культурнай дзейнасьці. У гэты час Юры Весялкоўскі навучаўся ў дывізійнай гімназіі ў Модэне, сярод выкладчыкаў якой быў Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Дзякуючы падтрымцы апошняга былыя кадэты БКА распачалі арганізацыйную працу сярод родзічаў, якія служылі ў польскіх аддзелах у Італіі. Весялкоўскі ўваходзіў у нефармальны зямляцкі гурток беларусаў — жаўнераў 5КДП.

У 1946 г. польскія вайсковыя адзінкі ў Італіі былі пераведзеныя на Брытанскія выспы, дзе распачаўся павольны працэс іх расфармаваньня. Такім чынам, у жніўні 1946 г. Весялкоўскі прыбыў у Вялікабрытанію. Прыезд у Ангельшчыну спрычыніўся да актывізацыі грамадзкай і культурнай працы сярод беларусаў. Менавіта на брытанскай зямлі беларуская дзейнасьць сярод польскіх жаўнераў набыла арганізаваны характар. Спадар Юры не застаўся ўбаку ад гэтых падзеяў. Наадварот, ён узяў чынны ўдзел у беларускай нацыянальнай працы ў Вялікабрытаніі, апынуўся ў ліку тых эмігрантаў, якія закладалі падмурак беларускай дзейнасьці ў гэтай краіне. Весялкоўскі быў адным зь першых, хто ўступіў у Згуртаваньне беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ) — першую беларускую арганізацыю на выспах. Сябрам ЗБВБ ён стаў 1 кастрычніка 1946 г., а ўжо 18—19 студзеня 1947 г. удзельнічаў у 1-м зьезьдзе арганізацыі ў Лёндане. Заснавальнікамі згуртаваньня былі менавіта колішнія й чынныя вайскоўцы ПУСЗ. Юры Весялкоўскі адыграў сваю ролю ў павелічэньні шэрагаў ЗБВБ. Як супрацоўнік канцылярыі дэмабілізацыйнай камісіі, ён зьбіраў зьвесткі пра суайчыньнікаў, якія звальняліся з войска, каб потым распаўсюджваць сярод іх беларускую прэсу.

Пасьля дэмабілізацыі (5 лістапада 1948 г.) спадар Юры абраў у якасьці сталага месца жыхарства Лёндан. Распачалася паступовая адаптацыя да рэчаіснасьці на чужыне. У той жа час Весялкоўскі працягнуў удзельнічаць у беларускім жыцьці. Пасьля падзелу беларускай эміграцыі на прыхільнікаў Міколы Абрамчыка й Радаслава Астроўскага ён апынуўся на баку апошніх. У 1948 г. стаў ля вытокаў новай арганізацыі Хрысьціянскага аб'еднаньня беларускіх работнікаў (ХАБР), вакол якой гуртаваліся эмігранты прабэцээраўскай плыні. Працяглы час выконваў функцыі сакратара Галоўнай управы ХАБР, стварыў пры арганізацыі мужчынскі хор, а таксама ў пэрыяд ад 1954 да 1962 г. разам Аляксандрам Малахам і Паўлам Бударкевічам рэдагаваў часопіс "Аб'еднаньне". Як сакратар ХАБР дапамагаў некаторым суайчыньнікам-

дыпісам у выезьдзе за акіян. Ад 1952 г. Весялкоўскі належаў да Беларускага вызвольнага руху (БВР), дзе займаў пасаду рэфэрэнта штабу Лёнданскага аддзелу. У 1962 г. ён апынуўся ў стане канфлікту з Прэзыдэнтам БЦР Радаславам Астроўскім і ягоным сынам Віктарам. Спрэчка выклікала закалот у шэрагах ХАБР і скончылася тым, што Весялкоўскі быў вымушаны пакінуць арганізацыю. З гэтага часу ён абраў уласны шлях у беларускім жыцьці, не далучыўшыся ані да "крывічоў", ані да "зарубежнікаў".

У паваенны час Юры Весялкоўскі быў ведамы ня толькі як грамадзка-палітычны дзеяч, але й як рэлігійны актывіст, гісторык і публіцыст. Як многія эмігранты паваеннае хвалі, ён адрозьніваўся набожнасьцю й прыхільнасьцю да хрысьціянскіх каштоўнасьцяў. Належаў да Праваслаўнай царквы, быў ейным адданым пасьлядоўным вернікам і абаронцам. Ён добра ўсьведамляў патрэбу ўласнай царквы ва ўмацаваньні й захаваньні беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці на чужыне. Удзельнічаў у жыцьці беларускай парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, якая была заснаваная ў 1969 г. у Лёндане. Беларуская грамада існавала ў юрысдыкцыі Ўсяленскага патрыярхату. Спадар Юры браў удзел у жыцьці парафіі на працягу амаль усяго часу ейнага існаваньня. У 1974 г. ён уваходзіў у склад царкоўнага камітэту парафіі. У чэрвені таго ж году ўзяў удзел у нарадзе лёнданскай і манчэстарскай беларускіх парафіяў, мэтай якой было стварэньне Беларускай праваслаўнай кананічнай рады на Вялікабрытанію.

У 1974—1976 гг. дзеяч рэдагаваў беларускі праваслаўны царкоўна-рэлігійны часопіс "Званіца", аднак, не знайшоўшы агульнай мовы з прыхільнікамі Астроўскага, быў вымушаны адысьці ад рэдакцыйнай працы. У хуткім часе пасьля гэтага выданьне спыніла сваё існаваньне. У 1989 г. Весялкоўскі зноўку ўзяўся за рэдагаваньне парафіяльнага пэрыёдыка. Гэтым разам па ягонай прапанове новае выданьне атрымала назву "Голас Часу". Пэрыёдык, які выходзіў як двухмесячнік, стаў адметнай зьявай беларускага жыцьця ў Ангельшчыне. На працягу 1989—1995 гг. спадар Юры быў выдаўцом і рэдактарам гэтага царкоўна-грамадзкага часопісу праваслаўных беларусаў. Практычна аднаасобна ён займаўся падрыхтоўкай усіх матэрыялаў. Агулам сьвет пабачыла 36 нумароў. На бачынах выданьня друкаваліся артыкулы па гісторыі хрысьціянства, успаміны, хроніка беларускага жыцьця й інш. Весялкоўскі быў аўтарам некалькі дзясяткаў публікацыяў па гістарычнай і рэлігійнай праблематыцы.

У сваіх працах дзеяч нярэдка выступаў як палеміст і ўдзельнік навуковых і грамадзка-палітычных дыскусіяў, актыўна абмяркоўваў падзеі ў беларускім і міжнародным жыцьці. У спрэчках са сваімі апанэнтамі ён не цураўся пошуку адказаў на вострыя пытаньні, а сваю пазыцыю намагаўся абгрунтаваць пераканаўчымі фактамі. Неабходна адзначыць, што выдавецкімі справамі даводзілася займацца ў вольны час,

спалучаючы іх са штодзённай працай. Каб утрымаць сям'ю, беларускі дзеяч працаваў тэхнікам, а потым інжынэрам на фабрыцы гадзіньнікаў. Нягледзячы на штодзённыя абавязкі, ён заўсёды знаходзіў час, каб займацца грамадзкімі й творчымі справамі.

Пасьля зьнікненьня жалезнай заслоны Весялкоўскі наладзіў кантакты зь некаторымі суайчыньнікамі на Бацькаўшчыне. На старонках "Голасу Часу" пачалі друкавацца матэрыялы аўтараў зь Беларусі. Апрача таго, дзеяч падтрымліваў сувязі з польскімі беларусамі. Ягоныя паэтычныя творы публікавала "Ніва". Плёнам супрацоўніцтва аўтара з тамтэйшымі беларусамі стала выданьне ў Беластоку шэрагу ягоных кніг.

Юры Весялкоўскі праяўляў значную цікавасьць да мінуўшчыны. Творчыя пошукі мелі вынікам выданьне шэрагу манаграфіяў, прысьвечаных папулярызацыі айчыннай і сусьветнай гісторыі. Сярод ягоных працаў неабходна ўзгадаць такія кнігі, як "Дарога рымскіх папаў на Усход" (1992), "Што прывяло Армію Краёву на Беларусь" (1995), "Беларусь у Першай Сусьветнай вайне" (1996), "Па сьлядах Другой Сусьветнай вайны" (2002), "Нарысы па гісторыі Беларусі" (2002), "Рабы ў старажытным і сучасным сьвеце" (2003), "Ад Гарбачова да Белавежы" (2004), "Дух часу. Палемічна-крытычныя артыкулы" (2005). Апрача таго, ён займаўся паэтычнай творчасьцю, у 1999 г. пабачыў сьвет зборнік вершаў "Каляды на чужыне".

Мне як дасьледчыку хочацца асабліва падкрэсьліць ўспаміны Юрыя Весялкоўскага "Няясна мроіліся новыя дарогі" (Лёндан, 1997). Кніга насычаная рознымі зьмястоўнымі фактамі, паказвае ўвесь драматызм лёсу чалавека, якому давялося прайсьці нялёгкі шлях ад Стаўпеччыны да Лёндану. Асаблівую каштоўнасьць праца мае для дасьледнікаў нямецкай акупацыі Беларусі, удзелу беларусаў у Арміі Андэрса, а таксама гісторыі беларускай паваеннай эміграцыі на Захадзе.

Нябожчык быў чалавекам свайго часу. Падзяляў лёс іншых ведамых эміграцыйных дзеячаў, такіх як Аляксандар Надсан ці Кастусь Акула. Два гады таму беларуская супольнасьць страціла ня толькі грамадзкага й рэлігійнага дзеяча, публіцыста й пісьменьніка, — у вечнасьць адышоў добразычлівы чалавек. Яскрава сьведчыць пра гэта ліставаньне паміж Весялкоўскім і малодшымі дасьледнікамі зь Беларусі й Польшчы, якія нярэдка зьвярталіся да яго ў сваіх навуковых пошуках. Падчас наведваньня Лёндану я сам сустракаўся са спадаром Юрыем і меў зь ім цікавыя размовы. Дзеяч заўсёды ахвотна дзяліўся ўспамінамі і ўласным досьведам. Уражвала імкненьне дапамагчы парадамі й зьвесткамі ў пошуках гістарычнай праўды.

Юры Весялкоўскі быў пахаваны на могілках Ганэрсбэры (*Gunnersbury Cemetery*), на захадзе Лёндану. У гэтым жа нэкраполі знайшлі свой апошні спачын і іншыя беларускія дзеячы ў Вялікабрытаніі.

Думаю, Юры Весялкоўскі заслугоўвае ўдзячнай памяці як на чужыне, гэтак і на Бацькаўшчыне.

*Макар Краўцоў*

# ПРА АЛЕСЯ ГАРУНА Й ЯДВІГІНА Ш.

## Алесь Гарун[1]

Алесь Гарун (праўдзівае імя Аляксандар Прушынскі) радзіўся ў 1890 г. у беднай сялянскай сям'і Навагрудзкага павету Меншчыны.

Празь няхват у бацькоў патрэбных коштаў Прушынскі ня мог атрымаць больш-менш высокай сыстэматычнай адукацыі і свае агульна-прасьветныя пазнаньні здабываў сам праз сябе на працягу свайго гаротнага і нядоўгага жыцьця.

З малых дзён сваіх мусіў ён пазнаць цяжкую працу дзеля кавалка хлеба і займаўся сталяркаю, якую любіў аж да апошніх дзён і адводзіў ёй свае рэдкія вольныя гадзіны. Аднак цяжкая сталярка ня здолела забіць поэтыцкі талент маладой душы, творчасьць якой раскошна расьцьвіла пад халодным небам Сыбіру ў Якутчыне, куды трапіў поэт выгнанцам.

За належнасьць у часе рэволюцыйнага расейскага руху 1905—1906 гг. да расейскае партыі соцыялістаў-рэволюцыянэраў максімалістаў Прушынскі быў высланы ў Якуцкую вобласьць, дзе прабыў 9 гадоў на залатаносных прыісках на рэчцы Віціме.

Дзякуючы рэволюцыі ў Расіі ў 1917 г. Прушынскі як палітычны выгнанец, скарыстаўшы з амністыі, вярнуўся ў канцы гэтага-ж году на Бацькаўшчыну і пасяліўся ў Менску, дзе задаўся мэтаю прывясьці ў парадак заняпаўшую "Беларускую Кнігарню", якую ён перавёў на сваю ўласнасьць, улажыўшы ў яе тыя невялічкія грошы, што зарабіў у Сыбіру.

У канцы 1918 году, забраўшы Менск пасьля немцаў, бальшавікі знацыяналізавалі кнігарню, і поэту прышлося жыць то службаю, то крыху сталяркаю.

Па выгнаньні бальшавікоў зь Менску палякамі ў канцы лета 1919 г. Прушынскі быў выбраны Старшынёю "Часовага Нацыянальнага Камітэту", які дэлегаваў яго ў сябры заснаванай палякамі "Беларускай Вайсковай Камісіі", выбраўшай Прушынскага за свайго Старшыню.

Хронічна хворы на сухоты, якія яму дала ссылка, Прушынскі ня мог актыўна іграць сваю новую цяжкую ролю на становішчы Старшыні Вайсковай Камісіі дзеля таго, што як раз пад гэты час хвароба яго давала сябе адчуваць нязвычайна моцна.

---

[1] Друкуецца паводле: Наша Думка. № 15. 15 красавіка 1921. С. 2—3.

Першую палову лета 1920 г. Алесь Гарун спакойна правёў у вельмі прыгожай дачы І. Т. Вярнікоўскага — Курашоўшчыне (2 вярсты ад Менску на рэчцы Лашанцы). Слабое здароўе Прушынскага тут моцна паправілася.

9 ліпеня 1920 г. Прушынскі мусіў пакінуць Менск, уцякаючы ад бальшавікоў праз тое, што ён быў Старшынёю Вайсковай Камісіі, і гэта эвакуацыя была яго апошнім, нявольным выездам з Бацькаўшчыны, аб якой ён маліўся на чужыне яшчэ ў Сыбіры. Зьвяртаючыся да Неба, ён казаў:

*Дай мне зрабіцца крынічкаю лясною,*
*Бераг вадой абнімаць, цалаваць...*
*Дай мне век цэлы дружыці з табою*
*Кветкі і зоры ў сабе адбіваць.*

Пры эвакуацыі зь Менску па дарозе (у Ваўкавыск) Прушынскі захварэў крываўкаю (дэзынтэрыяй) і, выехаўшы з палявым шпіталем у Кракаў, там памёр, маючы толькі 30 гадоў.

Гэтак выглядае ў кароткіх рысах прабег нядоўгага, гаротнага жыцьця поэта.

Не зазнаў ён асабістых, чалавечных радасьцяў, апрача тае, нявымоўнае радасьці творчага натхненьня, якая вельмі часта ахапляла яго душу.

Апрача работы літэрацкай Прушынскі ня раз выступаў на палітычным беларускім полі, маючы дужыя аратарскія здольнасьці. З Сыбіру ён вярнуўся ў часе магутнага палітычна-нацыянальнага руху, цэнтрам якога быў Менск. Дэлегаваны "Беларускай Соцыялістычнай Грамадой" на Ўсебеларускі Конгрэс 1917 году, Прушынскі выступіў перад тысячнай аўдыторыяй зь вялікай прамовай і з энтузіязмам быў вітаны шэраю масай дэпутатаў са ўсей Беларусі. Апрача простага, усім зразумелага складу свайго прамова Прушынскага выдзелілася сваёю праграмнасьцю.

Рашуча заклікаючы да абароны вольнасьці Бацькаўшчыны, Прушынскі ясна заявіў аб патрэбе нацыянальнай аўтаноміі ўсіх народаў Беларусі.

Па расколе Кангрэсу Алесь Гарун прылучыўся да левай часткі яго, але актыўнасьці там не выяўляў. Аднак адным аўторытэтам сваім памог зьяднаньню Конгрэсу і недапушчэньню да компромісу з Камісарамі *"Северо-Западной области и фронта"*.

Усебеларускім Зьездам Прушынскі быў выбраны ў Раду Зьезду, якая сваім чынам выбрала яго сябрам "Выканаўчага Камітэту", дзе ён намячаўся сябром Беларускага Ўраду як Народны Сэкрэтар Працы. Але галоўная ўвага Прушынскага была зьвернена на ўпарадкаваньне свае кнігарні.

У часе окупацыі Менску немцамі (1918 г.) Прушынскі рэдагаваў першую штодзённую беларускую газэту “Беларускі Шлях”[2].

Палітычная работа, вымагаючая вялікай нэрвовай натугі, моцна падрывала слабыя сілы Прушынскага, і яго поле палітычнай чыннасьці ня было вельмі шырокім, яно не давала яму моральнага задавальненьня, і яго поэтычная натура адпачывала душою заўсёды толькі ў гадзіны натхненьня, аб чым сьведчыць яго размова са сваімі думкамі ў вершы “Думкі-дыямэнты”:

*Думкі — дыямэнты, краскі жыцьця,*
*Песьні — вас гэтак люблю,*
*З вамі салодкіх гадзін забыцьця*
*Часам і я пазнаю.*
*Жыцьце-няволя ў чужой старане,*
*Працы надмернай яром*
*Зараз зьнікаюць, бы ў госьці ка мне*
*Вы паказаліся ў дом.*
*Слухайце ж, думкі:*
*Як прыйдзе мой скон,*
*Ў хатку зьляціце ка мне,*
*Хай перадсьмертны уцішыцца стон,*
*Сэрца на момант спачне.*
*Хай засьпяваю, як лебедзь, калі*
*Прыйдзе гадзіна яму,*
*Ўзьнёсшыся ў неба ад маці-зямлі,*
*Рыне ў адвечную цьму;*
*Хай засьпяваю аб сьне залатым*
*Веку людскога радства,*
*Роўнасьці, вольнасьці, брацтва — аб тым*
*Веку красы хараства.*
*Можа, пачуўшы прадзгонны мой сьпеў,*
*Сьціхла б на сьвеце вайна...*
*З радасным духам бы я паляцеў*
*У царства каханьня, відна.*

Ужо “Наша Ніва”, першая сучасная нам беларуская часопісь, што пачала выходзіць, дзякуючы вызваленчаму руху 1905—6 гг., была аздоблена вершамі Алеся Гаруна.

У 1918 г. выйшаў з друку зборнік яго вершаў “Матчын Дар”. Нажаль, гэтага зборніка мы пад рукамі ня маем і змушаны карыстацца тымі невялікімі кавалкамі творчасьці А. Гаруна, што маем у сваім

[2] **“Беларускі Шлях”** — штодзённая грамадзка-палітычная газэта на беларускай мове, якая выдавалася ў Менску ад 8 сакавіка да 23 жніўня 1918 г.

распараджэньні і якія далёка ня могуць даць шырокай магчымасьці ілюстраваць яго талент як належала-б.

У творах сваіх А. Гарун выразна малюе клясавае палажэньне роднага народу-селяніна, будзіць яго, кліча да адкрытай барацьбы, да выступленьня ўсёю грамадой на бой з нядоляю.

У вершы “Ты мой брат” поэт навучае народ любіць свой найдаражэйшы скарб — сваю мову, якая адна толькі яшчэ й засталася ў народу неадабранаю.

У тоне гэтага вершу А. Гарун выказвае шмат агульнага з поэтамі Купалай і Зязюляй[3], асабліва зь першым. Але ёсьць тут і свой, Алеся Гаруна, тон — гэта гучны покліч да грамадзкага злучэньня ў адну моцную масу — народ, які толькі грамадою можа ўхаваць свой скарб — мову сваю.

Зьвяртаючыся да народу, поэт кажа:

*Ты, мой брат, каго зваць Беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся;*
*Як ня зрокся яе пад прымусам,*
*Так і вольны цяпер не зракайся.*

*Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,*
*Гэты скарб нам адзін захаваўся,*
*У сялянскай аграбленай хаце*
*Толькі ён незабраны астаўся.*

*Ў старыну Беларус, не падданы,*
*Гаспадарыў, быў сам над сабою*
*І далёка у сьвеце быў знаны*
*За літоўскай і ляшскай зямлёю.*

*Але час прамінуў, і нядоля*
*На народ, як бы камень, звалілась,*
*Беларуская слава і воля*
*Адышла, адцьвіла, закацілась.*

*Не зьмяняючы шэрай апраткі,*
*Працаваў ты, як вол, гаратліва,*
*А у хаце тваёй недастаткі,*
*А на ніве тваёй неўрадліва.*

*А чаму? Ты ня здольны, ці хворы,*
*Ці благі гаспадар, ці п’яніца?*
*Мусіць, не! Бо і іншым у пору*
*У цябе гаспадарыць наўчыцца.*

[3] Маецца на ўвазе **Аляксандар Астрамовіч** (псэўд. **Андрэй Зязюля**, 1878—1921), каталіцкі сьвятар, паэт.

*Сьветлы розум твой, брат, але дзетак*
*Ад цябе, як і ўсё, адбіралі*
*І на бацькаўскі родны палетак*
*Працаваць-памагаць ня пушчалі.*

*Хто хацеў, той і сьмеў рабаваці,*
*Без прыпросу з'язджаліся госьці —*
*Абдзіраць, аб'ядаць, апіваці*
*І крышыць гаспадарскія косьці.*

*Можа б, ты і памёр і загінуў,*
*Каб ня вешчая мова Баяна.*
*Хто ж быў добры, яе хоць пакінуў?*
*Як жа так, што яшчэ не забрана?*

*Бо што бачылі госьцікі-герцы! —*
*І зямлю, і лясы, і кілімы, —*
*Ўсё забралі. А мову у сэрцы,*
*Ў сваім сэрцы хавалі-нясьлі мы.*

*Дык шануй, Беларус, сваю мову —*
*Гэта скарб нам на вечныя годы;*
*За пашану радзімаму слову*
*Ушануюць нас брацьця-народы!*

Жывучы ў далёкай Якутчыне, поэт не пакідае думкі ўцячы дамоў, да роднага народу, каб падняць гэты народ на барацьбу за лепшую долю, на барацьбу рашучую, калі давядзецца *"ўсё ўзяць ці ўсё згубіць"*. Гэтыя свае парываньні ён малюе такім вершам:

*Эх, сягоньня, ў гэту ночку*
*Я ўцяку адгэтуль проч!*
*Шэрым воўкам па лясочку,*
*Хай дагоніць, хто ахвоч!*
*Хай тагды сярод дарогі*
*Станець хто — ня будзе рад:*
*Чорны вуж абкруціць ногі,*
*Буду вужам, буду гад!*
*Хай тагды шукаюць ў лесе*
*Цёмных, вузкіх, воўчых троп!*
*Як арол у паднябесьсе,*
*Я ўзьлячу над земскі строп.*
*Ў небе роўным, чыстым шляхам*
*Яснай зоркай палячу*
*І скачуся па-над дахам*
*Роднай вёскі і ўскрычу:*

*— Гэй, хто ёсьць тут! Люд галодны,*
*Люд пакутны! Да мяне!*
*Станьма, брацьця, ў шых паходны —*
*Наша гора праміне.*
*Досыць нам зь нядолі віці*
*Ценкі жыцьця свайго пас,*
*Слухай, люд: прынёс я віці,*
*Хто за мною, брацьця? Час!*
*Ўстануць, рушаць: “Проч з дарогі!*
*Хто нам хоча заступіць?*
*Мы пайшлі, мы, люд убогі,*
*Ўсё узяць ці ўсё згубіць...”*
*Думкі, думкі-звадыяшкі,*
*Ах, ня мучайце мяне!*
*Вам ўсё гульні, а мне цяжка,*
*Мне няволя не міне...*

А як горка і марна ідзе жыцьцё поэта ў ссылцы, ён выказвае ў рэдкім па харастве вершы “На Віціме”:

*Адзін у жалезнай дамавіне*
*Ляжу бяз дум, ляжу бяз слоў,*
*Ня маю сноў, ня бачу сноў,*
*Няма бажаньня і ў спаміне.*
*Навокал хлюпае вада —*
*Ракі нявернай дар няшчыры;*
*Наўсьцяж зьвініць, як сьпевы ліры,*
*Пасьпешных хваляк чарада.*
*Часамі ў шчылінку зірне*
*Праменьчык сонца, зелень бора,*
*Між гор скалістая разора,*
*А ў ёй шумлівы вадаспад,*
*Заімкі беднай, вокны хат,*
*Рыбак у чоўне прамільгне, —*
*Нішто ня вабіць больш мяне!*
*Няма ў душы адгучных нот,*
*Кудысь падзеўся рым званчасты,*
*І чорны сум, як гад кальчасты,*
*Спыняе сэрца мерны ход.*
*Плыву адзін у дамавіне, —*
*Здаецца, стыне ў жылах кроў.*
*Так голы куст ў глухой цясьніне,*
*Між шчэбняў скал, ў прытулку соў,*
*Бяз дум і слоў паволі гіне.*

Блага жывецца адарванаму ад роднага краю поэту ў дзевяцігадовай няволі. Ня ведае ён шчасьця свайго асабістага, маленькага агульначалавечага. Ён як-бы і ня жыве для сябе самога. Жыццё ахвяраваў ён роднаму народу і ўсе творы яго зьвіняць вечна-грамадзкім тонам. Часам вельмі лірычна збудованы верш яго пяе не аб тым, што ахапляе сабою лірыка — не аб каханьні, не аб месячных, бязсонных ночах пары рознаполых людзей, што замыкаюцца ў чадзе свайго эгоістычнага шчасьця, — Народ, вялікі й грозны, прыгнечаны й бяздольны, багаты сваею будучынай выступае ўсюды ў тоне творчасьці А. Гаруна.

Апрача зборніка вершаў, Гарун пакідае бязьсьмертную па сабе памяць у беларускай пэдагогіцы як першы аўтор дзіцячых беларускіх п'ескаў, іграных няраз дзеткамі менскіх пачатковых школаў. П'ескі гэтыя сьведчаць аб нязвычайным разуменьні А. Гаруном дзіцячай псыхолёгіі і, часам, напісаны лёгкім вершам, як, напрыклад, баечная п'еса "Хлопчык у лесе".

30 гадоў! Які невялічкі кавалак часу! Які нядоўгі жыцьцёвы шлях, пройдзены поэтам! А сколькі нявымоўных перажываньняў, сколькі натхнёнай творчасьці, адбітай у патрыятычна-грамадзкіх вершах, пакінутых А. Гаруном на вечныя часы свайму, дасюль яшчэ нявольнаму, народу!..

## Літэратурная творчасьць Ядвігіна Ш.[4]

*З нагоды пятых угодкаў ягонай сьмерці: 26.II.22 г. — 26.II.27 г.*

Вось ужо 5 гадоў мінае, як адыйшоў ад нас назаўсёды першарадны новэліст беларускі Ядвігін Ш., сапраўднае прозьвішча якога — Антон Лявіцкі.

Дзеля таго, што займае надта-ж выдатнае месца ў беларускай прозе, варта пры гэтай нагодзе прыгледзіцца бліжэй да літэратурнай творчасьці і духоўнага аблічча нябошчыка.

У прадмове да ягонай "Бярозкі" знаходзім, між іншым, гэткія біяграфічныя данныя аб аўтары "Васількоў": Антон Лявіцкі радзіўся ў 1870 годзе ў невялікім фальварку сваіх бацькоў, Карпілаўцы, каля мястэчка Радашкавіч, Вялейскага павету.

Хоць тагачасная шляхта ўжо пачала даўно чурацца ўсяго роднага — беларускага й пераймаць польскае — "панскае", Антон Лявіцкі з малых гадоў гадаваўся ў пашане да беларушчыны.

Першай вучыцелькай яго была родная дачка вядомага беларускага песьняра Вінцука Дунін-Марцінкевіча, дык ня дзіва, што патрыятызм апошняга перадаўся і Лявіцкаму.

---

[4] Друкуецца паводле: Беларускае Слова. № 8 (37). 18 сакавіка 1927. С. 2—3.

Скончыўшы гімназію ў пачатку [18]90-х гадоў, папаў у Маскоўскі ўнівэрсытэт. Тут зышоўся з другімі студэнтамі-беларусамі і прыймаў чыннае ўчасьце ў іх працы. Вынікам гэнае працы быў выхад у сьвет беларускае кніжачкі "Сыгнал" Гаршына[5], перакладзенае з расейскае мовы пры ўчасьці Лявіцкага.

Вярнуўшыся дамоў, Лявіцкі пачаў прабаваць пісаць арыгінальныя творы па-беларуску.

У 1893 годзе ён напісаў драму "Злодзей", якую віленскі губэрнатар забараніў паставіць на сцэне толькі затым, што яна была ў беларускай мове. Гэта зьнеахвоціла Лявіцкага настолькі, што ён блізка зусім кінуў пісаць, але калі ў [1]900-х гадох узьняўся шырэйшы беларускі рух, калі пачалі выходзіць беларускія газэты, — Лявіцкі зноў узяўся за пяро і сваімі апавяданьнямі й байкамі выявіў вялікі талент. Асабліва многа ён піша ад 1909 году, перабраўшыся ў Вільню дзеля сталай працы ў "Нашай Ніве".

У тым-жа годзе выходзіць у сьвет і яго вершаванае апавяданьне "Дзед Завала" (1909) — адзіная рэч, напісаная вершам.

А сьледам ідуць зборнікі "Бярозка" (1912 г.) ды "Васількі" (1914 г.).

Пасьля выхаду "Васількоў" Лявіцкі ізноў замаўкае. Прычына гэтага — ваенныя выпадкі, якія прыпынілі выхад "Нашай Нівы" і прымусілі Лявіцкага пакінуць Вільню.

І толькі ў 1921 годзе мы бачым яго на віленскім грунце ізноў. Але сілы яго ўжо вельмі падупалі, ён вельмі аслабеў, і хоць бярэцца за пяро, ды нічога выдатнага ня творыць.

Апошняя яго кніжачка — гэта "Ўспаміны" з студэнцкага жыцьця, якая выйшла ў сьвет у 1922 г.

Лявіцкі ў тым-жа годзе памёр і пахаваны на магільніку "Росса"[6].

Гэтулькі аб жыцьці аўтара. Цяпер-жа пяройдзем да агляду самае творчасьці Ядвігіна.

Як мы бачылі, Ядвігін прабаваў усіх радоў літэратурнае творчасьці; у кніжках ягоных спатыкаем мы драму ("Злодзей"), побач з поэзыяй ("Дзед Завала"), мэмуары ("Успаміны"); новэлы ("Бярозка", "Васількі") і на'т аповесьць (ня скончанае "Золата"), ня кажучы ўжо аб перакладзе "Сыгнала", але зьлюбленай формай яго творчасьці была новэла.

Зьмест драмы "Злодзей" невядомы, бо самы твор бадай што загінуў; гэтак-жа ня шмат можна сказаць пра паэмку "Дзед Завала", у якой апісаны стары беларускі дзед-паляўнічы Завала, гэтак зрадніўшыся з пушчай, быццам ён быў яе неад'емленай часткай.

---

[5] **Усевалад Гаршын** (рус. *Всеволод Гаршин*, 1855—1888), расейскі пісьменьнік.

[6] Ядвігін Ш. пахаваны на віленскім могільніку Роса.

Пачынаецца паэма так:

*Жоўтага пясочку —*
*Дый і тога мала —*
*Меў наш дзед па бацьку;*
*Зваўся ён Завала.*
*Ліхая хацінка*
*Саломаю крыта,*
*Ліхая адрынка*
*Ды адно карыта*
*З крадзенага лесу.*
*Лава, стол у хаце,*
*Міска і дзьве лыжкі —*
*Вось і ўсё багацьце.*

З далейшага зьместу паэмкі відаць, што дзед прыймаў учасьце ў польскім паўстаньні 1863 г., урэшце падчас аднае з сваіх экспэдыцыяў у глыб пушчы Завала гіне.

У паэмцы гэтай ёсьць так-жа і даволі прыгожыя малюнкі беларускай прыроды, напрыклад:

*Зашумеў бор цёмны...*
*Хто шум той пазнае?*
*Чы ветрык павеяў,*
*Чы хтось паклікае?*
*Ёсьць у гэтым шуме*
*Доля і нядоля,*
*Енкі ёсьць, што кажуць,*
*Злая дзе няволя...*
*Ёсьць у гэтым шуме*
*Плач як-бы сіроткі*
*І крык нейкі ціхі,*
*Страшны і кароткі...*

Ува ўсім творы чуваць моцны ўплыў на аўтара апісаньняў беларускіх пушч у “Пану Тадэушы”, а так-жа паэзыяў Сыракомлі.

Ня будзем тут спыняцца над супольным перакладам “Сыгнала” Гаршына як слаба зьвязанага з індывідуальнай творчасьцяй Ядвігіна; гэтак-жа мусім мы ўстрымацца ад абгаварываньня няскончанай часьці “Золата” дзеля таго, што яна яшчэ неапублікаваная.

Выйшаўшыя лацінкай “Успаміны” зьмяшчаюць у сабе запіскі аўтара з студэнцкіх часоў у Маскве; як жывое вырастае прад намі рэвалюцыйна-паступовае расейскае студэнцтва прадваенных часоў з усім сваім ідэалізмам, захопленьнем і маладой радасьцяй. Прад нашымі вачыма праходзяць як жывыя: кансьпіратыўныя кватэры зь нелегальнай літэратурай; заядлая барацьба з паліцыяй; удалыя гульні; згаворы; сходкі;

арышты; рэвізіі і г. п. Асабліва цікавымі ёсьць мамэнты з прабываньня ў вядомых "Бутырках", якія займаюць большую частку ўспамінаў. Агулам "Успаміны" выклікаюць надта-ж сымпатычнае ўражаньне і шчыра ўзварушваюць чытача, тым больш цэннымі зьяўляюцца гэтыя ўспаміны таму, што *"расейскі студэнт"* (прадваенных часоў зразумела) у значнай ужо меры перайшоў у гісторыю.

А цяпер пяройдзем да найбольш багатай краіны творчасьці Ядвігіна, да яго апавяданьняў — новэлаў, зьмешчаных у зборніках "Бярозка" і "Васількі".

Новэлы гэтыя можна разьбіць на некалькі групаў:

1-я група. Апавяданьні зь сялянскага жыцьця, у якіх аўтар спачувае нядолі мужыка і трактуе справы паважна; да гэтай групы належаць: 1. "Шчасьлівая"; 2. "Гаротная"; 3. "Зарабіў" і 4. "Зарабляюць".

II-я група. Апавяданьні, у якіх нядоля і цемната беларускага селяніна ёсьць толькі матэрыялам для панскіх жартаў у родзе г. зв. "жыдоўскіх" ці "армянскіх" анэкдотаў; да гэтай групы належаць: 1. "Вучоны бык"; 2. "З маленькім білецікам"; 3. "Заморскі зьвер"; 4. Пазыка"; 5. "Важная фіга" і 6. "Суд".

III-я група. Апавяданьні аллегорычныя з палітычным зьместам. Аллегорычныя апавяданьні, пераважна з жыцьця жывёлаў, з палітычнай падкладкай; гэткімі ёсьць: 1. "Павук"; 2. "Вясельле"; 3. Сабачая служба"; 4. Пратэст" і 5. "Цырк" — найбольш моцная рэч у гэтай групе.

IV-я група. Імпрэсыі: 1. "Дуб-Дзядуля"; 2. "Чалавек"; 3. "Васількі"; 4. "Раны" і 5. "Бярозка".

V-я група. Казкі і апавяданьні, пераважна з жыцьця зьвяроў і расьлін, ня раз з глыбокай мараляй, або сымбалічныя ці аллегорычныя; гэткімі ёсьць: 1. "Дачэсныя"; 2. Што сказаў певень"; 3. "Баба"; 4. "Чортава ласка"; 5. Награда"; 6. "Сіло"; 7. "Рабы"; 8. "Сакатушка"; 9. "Хлеб" і 10. "Гадунец".

VI-я і апошняя група абыймае 3 рожныя творы: "Перапуд" — абразок з студэнцкага жыцьця; "Жывы нябошчык" — малюнак зь вясковага жыцьця, у якім узаемаадносіны паміж дваром і вёскай патрактаваны ідыллічна, у духу Марцінкевіча; у канцы апавяданьне "З бальнічнага жыцьця", у якім зь вялікім талентам апісана сьмерць нейкага адзінотнага, шэрага малага чалавека ў гарадзкой бальніцы.

Чытаючы гэты твор, нявольна нагадуеш сабе сумны канец самога аўтара ў адным зь віленскіх шпіталяў.

З усіх гэтых твораў відаць з аднаго боку немалую інтэлігэнтнасьць і літэратурны талент аўтара; з другога-ж — балючую духоўную разхістанасьць яго, дзякуючы каторай паасобныя творы Ядвігіна гэтак ідэолёгічна рожняцца паміж сабой, што на'т трудна сябе ўявіць, што іх піша адзін чалавек. А аднак мы бачым Ядвігіна як рэвалюцыйнага студэнта "народніка" і сьвядомага беларуса "нашаніўца", у другіх ізноў

прад намі — спольшчаны беларускі шляхціц, які сьмяшыць кумпанаў беларускімі анэкдотамі, у іншых-жа бачым прад сабой тонкага імпрэсыяніста ці вясёлага байкапісца. Зьявішча гэтае ёсьць вельмі характэрным для шляхоцкіх рамантыкаў, якім ёсьць А. Лявіцкі.

Аднак гэтая духовая разхістанасьць не зьмяншае зусім тае вялікае ролі, якую грае Ядвігін у беларускай літэратуры; стыль Ядвігіна — моцны, зьлітны; мова — чыстая, гучная; думка — глыбокая; настрой — тонкі, інтэлігэнтны; зьмест — захопліваючы...

У беларускай прозе ён, побач зь Якубам Коласам, займае першае месца, перавышаючы, аднак, апошняга інтэлігэнтнасьцяй думкі і лёгкасьцю стылю.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*

***Станіслаў Станкевіч***

# ПАЛІТЫЧНАЯ ПУБЛІЦЫСТЫКА

## У новых краёх — новыя заданьні[1]

Ад некатарага часу эміграцыйная акцыя сярод перамяшчэнцаў-ДП у краіны сталага побыту настолькі ўзмоцнілася, што сяньня ўжо можна гаварыць аб ейнай масавасьці. Калі яшчэ нядаўна выезд тэй ці іншай сям'і зь лягеру ДП прадстаўляў сабою да некаторай меры сэнсацыю, рэдка спатыканую ў лягеры, то ўжо сяньня такія выпадкі належаць да звычайных штодзённых зьявішчаў. Пры гэтым эміграцыйныя ўстановы для ДП заяўляюць афіцыйна, што ў хуткім часе тэмп эміграцыі яшчэ больш узмоцніцца. Усё гэта, бясспрэчна, павінна нас толькі цешыць. Нягледзячы на тое, што не заўсёды нашыя суродзічы могуць ехаць у тыя краіны, куды яны хацелі-б, і нягледзячы на тое, што сам падход да вэрбоўкі нашых людзей на эміграцыю часта зьяўляецца для нас крыўдным і абразьлівым, калі галоўнай падставай прыняцьця кандыдата зьяўляецца ня толькі ягоны сямейны стан і сьцісла абмежаваны век, але навет адпаведная сіла мускулаў, то ўсё-ж такі факт астаецца фактам — ладная колькасьць нашых людзей ужо выехала й шмат спасярод яшчэ астаўшыхся, а мо й бальшыня мае ўсе дадзеныя хутка разьвітацца зь негасьціннай Нямеччынай і з тымі цяжкімі, ненармальнымі й дэмаралізуючымі умовамі жыцьця, у якіх трэба было знаходзіцца на працягу некалькіх апошніх год у лягерах ДП. Бо трэба сказаць адкрыта, што сказармаванае лягернае жыцьцё, поўнае самых элемэнтарных недастаткаў, часта недапушчальныя ў культурным сьвеце бытавыя умовы, бязьдзейнасьць, а галоўнае — няпэўнасьць свайго будучага лёсу й страх перад тым, каб узноў не папасьці ў крывавыя абоймы "любімага бацькі", вельмі адмоўна адбіліся на псыхічным і маральным стане ўсяе масы перамяшчэнцаў. Таму іменна мы й вітаем сяньняшнюю эміграцыйную акцыю, нягледзячы навет на ўсе ейныя недахопы.

Але раўналежна ізь перасяленьнем нашых суродзічаў зь Нямеччыны ў іншыя, пераважна заморскія краі й у сувязі з расьцярушваньнем іх на далёка большым прасторы, чымсьці адна шостая частка сьвету, вострa выныраюць перад намі пытаньні ня толькі жыцьцёвага, але й нацыянальнага характару. Галоўныя вогнішчы беларускага палітычнага й нацыянальнага жыцьця, якія дагэтуль знаходзіліся ў Нямеччыне, у сілу

[1] Друкуецца паводле: Бацькаўшчына. 1 чэрвеня 1949.

абставінаў будуць цяпер перанесеныя ў тыя краі, куды ў сваёй аснаўной масе пераедуць нашыя людзі. Беларускія нацыянальныя арганізацыі ў паасобных краёх дэмакратычнага сьвету цяпер, з прыплывам новых сілаў, будуць мець магчымасьць значна пашырыцца й узмоцніцца. Ходзіць толькі пра тое, каб нашыя нацыянальныя арганізацыі, як у Нямеччыне, гэтак і ў тых краёх, куды прыбываюць новыя эмігранты, праявілі дастаткова энэргіі й арганізацыйных здольнасьцяў дзеля таго, каб ніводзін зь беларускіх эмігрантаў, апынуўшыся ў новай краіне далёка ад сваіх суродзічаў, не загубіўся ў чужой яму масе, але каб быў ахоплены сваёй нацыянальнай арганізацыяй.

Гэтае адказнае заданьне стаіць, аднак, ува ўсёй сваёй вастрыні ня толькі перад нашымі арганізацыямі, але ў роўнай меры й перад самымі перамяшчэнцамі. Кажны спасярод апошніх павінен глыбака ўсьведаміць сабе, што найвялікшым ягоным абавязкам на чужыне ёсьць захаваньне таго найдаражэйшага скарбу, які ён вынес із сваёй роднай хаты на Бацькаўшчыне — *сваёй беларускай нацыянальнасьці*. Захаваць-жа сваю нацыянальнасьць зможам лёгка тады, калі, нягледзячы на вялікія прасторы, што нас будуць дзяліць, захаваем між сабою цесную арганізацыйную сувязь. Ужо сяньня сярод беларускае эміграцыі існуе адпаведная арганізацыйная сетка: у кажнай краіне, дзе ёсьць большая колькасьць беларускае эміграцыі, існуюць беларускія нацыянальныя арганізацыі ці камітэты, якія гуртуюць там нашых суродзічаў і праводзяць сярод іх нацыянальна-грамадзкую працу ды аказваюць ім неабходную дапамогу. Гэтак, апрача Нямеччыны, існуюць такія арганізацыі ў Францыі, Ангельшчыне, Бэльгіі, Швэдыі, а з краёў заакіянскіх — у ЗША, Канадзе, Аргентыне й Аўстраліі. На чале ўсіх гэтых арганізацыяў стаіць Сусьветнае Аб'еднаньне Беларускае Эміграцыі (САБЭ) у Парыжы, якое каардынуе іхную дзейнасьць.

Вось-жа ніводзін беларус не павінен выехаць зь Нямеччыны без адрасу свае арганізацыі тэй краіны, у якую ён эмігруе, каб, прыбыўшы на месца, неадкладна навязаць зь ёю сувязь і ўліцца ў лік ейных сяброў. З другога-ж боку, самі арганізацыі на чале із САБЭ павінны сяньня праяўляць асаблівую актыўнасьць у кірунку вэрбаваньня новых сяброў спаміж новае эміграцыі й разгортваньня сярод іх нацыянальнае працы.

Як ужо няраз зазначалася, мы зьяўляемся палітычнымі эмігрантамі ў сьцíслым значэньні гэтага слова. Гэты палітычны характар прыдае нам ня гэтулькі тое, із-за якіх прычынаў пакінулі мы нашую Бацькаўшчыну, сколькі тое, чаму мы не захацелі да яе вярнуцца. А прычыны, што нас паўстрымалі ад павароту, зьяўляюцца выключна палітычнага характару. І наш побыт на чужыне ёсьць наяўным задакумэнтаваньнем перад сьветам нашага пратэсту супраць нялюдзкіх гвалтаў і крывавага тэрору бальшавіцкіх акупантаў і з другога боку — маніфэстанцыяй перад тым-жа сьветам нашае нацыянальна-вызвольнае ідэі. Таму,

як звычайна гавораць аб сабе й эмігранты іншых нацыянальнасьцяў, *кажны беларускі эмігрант павінен быць сяньня амбасадарам сваёй Бацькаўшчыны сярод народаў сьвету*. Мы не павінны забывацца, што як мы сябе пакажам на чужыне, так — паводля нашых паводзінаў — будуць цаніць ня толькі нас, але й увесь наш народ на Бацькаўшчыне. Іншыя народы сьвету й адказныя палітычныя дзейнікі ў вялікай меры так паставяцца да справы нацыянальнага вызваленьня й дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, як мы, будучы прадстаўнікамі беларускага народу на чужыне, на гэта заслужым.

Што нашая адказнасьць на чужыне зьяўляецца вялізарнай, ня трэба ў сувязі з вышэйшым даводзіць. Трэба толькі мець яе заўсёды наўвеце ў кажнай нашай дзейнасьці, у кажным выступленьні навонкі, у кажным нашым захаваньні, навет найдрабнейшым, здаючы сабе справу з таго, што на падставе дробных рэчаў чужынцы ствараюць агульнае ўяўленьне аб дадзенай адзінцы й аб цэлым народзе, да якога адзінка гэтая належыць. Нашыя арганізацыі ўва ўсіх краінах павінны праводзіць інтэнсыўную ўсьведамляючую работу, а дзе трэба, і самае вострае грамадзкае ўзьдзейваньне, каб нашыя суродзічы паказалі сябе перад чужынцамі з найлепшага боку — былі сумленнымі працаўнікамі, добрымі беларускімі патрыётамі й стаялі на належнай этычна-маральнай вышыні.

Мы верым, што наш побыт на чужыне будзе часовым і што яшчэ дачакаемся вызваленьня нашае Бацькаўшчыны з-пад ярма маскоўска-бальшавіцкае няволі. Сусьветныя палітычныя падзеі, што разьвіваюцца цяпер з маланкавай шыбкасьцю, абгрунтоўваюць спадзяваньні беларускае эміграцыі на паварот у вольную Беларусь. Няўпыннае змаганьне беларускага народу супраць чырвонага акупанта, збройная акцыя нашых гераічных партызанаў сьветчаць аб тым, што беларускі народ не заламаўся пад крывавым тэрорам Масквы, ня спыніў свайго імкненьня да волі, наадварот — у заўзятым, хоць няроўным змаганьні гартуе ён свае сілы для канчальнага зудару з адвечным ворагам. Гэта найлепшая зарука таго, што новая сусьветная завіруха, якой спадзяецца сьвет, ня пройдзе бяз нашага актыўнага ўдзелу й што пры перабудове эўрапэйскага Ўсходу знойдзецца на парадку дня й пытаньне незалежнасьці Беларусі.

Вось чаму й мы не павінны замыкацца ў цесных рамах эміграцыйнага жыцьця, але мусім з усёй сур'ёзнасьцю прыгатаўляцца да будучага змаганьня за вызваленьне Бацькаўшчыны й да творчае працы над адбудоваю ейнае дзяржаўнасьці. *Дрэнны бо той беларус, што, згубіўшы веру ў магчымасьць павароту на Бацькаўшчыну, зьбіраецца векаваць на чужыне*.

Аб гэтым кажны беларускі эмігрант заўсёды павінен помніць і згодна гэтага мусіць весьці сваю працу.

## Распачынаючы новы этап...[2]

Бягучым годам беларуская эміграцыя ўваходзіць у новы пэрыяд свайго існаваньня. Выпадкі й акалічнасьці, што замыкаюць пэрыяд дасюлешні й распачынаюць новы, зьяўляюцца настолькі важнымі для нас, што нельга абыйсьці іх моўчкі.

Перш за ўсё бягучы год ёсьць для нас важным годам у сувязі з тым, што ў гэтым годзе аснаўная маса нашае эміграцыі, што жыла дасюль часова ў Нямеччыне на ласцы ІРО[3] ўжо выэміґравала або знаходзіцца ў працэсе эміграцыі ў краіны сталага побыту. Людзі, што дагэтуль жылі ў няпэўнасьці й няведаньні сваёй будучыні, цяпер здабываюць больш-менш нармальныя ўмовы жыцьця й працы, паколькі наагул можна гаварыць аб нейкай нармальнасьці на эміграцыі. Хаця й тут не абыйшлося без мамэнтаў ярка адмоўных, якімі было пазбаўленьне права на эміграцыю ладнае колькасьці беларусаў і астаўленьне іх у ўмовах поўгалоднага існаваньня ў Нямеччыне, сам факт выэміграваньня аснаўное бальшыні іх ёсьць бясспрэчна фактам вельмі пазытыўным.

Масавая эміграцыя нашых суродзічаў зь Нямеччыны ня толькі пацягнула за сабой перанясеньне нашых палітычна-грамадзкіх цэнтраў у іншыя краіны, але й выклікала неабходную патрэбу грунтоўнае рэарганізацыі нашае дзейнасьці й значнае перастаноўкі сілаў. Нашыя людзі, што жылі дасюль у беларускіх лягерах або зарганізаванымі нацыянальнымі групамі ў лягерах чужых, без асаблівых арганізацыйных натугаў маглі жыць собскім нацыянальным жыцьцём. Цяпер зьяўляюцца яны расьцярушанымі сярод чужога ім элемэнту розных краінаў сьвету й дзеля гэтага наражаныя на небясьпеку асыміляцыі, а ў найлепшым выпадку нацыянальнай індэфэрэнтнасьці. Таму ў першую чаргу мы павінны парупіцца стварыць такія ўмовы, каб нашыя людзі, раскінутыя па шырокім сьвеце, адчувалі патрэбу собскага нацыянальнага жыцьця. Ня трэба й даказваць, што найлепшымі й незаменнымі сродкамі для гэтага могуць быць спраўна дзеючыя нацыянальныя арганізацыі й роднае друкаванае слова.

Для беларусаў, што мелі шчасьце выэміграваць зь Нямеччыны, тыя панурыя гады недастаткаў і галіты, якія яны перажывалі ў ДП-лягерах, належаць ужо да мінуўшчыні. Дзеля гэтага пры наяўнасьці

[2] Друкуецца паводле: Бацькаўшчына. 15 верасьня 1950.

[3] ***IRO — International Refugees Organization* — Міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў** — адмысловая структура пры ААН, створаная 20 жніўня 1946 г. Паступова пераняла ад Адміністрацыі Аб'яднаных нацыі па дапамозе й рэабілітацыі клопат аб паваенных уцекачах. Займалася арганізацыяй выезду ўцекачоў на сталае месца жыхарства ў розныя краіны сьвету. Дзейнічала да 1952 г., пакуль не была ператвораная ў службу пры Вярхоўным камісары ААН па справах ўцекачоў.

добрае волі нашае інтэлігенцыі й разумнага кіраўніцтва зь ейнага боку адкрываюцца цяпер шырэйшыя пэрспэктывы й магчымасьці нацыянальнае працы. Дык усебакова іх выкарыстаць і зактывізаваць нашае нацыянальнае жыцьцё ў краінах новага асяленьня зьяўляецца першай патрэбай дня.

Бясспрэчна, зьмены на лепшае зарысаваліся і ў іншай галіне нашага грамадзка-палітычнага жыцьця. Пяць апошніх гадоў прайшлі ў нас пад знакам нутраной кансалідацыі грамадзянства й змаганьня з зарубежніцкай дывэрсыяй, якое праглынула шмат энэргіі й часу. Гэты нэгатыўны мамэнт нашае дзейнасьці быў, аднак, канечны й няўхільны. Агенты расейскага імпэрыялізму ўсёроўна якога колеру ўнікалі, як мага, адкрытага ідэялягічнага змаганьня, добра здаючы сабе справу, што калі-б выступілі яны адкрыта супраць беларускай незалежніцкай ідэі, а за *“єдіную неделімую”*, то адразу пацярпелі-б поўную няўдачу. Таму яны выбралі шлях дэструкцыі й дывэрсыі, імкнучыся ўнутры беларускага грамадзянства выклікаць крайнія супярэчнасьці й распаліць міжсобнае змаганьне. Гэта зрабіць ім удалося галоўна дзякуючы нізкай нацыянальнай сьведамасьці эміграцыйнай масы, палітычнай бязграматнасьці значнай часткі інтэлігенцыі, як і той акалічнасьці, што знайшліся сярод нас людзі, якія ахвотна пайшлі на чужацкую агентурную службу.

Мэта зарубежніцкае дзейнасьці была ясная: разьбіць ды аслабіць беларускі нацыянальна-вызвольны рух для інтарэсаў Масквы, а так-жа скампраметаваць яго ў вачох заходняга сьвету, і гэтым самым здэградаваць ягоную ўдзельную вагу. Маскуючы на вонкі сваю праступную дзейнасьць нацыянальнымі лёзунгамі ды цынічнымі дэклярацыямі аб службе незалежніцкай ідэі, у самай сутнасьці ўсе зарубежнікі павялі супраць гэтае ідэі й ейных носьбітаў самы рашучы бой. А аружжам у гэтым баі былі фальш, дэмагогія, распальваньне ўзаемнае нянавісьці сярод беларусаў, паліцыйныя даносы альянцкім уладам і правакацыі, адным словам, поўны арсэнал сродкаў, якімі карыстаюцца якраз бальшавікі.

Таму зусім зразумела, што змаганьне з зарубежніцтвам было асноўным мамэнтам у нашым грамадзкім жыцьці за мінулых пяць гадоў, якое адсоўвала на бок іншыя, часта куды важнейшыя справы. Аднак у гэтым змаганьні зарубежніцтва было пабітае. Яно ў вачох усіх сумленных беларусаў поўнасьцю скампраметавалася, а ягоныя агентурныя мэты былі ўсебакова й дакумэнтальна здэмаскаваныя. Пры зарубежніцтве асталіся амаль выключна людзі, якіх пераконваць няма ўжо найменшага сэнсу, для якіх белае ёсьць чорным, а чорнае белым, значыцца, толькі перакананыя шчыра ці каньюнктуральна й сьведамыя сваёй праступнай ролі зарубежнікі.

Гэта, аднак, ня значыць, што расейская дывэрсыя сярод беларусаў ужо зьліквідаваная й што яна ў тэй або іншай форме ўжо болей не паўторыцца. Наадварот, як доўга будзе існаваць загроза расейскага

імпэрыялізму з мэтаю паняволіць наш край і народ, так доўга будуць знаходзіцца ў нас людзі тыпу Астроўскага, Сабалеўскага ці Ермачэнкі, якія ахвотна згодзяцца для інтарэсаў ворага разбураць і аплёўваць усё сьвятое для кажнага беларуса. Гэта абазначае толькі, што расейская дывэрсыя ў сваёй сяньняшняй форме, званай зарубежніцтвам, і ягоныя сяньняшнія носьбіты, як у царкоўных рызах, так і ў сьвецкай вопратцы, настолькі ўжо скампраметаваныя й здэмаскаваныя ў сваім рэнэгацтве, што асаблівай шкоды для нашай вызвольнай справы прынесьці ўжо ня змогуць.

Дзеля таго што на працягу мінулага часу галоўная нашая ўвага мусіла быць зьвернутая на нутраныя дачыненьні й абарону перад расейскім наступам, справы нашае вонкавае рэпутацыі й дыпляматычнай дзейнасьці як сярод іншых паняволеных бальшавізмам народаў, так і перад заходнімі палітычнымі дзейнікамі былі моцна занядбаныя. Праца навонкі ў нас вялася прыпадкова, несыстэматычна, без дакладна апрацаванага на даўжэйшую мэту пляну. Калі-ж цяпер нашыя нутраныя справы зьяўляюцца больш-менш упарадкаваныя, то, не пакідаючы й іх бяз увагі, трэба, аднак, напружыць усе сілы, каб адрабіць недаробленае на грунце міжнародным.

Палючая патрэба сяньняшняга дня пераканальна гаворыць за тым, што новы пэрыяд нашага выгнаньня павінен быць як найшырэй і як найразумней выкарыстаны дзеля заваяваньня сабе апініі заходняга сьвету. Трэба паінфармаваць шырокі сьвет аб нашых нацыянальных патрэбах і імкненьнях, трэба паралізаваць сярод чужынецкіх колаў ілжывую прапаганду ворага, ведзеную на нашую шкоду, трэба напасьледак пераканаць адказныя палітычныя дзейнікі Захаду, што бязь зьнішчэньня ня толькі бальшавізму, але й усякага ресейскага імпэрыялізму й без распадзелу расейскае імпэрыі на незалежныя гаспадарствы паняволеных ёю народаў ня можа быць і мовы аб трывалым міры на сьвеце.

Сяньняшні нязвычайна адказны мамэнт, плодны гістарычнымі падзеямі вялікае міжнароднае вагі, ускладае на нас як палітычных эмігрантаў ня менш адказныя абавязкі й вызначае нам спэцыяльную ролю ў працэсе нашага вызвольнага змаганьня.

Таму мала ўзалежняць нашыя паступаньні толькі ад добрае волі адзінак, яны павінны выплываць із зразуменьня нашага нацыянальнага абавязку перад Бацькаўшчынай і Народам. А паколькі нашая Бацькаўшчына стогне ў найжахлівейшай бальшавіцкай няволі, якой ня ведае гісторыя ўсяго чалавецтва, і народ наш крывавіцца, як яшчэ ня крывавіўся, ад зьдзекаў Масквы, дык і мы на чужыне, што знаходзімся ў бясспрэчна шчасьлівейшым палажэньні ад нашых братоў з таго боку жалезнай заслоны, павінны таксама прынесьці адпаведную дань для народнае справы калі ня ў крыві, дык, прынамсі, у працы.

Першы збройны вудар камунізму з дэмакратычным сьветам на Далёкім Усходзе, які таксама адкрывае новую балону ў гісторыі паваеннага сьвету, родзіць надзеі, што вырашальная расплата з праступным камунізмам у сусьветным маштабе зьяўляецца няўхільнай і недалёкай. Гэта паказвае, што канчальнае разьвязаньне й нашай нацыянальнай праблемы — быць або ня быць — хутка можа знайсьціся на парадку дня. А таму да гэтай вялікай і доўгажданай гістарычнай хвіліны мусім пасьпешна прыгатаўляцца ў кажнай галіне нашае дзейнасьці. Калі ўвесь вольны сьвет пасьпяхова гатуецца сяньня да абароны перад няўхільнай загрозай камуністычнай агрэсіі, то мы, што зьяўляемся ўжо тры дзесяткі год ахвярамі гэтае агрэсіі, павінны з тым большай энэргіяй мабілізаваць усе нашыя нацыянальныя сілы на змаганьне за нашае вызваленьне.

Дык распачынаючы новы этап на нашым шляху выгнаньня, напружым усе нашыя сілы й волю, каб апраўдаць вялікія абавязкі, ускладзеныя на нас у сяньняшні адказны й вырашальны мамэнт. А ўсім нашым пачынаньням няхай заўсёды прысьвечвае бясспорная праўда, што нашая дзейнасьць на чужыне, калі яна будзе праводжаная ў поўным зразуменьні гэтага абавязку, можа заашчадзіць шмат крыві на Бацькаўшчыне, калі надыйдзе адпаведны мамэнт вырашэньня справы нашага незалежнага палітычнага існаваньня.

## Чаму нас не разумее Захад?[4]

### *Праз расейскія акуляры*

Адным з найбольш ненармальных і шкодных нам зьявішчаў у дачыненьні Захаду да падрасейскага, а цяпер падсавецкага Ўсходу ёсьць пагляд, што ўсе тыя тэрыторыі, якія ляжаць на ўсход ад Буга й Сану — гэта Расея, а ўсе тыя народы, што гэтую вялізарную тэрыторыю засяляюць, — гэта ў аснаўным расейцы. Праўда, кажны інтэлігентны чалавек Захаду ведае, што на тэрыторыі аднэй шостай жыве цэлая мазаіка розных народаў і плямёнаў, аднак ён не здае сабе дастаткова справы з таго, якая ступень іхнае апрычонасьці, якое іх гістарычнае мінулае, як яны апынуліся ў складзе расейскае імпэрыі, якія іх нацыянальныя імкненьні й палітычныя асьпірацыі, а галоўнае — на чым гэтыя імкненьні базуюцца.

Для шэрага заходняга інтэлігента, не гаворачы ўжо аб простай народнай масе, — нерасейскія славянскія народы — беларусы, украінцы й казакі — гэта толькі адгаліненьні аднаго й таго самага народу расейскага, а народы неславянскія — гэта яшчэ першабытныя плямёны,

[4] Друкуецца паводле: Бацькаўшчына. 27 студзеня 1952.

перамешаныя з расейцамі, якія ня маюць ані гістарычнай традыцыі, ані выразных нацыянальных імкненьняў, а зьяўляюцца толькі этнаграфічнай масай, што знаходзіцца яшчэ на прымітыўным узроўні свайго разьвіцьця й незалежна ад Расеі існаваць ня можа. Для такога роду заходніх ляікаў — а іх бальшыня навет сярод інтэлігенцыі — грузін або туркестанец у сваёй нацыянальнай дасьпеласьці й гістарычнай традыцыі нічым ня розьніцца ад якута або чэраміса.

Паўстае тады пытаньне, дзе фактычна хаваецца прычына такога хвальшывага пагляду й няведаньня ўзапраўдных нацыянальных дачыненьняў на ўсходзе Эўропы й у падсавецкай Азыі, дзе прычына такой ігнаранцыі й замарочаньня паняцьцяў ў паглядах на ўсходнюю праблему? Бо ў той час, калі гэты-ж шэры заходні інтэлігент больш-менш здае сабе справу з нацыянальных дачыненьняў зусім прымітыўных каляровых народаў Афрыкі ці паўдзённа-ўсходняй Азыі, ён зьяўляецца поўным анальфабэтам у сваіх паглядах на такія народы, як беларусы, украінцы, туркестанцы ці каўказцы, якія маюць куды багацейшую гістарычную мінуўшчыну за расейцаў, а сяньняшняя культурная ўзроўня якіх зусім ня ніжэйшая, чымсьці ў расейцаў, якія ў дадатак зьяўляюцца ягонымі недалёкімі суседзямі.

Калі заходні сьвет выказвае такую незнаёмасьць сяньняшніх падсавецкіх народаў, то ўжо аб іхных нацыянальна-вызвольных імкненьнях, як і аб рэальнасьці й мэтазгоднасьці гэтых імкненьняў ён арыентуецца яшчэ менш. У ўяўленьні людзей Захаду Расея — гэта нешта настолькі суцэльнае й арганічна зьвязанае, што ейны распадзел на нацыянальныя дзяржавы выдаецца нечым нерэальным, немэтазгодным, а навет — праступным. У той час, калі гэтыя людзі ўспрыймаюць распадзел Брытанскае імпэрыі й унезалежненьне ейных калёніяў як нешта зусім натуральнае й гістарычна неабходнае, яны ніяк ня могуць пагадзіцца з думкай, што падобны лёс павінен спаткаць таксама й Расею. Таму да нацыянальна-вызвольных рухаў нерасейскіх народаў ставіцца Захад недаверліва, вычэкваюча, а у найлепшым выпадку — абыякава.

### *“Адзінанедзялімаўская” палітыка Захаду*

Есьць дзьве аснаўныя прычыны такой заблытанасьці паняцьцяў у дачыненьні да ўсходняй праблемы: адна, калі так можна выразіцца, нутраная, а другая — вонкавая, якая зьяўляецца непасрэдным вынікам замежнай палітыкі заходніх дзяржаваў у дачыненьні да Расеі. Захад, а у тым ліку й ЗША, доўгі час уважаў, што для раўнавагі сілаў у сьвеце ім патрэбная вялікая й сільная Расея, якая балянсавала-б дзьве магутныя дынамічныя дзяржавы — Нямеччыну з захаду й Японію — з усходу. Да гэтага далучаўся мамэнт эканамічны — вялікая й індустрыяльна адсталая Расея ўважалася за выгадны рынак збыту, на які Захад мог кідаць надвыжку сваёй прамысловай прадукцыі й адкуль мог даставаць

патрэбную яму сыравіну. Заходнія дзяржавы ўважалі, што куды выгадней мець гандлёвыя інтарэсы з адным вялікім кліентам, чымсьці з цэлым радам кліентаў дробных.

Выходзячы з гэтых, чыста практычных, меркаваньняў, заходняя палітыка аж да апошняга часу разьвівалася ў кірунку захаваньня вялікай Расеі, а таму ня толькі ня была яна зацікаўленая ў паддзержываньні незалежніцкіх рухаў нерасейскіх народаў, але наадварот, гэтыя рухі былі ёй не на руку, а таму й не знаходзілі яны на Захадзе ніякай сымпатыі. Ясна, што такая палітыка Захаду зрабіла сваё: яна на працягу доўгіх дзесяцігодзьдзяў сыстэматычна ўзьдзейвала на заходнія грамадзянствы й адпаведна фармавала іхную апінію аб нацыянальнай праблеме Ўсходу.

Але сяньня палажэньне дыямэтральна зьмянілася. Сяньня ані Нямеччына, ані Японія ня толькі Захаду загражаць ня могуць, але навет становяцца ягонымі саюзьнікамі. Затое сяньняшняя Расея ў форме Савецкага Саюзу, якая культывуе й да высокай ступені ўдасканальвае імпэрыялістычную палітыку царскае Расеі, сталася сьмяротнай загрозай для Захаду.

Наіўным ёсьць таксама пагляд, які яшчэ пакутуе ў многіх уплывовых заходніх сфэрах, што будучая “дэмакратычная” Расея, якая паўстане пасьля зьнішчэньня бальшавізму, вызбудзецца дасюлешніх імпэрыялістычных імкненьняў і станецца карысным сябрам у сям’і дэмакратычных дзяржаваў сьвету. Тыя, што гэтак думаюць, забываюцца, на жаль, што дынамічны імпэрыялізм, няўпыннае імкненьне да пашырэньня сваіх тэрыторыяў коштам іншых народаў, зьяўляецца неадлучнай рысай псыхалёгіі расейскага народу, якая зьяўляецца найважнейшым рухаючым маторам расейскае гісторыі ўжо ад XV стагодзьдзя. Гэтая рыса найяскравей сяньня выяўляецца ў савецкіх агрэсыўных плянах, з аднаго боку, і палітычнай плятформе даслоўна ўсіх расейскіх палітычных групаў на эміграцыі — з другога. Таму няма абсалютна ніякай гарантыі, што будучая Расея з драпежнага ваўка раптам станецца нявінным ягняткам, затое ёсьць шмат дадзеных на тое, што гэты драпежны воўк і надалей астанецца тым самым ваўком.

Захад яшчэ ня змог зразумець, што захаваньне ў будучыні вялікай і сільнай, хоць і не бальшавіцкай Расеі можа для яго быць больш небясьпечным, чымсьці адроджаныя нямецкі й японскі імпэрыялізмы, узятыя разам. Аб адраджэньні імпэрыялізму гэтых апошніх дзяржаваў да трэйцяй сусьветнай вайны ня можа быць і мовы, бо ў гэтым пэрыядзе часу абедзьве гэтыя дзяржавы будуць знаходзіцца пад непасрэднай кантроляй Захаду, у першую чаргу — ЗША. Але ў выпадку пераможнай новай сусьветнай вайны, як Нямеччына, гэтак і Японія, якія ў вайне такой прыймуць актыўны ўдзел, як раўнапраўныя партнэры, з-пад кантролі гэтай лёгка могуць выйсьці. А тады зусім праўдападобным можа быць зблякаваньне гэтых дзьвюх мілітарна сільных і індустрыяльна

разьвітых дзяржаваў зь вялікай Расеяй супраць Амэрыкі, што для апошняй стварыла-б новыя й вельмі небясьпечныя камплікацыі. Блёк-жа аднэй Нямеччыны зь Японіяй без Расеі для ЗША, якія вырасьлі сяньня ў вялізарную мілітарную й эканамічную магутнасьць і якія, бясспрэчна, гэтую магутнасьць і пасьля эвэнтуальнай новай вайны захаваюць, ня будзе страшным.

Такім чынам захаваньне вялікай Расеі ў ейных сяньняшніх межах можа ў будучыні якраз зьвіхнуць тую раўнавагу сілаў у сьвеце, да якой імкнецца Захад, затое ейны распадзел на нацыянальныя дзяржавы гэтую раўнавагу, бясспрэчна, захавае на карысьць Захаду й загарантуе доўгатрывалы мір у сьвеце.

***Магутная сіла ілжывай інфармацыі***

Другая, або названая намі нутраная, прычына неразуменьня Захадам усходняе праблемы выплывае з нацыянальнай палітыкі царскай Расеі, а так-жа зь ілжывай інфармацыі аб Усходзе расейскай эміграцыі.

Захад пазнаў запраўднае палажэньне й запраўдныя нацыянальныя асьпірацыі каляровых народаў у калёніях заходніх дзяржаваў дзякуючы таму, што гэтыя дзяржавы, абмяжоўваючыся толькі да палітычнага, а не нацыянальнага паняволеньня гэтых народаў і іхнай эканамічнай эксплëатацыі, ніколі не хаваў праўды аб гэтых народах. Наадварот, дзяржавы гэтыя, будучы незацікаўленымі ў нацыянальным паняволеньні каляніяльных народаў, а тым больш у іхнай асыміляцыі, якраз спрычыніліся да папулярызацыі найбольш аб'ектыўнай веды аб народах, засяляючых іхныя калёніі.

Зусім інакш прадстаўлялася справа ў царскай Расеі, якая, раўналежна зь няволяй палітычнай, сацыяльнай і эканамічнай, замацавала сыстэму жорсткага нявольніцтва нацыянальнага. Усе падбітыя ёю нерасейскія народы былі асуджаныя на поўную асыміляцыю, а таму нацыянальна-вызвольныя рухі да 1905 г. маглі там разьвівацца толькі падпольна. Найяскравейшым доказам русыфікатарскай палітыкі царскага рэжыму можа служыць факт, што да рэвалюцыі 1905 г. існавала суровая забарона беларускага друку.

Такім чынам у царскі пэрыяд толькі расейцы мелі магчымасьць інфармаваць сьвет аб Расеі, а народы нерасейскія, што станавілі бальшыню насельніцтва, усякага голасу былі пазбаўленыя. Інфармацыі-ж, даваныя расейцамі, былі, як правіла, хвальшывыя, груба тэндэнцыйныя. У іх звычайна прадстаўлялася, што Расея, нягледзячы на ейную этнічную шматскладовасьць, прадстаўляе сабою неразьдзельную цэласьць навет з гледзішча нацыянальнага, бо нерасейскія народы зьяўляюцца толькі паасобнымі плямёнамі й адгаліненьнямі вялікага расейскага народу, які, дарэчы, і ўтварыўся зь мешаніны розных этнічных групаў на славянска-расейскай базе.

***Аргумэнты расейскіх эмігрантаў***

Пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі ўва ўсіх краінах Захаду апынулася вялікая колькасьць расейскіх эмігрантаў, якія адыгрывалі й адыгрываюць сяньня ролю галоўных інфарматараў аб Расеі й нацыянальным у ёй пытаньні. Гэтыя эмігранты зьяўляюцца й да сяньня галоўнымі дараднікамі заходніх афіцыяльных і прыватных уплывовых інстытуцыяў, умела выкарыстоўваючы сваё становішча на карысьць расейскіх імпэрыялістычных інтарэсаў. І трэба прызнацца, што іхная роля ў хвальшаваньні запраўднага палажэньня на падсавецкай тэрыторыі вялізарная, бо Захад, трымаючыся традыцыйнага спосабу думаньня аб усходняй праблеме, ахвотна прыслухоўваецца да іхнага хвальшывага голасу.

На доказ канечнасьці захаваньня адзінай і непадзельнай Расеі звычайна высоўваюць расейскія эміграцыйныя палітыкі чатыры асnаўныя аргумэнты:

1. Яны стараюцца пераканаць Захад у тым, што на тэрыторыі Савецкага Саюзу нацыянальнае пытаньне зусім ня існуе, што нерасейскія народы ніякіх нацыянальных асьпірацыяў ня маюць і ніякай дзяржаўнай незалежнасьці й аддзяленьня ад Расеі не жадаюць, а імкнуцца толькі, як і расейцы, скінуць бальшавізм, дабіцца асабістай вольнасьці й сацыяльнай справядлівасьці. Яны ў дабавак цьвердзяць, што нацыянальная праблема ёсьць выдумкай толькі групкі сэпаратыстычна настроенай інтэлігенцыі, што нацыянальныя рухі былі штучна створаныя гэтай інтэлігенцыяй падчас апошняй вайны пры выдатным падтрыманьні нацыстаўскага акупацыйнага апарату й Розэнбэргаўскага ўсходняга міністэрства.

Ілжа такога цьверджаньня відавочная, калі ўзяць пад увагу спаміж многіх іншых толькі два наступныя факты: а) Амаль усе паняволеныя народы супольнымі высілкамі сваёй інтэлігенцыі й шырокіх, народных масаў аднавілі ў 1917—1918 гг. свае незалежныя дзяржавы, якія потым баранілі з аружжам у руках, аж пакуль ня былі пераможаныя перавагаю фізычнае сілы расейскага бальшавізму. б) Найбольш арыштаў, ссылак, расстрэлаў і адкрытых судовых працэсаў на тэрыторыі нацыянальных рэспублікаў адбывалася й адбываецца якраз за “*нацыянал-дэмакратызм*”, “*мясцовы нацыяналізм*”, “*нацыянал-фашызм*” і “*нацыянальную абмежаванасьць*”, а гэта найлепшы довад, што нацыянальная апазыцыя там вельмі моцная, якой ня ў сілах зьнішчыць дагэтуль бальшавікі, нягледзячы на ведамыя мэтады крывавага тэрору.

Што-ж датычыцца цьверджаньня, што нацыянальна-незалежніцкія рухі былі створаныя пры выдатным падтрыманьні нямецкага нацызму, дык у запраўднасьці справа прадстаўлялася наадварот. У тых акупаваных немцамі зонах, у якіх была заведзеная нямецкая цывільная адміністрацыя, немцы наагул ня мелі выразнай нацыянальнай палітыкі й ставіліся да нацыянальнай праблемы нерасейскіх народаў

вычэкваюча, церпячы, хоць і неахвотна, чыста культурную дзейнасьць, а катэгарычна забараняючы дзейнасьць палітычную. Затое на тых тэрыторыях, якія знаходзіліся пад ваенным упраўленьнем (на Беларусі на ўсход ад Барысава), немцы, акружаныя расейскімі дараднікамі — *“зондэрфюрэрамі”*, праводзілі выразна прарасейскую палітыку. Прыкладам, прэса для мясцовага насельніцтва выдавалася ваенным аддзелам прапаганды выключна ў расейскай мове (выдаваныя ў кажнай акрузе газэты — “Новый Путь” і інш.).

Таму цьвердзіць, што немцы стварылі незалежніцкія рухі нерасейскіх народаў у той час, калі ў запраўднасьці яны гэтыя рухі душылі, а прапагавалі расейшчыну, зьяўляецца нахабнай ілжой.

2. Другім аргумэнтам, якім хочуць расейцы застрашыць Захад, ёсьць цьверджаньне, што калі Захад стане на пазыцыях распадзелу Расеі, дык у будучай вайне будзе ён мець супраць сябе ўвесь расейскі народ.

Гэты аргумэнт зьяўляецца ня чым іншым, як палітычным шантажом, бо ня мае ён пад сабой ніякіх рэальных падставаў. Мы, знаючы расейскі народ, моцна сумняваемся, ці ён, будучы цэлымі стагодзьдзямі прызвычаены да нявольніцкага жыцьця, выступіў-бы наагул актыўна супраць бальшавізму, так як ні разу ня выступіў супраць яго ў шырэйшых маштабах дагэтуль, тады, калі на нерасейскіх тэрыторыях адбываецца ўвесь час бесьперапыннае змаганьне супраць бальшавізму, якое, у залежнасьці ад абставінаў, або выліваецца ў форму збройных партызанскіх войнаў, або абмежваецца да пасыўнага супраціву. Таму ёсьць усе падставы думаць, што на выпадак вайны, незалежна ад таго, зь якімі лёзунгамі будзе йсьці на ўсход заходняя армія, расейскі народ у найлепшым выпадку захаваецца пасыўна.

3. Трэйцім аргумэнтам, якім апэруюць расейскія эмігранты, ёсьць цьверджаньне, што ў той час, калі ў цэлым сьвеце што раз больш актуальным становіцца імкненьне да розных міждзяржаўных задзіночаньняў у форме вуніяў, блёкаў, фэдэрацыяў, зусім не мэтазгодным ёсьць усякае раздрабненьне, а таму й Расея павінна быць захаваная як непарушная цэласьць.

Гэты аргумэнт зьяўляецца ня менш слабым за папярэднія. Ніводзін з паняволеных народаў не зьяўляецца праціўнікам актуальнага сяньня ў сьвеце міждзяржаўнага задзіночаньня. Але кожны зь іх жадае ў такую задзіночаную канстэляцыю дзяржаваў увайсьці вольным і стацца ў ёй раўнапраўным партнэрам, разумеючы, што ня можа быць ніякага задзіночаньня, ніякай уніі ці фэдэрацыі між нявольнікам і панявольваючым, між вязьнем і турэмным вартаўніком.

4. Распадзел расейскае імпэрыі на нацыянальныя дзяржавы прывёў-бы — як цьвердзяць расейцы — да балканізацыі эўрапэйскага Ўсходу й падсавецкай Азыі, што ў далейшую чаргу магло-б толькі выклікаць бесьперапынныя споры, а навет міжусобныя войны.

Гэты аргумэнт спаміж усіх, вышэй прыведзеных, зьяўляецца бадай што найслабейшым. Калі-б, прыкладам, і заіснавалі некаторыя споры між паасобнымі дзяржавамі паняволеных сяньня народаў, то ў сваёй шкоднасьці для сусьветнай бясьпечнасьці не маглі-б яны быць настолькі грознымі й небясьпечнымі, як споры, змаганьня й навет збройныя паўстаньні паняволеных народаў супраць Масквы, якія, у выпадку захаваньня турмы народаў, напэўна будуць мець месца.

Нягледзячы на тое, што ўсе гэтыя аргумэнты зьяўляюцца ў істоце сваёй нясур’ёзнымі й іхны хвальш відавочны, усё-ж такі яны маюць яшчэ значны ўплыў на заходнюю мэнтальнасьць, прызвычаеную да закасьцянелага ў сваіх формах традыцыйнага спосабу думаньня.

***Лёд памалу праломліваецца***

У апошнія гады на Захадзе пачалася, аднак, павольная, але грунтоўная рэвізыя паглядаў на ўсходнюю праблему. Сярод многіх заходніх людзей, што пачалі вызваляцца ад агульна прынятага шаблёну думаньня й разумець нацыянальнае пытаньне падсавецкага ўсходу так, якім яно ёсьць у запраўднасьці, знаходзяцца ўжо ўплывовыя палітыкі й дзяржаўныя мужы, якія ня толькі ўважаюць за патрэбнае разьвязаньне нацыянальнага пытаньня Ўсходу ў духу нашых імкненьняў, але становяцца навет запраўднымі піянэрамі папулярызацыі на Захадзе нашых ідэяў і шчырымі абароньнікамі нашых нацыянальных інтарэсаў.

Да такіх людзей у Ангельшчыне належаць у першую чаргу старшыня Шкоцкай Лігі за Свабоду Эўропы Дж. Ф. Стуарт[5] і выдатны вайсковец і ўплывовы публіцыст генэрал-маёр Дж. Ф. С. Фулер[6]. Штораз болей такіх людзей паяўляецца і ў ЗША. Апрача былога рэспубліканскага кандыдата на прэзыдэнта сэнатара Г. Стасэна[7], да гэтай трупы людзей

[5] **Джон Сьцюарт** (анг. *John F. Stewart*), брытанскі грамадзкі дзеяч, старшыня Шатляндзкай лігі за эўрапейскую свабоду, прыхільнік канцэпцыі падтрымкі незалежнасьці паняволеных СССР народаў. У 1952 г. ён скіраваў у Ватыкан пратэст супраць “Апостальскага ліста да ўсіх народаў Расеі” папы Пія XII. У 1953 г. быў аўтарам уводзінаў да кнігі *“National Problems in the U.S.S.R.”* украінца Міколы Куліцкага.

[6] **Джон Фрэдэрык Чарльз Фулер** (анг. *John Frederick Charles Fuller,* 1878—1966), брытанскі генэрал, вайсковы гісторык і тэарэтык, пазьнейшы аўтар трохтомнай “Ваеннай гісторыі Заходняга сьвету” (*The Decisive Battles of the Western World and their Influence upon History. London, 1954—1956*). У 1953 г. ён быў аўтарам прадмовы да выданьня Шатляндзкай лігі за эўрапейскую свабоду *“National Problems in the U.S.S.R.”* Міколы Куліцкага.

[7] **Гаральд Эдвард Стасэн** (анг. *Harold Edward Stassen,* 1907—2001), амэрыканскі палітык, рэспубліканец, быў кандыдатам на пасаду Прэзыдэнта ЗША ў 1948 г. Губэрнатар штату Мінесота ў 1939—1943 гг.

належаць яшчэ сэнатар О'Конор[8], сэнатар Смітс[9], кангрэсмэны Кэрстэн[10], Смэтэрс[11], Борыс[12], Армстронг[13] і іншыя.

Гэтыя людзі дамагаюцца распадзелу расейскае імпэрыі на нацыянальныя дзяржавы паняволеных народаў ня толькі ў імя дэмакратычных ідэяў, але й дзеля таго, што гэта зьяўляецца гістарычнай канечнасьцю й ляжыць у інтарэсах Захаду, што гэта адзіны спосаб перамогі над бальшавізмам і ўстанаўленьня трывалага міру ў сьвеце.

Трэба верыць, што на гэткі шлях раней ці пазьней будзе змушаная ўзыйсьці й афіцыяльная палітыка заходніх дзяржаваў, бо гэтага вымагаюць палітычныя інтарэсы самога-ж Захаду.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

---

[8] **Гербэрт О'Конар** (анг. *Herbert O`Conor*, 1896—1960), амэрыканскі палітык, сэнатар-дэмакрат у Кангрэсе ЗША ад Мэрылэнду ў 1947—1953 гг. У газэце "Бацькаўшчына" ён згадваўся як адзін з тых сэнатараў, што выступаў у падтрымку нацыянальных памкненьняў паняволеных СССР народаў (гл.: Каранеўскі, Язэп. Лёд памалу праломваецца // Бацькаўшчына. № 4 (83). 27.01.1952).

[9] **Лорэнс Сьміт** (анг. *Lawrence Henry Smith*, 1892—1958), амэрыканскі палітык, кангрэсмэн-рэспубліканец зь Вісконсіну, аўтар праекту па ўстанаўленьні дыпляматычных дачыненьняў ЗША з БССР і УССР і адкрыцьці амэрыканскіх амбасадаў адпаведна ў Менску й Кіеве, каб спрыяць вызваленьню беларускага і ўкраінскага народаў ад маскоўскай залежнасьці.

[10] **Чарльз Керстан** (анг. *Charles Joseph Kersten*, 1902—1972), амэрыканскі палітык, кангрэсмэн-рэспубліканец. У 1951 г. ён унёс у Палату прадстаўнікоў Кангрэсу рэзалюцыю, якая прадугледжвала палітычную й матэрыяльную дапамогу для паняволеных СССР народаў у іх змаганьні за незалежнасьць. Потым узначальваў кангрэсавую Камісію па справах бальшавіцкага тэрору ў дачыненьні да "нярускіх" народаў.

[11] **Джордж Армістэд Смэтэрс** (анг. *George Armistead Smathers,* 1913—2007), амэрыканскі палітык, кангрэсмэн-дэмакрат ад Флярыды ў 1951—1969 гг.

[12] Відаць, маецца на ўвазе **Джон Марцін Ворыс** (анг. *John Martin Vorys,* 1896—1968), амэрыканскі палітык, кангрэсмэн-рэспубліканец ад штату Агаё ў 1939—1959 гг.

[13] **Арланда Кэй Армстронг** (анг. *Orlando Kay Armstrong*, 1893—1987), амэрыканскі палітык, кангрэсмэн-рэспубліканец ад Місуры ў 1951—1953 гг.

*Будучая кніга*

*Пётра Сыч*

# ТВОРЫ З ЧАСОПІСУ “ШАРСЬЦЕНЬ”




*Эміграцыйная гумарыстычна-сатырычныя пэрыёдыка была выразна партыйнаю: ці БНРаўскага кірунку, ці БЦРаўскага. І яшчэ быў “Шарсьцень”. Ягоны заснавальнік і рэдактар Пётра Сыч зьяўляўся сталым аўтарам газэты “Бацькаўшчына” й супрацоўнікам Радыё “Вызваленьне / Свабода”, а таму ягоныя палітычныя сымпатыі быццам не выклікалі пытаньняў. Тым ня менш у творах, падпісаных* ***пс****, на старонках “незалежнага месячніка гумару і сатыры” даставалася абодвум бакам. Гэта нібы талеравалася бокам БНРаўскім, бо Пётра Сыч быў важным працаўнікам у беларускім Мюнхене, але асаблівага захапленьня ў “дзеячаў”, “пісакаў”, па тэрміналёгіі паэта, не выклікала.*

*Тут друкуюцца толькі асобныя зь вершаў, што адбіваюць непрывабны, але праўдзівы бок гісторыі беларускай эміграцыі і, на жаль, як любы добры сатырычны твор, шмат у чым актуальныя й сёньня.*

## Горкія словы

*І цяпер над намі, брацьця,*
*Яшчэ ў сіле той раздор:*
*І папоўскае закляцьце,*
*І ксяндзоўскі нагавор.*

Якуб Колас

*Я думаў: горкіх слоў паэты*
*Да сяньня нельга нам прышыць,*
*Што зьмест іх сумны на дне Леты,*
*Што мы ў чужыя берагі*

*Ня ўзялі у дарожны клумак,*
*Ня вынесьлі за наш парог,*
*Што еднасьць мэтай нашых думак —*
*Як адна Беларусь і Бог.*
*А што-ж я бачу? Ашукаўся*
*У тым, што марыў я і сьніў:*
*Бо ў нас і сяньня адазваўся*
*Водгук даўнейшай калатні.*
*Зноў чую даўныя раздоры:*
*Царква, касьцёл, Масква і Рым...*
*Ці-ж мы няшчасны дар Пандоры*
*Ня можам выкінуць зусім?..*
*Чаму згадзіцца мы ня можам*
*Ў бядзе-журдзе зямлі чужой,*
*Жагнаючыся знакам Божым*
*Тройцай ці цэлай пацярнёй,*
*Калі адна ў нас усіх мэта,*
*А да тэй мэты адзін шлях?*
*Дык горкія словы паэты*
*Будзяць і сяньня ў сэрцы жах...*

## Навагодні

*Сум па табе мне, Краіна далёкая,*
*Там дудар твой старэнькі — Музыка Сымон,*
*На скрыпачках Сталіну гымны пілёкае:*
*Не на веча ён кліча — на ганебны прыгон...*
*А мы — на свабодзе тут сыты, бясьпечны,*
*Вядзём рэлігійную ўсьцяж каніцель,*
*Пагана гучыць перабрэх бесканечны*
*За нейкі пасад, за урад, за партфэль.*
*Год году на зьмену ідзе і праходзе.*
*І ўсё-ж ня бліжэй наш родны парог.*
*Там вораг дадушвае сілы ў народзе,*
*А тут ядам труціць парыў дэмагог.*
*Таму мне там сумна і вока імгліцца...*
*А гэтыя словы я з болям пішу,*
*Таму, што мне роднай бярозкі сястрыца*
*Сяньня ў парку наплакала сьлёз у душу.*

*1.1.1953, Мюнхэн*

## “Дзеячы”

*Што другі ў нас катон-аматар,*
*На стражы межаў і ідэй,*
*Патрыятычны дэкляматар,*
*Але з учынкамі — слабей.*
*Ён кліча, каб ня траціць веру,*
*Адчыніць сэрца і кішэнь;*
*На сэсіі ён Бэнээру*
*Запоры робіць цэлы дзень.*
*З парывам падкага каханьня,*
*Нутро яму якое рвець,*
*У ўгодкі Слуцкага паўстаньня*
*З падгулам крыкне: “хай жыве!”*
*Пасьля аж да другіх угодкаў —*
*Нагоды ў ход пусьціць язык*
*Дзеяч наш сьпіць і сьніць салодка,*
*Што ён — змагар-перадавік.*

## Пісакі

*Страшэнна бедны наш Парнас:*
*Проза калосіцца убога,*
*Паэтаў недахоп у нас,*
*Але пісакаў — ой, за многа!*
*Хто ён, адкуль, што ўмее ён? —*
*Ах, ня пытай! — Адвернеш нос!*
*Сяньня ён Цынцынат, Катон,*
*Трыбун, прарок — чуць ня Хрыстос...*
*І піша...*
*Хай-бы ўжо пісаў*
*Оды, санэты, мадрыгалы —*
*Ды дзе! Яго чорт падцкаваў*
*Пладзіць адозвы, мэмарыялы:*
*Хтось маніфэст, а то й дэкрэт*
*Махне й паложа подпіс свой —*
*Заве народ ды вучыць сьвет,*
*А сам чытаць — ні ў зуб нагой.*
*Глядзіш на гэты нэндзны фокус:*
*Ні сэнсу там няма, ні стылю.*
*“Варт Пан палаца” — дык і “opus” —*
*Пробка заўгольнага пашквілю.*

II

*Ім Сталін — драбніца, а ноль Палітбюро:*
*Хай думае Рыджвэй[1], як даць там у скуру.*
*З Польшчай праблемы ім сну ня трывожаць:*
*Ёсьць страхі на Ляхаў — іх немцы разложаць.*
*Літва хоча Вільні, Украіна — Пінска —*
*Ня важна! Паглядзім, як дойдзем да Менска!*
*Расейцы прыціснуць нас хочаць апекай —*
*Ім горшая спаць не дае небясьпека,*
*Чым польскае панства ці ханат маскоўскі:*
*Астроўскі, Абрамчык — Абрамчык, Астроўскі!*
*Тут пуп усясьвету, праблемы ўсіх спраў:*
*Чаму й як Мікола, калі Радаслаў?*
*Чаму Радаслаў, калі толькі Мікола?*
*І так бяз упынку, і так навакола.*
*Хтось лупіць сарочку і робіць гармідар:*
*“Чаму той япіскап, а я — толькі лідар?”*
*І вось сем гадоў, на бяду і няславу,*
*Паскудзяць нам “лідары” чыстую справу.*
*Як адзін не запопчыць — другі дапітушыць —*
*Хоць вынось абразы, затыкай вочы й вушы.*

***

*Мэдалі, мэдалі, мэдалі! —*
*Былі і... нічога ня далі.*
*Авансы, авансы, авансы, —*
*Цяпер мо’ папpавяцца шансы...*
*Да згоды! Да згоды! Да згоды! –*
*Сачыць “патрыёт” з-пад калоды.*
*А клёку? А клёку?.. а клёку? —*
*Сатырык пытаецца збоку.*

[1] **Мэцью Банкер Рыджвэй** (анг. *Matthew Bunker Ridgway,* 1895—1993), генэрал арміі ЗША, быў камандуючым войскамі ААН у часе Карэйскай вайны.

## Ave…

*Кланяйся, Эўропа, з Бафам[2] на чале!*

Кон нам аб’яўляеньне на падмогу шле:
Разьвяжа праблемы (ня будзь, брат, Тамаш)
Наш эвангэлісты — Калюга Лукаш[3]!

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*

---

[2] **БАФ**, **Беларускі антыбальшавіцкі фронт** — арганізацыя, створаная на пачатку 1950-х гг. у Нямеччыне пад кіраўніцтвам Янкі Жыткі для вядзеньня перамоваў з расейскімі й іншымі нацыянальнымі арганізацыямі дзеля стварэньня агульнага антыкамуністычнага руху.

[3] **Лукаш Калюга** (сапр. **Канстанцін Вашына**, 1909—1937), празаік, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. У 1954 г. у Мюнхене ўбачыла сьвет ягоная кніга: Калюга, Лукаш. Нядоля Заблоцкіх: Аповесьць. Мюнхэн: выдавецтва “Бацькаўшчына”, 1954. — 127 с.

***Вітаўт Кіпель***
*Haworth*

# ДЛЯ БУДУЧЫХ ДАСЬЛЕДНІКАЎ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРУ

## Зацемкі на маргінэсе кнігі “Беларускі прэм’ер” (Мінск, 2018)

Перад намі ўважліва апрацаваная, багата ілюстраваная кніга аб значным культурна-грамадзкім дзеячы, першым дырэктары БДТ-1, пачынальніку беларусізацыі тэатру, актораў і рэпэртуару Вячаславу Селяху, дзеячы, рэдка ўспамінаным у Беларусі. Аўтар кнігі — унучаты родзіч героя Сяргей Селях — прарабіў немалую працу, зьбіраючы фотаздымкі, газэтныя выразкі, успаміны аб важным, але афіцыйна прызабытым дзядулю. Выдатны, удзячнасьці варты й заслужаны пачын.

Аднак, як выглядае, сп. Сяргей Селях канцэнтраваў пры стварэньні кнігі ўвагу на тэатральна-сьпеўных аспэктах дзейнасьці Вячаслава Селяха, пакідаючы амаль некранутай дзейнасьць у галіне адукацыйнай, літаратурнай, грамадзкай. Прыпушчальна, што гэтая кніга — першы сшытак у “адкопваньні”, вывучэньні шыракаграннай дзейнасьці “Беларускага Прэм’ера” ды што ў будучыні зьявяцца дадатковыя працыкнігі аб Вячаславе Селяху. Дзеля гэтага, прабыўшы-пражыўшы ладны пэрыяд у блізасьці з сп. Селяхам, аўтар гэтых зацемак хоча занатаваць пару эпізодаў з жыцьця-дзейнасьці выбітнага нацыянальна-культурнага дзеяча.

Эпізод першы. Год 1944, вясна, горад Менск пад нямецкай акупацыяй. Рэальнасьць такая: цэнтар гораду спалены, навокал гурбы ламачча, парослыя лебядой і лапухамі. Аднак адчуваюцца й беларускія парадкі: надпісы вуліцаў “сьвежанькія”, гандлююць крамкі, дзейны транспарт, адчыняюцца ўстановы, школы і, вядомая справа, тэатар і кіно. Адчуваю дваякае: сьляды вайны відавочныя, але й жыцьцё не замірае! Узбуджальным прыпамінам аб жыцьці — на скрыжаваньнях вялікіх вуліц, на базарах, каля вакзалу ў Александроўскім парку вытыкаюцца “пузатыя”, досыць высакаватыя сьвежапафарбаваныя тумбы з рознага тыпу колераў, памераў абвесткамі ўлучна з густоўнымі вялікімі афішамі-рэклямамі аб тэатральных спэктаклях у горадзе. Былі гэтыя тумбы нечым вясёлыя, жыцьцёвыя!

У сакавіку — красавіку зьявіліся на іх, на сьценах некаторых будынкаў, вакзале, Камароўскім і Суражскім рынках афішы з паведам-

леньнем, што ў траўні — падавалася дакладная дата — адбудзецца прэм’ера новай п’есы “Загубленае жыцьцё” аўтарства беларускага пісьменьніка Тодара Лебяды пад кіраўніцтвам Вячаслава Селяха.




Пачаўся, як мне здалося, продаж білетаў, бо перад вакенцам пры ўваходзе ў тэатар заўсёды ў паабедзенны час бывалі чэргі, а я каля тэатру праходзіў штодня: жыў на Берасьцянскай калі Вайсковых могілкаў, а ў гімназію трэба было хадзіць на Нямігу (я быў вучнем). Ведаю, што набылі білеты й дзясяткі маіх сяброў са школы, у СБМ, вялі гутаркі аб білетах і бацькі. Я-ж набыў сабе білет на галёрку амаль у першы дзень продажу.

У акрэсьлены дзень, дзень будзённы, у азначаны час іду ў тэатар. Галёрка напоўненая, як і бальконы, а ў партэры відаць падстаўленыя крэслы ў праходах, пры выхадах.

У адпаведны час, здаецца, што ў 6:30, раз-два пагасла папярэджальнае сьвятло, заля ўсаджваецца, заціхае. Вельмі памалу паднімаецца занавес, а за ім “чарапашым крокам” апушчаецца дэкарацыя — вялізарны контур чырвонай зоркі на фоне танюсенькага бліскучага павуціньня, аплятаўшага ўсю сцэну, асьветленага слабым ружова-крывавым ліхтаром. Адразу ствараецца ўражаньне: прастора, скаваная павуціньнем пад чырвонай зоркай, — уражаньне моцнае, незабыўнае.

Заля рэагуе гукам “у-у-у-у” ды громам аплядысмэнтаў, нараджаючы вібрацыю-калыханьне паветра, якое рухае й зорку, і павуціньне. Эфэкт запамінальны! І раптам сьвятло слабее й застаецца толькі сылуэт зоркі й прабліскі павуціньня. Заля заціхае да “мёртвай цішыні”, п’еса пачынаецца пад ледзь чутныя гукі “Інтэрнацыяналу”.

Фабула п’есы такая: жыцьцё народу, сялянства пры Саветах, арганізацыя калгасаў, дачыненьні «народ — партыя — актывісты». Зьмест п’есы блізкі й знаёмы гледачу: дзясятак гадоў таму такое было ў запраўднасьці. Народ перажываў, выкручваўся, выжываў, цярпеў, а цяпер бачыў, прыпамінаў са сцэны. Кожнае слоўца “народу”, рэплікі “ўлады” прадуманыя, абаснаваныя й аўтарам, і рэжысорам.

У інтэрвалах публіка ўзнагароджвае пастаноўшчыкаў, актораў авацыямі, а галоўны герой Вінцэсь Паскудны (артыст Залівака?) імгненна становіцца “любімцам” ды пазьней выціскае ў размовах зь

беларускага ўжытку гогалеўскіх ды іншых бюракратаў, гэтак ведамых з расейскай літаратуры.

П’еса — фурор у ваенным Менску, а затым і сярод тысячаў у Ды-Пілягерох, дзе яна ставілася.

Разважаючы аб тым спэктаклі, п’есе “Загубленае жыцьцё”, я сам для сябе пераканаўся, што й аўтар, і рэжысёр, і артысты ўклалі ў п’есу душу — свае перажываньні, свае біяграфіі, сваё веданьне й беларускай глыбінкі, і савецкае рэчаіснасьці-сыстэмы, і мэнтальнасьці народу, а беларускі глядач гэта зразумеў і ацаніў.

Эпізод другі. Праз тыдзень-два пасьля прэм’еры “Загубленага жыцьця” на рэклямнай табліцы перад тэатрам вызначалася трохкаляровая невялікая афіша з тэкстам, што ў такой даце адбудзецца прэм’ера-канцэрт эстраднага ансамблю РОНА (*Русская освободительная народная армия*) і падавалася скарочаная праграма. Рэкляма была ўкладзеная хітравата, можна было прыпушчаць, што на канцэрце будуць і беларускія “кавалкі”.

Я, як і ладне публікі, на канцэрт пайшоў. Праўда, гэтым разам тэатральная заля ня была запоўненая, як папярэдне на “Загубленым жыцьці”, але людзі былі.

Канцэрт пачаўся расейскай лірычна-патрыятычнай песьняй, нешта зьвязанае з “русской землёй” (цьмяна прыпамінаю), і адразу-ж з залі пачуліся дзясяткі ўзголасаў *«хопіць “рабінушкаў”, давай беларускае»*. Аднак і наступныя нумары былі з расейскага фальклёру, праграма не мянялася, а перайшла ў бульварную эстраду накшталт *“Пинжак утиль, особый стиль — носки зелёные и туфли голубые”... “а он в ширпотребе никогда не одевался”* й г. д.

Публіка ў залі ўжо крычыць: *“Давай беларускае, сыходзь са сцэны”*. Ніхто з арганізатараў увагі не зьвяртае, праграма сунецца.

І вось з-за кулісаў у чырвонай касаваротцы, ківаючыся, у шапцы *“набекрень”* выходзіць “трактарыст”, напяваючы: *“А ты, Семеновна, да беларуская, а сама толстая, а юбка узкая”*.

І тут, о, Божа, аўдыторыя ўзраўла, засьвісьцела, загрукала. Узьняўся сапраўдны гул, чутно было, што нехта стукае — стараецца зламаць крэсла, каб мець дубіну, нехта нечым кідае на сцэну, і зьліваюцца ў адзін “прамень” галасы-роў: *“Вон са сцэны! Вон зь Менску! Вон! Вон!”* Гарманіст уцякае за кулісы, мігціць сьвятло, а гул узрастае!

На сцэну выходзіць нехта з кіраўнікоў і пачынае гаварыць нешта па-расейску. Яго заглушае роў-сьвіст: *“Вон! Вон!”*. Расейскамоўнага падмяняе беларус, шукае прымірэньня. І яго праганяюць. Нарэшце выходзіць “вялікая шышка” кіраўніцтва тэатру й, склаўшы рукі, як рупар, крычыць: *“Выступ РОНА, як сягоняшні, так і наступныя, анулююцца”*. Публіка пачынае заціхаць, хоць сьвістуны сьвішчаць, пачынае слухаць і выбухае крыкам: *“Ура! РОНА — вон зь Менску!”*

Публіка паступова вызваляе тэатар. Відавочна, у гэтым выпадку беларусы адстаялі свой гонар, дамагліся спыненьня расейскай эстрады, але Менск доўга яшчэ пра падзею гаварыў.

Да фіналу-эпізоду дадам. Калі празь некалькі гадоў, у новых абставінах, гутарачы з сп. Вячаславам Селяхам у Міхельсдорфе, я пацікавіўся пра той інцыдэнт, ён мне адказаў так: *"Я прадбачыў, што такое можа стацца, нельга ў беларускі тэатар — сымбаль культуры, нацыянальнай годнасьці — пушчаць выпадковую, чужую групу, і як дырэктар я адмаўляў шмат каму. Але тым разам і нада мной задзейнічала вышэйшае начальства: БЦР, вайсковыя структуры. Мне было загадана РОНА на сцэну пусьціць. У адміністрацыі такія выпадкі бываюць. На шчасьце, Вы і іншыя памятаюць, які з гэтага эпізоду быў тэатральны фінал. Малайцы, беларуская публіка, што пастаялі за беларускасьць, сказалі сваё беларускае слова"*. Гэтак закончыў нашую гутарку сп. Вячаслаў Селях.

Эпізод трэці. Рэчаіснасьць такая: Вячаслаў Селях быў дзейны і ў беларускім палітычным жыцьці. Беларусізацыя — гэта й была "беларуская палітыка".

У гадох 1930-х дзеля пагрозы быць арыштаваным і высланым, як соткі ягоных паплечнікаў-аднадумцаў, Вячаслаў Селях уцякае зь Беларусі й цэлае дзесяцігодзьдзе "блытаецца" па *"неаб'ятнай"* Расеі. Магчымасьць вярнуцца на Бацькаўшчыну зьявілася толькі ў 1943 г. Тады ж, апрача асноўнай працы — загадчыка беларускага тэатру ў Менску, Вячаслаў Селях дзейны ў колах адміністрацыі (пазьней БЦР), Беларускім культурным згуртаваньні, выступаў у друку.

Па нейкім часе Вячаслаў Селях, як выглядае, разышоўся ў палітычных поглядах з Радаславам Астроўскім, Прэзыдэнтам БЦР, і далучыўся да групы беларусаў, якія дзеілі ва ўласаўскім руху.

Дарэчы, гэты крок — далучэньне да руху гэнэрала Андрэя Уласава — беларускай эміграцыяй быў гостра асуджаны. Але ўласаўшчына арганізоўвалася, а на чале яе стаяў КОНР — *Комитет освобождения народов Росии*, у якім было й беларускае кіраўніцтва.

У красавіку 1945 г., гуртуючыся ў паўднёвай Нямеччыне непадалёк ад Бодэнскага возера, прадстаўнікі КОНРу склікаюць у мястэчку Існы публічны сход (у тым раёне наогул было вельмі шмат гэтак званых остарбайтараў — работнікаў з Усходу: украінцы, беларусы, рускія, грузіны, казакі кубанскія, уральскія, данскія й інш.), каб паінфармаваць тых людзей, што зь імі можа быць, калі яны трапяць у акупацыю саюзьнікаў, даць ім парады. На сходзе, які адбываўся ў фізкультурнай залі школы мястэчка Існы, было ладна людзей, парадку 50—100 асобаў. Вядучы сходу, лідар з КОНРу (прозьвішча не прыпамінаецца), акрэсьліўшы агульную сытуацыю ўласаўшчыны, няпрыгожа, абразьліва выказаўся аб беларусах.

У тым часе з прэсы было вядома, што Прэзыдэнт Астроўскі, БЦР былі найбольшыя апанэнты ўласаўшчыны, ды іх, Астроўскага, падтрымлівала Ўсходняе міністэрства райху. Сымпатыі нацыянальных групаў, вайсковых адзінак былі на баку Астроўскага. Расейцаў, уласаўшчыну гэта злавала, і тым тлумачыцца, што дзеяч КОНРу, расеец, абразіў беларусаў на публічным сходзе.

І што ж адбылося далей? А далей — аўтар гэтай зацемкі на тым сходзе прысутнічаў і далейшыя дзеяньні назіраў! Я бачу — з крэсла ў першых радох паднімаецца Вячаслаў Селях, спакойна ідзе да вядучага і... зь вялікім размахам кулаком дае яму ў морду!!! Заля замірае. Вячаслаў Селях голасна заяўляе: *"Гэта за абразу народу"* й ідзе назад на сваё месца.

Публіка заёрзала, нехта падбег да вядучага глядзець, ці ў яго цэлыя зубы, пачалася суматоха, сход практычна закончыўся, а Вячаслаў Селях спакойна выйшаў з залі.

Пазьней аб гэтым здарэньні гаварылася: расейцы абураліся, а "нацыянальнасьці" хвалілі, салідарызаваліся зь беларусамі ды частавата голасна й публічна віталі Вячаслава Селяха!

Эпізод чацьвёрты. Вячаслаў Селях перабраўся ў беларускі лягер *DP* Міхельсдорф увосень 1947 году. Адразу ж ён арганізаваў тэатральную студыю, затым хор і пачаў сэрыю выступаў перад living рознымі аўдыторыямі. Дадам і такую дэталь: Вячаслаў Селях, працуючы з хорам, праз недахоп песьняў з рэпэртуарам меў праблемы. Але сустрэўшыся ў лягеры з Марыяй Кіпель (дзявочае Зубкоўская), якую ён ведаў зь Менску і ведаў, што яна сьпявала ў хоры Тэраўскага, папрасіў яе напяяць песьні, што сьпявала тады. Што й было зроблена.

Больш таго, Селях запісаў для *YMCA* амаль увесь рэпэртуар свайго хору на тасьмы — яны недзе захоўваюцца!

Перад Новым, 1948 годам Вячаслаў Селях абвесьціў, што пачынае падрыхтоўку пастаноўкі п'есы "Загубленае жыцьцё". І п'еса была пастаўленая ў Міхельсдорфе ў красавіку 1948 году, а далей адбыліся пастаноўкі ў беларускім *DP*-лягеры Віндышбэргердорф, у Аўгсбургу, Шляйсгайме, і пазьней п'еса прывандравала ў ЗША.

Такая дэталь: у канцы 1940-х гадоў аб беларускай п'есе "Загубленае жыцьцё" й артысту-пастаноўшчыку Вячаславу Селяху пісала шмат газэтаў *DP*, друкі *IRO* ды гаварылі-славілі беларускі эмігранцкі тэатар сотні тысячаў імігрантаў — былых жыхароў савецкай імпэрыі, якія выяжджалі ў Амэрыку.

Бясспрэчна, жывучы й працуючы па-за Беларусьсю, сп. Вячаслаў Селях зрабіў гіганцкі ўнёсак у папулярызацыю Беларусі й гісторыю беларускага тэатральнага мастацтва.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ



Вячаслаў Селях-Качанскі

*Селях, Сяргей. Беларускі прэм'ер: Вячаслаў Антонавіч Селях (1885—1976). Мінск, 2018.*

Біяграфія, выдадзеная асобнаю кнігаю, — даволі рэдкая зьява на беларускіх кніжных паліцах, а прысьвечаная дзеячу эміграцыі — тым болей. Але вось маем і такую — "Беларускі прэм'ер: Вячаслаў Антонавіч Селях (1885—1976)" (Мінск, 2018), напісана ягоным сваяком Сяргеем Селяхам.

Аўтар назьбіраў багата матэрыялу, як фактычнага, гэтак і ілюстрацыйнага, і сапраўды вярнуў некалі славутага сьпевака, актора, рэжысора ў кантэкст айчыннае культуры, хоць і з заўважным ухілам у ягонае даваеннае жыцьцё.

Разам з тым, дзякуючы Сяргею Селяху за ягоную працу, нельга не заўважыць, што ў кнізе не было рэдактара, і гэта адбілася ня толькі на самім тэксьце, але й на адсутнасьці гэткіх "спадарожніках" добрае навукова-папулярнае кнігі, як бібліяграфія, іменны паказьнік, больш разгорнутыя — ня толькі біяграфічныя — камэнтары.

Кніга была выдадзеная накладам у 100 асобнікаў, што падаецца недастатковым нават пры нашых сёньняшніх беларускіх рэаліях. Хочацца верыць, што аўтар, здабыўшы рэдактара, абавязкова захоча перавыдаць кнігу, дапоўніўшы яе і ўдасканаліўшы.

Думаецца, што добрым разьдзелам у такой кнізе быў бы таксама збор артыкулаў, апублікаваных Вячаславам Селяхам-Качанскім на эміграцыі (ня толькі ў беларускамоўнай прэсе, але і ў расейскамоўнай газэце *"Новое Русское Слово"*), і лісты — усё гэта разам дало б лепшае разуменьне й асобы самога сьпевака, і ўмоваў, у якіх ён жыў і дзеіў, і людзей вакол яго.

Жадаючы паспрыяць паляпшэньню кнігі й зьяўленьню другога выданьня, рэдакцыя "Запісаў БІНіМ" прапануе наступныя тры тэксты ў такі разьдзел.

## Як быў здабыты Беларускі Народны танец “Крыжачок”

### З успамінаў былога Дырэктара Беларускага 1-га Дзяржтэатру Вяч[аслава] Селяха-Качанскага[1]

Як толькі я прыехаў у Менск, пакінуўшы былы Марыінскі тэатр у Ленінградзе, увосені 1924-га году, то адразу быў запрошаны былым Дырэктарам Інстытуту Бел[арускай] Культуры (Інбелкульт) — Гасп. Ігнатоўскім[2] ачоліць у Інстытуце Музычную сэкцыю.

Прыступіўшы да працы, я зрабіў некалькі нарад з асобамі, якія мелі тое ці іншае дачыненьне да Беларускага мастацтва. Удзел у гэнае нарадзе даволі актыўна ўзялі гасп. гасп. нябошчыкі сьв[етлай] п[амяці] Антон Грыневіч[3], ведамы ўжо тады зьбіральнік Беларускіх мэлёдый і музыкі і фальклёрных народных песьняў, Тэраўскі[4], кіраўнік ім-жа зарганізаванага хору, піяністы Ягораў, кампазытары Аладаў[5] і Шнітман[6]. Абодва апошнія былі ўжо запрошаныя выкладчыкамі тэорыі музыкі і тэорыі кампазыцыі ў новы, толькі што адчынены Музычны тэхнікум. На гэтых нарадах было вырашана, што Музычная сэкцыя павінна складацца з 2-х камісій — Камісіі па зьбіраньні й вывучэньні народнай песьні і музыкі і Камісіі па вывучэньні Беларускага народнага танцу. У зьвязку з гэтым на кіраўніка камісіі песьні мной быў запрошаны кампазытар-этнограф Прохараў[7] і на кіраўніка камісіі танцу — балетмайстар г. Шчарбінін, нядаўна запрошаны з Кіеву ў Бел[арускі] 1-ы Дзярж[аўны] Тэатр. Ён быў ужо ведамы як знаўца танцавальных

---

[1] Артыкул быў надрукаваны ў часопісе “Беларуская моладзь” (№ 23. 1965. С. 10—11). Тут публікуецца паводле рукапісу, перададзенага Вітаўтам Кіпелем у БДАМЛМ, дзе й захоўваецца цяпер.

[2] Маецца на ўвазе Ўсевалад Ігнатоўскі.

[3] **Антон Грыневіч** (1877—1937), грамадзка-культурны дзеяч, зьбіральнік беларускага фальклёру.

[4] **Уладзімер Тэраўскі** (1871—1938), кампазытар, дырыжор. У 1920-я гг. (зь перапынкамі) працаваў галоўным хормайстарам БДТ-1, кіраваў харавымі калектывамі пры БДУ, Менскім пэдтэхнікуме, прафсаюзе паштавікоўтэлеграфістаў.

[5] **Мікалай Аладаў** (1890—1972), кампазытар, пэдагог, народны артыст БССР.

[6] **Товій (Тэўе) Шнітман** (1879—1942), кампазытар, музыказнаўца, дырыжор, адзін з заснавальнікаў і выкладчыкаў музычна-тэарэтычных дысцыплінаў з моманту адкрыцьця ў Менску музычнага тэхнікуму (1924). Таксама выкладаў у Менскай кансэрваторыі пасьля яе адкрыцьця ў 1932 г. Загінуў у Менскім гета.

[7] **Якаў Прохараў** (1870—1942), кампазытар, музычны этнограф.

фальклёраў розных народаў — Украінскага, Польскага і Расійскага. Ён адразу выказаў вялікую зацікаўленасьць да вывучэньня Беларускага танцу. Г. Шчарбінін адразу жа папрасіў даць яму камандыроўку ў глухія, больш далёкія ад Цэнтру куткі Беларусі. Вырашана было накіраваць яго на Магілёўшчыну, па Дняпру да Быхава. Атрымаўшы ад Музычнай сэкцыі фанограф з адпаведнымі сродкамі, г. Шчарбінін і павандраваў на Магілёўшчыну паводле дадзенага яму маршруту.

Звыш 2-х тыдняў вандраваў Шчарбінін па буйнейшых вёсках па Дняпры паміж Магілёву й Быхава. Па суботах і нядзелях, а то і ў буднія дні ён, знаёміўшыся з моладзьдзю, быў прысутным на вечарынах, гульбішчах і аднойчы папаў на вясельле, дзе яму давялося бачыць мастацтва народнага танцу ў выкананьні старых дзядоў і бабак, якія, дразьнячы прысутную тут-жа моладзь, паказвалі сваю зухаватасьць у танцы, кажучы: *“вось як мы танцавалі змоладу”*. Вось тут, на вясельлі, Шчарбінін і зачапіў, як кажуць, сапраўдны беларускі “Крыжачок”. Запісаўшы на фанограф мэлёдыю музыкі, ён прасіў і старых, і моладзь танцаваць некалькі разоў, і тыя, падагрэтыя добрым вясельным “самагонам”, стараліся як мага лепш выкідаць розныя, як кажуць, “каленцы”.

Была запісана і назва тэй вёскі, дзе адбывалася вясельле, але, на жаль, у маёй памяці не захавалася. Помню толькі, што гэта было ў глыбіні Быхоўшчыны. Танцавалі там “Крыжачок” галоўным чынам па 4 пары, а раз, казаў, удалося сабраць і 8 параў. Вось гэты апошні 8-мёх пар “Крыжачок” асабліва захапіў г. Шчарбініна як балетмайстра, бо тут ён заўважыў вытрыманы строга “стыль” танцу. Бо, як ён тлумачыць, у выкананьні моладзі ёсьць нявытрыманасьць, ёсьць ухілы ў рухах то ў “Лявоніху”, то ліхой полькі, а то і ўкраінскага гапака — была мешаніна, і яму як балетмайстру было прост немагчыма злавіць нейкі свой асноўны рух, як то фахоўцы называюць, “па” — асноўную постаць. А вось старыя — тыя моцна трымалі адзін асноўны рух і аднолькавыя фігуры. Тут-жа Шчарбінін і зразумеў, чаму старэйшыя любяць гэты танец: гэта тлумачыцца тым, што гэты танец не вымагае выкідваць тую ці другую нагу лёгкім рухам уперад, як, напрыклад, у “Лявонісе”. “Крыжачок” выконваецца ў асноўным, кажучы проста, тупаценьнем — ні на наску, ці на падстукваньні аднэй нагой другую — не вымагаецца, і дзяды ды бабкі — тупацяць пад музыку ўсёй падэшвай і абцасамі, і гэта асабліва спадабалася Шчарбініну сваёй, як ён зазначыў, “арыгінальнасьцю”-навізной.

Вярнуўшыся з падарожжа, Шчарбінін адразу-ж стаў працаваць над “Крыжачком” у Бел[арускім] 1-м Дзярж[аўным] Тэатры з 8-мю парамі, у склад якіх увайшла частка харыстак.

На першым-жа канцэрце Хору БДТ1 пад кіраўніцтвам сьв[етлай] п[амяці] Тэраўскага быў выкананы “Крыжачок” і быў прыняты гледачамі вельмі прыхільна. Трэба адзначыць, што ў тыя гады ў [19]22-м—[19]25-м

Менскі глядач яшчэ недаверліва адносіўся да Беларускага тэатру і наогул да мастацтва. Праўда, хор з Беларускімі песьнямі адразу заваяваў увагу гледача, бо ён-жа, гэты менскі абывацель, быў зрусыфікаваны. А вось удзел у канцэртах танцавальных груп з народнымі танцамі ўзмацоўваў зацікаўленасьць гледача і вабіў яго ў Беларускі тэатр.

Шчарбінін паставіў "Крыжачка" і ў тэатры (вандроўным) сьв[етлай] п[амяці] Галубка на 4 пары і, як неаднойчы падцьвярджаў сам Галубок, у глухіх кутках Меншчыны "Крыжачок" заўсёды меў вялікі посьпех.

Вось такім чынам зьявіўся ў канцэртах Беларускіх груп танец "Крыжачок".

Нейк мімаволі ўспамінаецца, што калі ў Бэрліне ў часы выгнаньня ў тэатральным бюро "Вэнэта"[8] мы з нябожчыкам сьв[етлай] п[амяці] Равенскім і Мяленьцьявым[9] зарганізавалі канцэртную эстрадную групу "Жыве Беларусь", "Крыжачок" быў пастаўлены спадарышняй гас-няй Саўчанка Вілкай. Але там была з Кіеву з балету Вэрачка як сэкратарка "Вэнэты", і ёй надта хацелася змадэрнізаваць "Крыжачка" на ўкраінскі стыль, то прышлося рашуча запярэчыць. Там-жа, у камісіі, якая першы раз праглядала праграму Беларускай групы, новай для "Вэнэты", за старшыню быў кампазытар Цёмкін[10], тады мала каму ведамы, а цяпер ведамы па Халівуду, дзе ён піша музыку да розных фільмаў. Гэты Цёмкін адразу паставіўся да Беларусаў даволі непрыхільна, асабіста яму, як прыйшлося заўважыць, не падабаліся фальклёрныя песьні, якія выдатна выконвала гас-ня Нядзьвіга Лідзія Грыгораўна і г. Мяленьцьева. Прышлося мне сказаць яму рашуча й даволі рэзка: *"калі-б Вы, г. Цёмкін, былі хоць на грош музыка-этнограф, то Вы заскакалі-б тут-жа за сталом пад нашу Беларускую музыку-песьню і танец!"* Дапамагло! На другім, апошнім праглядзе, які склікалі па-майму рашучаму патрабаваньню, Цёмкін ужо адразу стаў хваліць і нават узнагароджваў воплескамі, кажучы, што *"сапраўды арыгінальна, свежо, ново,*

---

[8] **"Вінэта"** — арганізацыя пры Міністэрстве ўсходніх акупаваных тэрыторыяў і Імпэрскім міністэрстве прапаганды. Была таксама й асобная беларуская рэдакцыя.

[9] **Алімп Мяленцьеў** (?—1964), кампазытар і дырыжор. Расеец па паходжаньні, да вайны працаваў ва Ўкраіне. У часе нямецкай акупацыі апынуўся ў Нямеччыне, дзе далучыўся да сьпеўна-танцавальнай групы "Жыве Беларусь!", разам зь якой гастраляваў па лягерах. Па сканчэньні вайны ўдзельнічаў у працы Беларускага тэатру эстрады, дапамагаў у арганізацыі беларускіх мерапрыемстваў у лягерах *DP*. Ягоная жонка Марыя, сьпявачка, удзельнічала ў беларускіх мерапрыемствах разам зь ім. Пазьней Мяленцьевы пераехалі ў ЗША, жылі ў Лос-Анджэлесе.

[10] **Дзьмітрый Цёмкін** (рус. *Дмитрий Темкин*, 1894—1979), амэрыканскі кампазытар расейскага паходжаньня, чатырохразовы атрымальнік прэміі "Оскар".

*интересно"*. Пасьля гэтага прагляду група "Жыве Беларусь" у складзе 12 асоб была пасланая на канцэрты па лягерах "астарбайтраў" і ўсюды мела выдатны посьпех, аб чым прысылаліся ў "Вэнэту" лісты з падзякай і з просьбай прыслаць яшчэ і ня раз Беларускую групу "Жыве Беларусь".

Вось і ўся "эпопея" "Крыжачка".

Вяч[аслаў] Селях-Качанскі.

PS. Мне не хацелася-б сказаць каму-небудзь малапрыемны *"комплімэнт"*, але не магу не зазначыць, што той "Крыжачок", якога паказвае тут Беларуская моладзь з Брукліну, ня мае анічога супольнага з сапраўдным "Крыжачком". А, нажаль, моладзь паказвала яго, як кажуць, нават на Ўсясьветнай выстаўцы ўлетку мінулага году.

В[ячаслаў] С[елях]

4.14.65.

## Памяці Лідзіі Нядзьвігі[11]

Беларускае эміграцыйнае грамадзтва пацярпела надоячы цяжкую страту — 1-га красавіка ў Кліфтоне памерла ведамая ў беларускіх колах артыстка Менскага Першага Беларускага Тэатру і сьпявачка, выканальніца народных песьняў — Лідзія Нядзьвіга.

Яшчэ а 1-й гадзіне ў гэны дзень яна мела праз тэлефон гутарку з аўтарам гэтых радкоў, нічым не выдаючы сябе хворай, а а 7-й гадзіне вечарам праз тэлефон падаў страшную вестку д-р Вітаўт Кіпель, што Лідзія Нядзьвіга памерла.

Адыйшла ў вечнасьць добрая душа, сардэчная, чулая заўсёды сяброўка. Яна была шчырай дачкой беларускага народу й заўсёды сумавала па бацькаўшчыне.

Мне давялося пазнаёміцца зь Лідзіяй Нядзьвігай яшчэ ў 1927 годзе, калі быў прызначаны наркомам асьветы Баліцкім[12] на пасаду дырэктара Першага Беларускага Драматычнага Тэатру. У гэным часе нябожчыца мела прозьвішча па першым мужу — Янушкевіч.

Яна ўвайшла ў склад тэатру ў часе ягонае арганізацыі ў 1920 годзе, будучы ў хоры ведамага беларускага кампазытара Тэраўскага. Хор гэты стаўся асноўным ядром тэатру, з асяродзьдзя якога выйшла нямала здольных актораў і сьпевакоў, у тым ліку й Лідзія Янушкевіч. Артыстка мела добры голас-альт і выступала як сьпявачка, адначасна выконвала ролі ў спэктаклях. Пераважна выконвала яна характэрныя ролі сярдзітых і камічных сялянскіх жанчынаў.

---

[11] Друкуецца паводле: Беларус. № 145. Травень 1969. С. 5.

[12] **Антон Баліцкі** (1891—1937), дзяржаўны й грамадзкі дзеяч БССР, у 1926—1929 г. наркам асьветы БССР. Адзін з актыўных творцаў і праваднікоў палітыкі беларусізацыі.

У 1933 годзе, калі праводзіліся ў Менску й па ўсёй Беларусі арышты беларускае інтэлігенцыі гэтак званых “нацдэмаў”, я, сваячасова папярэджаны адным добрым чалавекам партыйцам, выехаў зь Менску ў Ленінград, дзе на працягу амаль 10 год займаў некалькі пасадаў у галіне тэатральнага мастацтва.

У Другую сусьветную вайну я знаходзіўся ў горадзе Луга ў якасьці заступніка дырэктара па мастацкай часьці Дому культуры, адкуль у 1943 г. быў запрошаны д-рам Ермачэнкам у Менск на становішча загадчыка Беларускай Самапомачы.

Перабраўшыся ў Менск, я ўзноў спаткаў у тэатры Лідзію Янушкевіч. Разам з маёй сям’ёй яна вандравала ў часе эвакуацыі на Захад. Калі прыбылі ў Бэрлін, я ў 1944 г. зарганізаваў пры тэатральным бюры “Вінэта” Беларускую канцэртна-эстрадную групу, ведамую пад назовам “Жыве Беларусь”. У гэты ансамбль увайшла й нябожчыца як салістка. З канцом вайны мы ўзноў разлучыліся на 2—3 гады і толькі ў 1947 г. спаткаліся ў ДП-лягеры ў Міхэльсдорфе. Адтуль мы разам эмігравалі ў Амэрыку.

Тут Лідзія Нядзьвіга выступала кажнага лета ў канцэртах ў Беларускім Цэнтры адпачынку “Белэр-Менск”. У 1957 г. яна насьпявала колькі лепшых песьняў свайго рэпэртуару на грамафонныя кружэлкі: “Ох-ці мне ох”, “Сваток”, “Хлопец пашаньку пахае” і інш.

Апошнія дзесяць год яна працавала як памочніца й заступніца рэгента ў праваслаўнай царкве ў Кліфтоне. Тут яе й спаткала сьмерць. У часе адпяваньня настаяцель мясцовай царквы а. Сьцяпан Качур сказаў вельмі прыгожую прамову, у якой ахарактарызаваў яе як добрую й сумленную хрысьціянку.

Калі на могілках труна ўжо была апушчаная ў магілку і а. Сьцяпан пасыпаў яе зямлёй, падыйшоў супрацоўнік і прыяцель мужа памерлай з торбачкай, прывезенай з бацькаўшчыны, і пасыпаў ёю труну нябожчыцы.

Хай-жа будзе Табе, дарагая Лідзія, пухам зямелька на чужыне, пасыпаная зямелькай роднай! Мы, Твае сябры, захаваем у сваіх сэрцах самыя сьветлыя ўспаміны аб Табе.

Былы Дырэктар 1-га Беларускага Тэатру Вячаслаў Селех-Качанскі.
15 красавіка 1969 г.

*Ад Рэдакцыі*[13]. *У дапаўненьне да вышэй зьмешчанага нэкралёгу ня лішнім будзе адзначыць, што сьв[етлай] пам[яці] Лідзія Нядзьвіга, будучы ў Нямеччыне, актыўна працавала ў якасьці салісткі ў створаным у 1947 г. і кіраваным праф. Міколам Куліковічам Беларускім Тэатры Эстрады.*

[13] Газэты “Беларус”.

12.31.68[14].

Паважаныя г. г-ры рэдакцыя газэты "Беларус"!

У № 140-м газэта "Беларус" у артыкуле аб розных угодках, пададзена, што ў 1944-м годзе ў Бэрліне быў зарганізаваны "Музычна-эстрадны" тэатр пад кіраўніцтвам кампазытара Міколы Куліковіча, тэатр быў названы "Жыве Беларусь". Гэтая інфармацыя не адпавядае сапраўднасьці. Гэта, прабачце, хлусьня! Гэты, названы тут "Музычна-эстрадны тэатр", быў зарганізаваны пад назовам «Канцэртна-эстрадная група, беларуская, пад назвай "Жыве Беларусь"» ніякім ні Куліковічам, а выключна мной, Селяхам-Качанскім пры актыўным удзеле Беларускага ведамага кампазытара Равенскага Міколы, дырыгента і акардыяністага Меленьцьева і артыста драмы Кавалеўскага[15]. Каля гэтае справы, арганізацыі Канцэртна-эстраднай групы "Жыве Беларусь", і блізка ня было кампазытара Куліковіча. Толькі па адыходзе маім ад гэнае групы з прычыны эвакуацыі з Бэрліну. Калі мы разьехаліся ў розныя бакі, то група "Жыве Беларусь" у поўным складзе апынулася ў Рэгэнсбургу. Там вось, як мяне надоечы паінфармавала ў гутарцы ўдзельніца групы артыстка г. Ясенка (яна тут блізка ад мяне, у Кліфтоне) да групы далучыўся кампазытар Куліковіч з сваёй тады жонкай сьпявачкай Чамярысавай. Мэтадам нейкай нібы інтрыгі, як сьведчыць г-ня Ясенка, Куліковіч выжыў са складу групы Мяленьцьявых і Равенскага і сам застаўся кіраўнікам. Ранейшую, складзеную мной і апрабаваную пасьпяховымі выступленьнямі праграму, зьмяніў, уставіўшы нейкі індыйскі акрабатычны танец і два вадэвілі, якія ня маюць нічога супольнага з Беларускім мастацтвам.

У мяне, дарэчы, захаваліся ў маім невялічкім архіве дзьве вырэзкі з Беларускае газэты "Раніца", што выходзіла ў часе арганізацыі нашай групы ў Бэрліне. Гэтыя вырэзкі далучаю пры гэтым да Вашага ведама — пазнаёмцеся — і, зразумела, не адмоўце ў ласкавасьці даць у наступным, 141-м N-ры газэты "Беларус" адпаведнае абвяржэньне, падаўшы сапраўдную інфармацыю паводле вырэзак з газэты "Раніца". Маё прозьвішча Селях я вымушаны быў вельмі сур'ёзнымі абставінамі зьмяніць на прозьвішча Качанскі. У лягеры ДП Оберамергаў[16] у [19]44-м годзе зьявіліся саветчыкі з сьпісам вайсковых злачынцаў (военных преступников) і ў гэтым сьпісе, як папярэдзіў мяне камендант лягеру г. Раненкамф, было і маё прозьвішча. Гэта, як відаць, за тое, што ў Менску пры немцах я паставіў удала ў тэатры моцную антыбеларускую

[14] Друкуецца паводле арыгіналу, які захоўваецца ў БДАМЛМ.

[15] Маецца на ўвазе Аўген Кавалеўскі.

[16] **Обэрамэргаў** (ням. *Oberammergau*) — камуна ў Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

пьесу Тодара Лебяды “Загубленае жыцьцё”. Камендант вельмі даражыў мной за арганізацыю ў лягеры мастацкіх імпрэзаў і сам зрабіў у картатэцы зьмену майго прозьвішча на пададзенай мной форме — Качанскі.

Вырэзку з газэты “Раніца” не адмоўце ў ласкавасьці вярнуць мне ў дадзеным да гэтага пакеце. Вось і ўсё аб газэце “Беларус”. [...]

З пашанай В[ячаслаў] Качанскій.

***Сяргей Селях***
*Менск*

# ЛІСТ ВЯЧАСЛАВА СЕЛЯХ-КАЧАНСКАГА ДА СЯРГЕЯ ХМАРЫ

Гісторыя беларускага прафэсійнага тэатру, ягонае зараджэньне й станаўленьне ў 1920—1930-я гг. увесь час прыцягвае да сябе гісторыкаў і дасьледнікаў тэатральнай культуры. Знойдзена, вывучана, апісана й апублікавана мноства дакумэнтальных матэрыялаў і ўспамінаў, якія датычаць да гэтага пэрыяду. Ідзе няспынны пошук і дасьледуюцца дакумэнты жыцьця й творчасьці заснавальнікаў сучаснага беларускага тэатру, тых, хто стаяў ля ягоных вытокаў: Ігната Буйніцкага, Флярыяна Ждановіча, Уладыслава Галубка, Еўстыгнея Міровіча, іх памочнікаў і пасьлядоўнікаў. Цікавасьць выклікаюць ня толькі ўмовы, у якіх пачынаў зараджацца беларускі нацыянальны тэатар, ягоныя творчыя магчымасьці, рэпэртуар і мастацкі бок пастановак, але й палітычнае становішча, якое складвалася ў той цяжкі пэрыяд нашай гісторыі.

Адной зь цікавых крыніцаў інфармацыі для дасьледнікаў гісторыі беларускага тэатру можа стаць ліст Вячаслава Антонавіча Селях-Качанскага да Сяргея Хмары, у якім аўтар дзеліцца сваімі ўспамінамі пра БДТ-1, характарызуе ягоны творчы патэнцыял, дае некаторыя сцэнічныя ацэнкі акторам і рэжысэрам, зь якімі ён працаваў у пэрыяд свайго кіраўніцтва тэатрам, акрэсьлівае грамадзкае й палітычнае становішча таго часу. Выяўляючы сваю думку, магчыма не ва ўсім аб'ектыўную, Вячаслаў Селях прыадчыняе заслону ня толькі тэатральнай, але й палітычнай дзеі, якая адбывалася ў той час, удзельнікам і сьведкам якой ён быў. Аўтар уступае ў завочную палеміку з прызнаным савецкім аўтарытэтам гісторыі беларускага тэатру Ўладзімерам Няфёдам, крытыкуе яго за гістарычную неаб'ектыўнасьць, якая зрабілася, на думку Селяха, дзе-нідзе перакручанай і не ва ўсім адпаведнай рэчаіснасьці.

Прайшло ўжо амаль 100 гадоў ад часу падзеяў, што апісваюцца ў лісьце Вячаслава Селяха. Будзем спадзявацца, што гэтыя ўспаміны артыста, які гэтак шмат зрабіў для музычнай і тэатральнай культуры Беларусі, прыадчыняць у гісторыі нашага беларускага тэатру новыя, раней малаведамыя старонкі.

Шматпаважаны Гаспадару Хмара![1]

Па-першае — прашу прыняць ад мяне, — старога Беларуса (25 сьнежня г. 1970 г. стукне мне 85 гадоў), вось, ад яго, гэтага старога, мой паклон Вам і сэрдэчна шчырае прывітаньне як шматгадоваму, бязупыннаму і безкарыснаму барацьбіту за незалежнасьць нашае роднае Маткі шматпакутнае Беларусі і Беларускага народу!

З гэтай Вашай дзейнасьцяй я пазнаёміўся, прачытаўшы ў "Баявой ускалосьсі" Вашу яскравую біяграфію, з якой бачна, што Вы яшчэ фактычна юнаком сталіся гарачым абаронцам былой Сялянскай Грамады яшчэ ў Польшчы і з таго часу безьперапынна працуеце змагаром ідэі незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны Беларусі. На сваім гэтым шляху барацьбіта перажылі і астрогаў не аднаго, і судоў, і іншых усялякіх зьдзекаў над вольнай чалавечай думкай, ад урадаў як Польскіх, гэтак пазьней і ад бальшавіцкіх. З прыемнасьцю даведаўся, што разам з Вамі бралі ў барацьбе ўдзел мае аднакашнікі па настаўніцкай сэмінарыі ў Маладэчне б[ылой] Віленскай губ[эрні] — г. г. Рак-Міхайлоўскі[2] і Мятла[3]. Вам мінула ўжо 65 гадоў, дык жадаю Вам яшчэ шмат гадоў жыцьця ў добрым здароўі і тэй-жа, як і дагэтуль няўтомнасьці і энэргіі ў Вашай плённай працы. Гэта па-адно. Па-другое — карыстаючыся Вашай прапановай мне напісаць з маіх успамінаў што-колечы аб ведамых артыстых ці кампазытарах, я хацеў бы даць належнае і абгрунтаванае асьвятленьне некаторых творчых момэнтаў у дзейнасьці 1-га Беларускага тэатру, як былы яго дырэктар, каб выправіць шэраг ілжывых апісаньняў у так званай гісторыі Беларускага тэатру нейкага Няфеды[4], выдадзенай

---

[1] Арыгінал ліста захоўваецца ў: Library and Archives Canada. Marian Ziniak fonds — MG31-H193. Vol. 3. F. 7.

[2] **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1885—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, пэдагог. Дэлегат 1-га Ўсебеларускага зьезду, дзеяч БНР, пасол I кадэнцыі сойму Польскай Рэспублікі (1922—1927). Дзеяч Беларускай сацыялістычнай грамады, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі й Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

[3] **Пятро Мятла** (1890—1936), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч. У 1922—1927 гг. — дэпутат польскага Сойму. Адзін з стваральнікаў і лідараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1927 г. арыштаваны й зьняволены. У 1930 г. датэрмінова вызвалены, выехаў у БССР, дзе быў рэпрэсаваны. У ягонай біяграфіі ў сучасных даведніках пазначана, што Пётра Мятла ў 1906—1910 гг. вучыўся ў Дзісенскім гарадзкім вучылішчы, а ў 1911—1912 гг. на пэдагагічных курсах у Коўне, а не ў Маладзечанскай сэмінарыі.

[4] **Уладзімер Няфёд** (1916—1999), тэатразнаўца, пісьменьнік, пэдагог, драматург, доктар мастацтвазнаўства, прафэсар, член-карэспандэнт АН БССР. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1975). Ляўрэат Дзяржаўнай прэміі

у Менску Беларускім выдавецтвам у 1958-м годзе[5].

У гады маёй працы з 1924 да 1933 г. г. у Менску, куды я прыехаў з б[ылога] Марыінскага Пецярбурскага тэатру і працаваў раней як загадчык Музычнае сэкцыі "Інбелкульту", а далей дырэктарам гэтага 1-га тэатру (гады 1927—1931й)[6] — пісьменьнік-гісторык Няфеда ня быў ведамы ў літаратурных і мастацкіх колах і зьявіўся значна пазьней. Ён спасылаецца ў сваёй гісторыі тэатру на розныя рэцэнзыі з Менскіх газэт, як "Савецкая Беларусь", "Рабочы" і "Звязда", але ў большасьці карыстаўся, магчыма, слоўнымі апавяданьнямі і ўспамінамі некаторых артыстых гэтага 1-га тэатру і, магчыма, якраз тых, якіх ён зьмясьціў у гісторыі на фотаільлюстрацыях. Яны напэўна — ужо былі партыйцы, бо іх грудзі ўпрыгожваюць бляшкі-мэдалікі бальшавіцкай улады. Зразумела, што гэтакае слоўнае па ўспамінах асьвятленьне не магло быць у поўнай меры ні аб'ектыўным, ні адпавядаючым сапраўднасьці. Таму вось лічу неабходным для правільнасьці гісторыі зазначыць ніжэй пададзенае:

1. Перш за ўсё неабходна адзначыць, што калі зьмест першай паловы гісторыі Няфеды адпавядае сапраўднасьці былога ў тэатральным мастацтве Беларусі за часоў да Кастрычнікавага перавароту, то другая яе частка, пачынаючы з аддзелу "Савецкі тэатр", мае шмат неадпаведнага сапраўднасьці памылковага асьвятленьня. Самая гэтая частка "Гісторыі" Няфеды мае характар нейкага, як кажуць, "панэгрыка" камуністычнай Бальшавіцкай партыі і Савецкай уладзе. Па думцы Няфеды — усё, што-б толькі не дасягнуў у сваёй мастацкай творчасьці тэатр, — усё гэта, дзякуючы дырэктывам камуністычнай партыі і Савуладзе і гэта ўвесь час за кожным хоць і малым дасягненьнем тэатру — *"дырэктывы і неінакш бачна шчыры камуністы-кар'ерысты!"*.

2. Рэжыссэр Я[ўстыгней] Міровіч[7], яго кваліфікацыя як мастака і сутнасьць яго рэжыссэрскай працы маюць у Няфеды занадта павялічаную ацэнку і наданьне яму заслуг, да яго аніяк не належачых. Міровіч, паўчыўшыся ў студыі пры б[ылым] Александрынскім тэатры, адразу застаўся на працы, як рэжыссэр, у тэатры, так званых "Малых формаў" у тэатры пад назвай "Інтымны", што зьмяшчаўся на Крукавым

Беларускай ССР (1966). Найбуйнейшы тэатразнаўца й тэатральны крытык Беларусі, заснавальнік беларускай тэатразнаўчай школы.

[5] Маецца на ўвазе выданьне: Няфёд, Уладзімір. Беларускі тэатр: Нарысы гісторыі. Мінск: Выдавецтва Акадэміі навук БССР, 1959. 399 с.

[6] Насамрэч у 1927—1930 гг.

[7] **Еўстыгней Міровіч** (сапр. **Дунаеў,** 1878—1952), актор, рэжысэр, драматург, пэдагог, Народны артыст Беларускай ССР (1940). Адзін з заснавальнікаў беларускага тэатральнага мастацтва, беларускага тэатру імя Янкі Купалы. Удзельнічаў у стварэньні Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту (цяпер — Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў).

канале, блізка ад б[ылога] Марыінскага тэатру. Нідзе, ні ў якім тэатры, на вялікай сцэне ў Пецярбургу, ён артыстам у драме ніколі не выступаў, а працаваў як пачынаючы рэжыссэр у Інтымным тэатры. У гэтым тэатры ставіліся паказы па 2 у вечар, як у кіно. У гэтым тэатры Міровіч практыкаваўся як пастаноўшчык аднаактовых вадэвіляў, скэтчаў, камэдый і інш. Там жа, як драматург, ён стварыў вадэвіль *"Вова приспособился"* — гэта сатыра на так званых *"маміськіных сынкоў"*, якія хаваліся ў тылавых вайсковых установах, каб не папасьці на фронт у армію. Напісаў і яшчэ адзін скетч — "Мішка Круці" — гэта сатыра на тагачаснае кіно, у якім некаторыя гаспадары яго прапушчалі на дзень ад 2-й гадз[іны] па 7—8 сэансаў, гэта ў часе першай вайны, у Пецярбургу, куды наеджала не мала людзей з правінцыі. Вось на такіх дробных аднаактовых пабытовых паказах фармаваўся рэжыссэр Міровіч. Такім чынам, ён захапляўся дробным натуралізмам, а прыйшоўшы ў Беларускі тэатр, увадзіў гэты натуралістычны стыль як у пастаноўкі спэктакляў, гэтак і ў майстэрства актораў-выканаўцаў розных роляў, іншы раз далёкіх ад пабытовых зьяваў. Сістэмы і стылю творчасьці школы Станіслаўскага[8] — рэалістычнай, так званае — адчуваньне вобразу — ня ведаў і ня адчуваў яе. Драматургічныя творы Міровіч стварыў на гатовыя сюжэты: "Машэка" — легенда Магілёву — магіла льва, "Кастусь Каліноўскі" па гісторыі паўстаньня Беларускіх сялянаў на чале з Каліноўскім у 1863м годзе, а "Каваль ваявода" па народнай легендзе. Калі першыя з гэтых дзьве пастаноўкі мелі стыль натуралістычны, блізкі да сялянскага побыту, то "Каваль ваявода" быў пададзены ў розных стылях, г. зн. па *"эклетызму"*. Тут была і канструкцыя дэкарацый і клясычны балет, і атэізм у вобразе святара-ксяндза ў камічнай вопратцы — (вык[онваў] Ждановіч[9]) і акробатыка — паводзіны Блазна (Уладамірск[і][10]) і нарэшце трансфармацыя — падача падарункаў жнейкам на полі з неба, а канец усяго — рэвалюцыя-паўстаньне сялянаў пад правадырствам Блазна. Агульна нейкі "мастацкі" венігрэт. Але трэба прызнаць сапраўды значную заслугу Міровіча і карысьць у выхаваньні акторскага складу БДТ1го, сярод якога былі сапраўдны[я] артыстыя з іншых тэатраў, як з польскага (Ждановіч), з украінскага (Крыловіч[11]), з [ра]сейскага

---

[8] **Канстанцін Станіслаўскі** (сапр. рус. *Алексеев*; 1863—1938), расейскі тэатральны рэжысэр, актор і пэдагог, рэфарматар тэатру. Стваральнік знакамітай акторскай сыстэмы, якая на працягу 100 гадоў мае велізарную папулярнасьць у Расеі й сьвеце. Першы Народны артыст СССР (1936).

[9] **Флярыян Ждановіч** (1884—1937), актор, рэжысэр, тэатральны дзеяч, адзін з заснавальнікаў беларускага прафэсійнага тэатру.

[10] **Уладзімер Уладамірскі** (сапр. **Малейка**, 1893—1971), актор, народны артыст БССР (1938), Народны артыст СССР (1955).

[11] **Уладзімер Крыловіч** (1895—1937), актор, адзін з заснавальнікаў беларускага тэатру. Але, магчыма, Вячаслаў Селях памыляецца. Акторам украінскіх

(Міронава-Мышко[12]), з вайсковага (Малейка-Уладамірскі), а большасьць проста былі ўдзельнікі Белар[ускага] народн[ага] хору — кампазытара і зьбіральніка народн[ых] беларускіх сьпеваў — Тэраўскага[13] (Няфеда піша згодна з беларускім вымаўленьнем — Цераўскі). Вось з гэткага зборнага разнастайнага па кваліфікацыі, а то і без яе людзкога матэр'ялу Міровіч усё-ж з'арганізаваў творчы калектыў тэатру, які у далейшым пад адпаведным мастацкім кіраўніцтвам, быў здольны да значных мастацкіх дасягненьняў. У гэтым вялікая заслуга Міровіча перад Беларускім мастацтвам.

3. Рашучы крок да высокай творчасьці мастацтва па сыстэме Станіслаўскага БДТ1шы атрымаў з выдатнай, па прызнаньні газ[эты] "Рабочы", пастаноўкі п'есы "Інга" (*Инга*), выкананай маладым рэжыссэрам Сьмеянавым, які быў мной запрошаны ў час яго прыезда і працы з ведамым рэжыссэрам Вінэрам[14] на пастаноўку п'есы Усевалада Іванова[15] "Бронецягнік". Сьмеянаў прыехаў і працаваў з Вінэрам, як яго асістэнт. У гэным спэктаклі *"Инга"*, як і ў *"Бронепоезде"*, былі распрацаваныя Сьмеянавым мізансцэны, у поўнай меры ў вытрыманым рэалістычным стылі па сыстэме Станіслаўскага. Афармленьне "Інгі", з фактурай стальных сетак, вельмі эффектна зрабіў мастак Крэйн[16]. Галоўную ролю, дырэктара фабрыкі, таленавіта і яскрава выконвала артыстка Галіна[17].

---

тэатраў (Адэсы, Мікалаеўска) да прыходу ў БДТ-1 быў **Глебаў Глеб** (сапр. **Сарокін**, 1899—1967), актор тэатру й кіно, Народны артыст СССР (1948), народны артыст БССР (1940).

[12] Магчыма, Вячаслаў Селях і тут памыляецца. У той час у БДТ-1 працавала **Кацярына Міронава** (1883—1946), акторка, Заслужаная артыстка БССР (1940), якая творчую дзейнасьць пачала ў 1898 г. на аматарскай сцэне ў Воршы. Працавала ў трупе Першага беларускага таварыства драмы й камэдыі, з 1920 г. у БДТ-1.

[13] **Уладзімер Тэраўскі** (1871—1938), дырыжор, кампазытар, фальклярыст. Стварыў музыку да спэктакляў БДТ-1 "Бязьвінная кроў" У. Галубка, "Кавальваявода", "Машэка", "Кастусь Каліноўскі", "Кар'ера таварыша Брызгаліна" Е. Міровіча, "Панскі гайдук" М. Бываеўскага й інш., заснаваную на шырокім выкарыстаньні беларускага фальклёру.

[14] **Аляксандар Вінэр** (1896—1984), савецкі тэатральны рэжысэр, Народны артыст ЭССР (1957), Заслужаны артыст РСФСР. Ляўрэат дзвюх Сталінскіх прэміяў другой ступені (1950, 1952).

[15] **Усевалад Іваноў** (1895—1963), савецкі пісьменьнік і драматург, журналіст, вайсковы карэспандэнт. Атрымаў вядомасьць дзякуючы маляўнічым аповедам пра змаганьне за савецкую ўладу на поўдні Сібіры.

[16] **Дзьмітрый Крэйн** — мастак, які працаваў у БДТ-1 у час дырэктарства Вячаслава Селяха (1927—1930).

[17] **Вольга Галіна** (1899—1980), акторка, Народная артыстка БССР (1946). У 1923—1962 гг. працавала ў БДТ-1, пачынала пад кіраўніцтвам Еўстыгнея Міровіча.

Нажаль, аб гэтым выдатным паказе, Няфеда нават і не адзначае ў сваёй гісторыі. За "Інгай" выдатным мастацкім дасягненьнем была "Гута" Кобеца[18]. Гісторыя гэтае пастаноўкі вось якая. Рэпэртуарная камісія тэатру, якую ўзначальваў Міровіч і ў склад якой уваходзіў артысты Рамановіч[19], аўтар п'есы "Мост", Ждановіч, Міронава і Ржэцкая[20], забракавала п'есу Кобеца "Гута", не прызнаўшы за ёй цікавай для сцэны, як то кажуць — інтрыгі, сужэту. Я, як дырэктар тэатру з гэткім рашэньнем рэпэрткому не згадзіўся, бо бачыў у п'есе пэўную і цікавую проблему вынаходства рабочага, з мэтай палепшыць вытворчасьць і зрабіць працу рабочых лягчэйшай. Я запрапанаваў аўтару п'есы Кобецу, режыссэру Міровічу і мастаку Крэйну выехаць на некалькі дзён на шкло[за]вод "Кастрычнік" у Бабруйскім раёне, каб яны там на мейсцы пазнаёміліся і з формамі вытворчасьці, і з побытам рабочых. Гэтая тройка прабыла на заводзе 6 дзен і дастаткова пазнаёмілася з усім, што там рабілася. І вось вярнуўшысь з заводу, Кобец і Міровіч сумесна пераапрацавалі п'есу, дадаўшы да яе 2—3 новых вобраза рабочых, чым значна ажывілі яе зьмест, зрабіўшы яго больш дынамічным. Мастак Крэйн зрабіў адпаведныя зарысоўкі, як самую печ-гуту, дзе расплаўленая шкляная масавадкасьць, зь якой і выдувалася шкло. Вось гэту пераапрацаваную пьесу і паставілі на сцэне. У часе работы над пастаноўкай Міровіч кіраваў пабудовай масавых сцэн і кіраваў агульным афармленьнем, а галоўную распрацоўку ўсіх дзей, усіх мізансцэнаў рабіў рэжыссэр Сьмеянаў і па сыстэме рэалістычнай Станіслаўскага, дапамагаў у стварэньні вобразу сцэнічным майстэрствам кожнаму актору-выканаўцу той ці іншай ролі. Мастак Крэйн зрабіў дасканальнае дэкаратыўнае афармленьне. Вось гэтак была зроблена бліскучая пастаноўка "Гуты", якая на Ўсесаюзнай Олімпіадзе заваявала першую грамату, што я, дырэктар, атрымаў на урачыстым зачыненьні Олімпіады у тэатры Мейерхольда з рук Фелікса Кона[21]. № 3

4. Неабходна зазначыць яшчэ, што дапамагло артыстым БДТ1го ўпэўна паказаць свае мастацтва — гэта экскурсыя, якая была мной як дырэктарам зарганізавана ў сакавіку таго ж 30га году ў час пераезда

[18] **Рыгор Кобец** (сапр. **Міхаіл Сандыга,** 1898—1990), драматург, празаік, сцэнарыст. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1935).

[19] **Яўген Рамановіч** (1905—1979), драматург, празаік, перакладчык, тэатральны дзеяч, тэатразнаўца. Заслужаны артыст БССР.

[20] **Лідзія Ржэцкая** (1899—1977), акторка. Творчую дзейнасьць пачала ў 1916 г. Ад 1917 г. працавала ў Першым беларускім таварыстве драмы й камэдыі, з 1920 г. у трупе БДТ-1. Народная артыстка БССР (1944) і СССР (1955). Ляўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951).

[21] **Фэлікс Кон** (1864—1941), польскі рэвалюцыянэр габрэйскага паходжаньня, сябра Польрэўкама, адзін з арганізатараў МОПРа, вучоны-этнограф, публіцыст. У 1930—1931 гг. загадваў сэктарам мастацтваў Наркамасьветы РСФСР.

тэатру з Магілева у Менск. На выдаткі для гэтае справы я атрымаў 2 тысячы рублёў ад старшыні Соўнаркому таго часу нябожчыка Галадзеда. У Маскве, на працягу 6 дзен усе артыстыя 60 асоб, штодзённа, групамі па 10 асоб наведвалі галоўныя тэатры Масквы — конвейерам, — Мастацкі тэатр Станіслаўскага, 2-гі мастацкі, які быў там з былой 4-й студыі, Малы тэатр, Вахтангава, тэатр Рэвалюцыі і опэрный Вялікій, гэтае наведваньне лепшых сталічных тэатраў прынясло артыстым вялікую карысьць. Яны ўбачылі сапраўднае сцэнічнае мастацтва сапраўдых выдатных і высокакваліфікаваных майстроў. Гэта ў вялікай і каштоўнай меры адбілася на майстэрстве актораў БДТ1га, якія да гэтуль варыліся, як кажуць, у сваім правінцыяльным соку і, зразумела, гэта ў значнай меры спрыяла посьпеху на Олімпіадзе. Зачыненьне Олімпіады адбывалася перад 10ці годзьдзем вызваленьня Беларусі ад белапалякаў, г. зн. 10га ліпеня, а ўвечары 11го была пастаўлена ў Менску на сцэне і зноў жа "Гута". З Масквы я вярнуўся у час, калі спэктакль ужо пачаўся. У першым жа антракце я зачытаў гледачам у тэатры грамату, што атрымаў ад Фелікса Кона. Шумнымі вопляскамі спаткаў менскі глядач мой даклад — грамату. Былі вопляскі і на сцэне, быў туш у аркестры, а на другі дзень, я атрымаў у Наркампросе загад-пастанову аб звальненьні мяне з пасады дырэктара. Прычын гэтага некалькі, вось яны.

1е, два разы агітаваў мяне ў Магілеве пракурор Андрэяў запісацца ў камуністычную партыю. Я рашуча адмовіўся, заявіўшы, што ў мяне ўпарты характар і я ня здолею падпарадкавацца чужым для мяне дырэктывам — словамі гогалеўскага Каленіка я сказаў — *"Сам сабе я галава"*.

2я прычына — у сэзоне 1929—1930 году, калі БДТ-1 быў у Гомелі, мне быў дадзены загад Галоўмастацтва па распараджэньні партыі зьняць з рэпэртуару і не паказваць больш пьесы "Кастусь Каліноўскі" і "Над Нёманам" Грамыкі[22]. А мне ўдалося наладзіць з прафсаюзам чыгуначнікаў калектыўнае наведваньне тэатру рабочымі і якраз гэтыя спэктаклі рабочыя бралі па некалькі разоў. Грунтуючыся на гэтым, я пратрымаў гэтыя паказы яшчэ два месяцы і потым яшчэ аднаразова ставіў, бо яны, як кажуць *"рабілі касу"*.

3е і самае, відаць, галоўнае што мела вынікам звальненьне мяне з пасады дырэктара, гэта тое, што ў прамове сваей уступнай да паказу "Гуты" ў Маскве на Олімпіадзе я ні словам не заікнуўся аб партыі, якую павінен быў упамянуць як гэта Няфеда ў гісторыі, што дасягненьні тэатру — вынік дырэктыў партыі. Вось прычына. Я гаварыў аб здольнасьцях Беларускага народу і яго дасягненьнях пры Савецкай уладзе. Прычынай звальненьня мяне з пасады дырэктара была выказана ў загадзе — нібы "безгаспадарнасьць". Запрошаныя мной 3 бухгальтэры, праверыўшы бухгальтэрыю тэатру, апратэставалі заяву аб безгаспадарнасьці, бо знайшлі поўны парадак усіх грашовых спраў. Посьле

[22] **Міхал Грамыка** (1885—1969), празаік, паэт, геоляг, пэдагог.

гэтага, як было адзначана ў газэтах “Савецкая Беларусь” і “Рабочы”, маё звальненьне прызнана памылкай, а абвінавачаньне ў безгаспадарнасьці безпадстаўным.

Далей быў прызначаны арганізатарам і дырэктарам аднагадовых Драматычных курсаў, што мной і было выканана. Было выбрана па аб’яве з моладзі 25 асоб, якія на іспытах паказалі сябе здольнымі, быў запрошаны з Масквы з тэатру Рэвалюцыі рэжыссэр Аляксей Халізяў, выхаванец студыі Станіслаўскага, на выкладчыка сцэнічнага мастацтва і працы курсаў. З 1га верасьня 1930 году распачалася ў клубе Рабочай моладзі. Я выкладаў пастаноўку голасу, тэхніку мовы (артыкуляцыю) і грым. Беларуская мова для артыкуляцыі даволі трудная. Прышлося сабраць шэрах прысказак на адпаведныя, больш трудныя гукі рэчы. Вельмі трудна давалася скарочаная “ў”. Была складзена гэткая прысказка: — *“Атаўка сену дабаўка, але ня ўмеў скасіць яе ў жніўні з сваёй Аўдоткай Саўка”*. На гукі “л” і “р” — прыпамінаецца гэткая: *“Лапаць разлапардачыўся і вылапардачыўся”*. Праз навучальны год было падрыхтавана гэтак 25 асоб, з якіх 6 аддадзены былі (4 муж[чыны] і 2 дзяўчат) у БДТ1. У гісторыі Няфеды на фотаільлюстрацыях ёсьць з былых курсантаў на адказных ролях два — Шаціла[23] і Пекур[24]. У БДТ1й было дадзена 5 асоб, з іх адна дзяўчына надзвычай здольная і з прыгожым голасам, прозвішча Заронак[25]. Было дадзена асоб 8 у Вандроўны тады тэатр Галубка, а астатнія сталіся асноўным ядром “Тэатру рабочай моладзі”. № 1. Далей Драмкурсы былі пераіменаваны і пераарганізаваныя ў Драматычны тэхнікум. За дырэктара быў прызначаны сябра кампартыі, артысты з яўрэйскага тэатру Коган. Я стаўся загадчыкам навучальнай часткі і выкладчыкам пастаноўкі голасу, тэхнікі мовы і грыму.

Патрэбна на канец маіх заўваг да гісторыі тэатру Няфеды яшчэ дадаць некалькі. Так пьеса “Мяцеж” Фурманава была здабыта не Міровічам, як сказана ў гісторыі Няфеды, а мной — тады дырэктарам Селяхам. Даведаўшыся з аб’яў у газэтах аб гэтым творы Фурманава, я адкамандыраваў адміністратара тэатру Багінскага ў Маскву ў выдавецтва, дзе ён і дастаў гэную пьесу. Сэзон у Віцебску тагды у 1927—1928

---

[23] **Іван Шаціла** (1910—1977), актор тэатру й кіно, Народны артыст БССР (1953). Закончыў драматычныя курсы ў 1932 г. У 1932—1961, 1967—1971 гг. працаваў у Беларускім тэатры імя Янкі Купалы.

[24] **Павал Пекур** (1909—1982), актор, Заслужаны артыст БССР (1949). Пасьля заканчэньня драматычных курсаў у 1932 г. працаваў у Беларускім тэатры імя Янкі Купалы.

[25] **Таццяна Заранок** (1917—2007), драматычная актрыса, Народная артыстка БССР. Ад 1930 г. вучылася на драматычных курсах у Менску. Пасьля заканчэньня курсаў у 1931 г. была накіравана ў Віцебск у Беларускі другі дзяржаўны тэатр. У 1933 г. скончыла студыю БДТ-2. У 1951—1974 гг. працавала ў Берасьцейскім абласным драматычным тэатры імя ЛКСМБ.

годзе і быў распачаты пастаноўкай пьесы “Мяцеж”. Гэта пастаноўка і была прысьвечана 10ці годзьдзю Савецкай улады.

Адносна пераважнасьці ў мастацкай працы як рэжыссэра Міровіча сьведчыць у апошнім акце пастаноўкі “Кастусь Каліноўскі” паказ павешаньня на плошчы Лукіскага вастрогу ў Вільні Каліноўскага. Гэта было ў стылі даволі прымітыўнага натуралізму. Супраць гэтае сцэны рашуча запратэставала тэатральная сэкцыя Інбелкульту і Міровіч потым іншай сцэнай, вось гэткай: у камэру, з якой толькі што вывелі Каліноўскага, увайшоў старэнькі стораж, гледзючы праз вакно на пляц каротка апавядаў, нібы сам сабе, тое, што адбывалася каля вісельні, перад народам, а ў апошні жудасный момант, жахліва адварачваўся ад вакна і тут давалася заслона. Гэтак быў зьнішчаны прыкры натуралістычны малюнак, які зьніжаў агульнае ўражаньне ад каштоўнага ў цэлым спэктаклю.

У пьесе “Кар’ера таварыша Брызгаліна” Міровіч запазычыў сцэну задушеньня дзіцяці, народжанага беднай дзяўчынай, якую ашукаў і згвалціў Брызгалін, — гэта запазычана з выдатнага твору выдатнага пісьменьніка Л[ьва] Таўстога, з твору “Улада цьмы” — *“Власть тьмы”*. У Міровіча да Брызгаліна ў час нейкай у яго гулянкі, прыходзіць бабка, выклікае яго да дзвярэй і дакладвае, што *“ўсе зроблена, як вы запрапанавалі мне”*. Брызгалін дае ей непрыкметна грошы.

Аб музычных пастаноўках Няфеда запісаў у гісторыі не адпаведаючае сапраўднасьці і, нейк, паміж іншым. Пастаноўкі былі дадзены грунтоўна: “Вальпургава ноч” з опэры “Фауст” — Гуно была пастаўлена балетмайстрам Уладзіміравым з яго сталай партнеркай танцаўшчыцы-салісткі Брэві. Сцэна была з “Фаустам” — тэнарам Мацелевічам[26] і з Мефістофілем Селяхом. Дырыгент аркестру быў Купер Макс[27]. “Палавецкі стан” з опэры “Князь Ігар” ішоў з удзелам Ігара — Селяха, Уладзіміра — Мацелевіча, Канчакаўны — Мартавай[28], з балетам пад кіраўніцтвам Уладзімірава і Брэві.

Опэра “Русалка” была пастаўлена цалкам, а не толькі, як адзначае Няфеда, 3й акт. Удзел бралі артыстыя сьпевакі — Наталля, дачка млынара, арт[ыст]ка б[ылой] Адэсскай опэры Несьцярэнка[29], Князь —

[26] **Канстанцін Мацалевіч** (1895—?), опэрны сьпявак, артыст БДТ-1.

[27] **Макс Купэр** (1881—1959), опэрны й харавы дырыжор, брат Эміля Купэра. У 1921—1926 гг. дырыжор Ленінградзкага Малога опэрнага тэатру, у 1926—1927 гг. дырыжор БДТ-1, у 1931—1945 гг. галоўны хормайстар Вялікага тэатру.

[28] Маецца на ўвазе **М. Мартава**, сьпявачка (мецца-сапрана), якая працавала ў БДТ-1 у 1925—1929 гг.

[29] Відаць, маецца на ўвазе **Вольга Несьцярэнка,** якая ў 1916 г. была прынятая ў склад опэрнай трупы Народнага дому Імпэратара Мікалая II у Санкт-Пецярбургу, куды прыехала з харкаўскай опэры. Выступала зь Фёдарам Шаляпіным, Леанідам Собінавым і іншымі выдатнымі артыстамі,

Мацелевіч, князёўна — Мартава і млынар — Селях. Балет — дно Дняпра, русалкі ў поўным складзе пад кіраўніцтвам і ўдзелам Брэві. Дырыгент аркестры Макс Купер.

Нарэшце неабходна асьвятліць адну г[этак] кажучы *“эпопею”* БДТ1га з партыйным дырэктарам, прызначаным посьле маёй “адстаўкі”, — Пакроўскім. Улетку 1933 году, Пакроўскі вывез тэатр у Маскву на гастролі і абаснаваў гэтыя гастролі ў Замасскварэцкім тэатры. Але не наладзіў належным чынам каллектыўнага наведваньня гледача пры дапамозе “Прафсаюзаў”. У выніку “прагарэў”, як прынята гаварыць аб тэатрах. Ня было грошы і для аплаты артыстых на выезд дамоў у Менск. Тагды у Менск у Галоўмастацтва Наркому асьветы прыехала ад тэатру БДТ1га з Масквы дэлегацыя ў складзе 3х асоб — Крыніцы[30], Глебава і Былінскага[31] і заявіла: *“Вярніце нам дырэктарам Селяха, з якім было працаваць тэатру безумоўна добра”*. Загадчык Галоўмастацтва г[ражданін] Дунец[32] загатаваў ужо быў загад аб прызначэньні мяне, Селяха, ізноў на пасаду дырэктара БДТ1га. Але ў гэты час у жніўні таго 1933 году пачаліся ўжо арышты НКВэдыстымі інтэлігенцыі Беларускай, так званых “нацдэмаў” — пісьменьнікаў, настаўнікаў і інш. А калі я па вызаву г[ражданіна] Дунца прыйшоў па загад і грошы на падарожжа ў Маскву, ён, Дунец сэкрэтна папярэдзіў мяне, сказаўшы цьвёрда — *“Вам лепш пакінуць Менск і нават у бліжэйшыя дні”*. Я ўлетку меў запрашэньне на пасаду дырэктара Музычнага тэхнікуму ў Пяцігорск. Ад’яжджаючы неўзабаве з Менску ў Ленінград, я адкрыта гаварыў усім, што еду ў Пяцігорск. У Ленінградзе я ўзяў пасаду заступніка дырэктара ў опэрнай студыі імя Рымскага Корсакава, а прытулак — кватэру знайшоў у Дзіцячым (б[ылым] Царскім) сяле ў роднай сястры[33] і яе сына[34], майго пляменьніка прафэссара фармакалогіі. Далей застаўся на па-

выконвала вядучыя опэрныя партыі рускіх і эўрапейскіх кампазытараў. Перад прыездам у 1925 г. у Менск працавала ў Опэрным тэатры ў Адэсе.

[30] **Антук Крыніца** (сапр. **Антон Ждановіч**, 1898—1937), актор, брат Флярыяна Ждановіча. З 1917 г. працаваў у трупе Першага таварыства беларускай драмы й камэдыі, потым у Беларускім савецкім тэатры (1918—1919), з 1920 г. у БДТ-1.

[31] **Усевалад Былінскі** (1901—1977), актор, удзельнік Першага таварыства беларускай драмы й камэдыі. У 1920—1961 гг. працаваў у Беларускім тэатры імя Янкі Купалы (БДТ-1).

[32] **Хацкель Дунец** (1897—1937), крытык, публіцыст. У 1930 — лютым 1935 г. намесьнік наркама асьветы БССР.

[33] Маецца на ўвазе **Ганна Селях (Цабкала)**, сярэдняя сястра Вячаслава Селяха.

[34] **Георг Цабкала** (1904—1988), доктар мэдычных навук, прафэсар. Ва ўзросьце 34 гадоў абараніў доктарскую дысэртацыю. Распрацаваў ведамы лекавы сродак па вывадзе таксінаў з арганізму — “Поліфепан”.

садзе рэжысэра опернага Вандроўнага тэатру (ВТО) (*Всеросс[ийского] Театр[ального] Общ[ества]*) і 1,5 году вандраваў з гэтым тэатрам па гарадох — Палтава, Сумы, Хэрсон і інш. Як мне стала потым ведама, у Пяцігорску былі заарыштаваныя прыехаўшыя з Менску — перш Дрэйзен[35], а за ім Вольскі[36]. Кожнага пратрымалі па месяцу і адпусьцілі — ня той! Вось як складаўся тагды мой лёс безпартыйнага. Зусім зразумела, што ні майго імя, як дзейнага былога дырэктара БДТ1, ні аб дасягненьняў тэатру пад маім кіраўніцтвам, Няфеда занатаваць на старонках гісторыі аніяк ня мог. Што да працы БДТ1га і іншых тэатраў Беларусі, то гісторыя рысуе нейкі стыхійны кавардак, нейкая беліберда. Ні адзін з галоўных тэатраў не мае пэўнай лініі сваёй мастацкай творчасьці. Шмат рэжысэраў, пагоня за класычнымі творамі, пстрыкатасьць іх афармленьня і акторскага майстэрства, нейкі выпадковы фармалізм. І выходзіць, што ў *"сямі няняк дзіця бяз воку"* № 2. Але ўзнагароды раздаюцца, хоць і не заўсёды па заслугах. Напр[ыклад], артысты Платонаў[37] народны СССР, а як ён выглядае ў ролі клясычнага Ромэо, з твору Шэкспіра. Ромэо крываногі з пастаўленым носам і прылізанымі валасамі. [...] Вось чаго дасягае мастацтва Беларускіх тэатраў, як відаць *"па дырэктывах партыі"* згодна цьверджаньню гісторыка Няфеды.

№ 1. З выхаванцаў аднагадовых курсаў пашоў адзін — Мялешка ў кінастудыю. А дзяўчына Ларыса Чыж (маладая ўдава) паехала ў Ленінград і была прынятая ў Дзярж[аўны] Інстытут Тэатральнага мастацтва.

№ 2. Рэжыссэр Ліцьвінаў[38] залічыў сябе другім Мейерхольдам[39] і безцэрамонна навальвае ў творчасьці пошлы фармалізм. Рэжыссэр

---

[35] Магчыма, Вячаслаў Селях мае на ўвазе **Юльяна Дрэйзіна** (1879—1942), музыказнаўцу, публіцыста, перакладчыка, пэдагога, аўтара працы "Музыка і рэвалюцыя" — першага дасьледаваньня ў галіне музыказнаўства ў Беларусі. Аднак у сучасных публікацыях ня згадваецца аб гэтым эпізодзе ў біяграфіі Юльяна Дрэйзіна.

[36] Магчыма, Вячаслаў Селях мае на ўвазе **Віталя Вольскага** (сапр. **Віталь Зэйдэль-Вольскі**, 1901—1988), празаіка, драматурга, літаратуразнаўцу, краязнаўцу, палітычнага дзеяча. Але, як і ў выпадку зь Юльянам Дрэйзіным, сучасныя публікацыі ня згадваюць аб гэтым эпізодзе з жыцьця Віталя Вольскага.

[37] **Барыс Платонаў** (1903—1967), актор, тэатральны пэдагог, Народны артыст БССР (1946), Народны артыст СССР (1948).

[38] **Леў Літвінаў** (сапр. **Гурэвіч,** 1899—1963), рэжысэр, Заслужаны артыст БССР (1934), Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1946). У 1932—1937, 1943—1948 гг. мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысэр Беларускага тэатру імя Янкі Купалы.

[39] **Усевалад Меерхольд** (рус. *Всеволод Мейерхольд*, 1874—1940), расейскі тэатральны рэжысэр, актор і пэдагог. Тэарэтык і практык тэатральнага гратэску, стваральнік акторскай сыстэмы, якая атрымала назоў "біямэханіка".

Рахленка[40], прынятый у склад актораў у час майго дырэктарства вучанік яшчэ Пралеткульту. Робіць пастаноўкі і актор Зораў[41], але яго рэжыссэрская, як кажуць "эрудыцыя" вельмі слабая, як у былога толькі актора ў нейкім правінцыяльным тэатры на Украіне.

№ 3. Цікавае, гэтак кажучы, "закуліснае" здарэньне на Олімпіадзе. Мной на папярэдняй нарадзе ў Маскве ў Галоўмастацтве ў камітэце Олімпіады першым паказам была пастаўлена ў афішы "Гута". А як прыехаў для ўдзелу тэатр, то аказалася першым паказам стаіць "Міжбурье". Гэта пастараўся ўстроіць, як потым высьветлілася, дырэктар Харкаўскага тэатру Васіленка — партыец. Ён чуў пра "Гуту", што гэта моцны спэктакль. А павінен быў выступаць на другі дзень яго тэатр з пьесай Мікітэнкі[42] "Дыктатура". Вось ён і вырашыў з партыйцамі камітэту Олімпіады, замест "Гуты" паставіць "Міжбурье" наш другі паказ, ведаючы, што ён меньш выйграшны чым "Гута". Прышлося ўжыць некаторыя крокі, каб усё-ж першым паказам была "Гута". Па майму загаду, адміністратар Саладуха і старшы рабочы сцэны Даніловіч, пайшлі на чыгунку да стрэлачніка і дагаварыліся з ім за некаторую кампенсацыю, каб ён загнаў у тупік вагон з дэкарацыямі "Міжбурья" так, каб яго не маглі знайсьці раней, як праз 10 дзен. Было заяўлена камітэту, што вагон з дэкарацыямі "Міжбурья" згублен. Такім чынам нам удалося даць першы паказ "Гуту", пазьней, у дзень "Міжбурья", якое было адсунута на далей і потым было пастаўлена ў памешканьні Тэатру Рэвалюцыі. А ў дзень, прызначаны для "Міжбурья", была зроблена грунтоўная проба "Гуты" ў памешканьні Олімпіады. Гэтым нам удалось атрымаць адзін даволі важны, як кажуць, "плюс" — рэпетыцыю перад паказам на гэтай жа сцэне і, зразумела, гэта таксама спрыяла посьпеху паказу. Бліскучы паказ і такія ж аб ім рэцэнзыі "Гуты" зрабілі тое, што слабейшае "Міжбурье" таксама было ўспрынята гледачом, як добры спектакль, падобна паказу "Гуты". Прышлося, як выходзіца, нават крыху "зжульнічаць" — усё рабілася, каб атрымаць посьпех. Аб гэтым здарэньні з "Гутай" было выказана больш падрабязна ў часопісу "Моладзь" у артыкуле "Трыумф БДТ1га ў Маскве на Олімпіадзе". Паасобнік гэтага часопісу быў у Вас. В[ячаслаў] К[ачанскі].

---

[40] **Леанід Рахленка** (сапр. **Гдальевіч,** 1907—1986), актор, рэжысэр, Народны артыст БССР (1946), народны артыст СССР (1966), ляўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1970).

[41] **Міхаіл Зораў** (сапр. **Штоклянд**, 1903—1942), актор і рэжысэр, Заслужаны артыст БССР (1938).

[42] **Іван Мікіценка** (укр. *Іван Микитенко*, 1897—1937), украінскі пісьменьнік, драматург.

Глыбока паважаны гасп. Хмара!

Шмат я Вам напісаў тут, як дадаткі да гісторыі тэатру аб тым, аб чым Няфеда, аўтар гісторыі Белар[ускага] т[эатру] не даў мейсца на старонках свае гісторыі. Баюся, што ў Вас мо ня хопіць і цярплівасьці дачытаць усё да канца. Але, сьмею запэўніць, што ўсё гэта сапраўднае, ня прыдуманае. Сваім рэдактарскім вопытам Вы заўважыце, што каштоўнага для гісторыі, а чаго абвешчаць нашай Беларускай спадчыне не варта. Вам і кнігі, як кажуць, у рукі. Галоўнае напісана мной усё ў большасьці давольна неахайна. За гэта прашу прабачыць мне аднавокаму старому. Газэты чытаю пры дапамозе “лупы”, а вось пісаць з “лупай” ніяк ня зручна. Прабачце.

З шчырай павагай да Вас

Вяч[аслаў] Селях-Качанскі

11.8.70 г.

P. S. Прашу прыняць пад увагу і дадаткі № 1, № 2 і № 3.

В[ячаслаў] К[ачанскі].

***Ціхан Чарнякевіч***
*Менск*

# МЭМУАРЫ АМЭРЫКАНКІ. НАПІСАНА ПА-БЕЛАРУСКУ

*Стагановіч-Кольба, Тамара. Абрэзкі з мінулых гадоў / Прадмова і каментары Наталлі Гардзіенкі. Мінск: Кнігазбор, 2018. 564 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 37).*




Сямейная сага Стагановічаў фактычна ператвараецца ў пэўны міталягічны комплекс тэкстаў. Стагановічы — гэта й Беларускі пасольскі клюб 1920-х, гэта Літаратурная прэмія ў галіне нон-фікшн, гэта кулінарная кніга Заходняй Беларусі, жаночы твар вайны й перасяленьня. Тут намяшаныя БНР і БЦР, палітыка даваенная й пасьляваенная, шмат кантынэнтаў, Сталін, Гітлер, Рузьвельт і бог ведае што яшчэ. Дзіўна, што дзесяць гадоў таму мы неяк бяз гэтага жылі.

"Сямейная сага" — тут выраз, мабыць, найважнейшы. Трылёгія мэмуарных кніг — Аляксандра, Марыі й Тамары Стагановічаў — паказвае тое самае *"стагодзьдзе ў рэтраспэкцыі"*. І гэта кардынальна розныя кнігі. Аўтабіяграфія Аляксандра Стагановіча — па сутнасьці, адзін з узораў тых кніг, жанр якіх можна назваць "змагарныя дарогі". Што б ні адбывалася, яго хвалюе найбольш аспэкт палітычны, глябальны, а таксама — і, можа, нават найперш — нацыянальны. Тэкст Стагановіча заснаваны на субстраце ідэі як галоўнай каштоўнасьці чалавека. Варта сказаць, што мэмуары гэтыя шмат у чым складаюцца з палемікі зь *"людзьмі 1920-х"* — Васілём Рагулем, Янкам Станкевічам, якія ў паваеннай эміграцыі фармулявалі й рэгулявалі палітыку памяці ў дачыненьні да заходнебеларускага пэрыяду нацыянальнага руху.

Абсалютна супрацьлеглымі мужнім зьяўляюцца мэмуары Марыі Стагановіч, якія скіраваныя на каштоўнасьці сямейныя, побытавыя — тое, што Аляксей Рагуля называе *"культурай каляндарна-земляроб-*

*чага цыклю”*. Акрамя ўсяго, успаміны Марыі Стагановіч — яшчэ й помнік гісторыі беларускай мовы, якую пажылая эмігрантка захавала абсалютна чыстай. А рэдактары тэксту пастараліся гэтую аўтэнтыку перадаць як мага больш акуратна.

“Абрэзкі мінулых гадоў” іх дачкі Тамары Стагановіч-Кольбы, што выйшлі летась у “Бібліятэцы Бацькаўшчыны” (папярэднія кнігі “сагі” пабачылі сьвет у “Беларускай мэмуарнай бібліятэцы” выдавецтва “Лімарыус”) — найперш прыватны расповед прыватнага чалавека.

Кідаецца ў вочы, што велізарны аб’ём у кнізе-хроніцы адведзены менавіта амэрыканскаму пэрыяду жыцця. Патлумачу. Вядома ж, на першы погляд, гэта абсалютна натуральна, бо Тамара Стагановіч жыве ў ЗША апошнія гадоў семдзесят. Зь іншага боку, калі больш-менш арыентуешся ў эміграцыйнай мэмуарыстыцы, бачыш сапраўдную ўнікальнасьць гэтай кнігі. Старэйшыны й патрыярхі эміграцыі, пішучы ўспаміны, найперш фіксавалі рэчаіснасьць 1920—1930-х гг. (як Антон Адамовіч, Яўхім Кіпель, Юрка Віцьбіч, Натальля Арсеньнева, Язэп Найдзюк, у пэўнай ступені Язэп Малецкі), бо гэта, як вышэй казалася, было важна для ідэі: трэба было паказаць небальшавіцкую й найчасьцей антыбальшавіцкую традыцыю ў гісторыі Беларусі, сказаць пра сталінскі ГУЛАГ, пра асноўных асобаў, “генэралаў” руху й інш. Яшчэ адна частка мэмуараў — аповед пра часы вайны, надзвычай контравэрсійны для шмат каго з аўтараў, які багата каго ў эміграцыі перасварыў. Калі ж узьнікала ўласна рэчаіснасьць дыяспары, то гэта таксама ў мэмуарных тэкстах найболей зьвязваецца з пэўнымі кірункамі й вельмі часта — з закалотамі. То разбудовай цэркваў, якія потым падпадаюць пад шматлікія расколы. То разбудовай інстытуцый і стварэньнем партый, якія таксама пастаянна ліхаманіць і трасе ад унутраных канфліктаў.

Уласна Амэрыка, ці Канада, ці што-кольвечы яшчэ з тэрыторыяў заставаліся нібыта ў цені таго, што адбывалася. Кожны чытач эміграцыйных тэкстаў ведае гэтае даволі дзіўнае, але, зрэшты, паказальнае адчуваньне. Вось жа грунтоўная аўтабіяграфія Тамары Стагановіч акурат гэты прабел запаўняе.

Зразумела, мы тут пабачым нешматлікія, тым ня менш фантастычна цікавыя старонкі пра дзяцінства — пра тую самую Заходнюю Беларусь, якая апісаная з такою любоўю, што міжволі ўражваешся пісьменьніцкаму майстэрству аўтаркі, што ўпершыню ўзялася за пяро.

Паказальна, што мэмуары пачынаюцца спробай той самай “ідэйнай парадыгмы”, пераказваюцца тэксты бацькі, Аляксандра, палітычная барацьба, аднак як толькі Тамара Стагановіч пачынае апісваць уласны досьвед, першыя свае ўспаміны, то нібыта хтосьці ўключае электрычнасьць, і бачыш, як той казаў, што *“everything is illuminated”*.

Гэтак і пойдзе далей, і каштоўнасьць мэмуараў Тамары Стагановіч акурат у гэтым, у абсалютна суб’ектыўным характары прыгадваньня. І ў выбары дэталяў — дзе яшчэ прачытаеш, што абавязковым дзіцячым

рытуалам у хаце Стагановічаў пасьля малітвы было пацалаваць фотаздымак бацькі — той доўгі час сядзеў у польскай турме, і дзеці бачылі яго кожнага дня толькі на гэтым фотаздымку. Гэтаксама выхапленымі дэталямі малююцца й сям'я, уласны двор і вёска, Наваградак, прыход бальшавікоў — апісаны як разбурэньне раю, пачатак страху сьмерці, вайна і ўцёкі на Захад.

Нібыта канва знаёмая, тым ня менш досьвед малодшай Стагановіч — гэта досьвед дзіцяці й падлетка, што ўпарта змагаецца за ўласнае "я". Ад самага пачатку. Далей змаганьне толькі ўзмацняецца. Тамара ўвесь час стараецца падзяліць уласны пункт погляду й погляд сям'і. Пры ўсіх цяжкасьцях яна радуецца, калі зьязджае вучыцца сама, адна ва ўкраінскую гімназію Мітэнвальду, і, наадварот, відавочна сумуе, калі празь нейкі працяглы час у Мітэнвальд прыяжджае ўся сям'я, зь якой зноў даводзіцца лічыцца й часам нават варагаваць.

Тое самае чакае яе і ў ЗША, дзе супрацьстаяньне зь сям'ёй узрастае. Грамадкі перасяленцаў замкнёныя на саміх сабе, а гэта аўтарку абсалютна не задавальняе. Яна адкрытая для шырокага сьвету — як жа ж можа бацька не дазваляць сустракацца з украінцам? Навязваньне, мэтадычнае і ўпартае, свайго абранца Пётры Манькоўскага вядзе Аляксандр Стагановіч вельмі доўга. І хоць Манькоўскі ледзь ня ў два разы старэйшы за Тамару й зусім ёй не падабаецца, яна змушаная гуляць у гэтую гульню. Сюжэт займае ладную частку кнігі і часам становіцца падобным на раман хіба не віктарыянскай эпохі. Шлюб з украінцам Аляксандрам Кольбам раўназначны разрыву — бацька фактычна адразае дачку ад сям'і, ня хоча яе ні бачыць, ні чуць.

Бежанка Тамара, якая заканчвае — бясплатна (не пры Трампе кажучы)! — дзьве прэстыжныя навучальныя ўстановы, і сярод іх Калюмбійскі ўнівэрсытэт, пастаянна кажа, што не давярае людзям і пасьля вайны разьлюбіла іх наогул. Яна малюе выключна краявіды, працуе для рэклямы, для кніжнай графікі, асвойвае плякаты, але толькі бязьлюдзьдзе яе супакойвае, дзясяткі гадоў у яе творах няма ніводнага чалавека. Гэта нібыта выцясьненьне людзей з уласнага погляду на сьвет.

Па сутнасьці, таўсьценная аўтабіяграфія Тамары Стагановіч — тая самая гісторыя посьпеху, увасабленьне "амэрыканскай мары". Безумоўна, для Беларусі, для дасьледнікаў лягераў перамешчаных асобаў важныя старонкі, дзе яна распавядае пра 1930-я ці пра ваенны пэрыяд, побыт у Эўропе. Аднак найгалоўнейшае тут для яе самой — што ўсё атрымалася. З поўнага нуля яна становіцца ведамай мастачкай, пасьпяховай і запатрабаванай. Яна сьцьвердзіла сябе і ў сям'і, і зь ёй давялося лічыцца бацькам. Ніхто не зрушыў ейнага руху да посьпеху, яна дасягнула таго, што хацела.

Сапраўды, пры заўсёднай безнадзейнасьці й невясёласьці беларускай кнігі мэмуары Тамары Стагановіч маюць супрацьлеглы характар. І гэтым цікавыя й каштоўныя.

*Кніжная паліца*

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# ЛЕТАПІС БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ

*Саўка, Зьміцер. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы. Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня 1949—1999. Падзеі. Дакумэнты. Успаміны. Пэрсаналіі. Мінск: Кнігазбор, 2019. — 604 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 38).*




Беларуска-Амэрыканскае задзіночаньне (БАЗА) займае асаблівае месца ў гісторыі беларускай дыяспары на Захадзе. Арганізацыя трывала запісалася на старонках летапісу беларускай прысутнасьці ў вольным сьвеце. Рэдка якая іншая эміграцыйная структура адыграла так значную ролю ў жыцьці беларускага замежжа. Пачаткі дзейнасьці БАЗА сягаюць 1949 г., калі на амэрыканскую зямлю паставілі сваю нагу першыя беларускія дзеячы з Эўропы — колішнія ДыПі ў лягерах на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны. Пры гэтым БАЗА належыць да ліку тых нешматлікіх беларускіх арганізацыяў, якія дасюль не спынілі свайго існаваньня. Нягледзячы на багатую й цікавую гісторыю, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне доўга чакала навуковага вывучэньня сваёй дзейнасьці.

Праўда, задума падрыхтоўкі адпаведнага выданьня, прысьвечанага гісторыі БАЗА, нарадзілася даволі даўно. Яшчэ напрыканцы 1950-х гг. пры нагодзе сьвяткаваньня 10-й гадавіны арганізацыі падчас VII Кангрэсу БАЗА (1959) прагучала ідэя стварэньня юбілейнай кнігі. З гэтай мэтай быў нават выдадзены адмысловы «Апытальнік дзеля збору матэрыялаў да брашуры “Дзясятыя ўгодкі БАЗА”», зь якім да сяброў

арганізацыі зьвярнуўся старшыня Галоўнай управы Мікола Кунцэвіч. Аднак тады гэтая шляхетная ініцыятыва не атрымала працягу.

У пазьнейшы час рабіліся чарговыя спробы падрыхтоўкі выданьня. З нагоды 25-х угодкаў дзейнасьці арганізацыі нават была створана рэдкалегія юбілейнай кнігі на чале з Васілём Русаком. Але й гэтым разам задуме не было наканавана зьдзейсьніцца, а праца рэдкамісіі абмежавалася выданьнем невялікай брашуркі. Такім чынам, працяглы час справа напісаньня гісторыі адной з найбольш уплывовых і значных беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у вольным сьвеце не пераставала быць актуальнай. Напрыканцы мінулага стагодзьдзя спробу запоўніць гэты прагал у беларускай гістарыяграфіі зрабіў дасьледнік зь Беларусі Зьміцер Саўка. Плёнам яго шматгадовай працы стала сёлетняе выданьне манаграфіі “Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы. Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня 1949—1999. Падзеі. Дакумэнты. Успаміны. Пэрсаналіі”.

Аўтар працы — ведамы мовазнаўца, які заўчасна адышоў у лепшы сьвет. Варта адцеміць, што разгляданая кніга — ня першая праца аўтара, якая тычыцца эміграцыйнай праблематыкі. Дасьледніку ўжо раней даводзілася мець дачыненьне з тэматыкай дыяспары. Так, напрыклад, ён браў удзел у падрыхтоўцы да друку ўспамінаў Яўхіма Кіпеля (Менск, 1998, 2013), Васіля Стомы “Маё мястэчка” (Мінск, 2014), а таксама бібліяграфіі “Беларускія слоўнікі і энцыкляпэдыі” (Нью-Ёрк — Менск, 2002), укладзенай супольна зь Вітаўтам Кіпелем.

Кніга, якую мы трымаем у руках, зьяўляецца вынікам праведзеных напрыканцы 1990-х гг. пошукаў аўтара ў заакіянскіх архівах, бібліятэках, прыватных і грамадзкіх зборах. Неабходна аддаць належнае дасьледніку, які мусіў працаваць з крыніцамі, расьцярушанымі па розных кутках Паўночнай Амэрыкі. Пры зборы матэрыялаў аўтару давялося павандраваць, наведваючы дзясяткі мясьцінаў у штатах Нью-Ёрк і Нью-Джэрзі, у гарадах Бостан, Спрынгфілд (штат Масачусэтс), Чыкага (штат Ілінойс) і Кліўлэнд (штат Агаё). Крыніцавую базу складаюць дакумэнты й матэрыялы, створаныя кіраўніцтвам і рэгіянальнымі аддзеламі БАЗА, а таксама паасобнымі сябрамі гэтай арганізацыі. Галоўнымі крыніцамі інфармацыі паслужылі архівы аддзелаў БАЗА (Нью-Ёрскага, Нью-Джэрзійскага, Кліўлэндзкага), прыватныя зборы (Янкі Запрудніка, Зоры й Вітаўта Кіпеляў, Міхася Тулейкі). Зьміцер Саўка сустракаўся таксама з эмігрантамі старой і новай хваляў — сябрамі й актывістамі Беларуска-Амэрканскага задзіночаньня, якія дзяліліся з дасьледнікам сваімі ўспамінамі й сьведчаньнямі. Акрамя гэтага, аўтар выкарыстаў эміграцыйную прэсу (перадусім газэту “Беларус”). Як адзначае сам дасьледнік, ня ўсе крыніцы атрымалася выкарыстаць. Так, напрыклад, частка збораў, якія захоўваліся ў прыватнай кватэры ў горадзе Фэйрлоўн (штат Нью-Джэрзі), загінула падчас паводкі, якая

шалела на ўсходнім ўзьбярэжжы ЗША ў выніку праходжаньня тайфуну Флёйд 16 верасьня 1999 г. Характарызуючы бібліяграфію працы, трэба адзначыць, што кідаецца ў вочы патрэба ейнага грунтоўнага пашырэньня. Тут мы маем на ўвазе як дасьледаваньні апошніх гадоў, гэтак і беларускія ды польскія архіваліі, якія ўтрымліваюць шмат зьвестак наконт беларускай дыяспары на Захадзе.

Паводле словаў аўтара, адна з мэтаў кнігі — зьняць з аб’екту ўвагі флёр загадкавасьці й недасягальнасьці. Дасьледнік невыпадкова абраў для сваёй працы назоў “Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы”. Найлепш гэта тлумачаць наступныя радкі з уводзінаў: «*Пра масавую беларускую эміграцыю ў ЗША як пра беларускую, а не як пра эміграцыю зь Беларусі можна казаць толькі ў зьвязку з прыбыцьцём у Вольны Сьвет палітычных уцекачоў па Другой сусьветнай вайне. Пачаўшы зь нічога, яны ня толькі здолелі заняць належнае месца ў амэрыканскім грамадстве, — адарваныя ад Радзімы, зь вельмі прывіднымі надзеямі на вяртаньне, пазбаўленыя крыніцаў праўдзівай інфармацыі пра жыцьцё на Бацькаўшчыне, яны стварылі сапраўдную беларускую цывілізацыю па-за Беларусьсю. На працягу паўстагодзьдзя дзеялі палітычныя, грамадзкія, культурніцкія інстытуцыі, паўставалі беларускія цэрквы, выходзілі пэрыёдыкі, ставіліся спэктаклі, праводзіліся выставы, ладзіліся самыя розныя імпрэзы, зьбіраліся подпісы, адбываліся дэманстрацыі, а ў беларускіх школах гадаваліся беларускія дзеці. Тое, што давялося застаць мне: сотні кніг, газэтных гадавікоў, дзясяткі тысячаў архіўных дакумэнтаў, здымкі, буклеты, запрашальнікі, візытоўкі, — гэта ўсё складае той культурны слой, што застаўся нам як сьведчаньне існаваньня цывілізацыі. Называю яе вялікаю ня столькі з прычыны вялікай колькасьці “руінаў”, а з прычыны захапленьня веліччу духу тых людзей, якія ніколі не згадзіліся з стратаю Беларусі, з стратаю сябе як носьбітаў унікальнае сутнасьці — беларускасьці*» (с. 31—32). Сапраўды, складана не пагадзіцца з працытаванымі словамі.

Праца складаецца з чатырох частак, што, дарэчы, знайшло сваё адлюстраваньне ў назве: падзеі, дакумэнты, успаміны, пэрсаналіі. Аднак зьмест пабудаваны такім чынам, што пад адной вокладкай аказаліся зьмешчаныя дзьве кнігі: першая — гэта гісторыя Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, а другая ёсьць своеасаблівым дадаткам і дакумэнтальным дапаўненьнем першай, паколькі ўтрымлівае дакумэнты, успаміны, размовы з эмігрантамі. Найбольш абшырная частка кнігі (першая) прадстаўляе нарыс гісторыі БАЗА, ахапіўшы пэрыяд ад узьнікненьня арганізацыі да 1999 г. Аўтар асьвятляе гісторыю Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, упісаўшы яе ў агульны грамадзка-палітычны кантэкст, які панаваў у разгляданы час. Апрача таго, у кнізе даецца кароткі агляд гісторыі беларускай прысутнасьці ў ЗША да таго,

як сюды прыбылі эмігранты паваеннай хвалі. Дасьледнік аналізуе таксама прычыны эміграцыі тысячаў суайчыньнікаў за акіян. Праўда, робячы агляд эміграцыйных хваляў зь Беларусі, аўтар ня згадвае пра яшчэ адну групу — "андэрсаўцаў". Побач з *DP* менавіта былыя жаўнеры Польскіх ўзброеных сілаў на Захадзе спрычыніліся да фармаваньня паваеннай беларускай дыяспары ў вольным сьвеце. У некаторых краінах (Вялікабрытанія, Бэльгія) гэтая катэгорыя эмігрантаў нават дамінавала сярод беларускай дыяспары. Многія зь іх апынуліся таксама ў Паўночнай Амэрыцы, дзе заангажаваліся ў дзейнасьць мясцовых арганізацыяў, у тым ліку БАЗА.

Аўтар закранае шматлікія бакі чыннасьці Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У сувязі з гэтым варта больш уважліва прыгледзіцца да нутраной структуры першай часткі кнігі. Разьдзелы "Што такое БАЗА?" і "За годам год" даюць чытачу поўнае ўяўленьне пра тое, калі й як была створаная гэтая арганізацыя. Зьміцер Саўка паказвае асноўныя этапы ў ейным разьвіцьці, засяроджваецца на найбольш важкіх і пераломных падзеях, якія значна паўплывалі на жыцьцё Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Да іх ліку належаць, між іншым, непаразуменьні ў БАПЦ у 1980-я гг., справа Лёфтуса, уплыў міжнародных чыньнікаў. У першыя гады існаваньня БАЗА адыгрывала значную ролю ў працэсе пераезду беларусаў з Эўропы ў ЗША. Дзейнасьць, накіраваную на "сьцягваньне" родзічаў з Эўропы, аўтар ацэньвае як вельмі плённую. Яскрава сьведчыць аб гэтым факт, што цягам трох месяцаў 1950 г. БАЗА "сьцягнула" з Эўропы 200 беларускіх сем'яў. Сярод іх былі такія ведамыя асобы, як Аўген Каханоўскі, Францішак Кушаль і Натальля Арсеньнева, Пятро Міраніч, Мікола Куліковіч-Шчаглоў.

Нямала ўвагі ў працы прысьвечана інфармацыйнаму супрацьстаяньню паміж беларускімі эмігрантамі й савецкай прапагандай. У кнізе мы знаходзім зьвесткі пра ўдзел сяброў БАЗА ў антысавецкіх і антыкамуністычных дэманстрацыях, а таксама актыўнасьць савецкіх чыньнікаў, якія мелі на мэце дыскрэдытацыю эмігрантаў як "ваенных злачынцаў" і "ворагаў уласнага народу" (гл. падразьдзел "У брудным люстры савецкае прапаганды"). Акрамя таго, аўтар зьвярнуў увагу на дасюль зусім малаведамыя эпізоды з гісторыі амэрыканскіх беларусаў, як, напрыклад, служба базаўцаў у амэрыканскім войску. Ня менш цікавым зьяўляецца аповед пра кантакты амэрыканскіх беларусаў з Бацькаўшчынай (да й пасьля 1991 г.), а таксама з польскімі беларусамі ў 1980-я гг. Варта тут прыгадаць, што беларускія дзеячы за акіянам ініцыявалі акцыю аказаньня матарыяльнай дапамогі родзічам у камуністычнай Польшчы (*"пачкі ў Беласточчыну"*). Аўтар працы закрануў таксама іншую істотную праблему. Ён шукае адказу на пытаньне, чаму эмігранты зь Беларусі хутка "расплываліся" сярод іншых чужынцаў і ў выніку рабіліся незаўважнымі ў вачох амэрыканскай грамадзкасьці.

У якасьці адной з прычынаў дасьледнік бачыць зьмену прозьвішчаў на мясцовыя. Гістарычны нарыс БАЗА дапаўняюць зьвесткі адносна кангрэсаў арганізацыі (за 1949—2007 гг.) і справаздачна-выбарчых сходаў ейнага кіраўніцтва.

Вялікую цікавасьць мае таксама разьдзел "На Капіталійскім пагорку", у якім гаворка ідзе пра палітычныя прэфэрэнцыі амэрыканскіх беларусаў і іх удзел у выбарчых кампаніях на баку як рэспубліканцаў, гэтак і дэмакратаў (гл. падразьдзел "Беларусы і амэрыканская палітычная сыстэма"). Мэтай гэтай падтрымкі было прыцягненьне ўвагі прадстаўнікоў амэрыканскай палітычнай эліты на Беларусь і беларускія справы. Адначасова аўтар прасочвае стаўленьне амэрыканскіх палітыкаў да беларускіх эмігрантаў. Варты ўвагі таксама разьдзел "Ад Атлянтыкі да Пацыфіку", у якім аналізуецца структура БАЗА й даецца кароткая гісторыя ўзьнікненьня й дзейнасьці паасобных аддзелаў арганізацыі: Нью-Ёрскага, Чыкагскага, Кліўлэндзкага, Каліфарнійскага й інш. Не абмінуў сваёй увагай аўтар таксама арганізацыяў, якія альбо дзейнічалі пад парасонам БАЗА, альбо фармальна не належалі да Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, але былі зь ім шчыльна зьвязаныя. Гэтаму баку праблемы прысьвечаны разьдзел "Афіляваныя й спадарожныя арганізацыі". Асобна ў кнізе разглядаецца культурна-асьветная й мэдыйная дзейнасьць БАЗА. Гэтых пытаньняў тычацца разьдзелы "Большыя акцыі ды імпрэзы", "Мэдыі", "Асьвета". У прыватнасьці, у працы можна знайсьці зьвесткі пра захады эмігрантаў, накіраваныя на атрыманьне магчымасьці беларускага вяшчаньня на хвалях "Голасу Амэрыкі" і іншых тамтэйшых радыёстанцыяў, а таксама спробы дамагчыся адкрыцьця амэрыканскага консульства ў Менску. У кнізе знайшла сваё адлюстраваньне асьветная праца сярод моладзі (нядзельныя школы) і дарослых (імпрэзы), якая вялася намаганьнямі БАЗА. Першую частку кнігі завяршае разьдзел "Гадавы каляндар базаўца", у якім аўтар зрабіў спробу рэканструяваць найбольш значныя падзеі (рэлігійныя й нацыянальныя сьвяты, арганізацыйныя сходы), якія адбываліся ў жыцьці шараговага сябры БАЗА на працягу году.

Ствараючы ўсебаковы аповед пра арганізацыю амэрыканскіх беларусаў, аўтар не вагаецца, ці пісаць таксама пра цяжкія й вострыя моманты ў гісторыі дыяспары (падзелы й канфлікты), якія былі часткай гісторыі паваеннай хвалі эміграцыі. Дасьледнік закранае пытаньне ўзаемадачыненьняў паміж двума варагуючымі лягерамі, якія існавалі на эміграцыі, — "крывічамі" й "зарубежнікамі". Ён піша пра спробы паяднаньня й аналізуе прычыны іх паразаў. Варта падкрэсьліць, што, асьвятляючы гэты ўнутрыбеларускі канфлікт, аўтар намагаецца захаваць максымальную нэўтральнасьць. Аднак падаецца, што часам аўтар крыху перабольшвае ўплыў рэлігійнага чыньніка на ўзьнікненьне непаразуменьняў у эміграцыйным асяродзьдзі. У адным з разьдзелаў

працы гаворка ідзе пра закалот сярод сяброў БАЗА, які быў вынікам спрэчкі паміж Станіславам Станкевічам і Кастусём Мерляком. Дасьледнік схільны бачыць у гэтым канфлікт паміж “інтелектуалізмам” і “папулізмам”. Сваё меркаваньне ён абгрунтоўвае тым, што Мерляк падыгрываў на антыкаталіцкіх і антыпольскіх настроях “палешукоў” (с. 84). Гэтае цьверджаньне цалкам адпавядае праўдзе. Аўтар слушна адзначае, што апэляваньне некаторых дзеячаў да канфэсійных адрозьненьняў не спрыяла ўмацаваньню нацыянальнай супольнасьці. На нашую думку, неабходна, аднак, растлумачыць сутнасьць і генэзу такіх антаганізмаў на глебе розьніцы веравызнаньняў, бо ў адваротным выпадку ў чытача, незнаёмага з асаблівасьцямі міжрэлігійных адносінаў у міжваенны час, можа скласьціся памылковае ўяўленьне пра гэтую складаную зьяву.

Каштоўным дапаўненьнем гісторыі БАЗА зьяўляецца выбар дакумэнтаў арганізацыі, а таксама абшырны разьдзел (больш за 150 старонак) успамінаў паваенных эмігрантаў і запісы размоваў з тымі, з кім давялося сустрэцца й размаўляць аўтару. Сярод іх знаходзяцца ўспаміны Вітаўта Кіпеля, Міхася Белямука, Васіля Русака, Францішка Бартуля, Яніны Каханоўскай, Вячкі Станкевіча й інш. Кнігу завяршае зьместоўны слоўнік беларускіх эміграцыйных дзеячаў.

Бяспрэчна, кніга Зьмітра Саўкі ўтрымлівае багаты факталягічны матэрыял, насычаная інфармацыяй пра эпоху, падзеі й людзей. Яна схіляе чытача да рэфлексіі над мінулым і будучыняй Беларускай Амэрыкі. Адначасова праца заахвочвае да навуковай дыскусіі вакол шматлікіх праблемаў, якія ўзьняў у сваёй працы аўтар. Кніга не вычэрпвае цалкам дасьледванай тэмы (тым больш што БАЗА працягвае дзейнічаць), але стварае вельмі добрую падставу для далейшых дасьледаваньняў гісторыі Беларускай Амэрыкі ў цэлым і гісторыяй Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня ў прыватнасьці. Многія пытаньні й праблемы, якія закрануў аўтар, заслугоўваюць далейшага разгляду з улікам выкарыстаньня новых крыніцаў на Бацькаўшчыне й за мяжой. У сувязі з гэтым кніга будзе выдатным спадарожнікам і дапаможнікам усім тым, хто ў будучыні наважыцца вывучаць гісторыю й сучаснасьць беларускай дыяспары за акіянам.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# БЕЛАРУСКІ НЬЮ-ЁРК

*Сурмач, Ганна. Беларускі Нью-Ёрк. New York, 2019. 456 с.*




Выйшла кніга, патрэба якой проста лунала ў паветры, і абсалютна слушна гучаць словы генэратара ідэі кнігі й натхніцеля Вітаўта Кіпеля, якія прыводзіць аўтарка: *“Як гэта мы не зрабілі такога даведніка да сёньняшняга часу!”* (с. 8).

Важнымі для ўспрыняцьця выданьня ёсьць наступныя тлумачэньні (тут і далей аўтарскі правапіс і пунктуацыя захаваныя): *“Напачатку трэба было вырашыць і пытаньне, пра тое, якога будзе тыпу кніга. У выніку прыкідаў і роздумаў мы са сп. Кіпелем спыніліся на меркаваньні, што гэта не павінна быць навуковая ці навукова-папулярная праца, а толькі інфармацыйная, прыкладнога значэньня. [...] Таму вы не знойдзеце ў кнізе навукова апрацаваных спасылак, каментароў і іншых атрыбутаў навуковага выданьня”* (с. 9).

Да спасылак — хай не *“навукова апрацаваных”*, а проста бібліяграфічных — яшчэ давядзецца вярнуцца, а тым часам неабходна спыніцца на вельмі істотнай фармулёўцы — *“прыкладнога значэньня”*.

Калі ідзе гаворка пра пуцяводнік, пра даведнік, першасная вымога, патрабаваньне да яго — лёгкі, хуткі пошук адказу на паўсталае пытаньне: хто, дзе, што. Не гартаць кнігу пастаронкава, а, зазірнуўшы ў паказьнік, адразу знайсьці адпаведную старонку й неабходную інфармацыю.

І тут зь немалым зьдзіўленьнем чытач ці, дакладней будзе, карыстальнік заўважае, што паказьніка няма! Ні іменнага, ні — што наогул невытлумачальна — геаграфічнага!

Так што гаворка пра *“прыкладное значэньне”* ісьці аніяк ня можа, застаецца чытаць “даведнік”, як звычайную кнігу.

А кніга складаецца з трох частак.

Першая — “Кароткі агляд гісторыі беларускай прысутнасьці ў Нью Ёрку” — мае наступныя разьдзелы: Раньняя іміграцыя (XVII ст. — трэйцяя чвэрць XIX ст.); Масавая іміграцыя (канец XIX ст. — да Першай сусьветнай вайны); Іміграцыя ў пэрыяд між Сусьветнымі войнамі; Паваенная іміграцыя; Грамадзкае жыцьцё, арганізацыі, цэрквы; Моладзевы рух; Нацыянальна-культурная дзейнасьць; Выдавецкая, навуковая і асьветная дзейнасьць; Грамадзка-палітычная дзейнасьць; Удзел у грамадзкім жыцьці Амэрыкі; Выбітныя асобы беларускай іміграцыі ў Нью-Ёрку; Сувязі з Бацькаўшчынаю; Новая іміграцыя і сучаснае жыцьцё беларусаў Нью-Ёрку.

Другая частка пад назовам “Спадарожнік па беларускіх мясьцінах Нью-Ёрку” ўлучае ў сябе разьдзелы пра Манхэтан, Бруклін, Куінс, Бронкс, Статэн-Айлэнд, а таксама *“Грамадзкі транспарт у Нью-Ёрку”* й *“Нью-Ёрскі маратон”*.

І апошняя, трэцяя частка — “Беларускія мясьціны паблізу Нью-Ёрка” — расказвае пра Лонг-Айлэнд, Апстэйт, Вэст-Пойнт, Араў-Парк, Нью-Джэрзі й Філядэльфію.

Лягічнай выглядае наяўнасьць у кнізе першага разьдзелу. Сапраўды, гаворачы пра беларускі Нью-Ёрк, варта згадаць, няхай подбегам, гісторыю абеларушчваньня нашага яблычнага гораду. Тым больш што на гэтую тэму ўжо ладна было напісана, пачынаючы ад энцыкляпэдычнай манаграфіі Вітаўта Кіпеля “Беларусы ў ЗША”. Але ў тым і хавалася пэўная небясьпека.

Адразу было зразумела, што першы разьдзел — пераважна кампіляцыя, ня плён уласных дасьледаў і вышукаў аўтаркі, і калі ўжо абраны “бесспасылачны” шлях (хоць бібліяграфічныя спасылкі — гэта ня толькі сьведчаньне навуковай ці хоць бы навукова-папулярнай публікацыі, але хіба прафэсійнасьці чалавека, які хоча пазьбегнуць абвінавачваньня ў плягіяце), дык варта было пачаць зь невялікага уступу, на старонку, а мо й меней, дзе б даваўся кароткі пералік скарыстанай літаратуры. Гэтага няма, і тое пакідае непрыемны прысмак пры чытаньні.

Тым больш дзіўна пры наяўнасьці немалой літаратуры па тэме чытаць, прыкладам, наступнае: *“А людзям, хто быў надзелены творчым талентам, хацелася выявіць свае думкі і пачуцьці праз паэтычнае слова, празаічныя творы, праз мэлёдыю, праз мастацкую творчасьць. Сярод іх былі вядомыя яшчэ з Беларусі культурныя дзеячы, якія пасяліліся ў Нью Ёрку: літаратары Натальля Арсеньнева, Юрка Віцьбіч, Янка Юхнавец, Міхась Міцкевіч (Галіна), Уладзімір Сядура, Янка Золак, Рыгор Крушына, Уладзімір Глыбінны, Міхась Кавыль, Анатоль Бярозка, кампазытары Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Алесь*

*Каптуровіч, Эльза Зубковіч, Дзмітры Верасаў, Ксавэры Барысавец, Вячаслаў Селях-Качанскі, сьпявачкі Надзея Градэ і Барбара Вержбаловіч, мастак Пётра Мірановіч"* (с. 100).

Нібыта ўсяго толькі адзін абзац, але: Юрка Віцьбіч, Янка Золак, Міхась Кавыль, Вячаслаў Селях-Качанскі, Ксавэры Барысавец ніколі не былі жыхарамі Нью-Ёрку, Янка Юхнавец ніколі ня быў *"ведамым яшчэ зь Беларусі культурным дзеячам"*, Алесь Каптуровіч — гэта, відаць, кантамінацыя музыкаў Андрэя Каптуровіча й Алеся Карповіча, а Ўладзімер Глыбінны і Ўладзімер Сядура — гэта наогул адзін і той чалавек.

Троху мо нясьціпла пра тое, але і ў пераліку рэдактараў газэты "Беларус" прапушчана імя, акурат паміж імёнамі Зоры Кіпель і Марата Клакоцкага (с. 68), яшчэ аднаго рэдактара — Лявона Юрэвіча (пра гэта глядзі ў кнізе Лявона Юрэвіча «Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус" (1947—2000)»[1]). Сёньняшняй рэдактарцы "Беларуса" ня сорам было б ведаць усіх сваіх папярэднікаў.

Ёсьць неадпаведнасьці праўдзе й іншага пляну, іншага памеру.

Зацытуем з кнігі: *"Тыя першыя імігранты, што прыехалі раней, адыгралі важную ролю, бо дапамаглі многім беларусам з лягераў ДП перабрацца ў Амэрыку. Яны дасылалі запросіны сваім знаёмым і сябрам ў Нямеччыне на прыезд у ЗША і выстаўлялі сябе гарантамі для іх перад амэрыканскімі ўладамі. Таксама аказвалі на першым часе неабходную дапамогу новапрыбылым, якія прыбывалі ў Нью-Ёрк. Вядомы беларускі дзеяч Янка Станкевіч не толькі шмат каму дапамог пераехаць у ЗША, але нават наняў танныя кватэры ў Гарлеме (Harlem) на 100 Street ў Мангатэне, каб прыбылыя адразу маглі мець прытулак і пажыць некаторы час за невялікую плату"* (с. 49—50).

А вось як пра тую "дабрачыннасьць" згадвае ў сваім апошнім інтэрв'ю Галіна Руднік (Ганчарэнка): *"Нью-Ёрк у 1950-м годзе — гэта быў рай: жыльля колькі хочаш. На самым пачатку мы жылі на сотай вуліцы Іст у Манхэтэне. Там было спакойна, можна было ўначы на вуліцу выйсьці і нікому нічога не станецца. Год перад намі ў Амерыку прыехаў Янка Станкевіч, і ў яго была жылка такая прадпрымальніцкая. Ён здымаў кватэру, там было чатыры пакоі, ён здымаў яе за 48 даляраў на месяц. А потым кожны пакой ён здаваў беларусам па 48 даляраў на месяц. Так што меў прыбытак вельмі добры, такі бізнэс быў. А тады ён нам запрапанаваў іншую кватэру, у яго на Брукліне яшчэ была. І мы туды перайшлі. Але там нейкі быў канфлікт, і тады нам суродзічы дапамаглі, і мы знайшлі кватэру на Норфалк-стрыт на самым Даўнтаўн у Манхэтэне. 13.50 каштавала*

[1] Юрэвіч, Лявон. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў "Бацькаўшчына" й "Беларус" (1947—2000). Мінск, 2000. С. 147.

*нам на месяц. Жытло цёплае, было аграваньне. Старыя такія дамы, але ўсё добра: уборная, каналізацыя. Мы там жылі і адтуль я ўжо ў Еўропу паехала"*[2].

Напэўна, да месца будзе сказаць пра сутнасьць "канфлікту", які закранула спадарыня Галіна. Зь ліста Вітаўта Тумаша: *"У сваім часе Сп. Др. Я. Станкевіч напісаў прэзыдэнту аднаго з амэрыканскіх унівэрсытэтаў брудны данос на беларускую дзяўчыну-студэнтку, што паводле ягоных меркаваньняў павінна было прычыніцца да выключэньня яе з унівэрсытэту. Аднак прэзыдэнт унівэрсытэту ня толькі зігнараваў данос, але абурана запытаўся ў дзяўчыны, ці не камуністы той, хто пісаў данос"*[3].

Тою дзяўчынаю й была Галіна Ганчарэнка.

Пералік падобных недакладнасьцяў, памылак, дзе большых, дзе меншых, а калі-некалі, як бачым, і стварэньня мітаў можна доўжыць, але гэта заняло б нямала месца. Так што паводле першага разьдзелу — трэба з скрухаю прызнаць, што аўтарка сваё заданьне не выканала. З наяўнасьцю, паўтаруся, ужо дастаткова багатай літаратуры, прычым ня толькі датычнай гісторыі беларусаў у ЗША наогул і ў Нью-Ёрку ў прыватнасьці, але й літаратуры біяграфічнай, якую ачольвае даведнік, створаны Натальляй Гардзіенкай і зьмешчаны ў № 37 "Запісаў БІНіМ".

Таму пяройдзем лепш да двух наступных, маючых быць піянэрскімі разьдзелаў кнігі, папярэдзіўшы аднак, што калі чытач трапіўся сумленны, ён цалкам можа перажыць *déjà vu*, бо *"з улікам практычнай мэтазгоднасьці некаторыя зьвесткі дублююцца ў Агглядзе і Спадарожніку. Меркавалася, што некага з чытачоў можа зацікавіць не ўся кніга, а толькі адна з яе частак. Напрыклад калі спатрэбіцца толькі Спадарожнік, тут варта паўтарыць важную інфармацыю з Агляду, каб чытач меў як найбольш поўнае ўяўленьне пра той ці іншы аб'ект аповяду"* (с. 10).

Ня пэўны, што гэта была добрая, прадуманая ідэя; а калі ўсё ж рабіць гэткае, варта было шукаць разнастайныя шляхі падачы аднаго й таго самага факту, бо чытаючы наноў, прыкладам, што Юрка Кіпель здарыў Музэю іміграцыі на высьпе Эліс абраз Пётры Мірановіча "Беларускія эмігранты" або пра Нью-Ёрскую публічную бібліятэку, міжволі думаеш пра нейкі тэхнічны недагляд.

Пуцяводнік, ці, у аўтарскім вызначэньні, Спадарожнік, па Нью-Ёрку — рэч быццам бы зразумелая: сталіца сьвету, па якой цябе вядуць

---

[2] Галіна Руднік: Першае спатканне і апошняе інтэрв'ю // Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". https://zbsb.org/news/abroad/galina-rudnik-pershae-spatkanne-i-aposhnyae-interv-yu/?sphrase_id=270352.

[3] Юрэвіч, Лявон. Жанры. Мінск, 2013. С. 202.

і расказваюць. Гэтая простая ісьціна й “асоба” самога гораду спрычыніліся да зьяўленьня неверагоднай процьмы пуцяводнікаў: славутыя *NFT* (не для турыстаў), *Pop culture*, *Subway adventure guide, All-you-can-eat New York, Shopping guide in NY* ды дзясяткі іншых, тэматычных, не гаворачы пра геаграфічныя, ад гораду цалкам да асобных кварталаў, вуліцаў, нават фантанаў *etc*. Нью-Ёрская публічная бібліятэка толькі на тэму *New York Guides* мае больш за 1280 пазыцыяў. Так што пытаньне пры напісаньні чарговага пуцяводніка па Нью-Ёрку стаіць ня столькі *што* (тут як бы ўсё зразумела), колькі *як*. І, трэба сказаць, назоў разгляданага выданьня хіба троху ўводзіць у зман.

Большая частка другога й трэцяга разьдзелаў кнігі — гэта ня столькі *Беларускі Нью-Ёрк*, колькі *Нью-Ёрк па-беларуску*. І яно было б абсалютна выдатна само па сабе, бо сапраўды гэта першы пуцяводнік у беларускай мове па гэтым цудоўным, пачварным, прыгожым, брудным — адным словам, унікальным горадзе! От толькі хіба назоў падманвае, як тыя русальчыны сьцежкі Эдуарда Самуйлёнка.

Не, у пуцяводніку прысутнічае й сапраўдны *беларускі Нью-Ёрк*, і тут аўтарка прарабіла бясспрэчна вялікую працу ў працэсе *mapping territory*. Проста гэтая каштоўная праца ўспрымалася б лепш, каб чытач (карыстальнік) уваходзіў у яе, маючы разуменьне, куды й па што ён ідзе.

А ісьці, далібог, варта! Ганна Сурмач паяднала гістарычныя зьвесткі з уласным вопытам месца, людзей, асабістага лёсу ў гэтым яблычным, але далёка ня лёгкім, няпростым горадзе. Атрымалася займальнае, карыснае, па-добраму спажывецкае чытво.

І які, аказваецца, багаты менавіта беларускі Нью-Ёрк! Пачынаючы ад верша Эмы Лазарус “Новы Калос”, прысьвечанага статуі Свабоды й які ўпершыню друкуецца ў перакладзе Натальлі Арсеньневай, спыняючыся каля дамоў у Манхэтане, дзе жылі суседзямі Антон Шукелойць і Юлія й Павал Андрусышыны, мінаючы былую карпатарускую царкву, дзе ў 1950 г. ладзілася беларуская вечарына й паказвалася п’еса “Чорт і баба”, а далей — майстэрня Генрыха Архацкага, віленчука, які ня толькі рабіў матрыцы для газэты “Беларус”, але й выпусьціў марку, прысьвечаную гадавіне Слуцкага паўстаньня з надпісам *“Пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына”*.

Потым *Madison Square Garden*, які для нас, беларусаў, найперш павязаны зь імем Вольгі Корбут і… Дональда Трампа, толькі пра тое трэба ў кнізе чытаць самім, як і пра гісторыю разбурэньня Пэнсыльванскага вакзалу, у якім браў удзел Юрка Віцьбіч.

Далей згадваюцца адрасы, дзе беларусы ладзяць акцыі пратэсту, дэманстрацыі, і Мэтраполітэн-опэра, сьцены вэстыбюлю якога ўпрыгожаныя фрэскамі Марка Шагала, а на сцэне ў 1913 г. сьпявала беларуская артыстка Ганна Мейчык. А адтуль можна прайсьціся яшчэ далей, у Цэнтрал-парк, дзе стаіць статуя караля Ягайлы.

Калі застануцца сілы — тады ў Бруклін, найперш у сабор Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык авэню, потым праз мост Касьцюшкі — да вуліцы Касьцюшкі, а там і аднайменная станцыя падземкі.

А потым можна ў Куінс, дзе знаходзіцца Беларуская фундацыя Крачэўскага, ды адтуль у раён Рычманд-Гіл, да другой беларускай праваслаўнай царквы, таксама імя Сьв. Кірылы Тураўскага.

Асобна неабходна сказаць пра ілюстрацыі. Іх у кнізе — безьліч, і чорна-белых, і каляровых, і самога гораду, і беларусаў у ім.

З улікам гэтага, а таксама з чуткаю, што кніга выдадзеная нават не мізэрным накладам, а.. у 16 асобнікаў, варта сказаць наступнае:

Аўтару хацелася б пажадаць перадумаць структуру, падачу матэрыялу й назоў кнігі.

Кнізе неабходны прафэсійны рэдактар з абавязковым веданьнем гісторыі эміграцыі.

Кнізе неабходны карэктар, які даў бы рады правапісу, коскам, а таксама выправіў бы абдрукоўкі кшталту *Сяржук Сокалаў-Выш* (с. 207).

Кнізе неабходны прафэсійны макетоўшчык, які зрабіў бы тэкст на старонках больш шчыльным.

Ну й кнізе пажаданы таксама прафэсійны мастак, які б замест вокладкі з Пагоняй, што імчыць па бел-чырвона-белай сьцяжынцы на фоне хмарачосаў Манхэтану, прапанаваў бы штосьці больш арыгінальнае й адпаведнае зьместу, прыкладам мапу падземкі Нью-Ёрку (гэта заўсёды карысна мець у пуцяводніку!) з пазнакаю *беларускіх* станцыяў.

А зрабіць выданьне, якое накладам забясьпечыла б беларусаў па абодва бакі акіяну, абсалютна варта. Каб не згубіцца ў сталіцы сьвету, у гэтым яблычным горадзе, які й шмат для якіх беларусаў стаўся сваім. Стаўся домам.

## *Кніжная паліца*

***Ганна Севярынец***
*Менск*

# ДЗЬВЕ ДУШЫ — АДЗІН ЛЁС

*Газеты “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Выбранае / Уклад. Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2019. 616 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 39; Спадчына: агледзіны).*




У росшуках, аднаўленьні й асэнсаваньні паўнавартаснай гісторыі беларускай культуры — а мы яшчэ й да сёньня ня маем пра яе ўяўленьня, адпаведнага існасьці, — ёсьць адна сьцежка,ісьці па якой і захапляльна, і нечакана, і варта. Пры ўсёй драматычнасьці зьявы мы безумоўна можам быць удзячныя лёсу, што маем такую сьцежку й маем людзей, што яе пракладаюць, не даючы зарастаць травой забыцьця. Я кажу аб асаблівай зьяве ў нашай агульнай культурнай прасторы — беларускай эміграцыі, беларускіх дыяспарах, што складаюцца й жывуць за мяжой. Прыкладам, сібірскія беларусы, што павезьлі з сабой сто дваццаць гадоў таму тую яшчэ беларускую мову, рытуалы й звычаі, сьпевы й танцы, — яны й да сёньня захавалі ўнутры сябе несаветызаваную лексыку, неабальшавічаны нацыянальны сьвяточны каляндар. Што й казаць пра беларусаў амэрыканскіх і заходнеэўрапейскіх, што траплялі ў сьвет, значна вальнейшы й багацейшы за той, адкуль беглі ці то ад нішчымніцы, ці то ад няволі, ці то ад рэжымаў. Тут у вельмі складаных пэрсанальных і матэрыяльных, але непараўнальна больш спрыяльных духоўных умовах яны мелі тое, чаго не магла ім даць Радзіма — магчымасьць вольнага мастацкага выказваньня й неабмежаванай інтэлектуальнай рэфлексіі.

Для мяне, дасьледніцы, якая працуе з культурай Савецкай Беларусі міжваеннага часу, менавіта гэтае вольнае выказваньне й інтэлектуальная рэфлексія беларускай заходняй эміграцыі — надзвычай каштоўны здабытак, бо якраз волі й рэфлексіі катастрафічна не хапае корпусу савецкіх міжваенных тэкстаў, як тагачасных, гэтак і мэмуарных. Каб дабрацца да сапраўднай карціны часу, настрояў, думак, ваганьняў і сумневаў культурнікаў эпохі беларусізацыі й агульнанацыянальнай катастрофы трыццатых, даводзіцца прасейваць горы слоўнай руды, чытаць паміж радкоў, прабірацца цераз цэнзурныя й ідэалягічныя гушчары, шчыльна працаваць з “мовай нянавісьці” й “эзопавай мовай” — і непазьбежна фантазіраваць, бо чытаньне паміж радкоў і вандроўкі ў моўных гушчарах — занятак рызыкоўны.

Дарэчы, ня менш рызыкоўны, чым прыняцьце карціны сусьвету, створанай у беларускай паваеннай эміграцыі, за карціну паўнавартасную, цэльную, вольную ад ідэалягічных абмежаваньняў. Вывозячы з сабой за мяжу закансэрваваную ў мове і ўражаньнях Беларусь дваццатых, эмігранты адначасова вывозілі цяжар уласных досьведаў і адпаведных стасункаў: па-рознаму складаліся іхныя лёсы на Радзіме, шмат хто зь іх зьведаў як шчыльную супрацу з савецкімі літаратурнымі й дзяржаўнымі “органамі”, гэтак і жорсткія рэпрэсіі, з-пад ціску якіх даводзілася выбірацца рознымі спосабамі, у тым ліку й ня надта прымальнымі. Эміграцкая рэфлексія, спасьціжэньне часу й ягоных заканамернасьцяў гэтаксама няпоўныя, іншым разам — ці не ў такой самай ступені скажоныя, як і рэфлексія беларуская савецкая. Але складзеныя разам, супастаўленыя ў фактах і асобах, асэнсаваныя ў еднасьці — яны якраз і даюць пэўнае адчуваньне аб’ектыўнасьці й цэласнасьці. Ні той, мэтрапалійны, ані другі, выгнаньніцкі, беларускія сусьветы ня могуць спасьцігацца паасобку — і ніводны ня можа існаваць без другога.

Мабыць, і беды нашыя — агульныя, хоць і розьняцца ўмовы існаваньня. *“Але ёсьць глыбейшая прычына нашых наяўных бедаў — прычына, што папяраджае ўсе іншыя, а якая ў мінулым не дазволіла нам сабрацца зь сіламі, каб сьсінуць зь сябе ярмо няволі. Тэй прычынай ёсьць нябачная навонкі духовая няволя, у зрадным павуціньні якое шмат хто з нас затраціў шлях да шчасьця і свабоды”* — гэтыя словы Пётры Манькоўскага, вынесеныя ў эпіграф да кнігі выбраных артыкулаў эміграцкай прэсы, і да сёньня актуальныя для кожнага з нас, у нашым беларускім часе.

Безумоўна, эміграцкая прэса — непараўнальна багацейшая за савецкую на асэнсаваньне гэтых агульных бедаў. Тое, чаго зусім ня мелі савецкія беларусы — магчымасьці вольна рэфлексаваць над нацыянальным пытаньнем і выказвацца без абмежаваньняў, — напоўніцу рэалізавалі беларусы-выгнанцы. Мы сёньня ў сваёй агульнанацыянальнай рэфлексіі — не заўсёды ўсьвядомлена, з вынаходніцтвам

інтэлектуальных ровараў — ідзем па сьлядах, пратаптаных газэтамі “Бацькаўшчына” й “Беларус”, хіба што эмігранцкая публіцыстыка, па праўдзе кажучы, і глыбейшая, і грунтоўнейшая за нашую сучасную, бо замешаная на непасрэдным досьведзе пабудовы сваёй дзяржавы й на ўласным удзеле ў драматычных падзеях пачатку XX стагодзьдзя. Да таго ж агульная стылістыка “той” публіцыстыкі яшчэ патрабавала ад аўтараў і грунтоўных акадэмічных ведаў, і ўласных канцэпцыяў, і глыбокай гістарычнай думкі, што ў сучаснай газэтнай аналітыцы зусім не абавязковыя. Артыкулы Алеся Крыгі (Станіслава Станкевіча) “Сіла беларускай нацыянальнай ідэі” й Янкі Станкевіча “Беларускае нацыянальнае адраджэньне (1902—1915)” — узорныя абагульненьні нацыянальнай думкі, тэксты, у якіх нашыя геаграфічныя, сацыяльныя й культурныя асаблівасьці разьвіцьця й сталеньня ўкладзеныя ў абавязковыя фармулёўкі.

Гэткай самай грунтоўнасьцю адзначаны надзвычай цікавы артыкул Язэпа Каранеўскага (зноў — псэўданім Станіслава Станкевіча) “За іншую канцэпцыю беларускае вонкавае палітыкі” — яго б сёньня вывучаць на факультэце міжнародных адносінаў!

Але кніга «Газэты “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Выбранае» далёкая ад таго, каб біць свайго чытача па галаве цэгламі агульнанацыянальных канцэпцыяў. Лякальныя дыскусіі, моўныя заўвагі, гіранічныя замалёўкі — усе гэтыя газэтныя жанры тут адлюстраваныя. Немагчыма без усьмешкі — ох, нібыта сёньня спрачаюцца! — чытаць вострую палеміку Часлава Будзькі й Сымона Брагі (Вітаўта Тумаша) па пытаньні балцкага субстрату ў генэзісе беларусаў. Ацаніце хоць бы загалоўкі: “Балцкая тэорыя сьпераду і ззаду” і ў адказ — “Балцкія перапалохі”. Калі б зьмясьціць іх у сучасным ФБ — прадказваю вялікі хайп у камэнтарах.

Надзвычай насычаныя невядомай нам фактаграфіяй артыкулы, прысьвечаныя некаторым канкрэтным гістарычным падзеям, як маштабным, гэтак і паўсядзённым. Антысавецкая партызанка ў асобах, каапэратыўны рух у Заходняй Беларусі праз гісторыю Баранавіцкай малачарні, гісторыя ксяндза Шутовіча, беларусы ў нацысцкіх лягерах сьмерці — тэксты надзвычай падрабязныя, аздобленыя безьліччу каштоўных дэталяў.

Асабліва цікавым для мяне быў артыкул, падпісаны крыптанімам Я.З. (Янка Запруднік) — пра “мангольскі праект” савецкай улады датычна Беларусі. Гаворка тут вядзецца пра інтрыганцкі праект бальшавіцкіх уладаў, што нібыта распрацоўваўся ў дваццатыя, за дваццаць гадоў да пакту Молатава — Рыбэнтропа. Аўтар сьцьвярджае, што праект гэты быў запушчаны ў выглядзе чутак і плётак у асяродзьдзе маладых савецкіх беларусаў і актыўна абмяркоўваўся *“не для прэсы”*, — і я маю нечаканае ўскоснае пацьверджаньне існаваньня такога праекту: у асабістай бібліятэцы Алеся Дудара сярод кніжак, прысьвечаных

антыкаланіяльным паўстаньням і нацыянальна-вызваленчай барацьбе, ляжыць і кніжка пра Манголію.

Надзвычай цікавая мэмуарная група тэкстаў з “Бацькаўшчыны” й “Беларуса”. Тут успаміны Натальлі Арсеньневай, гутарка зь Пятром Орсам пра беларускае студэнцтва ў Празе, расповеды пра беларусаў у Францыі й Афрыцы, а таксама ў даваеннай Варшаве. Самыя нечаканыя зь іх — успаміны Мікалая Бэліны-Падгаецкага “З даўніх успамінаў былога камуніста”, рэдкія ў нашай мэмуарыстыцы спробы асэнсаваць свой удзел у кампартыі.

Знаходкай для краязнаўцаў ёсьць разьдзел “Мясьціны й мястэчкі” — геаграфія мэмуарнай і краязнаўчай інфармацыі тому надзвычай шырокая. Картуская Бяроза, Негнявічы, Залесьсе, Віцебск і Ворша, Смаргонь і Ашмяны — прыўкрасныя замалёўкі з жыцьця беларускіх мясьцінаў і мястэчак нарэшце становяцца й нашай спадчынай.

І гэта толькі некаторыя з тэкстаў. Кніга, хоць і мае абмежаваны аб’ём, ня мае межаў па тэмах і падзеях, якія тут асьветленыя зь нечаканага боку, пададзеныя ў невядомых дэталях, раскрытыя зь немажлівых для мэтраполіі гледзішчаў. Самазабойствы Ўсевалада Ігнатоўскага і Ўсевалада Краўчанкі, зьнікненьне Крыжа сьвятой Эўфрасіньні, патаемны супраціў саветызацыі ў дваццатыя, літфункцыянэр Міхась Клімковіч, якога ратуе ад перасьледу гестапа беларускі калябарант... Безьліч сюжэтаў з газэтных бачынаў!

І за кожным тэкстам паўстае тое самае пакліканьне, якое жывіла небагатую, змучаную няпростым лёсам паваенную эміграцыю, якое давала сілы выдаваць пэрыёдыку й зьбіраць спадчыну, трымаць уласныя выдавецтвы й гадаваць навуку, — пакліканьне, якое было добра ўсьвядомлена й напоўніцу рэалізавана беларускай паваеннай эміграцыяй. Не перапыняць думкі пра Беларусь, не спыняцца на шляху да яе.

Дзякуючы гэтай самаахвярнай бесьперапыннасьці слова й думкі, пад любым ціскам і прыгнётам, насуперак часу й злой волі магутных суседзяў і рэжымаў — разам дойдзем. Ня маем права не дайсьці.

## *Кніжная паліца*


***Серж Трыгубовіч***

*Monmouth Junction (NJ)*


# “ФАТАГРАФІЯ”

*Фатаграфія. № 1. Нью-Ёрк — Варшава: “Беларускія Ведамасьці”, 2019.*




У красавіку гэтага году ў Нью-Ёрку дэбютавала “Фатаграфія” — пэрыядычны некамэрцыйны часопіс на 138 старонках, прысьвечаны тэме беларускага фотамастацтва. Аўтар праекту — Зянон Пазьняк. Выдавецтва: “Беларускія Ведамасьці”, Нью-Ёрк — Варшава, 2019. “Фатаграфія” — па-сапраўднаму ўнікальнае выданьне, калі ўлічыць, што на сёньня ў Беларусі не існуе ніводнага пэрыёдыка па айчыннай фатаграфіі. Некалі часопіс “Мастацтва Беларусі” выступаў у якасьці пляцоўкі для публікацыі працаў беларускіх фатографаў і артыкулаў фатаграфічных мастацтвазнаўцаў і крытыкаў. З тых часоў пэрыёдык зьмяніў назву на “Мастацтва” й аддзелу фатаграфіі там больш няма. Таму зьяўленьне новага выданьня па беларускай фатаграфіі немагчыма не ўхваліць, нягледзячы на тое што друкуецца часопіс за межамі Беларусі.

У першым нумары прадстаўленыя два аўтары — Зянон Пазьняк і Джон Кунстадтэр. Сэрыя працаў Зянона Пазьняка аб’яднаная назовам “Тыпажы Нью Ёрку” і паказвае нам культурную разнастайнасьць жыхароў “Вялікага яблыка”, падкрэсьлівае іх пачуцьці, манэры паводзінаў і стыль вопраткі. Другі аўтар, Джон Кунстадтэр, рэпрэзэнтаваны сэрыяй “Звычайныя людзі Беларусі”. Ягоныя працы сьвецяцца любоўю да сваіх герояў — звычайных вяскоўцаў, дзяцей — і да беларускага наваколля. Удвая прыемна, што так удалося паказаць Беларусь амэрыканскаму фатографу, які трапіў у нашу краіну па працы, не зьвязанай з фатаграфічнай дзейнасьцю.

У наступных нумарах часопісу плянуецца пазнаёміць чытачоў з творчасьцю беларускіх фатографаў Уладзімера Кармілкіна, Яўгена Шатохіна, Алеся Крыштаповіча й іншых.

Часопіс “Фатаграфія” можна замовіць праз інтэрнэт. Таксама існуе электронны варыянт, які можна спампаваць са старонкі Камунікату (у электроннай вэрсіі адсутнічаюць першая й апошняя старонка вокладкі): http://kamunikat.org/bielaruska_amerykanskaja_fatahrafija.html.

Спадзяемся, што новы часопіс парадуе нас і новымі выпускамі, і цікавымі працамі беларускіх фатографаў.

## *Кніжная паліца*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# “БЕЛАРУСКІ ЭМІГРАЦЫЙНЫ ПЭРЫЯДЫЧНЫ ДРУК”

*Moskvin, Andriej. Białoruskie czasopiśmiennictwo emigracyjne: “Пагоня”, “Сакавік”, “Наперад!”. Warszawa, 2018. 268 s.*




Пэрыёдыкі — найбольш даступная крыніца для дасьледніка эміграцыі. У адрозьненьне ад карэспандэнцыі, пратаколаў і іншых дакумэнтаў газэты й часопісы зьяўляліся як правіла ў дзясятках-сотнях, часам нават тысячах асобнікаў. Іх адносна лёгка знайсьці ў бібліятэках, ня трэба адмыслова расчытваць, як рукапісы, ідэнтыфікаваць, як фотаздымкі. Напэўна, у тым ліку й таму эміграцыйнай пэрыёдыцы сёньня прысьвечаная ўжо далёка не адна праца. Можна згадаць кнігі Аляксандра Баршчэўскага[1], Вольгі Коваль[2], Юрыя Гарбінскага[3], Лявона Юрэвіча[4] ды іншых[5], шматлікія публікацыі ў “Запісах БІНіМ” ды розных большых ці меншых зборніках.

---

[1] Баршчэўскі, Аляксандр. Беларуская эміграцыйная пісьмовасьць. Частка 1. Варшава, 2004. 256 с.

[2] Коваль, Вольга. Перыядычныя выданні беларускай дыяспары як гістарычная крыніца (1939—1960 гг.). Мінск: РІВШ, 2008. 166 с.

[3] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: пэрыёдыка, графічныя друкі 1945—2005. Нью Ёрк — Варшава, 2009. 884 с.

[4] Юрэвіч, Лявон. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў “Бацькаўшчына” й “Беларус” (1947—2000). Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. 256 с.

[5] Варта таксама згадаць выданьне: Месца выданьня — Парыж: Выбраныя старонкі часопіса “Моладзь” (1948—1954) / укл. М. Скоблы; прадм. М. Наўмовіча. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004. 444 с.

Аднак нельга сказаць, што патэнцыял газэтаў і часопісаў і як аб'ектаў дасьледаваньня, і як крыніцаў для вывучэньня эміграцыі вычарпаны. Застаецца багата лакунаў у гісторыі паасобных пэрыёдыкаў, няшмат прааналізавана зьместу, жанраў, аўтарскіх стыляў, выдавецкай кухні й г. д.

Кніга варшаўскага дасьледніка Андрэя Масквіна — чарговая з шэрагу выданьняў, прысьвечаных эміграцыйным часопісам. Яна рэпрэзэнтуе тры пэрыёдыкі канца 1940-х — пачатку 1950-х гг.: "Пагоня", "Сакавік" і "Наперад!". Праўда, выбар менавіта гэтых выданьняў для аб'яднаньня пад адной вокладкай выклікае пытаньні. Аўтар ва ўводзінах сьцьвярджае, што гэтыя часопісы сталі голасам пакаленьня, якое нарадзілася ў другім і трэцім дзесяцігодзьдзях XX ст. і чыё сталеньне прыпала на пярэдадзень і час Другой сусьветнай вайны. У дачыненьні да "Пагоні" ды "Наперад!" — гэта слушна. Аднак часопіс "Сакавік", рэдагаваны старэйшым Антонам Адамовічам, выразна вылучаецца ў гэтым шэрагу. Адрозьніваюцца выданьні й геаграфіяй: "Пагоня" выходзіла ў аўстрыйскім Зальцбургу, "Сакавік" — у нямецкім Остэргофэне, а "Наперад!" — пераважна ў Вялікабрытаніі й Бэльгіі. Аб'ядноўвае выданьні хіба час (так званы пэрыяд *DP*) і жанр — усе яны маюць асноўную літаратурную скіраванасьць. Аднак для вывучэньня эміграцыйных літаратурных часопісаў як зьявы ў кнізе яўна не стае яшчэ некалькіх важных назоваў, перадусім "Шыпшыны" й "Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі". Зрэшты, аўтар, відавочна, і ня ставіў сабе мэты менавіта аналізу пэрыёдыкі, што бачна паводле зьместу кнігі. Выбар часопісаў выглядае больш на выпадковы й тлумачыцца, хутчэй, асабістым густам дасьледніка, іх даступнасьцю або наяўнасьцю / адсутнасьцю часу для працы.

Кніга Андрэя Масквіна складаецца з уступу, трох разьдзелаў, прысьвечаных адпаведным пэрыёдыкам, заключэньня й бібліяграфіі. Ва ўступе лягічна падаецца агульная інфармацыя пра тое, што ўяўлялі зь сябе беларускія перамешчаныя асобы (*DP*) у колькасным і якасным пляне, чым былі адметныя іх лягеры, палітычнае, сацыяльнае, культурнае жыцьцё. Гэта той самы кантэкст, неабходны для разуменьня тагачаснага беларускага эміграцыйнага пэрыядычнага друку як зьявы. Што праўда, выкладзеныя такім чынам агульныя зьвесткі не пазбаўленыя некаторых недакладнасьцяў. Так, Аўген Каханоўскі ня быў старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (с. 12), а ўзначальваў урад БНР. Ініцыятарамі выданьня газэты "Бацькаўшчына" былі Антон Адамовіч зь Лявонам Савёнкам (а не са Станіславам Станкевічам, як гэта пададзена ў спасылцы на с. 15), дакладная назва арганізацыі — Саюз вольных беларускіх журналістых (с. 13), а пэрыёдыка — "Скаўцкая Інфармацыйная Служба" (с. 15).

У асноўнай частцы кнігі тэксты пра асобныя часопісы разьмешчаныя паводле храналёгіі іх выданьня, хоць казаць пра нейкую пераем-

насьць тут наўрад ці выпадае. Забягаючы наперад, можна казаць, што тры паасобныя разьдзелы кнігі выглядаюць як зусім самастойныя, не зьвязаныя паміж сабою. Гэта таксама ёсьць у некаторай ступені вынікам штучнага аб’яднаньня іх пад адной вокладкай.

Першы разьдзел прысьвечаны часопісу “Пагоня”, чатыры нумары якога ўбачылі сьвет у Зальцбургу ў 1945—1946 гг. намаганьнямі Ўладзімера Дудзіцкага, Алеся Салаўя й Алеся Грыцука. Уласна пра гісторыю гэтага выданьня ведама няшмат, з дакумэнтаў захаваліся хіба што лісты з таго часу Алеся Салаўя[6], якія й цытуе Андрэй Масквін. Асноўны ж зьмест разьдзелу — пасьлядоўны пераказ тэкстаў фактычна ўсіх чатырох нумароў выданьня. Уласна ў гэтым і палягае, як выглядае, арыгінальная мэтода аўтара кнігі. Ён рэпрэзэнтуе зьмест пэрыёдыкаў, практычна не аналізуючы яго. Наколькі апраўдана гэта — сказаць складана. Безумоўна, варта памятаць, што кніга арыентаваная найперш на польскую публіку. Магчыма, ідэя палягае ў тым, што такога кшталту пераказ як своеасаблівая адаптаваная публікацыя дакумэнту (карыстаецца ж сучасная моладзь скарочанымі варыянтамі клясычных твораў пры іх вывучэньні) можа нейкім чынам справакаваць польскіх дасьледнікаў эміграцыі на тыя ці іншыя кампаратыўныя працы. Зрэшты, верагоднасьць гэтага падаецца занадта малой, ну а для беларускага чытача пераказ, прыкладам, вершу Максіма Багдановіча “Пагоня” ці “Ваяцкага маршу” здаецца па меншай меры дзівацтвам.

Часопісу “Сакавік”, які выдаваўся ў Нямеччыне ў 1947—1948 гг. Антонам Адамовічам, адведзена ў кнізе Андрэя Масквіна значна больш месца. Пры гэтым адпаведны разьдзел мае й разгалінаваную структуру. Аўтар вылучае асобна “Агульную характарыстыку” часопісу, зьвесткі пра “Пытаньне назову”, а далей ідуць падразьдзелы, прысьвечаныя канкрэтным аўтарам або жанрам ці тэмам. У адрозьненьне ад тэксту пра “Пагоню” разьдзел, прысьвечаны “Сакавіку”, выяўляе пэўныя цікавыя сюжэты ў вывучэньні пэрыёдыкі дый наогул літаратуры беларускай эміграцыі. Аўтар асобна вылучае творчасьць Антона Адамовіча як празаіка, упершыню зьвяртаецца да даробку Ніны Змагаркі й яе пошукаў ідэальнага беларуса й беларускі, рэпрэзэнтуе мэмуарную, літаратурна-крытычную, гістарычную тэматыкі часопісу, які стаўся сапраўды заўважнай зьявай у культурным жыцьці беларускай эміграцыі.

Спэцыяльна спыняецца Андрэй Масквін на публікацыях твораў Каруся Каганца й Максіма Багдановіча ў “Сакавіку”, тлумачачы гэта жаданьнем выдаўцоў прадэманстраваць сувязі з даэміграцыйнай беларускай літаратурай. Аднак у выпадку з творам Каганца “Сын Даніла” публікацыя была ня так данінаю традыцыі, як спробаю захаваньня для нашчадкаў знойдзенага пры разьбіраньні вывезеных немцамі

---

[6] Салавей, Алесь. Творы: паэзія, проза, лісты. Мінск: Лімарыус, 2010. 560 с.

зь Беларусі архіваў не друкаванага раней рукапісу. Як публікавалі на старонках “Беларускай газэты” ў акупаваным Менску “Тэстамэнт” Уладзімера Жылкі, уратаваны Яўхімам Кіпелем, каб ён захаваўся для шырокай публікі й гісторыі, гэтак і друк “Сына Данілы” меў найперш менавіта гэтую мэту, што неабходна было згадаць у разьдзеле пра “Сакавік”.

Вылучаючы асобныя тэмы й сюжэты ў публікацыях часопісу, Андрэй Масквін, таксама як і ў выпадку з “Пагоняю”, засяроджваецца найбольш на пераказе-перасьпеве зьместу твораў, іх нутраных перагукаў, узаемасувязяў унутры нумароў пэрыёдыку, ён канстатуе, а не аналізуе. І ў выніку аўтар прыходзіць да высновы, што “Сакавік” быў першым эміграцыйным часопісам, што працягваў традыцыі ранейшых мэтрапольных беларускіх літаратурна-крытычных выданьняў “Полымя”, “Маладняк”, “Узвышша”, “Адраджэньне”. У гэтым кантэксьце было б цікава суаднесьці “Сакавік” зь іншым тагачасным пэрыёдыкам “Шыпшына”, які гэтаксама прэтэндаваў на працяг традыцый даваеннай беларускай літаратуры. Аднак Андрэй Масквін, на жаль, не скарыстаў з магчымасьці гэткага параўнаньня-супастаўленьня.

Найбольшы разьдзел кнігі прысьвечаны моладзеваму часопісу “Наперад!”, выдаванаму знакамітай “Дванаццаткай” — групай беларускіх скаўтаў, што вучыліся ў Нямеччыне, выехалі на працы ў вугальных капальнях у Вялікабрытанію, а потым атрымоўвалі вышэйшую асьвету ў бэльгійскім Лювэне. Падчас сваёй своеасаблівай адысеі 1948—1953 гг. маладзёны выдавалі пэрыёдык, на старонках якога зьмяшчалі як уласныя тэксты, гэтак і творы іншых аўтараў. Гісторыя “Дванаццаткі” добра апісаная ў кнізе аднаго зь яе ўдзельнікаў Янкі Запрудніка, што дало Андрэю Масквіну багата матэрыялу для ягонага ўласнага тэксту. Як і ў выпадку з “Сакавіком”, аўтар спыняецца на агульнай характарыстыцы часопісу, разглядае перадгісторыю й пасьлядоўна асобныя этапы ягонага стварэньня, зьвязаныя з геаграфічнымі перамяшчэньнямі рэдакцыі па Эўропе. У спэцыяльныя падразьдзелы вылучаныя творчасьць Уладзімера Цьвіркі як фэльетаніста, літаратурная творчасьць Янкі Запрудніка й Васіля Шчэцькі. Таксама асобная ўвага зьвернутая на рэдакцыйныя тэксты, артыкулы, прысьвечаныя гісторыі Беларусі, творы даваенныя й паваенныя, рэпрэзэнтацыю ў літаратуры жыцьця самой эміграцыі. Варта адзначыць, што й тут пэўныя тэмы Андрэй Масквін агучвае ўпершыню, аднак, як і ў папярэдніх разьдзелах, выключна канстатуе іх.

Шырока пераказваючы зьмест апублікаваных на старонках і часопісу “Наперад”, і іншых разгледжаных у кнізе пэрыёдыкаў, Андрэй Масквін стварае ў чытача агульнае ўяўленьне пра тое, што чытала, чым цікавілася й жыла беларуская паваенная эміграцыя канца 1940-х — пачатку 1950-х гг. Гэта ў пэўнай ступені важна, але не само па сабе,

а ў разуменьні ўзаемасувязяў і пераемнасьцяў тэкстаў, аўтараў, пэрыёдыкаў, чаго, на жаль, кніга не адлюстроўвае. Сёньня й назапашаная дасьледчая спадчына, і даступная крыніцазнаўчая база дазваляюць у вывучэньні эміграцыйнай пэрыёдыкі ісьці значна далей, не замыкаючыся на рэпрэзэнтацыі зьместу паасобных выданьняў, а глыбока аналізуючы жанры, тэмы, узаемасувязі часопісаў, асаблівасьці літаратурнага працэсу, узаемаўплывы аўтараў, твораў і г. д. Кніга Андрэя Масквіна ў беларускага чытача выклікае багата пытаньняў менавіта з гледзішча мэтаду стварэньня. Яе каштоўнасьць палягае хіба ў тым, што аўтар пазначае цікавыя тэмы, вызначае сюжэты. Але ён пакідае ўсё гэта пераважна канстатацыяй, своеасаблівай падказкай для далейшага вывучэньня іншым дасьледнікам. Ці варта было рабіць кнігу толькі дзеля гэтага? Пытаньне адкрытае.

***Алесь Бразгуноў***
*Менск*

# ІМЯ БЕЛАРУСКАСЬЦІ

## З нагоды выхаду кнігі “Зора Кіпель”

*Зора Кіпель / Укладаньне, каментары Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2019. 272 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны: Людзі эміграцыі: кн. 1).*




*Nomen est omen* — *“імя — гэта знак”* — так сьцьвярджае ведамае лацінскае выслоўе. І сапраўды, варта вымавіць *Зора*, як памяць міжволі падказвае працяг — *Кіпель*. Гэтае спалучэньне імя й прозьвішча існуе ў беларускай сьведамасьці як непадзельнасьць, або культурны код, або знак якасьці — усе параўнаньні будуць слушныя, і лік іх магчыма множыць бясконца. У кожным выпадку канстантай застаецца тое сьвятло й жыцьцядайнасьць, якія закладзены ў самім імі дасьледніцы — Зора (*“зорка”*, *“зара”*, *“зараніца”*), а таксама бурлівасьць, энергічнасьць, “кіпеньне” жыцьця, зашыфраваныя ў прозьвішчы ейнага мужа, сп. Вітаўта Кіпеля. У падобнай камплімэнтарнасьці, аднак, ня варта бачыць збыткоўнасьці, бо як не бывае межаў у любові маці да сваіх дзяцей ці ў каханьні жонкі да мужа, так не бывае празьмернасьці і ў служэньні Бацькаўшчыне. Сьведчаньне таму — падвойная зорка Кіпеляў на небе Беларускай ідэі.

***

Тут дазволю сабе невялічкае лірычнае адступленьне.

1993 год, як і папярэдні, ня быў лёгкі для жыцьця матэрыяльнага, але ніяк не духовага. Як жа ж сьветла дыхалася ад усьведамленьня, што

ты жывеш у сваёй дзяржаве, пра якую марыў таксама й нехта з твайго роду! А таму большасьць з нас, студэнтаў-філёлягаў чацьвертага курсу, ахвотна "раскідваліся" грашыма зь ня надта каб і багатай стыпэндыі на кнігі, пра якія гадоў на пяць-сем раней і думаць было небясьпечна. Зайшоўшы неяк у сваю ўлюбёную "Кнігарню пісьменьніка", зьвярнуў увагу на незвычайную назву аднаго выданьня — "Беларусы ў ЗША". Амаль усю вокладку займаў здымак цэнтральнай часткі Манхэтану, вышэй было пазначана й імя аўтара — Вітаўт Кіпель. Адчуў я тады нейкі гонар за беларусаў — здолелі, маўляў, нават у Амэрыцы выжыць! А прачытаўшы кнігу, знайшоў і вытлумачэньне таму пачуцьцю: не адно выжылі, але й наладзілі годнае беларускае жыцьцё ў далёкім краі, жыцьцё ў імя Беларусі й дзеля Беларусі.

Травень 2000-га. У Менску адбываецца III Міжнародны кангрэс беларусістаў. У ліку дэлегатаў — спадарства Кіпеляў. Цьвёрда пастанавіў, што абавязкова навяду асабістае знаёмства са спадарыняй Зорай, бо тут, як гаворыцца, і сам Бог казаў: тэматыка ейных дасьледаваньняў тая самая, што і ў маёй кандыдацкай — перакладная літаратура Беларусі XV — XVII стст. З нецярплівасьцю чакаю перапынку на каву, бо чапляцца да чалавека падчас пленарнага паседжаньня непрыгожа. На жаль, нічога не ўдаецца: аднаго суразмоўцу спадарыні Зоры зьмяняе іншы. Яна, заўважыўшы, відаць, што несупынна гляджу ў ейны бок, ветла ўсьміхаецца ў адказ. Вось, здаецца, і вызвалілася; я ўжо сьпешна шыхтую словы, зь якіх пляную пачаць знаёмства, аж зьнячэўку вылузваецца з натоўпу й прастуе да спн. Зоры адзін добра знаны цяпер сваёй *"вернасьцю каму трэба"* журналіст. Інтэрвію — што тут паробіш? Так і не пазнаёміліся. Аднак жа са спн. Зорай Кіпель я ўсё адно "сустрэўся" па нейкім часе, апісваючы ейны дасьледніцкі архіў.

***

Невыпадкова, што новая падсэрыя "Людзі эміграцыі" выдавецкага праекту «Бібліятэка "Бацькаўшчыны"» Згуртаваньня беларусаў сьвету распачынаецца дыхтоўным томам "Зора Кіпель", укладзеным і пракамэнтаваным Натальляй Гадзіенкай і Лявонам Юрэвічам: без спн. Зоры, як і ейнага мужа, сп. Вітаўта, цяжка наогул уявіць жыцьцё беларускай эміграцыі ў ЗША пасьля Другой сусьветнай вайны. Вайна, ведама ж, зрабіла істотны ўплыў на лёсы Зоры й Вітаўта. Варта адно ўдумацца: абое мелі па 14 гадоў, калі вайна прыйшла ў падсавецкую Беларусь, а ўжо ў 17-гадовым узросьце абое былі вымушаны пакінуць Радзіму й шукаць ратунку на Захадзе. Галеча, руйнаваньне цывілізацыі, пастаянная пагроза сьмерці не маглі не абуджаць у людзях жаданьня выжыць, ўратавацца, але адначасна — і процістаяць нягодам, звужаць прастору хаосу й зьнішчэньня. На працягу 500 гадоў такому супраціву служыла кніга, пісьменства. Ёй і прысьвяцілі сябе Зора й Вітаўт Кіпелі.

У вялікім уступным разьдзеле, напісаным Натальляй Гардзіенкай, на падставе ўспамінаў і дзёньнікаў спадарства Кіпеляў[1] прасочаны нялёгкі й пакручасты жыцьцёвы шлях спн. Зоры: існаваньне ў сталінскім “раі” ў 1927—1941 гг., вайна й акупацыя 1941—1944 гг., уцёкі ад саветаў і жыцьцё ў лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне ў 1944—1949 гг., студэнцкія гады ў Бэльгіі 1949—1955 гг., эміграцыя й жыцьцё ў ЗША ў 1955—2003 гг. Разьдзел гэты, як і астатнія, багата ілюстраваны матэрыялам, які ведамы чытачу зь іншых выданьняў, аднак жа зьмяшчае й ладную частку фатаграфій зь сямейнага архіву або выяваў асабістых рэчаў, якія былі ў свой час перададзены спадарствам Кіпеляў на захаваньне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва (напрыклад, гадзіньнік, падараваны Натальляй Арсеньневай маладым на іх вясельле ў 1956 г.).

Зора Кіпель належала да таго тыпу людзей, якія надзвычай сумленна й адказна ставяцца да любой распачатай справы, і ня мае значэньня, ці гэта справа “сусьветнага” маштабу, ці праца ў бацькоўскім камітэце школы. Пачаўшы якую справу, яна не пакідала яе на паўдарозе, а даводзіла да лягічнага завяршэньня. (Якім коштам гэта давалася, цікаўны чытач можа даведацца зь ейных дзёньнікаў і ўспамінаў, напісаных даволі самакрытычна й без прыхарошваньня ды выдадзеных у Менску ў 2010 г.) Няма сумненьня, што гэтая надзвычайнае працалюбства й працаздольнасьць былі прадвызначаны ня толькі той атмасфэрай беларускасьці й прафэсійнасьці, якая панавала ў сям’і Лявона Савёнка й Апалёніі Радкевіч, бацькоў Зоры, пісьменьніка й пэдагога, але і ўмовамі жыцьця з пазнакай родных “ворага народу”, калі ўвага аддавалася галоўным у жыцьці рэчам, а ня другасным. Таму жыцьцёвы шлях спн. Зоры пазначаны няспынным імкненьнем да ўдасканаленьня, пашырэньня й сыстэматызацыі ведаў (у бібліятэказнаўстве й літаратуразнаўстве, у гісторыі й культуры беларускага народу). Маючы за плячыма Лювэнскі каталіцкі ўнівэрсытэт (Бэльгія), сваю працоўную дзейнасьць у ЗША Зора распачынае з крышталяграфічнай лябараторыі Ўнівэрсытэту Джона Хопкінса ў Балтыморы й робіць немалы ўнёсак у стварэньне ведамага сярод навукоўцаў даведніка *“Crystal Data: determinative tables”* (1963). У 1966 г., па сканчэньні бібліятэказнаўчых студыяў у Ратгерскім унівэрсытэце, аддаецца бібліяграфічнай справе й пачынае працу ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. Пашыраючы гарызонты сваіх дасьледаваньняў, у 1983 г. яна вырашае атрымаць трэцюю вышэйшую адукацыю, гэтым разам у галіне параўнальнага

[1] Кіпель, Зора. Дні аднаго жыцця...: успаміны, артыкулы, дзённікі / тлумачэнні, заўвагі, каментары Вітаўта Кіпеля; уклад. Сяргей Шупа. Мінск: Зміцер Колас, 2010; Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць: успаміны / прадмова Янкі Запрудніка. Мінск: Зміцер Колас, 2015.

літаратуразнаўства, дзеля таго, каб, па словах сп. Вітаўта Кіпеля, *“больш аўтарытэтна выказвацца на літаратурныя тэмы”*[2]. Менавіта ў гэты час раскрываецца творчы патэнцыял дасьледніцы. За якую б працу яна ні бралася, ва ўсім дасягала посьпеху — ці ў падрыхтоўцы тамоў выбранай паэзіі Натальлі Арсеньневай, Алеся Салаўя, Міхася Кавыля (1978—1990), ці ў стварэньні даведніка нацыянальнасьцяў штату Нью-Джэрзі *“Ethnic Directory of New Jersey”* (1978) або сумеснага з Ірынай Пазьдзеевай каталёгу рэдкіх кніг *“Church Slavonic, Glagolitic and Petrine Civil Script Printed Books in the New York Public Library: a Preliminary Catalog”* (1997), або супольнай зь Вітаўтам кнігі “Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе: Бібліяграфія” (1985), або хрэстаматыі *“Byelorussian Statehood. Reader and Bibliography”* (1988), ці ў працы ў камісіі па выданьні ангельска-беларускага слоўніка Валянціны Пашкевіч. Пры ўсёй істотнасьці творчага даробку спн. Зоры ў гэты пэрыяд у першым шэрагу паўстае падрыхтаванае ёй выданьне *“The Byelorussian Tristan”* (1988)[3], якое зьмяшчае выдатную прадмову[4] й пераклад помніка з старой беларускай мовы на ангельскую. Выдадзены ў прэстыжнай сэрыі *“Garland Library of Medieval Literature”*, гэты том упісаў імя Зоры Кіпель у шэраг выдатных дасьледнікаў сярэднявечнай літаратуры й адкрыў ёй шлях у прэстыжнае Таварыства літаратараў артурыяны.

Імкнучыся прадставіць жыцьцё й дзейнасьць гераіні свайго аповеду як мага паўней, Натальля Гардзіенка слушна завяршае ўступ разьдзеламі “Сям’я” й “Памяць”. Першы зь іх акрэсьлівае значэньне ўласнай сям’і для спн. Зоры (*“Я не ўяўляю свайго жыцьця бязь Вітаўта”*[5]), падае асобныя зьвесткі пра Юрку й Алесю, іх са сп. Вітаўтам дзяцей, пра ўнукаў. Апошні разьдзел уступу, “Памяць”, скіраваны да ўсёй вялікай беларускай сям’і — да нас, духоўных і ідэйных нашчадкаў тае нацыянальнае працы, якой прысьвяціла сваё жыцьцё спн. Зора. У гэтай памяці й пераемнасьці, у памнажэньні і ўзбагачэньні творчага даробку наступнікамі — сэнс навукова-асьветніцкага й грамадзка-палітычнага жыцьця Зоры Кіпель, значэньне яе духовага й фізычнага існаваньня.

Гэтай жа мэце служыць, безумоўна, і разьдзел “Пра Зору Кіпель”, які завяршае кнігу й зьмяшчае ўспаміны сяброў і аднадумцаў дасьледніцы як з дыяспары, так і зь Беларусі — Янкі Запрудніка, Раісы Жук-Грышкевіч, Тацьцяны Антонавай, Уладзімера Арлова, Натальлі

---

[2] Зора Кіпель / уклад., камент. Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2019. С. 49.

[3] The Byelorussian Tristan / transl. by Zora Kipel. New York — London: Garland Publishing Inc., 1988 (Garland Library of Medieval Literature. Vol. 59. Series B).

[4] У выданьні, што тут рэцэнзуецца, прадмова падаецца ў беларускім перакладзе А. Б.

[5] Зора Кіпель... С. 78.

Гардзіенкі, Ганны Запартыкі… Несумненна, што ўсе, хто ведаў спн. Зору асабіста, падтрымаюць меркаваньне, выказанае спн. Ганнай Запартыкай: *“Засталася ў памяці светлай, абаяльнай, прыгожай, мудрай і моцнай, з аптымістычным стаўленнем да жыцця”*[6].

Цэнтральнае ж месца займаюць у выданьні творы самой Зоры Кіпель, прадстаўленыя двума разьдзеламі — “Успаміны” й “Тэксты”. У параўнаньні зь ёмістымі “Днямі аднаго жыцця…” (2010) у дадзеным выданьні “Ўспаміны” прадстаўлены найбольш значнымі як з факталягічнага, гэтак і зь літаратурна-мастацкага боку артыкуламі з апісаньнем падарожжаў па Гомельшчыне, Полаччыне, паездкі на Аляску й па штатах ЗША ў пошуку эмігранцкіх выданьняў, візыту ў Прагу, сустрэчаў дасьледніцы падчас яе працы ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы са знанымі дзеячамі беларускай эміграцыі, знакамітымі асобамі зь Беларусі й сьвету, з выбітнымі славістамі-навукоўцамі. У сваёй сукупнасьці тэксты гэтага разьдзелу даюць уяўленьне пра немалыя пісьменьніцкія здольнасьці спн. Зоры, якая рэалізавала іх на мяжы мэмуарыстыкі й дакумэнтальнай літаратуры.

Уласна навуковы — літаратуразнаўчы й бібліяграфічны — даробак дасьледніцы прадстаўлены ў разьдзеле “Тэксты”. Назва ягоная, дарэчы, адзінае, што, так бы мовіць, *“муляе вока”*, бо слова *тэксты* ў дадзеным выпадку сыгналізуе чытачу пра нейкую незавершанасьць, недапрацаванасьць. Аднак гэтага нельга сьцьвяржаць пра артыкулы спн. Зоры па літаратура- й крыніцазнаўстве, бо дасьледніца заўсёды вызначалася скрупулёзнасьцю, дакладнасьцю й завершанасьцю сваёй навуковай думкі. Мяркуецца, загаловак “Артыкулы” быў бы больш дарэчны, бо першы й трэці з падразьдзелаў (“Аб сярэднявечнай літаратуры” й “Амэрыкана-беларускія сувязі”) можна без засьцярогаў аднесьці да кампаратывістычных студыяў, а другі й чацьверты (“Кнігазнаўства” й “Бібліяграфія Зоры Кіпель”) — да крыніцазнаўства.

Станоўчым бокам зьяўляецца тое, што ў том уключаны беларускі пераклад[7] англамоўнай прадмовы да выданьня *“The Byelorussian Tristan”* (1988) — найбольш значны й грунтоўны зь літаратуразнаўчых артыкулаў спн. Зоры, які дае чытачу ўяўленьне пра навуковы патэнцыял і шырыню кампаратывістычных падыходаў дасьледніцы. Да ўсяго дадзеная праца адносіцца да ліку тых, якія праз сваю ўнівэрсальнасьць маюць доўгае навуковае жыцьцё: тут уздымаецца пытаньне пра крыніцы і ўплывы, аўтара й адрасата беларускага перакладу XVI ст., ягоную навізну й супярэчнасьці, творчы ўзровень, выяўляюцца фаль-

[6] Зора Кіпель… С. 256.

[7] Упершыню апублікаваны годам раней: Беларускі Трышчан // Запісы БІНіМ. № 40. Нью-Ёрк—Менск, 2018. С. 497—516.

клёрныя элемэнты. Беларускі пераклад ведамага эўрапейскага раману пра Трыстана (у беларускай вэрсыі — Трышчана) ня мог, безумоўна, не прыцягнуць увагі дасьледніцы, якая лічыла яго напісаным *“такой выробленай, такой характэрнай беларускай мовай, што можа служыць прыкладам тагачаснай літаратурнай мовы беларусаў”*, гэта значыць мовы XVI ст., а само падобнае *“літаратурнае багацьце на народнай мове — ні на лацінскай ці грэцкай, ці на царкоўнаславянскай — ёсьць непасрэдным вынікам народнай сьведамасьці, народнай годнасьці, народнага таленту”*[8].

Напрыканцы — пра творчыя задумы спн. Зоры. У машынапісе артыкулу “Беларуская перакладная літаратура XV — XVII ст. Выяўленьне й перахаваньне яе” яна наступным чынам патлумачыла значнасьць беларускай перакладной літаратуры Адраджэньня: *“хачу падкрэсьліць асаблівую важнасьць вывучэньня якраз гэтай нашай літаратуры — і гэта мой улюбёны аргумэнт — што наша літаратура XV — XVI ст. была першай ва ўсходніх славянаў* ***сьвецкай*** *літаратурай на роднай мове. Калі літаратура Кіеўскай Русі (на царкоўнаславянскай мове) была вядучая сярод усходніх славянаў у 13—14 ст, а пазьней гэтую ролю пераняла Масква ў канцы 17-га, але асабліва ў 18-м стагодзьдзі, то ў 15—16-м стагодзьдзі беларуская літаратура была вядучай і дала пачаткі іншым усходне-славянскім літаратурам на родных мовах. І яшчэ адзін вельмі важны фактар. Мы ведаем ня толькі пісьмовую мову нашых твораў — маем дастаткова помнікаў, што яшчэ захаваліся, але, дзякуючы Аль Кітабу, мы ведаем як наша мова гучэла тады ў 15—16 стагодзьдзях”*. Таму першачарговай справай бачылася тут дасьледніцы *“сабраць па магчымасьці ў Менску ў нова-створаным Скарынінскім цэнтры, прыкладам, ды яшчэ ў колькі іншых цэнтрах, як Лёндан і Нью-Ёркская Публічная Бібліятэка, мікрафільмы ўсіх беларускіх рукапісаў, каб стварыць 2—3 салідныя цэнтры вывучэньня беларускай літаратуры 15—17 стагодзьдзя”*, *“я падрыхтавала гэтта сьпісак рукапісаў, якія было-б неабходна зьмікрафільмаваць як найхутчэй і мецъ копіі у некалькіх мейсцах, бо мы ведаем, якія катаклізмы бываюць у гісторыі, як гінуць каштоўнасьці — нават ужо не гаворачы пра вайну — у мірныя часы бываюць пажары, патопы й падобнае”*[9].

З гэтай мэтай спн. Зора распачала ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы праект па мікрафільмаваньні найбольш каштоўных помнікаў,

[8] Беларуская літаратура XVI стагодзьдзя: самабытнасьць і літаратурныя сувязі // Зора Кіпель... С. 157—158.

[9] Архіў Зоры Кіпель. Справа I. Том 6. Тэчка 3. № 1.

сьпіс якіх пад назвай “Беларуская перакладная літаратура XV—XVII ст. Ведамыя крыніцы” знаходзіцца ў ейным архіве[10].

Побач з гэтым многія помнікі былі заплянаваны да выданьня ў сэрыі “Беларуская спадчына” пад эгідай МАБа, як тое вынікае са “Сьпісу запланаваных выданьняў Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў (“Беларускай спадчыны”)”[11].

Нарэшце, адной з запаветных мараў спн. Зоры было напісаньне кнігі пра беларускую перакладную літаратуру XV—XVII стст., пра што яна за год да сьмерці, у чэрвені 2002 г., піша ў сваім лісьце да Надзеі Старавойтавай наступным чынам: *“Я вельмі хацела-б, каб Вы пераняла ад мяне матар’ялы зь беларускай перакладной літаратуры, якія я зьбірала ўжо больш за 20 гадоў. Сабралася сапраўды шмат і не хацелася-б, каб тое зьбіраньне было надарма, бо я маю гэтак шмат незакончаных праэктаў (а гады лятуць), што працаваць над кнігай аб беларускай перакладной літаратуры проста ня будзе магчымасьці”*[12].

Прайшлі гады. Большасьць з задуманага спн. Зорай ажыцьцявілася. Тэксты аповесьцяў пра Трыстана, Баву, Атылу, “Александрыя”, “Троя”, “Рымскія дзеі” былі выдадзеныя ў Беларусі на мове арыгіналу і ў перакладзе на сучасную беларускую мову (неаднаразова!). Факсіміле беларускага рукапісу “Трышчана” ўбачыла сьвет у Польшчы разам з расчыткай тэксту й ягонымі перакладамі на беларускую мову. А нядаўна зьявіўся й пераклад помніка на польскую, зроблены Ліліяй Цітко. У 2002 г. мной, а ў 2004 г. Надзеяй Старавойтавай былі абаронены кандыдацкія дысэртацыі па перакладной літаратуры. У 2007 г. зьявілася й адпаведная манаграфія. Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў межах праграмы *UNESCO* “Памяць чалавецтва” ажыцьцяўляе дыгіталізацыю каштоўных помнікаў беларускага пісьменства, у тым ліку й перакладных твораў XV—XVII стст., вывучэньню якіх спн. Зора прысьвяціла апошнія дваццаць гадоў свайго *жыцьця*.

[10] Архіў Зоры Кіпель. Справа I. Том 6. Тэчка 3. № 2.

[11] Архіў Зоры Кіпель. Справа I. Том 6. Тэчка 4. № 7.

[12] Архіў Зоры Кіпель. Справа II. Том 5. Тэчка 7. № 4.

**Ю.К.**

# КАЛЬВАРЫЯ

*Завальнюк, Уладзіслаў; Сакалоўская, Ала. Кальварыя. Што захавала памяць. Мінск: Рымска-Каталіцкая парафія Святога Сымона і Святой Алены, 2019. 594 с.*

У Беларускі інстытут навукі й мастацтва пошта прынесла каштоўны падарунак — кнігу Ўладзіслава Завальнюка й Алы Сакалоўскай “Кальварыя”.

Кнігу з падобным назовам Ала Сакалоўская выдала ў 1997 г., і ў 2000 г. яна была ўзнагароджаная прэміяй ПЭН-Цэнтру імя Францішка Багушэвіча. Было ў той кнізе троху болей за 200 старонак; у новым жа выданьні — амаль 600!

У кнігу быў укладзены ліст; зацытуем яго са згоды спн. Сакалоўскай:




*«Высокашаноўны Спадар Вітаўт Кіпель!*

*Пасылаю Вам маю новую кнігу “Кальварыя”. У працы над ёю і яе выданні мне вельмі дапамог кс. Уладзіслаў Завальнюк — пробашч Чырвонага касцёла ў Мінску. Без яго я б не атрымала матэрыялы з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі — запісы аб смерці ў касцёльных кнігах за 1796—1899-я гг. Праўда, некаторых кніг у архіве няма. Касцёльныя кнігі знаходзіліся да рэвалюцыі ў Катэдры. У іх па парадку запісваліся пахаваныя на Кальварыі, Залатой Горцы і нават у ваколіцах Мінска. Спачатку запісвалі па-лаціне, з 20-х гг. XIX ст. па-польску, з канца 1930-х гг. па-руску.*

*Цяжка было расчытваць гэтыя запісы ад рукі.*

*У кнізе выкарыстаны матэрыял з маёй першай маленькай кнігі “Кальварыя”. Акрамя таго, выкарыстаны запісы палякаў з кнігі “Rzymsko-Katolicki cmentarz Kalwaryjski w Minsku na Bialorusi” (1996 і 2000 гг.). У ёй запісы на помніках і крыжах не ўсіх, толькі цэнтральнай часткі, без імкнення пашукаць, хто гэтыя людзі. Затое падкрэсліваючы, што Кальварыя — гэта “kresy Wschodnie”.*

*Цяпер Кальварыя — гэта гісторыка-культурная каштоўнасць I катэгорыі. Могілкі закрытыя. Толькі можна пахаваць у магілу маці, бацькі, сына, дачкі, брата, сястры — самых блізкіх родзічаў, калі ёсць дакументы, якія пацвярджаюць роднасць.*

*Адведзены новы ўчастак, дзе хаваюць знакамітых пісьменнікаў, мастакоў, вучоных, святароў. Але для гэтага трэба атрымаць дазвол на самым высокім узроўні. Як будзеце чытаць, то сустрэнеце гэтыя імёны.*

*Пра ўсё гэта я старалася напісаць у раздзеле “Як стваралася кніга”.*

*Паколькі кніга прысвечана светлай памяці маіх родных, блізкіх, сяброў (а не ўсе яны пахаваныя на Кальварыі і не ўсе ў Мінску, у Беларусі), то ў энцыклапедычнай частцы кнігі ўказваецца, дзе пахаваныя.*

*Ёсць успаміны пра блізкіх мне людзей ды і наогул усё, што захавала мая памяць і тое, што я ведаю з аповедаў-успамінаў маіх дзядоў, бацькоў — усіх маіх родных і блізкіх.*

*Што такое гісторыя? Гэтыя людзі, пра якіх я па магчымасці старалася напісаць (па часе — гэта з 1870 г. і да нашых дзён). Нават у вёрстку трэба было ўстаўляць новыя імёны.*

*У касцёльных кнігах Катэдры (як я ўжо пісала) ёсць запісы аб пахаваннях на Залатой Горцы. Калі Бог дасць мне здароўе, сілы, дасць жыццё, то пастараюся зрабіць віртуальную кнігу пра Залатую горку (кнігу пра могілкі, якія засталіся толькі ў запісах).*

*Хачу Вас усцешыць, што на Кальварыі ўжо ёсць шмат надпісаў па-беларуску, як на новых пахаваньнях, так і на старых.*

*Людзі ўспамінаюць свае карані»*.

Кніга, выдадзеная накладам у 99 асобнікаў (але нібыта рыхтуецца дадрук), складаецца з прадмовы, дзе распавядаецца ня толькі пра яе стварэньне, але й пра гісторыю Кальварыі, і пра асобных выбітных беларускіх дзеячаў, пахаваных там, асноўнага разьдзелу — “Рака памяці. Мартыралог”, у якім пададзены расчытаныя й перакладзеныя надпісы на магілах, а таксама ўспаміны А. Сакалоўскай пра тых, каго ведала асабіста й хто знайшоў спачын на Кальварыі.

Цяжка не пагадзіцца з наступнымі словамі з прадмовы: *“Могілкі патрэбныя не мёртвым, а жывым. [...] А таму, каб не перарывалася повязь часоў, ты не маеш права забываць пра іх”*. Падобнымі думкамі кіраваліся й сябры БІНіМу, якія цяпер працуюць над альбомам беларускіх могілак у сьвеце.

Вось і гэтая кніга абудзіла ўспаміны Вітаўта Кіпеля пра ягоную Кальварыю:

*«Атрымаў вельмі цікавую кнігу “Кальварыя, што захавала памяць” — гэта рэгістр пахаваньняў на Кальварыйскіх могілках у Менску пачынаючы ад XIX ст. Надзвычайны й выдатны помнік мінулым пакаленьням нашых суродзічаў — пераважна з шляхецкімі каранямі! — створаны думкамі й рукамі сп-ні Алы Сакалоўскай і ксяндза Ўладзіслава Завальнюка. На мой погляд, праца гэтая і ўшаноўвае мінуўшчыну — людзей, дасюль забытых, закінутых, і дае беларускаму будучаму дасьледчыку дакумэнты аб тысячах беларусаў — у кнізе ўлічаныя некалькі тысячаў пахаваньняў — іх жыцьці-дзейнасьці.*

*На жаль, не магу заняцца глыбей разглядам кнігі, бо працую над 3-ім выданьнем “Беларусаў у ЗША”. Аднак аб менскай Кальварыі падзялюся колькімі заўвагамі.*

*Сп-ня Ала Сакалоўская піша, што палякі й цяпер уважаюць Кальварыю ў Менску — “цэмэнтаром польскім”. Ну, як кажуць у нас, “калі цяля нарадзілася з лысінай, гэткае яно й памрэ”. Я — мянчук, і ўсё пра Менск усмактывалася ў мяне ад маці, дзеда, родзічаў, суседаў. “Польскімі” часьцей у Менску называлі могілкі на Залатой Горцы, а не Кальварыю. З майго дасьведчаньня скажу, што наагул азначэньне “польскі” было другасным — людзі масава ўжывалі тэрмін “могілкі на Залатой Горцы”, “могілкі Вайсковыя”, і “Кальварыя”, якая ўважалася ў шырокіх колах мянчанаў як багацейшыя, шляхотныя могілкі.*

*Аб Кальварыі таксама мушу выказацца і ў асабістым пляне, бо й гэтыя могілкі мне блізкія, як і Вайсковыя й Залатагорскія. На Кальварыі спачываюць дзясяткі знаёмых сям’і, такія як Варатніцкія, Доўнары, Янушкевічы, Суднікі, Рачкоўскія, Шабанаў і шмат, шмат іншых.*

*На Кальварыі я сам малы й з маці бываў соткі разоў: адведвалі ці тога “дзядзю”, ці “цёцю”. Аднак два візыты на могілкі ніколі не сатруцца з памяці. Прыпамінаю, хоць дзея адбывалася па-над 80 гадоў таму назад.*

*Год 1937 ці 1938. Мы з маці ўлетку ў Менску — раз на год маці было дазволена прыяжджаць з высылкі, з Расеі, у Менск. Бываючы ў Менску ў хаце дзеда на Горным завулку, мама найперш прыводзіла ў парадак хату дзеда, а потым адведвала сяброў.*

*Як заўсёды першае адведваньне было ў хату сп-ні цёці Ядзі — Ядвігі Бяганскай. Там жанчыны абдымаліся, плакалі, гутарылі, а я займаў малую Галку — дачку цёці Ядзі.*

*У той візыт мы чамусьці не засталіся ў хаце, а цёця Ядзя й маці вырашылі прайсьціся, узялі мяне з сабой, а за малой даглядала іншая “цёця”.*

*І вось мы пайшлі на Кальварыю. Правялі мы там, можа, 5—6 гадзінаў. Я лазіў сярод магілак, а мама зь цёцяй Ядзяй сядзелі непа-*

*далёк ад увахода: гаварылі й плакалі, плакалі. Калі я падыходзіў, яны зварачалі на мяне ўвагу, выцiралі вочы й чамусьці гаварылі мне нешта падбадзёрваючае. Праўда, я дагадваўся, што маглі гаварыць пра арышты, трывожную сытуацыю ў Менску і пад., але я ніколі гэтага не спытаўся. З могілак мы пайшлі проста дахаты, на Камароўку, а цёця Ядзя нас пакінула ў раёне тэатру.*

*Іншы візыт на Кальварыю — незабыўны для мяне — у 1943 годзе ў сьнежні месяцы, калі Менск хаваў бургамістра гораду — Вацлава Іваноўскага, замардаванага партызанамі пару дзён перад тым. Хаваў бургамістра ўвесь горад. Калёна зь вянкамі, а ў ёй вучні школаў, моладзь СБМ, прадстаўнікі прадпрыемстваў, шырокае грамадзтва, расьцягнулася на соткі мэтраў. Адбывалася ўсё вельмі ўрачыста. Наперадзе працэсіі ішлі сьвятары, тагачасныя кіраўнікі гораду, прадстаўнікі з правінцый. Былі прамовы, чые — ня памятаю, але калі памяць ня здраджвае, асабліва праніклай была прамова сп. Анатоля Комара. Мушу дадаць, што пахавіны Вацлава Іваноўскага былі сапраўды грамадзкія, бо ён быў ведамы грамадзтву, да яго было няцяжка падысьці ў Гарадзкую ўправу, ён дапамагаў шмат чым і СБМ, і прагімназіі, і сэмінарыі.*

*Вось такія згадкі ўсплылі, угледзіўшы ды перагарнуўшы салідную й патрэбную кнігу аб беларускіх могілках Кальварыя ў Менску».*

Цешыць, што айчыная нэкрапалістыка папоўнілася новым каштоўным выданьнем. Дай божа аўтарцы сілаў і здароўя на працяг працы пра яшчэ адно некалі культавае месца гораду — могілкі на Залатой Горцы.

# ВЕЧАР ПАМЯЦІ ЗЬМІТРА САЎКІ

14 траўня 2019 г. у Літаратурным музэі Максіма Багдановіча адбыўся вечар памяці мовазнаўцы, сябры БІНіМу Зьмітра Саўкі, сумешчаны з прэзэнтацыяй выдадзенай на трэція ўгодкі сьмерці ягонай кнігі "Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы" (Менск, 2019).

Сваю працу аўтар пісаў да 50-годзьдзя Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня яшчэ пры канцы 1990-х, аднак давесьці справу да друку ня здолеў. Толькі пасьля ягонага сыходу сябры з дапамогай сям'і, Беларускай фундацыі Крачэўскага, БІНіМу й БАЗА нарэшце выдалі кнігу, прысьвечаную беларускай прысутнасьці ў ЗША.

Згадаць пра Зьмітра Саўку на мерапрыемства прыйшлі сябра дзяцінства мастак Артур Клінаў, старшыня Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская, калега-мовазнаўца Вінцук Вячорка, намесьнік дырэктара "Белсату" Аляксей Дзікавіцкі, колішнія выкладчыцы Беларускага дзяржаўнага лінгвістычнага ўнівэрсытэту Вольга Калацкая, Вольга Барысенка, калега па "Белсаце", карэктарка кнігі Настасься Мацяш, амэрыканская беларуска Ала Кузьміцкая. Кранальнымі й жартоўнымі, вельмі эмацыйнымі ўспамінамі-згадкамі пра заўсёды актыўнага, жывога сябру й калегу поўнілася вечарына. Аповеды пра працу над кнігай пра амэрыканскіх беларусаў ішлі поруч са згадкамі актыўнасьці Зьмітра ў розных сфэрах беларускага жыцьця.

У часе вечарыны ў залі прысутнічалі сваякі: жонка Ілона Ўрбановіч-Саўка, дзеці Уладзя, Юстына, Караліна й Стэфан, а таксама маці Зьмітра Саўкі.




Вядучая вечарыны Натальля Гардзіенка. Менск, 14 траўня 2019 г.
*Здымак www.budzma.by*

## *Хроніка*

# УДЗЯЧНАСЬЦЬ БІНІМУ — 2019

14 траўня 2019 г. на вечарыне памяці Зьмітра Саўкі прадстаўніца Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Натальля Гардзіенка ўручыла літаратуразнаўцу Ціхану Чарнякевічу сымбалічную талерку й невялікае матэрыяльнае ўзнагароджаньне ў якасьці “Ўдзячнасьці БІНіМу”. Такім чынам, БІНіМ выказаў дасьледніку сваю ўдзячнасьць за папулярызацыю выданьняў, прысьвечаных беларускай эміграцыі.

Створаны ў 1951 г. эмігрантамі-інтэлектуаламі на Захадзе Беларускі інстытут навукі й мастацтва намагаецца падтрымліваць тых, хто спрыяе дасьледаваньню й папулярызацыі тэмы беларускай эміграцыі ў грамадзтве Беларусі. Дзеля гэтага ў 2013 г. была заснаваная практыка пэрыядычнага выказваньня публічнай удзячнасьці асобам і арганізацыям, якія зрабілі заўважны ўнёсак у публікацыю й папулярызацыю эміграцыйнай спадчыны. Гэткую ўдзячнасьць ад БІНіМу раней ужо атрымалі гісторык Алесь Пашкевіч, мовазнаўца Зьміцер Саўка, архівіст Ганна Запартыка, Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”.



Ціхан Чарнякевіч з “Удзячнасьцю БІНіМу”.
*Здымак www.budzma.by*

# ВЫСТАВА,
# ПРЫСЬВЕЧАНАЯ БЕЛАРУСКАМУ ЗАМЕЖЖУ

**1 ліпеня 2019 г.** у Дзяржаўным музэі гісторыі беларускай літаратуры адбылося ўрачыстае адкрыцьцё літаратурна-дакумэнтальнай выставы “У сэрцы з Радзімай”, прысьвечанай літаратурнай спадчыне беларускага замежжа. Выстава была падрыхтаваная ў межах праекту “Зьбіраем гісторыю беларускай літаратуры разам”.



Афіша выставы “У сэрцы з Радзімай”

У экспазыцыі, якая працавала на працягу месяцу, быў прадстаўлены пэрыядычны друк беларускага замежжа ХХ ст., дакумэнты й паштоўкі з розных краінаў і пэрыядаў, а таксама кніжныя выданьні па гісторыі стварэньня беларускіх суполак у сьвеце, творы пісьменьнікаў беларускага замежжа, арганізацыі, якія каардынуюць і падтрымліваюць культурную й грамадзкую дзейнасьць замежных беларусаў.

На выставе можна было пабачыць дакумэнты з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва (з фондаў БІНіМу, ЗБС “Бацькаўшчына”, Вітаўта й Зоры Кіпеляў, Міхася Кавыля), Дзяржаўнага музэю гісторыі беларускай літаратуры, Рэспубліканскага цэнтру нацыянальных культур, з прыватнага архіву Марыі Міцкевіч.

У адкрыцьці экспазыцыі бралі ўдзел дырэктар Дзяржаўнага музэю гісторыі беларускай літаратуры Міхаіл Рыбакоў, дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатру імя Янкі Купалы Павал Латушка, дырэктар Рэспубліканскага цэнтру нацыянальных культур Вольга Антоненка, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, намесьнік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па навуковай і выдавецкай дзейнасьці Алесь Суша, намесьніца дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва Натальля Гардзіенка, унучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч і іншыя.

# ПРЭЗЭНТАЦЫЯ ВЫДАНЬНЯЎ, ПРЫСЬВЕЧАНЫХ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ, НА МАНХЭТАНЕ

21 верасьня 2019 г. у Доме марака на Манхэтане на сходзе Беларуска-Амэрыканскага згуртаваньня “Пагоня” адбылася прэзэнтацыя трох кніг, якія ўбачылі сьвет у Менску цягам апошніх паўгоду. Першая зь іх — праца Зьмітра Саўкі “Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы. Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня”, выдадзеная на трэція ўгодкі сьмерці аўтара. Другая кніга — «Газеты “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Выбранае» — анталёгія двух найважнейшых пэрыядычных выданьняў паваеннай эміграцыі. Трэцяя — “Зора Кіпель” — прысьвечаная асобе ведамай беларускай грамадзкай дзяячкі ў ЗША, супрацоўніцы Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі, дасьледніцы сярэднявечнай беларускай літаратуры. Усе тры кнігі былі ўкладзеныя й выдадзеныя намаганьнямі архівістаў і дасьледнікаў эміграцыі Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча, якія й прэзэнтавалі іх сябрам “Пагоні”.



У часе прэзэнтацыі. Манхэтан, 21 верасьня 2019 г. *Здымак В. Зайкі*

# ПРЭЗЭНТАЦЫЯ КНІГІ ЗОРЫ КІПЕЛЬ У ГАЙЛЭНД-ПАРКУ

22 верасьня 2019 г. у царкве Маці Божай Жыровіцкай БАПЦ адбылася прэзэнтацыя кнігі “Зора Кіпель” (Менск, 2019), укладзенай Натальляй Гардзіенкай і Лявонам Юрэвічам.

Кніга складаецца зь біяграфічных дакумэнтаў вядомай беларускай дасьледніцы, бібліёграфа, грамадзкай дзяячкі Зоры Кіпель, яе мэмуараў, артыкулаў, упершыню сабраных пад адной вокладкай, а таксама ўспамінаў пра яе. Гэта першае выданьне новай сэрыі “Людзі эміграцыі”, заснавальнікі якой маюць на мэце ўшанаваньне памяці замежных беларусаў і выказваньне ўдзячнасьці тым, хто да сёньня працуе на чужыне дзеля Беларусі.

На прэзэнтацыі прысутнічалі ўкладальнікі кнігі, сям’я Зоры Кіпель: Вітаўт, Юрка, Алеся, Ларэйн ды іншыя амэрыканскія беларусы, якія ведалі гэтую дзяячку, хацелі б ушанаваць яе памяць.

Імпрэзу вёў др Янка Запруднік. З аповедам пра выданьне выступіла адна з укладальнікаў і куратарка сэрыі Натальля Гардзіенка, а таксама згадкамі пра Зору Кіпель падзяліліся Вітаўт Кіпель, Янка Запруднік, Ала Орса-Рамана, Валянціна Трыгубовіч, Ларэйн Кіпель.




Вітаўт Кіпель на прэзэнтацыі кнігі “Зора Кіпель”.
Гайлэнд-Парк, 22 верасьня 2019 г. *Здымак С. Трыгубовіча*

## *Хроніка*

# ТЭМАТЫКА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА НА ВОСЬМЫМ МІЖНАРОДНЫМ КАНГРЭСЕ ДАСЬЛЕДНІКАЎ БЕЛАРУСІ Ў ВІЛЬНІ

На Восьмым міжнародным кангрэсе дасьледнікаў Беларусі, які адбыўся ў Вільні 27—29 верасьня 2019 г., упершыню нават дзьве панэлі былі прысьвечаныя тэматыцы беларускага замежжа.

На ўжо традыцыйнай панэлі "Беларускае замежжа: праблемы культурнай памяці й нацыянальнай ідэнтычнасьці" было агучана 12 дакладаў дасьледнікамі зь Беларусі, Польшчы й Расеі. Пачалося з выступу магістра гістарычных навук Тацьцяны Варабей, якая прадставіла вынікі сваёй працы над вызначэньнем адметнасьцяў нацыянальнай ідэнтычнасьці прадстаўнікоў роду Радзівілаў, якія ад XIX ст. жылі ў Францыі. Паводле матэрыялаў францускага друку былі выяўленыя роля й месца асноўных прадстаўнікоў роду Канстанціна Вінцэнта (1850—1927) і Леана Канстанціна (1880—1927) Радзівілаў у мясцовай эліце, а таксама іх сувязі з Польшчай, Літвой і стаўленьне да нацыянальнага руху, які пачынаўся ў Беларусі ў XX ст.

Даклад яшчэ аднаго магістра гістарычных навук Сяргея Астанковіча быў прысьвечаны навуковаму даробку мовазнаўцы Паўла Растаргуева (1881—1959), які вывучаў беларускія гаворкі Браншчыны й Смаленшчыны, выявіўшы пэўныя моўныя сувязі гэтых расейска-беларускіх тэрыторыяў з мэтрапольнай Беларусьсю. Цікавыя дасьледаваньні амаль забытага аўтара патрабуюць пераасэнсаваньня з гледзішча разьвіцьця сучаснага мовазнаўства.

Доктар гістарычных навук прафэсар Гарадзенскага ўнівэрсытэту Дзьмітры Караў у сваім выступе разважаў пра асноўныя праблемы разьвіцьця беларусазнаўства ў Расеі ў XX—XXI стст. і прыйшоў да высновы, што ва ўсходніх суседзяў сёньня амаль не існуе інстытуцыянальнага вывучэньня беларускай праблематыкі. Тыя працы, што ствараюцца, належаць паасобным дасьледнікам-энтузіястам. Адэкватнага ж навукова абгрунтаванага бачаньня гісторыі й сучаснасьці Беларусі ў Расеі няма, што нэгатыўна адбіваецца й на рэальных дачыненьнях абедзьвюх краінаў.

Кандыдат філялягічных навук Мікола Трус падзяліўся з прысутнымі сваімі апошнімі бібліятэчна-архіўнымі знаходкамі — публікацыямі вершаў Янкі Купалы, Цёткі, Максіма Багдановіча на старонках украінскага пэрыядычнага друку ў ЗША на пачатку XX ст., а таксама малаведамым украінскім перакладам працы Максіма Багдановіча "Угорська Русь", выдадзеным асобнай кнігай у амэрыканскім Скрэнтане ў 1916 г.

Магістар Варшаўскага ўнівэрсытэту Віктар Корбут разважаў на тэму адлюстраваньня ў віленскім беларускамоўным пісьменстве пачатку XX ст. працэсу фармаваньня беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці, які выявіўся ў зьменах графікі лацінкі, магчыма, з мэтаю адмежавацца ад палякаў.

У дакладзе кандыдата гістарычных навук зь Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Людмілы Слуцкай былі прадстаўленыя цікавыя дакумэнты Дыпляматычнага францускага архіву, у якіх разглядалася беларускае пытаньне ў 1919—1921 гг. Мэмарандумы беларускіх дзеячаў, рапарты дыпляматаў, сьведчаньні розных асобаў, што адведвалі беларускія тэрыторыі — усё гэта зьяўляецца цікавай крыніцай для вывучэньня й беларускай гісторыі, і міжнародных дачыненьняў.

Магістар гістарычных навук з Цэнтру дасьледаваньняў беларускай культуры, мовы й літаратуры Алена Ізергіна займаецца вывучэньнем беларускай меншасьці ў Літве. У сваім дакладзе яна разглядала асаблівасьці нацыянальнай ідэнтычнасьці, працэсы асыміляцыі літоўскага беларускага насельніцтва ў наш час.

Варта адзначыць, што па панэлі прысутнічала прадстаўніца беларускай амбасады ў Літве Ірына Зубко, якая далучылася да абмеркаваньня праблемаў мясцовых беларусаў.

Некалькі цікавых дакладаў на сэкцыі былі прысьвечаныя беларусам Падляшша. Кандыдат філялягічных навук з Расейскага дзяржаўнага гуманітарнага ўнівэрсытэту Натальля Пятрова прадставіла вынікі працы экспэдыцый па вывучэньні фальклёру беларусаў Гайнаўскага й Бельскага паветаў, якія былі зьдзейсьненыя цягам некалькіх апошніх гадоў. Сабраныя матэрыялы дазваляюць вызначыць як спэцыфічныя рысы мясцовага фальклёру, гэтак і агульнае зь іншымі беларускімі й, шырэй, усходнеславянскімі рэгіёнамі.

Доктар габілітаваны ў сацыялёгіі з Польшчы Малгажата Будыта-Будзыньска прадставіла дасьледаваньне нацыянальнай памяці падляскіх беларусаў на прыкладзе канфлікту вакол “праклятых жаўнераў” і супраціву гераізацыі Рамуальда Райса “Бурага”, атрад якога ў 1946 г. спаліў некалькі беларускіх вёсак.

Асобны блёк склалі дасьледаваньні, прысьвечаныя паасобным дзеячам паваеннай беларускай эміграцыі. Пра адметнасьці паэзіі Хведара Ільляшэвіча распавяла прафэсар Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту кандыдат гістарычных навук Ірына Багдановіч. Асаблівасьцям вывучэньня доктарам Янкам Садоўскім гісторыі беларусаў Канады, напісанай ім кнігі й рэакцыі на яе быў прысьвечаны даклад кіраўніцы панэлі Натальлі Гардзіенкі.

На заканчэньне кіраўніца Дзіцячага фонду духоўнага й культурнага адраджэньня “Сакавік” Марыя Міцкевіч распавяла пра дзейнасьць айца Аляксандра Надсана й беларусаў Вялікабрытаніі ў галіне дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі.

Усе агучаныя даклады актыўна абмяркоўваліся ўдзельнікамі панэлі, а аўтары дэманстравалі высокі ўзровень валоданьня сваімі тэмамі. Безумоўна, шкада, што на кангрэс не змаглі прыехаць калегі Сяргей Ясюнін з Украіны, Вольга Хабібуліна й Андрэй Масквін з Польшчы. Іх выступы добра дапоўнілі б разгляданую на панэлі праблематыку.

Асобна на кангрэсе працавала невялікая панэль "Беларуская дыяспара й БССР (1919—1939): паміж супрацоўніцтвам і канфрантацыяй", арганізаваная кандыдатам гістарычных навук зь Менску Андрэем Бучам. Тут былі агучаныя даклады доктара гістарычных навук з Варшаўскага ўнівэрсытэту Юрыя Грыбоўскага "Беларускі нацыянальны рух у Латвіі й Савецкая Беларусь (1919—1940)", доктара сацыяльных навук з Унівэрсытэту Казіміра Вялікага ў Быдгашчы Алены Глагоўскай "Беларуская нацыянальна-палітычная нарада ў Празе ў 1921 г.", кандытата гістарычных навук Андрэя Бучы "Дзейнасьць беларускіх прасавецкіх арганізацый у Чэхаславакіі ў міжваенны пэрыяд", магістра гісторыі з Польскай акадэміі навук Паўла Абламскага "Партызанскі рух ці сялянскі радыкалізм? Пра дзейнасьць Пружанскай узброенай групы ў Палескім ваяводзтве ІІ Рэчы Паспалітай вясной — летам 1925 г.", магістра гісторыі з Рэспубліканскага інстытуту вышэйшай школы Беларусі Андрэя Мастыкі "Роля ўнівэрсытэту ў фармаваньні мясцовых нацыянальных ідэнтычнасьцяў: на прыкладзе студэнтаў-беларусаў ва Ўнівэрсытэце Стэфана Баторыя (1919—1939)" і магістра сацыяльных навук з Польскай акадэміі навук Аляксандра Пагарэлага "Дыскусіі аб здароўі як нацыянальнай і сацыяльнай праблеме ў міжваеннай Заходняй Беларусі".

Прысьвечаныя беларускаму замежжу панэлі на кангрэсе засьведчылі разнастайнасьць тэматыкі дасьледаваньняў, пашырэньне кола аўтараў і, што асабліва важна, павышэньне ўзроўню дакладаў.



Удзельнікі панэлі "Беларускае замежжа: праблемы культурнай памяці й нацыянальнай ідэнтычнасьці". Вільня, 28 верасьня 2019 г.
*Здымак Н. Гардзіенкі*

# ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Мікола Абрамчык** (1903—1970), палітык, грамадзкі дзеяч, публіцыст, прэзыдэнт Рады БНР (1947—1970). Ад 1921 г. браў удзел у нацыянальным руху, быў прадстаўніком Рады БНР на Вялейскую акругу, вучыўся ў Радашковіцкай беларускай гімназіі, на вышэйшых настаўніцкіх курсах у Вільні. Ад 1924 г. вучыўся ў Чэхіі: закончыў эканамічна-каапэратыўны факультэт Украінскай гаспадарчай акадэміі ў Падэбрадах з дыплёмам інжынэра-эканаміста, а таксама факультэт гісторыі й сацыялёгіі Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе. Актывіст Аб’еднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацый у Чэхаславаччыне. Па заканчэньні навучаньня разам з найбліжэйшым сябрам Лявонам Рыдлеўскім апынуўся ў Парыжы, дзе ў 1932 г. заснаваў першую беларускую арганізацыю ў Францыі “Хаўрус” і пачаў выданьне яе пэрыёдыка “Рэха”. Ад 1941 г. перабраўся ў Бэрлін, дзе працаваў у Беларускім камітэце самапомачы, дапамагаў у выданьні газэты “Раніца”. Каля 1943 г. атрымаў ад прэзыдэнта БНР Васіля Захаркі тэстамэнт на перайманьне пасады кіраўніка БНР і архіву. У кастрычніку 1943 г. быў арыштаваны гестапа й адпраўлены пад хатні арышт у Парыж. Ад 15.08.1945 быў старшынём Беларускага нацыянальнага цэнтру. Ад 1946 г. працаваў у Эўропе па лініі *IRO*. У сьнежні 1947 г. афіцыйна аднавіў і ўзначаліў Раду БНР. Жыў у прыгарадзе Парыжу Вільпэнце, займаўся актыўнай антыкамуністычнай дзейнасьцю. Быў адным з ініцыятараў стварэньня і ў 1954—1969 гг. кіраўніком Лігі вызваленьня народаў СССР (Парыскага блёку).

**Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзкі дзеяч, літаратуразнаўца, гісторык, публіцыст, літаратар. Уваходзіў у літаб’яднаньне “Ўзвышша”. У 1930 г. арыштаваны па справе “Саюзу вызваленьня Беларусі” й высланы ў Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Арыштаваны паўторна ў 1937 г., вызвалены ў 1938 г., вярнуўся ў Менск, працаваў у школе, закончыў БДУ. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадзкой управе, “Беларускай газэце”, галоўным рэдактарам выдавецтва “Менск”, уваходзіў у Цэнтральную Раду БНС, выконваў абавязкі рэфэрэнта па справах прэсы й прапаганды Генэральнага камісарыяту Беларусь. Увосень 1943 г. выехаў

у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газэты "Бацькаўшчына", яе рэдактарам. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Займаўся навуковымі дасьледаваньнямі, аўтар вялікай колькасьці літаратуразнаўчых прац. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу.

**Алесь Бразгуноў** (нар. 1972), літаратуразнаўца, перакладчык, паэт. Кандыдат філялягічных навук. Вядучы навуковы супрацоўнік Цэнтру дасьледаваньняў беларускае культуры, мовы й літаратуры НАН Беларусі. Вывучае перакладную літаратуру Беларусі XV—XVII стст., польскамоўную паэзію ВКЛ. Аўтар больш як 50 навуковых артыкулаў і манаграфіі "Перакладная бэлетрыстыка Беларусі XV—XVII стст." (2007), кніг перакладаў "Беларускія *Александрыя, Троя, Трышчан*" (2009), "Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XV—XVIII стст." (2011), "Дыярыушы XVII стагодзьдзя (1594—1707 гады)" (2016) і інш. Пераклаў на сучасную беларускую мову прадмовы й пасьляслоўі Ф. Скарыны для праэкту "Кніжная спадчына Францыска Скарыны" ў 20 т. (Нацыянальная бібліятэка Беларусі; 2013—2017).

**Натальля Гардзіенка** (нар. 1977), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтарка некалькіх манаграфій і дзясяткаў артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай эміграцыі. Галоўны рэдактар "Запісаў БІНіМ". Старшыня навукова-творчай ініцыятывы "Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа", намесьніца дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва.

**Зіна Гімпелевіч** (нар. 1949), доктар славяназнаўства. Прафэсар на эмэрытуры Ўнівэрсытэту ў Ватэрлу (Канада). Аўтарка кніг, прысьвечаных беларускай габрэйскай літаратуры, творчасьці Васіля Быкава й інш. Доўгагадовы старшыня БІНіМу ў Канадзе.

**Юры Грыбоўскі** (нар. 1979), гісторык. Доктар габілітаваны. Прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту. Займаецца вайсковай, палітычнай і рэлігійнай гісторыяй краінаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. Аўтар трох манаграфій і больш як 130 навуковых артыкулаў у друку Польшчы, Беларусі, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Расеі, Украіны.

**Віялета Кавалёва** (нар. 1962), кіраўнік беларускіх сьпеўных гуртоў "Яваровы людзі" й "Яваровы дзеці" (Таронта, Канада). Закончыла журфак БДУ, працавала ў менскіх газэтах, часопісах і на беларускай тэлевізіі. Ад 2001 г. жыве ў Таронта.

**Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадзкі дзеяч, навуковец, дасьледнік беларускай эміграцыі, доктар мінэралёгіі. Жыве ў Нью-Джэрзі. З 1982 г. старшыня БІНІМу. Аўтар працы “Беларусы ў ЗША” (1993 і 2017 гг.; ангельскамоўнае выданьне — 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацый, у тым ліку артыкулаў на беларусазнаўчую тэматыку ў амэрыканскіх энцыкляпэдыях.

**Яўхім Кіпель** (1898—1969), грамадзкі дзеяч, бацька Вітаўта Кіпеля. У часе Першай сусьветнай вайны — паручнік царскай арміі, ваяваў на Румынскім і Паўднёвым франтах. У 1918—1921 гг. — у Чырвонай арміі. Ад 1921 г. жыў у Менску, быў сябрам Тэрміналягічнай камісіі Наркамату асьветы, працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Арыштаваны ў 1930 г. па справе “Саюзу вызваленьня Беларусі” й высланы на пяць гадоў у Вяцкую вобласьць, у 1935 г. арыштаваны паўторна й высланы на Далёкі Ўсход. У 1942 г. вярнуўся ў Менск, працаваў у Галоўным школьным інспэктараце, рэдакцыі газэты “Голас вёскі”, займаўся падрыхтоўкай падручнікаў. Старшыня Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Браў удзел у грамадзка-палітычным руху, уваходзіў у кіраўніцтва БЦР, рэдагаваў газэту “Беларускае Слова”, быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Стварыў Асацыяцыю былых палітвязьняў савецкіх лягераў.

**Макар Краўцоў** (1891 — пасьля 1939), паэт, грамадзкі дзеяч, публіцыст. Дэлегат Першага Ўсебеларускага кангрэсу (1917). Аўтар гімну БНР “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Арыштаваны ў 1939 г., неўзабаве пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР. Відавочна, памёр у зьняволеньні.

**Баляслаў Лісчонак (Лішчонак)** (1919—1990), грамадзкі дзеяч, музыка. У 1944 г. разам з бацькамі пакінуў Беларусь. Некаторы час жыў у Вялікабрытаніі, адкуль на пачатку 1950-х гг. перабраўся ў Канаду. Працаваў у прадстаўніцтве кампаніі “Джэнэрал Мотарз”. Жыў у Ашаве. Заснаваў аркестар *“Oshawa Melody”*, які ўдзельнічаў у розных, у тым ліку ў беларускіх, мерапрыемствах. Браў актыўны ўдзел у працы Згуртаваньня беларусаў Канады, парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага.

**Пётра Мурзёнак** (нар. 1951), грамадзкі дзеяч, доктар мэдычных навук. Працуе ў Міністэрстве аховы здароўя Канады. Старшыня БІНіМу ў Канадзе з кастрычніка 2017 г., старшыня атаўскага аддзелу ЗБК з 1999 г. Заснавальнік і рэдактар вэб-часопісу “Культура, Нацыя” (з 2012 г., у сьнежні 2019 г. выйдзе 24-ы нумар часопісу). Аўтар дзвюх публіцыстычных кніг і больш як 40 артыкулаў, прысьвечаных

пытаньням будаўніцтва нацыі. Піша вершы, аўтар чатырох паэтычных зборнікаў.

**Вацлаў Пануцэвіч** (да эмігр. **Папуцэвіч**, псэўданім **Мікола Волаціч**, 1910—1991), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог. У 1936—1939 гг. вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Уваходзіў у склад Беларускага інстытуту навукі й гаспадаркі, быў сябрам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. У 1936 г. увайшоў у склад ініцыятыўнай групы па стварэньні Беларускага нацыянальнага фронту. У 1939—1941 гг. настаўнічаў у Горадні. Падчас нямецкай акупацыі працаваў на розных адміністрацыйных пасадах у Баранавічах. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. узначаліў Беларускую гімназію імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. Ад 1946 г. кіраваў Згуртаваньнем крывіцкіх скаўтаў на чужыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Быў актывістам мясцовага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Займаўся дасьледніцкай дзейнасьцю (вывучаў рэлігійную гісторыю Беларусі), браў актыўны ўдзел у арганізацыі грэка-каталіцкай парафіі Сьв. Хрыста-Збаўцы ў Чыкага. Рэдактар часопісаў “Беларуская царква”, “Літва”.

**Янка Садоўскі** (1926—1982), грамадзкі дзеяч, гісторык. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі. Ад 08.12.1946 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1948 г. прыняты кандыдатам у ордэн марыянаў, а ў 1949 г. з блаславеньня а. Ч. Сіповіча выехаў у Рым, дзе пасьля навіцыяту пачаў рыхтавацца да сьвятарства. У 1953 г. выйшаў з марыянскага закону й з дапамогай біскупа Б. Слосканса пачаў навучаньне ў Францускай калегіі ў Рыме. 17.12.1955 атрымаў сьвятарскія сьвячэньні й далей працягнуў навучаньне. У 1961 г. на загад а. Часлава Сіповіча вярнуўся ў Лёндан дапамагаць у працы Беларускай каталіцкай місіі й кіраваць інтэрнатам сьв. Кірылы Тураўскага. Аднак праз два месяцы працы ў інтэрнаце адмовіўся ад сьвятарства й празь нейкі час выехаў у Канаду. Выкладаў расейскую мову й літаратуру ў Куінс-унівэрсытэце (штат Антарыё). Абараніў дысэртацыю, прысьвечаную кнігам Ф. Скарыны. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў Канады, БІНіМу ў Канадзе. Аўтар манаграфіі *“A History of the Byelorussians in Canada”* (1982).

**Ганна Севярынец** (нар. 1975), літаратуразнаўца. Закончыла філялягічны факультэт БДУ, асьпірантуру катэдры рускай літаратуры. Выкладае мовы й літаратуры ў гімназіі г. Смалявічы. Аўтар раманаў “Дзень сьвятога Патрыка”, «Гасьцініца “Бельгія”» укладальнік дакумэнтальнай біяграфіі У. Дубоўкі “Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго”, “Выбраных твораў” Алеся Дудара, зборніка “Вакол Пятра Глебкі”.

**Мікола Сільвановіч** (псэўд. **Мікола Вярба**, 1917—1975), грамадзкі дзеяч, літаратар, філятэліст. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Празе, затым у Герэнбэргу каля Штутгарту (Бадэн-Вюртэмбэрг). Адзін са стваральнікаў у 1946 г. у Заходняй Нямеччыне творчага аб'яднаньня "Шыпшына". Арганізаваў майстроўню беларускага мастацкага рамяства "Раніца", вырабы якой карысталіся шырокім попытам і адзначаліся на выставах. У 1947 г. выдаў вядомую паштоўку да ўгодкаў 25 Сакавіка з выявай Пагоні й партрэтамі беларускіх нацыянальных дзеячаў — К. Каліноўскага, І. Грынявіцкага, Ф. Багушэвіча, П. Крачэўскага, В. Захаркі. У 1949 г. выехаў у Канаду. Жыў у Вініпэгу, дзе спрычыніўся да заснаваньня Беларускага нацыянальнага камітэту й Беларуска-Канадыйскага нацыянальнага аб'яднаньня ў правінцыі Манітоба. Аўтар артыкулу пра беларусаў у Канадзе ў дзесяцітамовай *"Encyklopedia of Canada"* (1956—1957).

**Вячка Станкевіч** (нар. 1932), грамадзкі дзеяч, сын Яна й Марыі Станкевічаў. У 1949 г. прыехаў у ЗША. Спачатку пасяліўся ў Мінэсоце, пазьней жыў у Кліўлэндзе, дзе ўдзельнічаў у беларускай футбольнай камандзе "Пагоня". У 1951—1954 гг. служыў у амэрыканскім войску. Па вяртаньні жыў у Нью-Ёрку. У 1959 г. закончыў Нью-Ёркскі гарадзкі каледж з дыплёмам інжынэра-электроніка. У 1968 г. у Ньюарскім інжынэрным каледжы (Нью-Джэрзі) атрымаў ступень магістра інжынэрыі. Гуляў за нью-ёрскую футбольную каманду "Беларусь". Быў актыўным сябрам Згуртаваньня беларускай моладзі ў Амэрыцы, быў старшынём яго Нью-Ёрскага аддзелу, пазьней старшынём Галоўнай управы. Працаваў інжынэрам у карпарацыях *ITT* і *WesternUnion*. У 1963—1966 гг. у сувязі з працай жыў у Заходняй Эўропе, пазьней вярнуўся ў Нью-Ёрк. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва арганізацыі (старшыня Галоўнай управы ў 1969—1971 гг.). У 1988—1998 гг. быў кіраўніком беларускай службы Радыё "Свабода" ў Празе. Пасьля вярнуўся ў ЗША. Стаў выдаўцом часопісу *"Belarusian Review"*. У 2003 г. пераняў кіраванне Фундацыяй імя Льва Сапегі. Радны БНР, быў абраны заступнікам старшыні Рады. У 2007—2011 гг. быў старшынём Галоўнай управы БАЗА. У 2009—2018 гг. быў старшынём Беларускай фундацыі Крачэўскага. У 2013 г. разам з жонкай заклаў фундацыю *"Monroe-Vilnia Foundation"* для падтрымкі розных беларускіх праектаў.

**Станіслаў Станкевіч** (1907—1980), грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 г. закончыў гуманістычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1936 г. абараніў доктарскую дысэртацыю "Беларускія элемэнты ў польскай рамантычнай паэзіі". Браў актыўны

ўдзел у працы Беларускага студэнцкага саюзу, рэдагаваў часопіс "Студэнцкая думка". У 1937—1938 гг. стажыраваўся ў навучальных установах Югаславіі й Баўгарыі. У 1939—1941 гг. выкладчык у Наваградзкай пэдагагічнай вучэльні. У 1941—1943 гг. быў бурмістрам Барысава, у 1944 г. — намесьнікам прэзыдэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 г. у Нямеччыне рэдагаваў бэрлінскую газэту "Раніца". Быў актыўным прыхільнікам аднаўленьня Рады БНР. Ад 1947 г. радны БНР. У 1948—1962 гг. рэдактар газэты "Бацькаўшчына" (Мюнхен). Заснавальнік філіі БІНіМу ў Заходняй Нямеччыне. Быў навуковым сакратаром Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхене. У 1963 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у тым ліку ў 1963—1965 гг. — старшынём арганізацыі Супрацоўнік Радыё "Свабода". У 1963—1980 гг. рэдагаваў газэту "Беларус" (Нью-Ёрк). Аўтар шэрагу навуковых літаратуразнаўчых працаў, сотняў публікацый.

**Івонка Сурвілла** (дзяв. **Шыманец**, нар. 1936), мастачка, грамадзка-культурная дзяячка. Вучылася ў Вышэйшай мастацкай школе ў Парыжы. Закончыла філялягічны факультэт Сарбоны (1959). З 1969 г. жыве ў Канадзе. Працавала перакладніцай у Фэдэральным бюро перакладаў краіны. Узначальвала БІНіМ у Канадзе, Канадыйскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю. З 1997 г. старшыня Рады БНР.

**Пётра Сыч** (1912—1964), пісьменьнік, журналіст, грамадзкі дзеяч. У 1929 г. закончыў гімназію ў Вялейцы, два гады правучыўся на філялягічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту й вымушаны быў кінуць навучаньне, уладкаваўся на працу чыноўнікам. Супрацоўнічаў з рэдакцыямі польскіх газэтаў у Вільні. У 1939 г. мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у савецкі палон. Уцёк, але зноў быў арыштаваны. У чэрвені 1940 г. быў пераведзены зь вялейскай у полацкую турму, асуджаны на 10 гадоў лягераў. Пакараньне адбываў у Комі АССР. Далучыўся да Арміі Андэрса, разам зь якой прайшоў праз Іран, Ірак, Сірыю, Палестыну, Эгіпет. Браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна, баях за Анкону й Балёнію. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Ад 05.03.1948 быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Быў актыўным аўтарам і супрацоўнікам часопісу "Беларус на Чужыне". Ад 1949 г. таксама сябра Згуртаваньня беларускіх камбатантаў. Пераехаў у Заходнюю Нямеччыну. Жыў у Мюнхене. Быў галоўным рэдактарам сатырычнага часопісу "Шарсьцень", супрацоўнічаў з газэтай "Бацькаўшчына". Ад 1954 г. быў намесьнікам галоўнага рэдактара беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне / Свабода".

**Аляксандар Сьлесараў**, прарэктар па навуковай працы, загадчык катэдры царкоўнай гісторыі й царкоўна-практычных дысцыплін Менскай духоўнай акадэміі, кандыдат багаслоўя, дацэнт.

**Сяргей Селях** (нар. 1959), паводле адукацыі пэдагог. Аўтар кнігі "Беларускі прэм'ер". Сфэра інтарэсаў — гісторыя станаўленьня опэрнага й тэатральнага мастацтва ў Беларусі, зьвязаная з творчасьцю опэрнага сьпевака, тэатральнага дзеяча, рэжысэра й кампазытара Вячаслава Селяха-Качанскага.

**Мікола Трус** (нар. 1969), літаратуразнаўца, пэдагог. Закончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, стажыраваўся ва Ўнівэрсытэце Я. А. Коменскага ў Браціславе (Славакія). У 1996—2011 гг. працаваў у БДУ. У 1993—2000 гг. працаваў у Літаратурным музэі Максіма Багдановіча, у тым ліку на пасадзе дырэктара (1998—2000). У 2000 г. абараніў кандыдацкую дысэртацыю на тэму «"Славенскі мадэрн" і беларуская паэзія "нашаніўскага" пэрыяду». Ад 2011 г. загадчык катэдры беларускай філялёгіі Беларускага дзяржаўнага тэхналягічнага ўнівэрсытэту. Займаецца параўнальным літаратуразнаўствам, дасьледуе гісторыю літаратураў і культураў славянскіх народаў, беларускую літаратуру ў агульнаславянскім кантэксьце. Аўтар кнігі "Янка Купала ў Славакіі" (2012), навуковы рэдактар, складальнік (разам з Я. Саламевічам), адзін з аўтараў энцыкляпэдыі "Максім Багдановіч" (2011). Намесьнік старшыні Таварыства дружбы "Беларусь — Славакія".

**Сяргей Трыгубовіч** (нар. 1967), інжынэр-праграміст, фотааматар, грамадзкі актывіст у беларускім асяродку штату Нью-Джэрзі (ЗША). Сябра Прынстанскага фотаклюбу. Аўтар шэрагу фотарэпартажаў зь беларускіх грамадзка-культурных, палітычных і рэлігійных падзеяў на ўсходнім узьбярэжжы ЗША.

**Ціхан Чарнякевіч** (нар. 1986), літаратуразнаўца, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Навучаўся на факультэце беларускай філялёгіі й культуры Белдзяржпэдунівэрсытэту імя Максіма Танка, у магістратуры й асьпірантуры пры ім. Укладальнік і камэнтатар крытычна-архіўнага зборніка "Максім Багдановіч: вядомы і невядомы" (2011), выбраных твораў Лявона Савёнка "Творы" (2012, разам з Л. Юрэвічам) і інш.

**Сяргей Чыгрын** (нар. 1958), пісьменьнік, краязнаўца, перакладчык. Закончыў Белдзяржунівэрсытэт. Выдаў дзясяткі кніг па гісторыі слонімскай зямлі, беларускай Беласточчыны, беларусаў замежжа

й рэпрэсаваных знакамітых асобаў Бацькаўшчыны. Перакладае на беларускую мову творы францускіх, украінскіх і расейскіх аўтараў.

**Ірына Чыкалава,** доктар гістарычных навук, прафэсар катэдры ўсеагульнай гісторыі й мэтодыкі выкладаньня гісторыі Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя Максіма Танка й Інстытуту гісторыі НАН Беларусі.

**Юрась Шамецька** (нар. 1965), паэт, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся й вырас у Менску. З 1997 г. жыве ў Атаве (Канада). Сябра Канадыйскага БІНіМу й Канадыйскай асацыяцыі славістаў (CAS). Аўтар кніг паэзіі “Шлях да вяртання” (2011), “Атава” (2014) і “Непрадказальнае” (2019). Творы друкаваліся ў альманаху “Беларус“, часопісах “Дзеяслоў”, “Маладосць” і інш.

**Валянціна Шаўчэнка**, грамадзкая дзяячка. Нарадзілася ў Менску, закончыла факультэт прыкладной матэматыкі БДУ. У 1998 г. зь сям’ёй эмігравала ў Канаду. У 2003—2009 і 2014—2017 гг. скарбнік Згуртаваньня беларусаў Канады, у 2009—2014 гг. старшыня Галоўнай управы ЗБК. Удзельніца шматлікіх палітычных імпрэзаў у падтрымку незалежнасьці й дэмакратыі ў Беларусі. Удзельніца гурта “Яваровы людзі”. Ладзіць ўласныя мастацкія праекты, сьпявае ў царкоўным хоры БАПЦ. Заснавальніца й рэжысэрка беларускага тэатру “Сэнс” (спэктакль “Вуліца Геніюш”). Скарбнік Канадыйскага БІНіМу.

**Уладзімер Шыманец** (1911—1977), грамадзкі дзеяч, інжынэр, мастак, бацька Івонкі Сурвіллы. У 1932 г. закончыў Віленскую тэхнічную школу. Працаваў у Стоўпцах. Ад лета 1944 г. разам зь сям’ёй — на эміграцыі. Жыў у Капэнгагене, дзе арганізаваў Згуртаваньне беларусаў Даніі. У 1948 г. пераехаў у Францыю. Ад 1952 г. жыў у Сартрувілі (Sartrouville) пад Парыжам, браў удзел у працы Аб’яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі, дзейнасьці ўраду БНР (міністар фінансаў).

**Лявон Юрэвіч** (нар. 1965), архівіст, працуе ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. Сябра БІНіМу й рэдкалегіі “Запісаў БІНіМ”.

я меў ісьці прабаваць, каб даведацца, што значыць аракул, спатыкаючы ўсіх тых, што мелі рэпутацыю веданьня. І на пса прысягаю вам, атэнскія мужы, я мушу сказаць вам праўду — вось сваесаблівае даведаўся я: тыя, што цешыліся найвышэйшаю рэпутацыяю, выдаваліся мне ў маім, богу пасьвечаным дасьледваньні, блізу найболей патрабуючымі. Але іншыя, якія ўважаліся за простых, выдаваліся быць болей кемнымі людзьмі і добрымі. Бачыце, я мушу паказаць вам мае вандраваньні, як адзін, што меў уласных гаротнікаў[15], каб давесьці, што аракул быў бездакорны,

Пасьля дзяржаўных мужоў я зьвярнуўся да паэтаў, кампазытараў трагэдый і ўкладальнікаў дытырамбаў[16], гэтаксама як і да рэшты іх. Я спадзяваўся сам быць выяўленым у большай нясьведамасьці, чымся тыя. Дык я заняўся іхнымі паэмамі, тымі, якія, я думаў, патрабавалі болей вытрываласьці дзеля іхнага апрацаваньня, і дасьледзіў іх, што яны значаць, і я спадзяваўся адначасна навучыцца чаго-небудзь зь іх. Аднак, мужы атэнскія, я саромлюся сказаць вам праўду, але сказаць мушу. Бадай што ўсе прысутныя з малым выняткам маглі-б ляпей паясьніць творчасьць гэтых паэтаў, чымся яны самыя. Затым вельмі хутка адносна паэтаў я знайшоў, што ніякая мудрасьць не ахінала іх у часе кампазыцыі твораў, але натуральны гэні і натхненьне; падобна, як варажбіты і тыя, што вымаўляюць аракулы, якія кажуць многа добрых рэчаў, але не разумеюць нічога з таго, што гавораць. Паэты, як мне выдалося, былі ў тым самым палажэньні. І ў тым самым часе я заўважыў, што з прычыны свае паэзыі яны верылі, што яны гэтаксама былі наймудрэйшыя зь людзей і ў іншых рэчах, чым, фактычна, яны ня былі. Затым я пакінуў іх гэтаксама, будучы перакананы, што меў тую самую перавагу над імі, якую я меў над гаспадарсьцьвенымі мужамі.

Напасьледак я сустрэў рамесьнікаў; бо тут, як той казаў, я быў сьведамым, што я ня ведаю нічога, але быў пэўны, што сярод іх знайду шматлікае з запраўднае вартасьці. Я ня быў ашуканы ў гэтым. Яны ведалі, як рабіць тое, чаго я ня ведаў, і тут яны былі болей мудрымі, чымся я быў. Але, мужы атэнскія, выглядала, што нават дробныя работнікі чыняць тую самую памылку, як і паэты. Дзеля таго, што яны былі ў стане добра выконваць сваё мастацтва, кажны зь іх прэтэндаваў быць вельмі мудрым гэтаксама і ў іншых рэчах, і ў найбольшых рэчах, і гэты недахоп іхны, здаецца, засланяў сабою іхную фактычную

---

[15] Алюзыя да Гэркулеса, або Гэраклеса, які, паводля грэцкае міталёгіі, вандруючы, выканаў 12 г. зв. Працаў Гэркулеса і меў сваіх працаўнікоў-памагатых.

[16] У Старажытнай Грэцыі першапачаткова дытырамб быў вершам або гымнам на чэсьць Бахуса (Бакхуса), пазьней на чэсьць іншых багоў. З часам дытырамб стаўся вершатворам, у якім перабольшана і ў натапыраным стылю ўрачыста выхвалялася пераважна нейкая багатая і ўплывовая асоба. Сягоньня гіранічна кажуць: *“пяяць дытырамбы”*.

мудрасьць. Затым, хочучы апраўдаць словы аракулу, я пытаў самога сябе, ці павінен я астацца тым, кім я зьяўляюся, і ня быць ні мудрым іхнаю мудрасьцю, ні нясьведамым іхнаю нясьведамасьцю, або як яны быць мудрым і нясьведамым. Я адказаў самому сабе і аракулу, што найляпей для мяне астацца такім, якім я зьяўляюся.

З гэтага досьледу, мужы атэнскія, выйшла многа няпрыязьні супроць мяне, і пры тым вельмі небясьпечнае і ўдырваючае, так, што выйшла шмат паклёпу адсюль, а я атрымаў тытул мудрага. Бо слухаючыя заўсёды верылі, што я мудры ў прадмеце, які я дасьледую ў іншага.

Але праўдаю фактычна астаецца, грамадзяне, што бог толькі зьяўляецца мудрым, і ў гэтым аракуле ён думае, людзкая мудрасьць ёсьць мала вартаснай або і зусім нічым, і выходзіць, што ён ня кажа гэта пра Сакратаса, але проста падае маё імя, каб узяць мяне, як прыклад, так, што быццам ён быў сказаў: *“Гэта адзін з вас, людзкія існаваньні, ёсьць мудрэйшым, каторы, як Сакратас, ведае, што ён запраўды нічога нявартый, калі ідзе пра мудрасьць”*.

Гэта ёсьць тое, што яшчэ нават і цяперака, ідучы навокал, шукаючы і дасьледуючы ў богавай сьцежцы, я думаю, ці наагул хто-небудзь з нашых людзей ці чужынцаў ёсьць мудрым; і калі я не знаходжу нікога такім, я памагаю богу праз доказ, што чалавек ня ёсьць мудрым. І з прычыны гэтага працавітага жыцьця я ня меў вольнага часу ані для публічнае службы, годнае ўспаміну, ані прыватнае, і з прычыны мае службы богу я астаюся ў бясконцай беднасьці.

Апрача гэтага маладыя людзі, тыя, каторыя маюць шмат вольнага часу, сыны найболей багатых дамоў, сьледуюць за мною дабравольна, радуючыся паслухаць людзей, якіх я дасьледаваў у пытаньнях, часта яны пераймалі мяне і самыя прабавалі экзаменаваць, і тады, я думаю, яны знаходзілі шмат людзей, якія верылі, што яны ведаюць нешта, тады калі яны ведалі вельмі мала або і зусім нічога. У рэзультаце гэтага тыя, што знаходзяцца імі пытанымі, замест таго, каб на самых сябе, злуюцца на мяне, і кажуць, што Сакратас ёсьць нягоднік і псуе моладзь; і калі хто-небудзь запытае іх, чынячы што і навучаючы чаго, дык яны ня маюць што адказаць, і каб схаваць сваё прыкрае для іх палажэньне, яны паўтараюць чутыя абвінавачваньні супроць усіх філёзафаў: *“падзямельная веда і паветраная веда, атэісты, чынячы дрэнную рэч лепшаю”*. Бо яны ня любяць, я думаю, гаварыць праўды, што яны выяўляюцца, як тыя, што прыкідваюцца ведаць, тады калі яны нічога ня ведаюць. Затым, я думаю, што яны зьяўляюцца гордымі і нахабнымі, і шматлікімі, і гавораць легіёнамі і ўпорыста пра мяне, яны заглушылі вас даўно і цяперака энэргічна абкідваюць мяне паклёпамі.

З пасярод гэтых Мэлетас нападае на мяне, і Анітас, і Лікон; Мэлетас, будучы злосным з прычыны паэтаў, а Анітас з прычыны рамесьнікаў і гаспадарсьцьвеных мужоў, і Лікон з прычыны аратараў. І ў выніку, як

сказаў ужо, я быў-бы зьдзіўлены, калі-б я ўхіліў прадузятасьць вашую ў гэтак кароткім часе, калі яна разраслася ў гэтак вялікі паклёп.

Гэта, мужы атэнскія, ёсьць праўда, і я нічога ня сукрыў ад вас, вялікае ці малое. Хоць я ведаю даволі добра, што гэтыя самыя рэчы чыняць мяне нялюбым, і тут ляжаць прычыны паклёпу на мяне, але гэта і зьяўляецца довадам, што я гавару праўду і што гэта і ёсьць прадузятасьць супроць мяне і гэтакія яе прычыны. Ці дасьледуюце вы гэта цяперака ці пасьля, вы знойдзеце тое самае.

Што датычыцца абвінавачваньняў маіх першых абвінаваценяў, дык няхай гэтая абарона будзе дастатковаю для вас; далей я спробую адказаць Мэлетасу, гэтаму добраму патрыёту, як ён называе сам сябе, і пазьнейшым абвінаваценям. Яшчэ раз, затым, возьмем іхнае сьведчаньне, так, быццам яно было іншаю часткаю абвінавачваньня. Вось як яно ідзе. Яно кажа, што Сакратас ломіць права тым, што зводзіць моладзь і ня верыць у багоў, у якіх гаспадарства верыць, але замест іх верыць у новыя духовыя рэчы. Гэтакім зьяўляецца абвінавачваньне. Дасьледуйма кажны пункт у гэтым абвінавачваньні. Яно кажа, што я праступнік, які псуе моладзь. Але я кажу, мужы атэнскія, што гэта Мэлетас ёсьць праступнікам, які чыніць жарт з рэчаў паважных, на лёгкую руку прасьледуючы людзей, прыкідваючыся быць паважным, турбуючыся пра рэчы, адносна якіх ён ніколі не турбаваўся зусім. Што гэта ёсьць праўдаю, я пастараюся паказаць вам гэтаксама.

Мэлетас, стань тут перада мною і адкажы: ці ня думаеш ты, што вельмі важным ёсьць, каб маладыя людзі сталіся гэтак добрымі, як гэта толькі магчымым ёсьць?

— Я думаю.

— Тады скажы ўсім тут прысутным, хто ёсьць, што чыніць іх лепшымі? Ясным ёсьць, што ты ведаеш, калі турбуешся пра гэта. Ты знайшоў аднаго, каторы зводзіць іх, як ты кажаш, і ты прывёў мяне ў гэты суд сюды і абвінавачваеш мяне; затым скажы цяпер, хто чыніць іх лепшымі, падай да ведама суду, хто ім ёсьць. Бачыш, Мэлетас, ты маўчыш, ты ня ведаеш, што сказаць. Ці гэта не зьяўляецца бясслаўным для цябе і дастатковым довадам таго, што ты ня турбуешся зусім пра гэта? Хадзі, скажы, мой добры чалавеча, хто чыніць іх лепшымі?

— Права.

— Гэта ня тое, пра што я пытаюся, дарагі гаспадару; каторы чалавек, што, у першую чаргу, ведае гэтыя якраз рэчы, права?

— Гэтыя прысяжныя, Сакратас.

— Як ты разумееш, Мэлетас? Грамадзяне прысяжныя тутака зьяўляюцца здольнымі адукаваць маладых людзей і ўчыніць іх лепшымі?

— Так, запраўды.

— Усе зь іх ці толькі некаторыя?

— Усе.

— Дасканала сказана, на Гэру, зусім поўная дастатковасьць дабрачынцаў. Добра, а што да людзей, якія слухаюць тут нас, ці яны гэтаксама чыняць маладых людзей лепшымі ці не?

— Так, яны гэтаксама чыняць.

— А што адносна паслоў?

— Паслы гэтаксама.

— О, запраўды, Мэлетас, ці зьяўляецца гэта магчымым, што простыя людзі зводзяць маладых людзей. Або яны гэтаксама чыняць усіх лепшымі.

— Яны чыняць.

— Тады ўвесь народ Атэнаў, здаецца, чыніць іх прыгожымі і добрымі за выняткам мяне, і толькі я адзін псую іх? Ці ёсьць гэта тое, што ты цьвердзіш?

— Так, гэта якраз тое, што я кажу.

— Што за дрэнны лёс для мяне! Ты абцяжарваеш мяне маёю дрэннаю доляю! Адкажы мне цяперака: як ты думаеш, ці коні зьяўляюцца ў тым самым палажэньні? Усе людзі на сьвеце чыняць іх лепшымі, і толькі адзін псуе іх? Ці не знаходзіцца праўда зусім на супроцьлежным месцы: існуе, магчыма, адзін, здольны ўчыніць іх лепшымі, або некалькі — канюшых — але большыня людзей, калі яны маюць нейкае дачыненьне да коней і карыстаюцца імі, псуюць і зводзяць іх? Ці ня бывае так, Мэлетас, ня толькі з коньмі, але і з ўсёй нашай жывёлай? Найболей праўдападобна, незалежна ад таго, ці ты і Анітас скажаце не, ці скажаце так. Што за асаблівае шчасьце было-б для маладых людзей, калі-б нехта толькі адзін псаваў іх, а ўсе іншыя рабілі іх добрымі! Але запраўды, Мэлетас, гэтага хопіць, каб паказаць, што ты ніколі ня цікавіўся маладымі людзьмі, і ты выразна паказаў сваю абыякавасьць — ты ніколі не клапаціўся пра рэчы, якімі ты абвінавачваеш мяне.

Далей вось што, Мэлетас, скажы нам, на Зэўса, ці ляпей жыць сярод добрых грамадзян ці дрэнных? Адкажы мне, добры гаспадару. Нічога няма цяжкага ў маім пытаньні. Ці ня чыняць дрэнныя пэўную шкоду тым, што знаходзяцца бліжэй да іх, і добрыя нейкае дабро?

— Пэўна.

— Тады, ці ёсьць нехта такі, хто хоча быць шкоджаным ягонымі суродзічамі барджджэй, чымся быць успамаганым? Адкажы, мой добры чалавеча; права загадвае табе адказаць. Ёсьць-жа нехта, хто хоча быць пашкоджаным?

— Напэўна, не.

— Вельмі добра. Ты прыклікаў мяне сюды, як аднаго, каторы псуе маладых людзей і чыніць іх горшымі. Ці цьвердзіш ты, што я хачу ўчыніць іх гэтакімі, ці не?

— Ты хочаш учыніць іх гэтакімі, і гэта ёсьць тое, што я кажу.

— О, дарагі мне Мэлетас! Я гэтакі стары, а ты гэтакі малады, і ўсё-ж ты зьяўляешся больш мудрым, чымся я! Ты ведаеш, што дрэнныя людзі заўсёды чыняць шкоду тым, што знаходзяцца ў іхным навакольлі, але добрыя людзі чыняць добрае; а ўсё-ж глянь на мяне — ці запраўды зыйшоў я ў гэткую глыбіню нясьведамасьці, што я ня ведаю нават гэтага — што калі я чыню аднаго з маіх суродзічаў дрэнным, я рызыкую атрыманьня нечага дрэннага ад яго — да гэтае глыбіні, быццам чыню гэтак вялікае зло нясьведама, як ты кажаш? Я ня веру табе тут, Мэлетас, гэтаксама як, я думаю, ніхто іншы на сьвеце не паверыць. Або я ня псую, або калі гэта твару, я псую без замеру чыніць гэта. Значыцца, ты гаворыш хвальшыва ў двух выпадках. Калі я чыню гэта без замеру, тады няма права, каб прывесьці чалавека на суд з прычыны прыпадкавых памылак, як гэтыя; наадварот, права існуе, каб нехта ўзяў яго на бок прыватна і павучыў яго і дакарыў[17]: бо гэта-ж ясным ёсьць, што калі я навучаны ляпей, я перастану рабіць тое, што я раблю нясьведама. Але ты ўхіліўся спаткаць мяне і асьвяціць мяне, і ніколі на гэта не пайшоў, а тымчасам прывёў мяне ў гэты суд, дзе абавязвае права паклікаць тых, што патрабуюць пакараньня, а не навукі. Вось-жа, мужы атэнскія, да гэтае пары ясным ёсьць, як я сказаў, што Мэлетас ніколі ані крышку ня рупіўся пра гэтыя рэчы.

Усё-ж, калі ласка, скажы нам, Мэлетас, як ты кажаш, што я псую маладых людзей? З акту абвінавачваньня, які ты ўчыніў, выходзіць проста, што гэта адбываецца дарогаю навучаньня іх ня верыць у багоў, у якіх верыць гаспадарства, але верыць у новых духаў. Ці ня кажаш ты, што гэтаю дарогаю гэтага навучаньня я псую іх?

— Я кажу гэта, і адносна гэтага няма ніякага сумліву.

— У імя, тады, гэтых багоў, гэтых самых, пра якіх ідзе гутарка, Мэлетас, зрабі гэта яшчэ болей ясным для мяне і для прысутных[18]. Я не магу зразумець, ці ты кажаш, што я вучу іх верыць у некаторых багоў — у такім выпадку я сам веру, што існуюць багі, і я не зьяўляюся камплетным атэістам, ані праступнікам у гэтым сэнсе — але што я ня веру ў гэтых самых багоў, у якіх верыць дзяржава, але іншых, і гэта ёсьць тое, у чым ты мяне абвінавачваеш, што я веру ў іншых, або, па-другое, ты кажаш, што я ня веру ў багоў наагул і навучаю гэтага іншых людзей?

— Гэта і ёсьць тое, што я кажу, што ты наагул ня верыш у багоў.

— О, ты дзіўнае тварэньне, Мэлетас! Што чыніць цябе сказаць гэта? Значыцца, я ня веру нават, што сонца і месяц зьяўляюцца багамі, як кажны іншы чалавек на гэтым сьвеце?

---

[17] У Эвангелі Мацьвея (18:15) чытаем: *"Калі-ж саграшыць проці цябе брат твой, пайдзі і дакары яго між табою і ім адным; калі паслухаецца цябе, дык ты здабыў брата твайго..."*.

[18] На паседжаньні атэнскага суду дапушчаліся наведвальнікі.

— Не, на Зэўса, мужы прысяжныя, ён ня верыць, ён кажа, што сонца ёсьць каменьнем, і месяц зьяўляецца зямлёю.

— Ці Анаксагорас знаходзіцца перад табою[19], мой дарагі Мэлетас? Ці ты думаеш, што ты абвінавачваеш яго? Ці аж нагэтулькі ты пагарджаеш гэтымі гаспадарамі, уважаеш іх нагэтулькі нясьведамымі ў літаратуры, каб ня ведалі, што кнігі Анаксагораса з Клязомэны поўныя гэтае навукі? Гэткім парадкам выходзіць, што маладыя людзі пазнаюць гэтую навуку ад мяне, тады калі яны могуць даведацца пра яе, заплаціўшы ў архэстры[20] найболей адну драхму[21], і пасьля сьмяяцца з Сакратаса, калі ён пачне казаць, што гэтая навука зьяўляецца ягонаю, асабліва тады, калі яна ёсьць гэтак недарэчнаю. На Зэўса, ёсьць-жа гэта тое, што ты думаеш пра мяне, што я ня веру ў ніякага бога?

— Не, на Зэўса, ты ня верыш ані крышку.

— Добра, Мэлетас, ніхто не паверыць табе, і, паводля мае ацэны ў гэтай справе, ты і сам ня верыш сваім уласным словам. Я думаю, мужы атэнскія, што чалавек гэты выдаецца быць нахабным задзіракам, і гэты акт абвінавачваньня ўчыніў ён у безадказнай гвалтоўнасьці дзікага юнака. Ён падобны да таго, чынячага загадкі, каб экзаменаваць мяне:

[19] Анаксагорас, слаўны філёзаф з Клязомэнаў (500?—428), прыблізна ў гадох 480—450 жыў у Атэнах. Ён быў прадстаўніком г. зв. Іёнскае школы. Ягоным галоўным прадладам у філязофію быў пагляд на паходжаньне ўсіх рэчаў. Ён утрымліваў, што ўся матэрыя існавала першабытна ў умовах атаму або малекулаў. Анаксагорас выражаў пагляд, што гэтыя атамы бясконцыя ў сваёй колькасьці і бязьмежна маленькія, існуюць ад пачатку самага быцьця, ад пачатку вечнасьці. Ён утрымліваў гэтаксама пагляд, што ўсе фізычныя целы дадзенае свомасьці сваімі атамамі быццам converging сшчапляюцца, творачы сабою, напрыклад, кусок золата, жалеза або медзі... Ягоная дактрына адносна атаму падрыхтавала дарогу да атамнае тэорыі іншага грэцкага філёзафа, Дэмокрытоса. Анаксагорас цьвердзіў, што Сонца зьяўляецца распаленаю каменнаю масаю, а Месяц — свайго роду зямлёю.

[20] Адносна гэтага месца ў тэксьце існуюць разыходжаньні ў інтэрпрэтацыі. Паводля адных, мела гэта быць нешта падобнае да сучаснага кіёску на пляцы, званым Архэстраю, на атэнскім рынку, дзе зацікаўлены за адну малую плату мог набыць кніжку. Паводля іншых, месца гэтае адносілася да аркестры ў тэатры. У старажытных грэцкіх тэатрах частка сцэны, прадназначаная для хору ў грэцкай драме ў авальнай хворме зь седзячымі месцамі, называлася архэстраю. У рымскім тэатры архэстраю было месца не на сцэне, але пераважна перад сцэнаю, якое часта займалі сэнатары і іншыя высокія госьці. Агульны сэнс гэтага месца ў тэксьце гэтакі, што бальшыня жыхароў тагачасных Атэнаў мела магчымасьць запазнацца з навукаю вялікага Анаксагораса.

[21] Драхма — сярэбраная грашовая (і вагавая) адзінка Старажытнае Грэцыі, маючая ў розных правінцыях розную вартасьць. У сярэднім вартасьць аднае драхмы раўнялася вартасьці 65 сягоньняшнім амэрыканскім цэнтам.

*“Ці пазнаціме Сакратас, гэтак званы разумны, што я жартую і супярэчу самому сабе? Або ці ўдасца мне зманць яго і тых, што слухаюць гэта?”*. Бо чалавек гэты ў сваім акце абвінавачваньня выдаецца мне быць у супярэчнасьці з самым сабою, быццам ён кажа: *“Сакратас ломіць правы, бо ён ня верыць у багоў, але верыць у багоў”*. Запраўды, гэта гульня, у якую ён забаўляецца.

Цяперака хадзеце са мною, грамадзяне, падчас, калі я буду дасьледаваць, і паглядзеце, ці ён гэтак кажа, як мне здаецца. Ты адкажы нам, Мэлетас, а вы, грамадзяне, памятайце, ня чыніце крыку, як я ўжо прасіў вас раней, калі я гавару маею звычайнаю манэраю.

— Ці існуе які-небудзь чалавек, Мэлетас, які верыць, што існуюць людзкія рэчы, але ня верыць у наяўнасьць людзкіх існаваньняў? — Няхай ён адкажа, гаспадары, а не мармоча зноў. — Ёсьць-жа на сьвеце хто-небудзь, хто ня верыць у коней, але верыць у коньскія рэчы? Або ня верыць у дудароў, але верыць у рэчы, якія чыняць дудары? Не, гэтакага няма, мой добры дружа! Я адкажу за цябе суду, калі ты сам ня хочаш адказваць. Але адкажы хоць на гэта: ёсьць-жа нехта, хто верыць у духовыя рэчы, але ня верыць у духаў?

— Не, гэтакага няма.

— Вялікае дзякуй за адказ, выціснуты зь цябе гэтым судом. Значыць, ты кажаш, што я веру ў духовыя рэчы і вучу іх, новыя ці старыя, у кажным выпадку, духовыя рэчы, паводля тваіх словаў, я веру ў іх, запраўды, ты нават прысягнуў у акце абвінавачваньня. Але калі я веру ў духовыя рэчы, напэўна, гэта ёсьць абсалютна неабходным, што я веру і ў духаў. Ці ня праўда гэта? Гэтак ёсьць тады, бо я ўважаю цябе, як згоднага з гэтым, пакольки ты не адказваеш. А духі, ці мы ня верым, што яны зьяўляюцца багамі або сынамі багоў? Так ці не?

— Напэўна.

— Тады я веру ў духаў, як ты кажаш; калі духі зьяўляюцца свайго роду багамі, дык гэта была-б твая загадка або жарт, пра што я гаварыў, што ты казаў, што я ня веру ў багоў і што я веру зноў, бо я веру ў духаў. Калі, зноў-жа, духі зьяўляюцца сынамі багоў, свайго роду пабочнымі тварэньнямі зь німфаў або нечага падобнага, як гэта кажацца пра іх, дык хто-ж на сьвеце тады верыў-бы ў богавых сыноў, калі ня верыць у самых багоў? Гэта было-б гэтак няпраўпадобна, як калі-б хто-небудзь прызнаваў існаваньне мулаў — нашчадкаў коней і аслоў — але не прызнаваў-бы існаваньня коней і аслоў! Затым, Мэлетас, няма сумліву адносна гэтага — ты проста панавыдумваў рэчаў з мэтаю стварэньня акту абвінавачваньня, або, магчыма, ты проста не знайшоў праўдзівага праступку для абвінавачваньня мяне. Але для цябе пераканаць каго-небудзь, нават зь зернем розуму, што гэты самы чалавек можа верыць у боскія рэчы і духовыя рэчы і ўсё-ж ня верыць у багоў, у духаў і гэрояў, гэта ёсьць абсалютна немагчымым.

Затым, мужы атэнскія, што я не зьяўляюся вінаватым паводля Мэлетасавага акту абвінавачваньня, не патрабуе доўгае абароны ад мяне, каб даказаць, але і з гэтага даволі. Аднак-жа, калі я сказаў на пачатку, што я быў вельмі нялюбленым многімі, дык вы можаце быць пэўнымі, што гэта ёсьць праўда. І гэта ёсьць тое, што засудзіць мяне, не Мэлетас і не Анітас, але прадузятасьць думкі і нялюбасьць гэтага мноства людзей. Гэтая самая рэч абудзіла многіх іншых добрых людзей, і, я думаю, будзе чыніць гэта ізноў; няма чаго баяцца, што яна скончыцца разам са мною.

Але магчыма нехта скажа: ці ня сорамна табе, Сакратас, весьці гэткую практыку, з прычыны якое цяпер ты стаіш перад пагрозаю заслужэньня на сьмерць.

Гэткаму я адкажу справядліва: ты памыляешся, мой дружа, калі ты думаеш, што чалавек зь іскраю годнасьці ў ім павінен узважваць жыцьцё і сьмерць. Адзіная рэч, якую ён павінен браць пад увагу, дык гэта ці паступае ён правільна ці няправільна, ці вартым добрага ці дрэннага чалавека. Бо паводля твае аргумэнтацыі дрэннымі акажуцца ўсе тыя паўбагі, што палі пад Трояй, у тым ліку і Тэцісавы сын[22]; ён нагэтулькі пагарджаў небясьпекаю ў параўнаньні з магчымасьцю няславы, што калі ён хацеў забіць Гэктара[23], ягоная матка (якая багіняю была) сказала яму, калі я добра памятаю: *"Сын мой, калі ты адпомсьціш забойства твайго прыяцеля Патроклёса і заб'еш Гэктара, дык сам памрэш"* — але ён, калі пачуў гэта, за нішто ўзяў небясьпеку і сьмерць, і барджджэй болей баяўся жыць як маладушны, які ня помсьціў сваіх прыяцеляў, і адказаў: *"Памерці-б мне зараз-жа, пакараўшы крыўдзіцеля, каб толькі не астацца побач вадаплаваў пасьмешышчам для народу і цяжарам для зямлі"*. Няўжо-ж ты думаеш, што ён шманаў адносна небясьпекі і сьмерці?

І гэта праўдаю ёсьць, мужы атэнскія, дзеколечы чалавек паставіць самога сябе ў перакананьні, што гэта ёсьць найлепшае месца для яго, або дзеколечы ён быў пастаўлены ягоным старшынём, там ён мусіць, як я думаю, стаяць і ня браць на сябе ніякае рызыкі, дарогаю выбару паміж сьмерцяю або чым-небудзь іншым, перад няславаю.

А калі-б, мужы атэнскія, пасьля таго, як вамі выбраныя старшыні ставілі мяне ў строй, каб камандавалі мною — пад Поцідаяй і Амфіполісам і пад Дэліёнам[24] — і пасля таго, каб я, як кажны іншы, аставаўся на посьце, на які мяне паставілі, рызыкуючы сьмерць, — калі-б цяперака, калі я думаю і веру, мяне паставіў бог, а абавязкам быць філёзафам

[22] Ахільлес.

[23] Гэктар — старшы сын Прыяма і Гэкубы, галоўны гэрой траянцаў, забіты Ахільлесам.

[24] Месцы трох бітваў, у якіх Сакратас прыймаў удзел.

і дасьледаваць самога сябе і іншых, каб цяперака я спалохаўся сьмерці або яшчэ чаго-небудзь іншага і пакінуў-бы свой пост, гэта быў-бы страшны праступак. Дзіўным, сапраўды, было-б гэта, і тады, ня без асновы, за гэты праступак хто-небудзь справядліва мог-бы прывесьці мяне на суд і цьвердзіць, што я ня веру ў бога, бо ня веру ў аракул, і баюся сьмерці і думаю, што я зьяўляюся мудрым, тады калі я ня быў ім. Бо баяцца сьмерці, грамадзяне, ёсьць толькі думаць, што ты зьяўляешся мудрым, тады калі ты гэтакім не зьяўляешся, або думаць, што ты ведаеш, тады калі ты ня ведаеш. Ніхто ня ведае, ці не зьяўляецца сьмерць запраўды найбольшым дабраслаўленьнем, якое чалавек можа мець, але баяцца, што яна зьяўляецца найбольшым пракляцьцем, так быццам яны ведалі добра. Але ці ня ёсьць гэта свайго роду заслугоўваючая на дакор нясьведамасьць думаць, што нехта ведае тое, чаго ён ня ведае? Але ў гэтым, грамадзяне, магчыма я зьяўляюся адменным ад большасьці людзей, і калі я каму выдаюся быць болей мудрым, чымся нехта ў нечым, дык хіба-што толькі ў тым, што калі я ня ведаю даволі добра аб тым, што здарыцца ў доме Гадэсу[25], дык я ня думаю, што я ведаю. Але рабіць дрэнна і ня слухацца тых, хто зьяўляецца лепшым, чымся я сам, будзе гэта бог ці чалавек, нядобра і сорамна, гэта я ведаю. Дзеля гэтага няведамага, якое можа аказацца дабром, я ніколі ня буду баяцца або ўцякаць ад яго болей, чымся ад таго, што ведама мне як зло.

Затым, калі-б вы мне дазволілі цяперісьці і адмовіліся слухаць Анітаса, які казаў, што або я не павінен быць прыведзеным у суд зусім, або калі я быў прыведзеным, дык сьмерць была-б адзінаю магчымаю караю, і падсоўваў вам думку, што калі-б я ўхіліўся ад кары, вашыя сыны зараз-жа практыкавалі-б тое, што Сакратас вучыць, і ўсе яны сталіся-б дарэшты сапсутымі — нават калі-б вы мне адказалі: *“На гэты раз мы ня будзем слухаць Анітаса, дарагі Сакратас, мы пусьцім цябе свабодным, але пад умоваю, што ты ня будзеш болей праводзіць свайго часу на гэтых досьледах або ў філязофіі, а калі будзеш злоўленым, чынячы зноў, дык ты памрэш”* — калі вы дазволіце выйсьці мне свабодным на гэтых умовах, якія я толькі што ўспомніў, дык я адкажу Вам:

Я зьяўляюся адным з вас, мужы атэнскія, люблю вас і паважаю, і як доўга я маю дыханьне ў сабе і астануся здольным чыніць гэта, я ніколі не перастану быць філёзафам, пераконваць вас і паказваць, што ёсьць ува мне кажнаму, каго спаткаю, дарогаю гутаркі зь ім і маім звычайным спосабам. Мой лепшы прыяцелю, ты зьяўляешся жыхаром Атэнаў, грамадзянінам гэтага вялікага места, гэтак слаўнага з мудрасьці і сілы, ці ня сорамна табе турбавацца пра грошы, каб прыдбаць іх як найболей, пра славу і месца, а пра разумнасьць, пра праўду і пра душу

[25] Гадэс — месца, дзе прабываюць памершыя.

не клапаціцца і ня думаць, каб яна сталася дасканалаю? І калі хто-небудзь з вас разважыць гэта і скажа, што ён чыніць усякае стараньне, дык я не дазволю, каб ён зараз-жа адыйшоў і не пакіну яго, але буду дасьледваць і экзаменаваць і іспытваць яго, і калі я буду думаць, што ён ня мае мужнасьці, але толькі кажа гэтак, дык я пакажу яму, што ён кладзе вельмі малую вартасьць на малаважныя справы, і я асаромлю яго. Гэта я буду чыніць з кажным, каго я спаткаю, малады ён будзе ці стары, суродзіч ці чужынец, але болей для майго суродзіча, паколькі ён паводля крыві і расы бліжэйшы мне. Бо гэта ёсьць тое, што бог загадвае мне, не памыляйцеся, і я думаю, што нямашка большага дабра для вас у гэтым месьце, як мая служба для бога. Усё, што я буду рабіць, гэта абыходзіць навакол і пераконваць вас, аднолькава старых і маладых, ня турбавацца пра вашае цела або вашыя грошы ў першую чаргу, але турбавацца асабліва пра душу, чынячы яе як найболей добраю; і кажу вам, што мужнасьць ня прыходзіць з грошай, але з мужнасьці прыходзяць і грошы, і ўсе іншыя добрыя рэчы для людзкасьці, аднолькава ў прыватным жыцьці і грамадзкім. Калі тады кажучы гэтыя рэчы, я псую моладзь, тады гэтыя рэчы маюць быць шкоднымі. Але калі хто-небудзь кажа, што я кажу што-небудзь іншае, чымся гэта, дык ён гаворыць бязглузьдзіцу. З увагі на ўсё гэта я хацеў-бы сказаць, мужы атэнскія, паслухаецеся вы Анітаса ці не, пусьціце мяне свабоднага ці ня пусьціце, але я ніколі ня буду чыніць нічога іншага, нават тады, калі-б я меў памерці многімі сьмерцямі.

Ня ўздымайце гоману, мужы атэнскія, астаньцеся спакойнымі, як я і прасіў вас, выслухайце бяз шуму тое, што я маю сказаць; бо я думаю, што выслухаць мяне будзе для вашага дабра. Я маю яшчэ нешта болей сказаць, што, магчыма, учыніць вас крыклівымі, але я прашу вас: ня чыніце гэтага. Будзьце пэўнымі, што калі вы засудзіце мяне на сьмерць, такога, якім я зьяўляюся, вы ня столькі пашкодзіце мне, колькі самым сабе. Я ня буду пакрыўджаны ані Мэлетасам, ані Анітасам, яны ня могуць зрабіць гэтага; бо я думаю, што адвечнае права забараняе лепшага чалавека крыўдзіць горшым. Аднак-жа ён можа пакараць мяне сьмерцяю або выгнаць або абясчэсьціць. Магчыма, ён думае гэтак, магчыма, іншыя думаюць, што гэта ўсё вялікае зло, хоць я ня думаю гэтак; я думаю барждждэй, што тое, што ён цяперака чыніць, ёсьць большае зло, калі ён стараецца несправядліва прыгаварыць чалавека на сьмерць. Дзеля гэтага цяперака, мужы атэнскія, я не бараню выключна сябе, як каму-небудзь і можа здавацца, а выступаю дзеля вас, каб вы праз засуджэньне мяне ня былі пакрыўджанымі адносна божага дару. Бо калі вы засудзіце мяне на сьмерць, вы ня лёгка знойдзеце іншага падобнага, які — проста сьмешна сказаць — пастаўлены богам да нашага гаспадарства, як да вялікага расавага каня, гэтак вялікага, што ён стаўся трохі павольны і цяжкі, і патрабуе авадня, каб падбадзёрыў яго. Я думаю,

што бог паставіў мяне ў палажэньні, падобным да гэтага, будзіць вас і пераконваць вас і папракаць кажнага з вас, як я і аставаўся ўпорыстым перад вамі ўвесь доўгі дзень. Іншы гэтакі ня будзе лёгка знойдзены вамі, грамадзяне, а калі мне паверыце, вы можаце заашчадзіць мяне. Але вельмі магчыма, што можа стацца, што вы, разгневаўшыся, як людзі, якіх будзяць, спрасонку ударыце мяне, слухаючыся Анітаса. Тады ўсю рэшту вашага жыцьця правядзеце ў сьне, хіба што бог у ягонай турбоце пра вас пашле вам іншага. Што я запраўды дадзены вам богам, вы лёгка можаце пабачыць з наступнага: ня выглядае гэта па-людзку, што занядбаў я ўсе свае справы, што зьяўляюся я здаволены апушчэньнем маіх хатніх абавязкаў усе гэтыя гады, а заўсёды маючы на ўвазе вашыя справы, ідучы на спатканьне кажнаму з вас прыватна, як бацька або старэйшы брат, пераконваючы вас у мужнасьці. І запраўды, калі-б я атрымліваў якую-небудзь выгаду з гэтага і браў узнагароду за мае рады, дык у гэтым быў-бы нейкі сэнс, але, як гэта ёсьць, вы самі бачыце, што мае абвінавацелі, хоць і абвінавачваючы мяне гэтак бессаромна ў кажнай іншай рэчы, тут ня мелі нахабнасьці або здольнасьці прадставіць хоць-бы аднаго сьведку сьведчыць, што я калі-небудзь браў або прасіў ганарару; але на доказ таго, што я гавару праўду, я магу прадставіць важнага сьведку — маю беднасьць.

Магчыма, што ў гэткім выпадку выдасца дзіўным, што я абыходжу навакол і даю ўсе гэтыя рады прыватна, умешваючыся ўва ўсё, а выступаць перад вашым публічным зграмаджэньнем і радзіць гаспадарству не адважваюся. Прычына гэтага ёсьць адна, якую вы часта чулі ад мяне на лічных мясцох, што нешта боскае і духовае наведвае мяне[26], што Мэлетас выразіў у акце абвінавачваньня ў карыкатуры. Гэта дзеілася са мною ад часу маіх дзіцячых гадоў, голас нейкі прыходзіць, заўсёды адварочвае мяне ад чыненьня нечага, што я хачу рабіць, але ніколі не панукае мяне. Вось гэты якраз голас і супроцьставіцца заняцьцю мною грамадзкага становішча. І зусім справядліва, я думаю. Бо вы можаце быць пэўнымі, мужы атэнскія, што калі-б я ўмяшаўся ў грамадзкія справы ў мінулым, я-б даўно ўжо шчэз і ня ўчыніў-бы нічога добрага ані для вас, ані для самога сябе. І вы ня злуйцеся на мяне за тое, што скажу вам праўду: фактам астаецца, што ніякі чалавек на сьвеце ня выйдзе цэлым, каторы чэсна будзе супроцьставіцца вам або іншаму натоўпу і будзе прабаваць перашкодзіць шматлікай несправядлівасьці і бяспраўным выступленьням у гаспадарсьцьве. Астаецца гэта неабходнасьцю, што кажны, хто фактычна і запраўды змагаецца за права, калі ён мае ацалець хоць на кароткі час, павінен дзеіць як прыватны, а не грамадзкі чалавек. Я прыведу вам моцны довад гэтага, ня словы, але факты, якія вы паважаеце. Толькі паслухайце, што здарылася са мною,

[26] Сакратас верыў, што ён знаходзіцца пад божым кіраўніцтвам.

і вы пазнацімеце, што я ніколі і ні перад кім ня ўступіў наўсуперак праву з прычыны страху перад сьмерцяю, але барджджэй, чымся ўступіць, быў гатовым шчэзнуць зараз-жа.

Я раскажу вам здарэньне з судовае практыкі, нуднае, магчыма, але праўдзівае. Ніколі, жыхары Атэнаў, я ня меў урадавага становішча за выняткам аднаго: я быў райцам. Здарылася, што племя, якое старшынствавала ў тым часе, было маё[27], Антыёхіс, калі вы хочаце — бясправўна, як вы ўсе згадзіліся пасьля ўсяго — дасьледавала ўсіх дзесяцёх стратэгаў разам[28] за несабраньне целаў паўшых пасьля морскае бітвы. Тады я толькі адзін із прытанаў супроцьставіўся вам[29] і галасаваў супроць вас у тым сэнсе, што нічога ня можа быць учынена супроць права. І калі аратары былі гатовымі абвінаваціць мяне і арыштаваць на месцы, і вы крычалі, кажучы ім зрабіць гэта, я думаў, што гэта быў мой абавязак рызыкаваць небясьпеку з правам і справядлівасьцю на маёй старане, чымся барджджэй быць зь несправядлівасьцю на вашым баку дзеля страху вязьніцы і сьмерці. Гэта здарылася тады, калі ўрад

[27] Тут маем да пэўнае ступені ўгляд у адміністрацыйнае жыцьцё тагачасных Атэнаў. Племя, або філе, — гэта адна з адміністрацыйных адзінак, на якія дзялілася ўсё свабоднае насельніцтва Атэнаў. Пачаткава плямёнаў было чатыры, а ў часе, аб якім гутарка, лік іх дайшоў да дзесяці. Сакратас належаў да племя Антыёхіс. Кажнае племя штогод дарогаю кіданьня лёсаў выбірала із сябе 50 прадстаўнікоў-райцаў, якія тварылі сабою іншае адміністрацыйнае цела, званае боўле, што адказвала-б нашай радзе або сэнату. Аднак стала і аднадчасна зьбіралася на паседжаньні толькі што належалі да аднаго із дзесяці плямёнаў. Згэтуль кожнае племя па чарзе старшынствавала на працягу трыццаці пяці або трыццаці шасьці дзён (адна дзесятая году) і выконвала абавязкі, падобныя да абавязкаў экзэкутыўнага камітэту. Аднак найвышэйшая ўлада супачывала на народным зграмаджэньні, званым экклезыя, што адказвала-б беларускаму веччу, на якім старшынствавалі зноў дзесяць выбраных прэзыдэнтаў, званых прытанамі. Прытанам наагул називана кажнага, хто займаў якое-небудзь чароднае ўрадавае становішча. Адсюль гэтаксама выводзіцца слова *прытанэя* як грамадзка-сацыяльная ўстанова, управа ці будынак.

[28] Мова пра марскую бітву пад Аргінусайскімі вастравамі ў 406 г., у якой атэнцы атрымалі перамогу над спартанцамі. Аднак-жа пасьля бітвы стратэгі (гэнэралы) былі пастаўленыя перад судоваю адказнасьцю і шэсьць прысутных у Атэнах пакараныя сьмерцяю за тое, што не сабралі целаў жаўнераў атэнскіх і не ратавалі раненых, якія знаходзіліся на вадаплавах, хоць гэтаму перашкодзіла марская бура, што ўзьнялася хутка пасьля бітвы. Сутнасьць бясправўнасьці суду, на што Сакратас зьвяртае ўвагу, заключалася ў тым, што справа стратэгаў была пераказана ня ў суд прысяжных, а ў агульнае зграмаджэньне і што абвінавачаныя павінны былі быць суджанымі кажны асобна, а не ўсе разам.

[29] Паводля Ксэнафонта, вучня Сакратаса, Сакратас адмовіўся ад пачацьця справы.

быў усё яшчэ дэмакратычным, і калі ўвайшла алігархія, дык трыццаць тыранаў[30] зноў паклікалі мяне і іншых чатырох у Ратонду[31] і загадалі нам прывезьці зь Саляміcу Лявонта Селямінчука[32], якога яны мелі на ўвазе засудзіць на сьмерць гэтаксама, як яны многіх іншых прыкліквалі, каб пабольшыць лік вінаватых. Тады, аднак-жа, я зноў давёў чынам, а ня словам, што для мяне сьмерць, проста кажучы, нічога, а вось паўстрымацца ад усяго несправядлівага і бяспраўнага — гэта для мяне ўсё. І як ні быў магутным гэты ўрад, але мяне не спалохаў нагэтулькі, каб змусіць тварыць несправядлівасьць. Калі мы выйшлі з Ратонды, іншыя чатыры накіраваліся ў Саляміс і прывялі Лявонта, але я пайшоў дадому. І, магчыма, я быў-бы прыгавораны на сьмерць за гэта, калі-б урад ня быў хутка скінуты. Вы знойдзеце шматлікіх сьведкаў гэтага.

Затым, думаеце вы, што мог-бы я ацалець праз усе гэтыя гады, калі-б я займаў грамадзкае становішча і калі-б дзееў, як чэсны чалавек наагул дзеець павінен — баронячы справядлівага і чынячы падобнае найгалаўнейшым сваім стараньнем? Далёка ад гэтага, мужы атэнскія! Дый кажнаму іншаму на сьвеце гэта немагчымым ёсьць. Але я дакажу, што на працягу ўсяго майго жыцьця я аставаўся тым самым, гэтаксама ў публічным жыцьці, калі я што-небудзь рабіў там, як і ў прыватным; я ніколі ня ўступіў нікому ў ніякай справе, супярэчнай справядлівай рэчы, уключна і перад тымі, каго мае паклёпнікі называюць маімі вучнямі[33].

Зноў-жа, я ніколі ня быў вучыцелем для каго-небудзь; але калі хто-небудзь меў жаданьне слухаць мяне, гаворачага, і чыніць маю справу, малады ён ці стары, я ніколі не адпіхаў яго. Я ніколі ня вёў гутаркі дзеля ганарару або адмовіўся бязь яго, але ставіў самога сябе аднолькава багатаму і беднаму дзеля досьледу дарогаю пытаньняў, і калі чалавеку падабаецца, ён можа слухаць, што я кажу, і адказваць. І калі хто-небудзь пасьля гэтага стаецца лепшым ці горшым, пры ўсёй маёй добразычлівасьці я не магу быць названы прычынаю гэтага, бо я ніколі

[30] У Старажытнай Грэцыі трыццаць тыранаў, якія захапілі ўладу ў Атэнах, адзначаліся абсалютным урадаваньнем і жорсткасьцю ў 404—403 гг. Алігархія ў Старажытнай Грэцыі — назоў палітычнага ладу, у якім улада супачывала у руках невялікае групы людзей.

[31] Круглы купалаваты будынак, у якім стала зьбіралася пяцьдзесят сяброў пляменнага камітэту або прытанаў. У гэтым самым гмаху адбываліся паседжаньні трыццацёх тыранаў, калі яны знаходзіліся пры ўладзе.

[32] У часе захопу ўлады Лявонт уцёк у сваё роднае места, Саляміс. Быў ён атэнскім стратэгам і багатым чалавекам, пакараны сьмерцю ў часе дыктатуры трыццацёх.

[33] Сакратаса абвінавачвалі і ў тым, што ў ліку ягоных вучняў быў правадыр трыццаці — Алькібіядэс.

не прыракаў нікому ніякае навукі і ніколі ня вучыў. І калі хто-небудзь кажа, быццам ён калі-небудзь навучыўся або чуў што-небудзь ад мяне прыватна, чаго ня чулі іншыя, я запэўніваю вас, што ён ня кажа праўды.

Але чаму некаторыя людзі з радасьцю праводзяць шмат часу са мною? Вы чулі, чаму, мужы атэнскія, я сказаў вам поўную праўду, яны цешацца, слухаючы людзей, дасьледжваных у пытаньнях, якія думаюць, што яны мудрыя, але гэткімі не зьяўляюцца. Запраўды, гэта вельмі цікава. І я ўтрымліваю, што я быў кіраваны богам рабіць гэта праз прадказаньні і яснабачаньні і наагул кажным спосабам, якім нейкі божы ўплыў ці нешта іншае калі-небудзь кіравала чалавекам што-небудзь рабіць. Гэта, грамадзяне, ёсьць і правільным, і лёгка дасьледзіць, бо калі я запраўды псую каго-небудзь з моладзі або калі-небудзь чыніў гэта, тады тыя зь іх, што дайшлі ўжо да сталага веку, мусілі зразумець, што я аднойчы даў ім дрэнную раду ў іхным маладым веку, і павінны зьявіцца цяперака ў суд і сьведчыць, і выявіць сваю помсту. Або, калі яны не жадаюць зрабіць гэтага асабіста, хто-небудзь зь іхных сваякоў павінен прыйсьці замест іх — бацькі, браты ці іншыя зь сям'і, калі іхныя ўласныя родзічы дазналі якое-небудзь зло ад мяне — і яны павінны сказаць усё гэта цяпер і шукаць помсты. Але, многія зь іх, якіх я бачу, знаходзяцца тут; перш Крытон[34] вунь там, мой равесьнік з аднае са мною супольнасьці, бацька вось гэтага Крытобулёса, затым ёсьць тутака Лізаніяс сфэттмец, бацька вось гэтага Айсхінэса; гэтаксама Антыфон Кэфізыец вунь там, бацька Эпігэнэса, затым іншыя вунь тыя, браты, якія цешыліся гэтым напрамкам — Нікостратос, Тэостыдэсавы сын і брат Тэодотоса — Тэодотос сам ужо памёр, затым Нікостратос ня мог прасіць яго прыйсьці, і Паралёс тутака, Дэмодоксавы сын, катораму Тэагэс прыходзіцца братам; тутака знаходзіцца і Адзімантос, Арыстонавы сын, брат якога, Плётон, ёсьць тут, і Айантодорос, брат якога Апольлёдорас тут прысутны. Я магу назваць вам многіх іншых, на некаторых Мэлетасу ў сваей мове найболей патрэбным было паклікацца як на сьведкаў, і калі ён забыўся пра іх, няхай выкліча іх цяперака; я не перашкаджаю і даю месца яму[35] — няхай ён гаворыць, калі мае яшчэ нешта сказаць. Але вы мецімеце якраз супроцьлежнае гэтаму, мужы атэнскія, усе зь іх гатовыя падтрымаць мяне, распусьніка і шкодніка іхных сваякоў, як Мэлетас і Анітас называюць мяне. Сапсутыя могуць

[34] Жыхар Атэнаў, інтымны прыяцель Сакратаса. Ягоны сын, Крытобулёс, успамінаецца ў некалькіх Плятонавых дыялёгах. Лізаніяс, бацька Айсхінэса, аўтара лічаных дыялёгаў. Адзімантос зьяўляецца братам Плятона. Абодва яны зьяўляюцца сынамі Арыстона.

[35] Выказваньні ці мову супрацьлежнае стараны ў судзе забаранялася перапыняць. Для слова старанам вызначалася аднолькавая колькасьць часу, які вымерваўся водным гадзіньнікам, званым кляпсыдраю.

мець пэўную прычыну падтрымаць мяне, але несапсутыя — ужо старшыя людзі, іхныя суродзічы — якую-ж іншую прычыну маюць яны дзеля падтрыманьня мяне, калі ня тую слушную і справядлівую прычыну, што яны ведаюць, што я гавару праўду, а Мэлетас хлусіць?

Але хопіць гэтага, мужы атэнскія! Абарона, якую я магу правесьці, ёсьць гэтакаю, і магчыма болей у гэтым самым родзе.

Магчыма, хто-небудзь з пасярод вас можа быць раздражненым, калі прыпамінае сабе, што сам чыніў; магчыма, ён меў справу меней важную, чымся гэтая, магчыма, ён кленчыў і прасіў прысяжных з патокам сьлёзаў і дэманстраваў сваіх дзяцей, каб выклікаць усё спачуцьцё, якое ён толькі мог, з шматлікімі сябрамі і сваякамі побач сябе, але я, як мне здаецца, ня буду чыніць нічога падобнага, хоць і знаходжуся, праўдападобна, на скраю небясьпекі. Слухаючы гэта, магчыма, хто-небудзь можа зачыніць сваё сэрца перада мною з гэтае прычыны і, будучы злосным, можа галасаваць супроць мяне. Затым, калі хто-небудзь з вас чуецца падобна — хоць я найменей спадзяюся гэтага, але калі ён гэтак чуецца — зусім шчыра я магу сказаць яму:

Мой добры гаспадару, я гэтаксама маю такую-сякую сям'ю, бо, як Гамэр кажа, ня з дубу і не са скалы ёсьць паходжаньне маё, але з чалавечнасьці; затым я маю гэтаксама сям'ю, мужы атэнскія, — трох сыноў, зь іх адзін ужо малады мужчына, а двое яшчэ ў дзіцячым веку — аднакжа я ня буду рабіць зь іх тут дэманстрацыі і маліць вас галасаваць за маё апраўданьне.

І чаму я ня буду рабіць гэтага? Не з прычыны гордасьці, мужы атэнскія, і не з прычыны адсутнасьці пашаны да вас. Ці баюся я, ці не баюся сьмерці, ёсьць гэта іншая справа, але маючы на ўвазе гонар, што належыцца мне і вам і цэламу месту, ня выдаецца мне быць прыстойным, быццам я павінен чыніць падобную рэч у маім веку і, будзе гэта праўдзіва ці не, з маёю славаю. Што найменей ёсьць гэта агульным перакананьнем, што Сакратас зьяўляецца ў пэўнай меры вышэйшым за многіх людзей. Калі-б тады тыя з вас, што ўважаюць сябе за вышэйшых у мудрасьці ці ў харобрасьці ці ў якой іншай мужнасьці мелі сябе трымаць, як гэтыя людзі, было-б гэта няславаю. Я бачыў часта людзей з пэўнаю рэпутацыяю, аднак, будучы прыгаворанымі на сьмерць, захоўваліся дзіўна, быццам яны думалі, што памерці для іх было-б жорсткім лёсам, і быццам запраўды былі-б яны несьмяротнымі, калі-б іх не прыгаварылі і не пакаралі сьмерцяю! Але гэтыя выдаюцца мне быць узмацняючаю няславаю для места, так што які-небудзь чужынец можа зразумець, што тыя з нашае атэнскае нацыі, якія зьяўляюцца выдатнымі ў мужнасьці, людзі, якіх выбралі барджджэй замест самых сябе, каб паставіць іх ва ўрадах і ўстановах, не зьяўляюцца лепшымі ад многіх жанчын. Рэчаў падобнага роду, мужы атэнскія, мы, каторыя маем якую-небудзь рэпутацыю, не павінны рабіць, і вы не павінны

дазволіць чыніць іх, калі-б мы нават і мелі замер чыніць гэта. Наадварот, вы павінны быць выразна схільнымі паказаць, што вы былі-б схільнымі барджджэй засудзіць чалавека, які прыносіць гэтыя сьлёзы, годныя пашкадаваньня, і чыніць гэтае места сьмешным, чымся таго, хто захоўваецца спакойна.

Апрача гонару, мужы атэнскія, не выдаецца мне правільным умольваць судзьдзю або быць апраўданым праз просьбу, бо чалавек павінен быць павучаным і перакананым. Бо дзеля чаго судзьдзя займае месца? Не затым, каб дараваць добрыя гасьцінцы справядлівасьці, як яму падабаецца, але каб пастанаўляць, што ёсьць справядлівым. І ён прысягнуў не выяўляць ласкі, як яму падабаецца, але судзіць паводля права. Затым мы не павінны ўводзіць вас у прывычку ламаньня прысягі ані вы мусіце дазваляць вам самым упадаць у гэтую прывычку; адно і другое аднолькава зьяўляецца дрэнным у вачох нябёсаў. Затым не спадзявайцеся, мужы атэнскія, каб я чыніў падобныя рэчы перад вамі, бо, як і ўтрымліваю я, гэта не зьяўляецца ані ганаровым, ані справядлівым, ані дапушчальным, асабліва, на Зэуса, для таго, хто прасьледуецца Мэлетасам тут за непабожнасьць. Бо ясным ёсьць, калі-б я пераканаў вас і змусіў вас дарогаю кленчаньня, тады калі вы знаходзіцеся пад прысягаю, дык гэткім спосабам я вучыў-бы вас ня верыць у багоў, і маёю ўласнай абаронаю я абвінаваціў-бы самога сябе ў няверы ў багоў. Але я зьяўляюся далёкім ад гэтага, мужы атэнскія, я веру гэтак, як ніводзін з маіх абвінаваццеляў ня верыць, і я спадзяюся на вас і на самога бога рашыць адносна мяне ў гэткі спосаб, які будзе лепшым для мяне і для вас.

[Суд галасуе і знаходзіць яго вінаватым; 281 голас аддана за “вінаваты” і 220 за “невінаваты”.]

Калі я не крыўдую на тое, што цяперака здарылася, дык на гэта склалася многа прычынаў і ў апрычонасьці тое, што я гэтак і думаў, што станецца тое, што сталася. Дый, запраўды, барджджэй я вельмі зьдзіўлены з прычыны фактычнае колькасьці галасоў па абодвух баках. Я не спадзяваўся, што перавага будзе гэтак малою, я думаў, што будзе значнейшая вялічыня. Але цяперака, як відаць, калі-б трыццаць галасоў было дадзена не на гэты, а на іншы бок, я быў-бы апраўданым. Нават цяперака, паводля мае думкі, я апраўданы перад Мэлетасам, і ня толькі я апраўданы: ясным зьяўляецца для кажнага, што калі-б Анітас і Лікон ня выступілі супроць мяне са сваімі абвінавачваньнямі, дык Мэлетас забавязаны быў-бы заплаціць кару ў суме тысячы драхмаў як неатрымліваючы аднае пятае ўсіх галасоў.

І так, чалавек дамагаецца кары сьмерці. Ну, добра. І якую-ж кару павінен я прапанаваць[36] супроць гэтага, мужы атэнскія? Мусіць, тую,

[36] Калі суд прызнаў Сакратаса вінаватым, тады, паводля права, Сакратас павінен запрапанаваць самому сабе кару, ведама, меншую ад тае, якую

на якую заслугоўваю. Дык якая-ж гэта ёсьць? І што-ж паводля маіх асягненьняў трэба ўчыніць са мною або які штраф павінен я заплаціць за тое, што я сьведама ўсё сваё жыцьцё аставаўся клапатлівым і занядбаў усё тое, з прычыны чаго людзі найболей клапоцяцца — награмаджэньне грошаў, хатнюю гаспадарку, вайсковыя назначэньні і аратарства ў зграмаджэньнях, і, апрача гэтага, усе становішчы, удзел у змовах і інтрыгах і распадзелы, якія ўзьнікаюць у гэтым месьце, — бо ўважаў сябе за чэснага, каб застацца цэлым, прыймаючы ўдзел ува ўсім гэтым; за тое, што ня ішоў туды, дзе я ня мог быць карысным ані для вас, ані для сябе, а ішоў туды, дзе ў васаблівы спосаб мог быць карысным, стараючыся пераканаць кажнага з вас ня турбавацца пра свае справы раней і болей, чымся пра сябе самога, пра тое, як самому стацца як найлепшым і болей мудрым, і ня рупіцца пра мясцовыя справы раней, чымся пра самое места, і вось гэтак мець на ўвазе ўсё іншае. Затым на што я заслугоўваю, калі я зьяўляюся гэтакім, якім я ёсьць? На нешта добрае, мужы атэнскія, калі запраўды мае быць вымерана паводле чынаў і што было-б адпаведным для мяне. Дык што-ж ёсьць адпаведным для заслужанага, хоць і беднага дабрадзея, які патрабуе мець вольны час дзеля вашага павучэньня? Нічога, мужы атэнскія, гэтак адпаведным, як тое, што гэтакі чалавек павінен быць узятым у прытанэю[37], на што ён заслугоўвае шмат болей, чымся хто-небудзь з вас, хто здабывае Алімпійскую ўзнагароду з параконным ці чатырохконным запрагам у руцэ: бо гэты, як вам здаецца, чыніць вас радаснымі, але я чыню вас шчасьлівымі, і ён не зьяўляецца ў патрэбе ежы, але я зьяўляюся. Тады калі я павінен ацаніць справядліва мае заслугі, дык гэта маё вызначэньне: дармовы стол у прытанэі.

Магчыма, што і гэта здаецца вам гордым, як і тое, што казаў я пра просьбы і кленчаньні. Але гэта ня ёсьць так, грамадзяне, і я скажу вам, што я маю на ўвазе. Я пераканаНы, што я ніколі і нікога сьведама ня ўвёў у памылку, але не магу пераканаць вас у гэтым, бо разам тут мы гаварылі адно кароткі час. Калі-б мы мелі права, як іншыя людзі

---

прапанаваў абвінавацель. Судзьдзі самыя кары не вызначалі, але выбіралі між дзьвюма прапанаванымі.

[37] Прытанэя — гэта грамадзкі будынак у месьце Старажытнае Грэцыі. Асабліва ведамаю была прытанэя ў Атэнах, якая памяшчалася ў засягу Акропалісу (цытадэля). Тут прыймаліся ганаровыя госьці, як замежныя амбасадары або свае паслы, асабліва пасьля памыснага выкананьня даручаных задачаў за мяжою. Да выбраных гасьцей належалі таксама пераможнікі на алімпійскіх спаборніцтвах. Прытаны, як і іншыя людзі, карысталіся прывілеяю, прыймалі стравы тут на кошт гаспадарства. Для грамадзяніна быў высокі гонар быць ушанаваным удзелам спажыцьця пры гарадзкіх сталох.

маюць[38], дык суд у справе жыцьця і сьмерці павінен працягвацца некалькі дзён і не абмяжоўвацца да аднаго дня, тады, думаю, што вы былі-б перакананымі; але цяпер я не магу расьцярушыць вялікае прадузятасьці думкі ў кароткім часе. Але будучы перакананым, што я нікога ня крыўджу, напэўна, ня буду крыўдзіць і самога сябе, быццам я варты нечага дрэннага і вызначаць кару самому сабе. Дый чаму я павінен гэта рабіць? Дзеля страху перад тым, чаго Мэлетас дамагаецца, як кары, калі я скажу, што я ня ведаю, ёсьць-жа гэта добрым ці дрэнным? Ці-ж замест гэтага маю я выбраць адну з рэчаў, пра якую я ведаю, што яна дрэннаю ёсьць, і запрапанаваць гэта, як кару? Ці будзе гэта вастрог? І чаму я маю жыць у вастрозе, як нявольнік адзінаццаці ўраднікаў[39], кажны раз нанава выбіраных? А можа грашовую кару з тым, каб быць у заключэньні, пакуль не заплачу? Але гэта зьяўляецца тым самым для мяне, бо, як казаў вам, я ня маю грошай, каб заплаціць. Або павінна быць як кара выгнаньне? Магчыма, вы прынялі-б гэта ахвотна. Трэба было-б, мусіць, моцна хватацца за жыцьцё, мужы атэнскія, каб у зьбянтэжанасьці не зразумець наступнага: вы, мае ўласныя суродзічы, не змаглі зьнесьці мае дзейнасьці і маіх гутарак, яны былі зацяжкімі і зашмат нясмачнымі для вас, затым вы цяпер стараецеся адгарадзіцца ад іх; дык ці-ж іншыя будуць лягчэй успрымаць іх? Што за думка! Не, жыхары Атэнаў, далей ад гэтага. Прыгожае было-б для мяне жыцьцё — выэміграваць у маім веку, ходзячы з места ў места, жывучы на ўцёках. Бо я зусім пэўны, што кудыколечы я прыйшоў-бы, маладыя людзі будуць прыслухоўвацца да мае гутаркі, гэтак, як і тут; і калі я буду падганяць іх, дык і яны самыя мяне аддаляць, падмовіўшы старэйшых людзей, а калі я іх ня буду праганяць, дык іхныя бацькі і сваякі выдаляць мяне з прычыны іх.

Магчыма, хто-небудзь можа сказаць: ці ня можаш ты, Сакратас, пайсьці ад нас і астацца ціхім і весьці спакойнае жыцьцё?

І тут ёсьць найболей трудная рэч з усіх, учыніць каго-небудзь з вас, каб паверыў. Бо калі я скажу, што гэта ёсьць ня слухацца бога і гэтым самым я не магу быць ціхім, не паверыце мне, але падумаеце, што я прыкідваюся. Калі, зноў-жа, я скажу вам, што найбольшым дабром для чалавека ёсьць весьці гутаркі кажны дзень пра цноту і іншыя рэчы, адносна якіх вы чулі мяне гаворачага і экзаменуючага самога сябе і кажнага іншага, і што жыцьцё без дасьледжваньня ня ёсьць вартым жыць для чалавека, вы будзеце яшчэ меней верыць мне, калі скажу гэта. Аднак усё гэта ёсьць праўдзівым, грамадзяне, гэтак, як кажу вам, але пераканаць вас ня ёсьць рэччу лёгкаю.

---

[38] Сакратас тут мае на ўвазе спартанцаў.

[39] У Атэнах кажны год выбіралася адзінаццаць ураднікаў, задачаю якіх было трымаць надзор над вастрогам і выкананьнямі судовых пастановаў.

І адначасна я ніколі ня быў звыклым думаць, што я заслугоўваю на што-небудзь дрэннае. Калі-б я меў грошы, дык запрапанаваў-бы заплаціць усё, на што я быў-бы забавязаны як кару, бо гэтым я ня быў-бы пакрыўджаны, але як колечы ёсьць, я ня маю нічога, хіба што праўды вы былі-б ахвочымі накласьці якраз гэтулькі, колькі я зьяўляюся ў стане заплаціць. Магчыма, я мог-бы заплаціць вам адну міну серабра; затым я прапаную гэта як кару. Але Плятон тут, грамадзяне, і Крытон, і Крытобулёс, і Апольлёдорос кажуць мне вызначыць трыццаць мінаў, гваранцыю ўнясеньня грошай яны бяруць на сябе. Затым я прапаную гэтак многа, і гэтыя людзі будуць гварантымі грошай — дастатковыя гваранты ў вашых вачох.

[Суд зноў галасуе і засуджае яго на сьмерць.]

Вам ня прышлося-б доўга чакаць на маю сьмерць, мужы атэнскія, але гэты кароткі час даціме вам імя і папрок забіцьця Сакратаса, мудрага чалавека: гэтак скажуць тыя, што захочуць гаварыць дрэннае пра нашае места, бо напэўна назавуцімуць мяне мудрым, нават і тады, калі я гэткім не зьяўляюся, калі яны захочуць дакараць вас. Калі-б вы мелі толькі пачакаць кароткі час, гэта прыйшло-б само для вас: гляньце на мой век, я ўжо зьяўляюся пажылым чалавекам і блізкім да сьмерці. Гэта не кажу я да ўсіх вас, але да тых, што галасавалі за маю сьмерць. І для тых самых людзей я маю яшчэ нешта іншае сказаць. Магчыма, вы думаеце, грамадзяне, што я засуджаны з прычыны адсутнасьці ў мяне доказаў, якімі я мог-бы пераканаць вас, калі-б я лічыў неабходным рабіць і сказаць кажную рэч, каб быць апраўданым. Зусім не. Гэта была адсутнасьць, але не абавязкова доказаў, а барджджэй недахоп нахабнасьці і бессаромнасьці і ахвочасьці зрабіць вам тое, што найпрыямней за ўсё вам пачуць — пачуць мяне лямантуючага і плачучага, кажучы і чынячы шматлікія рэчы, нявартыя мяне, як я і асьведчыў, запраўды, гэткія, якія вы прывыклі чуць ад іншых. Але, затым, я і ня думаю, што я з прычыны мае небясьпекі павінен чыніць што-небудзь з сэрвілізму, і цяпер не шкадую, што гэткай была мая абарона. Я болей аддаю перавагу думцы памерці пасьля гэтае абароны, чымся жыць, баронячыся іншым спосабам. Ані ў судзе, ані на вайне не павінен ані я, ані хто іншы рабіць нічога і ніякае рэчы, каб хітрыць уцёкі ад сьмерці. У бітве часта ясным ёсьць, што чалавек можа ўхіліцца ад сьмерці дарогаю адкіданьня свайго аружжа і просячы ласкі свайго ворага, і існуе многа іншых сродкаў у кажнай небясьпецы дзеля таго, каб ухіліцца ад сьмерці, калі чалавек толькі зможа зьвесьці самога сябе да ролі рабіць кажную рэч і ўсякую рэч.

Не, грамадзяне, ухіліцца ад сьмерці ня ёсьць труднаю рэчаю, як я думаю, але ўхіліцца ад маральнае слабасьці — гэта ёсьць шмат больш трудным, бо яна насьпявае хутчэй за сьмерць. І цяперака я, будучы

павольным і старым, злоўлены нечым павальнейшым; але мае абвінавацелі, будучы хітрымі і хуткімі, злоўленыя нечым хутчэйшым — маральнаю слабасьцю. Цяперака мы разыходзімся — я асуджаны вамі на сьмерць, а яны асуджаныя праўдаю ў ганьбу і несправядлівасьць. Я астаюся пры маім пакараньні, а яны пры сваім. Магчыма, гэтак павінна было быць, і я думаю, што гэта даволі добра.

Але што датычыцца прышласьці, я хачу высказаць вам, каторыя галасавалі за маё асуджэньне, гэтую прадбачлівасьць, бо я знаходжуся цяперака ў часе, калі ў ваблiччы надыходзячае сьмерці людзі галоўна прарочаць. Я прадказваю, мужы атэнскія, мае забойцы, што зараз пасьля мае сьмерці прыйдзе на вас пакараньне, болей жорсткае, я апавяшчаю на Зэуса, чымся выкананьне кары нада мною з вашых рук. Бо чынячы цяперака гэта, вы думалі асвабадзіцца ад неабходнасьці даньня справаздачы з вашага жыцьця, але гэта абернецца для вас у нешта зусім іншае, як я прадказваю. Болей чымся адзін будзе той, хто будзе дамагацца ад вас справаздачы, з тых, каго я да гэтае пары паўстрымліваў. Яны будуць цьвярдзейшымі над вамі нагэтулькі, наколькі яны зьяўляюцца маладзейшымі, і вы будзеце яшчэ болей наракаць. Бо, запраўды, калі вы верыце, што, прыгаворваючы людзей на сьмерць, вы змусіце іх не папракаць вас з прычыны вашага дрэннага жыцьця, дык вы чыніце вялікую памылку. Бо гэтакі спосаб самаабароны не зьяўляецца ані пэўным, ані ганаровым; але іншае існуе болей ганаровае і больш лёгкае: не працінаць жыцьця людзей, але ахвяраваць самых сябе ахвотна, каб учыніць сябе гэтак добрымі, як толькі вы можаце быць добрымі. У гэтым ляжыць маё прароцтва для тых, што асудзілі мяне, і я адыходжу ад вас.

Але з тымі, што галасавалі за маё апраўданьне, я хацеў-бы ахвотна гаварыць аб гэтым здарэньні, якое займела месца тут, калі пастаўленыя ўрадоўцы былі занятыя падрыхтаваньнем, а я яшчэ не адыйшоў на месца, дзе мушу памерці. Калі ласка, мае прыяцелі, пабудзьце са мной яшчэ крыху. Бо нічога не перашкаджае нам пагаварыць, пакуль можна. Вам як маім прыяцелям я жадаю паказаць праўдзівае значэньне таго, што здарылася са мною. Тое, што здарылася са мною, мужы прысяжныя, мае судзьдзі — бо вас я магу слушна назваць судзьдзямі — зьяўляецца дзіўнаю рэчаю. Мой добра ведамы мне прарочы голас духа ўва ўсім мінулым часе заўсёды наведваў мяне, супрацьстаўляючыся мне нават у вельмі малых рэчах, калі я толькі пачынаў рабіць нешта няправільнае, але, як вы бачыце самыя, цяперака здарылася са мною тое, аб чым чалавек можа думаць і што агульна ўтрымліваецца як своесаблівае зло, аднак-жа ўва мне, калі я выходзіў з дому сягоньня раніцаю, ня было супраціву з боку наказу бога, ані гэтаксама тады, калі я ўваходзіў на гэтае месца суду, ані ў якой-колечы частцы мае мовы, калі я гаварыў пра якую-небудзь рэч, хоць у іншых маіх прамовах часта перасьцерагаў

мяне, калі я знаходзіўся яшчэ ў працэсе мовы, а цяпер-жа ў гэтай падзеі ён не супроцьставіўся мне ані дзе, ані чым, ані гэтаксама ў слове. Затым як я маю разумець прычыну гэтага? Я скажу вам: запраўды, тое, што здарылася са мною, ёсьць дабром, і, відаць, памылковым ёсьць перакананьне ўсіх тых, што думаюць, быццам сьмерць — гэта зло. Моцны доказ гэтага быў дадзены мне, бо мая звычайная перасьцярога напэўна перасьцерагла-бы мяне, калі-б я не пачынаў чыніць нешта добрае.

Разважма гэта яшчэ зь іншага пункту гледжаньня, пайменна, як вялікай зьяўляецца спадзея, што сьмерць ёсьць дабром. Сьмерць — зьяўляецца адною рэчаю зь дзьвюх: або памерці — значыць быць нічым, і памершы, чалавек нічога ўжо не адчуе, або, як людзі кажуць, ёсьць яна зьменаю і пераходам душы з гэтага месца ў іншае. Калі сьведамасьць ня існуе і падобна гэта да сну, калі сьпячы нічога ня бачыць, нават і ў сьне, дык сьмерць была-б дзіўным асягненьнем. Бо я думаю, што калі-б чалавек меў выбраць гэткую ноч, у часе якой ён драмаў-бы гэтак глыбака, што ня бачыў-бы нават і сну, і паставіў-бы побач гэтае ночы ўсе іншыя дні і ночы свайго жыцьця, ці мог-бы ён, падумаўшы, сказаць, колькі лепшых і прыгажэйшых дзён і начаў ад гэтае ночы ён правёў ува ўсім сваім жыцьці — дык я думаю, што ня толькі ніхто з простых людзей, але нават сам вялікі кароль мог-бы знайсьці ня шмат такіх дзён і начаў, запраўды, каб параўнаць зь ёю. Калі, затым, сьмерць ёсьць нечым падобным да гэтага, дык я называю яе асягненьнем, бо ў гэткім выпадку вечнасьць выдаецца быць ня болей, як адною ноччу.

Калі, зноў-жа, сьмерць зьяўляецца пераходам з гэтага сьвету ў іншае месца, і калі тое, як кажацца, ёсьць праўдзівым, пайменна, што там знаходзяцца ўсе памершыя, дык якое-ж большае дабро можа быць, чымся гэтае, мае судзьдзі? Бо калі чалавек прыходзіць у гмах Гадэсу, вольны ад гэтак званых судзьдзяў, і знаходзіць запраўдных судзьдзяў, тых самых, пра якіх людзі кажуць, што судзяць у Гадэсе — Міноса і Радамантыса, Айакоса і Трыптолемоса і іншых поўбагоў, якія былі справядлівымі ў сваім жыцьці, ці-ж быў-бы гэтакі пераход тады дрэннаю рэчаю? Наадварот, як многа хто-небудзь з вас мог-бы даць за гэта, каб быць у прысутнасьці Орфэуса і Мусайёса, Гэсіёдоса і Гомэра? Што да мяне, дык я гатоў памерці некалькі разоў, калі ўсё ёсьць праўдаю. Дый я сам-бы знайшоў, што прабываньне там ёсьць цудоўнаю рэчаю; бо-ж я магу спаткаць Палямэдэса і Айаса, Тэлямонавага сына, і кажнага із старажытнасьці, якія памерлі з прычыны несправядлівага суду, і параўноўваць маё дасьведчаньне зь іхным.

І найлепшым за ўсё — праводзіць час у досьледах прабываючых тамака людзей, як чыніў я тут, іісьледаваць, хто зь іх зьяўляецца мудрым, і хто думае, што гэтакім ёсьць, але такім не зьяўляецца! Як многа чалавек даў-бы, судзьдзі, каб дасьледзіць у пытаньнях таго, хто вёў вялікае войска супроць Троі, або Адыссэі, або Сусіфосу, або тысячы

іншых мужчын і жанчын? Весьці гутарку зь імі там, і дасьледваць у пытаньнях іх было-б бязьмежным шчасьцем! У кажным выпадку, я не дапускаю магчымасьці, каб там яны засуджвалі каго-небудзь на сьмерць за *гэта*; бо там яны зьяўляюцца болей шчасьлівымі, чымся мы тутака, асабліва з тае прычыны, што яны ўжо на ўсенькія часы астаюцца несьмяротнымі, калі тое, што людзі кажуць, ёсьць праўдаю.

Але вы, судзьдзі, гэтаксама мусіце мець добрую спадзею адносна сьмерці, і гэтую адну рэч мусіце прыняць, як праўдзівую, пайменна, што ніякае зло ня можа здарыцца з добрым чалавекам, жывым ці памершым, і ягоная справа ня ёсьць занядбаная багамі. Гэтаксама і мая справа цяпер не здарылася сама сабою, але ясным для мяне, што памерці цяперака і быць свабодным ад турботаў было ляпей для мяне. Гэта ёсьць тое, чаму мой унутраны голас не перасьцярог мяне і чаму я ня гневаюся на тых, што асудзілі мяне, і засудзілі, думаючы скрыўдзіць мяне, што заслугоўвае на дакор у іх.

Аднак-жа адну рэч я прашу ў іх:

Карайце маіх сыноў, грамадзяне, калі яны падрастуць; спрычынеце ім тое самае цярпеньне, якое я спрычыніў вам, калі вы думаеце, што яны турбуюцца пра грошы або пра што-небудзь іншае болей, чымся пра цноту. І калі яны мецімуць славу быць чым-небудзь, тады, калі яны зьяўляюцца нічым, дакарэце іх, як я дакараў вас, затым, што яны ня дбалі пра тое, пра што дбаць яны павінны, і думаюць, што яны зьяўляюцца нечым, тады калі яны нічога ня вартыя. І калі вы ўчыніце гэта, дык мы будзем справядліва абыходжаныя вамі, адначасна я і мае сыны.

І цяперака час нам разыходзіцца адсюль, мне паміраць, а вам жыць; але хто з нас ідзе на спатканьне лепшае рэчы, нікому ня ведама, апрача Богу.

# У Беларускім інстытуце навукі й мастацтва выйшлі наступныя кнігі:

у “Бібліяграфічнай сэрыі”:

1. **Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе.** Нью Ёрк, 1985. — 350 с.

2. **Byelorussian Statehood.** New York. 1988. — 398 p.

3. **Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны.** Нью Ёрк, 1989. — XXVIII+ 283 с.

4. **Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі.** Том I. Кн. 1—2. Вільня — Нью Ёрк — Менск — Прага, 1998. — 1721 с.

5. **Беларускія слоўнікі й энцыкляпэдыі.** Нью Ёрк — Менск, 2002. — XXXIII+570 с.

6. **Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе:** Асобныя выданьні. Бібліяграфія. Нью Ёрк — Менск, 2003. — XXII+582 с.

7. **Belarusian Publishing in the West: A Bibliography — Periodicals = Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе: Бібліяграфія — Часапісы, газэты. New York, 2004. —XX+152 с.**

8. *Vitaut Kipel, Zora Kipel.* **Belarusian Publishing in the West:** A Bibliography / Published by Belarusian Institute of Arts and Sciences; Institute of Slavic Studies, Polish Academy of Sciences. New York — Warsaw, 2006. — XVI+841 p.

у сэрыі “Гісторыя эміграцыі”:

1. *Ян Максімюк.* **Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945—1950).** Нью Ёрк — Беласток, 1994. — 196 с.

2. *Янка Запруднік.* **Дванаццатка:** Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.). Нью Ёрк, 2002. — 510 с.

3. *Лявон Юрэвіч.* **Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў “Бацькаўшчына” й “Беларус” (1947—2000)**. Менск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 256 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 8).

4. *Барыс Рагуля.* **Беларускае студэнцтва на чужыне. Выданьне другое, выпраўленае і дапоўненае.** Менск: Беларускі кнігазбор, 2006. — 188 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 10).

5. *Алег Гардзіенка.* **Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (БККА).** Смаленск, 2009. — 428 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 16).

6. *Юры Гарбінскі.* **Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: перыёдыка, графічныя друкі 1945—2005.** Нью Ёрк — Варшава, 2009. — 884 с. + CD.

7. *Лявон Юрэвіч.* **Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні.** Менск: Кнігазбор, 2012. — 660 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 20).

8. *Дзмітры Сямёнаў.* **Дзённік. 1943—1947.** Менск: Медысонт, 2012. — 334 с. (Бібліятэка часопіса "Беларускі Гістарычны Агляд", 23).

9. *Лявон Юрэвіч.* **Жанры.** Менск: Кнігазбор, 2013. — 528 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 21).

10. *Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч.* **Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы.** Менск: Кнігазбор, 2013. — 648 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 22).

11. *Jan Zaprudnik.* **Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948—2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948—2011).** New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. — 198 p.

12. *Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч.* **Рада БНР (1970—1982): Падзеі і дакументы.** Менск: Кнігазбор, 2014. — 300 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 23)

13. *Лявон Юрэвіч.* **Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія.** Мінск: Кнігазбор, 2015. — 624 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 25).

14. *Янка Запруднік.* **Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952—1959 гг. Унівэрсітэт у Бэльгіі, газэта "Бацькаўшчына", радыё "Вызваленьне / Свабода" ў Мюнхэне й Нью-Ёрку** / рэд. і прадм. В. Трыгубовіч. Мінск: Лімарыус, 2015. — 572 с.: іл. (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 26).

15. *Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч.* **Рада БНР (1982—1997): Падзеі. Дакументы. Асобы.** Мінск: Кнігазбор, 2015. — 224 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 28).

16. *Алег Гардзіенка.* **Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943—1995).** Мінск: Кнігазбор, 2016. — 480 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 29).

17. **Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны** *(Да 90-годдзя Янкі Запрудніка) / укл. Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч.* Мінск: Кнігазбор, 2016. — 280 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 30).

18. *Натальля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч.* **Хронікі БІНіМу: Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах.** Мінск: Кнігазбор, 2017. — 352 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 33).

19. **Масей Сяднёў: Pro et contra /** Аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2018. — 148 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 36)

20. *Зьміцер Саўка.* **Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы. Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня 1949—1999. Падзеі. Дакумэнты. Успаміны. Пэрсаналіі**. Мінск: Кнігазбор, 2019. — 604 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 38).

у сэрыі “Беларускія паэты й пісьменьнікі”:

1. *Натальля Арсеньнева.* **Між берагамі:** Выбар паэзіі. Нью Ёрк — Таронта, 1979. — XXXIX+350 с.

2. *Алесь Салавей.* **Нятускная краса:** Збор твораў. Нью Ёрк — Мэльбурн, 1982. — XVI+373 с.

3. *Аляксандра Саковіч.* **У пошуках праўды:** Апавяданьні й аповесьці. Нью Ёрк — Кліўлэнд, 1986. — 254 с.

4. *Міхась Кавыль.* **Міжагнёўе:** Выбраныя творы. Нью Ёрк, 1990. — XXI+344 с.

5. *Уладзімер Дудзіцкі.* **Напярэймы жаданьням:** Збор твораў. Нью Ёрк, 1994. — XXIX+312 с.

6. *Мікола Цэлеш.* **Хмары над Бацькаўшчынай:** Апавяданьні. Нью Ёрк, 1995. — XXXV+299 с.

7. *Юрка Віцьбіч.* **Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі.** Нью Ёрк, 1996. — XVI+397 с.

8. **Архіўная кніга /** Аўтар-укладальнік *Лявон Юрэвіч.* Нью Ёрк, 1997. — 446 с.

9. *Лявон Крывічанін.* **Беларусізацыя пад № ...** Нью Ёрк, 1998. — 164 с.

10. *Лявон Юрэвіч.* **Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі.** Нью Ёрк, 1999. — 360 с.

11. *Антон Адамовіч.* **Творы.** Нью Ёрк, 2003. — XXXIV+764 с.

12. **Урачыстасьць у садзе:** Драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя / Укладаньне і прадмова *Ванкарэма Нікіфаровіча.* Менск: Медысонт, 2007. — 536 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 14).

13. *Уладзімер Дудзіцкі.* **Творы.** Менск: Лімарыус, 2010. — 400 с. — (Галасы Айчыны).

14. *Юрка Віцьбіч.* **Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза.** Менск: Кнігазбор, 2011. — 232 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 19).

15. *Янка Юхнавец.* **Паэзія.** Менск: Лімарыус, 2012. — 620 с. — (Галасы Айчыны).

16. *Лявон Савёнак.* **Творы**. Менск: Лімарыус, 2012. — 352 с. — (Галасы Айчыны).

